# Гісторыя Беларусі

**ЧАСТКА ПЕРШАЯ**

СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ

ДА КАНЦА XVIII ст.

УДК 947.6 (075,8)
ББК 63.3 (4Беи)
Г51

**Аўтарскі калектыў:**
І.П. Крэнь (кіраўнік), І.І.Коўкель, С.В. Марозава,
*С.Я.* Сяльверстава, ІЛ.Фёдараў

**Рэдакцыйная калегія:**
П.І.Брыгадзін, І.І.Коўкель, І.П.Крэнь, Л.В.Лойка, УА.Нядзелька

**Рэцэнзенты:**
кафедра гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу БДУ;
М.С. Сташкевіч, доктар гістарычных навук;
Г.Я. Галенчанка, доктар гістарычных навук

Г 51 Гісторыя Беларусі: У 2 ч. 4.1. Са старажытных часоў да канца XVIII ст.: Курс лекцый. / І.П.Крэнь, І.І.Коўкель, С.В.Марозава, С.Я.Сяльверстава, І.А. Фёдараў. - Мн.: РІВШ БДУ, 2000. - 656 с.
ISBN 985-6299-34-9

**Курс лекцый адлюстроўвае асноўны змест вучэбнай праграмы па гісторыі Беларусі для студэнтаў гістарычных факультэтаў вну. Прадстаўляе цікавасць для аспірантаў, выкладчыкаў тэхнікумаў і вучылішчаў, настаўнікаў школ, ліцэяў, іімназій, каледжаў, а таксама ўсіх аматараў Айчыннай гісторыі.**

**Рэкамендавана да друку Саветам гістарычнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы.**

ISBN 985-6299-34-9 УДК 947.6 (075,8)
ББК 63.3 (4Беи)

# УСТУП

Гісторыя з'яўляецца не толькі памяццю народа, але і тым падмуркам, на якім ён будуе сваё жыццё. Таму кожны народ, і беларускі тут не выключэнне, хоча ведаць сваё мінулае, асабліва калі яно даўняе і багатае. А гісторыя беларускага народа налічвае не адно тысячагоддзе і прадстаўляе сабою важную частку агульнаславянскай, еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі. Гістарычнае мінулае беларусаў — гэта іх неад'емнае багацце, важны фактар нацыянальнай адметнасці. Сваёй непаўторнай, гісторыяй гераічнай і трагічнай беларускі народ можа ганарыцца. Вывучэнне яе па праву займае вядучае месца і ў сістэме гуманітарнай адукацыі вучнёўскай і студэнцкай моладзі. Менавіта на гістарычных ведах будуецца нацыянальная свядомасць.

Праўда, так ужо склалася, што гісторыя беларускага народа практычна ніколі не пісалася з аб'ектыўных нацыянальных пазіцый. На працягу многіх стагоддзяў спачатку польская, затым расійская і савецкая гістарыяграфіі, закранаючы гісторыю Беларусі, асвятлялі яе больш суб'ектыўна, з улікам сваіх інтарэсаў. Аб'ектыўна ж адлюстраваць гістарычнае мінулае і сучаснасць можна толькі пры сумленных падыходах і ацэнках даследчыкаў, іх незалежнасці ад зададзенай ідэалогіі, уціску палітычных партый, рухаў ці арганізацый, кан'юнктурных меркаванняў, не абасабляючыся толькі нацыянальнымі межамі, а зыходзячы з міжнароднага характару гістарычнай навукі і гістарычнага працэсу.

Вядома, што вывучэнне гісторыі Беларусі **павінна зыходзіць з нацыянальных пазіцый беларускага народа,** патрыятычных адносін да сваёй Бацькаўшчыны. Гісторыкам нельга абысціся без пошуку новых дакументаў па ўсіх перыядах гістарычнага развіцця беларусаў, без крытычнага пераасэнсавання раней выкарыстанай дакументальнай базы, уключэння ў навуковае абарачэнне найноўшых публікацый беларускіх і замежных даследчыкаў. Вельмі важна зрабіць навуковую перыядызацыю гістарычнага працэсу, паказаць альтэрнатыўныя пункты гледжання па разглядаемых пытаннях.

Менавіта такія падыходы пакладзены ў аснову курса лекцый. Аўтарамі першай часткі курса лекцый з'яўляюцца выкладчыкі кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя

Янкі Купалы; другая частка падрыхтавана калектывам кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яны імкнуліся даць аб'ектыўнае і сістэматызаванае адлюстраванне гістарычнага працэсу на беларускіх землях, удзялілі належную ўвагу фарміраванню беларускага этнасу, вывучэнню традыцый беларусаў, іх псіхалогіі. У роўнай ступені разгледжаны пытанні сацыяльнага, эканамічнага, дзяржаўна-палітычнага і культурнага развіцця народа, яго барацьбы за сацыяльную і нацыянальную свабоду і незалежнасць. У прапануемым выданні нямала новых падыходаў у асвятленні гістарычных падзей, сюжэтаў і гістарычных асоб. Аўтарскі калектыў улічваў спецыфіку навучання студэнтаў гістарычных факультэтаў універсітэтаў. Аднак аўтары ўсведамляюць, што дадзеныя лекцыі не могуць у поўнай меры вычарпаць увесь праграмны матэрыял. Яны з'яўляюцца толькі палмуркам для далейшай паглыбленай самастойнай працы студэнтаў над першакрыніцамі, манаграфічнай літаратурай, навуковай публіцыстыкай.

**Іван Крэнь,**
загадчык кафедры гісторыі
Беларусі Гродзенскага
дзяржаўнага універсітэта

ЛЕКЦЫЯ 1

# УВОДЗІНЫ Ў ГІСТОРЫЮ БЕЛАРУСІ

- ***Прадмет і задачы курса.***
- ***Праблема перыядызацыі гісторыі Беларусі.***

## Прадмет і задачы курса

Як і заўсёды на пераломе эпох, у момант нацыянальна-духоўнага ўздыму народа паўстае пытанне: хто мы? І тады позірк накіроўваецца ў глыб роднай гісторыі, бо **нацыя не можа быць жыццястойкай без засведчанага і асэнсаванага мінулага.** ***"Гісторыя - гэта фундамэнт, на каторым будуецца жыцьцё народу. І нам, каб адбудаваць свае жыцьцё, трэба пачаць з фундамэнту, каб будынак быў моцны. А фундамэнт у нас важны, гісторыя наша багата... ",*** - сцвярджаў Вацлаў Ластоўскі - першы беларускі гісторык, які пісаў пра Беларусь яшчэ на пачатку XX стагоддзя.

Гісторыя Беларусі, яркая і самабытная, гераічная і трагічная, далёкая і блізкая прыцягвае сёння да сябе ўвагу не толькі вучонага свету, але і людзей з самых розных сацыяльных і прафесійных слаёў. Моцная хваля нацыянальнага адраджэння ўзламвае старыя догмы, раскрывае таямніцу, якая дзесяцігоддзямі хавала ад народа праўду аб началах нашай дзяржаўнасці, узаемаадносінах з суседзямі, выдатных гістарычных асобах, правадырах нацыі, яна таксама сцвярджае веліч нашай мінуўшчыны, уваскрашае нашу годнасць, дарue веру ў будучыню.

Першая частка курса лекцый па гісторыі Беларусі знаёміць з асноўнымі падзеямі, з'явамі, працэсамі, датамі, імёнамі, заканамернасцямі развіцця нашай радзімы са старажытнейшых часоў да канца XVIII стагоддзя. Яго аўтары разглядаюць пытанні сацыяльна-эканамічнага, палітычнага характару, праблемы дзяржаўнасці, этнагенезу, культуры Беларусі як суб'екта гісторыі, разумеючы гісторыю айчынную як арганічную частку еўрапейскай і сусветнай. Лекцыі дазваляюць пазнаць непаўторнасць, арыгінальнасць пройдзенага народам шляху, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, усвядоміць яе нацыянальную адметнасць і каштоўнасць у суквецці славянскай, еўрапейскай і сусветнай культуры. Яны раскрываюць су-

пярэчлівасць, шматварыянтнасць, а разам з тым адзінства гістарычнага працэсу на тэрыторыі Беларусі, яго паступальнасць.

Курс арыентуе на вывучэнне айчыннай гісторыі у шматстайнасці чалавечых лёсаў: дзяржаўных мужоў, асветнікаў, дзеячаў культуры, кіраўнікоў народных рухаў, палкаводцаў, прадстаўнікоў духавенства; у сутыкненні і барацьбе ідэй, дзяржаўных прыярытэтаў, палітычных пазіцый, сацыяльных інтарэсаў, культурных і рэлігійных плыняў.

Курс гісторыі Беларусі ставіць сваёй мэтай дапамагчы студэнтам засвоіць гістарычны вопыт продкаў, навучыць іх крытычна аналізаваць мінулае, адчуваць водгулле гістарычных працэсаў у сённяшнім жыцці, асэнсоўваць сучаснасць скрозь прызму мінулага і наадварот. Ён вучыць знаходзіць прычынна-выніковыя сувязі гістарычных працэсаў і падзей, вызначаць эканамічныя, знешнепалітычныя, ідэалагічныя, рэлігійныя, геаграфічныя, прыродныя, цывілізацыйныя і іншыя фактары, што абумовілі тэмпы, характар і асаблівасці развіцця беларускага народа. Вучыць арыентавацца ў альтэрнатыўных канцэпцыях гісторыі Беларусі, ацэньваць іх аб'ектыўнасць, зыходзячы з фактаў.

Айчынная гісторыя - невычэрпная крыніца духоўнага ўзбагачэння, фарміравання навуковага гуманістычнага светапогляду, высокіх грамадзянскіх якасцей. Яе вывучэнне закладвае аснову для абуджэння гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці, пачуццяў грамадзянскай годнасці і гордасці і, такім чынам, садзейнічае нацыянальна-культурнаму адраджэнню Беларусі, засцерагае ад паўтарэння памылак мінулага. Курс закліканы выхоўваць чалавека-грамадзяніна, патрыёта Беларусі, добрага гаспадара на сваёй зямлі, які адчувае духоўную сувязь з пакаленнямі продкаў, а значыць, - і адказнасць за працяг іх спраў, за будучыню сваёй краіны.

## Праблема перыядызацыі гісторыі Беларусі

Пры вывучэнні мінулага кожнай краіны ўзнікае патрэба дзялення яго на перыяды - храналагічныя пласты, якія б адлюстроўвалі « спецыфіку кожнага з этапаў гістарычнага шляху, пройдзенага народам. Гэтыя перыяды з'яўляюцца своеасаблівым фундаментам, на якім будуецца ўвесь гістарычны будынак. Калі падзел на перыяды

мае заганы, тады ўвесь будынак гісторыі народа будзе трымацца на кволым або фальшывым фундаменце.

У аснову гэтага падзелу павінны быць пакладзены такія факты і падзеі, якія выклікалі найбольш глыбокія перамены ва ўсіх сферах жыцця: палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай, культурнай і вызначылі далейшы лёс народа. Трэба выбраць найбольш істотны крытэрый перыядызацыі, які дазволіў бы ўбачыць своеасаблівасць кожнага перыяду, усебакова ўлічваў змены у грамадстве. Пошукі такога універсальнага крытэрыю вядуцца ўжо не адно дзесяцігоддзе.

Наш народ прайшоў шматвяковы шлях ад старажытных часоў першабытнасці да сучаснасці. Можна пачуць сцвярджэнне, што Беларусь мае тысячагадовую гісторыю. Так, беларуская пісьмовая гісторыя пачала адмерваць сваё другое тысячагоддзе. Дапісьмовая ж налічвае тых тысячагоддзяў не адзін дзесятак. Свой адлік яна вядзе з часоў з'яўлення на нашай зямлі першых людзей.

Сучасныя навуковыя даныя даюць падставу з вялікай доляй упэўненасці сцвярджаць, што першыя насельнікі прыйшлі сюды ў сярэднім палеаліце (старажытнакаменным веку) прыкладна **100-40 тысяч гадоў да нашай эры.** З таго часу гісторыя чалавечага роду на беларускай зямлі не перарываецца - адны пакаленні змяняюцца другімі. Але ўжо тыя першабытныя людзі сваім жыццём і працай закладвалі асновы нашага сучаснага грамадства. Сярод жыхароў сярэднекаменнага веку - мезаліту (X—V **тыс. г. да н. э.),** якія прыйшлі ў наш край з паўднёвага ўсходу, паўднёвага захаду і захаду, ужо можна шукаць вытокі некаторых элементаў нашай сённяшняй культуры, бо наступныя прышэльцы не маглі поўнасцю выцесніць сваіх папярэднікаў і назусім перарваць плынь традыцый і гістарычнай памяці.

Потым, паводле **археалагічнай перыядызацыі** (у яе аснову пакладзены матэрыял, які адлюстроўваў перыяд узнікнення і вырабу прылад працы), на Беларусі быў неаліт - новы каменны век **(канец V—III тысячагоддзе да н. э.).** Ад палявання, рыбалоўства і збіральніцтва першабытнае насельніцтва пачало пераходзіць да вытворчых форм гаспадаркі - земляробства і жывёлагадоўлі. **У** эпоху бронзы **(канец III тысячагоддзя - VIII-VII ст. да н. э.)** чалавечае грамадства на Беларусі, хоць у асноўным і працягвала карыстацца каменнымі прыладамі працы, аднак узнялося яшчэ на

адну ступеньку цывілізаванасці, перайшло да патрыярхату. У жалезным веку **(VII—VI ст. да н. э. - VIII ст. н. э.)** насельніцтва Беларусі навучылася здабываць жалеза і вырабляць з яго прылады працы, зброю, упрыгажэнні. У гэты час адбываецца ўдасканаленне грамадскага ладу, фарміруюцца сацыяльныя групы, структура так званай ваеннай дэмакратыі.

З улікам накіраванасці працэсаў фарміравання беларускага народа, яго антрапалагічных, моўных, культурна-бытавых асаблівасцей **у** гісторыі Беларусі вылучаюцца 4 вялікія **этнічныя эпохі.** Першая вызначаецца як час засялення Беларусі і існавання **тут** старажытнейшага даіндаеўрапейскага насельніцтва. Яна супадае з каменным векам (палеалітам, мезалітам, неалітам). Другая эпоха пачынаецца са з'яўлення індаеўрапейцаў **на мяжы III - II тысячагоддзяў да н. э.** і вызначаецца як балцкая. Яна адпавядае бронзаваму і жалезнаму вякам археалагічнай шкалы і характарызуецца перавагай балцкага этнічнага элемента. Трэці этап заключае ў сабе славянскае засяленне Беларусі **(III ст. да н. э. - VIII ст. н. э.),** час існавання ўсходнеславянскіх племянных саюзаў палачан, дрыгавічоў і радзімічаў (трэцяя чвэрць I тысячагоддзя н. э.) і Старажытнарускай дзяржавы **(IX—XIII ст.),** а таксама стварэнне Вялікага княства Літоўскага, якое да канца XIV ст, да каталіцкага хрышчэння Літвы мела рэальныя перспектывы стаць новай усходнеславянскай краінай з дзяржаўнай праваслаўнай царквой, палітычнай і культурнай сталіцай Вільняй і дзяржаўнай мовай, блізкай да беларускай.

Чацвёрты этап этнічнай гісторыі Беларусі пачынаецца **з канца XIV ст.** і цягнецца да нашага часу. Гэта час станаўлення, развіцця і ўздыму беларускай народнасці, які змяніўся перыядам яе размывання паланізацыяй і русіфікацыяй. У перыяд 1917—1991 гг. адбываюцца значныя гістарычныя падзеі ў жыцці беларускага народа. якія часам носяць супярэчлівы характар. З аднаго боку, стварэнне БНР і БССР мела станоўчае значэнне для нацыянальнай кансалідацыі, але, з другога — падзел беларускага народа ў адпаведнасці з Рыжскім мірным дагаворам не спрыяла фарміраванню беларускай нацыі. Гэта адбудзецца ў наступны перыяд гісторыі беларусаў, які пачаўся ў 1991 г. са стварэння ўласнай дзяржавы.

А.Турчыновіч, аўтар адной з першых спецыяльных работ, прыс-

вечаных гісторыі Беларусі ("Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен". СПб, 1857), выдзеліў у ёй два перыяды. Першы - **з пачатку XV да канца XVII ст.** - уключаў уласна гісторыю Беларусі, якая цесна звязана з гісторыяй Летувы, Польшчы, Расіі. Другі пачынаўся з канца **XVII ст.,** калі беларуская гісторыя "вычэрпвалася гісторыяй Польшчы і Расіі". Турчыновіч сцвярджаў, што Беларусь у мінулым наогул не мела сваёй гісторыі, а была арэнай міжусобіц, войнаў, "скрыжаваннем магутных супернікаў". Гэткі погляд, які ў канчатковым выніку зводзіўся да адмаўлення самога факта існавання беларускага этнасу, характэрны для ўсёй расійскай і польскай гістарыяграфіі XIX - пачатку XX ст.

У 1920-ыя гады вядомы беларускі гісторык Усевалад Ігнатоўскі прапанаваў "па асаблівасьці палітыка-соцыяльнага і культурнага жыцьця беларускага народу", як ён сам сфармуляваў крытэрый, дзяліць гісторыю Беларусі на чатыры перыяды: Полацкі **(IX—XIII стст.),** Літоўска-Беларускі **(XIII - першая палова XVI ст.),** Польскі **(1569 г. - канец XVIII ст.),** Расійскі **(канец XVIII - пачатак XX ст.).** Фактычна У. Ігнатоўскі выдзеліў і пяты перыяд, упершыню ў беларускай гістарычнай навуцы, прысвяціўшы яго савецкаму часу, і назваў яго "Беларусь пасля звяржэньня царызму".

Такой заснаванай на прынцыпе дзяржаўнасці перыядызацыі, ў асноўным прытрымліваюцца многія гісторыкі. Блізкі па характару **крытэрый - рысы грамадскага стану і дзяржаўнасці нашых зямель** - паклалі ў падмурак сваей перыядызацыі Леанід і Тамара Лойкі ("Крыжовы шлях". — Мн., 1993.). Паводле яе, першы перыяд гісторыі Беларусі (ад першых пісьмовых звестках пра наш край) характарызуецца ўзнікненнем тут племянных саюзаў і першых дзяржаўных утварэнняў.

Другі **(другая палова IX - пачатак XII ст.)** - узнікненне і развіццё Кіеўскай Русі - старажытнай дзяржавы ўсходніх славян, з якой непарыўна звязана гісторыя беларускіх зямель.

Трэці **(XII—XIII стст.)** - эпоха феадальнай раздробленасці, узмацненне Полацкага, Турава-Пінскага і іншых княстваў, узнікненне на тэрыторыі Беларусі мноства дробных дзяржаў.

Чацвёрты **(з XIII ст. да другой паловы XVI ст.)** - перыяд, звязаны з узнікненнем і росквітам Вялікага княства Літоўскага,

Рускага, Жамойцкага, тэрытарыяльным і палітычным ядром якога былі беларускія землі.

Пяты **(1569—1795 гг.)** - Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай.

Шосты **(канец XVIII ст. - 1917 г.)** - у складзе Расіі.

Сёмы **(кастрычнік 1917—1991 гг.)** - савецкі перыяд у гісторыі Беларусі.

У 1930-ыя гады М.Шкялёнак палічыў неабходным пакласці ў аснову падзелу нашай гісторыі на перыяды не факт уваходжання Беларусі ў склад той ці іншай краіны, а эвалюцыю ўласна беларускай дзяржаўнасці, якая вызначала эвалюцыю і ўсіх астатніх галін жыцця грамадства. "Сілы народу, - пісаў ён, - найболей выяўляліся тады, калі гаспадарсцьвенасць яго была наймагутнейшая, заняпадалі, калі заняпадала апошняя". Зыходзячы з гэтага крытэрыю, даследчык падзяляў гісторыю Беларусі на наступныя тры перыяды: І. Перыяд асобных дзяржаў - **ад IX да паловы XIII ст.** 2. Перыяд суцэльнай дзяржаўнасці - **ад паловы XIII да канца XVII ст.** 3. Перыяд упадку беларускай дзяржаўнасці **ад канца XVII ст. і да апошняга часу.**

У сваім імкненні стварыць універсальную перыядызацыю, якая ахоплівала б увесь шлях нашага народа са старажытнейшых часоў. дазваляла ўбачыць асаблівасці яго жыцця на розных этапах і разглядаць гісторыю Беларусі ў кантэксце гісторыі ўсходнеславянскай, савецкая беларуская навука паклала ў яе аснову вучэнне аб сацыяльна-эканамічных фармацыях, што зыходзіла з марксісцка-ленінскага разумення гістарычнага працэсу. Паводле гэтага вучэння, гісторыя чалавецтва ведае пяць спосабаў вытворчасці, што паслядоўна змянялі адзін аднаго: першабытнаабшчынны, рабаўладальніцкі, феадальны. капіталістычны і камуністычны, кожны з якіх быў больш прагрэсіўны за папярэдні. У асвятленні гісторыі СССР савецкімі гісторыкамі выкарыстоўваўся выключна гэты фармацыйны прынцып, заснаваны на эканамічнай дэтэрмінанце гістарычнага працэсу.

Паводле фармацыйнага прынцыпу, у гісторыі Беларусі выдзяляюцца наступныя перыяды: першабытнаабшчынны лад **(100—40 тыс г. да н.** э. - **VIII ст. н.** э.), феадальнае грамадства **(IX ст. - 1861 г.).** перыяд капіталізму **(1861—1917 гг.),** эпоха сацыялізму (**з 1917 г.**). Апошнія дзесяцігоддзі панавала заганнае ўяўленне, што сапраўдная

гісторыя Беларусі пачынаецца толькі з Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ўсё, што ёй папярэднічала, было толькі перадгісторыяй.

Сёння відавочна, што вучэнне аб сацыяльна-эканамічных фармацыях не вытрымала выпрабаванне часам - гэта пяцічленная схема не мае таго універсальнага характару, на які яна прэтэндавала. Усходнія славяне ў сваім развіцці не праходзілі другую стадыю - рабаўладанне. Цяпер выглядае блефам аб'яўленне сацыялізму, насуперак фактам, найбольш прагрэсіўным спосабам вытворчасці. І хаця наша гістарычная навука не адмовілася ад фармацыйнага падыходу, даваць перыядызацыю толькі па такому прызнаку сёння ўжо нельга.

Яшчэ ў савецкія часы Мікола Ермаловіч, праігнараваўшы фармацыйную канцэпцыю, выдзеліў у гісторыі Бацькаўшчыны IX—XIV стст. тры перыяды: полацкі (XI - сярэдзіна XIII ст.), навагародскі (сярэдзіна XIII - пачатак XIV ст.) і віленскі (1316—1385) - **на аснове таго горада, які з'яўляўся цэнтрам жыцця Беларусі, у якім рабілася ўся палітыка, дзе вызначаліся лёсы Беларусі.**

У апошняе дзесяцігоддзе ў беларускую навуку ўсё болей пранікае, размываючы фармацыйную канцэпцыю, **цывілізацыйны падыход,** які **забяспечвае лепшае разуменне нацыянальнай гісторыі ў кантэксце сусветна-гістарычнага працэсу.** У адпаведнасці з гэтым прынцыпам, у гісторыі чалавечага грамадства на тэрыторыі Беларусі выдзяляюцца наступныя перыяды: старажытнасць (100-40 тыс. г. да н. э. - V ст.н.-э.), сярэднія вякі (VI—XV стст), новы час (XVI ст. - 1918 г.), сучасны перыяд, альбо найноўшая гісторыя.

З пункту гледжання нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі спалучэнне цывілізацыйнага і фармацыйнага падыходаў у сукупнасці з прызнаннем крьггэрыем ісціны гуманістычных, агульна-чалавечых і нацыянальна-дзяржаўньгх каштоўнасцей і іх прыярытэтам у ацэнцы гістарычньгх падзей, фактаў, дзеячаў, з плюралістычнай метадалогіяй, разглядам айчыннай гісторыі як арганічнай часткі еўрапейскай і сусветнай гісторыі забяспечвае аптымальныя магчымасці для высвятлення заканамернасцей і спецыфікі сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця Беларусі на кожным з этапаў яе гісторыі. Такі падыход дазваляе вывесці на належнае месца ў гісторыі праблемы беларускай дзяржаўнасці, культуры і духоўнага жыцця, якія раней - пры манаполіі фармацыйнага прынцыпу - яўна недаацэньваліся.

ЛЕКЦЫЯ 2

# СТАРАЖЫТНАЕ ГРАМАДСТВА НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

- ***Пачатак засялення чалавекам тэрыторыі Беларусі.***
- ***Балцкая каланізацыя беларускіх зямель.***
- ***Генезіс усходнеславянскіх плямён і шляхі іх рассялення на тэрыторыі Беларусі. Узаемаадносіны балтаў і славян.***
- ***Грамадскі лад, заняткі і рэлігія ўсходнеславянскіх плямён на беларускіх землях у VI—VIII стст. н. э.***

## Пачатак засялення чалавекам тэрыторыі Беларусі

На тэрыторыю Еўропы першыя людзі праніклі каля 600 тыс. гадоў таму назад. На тэрыторыі Беларусі яны з'явіліся значна пазней, дзесьці каля 100 тыс. гадоў да н.эры. Гэта здарылася таму, што ў старажытнасці яе тэрыторыя была пакрыта леднікамі. Вядомы тры буйныя і некалькі меншых па маштабу і часу працягласці абледзяненняў. Першым было бярэзінскае, ці, як яго яшчэ называюць геолагі, окскае абледзяненне. Яно цягнулася каля 150 тыс. гадоў і ахоплівала храналагічныя рамкі 500-350 тыс. гадоў да н. эры. У гэты час ляднік пакрываў тэрыторыю Беларусі да лініі Пінск - Мазыр - Рэчыца - Гомель. На поўдзень ад гэтай лініі размяшчаліся тундра і лесатундра.

Прыкладна за 350 тыс. гадоў да н.э. ляднік пачаў таяць і наступіла міжледнікоўе. Яно цягнулася каля 50 тыс. гадоў. Тэрыторыя Беларусі ў гэты час пакрылася лясамі, пераважна хвойна-шыракалістымі з прымешкай ліпы, вяза, дуба, ляшчыны. У іх вадзіліся розныя віды сланоў, маманты, насарогі, высакародныя і гіганцкія алені і іншыя жывёліны, якія прыстасаваліся да халоднага клімату. Ужо ў гэты час з'явіліся ўмовы для жыцця людзей. Але пакуль што слядоў першабытнага чалавека таго часу на тэрыторыі Беларусі не знойдзена.

Другое абледзяненне геолагі называюць дняпроўскім. Яно працягвалася каля 190 тыс. гадоў і ахоплівала храналагічныя рамкі ў 300-110 тыс. гадоў да н. эры. У час гэтага абледзянення ляднік то адступаў на поўнач, то зноў наступаў. Затым настала яшчэ адно

міжледнікоўе. У гэты час клімат на тэрыторыі Беларусі ўстанавіўся прыкладна такі, які мы маем у сучасны момант. Да гэтага часу адносіцца і з'яўленне першабытных людзей на тэрыторыі Беларусі, аб чым сведчаць знаходкі мусцьерскіх стаянак ля вёскі Абідавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці і каля вёскі Клеявічы Касцюковіцкага раёна Гомельскай вобласці.

Але праз некаторы час наступіла новае абледзяненне - валдайскае, якое цягнулася 7 тыс. гадоў. Яно ахоплівала храналагічныя рамкі 90-83 тыс. гадоў да н. эры. У гэты час ляднік займаў тэрыторыю цяперашніх Віцебскай, паўночную частку Мінскай і паўночны захад Гродзенскай абласцей. Хаця пасля зноў наступіла пацяпленне, але ляднік яшчэ не раз напамінаў аб сабе. Поўнасцю ледніковы перыяд у Беларусі закончыўся толькі ў XI тысячагоддзі да н.эры. Менавіта з гэтай пары пачалося актыўнае засяленне яе тэрыторыі першабытнымі людзьмі.

Найбольш старажытнымі стаянкамі першабытных людзей на тэрыторыі Беларусі, адкрытых археолагамі, з'яўляюцца стаянкі ля вёсак Бердыж Чачэрскага і Юравічы Калінкавіцкага раёнаў Гомельскай вобласці. Усе яны адносяцца да эпохі позняга палеаліту і датуюцца 40-30 тысячагоддзямі да н. эры. Іх матэрыялы разам з матэрыяламі стаянак Юдзінава і Елісеевічаў на Браншчыне (на самай граніцы з Беларуссю) даюць магчымасць уявіць, як жылі і чым займаліся нашы далёкія продкі ў тыя часы.

Першапачаткова аснеўным матэрыялам, з якога першабытныя людзі выраблялі прылады працы, быў камень. Увесь гэты перыяд гісторыкі называюць каменным векам. Па спосабах і прыёмах апрацоўкі каменя яны дзеляць каменны век на палеаліт (старажытны каменны век), мезаліт (сярэдні каменны век) і неаліт (новы каменны век). Для палеаліту характэрны самыя прымітыўныя спосабы апрацоўкі каменя - адколы, рэтушаванне і г.д. У мезаліце людзі ўжо выкарыстоўвалі недасканала апрацаваныя каменныя сякеры, долаты, наконечнікі стрэл, дзідаў, нажы і г.д. У эпоху неаліту каменныя прылады працы ўжо вырабляліся з выкарыстаннем такіх відаў апрацоўкі, як піленне, шліфаванне і свідраванне. У Беларусі палеаліт датуецца 40-9-м тысячагоддзямі да н. эры, мезаліт - 8-5 тысячагоддзямі да н. эры, неаліт - 4-3 тысячагоддзямі да н. эры.

Асноўнымі заняткамі першабытных людзей у эпоху палеаліту былі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Галоўным аб'ектам палявання быў мамант. Для гэтага наладжваліся лоўчыя ямы. Звычайна іх выкопвалі на шляху руху мамантаў да вады, або ў тых месцах, куда іх заганялі пры аблаве. Мамант, вага якога дасягала 3—4 тоны, а рост 3,5 метра, даваў значную колькасць мяса, скуру для пашыву адзення і абутку або для пакрыцця жылля. Косці служылі палівам, будаўнічым матэрыялам і матэрыялам для вырабу прылад працы.

Важнымі аб'ектамі палявання былі таксама паўночны алень, дзікі конь, бізон, воўк, пясец, заяц і іншыя жывёлы. Паляванне на буйных жывёл разам са збіральніцтвам (збіралі ядомыя травы, ягады, арэхі, грыбы, карэнні і клубні дзікіх раслін) і рыбалоўствам забяспечвала людзей запасамі ежы і іншымі сродкамі існавання, што садзейнічала аселаму спосабу жыцця. Жыллё будавалася з касцей мамантаў, жэрдак, вялікіх валуноў і пліт, узятых з марэнных адкладанняў. Памеры жылых памяшканняў былі невялікімі - 5-6 метраў у папярэчніку (Бердыж) з ачагом для вогнішча ў цэнтры. Знешне яны былі падобныя на добра вядомыя нам паўночныя чумы ці вігвамы. Будаваліся і шматсекцыйныя памяшканні, як у Юдзінава, дзе жылі асобныя сем'і.

Некалькі парных сямей, спачатку, напэўна, яшчэ няўстойлівых, аб'ядноўваліся ў абшчыну, або род. Асновай абшчыны з'яўлялася група родзічаў па маці. Адсюль - мацярынскі род.

У той час ужо існавала экзагамія, г.зн. звычай, які строга забараняў шлюбныя сувязі ўнутры рода. Муж і жонка павінны былі належаць да розных абшчын.

Асноўным тыпам чалавека ў гэты час на тэрыторыі Беларусі быў яшчэ **неандэрталец.** Такую назву першабытныя людзі атрымалі ад знаходак частак шкілета ў даліне Неандэрталь у Германіі ў 1856 г. Гэта былі непасрэдныя папярэднікі людзей сучаснага тыпу, захаваўшыя яшчэ ў сваім выглядзе і паводзінах рысы жывёлы. Але пад уздзеяннем удасканалення прылад працы і тэхналогіі вытворчых працэсаў паступова адбываліся змены і ў фізічным выглядзе чалавека. На змену неандэртальцу ў хуткім часе прыйшоў неантрап (новы чалавек - чалавек разумны).

У перыяд позняга палеаліту сярод першабытных людзей існава-

ла і некаторая спецыялізацыя працы. Вопытныя і найбольш дужыя мужчыны займаліся паляваннем, жанчыны вялі гаспадарку, даглядалі дзяцей і старых, збіралі травы, карэнні, ягады, выконвалі магічныя абрады, падтрымлівалі агонь у ачагу, ахоўвалі прадметы культу. Некаторыя члены абшчыны займаліся толькі вырабам прылад працы. Яны выраблялiся з мясцовага крэменю і косці. Ад крэменю адколвалі вузкія доўгія пласціны, з якіх пасля апрацоўкі (рэтушавання) выраблялiся разцы, скрабкі, цеслі, падвіркі, пілкі, долаты, наканечнікі коп'яў, дзід, стрэл і г.д. З касцей выраблялі шылы, іголкі і іншыя прыстасаванні.

У эпоху позняга палеаліту зарадзіліся рэлігія і мастацтва. Рэлігійныя ўяўленні першабытнага чалавека сведчылі пра яго няўпэўненасць у заўтрашнім дні, аб бяссіллі перад грознымі сіламі прыроды. Жыццё першабытнага чалавека ў многім залежала ад жывёл, на якія яны палявалі, або раслін, якія яны збіралі. Адсюль бярэ пачатак культ жывёл і раслін. Яны з'яўляліся апекунамі чалавека і таму першабытныя людзі ім пакланяліся. Пакланенне першабытных людзей звярам, птушкам, рыбе, раслінам называецца **татэмізмам.** Так, татэмамі Елісеевіцкай і Юравіцкай мацярынскіх абшчын была рыба. Гэта пацвярджаюць малюнкі, выгравіраваныя на пласцінках з біўня маманта, фігуркі рыб, выразаныя з косці. Падобныя пласціны-чурынгі звычайна захоўваліся ў патаемных месцах як прадметы, якія нібыта мелі таямнічую сувязь з пэўным татэмістычным продкам і членамі роду.

Адносіны, якія склаліся паміж чалавекам і прыродай у час позняга палеаліту, мелі двaісты характар: з аднаго боку, панаванне прыроды над чалавекам, з другога - яго ўздзеянне на прыроду, няхай сабе нават у абмежаваных і недасканалых формах, з выкарыстаннем прылад працы, здольнасцей і звычак. Своеасаблівыя прыёмы, з дапамогай якіх чалавек імкнуўся ўздзейнічаць адпаведным чынам на прыроду, атрымалі назву **магічных.**

Імітацыя прыёмаў палявання павінна была забяспечыць поспех самога палявання. Перш чым ісці на пошукі жывёлы, першабытныя паляўнічыя выконвалі розныя абрады вакол рытуальнай фігуры гэтай жывёлы, ад здабычы якой залежала існаванне ўсяго калектыву. Чалавек верыў у тое, што ў жывёл, раслін, рыб ёсць

двайнікі - душы і лічыў, што розніца паміж ім, жывёлай і раслінай невялікая. Такія рэлігійныя вераванні носяць назву **анімізму.** Пазней на яго аснове ў першабытных людзей узнік культ замагільнага жыцця і ўшанавання нябожчыкаў, што выклікала з'яўленне **пахавальнага абраду.**

Звычай пахавання адпавядаў толькі неабходнасці забяспечыць нябожчыку працяг яго матэрыяльнага існавання. Труп клалі або на бок, або ніцма з падкручанымі нагамі, у позе спячага чалавека, у спецыяльнай камеры, абстаўленай з усіх бакоў буйнымі касцямі маманта. Астанкі чалавека часта пасыпаліся чырвонай фарбай - охрай, косным вугалем - магічнай заменай крыві або агню, бо людзі лічылі, што нябожчык працягвае жыць. Тут жа клаліся рэчы памёршага. Зверху камера прыкрывалася буйнымі касцямі маманта і звычайна прымыкала да жылля. Часам абрад пахавання выконваўся непасрэдна у памяшканнях.

Развіццё матэрыяльнай культуры і рэлігійных вераванняў у першабытных людзей было цесна звязана з развіццём мастацтва. Сярод твораў першабытнага мастацтва ў насельніцтва Беларусі эпохі позняга палеаліту сустракаюцца жаночыя статуэткі, малюнкі розных жывёл, якія служылі аб'ектам палявання. Першабытны мастак маляваў чалавека і жывёлу такімі, якімі ён прывык іх бачыць у паўсядзённым жыцці. Толькі ў асобных выпадках даваліся ўмоўныя стылізаваныя малюнкі.

Сярод археалагічных знаходак стаянак першабытных людзей на тэрыторыі Беларусі сустракаюцца шматлікія ўпрыгажэнні - разнастайныя падвескі, вырабленыя з пласцінак біўня маманта, каралі з зубоў пясца і ваўка, ракавіны з прасвідраванымі адтулінамі для нанізвання. Найбольшую цікавасць выклікаюць ракавіны. Паводле апошніх даных, яны паходзяць з раёна Чарнаморскага ўзбярэжжа або з Дняпроўска - Бугскага лімана, што сведчыць аб вялікіх перамяшчэннях паляўнічых калектываў і, магчыма, пра пачатак абмену.

У перыяд позняга палеаліту, былі заселены толькі паўднёвыя раёны Беларусі. Цэнтральная і паўночная часткі яе тэрыторыі былі заселены прыкладна ў 7-5 тысячагоддзях да н.эры (у час мезаліту). Засяленне праходзіла некалькімі шляхамі. З паўднёвага ўсходу было заселена ўсходняе Палессе (басейн сярэдняй і ніжняй Пры-

пяці), а таксама верхняе Падняпроўе, Заходняе Палессе (басейн верхняй Прыпяці), Панямонне засялялася пераважна з паўднёвага захаду. Падзвінне было заселена з поўдня і з захаду.

У неалітычную эпоху насельніцтва на тэрыторыі Беларусі значна павялічылася. За гэты час з'явілася шмат новых пасяленняў. Калі да мезаліту адносіцца прыкладна 80 адкрытых археолагамі пасяленняў, то да неаліту - больш 500.

Але і ў час неаліту асноўная частка насельніцтва Беларусі пражывала на тэрыторыі Палесся, Панямоння і Пасожжа. У Падзвінні яно было нешматлікім. Тут пакуль што адкрыта 16 пасяленняў, тады як у прыпяцкім Палессі - 150, Пасожжы - больш за 110, у Панямонні - больш за 100, у верхнім Падняпроўі - каля 50.

На працягу мезаліту і неаліту ў жыцці першабытных людзей адбыліся значныя змены. Яны былі звязаны з удасканаленнем вырабу прылад працы. У эпоху мезаліту чалавек стаў ужываць ужо масіўную крэмневую сякеру і цясло, з дробных апрацаваных крэмневых пласцін - нажы, наканечнікі стрэл, гарпуноў. Лук і стрэлы, вынайдзеныя ў канцы палеаліту, у мезаліце распаўсюдзіліся паўсюдна. У неаліце чалавек упершыню навучыўся ляпіць гліняны посуд, пачаў вырабляць новыя прылады працы - шліфаваныя сякеры і цяслы.

Адначасова з раней вядомымі (адколы, рэтушоўка), шырокае распаўсюджванне атрымалі новыя спосабы апрацоўкі каменю - шліфоўка, пілаванне, свідраванне. Шырэй, чым раней, выкарыстоўвалася дрэва. З яго рабілі чаранкі зброі, стрэлы, дрэўкі коп'яў, выдзёўбвалі чаўны, узводзілі свайныя пабудовы, рабілі пасткі і заколы для лоўлі звяроў і рыбы.

У эпоху неаліту пачалася таксама распрацоўка шахтавым спосабам крэмненосных радовішчаў, як напрыклад, паблізу пасёлка Красносельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Зарадзіліся і атрымалі шырокае распаўсюджванне якасна новыя, вытворчыя формы гаспадарання - земляробства і жывёлагадоўля. Яны дапаўняліся вядомымі раней паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам.

Нягледзячы на ўдасканаленасць прылад працы і авалодванне новымі формамі вядзення гаспадаркі, прадукцыйнасць працы ў першабытных людзей заставалася нізкай. Яны яшчэ не маглі жыць

асобнымі сем'ямі. Калектыўныя формы палявання і рыбалоўства па-ранейшаму давалі большую частку прадуктаў. Таму калектыў (род) асноўнымі сродкамі вытворчасці валодаў супольна. Шлюбны парадак у родзе, як і раней, заставаўся экзагамным, унутры племені - эндагамным, г.зн., што муж і жонка павінны былі быць супляменнікамі. Гэта садзейнічала захаванню адметных прыкмет племені: мовы, абрадаў, упрыгажэнняў, арнаментацыі керамікі, вытворчых навыкаў, характару домабудаўніцтва і г.д.

У познім неаліце кожнае племя займала пэўную тэрыторыю, мела свае паляўнічыя і рыбалоўныя участкі. Асноўнымі формамі ўласнасці на сродкі вытворчасці былі радавая і племянная. Заблытанасць шлюбных адносін, якая ўзнікла ў сувязі з павелічэннем колькасці родаў, выміраннем ад голаду і хвароб або асіміляцыяй некаторых з іх, прыводзіла да парушэння эндагамнасці плямёнаў. У сувязі з гэтым сталі пашырацца экзагамныя шлюбы паміж прадстаўнікамі розных плямёнаў. Гэтаму садзейнічаў і пераход ад прысвойваючай да вытворчай гаспадаркі - земляробства і жывёлагадоўлі. Яны надавалі большае значэнне мужчынскай працы. Гэта патрабавала пераходу жонкі ў род мужа. Усе гэтыя з'явы сведчылі пра пачатак разлажэння матрыярхату. Аднак роля жанчыны як захавальніцы старажытных звычаяў і абрадаў, прадказальніцы і знахаркі захоўвалася яшчэ працяглы час.

У час мезаліту і неаліту далейшае развіццё атрымалі рэлігійныя вераванні і мастацтва ў першабытных людзей. Татэмізм, аформіўшыся ў першабытную рэлігію, дасягнуў сталых формаў. Ва ўмовах складаных узаемаадносін родаў і плямёнаў татэм стаў выступаць як радавое імя або назва племені. Мастацтва адлюстроўвала татэмістычныя ўяўленні і адносілася да ліку важных племянных прыкмет. Аб гэтым сведчаць шматлікія археалагічныя знаходкі: фігуркі птушак, рыб, жывёл.

З павелічэннем колькасці насельніцтва частка родаў была вымушана аддзяляцца і пераходзіць на новыя месцы. Паступова стваралася група плямёнаў, якія размаўлялі на блізкіх дыялектах, на аснове чаго пачалі ўтварацца вялікія этнічныя супольнасці. Вызначыць этнічную прыналежнасць старажытнага насельніцтва Беларусі эпохі палеаліту, мезаліту і неаліту немагчыма. Мова яго невядомая,

бо не зафіксавана ў пісьмовых крыніцах. Можна вызначыць толькі граніцы іх месцазнаходжання па даных матэрыяльнай культуры, асабліва па формах глінянай пасуды і яе арнаментацыі.

Матэрыялы археалагічных раскопак дазволілі ўстанавіць, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў эпоху неаліту жылі тры вялікія групы плямён. У беларускім Палессі і на тэрыторыі паўночна-заходняй часткі Украіны жылі плямёны, для якіх была характэрна **грабенчата-накольчатая кераміка.** Яны выраблялі шыракагорлыя, вострадонныя гаршкі, упрыгожаныя адбіткамі грэбеня і наколкамі. Для гэтых плямён былі характэрны таксама лістападобныя навершнікі стрэл, серпападобныя нажы, долаты, цёслы, невялікія трапецыяпадобныя сякеры і іншыя прылады працы. Прадстаўнікі гэтых плямён былі еўрапеідамі - краманьёнцамі: рослымі, шыракатварымі, з вялікім чэрапам. Яны насілі адзенне з апрацаваных скураў жывёлы, пацеркі і падвескі з шліфаваных пласцінак, ракавін і клыкоў. Іх адзенне, галаўныя ўборы і нават абутак упрыгожваліся касцянымі пласцінкамі, зубамі аленя, дзіка, рыбы і г. д.

Другая група плямён засяляла вярхоўі Дняпра і Сожа. Для іх быў характэрны посуд, арнаментаваны ямачнымі і лапкавымі адбіткамі. Наколы ў ім амаль поўнасцю адсутнічаюць. Таму такую кераміку называюць **грабенчата-ямачнай.**

Трэцяя група плямён займала вярхоўі Прыпяці, Ясельды і басейн Нёмана. Яны выраблялі вострадонны, таўстасценны посуд, пад венчыкамі якога наносіліся наколы, насечкі і перакрэсленыя лініі. Асноўная частка паверхні посуду не арнаментавалася. Тут перапляталіся элементы як грабенчата-ямачнай, грабенчата-накольчатай, так і шнуравой керамікі. Гэтую культуру археолагі называюць **нёманскай.**

Археолагамі і лінгвістамі выказваецца меркаванне, што ў 3-м тысячагоддзі да н.эры ў Падзвінні і Падняпроўі пражывалі групы ўральскага насельніцтва, яго фіна-угорскага адгалінавання, а ў некаторых мясцовасцях Папрыпяцця, на яго крайнім паўднёва-захадзе - асобныя невялікія групы індаеўрапейскага насельніцтва. Сляды фіна-угорцаў засталіся на Беларусі ў тапаніміцы - у назве рэчак, азёр, мясцовасцей, нават пазнейшых племянных аб'яднанняў. Антрапалагічна старажытныя фіна-угорцы належалі да мангалоіднай расы.

Менавіта гэтым даследчыкі тлумачаць наяўнасць некаторых мангалоідных рыс знешнасці (вузкія вочы, круглы твар, чорныя валасы) ў насельніцтва некаторых рэгіёнаў Беларусі (перш за ўсё на крайнім паўночным усходзе, паблізу з тэрыторыямі, якімі фіна-угорцы - лівы і эсты - апанавалі поўнасцю).

## Балцкая каланізацыя беларускіх зямель

З канца 3-га тысячагоддзя да н. э. і да 4-5 ст. нашай эры этнічны склад насельніцтва Беларусі значна змяніўся. У гэты **час на ўсёй тэрыторыі Беларусі рассяліліся індаеўрапейцы, якія асімілявалі папярэдняе насельніцтва.** Большую частку тэрыторыі Беларусі, асабліва паўночнай і цэнтральнай, у эпоху ранняга металу займала ўжо індаеўрапейскае насельніцтва **балцкай галіны** (продкі сучасных літоўцаў і латышоў) і толькі ў асобных месцах паўднёвага захаду - **славянскай.**

У глыбокай старажытнасці індаеўрапейцы прыйшлі з Цэнтральнай Азіі і рассяліліся на Балканскім паўвостраве, Малой Азіі, у заходнім і паўночна-заходнім Прычарнамор'і. На рубяжы 3 і 2 тысячагоддзяў да н.эры ў сувязі з развіццём жывёлагадоўлі (пастаянным павелічэннем пагалоўя жывёлы, для чаго патрабаваліся новыя выпасы), ростам насельніцтва і магчыма, нават, дэмаграфічным выбухам яны пачалі пакідаць сваю новую радзіму і засяляць вялікія прасторы Цэнтральнай, Усходняй Еўропы ад Рэйна да Волгі. Гэтае вялікае перасяленне народаў паклала пачатак утварэнню многіх еўрапейскіх і азіяцкіх народаў: галаў, грэкаў, кельтаў, германцаў, балтаў, славян, іранцаў і іншых. Кожны з іх пасля сфарміраваў сваю мову і культуру.

Ёсць меркаванне, што балты - гэта адгалінаванне этнічнай супольнасці галаў. Яны знаходзіліся на больш высокім узроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця, чым іх папярэднікі, і прынеслі на тэрыторыю Беларусі жывёлагадоўлю і земляробства. Змяшаўшыся з мясцовым даіндаеўрапейскім насельніцтвам, асноўная маса якога засталася на ранейшым месцы, яны пaступова асімілявалі яго, навязалі сваю мову і культуру.

Пасяленне балтаў на тэрыторыі Беларусі супала з векам металу. Першымі ў гісторыі чалавецтва металамі, якія сталі асноўным ма-

тэрыялам для вырабу прылад працы, былі медзь і бронза. Спачатку яны выплаўляліся ў краінах Блізкага Усходу і ў тых раёнах Еўропы і Азіі, дзе былі залежы меднай, алавянай і цынкавай руд. На тэрыторыі краін СНД медзь і бронза ў,3 і 2 тысячагоддзях да н. э. выплаўляліся ў Сярэдняй Азіі, Казахстане, на Урале, у Сібіры і Закаўказзі. Адтуль яны пападалі ў суседнія і больш аддаленыя раёны, дзе не было неабходных запасаў сыравіны. Прылады працы і ўпрыгажэнні з медзі і бронзы сустракаюцца і на тэрыторыі Беларусі. Яны адносяцца да 2 тысячагоддзя да н. эры.

У VII ст. да н.эры насельніцтва Беларусі навучылася выплаўляць жалеза. Выплаўлялі яго з бурага жалезняку (руд расліннага паходжання) сырадутным спосабам у невялікіх гліняных печахдомніцах, якія мелі паўшарападобную форму. Рабілася гэта так. Праз адтуліны ўверсе печы засыпаўся гарачы вугаль, а на яго паслойна высушаная і раздробленая руда і драўляны вугаль. Пры дапамозе мяхоў у печ нагняталася паветра. Дасягалася тэмпература да 900° і больш. Выплаўленае жалеза сцякала на дно печы, утвараючы наздраватую масу - "крыцу". Крыца мела прымесь шлаку. Каб пазбавіцца ад яго, крыцу дадаткова прагравалі ў горне і кавалі. У выніку атрымліваўся кавалак чыстага жалеза (балванка), з якога выраблялі прылады працы. Сляды здабычы і апрацоўкі жалеза ў выглядзе шлакаў, крыц, рэштkaў дамніц сустракаюцца амаль на кожным старажытным паселішчы.

Па меры асваення металаў, асабліва жалеза, земляробства паступоваператваралася ў галоўны занятак плямён, якія насялялі тэрыторыю Беларусі. Па спосабу падрыхтоўкі ўчастка да сяўбы сістэма земляробства атрымала назву лядавай. На ўчастку, выбраным для сяўбы, лес высякаўся і спальваўся. Верхні слой глебы станавіўся больш рыхлы, а попел угнойваў глебу. Затым сеялі зерне і загортвалі яго "сукаваткай" - драўлянай бараной. Першыя гады на такіх участках ураджаі былі добрыя. Але глеба паступова вышчалочвалася і апустошвалася. Участак пакідалі і пераходзілі на другі, папярэдне падрыхтаваны такім жа спосабам.

Асноўнымі культурамі былі проса, пшаніца, гарох, палявыя (конскія) бабы, віка. Ураджай зжыналі жалезнымі сярпамі. Яны яшчэ не мелі насечкі на лязе, былі меншых памераў ад сучасных

і мелі невялікую выгнутасць. Зерне расціралі на каменных зернецёрках.

На поўдні Беларусі параўнальна рана пачалі карыстацца першымі ворнымі прыладамі тыпу драўлянага рала. Гэтаму, напэўна, садзейнічаў уплыў паўднёвых плямён, у першую чаргу скіфаў.

Развіццё земляробства павысіла гаспадарчае значэнне жывёлагадоўлі. Выяўленыя рэшткі касцей сведчаць, што нашы далёкія продкі разводзілі перш за ўсё буйную рагатую жывёлу. Свінні, коні і дробная рагатая жывёла адыгрывалі другарадную ролю.

З развіццём лядавага земляробства і жывёлагадоўлі паляванне і збіральніцтва, як галіны гаспадарчай дзейнасці, паступова страчвалі сваё значэнне і ператвараліся ў пабочныя.

Выраб жалезных прылад садзейнічаў развіццю хатняга рамяства. З дрэва рабілі дрэўкі коп'яў, дроцікаў, стрэлы, чаранкі нажоў, сярпоў, шылаў, верацёны, міскі, лыжкі і рэчы хатняга ўжытку.

З дапамогай жалезных сякер і цёслаў узводзіліся складаныя (у параўнанні з легкімі пабудовамі эпохі неаліту і бронзы) жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Першапачаткова ўзводзіліся бярвенчатыя пабудовы слупавай канструкцыі, а з цягам часу - і пабудовы зрубнага тыпу.

Пастаяннымі відамі вытворчасці плямён, якія насялялі тэрыторыю Беларусі ў 2 і 1 тысячагоддзях да н.эры, былі прадзенне, ткацтва, пашыў адзення, пляценне, выраб глінянага посуду. Посуд вырабляўся ўручную шляхам стужкава-кальцавога або стужкава-спіральнага налеплівання. Ганчарнага кола насельніцтва яшчэ не ведала.

Агульны ўзровень прадукцыйных сіл, натуральны характар гаспадаркі, у аснове якой было лядавае земляробства, раз'яднанасць і замкнутасць паселішчаў дазваляюць меркаваць, што ўсе плямёны, якія засялялі тэрыторыю Беларусі ў першым тысячагоддзі да н.эры і першай палове першага тысячагоддзя н. эры, жылі ўжо ва ўмовах патрыярхату. Асноўнай гаспадарчай адзінкай была вялікая патрыярхальная сям'я. Яна складалася прыблізна з 50-80 чалавек. Некалькі такіх сем'яў складалі род. Кожны род займаў пэўную тэрыторыю, меў свае палі, вадаёмы, паляўнічыя ўгоддзі і выпасы для жывёлы. Некалькі родаў утваралі племя, а некалькі плямён - саюз

плямён. Трывалыя саюзы плямён узнікалі толькі тады, калі гэта дыктавалася меркаваннямі ваеннага характару.

## Генезіс усходнеславянскіх плямён і шляхі іх рассялення на тэрыторыі Беларусі. Узаемаадносіны балтаў і славян

У грамадскім жыцці насельніцтва Беларусі ўжо ў самым пачатку жалезнага веку вызначыліся прыкметы разлажэння першабытнаабшчынных адносін. У выніку росту прадукцыйных сіл, асабліва ў земляробстве і жывёлагадоўлі, шырокага распаўсюджвання жалезных прылад працы з'явілася магчымасць накопліваць унутры роду больш матэрыяльных каштоўнасцей - збожжа, жывёлы, прадуктаў палявання, зброі, жалезных прылад працы і г.д. Гэта прыводзіла да ўзнікнення супярэчнасцей паміж родамі і плямёнамі, частых ваенных сутыкненняў паміж імі. Аб гэтым сведчыць характар паселішчаў. Асноўным іх тьшам у гэты час становяцца ўмацаваныя гарадзішчы. Першапачаткова гарадзішчы абгароджвалі толькі драўлянай сцяной. Затым сталі насыпаць валы, выкопваць равы, павялічваць стромкасць схілаў.

Войны і ваенныя набегі з мэтай захопу накопленых запасаў, а таксама людзей хутка сталі звычайнай з'явай. У гэтых умовах у грамадска-палітычным жыцці асноўная роля стала належыць мужчынскаму насельніцтву. Вярхоўнай уладай у родзе і племені стаў агульны сход узброеных воінаў. Ён вырашаў пытанні вайны і міру, выбіраў старэйшыну роду і правадыра племені. Такі грамадска-палітычны лад, які ўзнік на апошняй стадыі першабытнаабшчыннага ладу, атрымаў назву ваеннай **дэмакратыі.**

На поўдні Беларусі працэс разлажэння першабытнаабшчынных адносін пачаўся значна раней, чым на поўначы. Гэтаму садзейнічала суседства са' скіфа-сармацкімі плямёнамі, дзе гэтыя працэсы шлі даволі інтэнсіўна. Вялікія абшчынныя дамы, якія адпавядалі таму часу, калі патрыярхальная сям'я з'яўлялася адзіным калектывам, на поўдні зніклі не пазней трэцяй чвэрці 1 тысячагоддзя да н. эры і ўступілі месца індывідуальнаму жыллю, якое прызначалася для індывідуальнай сям'і. Гэтаму ў значнай меры садзейнічала развіццё земляробства. Археалагічныя помнікі сведчаць, што ў гэты час ужо ўзнікла сярод людзей і маёмасная няроўнасць. У

Чаплінскім могільніку, напрыклад, знойдзены параўнальна багатыя пахаванні з мноствам розных рэчаў і са зброяй і бедныя пахаванні, дзе рэчаў амаль не было.

У I-III стст. н. э. на поўдні Беларусі насельніцтва пакінула ўмацаваныя гарадзішчы і пасялілася на адкрытых месцах - селішчах. Відаць гэта адбылося ў выніку ўзнікнення вялікіх племянных аб'-яднанняў, у межах якіх для кожнай асобнай абшчыны страцілася неабходнасць ва ўмацаваных паселішчах.

Узнікненне маёмаснай няроўнасці, паяўленне багатых і бедных сем'яў паскорыла распад радавых адносін. Сваяцкія сувязі сталі страчваць сваю сілу. На адкрытых паселішчах размяшчаліся ўжо не толькі кроўныя родзічы, але і сем'і з чужых родаў. Радавая абшчына пачала ўступаць сваё месца сельскай. У яе аснове ўжо былі не сваяцкія, а тэрытарыяльныя і эканамічныя сувязі.

У цэнтральнай і паўночнай частках Беларусі гэтыя працэсы пачаліся, як сведчаць археалагічныя даныя, на 2-3 стагоддзі пазней, у 4-5 ст. н. эры.

У перыяд жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі пражывала некалькі вялікіх племянных груп. Гэта былі даволі ўстойлівыя аб'яднанні, не пакідаўшыя месц свайго знаходжання на працягу многіх стагоддзяў. Яны характарызаваліся агульнасцю тэрыторыі, аднолькавым характарам жылля, паселішчаў, падабенствам пахавальных абрадаў і г.д.

У раннім жалезным веку тэрыторыю сучаснай Гомельскай, паўднёвых раёнаў Магілёўскай і Мінскай абласцей, а таксама паўднёва-ўсходняй часткі Брэсцкай вобласці займалі плямёны так званай **мілаградскай культуры** (ад назвы в. Мілаграды Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці). Паўночная граніца іх месцажыхарства даходзіла да Слуцка, Бабруйска, Рагачова, Крычава. Тут яны межавалі з плямёнамі культуры **штрыхаванай керамікі.** На тэрыторыі Украіны мілаградскія плямёны займалі тэрыторыю да ракі Рось. На поўдні яны суседнічалі з скіфскімі плямёнамі. Усходнімі суседзямі мілаградцаў былі плямёны юхнаўскай культуры, якія пражывалі ў басейне ракі Дзясна, на тэрыторыі сучаснай Бранскай і суседніх з ёй абласцей. Заходнімі суседзямі мілаградцаў былі плямёны лужыцкай і ўсходнепаморскай культур, якія пражывалі ў басейне ракі Вісла.

Першапачаткова мілаградцы жылі ва ўмацаваных гарадзішчах і неўмацаваных пасяленнях паўземлянога тыпу, а таксама ў невялікіх драўляных пабудовах слупавай канструкцыі. Яны займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рамёствамі, здабычай і апрацоўкай жалеза. Гэтай культуры былі характэрны рысы, якія выдзяляюць яе сярод іншых культур ранняга жалезнага веку. Гэта датычыць у першую чаргу керамікі. Для мілаградскай культуры характэрнай формай глінянага посуду былі кругладонныя гаршкі з рэзка адвогнутым венчыкам. У верхняй частцы гаршкі пакрываліся арнаментам, які складаўся з круглых паглыбленняў на ўнутраным і знешнім баках сценак, а таксама з розных па форме і глыбіне ямак. Вызначальнай рысай пахавальных абрадаў плямён мілаградскай культуры былі трупаспальванне і трупапалажэнне на безкурганных і курганных могілках. Адны археолагі лічаць мілаградскую культуру славянскай, другія - балцкай.

У канцы 1-га тысячагоддзя да н. эры ў Верхнім і Сярэднім Падняпроўі, дзе раней жылі плямёны мілаградскай культуры, склалася зарубінецкая культура (па назве в. Зарубінцы Пераяслаўль-Хмельніцкага раёна Кіеўскай вобласці). Насельніцтва гэтых тэрыторый займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, здабычай і апрацоўкай жалеза і іншымі рамёствамі. Прылады працы, зброя, упрыгажэнні ў параўнанні з прадметамі мілаградскай культуры ў іх былі больш разнастайныя і дасканалыя. Плямёны зарубінецкай культуры падтрымлівалі сувязі з кельтамі, сарматамі, скіфамі, антычнымі гарадамі Паўночнага Прычарнамор'я, паўночнымі правінцыямі Рымскай імперыі, аб чым сведчаць знаходкі прадметаў з эмаллю, бронзавай пасуды, рымскіх манет і г.д.

У VII ст. да н. эры ў басейне рэк Нёмана, Заходняй Дзвіны і ў Верхнім Падняпроўі пражывалі індаеўрапейскія плямёны, для якіх была характэрна **культура штрыхаванай керамікі.** Іх археолагі адназначна лічаць балтамі. На поўдні і паўднёвым усходзе іх суседзямі былі іранамоўныя плямёны (скіфы, сарматы), на поўначы і паўночным усходзе - фіна-угорцы, на захадзе і паўднёвым захадзе - славяне і германцы.

— У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. і ў першай палове 1-га тысячагоддзя н. эры на поўначы Беларусі і на суседняй з ёй тэры-

торыі жылі плямёны, культура якіх паходзіла на культуру штрыхаванай керамікі. У археалогіі яна, як і іншыя культуры, не атрымала спецыяльнай назвы. Але ў сувязі з тым, што асноўная маса паселішчаў гэтай культуры размяшчалася ў басейне Дняпра і Заходняй Дзвіны, яе ўмоўна назвалі **днепра-дзвінскай.**

Плямёны днепра-дзвінскай культуры займалі даволі абшырную тэрыторыю. На поўдні яны межавалі з плямёнамі штрыхаванай керамікі, на паўднёвым усходзе і Смаленшчыне - з плямёнамі юхнаўскай культуры, на ўсходзе і ў заходняй частцы Волга-Окскага басейна - з плямёнамі дз'якаўскай культуры, на поўначы, паўночным захадзе і захадзе - з старажытнымі прыбалтыйскімі плямёнамі.

Асноўным тыпам паселішчаў плямён днепра-дзвінскай культуры былі ўмацаваныя паселішчы, якія размяшчаліся галоўным чынам на берагах рэк і азёр, маючыгх заліўныя лугі і прыдатныя зямельныя ўгоддзі. У эканамічным жыцці гэтыя плямёны адставалі ад сваіх паўднёвых суседзяў. Жалезны век пачаўся тут на некалькі стагоддзяў пазней, а таму, па даных археалагічных раскопак, у гэтых плямён доўгі час асноўную ролю ў гаспадарцы адыгрывалі не земляробства, а жывёлагадоўля і паляванне. Толькі ў канцы 1-га тысячагоддзя да н. эры каменныя і касцяныя прылады працы тут уступілі месца жалезным, у выніку чаго земляробства і жывёлагадоўля сталі галоўнымі заняткамі людзей.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці плямён днепра-дзвінскай культуры ў гістарычнай навуцы таксама яшчэ канчаткова не вырашана. Але многія даследчыкі лічаць, што яе стварылі ўсходнебалцкія плямёны. У карысць гэтага меркавання сведчыць і той факт, што назвы рэк і азёр на тэрыторыі плямён днепра-дзвінскай культуры (Вопь, Каспля, Лучаса, Обаль і інш.) зыходзяць сваімі каранямі ў старажытныя балцкія мовы.

## Грамадскі лад, заняткі і рэлігія ўсходнеславянскіх плямён на беларускіх землях у VI-VIII стст. н. э.

Крызіс старажытнага грамадства, звязаны з разлажэннем першабытнаабшчыннага ладу на тэрыторыі Беларусі, супаў па часе з засяленнем яе славянамі. З'яўленне іх на тэрыторыі Беларусі было

вынікам апошніх хваляў вялікага перасялення народаў,якімі былі рух готаў (II—III ст. н. э.), нашэсці гунаў (IV ст. н. э.) і авараў (сярэдзіна VI ст. н. э.).

Пытанне паходжання славян - вельмі складанае, заблытанае і пакуль што далёкае да навуковага вырашэння. Прарадзімай славян называліся і называюцца розныя мясцовасці: сярэдняе і ніжняе Падунайе і паўночнае Прычарнамор'е, Паўночнае Прыкарпацце і нават Закаўказзе і Паўночны Іран. У апошні час найбольш верагоднымі месцамі фарміравання славян указваюцца Вісла-Одэрскае міжрэчча і паўднёвая частка лясной зоны Усходняй Еўропы, куды ўваходзіць і поўдзень Беларусі. Цяжка аддаць перавагу якой-небудзь з гэтых гіпотэз. Усе яны маюць права на існаванне. Але калі нават пагадзіцца з тым, што і на Беларусі была прарадзіма славян, то і аўтары гэтай гіпотэзы прызнаюць, што ў канцы V - пачатку VI ст. н. э. яны адышлі адсюль за Дунай. Вось чаму можна лічыць, што масавы прыход славян на Беларусь і іх канчатковае ўкараненне тут пачалося на рубяжы VI—VII ст. н. эры. Трэба зазначыць, што славянскае засяленне Беларусі і іншых усходнеславянскіх зямель, не было аднаразовай падзеяй. Яно адбывалася на працягу некалькіх стагоддзяў.

Доўгі час у навуцы існавала думка, што славяне ішлі на Беларусь толькі з поўдня. Але яшчэ Я.Ф. Карскі адзначыў, што славянскае засяленне Беларусі адбывалася таксама і з захаду. З поўдня, як лічыць М. Ермаловіч, на тэрыторыю Беларусі прыйшлі дрыгавічы, дулебы, валыняне, драўляне, з захаду - славяне, крывічы, севяране, радзімічы. Тут праходзілі і скрыжоўваліся шматлікія славянскія дарогі. Але такое прадстаўленне, на наш погляд, з'яўляецца памылковым, бо застаецца адкрытым пытанне, чаму не аселі ўсходнеславянскія плямёны ў Заходняй Беларусі, дзе ўмовы для жыцця людзей былі больш спрыяльныя, чым там, куды пайшлі далей славяне. Такое прадстаўленне аб шляхах рассялення славян не дае адказу і на пытанне, як тут, у Заходняй Беларусі, ва ўмовах інтэнсіўнага руху славян яшчэ доўгі час пражывалі балцкія плямёны, а славяне асвоілі гэтую тэрыторыю толькі ў XI-XII стст. Нам здаецца, што болын праўдападобным у гэтым пытанні з'яўляецца пункт гледжання прафесара **Э**.М. Загарульскага, які сцвярджае, што славянскія плямёны, пачаўшыя рух з Вісла-Одэрскага міжрэчча ў паў-

днёва-ўсходнім напрамку (у лесастэпавыя раёны Украіны), былі адсечаны ад асноўнай масы славянства германа-кельцкімі плямёнамі, якія рухаліся больш энергічна ў гэтым жа напрамку. Адсечаную групу германа-кельты раскалолі на дзве часткі. Адна з іх была выцеснена на Балканскі паўвостраў, дзе пазней з іх сфарміравалася група паўднёваславянскіх плямён (сербы, харваты, баснійцы, македонцы, чарнагорцы, славены і балгары). Другая частка славян пасялілася на паўночным захадзе Украіны і ў паўднёвых раёнах Беларусі (у басейне ракі Прыпяць). У VI—VIII стст. яны адсюль нікуды не рухаліся. Тут яны сфарміраваліся як **усходняе славянства.** тут сфарміравалася і **народнасць - русь,** якая дала пазней назву ўтварыўшайся **славянскай дзяржаве - Кіеўскай Русі.**

У VIII—IX стст., калі ўсходнія славяне значна ўзмацніліся і ў выніку дэмаграфічнага росту ім стала цесна на занятай тэрыторыі. яны прыступілі да асваення блізляжачых зямель (балтаў, фіна-ўграў і ірана-цюркаў). Паперадзе ішлі ўзброеныя славянскія дружыны. Прасоўваючыся па рэках, яны будавалі на сваім шляху ўмацаваныя гарадзішчы, многія з якіх пазней сталі гарадамі. Услед за ўзброенымі дружынамі ішло землянробчае насельніцтва, асімілюючы мясцовых абарыгенаў, у прыватнасці, балтаў. Аб тым, што менна такім шляхам ішло рассяленне славян на тэрыторыі Беларусі. сведчыць асваенне імі Панямоння і Пабужжа ў XI—XII стст. Славяне ў раёнах свайго рассялення часткова выцеснілі балтаў, часткова знішчылі іх, а застаўшыхся - асімілявалі. У некаторых мясцовасцях і славяне былі асіміляваны балтамі, але ў канчатковым выніку перамагла славянская стыхія. Гэта можна растлумачыць тым, што славяне на некалькі стагоддзяў апярэджвалі па свайму развіццю балтаў. Гэтыя працэсы прадаўжаліся даволі доўга, на працягу некалькіх стагоддзяў.

Асноўны масіў славянства на Беларусі склалі дрыгавічы, крывічы і радзімічы. Дрыгавічы аселі на большай частцы паўднёвай і значнай частцы сярэдняй Беларусі. Як сведчаць археалагічныя даныя, паўднёвая граніца тэрыторыі дрыгавічоў праходзіла ўздоўж паўднёвай Прыпяці з поўдня. Ад драўлян іх аддзялялі балоты. Іх усходняй граніцай быў басейн Дняпра. Паўночна-ўсходняя граніца праходзіла прыкладна па водападзелу рэк Друці і Бярэзіны, а паў-

ночная - па лініі Барысаў - Заслаўе. На захадзе дрыгавічы займалі вярхоўі Нёманскага басейна. Назву дрыгавічоў старажытны летапісец выводзіць ад слова "дрыгва", якая была характэрнай рысай асаблівасці мясцовасці, дзе яны аселі. Хоць такая думка падтрымліваецца некаторымі даследчыкамі і цяпер, аднак гэты погляд, як сцвярджае М. Ермаловіч, трэба прызнаць устарэлым. Па характару мясцовасці, паводле летапісу, былі празванымі далёка не ўсе ўсходнеславянскія плямёны, а толькі паляне, драўляне і дрыгавічы. Аднак паляне былі і ў Польшчы, драўляне - на левым беразе Эльбы, дрыгавічы - у Македоніі і ў палабскіх славян. Хутчэй за ўсе, як лічыць М. Ермаловіч, дрыгавічы паходзяць ад славянскага *імя* Драга ці Драгавіта, як радзімічы - ад Радзіма, вяцічы - ад Вяткі.

Радзімічы пасяліліся на ўсходзе ад дрыгавічоў. Яны занялі землі паміж Дняпром і Дзісной. Асноўным арэалам іх рассялення быў басейн рэк Сожа і Іпуці.

Крывічы занялі тэрыторыю на поўнач ад дрыгавічоў і радзімічаў. Іх заходняя граніца на тэрыторыі Беларусі праходзіла ўздоўж Асвейскага возера, затым апускалася на поўдзень, перасякала заходнюю Дзвіну каля вусця Дрысы, далей ішла да басейна Дзясны (левага прытока Заходняй Дзвіны). Самым заходнім пасяленнем быў Браслаў. На поўначы і на ўсходзе граніца крывічоў праходзіла за межамі тэрыторыі Беларусі. Яна ўключала не толькі паўночныя раёны Беларусі, але і сучасныя Пскоўшчыну і Смаленшчыну, раёны вярхоўя Волгі, на поўдні - вярхоўе Дняпра. На Беларусі пражывала толькі іх полацка-смаленская група.

Ёсць многа меркаванняў аб паходжанні назвы "крывічы". Адны з даследчыкаў выводзяць гэтую назву ад літоўскага слова "kriwe", якое абазначае імя аднаго з персанажаў літоўскай міфалогіі (Н.Н. Траццякоў). Б.А. Рыбакоў і іншыя даследчыкі лічаць, што назва "крывічы" ўзнікла ад імя кіраўніка літоўскага роду Крыве-Крывейтэ. Г. Мілер, М. Карамзін, Т. Нарбут, А. Кіркор мяркуюць, што яна ўзнікла ад імя вярхоўнага жраца балтаў Крыве-Крывейтэ. Беларускі археолаг Г.В. Штыгхаў лічыць, што назва "крывічы" ўзнікла ад імя старэйшыны балцкага роду Крыве. Ён жа не выключае этымалогію тэрміна ад слоў, абазначаючых блізкіх па крыві ***(рус. - кровные, бел. - крэўныя).*** Вядомы рускі гісторык С.М. Салаўёў лічыць, што назва "крывічы" звя-

зана з характарам мясцовасці, якую яны займалі, і выводзіць назву ад балцкага (літоўскага) слова kirba , што азначае топ, трасіну.

Але аўтары ўсіх гэтых гіпотэз, меркаванняў дапускаюць шэраг недакладнасцей. Назвы вярхоўнага Бога Крыве-Крывейтэ, як паказвае больш дакладнае вывучэнне персанажаў літоўскай паганскай міфалогіі, няма. Гэта датычыць таксама і імя вярхоўнага жраца балтаў. Гісторыі вядома імя святара Крыве, які жыў у XIV ст, калі крывічоў ужо, як этнічнай супольнасці, не было.

Спрэчнай з'яўляецца таксама гіпотэза аб паходжанні крывічоў ад імя старэйшыны роду Крыве. Аб гэтым няма сведчанняў у пісьмовых крыніцах. Як і папярэднія гіпотэзы, яна, напэўна, узнікла на аснове біблейскіх сказанняў, якімі шырока карысталіся старажытныя летапісцы, а ўслед за імі і гісторыкі. Некрытычны падыход да іх і прывёў да ўзнікнення гэтых гіпотэз.

Цяжка пагадзіцца з паходжаннем назвы «крывічы» ад слоў, якія абазначаюць кроўную роднасць. Такія адносіны ў старажытнасці характэрныя былі для параўнальна невялікіх груп людзей, — родаў. Іх часцей за ўсё называлі імёнамі жывёл і птушак. Таму неверагодна, што ўяўленні аб кроўнай роднасці распаўсюджваліся на такую вялікую этнічную супольнасць, як крывічы, тэрыторыя якіх ахоплівала ўшырыню амаль тысячу кіламетраў.

У міжрэччы Буга і Нёмана пагранічная тэрыторыя паміж усходнеславянскімі плямёнамі, заходнімі славянамі і балтамі была заселена змешаным у этнічных адносінах складам насельніцтва пры колькаснай перавазе прадстаўнікоў таго ці іншага этнасу ў асобных раёнах. У Пінскім Палессі да X ст. пераважалі дрыгавічы, у Берасцейскім Пабужжы - валыняне, у Панямонні (на правабярэжжы) - яцвягі. Такім чынам, можна сцвярджаць, што тут усходнеславянскія плямёны дрыгавічоў, валынян, крывічоў суседнічалі і суіснавалі з усходнебалцкімі (літоўскімі), заходнебалцкімі (яцвяжскімі), заходнеславянскімі (мазавецкімі) плямёнамі.

Як жа складваліся ўзаемаадносіны паміж мясцовымі абарыгенамі-балтамі і нетутэйшым славянскім насельніцтвам? Гэтае пытанне яшчэ дасканала не высветлена. Адны даследчыкі сцвярджаюць, што яны ў асноўным былі мірнымі і славянскае засяленне нібыта працякала ў выглядзе павольнай мірнай інфільтрацыі сла-

вян на пустуючыя ўчасткі ўладанняў балтаў. Але з гэтым цяжка пагадзіцца. Устаноўлена, што на рубяжы VII—VIII стст. большасць умацаванняў балцкага насельніцтва банцараўска-тушэмлянскай культуры загінула ў выніку пажараў. Супраціўленне балтаў новым прышэльцам і прывяло да гібелі іх умацаванняў. Славяне ішлі на Беларусь з розных бакоў і балтам не было куды ўцякаць. Хоць, вядома, нельга і поўнасцю адмаўляць перамяшчэнне іх у паасобных месцах. Магчыма, што ў Волга-Окскае міжрэчча балты праніклі ў выніку славянскага націску з поўдня і з захаду. Толькі пасля ўжо, калі было зламана супраціўленне балтаў, і, калі яны былі з усіх бакоў акружаны славянамі, маглі ўстанавіцца больш-менш мірныя адносіны паміж прышэльцамі і мясцовымі жыхарамі.

Трэба заўважыць, што спробы шэрагу даследчыкаў устанавіць пэўныя межы паміж балцкім і славянскім насельніцтвам у той ці іншы час з'яўляюцца марнымі. Нельга ўяўляць славянскую асіміляцыю балтаў прамалінейнымі працэсамі. У літаратуры зусім слушна ўказваецца, што "асімілёўвалі не толькі славяне балтаў, але і ў шэрагу выпадкаў славяне былі асіміляваны балтамі". Толькі у канчатковым выніку перамагла славянская стыхія. Гэты працэс працягваўся доўга і нават тады, калі фарміравалася беларуская нацыя.

Як падкрэслівалася, рассяленне ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі практычна супала па часе з разлажэннем першабытнага грамадства і развіццём на беларускіх землях пераважна феадальных адносін, звязаных непасрэдна з раннім сярэднявеччам. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што ў крывічоў-палачан, радзімічаў і дрыгавічоў ужо ў VI—VIII стст. былі свае "княжанні", склаўшыяся на аснове этнічных супольнасцей. Гэта былі даволі ўстойлівыя этнаграфічныя аб'яднанні, якія ўтварыліся стыхійна. На думку Г.В.Штыхава, яны ўяўлялі сабой не плямёны, як у раннім жалезным веку, а саюзы плямён, склаўшыяся протанароднасці ("народцы") і адначасова дзяржаўныя ўтварэнні ці прота - дзяржавы. "Княжанні" складаліся з валасцей-княстваў, былых радавых абшчын. У кожнай воласці-княстве меліся свае веча і свае князі з дружынамі. Заканадаўчая ўлада ў воласці належала веча - народнаму сходу. Яно збіралася ў галоўным горадзе воласці. Веча выбірала князя і адмаўляла яму ў даверы, калі ён парушаў пастаўленыя ўмовы, абвяшчала

вайну і заключала мір з суседзямі. На веча назначаліся "ўраднікі" на свабодныя пасады, прымаліся пастановы, рэгулюючыя гаспадарчыя і грамадска-прававыя адносіны ў межах воласці.

Валасныя князі, як правіла, рэкрутаваліся з былых радавых старэйшын. Яны ажыццяўлялі выканаўчую ўладу ў воласці. Разам з дружынаю яны абаранялі тэрыторыю воласці ад знешніх ворагаў, ахоўвалі гандлёвыя шляхі і купецкія караваны, якія праходзілі праз тэрыторыю воласці, ажыццяўлялі ваенныя паходы ў суседнія землі, чынілі суд і расправу над сваімі супляменнікамі.

Племянныя князі выбіраліся з ліку валасных па праву старшынства, па маральных якасцях, ваенных здольнасцях. Акрамя прадстаўнікоў мясцовай фармацыі мелі месца прызванні на княжацкі пасад і прышлых людзей. Яны вербаваліся з нармана-варажскіх элементаў, якія часта праходзілі праз беларускія землі з поўначы на поўдзень. Як вербаваўся ў князі прышлы элемент сведчыць летапіснае паданне аб прызванні ў Наўгародскую зямлю Рурыка з сям'ёю і скарбам. У некаторых жа мясцовасцях варагі бралі ўладу ў свае рукі і сілай зброі, прымушаючы падначаленае насельніцтва плаціць ім даніну. Прадэманструем гэтую акалічнасць на прыкладзе Полацкай зямлі, якая аб'ядноўвала суседнія воласці-княствы і цэнтрам якой быў г. Полацк. Княжылі тут князі мясцовай дынастыі недзе з VI ст, аб чым сведчыць адна са скандынаўскіх сагаў. На жаль, нельга назваць іх імёны, таму што яны не ўпамінаюцца ў пісьмовых крыніцах. Першым, з вядомых па летапісе князёў, быў Рагвалод, які княжыў у апошняй чвэрці X ст, а з'явіўся на Полаччыне, як гаворыць "Аповесць мінулых гадоў", дзякуючы прызванню на княжацкі пасад у Ноўгарадзе Рурыка. Уладкаваўшыся, Рурык пачаў раздаваць гарады мужам сваім, у тым ліку і Полацк. Але нельга адвяргаць і меркаванне аб тым, што Рагвалод быў патомкам мясцовай княжацкай дынастыі. Тое ж самае можна сказаць і адносна першага летапіснага князя дрыгавічоў - Тура, радзімічаў - Радзіма.

Полацкія крывічы плацілі даніну варагам. У 862 г. крывічы разам з другімі плямёнамі прагналі варагаў за мора, адкуль яны прыйшлі. Аднак потым, як паведамляе летапіс, чудзь, наўгародскія славяне і крывічы заклікалі да сябе варажскіх князёў. У час паходу князя Алега (907 г.) і Ігара (944 г.) супраць грэкаў прымалі ўдзел і

крывічы. А ў канцы X ст. на аснове племяннога княжання крывічоў склалася буйное Полацкае княства - самастойная дзяржава на тэрыторыі паўночнай Беларусі.

Галоўным заняткам усходніх славян было земляробства. Асноўнымі прыладамі для апрацоўкі зямлі былі саха і рала. Жалезныя нарогі для рала, знойдзеныя на паселішчы каля Хатомеля, адносяцца да VII—VIII стст. На тэрыторыі Беларусі часцей ужывалася саха, з дапамогай якой верхні пласт зямлі ўзрыхляўся, але не пераварочваўся, як плугам.

Ацэньваючы ролю сельскай гаспадаркі ў жыцці продкаў беларусаў, можна гаварыць аб поспехах раёнаў лясной паласы ў развіцці папаранага земляробства, аб дасягненнях у асваенні двухпольнай і трохпольнай яго сістэм. Падсека паступова выцяснялася, але паколькі стараворныя глебы былі мала ўрадлівымі і патрабавалі ўгнаення, яна яшчэ доўгі час была неабходнай сістэмай земляробства.

Асноўнымі сельскагаспадарчымі культурамі ў той час на тэрыторыі Беларусі былі жыта, проса, пшаніца, ячмень, лён. Усходнім славянам былі вядомы таксама бабы, гарох, сачавіца і асабліва рэпа. Важную ролю ў гаспадарцы земляроба займала жывёлагадоўля. Усходнія славяне разводзілі буйную і дробную рагатую жывёлу, свіней, а таксама коней. Распаўсюджаны былі лясныя і рачныя промыслы. Палявалі на лася, зубра, бабра, ваўка, дзіка, зайца, мядзведзя, на розных птушак. Мела значэнне лясное пчалярства. Прадукт бортніцтва - воск побач з футрай і мёдам складаў вельмі істотную частку вывазу пры гандлі з іншымі краінамі.

У весцы існавалі свае рамеснікі, якія забяспечвалі патрэбнасці сельскага насельніцтва ў некаторых вырабах. Занятак рамяством для вясковых майстроў меў падсобнае значэнне. Сяляне самі шылі адзенне і абутак, рабілі прадметы побыту, посуд, будавалі жыллё.

Рэлігіяй славян было язычніцтва з сістэмай мнагабожжа. Яны абогатваралі навакольную прыроду - сонца і месяц, камяні і горы, рэкі і азёры, дрэвы і розныя расліны. Іх "духам" прыносілі ахвяры. Паступова складалася ўяўленне аб бажаствах, якія ўвасаблялі сабой стыхійныя з'явы прыроды. Богі ўяўляліся ў выглядзе людзей. Сварог - бог неба, Ярыла, Дажбог, Велес - сонечныя бажаствы, Пярун - бог грому і маланкі.

Старажытныя светапогляды праяўляліся ў святкаванні Дзядоў, Радаўніцы. Абрадамі каляндарнага цыкла было гуканне вясны, пахаванне "стралы" (зброі Пяруна), Купалле, Каляды. У купальскую ноч (7 ліпеня) на берагах рэк шугала полымя вогнішчаў, хлопцы і дзяўчаты вадзілі вакол іх карагоды, скакалі, спявалі абрадавыя песні. На досвітку дзяўчаты кідалі ў ваду вянкі. У магічных уяўленнях старажытных людзей знаходзяцца вытокі валачобных песень, своеасаблівай каляндарнай паэзіі.

Паводле язычніцкіх вераванняў агонь быў свяшчэннай ачышчальнай сілай. Яму аддавалі цела памёршага разам з рэчамі, якімі ён раней карыстаўся. Лічылася, што ўпрыгажэнні, прылады працы, зброя спатрэбяцца нябожчыку ў замагільным жыцці. Памёршага любога ўзросту па традыцыі адносілі да ліку "дзядоў", продкаў. Насельніцтва, асабліва ў вёсцы, у XI-XIП стст. працягвала хаваць нябожчыкаў пад курганамі, але ў хуткім часе пасля прыняцця хрысціянства з канца X ст. іх больш не спальвалі.

Язычніцкімі культавымі збудаваннямі былі капішчы (свяцілішчы), дзе адбываліся старажытныя абрады. Паводле падання каля Полацка на беразе Валовага возера знаходзілася капішча Пяруна. Рэшткі свяцілішча сельскай абшчыны X ст. адкрыты каля в.Ходасавічы Рагачоўскага раёна. Тут стаяў драўляны ідал, вакол якога ў час святкаванняў распальваліся вогнішчы.

Фарміраванне племянных "княжанняў" ва ўсходніх славян праходзіла адначасова з працэсам утварэння дзяржавы з цэнтрам у г. Кіеве. Яно было выклікана тым, што славянскія плямёны пасяліліся побач з ваяўнічымі суседзямі - варагамі і хазарамі, якія прымусілі іх плаціць дань. Каб супрацьстаяць агрэсіўным памкненням суседзяў, яны вымушаны былі аб'ядноўвацца. Летапісы сведчаць, што ўжо ў пачатку IX ст. існавалі два саюзы ўсходнеславянскіх плямён: паўночны - з цэнтрам у Ноўгарадзе і паўднёвы - з цэнтрам у Кіеве. Пазней гэтыя саюзы аб'ядналіся і ўтварылі адну дзяржаву - Кіеўскую Русь.

Калі ж і пры якіх абставінах беларускія землі ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі? Адказаць на гэтае пытанне складана, бо пісьмовых сведчанняў аб гэтым вельмі мала. Полацкая зямля, як вынікае з "Аповесці мінулых гадоў", была далучана да ўладанняў наўгародскіх князёў яшчэ да аб'яднання паўночных усходнеславянскіх

зямель з паўднёвымі. Магчыма ў гэты ж час да наўгародскіх уладанняў былі далучаны землі дрыгавічоў. На гэта ўказвае С.Салаўёў, аналізуючы Іакімаўскі летапіс. Там ёсць указанне на тое, што дрыгавічы разам з крывічамі ўдзельнічалі ў "прызванні" нарманскіх князёў у Ноўгарадзе. Аднак у 867 г. кіеўскія князі Аскольд і Дзір ажыццявілі паход у землі палачан і далучылі іх да сваіх уладанняў. У Ніканаўскім летапісе аб гэтым гаворыцца: "Ваявалі Аскольд і Дзір палачанаў і многа зла натварылі". Напэўна разам з Полацкай зямлёй да Кіева былі далучаны і землі дрыгавічоў, бо яны ляжалі на шляху ад Кіева на Полацк.

Праўда, Аскольд і Дзір прасядзелі ў Кіеве нядоўга. У 882 г., як сведчаць летапісы, сваяк наўгародскага князя Рурыка Алег (879-912 г.) пайшоў з вялікім войскам на Кіеў і заняў яго. Аскольд і Дзір былі забіты. Зрабіўшы Кіеў сваёй сталіцай, Алег пачаў канцэнтраваць вакол яго ўсе ўсходнеславянскія племянныя "княжанні". У ліку падданых кіеўскаму князю часоў Алега Іпац'еўскі летапіс называе і крывічоў. Аб падпарадкаванні Кіеву непасрэдна Полацкай зямлі і зямель дрыгавічоў прамых звестак у летапісах няма, але гэтыя землі ўпамінаюцца там у сувязі з паходамі Алега на Візантыю ў 907-911 гг. Праўда, як лічаць многія даследчыкі, яны былі не ў падпарадкаванні Кіева, а яго саюзнікамі.

Пры Алегу ў склад Русі былі ўключаны і землі радзімічаў. У 885 г. ён ажыццявіў паход у зямлю радзімічаў і прымусіў іх плаціць дань кіеўскім князям.

Пазней другіх у склад Кіеўскай Русі ўвайшлі землі Панямоння і Берасцейскага Пабужжа. Вядома, што каля 980 г. заходняя граніца Кіеўскай Русі праходзіла па лініі Ізборск - Ізяслаў (Заслаўль) - Пінск.

Першыя звесткі аб ваенных паходах кіеўскіх князёў на яцвягаў адносяцца да 983 г. На рубяжы X-XI стст. пачынаецца інтэнсіўная славянізацыя яцвяжскага краю. Яна прадаўжалася і ў XII-XIII стст. На асвоеных у гэты час славянамі яцвяжскіх землях пачалі будавацца апорныя пункты кіеўскіх князёў - гарады. Ужо ў першай палове XI ст. былі заснаваны Бярэсце (сучасны Брэст), Гародня (сучаснае Гродна), Ваўкавыск, Навагрудак, Драгічын, Турыйск, Слонім і інш. У канцы XI - пачатку XII ст. усё Брэсцкае Пабужжа і Панямонне становяцца састаўной часткай Кіеўскай Русі.

ЛЕКЦЫЯ 3

## ВЁСКА І ЯЕ ГАСПАДАРКА Ў ІХ-ХІІІ стст.

- ***Сялянскі быт і сацыяльныя адносіны.***
- ***Стан сельскай гаспадаркі.***

### Сялянскі быт і сацыяльныя адносіны

У ІХ-ХІІІ стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі ўсходнеславянскія (крывічы, дрыгавічы, радзімічы) і роднасныя ім па паходжанню з адзінай індаеўрапейскай асновай балцкія (літва, яцвягі, дайнова) плямёны. Лінгвісты даказваюць, што з распадам індаеўрапейскай супольнасці з яе спачатку выдзелілася балта-славянская групоўка, якая потым распалася на 2 галіны. Так гістарычна склалася, што балты першымі асвоілі беларускія землі, асіміляваўшы сваіх папярэднікаў-даіндаеўрапейцаў і фіна-угорцаў Віцебшчыны, і былі тут гаспадарамі на працягу III—II тысячагоддзяў да н. э. — VI-VIII стст. н.э., а на захадзе Беларусі і пазней. К моманту прыходу славян яны знаходзіліся на апошняй стадыі першабытнасці. Разлажэнне родаплемянных адносін у славян ішло больш імкліва, чым у балтаў.

З VI-VII стст. славянскія плямёны, якія на 2-4 стагоддзі апярэджвалі балтаў у развіцці, пачалі каланізацыю сучаснай Беларусі. На Гродзеншчыну яны прыйшлі ў Х-ХІ стст. Частка балтаў была адціснута на паўночны захад, але асноўная маса засталася на ранейшых месцах. Славяне засноўваюць гарады. Балты жывуць у вёсках, спавядаюць паганства і размаўляюць мовай блізкай да славянскай. Як лічаць В. Пануцэвіч, П. Урбан і інш., мова старажытнай літвы наогул належала да сям'і славянскіх моў, што знаходзіць пацвярджэнне і ў крыніцах. У Цвярскім летапісе, напрыклад, літва пералічваецца ў ліку славянскіх плямёнаў: ***"...а от Ляхов прозвашася Поляне, Ляхове же друзіи Лютици, а иніи Литва, иніи Мозавшене, иніи Поморане".***

Трывалай, стабільнай этнічнай мяжы паміж славянамі і балтамі не было. Кожны з іх жыў сваім кампактным этнічным масівам, паміж якімі мелася вялікая кантактная зона, у якой этнасы жылі "чересполосно" ці адзін пры другім. Узаемаадносіны славян і балтаў у гэтай зоне насілі цесны міралюбівы характар. Сведчаннем

таму з'яўляецца захаванне славянамі балцкай гідраніміі (назваў рэк і азёр) і шырокае распаўсюджванне змяшаных шлюбаў.

Адбываецца этнічная інтэграцыя русі (усходнеславянскіх плямёнаў) з літвой і астатнімі балтамі, у выніку чаго ідзе сціранне этнічнай мяжы паміж этнасамі, у якім перамогу (найперш этнакультурную) атрымлівае носьбіт больш высокай культуры. Ідзе асіміляцыя балтаў славянамі. Чым далей на паўночны захад, тым менш адчувальны быў гэты працэс. Жамойты захавалі сваю балцкасць. Славянізацыя балтаў у гэтай кантактнай зоне актыўна ішла да XII—XIII ст, але не была завершанай і працягвалася ў наступныя стагоддзі, набыўшы ўжо форму беларусізацыі.

З другога боку, славяне ўбіралі ў сябе элементы культуры і мовы балцкіх народаў. Існавалі передумовы, як адзначаюць этналінгвісты, каб на тэрыторыі сучасных Беларусі і Летувы сфарміраваўся адзіны славянскі этнас. Гэтыя перспектывы былі зусім рэальнымі да канца XIV ст, да каталіцкага хрышчэння Літвы.

Яшчэ доўгі час сярод славян-прышэльцаў заставаліся значныя астравы мясцовага насельніцтва, а польскія медыевісты Лаўмяньскі і Ахманьскі зафіксавалі акружаныя літоўскім насельніцтвам астравы сялян уздоўж усяго правага берага Нёмана ад Гродна да вусця Бярэзіны. Так, востраў старажытнага балцкага насельніцтва, папоўнены ў другой палове XIII ст. прусамі-перасяленцамі, захаваўшага да нядаўняга часу свой дыялект, меўся ў ваколіцах Дзятлава (Гродзенская вобл.).

Істотнай рысай развіцця ўсходніх славян і балтаў на тэрыторыі Беларусі быў зацяжны характар шматукладнасці іх грамадскай гаспадаркі. Тут у IX—XIII стст, а месцамі яшчэ пазней, ужываліся і перапляталіся тры асноўныя сацыяльна-эканамічныя ўклады: родаплемянны, рабаўладальніцкі і феадальны, які паступова станавіўся пануючым.

У гістарыяграфіі Беларусі ў пасляваенныя гады ўсталяваўся стэрэатып, паводле якога сацыяльна-эканамічныя адносіны ў IX—ХПІ стст. былі феадальнымі, а феадалізм як фармацыя пачаўся на Беларусі менавіта з IX ст. Гэты стэрэатып грунтоўна аспрэчваецца некаторымі гісторыкамі. Так, развіццё феадальных адносін у жыўшых на Беларусі балтаў пачалося пазней, чым у славян. У канцы XII - пачат-

ку XIII ст. яны толькі знаходзіліся на стадыі складвання раннефеадальнага грамадства. Відавочна, праблемы сацыяльна-эканамічнай гісторыі IX—XIII стст. яшчэ далёкія ад навуковай распрацаванасці.

Відаць, родаплемяннное грамадства на тэрыторыі Беларусі знаходзілася да VII ст. на стадыі ваеннай демакратыі. У ім ужо былі зародкі будучай сацыяльнай няроўнасці: грамадскі падзел працы, а таксама патрыярхальнае рабства ўзятых у палон іншапляменнікаў. Гэтыя зародкі атрымліваюць далейшае развіццё ў VII-X стст. ва ўмовах масавага рассялення славян сярод старажытных балцкіх і фіна-угорскіх плямёнаў. На тэрыторыі Беларусі знойдзена звыш 40 скарбаў таго часу, назапашаных багатай знаццю.

Дынаміка развіцця славян і балтаў была такая, што цяжка высветліць, калі канчаецца ваенная дэмакратыя і пачынаецца феадалізм. Утваралася шматукладнае грамадства, дзе феадальны ўклад паступова пераважаў над іншымі (родаплемянным і рабаўладальніцкім). Сацыяльная рознаўкладнасць - характэрная рыса многіх грамадстваў, якія ў сваім развіцці выйшлі за межы першабытнай абшчыны.

Існуюць сведчанні аб вялікай колькасці рабоў з краін Усходняй Еўропы, у тым ліку славянскіх, у IX—X стст. Але адсутнічаюць даныя аб значным выкарыстанні працы рабоў у сельскагаспадарчай вытворчасці. Праца рабоў тут, відавочна, не магла канкурыраваць з працоўнай дзейнасцю вольных земляробаў.

Асноўны пласт старажытнабеларускага грамадства складалі сяляне. Яны сяліліся ў невялікіх сёлах-"весях". Адміністрацыйным і рэлігійным цэнтрам некалькіх весяў было вялікае сяло-пагост. Жыллём служылі невялікія наземныя зрубы, радзей - паўзямлянкі. У кутку ля ўваходу размяшчалася нізкая глінабітная печ без трубы, якая тапілася "па-чорнаму".

Сялянская гаспадарка ("дым") вялася сям'ёй. Спачатку гэта была вялікая патрыярхальная сям'я, ці "дворышча", калі бацькі і іх жанатыя сыны сумесна вялі гаспадарку на зямлі. Вялікія сем'і месцамі захоўваліся на Беларусі на працягу некалькіх стагоддзяў феадальнай эпохі. У другой палове тысячагоддзя назіраецца працэс распадзення вялікіх сем'яў. Жанатыя сыны аддзяляюцца ад бацькоўскай гаспадаркі і ўтвараюць малыя сем'і, якія вядуць самастойную гаспадарку.

Для гаспадарчага жыцця вясковай сям'і быў характэрны натуральны ўклад. Сельскі жыхар сам задавальняў свае асноўныя патрэбы. Сяляне не толькі выраблялі ўсе неабходныя прадукты харчавання, але пралі і ткалі, шылі адзенне і абутак, будавалі жыллё і гаспадарчыя пабудовы, рабілі няхітрую мэблю, посуд і г.д. Разам з тым частку неабходных прылад працы, інструментаў, упрыгажэнні сяляне набывалі ў рамеснікаў і дробных гандляроў, абменьвалі іх на вырабленыя ў сваёй гаспадарцы прадукты харчавання.

**Земляробчае насельніцтва было арганізавана** ў **абшчыны ("верв", "грамада").** Яны складаліся з усіх сем'яў адной або некалькіх вёсак. Абшчына выконвала адміністрацыйныя і судовыя функцыі. Яна прыйшла на змену бацькоўскаму роду, які распадаўся. Абшчыннікі былі звязаны паміж сабой кругавой парукой (сумеснай адказнасцю) за злачынствы, учыненыя на яе тэрыторыі, калі злачынца невядомы, пакрывалі нанесеныя гаспадарцы ці рэчам ўладальніка страты, супольна адказвалі за выкананне дзяржаўных, а потым і панскіх павіннасцей. Паступова абшчына пападала пад "апеку" феадалаў, якія выкарыстоўвалі яе арганізацыю ва ўласных інтарэсах. Абшчына была ўладальніцай ворнай зямлі, на якую яшчэ не распаўсюдзілася ўласнасць феадала, лясоў і вадаёмаў. Агульнымі намаганнямі расчышчалі новыя плошчы пад раллю. На працягу многіх стагоддзяў эпохі феадалізму гаспадарка сялян вялася на землях, якія належалі сельскай абшчыне. У ёй спалучалася абшчыннае валоданне зямлёй з індывідуальным вядзеннем гаспадаркі. Ворныя землі былі ў карыстанні асобных двароў. Час ад часу абшчына рабіла іх перадзел. Сенажаці, лясы, вадаёмы былі ў сумесным карыстанні. Абшчына садзейнічала згуртаванню сялян у іх адносінах з феадаламі. Сяляне былі зацікаўлены ў яе захаванні. У пэўнай меры ў гэтым былі зацікаўлены і феадалы, якія выкарыстоўвалі кругавую паруку для стараннага выканання сялянамі панскіх павіннасцей.

### Стан сельскай гаспадаркі

Пануючы ў грамадстве клас феадалаў меў сваю іерархію. На яе вяршыні знаходзіўся князь, ніжэй - князі больш дробных удзельных княстваў-"вотчын", затым ішлі феадалы-ўладальнікі вялікіх і малых памесцяў. Становішча феадала залежала ад яго радавітасці і

колькасці зямлі, якой ён валодаў. Дробныя феадалы часта ішлі на службу да больш багатага, рабіліся яго васаламі і карысталіся яго заступніцтвам. Феадала абслугоўвала залежная ад яго чэлядзь. Ён меў сваіх целаахоўнікаў і збраяносцаў. Багатыя феадалы мелі ўласнае войска. Акрамя таго, яны атрымлівалі права імунітэту - права збору падаткаў і правядзення суда ў сваіх уладаннях. Аснову панавання і багацця класа феадалаў складала зямля. Вярхоўным уласнікам усёй зямлі лічыўся князь. Ён меў уладанні, раскінутыя па ўсяму княству. За карыстанне імі насельніцтва абавязана было плаціць князю даніну грашыма або натурай (прадуктамі, футрай і інш.). Абкладвалася кожная сялянская гаспадарка ("дым").

Крыніцы X-XIII стст. называюць наступныя віды феадальнага землеўладання: княжацкае, баярскае і царкоўнае. Феадальнае землеўладанне было вотчынным ці памесным. Вотчыннае землеўладанне давала феадалу права дзяліць і перадаваць па спадчыне сваё ўладанне. Памеснае - давала часовае карыстанне зямлёй за службу без права перадачы ў спадчыну. Феадалы харчаваліся за кошт сваіх вотчын, што ўключалі замак і сёлы, на якія распаўсюджвалася іх улада. Буйнымі феадальнымі ўласнікамі сталі цэрквы і манастыры. Яны багацелі за кошт паступлення ў іх распараджэнне царкоўнага падатку, які складаў 1/10 частку ўсіх даходаў сялянскіх гаспадарак (царкоўная дзесяціна), а таксама за кошт княжацкіх і баярскіх ахвяраванняў як у форме матэрыяльных каштоўнасцей, так і ў выглядзе ворных зямель з весямі, жыхары якіх вымушаны былі апрацоўваць манастырскія землі, плаціць феадальную рэнту. Землеўласнікамі былі таксама сялянская абшчына і асобныя сяляне. Уся эпоха феадалізму характарызуецца пастаянным імкненнем феадалаў да максімальнай канцэнтрацыі ў сваіх руках зямельнага фонду. Яны пастаянна пашыралі свае ўладанні і паступова сабралі ў сваіх руках лепшыя землі. Па меры развіцця феадальных адносін доля абшчыннага і сялянскага землеўладання пастаянна змяншалася.

Закабаленне свабоднага сялянства было абумоўлена ўсімі гістарычнымі абставінамі першых стагоддзяў феадальнай эпохі. Сялян даводзіла да галечы плата княжацкіх данін, частыя спусташальныя войны, галодныя і неўраджайныя гады, смерць кармільца, падзёж жывёлы. У перыяд войнаў сяляне абавязаны былі ісці ў апалчэнне,

а гэта падрывала іх гаспадарку. Збяднелыя сяляне траплялі ў феадальную залежнасць. Абшчынныя землі пераходзілі да феадалаў ці станавіліся ўласнасцю дзяржавы. З развіццём феадальнага ладу ўсё болей скарачалася і колькасць сялян, што жылі на дзяржаўных землях, паколькі гэтыя землі разам з людзьмі пераходзілі да свецкіх і царкоўных феадалаў.

Асноўную масу земляробчага насельніцтва складалі эканамічна залежныя ад багатых землеўласнікаў сяляне. Ва ўмовах развіцця феадальных адносін яго склад па маёмаснаму і прававому становішчу быў далёка не аднолькавы. У першыя стагоддзі феадальнай эпохі ўсё вясковае насельніцтва часцей за ўсё называлася смердамі. Першапачаткова смерды залежалі ад дзяржавы. З развіццём феадальных адносін яны трапляюць у залежнасць ад феадалаў і царкоўньгх арганізацый. **З'яўляюцца новыя катэгорыі феадальна залежных сялян: закупы, радовічы, ізгоі, халопы, чэлядзь.** Па розных прычынах сяляне вымушаны былі звяртацца за эканамічнай дапамогай да багатых, атрымлівалі ад іх пазыку-"купу" і былі абавязаны адпрацаваць на гаспадарцы пана да выплаты доўгу. Многія закупы не маглі вярнуць пазыку і рабіліся неаплатнымі даўжнікамі. Групу, звязаных з феадалам абавязацельствамі паводле дагавора ("рада") сялян, складалі радовічы, што па розных прычынах вымушаны былі пакідаць абшчынныя землі і сяліліся на зямлі феадала, рабіліся "ізгоямі".

Халопы і рабы былі асабіста несвабоднымі людзьмі і знаходзіліся ў поўнай уласнасці феадала. Частка халопаў працавала ў яго ў якасці хатніх і дваровьгх слуг. За рэдкім выключэннем яны не мелі асабістай гаспадаркі і знаходзіліся на ўтрыманні паноў. Да залежных ад феадалаў людзей адносілася чэлядзь. Рабоў называлі "чэляддзю нявольнай". Усіх залежньгх ад феадала людзей пачалі падзяляць на "непахожых" і "пахожых". Першыя доўга жылі на адным месцы і страцілі магчымасць пакінуць пана. Другія яшчэ не былі поўнасцю заняволены. Залежнае насельніцтва займала самае прыніжанае становішча на сацыяльнай лесвіцы. Іх жыццё цанілася ў 16 разоў танней за жыццё кіраўнікоў княжацкіх маёнткаў - "агнішчан" і "цівуноў".

Сяляне, што жылі на княжацкіх і царкоўных землях, абавязаны былі выконваць розныя павіннасці і плаціць падаткі. Яны адпрацоўвалі паншчыну на раллі феадала, плацілі чынш натурай (мёдам,

ільном, печаным хлебам, аўсом, жытам, авечкамі, курамі і г. д.) ці грашыма. Грашовая рэнта была рэдкай з'явай, што тлумачыцца натуральным характарам гаспадаркі. З часам доля паншчыны ўсё больш узрастае ў параўнанні з чыншам.

**Насельніцтва павінна было несці і розныя павіннасці на карысць дзяржавы:** плаціла даніну, "палюддзе" (дадатковы пабор, які браўся пры зборы даніны), выконвала "павоз" - працоўную павіннасць, звязаную з дастаўкай даніны ў пэўныя месцы, давала падводы. Сяляне абавязаны былі таксама выконваць ваенную павіннасць - выстаўляць "вояў". Яны прыцягваліся да будаўніцтва гарадоў, абарончых ліній, мастоў, да пракладкі дарог.

Аснову эканомікі Беларусі ў старажытнасці складала сельская гаспадарка. Пераважная большасць насельніцтва як балтаў, так і славян пражывала ў вёсцы і займалася земляробчай працай. Земляробства на беларускіх землях было вядома яшчэ з неаліту. Яго прынеслі сюды ў III—II тысячагоддзі да н. э. Ыдаеўрапейскія плямёны. Для развіцця земляробства неабходны адпаведны клімат і глеба. Усё гэта было ў Беларусі. Вучоныя лічаць, што ў цэнтральнай Еўропе клімат, пачынаючы з першых вякоў н. э., быў блізкім да сучаснага. За апошнія 800-900 гадоў у ім не было рэзкіх змен, назіраліся толькі асобныя яго хістанні. Умерана-кантынентальны клімат Беларусі з цёплай зімой і адносна халодным і даждлівым летам - у цэлым спрыяльны для развіцця расліннасці. Прыдатныя для заняткаў **земляробствам** тут і глебы, якія за апошнія 800-900 гадоў таксама карэнным чынам не змяніліся.

Пры падрыхтоўцы зямлі да апрацоўкі старажытныя земляробы павінны былі ўкласці ў гэта дадатковую працу. Спачатку асвойваліся ўрадлівыя землі з прыдатнымі для земляробства глебамі. А потым пачалі распрацоўваць лясныя ўчасткі. Павелічэнне апрацаваных плошчаў у X—XIII стст. ішло за кошт высечкі лясоў і скарачэння плошчаў, занятых лесам. Пры гэтым незаменнай была жалезная сякера. Для апрацоўкі зямлі ў X—XIII стст. ужываліся драўлянае рала з жалезным наральнікам (папярэднік плуга), двухзубая драўляная саха з жалезным парогам, а таксама барана-сукаватка, жалезная матыка, суцэльна драўляная ці з жалезнымі акоўкамі рыдлёўка, граблі. Як цяглавую сілу выкарыстоўвалі коней і валоў.

Прылады для апрацоўкі зямлі, якія ўжываліся ў Беларусі ў X—XIII стст., адпавядалі агульнаму ўзроўню земляробчай тэхнікі ў лясной паласе Усходняй Еўропы. Яны выкарыстоўваліся і ў наступныя стагоддзі.

Узараную зямлю засейвалі ўручную, потым зерне засыпалі з дапамогай драўлянай бараны. Самым распаўсюджаным, а пачынаючы з сярэдневякоўя і адзінай прыладай для ўборкі ўраджаю, быў серп. Удасканальванне сярпа адбывалася на працягу тысячагоддзяў. У IX—XIII стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіліся сярпы, формы якіх амаль не змяніліся да XIX—XX стст. Сярпы IX—XIII стст. вельмі падобны па форме на тыя, што ўжываюцца і цяпер. Старажытныя сярпы мелі насечку, што аблягчала зрэзванне сцяблоў раслін. Сенажаці касілі касамі-гарбушамі. Іх насаджвалі на кароткую драўляную ручку і рухам управа і ўлева зразалі траву. Такія косы маглі ўжывацца і пры ўборцы ўраджаю вікі, гароха, грачыхі. Пасля гарбушы былі выцеснены больш дасканалымі касамі. Прасушаныя снапы малацілі на таку драўлянымі цапамі ці калатушкамі, веялі пры дапамозе драўляных рыдлёвак, а потым захоўвалі ў спецыяльных ямах ці свірнах.

У драўляных ступах размалочвалі зерне на крупу ці ў круглых каменных жорнах рабілі з яго муку. З канапель і лёну з дапамогай прэсаў выціскалі алей. Для таго часу гэта быў высокі ўзровень развіцця пераапрацоўчай тэхнікі.

Пра тое, якія культуры вырошчвалі нашы продкі, расказваюць знаходкі зярнят. Яны захоўваюцца не ўсюды, а толькі там, дзе шчыльны і вільготны культурны слой. Добра захоўваецца зерне таксама і ў абвугленым стане, г.зн. калі яго знаходзяць на месцы пажарышчаў.

Асноўнай зерневай культурай было жыта. Сваім паходжаннем яно абавязана пшаніцы, якая па марозастойкасці не магла канкураваць з жытам. Спачатку жыта было пустазеллем і суправаджала пасевы пшаніцы. Па меры прасоўвання пшаніцы на поўнач яна не вытрымлівала холаду, а жыта, хаця і паходзіць з паўднёвых шырот, аказалася больш устойлівае да капрызаў надвор'я. Селянін практычна пераканаўся ў перавазе гэтай культуры.

Найбольш старажытныя знаходкі зярнят жыта ў Беларусі дату-

юцца IX ст. У слаях X ст. — іх няшмат. А з XI ст. яно пачынае пераважаць над іншымі культурамі. Жыта было асноўнай харчовай культурай і ў Панямонні. У слаях XII—XIII стст. у Гродне і Ваўкавыску з усіх знойдзеных зярнят зярняты жыта складаюць 96—98%.

Вырошчваліся ў гэты час у Беларусі таксама пшаніца, ячмень, авёс, проса, каноплі, гарох, бабы. Авёс ужываўся, відаць, як харчовая культура, а для фуражных мэт тады яго яшчэ не выкарыстоўвалі.

Раней лічылі, што грэчку завезлі ў Еўропу арабы ў XV ст. Археалагічныя знаходкі сведчаць, што з грэчкай земляробчае насельніцтва Беларусі было знаёма яшчэ ў XI ст. У X—XIII стст. яна была ўжо добра вядома ў Панямонні.

У X—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі вырошчваліся ўсе вядомыя ў наш час харчовыя культуры, за выключэннем тых, якія былі завезены ў Еўропу ў болып позні час з Амерыкі, - бульбы і таматаў.

Асноўнай сістэмай земляробства на тэрыторыі Беларусі ў XI—XIII стст. была папарная з выкарыстаннем двух- і трохполля. Разам з ёй ужываліся пералог і падсека, якія працягвалі існаваць у асобных раёнах Беларусі да XIX - пачатку XX ст. Зямля ўгнойвалася. Ураджайнасць вагалася прыкладна ад сам-3 да сам-5. Ураджай сам-2,5-3 лічыўся сярэднім, а сам-3,5 - высокім. У XI—XIII стст. земляробства, з'яўляючыся асноўным заняткам насельніцтва Беларусі, дасягнула высокага ўзроўню развіцця.

Нашы продкі займаліся таксама агародніцтвам і садоўніцтвам.

Неаддзельнай ад земляробства была другая вядучая галіна сельскай гаспадаркі — жывёлагадоўля. Асноўнай крыніцай, што дазваляе вызначыць ролю жывёлагадоўлі, як і палявання, з'яўляюцца астэалагічныя матэрыялы. Яны сведчаць, што на тэрыторыі Беларусі разводзілі буйную рагатую жывёлу, свіней, коней, авечак і коз, з птушак — кур, гусей, качак. Практычна ўсе вядомыя віды хатніх жывёл меліся ў гаспадарцы сялян і феадалаў.

Дадатковым заняткам у гаспадарцы было паляванне. Нашы далёкія продкі палявалі на зубра, лася, высакароднага аленя, дзіка, казулю, мядзведзя, баброў, ваўкоў, зайцоў, вавёрак, на дзікіх птушак (гуся, лебедзя, цецерука).

Паляўнічы промысел у значнай меры задавальняў патрэбы на-

сельніцтва не столькі ў ежы, колькі ў адзенні, абутку, якія вырабляліся са скур і футра не толькі хатніх, але і дзікіх жывёл. Акрамя таго, пушнінай збіралася даніна, падаткі.

Важным падсобным промыслам побач з паляваннем з'яўлялася рыбная лоўля. У харчовым рацыёне таго часу рыба займала значнае месца. Прыняцце хрысціянства з яго сістэмай пастоў і посных дзён зацвердзіла рыбу як адзін з кампанентаў поснай ежы. Акрамя звычайных спосабаў лоўлі кручком, невадам, брэднем у перыяд масавай лоўлі, пры нарыхтоўцы рыбы пра запас на рэках рабіліся спецыяльныя збудаванні. У летне-асенні час рабіліся запасы рыбы, неабходнай на зіму і вясну.У гэтым важную ролю адыгрывалі і рэкі, працякаючыя праз тэрыторыю Беларусі.

Вялікае значэнне ў жыцці мела бортніцтва - збор мёду дзікіх лясных пчол. Паляўнічыя за мёдам выбіралі яго з дуплаў дрэў, а потым самі сталі рабіць штучныя дуплы-борці. Борць выдзёўблівалася з цэльнага кавалка і "манціравалася" на здаровым дрэве як мага вышэй. Ствараліся цэлыя бортныя ўгоддзі. Уладальніка борцей і збіральніка мёду звалі бортнікам. Праца яго была нялёгкай: трэба было падняцца па зусім гладкаму ствалу на 20-метровую вышыню, раскрыць борць і, падрэзаўшы цяжкія соты, скласці іх у берасцяное вядро. І ўсе гэта пад атакай раз'юшаных пчол.

Нашы продкі займаліся таксама збіральніцтвам лясных арэхаў, жалудоў, дзікіх пладоў, лясных яблык.

Жанчыны ў вёсцы таксама, як і ў горадзе, займаліся прадзівам і ткацтвам. Характар хатняга промыслу мелі апрацоўка розных скур і пашыў вопраткі.

У гаспадарчай дзейнасці вясковага насельніцтва Беларусі да IX—X стст. пэўную ролю адыгрывалі апрацоўка балотнай руды і атрыманне з яе железа, выраб глінянага посуду, ювелірная справа. Але ў сувязі з развіццём вытворчых сіл у X—XIV стст. на тэрыторыі Беларусі з сельскай гаспадаркі вылучаюцца самастойныя галіны рамёстваў. Адбываецца выдзяленне рамеснікаў-прафесіяналаў на вёсцы. Працэс аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі ўзмацняецца к XII ст., да якога адносіцца ўзнікненне большасці гарадоў у Беларусі. XI—XIII стст. характарызуюцца развіццём гарадской рамеснай вытворчасці.

ЛЕКЦЫЯ 4

## УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ ГАРАДОЎ

- ***Прычыны і шляхі ўзнікнення гарадоў у IX—XIII стст.***
- ***Знешні выгляд старажытнага беларускага горада, насельніцтва.***
- ***Размяшчэнне і характарыстыка асобных гарадоў.***
- ***Развіццё рамяства.***
- ***Гандаль. Шляхі зносін.***

### Прычыны і шляхі ўзнікнення гарадоў у IX — XIII стст.

Узнікненне гарадоў на Беларусі - вынік працяглых эканамічных працэсаў, звязаных з грамадскім падзелам працы ва ўсходніх славян. Горад - гэта населены пункт, што гістарычна склаўся ўпершыню пры пераходзе ад першабытнага да класавага грамадства ў выніку аддзялення рамяства ад земляробства і з'яўлення дзяржавы. Гарады ўзнікалі паўсюль, дзе ў іх адчувалася эканамічная і ваенная патрэба, але менавіта там, дзе з асноўнай масы насельніцтва, занятага сельскай гаспадаркай, вылучаліся рамеснікі. Для з'яўлення горада ўрэшце рэшт неабходны дзве абставіны: гандлёва-транзітны шлях, што забяспечваў рамесніку бесперабойны збыт тавараў і наяўнасць умацаванага пункта, які гарантаваў яму бяспеку. Апошнім мог быць і замак феадала, і манастыр, і крэпасць.

Аднак калі эканамічныя прычыны ўзнікнення старажытных беларускіх гарадоў былі аднолькавымі, то канкрэтныя шляхі іх фарміравання былі рознымі. У гарадах развіваліся племянныя цэнтры крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, новыя гарады вырасталі вакол сядзіб феадалаў і князёў, іх умацаванага жылля-замка. Абрастаючы пасяленнямі рамеснікаў, феадальная сядзіба станавілася ядром горада. Відавочна, на месцы феадальных замкаў узніклі Ізяслаў, Барысаў, Ваўкавыск, Клецк, Свіслач і іншыя.

Шэраг беларускіх гарадоў узніклі першапачаткова як памежныя крэпасці (Браслаў, Гарадзея) ці ўнутраныя крэпасці асобных княстваў (Менск). Магчыма, некаторыя гарады ўзнікалі і на базе сельскіх пасяленняў шляхам паступовага павелічэння ў іх ролі рамяства. Рамеснікі сяліліся ля вялікіх водных магістралей (Орша, Копысь), ля волакаў і пераправаў (Усвяты, Друцк).

Для росту гарадоў важнае значэнне мела іх геаграфічнае размяшчэнне. Горад, заснаваны на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў, каля пераправы ці зручнага для прыстані вусця ракі, меў спрыяльныя ўмовы для свайго развіцця. Наяўнасць такіх умоў магло вызначыць узнікненне горада на тым ці іншым месцы.

Найбольш раннія сляды гарадскога жыцця, што датуюцца IX—X стст, выяўлены ў Полацку і Віцебску. Пра ўзнікненне беларускіх гарадоў мы даведваемся з летапісаў, якія змяшчаюць упамінанне пра іх у сувязі з рознымі палітычнымі ці рэлігійнымі падзеямі. З IX па XIII ст. пісьмовыя крыніцы называюць больш за 40 гарадоў на тэрыторыі Беларусі. Звесткі крыніц, зведзеныя ў табліцу, выглядаюць наступным чынам:

ПЕРШЫЯ ЛЕТАПІСНЫЯ ЗГАДКІ БЕЛАРУСКІХ ГАРАДОЎ

| Стагоддзе<br>Год | Назва горада<br>Сучасная | / летапісная | Сучасны статус |
|---|---|---|---|
| IX,<br>862 | Полацк | Полотеск<br>Полотьск | Райцэнтр |
| | Віцебск | Видебск<br>Витепеск | Абласны цэнтр |
| X, 974 | | Витьбеск | |
| 980 | Тураў | Туров | Гарадскі пасёлак Жыткавіцкага раёна |
| 980 | Заслаўе | Изяславль | Гарадскі пасёлак Мінскага раёна |
| XI, 1019 | Брэст | Берестье | Абласны цэнтр |
| 1021 | Усвяты | Всвят<br>Восвяч | Райцэнтр Пскоўскай вобласці, Расія |
| 1059 | Копысь | Копыс | Гарадскі пасёлак Аршанскага раёна |
| 1065 | Браслаў | Браслаў | Райцэнтр |
| 1067 | Мінск | Менск<br>Менеск | Сталіца |

| Стагоддзе Год | Назва горада Сучасная | / летапісная | Сучасны статус |
|---|---|---|---|
| 1067 | Орша | Рша,Рыша | Райцэнтр |
| 1071 | | Голотическ | Месцазнаходжанне невядома |
| 1078 | Лагойск | Логожск<br>Логожеск | Райцэнтр |
| 1078 | Лукомль | Лукомль | Цэнтр сельсавета Чашніцкага раёна |
| 1078 | Друцк | Дрютеск | Сяло Талачынскага раёна |
| 1078 | Орск, | Одреск | Месцазнаходжанне невядома |
| 1097 | Пінск | Пиньск<br>Пинеск | Райцэнтр |
| XII, 1102 | Барысаў | Борисов | Райцэнтр |
| 1116 | Слуцк | Случеск | Райцэнтр |
| 1127 | Гродна | Городно<br>Городен<br>Городень<br>Городня | Абласны цэнтр |
| 1127 | Клецк | Клеческ<br>Клечьск | Райцэнтр |
| 1127 | Стрэжаў | Стрежев<br>Стрешин | Гарадскі пасёлак Жлобінскага раёна |
| 1127 | | Неколоч | Месцазнаходжанне невядома |
| 1136 | Крычаў | Кречют | Райцэнтр |
| 1136 | Слаўгарад | Пропойск<br>Прупой<br>Пропошеск | Райцэнтр |
| 1136 | Лучын | Лучін | Сяло Рагачоўскага раёна |
| 1142 | Мсціслаў | Мстиславль | Райцэнтр |

| Стагоддзе<br>Год | Назва горада<br>Сучасная / летапісная | | Сучасны статус |
|---|---|---|---|
| 1142 | Гомель | Гомь<br>Гомий<br>Гомье | Абласны цэнтр |
| 1142 | Рагачоў | Рогачёв | Райцэнтр |
| 1147 | Брагін | Брягин | Райцэнтр |
| 1155 | Мазыр | Мозыр<br>Мозр | Райцэнтр |
| 1158 | Гарадок | Городок | Райцэнтр |
| 1159 | Чачэрск | Чичерск | Райцэнтр |
| 1162 | | Городец | Месцазнаходжанне невядома |
| XIII, 1213 | Рэчыца | Речица | Райцэнтр |
| 1223 | Нясвіж | Несвиж | Райцэнтр |
| 1252 | Навагрудак | Новогородок | Райцэнтр |
| 1252 | Слонім | Услоним,<br>Вослонім | Райцэнтр |
| 1252 | Ваўкавыск | Волковыеск<br>Волковыйск | Райцэнтр |
| 1252 | Здзітаў | Здитов | Сяло Бярозаўскага раёна |
| 1253 | Турыйск | Турийск | Сяло Шчучынскага раёна |
| 1267 | Магілёў | Могилев | Абласны цэнтр |
| 1276 | Камянец | Камянец | Райцэнтр |
| 1287 | Кобрын | Кобрынь | Райцэнтр |

Як відаць з табліцы, XI—XIII стст. - час значнай колькасці з'яўлення гарадоў на тэрыторыі Беларусі.

Пытанне аб першым упамінанні горада ў пісьмовай крыніцы

мае практычнае значэнне і нярэдка выклікае спрэчкі. Звычайна ад гэтых дат умоўна адлічваюць узрост горада, адзначаюць гадавіны. Аднак летапісная дата першай згадкі пра той ці іншы горад, як правіла, не азначае часу яго ўзнікнення. Толькі ў адзінкавых выпадках летапісцы паведамілі пра заснаванне беларускіх гарадоў: Барысава, Камянца, магчыма, Навагрудка. Археалагічныя даследаванні паказваюць, што большасць населеных пунктаў з'явілася задоўга да таго, як пра іх паведамілі летапісы.

Ёсць думка, што назвы шэрагу старажытных беларускіх гарадоў утвораны з дапамогай суфікса "ск" ("цк") ад рэк, на якіх яны ўзніклі: Віцебск - ад Віцьбы, Друцк - ад Друці, Пінск - Піны, Слуцк - Случы, Чачэрск - Чачэры, Турыйск - Тур'і, Брагін - Брагінкі, Кобрын - ад Кобрынкі, Менск - ад Менкі (Мені) і г.д. Асобныя назвы паходзяць ад асабістых імён князёў, якія заснавалі іх ці якім яны належалі: Браслаў, Барысаў, Ізяслаў, Тураў. З назвамі некаторых гарадоў звязаны тапанімічныя легенды.

## Знешні выгляд старажытнага беларускага горада, насельніцтва

Сярэдневяковаму гораду ўласцівы цэлы комплекс прыкмет. Ён быў цэнтрам рамяства і гандлю, адміністрацыйным, ваенным, культавым і культурным цэнтрам. Праўда, гэтыя прыкметы былі выяўлены ў поўнай меры толькі ў буйных гарадоў, у большасці ж - толькі некаторыя з іх. Абавязковай прыкметай была наяўнасць абарончага збудавання. Само слова "горад" паходзіць ад дзеяслова "гарадзіць", "агароджваць". Умацаваныя сядзібы ўсіх тыпаў нашы продкі называлі градамі, інакш кажучы - гарадамі. Горад IX-X стст. адрозніваўся ад вёскі сваімі ўмацаваннямі і тым, што ён быў адміністрацыйным цэнтрам, рэзідэнцыяй князя і іншай знаці. У XI-XII стст. у іх усё больш пасяляліся рамеснікі і купцы. Пры далейшым развіцці раннефеадальнага грамадства гарады сталі пераўтварацца ў цэнтры рамяства і гандлю. Весь (старажытнарускае слова, ад яго паходзіць беларускае "вёска") - пасяленне сельскагаспадарчага тыпу, дзе асноўным заняткам насельніцтва былі земляробства і жывёлагадоўля. Характэрнай рысай эканомікі старажытнага горада былі рамяство і гандаль. Аднак, нягледзячы

на переважную ролю гэтых заняткаў, сельскагаспадарчая вытворчасць яшчэ доўгі час мела вялікае значэнне для жыхароў буйнейшых гарадскіх цэнтраў: Полацка, Віцебска, Мінска, не гаворачы ўжо пра малыя гарады.

Жыхары пасадаў займаліся ворным земляробствам, агародніцтвам, жывёлагадоўляй, а таксама паляўніцтвам і рыбалоўствам.

Старажытныя беларускія гарады размясціліся ўздоўж рэк Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, Нёмана, Прыпяці. Яны звычайна ўзнікалі на ўзвышаных месцах, на сутоках рэк і атрымлівалі часцей назву па меншай рэчцы (прытоку).

Як і ва ўсёй лясной паласе Усходняй Еўропы, гарады тут будавалі цалкам з дрэва. Таму раней гаварылі не "пабудаваць", а "срубить" горад. З бярвенняў рубілі жылыя памяшканні, хлявы, знешнія ўмацаванні, масты, вежы і гарадскія сцены, імі масцілі вуліцы. Вуліцы былі вузкімі - каля 4 м у шырыню. Іх драўляны брук рэгулярна паднаўляўся. Асноўным тыпам пабудовы была драўляная хата з адным памяшканнем плошчай 16-25 кв.м.

Старажытны беларускі горад складаўся з некалькіх частак. Яго ядром з'яўляўся дзядзінец - унутраная крэпасць ці замак, звычайна размешчаны на ўзвышаным месцы і абнесены абарончымі збудаваннямі. Яны перашкаджалі гораду расці ў шырыню, таму вуліцы тут былі вузкімі, забудова - вельмі шчыльнай. У цэнтры дзядзінца звычайна ўзвышаўся храм. Храмы сталі першымі цаглянымі пабудовамі на Беларусі.

Вакол умацаванага цэнтра ўзнікаў пасад - пасяленні рамеснікаў і купцоў. Часта ён абгароджваўся другой лініяй умацаванняў, утвараючы так званы кружны горад. Разрастаючыся, пасад выходзіў за межы кружнага горада. У такіх выпадках ён часта абгароджваўся драўляным частаколам з завостраных уверсе бярвенняў, які ўтвараў трэцюю лінію ўмацаванняў.

Старажытны горад нельга ўявіць без умацаванняў. Яны былі яго абавязковай знешняй адзнакай і ўключалі магутны земляны вал вышынёй 8—10 м, драўляную сцяну на грэбені вала і крэпасныя вежы.

Некаторыя крэпасці абгароджваліся шырокім ровам, запоўненым вадой. Рэшткі валаў, вежаў і рвоў да нашых дзён часткова

захаваліся ў Полацку, Віцебску, Друцку, Гродне і іншых гарадах. У 80-ыя гады археолагі А.А. Трусаў і М.А. Ткачоў, адкрыўшы рэшткі абарончай сцяны на Замкавай гары ў Гродне, прыйшлі да вываду, што Гародня ў XII ст. мела ўнікальнейшы комплекс мураваных абарончых збудаванняў. Звычайна крэпасць мела адзін уезд з прыворотнай вежай. Калі набліжаўся вораг, браму зачынялі і ўсе жыхары хаваліся за гарадскімі сценамі. Выраз "отворити ворота" азначаў здачу горада.

Абавязковай прыналежнасцю старажытнага беларускага горада быў торг, які служыў не толькі месцам куплі-продажу, але і месцам сходаў гараджан. За горадам знаходзіўся некропаль-могільнік, дзе хавалі памершых.

Агульная тэрыторыя горада ў XI—XII стст. складала некалькі дзесяткаў гектараў. У самых вялікіх гарадах (як, напрыклад, у Полацку) пражывала 6—8 тысяч чалавек, у сярэдніх - 1-3 тысячы. Насельніцтва малых гарадоў налічвала некалькі сотняў жыхароў. Каля буйных гарадоў будаваліся манастыры.

У цэлым для свайго часу старажытныя беларускія гарады былі зусім сучаснымі і добраўпарадкаванымі, хаця і не былі пазбаўлены тыповых недахопаў - скучанасці пабудоў і забруджанасці. З прычыны чаго насельніцтва часта пакутавала ад пажараў і эпідэмій.

За шматвяковую гісторыю гарадоў на месцы іх дзядзінцаў і на пасадах утварыліся напластаванні з рэшткамі дзейнасці чалавека - культурны слой. Часам ён дасягае таўшчыні 7-9 м. Даследуючы насычаны знаходкамі культурны слой, археолагі аднаўляюць мінулае гарадоў-носьбітаў вышэйшых дасягненняў старажытнай Беларусі ў галіне эканомікі і культуры.

На старонках старажытных летапісаў часам гаворыцца аб палачанах, дручанах, менянах, пінянах і г.д. Гэта гараджане - жыхары Полацка, Друцка, Менска, Пінска. Яны мелі значна больш шырокі кругагляд, чым аратыя, прывязаныя да свайго вузкага "свету" ў некалькі вёсак. Гараджане былі пісьменнымі, умелі лічыць, мелі зносіны з іншаземнымі купцамі, самі ездзілі ў розныя краіны.

Асноўны слой насельніцтва сярэдневяковага горада складалі рамеснікі: ганчары, кавалі, гарбары, ювеліры, кастарэзы, сталяры і

г.д. Яны падзяліліся на дзве групы: вольных і залежных (княжацкіх і баярскіх). Другой значнай катэгорыяй гарадскога насельніцтва з'яўлялася дружына: воі-прафесіяналы. На яе абапіраўся ў кіраванні дзяржавай князь. Дружыннікі дзяліліся на дзве групы. Знатныя баяры, што складалі бліжэйшае акружэнне князя і займалі вышэйшыя пасады, утваралі "старэйшую" дружыну. З дробных служылых людзей, якіх звалі отракамі, ці грыднямі, ці дзіцячымі, фарміравалася "малодшая" дружына. Наступны слой - гандляры і купцы - па роду сваіх заняткаў былі бліжэй да пануючага класа. Пачынаючы з XII ст, іх удзельная вага сярод гараджан узрастае. Асабліва моцную ролю адыгрывае купецтва ў канцы XII - пачатку XIII ст, калі на змену гандлю з Кіевам, аслабленым феадальнымі ўсобіцамі, прыйшлі інтэнсіўныя сувязі Полацка з Рыгай і Гоцкім берагам.

Пэўны працэнт насельніцтва складалі феадальныя вярхі: князь, члены яго сям'і, блізкія асобы (прыбліжаныя), баяры. Вялікую ролю ў жыцці гарадоў адыгрывалі царкоўныя феадалы.

Арыстакратычная частка насельніцтва і дружына жылі на дзядзінцы, гандлёва-рамеснае насельніцтва - на пасадзе. Апошняе папаўнялася за кошт прышлых сельскіх жыхароў.

Па развіццю гарадской гаспадаркі старажытная Беларусь не ўступала гарадам Заходняй і Усходняй Еўропы. Аднак узровень развіцця гарадскога ладу не ўсюды быў аднолькавым. Полацк і Друцк, напрыклад,  мелі веча.

Эканамічная магутнасць баярства, багатага купецтва і вышэйшага духавенства забяспечвала ім кіруючую ролю на вечавых сходах. Іх апорай у буйнейшых гарадах былі багатыя майстры-рамеснікі, купцы і дружыннікі, духавенства, а таксама прадстаўнікі гарадской адміністрацыі з сем'ямі і залежнымі ад іх людзьмі. Правячай вярхушцы ў большасці выпадкаў удавалася навязаць вечавому сходу сваю волю, трымаць у паслухмянасці беднату і сялян з бліжэйшай акругі.

Немалую ролю ў жыцці гарадоў адыгрывалі рамеснікі. Яны былі параўнальна забяспечанымі людзьмі, прымалі актыўны ўдзел у вечы і складалі асноўную сілу гарадскога апалчэння. З гэтым іншы раз вымушаны былі лічыцца князі і баяры.

## Размяшчэнне і характарыстыка асобных гарадоў

Старажытныя гарады Беларусі месціліся па асобных рэгіёнах, тэрыторыях былых княстваў, у межах якіх яны развіваліся. Паўночную і значную частку цэнтральнай Беларусі (сучасная Віцебская вобласць, поўнач Мінскай) займала Полацкая зямля - адно з мацнейшых раннефеадальных княстваў Усходняй Еўропы. Да пачатку XIII ст. яго валоданні дасягалі Рыжскага заліва. У пісьмовых крыніцах змяшчаецца ўпамінанне пра 17 гарадоў, месцазнаходжанне якіх гісторыкі звязваюць з Полацкім княствам: Полацк, Менск, Витьбеск, Лукомль, Изяславль, Логожеск, Друтеск, Браслав, Рыша, Копыс і Борисов і інш. Галоўны, ці старэйшы горад зямлі быў яго сталіцай. Усе астатнія былі залежныя ад яго. У ніжнім Падзвінні (у межах сучаснай Латвіі) знаходзіліся полацкія гарады Герцыке і Кукенойс. Акрамя гэтага, застаецца невядомым ці спрэчным месцазнаходжанне гарадоў Полацкага княства Голотическа, Неколочи, Стрежева. Загадкавыя таксама летапісныя паведамленні пра полацкія гарады Одрск і Гарадзец.

Полацк - адзін са старажытнейшых гарадоў Усходняй Еўропы. Буйны гандлёвы і культурны цэнтр на Заходняй Дзвіне, важны транзітны пункт усёй Русі. Гэта быў горад храбрых вояў, умелых рамеснікаў, прадпрымальных купцоў. Яго далёкае мінулае бярэ пачатак з часоў легендарнага Рурыка і князя Алега. Заснаваны ў VIII—IX стст. крывічамі, ён упершыню згадваецца ў "Аповесці мінулых гадоў" пад **862** г. у сувязі з раздачай Рурыкам "градов" сваім васалам. Горад хутка рос. Калі ў IX - першай палове X ст. яго тэрыторыя складала прыкладна 1 га, то ў XI—XII стст. яна вырасла да 70-80 га.

Ужо ў першым стагоддзі існавання Полацк славіўся далёка за межамі роднай зямлі. Як пра моцнае ўладанне, што мае свайго князя (караля), апавядаюць пра яго скандынаўскія сагі. У дагаворы кіеўскага князя Алега з грэкамі (907 г.) ў пераліку гарадоў, што атрымліваюць кантрыбуцыю з пераможанай Візантыі, Полацк стаіць поруч з Кіевам.

У XI ст. Полацк уяўляў сабой вялікую эканамічную і ваенную сілу. Натхняючыся ідэямі былога адзінства крывічоў, першынства на крывіцкіх землях, яго князі двойчы займалі Ноўгарад, вялі ба-

рацьбу за Пскоў і Смаленск, сапернічалі з Кіевам і нават двойчы кіравалі ўсёй Руссю (Брачыслаў і Усяслаў), седзячы на вялікакняжацкім стале.

Другі горад Полацкай зямлі - Віцебск. Гэты вялікі гандлёвы цэнтр размешчаны на скрыжаванні водных шляхоў "з варагаў у грэкі". Ён узнік на месцы першабытнай сялібы VI—IX стст. Горадам у навуковым разуменні гэтага слова стаў у X ст.

У мясцовым летапісе XVIII ст. запісана паданне аб заснаванні Віцебска ў **974 г.** ***"Ольга, победив ятвягов и печенегов, переправилась через Двину и с войском заночевала. Понравшась ей гора, и она основала деревянный замок, назвав его от имени реки Витьба Витебском ".*** Аднак звычайна даследчыкі лічаць, што першым даставерным упамінаннем пра Віцебск з'яўляецца згадка пра яго ў "Аповесці мінулых гадоў" пад **1021** годам, калі Яраслаў Мудры вярнуў Віцебск і Усвяты полацкаму князю Брачыславу, прызнаўшы такім чынам абгрунтаванасць яго прэтэнзій на гэтыя гарады, заселеныя полацкімі крывічамі. Па ўзросту Віцебск не ўступае Полацку. Тое, што ён упамінаецца ў летапісах пазней і радзей Полацка, можна растлумачыць іх рознай роллю ў жыцці Падзвіння. Полацк - сталіца, Віцебск - адзін з населеных пунктаў.

Адзін з буйнейшых цэнтраў Полацкай зямлі - Менск ці Менеск - упершыню названы ў летапісным артыкуле **1067** г. У гэтым годзе адбылася бітва князёў Яраславічаў з полацкім князем Усяславам на Нямізе, да якой Яраславічы накіраваліся пасля захопу і спусташэння імі Менска. Менавіта на тэрыторыі сучаснага горада некалі працякала гэта рэчка даўжынёй усяго ў 3 км, упадаючы ў Свіслач. Незразумеласць тэксту крыніцы пра падзеі 1067 г. нарадзіла здагадку аб існаванні яшчэ адной Нямігі ці іншага Менска. Даследуючы летапісы, у якіх згадваецца Менск, вучоныя прыйшлі да высновы, што першапачаткова ён знаходзіўся на рацэ Менцы (прыток Пцічы), што за 16 км. ад цэнтра нашай сталіцы. З раннім Менскам ёсць падставы атаясамліваць размешчанае тут паселішча ля вёскі Гарадзішча Шчамысліцкага сельсавета Мінскага раёна. Пасля двухразовага спусташэння (1067 і 1084 гг.) ў канцы XI—пачатку XII ст. горад быў перанесены на месца ўпадзення Нямігі ў Свіслач (у сучасны гістарычны цэнтр).

Старажытны Менск адыгрываў значную ролю ў палітычным, гаспадарчым і культурным жыцці беларускіх зямель. У XII ст. яго князі з пераменным поспехам вялі барацьбу з друцкімі князямі за полацкае княжанне.

У сувязі з падзеямі 1067 г. у крыніцах упершыню ўпамінаецца **Ръша (Орша),** атрымаўшая сваю назву ад аднайменнай ракі. Праўда, з летапіснай фразы "на Ръши у Смоленска" недастаткова ясна, ці адносілася гэта назва да горада, урочышча ці да ракі.

**Ізяслаўль** заснаваны ў сувязі з прыняццем хрысціянства кіеўскім князем Уладзімірам і яго жаніцьбай на грэчаскай царэўне Ганне. Для сваёй былой жонкі Рагнеды і сына Ізяслава Уладзімір у 80-ыя гады X ст. у вярхоўях Свіслачы пабудаваў горад, даўшы яму сынова імя.

**Брачыслаўль** (сучасны Браслаў Віцебскай вобласці) заснаваны на паўночна-заходняй ускраіне Полаччыны ля балцкай мяжы, на непрыступным месцы. Гэта далёкая крэпасць, падобная на сотні іншых, не ўдастоілася згадкі ў летапісе. Раскопкі ж паказалі, што горад узнік у першай палове XI ст. пры полацкім князі Брачыславе (1003—1044), імя якога ён, верагодна, і атрымаў на месцы спаленай латгальскай сялібы, што існавала ў другой палове I тысячагоддзя. Росквіт горада адносіцца да XII—пачатку XIII ст., калі ён адыгрываў важную ролю на полацка-балцкім сумежжы, ахоўваючы Полацкую зямлю ад набегаў з захаду.

**Лукамль** (сучасны **Лукомль), Лагожск (Лагойск)** і **Друтэск (Друцк)** упершыню згадваюцца ў "Павучанні Уладзіміра Манамаха" пры апісанні паходу на Полацкую зямлю **1078 п,** у час якога ***ён "пожег землю і повоевал до Лукамля и до Логожьска, та на Дрютьск воюя... "*** Першы атрымаў назву ад ракі Лукомкі, на якой ён размешчаны, другі - ад слова "лог", паколькі знаходзіцца ў даліне сярод узвышша.

На карце сучаснай Беларусі няма горада Друцка. Праўда, на беразе ракі Друці ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці ёсць вёска з такой назвай. Калісьці на яе месцы быў магутны і славуты горад, які ў другой палове XII ст. стаў асноўным сапернікам Менска ў валоданні полацкім сталом. Ён узнік у XI ст. на валоцы аднаго з адгалінаванняў шляху "з варагаў у грэкі" і, знаходзячыся ў сярэдзіне стара-

жытнарускіх зямель, ды яшчэ на выгадным водным шляху, Друцк зрабіўся буйным месцам гандлю рабамі на Русі. З пачатку XVI ст. горад, спустошаны шматлікімі войнамі, губляе сваё палітычнае і эканамічнае значэнне і паступова знікае, адыходзіць у нябыт.

**Копысь** упершыню ўпамінаецца пад **1059** г., калі там памёр на шляху з Кіева ў Ноўгарад вядомы наўгародскі епіскап Лука Жыдзята. Горад знаходзіўся на месцы перавозу цераз Днепр. Як прыдняпроўскі пагранічны пункт ён меў мытню і пастаялыя двары і атрымліваў даходы ад гандлёвай пошліны. У 1116 г. разам з Оршай ён был адабраны Манамахам у Полацка і часова адышоў да Смаленскага княства.

Пра заснаванне **Барысава** В.Н. Тацішчаў, па невядомых нам крыніцах, пісаў/ ***"В 1102 г. Борис Всеславович Полоцкш ходш на ятвяги, победя пх, возвратясь, постави град Борисов во свое имя и людьми населш".*** У Іпац'еўскім летапісе горад названы пад 1128 г. Рэшткі першапачатковага Барысава знаходзяцца ў 4 км ад сучаснага горада.

Павелічэнне ролі дзвінскага гандлёвага шляху ў XII ст. прывяло да ўтварэння двух умацаваных пунктаў - **Герцыке і Кукенойса -** параўнаўча магутных фарпостаў Полацкай зямлі на захадзе (на тэрыторыі Латгаліі - ў межах сучаснай Латвіі). Летапісец не знайшоў магчымасці згадаць іх. І звесткі пра іх змяшчаюцца ў Генрыха Латвійскага, у іншых заходніх аўтараў, у актах XIII—XIV стст. і нават у скандынаўскім эпасе.

Генрых Латвійскі ўпершыню паведаміў пра Герцыке і яго "караля" Усевалада, які ў саюзе з Літвой вёў барацьбу з Тэўтонскім ордэнам пад сценамі новапабудаванай Рыгі, пад **1203** г. Гэта быў даволі багаты горад, меў некалькі цэркваў.

Пад **1205** г. у Г. Латвійскага ўпершыню ўпамінаецца Кукейнос (Кукенойс) - сучасны Какнесе на чале з Вячкам - сынам полацкага князя Уладзіміра. Тут жыло змешанае насельніцтва - рускія (палачане), латгалы і селы, якія займаліся рамяством, гандлем і сельскай гаспадаркай. Размешчаны на высокім беразе Дзвіны ў 338 км ад Полацка, Кукенойс, падобна як і Герцыке, быў закліканы ахоўваць далейшы шлях па Дзвіне і служыў, відаць, цэнтрам збору даніны з суседніх плямёнаў.

Гэтыя гарады першыя прынялі на сябе ўвесь цяжар крыжацкай агрэсіі і некаторы час стрымлівалі яе.

Наяўныя звесткі пра гарады Полацкай зямлі сведчаць, што на поўначы Беларусі яны ўзнікалі крыху раней і развіваліся хутчэй, чым на поўдні. Сваім інтэнсіўным развіццём яны абавязаны ролі Заходняй Дзвіны ў міжнародным гандлі. На тэрыторыі Усходняй Прыбалтыкі (сучасная Летува, Латвія) гарады ўзнікаюць намнога пазней,чым нa Полацкай зямлі - толькі ў XIII ст. (не лічачы Герцыке і Кукейноса), што тлумачыцца болын маруднымі тэмпамі сацыяльна-эканамічнага развіцця балцкіх плямёнаў.

На значнай частцы паўднёвай Беларусі існавала Тураўскае княства з гарадамі Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок, Слуцк, Клецк, Мазыр, Капыль, Рагачоў. Яны рана сталі ўзнікаць і развівацца тут. Зараджэнне большасці гарадоў паўднёвай Беларусі адносіцца да XI—XII стст. Старажытныя летапісы зафіксавалі час іх узнікнення. Асаблівасць дадзенай тэрыторыі - адсутнасць буйных гарадоў.

Тураў—стольны горад Тураўскага княства (цяпер гэта гарадскі пасёлак Жыткавіцкага раёна на Гомельшчыне) ўпершыню ўпамінаецца ў "Аповесці мінулых гадоў" у **980** г. Размешчаны на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, ён ператварыўся ў найбольш развіты эканамічны, адміністрацыйны, ваенны, культурны і рэлігійны цэнтр. Тураў быў адным з першых гарадоў, што дамагаліся палітычнай самастойнасці яшчэ ў пачатку XI ст. У XI—XII стст. ён меў цесныя палітычныя і культурныя сувязі з Кіевам. Тураўскія князі неаднаразова станавіліся вялікімі князямі кіеўскімі. Важнае паведамленне пра Тураў ёсць у летапісе пад 1158 г. Войска шасці князёў на чале з Ізяславам Кіеўскім 10 тыдняў беспаспяхова трымалі ў аблозе гэты горад, што сведчыць аб магутнасці яго абарончых збудаванняў і мужнасці жыхароў. Выпадак такой працяглай абароны беспрэцэдэнтны ў тагачаснай вайсковай гісторыі.

***"Увидишь, займет города твои Туров и Пітск и другие, тогда помянешь меня", -*** такімі словамі ў **1097** г. уладзімірскі князь Давыд Ігаравіч папярэджваў вялікага кіеўскага князя Святаполка. Гэта першае ўпамінанне пра Пінск у пісьмовых крыніцах. Яно з'явілася амаль на 100 гадоў пазней, чым пра Тураў, але ў хуткім часе **Пінск** па свайму значэнню ўздымаецца на першае месца сярод гарадоў

**Тураўскай зямлі,** у другой палове XII ст. становіцца сталіцай удзельнага княства, пераўзыходзіць Тураў па ўзроўню эканамічнага развіцця. Хуткі рост і развіццё горада тлумачыцца выгадным месцазнаходжаннем на важных гандлёвых шляхах - Прыпяцка-Бугскай воднай магістралі, што звязвала Кіеў, Валынь, Польшчу і больш паўночныя славянскія землі.

**Слуцк** узнік на мяжы XI—XII стст. і стаў вядомы летапісцу ў **1116** п, калі менскі князь Глеб "воевал дреговичи и Случеск пожег".

У XI ст. да Тураўскага княства адыходзіць Бярэсце. У XII—XIII стст. яно з'яўлялася цэнтрам Берасцейскай зямлі з гарадамі Кобрын і Камянец і ўваходзіла ў склад Уладзіміра-Валынскага княства.

Першая летапісная згадка Бярэсця ў **1019 г.** звязана з трагічным завяршэннем доўгай барацьбы за кіеўскі вялікакняжацкі пасад паміж сынамі Уладзіміра Святаслававіча: князем тураўскім Святаполкам, і князем наўгародскім Яраславам. **Бярэсце** ўпамінаецца ў "Аповесці мінулых гадоў" як апошні рускі горад перад "лядьской землей" на шляху ўцёкаў Святаполка. Паходжанне назвы невядома. Існуе некалькі меркаванняў. Мясцовая легенда расказвае пра купца, які, прабіраючыся з абозам па балоту ў багністых мясцінах, масціў дарогу бярозавымі бярвеннямі, а, вяртаючыся, паставіў невялікую часоўню, ля якой і вырас горад Бярэсце.

У 1276 г., як паведамляе Іпац'еўскі летапіс, па загаду валынскага князя Уладзіміра Васільевіча "градарубам" Алексай на рацэ Лясной быў пабудаваны горад і названы Камянцом, "зане бысть земля каменна". Далей у летапісе гаворыцца пра тое, што ў горадзе быў узведзены "столп камен"- знакамітая Камянецкая башня. Гэта адно з першых каменных абарончых збудаванняў на тэрыторыі Беларусі. Круглая па форме, вышынёй да 30 м, с пяццю паверхамі-ярусамі ўзвышаецца яна да нашых дзён пры дарозе з Брэста ў Белавежскую пушчу.

Падняпроўскія і Пасожскія гарады Беларусі адыходзілі да некалькіх буйных княстваў. Кречют (Крычаў), Мсціслаўль і Прупой (Слаўгарад) адносіліся да Смаленскага княства. Невялікая частка сучаснай Гомельскай вобласці с гарадамі Гомій (Гомель), Рэчыца і Чачэрск належалі Чарнігаўскаму, а Брагін і Мазыр - Кіеўскаму княству.

**Гомій ці Гомье** стаў вядомы з **1142** г. у сувязі з жорсткай барацьбой чарнігаўскіх князёў Ольгавічаў (ім належала радзіміцкая зямля) і Манамахавічаў за кіеўскі стол. У гэтым годзе смаленскі князь Расціслаў напаў на радзімічаў і папаліў іх разам з горадам Гоміем.

Звестак пра Магілёў у старажытных летапісах няма. У позняй мясцовай хроніцы паведамляецца аб будаўніцтве Магілёўскага замка ў **1267** г. На тэрыторыі сучаснага горада сялібы існавалі яшчэ ў раннім жалезным веку.

На мяжы I і II тысячагоддзяў узнікаюць гарады ў беларускім Панямонні: Гарадзен **ці** Гародня, які вырас са славянскага паселішча, што ўзнікла ў сутоцы ракі Гараднічанкі і Нёмана ў канцы X ст, Навагрудак (X ст), Ваўкавыск (X ст), Услонім (XI ст), Здзітаў (XI ст), Турэйск (XI - пачатак XII ст). Аднак на старонкі летапісаў яны трапілі толькі праз 200—300 гадоў пасля заснавання. На гэтай тэрыторыі ў пачатку XII ст. існавала Гарадзеньскае княства.

В лето 1183 "Городен погоре весь и церквы каменыя от блистания молние и шибения грома"- такой сумнай весткай пра страшнае стыхійнае бедства, нечаканую пагібель горада з яго манументальнымі збудаваннямі ўпершыню ўвайшоў у летапісы гэты горад. У пісьмовых крыніцах XII ст. ёсць шэраг згадак пра гарадзенскіх князёў, найбольш ранніх з якіх датуюцца 1128 і нават 1116 гадамі, ад якіх звычайна і вядзецца адлік гісторыі горада.

Абмежаванасць пісьмовых звестак пра пачатковы перыяд гісторыі Гродна ўскладняе вырашэнне пытання аб яго месцазнаходжанні. Адны даследчыкі (В.Б. Антановіч, А.С. Семянтоўскі, П.П. Сямёнаў, В.В. Гразноў, П.В. Баброўскі, З. Глогер) лічьші, што летапісны Гарадзен - гэта горад на Нёмане. На думку іншых (Н.М. Карамзін, С.М. Салаўёў, Н.П. Барсаў, Д.М. Мілюцін, М.С. і А.С. Грушэўскія, Ю. Ядкоўскі, М.І. Ермаловіч), вялікая аддаленасць нёманскага Гродна ад важнейшых старажытнарускіх палітычных цэнтраў не дазваляе звязваць з ім паведамленні летапісаў. Гэтыя аўтары летапісны Гарадзен бачылі ў аднайменным мястэчку Гародна (Гародня), размешчаным на правабярэжжы Прыпяці, паміж рэкамі Стыр і Гарынь, у 50 км на паўднёвы ўсход ад Пінска. Былі і такія

гісторыкі, што летапісныя даныя XII ст. адносілі да Гродна пінскага, а звесткі XIII ст. звязвалі з Гродна нёманскім. Па пытанню аб месцазнаходжанні горада пасля XII ст. разыходжанняў не было. Тоеснасць летапіснай Гародні і Гродна на Нёмане аргументавана выклаў у кнізе "Гродненская старина" (Ч. І. Гродно, 1910) краязнаўца Я.Ф. Арлоўскі. Аднак канчаткова спрэчкі вырашыліся толькі дзякуючы археалагічным раскопкам. У Гродне нёманскім выяўлены значныя матэрыялы XI—XIII стст. Раскопкі, што праводзіліся на Замкавай гары экспедыцыяй Інстытута матэрыяльнай культуры АН СССР пад кіраўніцтвам Н.Н. Вароніна ў 1949 г., пацвердзілі канцэпцыю Арлоўскага.

Размешчаны на значнай гандлёвай артэрыі - рацэ Нёман, летапісны Гарадзен трымаў у сваіх руках праезд па рацэ купецкіх караванаў з узбярэжжа Прыбалтыкі ў глыб Панямоння і наадварот. Горад рос, багацеў. У XII ст. у ім пачалося мураванае будаўніцтва.

Пытанне аб першым упамінанні ў пісьмовых крыніцах **Навагрэдка** з'яўляецца дыскусійным. У адпаведнасці з ускоснымі данымі, адны гісторыкі называюць 1044 г, другія - 1117 ці 1119, трэція - 1235. Першае прамое паведамленне пра Наваградак як панямонскі горад адносіцца да 1252 г. У гэтым годзе ён упамінаецца ў Іпац'еўскім летапісе разам з Ваўкавыскам, Слонімам, Здзітавам, якія таксама згадваюцца тут упершыню ў сувязі з уварваннем галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васількі Раманавічаў у землі Верхняга Панямоння, што незадоўга да гэтага апынуліся пад уладай літоўскага князя Міндоўга. Сам Міндоўг княжыў у Наваградку, а сыну свайму Войшалку перадаў Слонім і Ваўкавыск. ***"Даншо же и Васшко придоста к Новугороду. Даншь же и Васшко, брат его, разгадав с сыномь брата си посла на Волковыескь, а сына на Услоним, а сам иде ко Здитову; и поимаша грады многы и взвратишися в домы".***

Заснаваны ў X ст. як адзін з цэнтраў славянскай каланізацыі ў Верхнім Панямонні, Наваградак у XII—XIII стст. стаў квітнеючым горадам з яркай культурай. Ён стаў другім пасля Полацка і роўным яму па значэнню дзяржаўным цэнтрам Беларусі і ў сярэдзіне XIII ст. прыйшоў яму на змену.

Каля вёскі Турэйск Шчучынскага раёна знаходзяцца рэшткі ле-

тапіснага Турыйска (Турьска)- аднаго са старажытнейшых паселішчаў славян у Панямонні, узнікшага ў канцы XI - пачатку XII ст.

Узнікненне гарадоў з'яўляецца паказчыкам высокага сацыяльнага, эканамічнага і культурнага ўзроўню беларускіх зямель у IX—XIII стст.

## Развіццё рамяства

Старажытныя беларускія гарады мелі высокаразвітую рамесную вытворчасць. Разам з гандлем рамяство было характэрнай рысай гарадской эканомікі і ў многім вызначала віды вытворчай дзейнасці гараджан, якія займаліся таксама і сельскай гаспадаркай.

**Ва ўмовах натуральнай гаспадаркі неабходнай для паспяховага развіцця рамёстваў была наяўнасць мясцовых выкапняў.** Распаўсюджаная на Беларусі дзернавая, азёрная і балотная руда служыла сыравінай для атрымання жалеза. Гліна і пясок былі асноўным матэрыялам для ганчарства, іх выкарыстоўвалі ў будаўніцтве. Вапнякі перапальваліся на вапну, якая ўжывалася ў гарбарстве, у будаўніцтве. Валунныя камяні выкарыстоўваліся ў будаўнічай справе і пры вырабе мукамольных жорнаў. Жывёлагадоўля і паляўніцтва забяспечвалі сыравінай гарбарнае, абутковае, кастарэзнае і іншыя рамёствы. Вялізныя лясныя багацці забяспечвалі вытворчасць танным палівам і садзейнічалі развіццю дрэваапрацоўчага рамяства. Не мела мясцовай сыравіннай базы толькі ювелірная справа. Каляровыя і высакародныя металы атрымлівалі ў выніку гандлёвых аперацый.

З самых важных відаў вытворчасці былі металургія і кавальскае рамяство. Металургія ў асноўным з'яўлялася пабочным заняткам вясковых жыхароў.Яны атрымлівалі жалеза з балотнай руды сырадутным спосабам. У старажытных гарадах Беларусі домніцы сустракаюцца рэдка. Яны выяўлены ў Ваўкавыску, Пінску. Відаць, тут і ў некаторых іншых месцах металургічныя работы рабіліся на месцы. У цэлым жа жалезаапрацоўка старажытных гарадоў Беларусі працавала на прывазной прадукцыі сялян-металургаў.

Гарадскія кавалі валодалі многімі сакрэтамі апрацоўкі чорнага металу: коўкай, зваркай, цэментацыяй, загартоўкай, маглі атрымлі-

ваць сталь. Мясцовыя рамеснікі з жалеза і сталі выраблялі земляробчыя прылады працы і інструменты для разнастайных рамёстваў, прыналежнасці ўбору і зброю, прадметы дамашняга ўжытку.

Майстры ювелірнай справы, прымяняючы розныя спосабы апрацоўкі каляровых і высакародных металаў (ліццё, коўка, штампоўка, чаканка, валачэнне дроту, зернь,скань, чарненне, інкрустацыя), выраблялі самыя розныя рэчы, пераважна прадметы ўбору і ўпрыгажэнні (спражкі, гузікі, пярсцёнкі, пацеркі, прывескі, завушніцы і інш.). Нашы далёкія продкі надавалі значную ўвагу ўпрыгожванню свайго адзення. Упрыгажэнні тады лічыліся амулетамі-сімваламі шчасця, дабра, ураджайнасці, засцерагалі ад злых духаў. Пачынаючы з XII ст., значнае распаўсюджванне атрымаў выраб рэчаў, звязаных з царкоўным культам і вераваннямі - крыжыкаў, абразкоў. Асноўная частка ювелірнай прадукцыі ішла на задавальненне попыту гарадскога насельніцтва, частка паступала ў бліжэйшыя вёскі.

Умельцамі ювелірнай справы былі майстры Наваградка, ужо ў канцы X—XI стст. яны валодалі гэтым мастацтвам. Пачынаючы з XII ст. апрацоўка каляровых і высакародных металаў становіцца вядучай галіной рамяства. У XII—XIII стст. тут існаваў багаты квартал ювеліраў - гэта рамяство было самым даходным у той перыяд.

Вышэйшым дасягненнем прафесіянальнай віртуознасці беларускіх ювеліраў з'яўлялася выпрацоўка перагародчатых эмаляў. Агульнапрызнаным шэдэўрам эмалевага мастацтва з'яўляецца крыж Ефрасінні, выраблены майстрам Лазарам Богшай у Полацку ў 1161 г. на заказ мясцовай князёўны.

Рамеснікі-шкляры выраблялі розныя ўпрыгажэнні. Шкляныя бранзалеты - любімае ўпрыгажэнне гараджанак.

Ганчарная вытворчасць забяспечвала пастаянны попыт на посуд. У яго асартымент уваходзілі гаршкі, міскі, збаны, чарпакі, кружкі, патэльні. Да X ст. посуд вырабляўся з гліны ўручную ляпным спосабам. У X ст. на Беларусі распаўсюдзіўся ганчарны круг. Ён даў магчымасць наладзіць масавую вытворчасць бытавога посуду, якая набывае рамесны характар.

**З** ганчарнай справай звязана вытворчасць плінфы - тонкай і

плоскай цэглы, якая ўжывалася пры пабудове храмаў. У ганчарных майстэрнях рабілі таксама дэкаратыўныя паліўныя пліткі для ўпрыгожвання падлогі і сцен манументальных будынкаў.

Распаўсюджанай формай рамеснай дзейнасці была апрацоўка косці, каменю, бурштыну, дрэва. З мясцовых парод дрэва плотнікі-"древоделы" будавалі жылыя і гаспадарчыя збудаванні, гарадскія сцены і вежы, масты і маставыя. Сталяры-"цесляры" рабілі сохі, бароны, ткацкія і такарныя станкі, вёдры, бочкі, рыдлёўкі, лодкі, посуд і іншыя рэчы - прылады працы, прадметы быту, дэталі транспартных сродкаў і станкоў, элементы пабудоў, дзіцячыя цацкі.

Значнае развіццё атрымала апрацоўка каменю. Каменныя блокі і пліты выкарыстоўвалі для пабудовы манументальных збудаванняў. З камянёў высякалі мукамольныя жорны, тачыльныя брускі, прадметы рэлігійнага культу. Апрацоўвалі тут і бурштын, які прывозілі з Прыбалтыкі.

Гарадскія рамеснікі валодалі майстэрствам разьбы па косці. З косці і рагоў рабілі грэбні, рукаяткі для нажоў, гузікі, іголкі, пласціны-накладкі для калчанаў. Сярод касцяных вырабаў XI-XIII стст. ёсць рэчы, якія па мастацкіх вартасцях, майстэрству апрацоўкі можна аднесці да лепшых узораў старажытнарускага кастарэзнага мастацтва. Такія, напрыклад, як шахматныя фігуры (пешка і ладдзя) з Ваўкавыска.

Вялікае значэнне ў эканоміцы гарадоў мела гарбарная справа. Для вырабу скур ужывалася вапна або попел, а таксама кара вярбы, ёлкі, дуба. У выніку атрымліваўся выдатны матэрыял - "усмие" - добра вырабленая мяккая і трывалая скура. З яе "усмошвецы" шылі абутак (поршні, падобныя па знешняму выгляду на лапці, боты і чаравікі), футляры, ножны, мячы, дэталі конскай збруі, рукавіцы, рамні, кашалькі, скурай абцягвалі вайсковыя шчыты.

У гаспадарчым жыцці гарадоў пэўнае месца займала прадзенне і ткацтва. Ніткі пралі на ручным верацяне, на канец якога надзявалі каменны ці гліняны грузік-праслiцу. Прадзенне было заняткам кожнай жанчыны не толькі на вёсцы, але і ў горадзе. Пралі з воўны, лёну, пянькі. Адзенне шылі добра адпаліраванымі жалезнымі ці бронзавымі іголкамі, падобнымі на сучасныя. Ваўняныя ніткі ўжывалі не толькі для ткання і шыцця, але і для вязання. З воўны

таксама валялі войлак. Ён выкарыстоўваўся як матэрыял для паходных шатроў, пакрывалаў, папон, шапак.

У рамеснай вытворчасці і хатніх промыслах панавала ручная тэхніка. Спецыялізацыя была слабая. Тым не менш рамесная вытворчасць старажытнай Беларусі была носьбітам вышэйшых тэхналагічных дасягненняў таго часу.

## Гандаль. Шляхі зносін

Развіццё рамяства непарыўна звязана з абменам і гандлем. Гарадскія рамеснікі працавалі на заказ, на рынак. Прадаючы свае вырабы, яны набывалі сыравіну, прадукты і неабходныя ім вырабы іншых рамеснікаў.

Гандаль у **IX—XIII** стст. развіваўся ва ўмовах натуральнай гаспадаркі і абмежаванай патрэбы ў прывазных таварах. Унутраны гандаль меў у эканамічным жыцці старажытнай Беларусі большае значэнне, чым знешні. Найбольш развітымі былі сувязі паміж горадам і вёскай. З вёскі дастаўляліся сельскагаспадарчыя прадукты і сыравіна для рамеснай вытворчасці. Вырабы гарадскіх рамеснікаў знаходзілі збыт сярод вясковага насельніцтва.

Нягледзячы на войны і феадальныя міжусобіцы, існавалі сувязі старажытнай Беларусі з княствамі-суседзямі. З Кіеўскай зямлі прывозілі вырабы са шкла - бранзалеты, пацеркі і іншыя жаночыя ўпрыгажэнні, посуд, аконнае шкло; прадметы рэлігійнага культу (бронзавыя панікадзілы, крыжы-складні, ці энкалпіёны, абразкі, нацельныя крыжыкі); паліўны керамічны посуд. З Валыні на беларускія землі паступалі шыферныя праслiцы, што ўжываліся ў прадзенні і ткацтве, з Ноўгарада - соль.

Знешні гандаль вялі вялікія гарады, размешчаныя на буйных водных магістралях. З Візантыі і Блізкага Усходу на беларускія землі паступалі прадметы раскошы: шаўковыя квяцістыя тканіны, вострыя прыправы, грэцкія арэхі, шкляны посуд тонкай мастацкай работы, распісаны золатам і эмаллю. Іран пастаўляў фаянсавы посуд.

Прадметамі імпарту з балтыйскага ўзбярэжжа былі бурштын і вырабы з яго, упрыгажэнні з каляровых металаў. Відавочна, праз прыбалтыйскія землі паступалі рэчы са Скандынавіі.

3 Зак. 82

Каўказ пастаўляў самшыт, які выкарыстоўваўся для вырабу грабянёў і іншых прадметаў. З Прычарнамор'я прывозілі амфары з віном і аліўкавым алеем. Рэшткі амфар знойдзены амаль ва ўсіх старажытных гарадах Беларусі, але найбольшая колькасць - у Навагрудку і Ваўкавыску. З XI ст., пасля таго, як полаўцы засланілі шлях у Арабскі халіфат, стаў павялічвацца гандаль з заходнееўрапейскімі краінамі. Імпарт рэчаў з краін Заходняй Еўропы адносна невялікі, але прадстаўлены вельмі выразнымі знаходкамі: наверша ад параднага сядзення з Ваўкавыска, бронзавы вадалей з Гродна (прывезены з Германіі), абломак касцяной лыжачкі ў выглядзе фігуркі святога з Мінска (Францыя) і інш. Заўважым, што Навагрудак па знаходках імпартных прадметаў раскошы сапернічае з іншымі гарадамі Беларусі і Кіеўскай Русі.

Знешні гандаль быў галоўнай крыніцай задавальнення попыту на каляровыя і высакародныя металы. Серабро прывозілася пераважна ў выглядзе манет, у асноўным, арабскіх дырхем, якія нярэдка проста ўключаліся ў грашовае абарачэнне. З пачатку XI ст. іх прыток скараціўся. Асноўнымі пастаўшчыкамі манетнага серабра так званых дынарыяў у XI ст. становяцца Германія і Англія. Некаторая яго колькасць паступала з Чэхіі, Венгрыі, Даніі. З XII—XШ стст. на Беларусь пачынае паступаць серабро ў злітках. Іх лягчэй і больш эканомна было выкарыстоўваць у рамеснай вытворчасці.

Галоўным прадметам вывазу з беларускіх зямель былі пушніна і прадукты бортнага промыслу - воск, мёд. Мех выкарыстоўваўся для адзення. З воску рабілі свечкі, яго ўжывалі ювеліры для ліцця па васковай мадэлі. Гэтыя тавары ў вялікай колысасці ішлі на рынкі Заходняй Еўропы і Усходу. Гандляроў з беларускіх зямель можна было сустрэць на ўсёй тэрыторыі Русі, у Візантыі, на Аравійскім паўвостраве, у Германіі, Прыбалтыцы. Асноўнымі шляхамі зносін у старажытнасці былі водныя. Найбольшае значэнне для Полацкай зямлі меў шлях "з варагаў у грэкі", на якім існавала шмат дзяржаў і які звязваў Заходнюю Еўропу, краіны Прыбалтыкі з Прычарнамор'ем. Цэнтральная частка гэтага шляху пралягла праз беларускія землі і вызначыла ранняе ўзнікненне тут гарадоў, іх хуткае эканамічнае і палітычнае развіццё.

Акрамя шляху па Ловаці, Ладажскаму возеру і Няве існавала

заходнедзвінскае адгалінаванне шляху "з варагаў у грэкі". Шлях з Дняпра на Заходнюю Дзвіну меў для міжнароднага гандлю не меншае, а можа быць, нават, і большае значэнне, чым шлях па Ловаці на Ноўгарад. Ён значна скарачаў шлях у Заходнюю Еўропу. З вярхоўяў Заходняй Дзвіны праз сістэму волакаў таксама можна было трапіць на Волжскі шлях, які злучаў Балтыйскае (Варажскае) і Каспійскае (Хазарскае, Хваліскае) моры. Так здзяйсняліся сувязі Беларусі з Волжскай Булгарыяй, Хазарскім царствам, краінамі арабскага Усходу.

Водны шлях па Прыпяці і Заходняму Бугу выкарыстоўваўся для гандлю з Польшчай і Чэхіяй. На паўночным усходзе Беларусі была цэлая сістэма волакаў, якая звязвала паміж сабой Ловаць, Заходнюю Дзвіну і Днепр. Гандаль вёўся таксама і па сухапутных шляхах. Сетка сухапутных камунікацый, напрыклад, звязвала ў старажытнасці Полацк з Рыгай, Ноўгарадам, Псковам, Літвой, Віцебскам, Мінскам, Смаленскам. Шырокая сетка водных і сухапутных шляхоў, якія пралягалі праз беларускія землі ў старажытнасці, безумоўна, садзейнічала іх эканамічнаму развіццю.

## ЛЕКЦЫЯ 5

# ВЫТОКІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

- ***Утварэнне Полацкай зямлі-княства.***
- ***Палітычны трохкутнік Кіеў-Полацк-Ноўгарад у другой палове IX- першай палове X ст.***
- ***Полацкае княства ў апошняй чвэрці X ст. Рагвалод і Рагнеда. Ізяслаў.***

### Утварэнне Полацкай зямлі-княства

Вытокі дзяржаўнасці на нашай зямлі бяруць свой пачатак ў сівой мінуўшчыне. Але да нядаўняга часу была амаль страчана памяць аб пачатку, уздыме, славутых падзеях і дзеячах беларускай дзяржавы. У грамадска-палітычных умовах 30—80-х гадоў айчынная гістарычная навука адмовілася нават ад намёкаў на яе існаванне ў мінулым. Гісторыю Беларусі як гісторыю дзяржавы пачыналі з 1919 г. Такі падыход, узведзены ў ранг закону, быў замацаваны ў Канстытуцыі БССР 1978 года. Між тым, з дакладных гістарычных крыніц вядома, што **асновы дзяржаўнасці ў нашых продкаў з'явіліся яшчэ да ўтварэння Кіеўскай Русі.**

Адпаведна прынятай у гістарыяграфіі канцэпцыі, узнікненне інстытута дзяржавы непасрэдна звязана з распадам першабытнага ладу, пераходам да суседскай абшчыны, паступовым выдзяленнем сярод агульнай масы творцаў прадстаўнікоў адміністрацыйна-класавай сістэмы, са спецыялізацыяй і канцэнтрацыяй вытворчасці, узнікненнем гарадоў і г.д. У **VI-X стст.** у Заходняй Еўропе складваюцца феадальныя дзяржавы ў франкаў, бургундаў, вестготаў, немцаў, вылучаюцца буйныя палітычныя цэнтры ў Даніі, Швецыі, Нарвегіі. Ідзе дзяржаваўтварэнне ў Брытаніі, Скандынавіі. Усталёўваюцца дзяржавы ў славян: чэхаў, мараваў, харватаў і славенцаў, палякаў. Сярэдневяковая беларуская дзяржава стваралася ў кантэксце аналагічных працэсаў, што разгортваліся ў астатняй Еўропе. Мы не былі першымі, але і не апошнімі.

**На землях Усходняй Еўропы працэс утварэння дзяржаў адбываецца ў VIII—X стст.** Крывіцкі Полацк, палянскі Кіеў і сла-

венскі Ноўгарад выступілі першымі цэнтрамі кансалідацыі ўсходнеславянскіх племянных саюзаў. Гэтыя саюзы ўяўлялі сабой паўпатрыярхальныя-паўфеадальныя "княжанні" з князямі на чале і насельніцтвам, якое характарызавалася агульнай этнічнай самасвядомасцю, моўным адзінствам і падабенствам культуры. Еўрапейская тэндэнцыя фарміравання дзяржаўнасці ахапіла тады і беларускія землі. У недатаванай частцы "Аповесці мінулых гадоў" (датаваная пачынаецца з **852 г.)** летапісец паведамляе, што паляне, драўляне, славене, а таксама дрыгавічы і палачане мелі свае племянныя "княжанні" - **правобраз першапачатковага дзяржаўнага ўтварэння.** Артыкулы другой паловы IX—X стст. называюць іх племяннымі цэнтрамі-гарадамі, сярод іх — Полацк і Тураў.

Недзе **на мяжы VIII—IX стст.** вакол Полацка пачало складвацца аб'яднанне крывічоў, якое ў далейшым сфарміравалася ***ў*** самастойную тэрытарыяльную, палітычную і эканамічную адзінку. Аб'ектыўна гэтаму працэсу спрыялі многія фактары. Сярод іх - адзінства тэрытарыяльна-геаграфічных умоў лясной зоны і размяшчэнне крывіцкіх плямёнаў на сутоцы рэк Балтыйскага і Чорнага мораў, на традыцыйных гандлёвых шляхах, этнічнае змяшэнне з папярэднімі насельнікамі гэтага рэгіёна - балтамі, у якіх перанялі элементы мовы, побыту. Полацк прыгадваецца ў летапісах ужо ў **862 г.** як адзін з важнейшых гарадоў Усходняй Еўропы.

У першай палове IX ст. назіраўся працэс усталявання Полацкай зямлі ў пэўных геаграфічных межах і пачалося афармленне яе дзяржаўнасці. Ю.Заяц лічыць, што стварыць больш высокую сацыяльную арганізацыю ў выглядзе раннедзяржаўнага ўтварэння крывічам трэба было і для таго, каб замацаваць сваё ўладаранне на каланізаваных землях балтаў. **Асаблівасцю Полацкага "княжання" была поліэтнічнасць яго насельніцтва** (крывічы, дрыгавічы, рэшткі балцкіх, а на паўночным усходзе, верагодна, і фіна-угорскіх плямёнаў). Княжаннем крывічоў, на яго думку, Полацкая зямля была толькі ў тым сэнсе, што вышэйшая ўлада (княжацкая дынастыя) ў ёй была дрыгавіцкага паходжання. Што датычыцца летапісных "палачан", дык пад гэтым тэрмінам у шырокім сэнсе трэба разумець не полацкую галіну крывічоў, а сукупнасць усяго насельніцтва Полацкай зямлі незалежна ад яго этнасу.

Сваім раннім узнікненнем і інтэнсіўным развіццём Полацкая зямля ў многім абавязана водным гандлёвым шляхам, што звязвалі Паўднёвую Русь, Візантыю і арабскі Усход з Паўночнай Руссю, Прыбалтыкай і Скандынавіяй. Першай жыдцёвай артэрыяй Полацкага княства стала Заходняя Дзвіна. Яна ж вызначыла і кірунак яго гістарычнага развіцця, і першапачатковую накіраванасць яго дзяржаўных інтарэсаў, а разам з тым і яго асобнасць.

Рост полацкай тэрыторыі больш-менш бесперашкодна ішоў прыкладна да сярэдзіны IX ст. разам з рассяленнем крывічоў. Да гэтага часу ўлада Полацка на ўсходзе пашыралася на вярхоўі Заходняй Дзвіны і Дняпра, на поўдні заходзіла за Свіслач да вярхоўяў Пцічы, на захадзе цягнулася ад вярхоўяў Нёмана да вярхоўяў Дзісны. На поўначы ішла ад Усвятаў праз вярхоўі Дрысы і далей паралельна Заходняй Дзвіне заходзіла ў межы сучаснай Латвіі. Ужо ў IX ст. гэты племянны цэнтр сканцэнтраваў вакол сябе вялікую тэрыторыю і **стаў адным з важнейшых дзяржаваўтваральных цэнтраў Усходняй Еўропы.**

Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу ў склад Полацкай зямлі ўваходзілі сучасная Віцебская вобласць і паўночная палова Мінскай. Да пачатку XIII ст. пад яе пратэктаратам знаходзілася ніжняе Падзвінне (у межах сучаснай Латвіі да Рыжскага заліва). Тэрыторыя княства складала 60 тыс. кв.км. Населена яна была нераўнамерна і ўяўляла сабой кангламерат некалькіх густанаселеных масіваў, падзеленых лясамі.

**Полацкае княства - гэта першая беларуская дзяржава,** якая мела не ўяўны, а сапраўдны суверэнітет і сама распараджалася сваім лёсам. На працягу стагоддзяў яна захоўвала ўсе важнейшыя атрыбуты дзяржаўнасці: заканадаўчую ўладу ў выглядзе веча, выканаўчую ўладу ў асобе князя, уласную княжацкую дынастыю Рагвалодавічаў-Усяславічаў, стабільную тэрыторыю, магутнае войска. Полацкая зямля праводзіла самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку, вызначалася знешнепалітычнай і вайсковай актыўнасцю.

**У X—XI стст. Полацкае княства з'яўлялася адным з буйнейшых і магутных княстваў на тэрыторыі Усходняй Еўропы і сапернічала з Кіевам і Ноўгарадам у аб'яднанні зямель.** Па сацыяльна-эканамічнаму і культурнаму ўзроўню Полацкае княства

ні ў чым не ўступала развітым дзяржавам таго часу. Яго паважалі ў еўрапейскім свеце.

## Палітычны трохкутнік Кіеў-Полацк-Ноўгарад у другой палове IX - першай палове X ст.

Вызначальную ролю ў гістарычным развіцці Усходняй Еўропы, у тым ліку і Полацкай зямлі, меў водны шлях "з варагаў у грэкі", які злучаў праз сістэму рэк Дняпра, Дзвіны, Лаваці і Волхава поўдзень кантынента з поўначчу, усход з захадам. Гэта важная магістраль, па якой у асноўным ішоў міжнародны гандаль і ажыццяўляліся паходы на Візантыю, і стала воссю дзяржаўнаўтваральнага працэсу. Найперш, дзякуючы ёй, узвысіўся Полацк. Гэтак жа шлях "з варагаў у грэкі" вызначыў статус Кіева і Ноўгарада як важных палітычных цэнтраў Усходняй Еўропы. Паўночныя крыніцы, у прыватнасці, скандынаўскія сагі і саксонскія паданні бачылі ў тыя часы на ўсходзе йўропы тры цэнтры, тры палітычна-дзяржаўныя арганізацыі славянскіх зямель - Ноўгарад, Полацк і Кіеў. Ноўгарад засланяў вялікі водны шлях з поўначы, Кіеў - з поўдня. **Беларускія землі,** што ўкліньваліся паміж імі і стваралі канкурэнцыю ў справе аб'яднання зямель, з самага пачатку сваёй датаванай гісторыі апынуліся ў фокусе барацьбы за першынство ва ўсходнеславянскім свеце.

Менавіта з летапіснага паведамлення пра сутыкненне інтарэсаў Ноўгарада і Кіева на Беларусі пачынаецца датаваная частка нашай гісторыі. Праўда, звесткі крыніц пра падзеі таго перыяду - адзінкавыя, лаканічныя і супярэчлівыя. Таму нельга чакаць дакладных сведчанняў пра гэты час і дакладных ацэнак тагачасных падзей. Нашы веды пра ранюю пару беларускай гісторыі носяць гіпатэтычны характар з-за недахопу крыніц і іх фрагментарнасці.

У летапісе пад **859 г.** сказана, што варагі бралі даніну з чудзі, славенаў, меры і крывічоў, а хазары спаганялі яе з палянаў, севераў, вяцічаў. Радзімічы не ўпомнены ў гэтым запісе. Але з летапіснага паведамлення **885 г.** вядома, што гэтае племя таксама плаціла даніну хазарам. Беларускія землі, такім чынам, былі падзелены тады на сферы ўплыву паміж варагамі і хазарамі.

У **862 г.** варажскі князь Рурык, што сядзеў у Ноўгарадзе (862-

879), пасля смерці сваіх братоў Сінявуса і Трувора, разам з якімі ён быў "закліканы на Русь", зрабіўся адзінадзяржаўцам і стаў раздаваць сваім стаўленікам гарады. Адзін з іх атрымаў Полацк. "И прия власть Рюрик, - чытаем мы ў "Аповесці мінулых гадоў", - и раздая мужем своим грады, овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро.И по тем городам суть находници варязи, а первии насельницы в Полотьски кривичи ...И теми всеми обладаше Рюрик". Менавіта ў такім кантэксце ўпершыню згадваецца Полацк. Летапісец ясна кажа, што заснавальнікамі горада з'яўляюцца крывічы, а варагі - гэта прышлыя.

Летапіс звязвае з'яўленне першых рускіх князёў з дзейнасцю варагаў, пад якімі гісторыкі разумеюць выхадцаў са Скандынавіі - нарманаў. Варагі, якія прасоўваліся па Заходняй Дзвіне на ўсход і поўдзень,. адыгралі пэўную ролю ва ўсходнеславянскай гісторыі, у тым ліку і полацкай. Але яны не мелі вырашальнага значэння ва ўтварэнні ўсходнеславянскіх дзяржаў, хоць нават і стаялі пэўны час на чале іх. Відавочна, што ігнараванне дзейнасці варажскіх дружын на Беларусі такое ж памылковае, як і перабольшанае ўяўленне пра іх ролю ў старажытнабеларускай гісторыі. Калі нават першыя князі на нашых землях і былі скандынаўскага паходжання, гэта не змяніла славянскага характару ранніх дзяржаўных утварэнняў. Кіеўская Русь не стала варажскай дзяржавай з-за таго, што ёй кіравалі нашчадкі Рурыка. Нарманскія князі, бясспрэчна, павінны былі ў сваёй дзейнасці кіравацца інтарэсамі той мясцовасці, дзе яны княжылі. Інакш бы яны там доўга не змаглі затрымацца.

Летапісны запіс **862 г.** сведчыць, што княжацкая ўлада ў Полацку не была трывалай, спадчыннай. Але Рурык, відаць, меў з мясцовым насельніцтвам нейкія даўнія, можа нават кроўныя сувязі, што дало яму магчымасць навязаць крывічам сваю волю практычна без барацьбы. Палачане прынялі Рурыкавага "мужа". Падначаленне Полацка было асаблівым поспехам для Ноўгарада, што не магло не ўстрывожыць Кіеў і не выклікаць неадкладных мер з боку яго князёў Аскольда і Дзіра. У **865 г.** яны "воеваша полочан и много зла створиша". Чым скончыўся паход кіеўскіх князёў і якое зло яны ўчынілі палачанам, нам невядома. Ва ўсякім

разе ясна, што Кіеў раўніва сачыў за падзеямі ў Полацкай зямлі. Аскольд і Дзір адпомсцілі за тое, што яна прыняла намесніка Рурыка.

Прычыну такой рэакцыі кіеўскіх князёў на падзеі **862 г.** даследчыкі тлумачаць па-рознаму. Адны лічаць, што далучэнне Полацкам да сваіх уладанняў прыпяцкай часткі дрыгавічоў стварыла непасрэдную пагрозу Кіеву і з'явілася падставай для помсты Аскольда і Дзіра. Іншыя мяркуюць, што да таго часу палачане ўваходзілі ў склад Русі, і вайна пасля зацвярджэння ў Полацку Рурыкавага "мужа" была прадыктавана імкненнем Кіева вярнуць уладанне па Заходняй Дзвіне пад свой палітычны кантроль. Так, акадэмік Б.А. Рыбакоў сцвярджае,што землі палачан і дрыгавічоў належалі Русі ўжо ў пачатку IX ст. Гэта пацвярджаецца, на яго думку, пералікам падпарадкаваных уладзе кіеўскага князя племянных саюзаў, які прыводзіцца ў недатаванай частцы "Аповесці мінулых гадоў": "Се бо токмо словенеск язык в Руси: поляне, древляне, новгородци, полочане, дреговичи, север, бужане, зане седоша по Бугу, послеже же велыняне".

Гісторык М.К. Любаўскі ў сваіх лекцыях, прачытаных у Маскоўскім універсітэце, прытрымліваўся думкі, што аб'яднанне ўсходніх славян пачалося з Ноўгарада, на чале якога стаялі варажскія князі - конунгі. Адзін з іх - Алег - пазней умацаваўся ў Кіеве і прымусіў прызнаць сябе галоўным правадыром усяго ўсходняга славянства.

В.В. Сядоў мяркуе,што Полацкая зямля ў другой палове IX ст. знаходзілася ў залежнасці ад Ноўгарада, а з утварэннем Кіеўскай дзяржавы стала яе часткай. А вось гісторык Б.Д. Грэкаў сцвярджаў, што да драматычных падзей **980 г.** Полацк ніколі не быў пад уладай Кіева.

Падзея **865 г.** мела значныя наступствы для далейшага лёсу беларускіх зямель. Полацк хутчэй за ўсё быў адабраны ад Рурыка і ўключаны (ці вернуты) ў сферу ўплыву Кіева. Пасля смерці Рурыка (879 г.) фактычна поўнаўладным гаспадаром стаў Алег-апякун малалетняга Ігара Рурыкавіча. У **882 г.** з войскам Алег пайшоў з Ноўгарада ў Кіеў, забіў Аскольда і Дзіра і абвясціў Кіеў "мати градом русьским". Па дарозе ён падпарадкаваў сабе Смаленск. Ус-

таляваўшыся ў Кіеве **(882-912),** ён, заклапочаны пошукамі даннікаў, падначаліў сабе з дапамогай як згоды, так і прымусу ўсходнеславянскія землі і вырашыў большасць праблем, звязаных з нараджэннем самай вялікай раннефеадальнай дзяржавы Еўропы. Алег "устави дани славеном, кривичем и мери". Кіеўскі князь адносна да крывічоў ужо дзейнічае не як заваёўнік, а як дзяржаўны дзеяч, што вызначае павіннасці сваіх падданых. Але далучэнне Полацкай зямлі да дзяржавы Рурыка, а потым Алега не прывяло да поўнай страты яе самастойнасці.

Пад сцягам вызвалення ад панавання хазар у 885 г. Алег падначаліў сабе радзімічаў. Летапісец паведамляе, што князь спытаўся ў радзімічаў, каму яны плацяць даніну, і, пачуўшы, што даніну з іх здымаюць хазары, загадаў: "Не дайте хозарам, но мне дайте". І яны сталі плаціць Алегу "па шэлягу", як дагэтуль плацілі хазарам.

Асобныя гістарычныя працы сцвярджаюць, што падпарадкаванне радзімічаў было ў нейкай ступені добраахвотным. "Алег вызваліў радзімічаў ад уплаты даніны хазарам". Але гэту ідылію абвяргае пазнейшы факт непакорнасці радзімічаў, што выклікала паўторнае падпарадкаванне іх Кіеву ў **984** г. **Такім чынам, у 80-ыя гады завяршылася падначаленне Кіевам беларускага ўсходнеславянскага Падзвіння і Пасожжа.** Дрыгавічы, верагодна, да **980 г.** захоўвалі самастойнасць. На захадзе Беларусі, як вядома, жылі балты - яцвягі, літва, дайнова.

Крывічоў і радзімічаў мы бачым у ліку шматплямённага войска, з якім Алег у **907 г.** пайшоў на Царград. Паход быў удалы. Грэкі абавязаліся выплаціць вялікую кантрыбуцыю рускім гарадам, дзе "седяху велиции князи,под Олгом суше", у тым ліку і Полацку. Аб чым сведчыць гэтая летапісная звестка: аб ўваходжанні Полацкага княства ў склад Кіеўскай дзяржавы ці аб удзеле ў паходзе раўнапраўнага ваеннага саюзніка.

У паходзе Ігара на Візантыю ў **944 г.** радзімічы ўжо не ўдзельнічалі, а крывічы, хоць і ўдзельнічалі, але ў дагаворы 945 г. Полацк не згадваецца. Відавочна, што пры пераемніках Алега - Ігары, Вользе і Святаславе - уплыў Кіева аслабеў. **Полацк тады выйшаў з-пад улады Кіева, аднавіў сваю палітычную самастойнасць і незвычайна ўзмацніўся ў 40-70-ыя гады Х ст.** Выгаднае

геаграфічнае становішча княства на важных гандлёвых шляхах давала магчымасць умацавацца эканоміцы, адчыняла Полацку шлях да палітычнай самастойнасці.

Характар адносінаў Полацка з Кіевам у IX—XII стст. з'яўляецца спрэчным. У літаратуры намеціліся два асноўныя падыходы да гэтай праблемы. Першы падыход, што існаваў у савецкай гістарыяграфіі, разглядаў Кіеўскую Русь як адзіную дзяржаўную структуру, пабудаваную на аснове сузаранітэту - васалітэту, часткай якой было Полацкае княства. Прыхільнікі другога падыходу (М. Ермаловіч, Г. Штыхаў і інш.) бачаць у Кіеўскай Русі няўстойлівы кангламерат плямён і народаў, у якім непрацяглы час і ў нетрывалым саюзе давялося пабываць і Полацкаму княству. Перыяды яго саюзніцкіх адносін з кіеўскімі князямі чаргаваліся з ваеннымі канфрантацыямі, ініцыятарамі якіх нярэдка выступалі полацкія князі.

Яшчэ К. Маркс назваў Кіеўскую дзяржаву "імперыяй Рурыкавічаў", якая была "недарэчнай", "нязграбнай", "скараспелай" і "шматковай". На жаль, у XX ст. дадзеная выключна трапная характарыстыка чамусьці забылася многімі гісторыкамі, якія пачалі гэтае ўтварэнне без надзейных унутраных мацуючых ніцяў паказваць як цэнтралізаваную і адзіную дзяржаву. У сапраўднасці ж, яна была нетрывалым ваенна-палітычным аб'яднаннем племянных саюзаў, якое дзе-нідзе было добраахвотным (напрыклад, у раёнах знешняй бяспекі), але часта ажыццяўлялася і сілай. Племянныя землі ўключаліся ў склад Кіеўскай Русі нярэдка насуперак іх волі і інтарэсам. Таму яе палітычныя граніцы былі вельмі зменлівыя: то адзін, то другі племянны саюз выходзіў з падпарадкавання, адстойваў свой суверэнітэт. На працягу цэлага стагоддзя Кіеў вёў паўторныя войны з іншымі землямі, утрымліваючы іх і вяртаючы ў склад сваёй дзяржавы.

Нанава пачаў фарміраваць "імперыю Рурыкавічаў" пазашлюбны сын Святаслава наўгародскі князь Уладзімір (вялікі кіеўскі князь у 980—1015 гг). Збіраючыся распачаць барацьбу за вялікакняжацкі пасад, што займаў яго зводны брат Яраполк, Уладзімір намагаецца схіліць на свой бок Полацк, які падтрымліваў раўнапраўныя сувязі з Кіевам. Ізноў Полацкая зямля аказалася ў ролі дзяржавы, ад якой залежыць перавага ў спрэчцы паміж Кіевам і Ноўгарадам.

## Полацкае княства ў апошняй чвэрці X ст.

## Рагвалод і Рагнеда. Ізяслаў

У **апошняй чвэрці X ст.** у Полацку незалежна ад Кіева і ад Ноўгарада правіў **Рагвалод.** Ён стаў першым персанажам беларускай гісторыі, чыё імя данеслі да нас пісьмовыя крыніцы.

Асоба першага летапісна вядомага полацкага князя і яго знакамітай дачкі Рагнеды выклікае цікавасць у даследчыкаў і шмат спрэчак. Найбольш дыскусійнымі з'яўляюцца пытанні: адкуль з'явіўся Рагвалод у Полацку і хто ён па паходжанні? У летапісе сказана, што прыйшоў ён з "заморья, имяше волость свою в Полотьске". Для гісторыкаў-нарманістаў гэтага было дастаткова, каб аб'явіць яго варагам, якому ўдалося ў канцы X ст. падначаліць сабе Полацк і стаць у ім князем. Гэта імя, як і імя яго дачкі Рагнеды, сталі выводзіць са скандынаўскіх моў. Якія адносіны меў Рагвалод да праўнукаў Рурыка - вызначыць немагчыма. У адным з летапісаў сказана, што продак Рагвалода прыйшоў з варагаў разам з Рурыкам. Ці былі Рагвалод Полацкі і Рагнеда скандынавамі? Можа так, мяркуючы па ўрывачных летапісных даных, а таксама па іх асабістых іменах, якія знаходзяць адпаведнасць у скандынаўскіх мовах. Лагічна дапусціць, што ў X ст. у Полацк прыйшла нешматлікая варажская дружына на чале з Рагвалодам, але хутка растварылася сярод мясцовага насельніцтва, нават не пакінуўшы следу ў археалагічным матэрыяле.

Але імя яго можа быць растлумачана і са славянскіх моў у этымалагічным значэнні "валадар рога" (у сэнсе культавага язычніцкага прадмета, а можа багацця; рог у язычніцтве з'яўляецца сімвалам урадлівасці, багацця). Імя Рагвалод сустракаецца і ў чэхаў.

Аднак самае важнае для нас не паходжанне Рагвалода, а тое, што ён выступае як гістарычны дзеяч, поўнасцю аддадзены інтарэсам Полацка. Ён стаў княжыць тут у **60—70-ыя гады X ст.** і, скарыстаўшыся палітычнымі абставінамі - скіраванасцю інтарэсаў кіеўскага князя Святаслава на поўдзень, - намерваўся ахапіць сваёй уладай землі ад Прыпяці да Фінскага заліва. Рагвалод замацаваў пазіцыі Полацка на землях дрыгавічоў. Паводле падання, ён накіра-

ваўся на поўдзень па цячэнню Дняпра і, прыйшоўшы да вусця Прыпяці, выслаў уверх па рацэ адну са сваіх дружын на чале з Турам. Апошні выбраў выгаднае месца, пасяліўся на ім і збудаваў затым горад. Полацкі князь стаў распаўсюджваць свой уплыў на поўнач. Іакімаўскі летапіс прыводзіць факт паходу Рагвалода на наўгародскія землі, у чым бачыцца імкненне Полацка набыць ключавыя пазіцыі на шляху "з варагаў у грэкі".

У часы Рагвалода Полацкае княства - магутная, суверэнная, прызнаная дзяржава, якая выступіла аб'яднальным цэнтрам значнай часткі ўсходнееўрапейскага масіву славянства. Таму яна можа разглядацца на аднолькавым узроўні з Кіеўскай дзяржавай. Сведчаннем прызнання Полацка з боку Ноўгарада і Кіева могуць быць падзеі, занатаваныя летапісцамі пад **980 (970)** годам. Даследчыкі найбольш верагоднай лічаць дату не пазней **976 г.** Тады наспела неабходнасць у саюзе Полацкага і Кіеўскага княстваў, замацаваць які збіраліся звыклым для тых часоў шляхам - шлюбам дачкі Рагвалода князёўны Рагнеды і кіеўскага стольнага князя Яраполка.

Наўгародскі князь Уладзімір Святаслававіч, намерваючыся авалодаць вялікакняжацкім тронам, вырашыў умяшацца і парушыць палітычныя сувязі Полацка і Кіева. Поспех у будучым супрацьстаянні мог вырашыцца тым, на чыім баку выступіць полацкі князь. Знешне падзеі выглядалі ў форме сватаўства Уладзіміра да Рагнеды. Сватаўся наўгародскі князь, нягледзячы на тое, што ведаў пра яе заручыны з Яраполкам Кіеўскім. Абодва браты дамагаліся рукі Рагвалодавай дачкі, каб перацягнуць Полацк на свой бок. Паводле летапісу, Рагвалод спытаў у дачкі: ***"Ці хочаш ісці за Уладзіміра?"*** Яна ганарліва адказала: ***"Не хачу разуць сына рабыні, а хачу за Яраполка".*** Гэта не толькі быў выбар самой Рагнеды, вырашаў Рагвалод. Вуснамі Рагнеды полацкі князь ясна мовіў, каго ён падтрымлівае. Яно і зразумела: Яраполк - законны ўладар Русі, а хто такі Уладзімір? Незаконнанароджаны сын Святаслава ад ключніцы Малушы, пазбаўлены правоў на кіеўскі пасад.

У гэтым асабістым трохкутніку мы зноў бачым палітычны трохкутнік Кіеў-Полацк-Ноўгарад. А гісторыя сватання наўгародскага і кіеўскага князёў да Рагнеды адлюстроўвае барацьбу Ноўгарада і

Кіева за ўплыў на Беларусі. Гэта барацьба за прыярытэт і саюз з Полацкам прывяла ледзь не да поўнага вынішчэння мясцовай княжацкай дынастыі і часовай страты ім палітычнай незалежнасці. Абражаны адказам, не жадаючы ў будучым паходзе на Кіеў пакідаць за спінаю такога магутнага праціўніка, Уладзімір збірае "вои многи" з варагаў, славенаў, чудзі, крывічоў і ідзе на Полацк. Фактычна супраць яго былі кінуты ўсе сілы Паўночнай Русі.

Горад быў абрабаваны і спалены. Рагвалод, яго жонка і сыны — забіты. Мужчынская лінія полацкіх князёў была знішчана. Рагнеда гвалтам узята ў жонкі. Уладзімір, які, безумоўна, меў заслугі перад Руссю, для нашых продкаў заўсёды быў захопнікам і забойцам.

Драматычны лёс Рагвалода, з якім звязаны першыя падзеі сівой мінуўшчыны нашай Бацькаўшчыны, не закрэсліваюць значэння першага вядомага полацкага князя ў гісторыі. Рагвалод першы ўбачыў і па-сапраўднаму ацаніў магчымасці Полацкай зямлі як асобнай дзяржавы са сваімі мэтамі і інтарэсамі і аднавіў яе самастойнасць. Не выпадкова, што менавіта ён быў першым з полацкіх князёў, занесеных у аналы.

Падпарадкаваўшы сабе Полацкую зямлю, а захоп стольнага горада быў раўназначны авалоданню ўсім княствам, Уладзімір ідзе на Кіеў, забівае брата свайго Яраполка і садзіцца на вялікакняжацкі трон. Яму ўдаецца на нейкі час сабраць пад сваёй уладай вялікія абшары ўсходнееўрапейскіх славянскіх зямель.

Каля **976** г. быў захоплены Полацк, а разам з ім, магчыма, падпарадкавана і Дрыгавіцкая зямля. У **983** годзе "мде ***Володимер на ятвягы*** м ***победи ятвягы, и взя землю их".*** На жаль, у летапісе не ўдакладняецца месца паходу. Яцвягі займалі значную тэрыторыю на захадзе Беларусі і паўночным усходзе Польшчы. Гэты паход мог быць зроблены ў раёны Пабужжа ці Панямоння. Пачынаючы з 983 г., кіеўскія князі праводзяць захопніцкую палітыку ў беларускай Яцвягіі і Літве, накіраваную на пашырэнне ўладанняў Старажытнарускай дзяржавы.

У **984** г. Уладзімір здзейсніў паход на радзімічаў, якія разам з вяцічамі і севяранамі перасталі падпарадкоўвацца Кіеву. З пакараннем вяцічаў у пачатку 80-х гадоў быў прадвырашаны і лёс жыхароў Пасожжа.У **984** г. княжацкі ваявода па мянушцы Воўчы Хвост

разбіў радзімічаў на рацэ Пяшчане (пад Слаўгарадам). З таго часу і з'явілася прымаўка, якой дражнілі радзімічаў: ***"Пяшчанцы воўчага хваста бегаюць".*** І зноў тыя ***"плацяць даніну Русі, павоз вязуць і дагэтуль",*** - падсумоўвае летапіс. У выніку карнай экспедыцыі радзімічы былі вернуты пад уладу Кіева.

Знаёмства з крыніцамі выклікае такія асацыяцыі: факт уплаты якімсьці племем даніны на карысць Кіева быў раўназначны прызнанню над сабой яго ўлады і ўваходжанню ў склад старажытнай Русі; адмова ў даніне азначала выхад з-пад яго адміністрацыі і са складу дзяржавы.

Слабасць такого дзяржаўнага ўтварэння, якім з'яўлялася імперыя Уладзіміра, была відавочнай. У сувязі з эканамічным ростам перыферыйных цэнтраў у XI ст. пачаўся працэс яе палітычнага распаду, у якім актыўна ўдзельнічала і Полацкая зямля. Яе падпарадкаванне Кіеву было фармальным, без глыбокіх эканамічных і палітычных падстаў. Ужо ў канцы X ст. яна адрадзіла самастойную княжацкую дынастыю, а ў другім пакаленні князёў - і палітыку дзяржаўнай незалежнасці. У канцы жыцця Уладзімір робіць спробу адасобіцца ад Кіева і Тураўскага княства.

Прымусам узятая ў жонкі Рагнеда дала працяг полацкай княжацкай дынастыі Рагвалодавічаў і роду вялікіх кіеўскіх князёў. Славуты будаўнік кіеўскай Сафіі, князь-кніжнік, палітык еўрапейскага ўзроўню, аўтар першага ўсходнеславянскага зборніка законаў "Руская праўда" Яраслаў Мудры - яе другі сын. Гады не вылечылі яе боль за спаленне роднага горада, за расправу з бацькамі. Яна робіць няўдалую спробу забіць Уладзіміра, пасля чаго разам з сынам Ізяславам, які заступіўся за маці, была выслана на Бацькаўшчыну ў заснаваны для іх горад Ізяслаўль (сучаснае Заслаўе Мінскай вобласці).

Там Рагнеда прымае манаскі стан пад імем Анастасіі, засноўвае манастыр - ці не першы ва Усходняй Еўропе — і ў 1000 г. памірае. Яе імя разам з імем Рагвалода стаіць ля вытокаў старажытнай гісторыі Беларусі. Яе вобраз набыў шмат легендарных рыс. У асобе Рагнеды мы бачым мужную жанчыну з высокім гонарам і адданасцю Радзіме. Трагічны вобраз непакорнай палачанкі ў розныя гады натхняў пісьменнікаў, кампазітараў і мастакоў.

**Ізяслаў Уладзіміравіч** трымаў спачатку Заслаўе, а каля **985 г.,** верагодна, быў запрошаны палачанамі на княжацкі стол.

Уладзімір, які пасля хрышчэння Русі накіраваў сваіх сыноў у буйнейшыя гарады сваёй «імперыі» ў якасці намеснікаў, гэтаму не пярэчыў. Разам са сваімі баярамі ён бачыў, што толькі сілай гэты край нельга ўтрымаць. Для яго была патрэбна прыхільнасць Полацка і прымірэнне з ім.

Пісьмовыя крыніцы нам нічога не гавораць пра дзяржаўную дзейнасць Ізяслава. Разам з ім **узнаўляўся род полацкіх князёў,** якія нязменна называлі сябе Рагвалодавічамі, а не Рурыкавічамі, як астатнія рускія князі. Ізяслаў фактычна паклаў пачатак палітычнаму адраджэнню Полацкага княства на мяжы X-XI стст., спрыяў распаўсюджванню тут хрысціянства. Ён першым з усходнеславянскіх князёў быў ахарактарызаваны у летапісе як кніжнік. Яго асабістая пячатка з'яўляецца першым помнікам усходнеславянскага пісьменства. Памёр Ізяслаў у 1001 г., пражыў не болей 25-26 гадоў.

ЛЕКЦЫЯ 6

# УЗМАЦНЕННЕ ПОЛАЦКАГА КНЯСТВА Ў XI СТ.

- ***Княства пры Брачыславе.***
- ***Усяслаў Полацкі. Бітва на Нямізе.***
- ***Барацьба Уладзіміра Манамаха з Усяславам у 70—80-ыя гады. Значэнне дзейнасці Усяслава.***

## Княства пры Брачыславе

**IX-X стст. - час нараджэння Полацкага княства як адзінай дзяржавы. XI ст. - час яе станаўлення, вайсковага і эканамічнага ўзмацнення, адстойвання незалежнасці, умацавання знешніх і ўнутраных сацыяльна-эканамічных і культурных сувязяў.** Гэта былі супярэчлівыя і вельмі складаныя часы. Але менавіта яны былі першымі крокамі на шляху ўсталявання беларускай дзяржаўнасці, якая фарміравалася на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а пазней становіцца беларускай і ў этнічным сэнсе.

У XI ст. да Полацкага княства былі далучаны гарады Віцебск і Усвяты (1021 г.). Адчуўшы сілу, яго князі двойчы займалі Ноўгарад (1021 і 1066 гг.), змагаліся за Пскоў (1065 г.) і Смаленск (1078 г.). У другой палове стагоддзя старажытнабеларуская дзяржава дасягнула найбольшай магутнасці. Калі ў першай палове XI ст. кіеўскія князі стрымлівалі яе сепаратысцкія памкненні, дык у другой палове становішча змянілася і яна стала галоўным канкурэнтам Кіева. Перыядычныя спробы паўднёварускіх князёў у XI - першай трэці XII ст. прымусіць Полацк і Менск падпарадкавацца ўладзе Кіева прыводзілі да ваенных сутычак.

Пасля таямнічай смерці Ізяслава і свайго малалетняга папярэдніка Усяслава (1001-1003 гг.) полацкі прастол заняў Ізяславаў сын Брачыслаў. Узмужнеўшы, ён пачаў працу па адраджэнню былой велічы сваёй зямлі і вяртанню ёй незалежнасці. У **1015** годзе ўся "шматковая і нетрывалая імперыя Рурыкавічаў" была падзелена паміж нашчадкамі Уладзіміра. Сярод іх найбольш магутнымі былі Яраслаў Наўгародскі (Мудры) і яго пляменнік Брачыслаў Полацкі. Гісторыкі дапускаюць, што гэты дуумвірат з **1019** (1015) па **1020** г.

праз сваіх пасрэднікаў кіраваў у Кіеве. На тое былі генеалагічныя падставы. Першыя Ізяслававічы маглі прад'яўляць свае правы на вялікакняжацкі трон як нашчадкі Уладзіміра.

Палітычная раўнавага ў краіне парушылася, калі Яраслаў пасля смерці многіх братоў перабраўся княжыць ў Кіеў. Запярэчыць яму мог толькі адзін полацкі князь. Ён здолеў настолькі ўмацаваць сваю зямлю, што выступіў у апазіцыі кіеўскім цэнтрысцкім памкненням. Хуткае развіццё Полацкага княства прывяло яго да сутыкнення з Кіевам. Брачыслаў ужо не жадаў прызнаваць уладу вялікага князя. Адчуўшы сілу, ён пачаў змагацца з Яраславам за ўплыў на паўночныя землі Русі. Вялікая спрэчка разгарэлася паміж імі з-за Ноўгарада, які быў паўночным ключом воднага шляху "з варагаў у грэкі". Ноўгарад быў кроўным ворагам Полацка пасля забойства Рагвалода. Напружанасць адносін з ім тлумачыцца і барацьбой за прыярытэтнае права кантролю над візантыйска-варажскім экспартам - імпартам. Апроч таго, ішла тэрытарыяльная спрэчка за валоданне гарадамі Віцебск і Усвяты, якія, размешчаныя на волаках, мелі вялікае эканамічнае значэнне. Відаць, яшчэ Уладзімір у канцы X ст. не прамінуў адцясніць палачан ад вярхоўяў Заходняй Дзвіны і Дняпра, тады і перайшлі ва ўладанне Ноўгарада Віцебск і Усвяты.

У 1021 г. на чале вялікага войска Брачыслаў напаў на Ноўгарад, захапіў гэты буйнейшы горад Усходняй Еўропы з непрыступнымі абарончымі ўмацаваннямі. Сярэдневяковы польскі гісторык Ян Длугаш піша, што ўслед за сталіцай Брачыслаў авалодаў усім Наўгародскім княствам, паставіў у захопленых гарадах сваіх намеснікаў і з багатай здабычай і палонам накіраваўся дадому. На сёмы дзень зваротнага шляху яны ўбачылі перад сабой баявыя сцягі Яраслававай дружыны. Бітва адбылася на рацэ Судоміры. Калі верыць летапісам, разбіты Брачыслаў уцёк. Аднак дзіўная гэта была перамога: кіеўскі князь замест таго, каб пакараць Брачыслава, перадае пляменніку ва ўладанне Віцебск і Усвяты - якраз тыя гарады, якіх Полацку не хапала для ўмацавання пазіцый на шляху "з варагаў у грэкі". Тым самым Яраслаў прызнае самастойнасць Полацкай зямлі. Відаць, полацкі князь уяўляў унушальную сілу, таму князю кіеўскаму было выгадна мець саюз з ім. У сваю чаргу, Брачыслаў адмаўляўся ад улады над Ноўгарадам і вызваліў палонных. Пагад-

ненне паміж князямі было заключана ў такой форме, якая адпавядала саюзу роўных, суверэнных уладароў, без патрабавання прызнаць старшынства князя кіеўскага.

Калі наўгародскі-кіеўскі летапіс характарызуе дзеянні Брачыслава як грабежніцкі напад на Ноўгарад, то ў падачы Я. Длугаша яны выступаюць як буйныя дзяржаўныя акцыі Полацка па далучэнню Наўгародскага княства да сваіх уладанняў. Савецкі гісторык А.Н. Насонаў бачыць у гэтых падзеях памкненні ўзмацнелага Полацкага княства заняць ключавыя пазіцыі на шляху "з варагаў у грэкі" - растучая эканоміка патрабавала выхадаў і на поўнач.

Такім чынам, з часу Брачыслава пачынаецца барацьба паміж Полацкам і Кіевам. "И оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуком", - запісаў летапісец. Яна працягвалася з перапынкамі больш за сто гадоў. На думку акадэміка Б.Д. Грэкава, Полацкае княства менавіта з **1021** г. стала "жыць аўтаномным жыццём, вядучы працяглую барацьбу з Кіевам". Маскоўскі даследчык Л.В. Аляксееў на старонках сваёй манаграфіі "Полоцкая земля в IX-XIII вв." (М., 1966) сцвярджае, што "Полацкае княства ўяўляла сабой найбольш самастойную палітычную адзінку старажытнай Русі". У знешнепалітычным жыцці адасобленасць княства праявілася ўжо ў вайсковым мерапрыемстве Брачыслава 1021 г., а на працягу другой паловы XI ст. яно амаль поўнасцю вызвалілася ад улады Яраславічаў. Больш таго, гэты даследчык старажытнай гісторыі Полаччыны лічыць, што "барацьба полацкіх князёў з паўднёварускімі насіла прагрэсіўны характар да тых часоў, пакуль яна садзейнічала выяўленню і развіццю ўнутраных эканамічных сіл" княства. Гэта барацьба страціла сваю прагрэсіўнасць у XII ст., калі непамерна вырасшыя апетыты полацкіх князёў прывялі да барацьбы не толькі з Кіевам, але і паміж сабой за пераразмеркаванне зямель, знясільвалі краіну пастаяннымі войнамі, аслаблялі яе эканамічны патэнцыял.

Няма дакладных звестак, як склаўся ў далейшым лёс Брачыслава. Паводле дамовы з Яраславам, ён згадзіўся "заадзін" ваяваць з кіеўскім князем да канца жыцця і, можа, удзельнічаў у яго захопніцкіх паходах, хаця крыніцы маўчаць пра гэта. Паводле сцвяр-

джэння "Эймундавай сагі", Яраслаў на нейкі час саступіў Брачыславу кіеўскі трон.

Брачыслаў пашырыў межы Полацкага княства на захад і поўнач. У ніжнім рэчышчы Дзвіны паўстаюць гарады Кукейнос і Ерсіка (зараз гэта тэрыторыі Латвіі), праз якія палачане цалкам кантралююць гандлёвы шлях на Дзвіне аж да Варажскага (Балтыйскага) мора, збіраюць даніну з балцкіх плямёнаў ліваў і латгалаў. Назвы Браслаў (горад у Беларусі, вёска ля возера Свір, вёска ля Оршы, населены пункт у Латвіі) разам з Віцебскам і Усвятамі могуць быць пэўнымі арыенцірамі ў вызначэнні межаў тэрытарыяльнага росту Полаччыны пры Брачыславе.

У 1044 г. князь памёр, пражыўшы каля 45 гадоў.

Такім чынам, у **першай палове XI ст. Полацкае княства зноў заявіла сябе як самастойная дзяржава.** Да сярэдзіны стагоддзя ў яе нетрах назапасіліся магутныя ўнутраныя рэсурсы, якія давалі падставу для далейшага самастойнага развіцця і абароны ўласных інтарэсаў. Усё гэта надзвычай яскрава праявілася ў другой палове XI ст. Усяслаў Полацкі атрымаў у спадчыну моцную дзяржаву, якая здолела выстаяць і перамагчы ў нялёгкай барацьбе за незалежнасць. У гэтым галоўная заслуга Брачыслава.

## Усяслаў Полацкі. Бітва на Нямізе

Другая палова XI ст. звязана з імем буйнейшага ўсходнееўрапейскага палітычнага дзеяча князя Усяслава (1044-1101) і складае цэлую эпоху ў полацкай гісторыі. Ужо ў сучаснікаў гэта незвычайная асоба Рагвалодава нашчадка выклікала здзіўленне, здавалася загадкавай. Адкуль у яго столькі палітычнага розуму, хітрасці, невычэрпнай энергіі і жвавасці? Натура Усяслава была багатая і магутная, а жыццё - поўнае рашучых учынкаў, бліскучых узлётаў і трагічных падзенняў. Сучаснікі не маглі згадзіцца з тым, што гэта звычайны, просты чалавек. Яны былі перакананы, што Усяслаў мае ў сабе незвычайную сілу, што ён чараўнік, можа абарочвацца воўкам і бегаць за сотні вёрст. Усе летапісныя паданні звязваюць яго жыццё і дзейнасць з нейкімі дзівосамі. Тайна ахінае ўжо яго прыход у свет. "Его же роди мати от волхования", - піша "Аповесць мінулых гадоў". Ля калыскі немаўляці сабраліся вешчуны - амаль як пры

нараджэнні Хрыста. Афіцыйны кіеўскі летапісец атэставаў князя як "нелітасцівага на кровапраліцце". Ваенныя поспехі Усяслава, яго ўменне непрыметна апынуцца са сваім войскам там і тады, дзе і калі яго зусім не чакалі, сучаснікі таксама лічылі чарадзействам. Яшчэ пры жыцці ён стаў чалавекам-легендай, што сведчыла пра выключнасць гэтай гістарычнай постаці. Пасля смерці князь стаў героем розных паданняў, гістарычных песень і бышін. Прыхільным да Усяслава быў геніяльны аўтар "Слова аб палку Ігаравым" і ўславіў яго як эпічнага героя "з вешчаю душою ў мужным целе".

Усяслаў нарадзіўся каля 1030 г. і пракняжыў ў Полацку больш за паўстагоддзе. На працягу 1044—1060 гг. крыніцы маўчаць пра Усяслава. Яго дзейнасць ў гэты час не выходзіла за межы ўласнай вотчыны, бо старажытнарускія летапісцы звычайна гаварылі пра Полацк толькі тады, калі яго дзеянні закранали інтарэсы Кіева і Ноўгарада. Першае 15-годдзе Усяслаў не ўключаецца ў агульнарускія справы, а хутчэй за ўсё быў заняты ўнутрыдзяржаўнымі праблемамі. З **60-х гадоў XI ст.** ён дастаткова ўмацаваўся і пачынае энергічную дзейнасць. У 1060 г. падтрымаў Кіеў у барацьбе з качэўнікамі. Але гэты сумесны паход не спыніў росту ўзаемнай непрыязнасці, хоць знешне мірныя адносіны паміж імі працягваліся яшчэ пяць гадоў.

Для Полацка гэты час характэрны ўсё большым падкрэсліваннем сваёй дзяржаўнай асобнасці. У **60-ыя гады** тут узводзіцца Сафійскі сабор, каб паведаміць свету пра роўнасць з Кіевам і Ноўгарадам, дзе такія храмы з'явіліся трохі раней.

Выкарыстаўшы спрыяльныя палітычныя абставіны: пачатак распаду старажытнай Русі, міжусобная барацьба, якой былі адцягнуты сілы Кіева, - "поча Всеслав рать держать". У **1065** г. ён са сваёй дружынай напаў на Пскоў. Муры крэпасці грамілі сценабітнымі прыладамі, але, нягледзячы на магутны наступ, пскоўскі замак застаўся непрыступным. У **1066** г. полацкая дружына рушыла на Ноўгарад, разрабавала яго, спаліла частку горада, захапіла палонных. У знак падначалення Ноўгарада паздымалі званы з Сафійскага сабора і прывезлі ў Полацк - тут жа свая Сафія... Будаўніцтва храма ў Полацку і адначасова абрабаванне сабора ў Ноўгарадзе пры ўсёй супярэчлівасці магло адпавядаць няўстойліваму хрысціянска-паган-

скаму веравызнанню Усяслава. З якой мэтай гэта зроблена: знішчыць аб'ект пакланення? Ці выкарыстаць культавыя прыналежнасці для ўласнага храма? Гэта застаецца тайнай. Некаторыя бачаць у такім учынку выпад супраць хрысціянства.

Захопам Ноўгарада Усяслаў "разбіў славу Яраслава", як апавядае "Слова аб палку Ігаравым", - менавіта гэты горад доўгі час быў апорай Яраслава Мудрага і яго нашчадкаў. Рознагалоссе крыніц і храналагічная блытаніна ў іх даюць падставу меркаваць, што ў **1066 - пачатку 1067 г.** Усяслаў зрабіў два паходы ў блізкія па назве гарады: першы - на Ноўгарад, другі - на Наваградак (сучасны Навагрудак). Помстай за гэтыя дзеянні стала спусташэнне Менска, праз які і мог вяртацца з Наваградка ў Полацк Усяслаў.

## Барацьба Уладзіміра Манамаха з Усяславам у 70-80-ыя гады. Значэнне дзейнасці Усяслава

Устрывожаныя, абураныя такімі паводзінамі Яраславічы - сыны Яраслава Мудрага: Ізяслаў Кіеўскі, Святаслаў Чарнігаўскі і Усевалад Пераяслаўскі — вырашылі ўціхамірыць полацкага князя. Аб'яднанае войска падышло да Менска. Тады горад знаходзіўся на рацэ Менцы (прыток Пцічы) за 16 км на захад ад гістарычнага цэнтра сучаснай сталіцы і быў памежнай крэпасцю Полацкага княства. Даведаўшыся пра небяспеку, відавочна, чакаючы скорага падыходу Усяслава з войскам, "меняне затворишася в граде". Аднак выстаяць супраць злучаных сіл паўднёвай Русі не змаглі. Расправа з імі была выключна жорсткая: усе мужчыны былі перабіты, а жанчыны і дзеці ўзяты ў палон. Менск ляжаў у руінах. Менавіта ў сувязі з такімі драматычнымі падзеямі **1067 г.** упершыню згадваецца ў летапісах наша сталіца. Горад на Менцы знішчалі двойчы - у **1084 г.** трагічныя падзеі паўтарыў Уладзімір Манамах, дружына якога захапіла горад. Пасля гэтых спусташэнняў "меняне" вымушаны былі яго пакінуць. На месцы ўпадзення Нямігі ў Свіслач, на своеасаблівым востраве, у канцы XI- пачатку XII ст. яны ўзвялі другое паселішча і далі яму былую назву.

Захапіўшы Менск, Яраславічы рушылі на Нямігу. Полацкая дружына выступіла насустрач ім. **3 сакавіка 1067** г. тут адбылася жорсткая бітва - адна з самых крывавых у нашай старажытнасці.

Крыніцы не пакінулі нам яе падрабязнага апісання. "Бысць сеча зла и мнози падоша", - канстатаваў летапісец Нестар. Па сваіх маштабах і палітычных выніках падзеі **1067** г. былі настолькі значныя, што ўскалыхнулі грамадскую свядомасць старажытнай Русі, засталіся ў памяці некалькіх пакаленняў. Праз 120 год рэха іх адбілася ў "Слове аб палку Ігаравым" вобразам жудаснай крывавай малацьбы:

"На Нямізе галовы сцелюць снапамі,
харалужнымі малоцяць цапамі,
жыццё кладуць на таку злюцела,
веюць душу ад тела.
Нямігі крывавыя берагі
не збожжам былі засеяны зноў -
засеяны касцьмі рускіх сыноў".

І хаця берагі Нямігі былі «засеяны касцьмі рускіх сыноў», але Усяславу давялося адступіць. «І одолеша Ізяслав, Святослав, Всеволод. Всеслав же бежа", - расказвае "Аповесць мінулых гадоў".

Даследчыкамі выказваліся самыя розныя меркаванні наконт лакалізацыі месца пабоішча на Нямізе. Археалагічныя пошукі пакуль што дакладнага адказу на гэта пытанне не далі. Трагедыя **1067** г. магла адбыцца ў межах гістарычнага цэнтра сучаснага Мінска. Няміга - гэта ўмацаваны гарадок, заснаваны на аднайменнай рэчцы. Пры археалагічных раскопках на глыбіні **6—7** м знойдзены бераг першапачатковай ракі, вялікая колькасць рэчаў матэрыяльнай культуры, гарадскія ўмацаванні. Да нашага часу захавалася абмялелае рэчышча Нямігі, якое на працягу некалькіх кіламетраў працякае ў калектары над аднайменнай вуліцай беларускай сталіцы.

Нягледзячы на разгром палачан, Яраслававічы не рушылі на іх сталіцу, а «замацавалі» сваю перамогу адступленнем да "Pшы ля Смаленска", куды запрасілі Усяслава на перамовы, гарантаваўшы яму бяспеку: "Приди к нам,яко не створим ти зла". Полацкі князь з двума сынамі явіўся ў стан Яраславічаў. Але тыя вераломна парушылі сваё "крыжацалаванне" (прысягу), схапілі іх і адвезлі ў Кіеў, дзе пасадзілі "ў поруб"-цямніцу. Там яны і прасядзелі 14 месяцаў. Аднак **з вязняў Усяслаў быў раптоўна "ўзнесены" ў вялікія князі.**

**15 верасня 1068 г.** у Кіеве адбылося паўстанне, выклікане грандыёзным паражэннем Яраславічаў на р.Альце ад полаўцаў, якія ўпершыню напалі на Русь, і, скарыстаўшыся перамогай, пачалі рабаваць яе паўднёвыя землі. З ганьбаю вярнуўся кіеўскі князь Ізяслаў дадому. Абураныя кіеўляне запатрабавалі даць ім зброю для барацьбы з полаўцамі, але князь адмовіў ім. Гэта і выклікала незадаволенасць, якая перарасла ў паўстанне. Узбунтаваная "чэрнь" вызваліла з цямніцы Усяслава і абвясціла яго вялікім князем. Ізяслаў уцёк у Польшчу. Падзея экстраардынарная ў тагачасным грамадстве - выгнанне гараджанамі аднаго князя, вызваленне з вязніцы і "ўхвала" другога. Не прыходзіцца сумнявацца ў наяўнасці ў Кіеве шматлікіх прыхільнікаў полацкага палоннага, якія лічылі яго права на вялікакняжацкі пасад законным, бо яго бацька Брачыслаў быў у свой час кіеўскім князем. Так, Усяслаў меў ускоснае права на гэты пасад, але яно было настолькі адносным, што сам ён ніколі не імкнуўся яго ажыццявіць. У гісторыі "імперыі Рурыкавічаў" гэты момант быў унікальным яшчэ і тым, што ў яе склад уваходзіў і непакорлівы Полацк.

Сядзець на "залатым стале кіеўскім" Усяславу было наканавана ўсяго 7 месяцаў. У гэты час ён быў поўнаўладным валадаром больш за палову ўсходнеславянскай зямлі. Што адбывалася тады, аб гэтым летапісы маўчаць. Відаць, па іх радках прайшлася рука пазнейшых рэдактараў, якія пастараліся выкрэсліць вельмі непрыемную для кіеўскіх князёў старонку гісторыі. Б.Рыбакоў зрабіў спробу аднавіць гэту страчаную старонку гісторыі на аснове "Слова аб палку Ігаравым". На яго думку, фраза "Всеслаў князь людям судяше (суды судзіў), князем грады радяше (парадкаваў)" адносіцца да кіеўскага перыяду дзейнасці Чарадзея і характарызуе яго як справядлівага і мудрага князя. Зноў-такі на падставе "Слова..." даследчык выказвае меркаванне, што Усяслаў зрабіў імклівы паход у далёкую Тмутаракань, каб знайсці саюзніка для барацьбы з полаўцамі. Не выходзіць за межы магчымага і сцвярджэнне Б. Рыбакова, што Усяслаў удзельнічаў у разгроме полаўцаў у канцы 1068 г. Тыя 3 гады (1065-1068) высока ўзнеслі Усяслава і паставілі яго ў шэраг гістарычных асоб Усходняй Еўропы.

У наступным 1069 г. выгнаннік Ізяслаў пры падтрымцы войска

польскага караля Баляслава Харобрага рушыў на Кіеў адстойваць "справядлівасць". Насустрач у бок Белгарада выйшла кіеўская дружына з Усяславам на чале. Развязка была нечаканай. Ноччу напярэдадні бітвы Усяслаў кінуў войска і вярнуўся ў Полацк. У Кіеве зноў усталяваўся Ізяслаў, які жорстка пакараў удзельнікаў паўстання. Дагэтуль ніхто не змог пераканаўча растлумачыць, чаму Чарадзей добраахвотна адмовіўся ад такога прэстыжнага княжання. Д.С.Ліхачоў казаў, што ў князя прачнулася сумленне за знятыя калісьці з Наўгародскай Сафіі званы. М.І. Ермаловіч тлумачыць гэта варожасцю кіеўскіх баяр да князя, абранага "чорным людам", і апазіцыяй Ноўгарада. С.В. Тарасаў дапускае, што Усяслаў апынуўся перад складаным выбарам: як яму, які выступаў супраць цэнтрысцкіх памкненняў Кіева і абараняў самастойнасць Полацка, праводзіць цэнтралісцкую палітыку? На Радзіме ён, зразумела, меў большую падтрымку і больш надзейнае месца. Таму, як падае "Слова...", ён "даткнуўся пікаю да залатога стала кіеўскага. І пабег ад іх лютым зверам апоўначы з Белграду...".

Змаганне Полацка з Кіевам, які працягваў сваю палітыку на падначаленне сабе беларускіх зямель, працягваецца. У тым жа годзе Ізяслаў прымусіў Усяслава ратавацца ўцёкамі і з роднага горада. Стол у Полацку заняў Ізяслаў сын Мсціслаў. Пасля яго нечаканай смерці - мяркуюць, "не без дапамогі" палачан - пасаду заняў яго брат Святаполк. Але і таму было наканавана правіць не болей года. Усяслаў жа знайшоў сабе часовае прыстанішча на зямлі фінскага племені водзі.

У 1071 г. ён прыйшоў пад Полацк з войскам саюзных яму эстаў, ліваў, летаў, земгалаў і выгнаў Святаполка. У тым жа годзе брат Святаполка Яраполк разбіў Усяслава ля Галацічаска. Дзе знаходзіўся гэты горад, пакуль дакладна не выяўлена. Верагодна, на месцы сучаснай вёскі Голацк Пухавіцкага раёна, за 30 км на паўднёвы ўсход ад Менска. Магчыма, тады Усяслаў у другі раз быў сагнаны з полацкага прастола. Але ў 1073 г. нястомны князь змог вярнуць сабе бацькаўскі ўдзел. Гаспадаранне кіеўскіх намеснікаў, нежаданне мясцовых феадалаў зміріцца з прадстаўнікамі чужой дынастыі і імкненне выйсці з-пад улады Кіева аблягчала Усяславу вяртанне.

Аднак Яраславічы не пакідаюць Полацк у спакоі. У 70-я гады на

гістарычную арэну выйшаў Уладзімір Манамах, тады ўдзельны князь у Пераяслаўі, потым у Чарнігаве і Смаленску. Шмат гора і бяды прынёс нашым продкам гэты добра вядомы ў расійскай гісторыі князь. Многа раз аб'ядноўваюцца пад яго кіраўніцтвам паўднёвыя князі ў карных паходах на Полацкае княства, супраць Усяслава, а пасля і яго сына Глеба Менскага, хоць яны і не былі супернікамі ў яго барацьбе за вялікакняжацкі трон. У **1077-1078** гг. адбыліся два спусташальныя паходы, у час якіх "ожгоше"Полацк — спалілі яго ваколіцы, а потым "воюя", гэта значыць, рабуючы, беручы ў палон, пайшлі ў кірунку Одрска (горад на тэрыторыі Полацкага княства, месцазнаходжанне якога пакуль не выяўлена).

Усяслаў пакараў Манамаха за яго гвалтоўніцтва. У **1078** г. полацкая дружына робіць імклівы напад на Смаленск і "ожьже" яго - зрабіла тое, што Манамах зрабіў з Полацкам. З чарнігаўскім палком Манамах імчыць наўздагон, але насцігнуць яе не змог. Ісці ж на стольны горад палачан не рызыкнуў. Таму "ўслед за Усяславам, - пісаў ён уласнаручна ў сваім "Павучанні", - спаліў зямлю (Полацкую), спустошыўшы (яе) да Лукомля і Лагожска, ды супраць Друцка ваюючы". У сувязі з такімі драматычнымі падзеямі ўпершыню папалі ў поле зроку летапісца гэтыя беларускія гарады.

У **1084** г. Манамах разам з чарнігаўцамі і полаўцамі зрабіў знішчальны паход на Менск - "захапілі горад і не пакінулі ў ім ні чалядзіна, ні скаціны", што азначала яго абрабаванне і знішчэнне датла. Мы ўжо гаварылі аб верагоднасці першапачатковага знаходжання Менска на месцы сучаснай вёскі Гарадзішча (Мінскі раён) на рацэ Менцы. Хутчэй за ўсё гэты напад Манамаха і паклаў канец існаванню першапачатковага Менска, паколькі археалагічныя знаходкі тут абмяжоўваюцца XI ст. Двойчы разбураны на працягу 17 гадоў (1067 і 1084), горад адрадзіцца ўжо не змог. Жыхары, якім нейкім чынам удалоея выратавацца ад знішчэння ці палону, не вярнуліся на старое папялішча, а пасяліліся ў раёне Нямігі, перанёсшы сюды і назву свайго ранейшага паселішча. Як відаць з прыведзеных фактаў, барацьба Манамаха з Усяславам насіла выключна напружаны і жорсткі характар. З 1084 да 1101 г. летапісы маўчаць аб войнах супраць Полацкай зямлі. Варожыя дзеянні ў адносінах да яе знайшлі працяг у пачатку XII ст., ужо пасля смерці Усяслава.

У **1097 г.** у Любечы сабраліся ўсходнеславянскія князі, каб абвясціць даўно наспелы і абмыты крывёю прынцып:"Кожны ды трымае вотчыну сваю". Сярод іх не было Усяслава - красамоўнае сведчанне таго, што кіеўскія князі бачылі ў Полаччыне непадуладную ім зямлю. Гэты самы прынцып ён абвясціў у 1065 г. і да 1097 г. для Усяслава ён даўно быў здзейснены. Яму не было чаго дзяліць з астатнімі князямі. Палачане не прысутнічалі і на іншых княжацкіх з'ездах: у 1110 г. у Віцічаве і ў 1103 г. каля Долабскага возера, што замацавалі працэс распаду Кіеўскай Русі. Следам за ім гэтым шляхам пайшлі астатнія княствы. Яны, па словах Б.Д. Грэкава, развалілі Кіеўскую Русь, як "шкарлупіну, у якой ім стала цесна".

Аднесціся да факта распаду старажытнарускай федэратыўнай дзяржавы гісторык М.І. Ткачоў раіць спакойна, дыялектычна, бачачы ў гэтых падзеях не толькі адмоўныя, але і станоўчыя бакі. Усім "плакальшчыкам" па колішняй велічы старажытнарускай дзяржавы вельмі добра адказаў акадэмік Б.А. Рыбакоў : "Неабходна адмовіцца ад разумення ўсёй эпохі феадальнай раздробленасці як часу рэгрэсу, руху назад... Кіеўская Русь была як маці, якая вырасціла многіх сыноў, што склалі новае пакаленне".

Калі знешнепалітычная дзейнасць Усяслава яскрава прасочваецца па летапісах, то яго ўнутраная палітыка засталася неасветленай ў гістарычных крыніцах і толькі па асобных намёках можна здагадвацца пра яе змест. Выраз "Слова...", што "Всеслав князь людям судяше", сведчыць аб яго актыўнай прававой дзейнасці. Бясспрэчна, на першым плане стала ўмацаванне княжацкай улады, дружыны, ахова маёмасці знаці. Улічваючы вялікую ролю гандлю для Полацкага княства, якое знаходзілася на скрыжаванні водных шляхоў, можна думаць, што Усяслаў увагу надаваў пытанням рэгулявання гандлю і асабліва спагнання падаткаў. Пры ім быў пабудаваны ў сутоцы Нямігі і Свіслачы Менск пасля знішчэння кіеўскімі князямі горада на Менцы. Адной з плённых старонак дзейнасці Усяслава было ўзвядзенне Полацкай Сафіі. Гэтым быў дадзены новы імпульс для развіцця мастацтва і асветы - для функцыянавання сабора патрэбны былі адукаваныя людзі, кнігі, культавыя рэчы, абразы. Шматгранная грамадская дзейнасць Усяслава не ў меншай ступені, чым ратная, садзейнічала ўмацаванню трываласці Полац-

кай дзяржавы. Што ж датычыць далучэння Усяславам новых тэрыторый, то ніводная крыніца на гэта не ўказвае.

Эпоха Усяслава з'яўляецца адным з самых важных і яркіх перыядаў нашай старажытнай гісторыі. Гэта быў час найбольшай магутнасці Полацкага княства. **Галоўная заслуга Усяслава ў тым, што ён правільна зразумеў і ацаніў аб'ектыўныя ўмовы развіцця беларускіх зямель у другой палове XI ст. і скіраваў сваю дзеннасць на абарону дзяржаўнага суверэнітэту сваёй Бацькаўшчыны.** Ён быў разважлівым і прадбачлівым палітычным дзеячам, які ўдала спалучаў задачы ўнутранага і знешняга ўмацавання сваёй дзяржавы.

Дзейнасць Усяслава выклікала ў гісторыкаў супярэчлівыя ацэнкі. Калі глядзець з пазіцыі адзінадзяржаўя Кіеўскай Русі, можна ўбачыць у ім сепаратыста і драпежніка. Але бачыць за гістарычнымі падзеямі другой паловы XI ст. волю аднаго чалавека нельга. Усяслаў не змог бы ўсё жыццё пратрымацца на полацкім прастоле, калі б яго не падтрымлівалі палачане, а праз іх - жыхары ўсёй Полацкай зямлі. Гэта сведчыць аб тым, што князь як дзяржаўны дзеяч цалкам адпавядаў інтарэсам свайго народа і краіны.

***"В лето 6609 (1101) преставился Всеслав, Полоцкий князь, месяца апреля, в 14 день, в 9 час.дня, в среду" -*** незвычайная для летапісаў храналагічная дакладнасць, як і незвычайная сама гістарычная постаць. У Кіеве, дзе пільна сачылі за падзеямі ў Полацку, гэту вестку сустрэлі, калі не з радасцю, то з палёгкай, бо не стала іх даўняга грознага праціўніка.

## ЛЕКЦЫЯ 7

# ФЕАДАЛЬНАЯ РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

- *Асноўныя тэндэнцыі полацкай гісторыі ў XII-пачатку XIII ст.*
- *Дзейнасць Глеба Менскага. Вайна 1128 г.*
- *Полацкая зямля ў другой палове XII ст.*

## Асноўныя тэндэнцыі полацкай гісторыі ў XII-пачатку XIII ст.

Гістарычна заканамерная эпоха феадальнай раздробленасці не абмінула Беларусь. Поступ феадалізму, рост гарадоў, далейшае развіццё земляробства прыводзяць да таго, што ў XII ст. у межах старажытнабеларускіх дзяржаў-княстваў абуджаюцца мясцовыя інтарэсы і наступае іх тэрытарыяльнае драбленне. Яно вызначаецца геаграфічнымі, этнічнымі, але найперш эканамічнымі прычынамі. З'яўленне ў Полацкай зямлі ўдзелаў-валасцей хутчэй за ўсё адбылося яшчэ ў апошнія дзесяцігоддзі XI ст. - князі надзялялі сыноў зямлёй яшчэ пры жыцці, звычайна пасля шлюбу сына або па дасягненні пэўнага ўзросту. Аднак пры Усяславе княства захоўвала сваё адзінства.

Яно было тады буйной феадальнай дзяржавай, якая першая дамаглася поўнай самастойнасці. Але, ідучы ў авангардзе заканамернага гістарычнага развіцця, сама Полацкая зямля, зноў-такі першая з усіх усходнеславянскіх княстваў, падпала пад працэс феадальнага драблення. Распаўшыся на амаль дзесятак княстваў, кожнае з якіх мела сваю тэрыторыю і свае межы, яна нібы ў мініяцюры паўтарыла лёс старажытнай Русі.

З самага пачатку XII ст. пісьмовыя крыніцы фіксуюць наяўнасць на тэрыторыі Полаччыны адносна самастойных дробных валасцей, што маюць сваіх князёў. Першымі выдзеліліся Менскі (зарэгістраваны летапісам у 1104 г.) і Друцкі (у пачатку XII ст.) ўдзелы. Асабліва выразна сімптомы распаду дзяржавы выявіліся к сярэдзіне — другой палове XII ст. У самастойныя ўдзелы вылучаюцца Ізяслаўль і Лагожск, адбываецца адасабленне Віцебскай і Лукомскай валасцей.У пачатку XIII ст. згадваюцца яшчэ 2 удзельныя княствы - Герцыке і Кукенойс.

Ужо к канцу XI стагоддзя летапісы згадваюць 11 полацкіх гарадоў, акрамя сталіцы, у XII ст. у межах зямлі іх было 17. Яны сцягвалі вакол сябе пэўныя геаграфічныя і эканамічныя рэгіёны. Санкт-пецярбургскі даследчык старажытнарускай гісторыі І.Я. Фраянаў называе іх гарадамі-дзяржавамі. Побач з Полацкам выраслі і ўзмацнелі Віцебск, Друцк, Менск і іншыя гарады, якія імкнуцца да большай самастойнасці.

Складваюцца мясцовыя княжацкія дынастыі з нашчадкаў Рагвалода - Усяслава. Полацк, які захаваў статус "стольнага" горада, падаўляе сепаратысцкія замашкі ўдзелаў. Аднак яго ўплыў слабеў. Цяпер ужо воласці сутыкаюцца з галоўным горадам, а таксама паміж сабой. Іншы раз яны бралі над Полацкам верх, навязвалі яму сваю волю і сваіх стаўленікаў. Князь то з Друцка, то з Менска садзіцца на полацкі стол, а, пацярпеўшы няўдачу, вяртаецца ў прытуліўшы яго горад. У XII ст. даволі хутка расла палітычная роля Менска, які падначаліў навакольныя гарады і стаў фактычна сапернікам Полацка ў аб'яднанні зямель. На пэўны час Менск становіцца значным адміністрацыйна-палітычным, вайсковым і культурным цэнтрам Беларусі.

Хоць паміж удзеламі ішла барацьба, аднак, яна не была сепаратысцкай, нацэленай на поўную адасобленасць. Гэта была барацьба за дамінуючае становішча ў Полацкай зямлі, і выяўлялася яна ў дамаганні вялікакняжацкага прастола. Менавіта адсутнасць сепаратызму складала асаблівасць развіцця гэтай часткі Русі ў XII - пачатку XIII ст.

За міжусобіцамі, якія ў XII ст. сталі звычайнай з'явай, стаялі не толькі карыслівыя мэты той ці іншай княжацкай групоўкі, але нярэдка і гандлёва-эканамічныя і грамадска-палітычныя інтарэсы мясцовага насельніцтва. Таму прычыну тагачасных канфліктаў нельга бачыць толькі ў міжкняжацкіх сварках. У XII ст. на старонкі летапісаў усё часцей пападаюць гараджане: "палачане", "driучане", "меняне" і інш. У гэты час узмацняецца актыўнасць народных мас, знаці. У батальных падзеях XII ст. фігуруе народнае апалчэнне-"воі". Нярэдка перамагаў менавіта той князь, за якім ішло больш вояў. Воі не толькі падтрымлівалі князёў, але і абаранялі інтарэсы сваіх валасцей і гарадоў. Праўда, улічваючы стан крыніц, цяжка

сказаць, дзе канчаецца саперніцтва князёў, а дзе пачынаецца барацьба валасцей.

Ведучы бясконцыя міжусобіцы, князі мелі патрэбу ў вялікіх сродках і падтрымцы з боку сваіх феадалаў. Таму яны станавіліся ўсё больш залежныя ад баярства, якое, сканцэнтраваўшы ў сваіх руках шмат зямлі і багацця, стала адыгрываць вялікую ролю ў палітычным жыцці гарадоў.

Развіццё феадальных адносін, рост гарадоў, узмацненне ролі гарадской вярхушкі, актывізацыя мае разам з аслабленнем княжацкай улады абумовілі складванне новага палітычнага ладу, пры якім рэальная сіла стала належаць сходу гараджан - вечу. Летапісец запісаў, што палачане ***"сталі кіравацца вечам, як у Вялікім Ноўгарадзе і Пскове, гаспадара над сабой не мелі".*** Веча існавала ў Полацку і, відаць, у Менску, Друцку, Віцебску. Яго роля ў палітычным жыцці зямлі з канца 20—30-х гадоў XII ст. узмацняецца. Баярска-купецкая вярхушка выкарыстоўвала вечавыя сходы ў сваіх інтарэсах. Князям даводзілася лічыцца з воляй уплывовых баяр і купцоў, якія валодалі значнымі матэрыяльнымі сродкамі (землямі, лясамі, дамамі, гандлёвымі суднамі і г.д.), а таксама вялікімі грашовымі сумамі.

Паўнапраўнымі ўдзельнікамі веча прызнаваліся толькі свабодныя людзі. На сход жыхароў збіраў вечавы звон на гарадской плошчы. Князь, ураднік ці найбольш паважаны стары чалавек рабіў кароткае паведамленне аб сутнасці справы, з-за якой склікана веча. Затым ішло яе абмеркаванне. На прапановы прамоўцаў веча адказвала гоманам. Галасоў не лічылі (гэта і нельга было зрабіць), на слых вырашалі, што ўхваляюць удзельнікі. Часта большасць затыкала рот кулаком ці шапкай меншасці, каб пазбавіць яе голасу і правесці такім чынам сваё рашэнне. (Ці не адсюль прымаўка: "Ты мне рот не затыкай!").

Веча абмяжоўвала ўладу князя, але не знішчала яе. Полацкі князь ажыццяўляў суд і ўнутранае кіраванне, раздаваў воласці сваім васалам, мог заключыць мір. Узаемаадносіны веча і князя трэба разглядаць як першыя крокі на шляху размежавання і падзелу ўладаў - заканадаўчай (веча) і выканаўчай (князя).

Важнай прэрагатывай веча быў кантроль за дзейнасцю свайго

князя. Яно трымала князёў у моцнай залежнасці ад сябе. Веча запрашала князя, які прымаў умовы "рады" (пагаднення), выпрацаванага гараджанамі. Істотнай асаблівасцю выбарнасці кіраўніка ў Полацкай зямлі было тое, што гэты выбар абмяжоўваўся вузкім колам асоб з мясцовай дынастыі Рагвалодавічаў - Усяславічаў, што падкрэслівала адданасць свайму княжацкаму роду.

Полацкае веча не раз выганяла непажаданых князёў (1128,1132,1151,1159 гг). У XII ст. род Усяслава разросся. Князёў стала больш, чым удзелаў, і яны пакорліва зносілі сваю залежнасць ад веча, якое мяняла аднаго князя на другога. Ад новаабранага гаспадара патрабавалася прысяга - "крыж цалаваць". Факт выгнання князёў і кантроль за іх дзейнасцю сведчыць пра слабасць княжацкай улады ў Полацку. Толькі ў адным выпадку князь карыстаўся прэрагатывай у поўную меру - у якасці военачальніка. Ён нёс перад гараджанамі ўсю адказнасць за поспехі і пралікі ў ваенных дзеяннях. Гэта была галоўная функцыя ўлады князя.

Веча ў Полацку вырашала і іншыя найбольш важныя пытанні дзяржаўнага жыцця: раскладка павіннасцей і падаткаў, міжнародныя справы. Яго рашэнні былі абавязковыя для ўдзелаў. Г.В. Штыхаў бачыць слаба выяўленыя рысы арыстакратычнай рэспублікі ў палітычным ладзе старабеларускай дзяржавы. У гэтым яе сходства з палітычным ладам Наўгародскай зямлі.

Адначасова з "хатняй" барацьбой у XII ст. ідзе змаганне Полацкага княства з Кіевам, якое бярэ пачатак яшчэ з часоў Рагвалода. Пасля смерці Усяслава пачаліся цяжкія гады. Ваенна-палітычны націск Кіева не слабеў. Уладзімір Манамах, які яшчэ ў 1077 і 1084 гг. праявіў сябе ворагам, зноў арганізуе і робіць паходы ў Полацкую зямлю (апошні ў 1119 г.), руйнуе яе гарады. У першай трэці XII ст. зноў узмацняецца феадальная манархія на Русі. Пры Манамаху (1113—1125) і яго сыне Мсціславе (1125—1132) яна дасягнула свайго другога росквіту. Мсціслаў працягвае традыцыйную жорсткую рэпрэсіўную палітыку свайго бацькі ў адносінах да Полацкага княства. Часова яно губляе сваю самастойнасць, ненадоўга (як гэта было ў 980 г., 1068 г.) і ў апошні раз уваходзіць у склад Старажытнай Русі (1129—1132) і кіруецца стаўленікамі Кіева. У **1132 г.,** калі ў выніку аб'ектыўных сацыяльна-эканамічных прычын

і палітычных сварак розных дынастычных ліній дома Рурыкавічаў ***"разьдрася вся русская земля",*** яно чарговы раз і канчаткова адасобілася ад Кіева.

У Полацку даўно прыглядваліся да сварак нашчадкаў Яраслава Мудрага. У XII стагоддзі княства актыўна ўмешваецца ў палітычнае жыццё астатняй Русі, завязвае сувязі з аднымі князямі супраць іншых. Устанаўліваюцца розныя знешнепалітычныя арыентацыі мясцовых князёў: друцкія князі (Барысавічы), напрыклад, абапіраліся на Манамаха і манамашычаў, а мінскія - на Вячаславічаў, потым на Ольгавічаў. З іх падтрымкай удзельныя полацкія князі вядуць барацьбу паміж сабой за пераразмеркаванне зямель і ўлады, а таксама імкнуцца сапернічаць, праўда, ужо не так паспяхова, як у XI ст., са сваімі суседзямі. У сваіх разладах яны клікалі на дапамогу балцкія атрады літвы. Гэта ўключэнне Полацкай зямлі ў агульнарускўю палітыку XII ст. вядзе ў канчатковым выніку да палітычнай залежнасці князёў ад розных паўднёварускіх палітычных партый. Уключэнне ў барацьбу паміж кіеўскімі і смаленскімі князямі і выступленне на баку то адных, то другіх прывяло да таго, што ў 60—70-я гады полацкія князі часова трапляюць у залежнасць ад больш моцнага Смаленскага княства, якое да гэтага часу палітычна адасобілася ад Русі і імкнулася пашырыць свае ўладанні.

У **80-90-я гады XII ст. аднаўляецца адноснае адзінства Полацкай зямлі. Барацьба са знешнімі ворагамі, а таксама далейшае сацыяльна-эканамічнае развіццё стварылі аснову для яе палітычнай і тэрытарыяльнай кансалідацыі, якая адбывалася** ў **канцы XII-першай палове XIII ст.**

Пры ўсіх негатыўных адносінах Полацка і іншых беларускіх зямель з Кіевам і суседнімі княствамі ў XII ст., мы не можам адмаўляць, што гэта эпоха была пераломнай амаль для ўсіх народаў Усходняй Еўропы.

Не варта абсалютызаваць аслабленне Полацкай зямлі ў выніку феадальнай раздробленасці. Складаныя працэсы, што адбываліся на беларускіх землях у гэты перыяд, нярэдка ставяць гісторыкаў у тупік. З аднаго боку, асабліва відаць адмоўныя бакі эпохі: сваркі князёў за ўдзелы і ўладу, міжусобныя войны, няспынныя паходы,

усё большае драбленне і аслабленне княства. Гэта стрымлівала сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё, аслабляла ваенны патэнцыял дзяржавы. З другога боку, пачатковая фаза феадальнай раздробленасці (XII - пачатак XIII ст.) да таго часу, як у нармальнае развіццё ўмяшаўся ваенны фактар, характарызуецца буйным ростам і ўзмацненнем гарадоў, а таксама і росквітам культуры.

Перыяд феадальнай раздробленасці нельга разглядаць як час поўнай эканамічнай і палітычнай ізаляцыі княстваў і зямель, бо побач з імкненнямі да адасаблення былі тэндэнцыі да аб'яднання. Этнічная супольнасць, у прыватнасці, агульнасць мовы і культуры, адзінства заканадаўчых і юрыдычных нормаў, сумесная барацьба са знешняй бяспекай і, нарэшце, адзіная рэлігія садзейнічалі збліжэнню беларускіх зямель паміж сабой. Эканамічнае развіццё, сацыяльныя адносіны, палітычнае жыццё, культура старажытнай Беларусі зрабілі новыя крокі ў сваім паступальным гістарычным развіцці ў гэты час.

### Дзейнасць Глеба Менскага. Вайна 1128 г.

Пасля смерці Усяслава ў 1101 г. на полацкі пасад сеў яго сын Давыд. Глеб стаў першым менскім князем. Барыс валодаў Друцкім удзелам. Каму дастаўся Віцебск - невядома. Пра іншых сыноў Усяслава, апроч іх імёнаў, ніякіх звестак не захавалася. Факт з'яўлення ўдзельных князёў - знак не толькі росту княжацкай сям'і, колькі ўзрослай магутнасці гарадоў. Размеркаванне валасцей Полацкага княства паміж Усяслававічамі не магло не прывесці да іх узаемнай барацьбы за пераразмеркаванне зямель і дамінаванне ў дзяржаве. З братоў найбольшай актыўнасцю вылучаўся Глеб. Ён накіроўваў усю сваю энергію на ўмацаванне, пашырэнне і ўзвышэнне Менскага княства. Менавіта ён вёў рэй палітычнага жыцця на Полаччыне ў першай чвэрці XII ст.

Новыя павевы ў полацкай гісторыі адразу выяўляюцца ў саперніцтве Давыда і Глеба. Не маючы дастаткова сіл, каб трымаць у падпарадкаванні братоў, Давыд Полацкі ўжо праз два гады пасля смерці бацькі ўвайшоў у кааліцыю паўднёварускіх князёў. Разам з імі ўдзельнічаў у паходзе на полаўцаў (1103 г.), а ў 1104 нападае на свайго брата, князя менскага. Давыд, відаць, не мог усмірыць Гле-

ба і з'явіўся ініцыятарам уварвання кіеўскага і чарнігаўскага войскаў на Менск - цвярдыню Полацкай зямлі на яе паўднёвых рубяжах. Але перамагчы Глеба кааліцыя не змагла, яе дружына пацярпела няўдачу і была вымушана вярнуцца ні з чым.

Галоўную прычыну гэтага трэба бачыць у моцы Менска, які меў добрыя ўмацаванні і патрэбную колькасць вайсковай сілы для абароны, у адсутнасці адзінства членаў кааліцыі і іх пасіўнасці у ваенных дзеяннях. Такі вынік, бясспрэчна, яшчэ больш умацаваў становішча Глеба і ў значнай ступені акрэсліў яго далейшую палітыку.

Першыя ж падзеі XII ст. раскрываюць першачарговую задачу Полацкага княства ў той час - каланізацыя балцкіх зямель. Паводле Тацішчава, у 1102 г. князь Барыс хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, вярнуўся назад і паставіў горад Барысаў у свае імя. М.І. Ермаловіч мяркуе, што гэта быў паход на яцвягаў Верхняга Панямоння, якія жылі тут уперамежку з літвой. Пранікненне Полацка ў глыб балцкіх зямель пацвярджае няўдалы паход на земгалаў у 1106 г.

Яшчэ раней пакораныя Полацкам земгалы выйшлі з яго падначалення і перасталі плаціць даніну. Іх непакорнасць пагражала Полацку стратай кантролю над астатнімі падзвінскімі плямёнамі. Гэта акалічнасць асабліва ўстрывожыла Усяславічаў. У паходзе на земгалаў удзельнічалі ўсе браты. А гэта сведчыць, што ўдзелы, якія з'явіліся на Полаччыне, і іх князі, нягледзячы на часовую варожасць і барацьбу паміж сабой, не страцілі разумення агульных інтарэсаў усёй зямлі. Праўда, у адрозненне ад паходу на яцвягаў у 1102 г., гэта акцыя была выключна няўдалай. Крыніцы нічога не гавораць пра аднаўленне полацкай улады над земгаламі. А што гэта было так - не падлягае сумненню, бо ў пачатку XIII стагоддзя, паводле нямецкіх хронік, ніжняе Падзвінне належала Полацку.

З часу земгальскага паражэння і да 1119 г. на першы план полацкай гісторыі выступае Глеб, а яго менскі ўдзел, размешчаны ў басейне Бярэзіны і Свіслачы, адыгрывае найбольш важную ролю ў дзяржаве. Пісьмовыя крыніцы захавалі звыш дзесятка звестак пра Глеба, значна больш, чым пра любога іншага нашчадка Усяслава. Відаць, яго энергічная асоба кідалася ў вочы сучаснікам. На самай справе, гэта была выдатная гістарычная постаць.

Геаграфічнае становішча княства, яго этнічная асаблівасць (дры-

гавіцка-крывіцкае-балцкае насельніцтва) вызначылі для Глеба кірункі пашырэння межаў сваёй зямлі ад Нёмана і Дзвіны да берагоў Дняпра і Прыпяцкага левабярэжжа. Яго экспансіўная палітыка найперш была абумоўлена эканамічнымі прычынамі, бо толькі выхад на гэтыя рэкі мог вывесці Менск з ізаляцыі, забяспечыць яму ўплыў на важнейшыя шляхі зносін і панаванне над імі. Энергічныя дзеянні Манамаха знішчылі гэтыя грандыёзныя планы.

Урывачныя летапісныя паведамленні не даюць магчымасці аднавіць усе звенні ажыццяўлення палітыкі Глеба Менскага ў аднолькавай паўнаце. У сваім руху на ўсход ён авалодаў Оршай і Копыссю, у залежнасць ад Глеба папаў Друцк. Выхад да Дняпра намнога павялічыў сілы Менска, што дало магчымасць пераключыць увагу на прыпяцкі кірунак.

Аднак змяніліся палітычныя абставіны. У 1113 г. памёр кіеўскі князь Святаполк, яго пераемнікам стаў па запрашэнню гараджан Уладзімір Манамах - даўні непрыяцель Полацкай зямлі. З гэтага часу зноў пачынаецца абвастрэнне адносін паміж Менскам і Кіевам. Кіеўскія крыніцы ўсю віну за гэта ўскладаюць на Глеба, які кінуў выклік вялікаму князю: у **1116** г. Глеб ***"воевал дреговичи и Случеск пожег, и не каяшеться о сем, ни покаряшеться,- но более противу Володимеру глаголюще, укаряя и***". Манамах, якому падпарадкоўвалася Тураўская зямля і, значыць, Слуцк, прымае ў адказ на гэта крутыя меры. Ён выступіў у кааліцыі з іншымі князямі - чарнігаўскім, смаленскім, пераяслаўскім — на менскага свавольніка. Былі разрабаваны Друцк, захоплены і перададзены Смаленску Орша, Копысь. Навісла небяспека над Менскам. Апынуўшыся пад пагрозай працяглай аблогі і голаду, Глеб выйшаў з горада з жонкай, дзецьмі і папрасіў у Манамаха літасці. ***"Омирев (усмирив) Глеба и наказав его",*** Манамах пакінуў яму Менск на правах васальнага валодання, а сам вярнуўся ў Кіев. Так спроба Менска завалодаць прыпяцкімі і дрыгавіцкімі землямі абышлася дарагой цаной - стратай важнейшага ўчастка Падняпроўя, які забяспечваў яму паўнакроўнае эканамічнае і палітычнае жыццё. У адчаі менскі князь пачынае неадкладна весці барацьбу за іх вяртанне.

У **1117** г., як паведамляе Тацішчаў, які чытаў полацкі летапіс, Глеб разам з палачанамі ***"начал воевать область Владимировых***

***детей: Новгородскую (Наваградскую)*** м ***Смоленскую".*** Гэта перапоўніла чашу цярпення Манамаха: ***"хотя беспокойство сего князя смирить, послал Мстислава, сына, с братиею и воеводы с довольным войском и велел, как, возможно, Глеба самого, поймав, привести. Мстислав же, пришел вскоре, Менск оступа, взял, где Глеба, не пряняв его просьбы о мире, пленил и в Киев привез, где он в заточении преставился".*** Гэта адбылося ў 1119 г. Пахаваны Глеб быў у Кіева-Пячорскай лаўры. Ёсць думка, што яго атруцілі. Што ж, Глеб Менскі быў моцнай палітычнай постаццю, як і ў свой час яго бацька Усяслаў, і прыносіў шмат клопатаў Кіеву. Вялікія князі на прыкладзе падзей 1068 г. добра ведалі, як небяспечна трымаць у сябе палоннага полацкага князя.

Захоплены войскамі Мсціслава, Менскі ўдзел нейдзе на 1,5 дзесяцігоддзя пераходзіць да Кіева.

Трагічны фінал дзейнасці ніколькі не змяншае ролі Глеба Менскага ў нашай гісторыі. Гэты нашчадак Усяслава поўнасцю аддаўся справе пашырэння і ўзвышэння свайго княства, але ніколі не губляў здольнасці бачыць агульныя інтарэсы ўсёй Полацкай зямлі. У **грандыёзных планах Глеба па далучэнні нёманскіх, дняпроўскіх і прыпяцкіх зямель акрэсліваюцца контуры будучай Беларусі са сталічным статусам у ёй Менска.** У гэтым выключная палітычная роля першага менскага князя. Пасля Глеба засталіся тры сыны: Валадар, Расціслаў і Усяслаў. Першы з іх стаў найбольш паслядоўным прадаўжальнікам справы бацькі.

### Полацкая зямля ў другой палове XII ст.

Паражэнне Менска з'явілася пралогам яшчэ большай трагедыі, якая напаткала Полацкую зямлю ў канцы 20-х гадоў. Завалодаўшы часткай паўднёвай тэрыторыі Полаччыны на чале з Менскам, расправіўшыся з Глебам, Манамах разам са сваімі сынамі едзе ў 1121 г. у Смаленск ***"для рассмотренш несогласш и усмиренш полоцких князей".*** Гэта быў унікальны з'езд, бо на ім прысутнічалі полацкія князі, чаго не назіралася на папярэдніх з'ездах. Яны былі выкліканы Манамахам у Смаленск як васалы для ўціхамірвання. Полацка-кіеўскую нязгоду жывіла анэксія Менскай зямлі, з чым не маглі змірыцца полацкія князі і таму выказвалі свой пратэст, а то і

пагрозу вярнуць назад заваяванае. Напэўна, з боку Манамаха была выказана пагроза, што калі Усяславічы не ўціхаміравацца, то будуць мець справу са злучанымі сіламі ўсёй Русі. Вось для чаго разам з Манамахам прыехалі яго "дзеці"- каб палачане наглядна ўбачылі, наколькі супраць іх салідарныя паміж сабою ўсе рускія князі.

Тады ў паслушэнстве Кіева Усяславічы былі нядоўга. Яны захоўвалі бачнасць спакою да смерці Манамаха (1125). Непадпарадкаванне яго наступніку Мсціславу (1125—1132) выклікала праз тры гады буйнейшы кааліцыйны паход на непакорнае княства. Па колькасці ўдзельнікаў і велічыні іх войска гэта быў беспрэцэдэнтны паход у гісторыі Полацкай зямлі - сапраўдная феадальная вайна. Мсціслаў паслаў сюды шматлікія дружыны з Турава, Уладзіміра Валынскага, Гародні, Клецка, Чарнігава, Смаленска, Курска, Ноўгарада, а таксама атрады цюркскіх качэўнікаў. Усім ім былі ўказаны дакладныя маршруты і вызначаны дзень уварвання ў межы Полацкага княства. "Четырьмя путьми" войскі саюзнікаў накіроўваюцца супраць яго важнейшых абарончых аб'ектаў: Ізяслаўля, Лагожска, Барысава і Друцка. Зямлі быў нанесены сакрушальны ўдар. Некалькі гарадоў захоплена і разрабавана, многія жыхары ўзяты ў палон.

Націск кіеўскіх васалаў быў прыпынены, аднак, дзякуючы дыпламатычным перамовам, распачатым Полацкам. У гэты крытычны для дзяржавы момант на першы план выступае веча. Яно ўсклала ўсю віну за трагедыю на князя Давыда, выдаліла яго з сынамі з Полацка і з ухвалення Мсціслава ўзяла на гэта месца Рагвалода-Барыса. Задаволены прызнаннем палачанамі сваёй пакоры, Мсціслаў і ўсе ўдзельнікі кааліцыі спынілі далейшае прасоўванне. Хоць войскі адышлі ад Ізяслаўля, Лагожска, Барысава, Друцка, аднак, Менск не быў вернуты, што пакідала падставы для аднаўлення барацьбы.

Рагвалод-Барыс княжыў нядоўга. У 1129 г. ён памёр, на полацкі стол зноў-такі вярнуўся Давыд.

У гэтым жа годзе адбываюцца яшчэ дзве падзеі: Мсціслаў кіеўскі ідзе паходам на землі літвы, якія плацілі Полацку даніну, а Полацк адмаўляецца браць удзел у супольным паходзе рускіх князёў на полаўцаў. (Відаць, адной з умоў міру 1128 г. быў абавязак палачан удзельнічаць у вайсковых мерапрыемствах Кіева). Такім

чынам, зноў абвастраюцца полацка-кіеўскія супярэчнасці. Іх кульмінацыяй сталі драматычныя падзеі 1129 г. Кіеўскі князь рашаецца на кардынальны крок: ён паланіў і выслаў у Візантыю полацкіх князёў разам з іх сем'ямі: Расціслава, Святаслава, Георгія (бацьку будучага полацкага князя Васількі і Ефрасінні Полацкай), сыноў Рагвалода-Барыса - Васіля і Івана, а таксама Давыда. Там яны служылі ў войску. Гэта высылка садзейнічала ўмацаванню прамых культурных і рэлігійных сувязяў старажытнай Беларусі з Візантыяй. Толькі два выгнанніка - браты Рагвалодавічы - праз 10 гадоў вярнуліся на радзіму. Астатнія, відаць, закончылі свой жыццёвы шлях у Візантыі. Так у трэці раз у гісторыі была зроблена спроба паставіць крыж на полацкай дынастыі. Усё гэта было ў духу трывалай кіеўскай палітыкі, якая імкнулася знішчыць яе як увасабленне суверэнітэту Полацкай дзяржавы яшчэ ў 980 годзе (забойства Уладзімірам Рагвалода і яго сыноў) і ў 1067 г.(захоп у палон кіеўскім трыумвіратам Усяслава Чарадзея с сынамі).

Спроба ў 1129 г. рэпрэсіўнымі мерамі ў адносінах да мясцовай княжацкай дынастыі пакараць вольны Полацк за непаслушэнства, за адстойванне палітычнай незалежнасці сведчыла пра ўжо слабую эфектыўнасць і бесперспектыўнасць вялікадзяржаўнай палітыкі з пазіцыі сілы.

Выслаўшы князёў у Візантыю, Мсціслаў цалкам авалодаў Полацкай зямлёй і *"мужи свои посади по городам их*", а ў Полацку - спачатку свайго сына Ізяслава, потым - Святаполка.

Стаўленікі Кіева рабавалі краіну, душылі насельніцтва паборамі. Ды і сам Мсціслаў прыклаў руку да таго, каб падарваць эканамічную базу княства, здзяйсняючы паходы на землі, што плацілі Полацку даніну. У 1132 г. Мсціслаў у саюзе з чарнігаўскімі князямі і Усеваладам Гарадзеньскім хадзіў на літву "н пожгоша я". Гісторык Л.В. Аляксееў звярнуў увагу на тое, што паходы на літву і яцвягаў у X, XI і пачатку XII ст. арганізоўваюцца паўднёварускімі князямі толькі ў тых выпадках, калі Полацкае княства ці непасрэдна ім падпарадкавана (983, 1120, 1132 гп), ці знаходзілася з імі ў сяброўскіх адносінах (1038, 1040, 1112 гп).

Паходы Мсціслава на Полацк і літву былі фактычна апошнія акцыі Кіева па падначаленню іншых зямель. У 1132 г. Мсціслаў

памёр і гэта падзея чыста суб'ектыўнага характару адразу выявіла ўсю далейшую нежыццяздольнасць "шматковай імперыі Рурыкавічаў". Яна распалася на шматлікія ўдзелы, паміж якімі разгарэлася яшчэ з большай сілай міжусобная барацьба.

У гэтым жа 1132 годзе полацкае веча пазбавіла трона Святаполка, сказаўшы: *"Лишается нас".* Даследчыкі заўважылі, што немясцовыя князі ў Полацку не затрымліваліся. Выгнанне Святаполка пацвердзіла, што **палачане не цярпелі ў сябе прадстаўнікоў іншых дынастый.** Яны абралі сабе князем Васільку - унука Усяслава, сына Святаслава-Георгія, высланага разам з іншымі ў Візантыю, брата князёўны Прадславы, якая ўвойдзе ў гісторыю як святая Ефрасіння. Полацкая зямля, за выключэннем Оршы і Копысі, якія адышлі да Смаленска, і Менска (ён некаторы час заставаўся за кіеўскім князем), зноў апынулася пад уладай мясцовай дынастыі нашчадкаў Усяслава. Васільку ўдалося аб'яднаць значную частку Полацкай зямлі і кіраваць ёй 8 гадоў. У 1139 г. два Рагвалодавічы - Васіль і Іван - былі адпушчаны візантыйскім імператарам з высылкі. З іх вяртаннем адбыліся змены ў замяшчэнні княжацкіх сталоў і пераразмеркаванне ўдзелаў дзяржавы.

Пісьмовыя звесткі па гісторыі Полацкай зямлі 30—40 гг. XII ст. вельмі скупыя. Невядома, хто правіў з 1144 па 1146 год. У 1146—1151 гг. князем полацкім з'яўляўся Рагвалод Барысавіч з Друцка. У 1136 (1146) годзе аднаўляе сваю самастойнасць Менскае княства. Там пасад займае ўнук Усяслава Чарадзея і сын першага менскага князя Расціслаў Глебавіч. Расціслаў і яго брат Валадар працягвалі бацькаўскую палітыку ў дачыненні да Полацка. Тым больш, што Рагвалод быў саюзнікам Манамашычаў, якія княжылі ў Суздалі, Смаленску і часцей за іншых сядзелі ў Кіеве і Ноўгарадзе, якім падпарадкоўваліся Тураўская (да 1157 г.) і Берасцейская землі. Незадаволеныя палітыкай свайго князя былі і палачане.

Новае дзесяцігоддзе полацкай гісторыі пачалося вельмі бурліва. У 1151 г. палачане схапілі свайго князя Рагвалода і выдалі ў Менск, дзе яго трымалі "у велце нужи" (патрэбе), а Расціслава Глебавіча, які да гэтага правіў у Менску, пасадзілі на полацкі стол. Праз 7 гадоў гэтым Усяслававым унукам зноў давялося сутыкнуцца ў барацьбе за княжацкі пасад.

Дадзеная расстаноўка сіл на Полаччыне не задавальняла вялікага кіеўскага князя Юрыя Даўгарукага і ноўгарад-северскага князя Святаслава Ольгавіча, якому Даўгарукі ў 1149 г. аддаў Слуцк, Клецк і ***"вси дреговичи".*** Даведаўшыся пра цяжкі лёс Рагвалода ў руках Глебавічаў, Юрый Даўгарукі запатрабаваў пад пагрозай вайны вызваліць вязня, што і была зроблена. Аднак, атрымаўшы вестку аб смерці кіеўскага валадара (1157), Глебавічы не вярнулі Рагвалоду яго ўладанняў і пажыткаў. Тады Святаслаў Ольгавіч даў князю-ізгою полк і той, выкарыстаўшы спрыяльную для сябе палітычную атмасферу ў Полацку і Друцку, дзе меў прыхільнікаў, пачынае барацьбу за княжацкі пасад.

У сваім імкненні ўмацавацца ў Полацку Рагвалод абапіраўся на падтрымку насельніцтва Друцка. Яно запрасіла яго княжыць да сабе. І калі Рагвалод з палком Святаслава аказаўся ля Друцка, гараджане ўстроілі яму ўрачыстую сустрэчу і з вялікай пашанай ўзвялі на друцкі прастол.

Гэта сведчыла пра значную самастойнасць горада. Ранейшае панаванне Полацка і нераўнапраўны статус Друцка канулі ў вечнасць. Driчане без ведама Полацка адчынілі свае вароты Рагвалоду, а свайго князя Глеба Расціславіча "выгнаша", пры гэтым разрабавалі Глебаў двор і пабілі яго дружыннікаў, прадэманстраваўшы такім чынам перавагу ў сіле над гэтымі, так сказаць, прафесійнымі ваеннымі.

Здарэнне ў Друцку ўскалыхнула масы палачан: "И ***мятеж бысть велик в городе в Полчанех, мнози бо хотяху Рогьволода".*** Сямігадовае праўленне ў Полацкай зямлі Глебавічаў выклікала незадавальненне, і яны вырашылі зноў вярнуць Рагвалода. Падобная перамена сімпатый была ў духу таго часу.

Ледзьве супакоіў людзей, Расціслаў адарыў многіх падарункамі, прыводзіў іх да цалавання крыжа. Лёгка пераканацца, наколькі нетрывалым было становішча князя ў Полацку, калі ён залежаў ад настрою гараджан, да якіх яму даводзілася паддобрывацца і ўсяляк улагоджваць, каб схіліць іх да сябе.

Аднавіўшы свае пахіснутыя адносіны з гараджанамі, полацкі князь накіраваўся ў паход на Рагвалода, які ўсталяваўся ў Друцку. Пры падтрымцы driчан той выстаяў у баі. Варагуючыя князі

прымірыліся. Аднак мір паміж імі быў надзвычай нетрывалым. Расціслаў нядоўга заставаўся ў Полацку. У хуткім часе супраць яго там распачаўся рух. Гараджане і баярства замыслілі "совет зол" супраць свайго князя. Яны вялі перагаворы з Рагвалодам, які знаходзіўся ў Друцку, а Расціслава хацелі заманіць на пір - "братчыну" і забіць, але прадбачлівы князь надзеў пад адзенне кальчугу "м *не смеша на ня дерзнути".* На наступны дзень пачалося паўстанне супраць Расціслава. Палачане збівалі княжацкую дружыну. Расціслаў з яе рэшткамі вымушаны быў уцякаць у Менск да брата Валадара і на сваім шляху *"много зла створи волостіі Полотьскои воюя и скоты и челядью".*

А палачане паслалі ў Друцк за Рагвалодам. І прыйшоў ён у стольны горад княства "и *седе на столе деда своего и отца своего с честью великою, и тако быша ради полчане".* Веча "пакаялася" - прасіла Рагвалода забыцца пра тое зло, якое яму прычынілі ў 1151 г, а менавіта, што без усялякай віны паўсталі на яго, разрабавалі ўсю маёмасць яго і дружыны, а самога выдалі Глебавічам на муку.

З 1158 па 1162 гг. полацкі прастол зноў займае Рагвалод Барысавіч. Выгнанага Расціслава зноў прытуліў Менск. Каб уціхамірыць менскіх Глебавічаў, Рагвалод амаль штогод здзяйсняе на іх паходы. Па-за сваёй краінай, ён, звязаны абавязацельствамі з іншымі князямі, вымушаны падтрымліваць іх сваімі сіламі ў іх грабежніцкіх паходах адзін на другога, што не магло не паўплываць на яго ўнутраную палітыку і аслабляла яго.

Полацк чапляўся за старыну, спрабуючы вярнуць страчаныя пазіцыі старшынства. У 1158 годзе ў саюзе са смалянамі, наўгародцамі і пскавічамі Рагвалод ідзе на Менск. Супраць Менскага княства ўтварылася цэлая кааліцыя. Дапамога саюзнікаў не была бескарыслівай. Полацка-менскі канфлікт з'явіўся зручным выпадкам для Смаленска, каб пашырыць і ўмацаваць свой уплыў у Полацкай зямлі. Эканамічна развітае і палітычна моцнае Смаленскае княства праводзіць экспансіянісцкую палітыку ў адносінах да суседніх зямель, якія вылучаліся сваёй унутранай палітычнай нестабільнасцю. Адчуваючы сваю сілу, Смаленск пачаў прад'яўляць прэтэнзіі на вядучае месца сярод крывіцкіх зямель, што і рабіла яго канкурэнтам Полацка.

Беспаспяхова прастаяўшы 10 дзён пад Менскам, Рагвалод заключыў мір з Расціславам, на чым і цалавалі крыж. У гэтым жа годзе Рагвалод прыняў удзел у паходзе кіеўскага князя Ізяслава на Тураў.

Рагвалод робіць яшчэ не адну беспаспяховую спробу зламаць Менск. У 1161 г. ён ідзе на Валадара Глебавіча. Той зачыняецца ў Гарадцы, а ўначы разам з дружынай літвы разбівае полацкае войска. Ведаючы, што давядзецца адказаць перад полацкім вечам за нядбайнасць, вялікія страты, Рагвалод адмаўляецца ад полацкага пасада і вяртаецца княжыць у Друцк.

Пасля бясслаўнага заканчэння полацкага княжання Рагвалода на прастол з Віцебска быў пакліканы звязаны са Смаленскам Усяслаў, сын Васількі Святаславіча. Князю Усяславу (1162-1186) таксама давялося змагацца з Глебавічамі і быць саюзнікам Манамахавічаў. Выбранне Усяслава прывяло да павелічэння смаленскага ўплыву на Полаччыне. Але гэты саюз патрабаваў ахвяр.

У 1167 г. менскі князь Валадар у барацьбе за гегемонію ў дзяржаве рушыў на Полацк, вымусіў Усяслава ўцякаць, а сам узышоў на княжацкі пасад, заключыўшы з гараджанамі дамову. Як бачым, полацкае веча цаніла сілу і схілялася перад ёй, праўда, не забываючыся пра свае інтарэсы. Факт усталявання ў Полацку Валадара яшчэ раз засведчыў тое, што **ў 50-60-ыя гг. XII ст. у дзяржаве ішла не сепаратысцкая барацьба за выдзяленне паасобных удзелаў з-пад улады Полацка, а барацьба за іх дамінуючае становішча на зямлі.** Усяслаў мусіў шукаць ратунку ў Давыда, а за гэта - ахвяраваць яму Віцебск.

Валадар не мог быць упэўнены ў трываласці свайго становішча і таму адразу рушыў да Віцебска. Але тут вайсковае шчасце здрадзіла яму. Віцебскае паражэнне, па сутнасці, паклала канец гістарычнай дзейнасці Валадара Глебавіча, які ўсё сваё жыццё прысвяціў прадаўжэнню справы бацькі і старэйшага брата Расціслава - ўмацаванню і росквіту свайго вотчыннага Менска. Паход Валадара на Полацк і Віцебск быў бліскучым, але апошнім усплёскам сілы і славы Менска, бо пасля гэтага ён надоўга знік са старонак нашай гісторыі.

Толькі пад 1326 г. зноў згадваецца ў летапісе Менская зямля,

калі яна ўжо ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. А тэрыторыя Менскага павета ў XVI ст. амаль цалкам супадала з тэрыторыяй Менскага княства.

Зламаўшы найбольш моцнага і небяспечнага праціўніка ўнутры зямлі, Полацк мог прыступіць да вырашэння другой важнай задачы - вызвалення з-пад смаленскага ўплыву. Але шлях да гэтага быў яшчэ больш цяжкі і круты. Ён ішоў праз удзел Полацка ў розных міжкняжацкіх кааліцыях.

Самым важным фактарам у рускай гісторыі сярэдзіны XII ст. было ўзвышэнне Растова-Суздальскай зямлі. З мэтай умацавання сваёй зямлі князь Андрэй Багалюбскі пачаў барацьбу за падначаленне Суздалю Кіева і Ноўгарада - старажытных палітычных цэнтраў Русі. У гэту справу яму ўдаецца ўцягнуць іншыя землі, у тым ліку Смаленскую і Полацкую.

У 1167 г. палачане дапамагалі смалянам і А. Багалюбскаму ў барацьбе з Ноўгарадам, які выгнаў свайго князя са смаленскай дынастыі. Не паспелі вярнуць выгнанніка на яго пасад, як Ноўгарад, Пскоў і Кіеў наладзілі паход на Полацк (1168 г.) і *"пожгоша волость".* Зноў на дапамогу прыйшлі смаляне. У падзяку за гэта Усяслаў Васількавіч у 1168 годзе падтрымаў князёў смаленскага і суздальскага ў іх няўдалым паходзе на Кіеў, а ў 1169 годзе - на Ноўгарад. Палачане ўдзельнічалі і ў паходзе А. Багалюбскага на Кіеў у 1174 г. Летапіснае сведчанне, што Багалюбскі *"полотьским князем пойти повеле всем",* паказвае, што яны вымушаны былі лічыцца з сілаю суздальскага дыктатара. Летапіс пад 1175 г. занатаваў факт выдання замуж дачкі Усяслава за аднаго з суздальскіх князёў. Мы бачым імкненне Полацка паглыбіць сувязі з суздальскай зямлёй як важнейшым фактарам тагачаснай рускай гісторыі і такім чынам палепшыць сваё палітычнае становішча.

У другой палове 70-х гадоў карэнным чынам мяняецца палітычная сітуацыя. У 1175 г. баяры забіваюць А. Багалюбскага. Ужо гэта, відаць, унесла карэкціроўку ў суадносіны сіл князёў. У 1179 г. памірае былы вораг палачан - наўгародскі князь Мсціслаў, яшчэ праз год (1180 г.) - іх асноўны саюзнік і абаронца Раман Смаленскі. Мяняюцца арыенціры. Трэба адзначыць, што Полацк не хаатычна, не па чужой волі кідаўся паміж рознымі княжацкімі

кааліцыямі, а выкарыстоўваў удзел у іх найперш у сваіх інтарэсах. Гэта вынік дзейнасці полацкай дыпламатыі, якая не раз выратоўвала зямлю ад небяспекі трапіць у палітычныя тупікі, якія сустракаліся на кожным кроку яе дзяржаўнага жыцця. У палітычнай сітуацыі 60—70-х гадоў саюз са Смаленскам быў карысны для Полацка. Аднак калі абставіны змяніліся, ён парваў гэты саюз.

У 1180 г. Усяслаў вяртае пад сваю руку Віцебск і садзіць там свайго брата Брачыслава. У тым жа годзе браты разам з лагожскім, ізяслаўскім і іншымі полацкімі князямі пры дапамозе літвы і ліваў спрабуюць падпарадкаваць сабе Друцкае княства. У паходзе ўдзельнічаў ноўгарад-северскі князь Ігар Святаславіч, герой паэмы "Слова пра паход Ігаравы". На дапамогу ім прыйшоў вялікі кіеўскі князь Святаслаў, які трохі спазніўся, і гэта выкарыстаў Давыд Смаленскі, былы віцебскі князь, якога выгнаў Усяслаў. Ён узяў князя друцкага Глеба пад сваю абарону. Але, убачыўшы супраць сябе такую сілу, Давыд не адважыўся ўступаць у бітву і ноччу ўцёк у Смаленск. Гнацца за ім саюзнікі не сталі. Яны папалілі перадавыя ўмацаванні і разышліся. Перамога дасталася лёгка. Полацк вярнуў сабе Друцкі ўдзел, які быў апорай смаленскага ўплыву на Полаччыну.

Паход на Друцк выклікаў такое адзінства полацкіх князёў таму, што справа тычылася абароны эканамічна-гандлёвых інтарэсаў усёй зямлі. М. Ермаловіч бачыць у гэтым яднанні пачатак аднаўлення палітычнага адзінства Полацкай зямлі, якая з пачатку 80-х гадоў XII ст. стала выходзіць са стану міжусобнай барацьбы. **Працэс феадальнай раздробленасці, які пачаўся на Полаччыне раней за іншыя землі, тут пачаў і раней вычэрпывацца.**

Смаленск не хацеў змірыцца са стратай свайго ўплыву на Полацк і прадпрымаў усялякія захады, каб аднавіць тут свае ранейшыя пазіцыі. Князь Давыд імкнецца ўнесці разлад у яго жыццё, падарваць знутры. Для гэтага ён распальвае міжусобіцу, у якой робіць стаўку на мясцовых князёў, што былі незадаволены сваім статусам - перш за ўсё на менскіх Глебавічаў. У 1186 г. Давыд Смаленскі разам з наўгародскім, лагожскім і друцкім князямі арганізаваў паход на Полацк. Полацкае веча вырашыла дамагацца мірнага ўрэгулявання канфлікту. Палачане прыйшлі на памежжа і

сустрэлі сваіх праціўнікаў "э *паклонам і з пашанаю і далі ім многія дары".* Давыд пералічыыў нанесеныя яму крыўды, але, атрымаўшы ўзнагароду, згадзіўся на мір. Наўрад ці змог Полацк абысціся толькі шчодрымі дарамі, але пра гэта крыніцы маўчаць.

У 1186 г. у бітве з літвой загінуў полацкі князь Усяслаў Васількавіч з віцебскай галіны Усяслававічаў. Гэты год стаў пераломным у гісторыі Полацка. Горад атрымаў тады першае прадвесце вялікай пагрозы, якая насоўвалася на яго з захаду. Палачане не зразумелі ўсёй сур'ёзнасці, на першы погляд, нязначнага факта - пачатку місіянерскай дзейнасці сярод падуладньгх Полацку ліваў каталіцкага манаха Мейнарда.

Полацкая гісторыя канца XII і пачатку XIII ст. мала нам вядома. Усходнеславянскія летапісцы амаль змаўкаюць, і толькі некалькі звестак мільгае ў наўгародскім летапісанні. Асноўнай крыніцай ведаў пра той час становіцца крыжацкая "Хроніка Лівоніі" Генрыха Латвійскага - удзельніка нямецкай агрэсіі ў Прыбалтыцы ў XIII ст. Але якімі бы беднымі ні былі пісьмовыя звесткі, яны даюць магчымасць зрабіць вывад аб **умацаванні і адзінстве Полаччыны як галоўнай тэндэнцыі яе гістарычнага развіцця ў канцы XII ст.**

Пытанне, які княжацкі род умацаваўся ў Полацку ў 1186 г., застаецца пакуль што праблематычным. Летапісец апошні раз згадвае Усяслава Васількавіча пад 1186 г. Епіскап Мейнард пытаў дазволу на хрышчэнне ліваў у тым жа 1186 г. ў "караля Вальдэмара", які княжыў у Полацку, мяркуючы па гэтай крыніцы, 30 гадоў (памёр у 1216 г.). Магчыма, гэта сын Усяслава Васількавіча і атрымаў ён Полацк пасля бацькі ў 1186 г. Пад яго кіраўніцтвам Полацкае княства першае з усходнеславянскіх зямель прыняло на сябе цяжар барацьбы з крыжакамі.

Такім чынам, закладзеныя ў X—XI стст. падмуркі самастойнасці Полацкай зямлі сталі перадумовай таго, што ў XII ст. яна паспяхова адстойвае свае межы, дасягае небывалага культурнага ўздыму, у пачатку XIII ст. становіцца на абарону ўсходнееўрапейскіх інтарэсаў, уступіўшы ў няроўную барацьбу з мечаносцамі, а ў другой палове XIII - пачатку XIV ст. прыносіць лепшыя здабыткі гістарычнага развіцця, палітычны вопыт, высокі культурны ўзровень у Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

ЛЕКЦЫЯ 8

# ТУРАЎСКАЕ КНЯСТВА

- ***Утварэнне княства.***
- ***Спробы атрымання самастойнасці.***

## Утварэнне княства

У гісторыі старажытных зямель Беларусі значнае месца належыць Тураву (цяпер гарадскі пасёлак Жыткавіцкага раёна Гомельс-, кай вобласці), вакол якога ў X ст. сфарміравалася другое па значэнню ранняе сярэдневяковае дзяржаўнае ўтварэнне.

Працэс афармлення княства праходзіў у два этапы. На першым, пасля рассялення дрыгавічоў у басейне Прыпяці, сфарміраваўся самастойны саюз плямёнаў - перадфеадальнае этнічнае княжанне. Гэта яшчэ не было ўласна княства з развітымі феадальнымі адносінамі, а аб'яднанне аднароднага ў этнічных адносінах насельніцтва. У недатаванай частцы "Аповесці мінулых гадоў" (ахоплівае перыяд да сярэдзіны IX ст.) паведамляецца аб старажытнейшым княжанні дрыгавічоў у наступным кантэксце:"...и по сих братьи (Кий, Щек, Хорив) держати почаша род их княженье в полях, а в деревлях свое, а дреговичи свое...". На чале гэтага княжання стаяў мясцовы князь, акружаны старэйшынамі родаў і больш дробных плямёнаў, якія ўваходзілі ў склад дадзенага першапачатковага дзяржаўнага ўтварэння. Фарміраванне на аднароднай этнічнай аснове складае асаблівасць Тураўскага княства ў параўнанні з Полацкім.

На другім этапе племянное дрыгавіцкае княжанне пераўтвараецца ў феадальнае Тураўскае княства, якое ўжо з'яўлялася тэрытарыяльна-палітычнай адзінкай. Выяўленнем гэтага пераўтварэння было заснаванне Турава. Археалагічныя і летапісныя даныя гавораць аб узнікненні горада ў канцы X ст. Ён быў закладзены ў самым цэнтры Дрыгавіцкай зямлі. Перад ім Прыпяць прымала важнейшыя прытокі: Піну, Ясельду, Случ, Гарынь і Убарць, што звязвалі Тураў з басейнамі Нёмана, Заходняга Буга і гэтым самым рабілі яго вузлом важных водных шляхоў.

Размешчанае на поўдні Беларусі ў басейне Прыпяці Тураўскае

княства ахапіла не ўсю этнічную тэрыторыю дрыгавічоў. Пад уплывам розных фактараў ад асноўнага дрыгавіцкага тэрытарыяльнага масіву аказаліся адарванымі значныя плошчы на карысць больш моцных суседзяў. На поўначы землі вакол Менска належалі Полацкай дзяржаве, на поўдні і ўсходзе - Брагінская воласць - Кіеўскаму княству, Рэчыцкая - Чарнігаўскаму, на захадзе частка зямель была ва ўладанні ўладзіміра-валынскіх князёў. Трэба адзначыць адносную стабільнасць усходняй і паўночнай граніц Тураўскай зямлі і значныя хістанні яе ў паўднёвай і заходняй частках.

Блізкасць да Польшы рабіла дастаткова адчувальнымі ў гэтай зямлі заходнія ўплывы, у той час як усход Беларусі меў чыста візантыйскі напрамак культурнага і духоўнага развіцця.

Адносна назвы гэтай дзяржавы сярод даследчыкаў няма аднадушнасці. У літаратуры ўжываецца падвойны тэрмін: Тураўскае княства і Турава-Пінскае княства. Пінск узнік у апошняй чвэрці XI ст. і ніколі не быў цэнтрам усёй зямлі, а толькі сталіцай удзельнага княства, якое ў апошняй чвэрці XII ст. вылучылася са складу дзяржавы. Тураўская княжацкая дынастыя на працягу стагоддзяў пражывала ў Тураве. Пінск атрымаў дынастыю адтуль, знаходзіўся ў русле тураўскай палітыкі. Адзіным палітычным, адміністрацыйным і рэлігійным цэнтрам дзяржаўнага ўтварэння дрыгавічоў у канцы X - першай палове XII ст. быў горад Тураў. Таму тэрмін "Турава-Пінскае княства" — неправамерны. Відавочна, падставай для ўключэння ў найменне зямлі назвы Пінска паслужыла яго буйное эканамічнае ( у XII—XIII ст.) і палітычнае (у XIII ст.) значэнне.

З самага пачатку Тураўскае княства развівалася як самастойная дзяржаўная адзінка з усімі адпавядаючымі гэтай пабудове атрыбутамі: тэрыторыяй, вярхоўнай уладай, асаблівым грамадска-палітычным ладам, вайсковай сілай. Гістарычныя крыніцы дазваляюць меркаваць, што да канца X ст. у Тураве кіравала ўласная дынастыя князёў, чый радавод быў спынены падчас утварэння "імперыі" Уладзіміра Святаславіча. З сярэдзіны XI ст. з'явілася новая тураўская княжацкая дынастыя - Ізяславічаў. Яе заснавальнікам лічыцца старэйшы сын Яраслава Мудрага Ізяслаў. Нават, будучы пазбаўленай палітычнай самастойнасці ў складзе Кіеўскай зямлі, Тураўскае княства заставалася эканамічна

самастойным і тэрытарыяльна цэласным, а залежнасць абмяжоўвалася толькі штогадовымі выплатамі даніны.

У параўнанні з Полацкам грамадска-палітычны лад у Тураўскай зямлі меў свае асаблівасці. Вельмі верагодна, што тут дзейнічала веча. Кірыла Тураўскі стаў епіскапам па просьбе князя "і людзей таго горада". Значыць, гараджане Турава мелі права голасу пры абранні епіскапа. Звычайна епіскап назначаўся кіеўскім мітрапалітам.

Тураўскі князь часта знаходзіўся ў Кіеве, таму гарадское апалчэнне ўзначальваў тысяцкі. У Тураве быў і пасаднік. Тысяцкі Іванка ў 1128 г. вадзіў тураўскую дружыну ў Полацкую зямлю. Пад 1146 г. у Іпац'еўскім летапісе згадваецца пасаднік Жыраслаў - асоба, вядомая далёка за межамі Тураўскага княства. Праз некалькі год ён апынуўся пасаднікам у Ноўгарадзе. Іванка і Жыраслаў - відныя прадстаўнікі аднаго баярскага роду, верагодна, бацька і сын.

**Знаходжанне ў горадзе адначасова князя і пасадніка, акрамя Ноўгарада Вялікага, — з'ява незвычайная для іншых гарадоў.** Аб існаванні пасадніка ў Полацку звестак няма.

Тураўская зямля была адным з развітых у сацыяльна-эканамічных адносінах княстваў Русі, пра што сведчыць спроба яе адасаблення ад Кіева ўжо пры Уладзіміру Святаславічу. Яна з'яўлялася і адным з самых палітычна значных княстваў Русі. Паводле існаваўшай чарговасці, тураўскія князі неаднаразова станавіліся вялікімі князямі кіеўскімі і пры гэтым захоўвалі за сабой Тураў. Традыцыйна ён выдзяляўся трэцяму па старшынству сыну вялікага князя кіеўскага прьг падзеле Русі: Уладзімірам у 988 г. Святаполку, Яраславам у 1052 г. Ізяславу, Уладзімірам Манамахам у 1125 г. Вячаславу. Туравам валодалі прадстаўнікі старэйшых дынастычных ліній старажытнай Русі, ён не раз станавіўся аб'ектам барацьбы паміж імі, бо тураўскі стол быў своеасаблівым плацдармам для пераходу на стол кіеўскі, удзельныя валадары бывала пакідалі дзеля яго свае княствы. На кіеўскі вялікакняжацкі пасад перайшлі Святаполк Уладзіміравіч у 1015 г., Ізяслаў Яраславіч у 1054 г., Святаполк Ізяславіч у 1092 г., Вячаслаў Уладзіміравіч у 1139 г.

Час падпарадкавання дрыгавічоў Кіеву ў летапісах не пазнача-

ны, не згадваюцца паходы кіеўскіх князёў на іх зямлю, не пералічваюцца дрыгавічы і ў складзе плямёнаў, што ўдзельнічалі ў паходах Алега і Ігара на Візантыю. Аднак ужо ў працах візантыйскага гісторыка Канстанціна Парфірароднага пад 948 г. дрыгавічы пералічваюцца сярод плямёнаў, што плацілі даніну кіеўскаму князю. Княжанне дрыгавічоў захоўвала ў сярэдзіне X ст. пэўную самастойнасць, яго залежнасць ад Кіева абмяжоўвалася падатковымі абавязкамі.

**Упершыню Тураўская зямля згадваецца ў старажытных усходнеславянскіх летапісах пад 980 г. у сувязі з імем Тура**, ад якога жыхары княства нібы і празваліся тураўцамі. Заслугоўвае ўвагі той факт, што Тураў згадваецца нароўні з Полацкам, сталіцай самастойнага княства. Калі факт існавання Рагвалода як гістарычнай асобы ўсімі даследчыкамі прызнаецца, то ў адносінах да Тура такой адзінай думкі няма. Многія лічаць, што Тур - асоба выдуманая, легендарная. Іншыя не адмаўлялі гістарычнай сапраўднасці Тура, але лічылі яго нарманам. Прычынай такой рознагалосіцы з'яўляецца выключна бедная інфармацыя крыніцы. Летапісец, паведаміўшы пра Рагвалода, што ён меў воласць у Полацку, дадаў: "...а Туры Турове, от него же и туровцы прозвашася".

Застаецца невядомым, якія сувязі былі паміж князямі Рагвалодам і Турам. Ва Усцюжскім летапісе Тур названы братам Рагвалода. Паводле падання, Рагвалод накіраваўся на поўдзень па цячэнні Дняпра і, прышоўшы да вусця Прыпяці, выслаў уверх па гэтай рацэ адзін са сваіх атрадаў на чале з Турам. Той знайшоў зручнае месца, пасяліўся на ім і збудаваў горад. Нельга цалкам адмаўляць Тура як рэальную гістарычную асобу. У свой час лічыўся легендарным і заснавальнік Кіева Кій. Зусім верагодна, што Тур - таксама заснавальнік Турава. Што датычыць яго этнічнай прыналежнасці, неабходна ўлічыць, што на Русі не было гарадоў, названых імёнамі варажскіх конунгаў. Больш таго, імя Тур неаднаразова зарэгістравана ў летапісах. Таму больш верагодным падаецца славянскае паходжанне першага тураўскага князя.

Летапісныя паведамленні, што непасрэдна адносяцца да Тураўскай зямлі, урывачныя і несістэматычныя. Яны датычаць яе гісторыі ў асноўным у сувязі з тымі ці іншымі падзеямі агульнарускага

плана. У часы Рагвалода яна, магчыма, належала да Полацка, а Уладзімір Святаславіч, перамогшы ў 980 (970, 976) г. Рагвалода, далучыў Тураў з яго землямі да Кіева. Зразумела, што мясцовы тураўскі князь згубіў тады сваю незалежнасць. Размешчаная ў непасрэднай блізкасці ад Кіева і доўгі час будучы ў сферы яго палітычнага прыцягнення, Тураўская зямля не магла адыгрываць той ролі, якую мела Полацкае княства. І ўсё ж, хоць тураўская гісторыя не была такой бліскучай, як полацкая, нельга прыменшваць яе значэння.

У 988 г., пасля прыняцця хрысціянства, вялікі кіеўскі князь Уладзімір падзяліў паміж сваімі сынамі землі Русі і раздаў ім важнейшыя гарады. Тураўская зямля становіцца набыткам яго трэцяга па старшынству сына Святаполка. Вышэй яе цаніліся толькі Наўгародскае і Полацкае княствы, што дасталіся старэйшым сынам - Вышаславу і Ізяславу.

К часу выдзялення яму Тураўскага княства Святаполк быў непаўналетні. Гэта выдзяленне не азначала поўнага аддзялення і самастойнасці. Святаполк быў прызначаны на правах пасадніка і абавязаны плаціць даніну Кіеву, бясспрэчна падпарадкоўвацца цэнтру, ліквідаваць дэцэнтралісцкія настроі ў сваёй зямлі, праводзіць візантыйскі ўплыў. І ён апраўдаў спадзяванні свайго бацькі.

Становішча князёў "Рурыкавага дома", якія змянілі племянных правадыроў, уяўляецца дваістым. З аднаго боку, яны былі намеснікамі вялікага князя кіеўскага, што абавязвала іх падтрымліваць кантакт з Кіевам, аказваць яму ваенную і фінансавую дапамогу. З другога — прымаючы на сябе ролю мясцовых князёў, яны нібы зрасталіся з тубыльскай глебай, пранікаліся мясцовымі інтарэсамі і ў вядомай меры супрацьстаялі Кіеву. Як Полацк меў свае ўласныя інтарэсы і вёў самастойную палітыку, так і Тураў, нягледзячы на залежнасць ад Кіева, ніколі не забываўся пра свае інтарэсы. Тураўскае княства было размешчана на блізкай ад Кіева зямлі, але адрознае ад яго прыроднымі, геаграфічнымі ўмовамі, слаба звязанае эканамічна.

У палітычных адносінах становішча выдзеленых у 988 г. княстваў характарызавалася залежнасцю ад Кіева і падпарадкаванасцю яго адміністрацыі. Эканамічныя ж сувязі асобных зямель, аб'-

яднаных у старажытнай Русі, былі слабымі. Працэсу кансалідацыі "імперыі Рурыкавічаў» супрацьстаялі такія фактары, як этнічныя і палітычныя традыцыі раней незалежных племянных княжанняў, якія да таго ж мелі свае эканамічныя і культурна-рэлігійныя асабл-івасці. Гэтым тлумачыцца мясцовы сепаратызм, шматлікія спробы разрыву з Кіевам і стварэння поўнасцю незалежных княстваў, най-перш з боку найбольш развітых і самастойных зямель (Полацкай, Наўгародскай). Тураўскае княства было ў іх ліку. Яно першым з усходнеславянскіх зямель зрабіла спробу, праўда, беспаспяховую, адасобіцца ад Кіева.

На тое меліся падставы: выгаднае геаграфічнае размяшчэнне княства на шляху з Польшчы ў Кіеў, на прыпяцкім адгалінаванні знакамітага шляху "з варагаў у грэкі"; ураджайныя і багатыя землі. Былі тут і матывы суб'ектыўнага характару. Святаполк быў сынам Уладзіміра Святаславіча ад грачанкі - былой жонкі Яраполка. Як паведамляе летапіс, калі Уладзімір забіў свайго брата Яраполка, грачанка была ўжо цяжарнай. Сын двух бацькоў Святаполк, вера-годна, не быў ўпэўнены ў бацькоўстве Уладзіміра, што праявілася ў далейшым у яго імкненні да незалежнасці Турава ад Кіева. Ён зрабіў гэту спробу ў 1013 (1012) г. Яго саюзнікам стаў польскі кароль Баляслаў Харобры, які жадаў умацаваць свае пазіцыі на Усходзе. Святаполк ажаніўся на дачцы Баляслава, каталічцы па веравызнанню. Разам з жонкай у Тураў прыбыў яе духоўнік епіс-кап Рэйнберг, які стаў праваднікам інтарэсаў Баляслава на Русі, устанавіў сувязі з кіеўскай баярскай апазіцыяй і рыхтаваў змову супраць Уладзіміра, каб яго скінуць і пасадзіць на вялікакняжацкі пасад Святаполка. Ці не гэтым выклікана такое страшэннае непры-няцце асобы Святаполка кіеўскімі летапісцамі.

Аднак спроба з дапамогай змовы і польскіх саюзнікаў дамаг-чыся незалежнасці для Тураўскага княства скончылася няўдала. Уладзімір убачыў у змове небяспеку для адзінства Русі і сваёй уладзе і пасадзіў Святаполка, яго жонку і Рэйнберга ў поруб, дзе апошні хутка, верагодна атручаны, памёр. Пагроза вайны з Баляс-лавам прымусіла Уладзіміра выпусціць зняволенных, але князь не адпусціў іх у Тураў. Святаполк заставаўся тураўскім князем, але, вымушаны жыць у Вышгарадзе пад наглядам бацькі, не спыняў

барацьбы за ўладу і самастойнасць - згуртаваў вакол сябе адданых баяр і да самай смерці ў 1019 г. вёў жорсткую барацьбу за вялікакняжацкі пасад. У 1015 г., пасля смерці Уладзіміра, Святаполк як старэйшы ў родзе яго і займае. Але гэта не спадабалася наўгародскаму князю Яраславу, які таксама прэтэндаваў на кіеўскі стол. Ён уступае ў барацьбу з законным нашчадкам Уладзіміра. У выніку палітычных інтрыг гінуць браты Барыс, Глеб, Святаслаў, якія здаваліся небяспечнымі сапернікамі ў барацьбе за карону.

Воляй кіеўскіх правіцеляў - заказчыкаў "Аповесці мінулых гадоў" - забойцамі сваіх братоў быў аб'яўлены Святаполк - на яго спісалі "злачынства века", грахі Яраслава Мудрага, якога прадставілі барацьбітом за справядлівасць, мсціўцам за кроў братоў. Стагоддзямі імя Святаполка ганьбілі як імя забойцы і злодзея. Мала хто сумняваўся, што ён пасля смерці быў абылганы. Далёкія ад святасці ахвяры, Барыс і Глеб, былі кананізаваны. Даследчыкі яшчэ ў мінулым стагоддзі звярнулі ўвагу на тэндэнцыйнасць летапісных паданняў пра злачынствы Святаполка. Ён, які амаль тысячагоддзе насіў таўро "Акаянны", сёння рэабілітаваны (глядзі: Г.М. Филист. История "преступлений" Святополка Окаянного. — Мн, 1990, і інш.)

У 1016 г. войскі Яраслава Наўгародскага (Мудрага) і Святаполка Тураўска-Кіеўскага сышліся на Дняпры ля Любеча. Яраслаў перамог і сеў у Кіеве. Святаполк уцёк у Польшчу, а праз год з дапамогай Баляслава аднаўляе сваю ўладу над Руссю. Яраслаў ідзе да Кіева на чале вялікага войска. На гэты раз апальны князь бяжыць да печанегаў, вяртаецца з іх дапамогай. Але ў 1019 г. зноў пераможаны Яраславам на р. Альце і ў чарговы раз уцякае ў Польшчу. Летапіс зарэгістраваў гэту бітву наступным чынам: "...м *бысть сеча зла, такова не была в Руси, за руки емлючися сечахуся, и стугшшася трижды, яко по удольем крови текущи, к вечеру же одолеша Ярослав... ".* Святаполк прайграў вайну. Вялікім кіеўскім князем становіцца наўгародскі ўзурпатар. Яраслаў Мудры фактычна выгнаў Святаполка з Русі, і ён вымушан быў бадзяцца на чужыне, дзе і памер.

Непасрэдна з трагічным завяршэннем жорсткай барацьбы за вя-

лікакняжацкі пасад звязаны і першы летапісны ўспамін пра горад Бярэсце (сучасны Брэст). У 1019 г., пасля паражэння на Альце, Святаполк ўцякае за межы дзяржавы праз Бярэсце, якое было апошнім пунктам перад "ляцкай землёй" (Польшчай), куды ён бег. Цяжкая барацьба і паражэнне падарвалі яго здароўе і прывялі да нервовага ўзрушэння і паралiча: *"Святаполк бежа. Бежаше ему, нападе на нь (него) бес, « расслабеша кости его, не могоше седети на кони, и несяхуть и (его) на носилех... принесоша и (его) к Бересть... " А можа гэта ўжо дзейнічала атрута, паднесеная Яраслававым наймітам?*

Завяршэнне барацьбы Святаполка і Яраслава азначала змену лёсу Тураўскай зямлі. Пры Мудрым яна зноў увайшла ў склад Русі і кіравалася непасрэдна з Кіева. Такое становішча працягвалася амаль да смерці Яраслава (1054). Кіеў моцна трымаў Тураўскую зямлю як тэрыторыю, па якой ішла важная водная магістраль, што звязвала Кіеў з Захадам, і як плацдарм для барацьбы з яцвягамі, Польшчай, Літвой, Полацкам.

У канцы жыцця Яраслаў здзейсніў чарговы падзел Русі паміж сваімі сынамі. Тураўскім князем стаў яго трэці па старшынству сын Ізяслаў, што яшчэ раз падкрэслівае эканамічную і палітычную важнасць Турава для Кіева. Дынастыя Ізяславічаў (нашчадкаў Яраслава Мудрага) правіла ў Тураўскай зямлі з перапынкамі ў другой палове XI—XII ст.

Пасля смерці бацькі Ізяслаў як старэйшы з засталых ў жывых сыноў Яраслава па яго наказу займае кіеўскі вялікакняжацкі пасад (1054- 1073, 1076-1078), пакідаючы за сабой і Тураў. У 1067 г. разам са сваімі братамі Яраславічамі ён ваяваў супраць Усяслава Полацкага і ў 1068 г. уцякаў з Кіева, калі той быў абвешчаны вялікім князем. У 1073 г. Ізяслаў быў прагнаны з Кіева сваімі братамі Святаславам і Усеваладам і ўцёк у Польшчу. Вялікакняжацкі стол заняў Святаслаў, а Тураў ён аддаў Усеваладу ў падзяку за дапамогу. У 1076 г. Святаслаў памёр. Ізяслаў вяртаецца ў Кіеў, але ў 1078 г. гіне. Вялікім кіеўскім князем надоўга становіцца Усевалад (1078- 1093). Каб забяспечыць большую трываласць становішча, ён аддае Тураўскае і Уладзіміра-Валынскае княствы сыну Ізяслава - Яраполку. З 1078 г. у Тураўскім княстве зацвярд-

жаецца Яраполк. Яму давялося весці ўнутраную барацьбу з іншымі князямі за Валынскія землі, і таму яго дзейнасць як князя тураўскага ў летапісе не адлюстравана. У 1087 г. Яраполк загінуў ад рук забойцаў - сваіх палітычных праціўнікаў.

Яго пераемнікам стаў брат Святаполк, які перайшоў у Тураў з Ноўгарада. Такі пераход абумоўлены палітычным разлікам. Тураў знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці ад Кіева і таму адсюль лягчэй было завалодаць вялікакняжацкім пасадам пасля смерці Усевалада. Апроч таго, у выпадку з'яўлення сапернікаў адсюль лягчэй было заручыцца падтрымкай палякаў і венграў. Як бачым, Тураўскае княства было выгадным плацдармам для барацьбы за кіеўскі стол. Святаполк хацеў з Турава правіць і Ноўгарадам, але апошні убачыў у гэтым прыніжэнне свайго статуса і адмовіўся ад Святаполка. Кола княжацкіх інтарэсаў звузілася і абмежавалася толькі Туравам. Маючы апору толькі ў Тураве, Святаполк пранікаецца яго інтарэсамі, зжывацца з ім. Палітычнае значэнне княства пры Святаполку (1088-1093) ўзрасло.

Для Святаполка, як і для яго бацькі Ізяслава, Тураў быў своеасаблівым перавалачным пунктам на шляху да вялікакняжацкага стала. Пасля смерці Усевалада ён без перашкод перайшоў у Кіеў (1093—1113), застаўшыся па традыцыі і князем тураўскім. Летапісы шмат увагі ўдзяляюць дзейнасці Святаполка на вялікакняжацкай пасадзе і не згадваюць пра яго дзейнасць як князя тураўскага. Будучы ў Кіеве, ён падтрымліваў цесныя сувязі з гэтай зямлёй, неаднаразова выязджаў у Тураў і Пінск. У сталіцы ён меў сваю тураўскую дружыну, а яго жонка - грачанка Варвара заснавала, паводле падання, у Тураве жаночы Варварынскі манастыр. Любечскі з'езд князёў у 1097 г. прызнаў за Святаполкам тэрыторыю ў басейне Прыпяці з гарадамі Тураў, Пінск, Бярэсце, раён Пагарыння, а таксама Кіеўскую і Наўгародскую землі.

Такім чынам, у канцы X і на працягу XI ст. Тураўская зямля знаходзілася ў цесным палітычным кантакце з Кіевам. У XI—XII стст. (да 1146 г.) Кіеў і Тураў часта аказваліся ў руках аднаго і таго ж князя (глядзіце табліцу). На кіеўскім стале ад Уладзіміра Святаславіча і да Усевалада Ольгавіча змянілася 11 князёў, з якіх 8 таксама валодалі аднačасова і Тураўскай зямлёй.

КНЯЗІ ТУРАЎСКІЯ І КІЕЎСКІЯ

| Імя | Князь тураўскі | Вялікі кіеўскі князь і пры гэтым застаецца князем тураўскім |
|---|---|---|
| Тур | 980 | |
| Святаполк | 988-1015 | 1015-1019 |
| Яраслаў Мудры | | 1019-1052 |
| Ізяслаў Яраславіч | 1052-1054 | 1054-1073,1076-1078 |
| Усевалад Яраславіч | 1073-1076 | 1078-1093 |
| Яраполк | 1078-1087 | |
| Святаполк | 1088-1093 | 1093-1113 |
| Уладзімір Манамах | | 1113-1125 |
| Вячаслаў | 1125-1146 | |
| | (з перепынкамі) | 1139-1140 |
| Усевалад | 1140-1146 | |
| | (з перапынкамі) | 1142-1146 |

## Спробы атрымання самастойнасці

Сцвярджэнне, што для Тураўскай зямлі ў XI ст. былі яшчэ нехарактэрнымі сепаратысцкія тэндэнцыі, якія мелі месца тады ў іншых землях Русі, не мае пад сабой падставы. Яны выявіліся тут сярод мясцовай знаці яшчэ ў пачатку стагоддзя і знайшлі праяву ў змове Святаполка.

Даследчык старажытнай Тураўскай дзяржавы П.Ф. Лысенка вылучае шэраг этапаў у яе палітычнай гісторыі. Першы этап, звязаны з дзейнасцю Святаполка, характарызуецца вялікім значэннем Турава ў Кіеўскай Русі і спробай яе аддзялення ад Кіева ў пачатку XI ст. Ён завяршаецца падпарадкаваннем Кіеву пры Яраславе Мудрым, што азначала змену яе лёсу. На другім этапе Тураўскае княства належыць дынастычнай лініі Ізяславічаў — Ізяслаў (1052—1078), Яраполк (1078—1087), Святаполк (1088—1113), — прадстаўнікі якой пераходзяць на кіеўскі вялікакняжацкі стол, захоўвае

сваю тэрытарыяльную цэласнасць і важнае значэнне ў сістэме старажытнарускіх княстваў. Па падліках Г.В. Штыхава, Тураўскае княства на працягу першых ста год пасля смерці Яраслава Мудрага (1054) каля 40 год існавала самастойна, 60 год была ў падпарадкаванні Кіева, а з канца 50-х гадоў XII ст. канчаткова вылучылася і ў ім зацвердзілася пастаянная дынастыя князёў.

Паведамленні летапісаў, якія адносяцца непасрэдна да Тураўскай зямлі XII- пачатку XIII ст., урывачныя і несістэматычныя. Яны датычаць яе гісторыі ў асноўным у сувязі з тымі ці іншымі падзеямі агульнарускага плана.

Тураўскае княства доўгі час не магло набыць самастойнасці, хоць сепаратысцкія імкненні мясцовай знаці выявіліся ўжо ў пачатку XI ст. У першай палове XII ст. Кіеў моцна трымаў Тураўскую зямлю ў сваіх руках, У адрозненне ад Полацкага княства яна не мела дастатковай палітычнай вагі і неабходных матэрыяльных сродкаў, каб паспяхова адстойваць свае інтарэсы. Аднак гэта не значыць, што інтарэсы Турава былі ў забыцці і падначальваліся толькі вялікакняжацкім інтарэсам. Нездарма некаторыя даследчыкі лічаць, што ўдзел кіеўскага войска ў паходзе 1104 г. на Менск быў прадыктаваны інтарэсамі Тураўскага княства, якое падвярглася нападам Глеба Менскага. Паход Уладзіміра Манамаха на Менск у 1116 г. быў непасрэдна выкліканы нападам Глеба на Дрыгавіцкую зямлю. Імкненні Глеба заваяваць Тураўскую зямлю можна растлумачыць узмацненнем яе эканамічных сувязей з Менскам.

Са смерцю Святаполка ў 1113 г. Ізяславічы (нашчадкі старэйшага сына Яраслава Мудрага Ізяслава) губляюць Тураў. Улада ў ім пераходзіць да роду Манамахавічаў. Яны трымалі княства ў якасці дадатку да сваіх асноўных уладанняў - Кіева, Пераяслаўля і іншых зямель. Гэта было права сілы.

Манамах адбірае зямлю ў яе законнага спадкаёмцы Яраслава, сына Святаполка. Традыцыя перадачы тураўскіх зямель князям з роду Ізяславічаў была спынена. З гэтага часу пачынаецца новы, трэці перыяд у гісторыі Тураўскага княства, характэрны адсутнасцю адзінай дынастыі, а ў храналагічных межах 1142—1158 - драбленнем і раздачай тураўскіх зямель, міждынастычнымі спрэчкамі з-за іх. Яраслаў Святаполкавіч, будучы ва Уладзіміры-Валынскім,

пачаў адкрытую барацьбу за сваю спадчыну, але быў забіты наёмнікамі Манамаха.

У 1125 г. пасля смерці Уладзіміра Манамаха Тураўскае княства дасталося яго малодшаму сыну Вячаславу, які дзеля яго адмовіўся ад Смаленска. Дзейнасць Вячаслава Уладзіміравіча на пасадзе тураўскага князя з перапынкамі працягвалася 20 гадоў (1125—1133, 1134—1139, 1140—1142, 1142—1146). Ён адмаўляўся ад гэтай пасады, губляў яе, пераводзіўся ў іншыя ўдзелы, але зноў вяртаўся ў Тураў. Вячаслаў быў актыўным удзельнікам барацьбы Кіева з Полацкам. Гэта ён як смаленскі князь адабраў у Глеба менскага Оршу і Копысь, а ў 1128 г. як тураўскі князь удзельнічаў у паходзе паўднёварускай кааліцыі на Полацкую зямлю. У 1133 г. Вячаслаў пераходзіць на Пераяслаўскае княства, выгнаўшы адтуль свайго пляменніка, але ў 1134 г. зноў вяртаецца ў Тураў. Пасля смерці вялікага князя Яраполка ў 1139 г. Вячаслаў па праву старэйшага з Манамахавічаў займае кіеўскі пасад, але не падтрыманы кіеўлянамі ў 1140 г. вымушаны ўступіць яго чарнігаўскаму князю Усеваладу.

Міжусобная калатнеча 40-50-х гг. асаблівым цяжарам адбілася на лёсе Тураўскай зямлі. 1142 год быў сумнай вяхой для яе тэрыторыі. У 1142-1157 г., падчас зацятай барацьбы паўднёварускіх князёў за валоданне Кіёвам, зямля часта пераходзіць з рук у рукі, але заўсёды знаходзіцца ў залежнасці ад вялікага князя.

У 1142 г. Усевалад зрабіў спробу захапіць Тураўскую зямлю, сказаўшы Вячаславу:"...седеши во Киевской волости, а мне достоить, и ты пойди в Переяславль, отцыну свою". Як бачым, Усевалад атаясамляў Тураў з Кіеўскай воласцю, што, на думку гісторыкаў, беспадстаўна, бо валоданне кіеўскім пасадам не цягнула за сабой абавязковае валоданне Тураўскай зямлёй. Аднак пад пагрозай узброенай сілы Вячаслаў быў змушаны на некаторы час пакінуць Тураў і перайсці ў Пераяслаўль. Усевалад пасадзіў тут свайго сына, а таксама задаволіў за кошт Тураўскай зямлі прэтэнзіі сваіх незадаволеных родзічаў і саюзнікаў, аддаўшы ім Бярэсце, Дарагічын, Клечаск, Рагачоў і Чартарыйск.

Пасля смерці Усевалада (1146), калі на кіеўскі пасад сеў унук Манамаха Ізяслаў, Вячаслаў у чацвёрты раз вярнуўся ў Тураў і *"отья (адабраў)городы опять, иже бяшеть от него Всеволод отьял".* Гэ-

тым актам, відаць, была адноўлена тэрытарыяльная цэласнасць Тураўскай зямлі. А ў дадатак да гэтага Вячаслаў захапіў Уладзімір Валынскі. Такое самавольства было вельмі нечаканае для Кіева, які прывык бачыць у Тураве свайго пакорнага падручнага. Раз'юшаны гэткай нябачнай дзёрзкасцю, Ізяслаў пасылае ў Тураў дружыну чыніць расправу. Вячаслаў быў пераведзены княжыць у Перасопніцу. Яго дарадчыкаў, тураўскага епіскапа Акіма і пасадніка Жыраслава, закаваных ў кайданы, прывезлі ў Кіеў. Тураў зноў апынуўся пад уладай Кіева. Гэтым эпізодам і закончылася дзейнасць Вячаслава як тураўскага князя. У далейшым мы бачым яго на кіеўскім пасадзе ў якасці суправіцеля Ізяслава. Памёр ён даволі старым чалавекам у 1155 г.

А Тураў па-ранейшаму ў сувязі з барацьбой рускіх князёў за Кіеў перажываў міжкняжацкую чахарду. Адправіўшы Вячаслава ў Перасопніцу, Ізяслаў пасадзіў у Тураў свайго сына Яраслава (1146 — 1150 гг). У 1149 г. у барацьбу за кіеўскі стол уключаецца растова-суздальскі князь Юрый Даўгарукі. Заваяваўшы Кіеў, ён у 1150 г. аддае Тураў разам з Пінскам і Перасопніцай свайму сыну Андрэю (Багалюбскаму), а Слуцк, Клецк і ўсю астатнюю зямлю - чарнігаўскаму князю Святаславу. Аднак у тым жа годзе Ізяслаў выганяе Андрэя з Турава, а Юрыя з Кіева.

У 1154 г. на кіеўскі трон уступіў Расціслаў Смаленскі. Ён перадае Тураўскае княства Святаславу Усеваладавічу (1154 — 1155 гп). Але ў наступным годзе Юрый Даўгарукі зноў завалодаў Кіевам і пасадзіў у Тураве свайго сына Барыса (1155 — 1157 (1158).

І ўсё ж такое княжацкае мільгаценне на тураўскім пасадзе, якое суправаджалася чаргаваннем дружын і дарадцаў, не аслабіла зямлю, не дэзарганізавала і не спаралізавала яе, што і паказалі наступныя падзеі. Падзел дзяржавы і дзеянні князёў-прышлых, якіх мала клапацілі мясцовыя праблемы, ніяк не задавальнялі тураўскую знаць.

**1158 год** з'яўляецца знамянальнай вяхой у гісторыі Тураўскага княства. У гэтым годзе адбыліся падзеі, якія карэнным чынам змянілі яго становішча і мелі вялікае значэнне для далейшага лёсу. Пачынаецца чацвёрты перыяд палітычнай гісторыі дзяржавы. У гэтым годзе Тураў заняў Юрый Яраслававіч - унук Святаполка, князя тураўскага (1088—1113 гг.) і кіеўскага (1093 — 1113 гг.), сын Яраслава, у якога Манамах адабраў яго спадчыннае ўладанне. Для

ўсталявання ў Тураве Юрый выкарыстаў зручны момант, калі мясцовы князь Барыс паехаў на пахаванне свайго бацькі Юрыя Даўгарукага, а Ізяслаў Давыдавіч яшчэ не паспеў умацавацца ў Кіеве.

Юрый Яраслававіч аднавіў у Тураве дынастыю Ізяславічаў (нашчадкаў Яраслава Мудрага па лініі яго старэйшага сына Ізяслава) і адрадзіў самастойнасць зямлі. Ён жа спыніў практыку драблення і раздачы гарадоў і зямель сваякам і саюзнікам кіеўскага князя.

Юрыя Яраслававіча летапісы характарызуюць як вопытнага дыпламата, умелага і ўдачлівага военачальніка, рашучага і настойлівага ў дасягненні пастаўленых мэт князя. Летапісы ўказваюць, што ён быў бліжэйшым дарадцам Юрыя Даўгарукага. Ён карыстаўся павагай князёў і сімпатыямі тураўцаў, якія бачылі ў ім законнага прадстаўніка Ізяслаўскай дынастычнай лініі, правіўшай у Тураве каля 60 гадоў.

Падзеі 1158 г., як і падзеі 1146 г.,сцвярджае М.І. Ермаловіч, паказваюць, што ў Тураўскай зямлі, знешне пакорлівай і ціхмянай, пад неаслабнай увагай Кіева ніколі не замірала імкненне да свабоднага палітычнага жыцця. Яны абвяргаюць укаранёнае ў свядомасць уяўленне, быццам на працягу сваёй гісторыі Тураў вызначаўся палітычнай безаблічнасцю і слабасцю і толькі ў самы апошні час пачаў свавольнічаць.

Захоп Юрыем Яраслававічам Турава і вяртанне яго ў рукі дынастычнай лініі Ізяслававічаў азначалі сур'ёзнае ўшчамленне інтарэсаў Кіева. Той губляў значную тэрыторыю, што заўсёды была для Рурыкавічаў як бы кіеўскім прыдаткам. Адчуўшы сябе ўпэўнена на вялікакняжацкім пасадзе, Ізяслаў Давыдавіч зрабіў спробу зламаць упартасць Юрыя Яраслававіча і вярнуць Тураў пад кіеўскую ўладу. З гэтай мэтай ён сабраў унушальную кааліцыю, У 1158 г. буйныя сілы сямі княстваў (дружыны луцкіх, смаленскіх, полацкіх князёў, "галіцкая дапамога") і атрад качэўнікаў- берандзеічаў рушылі пад сцены Турава. Не змогшы штурмам узяць горад, яны правялі "беспрыкладную" ў гісторыі старажытнай Русі па працягласці і беспаспяховасці аблогу. Тураўцы стойка абаранялі горад і абранага князя, нягледзячы на значныя страты, рабілі вылазкі ў варожы стан. У летапісе сказана, што саюзнікі *"много поплениша и пожгоша грады и села, но Турава*

*града не могоша взяти".* Пасля дзесяці тыдняў беспаспяховага стаяння пад Туравам, яны *"возвратишеся восвояси".*

Фактычна **перамога 1158 г. азначала заваяванне Туравам незалежнасці ад Кіева.** У 1160 г. горад вытрымаў аблогу валынскімі князямі. У 1162 г. Юрый Яраслававіч дамогся ад Кіева афіцыйнага прызнання незалежнасці сваёй дзяржавы. Гэта яшчэ раз пацвердзіла эканамічную і вайсковую магутнасць Турава, яго здольнасць адстойваць сябе. Далейшы лёс Юрыя Яраслававіча невядомы, звесткі аб ім губляюцца з 1162 г. Можна думаць, што ён шчасліва княжыў у Тураве да канца сваіх дзён, застаючыся ў баку ад феадальных усобіц і сварак. Ды і пісьмовыя звесткі пра тураўскую гісторыю з гэтага часу вельмі бедныя, яны даюць толькі агульнае ўяўленне пра яе.

Пасля Юрыя Яраслававіча ў Тураве замацаваліся яго нашчадкі: сыны Святаполк (згадваецца ў 1162 г. і 1190 г.), Глеб (памёр у 1196 г.), Іван (1170 г.). У 1183 г. упамінаецца Яраслаў, князь *"піньскій",* у 1190г. *"в Пиньски"* адбываецца *"свадьба Рополча".* Паведамленняў пра жыццё і дзейнасць сыноў Юрыя Яраслававіча яўна недастаткова, каб выразна і ў бясспрэчнай форме аднавіць карціну палітычнага жыцця Тураўскай зямлі. Аднак і гэтыя кароткія запісы раскрываюць актыўны ўдзел тураўскіх князёў у акцыях Кіева і адсутнасць буйных, адзначаных летапісам, мерапрыемстваў па ўласнай ініцыятыве.

Відаць, пры сынах Юрыя Яраслававіча нейдзе ў прамежку 1167 і 1174 гг. адбылося дзяленне Тураўскай зямлі на асобныя княствы: Тураўскае, Пінскае (упершыню асобна ўпамінаецца ў 1174), Дубровіцкае (у 1183 г.), Слуцкае. Клецкае княства вылучылася яшчэ раней, паколькі з летапісаў вядома, што ў 1128 г. клецкім князем быў Вячаслаў Яраслaвіч, брат Юрыя Яраслававіча.

Верагодна, у гэты час Юр'евічы жывуць у міры з суседзямі і згодзе паміж сабой, за час іх кіравання не ўпамінаюцца ні войны з суседзямі, ні нашэсці на Тураўскую зямлю.

У адрозненне ад Полацкай зямлі, Тураўшчына не прайшла праз пакуты міжусобіц. Драбленне на ўдзелы не прывяло да ўзаемнай барацьбы яе князёў. Ва ўсякім разе, крыніцы не зарэгістравалі ніводнага такога выпадку. Аднак Тураўская зямля не набыла і той палітычнай кансалідацыі, якую здабыла Полаччына. Пераадолеўшы

ўнутраны разлад, Полацк зноў вярнуў сабе пануючае становішча сярод сваіх удзелаў, а Тураў усё болей і болей марнеў. Раздробленая і аслабленая зямля паступова трапляе у залежнасць ад суседняга Галіцка- Валынскага княства, з якой яна таксама не жадала мірыцца.

У другой палове XII ст. адбываецца узвышэнне Пінска. Ён быў не проста ўдзелам, а паступова станавіўся сапернікам Турава.

З пачатку XIII ст. стала яўна вылучацца вядучае месца Пінска ў жыцці Тураўскай зямлі. Ён бярэ на сябе ўвесь цяжар барацьбы з галіцка-валынскімі князямі, якія імкнуліся падпарадкаваць сабе гэту зямлю пасля яе выхаду з залежнасці ад Кіева.

Паведамленні XIII ст. аб Тураўскай зямлі скупыя і ўрывачныя; пасля 1207 г. наогул наступіў 20- гадовы прагал у летапісах пра яе.

Раздробленая на ўдзельныя княствы і аддаленая ад буйных палітычных цэнтраў, Тураўская зямля не магла адыгрываць важнай ролі ў грамадска- палітычным жыцці Русі. Яна знаходзілася па-за ўвагай летапісца і згадваецца толькі ў сувязі з падзеямі агульнарускага значэння, у якіх прымалі ўдзел Тураўская зямля і яе князі. У XIII ст. яны знаходзяцца ў рэчышчы палітыкі больш магутных суседніх княстваў - спачатку Кіеўскага, а потым - Уладзіміра- Валынскага, удзельнічаюць у барацьбе супраць Літвы.

У 1227 г. Пінск робіць спробу павялічыць сваю тэрыторыю за кошт Валыні. Пінскі князь Расціслаў пачаў барацьбу супраць магутнага Данілы Галіцкага, які ўваходзіў тады ў славу. Яму ўдалося схіліць на свой бок кіеўскага, чарнігаўскага князёў, полаўцаў, тураўцаў і навагародцаў. Удзельнікі кааліцыі ў 1128 г. (магчыма, у 1229 г. ці нават 1230 г., бо храналогія заблытаная) накіраваліся да Крамянца і аблажылі яго. Хоць выступленне аб'яднаных сіл закончылася няўдачай, усё ж гэты факт пацвердзіў непрымірымасць Пінска і Турава да ўлады галіцка-валынскіх князёў.

У пачатку XIII ст. Турава-Пінская зямля больш звязвае свой лёс з Навагародскай зямлёй. Аб гэтым сведчыць тое, што ў 1228 г. наваградцы ўдзельнічалі на баку Расціслава Пінскага ў яго барацьбе з Данілам Галіцкім. З 40-х гадоў XIII ст. Літва выступае сапернікам Галіча за тураўскія землі. Нарэшце, у канцы XIII - пачатку XIV ст. пры Віцыі і Гедыміне палескія княствы былі далучаны да Вялікага княства Літоўскага.

ЛЕКЦЫЯ 9

## ЗЕМЛІ БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ, ПАБУЖЖА І ПАСОЖЖА Ў X—XIII стст.

- *Княствы ў беларускім Панямонні ў X—XIII стст.*
- *Берасцейская зямля.*
- *Беларускія гарады ў складзе Смаленскага, Чарнігаўскага і Кіеўскага княстваў.*

### Княствы ў беларускім Панямонні ў X—XIII стст.

Вобласць верхняга і сярэдняга цячэння Нёмана (сучасная тэрыторыя Гродзенскай вобласці і захад Мінскай вобласці) са старажытных часоў была заселена сваяцкімі плямёнамі яцвягаў, літвы і дайновы, якія адносяцца да балцкай групы індаеўрапейцаў. Яцвягі былі гаспадарамі на Гродзенскай, часткова, Брэсцкай землях. Дайнова (дайноўцы) валодала Нарачанска-Маладзечанскім краем. Гістарычная літва жыла ў трохкутніку: Заслаўе-Слуцк-Наваградак. На мяжы I—II тысячагоддзяў ідзе славянская (у асноўным дрыгавіцкая і крывіцкая) каланізацыя гэтай тэрыторыі, што прывяла тут да надзвычай складанай этнічнай сітуацыі. У раннім сярэднявеччы на Беларусі не было другога рэгіёна, дзе б адбывалася змяшэнне такога этнічна разнастайнага насельніцтва. Тут жылі прадстаўнікі ўсходнеславянскіх (дрыгавічы, крывічы, валыняне, драўляне), заходнеславянскіх (мазаўшане), усходнебалцкіх (лотва) і заходнебалцкіх (яцвягі) плямёнаў. Асвойваючы гэтыя землі, славяне паступова асімілявалі балцкіх тубыльцаў.

Славянізацыя балтаў у асноўным завяршылася ў XII—XIII стст., але яшчэ доўгі час на сумежных з Летувай землях Гродзеншчыны заставаліся амаль некранутыя асіміляцыйнымі прэцэсамі балцкія астравы. Славянізацыя, а потым і беларусізацыя іх працягвалася ў наступныя стагоддзі. Чым далей на поўнач, тым менш закранаў балтаў працэс асіміляцыі.

Яцвягі (вядомы таксама пад назвай "судовы", "судзіны") ўпершыню ўпамінаюцца ў летапісе пад 983 г. у сувязі з паходам на іх зямлю вялікага кіеўскага князя Уладзіміра. Пытанне аб межах іх

рассялення да гэтага часу застаецца дыскусійным. Большасць сучасных даследчыкаў абмяжоўваюць старажытную яцвяжскую тэрыторыю раёнам паміж сярэднім цячэннем Нёмана і Вялікімі Мазурскімі азёрамі (Польшча). У.Сядоў, Ю.Кухарэнка і некаторыя іншыя ўключаюць у арэал яцвягаў таксама верхняе Панямонне, Падляшша і Берасцейскую зямлю.

Літва згадваецца ў недатаванай частцы "Аповесці мінулых гадоў" у пераліку тых плямёнаў, што не адносіліся да Русі, але давалі ёй даніну. У **1009 г.** у выніку адной трагічнай падзеі Літва трапіла на старонкі Кверлінбургскіх аналаў. Пад гэтай датай паведамлялася пра смерць епіскапа Бруна (Брунона), які, будучы ў змове з польскім каралём Баляславам Харобрым, пайшоў з 18-цю місіянерамі ў край не то прусаў, не то яцвягаў, каб схіліць іх да прыняцця хрысціянства, але быў забіты 9 сакавіка 1009 г. *"на сумежжы Русі і Літвы".* Першая датаваная згадка пра Літву (як племя і этнічную тэрыторыю) на старонках усходнеславянскіх летапісаў адносіцца да 1040 г.

Было нямала спроб растлумачыць назву "Літва". Летапісы Вялікага княства Літоўскага выводзяць яе з лацінскіх слоў "лнтус тубус" (литус - берег, туба - труба), якімі ахрысцілі панямонскія землі рымляне, што нібыта перасяліліся сюды з Італіі. Паводле польскіх храністаў, назва ўтварылася ў выніку трансфармацыі слова Італія па схеме: Італія - Літалія - Літуанія - Летува - Літва (Я.Длугаш, Мацей з Мехава) ці ад імя аднаго з правадыроў рымлян - Літаона (М. Бельскі). Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што слова"літва" - вытворнае ад балцкага гідроніма "Ліетаўка" - назвы невялікай рачулкі, прытока Віліі. Другія лічаць, што гэты этнонім мае кельцкае паходжанне і азначае "прыбярэжная краіна"; трэція - што назва ўтварылася ад беларускай асновы ў значэнні "ліць", "зліваць", ад беларускага "лютвін"- люты і г. д.

Няма адзінай думкі сярод даследчыкаў і наконт тэрыторыі, якую займала тады Літва, бо ў розныя гістарычныя перыяды пад Літвой разумелі не адну і тую ж тэрыторыю, не адзін і той жа народ. Адны лакалізуюць летапісную Літву ва ўсходняй частцы сучаснай Літоўскай Рэспублікі (Летувы) і атаясамляюць яе з племем аўкштайтаў, другія - на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, трэція пераконваюць,

што летапісная Літва займала землі паўднёва-ўсходняй Летувы і паўночна-заходняй Беларусі.

Так, М. Ермаловіч даказвае, што ў XII—XIII стст. тэрыторыя Літвы знаходзілася ў верхнім Панямонні - паміж Мінскам і Навагрудкам, Маладзечна і Ляхавічамі. Гэта быў адзін з буйнейшых астравоў балцкага насельніцтва, ужо ў значнай ступені асіміляванага славянамі, але яшчэ язычніцкага. У XIII ст. гэта зямля стала ядром утварэння новай феадальнай дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і дала яму сваё імя. З пераносам у пачатку XIV ст. сталіцы ВКЛ у Вільню, лічыць гісторык, назва «Літва» пераходзіць на тэрыторыю сучаснай Летувы, але працягвае захоўвацца і ў верхнім Панямонні да пачатку XX ст. Менавіта знаходжаннем летапіснай Літвы ў беларускім Панямонні ён тлумачыць тое, што з сярэднявечча і да XIX ст. паўночна- заходняя Беларусь называлася Літвой, а яе насельніцтва называла сябе літвінамі. У старажытнарускіх летапісах і іншых гістарычных крыніцах назва "Літва" часта выкарыстоўвалася ў якасці агульнай для паўднёва-ўсходняй часткі ўсходнебалцкіх і сумежных зямель са змешаным і асіміляваным балта-славянскім насельніцтвам - на поўнач і захад ад Мядзеля, Вілейкі, Маладзечна, Заслаўя, Ляхавіч, Слоніма, Навагрудка, Ваўкавыска і інш. **Толькі ў XIX — XX стст. назва Літва афіцыйна замацавалася выключна за тэрыторыяй сучаснай Летувы, а ў арэале яе бытавання замянілася назвай Беларусь.**

Большасць вучоных (У.Ц. Пашута, Г. Лаўмянскі, Р.К. Валкайтэ-Кулікаўскене і інш.) звязваюць Літву XI ст. з археалагічнай культурай усходнелітоўскіх курганоў, арэал якой ахопліваў сярэдняе цячэнне Нёмана і р. Швянтоі да Свіры, Смаргоні, Маладзечна і інш., ці з раннефеадальным усходнебалцкім саюзам плямёнаў у міжрэччы Нёмана і Віліі, межы якога на паўднёвым усходзе праходзілі ў сучасных Шчучынскім, Лідскім, Воранаўскім, Іўеўскім, Ашмянскім і Астравецкім раёнах. Гэту канцэпцыю лакалізацыі Літвы прымем за зыходную пры далейшай размове пра племя і зямлю Літвы ў XI—XII стст.

Старажытная гісторыя Гродзеншчыны, размешчанай на аддаленым сумежжы Полацкай, Тураўскай, а потым і Галіцка - Валынскай зямель, амаль не знайшла адлюстравання ў пісьмовых крыні-

цах (як усходнеславянскіх, так і замежных). Летапісныя звесткі вельмі бедныя і фрагментарныя, таму кожная з іх уяўляе вялікую каштоўнасць. Яны датычаць, галоўным чынам, руска-яцвяжскіх і руска-літоўскіх адносін.

З канца X ст. тэрыторыя Гродзеншчыны і сумежныя з ёй тэрыторыі пастаянна знаходзіліся ў сферы актыўнай палітыкі кіеўскіх князеў. Пад 983 г. у "Аповесці мінулых гадоў" паведамляецца пра паход Уладзіміра Святаславіча на яцвягаў: *"Иде Володимер на ятвягы и победи ятвягы, и взя землю их".* Гэта першая згадка пра іх у летапісе. На жаль, у ім не ўдакладняецца месца паходу. Яцвягі займалі значную тэрыторыю. Таму паход мог быць зроблены як у раён Панямоння, так і ў раён Пабужжа ці Папрыпяцця.

Праз паўстагоддзя, у **1038 г.,** у зямлю яцвягаў хадзіў сын Уладзіміра Яраслаў Мудры: *"Ярослав иде на ятвягы".* У гэтым паходзе мог прымаць удзел Брачыслаў Полацкі. Звесткі пра яго вынікі вельмі супярэчлівыя. "Аповесць мінулых гадоў" не паведамляе, чым ён скончыўся. Ці былі зноў заваяваны яцвягі, ці ўсё абмежавалася зборам даніны і ўзяццем палонных? Хутчэй за ўсё апошняе, паколькі ў летапісным зводзе 1479 г. пра гэты паход паведамляецца наступнае: *"Ходи князь великий Ярослав на ятвягы и не може их взяти".* Тое, што гэты паход быў накіраваны на панямонскіх яцвягаў, не выклікае ніякіх сумненняў у М. Ермаловіча, бо ўслед за ім адбыўся паход на літву, што, як сцвярджае даследчык, асела ў верхнім Панямонні і заняла частку яцвяжскай тэрыторыі. Таму становіцца зразумелай сувязь паміж паходам на яцвягаў і на літву: не перамогшы першых, нельга была ісці на другіх, што і адбылося ў **1040 г.** Пра гэта ў "Аповесці мінулых гадоў" маецца наступнае паведамленне: *"Ярослав де на Литву". "И победи их",* — дадаюць Хлебнікаўскі, Пагодзінскі спісы "Аповесці". Матэрыялы В. Тацішчава ўдакладняюць, што Яраслаў пакарыў Літву, і ўсклаў на яе даніну. Я.Длугаш таксама гаворыць пра перамогу кіеўскага князя над Літвой, у выніку якой той падпарадкаваў сабе значную частку нёманскага ўзбярэжжа. Прычым, гэты гісторык удакладняе і месца перамогі: *"на палях слонімскіх."*

Паходы Яраслава Мудрага на Яцвягію і Літву азначалі працяг кіеўскай палітыкі падначалення Панямоння.

У Сафійскім і Наўгародскім IV летапісах пад 1044 г. адзначаецца: *"Ходи Ярослав на Литву и на весну заложил Новогород сделал и (его)".* Паход гэты быў пераможны, бо завяршыўся пабудовай Наваграда, пад якім, як гэта заўважыў В. Тацішчаў, трэба разумець сучасны Навагрудак. У. Пашута, Ф. Гурэвіч і іх аднадумцы лічаць, што пад згаданым тут "Новогородом" трэба разумець закладку каменных гарадскіх сцен у Ноўгарадзе Вялікім, што пацвярджае Наўгародскі Ш летапіс, дзе растлумачана: *"...на Софнйской стороне каменный город".* На думку М. Ермаловіча, тое, што ва ўсіх крыніцах узвядзенне "Новогорода" звязана з паходам Яраслава на Літву ў 1044 г. і было вынікам гэтага паходу, дае падставу разумець гэтым горадам сучасны Навагрудак. Ён упэўнены, што ў адрозненне ад большасці беларускіх гарадоў Наваградак з самага свайго заснавання пападае ў летапісныя крыніцы. Дыскусія, які горад згадваецца ў летапісе пад 1044 г. - Ноўгарад ці Наваградак - не завершана. Пакуль жа ў даведніку "Храналогія гісторыі Беларусі" (Мн., 1992) дата першага летапіснага ўпамінання Наваградка пададзена двойчы - 1044 год і 1252 год.

Прыняўшы дату 1044 год, мы павінны прызнаць і тое, што горад заснаваны як апорны пункт кіеўскага панавання над беларускім Панямоннем. У далейшым ён стаў цэнтрам славянскай каланізацыі, асіміляцыі і хрысціянізацыі гэтага краю, набыў важнае эканамічна-гандлёвае і палітычнае значэнне і ў XIII ст. прыйшоў на змену Полацку як цэнтр дзяржаваўтварэння на Беларусі.

В. Тацішчаў выказаў думку (сёння яе падтрымліваюць А.Катэрлі, М.Ермаловіч), што Нямігскай бітве непасрэдна папярэднічаў паход Усяслава Полацкага ў пачатку 1067 г. на Наваградак. Толькі ў такім выпадку становіцца зразумелым, чаму Яраславічы, жадаючы адпомсціць за гэты напад, пайшлі не на Полацк, а на Менск, праз які мог вяртацца з паходу ў Полацк Усяслаў.

Такім чынам, у канцы X—XI стст. кіеўскія князі праводзяць у Панямонні захопніцкую палітыку, накіраваную на пашырэнне сваіх уладанняў, умацаванне межаў Русі з Польшчай і выхад на гандлёвыя шляхі на захад. Паўторы ваенных паходаў сведчаць пра тое, што перамогі рускіх князёў тут былі нетрывалыя.

## Берасцейская зямля

У пачатку XII ст. Глеб Усяслававіч у сваёй палітыцы пашырэння тэрыторыі Менскага княства на заходнім накірунку, верагодна, падначаліў сабе землі верхняга Панямоння. Аднак у выніку карнага паходу Манамаха 1116 г. страціў тут свае пазіцыі. З гэтай стратай Менск не мог змірыцца. У тацішчаўскіх звестках, паводле якіх у 1119 г. Глеб разам з палачанамі *"паки начал воевать области Владимировых детей, Новгородскую* м *Смоленскую ",* бачыцца ўказанне на спробу менскага князя вярнуць нёманскія землі, у прыватнасці, Наваградскую, якая належала камусьці з "дзяцей Уладзіміравых". На жаль, крыніцы не паведамляюць пра вынікі гэтага паходу.

На параўнальна невялікай тэрыторыі старажытнай Гродзеншчыны ў XII ст. было шмат гарадоў: Наваградак, Гарадзен (Гародня), Ваўкавыск, Услонім, Свіслач, Турыйск. Хоць летапіс іх упершыню называе толькі ў XII —XIII стст., але, паводле даных археалогіі, яны ўзніклі значна раней - у X — XI стст.

У пачатку XII - пачатку XV ст. у басейне сярэдняга Нёмана існавала Гарадзенскае княства з цэнтрам-крэпасцю Гарадзен. Яно, згодна з адной канцэпцыяй, у XII ст. знаходзілася ў васальнай залежнасці ад Кіева, а ў адпаведнасці з другой - не падпарадкоўвалася адміністрацыі Кіева, а выступала з ім ў сумесных паходах раўнапраўным ваенным саюзнікам. Гарадзен, як лічылася раней, адыгрываў ролю сталіцы ў гэтай зямлі. М. Ермаловіч выказваў альтэрнатыўную думку, што галоўным горадам у XII—XIII стст. тут быў Наваградак, яго князь меў значэнне вялікага князя для гэтага рэгіёна. Выгаднае геаграфічнае становішча (выхад у Балтыйскае мора па Нёмане, яго прытокі звязвалі з басейнамі Заходняй Дзвіны, Прыпяці, Дняпра) спрыяла хуткаму эканамічнаму і культурнаму развіццю княства.

Пытанне аб паходжанні Гарадзенскага княства, яго гісторыі і месцы ў сістэме іншых усходнеславянскіх дзяржаўных утварэнняў яшчэ недастаткова даследавана. Скупыя радкі летапісаў паведамляюць толькі асобныя факты дзейнасці князёў гарадзенскай дынастыі - нашчадкаў малодшага сына Яраслава Мудрага Ігара Яраслававіча, звязаных пераважна з Валынню.

Першая згадка пра гарадзенскага князя адносіцца да 1116 г..

*«Том же лете Володимер (Манамах) отда дщерь свою Огафью за Всеволодка».* Усеваладка - гэта праўнук Яраслава Мудрага, унук Ігара Яраславіча, сын валынскага князя Давыда Ігаравіча. У дадзеным летапісным паведамленні няма ўказання, што гэта князь гарадзенскі. Аднак праз 12 гадоў у 1128 г. *"Всеволодка из Городна"* ўдзельнічае ў паходзе на Полацк, у 1132 г. - на Літву.

Як апынуўся Усеваладка на зямлі прынёманскай, тады як яго бацька і дзед валодалі Валынню, а дзед нават да канца жыцця быў на чале Смаленска — гэта яшчэ не высветлена. Відаць, ён атрымаў яе ад вялікага кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха ў якасці пасага Агаф'і - інтарэсы дзяржавы, якая распадалася, патрабавалі ўзмацнення паўночна-заходніх рубяжоў. Гэты шлюб - сведчанне значнай ролі Гарадзенскага княства ў палітычньгх адносінах Усходняй Еўропы.

Княства да сярэдзіны XIII ст. праводзіла яўную пракіеўскую палітыку. Усеваладка і яго нашчадкі прынялі актыўны ўдзел ва ўзмацненні вялікакняжацкай улады. "Знешняя палітыка" Гарадзенскга княства была зарыентавана тады на Кіеў.

У 1128 г. вялікі кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч арганізоўвае паход на Полацкую зямлю. Адну са стратэгічных аперацый у гэтым паходзе выконваў Усеваладка Давыдавіч. У летапісным паведамленні пра гэты паход гарадзенскія сілы названы на трэцім месцы пасля Тураўскага і Валынскага княстваў. Значыць, Гарадзенскае княства ўяўляла сабой значную вайскова-палітычную адзінку ў сістэме іншых усходнеславянскіх дзяржаў. Відавочна, што Гарадзен - стольны горад Усеваладкі. Аднак крыніцы маўчаць аб часе яго заснавання.

У 1132 г. гарадзенская дружына ўдзельнічала ў вялікім паходзе на Літву, арганізаваным тым жа Мсціславам: *'Ходи Мьстислав на Литву с сыньми своими и с Олговичи и с Всеволодом Городеньским и пожгоша я, а сами ся расхорониша, а киян тогда много побиша Литва, не втягли бо бяху с князем, но последи идяху по нем особе".* Як у паходзе на Полацк, гарадзенскі князь таксама выступае ў ролі саюзніка Кіева. Супраць каго быў накіраваны паход 1132 г., летапіс не паведамляе. Магчыма гэта была спроба адсунуць межы Русі на поўнач ад Гародні, у такім выпадку маршрут пралягаў ў бок ракі Віліі.

Пасля паведамлення пра смерць Усевалада Гарадзенскага ў 1141 г. наступныя звесткі летапісу расказваюць пра актыўны ўдзел яго сыноў Барыса, Глеба і Мсціслава ў шматлікіх вайсковых мерапрыемствах Кіева, у барацьбе розных прэтэндэнтаў за вялікакняжацкі стол. У 1141 г. Барыс і Глеб удзельнічаюць у беспаспяховым паходзе кіеўскага князя Усевалада Ольгавіча на Галіч. Гэты ж князь наладжвае шлюбы дачок нябожчыка Усеваладкі: адну аддае за чарнігаўскага князя Уладзіміра Давыдавіча, другую - за тураўскага князя Юрыя Яраславіча. Гэтыя шлюбы, відаць, ставілі перад сабой палітычную мэту — умацаваць сувязі Гародні, больш цесна звязаць інтарэсы гродзенскай дынастыі з іншымі рускімі княствамі.

Гарадзенскія Усеваладкавічы і пазней пастаянна знаходзяцца ў фарватары палітыкі вялікіх кіеўскіх князёў. У 1150- 1151 гг. Барыс са сваім атрадам прымаў удзел у барацьбе Ізяслава Мсціслававіча за вялікакняжацкі пасад. Гарадзенская дружына ўдзельнічала ў аблозе Кіева, а пасля ўзяцця горада праследавалі палкі аднаго з галоўных прэтэндэнтаў на трон - растова-суздальскага князя Юрыя Даўгарукага. Пры бліжэйшым пераемніку Ізяслава Мсціславіча Расціславе Мсціславічу Гародня ўтрымлівалася ў сферы палітычнай актыўнасці кіеўскага князя. У 1167 г. па загаду Расціслава палкі з многіх зямель сабраліся ля Канева, каб засцерагчы ад небяспекі палавецкіх нападаў купецкія караваны на Грэчаскім і Залозным шляхах. Сюды з'явіўся і "Глеб Городеньский".

Пасля смерці Расціслава вялікакняжацкі кіеўскі стол заняў Мсціслаў Ізяславіч. Мяркуючы па паведамленнях Іпац'еўскага летапісу, у яго былі блізкія адносіны з Усеваладкавічамі, якія аказвалі яму дапамогу ў барацьбе за Кіеў. У паходзе, арганізаваным гэтым князем у 1170 г. на полаўцаў, удзельнічаў малодшы з гарадзенскіх Усеваладкавічаў - Мсціслаў.

Відаць, пад уплывам змены абставін гарадзенская дружына прыняла ўдзел у паходзе Андрэя Багалюбскага на Кіеў, накіраваным супраць Мсціслава Ізяславіча. Горад захапілі і разрабавалі. Мсціслаў вымушаны быў пакінуць трон, хаця барацьбу за яго не спыніў, і вярнуўся на Валынь. У 1174 г. гарадзенскія ўзброеныя сілы ўдзельнічалі ў новым паходзе Андрэя Багалюбскага на Кіеў. Хто з мясцовых князёў хадзіў у Падняпроўе, летапіс не паведам-

ляе. Гарадзенскія князі, таксама як полацкія, тураўскія, пінскія, названы ў множным ліку. Хутчэй за ўсё гэта быў Мсціслаў Усеваладкавіч. Старэйшыя браты да гэтага часу ўжо, напэўна, не жылі.

Са скупых летапісных радкоў мы не можам даведацца, ці сядзелі ўсе нашчадкі Усеваладкі ў Гародні, утвараючы свайго роду трыумвірат, ці мелі свае ўласныя гарадкі і ўдзелы. Можна дапусціць, што пасля 1169 г., калі Барыс і Глеб знікаюць са старонак летапісаў і выступае адзін Мсціслаў, старэйшыя браты ўжо памёрлі. Магчыма і іншае: малодшы Мсціслаў быў яшчэ пры жыцці аднаго ці абодвух братоў кіраўніком знешнепалітычных акцый княства і ўзначальваў далёкія паходы, звязаныя з барацьбой за Кіеў.

У 1184 г. Мсціслаў хадзіў на полаўцаў разам з вялікім князем Святаславам Усеваладавічам. У гэтым і іншых паходах аб'яднаных дружын на полаўцаў гарадзенскія палкі разам з валынскімі, галіцкімі, пераяслаўскімі, чарнігаўскімі і пінскімі, абараняючы паўднёвыя межы Русі, адстойвалі агульныя ўсходнеславянскія інтарэсы.

Па меркаванню А.В. Салаўёва, Мсціслава "городеньского" мае на ўвазе "Слова аб палку Ігаравым". Тут ён названы побач з валынскім князем Раманам Мсціславічам, які шмат і паспяхова ваяваў з яцвягамі і літвой. Абодва князі выступаюць у "Слове" выразнікамі агульнарускіх інтарэсаў. Апошні водгук пра жыццё Гарадзеншчыны ў XII ст., магчыма, знайшоў адлюстраванне таксама ў "Слове". Смуткам адгукнулася ў тутэйшых краях пагібель нашчадка славутага Усяслава, полацкага і гарадзенскага князя Ізяслава Васількавіча, які быў *"литовскими мечами прибит". "Унылы голоси, пониче веселье, трубы трубят городеньскии",* - пісаў невядомы аўтар у канцы XII ст. На думку А.В. Салаўёва і М.М. Вароніна, сумненні, што выказваюцца наконт лакалізацыі ўсяго, што звязана з тэрмінам "городеньски" (князь, дружына і г.д.) на тэрыторыі беларускага Панямоння, не маюць пад сабой падстаў.

Украінскі лінгвіст і літаратар Я.А. Паўленка выказаў нядаўна новую версію аўтарства і месцазнаходжання "Слова". На яго думку, славуты помнік старажытнай усходнеславянскай літаратуры з'яўляецца не чым іншым, як пісьмом... гарадзенскага князя Ізяслава Васількавіча. З Галіча гэты князь піша сваім братам Брачыславу і Усеваладу ў Гародню: *"Не лучше ли нам будет, братья... ".* У

гэтым пісьме аўтар расказвае аб сваёй бітве і паражэнні ад літвы: *"...сам под бранными щитами на кровавой траве прибит литовскими мечами".* У гэтым пісьме Ізяслаў Васількавіч задаецца пытаннем, што прывяло да такога плачэўнага стану і княства Полацкае, і ўсю Русь? Толькі пра сваю бітву з літвой гарадзенскі князь гаворыць у трэцяй асобе (такая форма апавядання добра вядома ў літаратурных творах). Сутыкнуўшыся з грозным ворагам - літвой, Ізяслаў Васількавіч к часу напісання "Слова" вымушаны быў эмігрыраваць у Галіч, адкуль і піша сваё пісьмо братам, прычым пісьмо не першае, як вынікае з тэксту паэмы. Што ж датычыць месцазнаходжання гэтага помніка, то, на думку *Я.А* Паўленкі, да таго, як папасці ў рукі збіральніка старажытнасцей графа Мусіна - Пушкіна, ён захоўваўся ў Гродне. Больш таго, адзіны спіс "Слова", выяўлены ў канцы XVIII ст., быў, як адзначае гісторык К.Ф. Калайдовіч, *"писан в лист белорусским почерком ".*

Усе гэтыя летапісныя паведамленні распавядаюць пра гарадзенскіх князёў і дружыну. Пра сам горад летапісец упершыню расказаў у 1183 г. вядомай фразай: *"Городень погоре весь и церкви каменыя от блистания молнии и шибения грома".* Такім чынам, нават скупыя нататкі летапісаў паказваюць, што аддаленае на сумежжы Гарадзенскае княства мела цесныя сувязі з астатняй Руссю і адыгрывала адметную ролю ў яе гісторыі.

Аднак пытанне аб правамернасці аднясення да Гродна нёманскага ўсяго, што ў пісьмовых крыніцах мае назву гарадзенскага (войска ці князь), зноў узняў М.Ермаловіч у сваім даследаванні "Старажытная Беларусь". Летапісныя звесткі, на яго думку, даюць падставы лакалізаваць Гарадзенскае княства бліжэй да Турава, Пінска ці Чарнігава, чым да Гародні. Хутчэй за ўсё ўскраіннае княства, якім магло быць Гарадзенскае (на Нёмане), у перыяд раздробленасці трымалася б далей ад міжусобных сварак, якія яму нічога, акрамя дарэмнай страты сіл, не прынеслі бы. Нельга, заўважае аўтар, толькі на аснове назвы "гарадзеньскі" упэўнена атаясамляць каго- небудзь з гарадзенскім князем. У той час было няма- ла населеных пунктаў з назвай- Гарадзен ці Гародна. М. Ермаловіч лічыць пытанне аб месцазнаходжанні Гарадзенскага княства праблематычным і нават не ўпэўнены, што яно абавязкова было на

тэрыторыі Беларусі. Але пасля доўгіх навуковых спрэчак і археалагічных адкрыццяў апошніх дзесяцігоддзяў з гэтымі сумненнямі цяжка пагадзіцца. Але дзе б ні знаходзілася гэта княства, яно прымала актыўны ўдзел у падзеях 20—80-х гадоў XII ст. Заслугоўвае ўвагі выраз "гарадзенскія князі", што можа ўказваць на наяўнасць удзелаў у гэтым княстве. Такім жа паказальным з'яўляецца і тое, што ў ім замацавалася дынастыя Усеваладкавічаў. Гэта можа сведчыць аб высокай ступені палітычнай самастойнасці княства.

Пачатая ў канцы X - пачатку XI ст. барацьба кіеўскіх князёў з яцвягамі і літвой, якія жылі і на тэрыторыі Гродзеншчыны, была працягнута ў XII—XIII стст. галіцка- валынскімі князямі. Пад 1112 г. у "Аповесці мінулых гадоў" гаворыцца пра паход на яцвягаў валынскага князя Яраслава Святаполкавіча. Акрамя таго, у Лаўрэнц'еўскім летапісе пад 1113 г. паведамляецца наступнае: *"Ходи Ярослав, сын светополч, на ятвягы и победи я ".* Паўторы ваенных паходаў у яцвяжскія землі свечаць пра тое, што перамогі рускіх князёў тут не былі трывалымі.

Іпац'еўскі летапіс паведамляе пра паход валынскага князя Рамана Мсціславіча на яцвягаў у 1196 г.:" *Тое же зимы ходи Роман Мстиславич на ятвягы отомьщиваться: бяхоть бо воевали волость его. И тако Роман вниде в землю их, они же не могучи стати противу силе его и бежаша во свои тверди, а Роман пожог волость их отомьстився, возвратися во свояси...",* іншых даных пра барацьбу князя Рамана з яцвягамі летапіс не прыводзіць, але сцвярджае, што ваяваў ён шмат.

Пачынаючы з княжання Рамана Мсціславіча, Галіцка-Валынская Русь з'яўляецца па сутнасці асноўнай сілай, якая вядзе барацьбу з Літвой і яцвягамі. Спробы кіеўскага князя Святаполка Усеваладавіча і яго наступніка Рурыка Расціславіча працягваць актыўную палітыку ў яцвяжскіх і літоўскіх землях аказаліся беспаспяховымі. Больш таго, зараз ужо дружыны яцвягаў і літвы ўсё часцей робяць набегі на заселеныя славянамі старажытнарускія землі. Адзін з такіх паходаў адбыўся ў 1205 г.: *"Литва же и ятвезе воеваху и повоева же Туршск и около Комова, оли до Червеня и бишася у ворот Червенских.*

Яцвягі ў саюзе з літвой напалі тады на Валынскую зямлю, біліся ля самых Чэрвеньскіх варот. *"Беда бо бе в земле Володимер-*

*стеи от воевания Литовьского* м *ятвяжьского",* - паведамляе летапісец. Хаця ў 1219 г. паміж літоўскімі князямі і Галіцка-Валынскай зямлёй было заключана мірнае пагадненне, літоўска-яцвяжскія паходы і напады не спыніліся. Рускія дружыны, у сваю чаргу, ходзяць у Яцвягію і Літву, г. зн. у беларускае Панямонне.

Асаблівага напалу барацьба з імі дасягнула пры галіцка-валынскім князі Даніле Раманавічу. У 1227 г. ён разграміў яцвягаў, "повоевавших Берестье", у 1235 г. зноў хадзіў на яцвягаў праз Бярэсце.

У 1248, 1253 і 1258 гг. Даніла і Васілька Раманавічы сумесна з польскімі князямі ажыццявілі тры вялікія паходы супраць яцвягаў. Зямля іх была моцна спустошана і часткова падпарадкавана галіцка-валынскім і мазавецкім князям. Яцвягі абяцалі Даніле *"работе быти"* і *"городы раубити в земле своеи",* а таксама плаціць даніну. Такім чынам, землі Гродзеншчыны ў XIII ст. трапляюць у сферу ўплыву Галіцка-Валынскага княства. У другой палове XIII ст. узмацняецца націск на яцвягаў з боку нямецкіх крыжакоў.

Пісьмовыя крыніцы аддаюць даніну мужнасці яцвяжскіх вояў, адзначаюць доблесць іх ваяўнічых правадыроў. Здольнасць яцвягаў на працягу некалькіх стагоддзяў супрацьстаяць націску значна пераўзыходзячых па сіле праціўнікаў не магла не выклікаць павагі сучаснікаў да гэтага вольналюбівага і гордага народа.

З сярэдзіны XIII ст. звесткі пра яцвягаў у рускіх летапісах абрываюцца. З паведамленняў польскіх і нямецкіх храністаў вядома, што ў канцы XIII ст. яцвягі былі канчаткова заваяваны крыжакамі. У 1283 г. апошні незалежны яцвяжскі нобіль Скурдо, пакінуўшы радзіму, пайшоў са сваім атрадам у Літву. Яцвяжская тэрыторыя была цалкам спустошана, а насельніцтва ці знішчана, ці пераселена ў суседнія землі (Літву, Польшчу, Панямонне). У хуткім часе яцвягі знікаюць са старонак гісторыі. У Іпац'еўскім летапісе ёсць паведамленне аб пасяленні ў 1276 г. вялікім літоўскім князем Тродзенам у ваколіцах Гародні і Слоніма прусаў, што шукалі паратунку ад нямецкіх рыцараў. Польскі філолаг Я. Астржэмбскі, спасылаючыся на даследаванні гаворак літоўскага насельніцтва некаторых раёнаў Панямоння, бачыць у літоўцах Слонімшчыны не нашчадкаў прусаў, а нашчадкаў яцвяжскіх перасяленцаў.

У XIII ст. Іпац'еўскі летапіс зафіксаваў асобных князёў у Наваградку (1235), Ваўкавыску (1256), Свіслачы (1256), магчыма, у Слоніме (1281). Значыць, гэтыя гарады з'яўляліся цэнтрамі асобных удзелаў. Летапісы не зарэгістравалі ніводнага выпадку міжусобнай барацьбы іх князёў.

У 1235 г. упершыню прыгадваецца наваградскі князь Ізяслаў, а ў 1252 (1253) г. у горадзе адбываецца каранацыя Міндоўга. У наступным годзе ў летапісе прыгадваецца *"зямля Новагародская",* што сведчыць пра існаванне самастойнага княства. Выгаднае геапалітычнае становішча зрабіла яго ядром новага этапа дзяржаваўтварэння на Беларусі.

З сярэдзіны XIII ст. пачынаецца новы перыяд гісторыі Гродзеншчыны, звязаны з утварэннем Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Дамінуючую ролю ў жыцці Панямоння і ўсёй Беларусі стаў адыгрываць Наваградак, які ў 40-ыя гады на пэўны час вырваўся з-пад палітычнага прыцягнення Валыні і стаў цэнтрам аб'яднання балта-славянскіх зямель у адзінай дзяржаве.

Берасцейская зямля з галоўнымі гарадамі Бярэсце, Кобрын, Камянец, Мельнік, Драгічын, Бельск раскінулася па абодва бакі Заходнягя Буга і ўяўляла сабой палітычна адзіную воласць. Яна мела выключна важнае з пункту гледжання развіцця міжнароднага гандлю геаграфічнае становішча. У Пабужжы перакрыжоўваліся некалькі важных гандлёвых шляхоў, па якіх ажыццяўляўся тавараабмен паміж Тураўскай, Кіеўскай, Галіцка-Валынскай, Чарнігаўскай і іншымі землямі і Заходняй Еўропай. Асаблівасцю Берасцейскай зямлі з'яўлялася поліэтнічнасць яе насельніцтва. У IX—XIII стст. яна займала прамежкавае становішча паміж асноўнымі землямі дрыгавічоў, валынян, мазаўшан, яцвягаў і была зонай іх узаемадзеяння. Знаходзячыся ў сферы геапалітычных інтарэсаў адразу некалькіх моцных племянных саюзаў і княстваў, Берасцейшчына ніколі не выступала як незалежнае самастойнае палітычнае аб'яднанне. У XI—XIII стст. тут сутыкаліся інтарэсы кіеўскіх, тураўскіх, пінскіх, мінскіх, галіцка-валынскіх, а з пачатку XIV ст. і князёў ВКЛ з інтарэсамі польскіх феадалаў. У канцы XI — першай палове XII ст. Берасцейская зямля ўваходзіла ў склад Тураўскага княства,

залежнага ад Кіева, а з сярэдзіны XII ст. трывала ўвайшла ў сферу ўплыву Валынскага княства.

Горад Бярэсце ўзнік на мяжы X—XI стст. на мысе пры ўпадзенні Мухаўца ў Заходні Буг як пагранічная крэпасць і, апорны пункт славянскай (дрыгавіцкай) каланізацыі навакольнай тэрыторыі.

Пісьмовыя паведамленні XI—XIII стст. пра Брэст адрозніваюцца кароткасцю і адрывачнасцю, адсутнасцю паслядоўнага і сістэматычнага выкладання падзей. Прычынай слабага адлюстравання ў летапісах гісторыі Бярэсця паслужыла яго аддаленае размяшчэнне ад старажытных летапісных цэнтраў, невялікія памеры і нязначная вага ў агульнай сістэме старажытных рускіх і беларускіх гарадоў, сканцэнтраванне палітычных падзей у іншых раёнах старажытнай Русі. Таму многія падзеі ў жыцці Бярэсця можна зразумець толькі ў агульным усходнеславянскім кантэксце. Памежнае становішча Бярэсця прыводзіць да таго, што з самага пачатку сваёй гісторыі ён стаў аб'ектам заваёўніцкіх нападаў з розных бакоў. Відаць, на апошнім этапе барацьбы Святаполка і Яраслава Бярэсце было занята палякамі. Каб вярнуць яго, Яраслаў у 1020 г. робіць паход на гэты горад, але змог вызваліць яго толькі ў 1043 г.

Бярэсце не адносіцца да ліку буйных гарадоў. Тым не менш яно было тыповым для свайго часу гарадскім паселішчам, адміністрацыйным, гандлёва-рамесным, абарончым, культурным і рэлігійным цэнтрам прылягаючых тэрыторый, цэнтрам славянскіх пасяленняў значнага рэгіёна. Яго размяшчэнне на пагранiччы, на важных стратэгічных рубяжах і ажыўленых водных шляхах прыводзіла да таго, што горад часта аказваўся ў зоне пастаянных эканамічных і ваенных канфліктаў суседніх народаў. Па ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця і ролі для навакольных тэрыторый ён быў у стане быць сталіцай самастойнага княства, і старажытнарускія летапісы неаднаразова паведамлялі пра спробы мясцовага насельніцтва да такога выдзялення (1101, 1102, 1146, 1204, 1289). І толькі існаванне моцных суседніх Тураўскага і Галіцка-Валынскага княстваў, не зацікаўленых у выдзяленні з іх складу Бярэсця, не дазволілі яму атрымаць самастойнасць.

Пастановай Любечскага з'езда 1097 г., які ўрэгуляваў тэрытарыяльныя спрэчкі князёў, Бярэсце было замацавана за вялікім

кіеўскім князем Святаполкам Ізяславічам *"яко князем туровскнм".*

Аднак Любечскі дагавор тут жа быў парушаны. Уладзімірскі князь Давыд Ігаравіч стаў намаўляць Святаполку Ізяславічу на князя Васільку: *"увидишь, займет города твои Туров, и Пинск, и Берестье, и Пагорину, и тебя убьёт, яко и брата ти убил Ярополка".* Апанаваны сумненнямі і паверыўшы так рэальна намаляваным пагрозам, Святаполк загадаў схапіць Васільку і асляпіць. Калі ж князі запатрабавалі ў Святаполка адказу за гэтыя дзеянні, ён спаслаўся на сведчанне Давыда. Абураныя князі пазбавілі Давыда ўладзімірскага прастола, а ад Святаполка запатрабавалі пакараць яго. Давыд, спасаючыся ад расплаты, уцёк да польскага караля Баляслава, просячы абароны і абяцаючы шчодрую ўзнагароду. Святаполк запатрабаваў ад Баляслава выдаць Давыда і ў падмацаванне свайго патрабавання накіраваўся з дружынай да Бярэсця. Тут і адбылася яго сустрэча з Баляславам. " И *ста Святополк в граде, а ляхове на Бузе, и сносися Святополк речью с ляхы... ".*

У 1101 г. безудзельны ў той час пляменнік Святаполка Яраслаў вырашыў забяспечыць сябе "вотчынай" і заняў Бярэсце. Святаполк не пацярпеў такога свавольства і сам узначаліў паход на Яраслава, ўзяў Бярэсце, а непакорнага пляменніка схапіў, закаваў у кандалы, адвёз у Кіеў і пасадзіў у "поруб", адкуль ён быў выпушчаны толькі па просьбе ігуменаў і баяр. Адпушчаны ў наступным годзе, Яраслаў зноў пачынае барацьбу за Пабужжа, аднак у хуткім часе зноў трапляе ў рукі кіеўскага князя. Загінуў ён у турме ў тым жа 1102 г.

Гэты эпізод паказвае, што Бярэсце ўяўляла ў той час значную каштоўнасць для кіеўскага і тураўскага князя. У спробе Яраслава, меўшага асабістыя кантакты з прадстаўнікамі мясцовай феадальнай вярхушкі, якая імкнулася да самастойнасці, захапіць удзел у Бярэсці і Пабужжы, бачыцца першая спроба надаць Берасцейскай зямлі статус асобнага княжацкага ўдзела. Аднак гэтым пажаданням не суджана было здзейсніцца. Пасля смерці Святаполка ў 1113 г. Бярэсце разам з Тураўскім княствам апынулася ў падпарадкаванні Уладзіміра Манамаха.

Бярэсце ўпамінаецца таксама ў 1140 і 1142 гг., калі на кіеўскім прастоле ўладарылі чарнігаўскія князі Святаславічы. Каб задаволіць прэтэнзіі сваіх сваякоў і саюзнікаў, яны раздаюць ім гарады

Тураўскага княства - Клецк, Слуцк, Рагачоў, Бярэсце. У склад гэтага княства Бярэсце было вернута ў 1146 г. тураўскім князем Вячаславам, сынам Манамаха.

Спыненне на тураўскім стале мясцовай дынастыі Ізяславічаў у 1113 г., пераход Турава ў распараджэнне Манамахавічаў і частая змена князёў на кіеўскім і тураўскім сталах у сярэдзіне XII ст. аслабілі Тураўскае княства і паскорылі яго распад. Тады ж Бярэсце перайшло да ўладзіміра-валынскіх князёў.

У гэты час выспелі ўсе ўмовы для выдзялення Берасцейскай зямлі ў самастойнае княства. Аднак па суседству з магутным Галіцка-Валынскім княствам гэта было нерэальным. У другой палове XII ст. ёй валодаў Раман Мсціславіч, пасля гібелі якога ў 1204 г. берасцяне зноў робяць спробу атрымаць незалежнасць. Аднак новыя валадары Валынскай зямлі не даюць ім такой магчымасці.

У канцы XII ст. польскія феадалы спрабавалі захапіць Берасцейшчыну. У 1179 і 1182 гг. князь Казімір II, у 1210 г. Конрад Мазавецкі і Лёшка Кракаўскі часова захапілі пабужскія землі. У пачатку XIII ст. Брэст з'яўляўся невялікім удзелам, які знаходзіўся ў зоне пагранічных канфліктаў.

Пачашчаюцца напады літвы і яцвягаў. У 1164 г. упершыню адзначаны напад літвы на Бярэсце. У 1227 і 1229 гг. пад горадам *"павоеваша ятвязи".* Але галоўнай небяспекай былі мангола-татарскія орды Батыя. У пачатку XIV ст. Берасцейская зямля была ўключана ў склад ВКЛ. У 1566 г. на яе аснове створана Берасцейскае ваяводства.

## Беларускія гарады ў складзе Смаленскага, Чарнігаўскага і Кіеўскага княстваў

У VIII — IX стст. у верхнім Падняпроўі і Падзвінні, на землях смаленскіх крывічоў, якія сфарміраваліся ў выніку змяшэння славян з мясцовым балцкім насельніцтвам і былі блізкімі па паходжанню да полацкіх крывічоў, сфарміравалася **Смаленскае княства.** Спачатку Смаленская зямля па развіццю адставала ад Полацкай, аднак у другой палове XII ст. стала адным з самых значных княстваў Русі.

Галоўны горад зямлі - Смаленск (узнік у IX ст.) - распаўсюджваў сваю ўладу на паўночныя землі радзімічаў, што жылі ў Пасожжы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Захоплены ў 882 г. Алегам, ён папаў у залежнасць ад Кіева, да пачатку XII ст. заставаўся яго воласцю і адыгрываў важную ролю ў барацьбе за днепрадзвінскія волакі, якая няспынна вялася ў X — XIII стст. У 1119 г. на Смаленск хадзіў Глеб Менскі, але гэты паход скончыўся для яго трагічна - быў узяты ў палон, вывезены ў Кіеў, дзе і памёр. У XII — XIII стст. у склад Смаленскага княства ўваходзілі беларускія гарады Прупой (Прапойск), Крычаў і Мсціслаў. У пачатку XII ст. да яго адышлі Копысь і Орша, аднак Орша была хутка вернута Полацку.

У XII ст. адбываецца феадальнае драбленне Смаленскага княства. Сталіцай удзельнага княства ў 1180 г. стаў Мсціслаў. У ім тады правіў Мсціслаў Раманавіч з роду Манамаха. Княства займала ўсходнюю частку тэрыторыі сучаснай Магілёўскай вобласці. Стаўшы смаленскім князем, Мсціслаў Раманавіч у 1196 г. далучыў да Смаленскага княства свой удзел.

Заснавальнікам дынастыі смаленскіх князёў з'яўляецца Расціслаў Мсціславіч. Гады яго княжання ў Смаленску (1125—1159) і ў Кіеве (1159—1167) сталі гадамі росквіту і пашырэння Смаленскага княства, узрастання яго ролі ў агульных усходнеславянскіх палітычных і эканамічных працэсах.

Менавіта пры Расціславе пачынаецца пранікненне Смаленска ў землі радзімічаў, якія з XI ст. былі пад уладай Чарнігава. Захопленыя Расціславам у 1127 і 1142 (у час другога паходу быў спалены Гомель), яны на працягу XII—XIII стст. заставаліся асноўнай прычынай спрэчак, не дазвалялі нармалізаваць чарнігаўска-смаленскія ўзаемаадносіны. Спрэчкі паміж князямі, неабходнасць замацавання далучаных зямель і збору даніны вымусіла смаленскіх правіцеляў умацаваць Прупой, Лучын, Копысь, Оршу, заснаваць у 1135 г. Мсціслаў. У 50-70-ыя гады XII ст. Смаленск імкнецца аб'яднаць пад сваёй уладай ўсе крывіцкія землі. Даволі часта ў залежнасць ад яго пападалі Віцебск і Друцк. У 1232 г. землі полацкіх і смаленскіх крывічоў былі аб'яднаны ў адзінае цэлае. Але ў 40-ыя гады XIII ст. пачынаецца заняпад Смаленскага княства. Яно губляе свой уплыў

на Полацк, Кіеў, Ноўгарад, церпіць ад набегаў літоўскіх дружын. У 70-ыя гады XIII ст. княства падверглася мангола-татарскай навале. У 1405 г. яно было далучана Вітаўтам да ВКЛ.

На паўднёвым усходзе ад Полацкага княства знаходзілася буйное **Чарнігаўскае княства.** Большая яго частка размяшчалася на тэрыторыі сучаснай Украіны. З другой паловы XI ст. у яго склад увайшлі землі па ніжнім цячэнні Сожа з гарадамі Гомель, Рэчыца і Чачэрск. Гомель - вельмі старажытны горад, аднак упамянуты ў летапісах даволі позна - ў 1142 г. "Гомій" IX-X стст. быў значным асяродкам славянскай каланізацыі гэтага краю, адным з радзіміцкіх племянных цэнтраў. Згодна з летапісам, радзімічы, у паўднёвай частцы рассялення якіх лакалізаваўся Гомель, захоўвалі сваю аўтаномію ад Кіева да канца X ст., іх залежнасць абмяжоўвалася выплатай даніны і ўдзелам радзіміцкіх атрадаў у ваенных прадпрыемствах кіеўскіх князёў. Пасля перамогі Кіева над радзімічамі ў бітве на рацэ Пяшчане ў 984 г., землі Пасожжа разам з Гоміем адыходзяць пад уладу вялікага князя. Ён кіраваў горадам і воласцю праз сваіх намеснікаў. З другой паловы XI ст. горад пераходзіць у склад Чарнігаўскага княства, у канцы XI - першай палове XII ст. знаходзіцца ў спадчынным валоданні Давыда Чарнігаўскага і яго нашчадкаў. У XII ст. становіцца цэнтрам удзельнага княства, буйнейшым ваенна-адміністрацыйным цэнтрам ніжняга Пасожжа і цэнтрам хрысціянскай культуры.

Беларускія гарады **Мазыр і Брагін** адносіліся да Кіеўскага княства, размешчанага ў сярэднім Падняпроўі. Мазыр упершыню згадваецца ў летапісе ў **1155 г.,** калі князь Юрый Даўгарукі, атрымаўшы трон у Кіеве, аддаў Мазыр Святаславу Ольгавічу. Аднак неўзабаве горад зноў перайшоў у рукі вялікага князя. Брагін - дрыгавіцкі горад, які таксама знаходзіўся ў залежнасці ад Кіева. Упершыню згаданы ў летапісе ў **1147 г.**

Лёс ўсходніх і паўднёва - ўсходніх беларускіх зямель цесна звязаны з гісторыяй Смаленскага, Чарнігаўскага і Кіеўскага феадальных дзяржаўных фарміраванняў.

ЛЕКЦЫЯ **10**

# БАРАЦЬБА З ЧУЖАЗЕМНЫМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў XIII—ПЕРШАЙ ЧВЭРЦІ XIV ст.

- *Войны Полацкага княства з крыжакамі.*
- *Барацьба насельніцтва Беларусі супраць мангола-татарскіх заваёўнікаў.*

## Войны Полацкага княства з крыжакамі

Знешнепалітычную дзейнасць княстваў, якія склаліся на тэрыторыі Беларусі, нельга звесці толькі да адносін з Кіевам, Ноўгарадам і іншымі тагачаснымі палітычнымі цэнтрамі Усходняй Еўропы. Сфера гэтай дзейнасці была значна шырэйшая. Ім даводзілася не толькі вырашаць пытанні ўзаемаадносін усходнеславянскіх зямель, але і наладжваць сувязі з сумежнымі і аддаленымі краінамі, весці барацьбу са знешняй пагрозай, забяспечваць свае міжнародныя інтарэсы. Стольнаму Кіеву даводзілася лічыцца з інтарэсамі беларускіх княстваў пры вырашэнні міжнародных спраў. З сярэдзіны XII ст. самастойнасць княстваў у галіне знешняй палітыкі яшчэ больш узрасла, і ён практычна цалкам страціў кантроль над знешнепалітычнымі дзеяннямі мясцовых князеў.

**Полацкая зямля ў IX ст., а, магчыма, і раней, мела сувязі з дзяржавамі Скандынавіі.** Ва ўсякім разе пра гэта княства там ведалі, аб гэтым сведчаць ісландскія і скандынаўскія сагі. Пісьмовыя крыніцы сведчаць таксама, што полацкім, як і іншым усходнеславянскім землям, былі вядомы нарманскія (варажскія) набегі, што Крывіцкая (Полацкая) зямля нейкі час вымушана была выплачваць варагам даніну. Выплата даніны, хутчэй за ўсё, з'яўлялася сродкам падтрымкі мірных адносін са Скандынавіяй і прадухілення нападу з поўначы. Такой жа платай за мірныя адносіны і саюзную дапамогу была, напрыклад, і даніна, якую Візантыя - адна з буйнейшых дзяржаў таго часу - давала славянскім плямёнам. Выплата даніны варагам была непрацяглай. Пад 867 г. Ніканаўскі летапіс паведамляе: *"Всташа Словене, рекше новгородцы и Меря и Кривичи на варяги и изгнаша их за море и не даша им дани ".*

Выхадцы са Скандынавіі ўдзельнічалі ў палітычным жыцці ўсходнеславянскіх княстваў, якія толькі складваліся, а, калі верыць летапісам, то і сталі на чале іх. Такім князем, магчыма, быў і Рагвалод Полацкі, які "пришел и заморья". Князем нарманскага паходжання некаторыя гісторыкі лічаць і Тура, які з'явіўся ў дрыгавічоў. У адным з летапісаў ён названы братам Рагвалода. Выхадцы са Скандынавіі выступалі ў якасці наймітаў - сага пра Эймунда расказвае, як ён з дружынай наймаўся да полацкага князя Брачыслава.

Аднак нельга і перабольшваць ролю варажскага фактару ў гістарычным развіцці беларускіх зямель. Не выхадцы са Скандынавіі вызначалі палітыку Полацкага княства, характар яго дзяржаўнасці. Яно пачало складвацца яшчэ да варагаў і было ўсходнеславянскім утварэннем, якое імкнулася забяспечыць сваё існаванне.

Нашым продкам быў добра знаёмы шлях у Візантыю, і яны не раз пад эгідай кіеўскага князя рабілі набегі на ўладанні імперыі. Частка даніны, якую абязаўся выплаціць Царград пасля паходу на яго ў 907 г., ішла ў Полацк.

Наладжваючы сувязі з паўднёвымі і ўсходнімі краінамі, старажытная Русь у той жа час актыўна супрацьстаяла набегам качэўнікаў. Вядома, што радзімічы нейкі час знаходзіліся ў залежнасці ад хазар, плацілі ім даніну. Вялікі кіеўскі князь Алег ліквідаваў гэту залежнасць. Беларускія княствы ўдзельнічалі ў барацьбе з печанегамі і полаўцамі, якая насіла агульнаславянскі характар. Усяслаў Полацкі ў 1060 г. ваяваў супраць торкаў. Падчас свайго сямімесячнага праўлення ў Кіеве ён адыграў немалаважную ролю ў арганізацыі адпору полаўцам. Крыніцы паведамляюць таксама пра ўдзел палачан у паходах на полаўцаў у 1103 і 1183 гг. А вось у 1128 г. яны адмовіліся ад удзелу ў такім паходзе, які рыхтаваўся кіеўскім князем Мсціславам, што стала прычынай расправы над полацкімі князямі - былі схоплены і адпраўлены ў Візантыю.

Стэпавыя качэўнікі адыгралі пэўную ролю ў княжацкіх усобіцах на Русі, прыцягваліся мясцовымі князямі ў якасці наймітаў. Так князь тураўскі Святаполк спрабаваў знайсці падтрымку ў печанегаў ў барацьбе за кіеўскі стол.

Усё больш рознабаковымі станавіліся адносіны беларускіх зямель з еўрапейскімі краінамі. Сродкам вырашэння знешнепалітыч-

ных праблем служылі і сямейна-шлюбныя сувязі. Святаполк тураўскі меў сваяцкія сувязі з польскім каралём Баляславам. Полацкая дынастыя Рагвалодавічаў- Ізяславічаў параднілася з візантыйскім імператарскім домам.

**Важным фактарам умацавання міжнародных пазіцый княстваў старажытнай Беларусі стала распаўсюджванне на іх землях хрысціянства.**

У XIII ст. знешнепалітычныя ўмовы развіцця шматлікіх усходнеславянскіх дзяржаў ускладніліся. На іх долю выпалі сур'ёзныя выпрабаванні, якія пагражалі стратай незалежнасці. Беларускія землі апынуліся пад пагрозай зняволення з Паўднёвага Усходу, з боку мангола- татар. Не меншая небяспека - нашэсце крыжакоў - пагражала ім з Поўначы і з Захаду.

Калі заваяванне манголамі Усходняй Еўропы праводзілася "паварварску", з прымяненнем сілы пры поўнай адсутнасці якіх бы там ні было палітычных сродкаў, то паўночная небяспека з боку нямецкіх крыжацкіх ордэнаў была хітра замаскіравана місіянерскай дзейнасцю. Першыя нямецкія місіянеры з'явіліся ва Усходняй Прыбалтыцы ў канцы XII ст. На пачатку XIII ст. многія еўрапейскія дзяржавы, каталіцкая царква арганізавалі сюды сапраўдны крыжовы паход.

Гістарычны лёс народаў Усходняй Прыбалтыкі і Беларусі быў цесна звязаны, паміж імі здаўна існавалі палітычныя, эканамічныя, культурныя і этнічныя сувязі. Лівы і латгалы былі падуладныя Полацкаму княству і плацілі яму даніну.

Латгалы (лецьголы) займалі правабярэжжа Заходняй Дзвіны і землі да Пскоўскага возера; на паўднёвы захад ад іх жылі земгалы (зяміголы), на ўзбярэжжы Балтыйскага мора - корсь (куршы). Вобласць сярэдняга і ніжняга цячэння ракі Віліі і Нёмана насялялі аўкштайты. Паміж Нёманам і Заходняй Дзвіной жыло племя жэмайтаў (жмудзь). Усе гэтыя плямёны адносіліся да групы балтыйскіх (лета-літоўскіх) плямёнаў.

Паўночную Прыбалтыку насялялі фіна-ўгорскія плямёны: чудзь (эсты) (на захад ад Чудскага возера да Фінскага і Рыжскага заліваў) і лівы - па ўзбярэжжы Рыжскага заліва на поўнач ад Заходняй Дзвіны, таксама па паўночным узбярэжжы Курземскага паўвострава.

Бяда пастукалася тады ў дзверы Полацкага княства - сюзерэна гэтых зямель. Князі Полацка былі фактычнымі ўладарамі ліваў і іх зямлі Лівоніі на ўзбярэжжы Рыжскага заліва, а таксама паўднёвай Латгаліі (на ўсходзе сучаснай Латышскай Рэспублікі). Ім належала ніжняе цячэнне і вусце Заходняй Дзвіны. Паўночная Латгалія была падуладная Ноўгараду і Пскову. Ніжнедзвінскія язычніцкія плямёны знаходзіліся ў палітычнай залежнасці ад Полацкага княства, плацілі яму даніну, папаўнялі яго вайсковыя сілы. Не ўся гэта параўнаўча вялікая тэрыторыя ў аднолькавай ступені была асвоена Полацкам. Даследчыкі схільны разглядаць як непасрэднае ўладанне князя полацкага і ўдзельных князёў Герцыке і Кукенойса толькі бліжэйшыя да палітычнага цэнтра княства мясцовасці, лічачы больш аддаленыя толькі "сферай уплыву" адпаведнага князя, дзе "падданства" абмяжоўвалася не заўсёды рэгулярнай данінай і, часам, ваеннай павіннасцю.

У ніжнім Падзвінні, на тэрыторыі латгалаў, знаходзіліся два невялікія падначаленыя Полацку княствы, якія выконвалі ролю славянскіх фарпостаў на рэчышчы Дзвіны. Археалагічныя даследаванні засведчылі тут наяўнасць славянскага насельніцтва побач з балцкім. Цэнтрамі гэтых княстваў былі гарады Кукейнос (Кукенойс, Какнэсе) і Герцыке.

Заснаваны ў X ст. горад Герцыке ўпершыню ўпамінаецца пад 1203 г. як багатая княжацкая рэзідэнцыя з некалькімі праваслаўнымі цэрквамі і як цэнтр удзела на чале з князем Усеваладам, падпарадкаванага Полацку, ад якога знаходзіўся на адлегласці 180 км.

Кукейнос знаходзіўся далей ад Герцыке на захад, за 246 км ад Полацка. Ён узнік у XI ст. Упершыню разам са сваім князем Вячкам (Вячаславам) Кукенойс упомнены ў "Хроніцы Лівоніі" пад 1205 г. і 1206 г. як рускі горад.

Мясцовыя князі паходзілі з роду Ізяславічаў, знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад Полацка, але карысталіся вялікай доляй свабоды як ва ўнутраных, так і ў знешнепалітычных справах. З гэтых двух цэнтраў полацкія князі кіравалі зямлёй ліваў і паўднёвых латгалаў, сюды сцякалася даніна з падуладных плямён.

Спробы ніжнедзвінскіх зямель выйсці з падпарадкавання падаўляліся зброяй. У той жа час улада Полацка ў Прыбалтыцы не

суправаджалася ні ваеннай акупацыяй, ні масавай яе каланізацыяй перасяленцамі, ні прымусовай хрысціянізацыяй. Цесныя сувязі з Полацкам садзейнічалі распаўсюджванню ў гэтых землях больш высокай культуры і паскаралі фарміраванне новых сацыяльна-эканамічных адносін.

У **1186- 1216 гг.** на чале Полацкага княства стаяў у многім загадкавы для гісторыкаў "кароль Вальдэмар", як называе яго "Хроніка Лівоніі" - адзіная на сённяшні дзень крыніца, што пралівае святло на зацемненыя старонкі гісторыі Полаччыны канца XII - пачатку XIII ст., на яе барацьбу супраць крыжакоў. "Хроніка" была напісана ўдзельнікам пакарэння Прыбалтыкі Генрыхам Латвійскім у 1224—1227 гг. на лацінскай мове. Прынята, што Вальдэмар - гэта нямецкая форма імя Уладзімір. М. Ермаловіч лічыць, што для палачан была б больш характэрнай форма Валадар або Валодша. " Хроніка Лівоніі" - адна з ранніх крыніц (як заходнееўрапейскіх, так і славянскіх), у якой Полацкая зямля названа Руссю, а яе жыхары - "русінамі". Ва ўсходнеславянскіх раннесярэднявечных крыніцах пераважана форма "палачане".

Вялікая небяспека насоўвалася на Полацк з захаду. У 1186 г. *"дзеля справы Хрыстовай і толькі для пропаведзГ у* вусці Заходняй Дзвіны з нямецкага гандлёвага судна высадзіўся на бераг Лівоніі першы місіянер - каталіцкі святар ордэна Аўгусціна Мейнард. Ён узяў на сябе няўдзячную працу хрышчэння язычніцкіх абарыгенаў. Спачатку манах спытаў дазволу ў *"полацкага караля Вальдэмара " -* валадара Лівоніі - прапаведаваць хрысціянства сярод падуладных яму ліваў. Атрымаўшы такі дазвол, ён рупліва прыняўся за справу, якая за дзесяцігоддзе так і не ўвянчалася поспехам. Мясцовыя "паганцы" не надта імкнуліся мяняць свае традыцыі.

Ці полацкі князь, ні князь Кукенойса Вячка, ні Усевалад Герцыкскі - ніхто з іх не прадчуваў, якая бяда разам з ветлівай усмешкай каталіцкага місіянера і яго словамі пра хрысціянскую добразычлівасць пастукала ў дзверы іхняга дома. Як жа не спрыяць было святой справе - слова боскае распаўсюдзіць сярод пазбаўленых выратавальнай веры паганцаў. Князь полацкі не адразу разглядзеў, што за місіянерскім крыжам прыхаваны заваёўніцкі меч. Ён не толькі дазволіў хрысціць ліваў, але і паслаў яшчэ Мейнарду дары.

Такая наіўнасць у адносінах да крыжакоў была дапушчана і ў іншых землях Усходняй Еўропы. Толькі пазней, калі тыя паказалі сваё заваёўніцкае аблічча і калі Полацку першаму прыйшлося прыняць на сябе іх удар, Уладзімір зразумеў сваю трагічную памылку.

Міналі гады. Памёршага ў 1196 г. Мейнарда замяняе біскуп Бертольд. Працягваючы "місію хрысціцеля Лівоніі", ён разам з крыжам узяў у рукі і зброю. Рымскі Папа не мог не ўхваліць дзейнасць Бертольда і спрыяў яму. Ён прыраўняў паход у зямлю ліваў да крыжовага паходу ў Палесціну. І заспяшаліся сюды беззямельныя нямецкія рыцары ў надзеі атрымаць зямельныя лены, святошы — пілігрымы, грэшнікі - адкупляць крывёю язычнікаў свае грахі (год службы ў біскупскім войску даваў дараванне за любыя грахі), шукальнікі прыгод, подзвігаў, авантурысты. Ахвотнікаў было нямала. Гэта ж не далёкая і небяспечная Палесціна з яе спёкай і пустынямі і не войны з ваяўнічымі сарацынамі. Лівонія - рукой падаць, а лівы, хоць і храбрыя воі, але амаль бяззбройныя - куды ім было ваяваць супраць рыцараў.

*"/ залілі крывёю паганцаў усе дарогі і месцы". "І захапілі яны многіх, і перабілі ўсіх мужчын, і звялі ў палон жанчын і дзяцей".* Як ні апяваў подзвігі нямецкіх рыцараў Генрых Латвійскі, але ўсё ж не ўтойваў праўды аб хрышчэнні ліваў.

Бертольда забілі мясцовыя жыхары ў 1198 г. Дарэчы, гэта быў амаль звычайны лёс для большасці хрысціянскіх прапаведнікаў.

Але папская імперыя была зацікаўлена не толькі і не столькі выратаваннем "заблукаўшых" душ, колькі далучэннем да сваёй улады новых зямель і атрыманнем з іх новых прыбыткаў.

Наступнікам Бертольда стаў біскуп Альберт, які надоўга ўмацаваўся ва Усходняй Прыбалтыцы. З яго імем звязана планамерная заваёва зямель ліваў, латгалаў і іншых балцкіх і фіна-угорскіх плямёнаў. Толькі з пачаткам дзейнасці Альберта асабліва яўна выявілася нямецкая пагроза для Полацка. У **1201 г.** паўстала ў вусці Заходняй Дзвіны крэпасць Рыга - апорны пункт немцаў у ніжнім Падзвінні. Яна перакрыла галоўную гандлёвую артэрыю Полацкага княства, загарадзіла яму выхад у Балтыйскае мора. З ёй апрануўся ў каменныя ўборы замак Гольм, на подступах да Рыгі вырасла крэпасць Ікескола (Ікскуль). Каб мець у Прыбалтыцы пастаянную

сілу, Альберт заснаваў у 1202 г. вайскова-манаскі ордэн Братоў Хрыстовага воінства. Па чырвонай выяве мяча на белых плашчах ён больш вядомы як Ордэн мечаносцаў. 3 1237 г. пачынае называцца Лівонскім. Ён заняўся заваёвай і хрысціянізацыяй ніжнядзвінскіх зямель. Гэта быў першы, пакуль яшчэ не ваенны, удар по Полацку. За крок ад яго спрадвечных зямель ужо стаялі крыжакі. Больш як на два стагоддзі Ордэн мечаносцаў стаў самым небяспечным ворагам для Полацкай зямлі.

І працягвалася хрышчэнне Лівоніі. *"Спустошылі і аддалі агню ўсе весі, а мужчын, якіх маглі захапіць, усіх спалілі жывымі... "*, - піша Генрых Латвійскі. Лівы на каленях прасілі полацкага князя заступіцца за іх. Толькі цяпер у Полацку забілі трывогу. Гаспадаранне немцаў у падуладных яму землях, блакіраванне Рыгай важнай гандлёвай артэрыі, стварэнне Ордэна мечаносцаў прымусіла палачан, якія павінны былі стаць чарговай ахвярай агрэсіі, да неадкладных адказных дзеянняў.

Першая адкрытая сутычка Полацка з крыжакамі адбылася ў 1203 г, калі Уладзімір узяў у аблогу замак Ікскуль непадалёку ад Рыгі, а потым крэпасць Гольм. Месца паходу было выбрана не выпадкова, бо менавіта замак Ікскуль разам з першай лацінскай царквою быў закладзены з дазволу Уладзіміра тым самым Мейнардам. У гэтым жа годзе дружына князя Герцыкі Усевалада разам з атрадамі літвы напала на Рыгу. Крыжацкія замкі захапіць не ўдалося. Беззваротна мінуў той час, калі перавага ў вайсковых сілах была на баку палачан. Усевалад з літвой выпаліў рыжскія прыгарады, але самім горадам не авалодаў. Першая баявая сустрэча Уладзіміра з крыжакамі закончылася паражэннем для палачан, якія недаацанілі крыжацкай сілы і іх навейшай еўрапейскай зброі. Ікескола грашыма адкупілася ад палачан, Гольм абараняўся зброяй. Балісты - прыстасаванні, што кідалі з замкавых сцен вялізныя камяні, паранілі шмат полацкіх вояў. Уладзімір не рашыўся пад іхнім абстрэлам пераправўляцца цераз Дзвіну штурмаваць замак. Першы паход палачан на крыжакоў няўдала закончыўся.

**Падзеі 1203 г. азначалі пачатак адкрытай вайны паміж Полацкам і Рыгай. Полацкая зямля першай з усіх усходнеславянскіх земель уступіла ў. барацьбу з крыжацкай агрэсіяй, якая**

**найперш пагражала яе інтарэсам.** Полацкія князі не адолелі ворага, загінулі ў няроўнай барацьбе, але зачын на будучую слаўную перамогу яны зрабілі. Грунвальд пачынаўся ў 1203 г. пад Рыгай, дзе дружыны беларускіх і балцкіх князёў упершыню ўступілі ў сечу з крыжакамі.

Абараняючы свае інтарэсы ў Прыбалтыцы, Полацк бараніў і інтарэсы балцкіх і фіна-угорскіх плямёнаў, якія супраціўляліся заваёўнікам і бачылі ў Полацку сваю надзейную апору.

1205 год унёс новыя ўскладненні ў жыццё полацкіх князёў - Альберт прывёз з Заходняй Еўропы ў Рыгу новае папаўненне місіянераў. Прасоўваючыся ўверх па Заходняй Дзвіне, немцы разбуралі і палілі ліўскія паселішчы.У Полацк прыбылі паслы адліваў. Яны схілялі Уладзіміра да выгнання мечаносцаў. Адгукнуўшыся на іх просьбу аб дапамозе, ён, як сведчыць "Хроніка Лівоніі", "сабраў войска з усяго свайго каралеўства", а таксама ад суседніх каралёў, сваіх сяброў, і ў 1206 г. паўтарыў паход на Рыгу. З вялікай храбрасцю спусціўся ён на караблях уніз па Дзвіне. Гэты запіс "Хронікі" сведчыць аб адзінстве полацкіх князёў і рашуча адкідвае сцвярджэнне старой і новай гістарыяграфіі аб тым, што Полацкая зямля нібы пагразла ў міжусобіцах і канчаткова аслабела. Крыжацкая пагроза садзейнічала далейшаму працэсу яднання беларускіх земель, якія бачылі агульную для іх ўсіх небяспеку.

Нямецкія балісты спынілі полацкую дружыну пры высадцы з караблёў ля Ікесколы. Уладзімір не стаў штурмаваць замак, а нечакана падышоў да Гольма, які з'яўляўся ключом да Рыгі, і акружыў яго з усіх бакоў. Аблога працягвалася 11 дзён. Крыжакі адбіваліся з дапамогай балістаў. Вопытныя ў стральбе з лука палачане паранілі і забілі нямала абаронцаў Гольма. Яны таксама прыладзілі невялікую кідальную машыну, на ўзор крыжацкай, але, не валодаючы майстэрствам кідаць каменне, ранілі многіх у сябе, трапляючы ў тыл. *"Калі б працягнуліся дні вайны, дык наўрад ці рыжане і жыхары Гольма пры сваёй малой колькасці змаглі абараніцца",* - прызнаецца Генрых Латвійскі. Выратавала крыжакоў падмога, што прыбыла з Германіі, і кароль Даніі Вальдэмар, які прывёў сюды вялікае войска. Палачане знялі асаду. Пасля іх адыходу лівы вымушаны былі прасіць міру ў крыжакоў і згадзіцца на хрышчэнне.

Выяўляючы адзінства і рашучасць у барацьбе з нямецкімі рыцарамі, Полацк адначасова паказаў і свой слабы бок, што і дало сумныя вынікі ў змаганні з агрэсіяй. Праявілася яўная адсталасць баявой тэхнікі палачан у параўнанні з крыжакамі, у распараджэнні якіх было найноўшае для таго часу еўрапейскае ўзбраенне. Давала сябе знаць міжплемянная варожасць, якую выкарыстоўвалі ў сваіх інтарэсах і нават штучна распальвалі крыжакі.

Далейшы ход падзей у Прыбалтыцы, дзе крыжакі назапашвалі свае сілы, становіцца ўсё больш неспрыяльным для Полацка. Да 1207 г. *"уся Лівонія была ахрышчана",* што азначала і яе палітычнае падначаленне Ордэну. На чарзе былі Кукенойс, Герцыке, Полацк.

Яшчэ ў 1205 г. атрад лацінскіх пілігрымаў пасяліўся ўсяго ў трох мілях ад Кукенойса. На адкрытую канфрантацыю з Рыгаю кукенойскі князь Вячка адважыўся не адразу, бо вайсковыя сілы былі яўна няроўнымі. У 1205 і 1207 г. Вячка заключае з ордэнскім біскупам мірныя пагадненні, нетрываласць і часовасць якіх была зразумела абодвум. Згодна з гэтымі пагадненнямі, ён губляў частку падначаленай яму тэрыторыі і ўласную незалежнасць. Аднак мірыцца са станам біскупскага васала Вячка не жадаў. Адно яго імя наводзіла на рыцараў жах. Яго лічылі *"галавой і мозгам"* барацьбітоў з крыжакамі, *"коранем усялякага зла ў ЛівоніГ.*

Знешне мірныя адносіны паміж Ордэнам і Кукенойсам працягваліся зусім нядоўга. Адбываліся пастаянныя збройныя сутычкі паміж асобнымі атрадамі. Яны прывялі да таго, што ў Кукенойсе пасяліліся нямецкія рыцары. Сам Вячка аднойчы трапіў да іх у палон, але быў адпушчаны па загаду біскупа. Вячка з'яўляўся нібы гаспадаром у сваім горадзе, а разам з тым і быццам ганаровым вязнем. Кожны яго крок быў пад увагай крыжакоў. У 1208 г., калі Альберт збіраўся адплыць з Рыгі разам з пілігрымамі, якія адслужылі свой гадавы тэрмін у Прыбалтыцы і намерваліся вярнуцца дамоў, кукенойская дружына расправілася з варожым гарнізонам у замку. Вячка паслаў полацкаму князю Уладзіміру свае лепшыя трафеі і папрасіў яго дапамогі, раючы скарыстацца ад'ездам Альберта для паходу на немцаў. Але крыжацкія дзеянні апярэдзілі гэтую дапамогу.

Даведаўшыся, што ў Кукенойсе перабіты яго людзі, біскуп вяртае пілігрымаў у Рыгу, збірае рассеяных па ўсёй Лівоніі крыжакоў, ліўскіх старэйшын, каб адпомсціць непакорнаму васалу. Не атрымаўшы своечасовай дапамогі ад полацкага князя і не маючы магчымарці далей адзін на адзін весці барацьбу з крыжакамі, Вячка адважыўся на рашучы крок - спаліў замак і з дружынай у 200 чалавек пайшоў ва ўсходнеславянскія землі непрымірымым ворагам "хрыстовых" рыцараў. Спачатку ён апыніўся ў Наўгародскай зямлі, а потым - у Юр'еве (сучасны Тарту), дзе ў 1224 г. загінуў у час аблогі горада тэўтонамі.

Так, у 1208 г. трагічна закончылася гісторыя Кукенойса як самай заходняй падзвінскай крэпасці Полацка. Гэта была выключна цяжкая страта для яго. На месцы спаленага горада - апоры Полацка ў барацьбе з Ордэнам - у 1209 г. па загаду Альберта быў пабудаваны моцны замак, які стаў плацдармам працягу крыжацкага *"Drang Osten".*

Авалодаўшы Кукенойсам, Ордэн накіраваў наступны ўдар на Герцыке. *"Герцыкскі кароль заўжды быў ворагам рыжан, змагаючыся з імі і не жадаючы заключаць мір",* - сведчыць Генрых Латвійскі.

Восенню **1209 г.** на чале магутнага войска Альберт нападае на Герцыке, які быў разрабаваны і спалены. Нямецкі храніст паведаміў пра гэта: "*У той дзень усё войска заставалася ў горадзе, збірала па ўсіх яго кутках вялікую здабычу, захапіла адзенне, срэбра і пурпур, шмат саціны, а з цэркваў - званы, абразы, іншае ўбранне, грошы і шмат дабра. ...У наступны дзень, расцягнуўшы ўсё, падрыхтаваліся да вяртання, а горад падпалілі.* Паспешліва пакідалі ахоплены пажарам горад крыжакі, *"благаслаўляючы бога за тое, што так нечакана даў ім перамогу".* Яны вялі з сабой закутых у кайданы нявольнікаў, гналі жывёлу, везлі на вазах багатую здабычу. Сярод палонных ішла ў няволю і герцыкская княгіня. А сам валадар Герцыке - Усевалад - ледзь выратаваўся ад палону. Яму было прапанавана прыйсці ў Рыгу, калі ён жадае заключыць мір і вярнуць палонных.

Усевалад быў вымушаны пайсці на паклон да Альберта. Непрыемнай была для яго сустрэча з біскупам. Прыйшлося прыніжацца

перад святаром, казаць, што крыжакі *"агнём імячом... вельмі жорстка пакаралі яго",* і прасіць *"забыць мінулае зло".* Князь прыняў усе ўмовы, прадыктаваныя яму біскупам: абяцаў пазбягаць зносін з язычнікамі, адкрываць біскупу ўсе злыя задумы русаў і літвы і стаць саюзнікам рыжан, *"заусёды быць верным царкве св. Марыі".* Перадаўшы сваё княства гэтай царкве, ён атрымаў яго зноў з рук біскупа, але ўжо ў правах васала Ордэна. Гэта мірнае пагадненне фактычна цалкам падначальвала князя-палачаніна і яго невялікае княства крыжакам.

Тым не менш Усевалад не збіраўся служыць Ордэну, хоць знешне і пакарыўся. Ужо праз год літва нападае на Рыгу. У 1211 г. яна двойчы ваюе ордэнскія землі. Натхняў гэтыя паходы Усевалад, які помсціў за разрабаванне Герцыке. Не прымірыўся ён і са стратай Кукенойса і таму імкнуўся выгнаць адтуль крыжакоў з дапамогай літвы. Усё гэта сведчыць аб разуменні Усеваладам агульных полацкіх інтарэсаў і здольнасці змагацца за іх.

Авалодаўшы Кукенойсам і Герцыке, крыжакі сталі пагражаць самому Полацку, які тым не менш у пачатку XIII ст. заставаўся галоўнай сілай у барацьбе з Ордэнам. Гэта ўсведамлялі ў роўнай меры і балцкія ды фіна-угорскія народы, і самі крыжакі. Добра разумеючы вырашальнае значэнне пазіцыі Полацка ў поспехах сваёй дзейнасці па хрысціянізацыі і каланізацыі Усходняй Прыбалтыкі, Ордэн у **1210 г.** прапаноўвае яму заключыць мірную згоду. Паводле "вечнага міру" паміж Полацкам і Рыгай, Уладзімір санкцыяніраваў зробленыя крыжакамі тэрытарыяльныя набыткі ў яго літоўска-латгальскіх валоданнях. Цэнтральным у справе заключэння міру было пытанне аб даніне з ліваў. Вядома, калі ўжо лівы фактычна былі пад ордэнскай уладай, Альберт мог наогул адмовіць Полацку ў даніне з іх. Але, улічваючы ўсеагульную нянавісць пакораных плямёнаў да каланізатараў , ён вымушаны быў пайсці на кампраміс і згадзіўся на штогадовую выплату даніны Полацку або непасрэдна самімі лівамі, або праз біскупа. Бясспрэчна, другое было больш выгадна для Ордэна, бо не дапускала непасрэднага кантакту Полацка з лівамі, давала магчымасць біскупу спаганяць з ліваў большую даніну, прысвойваючы частку сабе і нацкоўваць іх тым самым на Полацк. Часткова і часова гэтая ўмова задавальняла

полацкага князя - даніна з ліваў, відаць, была важнай крыніцай для папаўнення полацкай казны.

Вайсковая агрэсія Ордэна на Полацк суправаджалася гандлёва-эканамічнай экспансіяй. Альберт прапанаваў адчыніць рыжскім купцам доступ у полацкія ўладанні. Гандаль з Рыгай быў выгадным для Полацка. Гандлёвыя дамовы з Рыгай не раз пазней узнаўляліся і па ініцыятыве полацкіх купцоў. Дзвіна для Полацка была традыцыйным спрадвечным жыццёвым шляхам, адмова ад яго азначала бы эканамічную ізаляцыю. Полацкія купцы па дагавору мелі права гандлёвай дзейнасці ў Рызе, свабоднага праезду па Заходняй Дзвіне, вусце якой цяпер кантралявалі мечаносцы.

Дагавор 1210 г. быў узаемным кампрамісам. Полацку, які толькі знешне прымірыўся з Ордэнам, ён даў магчымасць больш умацавацца, каб пасля з новымі сіламі супрацьстаяць нямецкай агрэсіі. Часовы мір з Полацкам дазволіў Рызе перанесці агрэсію з Падзвіння ў зямлю эстаў, на якую і пачалося з гэтага часу ўзмоцненае крыжацкае наступленне.У сваёй палітыцы Ордэн шырока выкарыстоўваў раз'яднанасць князёў Усходняй Еўропы. Падпісваючы мір, полацкі князь не цікавіўся, якія вынікі ён можа мець для іншых зямель. А між тым крыжакам было важна атрымаць перадышку на Дзвіне з тым, каб умацаваць свае пазіцыі ў землях эстаў.

Умацаваўшы свае пазіцыі на тэрыторыі Латвіі і Эстоніі, Ордэн дамогся заключэння ў 1212 г. новага пагаднення з Полацкам. Занепакоены поспехамі крыжакоў, Уладзімір сам ініцыіраваў сустрэчу з Альбертам у Герцыке. На ёй востра стаялі пытанні аб лівах - былых падданых полацкага князя, аб бяспецы плавання купцоў па Дзвіне і аб узнаўленні міру.

У час перамоваў князь прапанаваў рыжскаму біскупу адмовіцца ад хрышчэння ліваў, пагражаючы *"спаліць усе замкі Лівоніі, а разам і саму Рыгу".* Аднак утрымацца тут ён не змог. Уладзімір вымушаны быў адмовіцца ад ніжняга Падзвіння і ад ліўскай даніны на карысць Ордэна. Адыграла сваю ролю хітрая палітыка Ордэна ў падбухторванні ліваў супраць Полацка. Паводле дагавора, полацкія купцы атрымалі магчымасць правозіць тавары па Дзвіне да мора. Змірыцца са стратай Лівоніі Уладзімір не збіраўся. Ён пачаў дзейнічаць супраць мечаносцаў праз Усевалада.

Першым з усходнеславянскіх князёў Усевалад Герцыкскі зразумеў, што змагацца з крыжакамі паасобку нельга: толькі сумеснымі сіламі ўсходніх славян і літвы можна разбіць Ордэн. Не без ведама Усевалада ў 1213 г. яго цесць Даўгерут - адзін з прадстаўнікоў літвы - з багатымі дарамі едзе ў Ноўгарад і заключае там саюз супраць Ордэна. На зваротным шляху Даўгерут быў схоцлены крыжакамі і пакончыў з сабой, працяўшы сябе мячом.

Ордэну становіцца вядома, што герцыкскі князь *"увесь час дапамагае літве і парадаю і справаю ".* У **1214 г**. крыжакі зноў напалі на Герцыке, захапілі замак і жорстка адпомсцілі Усеваладу за непакорнасць. Усевалад пасля гэтых падзей надоўга знікае са старонак "Хронікі". Паводле адных звестак, ён загінуў у тым баі. Другія лічаць, что Усевалад пайшоў на Русь. Пад 1225 г. Генрых Латвійскі называе яго сярод тых, хто прыехаў у Рыгу на сустрэчу з папскім легатам, хоць да гэтага амаль за 10 гадоў ён ні разу не нагадаў імя герцыкскага князя.

З 1214 г. Герцыке як фарпост Полацка ў ніжнім Падзвінні страчвае сваё значэнне. Гэта быў яшчэ адзін крок полацкага адступлення з Прыбалтыкі.

І усё ж, нягледзячы на гэта, Полацк па-ранейшаму заставаўся ў вачах балцкіх і фіна-угорскіх плямёнаў Прыбалтыкі іх надзейным абаронцам. У 1216 г. эсты, якія вялі ў гэты час упартую барацьбу з крыжакамі, звярнуліся да Уладзіміра з прапановай сабраць вялікае войска і аб'яднанымі сіламі выступіць супраць лацінян. Нетрываласць міру з крыжакамі абумовіла яго згоду. Заключаецца саюз з эстамі, літвой і лівамі, рыхтуецца сумесны паход на Рыгу. Уладзімір разаслаў ганцоў у "Русію" і "Летонію" збіраць войска. Але ў той момант, калі ўсё было гатова да паходу, князь раптоўна памёр. У дзень выступлення ён збіраўся ўзысці на карабель, каб плыць разам з войскам, але раптам паваліўся беспрытомна і памёр адразу. Лічаць, што ён быў атручаны нямецкімі лазутчыкамі. Крыжакі добра бачылі, што полацкі князь займаў ключавое месца ў адпоры нямецкай агрэсіі, і таму пастаралісяад яго пазбавіцца. Паход, які меў рэальную магчымасць змяніць расстаноўку сіл на сумежных з Полацкім княствам землях, сарваўся.

Такім чынам, барацьба з крыжакамі, якая разгарнулася на пачат-

ку XIII ст., аказалася не на карысць Полацка. Сказалася недаацэнка Полацкам, як і іншымі суседнімі славянскімі князямі, выключнай небяспекі крыжацкай агрэсіі, што дало магчымасць апошнім з самага пачатку заняць моцныя плацдармы для далейшага прасоўвання на ўсход. Ордэн умела выкарыстоўваў міжплемянныя супярэчнасці і, распальваючы іх, яшчэ больш схіляў на свой бок частку мясцовых сіл. Усё гэта не дало магчымасці Полацку арганізаваць адзіны фронт барацьбы з крыжакамі і вымушала яго да адступлення. Да таго ж не было і саюза ў барацьбе з Ордэнам суседніх усходнеславянскіх зямель. Фактычна Полацк адзін доўгі час супрацьстаяў Ордэну. Толькі па меры прасоўвання крыжакоў у эсцкія землі ўцягваюцца ў барацьбу Пскоў і Ноўгарад, паколькі тут непасрэдна закраналіся іх інтарэсы. "Хроніка Лівоніі" адзначыла, што пасля смерці вялікага караля Вальдэмара Полацкага з'явіўся новы праціўнік лівонскай царквы - Вальдэмар Пскоўскі. Вядома ж, Полацк, гісторыя якога ўвесь час праходзіла ў барацьбе за права на існаванне, не ўпершыню меў выключна небяспечных праціўнікаў. Але крыжакі былі ворагамі з вытанчанай хітрасцю, гнуткай палітыкай, з метадычнай паслядоўнасцю ў яе правядзенні. Палітыка ж Полацка, хоць і была бескампраміснай, але выглядала не зусім прадуманай. Не надта зразумелая роля полацкага князя ў падзеях 1207-1214 гг, калі ён не падтрымаў кукенойскага і герцыкскага князёў, сваіх васалаў. І, нарэшце, полацкаму войску з яго састарэлай зброяй цяжка было супрацьстаяць рыцарам, якія мелі найноўшае еўрапейскае ўзбраенне.

У 20-ыя гады XIII ст. крыжацкая навала навісла непасрэдна над землямі эстаў, за якімі сталі на чарзе Пскоў і Ноўгарад. На наступны год пасля бітвы на Калцы, скарыстаўшы выгадную палітычную сітуацыю, біскуп Альберт нападае на горад Юр'еў. У Юр'еве тым часам правіў ужо знаёмы нам князь Вячка Кукенойскі. Ён атрымаў гэты горад ва ўладанне ад Ноўгарада. Пасля доўгай аблогі, з выкарыстаннем падкопаў, драўляных асадных вежаў і падпалаў, Юр'еў быў узяты. Вячка, які больш дваццаці гадоў самаахвярна змагаўся з ворагам, а разам з ім эсцкі князь Мяэлс загінулі пры абароне горада.У сучасным Тарту - былым Юр'еве - гэтым князям пастаўлены прыгожы сімвалічны помнік.

У 1223 г. Смаленск і Полацк, якія, будучы суседзямі, ўзгаднялі свае палітычныя справы, падпісалі мірны дагавор з Рыгай. А ў 1229 г. Смаленск, Полацк і Віцебск заключылі гандлёвы дагавор з Рыгай і Готландам. Тэкст дагавора 1229 г. "Смаленскай гандлёвай праўды" поўнасцю дайшоў да нас. Рускія вучоныя XIX ст. Пыпін і Сабалеўскі лічылі, што ў гэтым дакуменце ўжо выразна чуюцца гукавыя асаблівасці беларускай мовы. Гандлёвыя дагаворы Полацка з Рыгаю неаднаразова паўтараліся (пацвярджаліся) у XIII, XIV і пачатку XV ст.

Тым часам над заходнімі межамі Беларусі, дзе якраз быў закладзены падмурак новай дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага са сталіцай у беларускім горадзе Наваградку, навісла небяспека. Усё пачалося з празмерных амбіцый польскага князя Конрада Мазавецкага. У канцы 1220-ых гадоў па запрашэнню недальнабачнага князя на Хельмінскай зямлі атабарыўся незадоўга да таго выгнаны з Венгрыі "бяздомны" Тэўтонскі (Нямецкі) ордэн. У яго звычайна прымаліся толькі нямецкамоўныя рыцары.

Пры дапамозе чужынцаў Конрад спадзяваўся прыбраць да сваіх рук землі балцкіх плямёнаў прусаў, борцяў і яцвягаў, якія вельмі дасаджалі яму: вымушалі яго да ўплаты даніны, даймалі Мазовію сваімі набегамі, рабілі адчувальныя адказныя паходы на палякаў, а ўсе спробы іх уціхамірыць і ахрысціць былі безвынiковымі. І тады Конрад рашыўся на крайнюю меру - запрасіў на дапамогу тэўтонаў, а ў якасці базы выдзеліў ім на 20 гадоў Хельмінскую зямлю на поўначы свайго княства. З іх дапамогай ён разлічваў далучыць землі прусаў да сваіх уладанняў. Набраўшыся моцы, тэўтоны адваявалі ў мазавецкага князя Памор'е, а потым Хельмінскую зямлю, прычым у "вечнае валоданне".

У 1230-ыя гады тэўтоны пачалі захоп тэрыторыі прусаў. Куды лепш узброеныя і дазнаныя ў ваенных справах крыжакі перамаглі ваяўнічых прусаў, перабілі іх і пасяліліся на іхняй зямлі - Прусіі. Да 1274(1283) г. яе акупацыя была завершана, а рэшткі непадпарадкаваных прусаў паўцякалі ў Літву і былі паселены ў раёне Гародні і Слоніма. Племя прусаў было цалкам знішчана, па горкай іроніі лёсу пакінуўшы заваёўнікам сваё імя.

На захопленых землях была створана агрэсіўная ордэнская дзяр-

жава, частка якой пад назвай Усходняя Прусія са сталіцай Кенігсбергам праіснавала да 1945 г. (рашэннем Патсдамскай канферэнцыі была перададзена РСФСР, цяпер там знаходзіцца Калінінградская вобласць).

З 1277 г. рыцары павялі барацьбу з яцвягамі. Ужо праз паўтара дзесяцігоддзя іх землі былі захоплены, і ў 1283 г. апошні незалежны яцвяжскі князь Скурда пакінуў свой край і перайшоў за Нёман, на тэрыторыю ВКЛ. Ад яцвягаў жа не засталося нават імя.

Свой наступны ўдар тэўтоны, якія валодалі намнога мацнейшым ваенным патэнцыялам, чым мечаносцы, нацэлілі на ВКЛ. У першую чаргу іх цікавіла Жмудзь (этнічная Летува), якая аддзяляла іх ад роднаснага Лівонскага ордэна. З захопам Жмудзі ў руках крыжакоў апынулася б усё балтыйскае ўзбярэжжа.

У 1236 г. Ордэн меЧаносцаў арганізаваў свой першы крыжовы паход у Жамойць. Аднак на зямлі Сауле (верагодна, сучасны Шаўляй) ўшчэнт былі разгромлены жамойтамі. Тут знайшоў свой канец лівонскі магістр Волквін.

У 1235 г. горад Драгічын быў захоплены мазавецкім князем Конрадам. Праз год у ім з'явіліся тэўтонскія рыцары. Але нядоўга ім давялося быць у Драгічыне. Галіцка- валынскі князь Даніла Раманавіч заявіў: *"Не лепо ли есть держати нашее отчины крижевником"* і ў сакавіку 1237 г. разграміў рыцараў, захапіў у палон самога магістра тэўтонаў Бруна і забраў у крыжакоў Драгічын.

Дэмаралізаваны пасля паражэння пад Шаўляем Ордэн мечаносцаў у 1237 г. аб'яднаўся з больш моцным Тэўтонскім у канфедэрацыю і атрымаў назву Лівонскага. Рыцары стварылі вялікую, моцную, цалкам утвораную на захопленых землях дзяржаву ад Віслы на захадзе да Наўгародскай рэспублікі на паўночным усходзе. У яе склад уваходзілі гарады Хельмна, Эльбланг, Торунь, Кенігсберг, Коўна, Лібава, Віндава, Рыга, перайменаваны ў Дэрпт Юр'еў, Рэвель, Нарва і інш. Акрамя таго, Тэўтонскай дзяржаве ў часы яе росквіту належала Жмудзь. Пасля 1237 г. пагроза жамойцкім, літоўскім, рускім і польскім землям значна ўзрасла.

Менавіта ў гэты час Ноўгарад і Пскоў зразумелі ў поўнай ступені небяспеку, якая насоўвалася на іх з боку крыжакоў. Полацкая зямля была значна аслаблена і, нягледзячы на тое, што не пускала

крыжакоў далей на поўдзень усходнеславянскіх зямель, дзе з'явіліся мангола- татары, не магла больш у адзіноце супрацьстаяць захопнікам. У гэтыя гады наўгародскі князь Яраслаў робіць свае першыя паходы супраць крыжакоў. Але і ягоных сіл было недастаткова. Наспяваюць умовы для стварэння антыкрыжацкай кааліцыі, якая і была ў **1239 г.** фактычна афармлена шлюбам наўгародскага князя Аляксандра Яраславіча (будучага Неўскага) з полацкай князёўнай, дачкой князя Брачыслава. Гэты шлюб сведчыць аб палітычным збліжэнні Полацка і Ноўгарада, хутчэй за ўсё на аснове агульнай барацьбы з нямецкай і шведскай агрэсіяй.

Летам **1240 г.** шведскі ўрад накіраваў войскі для захопу Нявы. Дзе было шукаць князю падмогі ў час міжусобіц?

Ён паслаў у Полацкую зямлю свайго ганца - лоўчага Якава, які нядаўна трапіў у Ноўгарад разам з дваром маладой княжны. Аляксандр прасіў дапамогі ў князя Брачыслава, бо захоп шведамі выхаду да Балтыйскага мора балюча адбіўся бы на гандлёвых і эканамічных інтарэсах не толькі Ноўгарада, але і Полацка.

У бітве 15 ліпеня 1240 г. на Няве разам з наўгародцамі прымалі ўдзел і палачане. Лоўчы князя Аляксандра - Якаў Палачанін — праявіў асаблівую мужнасць: біўся з невялікім атрадам супраць цэлага палка шведаў. Ён, паводле *"Жыція Аляксандра Неўскага",* "наеха на полк с мечем і много мужества показа", за што заслужыў пахвалу ад наўгародскага князя. **5 красавіка 1242 года** зноў полацкая дружына дапамагае наўгародцам разбіць крыжакоў на Чудскім возеры. Перамогі на Няве і Чудскім возеры спынілі наступленне ворагаў з поўначы і з захаду.

Тым часам у вынпсу мангола-татарскіх паходаў 40—50-х гадоў практычна ўся Усходняя Еўропа была падначалена ім. Тумены хана Бурундая дайшлі да Віслы. Вольнымі засталіся толькі Полацкая зямля і Ноўгарад, да і то апошні, на чале з князем Аляксандрам, быў вымушаны плаціць ім даніну.

Важную ролю ў барацьбе супраць нямецкай агрэсіі адыгралі Літва і Жамойць. Працяглы час яны адбівалі ваенны і дыпламатычны націск крыжакоў. Хронікі і летапісы паведамляюць аб сакрушальных ударах жамойцкіх і літоўскіх дружын па крыжаках. 13 ліпеня **1260 г.** пры падтрымцы палачан яны нанеслі цяжкае пара-

жэнне каля возера Дурбе.У 1262 г. вялікі літоўскі князь Міндоўг заключыў дагавор з наўгародскім князем Аляксандрам Неўскім аб сумеснай барацьбе супраць Лівонскага ордэна.

Палітыку адпору крыжакам працягвалі князі, якія ў сярэдзіне XIII ст. ўсталяваліся ў Полацку. Яны таксама ішлі на пагадненне з Ноўгарадам супраць Лівонскага ордэна. У 1262 г. разам з Аляксандрам Неўскім, Яраславам Цвярскім хадзіў на Юр'еў, на крыжакоў полацкі князь Таўцівіл, пляменнік Міндоўга. У летапісе сказана, што разам з імі было *"полочан и литвы 500".* Гэта кааліцыя *"единым приступом 3 стены взяша, а Немцы избиша, а сами здоровы приидоша".*

У 1267—1272 гг. пскоўскі князь Даўмонт - ураджэнец Нальшчанскай зямлі (паўночны захад Беларусі, раён Крэва, Гальшан, Ашмян) і адзін з самых уплывовых людзей Літвы праславіў сваё імя перамогамі над крыжакамі. На многія гады адбіў ён у іх ахвоту хадзіць на Русь. Цэлае пакаленне пскавічоў вырасла, не чуючы звону мячоў (70—80-ыя гады XIII ст.).

У 1299 г. састарэлы князь зноў бярэ ў рукі пераможны меч і разбівае крыжакоў, якія з'явіліся пад Псковам. *"Бысть сеча зла яко николи яще* месяц мор, які моцна спустошыў Пскоў, забраў у магілу мужнага Даўмонта. *"Бысть же тогда жалость велика ў Псковскай зямли,* - канстатуе летапіс. Пазней ён быў кананізаваны рускай праваслаўнай царквой як святы Цімафей (такое імя было дадзена Даўмонту пасля хрышчэння ў Пскове).

## Барацьба насельніцтва Беларусі супраць мангола-татарскіх заваёўнікаў

Летам 1299 г. літоўска - пскоўскую мяжу перасёк атрад коннікаў. Воіны суправаджалі сына Даўмонта і княжны Марыі, унучкі Аляксандра Неўскага, князя Давыда (каля 1283-1326). Ён выканаў перадсмяротную волю бацькі — вярнуўся на зямлю продкаў. Давыд Даўмонтавіч паступіў на службу да князя Гедыміна ў якасці кашталяна, ажаніўся на яго дачцэ Біруце і атрымаў права карыстацца асобным удзелам. Выпадак выключны, калі нагадаць, што Гедымін праз шлюб сваіх дачок парадніўся з уладарамі Усходняй Еўропы: Маскоўскім,

Цвярскім, галіцка-валынскім, мазавецкімі князямі, а таксама з польскім каралём. Гэта сведчыць, наколькі высока цаніў вялікі князь Давыда. Ён даверыў яму абарону Гародні. На працягу больш чвэрці стагоддзя Давыд узначальваў барацьбу жыхароў Гарадзеншчыны супраць крыжакоў, праявіўшы сябе таленавітым палкаводцам.

На наступны год пасля пакарэння тэўтонамі зямлі прусаў і знішчэння самога племяні (1283г.) Тэўтонскі ордэн распачаў вайну з Вялікім княствам Літоўскім, або, як яно фігуравала ў нямецкіх крыніцах, - з Літвой (разумелася "дзяржава літоўскіх князёў, этнічная Літва фігуравала пад назвай "Жамойць"). Нягледзячы на тое, што агрэсія была скіравана, галоўным чынам, на Жамойць ды замкі сярэдняга Нёмана, тэўтоны не пакінулі ў спакоі і беларускае Панямонне. Але яны баяліся заходзіць далёка ў глыб гэтага краю, пакуль ім паграражаў удар з Гародні, названай крыжакамі Гартэнам. Гарадзенскі замак быў важным стратэгічным пунктам, і рыцары намагаліся любой цаной захапіць яго. Хадзіць на непрыступны Гартэн лічылася справай гонару сярод тэўтонаў. У **1284 г.** войскі крыжацкага магістра Конрада Цырнберга ўпершыню асадзілі Гародню. Яны ўварваліся ў замак, пабілі ўсіх або забралі ў палон, спалілі ўмацаванні, спустошылі ваколіцы і з вялікай здабычай вярнуліся ў ордэнскія ўладанні. Наступнае нашэсце ў беларускае Панямонне адбылося праз 10 гадоў (1295 г.). У 1296 г. двойчы хадзілі на Гарадзенскі замак тэўтоны на чале з Райбергам, які загінуў у час гэтага паходу, і Зуцвертам. Крыжацкія набегі на Гарадзенскую зямлю рабіліся ўсё больш частымі і спусташальнымі. Чарговы раз рыцары пустошылі гэты край у 1305, 1306 (двойчы), 1311 (двойчы), 1314, 1324, 1328 (двойчы)... 1402 гадах. Тэўтоны не раз спальвалі і разбуралі горад, а жыхароў знішчалі ці бралі ў палон. Гарадзенцы вялі мужную барацьбу з нямецкімі захопнікамі, адстойваючы кожны кавалак роднай зямлі. Ніводзін замак Беларусі не прыцягваў тады такой увагі крыжакоў, як гарадзенская фартэцыя, што выконвала функцыю асноўнай базы для ваенных рэйдаў ВКЛ на захад. На працягу ўсяго XIV ст. яна сама заставалася аб'ектам пастаянных ордэнскіх экспедыцый. Прычым у адрозненне ад класічных крыжовых паходаў у "Святую зямлю" выправы ў Прусію і потым на Літву ў XIV ст. ужо не мелі выразна рэлігійнага характару.

За перыяд з канца XIII ст. - па 1410 г. крыжакі больш за 140 разоў урываліся на тэрыторыю сучасных Беларусі і Летувы. У сваю чаргу літвінскія палкі за няпоўныя 100 гадоў ажыццявілі каля 60 паходаў у адказ на крыжацкія набегі.

Сярод барацьбітоў з крыжакамі на особым рахунку быў Давыд Гарадзенскі. Першы жорсткі бой Давыда з крыжакамі адбыўся ў 1305 г., калі яны аблажылі Гародню. Сумесна з Гедымінам ён разграміў пад сценамі горада войскі камендант Брандэнбурга камтура Конрада Ліхтэнхагена. У 1306 г. узначаліў паспяховую абарону Гарадзенскага замка, які асаджалі 6 тысяч лёгкіх коннікаў і сотня цяжкаўзброеных рыцараў камтура Кенігсберга Эберхарда фон Вірненбурга. У 1314 г. Давыд разбіў крыжакоў каля Наваградка, калі яны аблажылі і спрабавалі ўзяць замак. У выніку ўдалага манёўру ён прымусіў добра ўзброеных рыцараў спыніць штурм горада і зняць яго аблогу, захапіў ваенны лагер праціўніка, знішчыў увесь варожы абоз, захапіў 1500 баявых коней і вайсковую амуніцыю.

Некалькі разоў біў Давыд ордэнцаў у 1318—1319 гг. на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, у тым ліку ў Прусіі. Вясной 1319 г. ён узначаліў паход гарадзенцаў у Прусію і разграміў правінцыю Вогенштоф. У 1322 г. Давыд дапамог у барацьбе з Лівонскім ордэнам Пскову, гораду, дзе некалі княжыў яго бацька і дзе ён нарадзіўся. У 1323 г. разбіў пад пскоўскімі сценамі дацкіх рыцараў і дайшоў да Рэвеля. У тым жа годзе яшчэ раз адкінуў ад Пскова крыжакоў, якія 18 дзён асаджалі горад, а потым разбіў іх ў бітве.У 1324 г. Давыд правёў удалы паход войск Вялікага княства Літоўскага на Мазовію. А ў 1326 годзе на чале атрада з 1200 коннікаў, у ліку якіх былі і палякі, здзейсніў рэйд на Брандэнбург і Франкфурт-на-Одэры.

Напалоханыя Давыдавай смеласцю і яго шматлікімі перамогамі, рыцары шукалі магчымасць знішчыць праціўніка. Пры завяршэнні апошняга паходу яго знішчалі рукамі наёмніка. Забойцам быў мазавецкі шляхціч Анджэй Гост. Па паданню Давыд Гарадзенскі пахаваны каля Барысаглебскага манастыра ў Гародні. Смерць гэтага мужнага чалавека, вопытнага і таленавітага военачальніка была вялікай стратай для гарадзенцаў і ўсяго княства.

Хрысціянізацыя Літвы пасля Крэўскай уніі азначала, што знікла апошняя паганская краіна Усходняй Еўропы, якая магла пагражаць

хрысціянам і з якой Тэўтонскі ордэн законна змагаўся. Для рыцарскай дзяржавы ў гэтай сітуацыі мелася некалькі выхадаў: 1) лічыць сваю задачу выкананай і ліквідаваць Ордэн як дзяржаву; 2) змяніць задачы Ордэна адпаведна з новымі абставінамі; 3) не браць хрысціянізацыю Літвы пад увагу і гаварыць пра неабходнасць далейшай барацьбы з паганымі. Крыжакі абралі трэці шлях - пачалі аспрэчваць сапраўднасць хрышчэння Ягайлы і тым больш Літвы. Таму і ў канцы XIV ст. Нямецкі ордэн разглядаў шырокія абшары ад Жамойці да Гародні - Наваградка - Крэва - Ашмян у якасці зоны сваіх ваенных аперацый.

У летапісе гісторыі чалавецтва нямала змрочных старонак. Да іх адносіцца і мангола-татарскае нашэсце на краіны Азіі і Еўропы, калі ордамі Чынгісхана і яго наступнікаў цэлыя дзяржавы і народы, стаяўшыя на нязмерна больш высокай ступені развіцця, былі сцёрты з твару зямлі. Гэта адкінула назад цывілізацыю значнай часткі Азіі і Еўропы.

У пачатку XIII ст. з мангольскіх стэпаў хлынулі на ўсход і захад дзікія, але арганізаваныя орды заваёўнікаў. Першы свой удар Чынгісхан скіраваў на Азію. У кароткі тэрмін былі пастаўлены на калені народы Паўночнага Кітая, Цэнтральнай Азіі, Сібіры. У 1219 г. пад капытамі коней бязлітасных заваёўнікаў рассыпалася старажытная сярэднеазіяцкая дзяржава Харэзмшахаў. Сцёртыя з твару зямлі гарады Бухара, Самарканд, Ургенч, Мерв. У 1222—1223 гг. магутная армія прайшла праз Іран, Закаўказзе, трапіла ў Прычарнаморскія стэпы, разбіла плямёны полаўцаў і **31 мая 1223 г.** упершыню сустрэлася з рускімі дружынамі. Вядомая бітва на рацэ Калцэ распачала цэлую эпоху ў жыцці ўсходнеславянскіх зямель. Сярод князёў, загінуўшых у той трагічнай бітве, летапіс называе і нясвіжскага князя Юрыя. У 1237 г. тумены хана Батыя падышлі да Разанскага княства, каб пакласці пачатак сумна вядомаму мангола-татарскаму ярму.

**Беларусь засталася ў баку ад асноўнага напрамку руху мангола-татар. Але небяспека з іх боку працяглы час навісала над нашымі землямі.** Вясной 1238 г. захопнікі пагражалі з усходу. Але гераічная барацьба насельніцтва Смаленскага княства спыніла іх прасоўванне на захад. Беспаспяховай была спроба узяць Смаленск і ў 1242 г.

Адзінае з усходнеславянскіх княстваў, якое не падпала пад уладу мангольскіх ханаў у XIII ст., было Полацкае.

Існуе думка, што да 1246 г. пагроза з боку татараў як для Чорнай Русі (Гарадзеншчыны), так і для Полацкай Русі была ўжо не такая ўжо небяспечная: Уладзіміра-Суздальская, Кіеўская і Галіцка-Валынская землі, аказаўшы супраціўленне нашэсцю, зрабілі немагчымым масіраванае наступленне ханаў на нашы землі. Калі адбылося першае ўварванне татараў на тэрыторыю Беларусі, дакладна невядома.

І дагэтуль некаторыя гісторыкі спрачаюцца: былі ці не былі татары ў першай палове XIII ст. на Беларусі. Калі былі, то як далёка заходзілі? А калі не былі, то чаму? Апошнім часам усталявалася думка, што іх флангавыя атрады прайшлі толькі на крайнім поўдні Беларусі, па мяжы, якую ўтварыла рэчышча Прыпяці. Праўда, для нападу з поўдня ім перашкаджалі балоты Палесся. Усе ж з паўднёвага захаду ім удалося ўварвацца ў Беларусь і знішчыць шмат гарадоў, у тым ліку Бярэсце, Пінск, Слуцк, Мазыр.

У Іпац'еўскім летапісе ёсць ўскоснае сведчанне пра бітву з татарамі каля Брэста. Галіцкі князь Даніла ў 1240 г. не мог пад'ехаць да Брэста з-за *смуроду «мноства забітых, у полі ляжачых».* Падчас бітвы, верагодна, загінула многа мангола-татар, бо хрысціяне сваіх нябожчыкаў заўсёды хавалі.

Паводле летапісаў ВКЛ у 1249 г. адбылася бітва з татарамі, якіх узначальваў хан Койдан, пад вёскай Крутагор'е; ён загінуў тут, і таму пайшла назва населенага пункта "Койданава" (сучасны Дзяржынск). На думку С.Ф. Цярохіна, у выніку вынішчальнага разгрому арды хана Койдана Беларусь у адрозненне ад іншых усходнеславянскіх зямель, уключаных сілай татара-мангольскай зброі ў так званы Урускі ўлус Залатой Арды - магутнай феадальнай дзяржавы сцепнякоў, засталася вольнай. Ён сцвярджае, што менавіта пад Крутагор'ем захлынуўся далейшы рух татара-мангольскіх ордаў на захад, што выратавала шмат якія народы ад спусташальнай навалы. Аднак супярэчлівасць летапісных звестак даюць падставу шэрагу даследчыкаў лічыць гэту бітву малаверагоднай.

Першае дакументальна засведчанае ўтварэнне татараў у беларускае Панямонне адносіцца да 1258 г. Войска на чале з вопытным палкаводцам Бурундаем і пры падтрымцы галіцка-валынскага кня-

зя *"взяша...всю землю Литовскую и со многим полоном и богатством идоша восвояси".*

У легендарнай частцы "Хронікі літоўскай і жамойцкай" распавядаецца факт, у якім, пры яго мажлівай рэальнасці, зблытаны дзеючыя асобы. У 1284 г. рускія князі Святаслаў Кіеўскі, Леў Уладзімірскі і Дзмітрый Друцкі вырашылі выгнаць літоўскага князя Рынгальта, які правіў у Наваградку. Узяўшы сабе на дапамогу ад "заволжскага цара" некалькі тысяч татараў, яны рушылі ў Наваградскую зямлю, спусташаючы і спальваючы ўсё на сваім шляху. Рынгальт сустрэў іх на Нёмане каля Магільна (зараз пасёлак Нёман на тэрыторыі Уздзенскага раёна Мінскай вобласці) і ў лютым баі, які працягваўся цэлы дзень, разбіў сваіх праціўнікаў. З вялікім трыумфам і багатаю здабычай вярнуўся ён у Наваградак *"и был всем потом Ринголт страшен ",* - завяршаецца летапіснае апавяданне пра гэтыя падзеі.

Набегі татарскіх туменаў на беларускія землі былі эпізадычнымі. Яны паўтараліся ў 1259, 1275, 1287, 1315, 1325, 1338 гг. У 1274 і 1277 гг, адбыліся паходы аб'яднанага татарскага і паўднёварускага войска на Гарадзеншчыну. Але захапіць, накласці пастаянную даніну, устанавіць сваю ўладу і кіраванне праз выдачу мясцовым князям "ярлыкоў", як ім гэта ўдалося зрабіць у іншых рускіх землях, на Беларусі татары не змаглі.

Беларусь, за выключэннем яе крайніх паўднёвых раёнаў, не зведала мангола- татарскага пагрому і ярма. Гэта мела для яе важнае значэнне, пакуль яшчэ дастаткова не асэнсаванае навукай, і прадвызначала далейшы ход гістарычнага развіцця Беларусі. У той час, як Усходняя Русь на 240 гадоў трапіла пад мангола-татарскае панаванне, а Паўднёвая Русь - ператворана ў бязлюдны стэп, Беларусь не зведала такога разбурэння вытворчых сіл, не былі знішчаны яе культурныя цэнтры-гарады.Апошняе вызначыла дамінуючае становішча беларускай культуры і мовы ў ВКЛ.

З усіх прыбалтыйскіх зямель толькі Літва не была захоплена крыжакамі. З усходнеславянскіх зямель мангола-татарам не ўдалося падпарадкаваць сабе толькі землі Беларусі. Гэта можна растлумачыць тым, што Літва і Беларусь на працягу XIII—XIV стст. аб'ядналіся ў адной дзяржаве - Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім.

## РЭЛІГІЯ І КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У ІХ - ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ ХІІІ ст.

- *Увядзенне хрысціянства на Беларусі.*
- *Вусная народная творчасць. Літаратура.*
- *Асвета, мастацтва.*

### Увядзенне хрысціянства на Беларусі

**На працягу другой паловы І тысячагоддзя хрысціянства авалодала еўрапейскім светам.** Услед за Візантыяй і Рымам веру ў Хрыста прызналі франкі. У канцы Х ст. хрысціцца Кіеўшчына, Наўгародчына, Скандынавія. Ва ўсіх гэтых дзяржавах услед за палітычным самавызначэннем ідзе прыняцце хрысціянства.

Не былі выключэннем з правіла старажытныя беларускія землі. У Х—ХІ стст. тут пачало распаўсюджвацца хрысціянства ў яго ўсходнім адгалінаванні. Яно ішло ад спадкаёмцы высокай культуры антычнасці - Візантыі. З часам праваслаўе (так стала называцца ўсходняе хрысціянства пасля падзелу цэркваў у 1054 г.) становіцца пануючай рэлігіяй ва ўсходніх і цэнтральных рэгіёнах Беларусі.

К другой палове Х ст. феадальная фармацыя ва ўсходніх славян мела два важнейшыя фактары: феадальныя адносіны, якія сталі адыгрываць вядучую ролю ў эканоміцы, і дзяржаву, якая дамінавала ў сферы палітыкі. Але трэці істотны кампанент фармацыі - феадальная ідэалогія - адсутнічаў. Адпавядаючыя феадальным структурам погляды не былі афармлены ідэалагічна, не ўяўлялі сістэмы. Патрэба ў такой ідэалогіі была вялікая, што востра адчувалася ў вярхах грамадства. Спроба вялікага кіеўскага князя Уладзіміра рэфарміраваць язычніцтва і прыстасаваць яго да новых гістарычных ўмоў поспеху не мелі.

У эпоху станаўлення феадалізму язычніцкая рэлігія ператварылася ў фактар, які тармазіў развіццё грамадства. Яна не забяспечвала адносін панавання і падпарадкавання, прыводзіла да дарэмнага знішчэння матэрыяльных і людскіх рэсурсаў, адмоўна сказвалася на міжнародным гандлі, міжнародных палітычных сувязях з хрыс-

ціянскімі краінамі, ускладняла азнаямленне з дасягненнямі замежнай культуры.

Замена язычніцтва хрысціянскай верай была абумоўлена тым якасным скачком, які зрабіла ўсходняе славянства, пераходзячы ад ладу ваеннай дэмакратыі да феадалізму. Сацыяльныя, палітычныя, культурныя і іншыя змены канца I тысячагоддзя пацягнулі за сабой зрухі ў канфесійнай свядомасці, прывялі да яе перабудовы, адну форму рэлігіі замянілі другой, якая больш адпавядала новай гістарычнай абстаноўцы. Такой адэкватнай часу і новаму грамадству канфесіяй было хрысціянства. Патрэба ў адэкватнай рэлігійнай ідэалогіі была рэалізавана за кошт знешніх магчымасцей - пераняцця яе ў Візантыі, якой належала тады лідзіруючае становішча ў хрысціянскім свеце. Гэта не быў выпадковы выбар. Аказалі свой уплыў наладжаныя, традыцыйныя палітычныя, гандлёвыя, культурныя сувязі з Царградам, са славянамі ў Цэнтральнай Еўропе і на Балканскім паўвостраве. Яны вызначалі менавіта такі накірунак царкоўна-рэлігійнай арыентацыі ўсходнеславянскіх зямель. Пры зацікаўленасці абодвух хрысціянскіх цэнтраў, Рыма і Канстанцінопаля, у абарачэнні ў сваю веру народаў Еўропы ўсходнеславянскія князі маглі самі выбіраць тое адгалінаванне хрысціянства, якое найлепш павінна было адпавядаць палітычным і культурным патрэбам дзяржавы.

### Вусная народная творчасць. Літаратура

У канцы X ст. арыентацыя ўшчлвовых сацыяльных груп Полацкага княства на візантыйскае хрысціянства, якая ўжо даўно давала сябе знаць, узмацнілася тзавяршылася прыняццем гэтай рэлігіі ў якасці афіцыйнай, дзяржаўнай, хаця да яе панавання над розумамі ўсяго насельніцтва Беларусі было яшчэ вельмі далёка.

Свой афіцыйны адлік гісторыя хрысціянскай царквы на Беларусі пачынае з 992 г., калі яна яшчэ не зведала расколу 1054 г, з часу стварэння Полацкай епархіі. Сёння з адлегласці ў тысячу гадоў, пры фрагментарнасці і супярэчлівасці пісьмовых крыніц таго часу, немагчыма ў дэталях аднавіць падзеі, звязаныя з распаўсюджваннем новай веры на нашай зямлі.

Хрысціянства было вядома тут задоўга да 992 г. Па шляху "з варагаў у грэкі" замежныя гандляры як з Візантыі, так і з за-

ходніх дзяржаў везлі не толькі тавары, але і сваю веру, культуру, ідэалогію.

Тут скрыжоўваліся інтарэсы каталіцкага Рыма і праваслаўнага Канстанцінопаля. Беларусь з прычыны свайго геапалітычнага становішча апынулася на сумежжы двух светаў, дзвюх культур і ідэалогій, стала своеасаблівай зонай сустрэчы і сутыкнення цывілізацый: праваслаўна-візантыйскай і каталіцка-раманскай. Гэта на ўсе наступныя стагоддзі вызначыла шмат у чым унікальнае культурнае і гістарычнае становішча Беларусі ў Еўропе, абумовіла індывідуальнасць яе культуры, спецыфіку беларускага менталітэту.

Першымі хрысціянамі на Беларусі былі мясцовыя купцы. Прыняцце імі гэтай веры было абумоўлена зручнасцю вядзення гандлёвых спраў з хрысціянскімі краінамі. Кожнае перасоўванне нашых продкаў - вольнае ці нявольнае, у гандлёвых ці ваенных мэтах, з-за авантурыстычнай дапытлівасці ці ў якасці паланяніка і тавара - непазбежна цягнула імпарт ідэй. Выхадцы з Полацкай зямлі, што ўдзельнічалі ў паходах на Візантыю, маглі прыняць новую веру яшчэ да хрышчэння Русі. Яна пападала ў наш край і іншымі шляхамі: у ходзе дзелавых кантактаў, дынастычных шлюбаў, праз місіянераў. Яна пранікала на Беларусь не толькі з Кіева ці праз Кіеў, але і ў ходзе непасрэдных кантактаў Полацкага княства з Візантыяй. Працэс распаўсюджвання новага веравызнання на Полаччыне, на думку С.В. Тарасава, на пачатку ішоў незалежна ад хрысціянізацыі Кіева і Ноўгарада.

Хрысціянскія погляды прасочваліся ў жыццё нашых продкаў, як і культура, паступова, мірным шляхам. Праўда, пэўная барацьба паміж валхвамі і хрысціянскімі місіянерамі мела месца. Але язычніцтва не ставіла перашкод для Бога і святых новай веры, тым больш, што яны былі вельмі падобныя на старых багоў. Хрысціянства часам выцясняла язычніцкія погляды і звычаі, але часцей злівалася з імі. Святы Улас пераняў функцыі свайго язычніцкага папярэдніка - заступніка жывёлы Велеса. Прарок Ілля стаў падобны на бога грома, маланкі і нябеснай стыхіі Перуна. Месца Макашы, багіні ўрадлівасці, заступніцы льнаводства, прадзення і ткацтва паступова займала "ільняніца" Параскева-Пятніца.

Як сведчыць археалогія, у зямлю крывічоў хрысціянства пры-

ходзіць прыкладна з сярэдзшы X ст, сярод радзімічаў пачынае распаўсюджвацца ў апошняй трэці X ст. Менавіта ў гэты час у іх з'яўляецца характэрны для хрысціянства пахавальны абрад інгумацыі (трупапалажэння), што прыйшоў на змену язычніцкаму трупаспальванню. Пісьмовыя крыніцы паведамляюць пра заснаванне на Беларусі ў X ст. першых храмаў (у Віцебску, Полацку). І хоць археолагамі не выяўлена рэшткаў культавых пабудоў раней XI ст., вучоныя дапускаюць, што Полацкая Сафія - першы мураваны праваслаўны храм на Беларусі, узведзены ў сярэдзіне XI ст., - мела сваіх драўляных папярэднікаў.

Пачатак масавага распаўсюджвання хрысціянства на беларускіх землях цесна звязана з палітыкай кіеўскага князя Уладзіміра, які імкнуўся зрабіць яго дзяржаўнай і народнай рэлігіяй на Русі. Ахрысціўшы ў 988 г. кіеўлян, ён, па сведчанню крыніцы, *"крести же и всю землю Русскую от конца и до конца и идолы сокруши".* Часткай гэтай рускай зямлі была тады і Беларусь: у **980 (970) г.** Уладзімір захапіў Полацк, у **983 г.** "победи ятвяги и взя землю их", у **984 г.** падпарадкаваў сабе радзімічаў. *"И нача ставити по градам церкви и попы, и людие на крещение приводя по всем градом и селом ",* — канстатуе Іпац'еўскі летапіс пад 988 г. Ва ўсіх вядомых нам рэдакцыях і спісах *"Аповесці мінулых гадоў"* услед за летапіснай ацэнкай хрышчэння Русі: *"Володимер же просвещен сам, и сынове его, и земля его ",* - ідзе расказ аб раздачы вялікім князем сваім сынам важнейшых гарадоў Русі. Ізяслава, сына ад Рагнеды, ён зрабіў полацкім князем. Святаполка, прыёмнага сына, пасадзіў у Тураве. Не падлягае сумненню, што кіеўскі князь рабіў на іх стаўку ў правядзенні агульнадзяржаўнай палітыкі хрысціянізацыі ва ўдзелах.

Шэраг вучоных лічыць, што старажытнейшым хрысціянскім цэнтрам Беларусі з'яўляецца Ізяслаўль, які ў 80-ыя г. X ст. стаў княжацкай рэзідэнцыяй. Сын Рагнеды, першы князь адноўленай полацкай дынастыі Ізяслаў, услед за бацькам прыняў хрысціянства. Быў гэты чалавек, згодна з летапіснай характарыстыкай, "ціхі і лагодны", любіў і шанаваў царкву, чытаў Святое пісанне. Менавіта з яго дзейнасцю звязваецца пачатак хрысціянізацыі Полацкай зямлі. Раннімі асяродкамі хрысціянства ў Полацкай зямлі сталі заснава-

ныя Рагнедай - Анастасіяй у Ізяслаўлі манастыр і храм. У 90-ыя гады тут зараджаецца паслушніцкае жыццё. Сама Рагнеда - першая ўпамянутая летапісамі манашка ва ўсходнеславянскім свеце. Высланая ў Ізяслаўль пасля няўдалага замаху на Уладзіміра і адхіленая ім пасля яго шлюбу з Ганнай, сястрой візантыйскага імператара, Рагнеда прыняла манаства. Пасля выбару Уладзімірам новай жонкі яна нібыта звярнулася да яго: *"Прошу, уневести меня своему Христу и да приму святой, ангельский, иноческий образ".* Праўда, сярод гісторыкаў ёсць сумненні наконт добраахвотнага пастрыжэння Рагнеды -жанчыны з крутым норавам, незалежным і упартым характарам.

Паслаўшы сыноў ва удзелы з заданнем садзейнічаць пашырэнню хрысціянства, Уладзімір паклапаціўся аб належным царкоўным уладкаванні на тэрыторыі сваёй дзяржавы. *"Крестися Володимир и вся земля Руская; и поставиша в Киеве митрополита, а Новуграду архиепископа, а по иным градам епископы, и попы,* м *диаконы",* - распавядае Наўгародскі першы летапіс. У буйных гарадах і княствах пачалі стварацца епархіі - тэрытарыяльныя царкоўныя акругі, якімі кіравалі епіскапы. Епіскапская кафедра ў Полацку, як ужо адзначалася, была заснавана ў **992 г.** У **1005 г.** заснавана Тураўская епархія. Епіскапскія кафедры былі духоўнымі цэнтрамі, з якіх распаўсюджвалася і ўмацоўвалася праваслаўная вера і развівалася царкоўна-рэлігійнае жыццё, утвараліся хрысціянскія абшчыны, будаваліся храмы, адчыняліся манастыры і школы.

Хто стаў першым полацкім епіскапам, летапісы не паведамляюць. Першым, вядомым нам, быў кіева - пячорскі манах Міна, пасвечаны ў епіскапскі сан у 1105 г. Крыніцы змяшчаюць звесткі яшчэ аб сямі полацкіх епіскапах XII—XIII стст.: Ілля, Касьма (Грэк), пастаўлены ў 1143 г., Дыянісій памёр у 1183 г., яго наступнік Мікалай; Аляксей, упамянуты каля 1231 г., Сімяон (наўгародзец), упамянуты каля 1274 г., Іаакаў, вядомы па дакументу прыкладна 1300 года. Даследчыкі лічаць, што першымі хрысціянскімі святарамі, епіскапамі на Беларусі былі грэкі і балгары. У сваёй дзейнасці яны карысталіся славянскай мовай, набліжанай да старажытнарускай. Але не варта недаацэньваць і ролі хрысціянскага місіянерства з Захаду.

**Епіскапская кафедра была аткрыта ў Полацку.** Тут утварылася свая школа дойлідства (яе помнікі цалкам прадстаўлены культавымі збудаваннямі), развілася высокая кніжная культура, пачалася перапіска кніг, узнікла першая на Беларусі бібліятэка, вялося летапісанне. Ды і наогул ранняя беларуская пісьменнасць, асвета, літаратура, мастацтва цесна звязаыы з прыняццем хрысціянства.

У XII ст. у самім Полацку і яго ваколіцах узнікаюць манастыры. Вызначана, што ў гэтым стагоддзі ў стольным горадзе існавала не менш 10 культавых манументальных збудаванняў і трох манастыроў. У канцы XI - пачатку XII ст. будаўнічая арцель з Польшчы ўзводзіла храм у Менску (існуе меркаванне, што ён не быў завершаны), аблічча якога мела рысы раманскага стылю. Вялікія заслугі ў распаўсюджванні хрысціянства, пісьменнасці, культуры ў Полацкай зямлі належаць Ефрасінні Полацкай, якая пазней была прылічана да ліку святых.

Пытанне наконт таго, у якой меры, наколькі ў часы Уладзіміра было ахоплена хрышчэннем насельніцтва Беларусі, з'яўляецца дыскусійным. Мы павінны адрозніваць хрышчэнне ад хрысціянізацыі - доўгатэрміновага, складанага працэсу ўспрымання новай веры. **Акт 988 г. быў пачаткам хрысціянізацыі, на фактычнае здзяйсненне якой спатрэбіліся стагоддзі.** Яшчэ доўга палалі тут паганскія вогнішчы, а нашы продкі пакланяліся Перуну і спраўлялі буйныя паганскія святы. Новая вера на беларускай зямлі распаўсюджвалася па схеме: князь-дружына-горад-вёска Вёска доўга супраціўлялася хрысціянізацыі, лічыць даследчык старажытнай гісторыі Полаччыны Л.В. Аляксееў. Няма ніякіх падстаў, сцвярджае археолаг В.В. Сядоў, гаварыць пра суцэльную хрысціянізацыю Полацкай зямлі да канца XII і нават XIII ст., асабліва вёскі.

**Двухвер'е захоўвалася на беларускіх землях і ў наступныя стагоддзі.** Існуе думка аб фармальным прыняцці новай веры ў тыя часы, бо не ўсе рабілі гэта свядома і ахвотна. Апошняя, нягледзячы на поспехі хрысціянізацыі, распаўсюджвалася параўнальна марудна і вытрымлівала супраціўленне язычніцтва, якое мела тут глыбокія карані ў сувязі з суседствам Полацка з балцкімі плямёнамі. «Аповесць мінулых гадоў» прыпісвае Усяславу Полацкаму нараджэнне ад "вяшчунства". Сама Полацкая зямля ўяўлялася летапіс-

цам і аўтару "Слова аб палку Ігаравым" краінай чараўнікоў. Сведчанне барацьбы яе князёў з паганствам у XII ст. з'яўляюцца валунныя камяні-фетышы з высечанымі на іх крыжамі і набожнымі надпісамі. У Падзвінні вядома 9 такіх "Барысавых" і "Рагвалодавых" камянёў.

С.В. Тарасаў, М.І. Ермаловіч сцвярджаюць, што хрысціянства спрыяла станаўленню Полацкага княства ў якасці самастойнай і незалежнай дзяржавы. Думку, што новая вера ўмацоўвала ўладу Кіева ў Полацкай зямлі, яны лічаць неабгрунтаванай: адзінства веры не перашкаджала Полацку весці барацьбу з Кіевам за сваю самастойнасць. М. Ермаловіч дапускае, што разам з прыходам хрысціянства на Полацкае княства пашыралася і назва Русь. Пакольні новая вера ішла з Кіева, з Русі, то яна называлася рускай. Па меры пашырэння праваслаўнай, рускай веры за Полаччынай усё больш замацоўвалася і назва "Русь".

Хрысціянізацыя Тураўскай зямлі пачынаецца пры Святаполку (988—1015 — князь тураўскі, 1115—1019 — вялікі кіеўскі і тураўскі князь), больш вядомым як "Акаянны".У 1005 г. была ўтворана Тураўская епархія. Першым тураўскім епіскапам быў пастаўлены Фама. Яго ўлада распаўсюджвалася на вялікую тэрыторыю заходняй Беларусі з гарадамі Пінск, Наваградак, Гародня, Бярэсце, Ваўкавыск, Здзітаў, Случаск, Копысь, Гарадок і частку Валыні. Па паданню, сам князь Уладзімір Святаславіч заснаваў пад Пінскам Ляшчынскі манастыр.

Нязгодны з рэлігійнай палітыкай Уладзіміра, вымушаны лічыцца з настроямі сваёй дружыны і тураўскай знаці, якія насцярожана ўспрымалі любыя пачынанні Кіева, Святаполк стаў патураць заходняму хрысціянству. (Нагадаем, што размова ідзе пра часы, калі хрысціянства яшчэ фармальна заставалася адзіным). Ён ажаніўся на каталічцы, наблізіў да сябе калабжэгскага епіскапа Рэйнберна - вядомага барацьбіта з язычніцтвам на тэрыторыі Польшчы і аддаў перавагу каталіцтву, збіраючыся ўвесці менавіта гэту веру ў сваім княстве з дапамогай Рэйнберна. Існуе меркаванне, што Рэйнберн быў першым тураўскім епіскапам.

У нейкай ступені з-за веры паміж Святаполкам і яго бацькам Уладзімірам Хрысціцелем адбылася сварка, у выніку якой тураўскі

князь, яго жонка і Рэйнберн былі пасаджаны ў турму. Апошні там і памёр. Зразумела, што тагачасныя і пазнейшыя крыніцы, што выйшлі з-пад пяра праваслаўных аўтараў, прасякнуты нянавісцю да Святаполка, які патураў іншай ад праваслаўя веры.

Факты місіянерскай дзейнасці лацінскіх прапаведнікаў на Русі ў XI ст. не з'яўляюцца беспадстаўнымі. Заходняя царква таксама цікавілася пытаннямі хрысціянізацыі ўсходнеславянскіх зямель.

Найбольш доўгімі і складанымі аказаліся шляхі хрысціянства на тэрыторыю беларускага Панямоння, якое Т ў XI ст. заставалася апдбтам язычніцтва.

Археолагі прыйшлі да высновы, што да канца X - пачатку XI ст. тут панаваў звычай спальваць нябошчыкаў, характэрны для паганства. У XI—XIII стст. адбываецца паступовая змена абраду пахавання, крэмацыю змяняе інгумацыя. Гэты працэс не ўсюль працякаў адначасова: на ўсходзе і поўдні хутчэй. Даўжэй за ўсё язычніцтва ўтрымлівалася ў паўночна-заходняй частцы Панямоння. Там абрад трупаспальвання праіснаваў да пачатку XIII ст., а звычай насыпаць курганы над пахаванымі - да пачатку XIV ст. Хрысціянізацыя краю расцягнулася на некалькі стагоддзяў.

Першыя прадметы хрысціянскага культу - нацельныя крыжыкі (адлітыя з металу, каменныя, янтарныя, выразаныя з косці) - з'явіліся ў гарадах Панямоння ў другой палове XI ст. фактычна хрысціянізацыя адбываецца ў XII ст. Шырокае будаўніцтва праваслаўных храмаў у XII ст. у Гародні, Наваградку, Ваўкавыску з'яўляецца важным доказам перамогі тут новага веравучэння. Гэтыя храмы сталі важнымі асяродкамі духоўнага і культурнага жыцця краю. Каменным царквам, магчыма, папярэднічалі драўляныя культавыя пабудовы. У 1263 г. вялікім літоўскім князям Войшалкам заснаваны каля Наваградка Лаўрышаўскі манастыр. З гарадоў хрысціянізацыя ішла па вёсках. Пранікаючы ў гушчу народных мас, яна злівалася са старымі павер'ямі, абрадамі і маленнямі.

Да нас дайшлі звесткі сярэднявечных заходніх аўтараў, што ў 1009 г. каталіцкі епіскап Бруна (Брунон) ў суправаджэнні 18-ці місіянераў прапаведаваў хрысціянства сярод яцвягаў. Місіянеры імкнуліся стварыць у Судовіі (Яцвягіі) рымска-каталіцкі рэлігійна-культурны рэгіён, а таксама не даць магчымасці ўсходнеславянскім

князям і праваслаўнаму духавенству ўсталявацца на гэтай тэрыторыі. Аднак місія поспеху не мела. Пасля гібелі Брунона на мяжы Прусіі, Літвы і Русі (менавіта ў такім кантэксце ўпершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца назва "Літва") загінула і яго, здавалася бы, паспяхова распачая справа.

Некаторыя аўтары звязваюць паходжанне тэрміна "Чорная Русь" — назвы каланізаванай славянамі тэрыторыі Яцвягіі і Літвы — з асаблівасцямі рэлігійнага жыцця рэгіёна і канфесійнай прыналежнасці яго насельніцтва. Гэты тэрмін вядомы з 1351 г. Пад такой назвай тэрыторыя Панямоння пазначана на карце, складзенай у 1459 г. манахам Фра Маўро для партугальскага караля Альфонса V.

Прыняцце хрысціянства з'явілася адной з важнейшых падзей гісторыі Беларусі. На працягу стагоддзяў праваслаўная царква аказвала моцны ўплыў на ўсе бакі жыцця нашых продкаў, на іх культуру, мараль, быт. Хрысціянства прынесла на Беларусь зусім новы светапогляд. Яно ўмацоўвала манагамную сям'ю, што станоўча адбівалася на развіцці вытворчасці. Спынілася практыка забойства жонак, рабынь, слуг на пахаваннях мужоў і гаспод.

Далучэнне ўсходнеславянскіх плямёнаў да хрысціянства садзейнічала іх культурнаму, моўнаму, гаспадарчаму збліжэнню.

Хрысціянізацыя спрыяла развіццю феадальных адносін, узмацненню княжацкай улады, умацаванню дзяржаўнай самастойнасці Полацкай зямлі. У супрацьборстве розных укладаў царква прымала бок гістарычна найбольш перспектыўнага, дапамагала яму канчаткова аформіцца і ўмацавацца.

Прыняцце новай веры прывяло да ўстанаўлення больш цесных міжнародных сувязяў з хрысціянскімі дзяржавамі. Мясцовыя князі атрымалі магчымасць уступаць у дынастычныя шлюбы з прынцэсамі з імператарскіх, каралеўскіх, княжацкіх дамоў Еўропы. Прыняцце Беларуссю ўсходняга хрысціянства прадвызначыла культурнае збліжэнне яе з Візантыяй і краінамі гэтай жа рэлігійнай арыентацыі.

**Хрысціянства надало магутны імпульс культурнаму развіццю Беларусі.** Яно садзейнічала стварэнню многіх выдатных помнікаў архітэктуры і жывапісу, распаўсюджванню пісьменства, развіццю летапісання, бібліятэк, з'яўленню школ, пранікненню на

беларускія землі твораў замежных аўтараў, якія ўтрымлівалі ў сабе важныя звесткі па цэламу шэрагу галін культуры і мастацтва. Дабратворны ўплыў з боку візантыйскай і заходнееўрапейскай культуры зведаў на сабе цэлы шэраг рамёстваў.

Але замежная культура не ўспрымалася механічна, а, спалучаная з мясцовымі традыцыямі, творча перапрацоўвалася ў адпаведнасці са славянскім светаўспрыманнем, звычаямі, этыкай і побытам. Гэта і абумовіла перапляценне хрысціянскіх і язычніцкіх традыцый, прывяло да ўзнікнення арыгінальных твораў літаратуры, дойлідства і выяўленчага мастацтва..

## Асвета, мастацтва

Найбольш моцна язычніцкія традыцыі, асаблівасці побыту славянскіх і балцкіх народаў праявіліся ў вуснай народнай творчасці, якая з'яўлялася ў гэты час адной з самых развітых галін духоўнага жыцця. На беларускіх землях у IX—XIII стст. шырока бытавалі каляндарна-абрадавыя песенныя цыклы, прысвечаныя розным язычніцкім святам (Масленіцы, Дажынкам і інш.), сямейна-абрадавая паэзія, казкі, паданні, быліны, легенды, прыказкі, загадкі, песні, замовы. Яны адлюстроўвалі ўяўленні людзей аб прыродзе, жыцці, смерці і г. д. Асабліва глыбокімі і каларытнымі па зместу былі песенныя цыклы, якія выконваліся на вяселлях, хрысцінах, пахаваннях і каляндарных святах.

Пасля прыняцця хрысціянства беларускія землі былі зарыентаваны на засваенне візантыйска-праваслаўных духоўных каштоўнасцяў, якія сталі адной з крыніц развіцця нацыянальнай культуры. Трансплантаваная з Візантыі, адаптаваная да сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных умоў нашых зямель, разнавіднасць хрысціянства была асімілявана і перапрацавана на мясцовай глебе і з цягам часу набыла нацыянальнае адценне. **Утварыўся беларускі варыянт (рэдакцыя) грэка-візантыйскага праваслаўя,** які дапускаў рознатлумачэнні кананічных палажэнняў, увёў у сойм святых сваіх падзвіжнікаў (першымі беларускімі святымі сталі Е. Полацкая і К. Тураўскі), стварыў свае жыцці, службы святым і г.д.

Аднак дзяржаўныя мужы, культурныя дзеячы, што пайшлі ў свой час на збліжэнне з Візантыяй, не маглі прадбачыць аддаленых

вынікаў свайго такога кроку. Візантыя, якая ў X—XI стст. знаходзілася на ўздыме, у далейшым хіліцца да заняпаду. Заходняя Еўропа пачынае перасягаць яе як у эканамічных, так і ў культурных адносінах і дасягнутай перавагі ўжо не саступае. Між тым праваслаўе па-ранейшаму збліжае Беларусь з ішоўшай пад ухіл Візантыяй і аддаляе яе ад Заходняй Еўропы, ускладняе і загрымлівае азнаямленне з яе культурнымі дасягненнямі, што мела далёка ідучыя *наступствы.*

Больш таго, праваслаўная царква прыўнесла ў культурна-рэлігійнае жыццё ўсходнеславянскага свету палітыку ізаляцыянізму. Пабудаваны ёю ідэалагічны бар'ер на многія стагоддзі адгарадзіў яго ад Заходняй Еўропы і краін Усходу. Таму цесныя сувязі з візантыйскай культурай, якая ў далейшым знаходзілася ў стане застою і заняпаду, не заўсёды адыгрывалі спрыяльную ролю, адмоўна адбіліся на стане культуры ўсяго рэгіёну, зарыентаванага на візантыйскі варыянт хрысціянства. Культурнае "спазненне" беларускага грамадства як вынік гэтага ізаляцыянізму ў далейшым стымуляваў перадавых дзеячаў аддаць прыярытэт кантактам з цэнтральна-і заходнееўрапейскімі краінамі.

Культура старажытнай Беларусі вылучалася высокім узроўнем развіцця і складанай структурай. Яна арганічна спалучала ў сябе культурныя традыцыі ўсходнеславянскіх плямёнаў, элементы антычнай і хрысціянскай культур. Фарміраванне феадальных адносін абумовіла пачатак стратыфікацыі культуры па саслоўнаму прынцыпу: ўзнікае культура пануючай варствы (княжацкага двара) і традыцыйная культура, захавальнікамі і спажыўцамі якой былі сяляне і гараджане.

У савецкай гістарыяграфіі доўгі час трымалася канцэпцыя адзінай старажытнарускай культуры, заснаваная на меркаванні аб наяўнасці ў IX—XIII стст. старажытнарускай народнасці. Сённяшняя беларуская гістарычная навука не ўспрымае гэту канцэпцыю адназначна, спасылаючыся на альтэрнатыўныя ёй погляды. Згодна з імі агульнай для ўсходнеславянскіх плямёнаў была ў большасці культура княжацкага двара, якая грунтавалася на хрысціянстве, развівала спецыфічныя для гэтай варствы грамадства віды вуснай і песеннай творчасці. Што ж датычыцца традыцыйнай культуры - яна

моцна была прасякнута язычніцтвам і захоўвала спадчыну плямёнаў, склаўшых у будучым падставы беларускага этнасу.

Найбольш моцна язычніцкая традыцыя, асаблівасці побыту славянскіх і балцкіх народаў праявіліся ў вуснай народнай творчасці. На беларускіх землях ў IX—XIII стст. шырока бытавала каляндарна-абрадавая паэзія. У адпавёднасці з чаргаваннем пор года яна падзялялася на чатыры комплексы, якія ўключалі каляндарныя прыметы, прыказкі, песні, павер'і. Веснавы, летні, восеньскі і зімовы цыклы групаваліся вакол язычніцкіх святаў - Масленіцы, Русальнага тыдня, Купалля, Багача, Каляд і другіх, якія адпавядалі акрэсленаму этапу сельскагаспадарчых работ. Гэтая частка вуснай народнай творчасці арганічна ўвайшла ў спадчыну беларускай культуры і ў народных традьшыях жыве яшчэ і сёння. Багата прадстаўлена была сямейна-абрадавая паэзія." Казкі, паданні, легенды, прыказкі, загадкі, замовы, праклёны і іншыя жанры вуснай народнай творчасці адлюстроўвалі ўяўленні нашых продкаў аб навакольным сусвеце.

Паводле некаторых аўтараў у гэты час на беларускіх землях шырокае распаўсюджванне атрымалі быліны. Аднак гэтае меркаванне абвяргаецца поўнай адсутнасцю іх у народным рэпертуары. Быліны з'яўляліся часткай культуры княжацкага двара і не мелі шырокага распаўсюджвання ў народзе, трапіўшы ў народнае асяроддзе на рускай Поўначы не раней XIV ст.

IX—XIII стст. адметны пачаткам распаўсюджвання кірылічнай пісьменнасці. Паводле некаторых даследчыкаў (М. Шчакаціхін, I. Трусаў) у дахрысціянскую эпоху на беларускіх землях існавала свая сістэма пісьма, заснаваная на рунічных знаках. Асобныя з іх знойдзены на цэглах Каложскай царквы ў Гродне, царквы Спаса на Смядыні ў Смаленску, так званых "драгічынскіх клейнах", днішчах пахавальных гаршкоў. Кірылічнае пісьмо, трапіўшае на землі ўсходніх славян з Візантыі разам з хрысціянствам, было больш зручным для выкарыстання і знайшло распаўсюджванне не толькі сярод кніжнікаў, але і сярод простага люду. Пісанае слова павінна было абслугоўваць патрэбы палітычнага і гаспадарчага жыцця, замацоўваць для нашчадкаў вопыт папярэдніх пакаленняў. Менавіта гэтым тлумачыцца дастаткова шырокая сацыяльная сфера яго ўжы-

вання. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца шматлікія знаходкі надпісаў на прадметах, у тым ліку на шыферных прасніцах, кераміцы, вырабах з косьці. У якасці матэрыялу для пісьма нашыя продкі выкарыстоўвалі пергамін і бяросту. Дзве берасцяныя граматы знойдзены ў Віцебску і Мсціслаўлі. Разам з распаўсюджваннем пісьменнасці на беларускіх землях з'явілася летапісанне. Буйнейшым летапісным зводам усходніх славян з'яўляецца "Аповесць мінулых гадоў", створаная, як мяркуюць, у пачатку XII ст. у Кіеве на падставе больш ранніх пагадовых запісаў, дакументаў вялікакняжацкага архіва і іншых матэрыялаў. У "Аповесці мінулых гадоў" захавалася шмат звестак аб гісторыі старажытнабеларускіх зямель, асабліва Полацкага княства. Летапісец апавядае аб Рагвалодзе, Рагнедзе, Усяславе Брачыславічы, прыгадвае Полацк, Менск, Тураў, Бярэсце, Гарадзен і іншыя старажытныя беларускія гарады. Часткі гэтага летапісу трапілі ў пазнейшыя летапісныя зводы, у тым ліку Радзівілаўскі. "Аповесць мінулых гадоў" дайшла да нас у некалькіх спісах - Іпацьеўскім, Лаўрэнцьеўскім, якія адрозніваюцца паўнатой і варыянтамі некаторых сюжэтаў.

Вядома, што летапісанне вялося ў Полацку пры саборы Св. Сафіі, але сам полацкі летапіс не захаваўся, да нас дайшлі толькі яго часткі, уключаныя ў больш позні Кіеўскі летапіс. Некаторыя гісторыкі лічаць, што летапісанне вялося таксама ў Тураве і Навагародку.

Разам з хрысціянствам на беларускія землі прыйшла літаратура. Спачатку гэта была Біблія і творы літаратурна-багаслоўскага зместу. Побач з імі атрымалі распаўсюджванне прыродазнаўчая і гістарычная літаратура, творы антычных аўтараў, візантыйскіх літаратараў. Кніжнікі беларускіх зямель, як можна меркаваць па дайшоўшых да нас звестках, ведалі імёны і творы Гамера, Платона, Арыстоцеля.

Пад уплывам перакладной літаратуры (для перакладу ўжывалася мова кніжнасці - стараславянская) развівалася арыгінальная літаратура. Выдатным яе помнікам з'яўляецца "Слова аб паходзе Ігаравым", створанае, як мяркуюць даследчыкі, у 1185—1187 гг. Выказваецца думка (Я. Паўленка), што гэты выдатны помнік усходнеславянскай літаратуры мог быць створаны ці захоўваўся на Гарадзеншчы-

не. На карысць гэтай думкі гаюрыць той факт, што рукапіс "Слова аб паходзе Ігаравым" трапіў ў калекцыю графа Румянцава ў той час, калі яго давераныя асобы рабілі пошукі старажытнасцяў на новадалучаных да Расійскай імперыі заходнебеларускіх землях. Паводле іншай версіі "Слова..." было напісана ў Кіеве.

Апавяданне пра няўдалы паход ноўгарад-северскага князя Ігара Святаславіча, якое паслужыла сюжэтнай канвой твора, падаецца на фоне шырокай карціны жыцця Старажытнай Русі. Невядомы аўтар усхвалявана і пранікліва распавядае аб былой магутнасці Русі, асуджае княжацкія міжусобіцы, заклікае князёў да аб'яднання. У «Слове» шмат згадак пра беларускія землі, асабліва аб Полацкім княстве. З цеплынёй і спачуваннем апісаны аўтарам полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, ярка паказана бітва на Нямізе 1067 г., нагадваецца полацкі князь Ізяслаў Васількавіч.

Іншыя жанры арыгінальнай літаратуры, атрымаўшыя шырокае распаўсюджванне на беларускіх землях у IX—XIII стст., прадстаўлены жыційнымі (агіяграфічнымі), паломніцкімі і Павучальнымі творамі. Тут найбольш цікавымі з'яўляюцца "Жыццё Еўфрасінні Полацкай", "Жыццё Аўраамія Смаленскага", "Хаджэнне Ігнація Смаляніна" і іншыя. З твораў павучальнага жанру належыць вылучыць спадчыну **Кірылы Тураўскага** (каля 1130-каля 1182 гг), выдатнага літаратара і філосафа-багаслова. Аб яго жыцці да нас дайшлі ўрыўкавыя звесткі. Усе жыццё ён правёў у Тураве, вырас у багатай мяшчанскай сям'і і атрымаў высокую для тых часоў адукацыю. Затым пайшоў у манастыр і ўрэшце атрымаў сан епіскапа. Кірыла Тураўскі быў вядомы як майстар аратарскай прозы, выдатны палеміст. З ягонай спадчыны захавалася восем "слоў" - пропаведзяў, некалькі дыдактычных аповесцяў-прытчаў, два каноны і каля трыццаці малітваў-споведзяў. "Прытча пра душу і цела", "Пра сляпога і кульгавага", "Слова на Вялікдзень", "Аповесць пра беларызца і манаха". Творы Кірылы Тураўскага на працягу стагоддзяў пераходзілі з аднаго рукапіснага зборніка ў другі, змяшчаліся ў беларускіх першадруках. У цэнтры большасці твораў пісьменніка - клопаты аб духоўнай дасканаласці чалавека, якую аўтар разумеў у адпаведнасці з этычнымі і эстэтычнымі ідэаламі свайго часу. За выдатнае аратарскае майстэрства Кірылу Тураўскага сучаснікі

справядліва называлі *"Златавустам, лепш за другіх заззяўшым на Русі".* Творчасць філосафа і пісьменніка з Турава была вядома далёка за межамі беларускіх зямель.

У агульную скарбонку ўсходнеславянскіх народаў увайшла спадчына ўраджэнца Смаленскага княства, пісьменніка, філосафа і царкоўнага дзеяча **Клімента Смаляціча,** які на працягу сямі год быў кіеўскім мітрапалітам. На жаль, да нашых дзён дайшоў толькі адзін яго твор - "Пасланне Фаме прасвітару", у якім аўтар выказаў сябе арыгінальным мысліцелем, здольным палемістам і шырока эрудзіраваным крытыкам.

Пісьменства прынесла з сабой звычай стварэння бібліятэк і архіваў. Адной з першых (з сярэдзіны XI ст.) на беларускіх землях была закладзена бібліятэка Сафійскага сабора ў Полацку. Тут на працягу чатырохсот год (да 1563 г., калі яна была разрабавана) назапашаны былі многія сотні каштоўных рукапісаў, багата ілюстраваных кніг, актавых дакументаў. Кнігі мелі вялікую каштоўнасць не толькі дзякуючы свайму зместу, але і з-за выдатнага аздаблення. Яны пісаліся на пергаміне уставам - характэрным для старажытнаславянскай пісьменнасці тыпам кірылічнага пісьма, якому былі ўласцівы строгая геаметрычнасць літар, злітнае напісанне слоў у радку. Рукапісы ўпрыгожвалі шматкаляровымі мініяцюрамі, застаўкамі, канцоўкамі, ініцыяламі. Мініяцюры малявалі згодна з традыцыямі іканапісу: ужывалася адваротная перспектыва, плоскаснасць выяваў, сімвалічнасць фону. Загалоўкі і канцоўкі аздабляліся раслінным арнаментам з выявамі звяроў і птушак. Пераплёты рукапісных кніг аздаблялі каштоўнымі каменямі, на іх рабілі абклады з парчы і аксаміту, золата і серабра, дэкарыравалі чаканкай, эмалямі, гравіроўкай. Рукапісных кніг IX-—XIII стст. захавалася мала. Самымі раннімі з дайшоўшых да нас ад нашых продкаў кніг з'яўляюцца Тураўскае Евангелле XI ст., якое сёння знаходзіцца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы, і Полацкія Евангеллі XII—XIV стст., што трапілі ў Пецярбург і цяпер захоўваюцца ў бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына.

Распаўсюджванню пісьменнасці садзейнічалі нешматлікія школы, якія дзейнічалі пры княжацкіх дварах і манастырах. У Полацкім княстве адну з першых школ стварыла князёўна Прадслава, атрымаўшая ў манастве імя Ефрасінні. **Ефрасіння Полацкая (1104(?) -**

**1167(?))** была дачкой Святаслава (у хрышчэнні Георгія) і ўнучкай Усяслава Брачыславіча. У 12-гадовым узросце яна пастрыглася ў манахіні і жыла ў келлі Сафійскага сабора ў Полацку, дзе займалася перапісваннем кніг для яго бібліятэкі. У канцы 1120-х гадоў Ефрасіння заснавала непадалёку ад Полацка жаночы манастыр, а ў канцы 1150-х - мужчынскі. Пры гэтых манастырах створаны былі школы, дзе вучыліся не толькі хлопчыкі, але і дзяўчынкі. У канцы жыцця Ефрасіння Полацкая адбыла паломніцтва ў Іерусалім, дзе і памерла. Мошчы яе былі спачатку перавезены ў Кіеў, а затым у заснаваны ёю Спаса-Ефрасіннеўскі жаночы манастыр каля Полацка. Асветніца з роду Усяслава была далучана праваслаўнай царквой да ліку святых за яе дзейнасць на ніве ўмацавання хрысціянскай веры і асветы. Дзень памяці Св. Еўфрасінні адзначаецца царквой 23 траўня.

Надзвычай багатыя традыцыі склаліся у гэты час ў дойлідстве. Уяўленні аб забудове старажытных беларускіх гарадоў даюць матэрыялы археалагічных раскопак у Брэсце, Гародні, Полацку, Заслаўі, Менску г другіх населеных месцах Беларусі. У Брэсце, напрыклад, археолагі выявілі 224 жылыя і гаспадарчыя пабудовы, большасць якіх уяўляюць сабой аднакамерныя драўляныя зрубы памерам 13—16 квадратных метраў. У XII ст. на беларускіх землях з'яўляюцца першыя мураваныя помнікі-вежы, храмы, крэпасці.

Адзін з першых у 1920-я гады беларускіх даследчыкаў гісторыі айчыннага дойлідства М. Шчакаціхін вылучыў на падставе характэрных прыкмет (спосабаў кладкі, дэкору, памераў і планаў будынкаў) тры арыгінальныя школы дойлідства на беларускіх землях у згаданы час: полацка-віцебская, гарадзенская і смаленская.

Полацкая школа дойлідства адчула на сабе ўплыў візантыйскай і малаазіяцкай архітэктурных школ. Яе адметнасцямі быў лаканізм архітэктурнай канструкцыі, выкарыстанне так званай муроўкі "з прыхаваным радам" (адзін рад тонкай цэглы-плінфы "ўтапліваўся" ў паверхні і замазваўся белым расчынам-цмянкай, ствараючы стракаты ўзор), адсутнасць знешняй тынкоўкі, аздабленне інтэр'ера фрэскамі. Сёння вядомы некалькі мураваных забудоў полацка-віцебскай школы: Пятніцкая і Барысаглебская цэрквы ў Бельчыцах, Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Дабравешчанская царква ў Віцебску, княжацкі церам у Полацку. Буйнейшым помнікам гэтай

школы, найстаражытным мураваным храмам Беларусі з'яўляецца сабор Святой Сафіі ў Полацку. Гэты храм, магчыма, быў пабудаваны не толькі як хрысціянская святыня, але і як сімвал незалежнасці Полацкага княства ад Ноўгарада і Кіева ў часы Усяслава Брачыславіча. Яго ўзнікненне датуюць перыядам з 1044 па 1066 гады, паводле іншых звестак ён быў збудаваны паміж 1050 і 1060 гадамі. Стварэнне прадстаўнічай царквы ў Полацку ставіла горад у адзін шэраг з Кіевам і Ноўгарадам, дзе такія ж храмы або ўжо былі збудаваны, або будаваліся, і пазбаўляла Усяслава ад магчымых абвінавачванняў у язычніцтве. Полацкі Сафійскі сабор уяўляў сабою пяцінефны крыжакупальны храм з трыма гранёнымі апсідамі, на даху якога мелася пяць ці сем купалоў. Знутры храм быў аздоблены фрэскамі, рэшткі якіх захаваліся да нашых дзён. На працягу сваёй доўгай гісторыі Полацкая Сафія двойчы была перабудавана, апошні раз - у XVIII ст., калі рэшткі старажытнай царквы былі ўключаны ў касцёл стылю барока і згубілі пачатковы выгляд.

З твораў гродзенскай школы дойлідства сёння вядомы ніжняя, Прачысценская і Барысаглебская (Каложская) цэрквы ў Гродне, рэшткі царквы ў Ваўкавыску і гродзенскі княжацкі церам. Гродзенскія майстры (імя аднога з іх - Пятра Міланегі - захавалася) ўжывалі муроўку з чэсаных камянёў і плінфы, упрыгожвалі культавыя пабудовы звонку маёлікавымі пліткамі, ствараючы рознакаляровыя кампазіцыі, з іх жа сцялілі падлогу. У сваіх галоўных рысах гродзенская школа сфарміравалася ў XII ст. На думку М. Шчакаціхіна, яе забудовы, падобныя на каўказскія і малаазіяцкія хрысціянскія храмы, утрымлівалі пры гэтым некаторыя рысы візантыйскай архітэктуры. Найлепш захавалася царква Барыса і Глеба, пабудаваная ў 1180-я гады на стромкім беразе Нёмана. Шасціслупны трохнефны храм памерам 21,5 на 13,5 метра спалучыў у сабе найбольш характэрныя рысы школы, знутры сцены былі часткова атынкаваны і ўпрыгожаны фрэскамі, дзеля лепшай акустыкі і палягчэння канструкцыі ў іх былі ўмураваны гаршкі - галаснікі.

Смаленская школа дойлідства цесна звязана была з кіеўскай архітэктурнай школай і нагадвала некаторыя яе рысы. З пабудоў XII—XIII стст. да нас дайшлі рэшткі цэркваў Спаса на Смядыні, Барысаглебскай, Петрапаўлаўскай і іншых.

У XIII ст. беларуская архітэктура папоўнілася вежамі, якія будаваліся ў выглядзе данжонаў ці асобна, ці ў комплексе крэпасных сцен. Найлепш захаванай з'яўляецца Камянецкая вежа, пабудаваная непадалёку ад Брэста.

Высокага ўзроўню на беларускіх землях дасягнула ў гэты час выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Галоўнымі жанрамі першага з іх былі ў IX—XIII стст. манументальны жывапіс (мазаіка, фрэска), іканапіс і кніжная мініяцюра. На беларускіх землях майстэрства мазаікіл'явідася ў XII ст., трапіўшы сюды, хутчэй за ўсё, з Візантыі. У якасці матэрыялу выкарыстоўвалі смальту — каляровае непразрыстае шкло ў выглядзе кубікаў ці пласцінак. Мазаіка аздабляла збудаванні Верхняга замка і храм-пазавальню Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку, Ніжнюю царкву ў Гародні. Фрэскавы жывапіс - размалёўка прыроднымі фарбамі па свежым тынку - захаваўся фрагментарна. Уяўленні аб традыцыях і тэхніцы фрэскавага жывапісу даюць роспісы Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, дзе ў алтарнай частцы, на сценах, слупах, што падтрымліваюць хоры, у келіі Ефрасінні Полацкай адкрыта больш як дваццаць фрагментаў роспісу з выявамі святых. Тыпажы, выкарыстаныя мастакамі, нагадваюць візантыйскія - вузкія твары, міндалепадобныя вялікія вочы, сціснутыя, але цёплыя і прасякнутыя жыццём вусны. Магчыма, што ў вобразе адной са святых намалявана заснавальніца храма - Ефрасіння Полацкая.

Іконы, створаныя на беларускіх землях у той час, пакуль што не выяўлены даследчыкамі. Але ў літаратуры маюцца звесткі аб некаторых найбольш шанавальных іконах, якія былі прывезены з Візантыі. Гэта падораная Ефрасінні Полацкай ікона Эфескай або Корсунскай Багародзіцы, напісаная згодна з паданнем святым Лукой яшчэ пры жыцці яе персанажа, ікона "Дзьмітры Салунскі" і інш.

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва ў гэты час вылучаецца ў самастойную галіну творчасці, адбываецца спецыялізацыя рамеснікаў у асобных яго відах, удасканальваюцца тэхніка апрацоўкі матэрыялу, мастацкія прыёмы, болын разнастайнымі становяцца формы і тыпы твораў. Збераглiся шматлікія мастацкія вырабы з дрэва - прылады працы і прадметы побыту, упрыгожаныя арнаментальнай контурнай разьбой. У XII ст. расквітае разьба па косці. У Полацку,

Гародні, Тураве, Пінску і іншых гарадах знойдзены касцяныя гронкі нажоў, грабяні, лыжкі, накладкі на зброю, упрыгожаныя геаметрычным арнаментам у тэхніцы гравіроўкі. Высокамастацкімі з'яўляюцца шахматныя фігуркі з косці, знойдзеныя ў Ваўкавыску, Лукомлі, Гародні. У ювелірным мастацтве шырока пачынаюць ужывацца філігрань, гравіроўка, залачэнне, ліццё. Сярод шматлікіх ювелірных вырабаў найбольш значнай каштоўнасцю з'яўляецца крыж, зроблены па заказу Ефрасінні Полацкай ювелірам Лазарам Богшай у 1161 г. Ягоная каштоўнасць тлумачыцца не толькі мастацкай дасканаласцю. Гэта была даразахавальніца для святых рэліквій, якія пасланцы полацкай князёўны прывезлі з Усходу. Крыж шасціканцовы, даўжынёй 51 см, драўляны, пакрыты залатымі і сярэбранымі пласцінамі, абкладзены каштоўнымі камянямі, жэмчугам і выявамі святых, зробленымі ў тэхніцы перагародчатай эмалі. На баках яго знаходзіцца надпіс, у якім пад пагрозай праклёну забараняецца перанясенне крыжа са Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, якой ён быў ахвяраваны. Падчас вайны Полацка са Смаленскам смаляне вывезлі крыж да сябе. Вярнуў яго ў Полацк Іван IV, даўшы такі зарок у выпадку ўзяцця горада. У 1812 г. крыж схавалі ў сцяне Сафійскага сабора, а ў 1841 г. зноў паклалі ў адноўленую Спаса-Ефрасіннеўскую царкву. У 1920-я гады падчас барацьбы з рэлігіяй ён быў перанесены ў царкоўна-археалагічны музей, а затым у сутарэнне Магілёўскага банка. Адтуль гэтая святыня знікла напярэдадні ці ў час вайны.

Уяўленні аб музычнай культуры беларускіх зямель IX—XIII стст. даюць выявы музыкантаў, зробленыя ў творах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Пры княжацкіх дварах гучала ўрачыста-цырыманіяльная і ваенная музыка. Народнае музычнае мастацтва атрымала развіццё ў творчасці скамарохаў, народных казачнікаў і спевакоў. Яны ігралі на гуслях, жалейках, бубнах, суправаджалі народныя святы, гульні, абрады. Існавала і царкоўная музыка, традыцыі якой прыйшлі на беларускія землі з Візантыі, у працэсе развіцця ў ёй узнікла своеасаблівая сістэма спеваў - знаменны распеў.

Культурныя здабыткі беларускіх зямель IX—XIII стст. з'яўляюцца неад'емнай часткай нашай культурнай спадчыны. Яны і сёння арганічна ўпісваюцца ў духоўнае жыццё беларусаў.

ЛЕКЦЫЯ 12

# УТВАРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА, РУСКАГА І ЖАМОЙЦКАГА

- *Прычыны аб'яднання славянскіх і балцкіх зямель вакол Наваградка. Міндоўг.*
- *Дзейнасць Войшалка, Трайдзена і Віценя.*

## Прычыны аб'яднання славянскіх і балцкіх зямель вакол Наваградка. Міндоўг

У канцы 30х - 40-ых гадоў XIII ст., калі землі ўсходніх славян папалі пад мангола-татарскае ярмо, у Панямонні, на балта-славянскім сумежжы, некалі падпарадкаван,ым Кіеву, узнікае новая дзяржава - Літоўская ці, як яно яшчэ фігуруе ў тагачасных крыніцах, Вялікае Наваградскае княства. Пачынаецца новы перыяд гісторыі Беларусі, галоўным зместам якога з'яўляецца фарміраванне на яе і суседніх тэрыторыях Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (далей - ВКЛ)

Утварэнне ВКЛ - заканамерны вынік унутранага сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця зямель сучасных Беларусі і Літвы ў XII—XIII стст.

Адносіны ўсходнеславянскіх княстваў са сваімі бліжэйшымі балцкімі суседзямі былі няпростымі. Разрозненыя землі гістарычнай Літвы ў X—XII стст. былі аб'ектам заваёвы суседніх славянскіх дзяржаў. Вядомы паходы на літву кіеўскага князя Яраслава Мудрага ў **1040 і 1044 гг.,** Мсціслава Кіеўскага сумесна з Усеваладкам Гарадзенскім у **1132 г.,** полацка-менскага князя Валадара Глебавіча каля 1159 г. У 1191 г. рыхтаваўся сумесны паход полацкіх і наўгародскіх атрадаў. У пачатку XIII ст. на літву хадзілі полацкія, чарнігаўскія, смаленскія князі. Полацкія князі неаднаразова выкарыстоўвалі літоўскія дружыны для высвятлення адносін паміж сабой і са сваімі суседзямі ў час міжусобіц. У'Аповесці мінулых гадоў" літва называецца ў ліку плямёнаў, якія плацілі даніну Кіеву.

Частымі былі спусташальныя паходы ўсходнеславянскіх дружын і на яцвяжскія землі. У **983 г.** хадзіў на яцвягаў вялікі кіеўскі

князь Уладзімір Святаслававіч, у 1038 г. - яго сын Яраслаў. У XII-першай палове XIII ст. барацьбу з яцвягамі і літвой вядуць галіцка-валынскія князі; па летапісах вядомы іх паходы ў 1112, 1113, 1196, 1227, 1235, 1248, 1253, 1258 гадах.

У сваю чаргу ў XI-першай трэці XIII ст. літоўскія і яцвяжскія дружыны неаднаразова робяць набегі на славянскія княствы, даходзяць да Тураўскай, Валынскай, Ноўгарад-Северскай, Смаленскай зямель. Галоўнай мэтай гэтых паходаў быў не захоп чужой тэрыторыі, а рабаўніцтва, захоп палонных, хатняй жывёлы і г. д. Яны насілі грабежніцкі характар і з'яўляліся адной з крынГц назапашвання багаццяў літоўскай знаці. З летапісаў і хронік вядомы літоўскія паходы ва ўсходнеславянскія землі ў 1205, 1207, 1216, 1224, 1225, 1226, 1229, 1234 і ў іншыя гады. Толькі на працягу 1201—1236 гг. літоўскія князі арганізавалі 14 буйных паходаў. *"Беда бо бе в земле Володимерьстей от воеванья литовского и ятвяжского ",* - піша, напрыклад, Галіцка-Валынскі летапіс.

Зыходзячы з рэальных фактаў літоўскіх паходаў на ўсходнеславянскія землі, гісторыкі канца XIX—XX стст. распрацавалі **"канфрантацыйную" версію генезісу** ВКЛ, згодна з якой верхняе і сярэдняе Панямонне былі зонай адвечнай балта-славянскай канфрантацыі, ці змагання за тэрыторыі. Спачатку, маўляў, усходнія славяне перамагалі тут і цяснілі балтаў, потым па меры раздраблення і аслаблення Русі балты ў сваю чаргу перайшлі ў наступ. Паступова балцкая экспансія з ваенна-рабаўнічай перарастае ў тэрытарыяльна-захопніцкую. Між тым прыхільнікам гэтай тэзы не ўдалося выявіць ніводнага факта захопу літвой якога-небудзь горада ці зямлі на тэрыторыі будучай Беларусі. Усе вядомыя выпадкі прыходу літоўскіх князёў на княжанне ва ўсходнеславянскія гарады ў XIII ст. адбыліся праз запрашэнне. Больш таго, у крыніцах няма прамых ці вартых даверу ўскосных сведчанняў аб нападзе летапіснай Літвы на Наваградак, Гародню, Ваўкавыск. Раней даследчыкі не заўважалі і таго, што ваяўнічы рух балтаў быў накіраваны за межы Панямоння. Гэта быў рэгіён балта-славянскага супрацоўніцтва, у якім актыўным і культурна дамінуючым бокам былі ўсходнія славяне, якія з часам асімілявалі балцкіх аўтахтонаў.

Да пачатку XIII ст. сацыяльна-эканамічнае развіццё летапіснай

літвы, аўкштайтаў, жамойтаў (жамойці, жмудзі) прывяло да фарміравання феадальных адносін, да падзелу на знаць і просты народ. У іх яшчэ не было гарадоў, яны не мелі свайго пісьменства. Літва і Жмудзь уяўлялі сабой шэраг асобных зямель з "кунігасамі" (князямі) на чале. К таму часу яны выйшлі з залежнасці ад суседніх усходнеславянскіх дзяржаў. Іх развіццё знаходзілася на той стадыі, услед за якой ідзе ўтварэнне дзяржавы. Палітычнае адзінства стала неабходнасцю часу. Больш цеснаму згуртаванню плямён, іх ваеннапалітычнай, тэрытарыяльнай кансалідацыі садзейнічаў знешні фактар - пагроза з боку крыжакоў, якія ў канцы XII - пачатку XIII ст. з'явіліся ў Прыбалтыцы і пачалі каланізаваць яе тэрыторыі.

Паступова з асяроддзя літоўскай знаці вылучаюцца найбольш уплывовыя і магутныя. Вядомым сярод іх у пачатку XIII ст. быў Міндоўг, які пачаў барацьбу за падпарадкаванне літоўскіх зямель пад сваёй уладай.

Імкненне да кансалідацыі прыходзіць на змену цэнтрабежным тэндэнцыям і на славянскіх землях. Рост вытворчых сіл, умацаванне феадальных адносін, паглыбленне грамадскага падзелу працы, развіццё гандлю садзейнічалі пераадоленню адасобленасці княстваў, зліццю іх у больш буйныя дзяржавы. Эканамічнае і палітычнае зблізжэнне, этнакультурная роднаснасць старажытнабеларускіх зямель выклікалі неабходнасць іх тэрытарыяльнай кансалідацыі. Асабліва ўзмацніўся цэнтраімклівы працэс на Беларусі ў другой палове XII - пачатку XIII ст.

Новы этап дзяржаваўтварэння быў звязаны са складанай знешнепалітычнай сітуацыяй ва Усходняй Еўропе. Уся паўднёвая і ўсходняя часткі ўсходнеславянскага арэала на працягу 1237—1242 гг. былі зруйнаваны мангола-татарамі. Акрамя таго, знешняя небяспека пагражала з поўначы і з захаду: немцы з пачатку XIII ст. усталяваліся ў ніжнім Падзвінні. **Гэта быў час, калі з розных бакоў на беларускія землі няўмольна насоўваліся крыжакі і мангола-татары.** У пачатку XIII ст. Полацкае княства першае з усходнеславянскіх зямель прыняла на сябе цяжар барацьбы з крыжакамі. Тэўтонскі ордэн, заваяваўшы Прусію, з 1283 г. распачаў актыўную агрэсію на Панямонне, якое адчувала пагрозу таксама і з паўднёвага ўсходу. Ніколі так востра, як у XIII ст., не паўставала

перад нашымі продкамі пытанне - быць ці не быць? У такіх умовах адышлі на другой план ранейшыя спрэчкі і сваркі крывічоў і дрыгавічоў паміж сабою і з даўнімі суседзямі - "паганаю літвою".

Гістарычнай неабходнасцю часу сталі пошукі больш цеснага кантакту ў эканамічнай і палітычнай сферах, больш цеснае тэрытарыяльнае і ваенна-палітычнае аб'яднанне славянскіх і балцкіх зямель. Ідэя кансалідацыі набывала ўсё больш прыхільнікаў. Перад пагрозай небяспекі полацкія князі нярэдка ўступалі ў саюз з літоўскімі і сумесна выступалі супраць крыжакоў. У канкрэтных гістарычных умовах таго часу склаўся своеасаблівы славянска-літоўскі ваенна-палітычны саюз, які і выклікаў да жыцця новае палітычнае аб'яднанне - Вялікае княства Літоўскае. Ваенная пагроза звонку паскорыла працэс аб'яднання. Перавага палітычных прычын над эканамічнымі адрознівала яго ад аналагічных працэсаў у Заходняй Еўропе. Патрэбна была арганізацыя для абароны сваёй жыццёвай прасторы з моцным, правераным у баях і паходах ваенным правадыром. Яго этнічнае паходжанне істотнага значэння не мела, асабліва ў Панямонні, дзе два этнасы стагоддзямі жылі ўперамежку.

Пачаткам ВКЛ стаў палітычны саюз дзвюх галоўных рэгіянальных сіл - усходнеславянскіх панямонскіх гарадоў з некаторымі найбольш моцнымі правадырамі балцкіх плямёнаў, а калі канкрэтна, то пачаткам быў саюз важнейшага горада рэгіёна Наваградка з мацнейшым з суседніх кунігасаў Міндоўгам. Менавіта гэты саюз паклаў пачатак працэсу дзяржаваўтварэння. Пісьмовыя крыніцы не зафіксавалі фармальны акт гэтага саюза, як і час яго ўтварэння.

Першыя свае крокі гэта дзяржава рабіла ў Навагародку. На працягу XIII ст. гэты горад няспынна імкнуўся да аб'яднання вакол сябе суседніх славянскіх і балцкіх зямель.

Здавалася б, што аб'яднаўчым цэнтрам павінен быў стаць Полацк, які меў даўнюю традыцыю самастойнага і незалежнага дзяржаўнага існавання. Аднак феадальныя ўсобіцы XII ст. , цяжкая барацьба з крыжацкай агрэсіяй і страта выхаду да Балтыйскага мора ў пачатку XIII ст. падарвалі яго сілы. **У сярэдзіне XIII ст. цэнтр палітычнага жыцця Беларусі перамяшчаецца з Падзвіння ў Панямонне, з Полацка ў Наваградак, які быў тады самым**

**значным горадам гэтага рэгіёна.** Заснаваны ў X ст. і, верагодна, упершыню згаданы ў летапісе пад 1044 г, Навааградак зведаў у XII—XIII стст. незвычайны росквіт, што і вызначыла яго дамінуючае месца ў нашай гісторыі сярэдзіны XIII - пачатку XIV ст. і дало падставу некаторым даследчыкам нават вылучаць навагpадскі перыяд айчыннай гісторыі. Ленінградскі археолаг Ф. Гурэвіч, якая амаль 30 гадоў вяла тут раскопкі, выявіла, што гэта быў горад з высокай матэрыяльнай культурай, шырокімі міжнароднымі сувязямі і значнай заможнай праслойкай насельніцтва. Дасягнуўшы значнай эканамічнай моцы, горад выйшаў з-пад палітычнага ўплыву галіцка-валынскіх князёў.

Развітыя земляробства і рамёствы, ажыўлены гандаль з паўднёвარускімі гарадамі, з Полацкам, Прыбалтыкай, Польшчай, Візантыяй і Блізкім Усходам, наяўнасць многіх гарадоў (Наваградак, Гарадзен, Слонім, Ваўкавыск, Здзітаў, Свіслач, Турыйск) сведчылі пра высокі эканамічна-культурны патэнцыял Беларускага Панямоння ў XIII ст., што, несумненна, адыграла важную ролю ў працэсе пабудовы ВКЛ. Па свайму эканамічна-культурнаму ўзроўню, матэрыяльных і людскіх рэсурсах гэты регіён значна перавышаў этнічную Літву (Жамойць), не меўшую сваіх гарадоў, не ведаўшую пісьменства, мураванай архітэктуры і пд. Ён меў спрыяльнае геаграфічнае становішча, якое асабліва праявілася ў сярэдзіне стагоддзя - адносная аддаленасць ад асноўных маршрутаў крыжацкіх паходаў і мангола-татарскай навалы. Усё гэта павялічвала палітычную вагу Наваградка сярод суседніх усходнеславянскіх і балцкіх зямель і дало яму магчымасць стаць іх дзяржаваарганізуючым цэнтрам.

Утварэнне ВКЛ пачалі наваградскія феадалы. Наваградская вярхушка, якая сканцэнтравала ў сваіх руках вялікія багацці і ўмацавала сваю ўладу, адчуўшы смяротную небяспеку, якая ішла ад крыжакоў і мангола-татар, пачала збіраць у адзіную дзяржаву землі Панямоння. Ідэя аб'яднання атрымала падтрымку насельніцтва, найперш купцоў, рамеснікаў. Для практычнага ажыццяўлення сваёй праграмы наваградцы выкарысталі князя Міндоўга, а потым яго сына Войшалка. Нам невядома, ці сам Міндоўг прыслаў да наваградцаў прапанову злучыць свае сілы, ці наваградскія ўплывовыя людзі паслалі запрашэнне на княжанне.

## Дзейнасць Войшалка, Трайдзена і Віценя

Першую цагліну ў падмурак гэтай дзяржавы ў другой чвэрці XIII ст. заклаў Міндоўг, якому належыць слава заснавальніка ВКЛ. Паводле летапісаў і хронік, Міндоўг - сын буйнейшага феадала Літвы, князя Рынгольта. Упершыню Іпацьеўскі летапіс згадаў Міндоўга ў 1219 г. У гэтым годзе быў заключаны літоўска-валынскі мірны дагавор. Літву прадстаўлялі пры гэтым 21 князь, з іх пяцёра - "старэйшых", у тым ліку Міндоўг.

У імкненні да ўстанаўлення адзінаасобнай улады, ён адных сапернікаў забіў, другіх выгнаў з Літвы "*і нача княжити один во всей земле Литовской и нача гордети и вельми и вознесе славой и гордостью великой и не творяще противу себя никого же".* Гэта адбылося ў 30-я гады XIII ст., паколькі ўжо ў 1236 г. крыніцы ўпамінаюць "Литву Миндовга", якая стала ядром аб'яднання літоўскіх зямель. У выніку жорсткай барацьбы Міндоўгу ўдалося пакласці пачатак палітычнай, тэрытарыяльнай кансалідацыі гістарычнай Літвы - паўднёвай ускраіны балцкіх зямель. Тое, што ён апынуўся ў Наваградку, не было выпадковым. Наваградак узнік на паўднёва-заходнім ускрайку зямлі племені літва, а далей на захад ад яго жылі яцвягі.

Гісторыкі даюць розныя варыянты развіцця палітычнай кар'еры Міндоўга. Адны лічаць, што літоўскі князь прыйшоў у Наваградак як заваёўнік. Другія перакананы, што пасля 1237 г., калі памёр апошні наваградскі князь Ізяслаў, Міндоўг быў запрошаны сюды. Іншыя сцвярджаюць, што пасля паражэння ў барацьбе з крыжакамі пазіцыі Міндоўга ў Літве значна аслаблі. Гэта выкарысталі палітычныя праціўнікі, якія распачалі супраць яго барацьбу. ТаДы Міндоўг з рэштай сваёй дружыны накіроўваецца ў суседні Наваградак, дзе быў прыняты на княжанне і стаў выканаўцам дзяржаўных памкненняў гэтай зямлі. Наваградская знаць зрабіла яго князем, каб выкарыстаць у сваіх палітычных мэтах. Г хоць яшчэ і сёння ў літаратуры часам паўтараецца тэза аб летувіскай каланізацыі Наваградчыны і Гарадзеншчыны як пачатку ўтварэння ВКЛ, гэта не пацвярджаецца ніякімі пісьмовымі крыніцамі. Гэтак жа няма падстаў лічыць Міндоўга ізгоем - выгнаннікам.

У 1246 п, відаць, у момант княжання ў Наваградку Міндоўг

*"прыняў веру хрысціянскую ад Усходу з многімі сваімі баярамі".* Факт прыняцця праваслаўя — веры мясцовага насельніцтва - пацвярджае думку, што ён увайшоў у горад не сілай, а са згоды яго жыхароў. Заваёўніку, вядома, не трэба было прымаць веру пераможанага народа. Перамена веры, відаць, была неабходнай умовай абрання Міндоўга на пасаду князя наваградскага.

Затым новы князь аб'ядноўвае землі верхняга Панямоння вакол Наваградка: "поимана бъ вся земля Литовская". Час правядзення гэтай акцыі - 1248 г. - можна прыняць за пачатак ВКЛ. За гэтай дзяржавай замацоўваецца назва "Літва" ці "Літоўскае княства" (часам яна называлася "княства Літоўскае і Наваградскае" ці нават "Вялікае княства Наваградскае"). Язычніцкая Літва (вёска) і праваслаўная Наваградчына (гарады) мірна суіснавалі пад уладай літоўскага князя.

Галоўным праціўнікам на шляху пабудовы панямонскай дзяржавы стаў у гэты час паўднёвы сусед. З трывогай сачылі за аб'яднаўчай дзейнасцю Міндоўга галіцка-валынскія князі. Узнікненне на тэрыторыі верхняга і сярэдняга Панямоння славянска-балцкай дзяржавы выклікала вялікую незадаволенасць. Галіцкія Раманавічы цалкам усвядомілі небяспеку гэтага саюза для сваіх пазіцый у Панямонні, таму і пачалі маштабнае супрацьдзеянне, абапіраючыся на дапамогу татар, яцвягаў, жамойтаў, крыжакоў. У 50-70-ыя гады XIII ст. яно стала арэнай жорсткай барацьбы.

У 1252 г. вялікае войска на чале з Даніілам Галіцкім пайшло ў Літву на ... Наваградак. Гэта першы зафіксаваны выпадак атаясамлівання (г. зн. саюза) Міндоўга з Наваградкам. Яно спустошыла "усю зямлю наваградскую", захапіла Гарадзень. Кааліцыя Раманавічаў пагражала задушыць працэс дзяржаваўтварэння ў самым пачатку ці па меншай меры прыпыніць яго на неакрэслены час. З гэтага першага цяжкага выпрабавання панямонская дзяржава выйшла дзякуючы заключэнню саюза з Лівонскім ордэнам. Міндоўгу ўдалося перацягнуць Ордэн на свой бок *"дарми многими"* і згодай прыняць заходні варыянт хрысціянства. Гэты дыпламатычны манеўр і выратаваў дзяржаву.

Неўзабаве Міндоўг накіраваў паслоў да Даніїла Галіцкага з прапановай міру. Мірны дагавор быў падпісаны ў **1254 г.** і замацаваны

шлюбам Міндоўгавай дачкі з сынам Данііла Шварнам. Паслом на перамовах быў сын Міндоўга Войшалк, які вымушаны быў аддаць Наваградскую зямлю валынскім князям. У Панямонні ў 1254—1258 гг. умацоўваецца валынскі ўплыў, хаця поўнай яго інкарпарацыі ў склад Галіцкай зямлі не адбылося.

На пачатак шостага дзесяцігоддзя XIII ст. становішча Міндоўга і яго дзяржавы выглядае дастаткова трывалым, войска ВКЛ ужо праводзіць ваенныя аперацыі па-за межамі сваёй тэрыторыі. У 1262 г. княства заключае антыордэнскі саюз з Ноўгарадам. Аб'яднанае наўгародскае, віцебскае, полацкае і літоўскае войска накіравалася ў зямлю эстаў, аблажыла горад Юр'еў (Тарту) і "адзіным прыступам" узяла яго.

Полацка-літоўскае пагадненне было заключана раней. Полацк не ўступаў у канфлікт з Літвой, а выкарыстоўваў літоўскую рабаўнічую актыўнасць у барацьбе супраць сваіх сапернікаў. Паміж 1253 і 1262 гг. у Полацку ўсталяваўся першы князь балцкага паходжання - Таўцівіл. У Наўгародскім летапісе ёсць указанне, што Таўцівіл быў прыняты на княжанне самімі палачанамі, а не навязаны ВКЛ. Калі ў 1263 г. Транята забіў Таўцівіла і пажадаў ад палачанаў выдачы яго сына, то апошні з прыбліжанымі уцёк у Ноўгарад. *"Тогда Литва посадиша свои (своего) князь в Полотьскь; а полочан пустиша, которыхь изъимали с князем ихь, и мир взяша."* Гэта дазваляе гаварыць аб трывалым уваходзе Полацка пад палітычны ўплыў ВКЛ у 1263 г. Полацкая зямля ўсё мацней звязваецца з панямонскай дзяржавай, каб урэшцёўвайсці ў склад ВКЛ, забяспечыўшы сабе шырокую аўтаномію. Багатыя полацкія традыцыі дзяржаўнага і культурнага жыцця аказалі значны ўплыў на фарміраванне ўнутранага ладу ВКЛ.

У 1263 г. Міндоўг і двое яго малодшых сыноў былі забіты ў выніку змовы варожых яму князёў: князя Даўмонта (бацькі Давыда Гарадзенскага), у якога аўдавелы Міндоўг адабраў жонку, і жамойцкага князя Траняты, які меў віды на ўладу ў ВКЛ.

Заслуга Міндоўга ў тым, што ён заклаў падмурак дзяржавы, якая праз паўтара стагоддзя стане адной з мацнейшых краін Еўропы.

Яго смерць стала пачаткам унутранага крызісу ВКЛ, які працягваўся некалькі гадоў. Зместам яго была барацьба за ролю кіраўніка

дзяржавы, і асноўнымі дзеючымі асобамі выступалі князі балцкага паходжання. Іх баявыя заслугі высока цаніліся ў суседніх усходнеславянскіх гарадах: Полацк, напрыклад, запрасіў да сябе Таўцівіла, Пскоўская рэспубліка прыняла на княжанне ўцекача Даўмонта, Пінск і Наваградак дабраахвотна ваююць на баку Войшалка.

У **1254 г.** на палітычную арэну выступае старэйшы ын Міндоўга **Войшалк (1223—1268)**, які ад імя бацькі правіў у Ваўкавыску і Слоніме. Яму ўласцівы палітычная і дыпламатычная дальнабачнасць. Ён плёў інтрыгі, ішоў на кампрамісы, часам дзейнічаў нібыта нелагічна, а на самай справе прадумваў кожны крок. Гэта трагічная і супярэчлівая фігура. Як дзяржаўны дзеяч і палітык, Войшалк быў да канца адданы інтарэсам Навагародка. Ён паспяхова працягваў справу бацькі.

Яго першай дзяржаўнай справай было .заключэнне міру з Галічам і Валынню. Разумеючы, што яны з'яўляюцца галоўнымі знешнімі праціўнікамі Наваградка, Войшалк, каб забяспечыць апошняму на некаторы час мірнае жыццё і даць яму акрыяць, ідзе на смелы дыпламатычны крок: аддае сыну Даніілы Галіцкага Раману Наваградак і іншыя гарады, а сваю сястру - замуж за другога сына Даніілы - Шварна. Гэтым самым ён пасеяў зерне варожасці паміж галіцка-валынскімі князямі ў іх дамаганнях на Наваградскую зямлю і Літву. Войшалк прадбачыў немінучы ўпадак іх дзяржавы, зняволенай татарамі і ўцягнутай у міжусобныя канфлікты. Ведаў, што не ў яе сілах будзе ўтрымаць Наваградак, і таму пайшоў на гэткі крок.

Яму ўдавалася ўтрымлівацца на лязе хісткага міру між Наваградкам і яго магутным сапернікам - Галіцка-Валынскім княствам. У кароткім прамежку перамір'я малады князь стаў манахам і заснаваў "на реке на Немне, межи Литвой і Новымгородком" Лаўрышаўскі манастыр. Але бурлівыя падзеі хутка ўцягнулі яго зноў у вір палітыкі.

Пражыўшы некаторы час у заснаваным ім манастыры, Войшалк неўзабаве скінуў расу і ўзяў у рукі зброю. Ён прыступіў да ажыццяўлення. сваёй галоўнай мэты - вызвалення Наваградка з-пад галіцка-валынскай улады. Для гэтага ён уступіў у саюз з полацкім князем Таўцівілам. Пляменнік Міндоўга Таўцівіл у 50-я гг. XIII ст.

стаў княжыць у Полацку, відаць, па дамоўленасці з вечам. Ён таксама прыняў праваслаўе. З дапамогай Таўцівіла Войшалк у 1258 г. вярнуўся ў Наваградак і схапіў Рамана, які, магчыма, быў забіты.

Даніїл Галіцкі не пакінуў гэтыя дзеянні Войшалка без пакарання. Ён рушыў з войскам на Наваградскую зямлю, захапіў Ваўкавыск, паслаў атрады на Гарадзен. Але падначаліць сабе зноў землі верхняга Панямоння ён ужо не меў сілы.

Пасля забойства Міндоўга ў ВКЛ пачалася 10-гадовая міжкняжацкая барацьба. Уладу *"во всей земле Литовской и Жемойти"* захапіў літоўскі князь Транята **(1263—1264)**, які ў 1263 г. арганізаваў забойства свайго папярэдніка. Але ён не мог адчуваць сябе ў бяспецы, ведаў, што ў Полацку і Наваградку сядзяць яшчэ два прэтэндэнты на вялікакняжацкі пасад - Таўцівіл і Войшалк. Транята выклікаў на сябе Таўцівіла пад выглядам *"дзяліць зямлю і спадчыну Міндоўга"* і забіў яго. Такі ж лёс чакаў і Войшалка. Аднак той аказаўся хітрэйшым і ўцёк у саюзны яму Пінск.

Звяртае на сябе ўвагу падтрымка Пінскам, абцяжараным залежнасцю ад Галіцка-Валынскага княства, Навагрудка. Падчас крызісу ў ВКЛ, выкліканага забойствам Міндоўга, пінгукі праз падтрымку Войшалка рашуча ўмяшаліся ў панямонскія справы.

Транята нядоўга заставаўся пры ўладзе. Не без падтрымкі Войшалка сярод літоўскай знаці, незадаволенай жамойцкай уладай, узнікла змова супраць узурпатара. У хуткім часе ён быў забіты Міндоўгавымі слугамі. Транята, прабыўшы на княжацкім троне некалькі месяцаў, не адыграў істотнай ролі ў гісторыі ВКЛ. У гэты час рашучыя дзеянні пачаў Войшалк. Пры падтрымцы наваградскай і пінскай дружын ён ідзе ў Наваградак, займае бацькоўскі прастол і пачынае княжыць *"ва ўсей зямлі Літоўскай ".* І Літва, як сказана ў летапісе, прыхільна сустрэла яго як "своего господичича". Падтрымка Пінска і Наваградка забяспечыла Войшалку поспех у барацьбе за бацькоўскі трон. Гэты эпізод не адпавядае даўняму ўяўленню пра мясцовых славян як пасіўных аб'ектаў літувіскай экспансіі і сведчыць на карысць іх актыўнага ўдзелу ў пабудове ВКЛ. Аднак праціўнікі аб'яднання і адзінаўладдзя аказалі яму супраціўленне. Тады былы манах, забыўшы хрысціянскую літасць, з жорсткасцю *"поча вороги свои избивати, изби их бесчисленое*

*множество, а другие разбегошася камо кто видя".* Сярод уцекачоў быў і Даўмонт, у хуткім часе прыняты на княжанне ў Пскоў. Ён правіў там больш за 30 гадоў, а пасля смерці кананізаваны праваслаўнай царквой.

Пасля расправы з унутранымі ворагамі сваёй дзяржавы, Войшалк зрабіў захады, каб забяспечыць мір з суседзямі, пазбегнуць вайны з імі: заключае мір з Ордэнам, шукае магчымасць паразумецца з Галіцка-Валынскім княствам. Ён умела сыграў на слабай струнцы яго князёў - на іх імкненні валодаць Наваградскай зямлёй і Літвой. Войшалк знешне прызнае сябе васалам князя Васількі, а на наваградскі пасад запрашае "дапамагаць яму ўладарыць" Шварна. Калі ў 1254 г. ён асцярагаўся перадаць Навагрудак жанатаму на яго сястры Шварну, дык цяпер становішча было іншае: Шварн не меў дзяцей і пасля яго смерці Войшалк зноў станавіўся паўнапраўным гаспадаром у сваёй дзяржаве.

З дапамогай валынскай дружыны Войшалк ў 1265 г. (1264) далучае да Навагрудка заселеныя балцкімі плямёнамі Нальшаны (паўночны захад сучаснай Беларусі) і Дзяволтву (частка ўсходу сучаснай Літвы). *"И пойде в силе тяжьце и нача городы имати во Дявельтвь и в Нальшчанехь", - гаворыць пра гэтыя падзеі пад 1264 годам Галіцка-Валынскі летапіс. - Городы же поимавь, а вороги своя ибивь и тако придоша во свояси".* У грамаце полацкага князя Ізяслава (прыблізна ў 1265 г.) прызнаецца "воля" Войшалка над Полацкам.

**Аб'яднанне вакол Навагрудка Літвы, Полацка-Віцебскай зямлі з'явілася трывалым пачаткам утварэння ВКЛ.** У гэтым і заключаецца галоўная гістарычная заслуга Войшалка. Менавіта ён, з'яўляецца фактычным заснавальнікам балцка-славянскай дзяржавы, якая стала на некалькі стагоддзяў агульным домам для літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў. Бацька яго, Міндоўг толькі падрыхтаваў глебу, а дрэва новай дзяржавы пасадзіў Войшалк.

Перадача Войшалкам Навагрудскай зямлі Шварну не спадабалася брату Шварна - галіцкаму князю Льву Данілавічу, які сам хацеў валодаць Навагрудскай і Літоўскай землямі, злучанымі зараз у адзінае цэлае. Гэты князь запрасіў Войшалка да сябе ў госці і забіў яго, *"завистью оже бяшеть дал землю Литовскую брату его*

*Шварнови".* Адбылося гэта у час сустрэчы ва Уладзіміры Валынскім у 1268г. Леў у п'яным шаленстве выхапіў шаблю і засек Войшалка. Так трагічна і нечспадзявана абарвалося яго жыццё.

Але запозненая помста князя Льва не дала яму ніякіх вынікаў. Створаная Міндоўгам і Войшалкам дзяржава працягвала сваё самастойнае жыццё, Далейшыя падзеі пацвердзілі яе ўнутраную трываласць, падтрымку аб'яднаўчай палітыкі славянскім і балцкім баярствам і гараджанамі.

Трайдзену выпала доля абараняць закладзеныя Міндоўгам і Войшалкам асновы дзяржавы. Яго гісторыя ў крыніцах вельмі заблытаная. Мы не ведаем, ці паходзіў гэты ўладар Дайновы з роду Міндоўга, ці належаў да іншага роду. Гэта адна з таямніц нашай гісторыі. Шэраг даследчыкаў (М. Ермаловіч, А. Краўцэвіч і інш.) упэўнены, што з Трайдзенам у ВКЛ запанавала новая княжацкая дынастыя, якая ў адрозненне ад папярэдняй, Міндоўгавай, была славянскага паходжання. Адзін з летапісаў указвае, што быў *"Трайдзен з роду рускага ".*

Невядома, якім чынам Трайдзен дамогся ўлады: ці сілай, ці мірным шляхам. У 1270 г. ён *"нача княжити в Литве"* і правіў 12 гадоў.

У гэтыя гады маладой дзяржаве выпалі цяжкія выпрабаванні: крыжакі, галіцка-валынскія войскі, татары, суседнія князі пасля смерці Войшалка паднялі галаву, пагражалі незалежнасці ВКЛ. Выйшлі да межаў ВКЛ крыжакі. Абапіраючыся на залатаардынскія палкі, двойчы спрабавала пакончыць з Наваградкам Галіцка-Валынскае княства.

У крыніцах захавалася зусім мала звестак аб унутранай палітыцы Трайдзена. Ён актыўна працягваў на землях Панямоння аб'яднаўчую палітыку Міндоўга і Войшалка: жорстка распраўляецца з праціўнікамі, клапаціцца аб умацаванні дзяржавы. У часы Трайдзена ў склад Літоўскага княства ўвайшлі землі яцвягаў - у 1278 г. там ужо гаспадарыў намеснік і брат вялікага князя Сірпуцый. Трайдзен даў у сваёй дзяржаве прытулак прусам, якія пад націскам крыжакоў пакінулі свае землі.

Значна больш сведчанняў засталося ў крыніцах пра знешнія абставіны дзяржаўнага жыцця княства ў 1270-ыя гады.

З самага пачатку свайго княжання Трайдзену прыйшлося брацца за меч. Войны былі для яго з'явай звычайнай. *"Весь живот свой до войны и крови розляня простовал", "шмат ваяваў і заўсёды перамагаў ",* - так характарызуецца ў летапісах ВКЛ яго дзейнасць.

Яго знешняя палітыка мела перш за ўсё на мэце абарону тэрытарыяльных інтарэсаў дзяржавы. Галоўным праціўнікам, як і пры яе ўтварэнні, заставаліся галіцка-валынскія князі. Таму барацьба з імі складала галоўны змест вайсковай дзейнасці Трайдзена.

Нядзіўна, што галіцка-валынскі летапісец, які ўхвальна апісаў дзейнасць уласных князёў, нават калі яны хадзілі крыжовымі паходамі на яцвягаў ці на аднаверных суайчыннікаў у верхнім Панямонні, даў знішчальную характарыстыку іх саперніку: *"Окаяньный и безаконьный, проклятый, немилостивый Трайдзен, его же беззаконья не могохом псати срама ради".* Летапісец параноўвае Трайдзена з Ірадам і Неронам, не забыўшы дадаць, што ён *"многа злейша того безаконья чиняша",* што ён ледзь не вораг чалавецтва. Гэта была своеасаблівая помста Трайдзену за яго рашучыя крокі па пашырэнню межаў Літоўскага княства за кошт паўднёвых і паўднёва-заходніх зямель, што належалі Галіцка-Валынскаму княству. Такія моцныя эпітэты летапісца ў той жа час наводзяць на думку, што наваградскі князь быў чалавекам уладарным, рашучым і хітрым, які асабліва не выбіраў сродкі для дасягнення сваіх мэтаў.

У **1274 г.** Трайдзен парушыў мір паміж Наваградкам і Галічам, нечакана напаў з гарадзенскай дружынай на Драгічын, які належаў галіцкаму князю Льву, захапіў горад і *"избіша вся и мала и до велика".* Напад гарадзенцаў выклікаў жорсткую помсту князя Льва. Канфлікт паміж Трайдзенам і Львом набыў грандыёзныя памеры: у яго былі ўцягнуты амаль усе суседнія княствы. Леў Галіцкі звярнуўся за дапамогай да татарскага хана Менгуцымера, *"прося себе помочи у него на Литвоу ".* Хан не адмовіў яму, бо ардынцам адкрывалася магчымасць парабаваць, а то і заняволіць адну з беларускіх зямель, што адзіныя ва ўсёй Усходняй Еўропе былі свабодны ад іх ярма. Даўшы Льву раць на чале з ваяводам Ягурчынам, Менгуцымер адначасова прымусіў ісці на Літву залежных ад яго бранскага і смаленскага князёў. Да гэтай кааліцыі далучылі тураўскую і пінскую-дружыны. Паход 1274 г. быў цяжкім ударам для

маладой панямонскай дзяржавы і яе сталіцы. Але ён не дасягнуў сваёй канчатковай мэты з-за адсутнасці адзінства і сварак у стане саюзнікаў.

Пасля кароткага замірэння на Наваградак зноў насунулася грозная небяспека. У 1277 г. аб'яднанае войска галічан і татараў выступае ў паход. Татарская рать на чале з ваяводам Мамшынам адразу накіравалася да Наваградка, ўвайшла ў сталіцу і разрабавала яе, нанесла ёй шмат разбурэнняў. Галіцка-валынскія князі сабраліся да паходу на Навагародак у Бярэсці, аднак, даведаўшыся пра спусташэнне сталіцы татарамі, змянілі свой план і пайшлі на Гародню. Але іх напаткала няўдача. Перабежчык паведаміў гараднянам аб безладдзі ў варожым войску. Гарадняне накіравалі на варожае войска дружыну прусаў і борцяў, якія ўцяклі ад немцаў і былі паселены Трайдзенем у горадзе. Яны адных пабілі, другіх узялі ў палон. На наступны дзень раз'юшаныя князі сталі палком пад Гародняй. Толькі гарадняне *"аки мертва стояша на забролях города"* і мужна адбілі штурм. Такога адпору князі не чакалі. Адзінае, што заставалася: прасіць міру, *"како города им не имати",* ды ісці прэч. Так бясслаўна скончыўся паход 1277 г. Трайдзен адбіў у галіцка-валынскіх князёў жаданне хадзіць на Літву і актывізаваў свае дзеянні на заходнім накірунку.

На захадзе інтарэсы ВКЛ сутыкаліся з інтарэсамі Польшчы. Трайдзен робіць удалы паход на Люблін і бярэ шматлікі палон, аддае сваю дачку замуж за полацкага князя. Галоўнай пагрозай для паўночна-заходніх зямель дзяржавы была крыжацкая агрэсія. Рыцары імкнуліся ўсё глыбей па Дзвіне пранікнуць на ўсход. Трайдзен неаднаразова ваюе Дынабург (Даўгаўпілс), аднак авалодаць непрыступным нямецкім замкам не змог. Буйныя сутыкненні з лівонскімі рыцарамі адбыліся ў 1270, 1278, 1279 гадах. У 1281 г. ён захапіў Герцыке, які абмяняў на Дынабург.

Княжанне Трайдзена было часам умацавання ВКЛ. Яно праходзіла ў барацьбе з унутранай і знешняй пагрозай. У часы Трайдзена ВКЛ выступае як унутрана стабільная дзяржава, здольная весці актыўную знешнюю палітыку.

Далейшая гісторыя ВКЛ пасля смерці Трайдзена раптоўна апускаецца ў змрок. Мы нават не можам ўпэўнена сказаць, хто змяніў

яго на вялікакняжацкай пасадзе. Хутчэй за ўсё гэта быў дуумвірат братоў Будзікіда і Будзівіда. Аднак з-за адсутнасці інфармацыі застаецца незразумелым, чым тлумачыцца такі дуумвірат, да якога роду належалі гэтыя князі, хоць іх імёны сведчаць пра іх славянскае паходжанне.

У 90-ыя гады цемра над гэтым кутом Еўропы пачынае рассоўвацца. Пераадолеўшы самыя цяжкія часы, Літоўская дзяржава паволі, але няўхільна пачынае ўзыходзіць да вяршыны сваёй магутнасці. У першую чаргу гэта было звязана з дзейнасцю вялікага князя Віценя **(1293—1316)** - асобы для нас даволі загадкавай. Мы не ведаем, дзе і калі ён нарадзіўся, з якога роду паходзіў, як памёр. Гісторыкі звярнулі ўвагу на славянскае імя Віценя і яго сыноў - Воіна і Фёдара. Яны ўказваюць на славянскія карані князя. Правіў Віцень у Наваградку, які пры ім заставаўхя_сталіцай ВКЛ.

Вялікі князь змагаўся за ўнутранае ўмацаванне дзяржавы. Яму ўдалося дабіцца яе палітычнага адзінства. Нашчадкі іншых княжацкіх дынастый больш не прэтэндавалі на яе трон. Віценева княжанне пачалося ў вельмі неспрыяльных умовах. У 1294 г. паднялі паўстанне жамойцкія феадалы, маючы намер пайсці на саюз з крыжакамі. Віцень мячом уціхамірыў іх.

І Наваградак, і Полацк разумелі неабходнасць аб'яднання сіл у барацьбе з крыжакамі і мангола-татарамі. Князь літоўскай дынастыі - Таўцівіл, пляменнік Міндоўга, упершыню згадваецца ў Полацку ў 1262-1263 гг. Даследчыкі мяркуюць, што далучэнне Полацкай зямлі да ВКЛ адбылося пры Войшалку, але часам канчатковага аб'яднання звычайна лічаць 1307 год, як запісана ў М. Стрыйкоўскага: **"Літва ў 1307 г. авалодала Полацкам."** Як адбылося гэта аб'яднанне - пры адсутнасці дакументаў меркаваць цяжка. Відавочна, што не вайсковай сілай, а на падставе "рады"-дагавора, які гарантаваў палачанам захаванне мясцовых законаў і суда, і са згоды полацкага баярства і багатага купецтва. Аб'яднанне ВКЛ з ПОлацкай зямлёй хутчэй за ўсё адбылося праз выбранне палачанамі сваім князем Віценева сына Воіна. Існуе гіпотэза, якую некаторыя гісторыкі лічаць за праўду. Полацкі князь Канстанцін нібыта завяшчаў Полацк рыжскаму біскупу. Біскупавы людзі, прыбыўшы ў горад, пачалі ўводзіць каталіцтва, а палачане паўсталі і папрасілі

дапамогі ў Віценя, і той са сваёй дружынай расправіўся з немцамі. На полацкі пасад быў выбраны яго сын Воін. Можа так яно і было? Дакладнага фактычнага матэрыялу пра гэтыя падзеі, на жаль, няма.

Выгада ад аб'яднання была ўзаемная. Віценева войска было ўзмоцнена вайсковымі сіламі Полацкай зямлі. Полацк захаваў вечавы лад, аўтаномнасць зямлі, маёмасныя правы, непадуладнасць вялікакняжацкаму суду, самастойнасць у пытаннях веры і гандлю.

Значным тэрытарыяльным прырашчэннем у час Віценя было далучэнне да ВКЛ Берасцейскай зямлі. У **1315 г.,** па сведчанню Васкрасенскага летапісу, ён *"прибавил земли Литовское много и до Бугу".*

Ад Віценя, як сведчыць Іпац'еўскі летапіс, ідзе наш гістарычны герб Пагоня. Стаўшы князем у Навагрудку, ён *"измысли себе герб и всему княжеству печать: рыцер збройный на коне з мечем, еже ныне наричут погоня".* Спачатку асабістая эмблема князя, Пагоня з цягам часу стала гербам дьгнастыі вялікіх літоўскіх князёў, а з 1384 г. - дзяржаўным гербам ВКЛ. Сучаснымі даследчыкамі выказваецца думка, што Пагоня мае больш старажытнае паходжанне і бярэ свой пачатак ад папярэднікаў Віценя. Увядзенне княжацкага герба і агульнадзяржаўнай пячаткі, толькі будучы замацаванымі якой набывалі юрыдычную сілу дакументы, было важным цэнтралізатарскім крокам.

Віценева княжанне прайшло ў войнах з жамойцкімі феадаламі, прускімі і лівонскімі крыжакамі, з палякамі. Паводле падлікаў, за 24 гады ён здзейсніў 11 паходаў у Прусію, 5 — у Лівонію, 9 — у Польнчу.

З 1284 г., пасля канчатковага пакарэння тэўтонамі прускіх аўтахтонаў, тэрыторыя ВКЛ становіцца аб'ектам агрэсіі Прускага ордэна. Ён прыступіў да рэалізацыі важнейшай стратэгічнай задачы (якую яму так і не ўдалося вырашыць) - злучэння па сушы праз Жамойць сваіх прускай і лівонскай філій. На працягу 1300—1315 гг. ордэнскае войска правяло 20 рэйдаў з тэрыторыі Прусіі на Жамойць і Літву, у першую чаргу на Гародню. У 1284, 1295, 1296, 1305, 1306 (двойчы), 1311 (тройчы), 1314 гг. крыжакі нападалі на землі Гарадзеншчыны. Віцень прыклаў нямала намаганняў для ўмацавання Гародні і папаўнення яе гарнізона. Старастам у горад

ён назначыў Давыда - сына былога нальшчанскага князя Даўмонта. Чвэрць стагоддзя Давыд абараняў край ад крыжацкай навалы. У 1311 і 1315 гадах Віцень сам узначаліў паходы баявых дружын у Прусію. Абодва яны былі няўдалымі. Паход 1315 г. стаў апошняй справай вялікага князя. Вяртаючыся назад, ён быў забіты ўдарам маланкі.

Гаспадаранне Віценя можна ахарактарызаваць як паспяховае процідзеянне крыжакам, пры адначасовым павелічэнні ўплыву на суседнія рускія землі. Маладая дзяржава пры ім трымалася ўпоравень з наймацнейшымі суседзямі.

1316 год можна ўмоўна прыняць за дату завяршэння стварэння дзяржавы. Пры Гедыміне (1316—1341 гг.) гэты працэс стаў незваротным, жыццястойкасць новага дзяржаўнага ўтварэння стала відавочнай, распачаўся яго бурны рост у геаграфічнан і палітычнай прасторы сярэднявечнай Еўропы.

v

ЛЕКЦЫЯ 13

# РОСТ ВКЛ У ГЕАГРАФІЧНАЙ І ПАЛІТЫЧНАЙ ПРАСТОРЫ УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ

- *Рост уплыву ВКЛ на рускіх землях пры Гедыміне.*
- *Дзяржаўная дзейнасць Альгерда. Вільня як цэнтр аб'яднання зямель былой Кіеўскай Русі.*

## Рост уплыву ВКЛ на рускіх землях пры Гедыміне

Калі папярэдні, назавём яго ўмоўна, наваградскі перыяд быў перыядам станаўлення і ўмацавання ВКЛ, то наступны - віленскі (1320—1385 гг.) стаў часам бурнага тэрытарыяльнага росту дзяржавы, што і вывела яе ў лік найбуйнейшых тагачасных еўрапейскіх краін.

У яшчэ больш шырокіх маштабах аб'яднаўчую палітыку сваіх папярэднікаў прадоўжыў **Гедымін (1316—1341 гг).** Ён правіў чвэрць стагоддзя і за гэты час далёка пасунуў межы і ўплыў сваёй дзяржавы на ўсходнеславянскі поўдзень і ўсход.

Вялікакняжацкую пасаду Гедымін заняў пасля смерці свайго бацькі (па другіх звестках, брата) Віценя ў 1316 г. З крыжацкага асяроддзя была пушчана чутка аб нізкім сацыяльным паходжанні Гедыміна, нібы ён - былы конюх ці нават халоп Віценя, які арганізаваў забойства свайго князя і захапіў уладу ў дзяржаве. Гэта плётка абражала ў той час у вачах свету ўсю дзяржаву, з якой Ордэн нязменна знаходзіўся ў варожых адносінах. Гэту чутку пазней падхапілі ў Кракаве і Маскве, якія - кожны з свайго боку - імкнуліся падначаліць сабе ВКЛ.

Большасць гісторыкаў справядліва лічыць спробу прадставіць Гедымінавічаў узурпатарамі ўлады выдумкай пазнейшых храністаў з мэтай дыскрэдытацыі літоўскай дынастыі.

У 1320 г. князь будуе ў Троках (сённяшні Тракай, Летува) замак на востраве, сярод вялікага возера і пераносіць сюды сваю рэзідэнцыю. **Ужо пры Віцені дамінуючая роля Наваградка ў дзяржаве стала падаць.** Найпершай прычынай гэтага былі вельмі неспрыяльныя знешнія ўмовы. Калі ў 50—70-ыя гады XIII ст. Наваградскую зямлю спусташалі з дапамогай татар галіцка-валынскія войскі,

то, пачынаючы з 80-ых, яна становіцца аб'ектам крыжацкай агрэсіі, што не магло не падарваць эканоміку, а разам з тым і палітычнае значэнне зямлі. Абрабаванне і разбурэнне Наваградка ў 1274, 1277 і 1314 гадах не маглі не падзейнічаць адмоўна на лёс яго як на стольны горад дзяржавы.

Гедымін перанёс сталіцу дзяржавы у Вільню, заснаваную на месцы старажытнага паселішча XI — XII стст. на Крывой (Лысай) гары. Таму першая назва Вільні была Крывы-горад. Славянскае паходжанне яе першых пасяленцаў і назвы горада - бясспрэчна. Існуе прыгожае паданне пра заснаванне Гедымінам гэтага горада пасля вешчага сну, які прысніўся князю ў час палявання. Палявалі ў гэтых мясцінах дапазна, вяртацца ў Трокі было позна, таму наладзілі начлег. Прыснілася князю, што стаіць на вяршыні гары жалезная ваўчыца ды вые так гучна, нібы сто ваўкоў адразу. Паганскі вяшчун Лыздзейка разгадаў сон так: князь павінен збудаваць тут магутны замак, які, нібы жалезнай сцяной, абароніць Літву ад крыжакоў, вакол замка вырасце горад, слава аб якім пойдзе па ўсяму свету. *Як* вяшчае паданне, князь прыслухаўся да начнога адкрыцця. Пабудаваў ён на гэтай гары мураваны замак, вежа якого захавалася да нашых дзён. Ужо ў 1323 г. Вільня называецца ў Гедымінавых граматах "каралеўскім горадам", гэта значыць, сталіцай. Сябе ж ён называў "каралём Літвы і Русі".

Горад Вільня з'яўляецца сапраўднай святыняй для беларусаў, бо з ім непарыўна звязаны значны перыяд нашай гісторыі.На працягу XVI - пачатку XX ст. Вільня была буйнейшым цэнтрам беларускай культуры, адукацыі, навукі, нацыянальнага руху.

У 1321 і 1322 гг., пасля чарговай перамогі над крыжакамі Гедымін зрабіў два паспяховыя паходы на поўдзень і, паводле"Хронікі літоўскай і жамойцкай", за *"одным звитязством манархию Киевскую, Волынские и Северские княства ажь до Путивля за Киевом на 50 миль и далей опановал, « до Литовскага панства прилучил".* Так упісваліся апошнія старонкі ў гісторыю Кіеўскай Русі і адначасова закладваліся асновы магутнасці ВКЛ. Праўда, у некаторых гісторыкаў існуюць сумненні наконт дакладнасці летапісных звестак пра гэтыя паходы. Кіеўскае княства прызнае вярхоўную ўладу Гедыміна. Старая сталіца Рурыкавічаў прыйшла ў по-

ўны заняпад у выніку мангола-татарскіх набегаў. Але абставіны канчатковага пераходу Кіеўскай зямлі пад уладу ВКЛ поўнасцю не высветлены. Замацаванне гэтых зямель за княствам адбылося ўжо пры Альгердзе.

Падчас праўлення Гедыміна да княства далучыліся Віцебская, Менская, Тураўская землі. Можна меркаваць, што гэты працэс насіў мірны характар.

Ужо ў **1323 (1326) г.** Менскае княства ўваходзіла ў склад дзяржавы. Менскі князь Васіль не быў выгнаны са сваёй зямлі, а паранейшаму правіў там. Як васал Гедыміна ён ездзіў у складзе літоўскага пасольства ў Ноўгарад Вялікі. Гедымінаў сын Альгерд пабраўся шлюбам з дачкой віцебскага князя Яраслава Марыяй і ў **1320 г**, пасля смерці цесця, стаў спадкаёмцам Віцебскага княства.

З пачатку XIII ст. Тураўская зямля, пераадольваючы імкненне галіцка-валынскіх князёў падначаліць яе сабе, усё больш і больш звязвае свой лёс з Наваградкам. Лагічным завяршэннем гэтага збліжэння з'явіўся ўваход турава-пінскіх абшараў у Вялікае княства.Трэба помніць, што Пінск яшчэ ў 1260-ыя гады адыграў важную ролю ва ўтварэнні ВКЛ. Пагроза апынуцца ў "воли татарскай", плаціць даніну Залатой Ардзе прадвызначылі іх рашэнне.Ужо ў першай палове XIV ст. у Тураўскай зямлі канчаткова ўсталявалася ўлада літоўскіх князёў. Пры Гедыміне тут кіраваў яго сын Нарымонт. У гэты час дзяржава Гедыміна набыла межы, якія амаль супадалі з сучаснымі межамі Беларусі.

Увайшло ў склад ВКЛ таксама Падляшша (цяпер у складзе Польшчы), а ў 1340 г. — Валынь.

Такім чынам, пры Гедыміне большая частка сучасных беларускіх зямель апынулася ў складзе ВКЛ. Палітычная мудрасць гаспадара праявілася ў тым, што пры ўключэнні новых зямель ён гарантаваў ім аўтаномію і непадзельнасць тэрыторыі, дэклараваў "старыны не парушаць", захоўваў мясцовыя законы, недатыкальнасць правоў і ўладанняў феадалаў, мяшчан, духавенства, падсуднасць іх толькі сваім мясцовым судам, самастойнасць пры заключэнні гандлёвых пагадненняў.

За стагоддзе свайго імклівага росту, ад Міндоўга да Гедыміна, невялікае княства ў Панямонні далучыла суседнія тэрыторыі, засе-

леныя славянамі і балтамі, і пераўтварылася ў Вялікае княства Літоўскае і Рускае. Тэрмін "Літва" адносіўся тады да верхняга і сярэдняга Панямоння, пад "Руссю" разумелася сярэдняе Падзвінне і Падняпроўе. Менавіта "рускія" (беларускія і ўкраінскія землі) рабілі гэта княства вялікім, узбагацілі яго сваімі багатымі традыцыямі дзяржаўнага існавання, палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця. Усходнеславянскае насельніцтва княства лічыла Руссю менавіта сваю дзяржаву, а сябе называла рускімі. Жыхароў паўночна-ўсходняй Русі яны называлі па сталіцах іх зямель і княстваў: цверычы, пскавічы, падданых Маскоўскай дзяржавы - маскавітамі. Ддя ўзмацнення і пашырэння сваёй дзяржавы Гедымін выкарыстоўваў розныя сродкі: дынастычныя саюзы, пагадненні з мясцовым баярствам і ,безумоўна, узброеную сілу. Ні адна з сярэднявечных дзяржаў не ўзнікала на аснове свабоднага волевыяўлення насельніцтва. І ў літоўскіх князёў былі праціўнікі - пазбаўленыя ўлады прадстаўнікі мясцовых дынастый, частка баярства. Але ў цэлым пашырэнне Вялікага княства Літоўскага адбывалася параўнальна мірна, паколькі ўмовы далучэння маглі задаволіць найбольш уплывовыя колы мясцовага насельніцтва: баярства, гараджан і (з пэўнымі агаворкамі) царкву.

Гедымін умела выкарыстоўваў супярэчнасці паміж рускімі княствамі і падтрымліваў праціўнікаў маскоўскага князя Івана Каліты. Так, ён дапамог пскавіцянам адбіць нашэсці нямецкіх і дацкіх рыцараў у 1323-1324 гг., падтрымаў іх у спробе адасобіцца ад Наўгародскай епархіі ў 1331 г. Уплыў Вялікага княства распаўсюдзіўся на паўночную Русь. І з гэтым павінен быў лічыцца Каліта. Ён уступае ў кантакт з Гедымінам, сватае свайго сына да яго дачкі.

Магчыма, літоўскі ўладар дасягнуў бы на Русі і большага ўплыву, але яго ўвагу ў значнай ступені адцягваў захад, дзе па-ранейшаму галоўным ворагам быў Тэўтонскі ордэн.

Асноўным тэатрам вайны з'яўлялася Панямонне. Гэта была брама для ўварвання ў глыб княства. Літвіны імкнуліся надзейна зачыніць яе абарончымі замкамі.

Для абароны княства ад уварванняў крыжакоў Гедымін узвёў першакласныя па тым часе крэпасці ў Троках, Вільні, Медніках,

Лідзе, Крэве. З у'сіх канцоў дзяржавы збіралі майстроў-будаўнікоў, княжацкія цівуны зганялі просты люд насыпаць валы, капаць рвы, цягаць камяні, высякаць лес. Праз стагоддзі захавалася памяць аб гэтых грандыёзных будоўлях.

У барацьбе супраць Ордэна Гедымін меў выдатнага памочніка - князя Давыда Гарадзенскага, які фактычна быў намеснікам у Гародні і галоўным ваяводам княства. Яго ўзвышэнне пачалося яшчэ пры Віцені, але асабліва ярка палкаводчы талент праявіўся на пачатку праўлення Гедыміна. Практычна ніводная перамога над крыжакамі як у абарончых, так і ў наступальных аперацыях не абыходзілася без удзелу Давыда. Гедымін нават аддаў за яго сваю дачку.

Узімку 1341—1342 года войска ВКЛ захапіла крыжацкую крэпасць Баербург. Праўда, платай за гэта было жыццё вялікага князя. З канца 1330-ых гадоў на ўзбраенні ордэнскіх замкаў з'явілася агнястрэльная зброя. Пакуль што яна выглядае дзівам —большасць ваякаў толькі прыглядаецца да яе, спадзеючыся на старыя добрыя самастрэлы, мячы і дзіды. Літоўскаму князю давялося пазнаёміцца з яе эфектыўнасцю на ўласным вопыце. Каменнае ядро трапіла ў Гедыміна, які знаходзіўся у шэрагах вояў. Паводле іншых звестак, Гедыміна атруцілі.

Хоць большасць баяр пры Гедымінавам двары былі праваслаўнымі, а сам ён сімпатызаваў хрысціянству, пахавалі яго як язычніка. Вось што піша пра гэта *"Хроніка літоўская і жамойцкая": "Кгедымін, вялікі князь, таго року ад немцаў у Прусах забіты з ручніцы...Сыны яго...звычаем паганскім, наклаўшы вялікі стос смалістага дрэва, труну яму нарыхтавалі. А потым прыбралі яго ў адзенне княжае каляровае, якое любіў пры жыцці найболей, а пры ім шаблю, рагаціну, сагайдак, сокалаў пару, хортаў пару, каня з сядлом, слугу яго найшчырэйшага ўлюбенца, з ім звязаўшы, на бярэмя дроў паклалі...і трох вязняў немцаў узброеных вакол дрэва запаліўшы, з ім спалілі...Кідалі ў агонь кіпцюры рысіныя і мядзвебыў у іх звычай старадаўні".*

Гедымін умела балансаваў паміж усходнім і заходнім хрысціянствам. Не ўціскаючы правоў праваслаўнай царквы, ён імкнуўся ўплываць на канфесійныя справы шляхам пастаўлення ў мітрапаліты свайго кандыдата, а ў выпадку няўдачы - адарваць падуладныя

яму землі ад агульнарускай мітраполіі, стварыў для Вялікага княства Літоўскага асобную царкоўную іерархію.

З'яўленне і рост новага палітычнага цэнтра на Русі не прайшло міма ўвагі канстанцінопальскага патрыярха. Пра гэта сведчыць яго дазвол заснаваць каля 1311 г. самастойную мітраполію з цэнтрам у Наваградку, што ахоплівала Полацкую і Тураўскую епархіі. Літоўска-наваградскім мітрапалітам стаў Феафіл. Але пасля яго смерці новы мітрапаліт у Навагрaдак не прызначаецца, а названыя епархіі падпарадкоўваюцца мітрапаліту Феагносту, які займаў кафедру ва Уладзіміры і вельмі адмоўна ставіўся да спроб стварыць іншыя мітраполіі.

Адначасова Гедымін не перапыняў кантактаў з каталіцкай царквой. Заключыўшы пагадненне з Рыгай, ён з яе дапамогай адправіў некалькі пасланняў папе Іаану X, абяцаў яму хрысціць Літву па заходняму абраду і абвінавачваў ордэнскіх рыцараў у тым, што яны жорсткімі набегамі адварочваюць літоўцаў ад хрысціянства. У 1324 г. у княства прыбыло папскае пасольства. Але супраць планаў увядзення каталіцызму выступіла і язычніцкая літоўская знаць, і "русіны", г.зн. прадстаўнікі праваслаўнага насельніцтва, з пазіцыяй якіх Гедымін не мог не лічыцца. "Кароль Літвы і Русі" добра разумеў, што крыніцай сілы яго дзяржавы з'яўляюцца славянскія землі.

ВКЛ дамаглося пры Гедыміне міжнароднага прызнання і пачало адыгрываць прыкметную ролю ва Усходняй Еўропе. У складаных знешнепалітычных умовах ён ішоў на саюз з суседнімі дзяржавамі. Гарантам саюза былі роднасныя сувязі, якія адыгрывалі значную ролю ў тагачасным палітычным свеце. Дыпламатычным поспехам Гедыміна спрыяла шматлікасць яго патомства. Дачка князя Альдона стала жонкай польскага каралевіча Казіміра, другія таксама выйшлі замуж за знакамітых людзей - князя цвярскога, мазавецкага валадара, сына Івана Каліты, Давыда Гарадзенскага. Гедымін быў не супраць збліжэння з Захадам. Шлюб Гедымінаўны з нашчадкам польскага караля паклаў пачатак саюзніцкім дачыненням дзяржаў.

Такім чынам, ВКЛ пры Гедыміне выступае моцнай дзяржавай. Яно з лёгкасцю далучае да сябе буйныя усходнеславянскія землі, якія шукалі ў гэтым моцным і роднасным дзяржаўным арганізме

надзейную абарону ад татараў. Сталіца Гедыміна Вільня становіцца прэтэндэнтам на спадчыну Кіева.

У першай палове XIV ст. ва Усходняй Еўропе ўзмацняюцца тэндэнцыі цэнтралізацыі грамадска-дзяржаўнага ладу. Услед за Наваградкам і Вільняй пачаў збіраць рускія землі маскоўскі князь Іван Каліта (1325—1340 гг.) Міма яго пільнага вока не схвалася тое, што Масква ўжо трохі запазнілася з клопатам пра збіранне тэрыторый, што заходнерускія землі ўжо аб'ядналіся ў адзінай дзяржаве, якая, як снежны камяк, абрастае славянскімі землямі, усё больш разрастаецца на ўсход.

У гэты час набірае сілу Цвер. Аднак дадзеная частка Русі знаходзіцца пад кантролем хана, які выкарыстоўвае імкненне князёў Цверы і Масквы да пасады вялікага князя ўладзімірскага, каб знясіліць абодвух у міжусобнай барацьбе. Больш актыўны маскоўскі князь Іван Каліта бярэ верх у гэтай барацьбе, але ўзвышэнне Масквы некалькі дзесяцігоддзяў будзе ісці не ў выглядзе аб'яднання суседніх княстваў, а ў выглядзе "праглынання" болыш слабых з іх пры татарскай падтрымцы.

Літоўскі князь умешваецца ў барацьбу паміж Цверру і Масквой за вялікае княжанне ўладзімірскае. Пры гэтым робіць стаўку на Цвер. Ён вядзе барацьбу за кантроль над Ноўгарадам, якая скончылася часовай перамогай Гедыміна ў 1333 г., калі наўгародцы прынялі да сябе князем яго сына Нарымонта. У 1338 г. той пасадзіў замест сябе малалетняга сына Аляксандра. Пасля смерці Давыда Гарадзенскага Гедымін як спадкаёмца свайго зяця прэтэндуе на валоданне Псковам. Гэта ў нейкай ступені было выгадна самому Пскову, які хацеў выйсці з-пад улады Ноўгарада.

Ідзе барацьба за ўплыў ВКЛ на Смаленск і Бранск. Смаленск выступае саюзнікам Гедыміна.

Русь Маскоўская і Русь Літоўская абрасталі землямі і няўмольна набліжаліся межамі. Ужо ў першай палове XIV ст. адбываліся першыя, пакуль яшчэ невялікія сутычкі паміж імі: паход Івана Каліты на саюзны Літве Смаленск, напад Альгерда на Мажайск у 1341 г., але час адкрытага сутыкнення дзяржаў яшчэ не прыйшоў. Ён набыў характар адкрытай барацьбы за валоданне "усёй Руссю" пры нашчадках Каліты і Гедыміна. Прычым адзіным палітыкам, здоль-

ным у той момант рэальна выставіць такую задачу, будзе сын Гедыміна Альгерд. Аб'ектыўна ён імкнуўся рэалізаваць грандыёзны план адраджэння Старажытнарускай дзяржавы ў ранейшых і яшчэ большых межах.

У Гедыміна было сем сыноў. Два з іх - Альгерд і Кейстут - аказалі найбольшы ўплыў на нашу гісторыю.

### Дзяржаўная дзейнасць Альгерда. Вільня як цэнтр аб'яднання зямель былой Кіеўскай Русі

Яшчэ пры жыцці Гедымін падзяліў дзяржаву паміж сваімі сынамі. Больш за ўсіх пашанцавала Яўнуту. Менавіта ён, слабы і нерашучы, атрымаў вялікакняжацкую пасаду. Альгерд павінен быў задаволіцца Крэўскім і Віцебскім княствамі, а Кейстут-княствамі Трокскім, Жамойцкім, Берасцейскім і Гарадзенскім. Паміж уладарамі адразу ж успыхнула рознагалоссе. Вось што піша аб падзеях тых часоў *"Летапіс вялікіх князёў літоўскіх": "Альгерд, бацька караля (Ягайлы), і Кейстут, бацька вялікага князя Вітаўта, жылі ў вялікай дружбе і любові. І не спадабалася ім, што вялікі князь Яўнут так узвысіўся, і змовіліся паміж сабою..., як бы яго адтуль (з Вільні) выгнаць, а каму-небудзь з іх сесці на яго месца, і, змовіўшыся паміж сабою, яны выбралі пэўны час, калі б да Вільні прыгнаць і заняць горад пад братам, вялікім князем Яўнутам ".* Адбылося гэта ў **1345 г.,** калі браты, напаўшы на Вільню, пакінулі слабага і недарэчнага кіраўніка без дзяржаўнай улады. "І сказаў князь вялікі Кейстут брату свайму, вялікаму князю Альгерду: "Табе належыць князем вялікім быць у Вільні, бо ты старэйшы брат, а я з табою заадно жыву".

Фактычна браты з'уляліся суправіцелямі. Яны размежавалі "сферы ўплыву" і інтарэсы. Кейстут, кіруючы Жамойцю і Трокамі, узяў на сябе барацьбу з крыжацкім націскам, у чым меў зНачныя поспехі. Абвешчаны вялікім літоўскім **князем Альгерд (1345-1377 гг.)** займаўся усходняй і паўднёвай палітыкай. Кейстут бараніўся - Альгерд наступаў. Але абодва яны выконвалі агульную задачу - захаванне, умацаванне і пашырэнне Вялікага княства Літоўскага. Яны змаглі зберагчы рэдкую для палітычных дзеячаў якасць - шчырую братэрскую любоў. У той час, як Кейстут надзей-

на ахоўваў заходнюю мяжу, Альгерд працягваў справу бацькі - збіранне рускіх зямель. Яўнуту яны далі Заслаўе. Праўда, той палічыў за лепшае ўцячы ў Маскву, але праз два гады вярнуўся назад.

Палітычная кар'ера Альгерда пачалася тады, калі ён ажаніўся на віцебскай князёўне Марыі і пасля смерці цесця ў **1320 г**. быў прыняты віцеблянамі на княжанне. Разам з бацькам ён вёў барацьбу супраць крыжакоў, наступаў на рускія землі на ўсходзе. Як кіраўніка дзяржавы Альгерда вызначалі мужнасць і шырыня палітычных поглядаў. Ён *"не столькі сілаю, колькі ўмельствам ваяваў", - сведчыць летапіс.*

Пры Альгердзе Вялікае княства Літоўскае выступіла з палітычнай праграмай аб'яднання, збірання ўсіх рускіх зямель і абвясціла сябе пераемнікам духоўных і культурна-гістарычных традыцый старажытнай Русі. У 1358 г. ён адкрыта абвяшчае сваю палітычную праграму, заявіўшы паслам германскага імператара, што "ўся Русь павінна належаць Літве". У **1359 г.,** пасля смерці былога літоўскага саюзніка Івана Смаленскага, Альгерд адхапіў ад Смаленскага княства ледзь не палову - усё Пасожжа з Мсціславам. Хутка ён пасягне і на непасрэдныя ўладанні Залатой Арды - на ардынскія правінцыі на Украіне. Напачатку Альгерд лічыў, што зможа перамагчы Маскву і тым самым спыніць *аб'яднаўчую* палітыку, з якой яна, у параўнанні з ВКЛ, значна спазнілася. Ён прыступіў да тактыкі знясільвання Масквы праз падтрымку міжусобнай барацьбы з ёю, якую вялі рускія княствы.

Больш як удвая павялічыў князь тэрыторыю дзяржавы, пашырыў яе межы далёка на поўдзень і на ўсход. Ён далучыў да яе большую частку Украіны, землі на ўсходзе Белай Русі - на Дняпры і Сожы, частку заходніх зямель сучаснай Расіі..

Яшчэ будучы віцебскім князем, Альгерд спрабаваў падпарадкаваць сваёй уладзе Пскоў. У 1377 г. жыхары Пскова прынялі на княжанне сына Альгерда Андрэя Полацкага. Неўзабаве пасля ўзыходжання на вялікае княжанне ён імкнецца ўмацаваць свае пазіцыі ў Ноўгарадзе, але беспаспяхова. Як у Пскове, так і ў Ноўгарадзе існавалі так званыя літоўская і маскоўская партыі, перамогі якіх ва ўзаемнай барацьбе вызначалі кірунак палітыкі і арыентацыю гэтай зямлі. У 1352 г. Альгерд далучыў да ВКЛ Валынь, у 1355 г. —

Бранскае княства. У арбіце палітычнага прыцягнення Літвы апынуўся Смаленск. У 1350 - 1360-ыя гады Альгерд вёў барацьбу з Польшчай за Валынь і Падляшша.

За два дзесяцігоддзі да Дзмітрыя Данскога Альгерд атрымаў шэраг выдатных перамог над мангола-татарамі і вызваліў з-пад ханскай улады многія рускія землі. Выкарыстаўшы аслабленне Залатой Арды ў выніку барацьбы розных феадальных груповак, Альгерд зрабіў наступ на поўдзень і ў 1361-1362 гг. падпарадкаваў Кіеўскае і Чарнігава-Северскае княствы.

Кіеўская зямля ў XIV ст. не была падобнай на багатае і магутнае княства IX-XI стст. Яна была дашчэнту зруйнавана феадальнымі ўсобіцамі і набегамі паўднёвых стэпнякоў - спачатку полаўцаў, потым татар. Зніклі слава і багацце кіеўскага князя. Ён зрабіўся адным з дробных паўднёвых князькоў, які да таго ж ледзь-ледзь трымаўся на прастоле. І ён прызнаў над сабой вярхоўную ўладу больш магутнага паўночнага суседа.

Разам з Кіеўскім княствам у **60-ыя гады XIV ст.** у склад ВКЛ увайшлі Брагінская і Мазырская воласці, падпарадкаваныя Кіеву. Гэта былі апошнія з беларускіх зямель, далучаныя да Літвы. Яшчэ ў 50-ыя гады XIV ст. да ВКЛ перайшлі беларускія землі па Бярэзіне, сярэдняму Падняпроўю і Сожу з гарадамі Мсціслаў, Прапойск, Чачэрск, Рэчыца.Такім чынам, **пры Альгердзе завяршылася аб'яднанне тэрыторыі сучаснай Беларусі ў складзе ВКЛ.**

У 1363 (1362) г. адбылася бітва з татарамі на Сініх Водах (цяпер рака Сінюха, прыток Паўднёвага Буга), якая карэнным чынам змяніла лёс украінскага народа. Нягледзячы на колькасную перавагу, татары былі разбіты і пакінулі на месцы бітвы шмат забітых і палонных, уцяклі на паўднёвы ўсход. Украінскі гісторык Ф.М. Шабульда назваў гэту бітву "пралогам да Данскага пабоішча". **У пагоні за пераможанымі татарамі Альгердавы воі дайшлі аж да паўночных берагоў Чорнага мора.** Украінскія землі: Валынь і Падолле, вызваленыя ад ардынскага іга, ўвайшлі ў склад ВКЛ. Яны ўрэшце атрымалі магчымасць нармальнага эканамічнага і культурнага развіцця. З зямель былой Кіеўскай Русі практычна ўся паўднёва-заходняя палова ўвайшла ў склад ВКЛ.

Альгерд праводзіў прадуманую і паслядоўную "ўсходнюю" пал-

ітыку. З мэтай умацавання свайго ўплыву на ўсходзе ў 1349 г. аўдавелы князь узяў сабе ў жонкі цвярскую князёўну Ульяну. Ён падтрымліваў цесны саюз з Цверру, дапамагаў ёй у барацьбе з Масквой. Альгерд аб'яднаў пад сваёй уладай большую частку гістарычнай Кіеўскай Русі і рэальна прэтэндаваў на завяршэнне гэтага працэсу на ўсходзе. Здавалася б, лідэрства на Русі назаўсёды перайшло да Гедымінавічаў. У саюзе з Цверру Альгерд спрабуе замацаваць свой поспех у "вотчыне" асноўнага саперніка.

Убачыўшы рэальную пагрозу сваім пазіцыям у Паўночна-Усходняй Русі, узмацнелая Масква імкнецца перашкодзіць пашырэнню літоўскага ўплыву. Не ў стане ўступіць у адкрытую барацьбу з самім Вялікім княствам Літоўскім, яна паспрабавала аслабіць саюзніка Альгерда — Цвер. Менавіта ў падтрымку Цверы Альгерд у **1368 г.** арганізуе першы паход на Маскву. Ён разбіў маскоўскае войска на Строшыне, узяў шмат палонных і некалькі дзён стаяў аблогай ля Масквы. "Хроніка Літоўская і Жамойцкая" апавядае пра гэта наступнае: *"...Знакаміты слаўным рыцарствам Дзмітрый, вялікі князь маскоўскі, задумаў сілай забраць Кіеўскае, Віцебскае і Полацкае княствы, што пад Літвою. Паслаў да Альгерда паслоў з голым мячом і агнём, абяцаючы яго ў Вільні на Вялікдзень прывітаць чырвоным яйкам, а Літву ўсю агнём і мячом зваяваць і паказаць сілу і перавагу сваю. Гэтую пахвальбу Альгерд выслухаў і, параіўшыся з Кейстутам, братам сваім, і іншымі княжатамі, затрымаў у сябе тых паслоў а сам адразу паспалітае войска ва ўсіх панствах Вялікага княства Літоўскага і Рускага заклікаў, каб збіраліся пад Віцебск.*

*..А калі прыйшоў пад Маскву, ...паслоў маскоўскіх адправіў даўшы ім агонь запалены, з наказам аддаць свайму пану і сказаць: маўляў Альгерд не такі ганарысты, таму апярэджвае яго і выказвае пашану, не жадаючы, каб ён так далёка ехаў у Вільню. Маўляў, сам я ў ягонай Маскве буду...*

І на світанку прыйшоў пад горад і стаў абозам на Паклоннай гары. Вялікі князь маскоўскі Дзмітрый, пачаў перамовы аб міры, абяцаў даць усяму войску літоўскаму плату са сваёй казны.

*Пасля доўгіх перамоў згадзіўся Альгерд на яднанне і перамір 'е, аднак пажадаў з часткай рыцарства літоўскага і панамі знатней-*

*шымі ў замак Маскоўскі ўзброенымі заехаць і дзіду сваю аб сцяну замкавую скрушыць... "* Уехаўшы ў Маскоўскі замак, Альгерд прыставіў сваю дзіду да яго сцяны і сказаў Дзмітрыю Іванавічу: *"Княжа вялікі маскоўскі, памятай, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою ".* А потым "з вялікай славай", учыніўшы граніцу па Мажайск і Каломны, дамоў ад'ехаў.

Паходы на Маскву - "літоўшчыны", як там празвалі гэтыя ўварванні, - былі паўтораны ў 1370 і 1372 гг. У іх удзельнічалі таксама Кейстут і яго сын Вітаўт, смаленскі князь. Аднак, нягледзячы на знешні эфект, задума падчыніць Маскву не ўдалася.

Альгерд вымушаны быў прызнаць вотчынныя правы нашчадкаў Каліты на Уладзімірскае княжанне, г.зн. падзяліў з імі Русь. Грандыёзны намер Альгерда адраджэння Старажытнарускай дзяржавы сутыкнуўся з супраціўленнем ўсходніх княстваў, аб'яднаных вакол Масквы. Але спробы маскоўскіх вялікіх князёў перашкодзіць аб'яднанню беларускіх зямель былі сарваны.

Варта зазначыць, што ўсе папярэднія дзесяцігоддзі і нават стагоддзі гісторыя ўзаемаадносін Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай Русі разглядалася з масквацэнтрычных пазіцый. І да гэтага часу большасць рускіх гісторыкаў перакананы, што насельніцтва беларускіх і ўкраінскіх зямель падзяляла менавіта маскоўскую праграму аб'яднання і з нецярпеннем чакала моманту, калі "чужаземная" (літоўская) ўлада зменіцца маскоўскай. Далучэнне зямель і княстваў да маскоўскіх уладанняў заўсёды лічылася з'явай глыбока прагрсіўнай. Маскоўскія князі паўставалі са старонак іх твораў як збіральнікі, а літоўскія князі - як чужаземныя заваёўнікі. Гістарычная навука доўгі час не прызнавала Наваградак, а за ім Вільню як адзін з патэнцыяльных цэнтраў аб'яднання зямель былой Кіеўскай Русі. Між тым яшчэ ў 60 - ыя гады XX ст. І.Б. Грэкаў паказаў, што і Вялікае княства Літоўскае, і Вялікае княства Маскоўскае фактычна выступалі з адной праграмай - праграмай аб'яднання ўсіх усходнеславянскіх зямель. Нядаўна і беларуская гістарычная навука зламала ранейшую гістарыяграфічную схему.

На захадзе даволі паспяхова дзейнічаў Кейстут. На кожны паход крыжакоў ён адказваў спусташальнымі *ўварваннямі* ў Прусію. Штогод, а то і па некалькі разоў на год, нападалі яны на ВКЛ,

спусташалі землі Панямоння і Падзвіння, Жамойці. Неаднаразова яны абрушваліся і на Гарадзен. На працягу 1345—1377 гг. прускія і лівонскія крыжакі зрабілі сюды каля 100 рэйдаў. У адказ Кейстут і Альгерд з беларускімі, смаленскімі і валынскімі палкамі некалькі разоў нападалі на Лівонію, даходзілі аж да Юр'ева (сучасны Тарту, Эстонія), змаглі разбіць нямецкую крэпасць Каралевец (Кенігсберг). У 1345—1382 гг. літоўскае войска зрабіла 30 паходаў на Прусію і 10 - ў Лівонію.

Усё сваё жыццё Альгерд з прыхільнасцю ставіўся да хрысціян. У розных гарадах княства пры ім было заснавана некалькі праваслаўных цэркваў і каталіцкіх касцёлаў. Паводле летапісаў, сам князь незадоўга да смерці прыняў праваслаўную веру.

Альгерд хацеў зрабіць княства не толькі наймагутнейшай дзяржавай Еўропы, але адначасова і асяродкам праваслаўнай царквы. Ужо Віцень пачаў хадайнічаць перад канстанцінопальскім патрыярхам аб зацвярджэнні Літоўскай мітраполіі і прызначэнні мітрапаліта, але заўчасная смерць перашкодзіла яму завяршыць гэту важную для дзяржавы справу. *Яна* была здзейснена ў пачатку княжання Гедыміна. Першы літоўскі мітрапаліт Феафіл, з грэчаскага духавенства, у хуткім часе памёр. Кіева-маскоўскі мітрапаліт Феагност пры падтрымцы маскоўскага князя Івана Каліты пераканалі патрыярха закрыць Літоўскую мітраполію з-за малай колькасці хрысціян (што не адпавядала рэчаіснасці).

Альгерд вяртаецца да старой ідэі падпарадкавання ўплыву вялікага князя літоўскага царкоўнай іерархіі. У дзяржаўныя планы Альгерда ўваходзіла стварэнне асобнай мітраполіі для ВКЛ. Ён папрасіў у канстанцінопальскага патрыярха дазволу на заснаванне (аднаўленне) праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Наваградку. Падобная просьба прыйшла ў Канстанцінопаль і ад маскоўскага князя. Жадаючы задаволіць абодвух, патрыярх дазволіў заснаваць Літоўскую мітраполію з рэзідэнцыяй у Наваградку і Маскоўскую з цэнтрам у Кіеве і Уладзіміры. *Напружанне, што ўзнікла тады ў царкоўным жыцці, паклала пачатак доўгатрываламу сапернiцтву ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай за лідэрства ў царкоўнай сферы,* а пасля і за палітычную ўладу ва Усходняй Еўропе. На нанава створаную Літоўскую мітраполію Альгерд дамагаецца прызначэння

свайго кандыдата - цверыча Рамана. Яму былі падпарадкаваны Полацкая, Тураўская епархіі, Галіцка-Валынская зямля. Нейтралізацыя царкоўна-палітычнага ўплыву Масквы ў гэтым рэгіёне ўзмацняла тут пазіцыі Альгерда.

Альгерд памёр у 1377 г. Па адных звестках, ён быў пахаваны ў царкве ў Вільні; па другіх — спалены на вогнішчы разам з 18-цю баявымі коньмі.

Такім чынам, на працягу сярэдзіны XIII - трэцяй чвэрці XIV ст. з малога і няўстойлівага княства ў Панямонні вырасла магутная еўрапейская дзяржава, з якой вымушаны быў лічыцца Нямецкі ордэн, мангола-татарская Арда і іншыя магутныя суседзі. У яе складзе апынулася даўняя сталіца Старажытнай Русі — горад Кіеў - і большая частка яе былых зямель. Да 70-х гадоў XIV ст. у склад ВКЛ увайшла практычна ўся беларуская зямля. **Большасць яе гарадоў і княстваў уваходзіла ў склад новай дзяржавы добраахвотна,** кіруючыся, найперш, ваенна-палітычнай мэтазгоднасцю. У стварэнні ВКЛ дамініруючую ролю адыгрывалі палітычныя прычыны. Фарміраванне дзяржавы і ўключэнне ў яе склад новых зямель адбывалася рознымі шляхамі: шляхам пагадненняў, заключэння шлюбных саюзаў. Мела месца і гвалтоўнае падпарадкаванне зямель.

Паралельна са стварэннем ВКЛ, але з некаторым спазненнем ішло фарміраванне Маскоўскай дзяржавы. Цвер, Разань, Ноўгарад і іншыя буйныя гарады ўсходняй Русі былі далучаны да яе гвалтоўна, але гэта не змяншае гістарычнай ролі Масквы ў кансалідацыі рускіх зямель. Аналагічную ролю адыгрывалі беларускія гарады Наваградак, а потым Вільня.

ВКЛ склалася як федэрацыя асобных зямель і княстваў. Ступень іх залежнасці ад цэнтральнай улады была рознай. Аднак ім у большай ці меншай ступені была забяспечана значная ўнутраная аўтаномія, недатыкальнасць сацыяльна-эканамічных і палітычных структур, што склаліся ў папярэдні перыяд. Вялікі князь прысвойваў сабе частку феадальнай рэнты, што належала яму как сюзерэну. Многія землі, прызнаўшыя над сабой уладу літоўскіх князёў, захоўвалі "старыну". Фактычна мяняліся толькі правіцелі, месца прадстаўнікоў мясцовых дынастый, як правіла, займалі прыбліжаныя і родныя вялікіх князёў.

Узнікшая дзяржава была федэрацыяй народаў Прыбалтыкі, Беларусі, Украіны і Расіі. Гэта падкрэслівалася ў яе назве - Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Яна паўстала як балтаўсходнеславянская дзяржава са значнай перавагай. усходнеславянскай тэрыторыі, насельніцтва, сацыяльных, эканамічных і культурных традыцый. Больш высокі ўзровень развіцця феадальных адносін, багатыя культурныя традыцыі дазволілі ўсходнім славянам - рускім, русінам - не толькі поўнасцю захаваць сваю самабытнасць, але і аказаць істотны ўплыў на балтаў: яцвягаў, дайнову, літву, якія прымалі славянскія звычаі, мову, пісьменнасць, хрысціянскую рэлігію. Пастунова ішла славянізацыя літоўскіх зямель, якая працягвалася некалькі стагоддзяў. У часы Гедыміна і Альгерда ВКЛ мела выразна акрэсленую праўсходнеславянскую накіраванасць. Яно было сфарміравана на 9/10 з усходнеславянскіх тэрыторый і на 8/10 з усходнеславянскага насельніцтва.

Аб'яднанне ў адзіную дзяржаву дапамагло увайшоўшым у яе склад землям і народам выстаяць у барацьбе з крыжацкай агрэсіяй і мангола-татарскай навалай і не падпасці пад уладу чужаземцаў, як гэта здарылася з іх суседзямі - народамі сучаснай Латвіі, Эстоніі, паўночнай Польшчы, Расіі.

## ЛЕКЦЫЯ 14

# ШЛЯХ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ДА ПАЛІТЫЧНАГА ЛІДЭРСТВА ВА УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ

- *Дынастычная барацьба. Крэўская унія. Востраўскае пагадненне.*
- *Унутраная і знешняя палітыка Вітаўта.*
- *"Вялікая вайна" супраць Ордэна. Грунвальдская бітва*

## Дынастычная барацьба. Крэўская унія. Востраўскае пагадненне

Смерць Альгерда парушыла палітычную раўнавагу ў ВКЛ. Паміж прадстаўнікамі вялікакняжацкай сям'і пачынаецца барацьба за ўладу. Штуршком для яе стала заняцце вялікакняжацкага пасада малодшым братам у абыход старэйшых.У свой час Альгерд быў жанаты два разы: першы раз на Марыі Віцебскай, другі - на Ульяне Цверскай. Ад адной і другой жонак было ў яго 12 сыноў. Пры яго жыцці яны атрымалі ўдзелы ў розных частках краіны, і на гэтым трымалася палітычнае адзінства вялікай дзяржавы. Аднак паміж гэтымі дзвюма галінамі Альгердава роду ішло саперніцтва. Пасля яго смерці, насуперак традыцыі, паводле якой спадкаёмцам павінен быў стаць старэйшы сын ад першай жонкі Андрэй, вялікім князем быў абвешчаны старэйшы сын ад другой жонкі Ягайла. Чаму Альгерд аб'явіў сваім спадкаёмцам не Андрэя, а Ягайлу - гэта адна з загадак гісторыі. Даследчыкі бачаць у гэтым вынік інтрыг другой Альгердавай жонкі - Ульяны, якая прагнула бачыць уладаром Вялікага княства свайго сына Ягайлу.

Ягайла не стаў пераемнікам Альгерда ў аб'яднанні ўсіх рускіх зямель вакол Вільні. Гэта тлумачыцца ўнутрыпалітычнымі супярэчнасцямі (дынастычнай барацьбой за вялікакняжацкі трон з родным братам полацкім князем Андрэем Альгердавічам) і складаным знешнепалітычным становішчам (актывізацыя захопніцкай палітыкі Ордэна, абвастрэнне адносін з Маскоўскім княствам).

Супраць завяшчання Альгерда выступілі старэйшыя браты Ягайлы. У краіне ўспыхнула барацьба за ўладу. Ягайла звярнуўся за

дапамогай да татар і крыжакоў.У Тэўтонскім ордэне пільна назіралі за падзеямі ў Літве. Палітычны крызіс у княстве адкрываў магчымасць для інтрыг, якія маглі яшчэ мацней штурхнуць Літву ў полымя міжусобіцы.

Праціўнікаў Ягайлы ўзначаліў полацкі князь Андрэй, найболын незадаволены размеркаваннем улады, які шукаў падтрымкі ў паўночнай і ўсходняй Русі. Не прыняўшы клятвы новаму гаспадару, ён адпраўляецца за падтрымкай у Пскоў. Там яго чакае расчараванне. Пскоў, аслаблены вайной з крыжакамі, не рашаецца падняць зброю на ВКЛ. Тады шлях Андрэя Полацкага ляжыць у Маскву да Дзмітрыя Іванавіча, які стане вядомы пазней як Дзмітрый Данскі. Маскоўскі гаспадар не забыўся, як Альгерд разам з Андрэем ударылі кап'ём у браму Масквы. І вось Андрэй перад ім. Дзмітрый прыняў яго і ў надзеі распаліць вогнішча міжусобнай барацьбы ў ВКЛ абяцаў падтрымку. Аднак на сур'ёзную вайну з літоўскай дзяржавай ён не адважыўся: *"Мамай яростю дышит на всех нас ".* Мы не маем ніякіх сведчанняў аб намеры князя Дзмітрыя дапамагаць Андрэю ў змаганні з Ягайлам. Затое маскоўскі князь выкарыстоўвае яго вайсковы вопыт.

Андрэй, адкрыта стаўшы прыхільнікам Маскоўскай Русі, прыняў удзел у яе барацьбе супраць мангола-татар. У 1378 г. ён дапамагае маскоўскаму князю разбіць іх полчышчы на рацэ Вожы. Як сведчыць "Хроніка літоўская і жамойцкая" ён прывёў "войска вялікае" на Кулікова поле. Са сваёй дружынай прышоў і яго родны брат Дзмітрый Бранскі. Іх стрыечны брат Дзмітрый Баброк-Валынскі стаяў на чале засаднага палка, які практычна вызначыў зыход бітвы на карысць рускіх войск. Перад самай бітвай маскоўскі князь правёў нараду, на якой Андрэй Полацкі прапанаваў перайсці Дон: *"Аше пребудем зде, слабо будет воинство, аще мы на ону сторону Дона переведемся, крепко и мужественно будет".* Дзмітрый згадзіўся з довадамі полацкага князя, і войска пераправілася цераз Дон. І ў далейшым Дзмітрый прыслухоўваўся да парад Андрэя.

8 верасня 1380 г. *"...соступишеся обе силы великия на бой и бысть брань крепка и сеча зла зело... ". Андрэй камандаваў палком правай рукі, які адбіў усе атакі татараў, вымусіў ворага адступіць, чым спрыяў агульнай перамозе рускіх войск. "О соловей,*

*летняя птица, вот бы тебе, соловей, пеньем своим прославить велиого князя Дмитрия Ивановича, князя Владимира Андреевича, и из земли Литовской двух братьев Ольгердовичей, Андрея и брата его Дмитрия, да Дмитрия Волынского. Те ведь - сыновья Литвы храбрые, кречеты в ратное время и полководцы прославленные, под звуки труб и пеленали, под шлемами лелеяли, с конца копья они вскормлены, с острого меча вспоены в Литовской земле ".* Вось так узнёсла ўсхваляў героям Кулікоўскай бітвы аўтар "Задоншчыны".

Наяўнасць беларускіх дружын у войску Дзмітрыя Данскога мела і палітычнае значэнне. Справа ў тым, што на адлегласці аднаго пераходу ад Кулікова поля знаходзіўся саюзнік Мамая - Ягайла, які з дапамогай Залатой Арды намерваўся атрымаць ярлык на вялікае княжанне Маскоўскае, са сваёй літоўска-рускай дружынай. Ён так і не наважыўся ўдзельнічаць у бітве. Можна толькі згадвацца, чаму Ягайла кінуў на волю лёсу свайго ардынскага саюзніка, хоць нічога не перашкаджала прыйсці на дапамогу Мамаю. Хутчэй за ўсё ён ухіліўся ад бою свядома. Можа ён сутыкнуўся з моцнай апазіцыяй ва ўласным войску, у значнай частцы праваслаўнай, якая спачувала барацьбе сваіх аднаверцаў супраць татар. Паўплывала на іх і прысутнасць у маскоўскім войску літвінаў на чале з Андрэем Полацкім - ніхто не хацеў запляміць рукі крывёю братоў. Можа быць, і сам Ягайла не быў шчыры, абяцаючы Мамаю падтрымку, і свядома марудзіў, даючы магчымасць Дзмітрыю Данскому атрымаць перамогу. І ці не сам Ягайла справакаваў Мамая на гэты паход, каб аслабіць Маскву чужымі рукамі? Але хутчэй за усё вялікі князь літоўскі чакаў, на чый бок схіліцца поспех, каб не апынуцца ў пройгрышы. Ва ўсякім выпадку, паход Ягайлы прадэманстраваў яго неразважлівасць і наўрад ці дадаў яму славы.

Ваенны трыумф Масквы рэзка ўзвысіў яе аўтарытэт на землях ВКЛ, прымусіў Ягайлу шукаць сяброўства з Дзмітрыем. **Тады ўзнік праект саюза Масквы і Вялікага княства Літоўскага.** Ён прадугледжваў хрышчэнне Ягайлы ў праваслаўе і яго жаніцьбу на адной з дачок Дзмітрыя Данскога. Тады, у 1380-1381 гг., лёс Вялікага княства Літоўскага і Рускага, ды і ўсёй Русі, мог павярнуцца зусім інакш. Паход Тахтамыша і спаленне Масквы ў 1382 г. на цэлае стагоддзе адсунулі канчатковае звяржэнне Руссю ардынскага

іга. Звестка пра сакрушальнае паражэнне Масквы вынудзіла Ягайлу шукаць новых саюзнікаў і адмовіцца ад праекта, які мог бы стаць паваротным момантам у лёсе ўсёй Усходняй Еўропы.

Пасля Кулікоўскай бітвы Андрэй вярнуўся ў Полацк. А туды ўжо меціў Ягайлаў брат Скіргайла. Скарыстаўшы адсутнасць полацкага князя, ён з'явіўся ў горадзе. Палачане ветліва сустрэлі свайго госця, але калі даведаліся, што той квапіцца на полацкі пасад, абурыліся і, пасадзіўшы на каня задам наперад, з ганьбай выправадзілі за браму. Гэты бунт у Полацку, калі гараджане выгналі прысланага ім князя, адбыўся ў **1381 г.**

За спінаю Скіргайлы стаяў Ягайла, які марыў чужымі рукамі расправіцца са сваім палітычным праціўнікам. Ён даў войска брату і паслаў яго заваёўваць Полацк. Разам са Скіргайлам пашукаць удачы ў крывіцкіх землях выправіліся і крыжакі. 11 дзён аб'яднанае войска трымае Полацк у аблозе, але так і не авалодала ім. А калі крыжакі вярнуліся да сябе, палачане пад кіраўніцтвам свайго князя Андрэя разбілі дружыну Скіргайлы. На гэтым барацьба з Ягайлам не спынілася, але ў рэшце рэшт Андрэй быў вымушаны пакінуць Полацк і зноў шукаць падтрымку ў Дзмітрыя Данскога. Але яго зноў чакала расчараванне.

Яшчэ ў той час, калі Андрэй шукаў падтрымку ў паўночнаўсходняй Русі, малодшы Альгердаў брат, Кейстут, які карыстаўся вялікай папулярнасцю ў княстве і меў падтрымку на Берасцейшчыне, Гарадзеншчыне і Жамойці, здолеў паланіць Ягайлу і абвясціў сябе вялікім князем. Аднак выкарыстаўшы ўдзел Кейстута ў вайне з Псковам, Ягайла зрабіў пераварот, заняў Вільню і Трокі, а затым хітрасцю заманіў Кейстута з сынам Вітаўтам у Крэва (зараз Ашмянскі раён Гродзенскай вобласці), вераломна схапіў іх там і пасадзіў у турму. Стары Кейстут быў задушаны падасланымі забойцамі. Так трагічна закончылася жыццё гэтага палітыка, паспрабаваўшага заняць вядучае месца ў дзяржаве. Вітаўту ўдалося ўцячы. Паданне кажа, што ўцёк ён з палону, пераапрануўшыся ў жаночаю вопратку, якую даставіла яму жонка Ганна.

З 1382 г. пачынаецца актыўная палітычная дзейнасць **Вітаўта (1350—1430)**. Каб адпомсціць забойцу бацькі, ён аддаецца пад заступніцтва нядаўняга ворага - Тэўтонскага ордэна, заключае з ім

саюз, паводле якого абавязаўся прыняць каталіцтва, быць васалам Ордэна і нават аддаць яму Жамойцію. Крыжацкая дапамога аплачвалася дарагой цаной. Зноў запалалі гарады і вёскі ў ВКЛ. Пад выглядам дапамогі рыцары імкнуліся да падпарадкавання дзяржавы. Вітаўт своечасова зразумеў гэта і пайшоў на прымірэнне з Ягайлам, за што той вяртае яму Бярэсце, Гародню, Падляшша.

Барацьба за ўладу працягвалася. Андрэй Полацкі па-ранейшаму прад'яўляў свае правы на прастол. Нягледзячы на высокую пасаду, становішча Ягайлы заставалася хісткім: сапернікі - браты, татары, крыжакі і маскоўскія князі не збіраліся складаць зброю. Ягайла вымушаны быў шукаць шляхі да пагаднення з суседзямі. У 1380 г. была заключана дамова з Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі, па якой Жамойція адыходзіла да крыжакоў, што дало перадышку.

Ягайлу, які бачыў сваю непапулярнасць, неадкладна трэба было шукаць апоры па-за межамі сваёй дзяржавы. І тут падзеі ў Польшчы надалі гісторыі ВКЛ зусім іншы напрамак. У 1382 г. там памёр кароль Людовік, які не пакінуў пасля сябе мужчынскага патомства. Пасля двухгадовых спрэчак польская знаць абвясціла каралевай яго 10-гадовую дачку Ядвігу, якая, зразумела, сама не магла кіраваць дзяржавай. Трэба было знайсці такога чалавека для Ядвігі, які б быў не столькі прыемным для яе, колькі карысным для Польшчы. Пад націскам Ватыкана, які баяўся стварэння на ўсходзе Еўропы магутнага праваслаўнага бастыёна, Польшча згадзілася аддаць каралеўскі трон Ягайлу ў абмен на каталіцкую Літву з далейшым прыцэлам на акаталічванне ўсходнеславянскіх зямель Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

І вось у той заблытанай сітуацыі Ягайла ўключаецца ў гульню. Вельмі зручнай для яго з'явілася тая акалічнасць, што ў трыццаціпяцігадовым узросце ён не быў яшчэ жанаты - гэта дазваляла выступіць прэтэндэнтам на польскую карону. Даволі значнай частцы польскай знаці, асабліва антыгерманскай партыі, гэта кандыдатура здалася ці не найлепшай. У Польшчы і ВКЛ меўся агульны вораг - Тэўтонскі ордэн, які закрываў абедзвюм дзяржавам выхад у Балтыйскае мора і пастаянна пагражаў іх інтэрэсам. Аб'яднаўшы сілы, можна было б ставіць пытанне ўжо не толькі пра стрыманне ордэнскай агрэсіі, але і пра пераход у контрнаступленне. Дынастычная

унія Польшчы і Літвы абяцала і зняцце застарэлага пытання аб спрэчнай Галіцка-Валынскай Русі. Княству гэты саюз дапамог бы выйсці з палітычнага крызісу, звязанага з дынастычнай барацьбой за спадчыну Альгерда.

Як сцвярджае маскоўскі даследчык С.В. Думін, у 80-ыя гады XIV ст. існавалі і былі рэальнымі два шляхі развіцця дзяржавы Гедымінавічаў: у саюзе з Маскоўскай Руссю і ў саюзе з Польскім каралеўствам. Стаўшы зяцем Дзмітрыя Данскога, вялікі князь літоўскі і рускі Якаў Альгердавіч (так, згодна з пагадненнем павінен быў называцца Ягайла) хутка зацвердзіў бы ў Літве праваслаўе, як некалькі гадамі пазней ён правёў хрышчэнне Літвы па каталіцкаму абраду. Жаніцьба на юнай польскай каралеве Ядвізе, абяцанне ахрысціць Літву ў каталіцтва і далучыць яе да ўладанняў польскай кароны рэзка змянілі сітуацыю ў ВКЛ. Вынік выбару, зробленага Ягайлам у 1385 г., у поўнай меры адчулі яго пераемнікі ў XV ст., калі канфлікт паміж Літоўскай Руссю і Руссю Маскоўскай паступова пачаў набіраць не толькі палітычнае, але часткова і рэлігійнае адценне.

Мы бачым шарахание Ягайлы паміж Усходам і Захадам, паміж праваслаўем і каталіцтвам. Пасля няўдалай спробы разыграць усходнюю карту ён кідае свой позірк на Захад.

Тады ж, у першай палове 80-х гадоў XIV ст., склаліся ўмовы, якія падрыхтавалі глебу для палітычнага аб'яднання (уніі) Польшчы і ВКЛ. Перш за ўсё абедзвюм дзяржавам пагражаў адзін і той жа вораг - Тэўтонскі ордэн. У канцы XIV ст. яго агрэсія супраць ВКЛ і Польшчы рэзка ўзмацнілася. За перыяд 1345—1392 гг. нямецкія рыцары 96 разоў нападалі на Літву. Агульная небяспека схіляла абедзве краіны да збліжэння. Разам з тым польскія феадалы разлічвалі пашырыць свае ўладанні за кошт зямель ВКЛ. Яны былі перакананы, што Ягайла ў падзяку за сваё абранне пашырыць правы і прывілеі. Каталіцкае духавенства спадзявалася, што шлюб Ядвігі з Ягайлам пашырыць іх рэлігійна-палітычны ўплыў на ВКЛ і павялічыць іх даходы новаю дзесяцінаю, якую яны атрымаюць ад ахрышчанай Літвы. І тыя, і другія не памыліліся.

Складанае міжнароднае становішча, абвастрэнне палітычнай і дынастычнай барацьбы ў самім княстве пасля смерці Альгерда схілялі арыстакратыю дзяржавы на саюз з Польшчай.

У 1385 г. Ягайла атрымаў з Польшчы прапанову наконт шлюбу з Ядвігаю і злучэння з Польшчай. Ён з ахвотаю згадзіўся на гэту прапанову і на ўсе ўмовы, выстаўленыя яму польскім бокам. Хісткае становішча ва ўласнай дзяржаве рабіла Ягайлу згаворлівым. Умовы ж, на якіх Ягайлу пагаджаліся пусціць на трон, ставіліся даволі жорсткія: гаворка ішла ўжо не пра дынастычны саюз двух раўнапраўных дзяржаў, а фактычна пра далучэнне ВКЛ да Польскага каралеўства на вечныя часы. Ягайла, які з дапамогай уніі спадзяваўся зламаць сваіх палітычных праціўнікаў, напэўна, меркаваў, што галоўнае - атрымаць карону, а з астатнім можна разабрацца пазней.

У 1385 г. у Крэўскім замку, пабудаваным у першай палове XIV ст. Гедымінам і Альгердам, у выніку тайных перамоваў былі выпрацаваны ўмовы дзяржаўна-прававога аб'яднання ВКЛ і Польшчы. У акце Крэўскай уніі, які разам з Ягайлам падпісалі яго браты Скіргайла, Карыбут, Лугвен, а таксама Вітаўт, літоўскія князі далі абяцанне *"на вечныя часы далучыць свае землі, літоўскія і рускія, да кароны Польскай".* Акрамя таго, Ягайла абавязаўся прыняць каталіцкую веру і хрысціць Літву. Ён згадзіўся дапамагчы Польшчы адваяваць захопленыя суседнімі дзяржавамі польскія тэрыторыі, заплаціць 200 тыс. фларынаў былому жаніху Ядвігі - аўстрыйскаму прынцу Вільгельму. Польшча за ўсё гэта абяцала княству дапамогу ў барацьбе з крыжакамі. У даследчыкаў да гэтага часу выклікаюць здзіўленне і недавер прынятыя ўмовы Крэўскай уніі. Выказвалася нават думка, што яны падроблены пазней. Сапраўды, чаму Ягайла вымушаны быў згаджацца на акаталічванне насельніцтва княства? Чаму жыць ён павінен быў пры двары сваёй жонкі? Польшча настолькі ж была зацікаўлена ў уніі, як і ВКЛ. Некаторыя гісторыкі лічаць, што Ягайла здрадзіў інтарэсам княства гэтай уніяй. Але падабаецца нам сёння гэта ці не, **14 жніўня 1385 г. у Крэве быў заключаны саюз, які даў новую дзяржаўную супольнасць,** на 400 гадоў звёў польскую гісторыю з гісторыяй ВКЛ у адзінае рэчышча.

У наступныя гады асноўныя ўмовы уніі былі выкананы. Ягайла ахрысціўся з юнай каралевай і быў ганарова абвешчаны польскім каралём Уладзіславам **(1386—1434).** Сойм 1386 г. ухваліў такія ўмовы уніі: кароль і вялікі князь у злучаных дзяржавах адзін; спа-

чатку гэтая асоба ёсць Ягайла, потым прамы нашчадак ад яго шлюбу з Ядвігай; справы, што датычацца абедзвюх дзяржаў, вырашаюцца супольна. Дзяржавы захоўваюць асобныя органы ўлады, войскі і скарб. Апроч таго, як ужо было сказана, Ягайла меў абавязак шырыць каталіцтва сярод літвінаў. Беларускаму насельніцтву была пакінута свабода належаць да ўсходнехрысціянскай веры. Каталіцкае веравызнанне часткі дынастыі і літоўскага насельніцтва (Жамойція была ахрышчана пазней, пасля вызвалення ад крыжакоў у 1411 г.) не з'яўлялася неадольнай перашкодай для супрацоўніцтва жыхароў шматнацыянальнага Вялікага княства Літоўскага.

Так адбылася першая унія ВКЛ з Польшчай. Гэта была дынастычна-персанальная унія: дзве краіны злучаліся адна з адной толькі праз асобу агульнага для абедзвюх дзяржаў манарха і яго наступнікаў-нашчадкаў.

Умовы Крэўскай уніі былі на карысць толькі польскім феадалам, таму не задаволілі ні літоўскіх, ні рускіх. Яны не хацелі мірыцца са стратай дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ і палітыкай акаталічвання насельніцтва. Яе ажыццяўленне зацягнулася на доўгі час, ды і наогул адбылося далёка не ў такой форме, як таго жадалі польскія феадалы. Жыццё Вялікага княства пасля 1386 г. у аснове сваёй не змянілася. Сапраўднае зліццё дзяржаў, зразумела, адразу не магло адбыцца. Яно было абвешчана і стала на шмат гадоў своеасаблівай праграмай-максімум, надаючы польска-літоўскім адносінам пэўную афарбоўку. У наступныя часы (XV ст. 60 -ыя гады XVI ст.) унія рэанімавалася больш за 10 разоў. Акты уніі падпісваюцца ў далейшыя гады, але ўсе яны былі нетрывалыя. Перш чым на польскім дзяржаўным гербе побач з белым арлом Пястаў з'явіцца выява "Пагоні", адбудзецца яшчэ нямала бурных падзей.

Пасля 1386 г. барацьба супраць Ягайлы і яго унітарнай палітыкі распачалася ў ВКЛ з новай сілай, асабліва на беларускіх землях. Правадырамі незадаволеных спачатку сталі полацкі князь Андрэй Альгердавіч і смаленскі князь Святаслаў Іванавіч. Андрэй заключыў саюз з лівонскімі рыцарамі і ў 1386 г. разам з крыжацкай арміяй пачаў ваенныя дзеянні, заняў Полацк, Дрысу, Друю, Лукомль, а Святаслаў аблажыў Мсціслаўль, Віцебск, Оршу. Аднак Ягайлу ўдалося падавіць выступленне гэтых князёў. Войска

Скіргайлы ўзяло ў аблогу і захапіла Полацк, Лукомль і іншыя гарады. Князь Андрэй быў узяты ў палон і адпраўлены ў Польшчу. Сем гадоў трымаў яго Ягайла за кратамі ў замку Хенцін. Бліжэйшыя прыхільнікі Андрэя былі пазбаўлены маёмасці і пакараны смерцю.

Каб паскорыць ажыццяўленне уніі і ўмацаваць сваё становішча, Ягайла пад ўплывам польскай шляхты і каталіцкага духавенства ў 1387 г. выдаў прывілей, паводле якога атрымлівалі неабмежаваныя правы ўласнасці на свае зямельныя ўладанні і вызваляліся ад выканання шэрагу дзяржаўных павіннасцей феадалы ВКЛ каталіцкага веравызнання. Гэта была ў большасці сваёй знаць літоўскага паходжання. На праваслаўных феадалаў, ураджэнцаў беларускіх, украінскіх і рускіх зямель прывілей не распаўсюджваўся. Гэты дакумент сведчыў аб рэзкай пераарыентацыі ўнутранай палітыкі вялікіх літоўскіх князёў да пракаталіцкай накіраванасці. Ён выклікаў незадавальненне і сепаратысцкія "антылітоўскія" настроі ў праваслаўным асяроддзі пануючага класа. З 1387 г. фактычна мяняецца сацыяльна-прававое становішча беларускіх зямель у ВКЛ. З гэтага часу так званае "рускае" пытанне ў поліэтнічным княстве не аднойчы падымалася і выкарыстоўвалася рознымі палітычнымі дзеячамі і групоўкамі у сваіх інтарэсах.

Такія настроі выкарыстаў і гарадзенскі князь Вітаўт. Убачыўшы варожасць шырокіх колаў грамадства да уніі, якая фактычна закрэслівала самастойнасць ВКЛ, а таксама асабіста незадаволены тым, што Ягайла, будучы польскім каралём, паставіў сваім намеснікам у ВКЛ не яго, а Скіргайлу, ён зноў пачаў барацьбу з Ягайлам. У 1390 г. Вітаўт, спадзеючыся на дапамогу Масквы, дзе яго лічылі сур'ёзнай палітычнай фігурай, выдаў сваю дачку за князя Васілія Дзмітрыевіча. Заключыўшы саюз з крыжакамі, у 1390—1393 гг. Вітаўт неаднаразова з імі рабіў паходы на сваю радзіму.Хаця спробы захапіць Вільню скончыліся няўдачай, Вітаўту ўдалося заняць шэраг гарадоў (у тым ліку Гарадзен). За дапамогу ён абяцаў Ордэну Жамойцію. Пагроза ўладзе Ягайлы ў княстве была вялікай. Існавала рэальная небяспека разрыву польска-літоўскай уніі. І тады Ягайла вырашыў ахвяраваць уладай над Вялікім княствам Літоўскім , каб захаваць саюз абедзвюх дзяржаў і каралеўскі трон у Кракаве.

Трохгадовая упартая барацьба Вітаўта і Ягайлы завяршылася падпісаннем пагаднення паміж імі ў маёнтку Вострава каля Ліды 5 жніўня 1392 п, якое фактычна перакрэсліла Крэўскую дамову. Польскія феадалы і Ягайла вымушаны былі адмовіцца ад першапачатковай задумы уніі. Пагадненне гарантавала княству самастойнасць у саюзе з Польшчай. Ягайла вымушаны быў перадаць уладу ў ВКЛ Вітаўту. Саюз Літвы і Польшчы быў фактычна саюзам дзвюх раўнапраўных дзяржаў, і ВКЛ у непарушнасці захавала сваю дзяржаўнасць, суверэнітет, толькі паступова засвойваючы некаторыя польскія дзяржаўныя інстытуты і юрыдычныя нормы, прымальныя для мясцовага насельніцтва. Польскі кароль захаваў намінальную ўладу над ВКЛ (у якасці "вярхоўнага князя"), але з гэтага моманту на працягу амаль чатырох дзесяцігоддзяў у дзяржаўнага руля руска-літоўскай дзяржавы стаяў ваяўнічы сын Кейстута. Паводле слоў храніста Яна Длугаша, Ягайла прыняў гэта рашэнне, перакананы, што Вітаўт *"здольнасцямі пераўзыходзіць яго родных братоў і лепш за ўсіх падыходзіць для цяжкай задачы кіравання Літвой ".*

## Унутраная і знешняя палітыка Вітаўта

Вітаўт належыць да ліку самых выдатных дзяржаўных дзеячаў ВКЛ. Атрымаўшы ўладу ў выніку барацьбы са сваім стрыечным братам Ягайлам, ён у 1392 г. быў урачыста ўзведзены на вялікакняжацкі пасад у Кафедральным саборы ў Вільні.

Вітаўту дасталася турботная спадчына - групавыя канфлікты паміж прыхільнікамі праваслаўя і каталіцтва, зліцця з Польшчай і дзяржаўнай незалежнасці, паміж Кейстутавічам і Альгердавічам, паміж сынамі Альгерда ад розных жонак і г.д. У гэтай кругаверці прабіцца наверх і ўтрымацца там мог толькі самы таленавіты, валявы і беспрынцыпны. Такім і быў Вітаўт. Яго мараль, метады дасягнення мэты могуць выклікаць розныя пачуцці - ад захаплення да агіды. Але талентам дзяржаўнага дзеяча ён, безумоўна, валодаў, умеў трымаць сітуацыю пад сваім кантролем.

У хуткім часе супраць Вітаўта паўсталі князі: ноўгарад-северскі Дзмітрый Карыбут, Фёдар Карыятавіч Падольскі, Свідрыгайла Альгердавіч Віцебскі і Скіргайла Полацкі. Аднак яны былі перамажа-

ны Вітаўтам з дапамогай Польшчы, узяты ў палон і пазбаўлены сваіх княстваў.

Каб падарваць сілу ўдзельных валадароў, якія супраціўляліся ўзмацненню ўлады вялікага князя, Вітаўт ліквідаваў у краіне многія княствы, ператварыўшы іх у намесніцтвы. Месцы спадчынных князёў у іх занялі прызначаныя ім намеснікі, гатовыя па першаму патрабаванню выступіць з войскамі на яго баку. Гэта нанесла моцны ўдар па ўдзельнай сістэме і садзейнічала ўнутранаму ўмацаванню дзяржавы.

Але гэта не была поўная яе цэнтралізацыя, бо асобныя землі дабіліся права на атрыманне абласных прывілеяў. Былі захаваны і некаторыя ўдзельныя княствы. У канцы XIV - пачатку XV ст. у ВКЛ яшчэ не наспелі сацыяльна-эканамічныя і палітычныя ўмовы для поўнай ліквідацыі феадальнай раздробленасці, для моцнага аб'яднання дзяржавы. Аднак умацаваць яе магутнасць, узвысіць вялікакняжацкую ўладу Вітаўту ўдалося. Гэта надоўга затрымала больш цеснае аб'яднанне ВКЛ з Польшчай, чаго так настойліва дамагаліся кароль і польская шляхта.

Вітаўт прадоўжыў збіральніцкую, аб'яднаўчую палітыку сваіх папярэднікаў на ўсходнеславянскіх землях. Для пашырэння сферы свайго ўплыву ён выкарыстоўвае аслабленне Залатой Арды, бязладдзе ў паўночна-ўсходняй Русі. У першыя гады яго праўлення да ВКЛ былі далучаны асобныя воласці Смаленскай і Чарнігаўскай зямель, шэраг іншых дробных княстваў. Выкарыстаўшы міжусобіцу смаленскіх князёў, Вітаўт у 1395 г., авалодаў Смаленскам і падначаліў яго сваёй уладзе, паставіўшы ў ім свайго намесніка. Без асаблівых канфліктаў Вітаўт дамагаецца прызнання сваёй улады Ноўгарадам. Пад пратэктарат ВКЛ трапілі таксама Разанскае княства і Пскоў. Каб замацаваць выхад да Чорнага мора, Вітаўт далучыў да сваёй дзяржавы паўднёвае Падолле.У гэты час ВКЛ займала найбольшую ў сваёй гісторыі тэрыторыю - ад Нёмана і Дзвіны да нізоўя Дняпра і Днястра, да прычарнаморскіх стэпаў.

У 90-ыя гады XIV ст. Вітаўт выступіў з прапановай стварэння самастойнага, здольнага супрацьстаяць Польшчы, Руска-Літоўскага каралеўства, якое ўключала б і землі Маскоўскай Русі. Яго падтрымала праваслаўная знаць княства, незадаволеная каталіцкай экс-

пансіяй Польшчы. Саюзнікам стаў Ордэн, зацікаўлены ў пагаршэнні адносін паміж княствам і Польскай дзяржавай, а таксама татарскі эмігрант, скінуты з залатаардынскага трона хан Тахтамыш, які ў 1385 г. прыбыў у Кіеў разам з сям'ёй, прыхільнікамі і ваенным атрадам.

Яшчэ нядаўна грозны ўладар Залатой Арды, наводзіўшы на Русь жах, апынуўся тут у ролі выгнанніка. Палітычныя амбіцыі і прэтэнзіі Тахтамыша на самастойную лінію ў ардынскім "царстве" не спадабаліся яго магутнаму апекуну Цімуру (Тамерлану). І той *"прогна Тактамыша в Літву, а сам седе на царство".* Вітаўт з разуменнем сустрэў Тахтамыша, прыняў яго ветліва, як ганаровага госця, бо бачыў у перабежчыку сілу, якую збіраўся выкарыстаць у сваіх мэтах. У 1396 (1397) г. ён пасяліў хана ў Лідзе, дзе той жыў два з паловай года, валодаючы Лідскай воласцю, - "мешкал, па сведчанню *"Хронікі літоўскай і жамойцкай", в Литве зо всеми уланы и мурзы своими на Лиде ".*

З таго часу Тахтамыш стаў галоўным саюзнікам Вітаўта, які марыў стварыць незалежнае ад Польшчы "каралеўства Літоўскае і Рускае", састаўной часткай якога павінна была стаць Масковія. Але дзеля гэтага трэба было спачатку памагчы Тахтамышу вярнуцца ў Арду. У 1397—1398 гг. войска Вялікага княства Літоўскага падтрымлівала Тахтамыша ў яго барацьбе супраць "узурпатара" Цімура. Але, пераможаны, ён зноў "побежа к Литовским странам". Менавіта з тых часоў пачынаецца пасяленне на беларускіх землях татар: адны, стомленыя раздорамі ва ўласнай краіне, самі эмігравалі сюды з Арды; другія папалі ў якасці палонных, трэція запрашаліся вялікімі князямі.

У час знаходжання Тахтамыша ў княстве ў 1398 г. адбываюцца яго перамовы з Вітаўтам, у ходзе якіх была распрацавана праграма ўзаемападтрымкі і сумесных дзеянняў. Князь абяцаў хану дапамогу ў вяртанні ўлады над Залатой Ардой. Той абавязаўся зрабіць Вітаўта гаспадаром усёй Рускай зямлі, уключаючы і Ноўгарад. Іх сумесныя планы зафіксаваны ў шматлікіх летапісах: *"Аз я тя посажу в Орде на царство", "на Сараи, в Болгарех, и на Асторохане, и на Язове, и на Заяцкой орде - гаварыў Вітаўт ардынскаму хану. - А ты мене посади на Московском великом княжении,... и на Новгоро-*

*де Великом, и на Пскове, а Тверь и Рязань моя и есть, а Немци (Тэўтонскі ордэн) и сам возьму ".*

Ведаючы, што супраць яго ў Вялікім княстве Літоўскім рыхтуецца змова, Цімур паспрабаваў яе сарваць. У 1399 г. ён накіраваў у Вільню сваіх паслоў з патрабаваннем: *"Выдай ми царя беглого Тохтамыша, враг бо ми есть и не могу терпети, слышав его жива суща и у тебя живуща".* Князь, які рабіў на Тахтамыша стаўку, адмовіў адказам і прамой пагрозай вайны: *"Яз царя Тохтамыша не выдам, а со царем Темир-Кутлем хошу видети сам".* Збіраючыся ў паход супраць Цімура, Вітаўт пахваляўся: *"Поидем и победим царя Темир-Кутлуя, возмем царство его, посадим на него царя Тохтамыша, а сам сяду на Москве, на великом княжении на всей Руской земли ".*

Войскі праціўнікаў сустрэліся ў тым жа годзе на рацэ Ворскле. Спачатку Вітаўт, ажыццяўляючы намечаныя з Тахтамышам планы, затрабаваў ад Цімура поўнага падпарадкавання сабе: *"Бог покорил мне все земли, покорися и ты мне и буди мне сын, а яз тебе отец, и давай ми всякое лето дани и оброки".* Адвергнуўшы гэта дамаганне, Цімураў стаўленік Едыгей прапанаваў Вітаўту стаць ардынскім васалам. Зыход спрэчкі вырашыла *"сеча зла, якой яшчэ не бывала ў Літоўскай зямлі з татарамі".* Армія Вітаўта амаль цалкам тады палегла на полі бітвы. Загінулі героі Кулікоўскай бітвы Андрэй Полацкі, якога па просьбе Вітаўта Ягайла выпусціў з-за кратаў (па іншых звестках, ён сам уцёк з турмы), Дзмітрый Бранскі, Дзмітрый Баброк Валынскі. Гэта грандыёзнае паражэнне на Ворскле ў **1399 г.** негатыўна паўплывала на лёс дзяржавы: супраць пахіснутай улады Вітаўта ўзбунтаваліся Смаленск і Ноўгарад; давялося санкцыяніраваць новую унію з Польшчай.

Але вялікі князь не адмовіўся ад свайго плана стварэння самастойнай, самай магутнай у Еўропе літоўска-славянскай дзяржавы, абапіраючыся на сваіх стаўленікаў у Залатой Ардзе. На гэты раз ён зрабіў стаўку на Джэлаладзіна - найбольш аўтарытэтнага з нашчадкаў Тахтамыша, вядомага ў рускіх летапісах пад імем Зелені - Салтан Тахтамышавіч. Пасля гібелі Тахтамыша, які пасля паражэння 1399 г. бадзяўся па стэпах і ў 1405 ці 1407 г. быў забіты, яго дзеці (паводле ўсходніх крыніц, у яго было 13 сыноў) і сярод іх

Джэлаладзін, разам з нешматлікімі атрадамі ў пачатку 1409 г. прыбылі ў Вялікае княства Літоўскае, каб атрымаць тут дапамогу. Вітаўт пасяліў іх у Троках.

Польскія вярхі, убачыўшы непрыняцце шырокімі коламі насельніцтва ВКЛ Крэўскай уніі, зразумелі, што падначаленне гэтай дзяржавы іх уладзе не можа быць аднаразовым актам, і таму прыступілі да тактыкі паступовага яе падпарадкавання, што выявілася ў перыядычным перазаключэнні уніі. Новая унія, Віленска-Радамская **(1401 г.),** не выклікала сур'ёзных змен у адносінах паміж дзвюма дзяржавамі. Яна мела кампрамісны характар. Вітаўт фактычна застаўся незалежным правіцелем.

Ягайла прызнаваўся ўладаром супольнай дзяржавы. Кароль Польшчы выбіраўся толькі са згоды княства. ВКЛ і Польшча аб'ядноўваліся ў дзеяннях супраць знешніх ворагаў. З дапамогай палякаў Вітаўту ў 1404 г. удалося ўціхамірыць і падначаліць сабе Смаленск, але Ноўгарад, падтрыманы Масквой, застаўся па-за яго ўладаю. Праўда, гэта не адхіліла яго ад далейшай барацьбы. Яшчэ незадоўга да сваёй смерці, у 1428 г., Вітаўт хадзіў на Ноўгарад.

Змаганне з Ноўгарадам прывяло Вітаўта да вайны з Масквою, якая сама імкнулася падначаліць сабе гэты горад. Тры разы хадзіў Вітаўт супраць Масквы, апошні раз у **1408 г**, калі ён сустрэўся з рускім войскам на рацэ Угры (прыток Акі). Не ўступаючы ў бой, Вітаўт і маскоўскі князь Васіль (яго зяць) вырашылі заключыць мір і правесці мяжу паміж сваімі ўладаннямі па Угры, якая такім чынам стала крайнім усходнім рубяжом ВКЛ у час яго найбольшых памераў.

У канцы XIV ст. актывізаваліся крыжакі. Хоць Вітаўт неаднаразова ў змаганні са сваімі знешнімі і ўнутранымі ворагамі ўступаў у саюз з Ордэнам, аднак апошні па-ранейшаму заставаўся для яго небяспечным ворагам. Ордэн нападаў на землі ВКЛ, у тым ліку ў 1393 г. на Гародню, у 1394 г. на Ліду і Наваградак, ў 1395 г. на Вільню. Небяспечным ворагам быў Ордэн і для Польшчы.

Вітаўт умела манеўраваў між рознымі палітыкамі як з захаду, так і з усходу: двойчы ўступаў Тэўтонскаму ордэну Жамойцію, падтрымліваў варожых Маскве рускіх князёў, пераходзіў у каталіцтва.

Рэзкія павароты ў палітыцы Вітаўта былі вынікамі тых склада-

ных знешніх і ўнутраных абставін, у якіх апынулася ВКЛ у гзты час: нямецкая агрэсія, дыпламатычны націск Польшчы на аб'яднанне з ёю і пагроза з боку Маскоўскага княства, што ўсё больш пашыралася і дужэла і стала прад'яўляць прэтэнзіі на беларускія і ўкраінскія землі.

На мяжы XV ст. завяршаецца перыяд станаўлення ВКЛ. Пасля далучэння Смаленскай зямлі дзяржава набыла ўстойлівую мяжу на ўсходзе, якая будзе трывала захоўвацца на працягу амаль ста гадоў. На захадзе фарміраванне тэрыторыі ВКЛ скончылася пасля Грунвальдскай бітвы 1410 г., калі была канчаткова вернута і ахрышчана Жамойць. Яшчэ праз трыццаць гадоў жамойцкае баярства шляхам узброенага паўстання даб'ецца федэратыўнага статуса, які карысталася большасць рускіх зямель, і тады афіцыйна назва дзяржавы набудзе канчатковы выгляд: Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае.

Да канца XIVст. склалася і знешнепалітычнае асяроддзе, у якім ВКЛ будзе існаваць доўгі час. Баланс трох сіл - Масквы, Літвы і Арды - доўгія дзесяцігоддзі будзе вызначаць палітычны клімат Усходняй Еўропы. Крэўская унія, пацверджаная ў 1401 г., ператварыла Літву і яе заходняга суседа Польшчу ў палітычных пабрацімаў, хаця адносіны гэтых дзяржаў складваюцца вельмі няпроста. Будзе некалькі спроб разарваць унію, але кожны раз знешне - і ўнутрыпалітычныя акалічнасці прывядуць да яе аднаўлення. Грунвальдская перамога паставіла апошнюю кропку ў тэўтонскай агрэсіі з паўночнага захаду. Праз паўстагоддзя Прусія сама трапіць у залежнасць ад ВКЛ і Польшчы. Лівонія надалей стала адным з галоўных партнёраў Літвы, а Рыга - галоўнай гандлёвай брамай у Заходнюю Еўропу.

### "Вялікая вайна" супраць Ордэна. Грунвальдская бітва

Крэўская унія аб'яднала беларусаў, літоўцаў і палякаў у сілу, здольную супрацьстаяць бесперапыннай агрэсіі крыжакоў. Нездарма каралеву Ядвігу, шлюб якой з Ягайлам далучыў ВКЛ да Польшчы, аб'явілі ў Польшчы святою.

Адносіны Тэўтонскага ордэна з ВКЛ і Польшчай пастаянна былі напружанымі. Небяспека з боку Ордэна - вось аснова тагачаснага

саюза княства і Польшчы. У імя дзяржаўных інтарэсаў вялікі князь і кароль адкінулі ўсе даўнія крыўды, што было няпростай справай, асабліва для Вітаўта. Паміж ім і Ягайлам ляжала смерць бацькі - вялікага князя Кейстута.

Доўгачасовая барацьба славянскіх і балцкіх народаў супраць крыжакоў дасягнула найвышэйшага ўздыму ў пачатку XV ст. Эканамічнае развіццё ВКЛ і Польскага каралеўства не магло праходзіць у нармальных умовах пры пастаянных набегах рыцараў Тэўтонскага ордэна. Скрушэнне агрэсіўнага суседа стала жыццёвай неабходнасцю літвінаў і палякаў.

Прычын і падстаў для развязвання вайны з Ордэнам хапала. Ён даволі бесцырымонна накладваў руку на землі, якія ВКЛ і Польшча лічылі сваімі. Асноўнай зонай канфлікту была Жамойць. Крыжакі яшчэ з XII ст. імкнуліся захапіць яе, каб напрамую злучыцца з Лівоніяй. Ва ўсіх перамовах з літоўскімі князямі ўзамен за дапамогу ці пры заключэнні міру яны патрабавалі сабе Жамойць. І яны атрымлівалі яе паводле дагавораў з Ордэнам у 1384, 1390, 1398, 1402 гг., па літоўска-польска-ордэнскаму трактату 1404 г. Усе гэтыя акты былі праявай дыпламатыі - жмудзіны не збіраліся скарацца крыжакам, і тыя раз за разам хадзілі паходамі на край, які фармальна быў ужо іх уласнасцю. Жмудзь заўжды была гатовай паўстаць, а Літва ў зручны момант падтрымаць яе.

Паступова станавілася зразумелым, што справа дойдзе да вайны, і ўсе рыхтаваліся да яе. Ягайла і Вітаўт стараліся трымаць свой саюз у тайне, крыжакі ж да апошняга не пакідалі надзеі іх пасварыць. Вялася актыўная дыпламатычная праца. Ордэн меў падтрымку ўсяго каталіцкага захаду, рознымі сродкамі здолеў зрабіць сваімі саюзнікамі паморскіх князёў, падкупіў чэшскага караля Вацлава, які меў саюз з Ягайлам. Атрымаўшы фантастычную па тых часах суму ў 300 тыс. дукатаў, згадзіўся напасці на Польшчу венгерскі кароль, хоць у яго быў мір з Ягайлам.

У сваю чаргу Вітаўт у 1408 г. заключыў саюз з Маскоўскім княствам. Удзельнічаць у паходзе супраць Тэўтонскага ордэна маскоўскі князь Васіль адмовіўся. Буйным поспехам дыпламатыі Вітаўта з'явілася адсутнасць войскаў лівонскай філіі Ордэна ў важнейшых аперацыях вайны.

Паўсюдна ў Еўропе, у свецкіх і духоўных колах, вялася актыўная дыпламатычная барацьба. Падзеі апошняга года перад вайной паказваюць немагчымасць мірна ўрэгуляваць канфлікты. Абодва бакі гэта разумелі. 6 студзеня 1408 г. для вырашэння спрэчных пытанняў з'ехаліся Вітаўт, Ягайла, магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген. Прысутнічаў і лівонскі ландмайстар. Але дамовіцца не здолелі і раз'ехаліся.

**У снежні 1408 г.** адбылася тайная нарада Вітаўта з Ягайлам у Наваградку. Кароль і вялікі князь прыйшлі да высновы: цярпець крыжакоў далей не выпадае. Тут сфарміравалася ідэя расправы з Ордэнам. Аднак Вітаўт не хацеў пачынаць вайну заўчасна. У лістах да магістра Ордэна ён запэўніваў таго ў сваіх намерах трымаць мір і ў нейкай ступені здолеў аслабіць пільнасць крыжакоў. Вялікі князь імкнуўся выгадаць час для лепшай падрыхтоўкі да вайны.

**У маі 1409 г.** у Жамойці выбухнула паўстанне супраць Ордэна. Даведаўшыся аб дапамозе Вітаўта жамойтам і аб намерах Ягайлы перашкодзіць крыжакам пакараць паўстанцаў, Ульрых фон Юнгінген **6 жніўня 1409 г.** паслаў Ягайле пісьмовае аб'яўленне вайны, якое той атрымаў 14 жніўня, а ўжо 16 жніўня крыжацкія войскі перайшлі граніцу і пачалі пустошыць польскія землі. Пачалася вайна.

У снежні 1409 г. у час нарады ў Бярэсці Ягайла і Вітаўт распрацавалі падрабязны план летняга паходу на крыжакоў, вызначыўшы месца збору і колькасць войск, напрамак удару саюзнікаў у Вялікай вайне з Ордэнам. На нарадзе прысутнічаў і хан Джэлаладзін, сын Тахтамыша, які абавязаўся дапамагчы конніцай. Адразу ж пачалася падрыхтоўка да паходу, якая вялася ў вялікай тайне. Яна завяршылася вясной 1410 г. У адпаведнасці з планам, у канцы мая ў Вільбаржы і Познані пачалі збірацца польскія атрады, у Вільні і Гародні - літвінскія. Гародня стала цэнтрам збору войск з тэрыторыі сучаснай Беларусі і Украіны. Сюды прыйшлі атрады з Валыні, Кіеўскай зямлі, Чарнігава, Ноўгарад-Северскага.

У ліпені 1410 г. аб'яднаныя сілы Полынчы і ВКЛ перайшлі мяжу Тэўтонскага ордэна і ўступілі на тэрыторыю Прусіі. Саюзная армія складалася з 90 атрадаў, з якіх 50 былі выстаўлены Польшчай, 40 - ВКЛ.

Апошнія 200 гадоў роля беларусаў у бітве пад Грунвальдам

усяляк скажалася гісторыкамі суседніх дзяржаў. Усе яны забываліся ўспомніць пра вояў-беларусаў, якія складалі значную частку ў аб'яднаным войску, а некаторыя "свядома" памыляліся, атаясамляючы беларускае войска з расійскім. Між тым, з 90 палкоў Польшчы і ВКЛ, што біліся ў 1410 г. супраць войска Тэўтонскага ордэна, 40 былі выстаўлены ВКЛ, з іх 22 былі ўласна беларускімі. Сярод іх гарадзенскі, лідскі, полацкі, віцебскі, наваградскі, ваўкавыскі, берасцейскі, пінскі, драгічынскі, мсціслаўскі і іншыя палкі. 30 з 40 харугваў ВКЛ выступалі пад чырвоным сцягам з выявай Пагоні на ім.Такім чынам, у Грунвальдскай бітве ўдзельнічалі разам з продкамі палякаў і летувісаў продкі беларусаў, украінцаў і рускіх. На дапамогу ім прыйшоў атрад чэхаў на чале з Янам Жыжкам. Татарскі хан Джэлаладзін прыслаў конніцу. Усей саюзнай арміяй камандаваў Ягайла, войскам ВКЛ - Вітаўт.

Тэўтонскі ордэн выставіў у Грунвальдскай бітве 51 атрад, большасць якіх складалася з навербаваных ва ўсёй Еўропе наёмнікаў. Ордэн заручыўся таксама падтрымкай чэшскага і венгерскага каралёў. Крыжацкая армія была меншай, чым армія ВКЛ і Польшчы, але мела лепшае ўзбраенне.

Дакладных звестак аб колькасці войск абедзвюх армій крыніцы не даюць. Даследчыкі лічаць, што саюзная армія мела каля 40 тыс. чалавек, армія крыжакоў - крыху менш. Ёю камандаваў вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген. Войскі сустрэліся каля вёсак Грунвальд, Таненберг і Людвіксдорф (тэрыторыя сучаснай Польшчы). Раніцай 15 ліпеня 1410 г. тут сутыкнуліся дзве магутныя сілы.

Бітву пачала лёгкая конніца ВКЛ. Яна рынулася на тэўтонцаў. Ад аглушальнага тупату шматтысячнай лавы задрыжала зямля. Але што гэта? Сярод лініі коннікаў то тут, то там узнікалі прагалы. Людзі разам з коньмі знікалі, іх нібы праглынала зямля. Гэта былі воўчыя ямы, напярэдадні падрыхтаваныя крыжакамі і добра замаскіраваныя. *"Многім людзям ад тых ям шкода вялікая сталася",* — з горыччу напісаў летапісец. Аднак атака не захлынулася. Выратаваў разгорнуты строй, якім ішлі харугвы, большасць коннікаў абмінала здрадлівыя пасткі і, змяўшы ахоўныя заслоны крыжацкай артылерыі, дашчэнту высеклі тэўтонскую пяхоту. Наблізіўшыся да крыжакоў пад пакрыццём хмары адначасова выпушчаных стрэл,

татары пусцілі ў ход арканы. Імгненне - і амаль увесь першы рад рыцараў бездапаможна трапятаўся па зямлі.

Жалезнай лавінай насоўвалася на Вітаўтава крыло крыжацкая конная армада. Пачалася сеча мячамі. Скрыгат і ляск металу, храп перапужаных коней, стогн і лямант параненых, галасы сігнальных труб зліліся ў адзін суцэльны і жудасны гул, чутны за некалькі міляў навокал. Выратавацца, затаіцца на зямлі, выпаўзці з гэтага кашмару не было ніякага шансу, бо, як занатаваў летапісец, *"конь аб каня бокам аціраўся."* Побач з аршанскай, мсціслаўскай, смаленскай, віцебскай, полацкай, ваўкавыскай, наваградскай, пінскай, гарадзенскай, слуцкай, віленскай і іншымі беларускімі дружынамі мужна змагаліся ўкраінскія харугвы - ратненская, луцкая, крамянецкая, уладзімірская, кіеўская. Побач білася дружына Наўгародскай рэспублікі. Мінала адна, настала другая гадзіна бітвы. Харугвы знясільвалі. Абодва бакі падкідвалі падмацаванні, але зрушыць адзін аднаго з месца не маглі.

Ульрых фон Юнгінген загадаў свайму маршалу Валенроду націснуць на татар, а затым усёй сілай абрушыцца на ліцвінскія харугвы. Каб пазбегнуць празмерных страт, татарскі хан Багардзін пачаў тактычны адыход. Пасля жорсткай схваткі пад напорам цяжкай конніцы крыжакоў вымушана была адступіць асноўная частка атрадаў ВКЛ. Іншыя атрады працягвалі барацьбу, асабліва напружаную на левым фланзе арміі ВКЛ. Рашаючым фактарам, які вызначыў ход бітвы, была стойкасць і мужнасць трох палкоў Смаленскага княства: аршанскага, мсціслаўскага і смаленскага, якімі камандаваў мсціслаўскі князь Сямён. Яны, нягледзячы на вялікія страты - адзін полк быў цалкам *"жорстка высечаны", - "выйшлі пераможцамі, ваюючы з вялікай храбрасцю". "Яны адны ў войску Аляксандра-Вітаўта, - як сведчыць Длугаш у сваёй "Гісторыі Польшчы, - сцяжалі ў той дзень славу за храбрасць і геройства ў бітве..."Два засталыя палкі Смаленскага княства злучыліся з польскімі атрадамі.*

Уступіўшы на дзве гадзіны пазней у бітву, польскія воіны біліся з вялікай мужнасцю. На працягу больш за гадзіну яны са здзіўляючай упартасцю стрымлівалі і нястомна шаткавалі крыжакоў, не адышлі ні на крок назад, адбілі пры гэтым некалькі асабліва небяс-

печных флангавых атак. Мужна секліся чэшска-мараўскія атрады, сярод якіх то тут, то там мільгала рослая фігура гусіцкага военачальніка Яна Жыжкі.

Бітва з пераменлівым поспехам працягвалася на абодвух крылах яшчэ некалькі гадзін. Сонца ўжо пачало хіліцца да залітай крывёй зямлі. І вось нарэшце не вытрымалі націску крыжацкія харугвы, пахіснуліся і пачалі збівацца ў разрозненыя купы. Іх тут жа бралі ў акружэнне і білі. Вырашыўшы, што Ягайла і Вітаўт вычарпалі свае рэзервы, Ульрых фон Юнгінген кінуў у бой шаснаццаць свежых харугваў, якія чакалі свайго часу ў лагчыне. Адзін з рыцараў, шукальнік прыгод і славы, раптам атакаваў Ягайлу, які пад аховай 60-ці адборных коп'яў назіраў з пагорка за бітвай. Спрактыкаваны ў валоданні зброяй, Ягайла парыраваў удар і выбіў з рук рыцара дзіду. Каралеўскі пісар імгненна падхапіў дзіду і забіў крыжака.

Тым часам Вітаўт падкінуў з рэзерваў яшчэ некалькі харугваў, якія атакавалі ўступіўшыя ў бой на чале з самім магістрам крыжацкія атрады. Немцы змагаліся ўпарта, кідаліся з боку на бок, марна спрабуючы вырвацца з катла. Бітва набліжалася да канца. На полі дабівалі ўпартых крыжакоў. Жывымі пакідалі толькі тых, якія кідалі зброю і прасілі літасці. Частка войска кінулася ў пагоню за ўцекачамі. Сярод багатых трафеяў - зброя, шмат вайсковага рыштунку, кавальскага і слясарнага начыння, адзення, правіянту, у абозе знайшлі тысячы ланцугоў і вяровак, сотні бочак віна. З вялікай помпай збіраліся крыжакі адсвяткаваць перамогу.

У сем гадзін вечара вялікая бітва скончылася поўным разгромам крыжакоў. Усё поле было ўсцелена трупамі людзей і коней. Загінула ўсё кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна: вялікі магістр, маршал Валенрод, вялікі камтур Ліхтэнштэйн, амаль усе камтуры, многія знатныя рыцары. На працягу многіх міляў усе дарогі вакол поля бітвы былі завалены пасечанымі тэўтонцамі, а найбольш - дарога на Мальбарк, сталіцу рыцараў. Армія Ордэна фактычна перастала існаваць." /*разбілі нагалаву немцаў, і самога магістра, і ўсіх яго комтураў забілі, і безліч немцаў пабілі і ўзялі ў палон,-расказвае "Хроніка Быхаўца". - ... і затым, усіх іх разграміўшы і шмат гарадоў і зямель іх пабраўшы, а астатнія паланіўшы і дашчэнту выпаліўшы і спустошыўшы, з вялікаю пашанаю і незвычайнаю перамо-*

*гаю, заслужыўшы на ўвесь свет выдатную славу, вярнуліся ў свае землі".*

Вялікія страты панесла і войска Вялікага княства Літоўскага: 20 тысяч ратнікаў (амаль кожны другі). У пераважнай большасці гэта былі сыны беларускай зямлі, якія прынялі на сябе асноўны цяжар бітвы. Страты польскага войска невядомы. Назаўтра, 16 ліпеня, каля Таненбергскага касцёла хавалі забітых. Пасля пахавання адправілі доўгі абоз з параненымі. Па дарозе многа цяжка пакалечаных ратнікаў памерла, іх хавалі абапал дарогі.

Па рашэнню вайсковай рады рэшткі саюзнай арміі рушылі на крыжацкую сталіцу Мальбарк, беручы па дарозе замкі і гарады. Многія з іх здаваліся без супраціўлення. Насельніцтва крыжацкай дзяржавы прызнала над сабой уладу Ягайлы. Па словах храніста, на пруска-паморскім абшары *"у крыжакоў засталося толькі восем замкаў, а 70 дашчэнту разбурылі".* Усё гэта затрымлівала рух войска, да таго ж яно было стомлена. Мальбарк аблажылі толькі 25 ліпеня. За гэты час крыжакі паспелі падрыхтаваць замак да працяглай аблогі: гарнізон быў папоўнены людзьмі, каморы - правіянтам, цэйхгауз — зброяй. Таму трыумфальны рух саюзнікаў па крыжацкай дзяржаве на Мальбарк абярнуўся істотнымі пралікамі і стратамі, якіх можна было пазбегчы. Узяць гэты магутны замак, вышыня сцен якога дасягала 23 м, а таўшчыня унізе 16 м, з ходу не ўдалося. Нават дзесяціпудовыя ядры пакідалі на іх толькі шчарбіны і трэшчыны. У верасні аблога была знята, саюзная армія пакінула Прусію.

Тэўтонскі ордэн, які ўжо ніколі болей не дасягаў сваёй былой магутнасці, усё-такі адрадзіўся і зрабіў некалькі спроб аднавіць свае страчаныя пазіцыі, але восенню таго ж года Ягайла разбіў значныя сілы крыжакоў. Генрых фон Плаўэн, які стаў вялікім магістрам, вымушаны быў заключыць спачатку перамір'е, а потым мір з Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім. Паводле пагаднення, падпісанага ў **1411 г**. у Торуні, Ордэн абавязаўся вярнуць Польшчы частку захопленых імі зямель, а ВКЛ - Жамойцію і Судовію, выплаціць саюзнікам 300 тысяч залатых дукатаў, выкупіць палонных.

Такім чынам, бітва пад Грунвальдам мае вялікае, сапраўды міжнароднае значэнне. **15 ліпеня 1410 г.** у бітве сышліся прыкладна

80 тыс. чалавек. Гэта былі не проста два войскі. У жорсткай сечы сутыкнуліся, па сутнасці, Еўропа крыжацкая і Еўропа славянская..У гэты дзень назаўсёды закаціліся веліч і слава Тэўтонскага ордэна: знішчана яго армія, падарвана ваенна-палітычная магутнасць; пачаўся яго заняпад: **у 1466 г. канчаецца незалежнае існаванне Тэўтонскага ордэна.** Вялікі магістр вымушаны быў прызнаць сябе васалам польскага караля і вялікага князя літоўскага Казіміра IV.

Гэта перамога была забяспечана збліжэннем народаў і іх сумеснымі дзеяннямі. Грунвальд для беларусаў - тое ж, што Кулікоўская бітва для рускіх.

Пасля перамогі пад Грунвальдам Вітаўт, прыхільнік незалежнасці ВКЛ, імкнуўся парваць васальныя адносіны з польскім каралём. Ягайла вымушаны быў пачаць новыя перагаворы аб аднаўленніі уніі. У 1413 г. у замку Гародлі над Бугам адбыўся з'езд некаторых польскіх феадалаў і 47 феадалаў-католікаў ВКЛ. Польская шляхта і кароль на гэты раз рабілі стаўку на шырокія колы літоўскай і беларускай шляхты каталіцкага веравызнання. З гэтай мэтай гарадзельскай граматай былі падараваны новыя прывілеі той частцы феадалаў, якія прынялі каталіцтва і польскія гербы. Феадалы сучасных беларускіх, украінскіх і рускіх зямель, у сваёй большасці праваслаўныя, па-ранейшаму засталіся нераўнапраўнымі. Усе некатолікі, якія складалі пераважную большасць насельніцтва, не павінны былі дапускацца да дзяржаўных пасад. Толькі феадалы-католікі ВКЛ мелі права ўдзельнічаць у выбарах вялікага князя, маглі быць выбранымі ў сойм, займаць дзяржаўныя пасады і атрымліваць афіцыяльныя радавыя гербы. Забараняліся шлюбы паміж католікамі і праваслаўнымі. Гарадзельскі прывілей пашыраў правы каталіцкай царквы і духавенства. Вітаўт згадзіўся з яго ўмовамі, імкнучыся набыць прыхільнікаў сярод польскіх епіскапаў і буйных феадалаў у надзеі, што пасля смерці Ягайлы ён можа стаць яго пераемнікам на каралеўскім прастоле ў Польшчы.

У далейшым феадалы беларускіх і ўкраінскіх зямель ВКЛ неаднаразова пратэставалі супраць замацаванай у Гарадзельскім прывілеі эканамічнай і палітычнай дыскрымінацыі праваслаўных, дамагліся адмены некаторых яго норм у 1432 і 1434 гг. Поўнасцю арты-

кул аб недапушчэнні праваслаўных да вышэйшых дзяржаўных пасад быў адменены толькі ў XVI ст.

Новая унія, заключаная ў Гародлі, замацавала саюз ВКЛ і Польшчы ў форме персанальнай уніі. Але ў наступныя гады саюзныя адносіны паміж імі значна аслабіліся. У 1430 г., пасля абрання на вялікакняжацкі прастол Свідрыгайлы, прыхільніка самастойнасці ВКЛ, адносіны настолькі сапсаваліся, што справа дайшла да ваенных дзеянняў супраць Полынчы. У 1432—1434 гг. адносіны крыху наладзіліся, але становішча было няўстойлівае і ў 1434 г., пасля смерці Ягайлы, унія была поўнасцю скасавана.

Ігнараванне Вітаўтам інтарэсаў праваслаўных, якое навязвалася яму Польшчай, значна шкодзіла ВКЛ, паколькі адштурхоўвала ад яго ўлады большую частку насельніцтва. Менавіта ў гэты час і пачаўся ад'езд з ВКЛ праваслаўных князёў і феадалаў у Маскоўскую дзяржаву як адзінаверную ім. 3 другога боку, другія феадалы, убачыўшы, што пераход у каталіцтва прынясе ім вялікія матэрыяльныя перавагі і зраўняе іх у правах з польскай шляхтай, пачалі прымаць каталіцтва, што ў далейшым прывяло іх да апалячвання і адыходу ад свайго народа. Усё ж Вітаўт разумеў усю важнасць становішча праваслаўнага насельніцтва для лёсу дзяржавы і рабіў энергічныя захады, каб пазбегнуць антаганізму паміж праваслаўнымі і католікамі ў княстве.

Найперш ён хацеў бачыць праваслаўную царкву сваёй дзяржавы самастойнай і працягваў традыцыйныя для Вялікага княства Літоўскага спробы займець уласную іерархію. У 1415 г. ён стварыў самастойную мітраполію з цэнтрам у Наваградку і дабіўся ад праваслаўных епіскапаў княства пастаўлення на чале яе мітрапаліта балгарына Грыгорыя Цамблака. Канстанцінопаль не прызнаў гэтага выбару.

Вітаўт першы падаў думку аб уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў у ВКЛ і рабіў захады па яе рэалізацыі ў дзяржаве. Ужо ў 90 -ыя гады XIV ст. ён вёў перамовы з мітрапалітам Кіпрыянам аб магчымасці заключэння уніі. Мітрапаліта Цамблака ён паслаў на Канстанцкі сабор, дзе меркавалася ўзняць пытанне аб уз'яднанні праваслаўя і каталіцтва ў глабальным маштабе. Аднак Цамблаку не ўдалося здзейсніць план уніі. У хуткім часе Цамблак памёр, а

Вітаўт, які ў гэты час ішоў на збліжэнне з Масквой, не захацеў абвастраць з ёй адносіны і таму не назначыў пераемніка Цамблаку. Вітаўт паміры ўся з маскоўскім мітрапалітам Фоцием, падтрымліваючы адначасова каталіцкую царкву, што працягвала місіянерскую дзейнасць у Літве і асабліва ў Жамойці.

Адразу пасля Грунвальдскай перамогі 1410 г. над крыжакамі, у якую ўнесла свой уклад і татарская конніца, Вітаўт паспрабаваў, абапіраючыся на Джэлападзіна, рэалізаваць свае планы, распрацаваныя разам з Тахтамышам яшчэ ў 1397—1399 гг. Ён зрабіў рашучую спробу ўстанавіць поўны кантроль над палітычным жыццём Залатой Арды. Выкарыстанне татарскіх імігрантаў у сваіх мэтах стала папулярным прыёмам палітыкі вялікага князя. На гэты раз спроба мела плён. У 1411—1412 гг. сын Тахтамыша Джэлаладзін двойчы, па некалькі месяцаў, сядзеў на залатаардынскім троне, праводзячы ў гэты час пралітоўскую палітыку, відаць, цалкам узгодненую з урадам Вялікага княства Літоўскага. Гібель Джэлаладзіна і замена правіцеля ў Ардзе змяніла расстаноўку сіл ва Усходняй Еўропе не на карысць ВКЛ.

Зімой 1413—1414 гг. Вітаўт саджае ў Ардзе свайго наступнага стаўленіка - Бетсабулу. І тут "Хроніка літоўская і жамойцкая" адкрывае перад намі найцікавейшы факт - **у Вільні адбываецца каранацыя Вітаўтам новага правіцеля Залатой Арды.** Магчыма, гзтым першым, каранаваным у сталіцы ВКЛ, і быў Бетсабула. Усклаўшы на яго знакі ханскай годнасці, Вітаўт сказаў, што гэта "цар заваложскі новы". Залатая Арда раскалолася: адна яе частка прыняла Бетсабулу, другая - не. Стаўленіку Вітаўта прыйшлося ўступіць. Выгнаны з Сарая больш моцным праціўнікам, Бетсабула са сваімі прыхільнікамі знайшоў прытулак у ВКЛ. Як толькі Вітаўт даведаўся пра гэта, то адразу *"Еремфердека ... знову короновал в Вилни на "царство, убравши в золотоглав, и шапку перловую взложил на него, и дал ему в руки шаблю".* Даў яму таксама сваё войска, якое разам з татарскімі мурзамі ды ўланамі пайшло садзіць новага хана ў Арду. Авалодаўшы ёй, Ярэмфердэк прынёс Вітаўту прысягу *"завше на потребу его зо всеми татарами служити и послал ему дары великие ".* Але яго ў хуткім часе скінуў Эдыгей.

У 1414 г. з дапамогай Вітаўта на некалькі месяцаў на залатаар-

дынскім троне зацвердзіўся хан Кепек. У 1419 г. на кантакты з Вітаўтам пайшоў сам Эдыгей, але збліжэнне паміж імі працягвалася нядоўга, хутка наступіў разрыў. У 1419(1420) г. пры падтрымцы ВКЛ яшчэ адзін выпадкова ўцалеўшы сын Тахтамыша Кадыр - берды вёў барацьбу за Арду. Потым былі прыхільныя да княства Даўлет-берды і Улуг-Мухамед, з якімі Вітаўт узгадняў свае дзеянні на міжнароднай арэне і якія ў цяжкія моманты свайго праўлення знаходзілі прытулак у Вільні.

У 1433 г. на прычарнаморскіх землях паміж Дняпром і Донам узнік новы татарскі ўлус. На чале яго з дапамогай магутнага тады вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы стаў Сейід-Мухамед - адзін са шматлікіх унукаў Тахтамыша, якога лёс цесна звязаў з Вялікім княствам Літоўскім: тут (у Троках) ён нарадзіўся, вырас і жыццёвы шлях свой скончыў у Коўна ў якасці вязня.

Такім чынам, у канцы XIV - першай палове XV ст. вялікаму літоўскаму князю Вітаўту ўдавалася аказваць значны ўплыў на палітычнае жыццё Залатой Арды. Ён прымяняў тактыку супрацьпастаўлення адных ханаў другім. Яго намаганні мелі пераменны поспех. У другім і трэцім дзесяцігоддзях XV ст. уплыў вялікіх літоўскіх князёў ў Ардзе настолькі ўзмацняецца, што пастаўленне імі сваіх кандыдатаў на ханскі трон стала традыцыяй. Аднак утрымліваць іх там доўгі час не хапала сіл. Тым не менш, знаходжанне на прастоле ў Ардзе ханаў правітаўтавай арыентацыі сказвалася на ўсім ходзе міжнароднага жыцця Усходняй Еўропы на карысць княства. Тады нездарма гаварылі: "Той, хто кіруе Ардой, той гаспадарыць на Русі".

Пры Вітаўце ВКЛ дасягнула сваёй найвышэйшай магутнасці, ператварылася ў вялікую і моцную еўрапейскую дзяржаву. У 20-ыя гады XV ст. Вітаўт фактычна стаў палітычным лідэрам усёй Усходняй Еўропы. Пад яго ўплывам знаходзіліся Заволжская Арда і Крым. Лічыліся з сілай Вітаўта і польскія феадалы, яны далі абяцанне не выбіраць сабе без яго згоды караля, калі ў Ягайлы не будзе прамых нашчадкаў.

Калі ў 1423 г. маскоўскі князь Васіль Дзмітрыевіч пісаў духоўную грамату (свой запавет), то яе змест узгадняўся з Вітаўтам і пацвярджаўся яго пячаткаю з пагоняй. І менавіта пад апеку Вітаўта

аддаваў князь свайго малалетняга сына і жонку. Пры Васілю Масква, захоўваючы лідэрства ў паўночна-ўсходняй Русі, даволі паслядоўна прызнавала вядучую ролю Вільні ў справах "усяе Русі". Прысягу на вернасць беларуска-літоўскаму гаспадару складалі тады цвярскі, разанскі і іншыя рускія князі, называючы яго сваім *"господином... м многих русских земель господарём".* У 1426 г. ён робіць трыгумфальнае падарожжа па ўсходняй ускраіне сваёй дзяржавы. Насустрач яму выходзілі князі з Разані, Пераяслаўля, Пронска, Варатынска, Адоева і "били ему челом", уручаючы багатыя дары. "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх" сведчыць: *"Няма земляў ні на ўсходзе, ні на захадзе, адкуль не прыходзілі б пакланіцца гэтаму слаўнаму гаспадару": "турэцкі цар вялікую пашану выказваў" яму; " у вялікай любові жыў з ім ...цар царградскі"; Чэшскае каралеўства, дацкі кароль "з вялікаю пашанаю" ставіліся да Вітаўта; маскоўскі цар " у вялікай любові жыў з ім". "Служылі яму і іншыя,-працягвае летапіс,-вялікія князі нямецкія зусімі сваімі гарадамі і землямі...; гаспадар зямлі Малдаўскай і Бесарабскай...; таксама і гаспадар зямлі Балгарскай...."* **Усё гэта сведчыць пра высокі аўтарытэт, трывалае палітычнае становішча ВКЛ у тагачасным свеце.**

Хоць Вітаўт у цэлым у сваёй унутранай і знешняй палітыцы арыентаваўся на саюз з Польшчай, аднак, адчуваючы незадаволенасць шырокіх колаў грамадства з прычыны ўсё большай падначаленасці інтарэсам Польшчы, не мог не імкнуцца да самастойнасці. А гэта перш за ўсё магло падкрэсліць атрыманне ім каралеўскага тытула і каралеўскай кароны, захады аб атрыманні якіх Вітаўт рабіў двойчы - у 1429 і 1430 гг. Польскія вярхі былі вельмі ўстрывожаны. Яны зрабілі ўсё, каб карона не дайшла да Вітаўта.

У Германіі былі заказаны дзве кароны - для Вітаўта і яго жонкі, рыхтаваўся адпаведны дзяржаўны дакумент, выпрацоўваўся спецыяльны рытуал. Аднак польскія феадалы, баючыся, што з наданнем літвінскай дзяржаве статусу каралеўства яна стане цалкам суверэннай, палітычна незалежнай ад Польшчы, сарвалі гэтую гістарычную акцыю. "Князь вялікі Вітаўт хацеў ускласці на сябе карону, - расказвае *"Летапіс вялікіх князёў літоўскіх", - але яго непрыяцелі ляхі не прапусцілі яе ... І расхварэўся вялікі князь Вітаўт".* 27 кастрычніка 1430 г. ён памёр.

ЛЕКЦЫЯ 15

# ВКЛ У 30—80-ЫЯ ГАДЫ XV ст.

- *Грамадзянская вайна 30-х гадоў.*
- *Праўленне Казіміра IV.*
- *Дзяржаўны лад у ВКЛ.*

## Грамадзянская вайна 30-х гадоў

Фактычна амаль адразу пасля смерці Вітаўта пачалася грамадзянская вайна. Яна была не проста дынастычнай барацьбой за ўладу розных палітычных груповак. Нацыянальна-рэлігійныя супярэчнасці не далі магчымасці літвінскаму грамадству з'яднацца на агульнай ідэйна-патрыятычнай і канфесійнай аснове. Гэта моцна аслабляла ваенна-палітычную магутнасць ВКЛ і, урэшце, прывяло да страты дзяржаўнага суверэнітэту. Штуршком, які прывёў да грамадзянскай вайны ў краіне, была рэалізацыя дыскрымінацыйных артыкулаў Гарадзельскага прывілея 1413 г., што пазбаўлялі палітычнай улады праваслаўную знаць, ставілі яе ў няроўнае палітычнае становішча з каталіцкімі братамі па класе.

У 1430 г. на вольны пасля смерці Вітаўта вялікакняжацкі прастол узышоў пры падтрымцы князёў і баяр усходнебеларускіх, украінскіх і рускіх зямель ВКЛ малодшы брат Ягайлы **Свідрыгайла Альгердавіч** (каля 1370—1452). Таму новапасаджаны гаспадар пачаў абапірацца ў кіраванні дзяржавай на гэтыя сілы.

Свідрыгайла праводзіў незалежную, антыпольскую палітыку. У свой час ён выступаў праціўнікам вымушанай прапольска-каталіцкай палітыкі Вітаўта першых дзесяцігоддзяў XV ст. Прычым цікава, што антывітаўскія захады Свідрыгайлы абапіраліся на праграму таго ж Вітаўта 90-х гадоў XIV ст. - праграму стварэння літоўска-рускай дзяржавы з апорай на праваслаўны асяродак Вялікага княства. Як заўважыў храніст XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі, Свідрыгайла змагаўся супраць Вітаўта з дапамогай Русі, што яму спачувала.

Пры Свідрыгайле праваслаўная арыстакратыя рускіх абласцей княства займае вышэйшыя пасады, засядае ў Радзе, прымае ўдзел у вырашэнні самых складаных дзяржаўных пытанняў. Практычна манапольная ўлада каталіцкіх феадалаў, што ў асноўным былі бал-

цкага паходжання, пераходзіла да палітычнай эліты праваслаўных рускіх, прадстаўнікоў пануючага класа поліэтнічнага Вялікага княства. У студзені 1432 г. кракаўскі біскуп пісаў да кардынала Цэзарыні, што Свідрыгайла ва ўсім слухаецца рускіх схізматыкаў і параздаваў ім усе асноўныя землі і пасады, чаго не было пры нябожчыку Вітаўце.

Узрастанне палітычнай ролі праваслаўных феадалаў усходнеславянскага паходжання, страта каталіцкай арыстакратыяй прывілеяў прывялі да змовы апошняй супраць Свідрыгайлы. У ноч на 1 верасня 1432 г. адбыўся замах на вялікага князя. Змоўшчыкі пасадзілі на яго месца брата Вітаўта Жыгімонта. Дробны старадубскі князь, які пры жыцці Вітаўта не адыгрываў прыкметнай ролі ў палітычным жыцці дзяржавы, па волі лёсу быў узнесены на вялікакняжацкі пасад. Свідрыгайла ратаваўся ўцёкамі ў Полацк. Гэты беларускі горад на нейкі час становіцца сталіцай "Вялікага княства Рускага". Існаванне менавіта такога дзяржаўнага ўтварэння адзначае летапісец: *"1 верасня 1432 г. пасадзіла Літва на вялікае княжанне, у Вільню і Трокі, вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. Свыдрыгайла ж пайшоў (княжыць) у Полацк і Смаленск, і рускія князі і баяры пасадзілі яго на вялікае княжанне Рускае ".*

Такім чынам, адбыўся раскол княства на два дзяржаўныя ўтварэнні - Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Рускае. Апошняя з прыгаданых дзяржаў, якая стварылася і функцыянавала на аснове аўтаноміі Полацкай, Віцебскай, Смаленскай зямель у складзе Вялікага княства, існавала 4 гады. Знікла яна ў выніку ваеннага паражэння войскаў Свідрыгайлы ў бітве пад Вількамірам летам 1436 г. Але галоўнай прычынай распаду Вялікага княства Рускага была не ваенная слабасць гэтай дзяржавы. Сваё існаванне яна спыніла ў першую чаргу з прычыны авантурных, неабачлівых дзеянняў "князя рускага", які быў не ў стане супрацьстаяць тонкай дыпламатыі "вялікага князя на Вільні і Троках", скаардынаванай з польскім каралём.

Абапіраючыся на рускіх князёў і баяр, з дапамогай цвярского князя, Лівонскага ордэна Свідрыгайла на працягу 1432-1435 гг. неаднаразова "ваяваў" *"Літоўскую зямлю", "шмат бяды нарабіўшы ёй": паліў гарады (Крэва, Заслаўе, Менск і іншыя), "людзей жа*

*шмат пасек і ў палон пабраў".* Спробы Жыгімонта разбіць Свідрыгайлу поспеху не мелі.

Для таго, каб выбіць у Свідрыгайлы апору на праваслаўных феадалаў "рускіх" зямель, **15 кастрычніка 1432 г.** у Гародні каралём Польнчы Уладзіславам-Ягайлам быў выдадзены са згоды Жыгімонта прывілей, па якому прадстаўнікі знакамітых родаў беларускага, украінскага, рускага паходжання праваслаўнага веравызнання ўраўноўваліся ў некаторых правах з феадаламі-католікамі. Прывілей дэклараваў, што зроблена гэта дзеля таго, каб у будучым паміж жыхарамі ВКЛ не ўзнікалі разлады і варожасць, каб яны больш энергічна і настойліва стараліся аб захаванні цэласнасці гэтых зямель і падтрыманні іх велічы і сумесна дзейнічалі. Іх заклікалі больш старанна і верна выконваць распараджэнні Ягайлы і Жыгімонта.

У **1434 г.** быў абнародаваны аналагічны прывілей, які паходзіў ужо толькі ад аднаго вялікага князя літоўскага Жыгімонта. Неабходнасць яго прыняцця тлумачылася ў прэамбуле тым, што "гаспадар" жадае *"нашыя землі Літоўскія і Рускія прывесці ў парадак і справы іх давесці да найлепшага стану..., каб паміж народамі гэтых зямель не было ніякага непатрэбнага ўрону..., каб яны карысталіся роўнымі міласцямі і тым больш горача і настойліва імкнуліся заўсёды да адзінства душ і дапамагалі захаванню найшчаслівейшага стану гэтых зямель".* Восем пунктаў, што ішлі ўслед за гэтай прэамбулай, даравалі рускім князям і баярам права свабоднага распараджэння маёнткамі і перадачы іх у спадчыну, права атрымання зямельных валоданняў жонкамі і дзецьмі, вызвалялі княжацкіх і баярскіх падданых ад асобных дзяржаўных падаткаў, а таксама дазвалялі праваслаўнай шляхце нароўні з феадаламі-католікамі ўжываць гербы і знакі шляхецтва.

Прывілей 1434 г.,па якому руская знаць дабілася саслоўнай роўнасці з літоўскай арыстакратыяй - безумоўная перамога ўсходнеславянскіх феадалаў "рускіх" зямель у барацьбе за раўнапраўе ў ВКЛ. Аднак перамога не была канчатковай. Адно з галоўных пытанняў - іх удзел у кіраванні дзяржавай - граматай Жыгімонта не вырашалася. Параграф дзевяты гарадзельскай пастановы, паводле якога праваслаўныя феадалы не мелі права займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады, захоўваў сваю сілу.

Менавіта ў сувязі з гэтым і працягвалася далейшая палітычная барацьба феадалаў рускіх, усходнеславянскіх зямель Вялікага княства за палітычнае раўнапраўе ў дзяржаве, якога яны ўрэшце рэшт дабіліся ў XVI ст. пасля афіцыйнай адмены ў 1563 г. пастановы Гарадзельскага сойма.

Прывілеямі 1432 і 1434 гг. Жыгімонт перацягнуў на свой бок значную частку беларуска-ўкраінскай шляхты. Гэта аслабіла пазіцыі Свідрыгайлы. У 1435 г. яго войска было разбіта, а сам ён ратаваўся ўцёкамі на Валынь.

Вайна 30-х гадоў XV ст. з'явілася важным рубяжом у развіцці дзяржавы Гедымінавічаў. У гэтыя гады быў дасягнуты кампраміс паміж каталіцкімі і праваслаўнымі феадаламі, г.зн. у асноўным быў пераадолены антаганізм, які з'яўляўся вынікам акта 1387 г. Пашырэнне правоў праваслаўных феадалаў яшчэ не поўнасцю задаволіла іх, але ў цэлым істотна ўмацавала адзінства пануючага класа дзяржавы.

Пазбавіўшыся свайго палітычнага канкурэнта, Жыгімонт праводзіў прапольскую палітыку, аддаў Польшчы Падолле, жорстка ставіўся да сваіх падначаленых. Незадаволеныя яго дэспатызмам і свавольствам, уплывовыя дзяржаўныя мужы вынеслі прысуд Жыгімонту. 20 сакавіка 1440 г. ён быў забіты ў Трокскім замку. Адной з галоўных мэт змовы было імкненне вярнуць на вялікакняжацкі пасад Свідрыгайлу. Яе ініцыятарам быў гарачы прыхільнік апошняга князь Чартарыйскі.

## Праўленне Казіміра IV

Дзяржаве патрэбен быў новы гаспадар. Паны - рада адвергла дамаганні на трон і сына Жыгімонта, і нястомнага Свідрыгайлы (які урэшце рэшт задаволіўся пажыццёвым уладаннем на Валыні). Згодна з дамоўленасцю з Польшчай, паводле якой пасля смерці вялікага князя яго пасад павінен перайсці да польскага караля, яны паслалі ў Кракаў дэпутацыю прапанаваць каралю Уладзіславу вялікакняжацкі трон. Аднак ён не прыняў гэтай прапановы і прызначыў каралеўскага намесніка ў княства ў асобе свайго малодшага брата, 12-гадовага Казіміра, тым самым парушыўшы дамоўленасць. Магнатаў і шляхту ВКЛ ахапіла моцнае абурэнне. Падобныя дзе-

янні караля былі расцэнены імі як замах на дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасць іх дзяржавы. Фактычна ВКЛ станавілася правінцыяй Польшчы. Не прадугледжвалася нават існаванне пасады вялікага князя літоўскага, а замест яго краінай павінен быў кіраваць намеснік ад імя караля.

У такіх абставінах Рада ВКЛ рашылася на наступны крок. Спаіўшы польскіх паслоў, якія прыбылі ў Вільню ад Уладзіслава Ягелончыка, Рада сабралася на начное пасяджэнне, каб абраць вялікага князя самім, незалежна ад Польшчы. Дэбаты і спрэчкі працягваліся ўсю ноч. Прэтэндэнтаў было пяцёра. Усе яны ў аднолькавай ступені мелі шанц заняць трон ВКЛ. Толькі перад самым досвіткам галасы паноў з Рады схіліліся ў бок Казіміра. Той збіраўся заняць сваю пасаду намесніка, яшчэ не ведаючы, што ён ужо абраны гаспадаром дзяржавы.Такім чынам у чарговы раз была разарвана унія з Польшчай.

Незайздросная спадчына дасталася маладому князю. У выніку крывавай грамадзянскай вайны 30-х гадоў краіна была спустошана, многія гарады і вёскі ляжалі ў руінах. Дзяржаўная скарбонка амаль апусцела. Існавала рэальная пагроза дзяржаўнаму суверэнітэту і тэрытарыяльнай непадзельнасці ВКЛ. Польшча імкнулася падпарадкаваць сабе княства шляхам новай уніі.

Адразу пасля ўступлення Казіміра на трон ускраінныя землі дзяржавы выявілі намер аддзяліцца і ўтварыць асобныя княствы. У сепаратызме гэтых абласцей выяўляліся палітычныя амбіцыі прайграўшых прэтэндэнтаў. Казімір, які дзейнічаў з дапамогай сваіх дарадцаў, сярод якіх вылучаўся мудрасцю і адвагай земскі маршалак Ян Гаштольд, ваеннай сілай, а найболей дыпламатычнымі сродкамі спачатку ізаляваў, а потым знішчыў гнёзды сепаратызму ў краіне.

Польскі кароль Уладзіслаў не хацеў прызнаваць сапраўднай каранацыю новага вялікага князя літоўскага. Адносіны паміж дзвюма дзяржавамі былі вельмі напружанымі. Не да спадобы быў палякам абвешчаны Казімірам шлях да дзяржаўнага суверэнітэту. Але ў 1444 г. абставіны перамяніліся. У бітве пад Варнай Уладзіслаў Ягелончык - камандуючы венгерскім войскам (ён тады з'яўляўся і венгерскім каралём) быў забіты. Польская магнатэрыя і шляхта вярнуліся да старой выпрабаванай палітыкі ў дачыненні да ВКЛ.

На сойме 1445 г. вялікі князь Казімір быў абраны польскім каралём. Не адразу сам Казімір і Рада ВКЛ прынялі такую прапанову, выдатна разумеючы, што за гэтым крокам палякаў хаваецца імкненне падпарадкаваць, а потым з цягам часу і пазбавіць незалежнасці княства. Толькі ў 1447 г. Казімір даў нарэшце згоду прыняць польскую карону, прысягнуўшы аднак пры гэтым панам ВКЛ і ўвогуле ўсяму грамадству краіны ў тым, што ён ніколі не будзе пакідаць у бядзе Літву, будзе заўжды дбаць пра яе дзяржаўныя інтарэсы.

**З абраннем вялікага князя Казіміра на польскі прастол пачаўся другі этап саюзных адносін ВКЛ з Польшчай (першы завяршыўся ў 1434 п, калі са смерцю Ягайлы была скасавана унія гэтых дзяржаў).** У 1447 г. зноў устанавілася персанальная унія, якая шмат дзесяцігоддзяў служыла асновай саюза дзвюх раўнапраўных дзяржаў, кожная з якіх мела сваю эканоміку, фінансы, армію, заканадаўства, дзяржаўны апарат і вяла сваю самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку. Разам са смерцю Казіміра ў 1492 г. унія была прыпынена, але ў 1501 г. зноў аднавілася, калі каралём Польшчы быў абраны вялікі князь Аляксандр. Пасля смерці Аляксандра польскія феадалы зноў абралі сваім каралём вялікага князя Жыгімонта I і унія захавалася. Яна захоўвалася і пасля ўступлення на польскі прастол Жыгімонта II Аўгуста.

Нягледзячы на прыняцце польскай кароны, Казімір выдаў у 1447 г. у Вільні прывілей, які замацоўваў суверэнітэт і адасобленасць ВКЛ. Прывілей забараняў ураду раздаваць дзяржаўную маёмасць і пасады іншаземцам. Гэтыя артыкулы былі накіраваны супраць пранікнення польскіх феадалаў у Вялікае княства і адлюстроўвалі адмоўныя адносіны літвінскіх феадалаў да рознага роду дамаганняў іншаземцаў. Прывілей 1447 г. ураўноўваў эканамічныя і асабістыя правы праваслаўных феадалаў з феадаламі-католікамі, хоць дыскрымінацыя пры назначэнні на дзяржаўныя пасады захоўвалася. Ён таксама заклаў асновы юрыдычнага афармлення прыгоннага права ў ВКЛ - абмежаваў права пераходу сялян, даў феадалам права чыніць суд над залежнымі сялянамі.

Прыняцце Казімірам польскай кароны не прывяло да знікнення ці змякчэння супярэчнасцяў паміж ВКЛ і Польшчай. Польскі бок

дамагаўся больш цеснай уніі, не хаваў свайго жадання поўнасцю далучыць княства да кароны. Ды і ўзмежныя праблемы абвастрылі адносіны паміж дзяржавамі да такой ступені, што, здавалася, вось-вось выбухне вайна. Шэраг буйнейшых магнатаў ВКЛ: Радзівілы, Гаштольды, Осьцікі і другія - нават адаслалі польскаму ураду назад свае гербы, прынятыя імі ў выніку Гарадзельскай уніі 1413 г.

У гэтых абставінах Казіміру трэба было валодаць сапраўдным майстэрствам дыпламатыі і кампрамісаў. Як вялікі князь літоўскі ён бараніў, як мог, інтарэсы княства, але, з другога боку, як польскі кароль ён быў вымушаны дбаць і пра Польшчу, хоць не адзін раз уздымаў свой голас супраць вялікадзяржаўнай палітыкі гэтай дзяржавы ў дачыненні ВКЛ. Сімпатыі Казіміра былі на баку Вялікага княства, аднак яму прыгходзілася выступаць у якасці трацейскага пасрэдніка ў адносінах дзвюх дзяржаў. Не заўсёды ў яго атрымлівалася гэтая роля. Неаднойчы польскія паны і магнаты абвінавачвалі яго ў тым, што ён не клапоціцца пра дзяржаўныя інтарэсы Польшчы, што больш спрыяе Літве. Сярод польскай шляхты нават распаўсюдзілася меркаванне, што ў Польшчы няма караля і што ўвогуле Казімір не варты каралеўскай кароны. І толькі ўпартае імкненне трымаць пад сваім уплывам суседнюю дзяржаву прымушала Польшчу змірыцца са знаходжаннем Казіміра на польскім троне. У сваю чаргу панам і магнатам ВКЛ здавалася, што Казімір недастаткова абараняе іх інтарэсы. Дайшло нават да таго, што на соймах 1456 і 1461 гг. яго хацелі пазбавіць вялікакняжацкага пасада.

Казімір кіраваў ВКЛ 52 гады, у тым ліку 47 гадоў ён трымаў польскую карону. За больш як паўстагоддзя, калі ёц стаяў на чале краіны, у жыцці ВКЛ адбыліся значныя зрухі і змены. Вобразна кажучы, гэта быў пераходны перыяд ад "эпохі гераічных спраў", калі асноўныя намаганні былі засяроджаны на стварэнні і пашырэнні дзяржавы, абароне яе ад іншаземных захопнікаў, да "эпохі стваральнай працы", якая прывяла да духоўнага і культурнага ўздыму ў наступным стагоддзі. Трывала замацавалася ў справаводстве дзяржаўная беларуская мова. Пашырыліся культурныя сувязі ВКЛ з замежнымі, асабліва заходнееўрапейскімі краінамі. Літвінскія юнакі маглі набываць веды ў славутых універсітэтах Еўропы. Прычым ВКЛ не толькі запазычвала культурныя дасягненні Захаду, але

і само спрыяла распаўсюджванню кніжнасці і асветы, уносіла новыя струмені ў культурнае жыццё Еўропы.Так, у 1480 г. выхадзец з княства Ян Ліцвін (Джон Літа) заснаваў першую друкарню ў Лондане.

На працягу ўсёй другой паловы XV ст. працягваўся працэс складвання беларускага этнасу, які ў тыя часы быў вядомы ў свеце пад назвай "літвіны" і "русіны", з усімі толькі яму ўласцівымі асаблівасцямі.

Католік па веравызнанню, Казімір быў цярпімы ў пытаннях веры. Пры ім будаваліся праваслаўныя цэрквы і шэраг манастыроў, у тым ліку Жыровіцкі — святыня ўсіх праваслаўных беларусаў. Праваслаўнай царкве ён даў шматлікія прывілеі, дараванні, фундушы, праваслаўнаму духавенству - аднолькавыя правы з каталіцкім. У 1458 г. была адноўлена Літоўская праваслаўная мітраполія. У далейшым мітрапаліты на кіеўскую кафедру вылучаліся ў ВКЛ, незалежна ад канстанцінопальскага патрыярха. Казімір цалкам падтрымліваў ідэю Фларэнційскай уніі 1439 г., накіраванай на збліжэнне і аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай канфесій.

Кадыфікацыя права, зробленая пры Казіміры, узняла на новую ступень прававую культуру ВКЛ. Першая спроба ўсталяваць адзіныя прававыя нормы на ўсёй тэрыторыі дзяржавы, абмежаваць свавольства суддзяў, а таксама ўзмацніць прававую ахову феадальнай маёмасці і ўвесці жорскія меры пакарання злачынцаў была зроблена ў Судзебніку 1468 г. Напісаны на беларускай мове і зацверджаны вялікім князем, ён уяўляў сабой своеасаблівы падручнік дзяржаўным суддзям.

Актыўную палітыку праводзіў Казімір на міжнароднай арэне. Галоўнай мэтай яго дыпламатыі было забеспячэнне пакою і міру на межах Польшчы і ВКЛ. Гэтую задачу яму ўдалося ажыццявіць. У 1449 г. Казімір заключыў спрыяльны для ВКЛ мір з Маскоўскай дзярЖавай, згодна з якім княства захавала ўсе свае тэрытарыяльныя набыткі на ўсходзе. Не меней актыўную дзейнасць развіў Казімір і ў заходнім напрамку. Тут асноўным аб'ектам яго пільнай увагі заставаўся Тэўтонскі ордэн - істотна аслаблены ў выніку Грунвальдскай перамогі, але ўсё яшчэ небяспечны сусед. Пачатая ў 1454 г. вайна Польшчы з Ордэнам (ВКЛ з-за супярэчнасці з каро-

най удзелу ў вайне не брала) завяршылася падпісаннем у 1466 г. Таруньскага пагаднення, па якім Польшча набыла паморскія гарады і тэўтоны прызналі сваю васальную залежнасць ад Ягелонаў. Жамойць тады канчаткова была ўключана ў склад ВКЛ.

Аднак час праўлення Казіміра стаў часам аслаблення ўплыву Вялікага княства ва Усходняй Еўропе. З сярэдзіны XV ст. яно канчаткова губляе свой ранейшы наступальны парыў. Пасля смерці Вітаўта яго пераемнікі адмаўляюцца ад агульнарускай праграмы, сканцэнтраваўшы свае намаганні на захаванні цэласнасці сваёй дзяржавы. Пераход Гедымінавічаў ад наступу да абароны супадае па часе з поспехамі аб'яднаўчай палітыкі Масквы. Праграму стварэння ва Усходняй Еўропе магутнай дзяржавы, ядром якой з'яўляліся б усходнеславянскія землі, унаследаваў праўнук Вітаўта - вялікі князь маскоўскі Іван III. Узмацненне актыўнасці Івана III, асабліва пасля перамогі над ханам Ахматам на Угры ў 1480 п, пагражала ўладанням Вялікага княства Літоўскага, і яго ўрад быў не ў стане папярэдзіць страту шэрагу прыгранічных тэрыторый. У канцы XV—XVI стст. маскоўскія князі "ашчыпваюць" усходні край дзяржавы Гедымінавічаў.

**У 1470 г. Казімір зрабіў недапушчальную памылку, пайшоўшы на саюз са слабеючай з кожным годам Залатой Ардой супраць набіраючай моцы Маскоўскай дзяржавы.** Гэта пагадненне прывяло да разрыву адносін ВКЛ з крымскім ханам Менглі-Гірэем, які веў барацьбу з залатаардынцамі. З другога боку, Іван III выкарыстаў зручны момант, каб аформіць двухбаковую кааліцыю Масквы і Крыма супраць ВКЛ.

Перад смерцю кароль і вялікі князь Казімір завяшчаў карону вялікіх князёў літоўскіх свайму сыну Аляксандру, а палякам раіў абраць каралём другога свайго сына - Яна-Альбрэхта. Памёр ён у 1492 г. у Гародні. Са смерцю Казіміра закончылася цэлая эпоха ў жыцці ВКЛ.

## Дзяржаўны лад у ВКЛ

Сістэма кіравання краінай у ВКЛ развівалася на аснове старажытнага права, што бытавала ў Полацкім, Менскім, Наваградскім, Тураўскім і іншых княствах. Пасля заключэння Крэўскай уніі і ўсё

большага збліжэння з Польшчай у арганізацыю кіравання дзяржавай сталі пераносіцца тыя рысы і формы, якія склаліся ў Польшчы.

Кіраўніком дзяржавы быў вялікі князь (гаспадар), у большасці часу ён з'яўляўся аднкачасова каралём Польшчы. Вялікі князь з'яўляўся таксама суддзёй, адміністратарам, галоўнакамандуючым узброеных сіл краіны. Галоўным яго абавязкам была абарона ўласнасці і тэрыторыі гаспадарства. Вялікі князь меў шырокія паўнамоцтвы: права весці міжнародныя справы, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір, ён прызначаў на дзяржаўныя пасады і распараджаўся дзяржаўнымі маёнткамі. Яму належала права заканадаўчай ініцыятывы і за яго подпісам выдаваліся ўсе найважнейшыя заканадаўчыя акты,

Вялікі князь выбіраўся з прадстаўнікоў дома Гедымінавічаў (пазней Ягайлавічаў) напачатку ў вузкім коле найважнейшых саноўнікаў, а з канца XV ст. - на Вальным (агульным) Сойме з удзелам прадстаўнікоў усіх зямель. Інаўгурацыя (узвядзенне на пасаду, каранацыя) вялікіх князёў адбывалася ў Вільні, у касцёле святога Станіслава. На галаву новаабранага гаспадара ўскладалася мітра Гедыміна, а потым маршалак земскі ўручаў яму меч і скіпетр.

Ажыццяўляў свае паўнамоцтвы вялікі князь не аднаасобна, а з удзелам Рады, сойма і службовых асоб вярхоўнага кіравання. Прававое становішча вялікага князя літоўскага было тыповым для становішча абмежаванага феадальнага манарха і ў некаторай ступені было падобным на прававое становішча прэзідэнта ў рэспубліцы: яго правы грунтаваліся на выбарнай аснове, хоць у заканадаўчых актах і падкрэслівалася, што ўлада яму дадзена "ад Бога", "з ласкі божай".

На мяжы XV—XVI стст. неабмежаваная княжацкая ўлада, якой яна была ў часы Гедыміна, Альгерда, Вітаўта, паступова адыходзіла ў нябыт. Дзяржаўны лад ВКЛ можна вызначыць як парламенцкую манархію. Непасрэдны ўплыў вялікага князя, які аднкачасова быў і польскім каралём, на дзяржаўныя справы аслабляўся яго частымі і працяглымі ад'ездамі ў Польшчу. У час знаходжання ў Польшчы князь не меў права займацца дзяржаўнымі справамі ВКЛ. Імі займалася Рада. Спачатку Рада была дарадчым органам пры князі і назначалася гаспадаром па яго ўласным выбары. Паступова

значэнне і моц Рады раслі, і яна замест дарадчай установы пры вялікім князі зрабілася кіруючым органам, які ўжо юрыдычна абмяжоўваў уладу гаспадара. Яна стала пастаянным выканаўча-распарадчым заканадаўчым, кантрольным і судовым органам. З цягам часу ўстанавіўся пэўны састаў Рады. Права засядаць у ёй мелі каталіцкія біскупы, ваяводы, кашталяны, некаторыя старосты, самыя важныя службовыя асобы цэнтральнага ўпраўлення (маршалак земскі, канцлер, гетман найвышэйшы, падскарбій земскі і інш.) і некаторыя буйныя феадалы па асабістых запрашэннях. Раней у склад Рады ўваходзілі выключна католікі, але к пачатку XVI ст. сярод іх былі ўжо і праваслаўныя. Поўны састаў Рады налічваў 45 чалавек, а пасля рэформы 1565 г. і стварэння новых ваяводстваў іх стала 65.

Кампетэнцыя Рады была такой жа шырокай, як і самога гаспадара. Яна вырашала пытанні абароны дзяржавы. міжнародных адносін, бягучага кіравання, фінансавай дзейнасці, назначэння на вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Толькі з удзелам Рады рыхтаваліся і прымаліся новыя заканадаўчыя акты, выдаваліся граматы і прывілеі. Рашэнні, прынятыя з удзелам Рады, не маглі быць зменены або адменены аднаасобна вялікім князем.

Уся Рада збіралася эпізадычна, некалькі разоў у год, і разбірала толькі важныя справы. А ўсю бягучую работу па кіраванню дзяржаўнымі справамі ад імя Рады выконвала Найвышэйшая, або Тайная, Рада, у якую ўваходзілі ваяводы, кашталяны, канцлер, падскарбій земскі, гетман, маршалак земскі. Прававое становішча Рады было замацавана ў агульназемскіх прывілеях 1492 і 1506 гг.

У сваёй дзейнасці Рада вымушана была ўлічваць палітычную сітуацыю ў краіне, а таксама знешнепалітычную абстаноўку. Усё гэта прымушала яе дзейнічаць з пэўнай аглядкай Гдаволі часта склікаць агульнадзяржаўныя соймы, каб заручыцца падтрымкай усяго саслоўя шляхты.

Агульнадзяржаўны (Вальны) сойм меў важнае значэнне ў сістэме органаў дзяржаўнай улады. На яго пасяджэнні запрашаліся ўсе буйныя феадалы, што ўваходзілі ў састаў Рады, службовыя асобы цэнтральнага і часткова мясцовага кіравання, вярхі каталіцкага і праваслаўнага духавенства, а таксама па 2 дэпутаты ад шляхты з

кожнага павета. Усе шляхціčы мелі права з'яўляцца на соймы, але паколькі яны ўхіляліся ад яўкі, у 1512 г. быў прыняты закон, паводле якога павятовай шляхтай выбіраліся па 2 дэпутаты ад кожнага павета. Іншыя слаі насельніцтва сваіх прадстаўнікоў на сойме не мелі. На соймах выпрацоўваўся агульны кірунак знешняй і ўнутранай палітыкі дзяржавы. Ён быў форумам вострай палітычнай барацьбы, абмяжоўваў уладу вялікага князя і, часткова, Рады. Інстытут Вальных соймаў дазваляў сярэдняй і дробнай шляхце прымаць удзел у палітычным жыцці краіны.

Уся работа сойма загадзя рыхтавалася Радай, якая назначала час і месца склікання сойма, рыхтавала праекты пастаноў. Прадстаўнікі ад паветаў падавалі просьбы і скаргі ад імя шляхты сваіх паветаў, адказы на якія даваў гаспадар, параіўшыся толькі з панамі з Рады. Кампетэнцыя сойма не была дакладна вызначана. Але меліся і справы, што адносіліся да выключнай кампетэнцыі сойма: абранне вялікага князя, абвяшчэнне вайны, устанаўленне падатку на вядзенне вайны і вызначэнне памераў войск, службы з феадальных маёнткаў, заключэнне ваенных саюзаў, уніі з Польшчай. На соймах прымаліся заканадаўчыя акты і па іншых пытаннях, асабліва па выкананню правасуддзя. Соймавыя пастановы называліся ўхваламі, у XVII—XVIII стст. - канстытуцыямі.

У ВКЛ кіраванне ў цэнтры і на месцы ажыццяўлялі службовыя асобы-урадаўцы (ураднікі), якія кіравалі асобнымі галінамі цэнтральнай адміністрацыі ў княстве."

Вышэйшымі службовым асобамі ў дзяржаве былі маршалак земскі, гетман, канцлер і падскарбій. **Маршалак земскі** старшынстваваў на пасяджэннях сойма і Рады, абвяшчаў пастановы гаспадара і Рады на гэтых пасяджэннях, быў даглядчыкам за парадкам і этыкетам пры двары і падчас афіцыйных цырымоній, кіраваў прыёмам замежных паслоў, дапушчаў да гаспадара просьбітаў са скаргамі і чалабітнымі, судзіў за злачынствы, зробленыя на сойме.

**Гетман найвышэйшы** камандаваў узброенымі сіламі дзяржавы, калі на чале іх не стаў сам вялікі князь.У час ваенных дзеянняў ён меў самыя шырокія паўнамоцтвы адносна ўсіх падначаленых асоб, у тым ліку права караць вінаватых. Яго намеснікам быў **гетман дворны, або польны.**

У войску знаходзіліся **земскі харужы** з земскай харугвай (сцягам). Ён узначальваў прыватныя і павятовыя харугвы, што далучаліся да гетманскага войска. Існавала пасада дворнага харужага, які захоўваў сцяг пры вялікім князю і камандаваў атрадам дваран.

**Канцлер** кіраваў дзяржаўнай канцылярыяй, пад яго наглядам ажыццяўлялася падрыхтоўка законапраектаў, прывілеяў, грамат і іншых дакументаў з дзяржаўнай канцылярыі. У яго знаходзілася вялікая дзяржаўная пядахка, без якой ніводзін закон не мог уступіць у сілу, ён падпісваў і найважнейшыя дзяржаўныя акты. Яго намеснікам быў **падканцлер**, які пры адсутнасці канцлера выконваў яго абавязкі. Канцлёру падтпарадкоўваліся шматлікія сакратары (пісары), дзякі, талмачы. У канцылярыі пісьмова на беларускай мове (з 1696 г. - на польскай) афармляліся ўсе пастановы і распараджэнні князя і Рады. Дакументы, што выходзілі з канцылярыі і прыходзілі туды, запісваліся ў асобныя кнігі, якія называліся Літоўскай Метрыкай.

Падскарбій земскі быў даглядчыкам дзяржаўнай казны і выконваў абавязкі міністра фінансаў, вёў улік дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў, наглядаў за спагнаннем натуральных і грашовых падаткаў і збораў. Яго намеснік - падскарбій дворны адказваў за грашовыя і матэрыяльныя сродкі, што ішлі на патрэбы гаспадарскага двара.

На ўсе вышэйшыя пасады ў дзяржаве прызначаліся толькі буйныя феадалы некаторых найбольш знатных фамілій, толькі ўраджэнцы ВКЛ, якія мелі пэўную адукацыю ці практычны вопыт дзяржаўнай службы. Усе пасады даваліся пажыццёва, і ні гасудар, ні Рада не мелі права без віны адабраць іх.

Мясцовае кіраванне на беларускіх землях было складаным. Яно залежала ад гістарычнага мінулага мясцовасці, адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і ад уладальніка тэрыторыі. Найбольш буйныя старажытныя княствы (Полацкае, Віцебскае, Берасцейскае, Наваградскае) у першай палове XVI ст. былі ператвораны ў ваяводствы, іншыя - у паветы, а такія, як Слуцкае, Кобрынскае і некаторыя іншыя, заставаліся княствамі. Асаблівае кіраванне было ў гарадах, якія атрымалі магдэбургскае права.

Галоўнай асобай у ваяводстве быў **ваявода**, які ўзначальваў тут

адміністрацыйныя, гаспадарчыя, ваенныя і судовыя органы. Назначаўся ваявода вялікім князем і Радаю пажыццёва з ліку багатых і знатных феадалаў, ураджэнцаў ВКЛ. Пры назначэнні ваяводы ў Полацкае і Віцебскае ваяводствы вялікаму князю і Радзе неабходна было заручыцца згодаю мясцовых феадалаў прыняць кандыдата на пасаду ваяводы. Аднак і пасля назначэння ваяводы феадалы гэтых зямель мелі права патрабаваць яго зняцця. Асноўныя абавязкі ваяводы заключаліся ў падтрыманні правапарадку на сваёй тэрьггорыі, кіраўніцтве выкарыстаннем усіх крыніц дзяржаўных і вялікакняжацкіх даходаў, арганізацыі ўзброеных сіл ваяводства, выкананні правасуддзя. Ваявода ўваходзіў у састаў Рады і быў абавязаны прысутнічаць на пасяджэннях сойма.

Бліжэйшымі памочнікамі ваяводы былі: **кашталян** - па ваенных справах; падваявода - па адміністрацыйна-судовых; ключнік - наглядаў за зборам даніны і чыншаў; гараднічы - камендант замка. які клапаціўся аб яго рамонце і ўтрыманні, а ў адсутнасць ваяводы ўзначальваў гарнізон замка.

Кіраўніком адміністрацыі ў павеце **быў староста**. Назначаўся ён, як і ваявода, гаспадаром і Радай з ліку буйных феадалаў. Гэтая пасада вельмі часта разглядалася як дадатковая крыніца даходаў радных паноў, а павіннасці, звязаныя с пасадай, выконваў яго намеснік - падстароста Прававое становішча старосты залежала ад павета, які ён узначальваў, і ад таго, хто гэту пасаду займаў, ад яго сувязяў і паходжання.

Староста, як і ваявода, абавязаны быў сачыць за парадкам на падведамнай тэрыторыі, наглядаў за гаспадаркай дзяржаўных маёнткаў і за паступленнем дзяржаўных даходаў, клапаціўся пра баявую гатоўнасць замкаў, збіраў апалчэнне ў выпадку ваеннай небяспекі, разглядаў крымінальныя і ваенныя справы, сачыў за выкананнем судовых рашэнняў.

У павеце захоўваліся таксама старыя пасады ключніка, стайніка, гараднічага, ляснічага, цівуна, харужага - павятовага сцяганосца, які збіраў усіх ваеннаабавязаных людзей павета ў выпадку ваеннай небяспекі.

Саслоўна-прадстаўнічымі органамі ў ваяводстве і павеце былі **ваяводскі і павятовы соймікі**. На іх маглі прысутнічаць усе шлях-

цічы павета або ваяводства. Тут абмяркоўваліся як мясцовыя, так і агульнадзяржаўныя справы. Павятовыя соймікі збіраліся штогод або нават некалькі разоў на год у павятовым цэнтры. Старшынстваваў на сойміку або найбольш высокі па пасадзе пан, або павятовы маршалак.

На павятовых сойміках выбіраліся дэпутаты на Вальны сойм, выпрацоўваліся для іх інструкцыі і наказы, а таксама хадайніцтвы і просьбы да ўрада, заслухоўваліся справаздачы і інфармацыі аб соймах, выбіраліся кандыдаты на судовыя і іншыя пасады, вызначаліся памеры падаткаў на патрэбы павета. Пры дапамозе сойміку павятовая шляхта абараняла свае мясцовыя інтарэсы перад цэнтральнымі органамі.

Ніжэйшым звяном у сістэме мясцовага кіравання былі дзяржаўцы (спачатку яны называліся цівунамі), якім даваліся ў часовае кіраванне і ўладанне двары, замкі і фальваркі (дзяржаўныя маёнткі). Яны наглядалі за гаспадаркай у маёнтках, атрымлівалі з яго частку або ўсе даходы і адначасова кіравалі ім. Яны мелі права судзіць падуладных ім простых людзей. Для нагляду над сялянамі старосты і дзяржаўцы назначалі соцкіх, дзесяцкіх, сельскіх войтаў, сарочнікаў, якія сачылі за парадкам у вёсках і выкананнем феадальных павіннасцей сялянамі.

Увесь апарат улады і кіравання ад вялікага князя да цівуна і дзесяцкага дзейнічаў выключна ў інтарэсах пануючага класа феадалаў, які складаў прыкладна 10% насельніцтва краіны, забяспечваў яго эканамічныя, палітычныя і асабістыя правы і ўладу над астатнім насельніцтвам.

## ЛЕКЦЫЯ 16

## КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIII—XV стст.

- *Літаратура. Творчасць Р. Цамблака.*
- *Архітпэктура і выяўленчае мастацтва.*

### Літаратура. Творчасць Р. Цамблака

Сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і этнічныя працэсы на беларускіх землях выклікалі змены ў культурна-гістарычных працэсах. Ва ўмовах стварэння адзінай дзяржавы, цэнтралізацыі ўлады, росту гарадоў, пашырэння сувязяў з еўрапейскімі краінамі, фарміравання народнасці адбывалася і культурная кансалідацыя. Культура Беларусі паступова ўсё больш набывала непаўторныя і адметныя рысы. Многімі агульнымі рысамі адзначаны вусная народная творчасць, літаратурныя творы, мастацтва. Высокі дзяржауны статус старабеларускай мовы, важная, а ў пэўных сферах і вызначальная, роля духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі ў Вялікім княстве Літоўскім паскаралі працэс выспявання ўласна нацыянальнай культуры беларусаў. У той жа час шматлікія войны і разбурэнні, наяўнасць натуральнай гаспадаркі, што вяла да адноснай замкнутасці грамадства, слабасць сувязяў перашкаджалі яе развіццю. Адмоўна адбіваліся на ёй этнарэлігійныя і грамадска-палітычныя супярэчнасці, абумоўленыя некаторымі тэндэнцыямі ва ўнутранай і знешняй палітыцы кіруючых колаў Вялікага княства Літоўскага.

Літаратура Беларусі - адна з самых старажытных у Еўропе. Узнікненне і пашырэнне літаратурнай творчасці на беларускіх землях звязваецца з прыняццем ў канцы X ст. хрысціянства з высокай пісьмовай культурай Візантыі і яе літаратурных дасягненняў непасрэдна ці праз аднаверную Балгарыю. Большасць жанраў, успрынятых Беларуссю, былі пераважна царкоўнага характару. Гэта жыціі, пропаведзі, малітвы, словы і іншыя творы для набожнага чытання ці царкоўнай службы, напісаныя на старажытнарускай і старажытнаславянскай (царкоўнаславянскай) мовах. На раннім этапе літаратура Беларусі была параўнальна беднай і пераважна рэлігійнай.

Абапіралася яна, галоўным чынам, на кніжныя, часам, іншанацыянальныя традыцыі. Само сабой зразумела, што мова "Тураўскага Евангелля" XI ст, як і мова пісьменнікаў, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага і канчаючы Аўраамієм Смаленскім, ёсць мова агульнаўсходнеславянская, і іх творы, хоць бы яны былі напісаны на землях цяперашняй Беларусі, не могуць разглядацца як творы ўласна беларускія.

**XIV—XV стст. з'яўляюцца першым этапам станаўлення ўласнабеларускай літаратуры.** Літаратура Беларусі ў гэты час яшчэ была цесна звязана з грэка-візантыйскімі і старажытнарускімі традыцыямі. Калі ж і ўзнікалі новыя творы, то звычайна ў традыцыйных формах і жанрах.

Арыгінальная беларуская літаратура XIV—XV стст. параўнальна небагатая і прадстаўлена традыцыйнымі жанрамі: жыціямі, хаджэннямі, пропаведзямі. Аднак лёс розных жанраў на нашых землях быў неаднолькавы. Напрыклад, такі папулярны жанр царкоўна-рэлігійнай пісьмовасці эпохі сярэднявечча, як жыціе, у адрозненне ад маскоўскай Русі на тэрыторыі Беларусі ў гэты час занепадае. У XIV—XV.стст. не было створана ніводнага арыгінальнага жыція, што сведчыць аб слабай ідэалагічнай і творчай актыўнасці мясцовага праваслаўнага духавенства, а таксама аб неспрыяльных ў Вялікім княстве Літоўскім грамадска-палітычных ўмовах для стварэння праваслаўнай царквой культа мясцовых святых. Адзіны твор гэтага жанру, тэматычна і геаграфічна звязаны з Вялікім княствам Літоўскім - "Сказанне аб літоўскіх (віленскіх) пакутніках" - быў створаны ў канцы XIV ст. ці ў Візантыі, ці заснаваны на візантыйскай крыніцы.

З усіх жанраў царкоўна-рэлігійнай пісьмовасці найбольшае развіццё на беларускіх землях у XIV—XV стст. атрымалі "хаджэнні". Непасрэдна не звязаны з кананічнай і набажэнскай літаратурай, гэты жанр узнік як вынік паломніцтва вернікаў у Палесціну, выкліканага жаданнем увачавідкі пераканацца ў сапраўднасці, "рэальнасці" евангельскіх сказанняў, пакланіцца хрысціянскім святыням, задаволіць свае рэлігійныя патрэбы, а таксама звычайную чалавечую цікаўнасць. Адну з першых вандровак у Палесціну з тэрыторыі сучаснай Беларусі зрабіла ў XII ст. Ефрасіння Полацкая. Аднак

нам невядома, ці было складзена апісанне яе паломніцтва. У XIV—XV стст. такія вандроўкі з Беларусі на Блізкі Усход сталі больш частымі, пра што сведчаць "хаджэнні" Аграфенія (канец XIV ст.), Варсанофія (другая палова XV ст.) і "Хаджэнне ў Царград і Ерусалім" Ігнація Смаляніна, напісанае рукой таленавітага і назіральнага чалавека.

Смаленскі манах Ігнацій спадарожнічаў у 1389 г. маскоўскаму мітрапаліту Пімену ў час яго чарговай паездкі ў Царград. Больш 15 гадоў прабыў Ігнацій у "святых местах" і памёр у 1405 (1406) годзе на Афоне. На працягу гэтага часу ён вёў свае падарожныя нататкі, якія ў выглядзе асобных нарысаў, пазней, відаць, дапоўненых і пашыраных, склалі "Хаджэнне Ігнація Смаляніна". Гэты твор увайшоў у летапісы і захаваўся ў многіх спісах. У ім проста, але нярэдка вобразна апісваюцца поўная прыгод вандроўка з Масквы ў Царград, знаходжанне ў сталіцы Візантыйскай імперыі, значныя падзеі грамадска-палітычнага жыцця краіны, яе храмы і манастыры. Гэта "Хаджэнне" - арыгінальны помнік літаратуры Беларусі канца XIV ст., які набыў вялікую папулярнасць і карыстаўся поспехам як у беларускіх, так і ў рускіх, украінскіх чытачоў, усяго ўсходнеславянскага свету.

У XIV—XV стст. развіваецца царкоўнае красамоўства. Аднак мясцовае духавенства не вылучыла ніводнага прамоўцы, годнага Кірылы Тураўскага.

Выдатнай з'явай у гісторыі беларускай літаратуры XV ст. была дзейнасць таленавітага царкоўнага пісьменніка і прапаведніка Рыгора Цамблака (1364—1419), балгарына па паходжанню. Частка яго жыццёвага і творчага шляху звязана з Беларуссю, і таму яго дзейнасць мае непасрэднае дачыненне да гісторыі беларускай культуры.

Выхадзец са знатнага балгарскага роду, пляменнік мітрапаліта ўсея Русі Кіпрыяна Цамблак атрымаў цудоўную гуманітарную падрыхтоўку ў Тырнаўскім манастыры. Вялікае значэнне ў фарміраванні яго светапогляду адыграў балгарскі патрыярх Яўфімій Тырнаўскі - таленавіты пісьменнік і асветнік, перакананы, што ў адзінстве веры - крыніца адзінства народа. І гэта перакананне вызначыла пазіцыю яго вучня. Цамблак быў, таленавітым прадстаўніком царкоўнага красамоўства. Ён удасканальваў свае веды і гаварыў

прамовы ў вядомых культурных цэнтрах таго часу: Канстанцінопалі, Сучаве (Малдова), Кіеве, Вільні і інш.

У сувязі з турэцкім нашэсцем на Балгарыю Цамблак вымушаны быў пакінуць радзіму і весці падзвіжніцкае жыццё ў суседніх краінах - Візантыі, Сербіі, Малдове і Вялікім княстве Літоўскім. Беларускія землі ён упершыню наведаў у 1406 г. У 1414 г., авеяны славай таленавітага прапаведніка, ён прыязджае ў Вільню, знаёміцца з праваслаўнымі епіскапамі дзяржавы і Вітаўтам. У кіраўніка Вялікага княства Літоўскага ў той час ускладніліся адносіны з маскоўскім князем Васіліем і мітрапалітам усея Русі Фоціем, які быў цесна звязаны з маскоўскім правячым домам. Прад'явіўшы Фоцію абвінавачванне ў тым, што ён, з'яўляючыся рускім мітрапалітам, не займаецца кіеўскімі манастырамі, што цэрквы разбураюцца і бяднеюць, Вітаўт на Саборы прапанаваў паставіць мітрапалітам "Кіева і ўсёй Літоўскай дзяржавы" Рыгора Цамблака. Многія епіскапы Вялікага княства Літоўскага баяліся падзелу царквы і не далі згоды, але князь усё ж дамогся свайго. На царкоўным Саборы ў Наваградку ў 1415 г. Цамблак быў узведзены ў сан кіеўскага мітрапаліта. Прымаючы пастаўленне, ён праявіў немалую мужнасць: яму абвясцілі анафему і канстанцінопальскі патрыярх, і Фоцій, які назваў Цамблака ў пасланні да рускіх епіскапаў "мятежником, поставленным от неправедного сборища, "отлученным и проклятым". Незадаволенасць Цамблакам з боку Канстанцінопаля, з боку главы ўсяленскай праваслаўнай царквы была настолькі моцнай, што яму пагражала смяротнае пакаранне.

У 1416 г. мітрапаліцкую кафедру мітрапаліт перанёс у Вільню (Кіеў быў спалены ханам Адыгеем), а сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Наваградак. Літаратурная і грамадска-палітычная дзейнасць Цамблака ў Вялікім княстве Літоўскім працягвалася да 1419 г., калі ён памёр ад моравай язвы.

Першым з праваслаўных мітрапалітаў Цамблак спрабаваў устанавіць кантакт з кіраўнікамі заходняй царквы. У 1418 г. ён удзельнічаў у рабоце Усяленскага сабора каталіцкай царквы ў Канстанцы, дзе абмяркоўвалася пытанне аб злучэнні цэркваў. У сваёй прамове ён выказаў гатоўнасць прыняць удзел у дыялогу праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.

Захавалася больш за двух дзесяткаў твораў Цамблака на старaславянскай мове. Гэта галоўным чынам пропаведзі - словы на розныя рэлігійныя святы, дні тыдня, пахвальныя словы асобным святым, а таксама іх жыціі. Як пісьменнік Рыгор Цамблак многае пераймаў у Іаана Златавуста. Яго ўрачыстыя, паэтычныя словы напісаны вобразнай мовай: багатыя метафарамі, параўнаннямі, антытэзамі. Яны нагадваюць словы Кірылы Тураўскага, аднак болын напышлівыя па свайму стылю (напісаны ў стылі "пляцення славес") і рытарычныя. Пропаведзі Рыгора незвычайныя па форме. Гэта звязана з тым, што яны былі задуманы як жывы зварот да слухачоў, і аўтар часта свядома парушаў каноны пропаведзі. Пахвальныя словы Цамблака адрозніваюцца цікавасцю да псіхалогіі гістарычных дзеячаў, маляўнічым апісаннем прыроды, хвалюючым адлюстраваннем масавых сцэн.

Творчасць Цамблака ў перыяд з 1415 па 1419 год была надзвычай плённай і вызначаецца мастацкай значнасцю. На беларускіх землях ім былі напісаны пахвальныя словы Яўфімію і Кіпрыяну, святому Дзімітрыю Салунскаму, палемічнае слова "Како держат веру немцы", прамовы на Канстанцкім саборы і пры пастаўленні на мітраполію, гімнаграфічны сціх "На ўшэсце" і шэсць пропаведзей на царкоўныя святы. У іх інтэрпрэтуюцца біблейскія сюжэты, гаворыцца аб пакутах балгарскага народа, закранаецца грамадска-палітычная рэчаіснасць Вялікага княства Літоўскага пачатку XV ст. Напісанае Цамблакам у княстве жыціе яго настаўніка, балгарскага патрыярха Яўфімія Тырнаўскага з'явілася адным з лепшых твораў гэтага жанру ў славянскіх літаратурах XV ст.

Творы Цамблака карысталіся вялікай папулярнасцю на ўсходнеславянскіх землях. Яны неаднаразова перапісваліся на працягу XV—XVIII стст. і распаўсюджваліся ў разнастайных зборніках побач з лепшымі ўзорамі аратарскай прозы - творамі Іаана Златавуста, Васіля Вялікага і г.д. Рыгор Цамблак узбагаціў старажытную беларускую літаратуру сваімі яркімі творамі. Яго "словы" адзначаны гуманістычнымі ідэямі, якія мелі важнае значэнне для развіцця самабытнай беларускай літаратуры.

Кожны народ, дасягнуўшы пэўнай ступені самапазнання, пачынае ўсведамляць гістарычнае значэнне і вартасць свайго мінулага,

памяць аб якім неабходна захаваць для будучыні. Ствараюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне гістарычныя легенды, паданні, сагі, паэмы; з узнікненнем летапісання ствараюцца аналы, хронікі, летапісы. Будучы адначасова і гістарычнымі крыніцамі, і помнікамі гістарыяграфіі, і помнікамі літаратуры, лепшыя з гэтых твораў з'яўляюцца непасрэднымі сведкамі і сродкамі актыўнага самасцвярджэння народаў у гісторыі і стаяць ля вытокаў іх прыгожага пісьменства.

Пачатак беларускага летапісання ўзыходзіць да XII—XIII стст. Аднак найбольш раннія летапісныя творы, напісаныя ў гэты час на землях Беларусі, на жаль, не захаваліся. У літаратуры XV ст. летапісы сталі самым значным і характэрным жанрам.

**Гэта быў час росту нацыянаьна-патрыятычнай і гістарычнай самасвядомасці нашых продкаў, больш глыбокага разумення велічы і каштоўнасці сваёй гісторыі.** У летапісах даволі рана пачала праяўляцца нацыянальная асаблівасць у форме і змесце, а таксама ў настроях і пачуццях іх стваральнікаў. Напісаныя на старажытнабеларускай мове, яны сталі люстэркам грамадска-палітычнага жыцця таго часу, адлюстраваннем культурнага і гістарычнага патэнцыялу нашых продкаўіх мастацкага густу. Можна з пэўным правам сказаць, **што летапісы з'яўляюцца пачаткам нацыянальнай літаратуры.**

Беларускія летапісы не толькі адлюстроўваюць у пэўнай храналагічнай паслядоўнасці гістарычныя падзеі і з'явы з жыцця Вялікага княства Літоўскага, але ўтрымліваюць легенды і паданні. прыказкі і выслоўі, а таксама арыгінальныя свецкія, воінскія аповесці, апавяданні і навелы. Аўтары летапісаў былі не толькі гісторыкамі, але і пісьменнікамі-мастакамі. І ім нельга адмовіць у добрым эстэтычным гусце і творчай фантазіі. Таму яны здабылі славу адукаваных літаратараў і таленавітых апавядальнікаў, якія адкрывалі новую старонку ў гісторыі нацыянальнай прозы. Летапісы ў аднолькавай меры чыталіся "дзяржаўнымі мужамі" і пррстымі пісьменнымі людзьмі. З іх можна было ўзяць не толькі многія гістарычныя веды, хроніку, але і маральна-дыдактычныя сентэнцыі, філасофскія ісціны, нарэшце, тут можна было прачытаць цікавыя апавяданні і аповесці, з аднаго боку, поўныя казачных чараў і фантастычнай

выдумкі і, з другога - не пазбаўленыя часта рэальнага гістарычнага зместу і жыццёвай праўды. Да такіх казачна-прыгодніцкіх твораў належыць, напрыклад, летапіснае апавяданне аб паходжанні народа літвы ад рымлян эпохі імператара Аўгуста. Пісаная гісторыя, як вядома, гэтага не пацвярджае, а створаная народам і зафіксаваная ў летапісе легенда жыве і сёння.

Адным з першых твораў уласнабеларускай літаратуры з'яўляецца "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", напісаны на старабеларускай мове невядомым аўтарам каля 1430 г. у Смаленску. Асноўны змест яго складае палітычная гісторыя Вялікага княства Літоўскага XIV ст. Галоўная ідэя - абгрунтаванне гістарычнай неабходнасці і заканамернасці палітычнага аб'яднання балта-славянскіх зямель у адной дзяржаве, ухваленне цэнтралізатарскай палітыкі літоўскіх князёў. Выкладзеныя ў творы падзеі ў асноўным адпавядаюць гістарычнай сапраўднасці і пададзены з пункту гледжання прыхільніка Вітаўта. Вельмі верагодна, што тое дасведчанне і праўдзівае апісанне падзей, звязаных з гісторыяй апошніх гадоў жыцця і смерці князя Кейстута, расказваў 600 гадоў таму яго аўтар сам князь Вітаўт.

Гэты твор вылучаецца чыста свецкім характарам, цэласнасцю і прастатой выкладу, дынамічнасцю і займальнасцю гістарычнага зместу, высокім літаратурным майстэрствам. Паводле сваёй жанравай формы ён мала нагадвае традыцыйны летапіс. "Летапісец" складаецца з 2-х частак: аповесць пра князя Кейстута (напісаная верагодней за усё ў 1430 г. у Смаленску) і "Пахвала Вітаўту", якая з'яўляецца арыгінальным творам беларускай літаратуры першай паловы XV ст. Гэта не звычайнае летапіснае апавяданне, а ўсхваляванае слова ў гонар князя. Усё сваё пісьменніцкае майстэрства, увесь літаратурны вопыт невядомы кніжнік выкарыстоўвае, каб з гонарам уславіць Вітаўта як мудрага і ўсемагутнага правіцеля. Ён гаворыць пра вялікі палітычны ўплыў Вітаўта ў Еўропе, аб тым вялікім міжнародным аўтарытэце, якім карыстаўся на міжнароднай арэне гэты князь. "Пахвала" напісана ва ўрачыста-ўзнёслым, панегірычным стылі. Поўная рэдакцыя "Летапісца" ўключае яшчэ "Аповесць пра Падолле", што была складзена ў 1430-ыя гады, магчыма, у Вільні і прысвечана апісанню гісторыі далучэння гэтай украінскай зямлі да Вялікага княства Літоўскага.

"Летапісец вялікіх князёў літоўскіх" як першы вопыт стварэння гісторыі беларускіх, літоўскіх і часткова ўкраінскіх зямель эпохі Вялікага княства Літоўскага ў многім быў недасканалым, занадта кароткім, фрагментарным і незавершаным. Але як помнік літаратуры ён змяшчае самастойныя творы, бездакорныя па форме і зместу, якім мог бы пазайздросціць сучасны празаік. Дакументальна дакладнае апісанне значных гістарычных падзей спалучаецца ў іх з жывым і займальным выкладам. Аўтар умее трымаць у напружанасці чытача. Усё гэта дае падставы бачыць у "Летапісцу вялікіх князёў літоўскіх" не толькі выдатны помнік гістарыяграфіі Літвы - Русі эпохі сярэднявечча, але і яркі ўзор беларускай гістарычнай белетрыстыкі той пары.

Гэты твор захаваўся ў шматлікіх спісах (Віленскім, Супрасльскім, Слуцкім, Акадэмічным, Красінскім, Альшэўскім, Румянцаўскім і інш.), у складзе розных летапісньгх зводаў і гістарычных кампіляцый. Ён быў пакладзены ў аснову арыгінальнай часткі "Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г." (ці "Беларускі летапіс") - першага летапіснага зводу, створанага ў Вялікім княстве Літоўскім (у Смаленску).

Звод складзены на аснове некалькіх крыніц. Ён падзяляецца на 2 няроўныя і розныя па свайму характару часткі: "Избрание летописания изложено вкратце" і "Летописец великих князей литовских". Першая частка ўяўляе сабой выбарку з рускіх летапісаў звестак па гісторыі Кіеўскай Русі, Маскоўскага і Літоўскага княстваў і храналагічна ахоплівае падзеі ад "пачатку Русі" да 1446 г. уключна. У канцы яе змешчана Смаленская хроніка, "Пахвала Вітаўту" і смаленскія запісы аб падзеях 1432—1445 гг. Смаленская хроніка ахоплівае падзеі 1430-1436 гг. У ёй у форме звязнага апавядання гаворыцца пра няўдалую каранацыю Вітаўта, сарваную правячымі коламі Польшчы, і пра дынастычную барацьбу за ўладу пасля яго смерці паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам. Другая частка зводу - "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх".

Такім чынам, звод складзены з рускіх і літоўскіх крыніц. Летапісец не слепа капіраваў лепшыя, а скарачаў, выбіраў з іх звесткі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, апрацоўваў тыя мясціны, дзе давалася залішне рэзкая, адмоўная ацэнка дзейнасці асобных вялікіх князёў.

Летапіс 1446 г. стаў важным этапам у станаўленні нацыянальнай літаратуры і паслужыў моцным штуршком для бурнага развіцця летапісання на Беларусі ў XV ст.

**Летапісанне на Беларусі ў XV ст. зрабіла ў параўнанні з папярэднім перыядам значны крок наперад. Менавіта з гэтага часу пачалася актыўная распрацоўка мясцовымі сіламі гісторыі беларускіх зямель.** Быў выпрацаваны своеасаблівы летапісны стыль: лаканічны, выразны, блізкі да мовы службовай пісьменнасці Вялікага княства Літоўскага таго часу.

### Архітэктура і выяўленчае мастацтва

**З усіх відаў мастацтва Беларусі гэтага перыяду, бадай, найбольш значныя дасягненні ў галіне архітэктуры.** З другой паловы XIII - пачатку XIV ст. пачаўся новы этап у развіцці айчыннага дойлідства. Яно спалучала традыцыю дойлідства старажытнай Беларусі XI—XII стст. і ўплыў архітэктуры Заходняй Еўропы, адкуль пранікалі раманскі і гатычны стылі. Лаканізм і суровасць знешняга выгляду, створанага масіўнасцю каменных канструкцый, цяжкавагавасцю сцен з рэдкімі праёмамі вузкіх вокан, магутнымі вежамі і сціплым дэкорам, уласцівы раманскай архітэктуры. Гатычны стыль парваў з цяжкавагавасцю раманскіх збудаванняў і супрацьпаставіў ім дынамізм фасадаў, пачуццё неадольнага імкнення ўверх; высокі, прасторны і добра асветлены інтэр'ер замяніў масіўныя канструкцыі легкімі каркасамі і калонамі. Творча перапрацоўваючы і сінтэзуючы мясцовыя і іншанацыянальныя архітэктурныя формы, беларускія майстры ствараюць самабытныя, арыгінальныя і непаўторныя помнікі дойлідства. Для гэтага часу характэрны абарончыя збудаванні, крэпасныя комплексы, а таксама культавыя пабудовы.

У XIV—XV стст. у свецкай архітэктуры з'яўляецца зусім новы, невядомы папярэдняй эпосе тып збудаванняў - манументальныя замкі-крэпасці. Іх узнікненне было абумоўлена патрэбамі абароны ад знешняй агрэсіі, паколькі беларуская зямля заўсёды прываблівала чужаземных захопнікаў і пастаянна была арэнай шматлікіх ваенных дзеянняў. Замкі абарончага прызначэння на тэрыторыі Беларусі будаваліся і раней, але пераважна з дрэва. У XIII ст. зрэдку да іх уводзіліся мураваныя вежы-данжоны (у Камянцы, Гародні, Бярэсці,

Наваградку, Полацку, Тураве). З XIV ст. пачалося будаўніцтва мураваных замкаў, якія па сваёй кампазіцыі набліжаліся да заходнееўрапейскіх рыцарскіх замкаў тыпу "кастэль". Цэлы пояс замкаў узнік уздоўж паўночна-заходняй мяжы Вялікага княства Літоўскага, утварыўшы абарончую сістэму агульнадзяржаўнага значэння.

Замкі-крэпасці звычайна ўзводзіліся на халмах, часцей за ўсё ў форме квaДрата. Яны мелі тоўстыя і высокія сцены, матутныя вежы з байніцамі. Складзеныя з цэглы і каменю замкі былі непрыступнымі для знешніх ворагаў. У выпадку нападу непрыяцеля ў іх хавалася і паспяхова абаранялася мясцовае насельніцтва. На тэрыторыі замкаў знаходзіліся жылыя, гаспадарчыя, абарончыя і культавыя збудаванні. Дзякуючы гэтаму жыхары замка маглі доўгі час жыць ізалявана і абараняцца ад ворага.

Адным з першых мураваных замкаў на тэрыторыі Беларусі з'явіўся Лідскі, узведзены ў 20-ыя гады XIV ст. на штучнай пясчанай выспе. Яго план нагадвае трапецыю з памерамі бакоў ад 80 да 93,5 м. Таўшчыня мураў - да 2 м. Замкавыя муры цалкам складзены з валуноў на вапне і толькі верхнія часткі і завяршэнне сцен — з вялікамернай цэглы-"пальчаткі". Тут знаходзіліся байніцы і баявая галерэя з памостам для воінаў. У двух вуглах збудавання былі вежы. Замак быў вырашаны ў надзвычай строгіх і лаканічных архітэктурных формах. У яго канструкцыі, кампазіцыі і выяўленчых сродках адчуваецца ўплыў раманскай архітэктуры і готыкі.

Другім найбольш раннім помнікам крэпасной архітэктуры з'яўляецца замак у Крэве (у сучасным Смаргонскім раёне Гродзенскай вобласці), узведзены ў 30-ыя гады XIV ст. Памеры яго трапецаідальнага плана большыя, чым у Лідскага замка: даўжыня бакавых сцен даходзіць да 108 м, таўшчыня - да 2,75 м; да 4-метровай вышыні яны складзены з валуноў, а вышэй абліцаваны цэглай. Тут таксама 2 вежы, размешчаныя па дыяганалі. Новае ў Крэўскім замку - вялікая вежа (так званая Княжацкая, або вежа Кейстута) вынесена за перыметр сцяны, што павялічвала яго абарончыя здольнасці.

Значэнне замкаў у Лідзе і Крэве ў гісторыі беларускай архітэктуры вельмі важнае, бо яны заклалі аснову развіцця замкавай і замкава-палацавай архітэктуры наступных стагоддзяў.

У канцы XIV - пачатку XV ст. у перыяд падрыхтоўкі да рашаючага ўдару па Тэўтонскаму ордэну старажытныя драўляныя абарончыя збудаванні ў Гародне (Стары замак) і Наваградку перабудоўваюцца ў мураваныя.

Магутны Наваградскі замак, рэшткі вежаў якога да нашага часу ўзвышаюцца на Замкавай гары. - унікальны помнік абарончага дойлідства, сведка шматлікіх слаўных і драматычных момантаў нашай гісторыі. У пачатку XIст. ён быў цалкам драўляны. У XIII ст. існавала ўжо каменная вежа-данжон, вядомая пад назвай Шчытоўка. На мяжы XIV—XV стст. былі ўзведзены яшчэ 4 вежы: Касцёльная, Малая брама, Пасадская і Калодзежная; іх злучылі сценамі. Чарговы этап умацавання замка прыпадае на канец XV і XVI стст. - пабудаваны вежы Дазорца і Меская брама. Сямівежавы Наваградскі замак у свой час быў самым магутным абарончым збудаваннем на Беларусі.

Актыўнае абарончае будаўніцтва вялося ў XIV—XVI стст. у Гародні. Старажытным ядром горада з'яўляўся драўляны замак, пабудаваны ў канцы XI ст. на высокім правым беразе Нёмана каля вусця рэчкі Гараднічанкі. У XII ст. тут былі ўзведзены мураваныя вежы - самыя раннія з вядомых на Беларусі.

Пасля пажару ў 1398 г. у Гародні пабуцаваны мураваны замак з чатырма вежамі, злучанымі паміж сабой сценамі. Вежы XII стагоддзя часткова выкарысталі пры будаўніцтве новых умацаванняў. Апрача таго, тут была яшчэ пятая вежа - "стоўп" (XII ст.). Таўшчыня сцен замка дасягала 2,5-3 м. Вежы былі квадратнымі ў плане (12x12 м), мелі каля 10 м вышыні. Паміж дзвюма вежамі ў канцы XIV ст. стаяў палац (45x15 м), вузкія вокны якога пры неабходнасці маглі быць выкарыстаны ў якасці байніц. Пазней, каля 1580 г., пры ўзвядзенні рэнесанснага палаца Стэфана Баторыя амаль усе гэтыя збудаванні былі знесены. Колькасць веж скарацілася да дзвюх.

У канцы XIV ст. каля замка была пабудавана мураваная крэпасць - Ніжні замак. Гэта значыць, што ў канцы XIV—XV стст. сістэму абарончых збўдаванняў Гародні склалі 2 замкі: Верхні (Стары) і Ніжні (Новы). Абодва мелі магутныя мураваныя сцены і злучаліся паміж сабой мостам, які ішоў праз роў.

У 1351 годзе ўзводзіцца мураваны замак у Віцебску.

Высокага ўзроўню дасягнула ў XIV - пачатку XVI ст. культавая архітэктура Беларусі. **Беларускія дойліды XV ст. стварылі зусім новы тып праваслаўнага храма і выпрацавалі ў культавай архітэктуры асобы стыль - так званую беларускую готыку.** У канцы XV - пачатку XVI ст. на Беларусі ўзнікае арыгінальны тып абарончага храма, фланкіраванага чатырма вуглавымі вежамі. Адным з першых абарончых храмаў на Беларусі быў Сафійскі сабор у Полацку, перабудаваны ў 1494—1505 гг. у храм-крэпасць.

Выдатнымі помнікамі дойлідства Беларусі эпохі позняга сярэднявечча, найбольш характэрнымі і выдатнымі ўзорамі беларускай готыкі з'яўляюцца Сынкавіцкая, Маламажэйкаўская і Супрасльская цэрквы, пабудаваныя ў заходняй Беларусі ў канцы XV - пачатку XVI ст. Гэтыя абароннага тыпу храмы, прамавугольныя ў плане, з вострым двухсхільным дахам і чатырма, як правіла, круглымі вежамі па вуглах, уяўляюць сабой крэпасці-замкі ў мініяцюры. Яны ўзніклі на аснове творчай перапрацоўкі вопыту народнай архітэктуры, беларускага замкавага дойлідства, а таксама традыцый старажытнарускага і заходнееўрапейскага культавага дойлідства. У гэтых цэрквах з вялікім мастацкім густам арганічна злучаны мясцовыя архітэктурныя формы з гатычнымі і рамантычнымі рысамі. Строгая прастата і геаметрычнасць, правільнасць ліній, сіметрычнасць складаючых частак і асобных дэталяў, стрыманая дэкаратыўнасць і ўбранасць сцен і веж Сынкавіцкай, Маламажэйкаўскай і Супрасльскай цэркваў сведчыць аб высокім майстэрстве беларускіх дойлідаў таго часу. Блізкія па агульнаму тыпу і ў той жа час вельмі індывідуальныя гэтыя помнікі - сапраўдныя ўзоры мастацкай дасканаласці. Яны ўяўляюць сабой значную з'яву ў еўрапейскай архітэктуры позняга сярэднявечча.

Самабытныя рысы беларускага манументальнага дойлідства ўвасоблены і ў іншых культавых збудаваннях, дзе не было веж. Найбольш старажытны з іх - касцёл у Ішкальдзі (сучасны Баранавіцкі раён Брэсцкай вобласці).

Беларускі жывапіс XIV—XV стст. прадстаўлены манументальнымі роспісамі, іканапісам і партрэтам.

Манументальнага жывапісу да гэтага часу захавалася вельмі мала. Толькі з архіўных і літаратурных крыніц вядома, што ў гэты час многія княжацкія палацы і храмы былі ўпрыгожаны фрэскавымі роспісамі: напрыклад, палацы ў Полацку, Гародні, Віцебску, Вільні; цэрквы абароннага значэння ў Малым Мажэйкаве, Сынкавічах, касцёл у Ішкальдзі. Але захаваліся многія фрэскі ў збудаваннях Польшчы (у Любліне, Сандаміры, Беластоку, Супраслі), якія былі выкананы беларускімі майстрамі, што запрашаліся ў Польшчу, пачынаючы з першых гадоў праўлення Ягайлы.

У жывапісе пануючым быў іканапіс. На царкоўным жывапісе гэтага часу значна сказваўся ўплыў рэальнай рэчаіснасці. Лікі "святых" на абразах мясцовага паходжання з часам ажыўляюцца, становяцца менш умоўнымі, больш зямнымі; у іх часам выяўляюцца рысы людзей з народа. Твораў беларускага станкавага жывапісу, якія датуюцца раней XIV — XV стст., не знойдзена і меркаваць аб яго характары да XVI ст. можна толькі па асобных творах, якія захаваліся: абразы "Маці Боская Замілаванне" з Маларыты Брэсцкай вобласці (XIV — XV стст.), "Маці Боская Іерусалімская" з Пінска (XV ст.), а таксама пазнейшых творах, якія ўзыходзяць да канца XV - пачатку XVI ст.: "Маці Боская Смаленская" з Дубінца, "Знаменне" з Імянін. Гэтыя творы дазваляюць меркаваць аб вельмі высокім узроўні развіцця сярэдневяковага мастацтва на беларускіх землях. Але, на жаль, гэта толькі лічаныя ўзоры некалі развітых трыдыцый. З прычыны малой колькасці і стылістычнай неаднароднасці па іх немагчыма скласці цэласнае ўяўленне аб мясцовай школе аж да сярэдзіны XVI ст. Відавочна толькі, што мастацтва XIV, XV і пачатку XVI стст. яшчэ непарыўна было звязана са старажытнарускімі і візантыйскімі традыцыямі і цалкам захоўвала лад мыслення і пачуццяў, уласцівых сярэднявечччу.

У XV ст. на Беларусі зараджаецца свецкі жывапіс, з'яўляюцца першыя партрэты канкрэтных гістарычных дзеячаў: выявы Альгерда, Аляксандра Алелькі і іншых знатгіых асоб. Увага да чалавека, яго ўнутранага свету паставіла асобу ў цэнтр мастацкіх інтарэсаў жывапісцаў, што абумовіла адыход ад рэлігійных канонаў у адлюстраванні гістарычнай асобы.

Працэс развіцця беларускай скульптуры ў XIV—XV стст. адбываўся на перакрыжаванні старажытнарускіх і заходнееўрапейскіх мастацкіх традыцый, якія творча засвойваліся і перапрацоўваліся мясцовымі майстрамі. У канцы XIV—XV стст. у скульптуры ўзмацняецца ўплыў заходнееўрапейскага мастацтва. Яе развіццё было цесна звязана з царквой. Пасля Крэўскай уніі на Беларусі будуюцца касцёлы і манастыры: у Гайне (1387), Менску, Бярэсці (каля 1390 г.). У касцёлах з'ўляецца паліхромная драўляная і каменная скульптура. Праваслаўная царква забараняла ўпрыгожваць храмы скульптурнымі выявамі, чым сур'ёзна стрымлівала развіццё пластыкі. Дайшоўшыя да нас узоры ўяўляюць сабой пераважна выявы розных святыгх, апосталаў, прызначаныя для культавых пабудоў. Грубаватыя па форме, тэхніцы выканання і дэмакратычныя па характару выявы чалавека сведчаць пра глыбокія вытокі беларускай сярэдневяковай скульптуры.

Самы ранні помнік, што захаваўся на тэрыторыі Беларусі, - "Распяцце" (XIV ст.) з Галубіч Віцебскай вобласці адзначаны рысамі раманскага стылю. Суровасць вобраза, манументальнасць, лаканізм выразных сродкаў - вызначальныя рысы гэтага твора. Асобныя скульптуры, выкананыя пад уплывам раманскага стылю, захаваліся і за межамі Беларусі. Яркі прыклад таму - скульптура Міколы Мажайскага. Выкананая ў 20-ыя гады XIV ст. з удзелам беларускіх майстроў, яна аказвала пэўны ўплыў на развіццё беларускай пластыкі.

Беларуская скульптура XV - пачатку XVI ст. адчувае ўплыў гатычнага мастацтва. У храмах з'яўляюцца створкавыя алтары-рэтаблі - складаныя скульптурна-жывапісныя комплексы, якія становяцца іх галоўнай сэнсавай і дэкаратыўнай дамінантай. Скульптура змяшчаецца ў цэнтральнай частцы алтара-корабе, рухомыя створкі распісваюцца, або на іх мацуюцца рэльефы. Гатычных алтароў на тэрыторыі Беларусі не захавалася. Да нашага часу дайшлі толькі асобныя скульптуры, якія калісьці ўваходзілі ў склад створкавых алтароў. Сярод іх значную цікавасць уяўляюць скульптуры Марыі Магдаліны і Іаана Багаслова (XV ст.) з Мсцібава (сучасны Ваўкавыскі раён Гродзенскай вобласці).

У XIV—XV стст. высокага мастацкага ўзроўню дасягнула

афармленне рукапіснай кнігі. "Кніжны жывапіс" гэтага часу дэманструе нямала твораў прафесійна сталага мастацтва: Мсціжскае і Лаўрышаўскае евангеллі (XIV ст.), Жыровіцкае, Шарашоўскае, другое Тураўскае, Віцебскай евангеллі (усе XV ст.), Радзівілаўскі летапіс (XV ст.), Смаленскі псалтыр (XIV ст.). Усе яны афармлены маляўнічымі, па-майстэрску выкананымі ініцыяламі, застаўкамі і асобнымі мініяцюрамі. У большасці помнікаў захоўваецца візантыйская традыцыя. Аднак, пачынаючы з Лаўрышаўскага евангелля, створанага на Навагрудчыне ў пачатку XIV ст., вобразы мініяцюр напаўняюцца жыццём, рухам; пачынаюцца кантакты з заходнееўрапейскім мастацтвам. Мініяцюры *Лаўрышаўскага* евангелля (іх усяго 18: "Варлаам і Іасааф", "Уезд у Іерусалім", "Архангел Міхаіл", "Іаан" і інш.) - ключавыя помнікі жывапісу. Яны сведчаць, што ўжо **ў пачатку XIV ст. у ім намячаецца пэўны адыход ад візантыйскіх схем і канонаў. У мастакоў з'явілася цікавасць да форм заходнееўрапейскага мастацтва.**

Тэндэнцыя да пераадолення візантыйскага стылю найбольш яскрава выявілася ў мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу, які датуецца 1485—1495 гг., але быў перапісаны з больш старажытных (магчыма, XI—XIII стст.) арыгіналаў. У рукапісе 618 мініяцюр, у якіх паказаны многія бакі жыцця Старажытнай Русі - палітычнага, ваеннага, гандлёвага, эканамічнага. Пераважаюць батальныя сцэны. У асобных малюнках адлюстраваны падзеі старажытнай гісторыі Полацкай зямлі (напрыклад, эпізод паўстання гараджан у Кіеве ў 1068 г, калі на прастол быў пасаджаны полацкі князь Усяслаў Чарадзей). Сюжэтнае багацце мініяцюр Радзівілаўскага летапісу робіць яго сапраўдным мастацкім летапісам сярэдневякоўя.

У XIV—XV стст. крок наперад зрабіла дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі: ювелірная справа, разьба па косці, каменю і дрэву, мастацкая апрацоўка металу, выраб рэчаў са шкла і гліны. У перыяд фарміравання беларускай народнасці закладваліся асновы ўласна беларускага ткацтва, абнаўляліся старыя і ўзнікалі новыя народныя танцы, узбагачалася і ўдасканальвалася народная музыка і спевы, актыўна развіваўся фальклор, завяршылася станаў-

ленне яго асноўных відаў і жанраў: чарадзейныя і рэалістычныя, антыпрыгонніцкія і антыцаркоўныя народныя казкі, гістарычныя, абрадавыя, лірычныя песні, легенды, паданні, загадкі, прыказкі і прымаўкі.

Такім чынам, у другой палове XIII—XV стст. працягвалася фарміраванне глыбока самабытнай па характару культуры Беларусі. Асновы ўласна беларускай культуры былі закладзены да XV ст. Будучы непасрэдна пераемніцай мясцовай культурнай спадчыны папярэдняга перыяду, яна вырастала на багатых традыцыях агульнай культуры ўсіх усходніх славян, увабрала ў сябе заходнееўрапейскія культурныя ўплывы. Далейшае ўзбагачэнне гэтай спадчыны, творчае развіццё старажытнарускіх і заходнееўрапейскіх традыцый і стварэнне новых, самабытных культурных каштоўнасцей, якія адпавядалі духу часу, складаюць асноўны змест гісторыі беларускай культуры XIV - пачатку XVI ст. З цягам часу рысы і з'явы культуры набываюць спецыфічную этнічную выразнасць і становяцца агульнабеларускімі па свайму характару.

## ЛЕКЦЫЯ 17

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ НА БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVI ст.

- *Абвастрэнне ўнутрыпалітычнага становішча. Мяцеж князеў Глінскіх.*
- *Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1566 гг.*
- *Адміністрацыйна-тэрытарыяльная, ваенная і судовая рэформы.*

## Абвастрэнне ўнутрыпалітычнага становішча. Мяцеж князеў Глінскіх

Перадсмяротным запаветам Казіміра было, каб вялікім князем Рада абрала яго сярэдняга сына Аляксандра, а польскім каралём каб стаў другі сын Ян Ольбрахт. Са смерцю гэтага Ягелона літвіны спяшаліся скарыстаць зручны момант, каб абысці акт уніі з Польшчай - займець асобнага гаспадара - і паставіць палякаў перад фактам. Сойм у Вільні прагаласаваў за Аляксандра **(1492—1506)**. Падаючы яму меч і скіпетр, маршалак сказаў: *"па волі ўсіх станаў Вялікага княства просім цябе радзіць і судзіць нас не па рымскаму, або чэшскаму, або нямецкаму звычаю, але па праўдзіваму літоўскаму і Вітаўтаву звычаю".* Своеасаблівай платай за падтрымку на сойме стаў Аляксандраў прывілей **6 жніўня 1492 г**, які значна абмяжоўваў княжацкую ўладу.

Новы валадар абавязаўся не прызначаць на дзяржаўныя пасады і не змяшчаць з іх, не распараджацца фінансамі без згоды Рады, весці дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі толькі па ўзгадненню з раднымі панамі, не адмяняць сваёй воляй рашэнні, прынятыя сумесна з імі. Дый наогул усе важнейшыя дзяржаўныя справы трэба было вырашаць толькі разам. Гэты прывілей ператвараў Раду з дарадчага органа пры князі ў кіруючы орган дзяржавы. На мяжы XV—XVI стст. адыходзіла ў нябыт неабмежаваная манаршая ўлада, якой яна з'яўлялася ў часы Гедыміна, Альгерда, Вітаўта. Вялікі князь ужо не быў самаўладцам, а падпарадкоўваўся волі Рады. Дзяржаўны лад ВКЛ набываў характар парламенцкай манархіі, пры якой княжацкая ўлада была абмежавана своеасаблівым парламентам, што складаўся з дзвюх палат: Рады і сойма.

Пасля смерці польскага караля Яна Ольбрахта Аляксандр займае яго трон і сумяшчае пасады вялікага князя літоўскага і караля польскага **(1502—1506 гг.)**, што азначала аднаўленне працэсу яднання дзвюх дзяржаў. Хоць дакараць Аляксандра ў бяздзейнасці і няздольнасці кіраваць краінай не выпадае, але трэба прызнаць, што ў яго часы княства аслабела, страціла шмат зямель - *"у войнах ён быў пазбаўлены шчасця, ніколі не выграваў",* як зазначыў польскі храніст М.Мяхоўскі; штогод гулялі па Літве татарскія загоны, паднялі галаву паны і шляхта.

Пераемнікам Аляксандра стаў яго брат, пяты сын Казіміра IV і ўнук Ягайлы Жыгімонт I (у ВКЛ - Жыгімонт II, **1506—1548**). 42 гады валадарыў ён у аб'яднанай дзяржаве. Заслужыў у сучаснікаў мянушку "Стары" за сваё даўгалецце (пражыў 81 год) і за тое, што яшчэ пры жыцці (у 1529 г.) дабіўся каранацыі свайго сына Жыгімонта II Аўгуста (у ВКЛ - Жыгімонт III) вялікакняжацкай і каралеўскай каронай.

Праўленне Жыгімонта I складае цэлую эпоху ў гісторыі ВКЛ, на якую прыпадае дастаткова падзей, што пакінулі свой след у гісторыі.

Лёс шчодра адлічыў жыццёвага шляху Жыгімонту, надзяліў незвычайнай фізічнай сілай (ён ламаў падковы і рваў вяроўкі) і падараваў дзве кароны. А здавалася, што ён так і прагібее ўдзельным глогаўскім князьком у той час, калі ягоныя браты насілі вянцы князя літоўскага, польскіх, венгерскіх і чэшскіх каралёў. Але пасля Аляксандравай смерці літвінскія паны самі прынеслі вялікакняжацкую карону Жыгімонту. А за імі і палякі, якія палохаліся разрыву уніі, выбралі яго сваім каралём.

**Жыгімонт спрабаваў умацаваць дзяржаўную ўладу ваеннымі і фінансавымі рэформамі, законамі, якія абмяжоўвалі прывілеі шляхты.** Аднак свавольная шляхта ні на крок не саступіла сваіх вольнасцей; праекты рэформаў не былі зацверджаны соймам, а спроба выкарыстаць закон выклікала феадальны мяцеж (так званая "курыная вайна" 1537 г.). З другога боку, Жыгімонт быў бездапаможны перад усемагутнымі магнатамі, якія асмельваліся дыктаваць яму свае ўмовы. І ўсё ж Жыгімонт здолеў зрабіць тое, што не асіліў Аляксандр. Ён увёў вайсковы падатак-"сярэбшчыну"; было

прынята рашэнне аб пакаранні горлам (смерцю) шляхты, якая без прычыны не выехала на вайну. Пры Жыгімонце шляхта ВКЛ дамагалася ўраўнавання ў правах з магнатамі і атрымала права выбарнасці дэпугатаў на сойм. Быў уведзены адзіны кодэкс законаў для ўсёй дзяржавы — Статут 1529 г.

Жыгімонт Стары славіўся ў Еўропе як апякун навук і мецэнат. Ва ўнутранай палітыцы ён праводзіў лінію на роўнасць шляхты незалежна ад этнічнага паходжання і рэлігійнай прыналежнасці. У многім, дзякуючы яму, з 20-х гадоў XVI ст. былі зняты абмежаванні ў палітычных правах праваслаўнай знаці, якія неаднаразова прыводзілі да канфліктаў у дзяржаве.

З канца XIV ст. унутранае адзінства ВКЛ раздзірала нявырашанае "рускае" пытанне. Пачынаючы з прывілея 1387 г., паглыбляўся антаганізм паміж праваслаўным і каталіцкім насельніцтвам дзяржавы. Апазіцыйныя да пракаталіцкага ўрада Вялікага княства беларускія і ўкраінскія феадалы на мяжы XV—XVI стст. неаднаразова выказвалі прамаскоўскія настроі. У 1481 г. была выкрыта змова супраць Казіміра ў Кіеве, на чале якой стаялі князі Міхаіл Алелькавіч Слуцкі, Фёдар Бельскі і Іван Гальшанскі. Яны выношвалі план захопу ўлады ў ВКЛ і далучэння ўсходнебеларускіх зямель па Бярэзіне да Маскоўскай дзяржавы. Змова была падаўлена, некаторыя яе ўдзельнікі — пакараны смерцю. У 80—90-я гады праваслаўныя феадалы "рускіх" зямель княства часта пераходзілі на бок Масквы разам са сваімі ўдзеламі, якія з дапамогай рускага войска далучаліся да гэтай дзяржавы.

Нявырашанае "рускае" пытанне дало сябе знаць і ў пачатку XVI ст. у выглядзе мяцяжу князёў Глінскіх **1508 г.** Гэта было найбольш значнае палітычнае выступленне ў ВКЛ пасля грамадзянскай вайны 30-х гадоў XV ст.

Адзін з найбагацейшых і ўплывовых літвінскіх магнатаў, усемагутны фаварыт вялікага князя Аляксандра, чалавек адукаваны, тонкі дыпламат, які грашыў, аднак, палітычным авантурызмам, Міхаіл Глінскі атрымаў адстаўку пры двары Жыгімонта І. Тады славалюбівы князь адкрыта выступіў супраць новага гаспадара і пачаў ствараць кааліцыю для барацьбы з ім: *"збирал прыятели одны кревные, другие за пенязи так з руси, яко з литвы".* Вопытны

палітык, які ведаў стан спраў у дзяржаве і настроі розных колаў, Глінскі добра разумеў, што можа разлічваць на поспех свайго дастаткова авантурнага пачынання толькі пры падтрымцы шырокага фронту сепаратысцкі настроенай знаці і насельніцтва "рускіх" зямель княства. Будучы каталікам, ён агітаваў беларускіх і ўкраінскіх феадалаў абараняць праваслаўе. І ён займеў шмат прыхільнікаў: *"было іх ужо вельмі многа.., якія Глінскаму дапамагалі і з ахвотай засталіся б з ім да канца і дамагаліся таго, што задумалі...",* — адзначае ў сваёй "Хроніцы" М.Стрыйкоўскі. А задумаў бунтоўны князь з "братьею своею" ні многа ні мала як стварэнне самастойнага княства з апорай на "рускі" элемент ВКЛ.

Заручыўся ён і падтрымкай маскоўскага князя, які падахвочваў яго да адкрытага выступлення. Васілю III было на руку "узбунтаванне" прыгранічных тэрыторый свайго праціўніка, што давала дадатковыя шансы на лёгкую перамогу. А дзеля аслаблення магутнага заходняга суседа маскоўскі ўрад мог пайсці на стварэнне марыянетачнага буфернага, скажам так, "Глінскага" княства. У ідэале такі зыход паўстання і прадугледжваўся. Васіль III абяцаў перадаць братам Глінскім занятыя ім на Беларусі крэпасці. Разам з аднадумцамі Міхаіл прынёс прысягу на вернасць маскоўскаму князю. Іронія лёсу: славуты герой Клецкай бітвы 1506 г. стаў здраднікам Айчыны.

На пачатку 1508 г. з 700 коннікамі ён рушыў на Гародню, каб адпомсціць трокскаму ваяводу Яну Забярэзінскаму, які агаварыў яго перад новым манархам. Таго знайшлі ў маёнтку пад Гародняй і адсеклі галаву. Гэта стала пачаткам мяцяжу. У шэрагах бунтаўшчыкоў змагалася толькі каля 2 тысяч чалавек - у асноўным васалы Глінскіх. Асноўная частка феадалаў Беларусі і Украіны іх не падтрымала, таму мяцежнікі зрабіліся фактычна дапаможным войскам Васіля III. Замацаваўшыся ў Тураве і Мазыры, атрады паўстанцаў сумесна з маскоўскім войскам аблажылі Менск, рабілі рэйды на Слуцк, Наваградак і "мало не до Вильни", але поспеху не мелі.

Размах бунту прымусіў Жыгімонта мабілізаваць сілы на абарону краіны. На чале іх стаў гетман К. Астрожскі. Падраздзяленні Глінскага і маскоўскага князя супрацьстаяць яму не маглі. Ухіляючыся ад бітвы, яны адышлі да Оршы, а потым і зусім пакінулі

межы Беларусі. Напачатку сваёй маскоўскай кар'еры Глінскі карыстаўся міласцю Васіля III, змагаўся супраць сваіх суайчыннікаў і нават дапамог Маскве заваяваць Смаленск. Пакрыўджаны тым, што маскоўскі князь не вытрымаў абяцанне і не аддаў яму ў валоданне гэты горад, Глінскі пачаў тайныя перамовы з Жыгімонтам пра вяртанне на радзіму, але быў кінуты Васілём у цямніцу, дзе і прасядзеў 12 гадоў. На нейкі час да яго вярнулася міласць маскоўскага князя, калі той ажаніўся на пляменніцы Міхаіла. Сваё жыццё здраднік скончыў няслаўна, зноў-такі ў маскоўскай турме.

Такім чынам, выступленне Глінскага закончылася няўдала. Але яно было скарыстана Васілём III для спусташэння Беларусі і замацавання за Масквой раней захопленых тэрыторый ВКЛ. А вярхоўная ўлада ВКЛ добра ўсвядоміла, што без прыцягнення на свой бок праваслаўных феадалаў усходніх зямель краіны ва ўмовах пастаяннага саперніцтва з Маскоўскай дзяржавай, ёй не ўдасца ўтрымаць у сваіх руках гэтыя тэрыторыі. З канца XV — пачатку XVI ст. урад пачынае праводзіць палітыку ўцягвання знаці "рускага" краю ў палітычную эліту Вялікага княства, шырэй прыцягвае беларускіх і ўкраінскіх магнатаў да кіравання дзяржавай, здымае абмежаванні на рэлігійнай глебе пры заняцці вышэйшых дзяржаўных пасад. Для 20—60-х гадоў XVI ст. характэрна талерантнасць дзяржавы да прадстаўнікоў розных веравызнанняў.

Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст (у ВКЛ — Жыгімонт III, **1548—1572 гг.**) прывілеем **1563 г.** адмяніў дыскрымінацыйныя гарадзельскія артыкулы і канчаткова ўраўняў палітычныя правы праваслаўнай рускай шляхты з каталіцкай.

### Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1566 гг.

У XVI ст. прававая культура ВКЛ зрабіла велізарны скачок і ўзбагаціла еўрапейскі вопыт сістэматызацыі і кадыфікацыі заканадаўства. Удзельнікамі сойма 1522 г. было ўзнята пытанне аб звядзенні ў адзін збор усіх прывілеяў і законаў дзяржавы. Вялікі князь ухваліў гэту ініцыятыву і загадаў пачаць складанне Статута.

Праца па яго падрыхтоўцы працягвалася сем гадоў. Вяла яе камісія ў складзе службовьгх асоб, мясцовых вучоных, юрыстаў, прадстаўнікоў духавенства. Пайменна іх цяпер устанавіць немагчыма. Ся-

род іх, верагодна, быў Францыск Скарына, які меў самую высокую для таго часу юрыдычную адукацыю. Тады ў Вільні, дзе ствараўся Статут, працавала яго друкарня - першая ва Усходняй Еўропе. Шмат якія скарынінскія прававыя ідэі былі ў ім увасоблены. Кіраваў падрыхтоўкай збору законаў канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд.

Работа праводзілася старанна. Збіралі і перапісвалі ўсе старыя бытавыя і палітычныя ўзаконенні. Распрацоўвалі новыя юрыдычныя нормы, адпаведныя часу. Складальнікам Статута давялося вырашаць шэраг складаных тэарэтычных і практычных пытанняў. Калі ўлічыць, што падобных сістэматызаваных збораў мясцовых законаў у той час не было ні ў адной з еўрапейскіх дзяржаў, дык яшчэ больш зразумелыя будуць цяжкасці, якія ўзнікалі пры падрыхтоўцы Статута, і больш відавочныя заслугі яго складальнікаў.

Выпрацаваны камісіяй збор быў прадстаўлены на разгляд Віленскага сойма **1529 г.** Адобраны соймам і зацверджаны Жыгімонтам I, ён стаў своеасаблівай Канстытуцыяй ВКЛ, спрыяў яе цэнтралізацыі, умацаванню законнасці, абмежаванню феадальнага свавольства. У 13-ці раздзелах і больш як у 200 артыкулах Статута юрыдычна замацаваны асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу, склад і паўнамоцтвы органаў дзяржаўнага кіравання і суда, прававое становішча класаў, саслоўяў і сацыяльных груп. Напісаны на старабеларускай мове, ён быў даступны ўсім пісьменным людзям таго часу.

Сама эпоха і ўмовы, у якіх складаўся I Статут, надалі яму вельмі выгадныя рысы ў параўнанні з заканадаўствам краін Заходняй Еўропы, Польшчы, Маскоўскай дзяржавы. У сярэдзіне XIX ст. вядомы польскі вучоны, гісторык права славянскіх народаў В.А.Мацеёўскі пісаў: "Літоўскі Статут з'яўляецца вялікім помнікам заканадаўства сваёй эпохі і такім, якога не мела сучасная яму Еўропа".

**У аснове Статута ляжалі такія прагрэсіўныя для свайго часу і навеяныя эпохай Адраджэння прынцыпы, як суверэннасць дзяржавы, адзінства права, яго свецкі характар, прыярытэт пісанага права, талерантнасць і добразычлівыя адносіны да розных народаў ВКЛ.** Пад уплывам гуманізму ў Статут былі ўнесены нормы, якія некалькі абмяжоўвалі свавольства магнатаў; абвяшчалася правіла, паводле якога ўсе асобы "як убогія, так і багатыя", павінны былі судзіцца адным правам, выкладзеным у гэтым зводзе.

Вялікі князь абавязваўся захоўваць цэласнасць дзяржавы, не дапускаць іншаземцаў на дзяржаўныя пасады, не даваць ім маёнткаў, зямель, чыноў, не адбіраць у мясцовых феадалаў пасады і маёмасці без суда, захоўваць існуючыя законы і выдаваць новыя толькі з панамі раднымі.

Аднак не трэба ідэалізаваць Статут, выдаваць яго за ідэал дэмакратыі новага часу. Гэта "дэмакратыя" распаўсюджвалася толькі на меншасць — вярхі грамадства. У цэнтры яго ўвагі - клопат аб цэласнасці ўласнасці і ўлады феадалаў. Ён юрыдычна замацаваў прывілеяванае становішча магнатаў і шляхты і абмежаванне праvoў сялян.

Большасць артыкулаў Статута заставалася толькі дэкларацыямі ў сувязі са слабасцю судова-выканаўчых органаў і цэнтральнай улады.

Апошнія абставіны не змяншаюць значэнне I Статута ВКЛ як помніка права і культуры. Яго прыняцце было прагрэсіўнай з'явай у жыцці дзяржавы. Ён стаў трывалай асновай для далейшага развіцця заканадаўства.

Наступныя за прыняццем I Статута 20—30 гадоў сталі эпохай глыбокіх пераўтварэнняў ва ўсіх галінах жыцця ВКЛ. У княстве распаўсюдзіліся ідэі Рэфармацыі, якія закранулі розум многіх людзей. Назіраецца росквіт духоўнасці, культуры. З'явілася беларускае кнігадрукаванне. Перыяд 1529—1566 гг. быў надзвычай важным для развіцця многіх дзяржаўна-прававых інстытутаў ВКЛ. Афармілася кампетэнцыя сойма як вышэйшага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады. Аграрная рэформа сярэдзіны XVI ст. прывяла да росту і ўмацавання феадальнай уласнасці, зацвердзіла ў якасці вядучай формы феадальнай гаспадаркі фальваркова-паншчынную сістэму. У палітычным жыцці ў гэты час аслаблялася роля знатнай арыстакратыі і ўзмацнялася значэнне новых буйных феадалаў, такіх як Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Кішкі, Пацы і інш. Гэтыя змены патрабавалі ўдасканалення права. У 1544 г. Брэсцкі сойм звярнуўся да вялікага князя з просьбай выправіць і надрукаваць Статут.

Недахопы права адчуваў і сам урад. Для падрыхтоўкі новага праекта ў 1551 г. была створана камісія з 10 чалавек (5 каталікаў і 5

праваслаўных). Такі яе веравызнаўчы склад адлюстроўваў канфесійную сітуацыю ў ВКЛ і ўносіў патрабаванне аб рэлігійнай цярпімасці. Членамі камісіі былі маршалкі, харужыя, *"иные особы народу шляхецкого, доктори прав чужоземских".* Адным з апошніх, відаць, быў доктар права іспанец Пётр Раізій, які прыехаў у Вільню ў 1563 г. З вядомых нам членаў камісіі па складанню II Статута - знаўца магдэбургскага і кананічнага правоў жамойцкі епіскап Ян Даманоўскі, архідыякан Віленскай капітулы Станіслаў Наркускі. Сярод свецкіх членаў — Павел Астравіцкі, віленскі земскі суддзя, і Марцін Валадковіч, пісар вялікакняжацкай канцылярыі.

Праз 10 гадоў працы камісія падала новы праект. Ён абмяркоўваўся на соймах 1561 і 1564 гг. і пасля спрэчак па асобных артыкулах набыў законную сілу толькі ў **1566 г.** II Статут быў большым за першы аб'ёмам, лепшы сістэматызацыяй матэрыялу і ўзроўнем кадыфікацыйнай тэхнікі.

Ен складаўся з 14-ці раздзелаў, якія падзяляліся на 367 артыкулаў. Да найбольш важных належаць нормы дзяржаўнага права, якія вызначылі склад тэрыторыі дзяржавы, парадак утварэння і дзейнасць органаў улады, правы і прывілеі пануючага класа. **Асноўнымі прынцыпамі абвяшчалася прытрымліванне дзяржаўнага суверэнітэту, абмежаванне ўлады гасудара; упершыню намячалася аддзяленне суда ад органаў улады і кіравання.** Вялікі князь быў абавязаны захоўваць ВКЛ ва ўсёй яго славе, уладзе і *"в границах ни в чом не вменшати и о вшем примношати".* Ён абяцаў: "... *добра князства Литовского неуменшым и то, што будет через неприятелей того панства нашого отдалено и разобрано и ку иншому панству от того панства нашого коли кольвек упрошоно, ку Короне, ку Машовшу, ку Прусем, ку Инфлянтом, то за се ку власности того Великого князства привести привлащати и границы оправити обецуем".* Аднак дзеянні Жыгімонта II Аўгуста ўвайшлі ў супярэчнасць як з гэтым палажэннем Статута, так і з прысягай, якую ён даваў, уступаючы на прастол, аб захаванні тэрытарыяльнай цэласнасці ВКЛ.

**У II Статуце больш поўна і ясна была паўторана норма, выкладзеная ўжо ў 1529 г., якая забараняла даваць маёнткі і пасады чужа-**

земцам і суседзям ВКЛ. Напісаны ён быў на беларускай мове, а потым перакладзены на лацінскую і польскую.

З прыняццем Статута 1566 г. кадыфікацыя і сістэматызацыя ўласнага заканадаўства нашмат апярэдзіла падобную работу ў іншых краінах. Гэта таксама сведчыць, што ў ВКЛ ужо ў той час грамадскія адносіны стаялі на даволі высокім узроўні і былі юрысты, падрыхтаваныя тэарэтычна і практычна, каб адлюстраваць і замацаваць гэтыя адносіны ў заканадаўстве.

## Адміністрацыйна-тэрытарыяльная, ваенная і судовая рэформы

Адной з першых мер, якая была ажыццёўлена ўрадам ВКЛ у XVI ст., была змена адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, што склаўся ў мінулым і захаваў многія рысы пары феадальнай раздробленасці. У новым дзяленні на ваяводствы ўдзельныя княствы зніклі. Віцебская зямля ў 1503 г. ператворана ў Віцебскае ваяводства, у 1504 г. стала ваяводствам Полацкая, у 1508 г. - Смаленская землі. У 1507 г. узнікае Навагрудскае ваяводства.

Уніфікацыя адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу дзяржавы была працягнута рэформай **1565—1566 гг.** Паводле яе, былі створаны новыя ваяводствы — Брэсцкае, Мінскае і Мсціслаўскае, а ўся тэрыторыя ВКЛ была падзелена на 30 паветаў, якія ўвайшлі ў 13 ваяводстваў. Восем з іх цалкам ці ў большасці сваёй складаліся з беларускіх паветаў: *Полацкае: Полацкі; Берасцейскае: Берасцейскі, Пінскі; Віцебскае: Віцебскі, Аршанскі; Мінскае: Мінскі, Рэчыцкі, з 1569 г. - Мазырскі, які да гэтага ўваходзіў у склад Кіеўскага ваяводства; Мсціслаўскае: Мсціслаўскі; Навагрудскае: Навагрудскі, Ваўкавыскі, Слонімскі; Віленскае: Ашмянскі, Лідскі, Браслаўскі (астатнія паветы знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Летувы); Трокскае: Гродзенскі (астатнія на тэрыторыі Летувы).*

Устаноўленыя рэформай межы ваяводстваў і паветаў захаваліся без істотных змен на тэрыторыі Беларусі да канца існавання Рэчы Паспалітай, хаця пасля Люблінскай уніі колькасць ваяводстваў зменшылася да 9, а паветаў - да 22 (з іх 16 былі на Беларусі).

Рэформа 1565-1566 гг. не змагла цалкам пераадолець сапраўд-

ны хаос у адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле ВКЛ. У тэрыторыі паветаў і ваяводстваў укліньваліся каралеўскія эканоміі, існавалі таксама воласці, войтаўствы, староствы, дзяржавы, графствы, намесніцтвы, ардынацыі.

Тым не менш утварэнне ваяводстваў і паветаў было перспектыўным крокам, накіраваным на далейшую цэнтралізацыю дзяржавы.

Пасля рэформы ваяводствы сталі таксама і ваеннымі акругамі. Агульнае камандаванне ўзброенымі сіламі даручалася ваяводам і іх памочнікам кашталянам, павятовае войска ўзначальваў маршалак. Пад кіраўніцтвам гэтых асоб павінны былі выступаць усе ваеннаабавязаныя ваяводства.

Вайсковая служба ў Вялікім княстве была ўдзелам феадальнага саслоўя. Дробная шляхта павінна была асабіста прысутнічаць у войску. Тыя, хто меў маёнткі і падданых, абавязаны былі яшчэ пастаўляць узброеных воінаў.

У Статуце 1566 г. падкрэслівалася, што вайсковая служба з'яўляецца ганаровым абавязкам шляхты, а заняткі рамяством і гандлем ганьбяць яе. У асобным артыкуле гаварылася, што *шляхціч, які пераехаў у горад і "торг мескій ведучы або шынк в дому маючы, або ремесло робечы", губляў свае правы.* Але яго дзеці мелі права вярнуцца да "рыцарскай справы" з поўным захаваннем іх шляхецкіх правоў і годнасці.

Усе ваяводствы выстаўлялі прыблізна аднолькавы кантынгент воінаў ад агульнай колькасці жыхароў. Улічваючы, што ў ВКЛ большасць насельніцтва былі беларусы і ўкраінцы, менавіта з іх складаўся галоўны кантынгент узброеных сіл дзяржавы. А пасля Люблінскай уніі — з беларусаў. Паводле "попісу" 1528 г. (імяннога спісу шляхты з указаннем колькасці выстаўленых узброеных коннікаў), войска ВКЛ болей як на 60% складалася з ураджэнцаў Беларусі. З гэтага попісу мы даведваемся пра беларускія карані родаў Хмяльніцкіх, Панятоўскіх, Касцюшкі.

На працягу XVI ст. адбыліся значныя змены і ў судовым ладзе ВКЛ. У гэты час назіраецца парушэнне тыпавога для сярэднявечча прынцыпу, згодна з якім органы дзяржаўнай улады адначасова выконвалі судовыя функцыі. Другая тэндэнцыя - набыццё судовым

ладам саслоўнага характару - стварэнне судоў для шляхты, мяшчан, сялян, духавенства, татар, яўрэяў, хаця пры гэтым захоўваліся і агульнасаслоўныя ўстановы.

Суды ВКЛ падзяляліся на вышэйшыя, так ці інакш звязаныя з вялікім князем, і мясцовыя, якія дзейнічалі ў ваяводствах і паветах.

Самым высокім судовым органам быў вялікакняжацкі, ці гаспадарскі суд, суд паноў-Рады і іх разнавіднасці: соймавы суд (праводзіўся князем і панамі раднымі ў час сойма) суд камісарскі, асэсарскі і скарбовы трыбунал.

У 1581 г. быў створаны і ў 1582 г. пачаў працаваць Трыбунал ВКЛ (Галоўны суд) - вышэйшы апеляцыйны суд дзяржавы, які абмежаваў судовую ўладу вялікага князя і паноў-Рады. Ён складаўся з 46 суддзяў, якіх штогод выбірала шляхта на павятовых сойміках. Сесіі Трыбунала праводзіліся ў Вільні, Мінску, Наваградку. Пастанова (дэкрэт) Трыбунала выносілася па большасці галасоў і абскарджанню не падлягала.

Сярод мясцовых судоў найбольш старадаўнім быў замкавы, ці гродскі суд, пасяджэнні якога праводзіліся ў замку, ці, як яго яшчэ называлі у тыя часы, — горадзе, градзе. Суддзямі выступалі службовыя асобы мясцовай адміністрацыі — ваявода, стараста, дзяржаўца і іх намеснікі. Тут разглядаліся справы па абвінавачванню шляхты, мяшчан і сялян, значыць, у некаторай ступені ён быў усесаслоўным судом. У другой палове XVI ст. у склад гродскага суда былі ўключаны прадстаўнікі мясцовых феадалаў, якія ўжо валодалі спецыяльнымі ведамі ў галіне права. Гэта сведчыла пра пэўныя зрухі ў судаводстве, пра аддзяленне суда ад адміністрацыі.

Да канца XVIII ст. на Беларусі дзейнічаў старажытны копны суд, які разглядаў пераважна справы сялян. Суддзямі тут былі простыя людзі — копныя мужы ці копныя старцы. Іх пастановы, як правіла, выконваліся адразу.

Шляхцічаў і іншых асоб, якія ўчынялі злачынствы ў час ваеннай службы, маглі судзіць службовыя асобы каманднага саставу арміі: гетман, ваявода, кашталян, маршалак, харужы — у залежнасці ад часу, месца і цяжкасці злачынства, асобы абвінавачваемага і пацярпеўшага.

Шляхта патрабавала, каб яе судзіў не вялікі князь і яго адмініст-

рацыя, а сама шляхта. Бельскі сойм 1564 г. устанавіў земскія суды - выбарныя шляхецкія саслоўныя суды, упершыню цалкам аддзеленыя ад мясцовай адміністрацыі. Канчатковае прававое афармленне яны атрымалі Статутамі 1566 і 1588 гг.

Земскія суды — гэта важны этап у развіцці судовага ладу і права ў ВКЛ, у фарміраванні правоў і прывілеяў літвінскай шляхты. Іх узнікненне выклікала неабходнасць новай прафесіі — юрыста.

Земскі суд складаўся з суддзі, падсудка і пісара, якіх выбірала на павятовым сойміку шляхта. Затым вялікі князь зацвярджаў іх. Выбранымі маглі быць толькі ўраджэнцы княства, шляхцічы, землеўладальнікі, людзі дабрачынныя, хрысціянскай веры, якія ведалі права, умелі пісаць і не займалі духоўных і'дзяржаўных пасад (апошняе сведчыць, што ствараўся суд, незалежны ад царквы і адміністрацыі). Суддзі абіраліся пажыццёва. Пры ўступленні на пасаду яны давалі публічную прысягу, што будуць судзіць справядліва, непрадузята, нягледзячы на грамадскае і матэрыяльнае становішча людзей, асабістыя адносіны да іх.

Справы ў земскім судзе разбіраліся пасесійна. Сесіі збіраліся тры разы на год. Судаводства вялося да сярэдзіны XVII ст. на беларускай, потым на польскай мове.

Новыя суды абаранялі не толькі дзяржаўныя інтарэсы, але і інтарэсы прыватных асоб. На іх пасяджэннях разбіраліся справы князёў, баяр, шляхты, што мелі ў павеце свае землі, за выключэннем спраў, што разглядаліся вялікакняжацкім і гродскімі судамі. У асноўным земскі суд разглядаў грамадзянскія і крымінальныя справы па абвінавачванню шляхты. Гэта быў пераварот у судаводстве.

Другім судом, аддзеленым ад органаў дзяржаўнага кіравання, стаў падкаморскі суд, створаны ў 1566 г. Ён разглядаў зямельныя спрэчкі і іншыя справы, звязаныя з прэтэнзіямі па землеўладанню, якіх было вельмі шмат.

У гэтым судзе зямельныя спрэчкі вырашаў падкаморый з удзелам саміх бакоў. Гэта пасада лічылася ганаровай і даходнай, бо значная частка судовых пошлін, якія ўнеслі бакі, ішла ў даход суддзі. На яе трэба было выбіраць *"в праве и писма русского уметных шляхтичов".* Памочнікам падкаморыя ў вымярэнні і ўстанаўленні межаў землеўладанняў быў каморнік.

Разгляд справы ў гэтым судзе адбываўся на месцы граніц землеўладанняў. Там жа падкаморый слухаў тлумачэнні бакоў, паказанні сведкаў, разглядаў пісьмовыя довады, выносіў сваё рашэнне, паказваў на мясцовасці, дзе павінна праходзіць мяжа, устанаўліваў межавыя знакі.Таму гэты суд часта называлі "межавым".

На новых прынцыпах выбарнасці і ўдзелу прадстаўнікоў гарадскога насельніцтва стаў будавацца ў другой палове XVI ст. войтаўска-лаўніцкі і бурмістраўскі суды, якія ствараліся ў гарадах, атрымаўшых граматы на магдэбургскае права. Такія граматы ў XVI ст. мелі ўсе значныя гарады Беларусі. Гэтым судам былі падсудныя крымінальныя і грамадзянскія справы гараджан. Існаваў каптуровы суд, які дзейнічау у час міжкаралеўя,

**Стварэнне выбарных, незалежных ад адміністрацыі судоў, хаця б толькі для некаторых саслоўяў, сведчыла пра новы этап у развіцці прававой культуры грамадства, пра імкненне да паступовага ўсталявання прававога парадку ў дзяржаве.** Выбарны незалежны суд быў прасякнуты задачамі служэння не толькі інтарэсам дзяржавы, але і правам асобных людзей, задачам абароны правапарадку, нават ад органаў дзяржаўнай улады. Гэты радыкальны пераварот у прававой тэорыі і поглядах на роль суда ў грамадстве Беларусі і Літвы ў XVI ст. пачаў ажыццяўляцца ў Заходняй Еўропе толькі ў XVII—XVIII стст. Статут 1588 г. у значнай ступені паставіў дзейнасць мясцовай адміністрацыі пад кантроль суда.

У сучаснай літаратуры нярэдка перабольшваецца значэнне і роля права і суда ў княстве. ВКЛ характарызуецца як прававая дзяржава. На практыцы справы абстаялі інакш. Значным недахопам судовай сістэмы дзяржавы з'яўлялася адсутнасць надзейнага механізма, які забяспечваў бы выкананне судовых рашэнняў. Абсалютная большасць насельніцтва - простыя людзі зусім былі пазбаўлены правадольнасці, іх лёсам поўнасцю распараджаліся іх уладальнікі - паны. У пастанове Варшаўскага сойма 1537 г. гаварылася: *"Духоўныя і свецкія ўладальнікі маюць права на поўнае падпарадкаванне і паслухмянасць сваіх падданых, а калі апошнія будуць ім супраціўляцца, то такія ўладальнікі могуць сваіх падданых... караць па свайму меркаванню ".*

## ЛЕКЦЫЯ 18

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў КАНЦЫ XV - ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVI ст.

- *Умацаванне сувязяў з Польшчай.*
- *Канфрантацыя з Маскоўскай дзяржавай.*
- *Адпор набегам крымскіх татар.*

## Умацаванне сувязяў з Польшчай

**У знешняй палітыцы Вялікага княства Літоўскага ў гэты перыяд галоўнымі былі тры цесна ўзаемазвязаныя напрамкі: адносіны з Польшчай, Маскоўскай дзяржавай і Крымскім ханствам.** Міжнароднае становішча княства на гэтым этапе характарызавалася ўзмацненнем сувязей з Польшчай, з якой ВКЛ знаходзілася ў персанальнай уніі; далейшымі канфліктамі з Маскоўскай дзяржавай, якая імкнулася захапіць беларускія і ўкраінскія землі; арганізацыяй адпору набегам крымскіх татараў, а таксама стратай Ягелонамі сваіх пазіцый у Еўропе.

Персанальная унія паміж Польшчай і ВКЛ, якая з перапынкамі існавала з 1385 г., скончылася ў 1492 г., калі памёр вялікі князь літоўскі і адначасова кароль польскі Казімір Ягелончык. Літоўскія, беларускія ўкраінскія магнаты, не зважаючы на ранейшую унію з Польшчай, па просьбе Казіміра выбралі на вялікакняжацкі трон Аляксандра Казіміравіча (1492—1506), а польскія магнаты абралі каралём Польшчы яго брата Яна Ольбрахта. Аднак складаныя палітычныя абставіны ў абедзвюх дзяржавах, канфлікт ВКЛ з Маскоўскай Руссю, а Польшчы - з Крымскім ханствам прымусілі іх зрабіць захады да аб'яднання. Маскоўская і крымская небяспека прымушала літвінскіх палітыкаў бачыць у саюзе з Польшчай калі не выйсце з нялёгкага становішча, то магчымасць аблегчыць яго. Але княству было патрэбна "ровное злучэнне", без прыніжэння "почесности обеюх панств", а не рабаўніцкая унія, якая пазбаўляла б яго дзяржаўнай самастойнасці.

У 1501 г. памёр Ян Ольбрахт. Каралём Польшчы быў абраны вялікі князь літоўскі і рускі Аляксандр Казіміравіч (1502—1506).

10 Зак. 82

Больш таго, у Мельніку ў 1501 г. быў падпісаны акт аб уніі. Ён прадугледжваў стварэнне аб'яднанай дзяржавы з агульным уладаром,соймам і адзінай грашовай сістэмай. Мельніцкі акт аб уніі прадугледжваў, што "Карона і Вялікае княства павінны аб'яднацца і згуртавацца ў адно непарыўнае цэлае, абы былі адна нацыя, адзін народ, адно брацтва і агульныя рады". Але гэта дэкларацыя і яе ўзнёслыя словы засталіся на паперы, бо ў 1505 г. сойм ВКЛ адмовіўся ратыфікацаваць унію, якая пагражала ліквідацыяй літвінскай дзяржаўнасці, і паміж Польшчай і ВКЛ заставалася аж да 1569 г. толькі персанальная унія, хаця палітыка дзяржаў стала лепш каардынавацца.

Саюзнікамі ВКЛ і Польшчы ў Еўропе былі Чэхія і Венгрыя. У 1471 г. сын вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка Уладзіслаў стаў каралём Чэхіі, а з 1490 г. - адначасова і каралём Венгрыі, такім чынам, палітыка гэтых дзяржаў узгаднялася.

У адрозненне ад свайго бацькі Казіміра Жыгімонта, відаць, менш хвалявалі еўрапейскія справы. Можа таму з такой лёгкасцю ён і саступіў Габсбургам чэшскую і венгерскую кароны. У 1515 г. паміж Жыгімонтам Казіміравічам і германскім імператарам Максіміліянам Габсбургам было заключана пагадненне аб адносінах паміж Габсбургамі і Ягелонамі. Было дамоўлена, што, калі ў Аўстрыі згасне род Габсбургаў, яна стане валоданнем Ягелонаў, а калі згасне чэшска-венгерская лінія Ягелонаў, то іх пераемнікамі будуць Габсбургі. У 1526 г. утапіўся ў балоце падчас уцёкаў разам з венгерскім войскам ад туркаў пасля няўдалай бітвы Людвіг ІІ Ягелон, на якім скончылася чэшска-венгерская лінія Ягелонаў. Вялікія па тэрыторыі, багатыя эканамічна каралеўствы Венгрыі і Чэхіі перайшлі (аж да 1918 г.) ў рукі Габсбургаў. Такое становішча змяніла суадносіны палітычных сіл у Еўропе на карысць Габсбургаў, якія валодалі таксама Іспаніяй, Нідэрландамі і іншымі землямі на старым кантыненце, калоніямі Іспаніі ў Амерыцы, і мела важнае значэнне для лёсу многіх народаў.

Затое ў 1525 г. Тэўтонскі ордэн быў пераtвораны ў свецкае герцагства Прусію, залежнае ад Польшчы. Звязанае з ёй уніяй, ВКЛ атрымала магчымасць умешвацца ва ўнутраныя справы Прусіі, а з 1539 г. - Лівоніі.

## Канфрантацыя з Маскоўскай дзяржавай

У XIII—XV стст. пагроза незалежнасці і існаванню ВКЛ зыходзіла з розных бакоў: Галіцка-Валынскага княства, да пачатку XV ст. найбольшую небяспеку ўяўляў Тэўтонскі ордэн, з другой паловы гэтага стагоддзя галоўная пагроза ідзе з Усходу, дзе ўсё больш адкрытую варожасць дэманстравала Маскоўская дзяржава.

У 50—80-я гады XV ст. адносіны паміж ВКЛ і Маскоўскай Руссю рэгуляваліся трактатам **1449 Г,** які ў гістарычнай літаратуры кваліфікуецца як *"вялікі акт падзелу Русі паміж Вільняй і Масквой".* Манархі Казімір і Васіль II абавязваліся захоўваць непарушнасць ўсталяваных межаў паміж дзяржавамі. Маскоўскі князь браў на сябе абавязак "не вступагася" ў вотчыну Казіміра: "ни в Смоленск, ни в Любутеск, ни во Мценск, ни во вси... вкраинные места". У сваю чаргу, Казімір адмаўляўся ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі і Пскоў, але Цвер заставалася сферай уплыву ВКЛ. Дагавор заклікаў суседнія дзяржавы *"жыти в любви, быти везде заодин".* Аднак гарачае імкненне адных захаваць за сабой беларускія і ўкраінскія землі, а другіх авалодаць імі не давала магчымасць ажыццявіць гэты высакародны заклік.

Асноўнай праблемай у палітычных дачыненнях Вільні і Масквы ў канцы XV - пачатку XVI ст. з'яўлялася т. зв. "спадчына Рурыкавічаў" - населеная пераважна праваслаўнымі ("рускімі» - па тагачаснай тэрміналогіі) землі, якія ў IX—XII стст. уваходзілі ў сістэму княстваў Русі. Гэтае суперніцтва брала свой пачатак яшчэ з XIV ст. Ініцыятыву спачатку трымалі ў сваіх руках вялікія літоўскія князі, якія ў XIII—XIV стст. сабралі пад эгідай Наваградка і Вільні болынасць зямель колішняй Русі. З цягам часу ініцыятыва ў збіранні "рускіх зямель" пачала паступова пераходзіць да Масквы, якая ў спрэчках з Літвой выкарыстоўвала 2 галоўныя аргументы: рэлігійнае першынства і прыналежнасць сваіх уладароў да дынастыі Рурыкавічаў.

У 1471—1478 гг. вялікі князь маскоўскі Іван III (1462—1505) падпарадкаваў сабе схільны аддацца пад уладу Літвы Ноўгарад, ў 1484—1485 гг. лерамог даўняга ворага і апошняга канкурэнта Масквы - здаўна саюзнае Літве княства Цвярское. Тады ж Іван III упершыню ў практыцы двухбаковых адносін выставіў прэтэнзіі адносна Полацка, Смаленска, Віцебска і іншых "рускіх" гарадоў.

Фактычная інкарпарацыя Цверы з'яўлялася парушэннем дамовы 1449 г., па якой на гэтае княства распаўсюджваўся пратэктарат Літвы. Аднак вялікі літоўскі князь Казімір, заняты ў той час паўднёвымі справамі, не жадаў дзеля Цверы ўскладняць і без таго напружаныя адносіны з Іванам III. Ён толькі даў збегламу князю цвярскому палітычны прытулак, але аказаць яму ваенную дапамогу катэгарычна адмовіўся.

Пасля канчатковага звяржэння мангола-татарскага ярма (1480) і ўзмацнення сваёй дзяржавы князь маскоўскі прыступіў да актыўнай экспансіі на захадзе, абгрунтоўваючы сваю палітыку тэзісам аб праве Масквы на абшары ўсёй былой імперыі Рурыкавічаў.

Прэтэнзіі на суседнія беларускія і ўкраінскія землі з кожным годам становяцца ўсё больш катэгарычнымі. Ужо ў 1489 г. Казімір Ягайлавіч пачуў адкрыты папрок Івана III: *"Нашы гарады і воласці, і землі, і воды кароль за сабою трымае... "*

Абвяшчэнне беларускіх і ўкраінскіх зямель сваёй вотчынай было падрыхтавана таксама палітычнымі выступленнямі праваслаўнай знаці ўсходнеславянскіх (рускіх) зямель ВКЛ, якая, будучы незадаволенай сваім нераўнапраўным становішчам у параўнанні з феадаламі-католікамі, выказвала прамаскоўскія настроі. Гэтыя перабежчыкі з ВКЛ і маглі падказаць Івану III ідэю "адзінай Русі"і нават пераканаць у рэальнасці яе выканання. Адным з першых перабег у 1481 г. на бок Масквы, ратуючыся ад кары, удзельнік нядаўняй змовы князь Фёдар Бельскі. З 1483 па 1493 гг. "на службу ў Маскву" перайшлі князі Варатынскія, Бялеўскія, Мярэцкія, Вяземскія, Адоеўскія. Такі арганізаваны пераход быў падрыхтаваны вялікім маскоўскім князем, які ўмела выкарыстоўваў незадаволенасць царкоўнай палітыкай Казіміра і Аляксандра - літвінскія паслы абвінавачвалі яго ў пасылцы "прелестных листов" (ад слова "прельшать"). Прыняўшы маскоўскае падданства, здраднікі захоўвалі за сабою зямельныя надзелы, якія з вайсковай дапамогай суседскай дзяржавы ўключаліся ў яе склад.

Гэтак без абвяшчэння адкрытай вайны ў апошняе дзесяцігоддзе панавання Казіміра на ўсходніх межах княства пачаліся сапраўдныя ваенныя дзеянні. **Ідэалагічным прыкрыццём далучэння новых тэрыторый для маскоўскага ўрада быў лозунг**

**абароны праваслаўя ў ВКЛ.** Вайна Масковіі з княствам рабілася немінучай.

Яна выбухнула адразу, як толькі Іван III даведаўся пра смерць Казіміра. Вялікая армія рушыла з-за ўсходняй мяжы на тэрыторыю ВКЛ і на працягу **1492—1493 гг.** захапіла шэраг зямель і гарадоў да Вязьмы. Не жадаючы ісці на канфлікт з суседам, віленскі двор намераваўся нейтралізаваць яго праз шлюб вялікага літоўскага князя Аляксандра з Іванавай дачкой Аленай. У **1494 г.** было дасягнута пагадненне аб новай мяжы паміж дзяржавамі. Да Масквы адышлі Вяземскае княства і землі ў басейне верхняй Акі. Аляксандр прызнаваў усе ад'езды вярхоўскіх князёў і далучэнне да Масквы іх уладанняў, а таксама адмаўляўся ад прэтэнзій на Ноўгарад, Пскоў, Цвер і Разань. Вялікае княства Літоўскае ўступіла значныя тэрыторыі, якія цяпер клінам уразаліся ў глыб краіны. Іван III пацвердзіў абавязацельства свайго папярэдніка не "вступатнся" ў Смаленск. Абодва гасудары абяцалі дапамагаць і шанаваць адзін аднаго. Мірны дагавор быў замацаваны шлюбным саюзам.

Дынастычны шлюб, на жаль, не прынёс Літве жаданага міру. Іван III хоць і не вёў цяпер супраць зяця адкрытай вайны, шкодзіў яму чужымі рукамі - падбухторваў крымскага хана Менглі-Гірэя, з якім быў звязаны мірным пагадненнем 1480 г. Называючы яго "братом и другом", Іван III накіраваў хана пустошыць суседнюю краіну: *"Садись на конь и иди на Литовскую землю не мотчая!"* З таго часу пачаліся штогадовыя набегі татараў на ВКЛ: 1483, 1494, 1495, 1496, 1497, 1498...

Мірнай згоды 1494 г. паміж Іванам III і Аляксандрам хапіла на шэсць гадоў. У XVI ст. абедзве дзяржавы ўвайшлі ў стане вайны паміж сабою.

Фармальнай зачэпкай для яе з'явілася раздутае маскоўскай прапагандай пытанне аб веры Іванавай дачкі вялікай княгіні літоўскай Алены, якую нібыта схілялі ў каталіцтва, і быццам бы маючых месца праследаваннях праваслаўнага насельніцтва ВКЛ, а таксама аб новым тытуле маскоўскага князя - "государь всея Руси", які заключаў у сабе непрыхаваную, адкрытую прэтэнзію на "рускія" землі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, вызначаў палітычную праграму Івана III. Аляксандр не прызнаў за мас-

коўскім уладаром новага тытула, бачачы ў ім замах на дзяржаўную ўласнасць сваёй краіны.

Абураны гэтым, маскоўскі ўладар абвясціў Аляксандру вайну. Але фактычна новае ваеннае сутыкненне было справакавана пераходам вясной 1500 г. на бок Масквы некаторых памежных князёў, незадаволеных умовамі службы ў Аляксандра: Сямёна Бельскага, Сямёна і Івана Мажайскіх, Васіля Шамяціча. Разам з імі адпалі іх валоданні: Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Старадуб, Гомель, Рагачоў і інш. Прымаючы ўцекачоў, Іван III апраўдваў гэта неабходнасцю бараніць аднаверцаў, якія быццам бы церпяць уціск і гвалт у сваёй краіне.

Каб урэгуляваць канфлікт паміж дзяржавамі, у Маскву адразу накіравалася літвінскае пасольства. Вялікі князь Аляксандр пайшоў на кампраміс і ўпершыню звяртаўся да Івана III як да "государа всея Руси", патрабуючы вярнуць "здрадцаў" (князёў - перабежчыкаў) і не чыніць больш крыўд на межах. Але вялікі князь маскоўскі пераклаў усю віну на Аляксандра і, выслаўшы назад яго паслоў, у маі 1500 г. накіраваў на ВКЛ сваё войска. Толькі пасля гэтага ў Вільню быў адпраўлены ганец з граматай пра абвяшчэнне Івана III, які "христианство хочет стояти", вайны. Яго войска тым часам авалодала Бранскам, Пуціўлем, Старадубам, Гомелем, Ноўгарад-Северскім і іншымі гарадамі.

На пачатку вайны Аляксандр накіраваў з Вільні на ўсход "сцерагчы межы" атрад гетмана Канстанціна Астрожскага. **14 ліпеня 1500 г.** ён сустрэўся на рацэ Ведрашы (цяпер гэта ў Ельнінскім раёне Смаленскай вобласці) з маскоўскім войскам "*и учинили межы собою бой и сечу великую, и побила москва литву".* Здавалася, весці 4 тысячы на 40 - самагубства! Але Астрожскі цвёрда вырашыў: *"Мала ці многа масквічоў будзе, ды толькі ўзяўшы бога ў падмогу біцца з імі, а не біўшыся - назад не вяртацца".* Яго малалікая конніца спачатку ашаламіла ворага атакай, але потым, сціснутая маскоўскімі палкамі, прайграла бітву і была амаль цалкам знішчана. Загінулі лепшыя вайсковыя сілы княства, сам гетман трапіў у палон. Гэта была першая значная перамога над войскам ВКЛ у палявой бітве, якіх раней маскоўскія ваяводы пазбягалі. *"Бысть тогда радость велия на Москве",* - занатаваў

іх трыумф летапісец.Трагедыя на Ведрашы стала пачаткам новага этапа супрацьстаяння дзвюх найбуйнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы. Вітаўтаву праграму стварэння тут магутнай дзяржавы, ядром якой з'яўляліся б усходнеславянскія землі, атрымаў у спадчыну яго ўнук Іван III.

Не падрыхтаваны да вайны, разгублены вялікі літоўскі князь Аляксандр спадзяваўся ўрэгуляваць канфлікт дыпламатычным шляхам, апеляваў да хрысціянскай маралі і заклікаў свайго цесця апамятацца, скардзіўся, што яго ваяводы *"шкоды вялікія ўчынілі, замкі знакамітыя паздабывалі, воласці папалілі і людзей пабралі... да Масквы завялі",* прызнаў за ім новы тытул. Паслы ВКЛ спрабавалі нейтралізаваць саюзніка Івана III хана Менглі-Гірэя і разарваць небяспечны маскоўска-крымскі саюз, заручыліся падтрымкай Заваложскай Арды і Лівонскага ордэна. Абранне Аляксандра польскім каралём у 1501 г. давала магчымасць выкарыстаць і польскую дапамогу ў вайне з Масковіяй. Войскі той у 1502 г. беспаспяхова намагаліся ўзяць непрыступны Смаленск, які адкрыў бы маскавітам шлях у глыб Літвы, але па словах "Хронікі Быхаўца", пад горадам "пераможаны былі і з ганьбою ды няславаю прагнаны". Але яны захапілі і спалілі Оршу, разрабавалі ваколіцы Мсціслаўля, Полацка, Віцебска, даходзілі аж да Бярэзіны.

Толькі заключэнне уніі з Польшчай і падтрымка ВКЛ Лівонскім ордэнам схілілі Івана III да перамоў. Спыніць вайну яго заклікаў і Папа Рымскі, і дачка - вялікая літоўская княгіня Алена. У **1503 г.** было абвешчана 6-ці гадовае перамір'е і вызначаны новыя межы паміж дзяржавамі. Да Масквы адышла трэцяя частка тэрыторыі ВКЛ з 19 буйнымі гарадамі, у тым ліку Гомелем, Бранскам, Чарнігавам, Ноўгарад-Северскім, Старадубам, і 70 валасцямі ў вярхоўях Акі, Дзясны і Дняпра і ў ніжнім цячэнні Сожа. Граніца наблізілася да яго жыццёва важных цэнтраў. Тады Беларусь упершыню страціла свае этнічныя землі: Гомельшчыну, Смаленшчыну, а таксама Браншчыну. На перамовах 1503 г. упершыню ў гісторыі ўзаемаадносін дзяржаў маскоўскі бок запатрабаваў усяе "Рускай зямлі": "вся Русская земля, Божьею волею, из старины, от наших прародителей наша отчизна". Іван

III ужо забыўся, што "из старины" яго вотчынай быў невялічкі маскоўскі ўдзел.

Як адзначыў А.Гваньіні, *"за адзін ваенны паход і за адзін год Масквіцін захапіў усё тое, што шмат гадоў і з вялікімі цяжкасцямі здабываў вялікі князь літоўскі Вітаўт".* Гэта рабіла непазбежнай новую вайну з Масквой, на карысць якой рэзка змяніла суадносіны сіл у рэгіёне ваенная кампанія **1500—1503 гг.** Моц ВКЛ заставалася нязломленай, але яе не хапала, каб вярнуць захопленыя землі.

На аслабленую вайной ды стратай тэрыторый дзяржаву актывізаваліся напады крымскіх татар.

Поспехі Івана III у барацьбе з ВКЛ натхнілі яго пераемніка Васіля III на працяг агрэсіі. Пасля няўдалай спробы авалодаць літоўскім тронам (яго кандыдатура не атрымала падтрымкі з боку шляхты ВКЛ) Васіль амаль адразу стаў рыхтавацца да вайны. Рыхтаваўся да яе і новы польскі кароль і вялікі літоўскі князь Жыгімонт. Для барацьбы з Маскоўскай дзяржавай за вяртанне страчаных зямель ён спрабаваў аб'яднаць сілы ВКЛ, Польшчы, Лівоніі, Крымскага і Казанскага ханстваў і распачаў тайныя зносіны з братам вялікага маскоўскага князя Юрыем Іванавічам і яго акружэннем. Васіль III, у сваю чаргу, заключыў пагадненне з Міхаілам Глінскім - усемагутным фаварытам Аляксандра, які папаў у няміласць пры Жыгімонце.

Вясной 1507 г. пасольства Жыгімонта I, які бачыў асноўную задачу ў вяртанні страчаных зямель, у Маскве ва ўльтыматыўнай форме запатрабавала вярнуць гарады і землі, захопленыя Іванам III. Маскоўскі ўрад адмовіўся і, каб апярэдзіць праціўніка, накіраваў свае палкі на Беларусь, якія ўзяліся пустошыць яе землі аж да Бярэзіны. Так пачалася чарговая вайна.

Ваенныя дзеянні ў 1507 г. сур'езных вынікаў не далі ніводнаму з бакоў. Кампанія 1508 г. была цесна звязана з узнятым у студзені 1508 г. на Беларусі мяцяжом Міхаіла Глінскага. Вайна **1507—1508 гг.** нікому не прынесла поспеху і скончылася так званым "вечным мірам", які замацоўваў межы, што склаліся паміж ВКЛ і Масквой у выніку папярэдніх войнаў. І Жыгімонт, і Васіль III разглядалі яго толькі як чарговую перадышку перад новым змаганнем.

"Вечнасць" утворанай згоды цягнулася усяго пяць гадоў. Васіль III

рыхтаваўся да захопу буйнога эканамічнага і стратэгічнага цэнтра і магутнай крэпасці ля сваіх заходніх межаў- Смаленска. У **1512 г.** вайна аднавілася. Яна цягнулася 10 гадоў. Зачэпкай для яе пачатку паслужыў напад крымскіх татараў, з якімі ВКЛ у 1512 г. заключыла мір і саюзнае антымаскоўскае пагадненне, на землі Масковіі. Толькі ў выніку трэцяй наступальнай аперацыі 80-тысячнага войска Васіля III (першая - зімой 1512—1513 гг., другая - летам 1513 г.) **31 ліпеня 1514 г.,** пасля няспыннага абстрэлу з 300 гармат Смаленск капітуляваў. Масква дабілася важнай ваеннай і палітычнай перамогі. ВКЛ панесла цяжкую страту.

Каб замацаваць перамогу, Васіль III накіраваў сваё 80-тысячнае войска ў глыб ВКЛ у напрамку Оршы, Друцка. Яго рух наперад спыніла ўзмоцненая польскай конніцай армія ВКЛ (усяго 35 тысяч вояў) на чале з гетманам КАстрожскім, выступаўшая пад чырвоным сцягам са срэбнай пагоняй на ім. **8 верасня 1514 г.** у генеральнай бітве на рацэ Крапіўне пад Оршай Астрожскі дашчэнту разбіў больш за ўдвая пераважаючае маскоўскае войска. Хітрым манеўрам пад выглядам адступлення ён уцягнуў праціўніка ў пагоню і вывеў яго пад агонь сваіх замаскіраваных гармат. Гэты нечаканы баявы прыём прывёў да замяшання ў варожым стане, якое ператварылася ў панічныя ўцёкі.

*"Літоўцы, -* пісаў М.М. Карамзін у "Истории государства Российского", - *ніколі не адтрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі: гналі, рэзалі,... целамі ўсеялі палі паміж Оршай і Дуброўнай... Многія з уцекачоў патанулі ў Дняпры і Крапіўне. Толькі ноч і лясы выратавалі астатніх.»* Ад 30 да 40 тысяч забітымі і 5 тысяч палоннымі, паюдле звестак тагачасных замежных крыніц, склалі страты маскоўскага войска. У палон трапілі галоўныя ваяводы Іван Чаляднін, М. Булгакаў-Голіца і яшчэ 25 военачальнікаў. Васіль III заявіў, што для яго "той, хто трапіў у палон,- мёртвы". 20 тысяч трафейных коней і палову абозу раздалі пераможцам. Сярод вайсковых трафеяў былі ўсе маскоўскія сцягі і агнястрэльная зброя. Трыумф К. Астрожскага і яго войска быў поўны. Ён стаў своеасаблівым рэваншам за паражэнне на р.Ведрашы ў 1500 г., калі гетман сам папаў у палон.

Аршанская бітва з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі, адной з буйнейшых бітваў на тэрыторыі Еўропы ў

пачатку XVI ст. Еўрапейскія стратэгі і пазней вывучалі тактыку К. Астрожскага ў ёй.

Бітва пад Оршай пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Каля 1520 г. невядомы мастак намаляваў карціну, на якой перадаў момант перад самым пачаткам бою, - яна лічыцца першым творам батальнага жывопісу Усходняй Еўропы (зараз захоўваецца ў Нацыянальным музеі Польшчы ў Варшаве).

Перамога 8 верасня 1514 г. дала магчымасць вызваліць усходнюю Беларусь ад непрыяцеля. Пасля яе Астрожскі павёў сваё войска на Смаленск, але авалодаць горадам не змог. Ваенныя дзеянні прынялі зацяжны характар і вяліся з пераменным поспехам - абодва бакі рабілі асобныя рэйды ў глыб тэрыторыі суседа. У 1518 г. Васіль III актывізаваў дзеянні на тэрыторыі Беларусі: пасылаў сваё войска на Полацк, Віцебск, яно даходзіла да Слуцка, Менска, Наваградка. Накіроўваючыся да Вільні, яно рабавала, паліла гарады і вёскі, брала палонных і, дасягнуўшы Крэва, Ашмян, Меднікаў, павярнула назад. Урэшце, пасля доўгіх перамоў у 1522 г. было заключана перамір'е на пяць гадоў. Смаленская зямля засталася за Масквой, шматлікі "маскоўскі палон" - за ВКЛ. Але мір так і не быў падпісаны з-за спрэчак наконт Смаленска. Таму перамір'е было прадоўжана ў 1527 і 1532 гг.

Смерць ваяўнічага Васіля III (1533 г.) абудзіла ў ВКЛ надзеі на рэванш і вяртанне страчаных у папярэдніх войнах тэрыторый. Яно ўльтыматыўна запатрабавала ад Масквы вярнуць Севершчыну і Смаленшчыну. Калі ж атрымала адмову, вялікі князь Жыгімонт І накіраваў у 1534 г. адно войска на Смаленск, другое - на северскія гарады. Але наяўных сіл было мала, каб дабіцца значнага поспеху. Лепш падрыхтаваная, мабілізаваўшая на вайну амаль увесь свой патэнцыял Маскоўская дзяржава кінула на Беларусь буйныя сілы, якія, паводле слоў рускага летапісу, *"воевалі королеву землю: Речйцу, Свіслач, Горвол, Петров-город, Мозырь, Случеск, Рогачев, Бобруеск, Туров, Брягын, Любоч и до Новагородка Литовского и посады у городов жгли, и села жгли, и люди, и живот, и животину выимали, а иное выжгли и вышли по-здорову".* У сваю чаргу, у 1535 г. літвінская армія вызваліла Гомель,

потым іншыя гарады, заняла ўсю Северскую зямлю. Але маскоўскія ваяводы зноў ударылі па Беларусі - пустошылі Полаччыну, Падняпроўе. Войска ВКЛ пакінула занятыя землі, захаваўшы за сабой адзін Гомель.

Мірныя перагаворы былі доўгімі і цяжкімі. Бакі выстаўлялі тэрытарыяльныя дамаганні. Масква патрабавала Кіеў і Полацк, Вільня. - Ноўгарад і Пскоў, вяртання ўсёй Северскай зямлі і разбурэння збудаваных непрыяцелем замкаў - Себежа, Завалочча, Веліжа. Маскоўскі бок настойваў на даваеннай мяжы і прасіў абмяняць усіх палонных, але ад прапановы вярнуць іх у абмен на горад Чарнігаў адмовіўся. Перагаворы завяршыліся падпісаннем у лютым 1537 г. пяцігадовага перамір'я. Толькі Гомель быў вернуты княству. Перамір'е прадоўжвалася ў 1542 і 1549 гг. На гэты раз спакой на ўсходніх межах Беларусі трываў два дзесяцігоддзі.

Такім чынам, у выніку серыі войнаў канца XV - першай паловы XVI ст. Маскоўская Русь адваявала значную частку ўсходніх зямель ВКЛ. Аслабленая няўдалымі войнамі і беспеарапыннымі набегамі крымскіх татар, Літва ў сярэдзіне XVI ст. ужо не магла весці за іх спрэчку. Суадносіны сіл Масквы і Вільні няўмольна змяніліся. Час раўнавагі, гэтак трагічна засведчаны на Ведрашы, быў страчаны разам са стратай Смаленска. **У сярэдзіне XVI ст. ВКЛ сустрэлася з дамаганнямі Івана IV ужо на сучасныя беларускія і ўкраінскія землі.** Гэта сведчыла аб пагрозе існаванню ВКЛ. Ход барацьбы з усходнім суседам і логіка падзей падштурхоўвалі ВКЛ да яшчэ больш цеснага дзяржаўнага аб'яднання з Польшчай. Лівонская вайна і далейшыя міжнародныя акцыі ВКЛ былі выкліканы папярэднімі адносінамі з Масковіяй.

## Адпор набегам крымскіх татар

У другой палове XV ст. на ўсходзе і поўдні ВКЛ апынулася ў акружэнні непрыязных дзяржаў. На яго паўднёвых межах з'явіўся тады моцны і небяспечны вораг - Крымскае ханства, што ўтварылася ў выніку распаду калісьці магутнай Залатой Арды, якая з 1475 г. папала ў васальную залежнасць ад Турэцкай Порты і ажыццяўляла

палітыку султанаў. Крымская знаць жыла за кошт рабаўніцтва суседніх зямель. У апошняй чвэрці XV ст. ханства становіцца саюзнікам Маскоўскай дзяржавы. У **1480 г.** паміж Менглі-Гірэем і Іванам III было заключана пагадненне аб сумеснай барацьбе з ВКЛ. Крымскі правіцель абяцаў тады Маскве ваяваць землі вялікага князя літоўскага Казіміра.

Галоўным аб'ектам сваіх спусташальных набегаў з таго часу хан абраў багатыя, урадлівыя землі свайго паўночнага суседа. Апроч прагі нажывы яго падштурхоўвала на тое і палітычная прычына - абавязацельства перад маскоўскім саюзнікам.

Смерчам праносілася манеўраная татарская конніца па ўкраінскіх і беларускіх землях, а абраная тактыка - пазбягаць сечы, парабаваць і хутка ўбрацца прэч. Асабліва пакутавала ад гэтага Украіна. З канца XV ст. крымскія татары цачынаюць пустошыць землі Беларусі. З 1500 да 1569 гг. яны зрабілі 45 наездаў. Дзесяткі тысяч чалавек выводзілі яны ў палон для продажу ў азіяцкія краіны. Асаблівую каштоўнасць уяўлялі для татараў перш за ўсё маладыя і дужыя людзі, дзяўчынкі, якіх яны потым прадавалі за вялікія грошы на нявольніцкіх рынках Крыма і Турцыі.

Падчас вайны 1500-1503 гг. Іван III патрабаваў ад Менглі-Гірэя зрабіць абяцаны напад на ВКЛ у напрамку Турава - Пінска - Менска, каб паставіць яго пад двайны ўдар. Карыстаючыся тым, што асноўныя сілы княства знаходзіліся на ўсходзе дзяржавы, дзе ваявалі з Масквою, крымчакі ў гэты час пастаянна пустошылі беларускія землі. У 1500 г. яны спалілі прадмесці Бярэсця, пасад Камянца. Восенню 1502 г., у самы разгар баёў пад Смаленскам, пераправіўшыся цераз Прыпяць, яны ваявалі землі каля Турава, Пінска, Слуцка.

Слуцкі князь Сямён Міхайлавіч Алелькавіч перахапіў крымчакоў у шасці мілях ад Бабруйска і ўшчэнт разбіў іх на рацэ Уша, вызваліўшы ўсіх палонных.

У наступным, 1503 г., 6-тысячны татарскі атрад, узначалены сынам хана Біці-Гірэем, прыйшоў пад Слуцк і стаў там кошам (лагерам). Распушчаныя па Беларусі загоны спустошылі ваколіцы Капыля і Нясвіжа, спалілі Клецкі замак. Даведаўшыся пра падыход вялікага войска, яны павярнулі назад і са значным палонам вярнул-

 іся ў Крым. 3-тысячны татарскі атрад дайшоў амаль да Навагрsquare, але вярнуцца ў Крым яму на гэты раз не ўдалося. Літвінскае войска на чале з Сямёнам Алелькавічам, Станіславам Кішкай, Юрыем Неміровічам і Альбрэхтам Гаштольдам дагнала крымчакоў і разбіла іх каля Давыд-Гарадка.

І ў час перамір'я Руская дзяржава ўмела выкарыстоўвала агрэсіўныя памкненні Крымскага ханства, накіроўваючы яго супраць ВКЛ. У 1505 г. сыны Менглі-Гірэя Біці і Бурнаш з ардою да 12 тыс. коннікаў накіраваліся ў цэнтр Беларусі, са Слуцка і Клецка распускалі загоны на Наваградак, Ліду і гаспадарылі на нашай зямлі. Гэта быў адзін з самых спусташальных набегаў. Рабаўнікі падпалілі ваколіцы шмат якіх гарадоў, пазнішчалі вёскі і вывелі ў Крым каля 100 тысяч палонных.

Спадзяючыся на беспакаранасць, летам 1506 г. 30-тысячная татарская раць зноў уварвалася на Беларусь. Гэта быў апераджальны ўдар маскоўска-крымскай кааліцыі напярэдадні чарговай вайны з ВКЛ. Але на гэты раз пазбегнуць расплаты не ўдалося. **5 жніўня 1506 г.** каля Клецка асноўныя іх сілы былі ўшчэнт разгромлены літвінскім войскам пад кіраўніцтвам князя Міхаіла Глінскага. Тысячы варожых трупаў засталіся ляжаць на месцы бітвы, а недабіткі былі перахоплены пад Капылем і Петрыкавым. Вызвалены 40 тыс. чалавек, якіх вялі ў няволю ў Крым. Гэта была, бадай, першая перамога такога маштабу над татарамі за колькі трывожных дзесяцігоддзяў.

Пасля клецкай катастрофы палітыка Крыма ў дачыненні паўночнага суседа стала мяняцца. Татарскія напады на Беларусь сталі насіць эпізадычны характар (у 1508, 1510, 1521, 1526, 1527, 1530 гг.). Урэшце яны ўвогуле былі спынены наладжанай абаронай паўднёвых рубяжоў дзяржавы, у тым ліку стварэннем атрадаў казакоў ва Украіне. З другой паловы 1520-х гадоў крымская небяспека зменшылася. Змена адносін у трохкутніку Вільня-Масква-Крым выклікана і тым, што далейшае ўзмацненне Маскоўскай дзяржавы супярэчыла стратэгічным інтарэсам Асманскай імперыі і яе васала - Крымскага ханства, якія імкнуліся да падтрымання штучнай раўнавагі паміж краінамі Усходняй Еўропы.

## ЛЕКЦЫЯ 19

# ЭТНАГЕНЕЗ БЕЛАРУСАЎ ЦІ ЭТНІЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У XIII—XVI стст.

- *Прабеларусы.*
- *Складванне этнічнай тэрыторыі.*
- *Фарміраванне этнічнай самасвядомасці.*
- *Этнічныя меншасці.*

### Прабеларусы

Этнагенез народаў — гэта працэс фарміравання этнічнай супольнасці, **ці этнасу — устойлівай супольнасці людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі і характарызуецца агульнасцю мовы, побыту, культуры, рысаў псіхікі і самасвядомасці, адлюстраванай у адзінай назве і ўяўленнях пра агульнасць паходжання.** У выніку этнагенезу ствараецца своеасаблівае этнічнае і антрапалагічнае аблічча данай супольнасці людзей з уласцівымі ёй асаблівасцямі мовы, матэрыяльнай, сацыяльнай і духоўнай культуры, гістарычнага жыцця. Пачатак этнагенезу беларусаў, як і многіх іншых сучасных еўрапейскіх народаў, адносіцца да апошніх этапаў першабытнасці, эпохі ваеннай дэмакратыі і раннекласавага грамадства.

**Этнічная гісторыя насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі бярэ свой пачатак з эпохі палеаліту, з часоў яе засялення чалавекам — звыш 40 тысяч гадоў назад.** Спачатку былі асвоены толькі паўднёвыя раёны. Цэнтр і поўнач нашай краіны засяляюцца ў наступную за палеалітам эпоху — у мезаліце. Вызначыць этнічную прыналежнасць старажытных еўрапеоідаў — першага насельніцтва Беларусі — не толькі ў палеаліце і мезаліце, але нават і на працягу большай часткі неаліту, не ўяўляецца магчымым. Мова гэтых прабеларусаў невядома. Хутчэй за ўсё, яны мелі светлую скуру, русыя валасы, блакітныя вочы, былі высокімі і дужымі — рысы, уласцівыя большасці сённяшніх беларусаў. Паводле даных археалогіі і гістарычнага мовазнаўства, у прыватнасці гідраніміі, у папярэднім парадку можна ўстанавіць этнічную прыналежнасць

асобных груп тубыльцаў толькі ў канцы неаліту, прыкладна ў III тысячагоддзі да н.э.

Каля трох тысяч гадоў да н.э. з-за Урала, з Сярэдняй Азіі, на захад рушылі вялікія масы людзей. Пакінуць месца жыхарства іх вымусілі скарачэнне аўкумены, неспрыяльныя змены клімату, пагаршэнне ўмоў жыцця і г.д. Мігранты дайшлі аж да Фінляндыі. На сваім шляху яны асвойвалі і засялялі маланаселеныя мясціны, што прыйшліся да спадобы. Сярод мігрантаў **былі фіна-угорскія** плямёны, што паходзілі з уральскай моўнай сям'і, але ўвабралі ў сябе некаторыя антрапалагічныя рысы, уласцівыя мангалоіднай расе. Яны мірна засялілі Беларусь, асіміляваліся абарыгенамі. Іх нашчадкі набылі антрапалагічныя рысы мясцовых жыхароў — пры зліцці этнасаў перавагу, як правіла, маюць тубыльцы. Але знешнія рысы фіна-угорскай супольнасці — шырокі твар і вузкія вочы — дайшлі да нашага часу. Антрапалагічная спадчына фіна-угорцаў (мангалоідныя рысы) сустракаюцца ў абліччы сучасных беларусаў не часта. Найбольш заўважальныя яны сярод сучаснага насельніцтва Віцебскай вобласці — гэта адзначаюць згнографы і антрапалагі. Арэал рассялення фіна-угорцаў на Беларусі трактуецца даследчыкамі па-рознаму. Многія лічаць, што яны апанавалі тут толькі Падзвінне і Падняпроўе, дзе яны яшчэ доўга жылі адасобленымі этнічнымі групамі і слаба паддаваліся асіміляцыі. На поўнач ад Полацка і цяпер у насельніцтва захаваліся азіяцкія рысы — узгадаем хаця б карціну І.Рэпіна "Беларус". Як лічыць аўтар артыкула «Этнагенез беларусаў на фоне гісторыі і геапалітыкі» Л.Лойка, гэты этнас агучыў геаграфію нашай краіны — даў назвы мясцінам, рэкам і азёрам, ад якіх пазней атрымалі свае імёны балцкія і ўсходнеславянскія плямёны, народы, гарады. Тапонімы з гуказлучэннем -ва і -га на канцы, як даказваюць лінгвісты, — фінаугорскага паходжання: Мардва, Тува, Масква, Нява, Нарва, Зэльва, Літва, Лотва, Дайнова, Волга, Анега, Ладага, Пячэнга, Яцьва (або Яцьвяга) і г.д.

У эпоху ранняга металу (канец III тыс. да н. э. — IV—V стст. *нз.)* этнічны склад насельніцтва на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў значнай ступені змяніўся — на ёй рассяліліся індаеўрапейцы, якія асімілявалі сваіх папярэднікаў.

У канцы III—II тысячагоддзяў да н.э. са сваёй прарадзімы (яе месцазнаходжанне даследчыкамі адназначна не ўстаноўлена) ў Еўропу мігрыруюць і тут пасяляюцца індаеўрапейцы, якія адносіліся да еўрапеоіднай расы, і хоць саступалі старажытным цывілізацыям Месапатаміі, Егіпта, Крыта, але апераджалі еўрапейскіх аўтахтонаў у культурным развіцці — займаліся жывёлагадоўляй, ведалі земляробства, валодалі вытворчасцю бронзы. Індаеўрапейцы змешваліся з мясцовым насельніцтвам і ўтваралі новыя этнасы. Сваё месца ў Еўропе занялі ў гэты час балты і сваяцкія славяне — мовы гэтых народаў блізкія. Ёсць нават версія, што існавала напачатку адзіная балта-славянская супольнасць, якая потым дыферэнцыравалася на два этнасы.

**Першымі на Беларусь прыйшлі балты.** Яны засялілі тэрыторыю ад Балтыйскага ўзбярэжжа да вярхоўяў Акі. Прышэльцы асвоілі цэнтр і поўнач нашай краіны, багністае Палессе ім, як і фіна-угорцам, не прыйшлося да спадобы. На ўзбярэжжы Балтыкі ўладкаваліся плямёны, якія пазней сталі вядомыя пад назвай прусы, жмудзь (жамойты), аўкштайты, куршы і інш. Яны растварыліся сярод тубыльцаў, але захавалі для новага этнасу, які створыцца на аснове даіндаеўрапейска(фіна-угорска) — балцкага сінтэзу, сваю больш развітую мову, больш высокую культуру, свой лад жыцця. Тыя фіна-угорцы, якія скансалідаваліся, стварылі плямёны і іншыя грамадскія арганізацыі — як лівы (жылі ў вусці Дзвіны), эсты (на поўнач ад іх) — не пусцілі балтаў у свае землі.

**Каля двух тысячагоддзяў доўжылася на Беларусі інтэграцыя і ўзаемная асіміляцыя тубыльцаў, фіна-угорцаў і балтаў.** У выніку гэтых працэсаў тут сфарміраваліся новыя этнічныя супольнасці, якія захавалі фіна-угорскую тапаніміку і нават узялі сабе фіна-угорскія назвы. Гэта лотва, якая рассялілася на тэрыторыі Віцебскай і усходзе Мінскай абласцей; яцвягі сталі гаспадарамі Гродзеншчыны і часткова Брэстчыны; дайнова апанавала Нарачанска-Маладзечанскі край; і літва — верхняе і сярэдняе Панямонне.

Наступны перыяд этнічнай гісторыі Беларусі пачаўся ў раннім сярэднявеччы (VI—VIII ст.). Яго характэрная рыса — шырокае рассяленне славян, асіміляцыя мясцовага балцкага насельніцтва і фарміраванне ў выніку змяшэння славян і балтаў першапачатковых

усходнеславянскіх этнічных супольнасцей — дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў. Гэтыя супольнасці не прыйшлі сюды ўжо сфарміраванымі, а аформіліся на тэрыгорыі сучаснай Беларусі і суседніх паўночных і ўсходніх зямель на аснове змяшэння прышлых славян з мясцовымі абарыгенамі.

**Славяне** выдзеліліся з індаеўрапейскай супольнасці адначасова або крыху пазней за балтаў. Здавальняючага адказу на пытанне аб славянскай прарадзіме няма. На Беларусь яны прыйшлі хутчэй за ўсё з Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, з міжрэчча Віслы і Эльбы. Першымі — 400—200 гадоў да н.э. — сюды прыйшлі прадстаўнікі паморскай культуры. Яны асвоілі Палессе. Другі этап славянскай каланізацыі Беларусі прыходзіцца на III-V стст. н.э. Трэці — VI ст. — час масавай міграцыі славян з Польшчы ва ўсходнюю Беларусь. Фіна-угорцы і балты — голядзь, латыгола, лотва, літва — мусілі пацясніцца і саступіць частку сваіх зямель перасяленцам. Землі добраарганізаваных і ваяўнічых прусаў і яцвягаў славянам удалося каланізаваць толькі часткова. Мігранты прынеслі з сабой мову сваіх суродзічаў — старажытных палякаў, палабскіх славян. Яна папоўнілася балцкімі словамі, запазычыла фіна-угорскую тапаніміку. Тут, ва ўсходняй і Паўднёвай Беларусі, утварылася першасная беларуская мова, даволі падобная да сучаснай, ужо тады яна ўтрымлівала ў сабе элементы "польшчызны".

Змест новага этапа этнічнай гісторыі Беларусі (IX ст. першая палова XIII ст.) выклікае сярод даследчыкаў дыскусіі. Навуковая дыскусійнасць дадзенага этапа этнагенезу беларусаў тлумачыцца розным пунктам гледжання даследчыкаў аб продках, часе і прычынах фарміравання нашага народа. У 50-я гады XX ст. савецкі этнограф С.А. Токараў распрацаваў канцэпцыю, паводле якой у гэты перыяд на аснове ўсходнеславянскіх плямёнаў у тым ліку і тых, што жылі на тэрыторыі Беларусі, склалася адзіная старажытнаруская народнасць. У перыяд феадальнай раздробленасці (XIII—XIV стст.) з яе выдзяляюцца тры новыя народы: рускія, беларусы і ўкраінцы.

Тэорыя старажытнарускай народнасці як пераходнага этапа ад першасных усходнеславянскіх супольнасцей да будучай беларускай народнасці стала хрэстаматыйнай у савецкай гістарычнай на-

вуцы і на пэўны час манапольнай у беларускай гістарыяграфіі. Яе прыхільнікі аргументуюць факт існавання ў IX—XI стст. такой этнічнай супольнасці наяўнасцю агульнай тэрыторыі, гаспадарчага жыцця, мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры, наяўнасцю этнічнай самасвядомасці яе членаў, саманазвы і ўсведамленнем агульнай радзімы — Русі.

Такое бачанне этнагенезу беларусаў знайшло адлюстраванне ў манаграфіях, падручніках, энцыклапедыях. Так, Э.Р.Сабаленка ў працы "Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік" (Мн., 1988. - С. 260) сцвярджае, што *"беларусы паходзяць ад старажытнарускай народнасці, якая склалася ў IX—XIII стст. на аснове ўсходнеславянскіх плямён у выніку разлажэння ў іх першабытнаабшчыннага ладу, устанаўлення класавага грамадства і стварэння старажытнарускай раннефеадальнай дзяржавы — Кіеўскай Русі".* На паходжанне беларусаў са старажытнарускай народнасці ўказвае таксама адпаведны артыкул энцыклапедыі "Этнаграфія Беларусі" (Мн., 1989. - С. 60). У ім гаворыцца, што сацыяльна-эканамічная, дзяржаўна-палітычная, культурная і канфесійная інтэграцыя ўсходнеславянскіх плямён у межах адзінай дзяржавы — Кіеўскай Русі абумовіла нівеліроўку ў канцы IX — пачатку XI ст. этнакультурных асаблівасцей гэтых плямён і фарміраванне старажытнарускай народнасці. Паралельна з працэсамі кансалідацыі і інтэграцыі існавалі і супрацьлеглыя тэндэнцыі, якія актывізаваліся ў другой палове XI—XIII ст., калі Кіеўская Русь ужо не ўяўляла сабой адзінага палітычнага цэлага і складалася з шэрагу зямель-княжанняў. У 90-я гады тэорыю старажытнарускай народнасці на навуковай ніве абараняюць М.Ф. Піліпенка (у манаграфіі "Происхождение Белоруссии. Новая концепция" - Мн., 1991 і іншых працах), Э.М. Загарульскі ("Заходняя Русь IX—XIII ст." - Мн., 1998) і інш.

Між тым, працы буйнейшых расійскіх гісторыкаў XIX—XX стст. ставяць пад сумненне і нават поўнасцю адмаўляюць факт існавання такой народнасці і наяўнасці яе кампанентаў. Так, В.В.Ключэўскі ў сваім "Курсе русской истории" (лекцыя X) пісаў: *"Руская дзяржава (у IX—XI стст.) не была дзяржавай рускага народа, таму што яшчэ не існавала гэтага народа".* Вядомы даследчык старажытных летапісаў А.М. Насонаў і акадэмік Б.А. Рыбакоў яшчэ ў 1950-я

гады прызнавалі, што "Рускай зямлёй" называлася першапачаткова толькі тэрыторыя ў трохкутніку Кіеў-Пераяслаўль-Чарнігаў, а крывічы, радзімічы і шэраг іншых плямёнаў у склад уласна Русі не ўваходзілі. Вядомы даследчык усходніх славян прафесар П.М.Трацьцякоў у сваёй кнізе "У истоков древнерусской народности" пісаў, што тэрмін *"старажытнаруская народнасць"* з'яўляецца *"кніжным",* прыдуманым гісторыкамі. Вучоны лічыў, што гэта народнасць была супольнасцю вельмі адноснай: яшчэ доўгі час захоўваліся своеасаблівасці яе кампанентаў (акрамя славянскага, лета-літоўскі і фіна-угорскі). Не толькі ў IX—X стст., але і ў XI—XII стст. Руссю, Рускай зямлёй называлася толькі невялікая вобласць у межах Сярэдняга Падняпроўя. Так, паводле Іпацьеўскага летапісу, кіеўскі князь Мсціслаў захапіў у 1129 г. полацкіх князёў і саслаў у Візантыю, бо яны *"не слушахуть его (Мсціслава) коли е зовяшет в Рускую землю в помощь ".* Менавіта Паўднёвую Русь разумее пад Рускай зямлёй і аўтар "Слова аб палку Ігаравым".

Аднак той жа Б.А. Рыбакоў, насуперак сваім вывадам аб адносна невялікай тэрыторыі Русі, непаслядоўна сцвярджаў, што Руская зямля IX—XIV стст. у шырокім сэнсе — як тэрыторыя ўсіх усходніх славян — гэта вобласць старажытнарускай народнасці з адзінай мовай, адзінай культурай і нават з адзінай дзяржаўнай мяжой. Прафесар У.В. Маўродзін у манаграфіі, якая выйшла ў 1945 г., пісаў, што працэс стварэння старажытнарускай народнасці не завяршыўся, а феадальная раздробленасць, нашэсце мангола-татар і іншыя фактары спынілі яго. У больш позніх работах Маўродзіна такіх разважанняў ужо не адзначаецца.

Факт існавання старажытнарускай народнасці і фарміравання на яе аснове беларусаў адмаўляюць сучасныя беларускія гісторыкі Г.В. Штыхаў, М.І. Ермаловіч, М.А. Ткачоў і інш. Яны робяць акцэнт на тым, што аб'яднанне зямель у Кіеўскай Русі не было поўным і канчатковым, а беларускія землі толькі эпізадычна ўваходзілі ў яе склад; што ў розных частках гэтай дзяржавы захоўваліся мясцовыя асаблівасці ў мове і культуры. Ды і адкуль, разважаюць яны, маглі ўзяцца агульнасць, адзінства ў мове і культуры, без якіх не можа быць народнасці; у грамадстве, дзе не было школ і друку, пры слабай развітасці сродкаў сувязі, шляхоў зно-

сін; на тэрыторыі, пакрытай густымі лясамі, з мноствам балот? Як паспела сфарміравацца моўная і культурная супольнасць, калі ў IX—X стст. яшчэ ішоў працэс складвання Старажытнарускай дзяржавы, а ўжо ў XI ст. яна пачала распадацца, прычым Полацкае княства было першым, якое стала фактычна незалежным ад Кіева?

У сферы сацыяльна-эканамічнай, як сцвярджае Г.В. Штыхаў, умовы для ўзнікнення старажытнарускай народнасці былі мінімальнымі, калі яны наогул існавалі. У аснове эканомікі Кіеўскай Русі, як вядома, была натуральная гаспадарка. Вёска і горад былі разрозненыя. Вёска абслугоўвалася сваімі рамеснікамі. Эканамічная разробленасць не садзейнічала фарміраванню адзінай народнасці. Адзін з вядучых беларускіх археолагаў перакананы: версія аб тым, што старажытнаруская народнасць не сфарміравалася канчаткова і распалася ў сувязі з распадам старажытнарускай дзяржавы, мае больш рэалій і праўдападобнасці чым міфічнае уяўленне аб існаванні адзінай этнічнай супольнасці. Апошнюю ён называе *"народнасцю, якую прыдумалі гісторыкі".*

**У навуцы склаўся шэраг канцэпцый, паводле якіх беларускі этнас сфарміраваўся непасрэдна на аснове ўсходнеславянскіх плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, мінуючы стадыю старажытнарускай народнасці.** Паводле "крывіцкай канцэпцыі" (В.Ластоўскі, А.Шлюбскі і інш.), амаль усе асаблівасці, якімі беларусы адрозніваюцца ад украінцаў і рускіх, успрыняты імі ад адной з першапачатковых усходнеславянскіх этнічных супольнасцей — крывічоў. У беларусаў, такім чынам, у параўнанні з суседнімі сваяцкімі народамі быў іншы, чым у іх продак — крывічы. Стваральнікі гэтай канцэпцыі лічылі за лепшае называць беларусаў крывічамі, а Беларусь — Крывіяй.

Хісткасць гэтай канцэпцыі ў тым, што яна не можа здавальняюча растлумачыць прычыны ўзнікнення этнічных рыс паўднёвабеларускага насельніцтва, бо крывічы займалі толькі паўночную і часткова цэнтральную частку тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Буйны беларусазнаўца Я.Ф Карскі, вядомы гісторык-славіст У.І. Пічэта, даследчык этнічнай гісторыі Беларусі М.Я. Грынблат уключаюць у склад продкаў беларусаў не толькі крывічоў, але таксама

дрыгавічоў і радзімічаў. Адсюль назва канцэпцыі -»крывіцка-дрыгавіцка-радзіміцкая». Такі падыход у пэўнай ступені пераадольвае крайнюю аднабаковасць "крывіцкай" канцэпцыі і спрабуе адшукаць гістарычныя вытокі паўднёвабеларускага насельніцтва.

Згодна з "балцкай" тэорыяй ўзнікненне беларускага этнасу, спецыфікі яго культуры і мовы тлумачыцца змяшэннем усходнеславянскіх плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў з балтамі, якія адыгралі ролю субстрату (падасновы) ў этнагенезе беларусаў. Найбольш відны прадстаўнік гэтай канцэпцыі маскоўскі археолаг У.У. Сядоў мяркуе, што шмат якія элементы традыцыйнай культуры і мовы беларусаў маюць балцкія карані. Да такіх элементаў ён адносіць шанаванне вужоў і камянёў у традыцыйнай рэлігіі беларусаў, жаночы галаўны ўбор (намітку), нясшытае паясное адзенне (паневу), лапці прамога пляцення, слупавую тэхніку ўзвядзення пабудоў, шэраг рыс беларускай фанетыкі (цвёрды "р", змякчаны "д", аканне).

Апанент Сядова беларускі этнограф М.Ф. Піліпенка пярэчыць: балцкае насельніцтва аказала істотны ўплыў не на фарміраванне непасрэдна беларусаў, а іх папярэднікаў: крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў — і адыграла ролю субстрату ў іх этнагенезе, а не-беларусаў.

**Тэорыя балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў атрымала шырокае прызнанне ў навуковым свеце.** Сапраўды, пасля рассялення ўсходніх славян ішоў складаны працэс іх змяшэння з папярэднікамі: на Беларусі — з балтамі, на тэрыторыі Расіі — з фіна-саграмі, на Украіне — са скіфа-сарматамі. Славяне як бы насычаліся мясцовым неславянскім элементам — субстратам. Розныя этнічныя рысы, якія сфарміраваліся ў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, абавязаны дзеянню гэтых розных субстратаў. Менавіта этнічныя субстраты абумовілі ўзнікненне трох розных, хоць і роднасных, усходнеславянскіх этнасаў, у кожнага з якіх быў свой шлях нацыянальнага фарміравання.

"Фінская" канцэпцыя, прапанаваная Г.Ласковым, звяртае ўвагу на неабходнасць улічваць удзел у этнагенезе беларусаў яшчэ і фіна-ўграў, якія жылі на Беларусі да прыходу балтаў.

На жаль, ёсць і такія канцэпцыі (яны ўзніклі яшчэ ў XIX ст., але

маюць прыхільнікаў і сёння), якія наогул адмаўляюць факт афармлення і існавання самастойнага беларускага этнасу на той падставе, што ў насельніцтва Беларусі нібы не было самастойнай славянскай мовы. Прыхільнікі "польскай" канцэпцыі (Л. Галембоўскі, А. Рыпінскі і інш.) лічылі беларусаў часткай "польскага" этнасу, Беларусь — часткай этнічнай тэрыторыі Польшчы, а беларускую мову — дыялектам мовы польскай. "Вялікаруская" канцэпцыя (А.І. Сабалеўскі, І.І. Сразнеўскі і інш.) заснавана на ўяўленні, што беларусы ёсць частка вялікарускага этнасу, а Беларусь - адпаведна частка вялікарускай этнічнай тэрыторыі. Яе прыхільнікі не прызнаюць беларускую мову самастойнай усходнеславянскай мовай, а разглядаюць яе як дыялект мовы вялікарускай. Даследаванні нашай мовы выявілі памылковасць гэтых канцэпцый. Яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. выдатны вучоны Я.Ф. Карскі ў фундаментальнай працы "Беларусы" (т. 1—3, Варшава-Петраград, 1903—1922) на вялізным фактычным матэрыяле пераканаўча даказаў, што беларуская мова з'яўляецца асобнай самастойнай славянскай мовай, якая па свайму слоўнікаваму складу, сінтаксісу, марфалогіі і фанетыцы ўваходзіць у групу ўсходнеславянскіх моў нароўні з вялікарускай і ўкраінскай.

На аснове складаных працэсаў інтэграцыі і асіміляцыі з VI—VIII стст. на Беларусі ўтвараюцца новыя этнічныя супольнасці. Крывічы (блізкія па крыві) — адна з самых вялікіх племянных груповак. Працэс іх фарміравання адбыўся ў выніку славянізацыі мясцовых лета-літоўскіх (лотва) і рэштак фіна-угорскіх плямёнаў, што пераканаўча пацвердзілі археалагічныя даныя. У канцы X ст. на тэрыторыі рассялення полацкіх крывічоў склалася Полацкае княства, насельніцтва якога ў летапісах звычайна завецца крывічамі (пад 1127, 1129, 1140, 1162 гг.). Крьшічы фігуруюць у летапісах да 1162 г., дрыгавічы — да 1149 г., радзімічы — да 1169 г.

Беларуская даследчыца Л.У. Дучыц зрабіла выснову, што ў этнаграфічным касцюме Віцебшчыны нават у XIX ст. прасочваюцца латгальскія рэлікты. Крывічоў цяжэй, чым якое-небудзь іншае племяннное аб'яднанне, "упісаць" у адзіную старажытнарускую народнасць. Некаторыя даследчыкі лічаць іх хутчэй балтамі, чым славянамі. Радзімічы (з адной радзімы, сям'і) ўтварыліся на аснове

змяшэння славян-перасяленцаў з захаду з фіна-угорцамі. Дрыгавічы—другавічы—другавіты (аб'яднаныя дружбай) — гэта этнічная супольнасць, што ўтварылася шляхам узаемадзеяння ранніх славян з тубыльцамі.

Басейн Нёмана да IX ст., пачатку пісьмовай гісторыі Беларусі, быў заселены выключна балтамі: яцвягамі, літвой, дайновай, аўкштайтамі, жамойцю. Так, на тэрыторыі Гродзенскай і Брэсцкай абласцей археолагамі знойдзены яцвяжскія (заходнія балты) каменныя курганы. У месцы іх канцэнтрацыі, верагодна, доўга захоўвалася яцвяжскае насельніцтва ці яго славянізаваныя нашчадкі. Першапачатковыя славянскія паселішчы (у Наваградку, Ваўкавыску) тут узніклі ў канцы X ст. Групы неасіміляваных славянамі балтаў яшчэ доўга жылі ў Панямонні і Пабужжы.

## Складванне этнічнай тэрыторыі

У канцы XIII—XIV стст. пачынаецца фарміраванне беларускай народнасці — гістарычна складзенай на тэрыторыі сучаснай Беларусі і суседніх усходніх і паўночных зямель устойлівай супольнасці людзей, што характарызуецца асаблівасцямі мовы, побыту, культуры, рысаў псіхікі і этнічнай самасвядомасці, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, а таксама наяўнасцю саманазвы. Працэс фарміравання гэтых этнічных прыкмет працягваўся амаль чатыры стагоддзі і праходзіў пад уздзеяннем шмат якіх фактараў: сацыяльна-эканамічнага, палітычнага, геаграфічнага, царкоўна-рэлігійнага і інш.

Умовы для фарміравання адзінай народнасці склаліся з сярэдзіны XIII ст. Аб'яднанне на працягу XIII—XIV стст. раздробленых зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага, падначаленне адзінай вярхоўнай уладзе прывяло да іх тэрытарыяльнай кансалідацыі і паслужыла штуршком для складвання **этнічнай тэрыторыі беларусаў -тэрыторыі кампактнага рассялення народа, з якой звязаны яго фарміраванне і развіццё. Этнічная тэрыторыя адпавядала арэалам распаўсюджвання асноўных старажытных продкаў беларусаў — літвы, крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў і ўяўляла сабой у XIV—XVI стст. ужо дастаткова аднародную ў этнічным сэнсе (монаэтнічную) зону.**

Наяўнасць некаторых іншаэтнічных фуп рускага, балцкага, яўрэйскага, украінскага, татарскага, латышскага (латгальскага) і польскага насельніцтва на гэтай тэрыторыі ўвогуле не парушала кампактнасці рассялення беларусаў. Поліэтнічнымі былі, галоўным чынам, пагранічныя зоны. Параўнальная кампактнасць рассялення будучых беларусаў і цэласнасць этнічнай тэрыторыі спрыялі працэсам кансалідацыі насельніцтва ў адзіную супольнасць, узнікненню гамагеннасці (аднароднасці) такіх яе прыкмет, як мова, культура, самасвядомасць.

Цэнтралізацыя дзяржавы (арганізацыя кіравання, ліквідацыя рэшткаў раздробленасці, уніфікацыя адміністрацыйнага падзелу, увядзенне адзінага заканадаўства, сімволікі) спрыяла больш цеснаму палітычнаму аб'яднанню беларускіх зямель і актыўнаму функцыянаванню асноўнага для працэсу этнаўтварэння сацыяльна-эканамічнага фактару. З узмацненнем гандлёва-эканамічных сувязяў у межах ВКЛ, складваннем агульнадзяржаўнай гаспадаркі, развіццём таварна-грашовых адносін, ростам гарадоў, некаторай уніфікацыяй у вагавых адзінках і грашовай сістэме пераадольвалася лакальная замкнёнасць, пашыраліся ўнутрытэрытарыяльныя кантакты, нівеліраваліся некаторыя гаспадарчыя і бытавыя адрозненні, адбывалася моўная інтэграцыя. Прагрэс у вытворчасці ўздзейнічаў на фарміраванне саслоўна-класавай структуры этнасу — да сярэдзіны XVI ст. аформіліся шляхецкае, мяшчанскае, сялянскае саслоўі.

Палітычны, эканамічны фактары з'яўляліся "фонам", на якім адбывалася фарміраванне і развіццё беларускага этнасу. Палітычная і сацыяльна-эканамічная інтэграцыя ў межах адной дзяржавы стварыла амаль што аднолькавыя ўмовы для этнакультурнага развіцця розных зямель, прывяла да нівеліроўкі мясцовых асаблівасцяў. У першую чаргу і хутчэй моўная і культурная нівеліроўка адбывалася ў гарадах, асабліва ў найбольш значных. Там мацней, чым у сельскай мясцовасці, адчуваліся сувязі паміж асобнымі часткамі краіны.

Этнічная тэрыторыя Беларусі ахапіла пераважна ўсходнеславянскія землі, на якіх жылі нашчадкі крывічоў (Віцебшчына, Смаленшчына, Невельшчына), гістарычнай літвы (Віленшчына, Гарадзеншчына), дрыгавічоў (цэнтральная Беларусь, Палессе, Берасцей-

шчына), радзімічаў (Магілёўшчына, Гомельшчына, заходняя Браншчына). У XIV—XV стст. амаль уся тэрыторыя будучай беларускай народнасці знаходзілася ў межах Вялікага княства Літоўскага і складала прыкладна 260 тыс. кв. км.

Этнічная тэрыторыя кожнага народа вызначаецца ўстойлівасцю на працягу стагоддзяў. Яшчэ ў пачатку XX ст. беларусы насялялі Смаленшчыну, сумежжа Браншчыны, Чарнігаўшчыны, Пскоўшчыны, Латгаліі, Падляшша і Віленскі край. У выніку наступных штучных падзелаў гэтыя землі апынуліся па-за палітычнымі межамі Беларусі.

Існавала гістарычная перспектыва спалучэння беларусаў у адзіны этнас з украінцамі, з якімі іх аб'ядноўвала агульная саманазва "Русь", агульная мова і вера, блізкая культура. Але яна не была рэалізавана, бо дзяржава не рэгулявала гэты працэс, а таксама ў сувязі з далучэннем украінскіх зямель да Польскай кароны і з'яўленнем на іх уласнага палітычнага і культурнага цэнтра -казацтва. Да каталіцкага хрышчэння Летувы зусім рэальным было фарміраванне агульнай беларускалетувіскай этнічнай супольнасці. Продкі летувісаў успрымалі элементы беларускай культуры, рэлігіі, мовы, права; культурны фонд нашых продкау у шэрагу момантаў значна пераважаў культуру этнічнай Літвы (Летувы). З канца XVI ст. нацыянальна-культурнае развіццё гэтых народаў пайшло рознымі шляхамі.

З XIII—XVI ст. на этнічнай тэрыторыі Беларусі стала вядомай самастойная мова са сваімі спецыфічнымі фанетычнымі і сінтаксічнымі асаблівасцямі і лексічным складам, якая ўжо карэнным чынам адрозніваецца ад старажытнарускай, расійскай і украінскай моў.

**Беларуская мова адносіцца да індаеўрапейскай моўнай сям'і,** якая распалася прыкладна 3—2,5 тысячы гадоў да н.э. Мноства агульных рыс у фанетыцы, граматыцы і лексіцы славянскіх і балтыйскіх моў, якія не ўласцівы іншым еўрапейскім мовам, дазваляе заключыць, што пасля распаду індаеўрапейскай мовы пэўны час існавала балта-славянская моўная супольнасць. Ёсць таксама меркаванне, што агульныя рысы маглі развіцца і паралельна на моўных тэрыторыях славян і балтаў.

Славянскі моўны элемент у межах Беларусі спачатку ўсталяваўся ў яе паўднёвай і ўсходняй частцы. У паўночна-цэнтральнай зоне Беларусі балтыйскі моўна-этнічны кампанент пераважаў даўжэй, чым на поўдні. Пранікненне ўсходніх славян у балцкае асяроддзе прывяло да складвання балта-славянскага білінгвізму. **Славянскі і балтыйскі моўна-этнічныя кампаненты — асноўныя кампаненты старажытнай Беларусі.**

Многія філолагі лічаць, што ў старажытнай Русі існавалі дзве літаратурныя мовы — старaславянская (царкоўна-славянская) і старажытнаруская. Навуковыя дыскусіі на гэты конт працягваюцца і ў нашы дні. Істотна адзначыць, што на літаратурнай мове простае насельніцтва не размаўляла — яна была ўдзелам нямногіх адукаваных людзей. Усходнеславянскія плямёны, якія часта мелі слабыя кантакты паміж сабою, гаварылі на ўласных племянных дыялектах, якія ўяўлялі сабой гутарковы варыянт старажытнарускай мовы, адноснае адзінства якой захоўвалася да XIII ст. Сучасныя беларускія даследчыкі пішуць аб праславянскім кампаненце беларускай мовы. Нягледзячы на дыялектную разнастайнасць, да пачатку ХШ ст. выразна намячаюцца рэгіянальныя моўныя асаблівасці, якія ў далейшым стануць характэрнымі прыкметамі ўкраінскай, расійскай і беларускай моў. Паасобныя фанетычныя рысы беларускай мовы адлюстраваны ўжо ў дагаворах XIII—XIV стст. Полацка, Віцебска і Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам, з якіх асабліва паказальны дагавор смаленскага князя 1229 г.

У часы ВКЛ гаворкі дрыгавічоў, полацка-смаленскіх крывічоў і радзімічаў, якія ўтваралі адну групу, канчаткова кансалідаваліся ў беларускую мову. У галіне фанетыкі яе асаблівасцямі сталі "дзеканне" (дзед, дзеці замест старажытных усходнеславянскіх дед, дети), "цеканне" (цётка, цень, маці замест тетка, тень, мать), "аканне" (мароз, варона), "яканне" (вясна, зямля, сястра), цвёрды гук "р" (крыўда, пісар, тры), "фрыкатыўнае вымаўленне "г", прыстаўныя зычныя і галосныя гукі ў пачатку слова (возера замест старажытнага озеро, ільняны замест льняны, іржа, вока і г.д.) і інш, у сінтаксісе — выкарыстанне слоў "каб", "калі", часціц "ці", "чы" і інш. Некаторыя даследчыкі лічаць, што важнейшыя асаблівасці нашай мовы ў той ці іншай меры існавалі ўжо ў XIII ст.

Аб моўнай супольнасці беларускага этнасу пераканаўча сведчыць лексіка. Пад уплывам новых з'яў у палітычным, эканамічным і сацыяльным жыцці ўзнікла вялікая колькасць спецыфічных слоў. Зацвярджэнне з другой паловы XIV ст. абеларушанай старажытнарускай мовы ў якасці дзяржаўнай садзейнічала ўзбагачэнню нашай нацыянальнай мовы новай лексікай, якая адлюстроўвала розныя бакі жыцця. Утварылася і атрымала паўсюднае ўжыванне агульная тэрміналогія. Гэта агульныя назвы прылад працы, зямельных угоддзяў, прадуктаў земляробства (валока, плац, сенажаць, нарогі, збожжа, ралля, фальварк, ярыца. насенне і інш.), груп залежных сялян, відаў феадальных павіннасцей і пабораў (отчыч, цяглы, пахожы, чынш, цягло, гвалты, талака, сярэбшчына, старожа і інш.), тэрміны, якія адлюстроўвалі эканамічнае і сацыяльнае жыццё гараджан, спецыяльнасці рамеснікаў (сход, прывілеі, падатак, каваль, чабатар, кушнер, кравец, рымар, шкляр і г.д.), гандлёвыя і крэдытныя тэрміны (гандаль, шынкар, мыта, доўг і інш.), назвы катэгорый і груп гарадскога насельніцтва, службовых асоб (мяшчане, найміты, лёзныя, рамеснікі, радца, лаўнік, войт і інш.). У беларускую мову пранікалі таксама запазычанні з іншых моў: паланізмы (бруд, кабета, моц, пан, праца, хлопец і інш.), лацінізмы (адукацыя, аркуш, артыкул, водар, гонар, гумар, колер і інш.), літуанізмы (дойлід, еўня, клуня, свіран і інш.), германізмы (гвалт, дах, ланцуг, ліхтар, фарба, цыбуля), цюркізмы. Іх было адносна нямнога, але некаторую спецыфічную афарбоўку мясцовай мове яны надалі.

Слоўнікавы склад беларускай мовы базіруецца на трох асноўных гістарычных пластах: агульнаславянская і агульнаўсходнеславянская лексіка, уласнабеларускія новаўтварэнні і запазычанні. Агульнаславянская лексіка ўтварае ядро яе слоўнікавага складу. Шэраг рыс аб'ядноўвае нашу мову з украінскай і рускай, некаторымі асаблівасцямі яна зблiжаецца з заходнеславянскімі мовамі. Беларуская мова захавала шмат старажытных рыс (напрыклад, поўнагалосныя формы слоў вораг, нораў, палон, кароткі, салодкі).

Развіццю старажытнабеларускай (ці як яе называлі тады "рускай) мовы спрыяла тое, што ў канцы XIV—XVII стст. яна з'яўлялася дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага з першых стагодлзяў яго існавання. На ёй размаўлялі вялікія князі літоўскія і

літвінская феадальная знаць. На ёй працавалі княжацкая канцылярыя ў Вільні, судовыя ўстановы, магістраты. На ёй размаўлялі на соймах і ў час дыпламатычных перагавораў. У часы ад Аляксандра Ягелончыка да Жыгімонта III вялікая колькасць грамат, прывілеяў, лістоў, наказаў, спісаў і іншых актавых дакументаў пісалася на абеларушанай рускай мове. Яе ўжыванне ў афіцыйным справаводстве было заканадаўча замацавана Статутам ВКЛ 1588 г. На ёй ствараліся шматлікія летапісы, мастацкія, публіцыстычныя і мемуарныя творы, на яе перакладалі воінскія і рыцарскія аповесці і раманы, гістарычныя хронікі і апакрыфічныя аповесці.

Ф. Скарына першы ўвёў родную мову ў Біблію, наблізіўшы яе царкоўнаславянскую аснову да народнай мовы, і гэтым самым паказаў раўнапраўе, свяшчэннасць мовы беларускай побач з класічнымі кананічнымі мовамі — лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай. Пранікненню беларускай мовы ў кананічную рэлігійную літаратуру спрыяла Рэфармацыя. Сымон Будны пачаў ствараць ужо толькі на ёй рэлігійныя творы. Выдадзеныя ім у 1562 г. у Нясвіжскай друкарні "Катэхізіс", "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" (апошняя не захавалася) былі першымі на Беларусі друкаванымі кнігамі на беларускай мове. Яе ўнармаванню садзейнічала і уніяцкая царква, якая выкарыстоўвала мову карэннага этнасу побач з царкоўнаславянскай і лацінскай.

Акрамя літвы і жмудзінаў старабеларускую мову ў той ці іншай форме ўспрынялі і больш дробныя этнічныя групы, напрыклад, яўрэі, цыгане, караімы, для якіх яна была асноўным сродкам міжэтнічных моўных зносін. Для татараў жа беларуская мова наогул замяніла іх родную. Распаўсюджванне старажытнабеларускай мовы, яе высокі дзяржаўны статус садзейнічалі замацаванню за ёй пэўных этнакансалідуючых функцый у межах рассялення беларускага этнасу.

Дасягнуўшы значнага развіцця, беларуская мова з другой паловы XVI ст. паступова пачала здаваць свае пазіцыі пад націскам польскай. У сувязі з перайманнем шляхтай чужой мовы ў сітуацыі двухмоўя наша мова пакрысе выцясняецца з ужытку. Рашэннем сойма 1696 г. статус дзяржаўнай на тэрыторыі княства быў замацаваны за польскай мовай.

У перыяд фарміравання адзінай народнасці развіліся далей і замацаваліся асноўныя асаблівасці яе гаспадарчага і грамадскага побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры — у тыпах жылля, яго ўнутраным убранні і хатнім начынні, у вопратцы, ежы, абрадах і звычаях, у мастацкай творчасці і фальклоры. З'явіўся шэраг новых рыс — у матэрыяльнай, сацыяльнай і духоўнай культуры. Найбольшая колькасць новаўтварэнняў адносіцца да XV—XVI стст. Культура ў гэты час набыла самабытны характар, нацыянальную своеасаблівасць.

На працягу XIV—XVI стст. складаліся і замацоўваліся агульныя рысы ў гаспадарчай дзейнасці нашых продкаў. Двухпольны севазварот змяніўся трохпольным, асвойваліся пад ворыва новыя землі. Распаўсюджваюцца аднолькавыя тыпы прылад для апрацоўкі глебы і ўборкі ўраджаю. Асноўнай ворнай прыладай становіцца саха. Для рыхлення глебы стала прымяняцца драўляная, часта плеценая барана. Пачынаюць праяўляцца этнічныя асаблівасці ў гаспадарчых занятках беларусаў, толькі ім уласцівыя.

Сацыяльна-эканамічныя ўмовы развіцця, кліматычныя асаблівасці, традыцыі, атрыманыя ў спадчыну ад старажытных часоў, парадзілі характэрныя толькі для Беларусі тыпы пасяленняў і жылля. Найбольш распаўсюджанай становіцца зрубная хата з двума памяшканнямі (хата і сенцы). Распаўсюдзіўся шэраг новых тыпаў пасяленняў: мястэчкі (пераходны тып паселішча паміж горадам і вёскай, які не меў умацаванняў), фальваркі (зусім невялікія пасяленні з аднаго ці некалькіх двароў, цэнтр гаспадаркі феадала), засценкі (пасяленні з аднаго ці некалькіх двароў, што ўзнікалі за межамі палёў, выдзеленых вёсцы, у іх звычайна жыла шляхта), ваколіцы (невялікія пасяленні шляхты, размешчаныя непадалёк ад вёскі і абнесеныя плотам). Значна змянілася планіроўка некаторых тыпаў сельскіх пасяленняў. На змену скучанаму (бессістэмнаму) размяшчэнню пабудоў прыйшло вулічнае з размяшчэннем пабудоў у два рады.

К XV—XVI стст. устанаўліваецца **характэрнае толькі для беларускай тэрыторыі адзенне.** Вызначальнай рысай беларускага народнага касцюма быў белы колер. Аснову мужчынскага і жаночага касцюма склала белая кашуля, у жанчын — доўгая спадніца з

паласатай шарсцяной тканіны — андарак, фартух, гарсет; у мужчын — нагавіцы, каляровы пояс, кафтан. Адзенне шылася з сукна, палатна, шарсцяной тканіны, верхняе — з аўчыны. Арыгінальнасць беларускаму народнаму касцюму надавалі галаўныя ўборы — наміткі ў жанчын, капелюшы і шапкі — у мужчын. Абуткам служылі скураныя ці лыкавыя лапці, скураныя боты, чаравікі, узімку — валёнкі. Касцюм дапаўняўся кашалькамі, упрыгажэннямі. Адзенне магнатаў і гарадской знаці развівалася ў рэчышчы заходнееўрапейскай моды, шылася з дарагіх тканін, аздаблялася залатой і срэбнай вышыўкай, дэкаратыўнымі гузікамі, каштоўнымі камянямі. Абутак — скураныя боты, чаравікі рознай формы і аздаблення.

У час фарміравання адзінай народнасці **складвалася і своеасаблівая народная кухня.** Аснову харчовага рацыёну насельніцтва складалі прадукты земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўлі. Дадатковымі крыніцамі былі некаторыя промыслы, што давалі мёд, рыбу, мяса дзічыны, грыбы, арэхі, ягады. У ежы адзначаюцца наступныя агульныя рысы: разнастайнасць мучных страў, шырокае ўжыванне рознай гародніны. Малочныя прадукты елі ў асноўным у натуральным выглядзе. З мяса перавагу аддавалі свініне. У посныя дні значнае месца ў харчаванні займала рыба. Пры гатаванні ежы, у напітках, народнай медыцыне шырока выкарыстоўваўся мёд. Ежа багатых саслоўяў рыхтавалася з дабаўленнем прывазных прыправаў. Соль прывозілі з Украіны, Крыма, Польшчы. Сярод напіткаў былі вядомы мёд, квас, піва.

Паступова **складваліся агульныя абрады (Каляды, Масленіца, Купалле, Дзяды і інш.), звычаі.** Шырока бытаваў звычай сябрыны (сумеснае карыстанне сенажаццю, пашай, пчоламі і г.д.; дружба і ўзаемадапамога саўладальнікаў гэтай маёмасці — сяброў), талакі (калектыўная суседская дапамога ў гаспадарчых работах). Земляробчыя, каляндарныя і сямейна-бытавыя абрады сталі састаўной часткай традыцыйнай бытавой культуры беларускага народа. Нацыянальна адметнымі рысамі адзначаюцца вусная народная творчасць, літаратурныя творы, летапісы, народныя песні і танцы, мастацтва.

**Этнакансалідуючую функцыю для ўсходнеславянскага насельніцтва Беларусі да сярэдзіны XVI ст. адыгрываў канфе-**

**сійны фактар** — прыналежнасць да праваслаўя была своеасаблівай прыкметай новага этнасу. Спецыфікай наступнага перыяду этнагенезу беларусаў з'яўляецца іх поліканфесійнасць. Погляд на беларускі народ як на выключна праваслаўную этнаканфесійную супольнасць, а на беларускіх католікаў і уніятаў як на палякаў памылковы, бо звужае этнічны масіў народа, які вызначаўся не столькі адзінай рэлігіяй, колькі адзінай мовай, агульнай тэрыторыяй, падабенствам асноўных форм культуры і самасвядомасці.

Такім чынам, **на працягу другой паловы XIII—XVI стст. на акрэсленай этнічнай тэрыторыі сфарміраваўся своеасаблівы агульнабеларускі комплекс традыцыйнай культуры і сістэмы мовы, якія сведчылі пра нараджэнне новага этнасу.**

XVII і XVIII стст. былі ўжо перыядам узмацнення і далейшага развіцця новых этнічных прыкмет.

### Фарміраванне этнічнай самасвядомасці

Адным з галоўных вынікаў аб'яднальных этнічных працэсаў і асноўным паказчыкам ступені кансалідавання народа выступае этнічная самасвядомасць — усведамленне людзьмі прыналежнасці да свайго народа, яго адметнасці. Яна ўзнікла найперш у асяроддзі прагрэсіўна настроеных слаёў гараджан, шляхты, духавенства і праяўлялася ў любові да роднага краю, народа, культуры, у зацікаўленасці іх мінулым, сучасным і будучым, у клопаце аб развіцці нацыянальных форм духоўнай культуры. У XVI ст. (да 1596 г.) этнічная свядомасць арыентавалася пераважна на свецкія формы. Надзвычай яскрава патрыятызм выявіўся ў беларускіх летапісах, літаратуры, грамадскай думцы. Думка аб нацыянальнай годнасці, гонары за сваю радзіму, народ, культуру ўпершыню была абгрунтавана ў творах М. Гусоўскага, Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага. У прадмове да кнігі "Юдзіф", выдадзенай у Празе, Ф. Скарына заклікаў, каб "... *в добрых делах и в любви отчины не толико жены, но и мужи наследовали и всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали, понеже от прироженш звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым*

*подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлен*

Рэфармацыя садзейнічала абуджэнню нацыянальнай свядомасці, цікавасці да нацыянальнай мовы. У 70—80-я гады многія яе дзеячы праявілі вялікі нацыянальна-патрыятычны энтузіязм.

Істотныя зрухі ў сацыяльна-палітычнай і культурна-рэлігійнай сітуацыі на Беларусі на рубяжы XVI—XVII стст. нарадзілі іншую форму нацыянальнай свядомасці, у якой дамінуючую ролю адыгрываў рэлігійны кампанент. Яе носьбітамі былі С. Зізаній, М. Сматрыцкі, А.Філіповіч і іншыя барацьбіты супраць ваяўнічага каталіцызму і уніі. У абарону нацыянальна-культурных каштоўнасцяў беларускага народа (мову, абраднасць, святы) выступалі дзеячы уніі. Усё гэта паскорыла ўсведамленне беларусамі сваёй адметнасці ва ўсходнеславянскім свеце.

Знешняй формай праяўлення самасвядомасці з'яўляецца назва народа — этнонім.

У XIII—XVI стст. у дачыненні да насельніцтва Беларусі ўжываліся розныя этнонімы. Да XVII ст. абагульняючай для праваслаўнага насельніцтва Беларусі, Украіны, Масковіі і часткова Літвы, Польшчы, Латгаліі з'яўлялася назва "Русь", "рускія", "русіны". Хаця ў іх грамадскай свядомасці захоўвалася ўяўленне аб асаблівай блізкасці ўсходнеславянскіх народаў, якое замацоўвала праваслаўная царква, насельніцтва Русі Літоўскай і Русі Маскоўскай лічыла менавіта сябе "сапраўднай" руссю, а сваіх суседзяў называлі "масквой", "маскавітамі", "маскалямі" ці, адпаведна, "літвой", "літвінамі", "ліцвінамі", "літоўцамі". Беларускія "русіны" ўжо ў XV—XVI стст. адрознівалі сябе ад "маскавітаў" суседняй дзяржавы, іх мову называлі "маскоўскай", а сваю — "рускай". Этнонім "рускія людзі" меў больш стабільную распаўсюджанасць сярод жыхароў Усходняй Беларусі і Смаленшчыны.

Украінцы, рускія, палякі і іншыя еўрапейскія народы называлі беларусаў "літвінамі", гэта ж паняцце было саманазвай і беларускага насельніцтва. Славянізаванае вызначэнне "ліцвіны" адрознівалася ад саманазвы ўласна летувісаў, якая гучала як "lietuwis", "lietuwai", "lietuwininkas". У XIV—XV стст. "ліцвінамі" называлі сябе пераважна жыхары заходніх зямель Беларусі і ўсходу Летувы.

У XVI і асабліва ў XVII—XVIII стст. назва распаўсюджваецца на ўвесь беларускі этнас.

Ф. Скарына ў Кракаве запісаўся "літвінам". Беларускі гуманіст XVI ст. М. Цішкевіч — аўтар трактата "Пра норавы татараў, літвінаў і маскавітаў" — паўсюль падпісваўся Міхалонам Літвінам. Простыя сяляне, гараджане, шляхцічы, захопленыя ў палон царскімі войскамі ў войнах XVI—XVII стст., называлі сваю радзіму Літвою. А. Філіповіч у 1667 г. месцазнаходжанне Купяціцкага манастыра называў у Літве, а гэта ж — "міля ад Пінска". Форма "нацыянальнага" самавызначэння насельніцтва Беларусі (асабліва шляхты) умацоўваецца пасля аб'яднання княства з каралеўствам у Рэч Паспалітую, якое разглядалася як "аб'яднанне дзвюх нацый (палякаў і літвінаў) у "адзіную нацыю". Мясцовыя магнаты і шляхта доўгі час падкрэслівалі, што яны менавіта "літвіны", чым выказвалі даволі высокі ўзровень дзяржаўна-нацыянальнай самасвядомасці. *"Мы і палякі, хоць і брацьця, але зусім адменных звычаяў",* — пісаў у канцы XVI ст. канцлер Л.Сапега. *Назвы "літвіны", 'Літва",* на думку даследчыкаў, былі найбольш абагульняючай формай этнічнай самасвядомасці і самавызначэння беларускага насельніцтва ў XVII—XVIII стст. Яны ўжываліся на нашых тэрыторыях больш за пяцісот гадоў, а ў другой палове XIX ст. перамясціліся на паўночны захад і сталі найменнем суседняга балцкага народа і яго зямлі.

Заўважана, што ў добра вядомых і вартых даверу гістарычных крыніцах XII—XV стст., пачынаючы ад "Аповесці мінулых гадоў", Радзівілаўскага, Лаўрэнцьеўскага (акрамя Іпацьеўскага) і іншых аўтэнтычных летапісаў і дакументаў таго часу, што складзены на ўсходнеславянскіх землях, нідзе не згадваецца Белая Русь. Няма гэтай назвы і ў агульнадзяржаўных летапісах і хроніках ВКЛ XV—XVI стст. Дзіўна, але Белая Русь ні разу не згадваецца нават у такім паказальным помніку, як Баркулабаўскі летапіс, які складзены ва Усходняй Беларусі ў першай палове XVII ст.

Першая згадка пра Белую Русь змешчана ў геаграфічным трактаце "Апісанне зямель", складзеным у другой палове XIII ст. каталіцкім манахам-місіянерам, які ў часы князя Міндоўга прапаведаваў сярод язычнікаў Літвы, Жамойці і Яцвягі і добра ведаў гэтыя

краі. Як выцякае з кантэксту апавядання, аўтар, хутчэй за ўсё, разумеў памежную, прылеглую да Прыбалтыкі, паўночна-заходнюю частку Русі, г.зн. тэрыторыю сучаснай Усходняй Беларусі і Пскоўшчыны.

Адна з рэдакцый "Аповесці мінулых гадоў" — Іпацьеўскі спіс згадвае пад 1305 г: *"В лето 6813 (1305) ... много бо зла Ляхом Литва, Жмоит, прежде сотвори, Ляхов и Мазуров полками в полон бра, сице Лях един по гривне, се есть по десяти грошей литовских, в Литве и Руси Белой продаван был... "*

Самая ж даўняя, дакладная гістарычная звестка пра Белую Русь у аўтэнтычным помніку ўсходнеславянскага паходжання сустракаецца ўпершыню ў грамаце Івана III да Папы Рымскага Сікста 1472 г., дзе маскоўскі князь называе сябе dux Albae Russiae. Гэта назва ўж вялікая, а не ў сэнсе заходняя, як гзта падаецца ў заходнееўрапейскіх крыніцах эпохі сярэднявечча.

Дакументальна зафіксаваны факты выкарыстання назвы "Белая Русь" маскоўскімі князямі другой паловы XV — пачатку XVI ст. у палітычных мэтах. Спробы замацаваць гэту назву за Маскоўскай дзяржавай маглі быць абумоўлены як яе вызваленнем ад ардынскай залежнасці, так і палітычнай дактрынай "Масква — трэці Рым". У абодвух выпадках выкарыстанне наймення "Белая Русь" мела чыста міфалагічны сэнс. Як этнанімічнае ці этнаграфічна-тэрытарыяльнае вызначэнне Маскоўскай дзяржавы яно ніколі не ўжывалася.

Уяўляе цікавасць аналіз тэрміна Белая Русь расійскім гісторыкам XVIII ст. Тацішчавым: *"О причине же имели сего разные мнени находятся. Герберштейн (аўстрыйскі дыпламат XVI ст., аўтар запісак) и другие от множества снегов написали, токмо сие неправо, ибо Велтой Руси, где стужии снегов более бывает, паче бы согласовало. Польские и некоторые наши кладут от белого платья, которое при дворе царском в почтении было. Но и сие несогласно, ибо в Белой Руси более овец серых, следственно, и платья серого, нежали в Малой Руси... Древние наши писатели разумели под оным именем Польский и Мережской или Суздальский и Ростовский пределы с принадлежностьми, после Смоленское или Кревич, которое было особное владение, к тому присовокупи-*

*лі. Литовские, хотя похитить титул великих князей белорусских, обладав Смоленском, оное токмо за Белую Русь почли".*

Але, як прасочваецца па крыніцах XVII—XVIII стст., гэты этнатапонім прышчэплівалі за нашымі землямі расійскія манархі: Аляксей Міхайлавіч, Кацярына II. Цар Аляксей, уступіўшы ў Вільню ў 1655 г., да свайго тытула "великий князь всея Великия и Малыя..." дадаў "и Белыя России". Тады ж была ўтворана Беларуская (ці Магілёўская або Беларуска-Магілёўская) епархія. Ненавісныя ёй словы "літвіны", "Літва" імкнулася выкрэсліць з ужытку Кацярына II. Насельніцтва Беларусі ў XIX ст. было пастаўлена перад выбарам: называцца ці рускімі, ці палякамі. Назвы "Беларусь", "беларускія губерні", "беларусы" выконвалі ў тых умовах ролю кампрамісу.

Такім чынам, **назвы Беларусь, беларусы, хоць і даўнія, але не мясцовага, не тутэйшага паходжання. Яны не мелі спачатку выразна этнічнага характару, можа таму так марудна тут прыжываліся і так позна — у другой палове XIX—XX ст. — замацавалася ў народнай свядомасці.** Аднак гэта не падвяргае сумненню старажытнасці і самабытнасці беларускага народа, яго мовы, гісторыі і культуры.

У XIV — першай палове XIX ст. тапонім "Белая Русь" і этнонім "беларусы" не ахоплівалі ўсёй нашай зямлі і этнасу, а з'яўляліся толькі лакальна-тэрытарыяльным вызначэннем. Гэтыя найменні спачатку замацаваліся за ўсходнебеларускімі землямі Віцебшчыны, Смаленшчыны, Магілёўшчыны і іх насельніцтвам і толькі ў другой палове XIX ст. распаўсюдзіліся на ўсю нашу Бацькаўшчыну і народ. Тлумачэнняў паходжання і сэнсу назвы "Белая Русь" безліч, але ўсе яны з'яўляюцца толькі здагадкамі. Паходжанне назвы звязваюць то з кліматычна-геаграфічнымі або этнаграфічнымі асаблівасцямі гэтых зямель, то са знешнепалітычнымі ці канфесійнымі фактарамі, то са своеасаблівым статусам іх у складзе княства.

Названыя этнонімы ў залежнасці ад абставін маглі ўжывацца паасобку ці сумесна ("ліцвін рускага роду", "ліцвін-беларусец"), але ўсе яны з'яўляліся элементамі этнічнай самасвядомасці беларускага народа.

Аддзяліўшы ад сябе словы Літва і Русь, мы атрымалі поўную блытаніну ў нашай мінуўшчыне — не можам знайсці ў сваёй гісторыі сябе, заблыталіся, што ў нашай культуры нашае, а што чужое, адкуль мы і адкуль іншыя. Часам даходзіць да недарэчнасцяў: згадваючы Старажытнабеларускую дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае, сучасны беларускі гісторык мусіць як быццам выбачацца і кожны раз тлумачыць, што і мы, беларусы, маем да гэтага княства нейкае дачыненне.

Пісаць сёння: літоўска-беларуская дзяржава, літоўска-беларускія князі, літоўска-беларускае войска і г.д. — калі гаворка ідзе пра сярэднявечча — недарэчнасць. Паводле сярэднявечнай тэрміналогіі больш дакладна трэба пісаць: літоўска-руская або проста літоўская. Нельга лічыць назву Літва, якая нарадзілася, пашыралася і ўмацоўвалася на беларускіх землях, як нешта асобнае ад нас і чужое, гэтак жа нельга ўспрымаць як чужую Вільню — калыску беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры, нашу старажытную сталіцу.

Назвай Літва яшчэ ў зусім недалёкім мінулым звалася заходняя і цэнтральная Беларусь. Нават прадстаўнікі афіцыйных колаў Расійскай імперыі разглядалі Віленскую, Гродзенскую, Менскую губерні і Беласточчыну як Літоўскі край. На іх тэрыторыі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай былі ўтвораны Літоўская губерня, потым Літоўскае генерал-губернатарства, Літоўская епархія. Зразумела, царскія ўладары пакідалі этнічна беларускім адміністрацыйна-тэрытарыяльным утварэнням назву Літва не выпадкова, а паводле глыбокай гістарычнай традыцыі.

Літоўцамі і называлі нас, і мы самі сябе лічылі яшчэ ў мінулым стагоддзі. *"О, Літва, мая Айчына",* — пісаў пра Навагрудчыну Адам Міцкевіч. *"Продкі мае выйшлі з літоўскіх балотаў",* — пісаў пра Піншчыну Фёдар Дастаеўскі.

Беларускі пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч "Літвою" лічыў Менск, у якім тады жыў, — сучасную сталіцу Беларусі. Беларускага паэта Уладзіслава Сыракомлю сучаснікі называлі "лірнікам літоўскім", а другі вядомы беларускі пісьменнік Арцём Вярыга-Дарэўскі, які нарадзіўся на Лепельшчыне і жыў у Віцебску, пісаў у сваім творы: *"Літва — родная зямелька".* Дарэчы, і верш ягоны з красамоўнаю назваю *"Літвінам, што запісаліся ў мой "Альбом",*

на развітанне" (1858) быў адрасаваны маладым беларускім літаратарам. У ім аўтар, між іншым, усклікаў: *"Чый гэта голас? Гэты словы нашы, браценькі-літоўцы ".*

Такіх прыкладаў безліч. З іх відаць, што ў XIX ст. словы "Літва" і "літвін" выкарыстоўваліся як саманазва беларусаў заходняй і цэнтральнай частак нашага краю. Гэтак жа называлі нас і суседзі. З вуснаў украінца пра беларуса можна было пачуць: *"Хіба лихо озме литвина, щоб він не дзекнув ".* Жыхары Курскай і Арлоўскай абласцей Расіі называлі беларусаў "літвінамі" ажно да другой сусветнай вайны. А на Беласточчыне ўжо ў наш час запісана пра беларуса: "Як сыр не закуска, так ліцьвін — не чалавек!", або "Ліцьвін — то чортаў сын!"

Дзесяткі вёсак на Беларусі маюць назву Літва. Пэўна, кожны з нас мае знаёмых беларусаў з прозвішчамі Літвін, Літвіновіч, Літвінка...

Самае цікавае, што і дзяржаўную "рускую" мову ВКЛ часам называлі літоўскай. Яшчэ чэшскі тэолаг Геранім Пражскі, пабыўшы пры Вітаўце місіянерам у Княстве, пісаў, што ў гэтай дзяржаве "мова народа ёсць славянская", а паводле назвы дзяржавы яе называюць "літоўскаю". Беларускі асветнік Л. Зізаній ў 1626 г. па заказе патрыярха напісаў праваслаўны "Катэхізіс" і растлумачыў у ім назву самога твора так: *"по-литовску это оглашение, русским же языком нарицается беседословие ".* Праз год сам маскоўскі цар пытаўся ў яго: "По литовскому языку как вы говорите "собра"?", на што асветнік адказваў: "Тожде и по литовскому языку "собра".

Як дзяржаўная мова магутнай некалі Літвы - Вялікага княства Літоўскага, беларуская мова яшчэ і ў XVIII стагоддзі нягледзячы на інтэнсіўную паланізацыю краю, і на захадзе - для Польшчы, і на ўсходзе — для Расійскай імперыі, — заставалася "літоўскаю". І адданы новай валадарцы Кацярыне II праваслаўны уладыка В. Садкоўскі пагражаў беларускім святарам на слуцкім епархіяльным саборы: *"Я вас скорэню, знішчу, штоб і языка не было вашого проклятого літовского і вас саміх; я вас у зсылкі парассылаю альбо ў салдаты паадаю, а сваіх з-за кардону панаважу!"*

Сярод іншых этнасаў беларусаў выдзеліў іх менталітэт - склад розуму народа, лад яго мыслення, нацыянальны характар, псіхалогія. Ён складваўся ва ўмовах шматсотгадовага процістаяння на на-

шых землях двух славянскіх цэнтраў - Польскага каралеўства і Маскоўскага царства. Да лепшых маральна-духоўных якасцяў беларусаў адносяцца нацыянальная і рэлігійная талерантнасць, памяркоўнасць, лагоднасць, мяккасардэчнасць, вынослівасць, шчодрасць, кемлівасць, няпомслівасць, сумленнасць, добразычлівасць, рахманасць, паэтычнасць душы, працавітасць. Недахопы народа - гэта працяг яго вартасцяў. Да адмоўных бакоў беларускага менталітэту можна аднесці пэўныя апатычнасць, нерашучасць, кансерватыўнасць, недаверлівасць, скрытнасць, пакорнасць. Напрыклад, недастатковая рашучасць, магчыма, з'яўляецца вынікам празмернай талерантнасці, добразычлівасці беларусаў. Абагульняючы партрэт народа дапаўняюць і такія рысы, як маўклівасць, дамаседства, неагрэсіўнасць, схільнасць да згоды, пошуку кампрамісаў і інш. Можна вызначыць некаторыя бакі беларускай ментальнасці ў параўнанні з нацыянальнымі характарамі насяляючых Беларусь народаў. Так, ад яўрэяў беларусы адрозніваюцца меншай энергічнасцю, знаходлівасцю, настойлівасцю, менш развітым уменнем прыстасоўвацца да жыццёвых абставін, большым індывідуалізмам, меншай згуртаванасцю. Беларусы найчасцей не маюць той легкадумнасці і таго самахвальства, якія даволі часта былі ўласцівы палякам, асабліва шляхецкага паходжання. Неразвітае пачуццё помсты адрознівае іх ад украінцаў. Разам з тым, незвычайная стойкасць, мужнасць, ваярская здольнасць абараняць Радзіму, сваю сям'ю і родную хату, якія нашы продкі праяўлялі ў складаных сітуацыях, упартае пераадоленне цяжкасцяў выратавалі нашу нацыю ад знішчэння і даюць упэўненасць у нашай здольнасці захавання ў будучым.

Менталітэт з'яўляецца ўстойлівай этнічнай прыкметай. Нарадзіўшыся ў выключна складаных умовах, прашоўшы праз выпрабаванні лёсу, беларусы захавалі непаўторныя рысы свайго нацыянальнага характару, па якіх іх можна пазнаць і сёння.

### Этнічныя меншасці

Аснову новай этнічнай супольнасці склала ўсходнеславянскае насельніцтва. Але ў яе фарміраванні прымалі ўдзел таксама іншаэтнічныя групы: заходнеславянскія (палякі), балцкія (прусы, борці, яцвягі, літва, дайнова, жамойты, латгалы), цюркскія (татары). Яны

аказалі ўплыў на мову, культуру, рэлігію беларускага этнасу і паслужылі дадатковым кампанентам гэтай супольнасці. Акрамя таго, у той час на землях Беларусі пражывалі таксама невялікія групы яўрэяў, цыган, караімаў, шатланцаў, французаў, немцаў рускіх, украінцаў і інш. З другога боку, літвіны жылі ў Польшчы, Маскові, Галандыі і іншых дзяржавах.

Групы палякаў на этнічных беларускіх землях у другой палове XIV ст. з'яўляюцца у якасці палонньгх пасля паходаў вялікіх літоўскіх князёў у Польшчу. Прыкметай міграцыі палякаў на Беларусь у наступныя стагоддзі не было, бо законы княства забаранялі ім займаць тут пасады і набываць зямлю. Пад уздзеяннем польскага этнакультурнага ўплыву, што ўзмацніўся пасля Люблінскай уніі, прадстаўнікі вышэйшага саслоўя змянілі сваё этнічнае самавызначэнне. Паланізацыі літвінаў-католікаў спрыяў касцёл, які прывіваў ім польскую этнічную свядомасць. Пераважная болынасць тых, хто лічаць сябе сёння палякамі, маюць беларускія карані.

Ад палякаў княства ўспрыняла адміністрацыйны падзел на ваяводствы, запазычыла магдэбурскае права, якое ў іх з'явілася ўжо ў XIII ст., пераняла новы каляндар, у асноўным з Польшчы пранікаў каталіцызм. Польская мова ўзбагаціла беларускую тапанімію і антрапамію, аказала ўздзеянне на фарміраванне шэрагу характэрных асаблівасцяў беларускай мовы. Палякі далі назвы шэрагу населеных пунктаў (тыпу "Ляхаўцы", "Ляхі", "Ляхаўшчына"), новыя прозвішчы (Хадакоўскія, Недашкоўскія, Радзялоўскія і інш.), словы, якіх раней не было ва ўсходнеславянскай мове: "мовіці", "мова", "змова", "вымова", "моц", "менавіта", "згода", "абавязак", "абяцаць", "будаваць", "быдла" і інш. Запазычанне польскіх слоў асабліва інтэнсіўна здзяйснялася ў XV—XVI стст. Праз польскую мову ў беларускую пранікла група нямецкіх слоў: "рада", бурмістр", "біскуп", "кляштар" і інш. Хаця палякі былі на Беларусі толькі этнічнай меншасцю, тым не менш польскі нацыянальна-культурны ўплыў на Беларусь узмацняўся па меры ўзрастання палітычнага і рэлігійнага ўплыву Польшчы і Ватыкана.

Даволі хуткі працэс засвойвання польскай мовы і культуры, які пачынаецца ў 1570 - я гады, меў спачатку пазітыўны харак-

тар, бо дапамагаў знаёмству нашых продкаў з культурнымі і навуковымі дасягненнямі Заходняй Еўропы. Але менавіта з яго бярэ вытокі заняпад беларускай мовы і культуры, што адбыўся ў канцы XVII ст. Тады, у XVI ст., не бачылася ніякай небяспекі ў знаёмстве перадавых, па-еўрапейку адукаванных беларусаў з лацінскай і польскай мовамі, на якіх яны пісалі свае творы. У гэты пачатковы перыяд паланізацыі польская мова пранікала ў княства нібы сама па сабе, без дапамогі з боку палякаў. Яна ўводзілася ў княства яго ўраджэнцамі. У гэтым галоўная асаблівасць і карэннае адрозненне паланізацыі пачатковага перыяду, які працягнуўся да пачатку XVII ст., ад навязваемай каралеўствам паланізацыі XVII—XVIII стст.

Найбольшыя "поспехі" ў такім самастойным спальшчэнні зрабілі шляхта і магнаты. Штучная ліквідацыя з іх ужытку беларускай мовы істотна замарудзіла развіццё нацыянальнай самасвядомасці.

Захавальнікам беларускай мовы і культуры стаў просты народ. Акаталічаны і апалячаны пануючы клас супрацьпаставіў сябе асноўнай масе насельніцтва не толькі ў сацыяльных, але і ў рэлігійных, і ў культурна-этнічных адносінах.

У XIII——XIV стст. на Беларусь перамясцілася частка балтаў (прусаў, борцяў, жамойтаў), цяснімых крыжакамі. У заходніх раёнах беларускай этнічнай тэрыторыі пражывалі яцвягі (да канца XIII ст.) і літоўцы. Іх мова і культура цесна ўзаемадзейнічалі з беларускай. Так з'явіліся ў беларускай тапаніміцы новыя назвы населеных пунктаў: "Прусінава", "Прусы" і інш. (ад этноніна "прусы"), "Ятвезь", "Ятвеск" і г.д. (ад тэрміна "яцвягі"), "Латыголь", "Латыголава", "Латыголічы" (ад "латгалы"). Усяго звыш 200 балцкіх назваў населеных пунктаў налічваюць даследчыкі ў заходніх раёнах Беларусі. У беларускую антрапанімію увайшло звыш 100 балцкіх прозвішчаў (Зыль, Лавейка, Макута, Рэкуць, Сурвіла і інш.). У нашу мову ўвайшлі балцкія словы "дойлід", "клуня", "пуня", "свіран", "кумпяк", "дзякло" ( падатак зернем) і г.д. У Вялікім княстве Літоўскім канчаткова завяршалася славянізацыя літоўскіх феадалаў, усяго балцкага насельніцтва заходніх беларускіх зямель.

З канца XIV ст. на Беларусі пачалі сяліцца татары. Спачатку

гэта былі палонныя, захопленыя Гедымінам і Альгердам. Пазней тут знаходзілі прытулак эмігранты з Залатой Арды, пацярпеўшыя там паражэнне ў міжусобнай барацьбе. Першым быў хан Тахтамыш са сваімі прыхільнікамі. Іх надзялялі зямлёй і сялілі на Віленшчыне, Гродзеншчыне і Міншчыне. Агульная колькасць татарскага насельніцтва ў княстве ў XVI ст. складала ад 40 тыс. да 100 - 200 тыс. чалавек. Татары неслі вайсковую службу, займаліся рамёствамі і перадалі беларусам свае навыкі ў конегадоўлі, гароднііцтве, гарбарстве, узбагацілі беларускую лексіку. Татарскія пасяленцы на Беларусі доўгі час захоўвалі сваю сацыяльна-племянную арганізацыю, звычаі, абрады, вераванні і адрозніваюцца ад мясцовага насельніцтва асаблівасцямі культуры. Большая іх частка была прыроўнена да шляхты і займала прывілеяванае становішча. Пад татарокім уплывам у беларускай мове з'явіліся словы "атаман", "улан", "казак", "ямшчык", "армяк", "баклага", "тамга", у беларускую антрапанімію пранікплі татарскія прозвішчы: Татарчук, Татарэнка, Татаронак і г. д., у тапаніміку - назвы населеных пунктаў - "Татаршчына", "Татарка" і інш. Самі татары ўжо ў пачатку XVI ст. асіміляваліся беларусамі, пераналі іх мову, забыўшы ўласную. Татарскія рэлігійныя кнігі Аль-Кітабы, пісаныя арабскімі літарамі на беларускай мове, з'яўляюцца унікальнымі помнікамі старадаўняй беларускай мовы.

У канцы XIV—XVI стст. ідзе масавая міграцыя на Беларусь яўрэяў з краін Заходняй Еўропы, дзе яны цярпелі цяжкі ўціск. Першыя іх супольні ўзніклі ў канцы XIV ст. у Бярэсці і Гародні. З другой паловы XVI ст. яўрэі займаюць прыкметнае месца ў этнічнай структуры насельніцтва Беларусі. Большая частка іх сялілася ў гарадах і мястэчках і займалася рамёствамі, гандлем, дробным прадпрымальніцтвам, ліхвярствам. Яны жылі замкнёнымі тэрытарыяльнымі абшчынамі - кагаламі і складалі ў гэты час да 20% гарадскога насельніцтва.

Першыя групы рускіх мігрантаў на Беларусі з'явіліся ў XV — XVI стст. Сюды ўцякаюць ад праследаванняў апальныя князі і вальнадумцы (А. Курбскі, Арцемій і інш.), з другой паловы XVII ст. - ад здзеку і ўціскаў дзесяткі тысяч стараабрадцаў, сялян і гараджан. Рускія, а таксама ўкраінскія перасяленцы і ўцекачы адносна лёгка

"ўпісваліся" ў роднае этнічнае асяроддзе і ўжо ў другім - трэцім пакаленні амаль нічым не адрозніваліся ад мясцовых жыхароў.

На зямлі Беларусі цыганы з'явіліся ў сярэдзіне XV ст. Наплыў смуглявых вандроўнікаў ішоў спачатку праз Польшчу і Германію, у канцы XVI - пачатку XVII ст. - з Венгрыі. У тыя часы амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах дзейнічалі жорсткія законы супраць іх. Больш спакойным было становішча гэтага народа ў Венгрыі, Вялікім княстве Літоўскім і Расіі. Тут, нягледзячы на некаторыя ганенні, цыганы атрымалі прызнанне як добрыя кавалі, ювеліры, каняводы, музыкі, спевакі, танцоры і дрэсіроўшчыкі звяроў, а жанчыны здабылі славу варажбою і знахарствам. Большасць цыган вяла вандроўны лад жыцця. Галоўным месцам збору вандроўных груп была Зэльва. Урад Рэчы Паспалітай беспаспяхова спрабаваў прывучыць іх да аселага жыцця, прымацаваць да зямлі. Цыганы не прыжыліся ў вёсцы, а цягнуліся да гарадоў і мястэчак, дзе звычайна сяліліся на ўскраінах. Аселыя цыганы пражывалі ў мястэчку Мір і займаліся рамёствамі. Цыганы жылі плямёнамі на чале з выбарнымі войтамі ці ваяводамі, захавалі бытавую спецыфіку і выконвалі абрады як беларускага народа, сярод якога жылі, так і свае традыцыйныя.

Масавыя перасяленні ў Вялікае княства Літоўскае ў XIV—XVII стст. іншаэтнічных груп сведчаць пра нацыянальную і рэлігійную талерантнасць гэтай дзяржавы. Нашчадкі гэтых мігрантаў жывуць на Беларусі да нашага часу. Сёння тут налічваецца 112 тыс. яўрэяў, 12 тыс. татараў, 8 тыс. цыганоў.

Такім чынам, перыяд канца XIII - сярэдзіны XVII ст. стаў для беларускай народнасці часам станаўлення, развіцця і ўздыму. Паспяховае развіццё этнасу абарвала вайна 1654—1667 гг., якая стала першай нацыянальнай катастрофай. У наступныя часы ідзе працэс размывання і заняпаду беларускага этнасу, які выразіўся спачатку ў яго масавай паланізацыі, а потым русіфікацыі. У гісторыі этнасаў звычайна ёсць свае "залатыя" і "змрочныя" часы. Першыя спрыялі кансалідацыі этнасу, другія - разбурэнню, паглынанню суседнімі этнасамі. Калі ядро этнасу перажывала "змрочныя" часы, гэтым самым этнас здаваў экзамен на права існаваць.

ЛЕКЦЫЯ 20

# ШЛЯХ ДА ЛЮБЛІНА

- ***Лівонская вайна.***
- ***Утварэнне Рэчы Паспалітай:***

## Лівонская вайна

Пасля завяршэння ў 1537 г. паласы войнаў Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай спакой на іх межах трываў два дзесяцігоддзі. Гэта перадышка стала зацішкам перад вялікай бурай. Масква рыхтавалася да новых захопаў. Яна неаднаразова давала зразумець, што лічыць усходнеславянскія землі Вялікага княства Літоўскага сваёй гістарычнай спадчынай. Цяпер нават Віленшчына і Лівонія ўжо абвяшчаліся "вотчынай" маскоўскіх уладароў. Логіка развіцця гістарычных працэсаў у канцы 50-х гадоў XVI ст. няўмольна вяла да сутыкнення жыццёвых інтарэсаў княства і Масковіі на прыбалтыйскіх землях.

У 1558 г. Руская дзяржава распачала барацьбу за тэрыторыю Лівонскай канфедэрацыі (Лівонская канфедэрацыя — саюз пяці княстаў, створаных у XIII ст. нямецкімі крыжакамі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора на заваяваных тэрыторыях племяні ліваў — у межах сучаснай Латвіі і Эстоніі, якія намінальна лічыліся пад уладай Папы Рымскага і германскага імператара) і выхад да Балтыйскага мора, каб наладзіць праз гэтыя землі гандлёвыя і культурныя сувязі з краінамі Заходняй Еўропы і сцвердзіць сваё права магутнай дзяржавы ўплываць на палітычны клімат Еўропы. Але на яе шляху ў Еўропу стаялі Вялікае княства Літоўскае, Польшча і Лівонія. У хуткім часе маскоўскае войска авалодала Нарвай, Дэрптам (Тарту), наблізілася да Рэвеля (Таліна).

Магістр Лівонскага ордэна Кетлер пасля няўдалай спробы арганізаваць супраціўленне Маскве папрасіў дапамогі ў еўрапейскіх дзяржаў. Уступіцца пагадзілася толькі Вялікае княства Літоўскае, бо авалоданне Маскоўскай дзяржавай Ліфляндыяй (з канца XVI—першай паловы XVII ст. Лівонія стала называцца Ліфляндыяй, ці Інфлянтамі) стварыла пагрозу паўночным рубяжам княства. Літвінская знаць хацела перашкодзіць Маскве авалодаць балтыйскім узбярэж-

жам, паколькі сама была зацікаўлена ў гэтых тэрыторыях. Яшчэ ў 1557 г. вялікакняжацкі ўрад заключыў ваенны саюз з Лівонскім ордэнам, накіраваны супраць Масквы. Паспяховае прасоўванне войска цара Івана вымусіла Лівонскі ордэн у 1559 г. перайсці пад пратэктарат Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Калі ж пад ударамі гэтага войска Ордэн распаўся, у 1561 г. у Вільні было падпісана пагадненне, па якім магістр Кетлер аб'яўляўся свецкім князем у Курляндыі і губернатарам у астатняй частцы Лівоніі, якая станавілася правінцыяй пад сумеснай уладай Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Узяўшы Лівонію пад сваю апеку, польскі кароль і вялікі літоўскі князь Жыгімонт Аўгуст патрабуе ад Івана IV вывесці адтуль свае войскі. Цар катэгарычна адмовіўся - не ў яго планах было перапыняць паспяхова распачатую вайну. Тады Вялікае княства ўступае ў вайну і пасылае на абарону Лівоніі сваё войска.

У адказ на гэта Іван Грозны накіраваў свае асноўныя сілы да паўночна-ўсходніх межаў княства. Баявыя дзеянні перамясціліся на тэрыторыю БеЛарусі, якая стала асноўным тэатрам вайны.

Ужо ў пачатку 1562 г. царскія палкгспустошылі Мсціслаўшчыну, ваколіцы Шклова, Оршы, Віцебска, Дуброўны і Копысі. Для ажыццяўлення рашаючага наступлення на ВКЛ зімой 1562—1563 гг. пад Мажайскам было сканцэнтравана 60-тысячнае войска, якое ўзначаліў Іван IV. **31 студзеня 1563 г.** яно аблажыла Полацк. Маленькі гарнізон на чале з ваяводам С.Давойнам два тыдні мужна адбіваўся, але драўляныя ўмацаванні гарэлі, сілы абаронцаў таялі, а дапамогі чакаць не было адкуль: гетман Мікалай Радзівіл меў пад рукой толькі тры з паловай тысячы *вершнікаў.* 15 лютага горад мусіў здацца. Ён быў разрабаваны царскімі ратнікамі. Шмат фурманак з золатам, серабром і іншымі каштоўнасцямі пацягнулася да Масквы. Была раскрадзена старажытнейшая на Беларусі бібліятэка Сафійскага сабора. У палон павялі больш як 11 тыс. палачан.

Амаль уся паўночная Беларусь была акупавана. Пасля захопу Полацка маскоўскае войска стала пагражаць Вільні. Шлях на сталіцу ВКЛ быў адкрыты. У Маскве пачаліся перагаворы. Іван IV патрабаваў перадаць Расіі Лівонію і Полацк. Урад ВКЛ не згадзіўся, і ў 1564 г. ваенныя дзеянні аднавіліся. Яны ішлі з пераменным поспехам.

Мэтай чарговай ваеннай кампаніі маскоўскі цар ставіў авалоданне Мінскам і Наваградкам. Але гэты план сарвала войска ВКЛ на чале з гетманам Мікалаем Радзівілам, якое ў студзені 1564 г. разграміла 30-тысячнае маскоўскае войска, з якога 25 тысяч загінула на полі і падчас пагоні. Тым не менш княства засталося ў складаным становішчы. Акупанты нішчылі занятыя землі, вывозілі ў палон насельніцтва, а выбіць іх з Беларусі і іншых тэрыторый не хапала сіл. Восенню 1565 г. актыўныя ваенныя дзеянні перапыніліся, пачалася пазіцыйная вайна, праводзіліся нязначныя аперацыі. У 1566—1569 гг. рускі цар узмацніў свае пазіцыі на заваяванай тэрыторыі, пабудаваўшы ў раёне Полацка крэпасці Сушу, Сокал, Сітна, Чырвоную, Каз'яны, Усвят, Туроўлю. Лівонская вайна патрабавала вялікіх намаганняў ад ВКЛ. Сілы дзяржавы былі на мяжы магчымага. Вайна выцягнула ўсе сродкі. Неадкладна патрабаваўся саюзнік. Гэта было ці не галоўнай прычынай таго, што ВКЛ пагадзілася аб'яднацца на канфедэратыўнай аснове з Польскім каралеўствам. Безумоўна, Лівонская вайна наблізіла вырашэнне пытання аб уніі з Польшчай.

### Утварэнне Рэчы Паспалітай

Гісторыя збліжэння ВКЛ і Польскага каралеўства бярэ свой пачатак яшчэ з 1385 г., калі яны ўпершыню аб'ядналіся на аснове асабістай уніі. Але абедзве дзяржавы захоўвалі сваю палітычную і культурную асобнасць. Неаднаразовае аднаўленне гэтых уній (у 1401, 1413, 1447, 1501, 1503, 1566 гг.) сведчыць аб тым, што яны былі нетрывалыя. Але, з другога боку, гэты факт паўтарэнняў уніі сведчыць пра тое, што ў жыцці абедзвюх дзяржаў былі такія ўмовы, якія падштурхоўвалі іх да збліжэння. У XV—XVI стст. вызначылася трывалая тэндэнцыя: чым больш абвастраліся адносіны Вільні з Масквой, тым больш правячая вярхушка схілялася да аб'-яднання з Польшчай. Асабліва востра пытанне аб уніі зноў паўстала ў 60-я гады XVI ст. Чым гэта было выклікана? Якія прычыны апошняй, самай трывалай уніі паміж ВКЛ і Польшчай?

Найперш, гэта знешнепалітычныя прычыны. Амаль няспынныя войны з Маскоўскай дзяржавай, у час якіх ВКЛ страціла значныя тэрыторыі, з крымскімі татарамі, якія аслабілі княства. Няўдачы ў

Лівонскай вайне і, у прыватнасці, страта Полацка была самым моцным палітычным і ваенным паражэннем ВКЛ за ўсю гісторыю войнаў з Маскоўскай дзяржавай на працягу XIV—XVI стст. Узяцце войскам Івана Грознага Прыбалтыкі і Полацка прывяло да таго, што ўся ўсходняя і цэнтральная часткі Беларусі былі адсечаны ад мора, а гэта быў цяжкі ўдар па гандлі. Гэта вайна, як адзначалі пазней польскія палітыкі, прыгнала ВКЛ да уніі з Польшчай. Па словах Мікалая Радзівіла, які ўзначальваў магнацкую апазіцыю уніі ў Любліне, *"на нашым хрыбце быў вораг, калі мы ехалі сюды, жадаючы пастанавіць з вамі унію, якая б аб'яднала нас узаемнаю любоўю, і, калі казаць праўду, мы пачалі імкнуцца да яе амаль бегам, тады як продкі нашы ішлі да яе вельмі паціху".*

Адна з важных прычын уніі 1569 г. — супярэчнасці ў пануючым саслоўі ВКЛ. У першай палове XVI ст. на змену рэлігійным супярэчнасцям, уласцівым палітычнаму жыццю княства ў XIV—XV стст., прыходзяць іншыя — супярэчнасці паміж магнатэрыяй (багатай шляхтай) і шляхтай сярэдняй ды дробнай. Пераважнае, дамінуючае становішча ў дзяржаве належала магнатам, якія адціскалі шляхту на другі план. Элітарнае магнацтва мела амаль неабмежаваную ўладу ў ВКЛ. На сойме паны-рады праводзілі толькі свае рашэнні, маніпулюючы большасцю шляхты, якая не мела ніякай рэальнай улады. Радны Альбрэхт Гаштольд параўноўваў соймы польскага і літоўскага ўзораў: "... *соймы нашы (у ВКЛ) праходзяць зусім інакш: што вырашае гаспадар і паны-рада, тое шляхта абавязкова прымае да выканання; мы ж запрашаем шляхту на нашыя соймы як бы для гонару, дзеля таго, каб усе ведалі, што мы вырашаем".* І на павятовых соймах — органах шляхецкага самакіравання, якія былі створаны паводле рэформы 1565—1566 гг., таксама рэй вялі буйныя землеўласнікі. Пераконваюць у гэтым сведчанні сучаснікаў. Вось адно з іх: *"Там (у ВКЛ) шляхта не прымае ўдзелу ні ў якіх нарадах, там паны робяць, што захочуць... Там прыязджаюць на соймік толькі ваявода, стараста ды харужы, напішуць, што ім уздумаецца, і адправяць да земяніна дахаты, каб падпісаў. Калі ж ён не падпіша, то яны аддубасяць яго палкамі..."*

У Польскім каралеўстве на той час шляхта ўжо мела "залатыя вольнасці", доступ да ўлады, рашуча ўплывала на ўнутраную і

знешнюю палітыку ўрада. Літвінская шляхта жадала дасягнуць становішча польскай шляхты, зраўняцца з ёю ў правах і прывілеях, атрымаць верх над магнатэрыяй, заняць вызначальнае месца ў сваёй дзяржаве. Дасягненне гэтых мэтаў яна звязвала з заключэннем уніі з Польшчай.

Унутрыпалітычны крызіс у ВКЛ найбольш абвастрыўся ў 60-я гады XVI ст. Супрацьстаянне магнацтва і шляхты стала адкрытым. Асабліва яскрава яно выявілася ў часе сойма, які адбыўся ўвосень 1562 г. пад Віцебскам. Яго ўдзельнікі звярталіся да Жыгімонта Аўгуста з прашэннем *"учыніць супольны сойм з палякамі, каб разам караля выбіралі, мелі агульную абарону, супольна соймікавалі і права аднолькавае ўжывалі".* Каб неяк кансалідаваць грамадства, збіць прапольскія настроі шляхты, магнацкая апазіцыя на чале з Радзівілам пайшла на значную мадэрнізацыю ўнутранай палітыкі. Так, паводле пастановы 1563 г. праваслаўная і каталіцкая шляхта цалкам ураўноўвалася ў правах, а паводле судовай рэформы 1564 г. уводзіліся мясцовыя суды, дзе галоўную ролю адыгрывала шляхта. Гэтыя захады вялікакняжацкага ўрада магчыма б і мелі поспех, калі б не драматычнае знешнепалітычнае становішча краіны, моц якой падтачыла Лівонская вайна.

Польскім каралём і вялікім літоўскім князем у гэты трывожны час быў Жыгімонт II Аўгуст. Ён не меў патомства і не мог ужо на яго спадзявацца. На ім канчалася дынастыя Ягелонаў, якая злучала сабою гэтыя дзве дзяржавы. Польскія палітыкі баяліся, што пасля яго смерці ВКЛ абярэ сабе асобнага гаспадара. Трэба было своечасова зрабіць больш адпаведную часу сувязь паміж дзяржавамі. Жыгімонт згадзіўся з гэтым і пачаліся перамовы аб новым аб'яднанні.

Польшча сама дамагалася уніі з княствам. Ідэі паглынання княства Каронай (назва Польскага каралеўства) атрымалі распаўсюджванне сярод пэўных колаў польскай шляхты напярэдадні Люблінскай уніі. Далучэнне новых зямель прываблівала магчымасцю атрымання новых багаццяў, пасад, узнагарод. Перадлюблінскі час вызначаецца разгулам шавіністычных настрояў у Польшчы, узмоцненай каталіцкай прапагандай на заходніх землях Беларусі і Украіны, прыгранічнымі непаразуменнямі.

**Для ВКЛ альтэрнатывай саюзу з Польшчай магло быць заключэнне уніі з Масковіяй і прызнанне над сабой улады Івана IV ці яго сына.** На гэты конт нават вяліся тайныя перамовы, але поспеху яны не мелі. Сярод феадалаў усходніх раёнаў ВКЛ, як ужо адзначалася, час ад часу выспявалі задумы адарвацца ад княства і далучыцца да Рускай дзяржавы, а пэўныя колы насельніцтва гэтых зямель праяўлялі сімпатыі да Масквы. Але ў 60-я гады XVI ст. беларуская шляхта шукала менавіта саюза з Польшчай, бо маскоўскае дваранства не мела такой вольніцы, як польскія шляхцічы. Больш таго, гэта быў час апрычніны, калі Іван Грозны правёў серыю рэпрэсій. Шмат якія відныя дзеячы гэтай дзяржавы вымушаны былі ўцякаць ад смерці і рэпрэсій у межы ВКЛ (напрыклад, Андрэй Курбскі). Дэспатычны рэжым Івана IV адпужваў літвінскую шляхту. Вольнасці шляхецкай рэспублікі павярнулі пануючы клас гаспадарства ў бок Польшчы.

Урад ВКЛ і кіруючыя колы Польшчы прапаноўвалі розныя ўмовы злучэння дзяржаў.

Літвінскія палітыкі хацелі абмежавацца ваенна-палітычным саюзам, які б захаваў незалежнасць і самастойнасць ВКЛ. Паводле іх плана, кожная з дзяржаў павінна была захаваць свой сойм. Некаторыя з магнатаў хоць і згаджаліся на агульны для абедзвюх дзяржаў сойм, але хацелі, каб ён збіраўся чаргова: адзін раз на тэрыторыі ВКЛ, другі раз — на тэрыторыі Польшчы. Кароль і гаспадар злучанай дзяржавы павінен абірацца і абвяшчацца той і другой дзяржавамі асобна. Пасады ў кожнай дзяржаве займаюцца толькі "тубыльцамі", г.зн. яе ўраджэнцамі.

Прадстаўнікі Польшчы не згаджаліся з такой пастаноўкай пытання аб уніі. Яны стаялі за першынство Польшчы і за скасаванне незалежнасці ВКЛ. На іх погляд, сойм у абедзвюх дзяржавах павінен быць адзін і збірацца павінен выключна на тэрыторыі Польшчы. Палякі атрымліваюць права займаць пасады ў далучанай дзяржаве.

Перамовы зацягваліся. Кожны бок цвёрда стаяў на сваім і не мог прыйсці да згоды. Для канчатковага вырашэння пытання аб уніі быў назначаны з'езд у Любліне на 23 снежня 1568 г. Паслы ВКЛ, у ліку якіх было шмат магнатаў, адчуваючы, што абставіны

складваюцца не на іх карысць, збіраліся памалу і як бы нехаця. Больш-менш значная колькасць іх сабралася толькі да 10 студзеня 1569 г. У склад дэлегацыі ВКЛ уваходзілі канцлер і віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Руды, падканцлер Астафей Валовіч, жамойцкі стараста Ян Хадкевіч, падскарбій Мікалай Нарушэвіч і іншыя ўплывовыя асобы. На сойм прыбылі кароль і каля 160 паслоў і сенатараў Польшчы і ВКЛ. У гэты ж дзень пачаліся перамовы. Амаль шэсць месяцаў працягваўся гэты сойм. Кожны бок ставіў свае ўмовы, якія не прымаліся супрацьлеглым. Ніхто не саступаў. Больш таго, дэлегацыя ВКЛ раскалолася на магнацкую і шляхецкую групы, з якіх першая была супраць, а апошняя стаяла за ўтварэнне уніі з Польшчай.

Калі паслы княства ўбачылі пагрозу гвалтоўнага заключэння уніі на непрымальных для іх умовах, яны ў знак пратэсту 1 сакавіка 1569 г. пакінулі Люблін, фактычна перарваўшы перамовы. Перад ад'ездам яны падалі каралю свае ўмовы уніі: ВКЛ і Польшча будуць мець агульнага гаспадара, абранага на з'ездзе паслоў ад гэтых абедзвюх дзяржаў у роўнай колькасці; абраны кароль карануецца спачатку ў Кракаве, а потым у Вільні, пры гэтым пацвярджае правы кожнай дзяржавы і там, і тут; абодва народы будуць мець агульныя соймы, якія па чарзе будуць склікацца ў Польшчы і ВКЛ; княства і карона маюць свае асобныя соймы, свае сенаты, свае дзяржаўныя пячаткі; будзе захоўвацца тэрытарыяльная цэласнасць ВКЛ, прычым пасяленне палякаў у гэтай дзяржаве дапускаецца, але чыны і пасады захоўваюцца толькі за карэннымі грамадзянамі княства.

Гэтыя ўмовы выклікалі моцнае абурэнне польскага боку, які пайшоў на дэманстрацыю сілы. Ён працягнуў абмеркаванне справы уніі без удзелу прадстаўнікоў ВКЛ і на наступным пасяджэнні былі складзены пункты інкарпарацыі княства. Пры падтрымцы польскіх паслоў вялікі літоўскі князь, кароль польскі Жыгімонт Аўгуст, скарыстаўшы цяжкае знешнепалітычнае становішча княства, фактычна здзейсніў акт дзяржаўнай здрады — незаконна, насуперак абяцанням сваім і прысягам аб захаванні цэласнасці тэрыторыі ВКЛ, 5 сакавіка 1569 г. выдаў універсал аб перадачы Польшчы Падляшша з гарадамі Бельск, Беласток, Драгічын-на-Бугу, Мельнік. Такімі ж незаконнымі актамі, без згоды сойма былі

адарваны ад княства і далучаны да Польшчы Валынь, Падолле, Кіеўшчына. Пад пагрозай страты пасад і прывілеяў, канфіскацыі маёмасці ўкраінскіх паслоў прымусілі згадзіцца на анексію іх радзімы і прысягнуць на вернасць польскаму каралю. ВКЛ панесла цяжкія тэрытарыяльныя страты. Гэта быў моцны ўдар па магутнасці дзяржавы, якая і без таго была падарвана стратай часткі беларускіх зямель у Лівонскай вайне. Ісці на ваенны канфлікт з Полынчай у тых умовах яна не магла.

Супрацьпраўныя акты Жыгімонта Аўгуста, разбурэнне адзінага фронту барацьбы за незалежнасць княства з-за пазіцыі ўкраінскіх паслоў і сенатараў зламілі супраціўленне магнатаў. У чэрвені на пагрозлівы выклік караля яны вярнуліся ў Люблін, дзе пратэставалі супраць далучэння спрадвечных земляў ВКЛ да Польшчы. Дзённік Люблінскага сойма апісвае, што паслы — магнаты Хадкевіч, Радзівіл і іншыя - малілі караля, каб ён не рабіў крыўды іх гаспадарству, не паніжаў яго і не адрэзваў ад яго векавечных зямель. Яны з плачам кінуліся на калені перад Жыгімонтам, просячы яго не губіць княства і не аддаваць у "ляскую няволю". Але кароль не выказаў спагады. Скарыстаўшы тое цяжкае становішча, у якім знаходзілася ВКЛ, і раскол яго дэлегацыі, Жыгімонт загадаў беларуска-літоўскім дэпутатам без лішніх размоў і прамоў прыняць унію і прысягнуць Польшчы. Калі магнаты пераканаліся, што іх справа прайграна, яны пайшлі на згоду.

**1 ліпеня 1569 г. быў падпісаны акт уніі.** Сенатары і паслы ВКЛ былі прыведзены да прысягі на вернасць ёй. Як сведчыць відавочца, яны чыталі тэкст прысягі, абліваючыся слязьмі. Сутнасць заключанага саюза была, ці павінна была быць у тым, што *"каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае ўяўляюць сабою ўжо адно непадзельнае і неаддзельнае цела, а таксама не асобную, але агульную рэспубліку, якая злучылася і з'ядналася ў адзін народ з дзвюх дзяржаў і народаў". Новая злучаная дзяржава атрымала назву Рэч Паспалітая, што ў перакладзе з лаціны значыць рэспубліка. Унія была заключана на наступных умовах:*

1. Злучаныя дзяржавы маюць аднаго гаепадара—караля, які носіць тытул *"кароль польскі і вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі, жамойцкі, кіеўскі, валынскі, падляшскі і ліфляндскі".*

Яго пасада была не спадчыннай, а выбарнай. Абіраюць яго народы абедзвюх дзяржаў разам, для гэтай мэты збіраецца сойм у Варшаве. Каранацыя караля адбываецца ў Кракаве. Літва не мае права абраць для сябе асобнага вялікага князя.

2. Для вырашэння найважнейшых дзяржаўных спраў збіраецца агульны сойм Рэчы Паспалітай. Ён складаецца з дэпутатаў, абраных на павятовых сойміках. Пасяджэнні сойма праходзяць на польскай зямлі. Скліканне асобных соймаў для ВКЛ і для Кароны не прадугледжвалася.

3. Усе нязгодныя з умовамі уніі ранейшыя пастановы ВКЛ касуюцца.

4. Падданыя абедзвюх дзяржаў маюць права купляць і валодаць нерухомай маёмасцю і ў Літве, і ў Польшчы. Кароль можа жалаваць сталовыя маёнткі на тэрыторыі ВКЛ дваранам як літоўскага (з княства), так і польскага паходжання.

5. Валынь, Падолія і Падляшша аддзяляюцца ад ВКЛ і далучаюцца да Польшчы. Лівонія аб'яўляецца сумесным валоданнем княства і кароны.

6. Грашовыя знакі абедзвюх дзяржаў агульныя. Мяжы паміж імі няма. Тавары перавозяцца вольна, без уеякіх гандлёвых мытняў і падаткаў.

7. Дзяржавы праводзяць агульную знешнюю палітыку.

Разам з тым, княству не адводзілася роля нейкай каланіяльнай ускраіны. Люблінская унія захоўвала пэўную самастойнасць ВКЛ. Яно мела сваё войска, асобнае ад Польшчы заканадаўства і судовую арганізацыю, захоўвала даўні адміністрацыйны апарат і сваю пячатку. Польшча і ВКЛ захоўвалі самастойныя назвы і да канца XVII ст. мелі розныя дзяржаўныя мовы. Афіцыйнай дзяржаўнай мовай ВКЛ заставалася беларуская, у Польшчы — лацінская. Нягледзячы на ўмовы уніі, у XVI — першай палове XVII ст. грошы ў Кароне і княстве былі асобныя.

Для іншых дзяржаў Рэч Паспалітая была адзіным цэлым утварэннем, але ўнутры яе існавала дзяленне на Карону, або Польшчу — у яе склад уваходзілі польскія і ўкраінскія землі, і Княства, ці Літву — яна складалася з летувіскіх, беларускіх і некаторых рускіх зямель.

**Так на карце Еўропы з'явілася новая дзяржава, да таго ж адна з самых вялікіх і магутных. Яе ўтварэнне зрабіла значны ўплыў на стан усіх еўрапейскіх спраў.**

Нават у польскай гістарыяграфіі існуе вялікі спектр думак наконт дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай: ад прыхільнікаў яе унітарнага характару да прызнання федэратыўнага характару. Ю.Бардах, напрыклад, разглядае Люблінскую унію як кампраміс дзвюх дзяржаў і вынік іх двухсотгадовага сумеснага развіцця. Х.Лаўмяньскі і Е.Ахманьскі не лічаць яе раўнапраўным саюзам дзяржаў. Сучасная беларуская гістарыяграфія схіляецца да вываду, што нельга трактаваць Люблінскую унію як паглынанне Польшчай ВКЛ. Рэч Паспалітая была федэрацыяй дзвюх дзяржаў, у складзе якой княства існавала да канца XVIII ст., калі Рэч Паспалітую падзялілі Расія, Аўстрыя і Прусія. Іншая справа, што Польшча на той час была ў лепшым палітычным Т эканамічным становішчы і таму валодала ўнутрыпалітычнай ініцыятывай у Рэчы Паспалітай. Яна магла ажыццяўляць вялікадзяржаўную палітыку ў дачыненні да ўсходнеславянскага насельніцтва Вялікага княства.

Люблінская унія з'яўлялася добраахвотным аб'яднаннем дзвюх дзяржаў. Аднак трэба мець на ўвазе, што гэтая добраахвотнасць з літвінскага боку была выклікана пагрозай развалу ВКЛ. Рэальная пагроза палітычнага і ваеннага краху вымусіла феадалаў ВКЛ нават ва ўрон сваім інтарэсам зноў вяртацца да ўмацавання саюза з Польшчай. Цяжкае становішча княства скарыстала Польшча. Унія, адзначае У.М. Ігнатоўскі, была "эгаістычнай" з яе боку. У выніку Люблінскай уніі ВКЛ апынулася ў залежным станов,ішчы. У межах княства польскія феадалы і каталіцкае духавенства атрымалі неабмежаванае права набыцця зямлі. Прызначэнне на вышэйшыя дзяржаўныя пасады феадалаў ВКЛ здзяйснялася каралём, пры гэтым асобы, якія прызначаліся, павінны былі прысягаць яму на вернасць. У склад Рэчы Паспалітай ВКЛ увайшло значна абкарнаным у тэрыторыях — яно згубіла каля трэці сваіх зямель.

Першае ўражанне ў княстве ад вынікаў уніі было шокавым. Прычым як для магнацтва, так і для шляхты, якая ў свой час дамагалася злучэння з Польшчай. Для вышэйшай уплывовай знаці Люблінская унія пагражала поўнай згубай былога палітычнага *вяр-*

*шэнства.* У ВКЛ сойм, дзе магнацтва праводзіла свае рашэнні, юрыдычна перастаў існаваць. У агульны ж сенат Рэчы Паспалітай шмат былых радных проста не трапілі. Ды і тыя нешматлікія галасы сенатараў з княства заглушаліся моцным рокатам больш мнагалюднага польскага прадстаўніцтва ў сенаце Рэчы Паспалітай. Тое ж самае адбывалася і ў сойме, дзе са 180 выбраных на сойміках па ўсёй Рэчы Паспалітай паслоў толькі 46 прыходзіліся на ВКЛ (з іх 34 з беларускіх паветаў).

Палітычная дыскрымінацыя дапаўнялася эканамічнай. Цяпер прадстаўнікі шляхецкага саслоўя ВКЛ не маглі атрымліваць землі ў раёнах, гвалтоўна адарваных Польшчай у 1569 г. Дазвол польскай шляхце атрымліваць зямельныя ўладанні ў межах княства стварыў небяспечнага канкурэнта для мясцовай шляхты.

Болыная частка пануючага класа ВКЛ у апошняй трэці XVI ст. праяўляла незалежніцкія, антыпольскія настроі. Вялікакняжацкія палітыкі імкнуліся вывесці сваю дзяржаву з таго тупіка, у якім яна апынулася ў выніку Люблінскай уніі. Насуперак акту уніі ў ВКЛ у 70—80-я гады XVI ст. рэгулярна збіраліся агульнадзяржаўныя соймы. У 1581 г. была створана асобная вышэйшая судовая інстанцыя для ВКЛ — Галоўны трыбунал. А прыняты ў 1588 г. Статут, па сутнасці, скасоўваў многія пастановы Люблінскай уніі.

Барацьбітом за незалежнасць княства ў складзе Рэчы Паспалітай, які пастаянна дбаў пра ўмацаванне яго эканамічнай і палітычнай магутнасці, быў буйнейшы палітычны і грамадскі дзеяч ВКЛ **Леў Сапега (1557—1633)** — сакратар, потым пісар дзяржаўнай канцылярыі, падканцлер і ўрэшце канцлер. Сапега вёў барацьбу з Жыгімонтам III за поўную самастойнасць княства, імкнучыся прымусіць яго паважаць законы сваёй дзяржавы. Ён дамогся таго, што кароль мусіў узгадняць свае рашэнні па ўсіх пытаннях на тэрыторыі княства з канцлерам.

Водгаласкі незалежніцкіх настрояў паслялюблінскага перыяду часам адчуваліся ў XVII ст. Яны ўвасабляліся ў спробах аднаўлення дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ.

Больш за двух стагоддзяў беларускія землі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Гэта быў вельмі складаны перыяд у айчыннай гісторыі: паланізацыя шляхты, запрыгоньванне сялянства, зніш-

чальныя войны, асабліва ў XVII ст. Польскі культурны ўплыў і пранікненне каталіцызму прывялі да таго, што сацыяльна-класавы падзел беларускага грамадства дапоўніўся размежаваннем па нацыянальнай і рэлігійнай прыкмеце. Паланізацыя і акаталічванне прывялі да адрыву ад беларускай народнасці яе вышэйшых слаёў, ускладнілі працэс яе фарміравання і развіцця. Пачатак XVII ст. спарадзіў на свет словы беларускага паэта Яна Казіміра Пашкевіча: "Полска квітнет лаціною, Літва квітнет русчізною". Гэтыя радкі напісаны ў 1621 г. А ўжо ў 1696 г. усеагульная канфедэрацыя саслоўяў Рэчы Паспалітай прыняла пастанову, паводле якой у справаводстве ВКЛ "усе рашэнні павінны складацца на польскай мове". Многія даследчыкі лічаць, што ўсе беды нашай культуры пачынаюцца з 1569 г.

Люблінская унія прадвызначыла далейшы лёс беларускага і іншых народаў, якія насялялі Рэч Паспалітую. Унія фармальна была анулявана Канстытуцыяй 3 мая 1791 г., але фактычна існавала да 1795 г.

## ЛЕКЦЫЯ 21

# ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ У 70—80-ыя гады XVI ст.

- *Першае бескаралеўе. Стэфан Баторый.*
- *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. - выдатны помнік прававой думкі.*

## Першае бескаралеўе. Стэфан Баторый

Заключэнне Люблінскай уніі паўплывала на далейшы ход Лівонскай вайны. У 1570 г. Руская дзяржава і Рэч Паспалітая заключылі перамір'е на тры гады. Іван IV у гэты перыяд аднавіў барацьбу супраць Швецыі. У 1572 г. памёр Жыгімонт II Аўгуст (1548—1572). Паводле звычаю, кароль абіраўся з дынастыі Ягелонаў. Але паколькі са смерцю Жыгімонта яна перапынілася, было вырашана абраць каралём чужаземца, што з'явілася зачэпкай для далейшага абмежавання каралеўскай улады. З 1572 г. пачалася эпоха выбарных соймам каралёў. Палітычнае жыццё новаўтюранай дзяржавы часта ўскладняецца перыядамі бескаралеўя, якія часам цягнуцца цэлыя гады да абрання наступнага правіцеля, наносячы вялікую шкоду дзяржаве, аслабляючы цэнтральную ўладу.

Першае міжкаралеўскае безуладдзе цягнулася больш года пасля смерці Жыгімонта II. Яно было запоўнена анархіяй і барацьбой розных палітычных груповак унутры дзяржавы, а таксама і еўрапейскіх двароў, кожны з якіх дамагаўся здабыць каралеўскую карону свайму стаўленіку. Найбольш сур'ёзнымі прэтэндэнтамі на каралеўскую пасаду быў сын Івана Грознага царэвіч Фёдар, аўстрыйскі прынц Эрнэст і прынц французскі Генрых Валезы (Генрых Валуа). На элекцыйным (выбарчым) сойме 1573 г. разгарэлася барацьба паміж прыхільнікамі розных кандыдатаў. У ход пускалася ўсё: грошы, хлуслівыя абяцанні, неверагодныя інтрыгі і плёткі. Перагаворы з Грозным наконт Фёдара не далі нічога. Польскі бок патрабаваў, каб Фёдар зрабіўся католікам і каб да Рэчы Паспалітай былі далучаны Смаленск і Полацк. Грозны пасмяяўся з апошняга патрабавання, гаворачы, што Фёдар — "не красна девица" і пасагу яму не належыць. Супраць гэтай кандыдатуры былі ўцекачы з Мас-

квы, у тым ліку А. Курбскі, якія разумелі, што кіравацъ дзяржавай будзе не Фёдар, пазбаўлены не толькі палітычнага, але і звычайнага розуму, а яго бацька Іван Грозны, ад тэрору якога яны і збеглі з Масквы. Не дагаварыліся польскія паслы і з Эрнэстам Аўстрыйскім. Пасля доўгіх перамоў каралём Рэчы Паспалітай быў абраны **Генрых Французскі (1573—1574)**. Пры абранні ён падпісаў дакумент, які атрымаў назву "Генрыхавы артыкулы". Згодна з ім, Рэч Паспалітая абвяшчалася шляхецкай рэспублікай з выбарным каралём. Кароль не меў права прызначаць сабе пераемніка, мець зносіны з замежнымі дзяржавамі, прызнаваць паспалітае рушэнне. Кароль абавязваўся падтрымліваць рэлігійны мір у краіне (будучы ў Францыі, Генрых меў дачыненне да Варфаламееўскай ночы - разні пратэстантаў у Парыжы 24 верасня 1572 г.). Заканадаўчая ўлада належала сойму, які збіраўся праз кожныя два гады. Гэта было сур'ёзнае абмежаванне каралеўскіх прэрагатыў, манарх пазбаўляўся заканадаўчага і судовага права, абмяжоўвалася яго права ўстанаўліваць падаткі.

Новы кароль і вялікі князь Генрых правіў усяго шэсць месяцаў. Спадзяванні як літвінаў, так і палякаў на Генрыха Валуа не спраўдзіліся. Распусны гуляка, легкадумны, самазакаханы, ён быў абсалютна абыякавы да дзяржаўных праблем, не ведаў ні польскай, ні беларускай, ні лацінскай моў. У многіх ваяводствах шырыўся рух за пазбаўленне Генрыха прастола. Незадавальненне выклікала і яго нежаданне жаніцца на Ганне Ягелонцы - апошняй з роду Ягелонаў. Убачыўшы, што кіраваць у Рэчы Паспалітай не так лёгка, як, напрыклад, у Францыі, ён уцёк з краіны на сваю бацькаўшчыну, каб заняць больш надзейны спадчынны французскі трон, які стаў вакантным пасля смерці яго старэйшага брата Карла IX. Пагоня, арганізаваная польскімі магнатамі, каб затрымаць караля і сілаю вярнуць яго на трон, перахапіла ўцекача толькі за аўстрыйскай мяжой і вярнуць назад не здолела. Ён паспяхова дабраўся да Парыжа, дзе стаў каралём Францыі Генрыхам III (апошнім з дынастыі Валуа). Яго ўцёкі вельмі ўразілі ўсіх як у Кароне, так і ў княстве. Трон у сталіцы Рэчы Паспалітай зноў застаўся вакантным.

7 лістапада 1575 г. у Варшаве адкрыўся чарговы элекцыйны сойм. Зноў загучалі шчодрыя абяцанні кандыдатаў, што пад іх ула-

дай Рэч Паспалітая будзе квітнець і багацець. Абяцанкі сыпаліся адна за другую лепшыя. Найбольш сур'ёзнымі прэтэндэнтамі на каралеўскую пасаду на гэты раз былі аўстрыйскі імператар Максіміліян II і трансільванскі князь Стэфан Баторый (Іштван Баторы) — выхадзец са старажытнага венгерскага магнацкага роду. Ён нарадзіўся ў 1533 г. і быў амаль аднагодкам Івана Грознага. З 15-ці гадоў знаходзіўся на вайсковай службе ў караля Венгрыі і Чэхіі Фердынанда Габсбурга. Некаторы час вучыўся ў Падуанскім універсітэце ў Італіі, добра размаўляў на нямецкай, лацінскай, італьянскай, венгерскай мовах. А вось па-польску і па-беларуску гаварыць ён так і не навучыўся. Калі быў абраны каралём Рэчы Паспалітай, то тут ён гаварыў з мясцовымі жыхарамі на лацінскай мове ці праз перакладчыка. Стэфан Баторый у маладосці ўдзельнічаў у палітычнай барацьбе, у ваенных бітвах і з цягам часу набыў вопыт адміністратара і дыпламата, быў вядомы сваім палкаводчым талентам.

Кароль Рэчы Паспалітай, у адрозненне ад многіх еўрапейскіх краін, дзе каралеўская ўлада была спадчыннай, выбіраўся толькі пажыццёва соймам, дзе асноўныя пазіцыі займала шляхта, а не магнаты. Большасць магнатаў Польшчы і ВКЛ, большасць сената былі супраць кандыдатуры Баторыя, жадаючы мець каралём Максіміліяна II, які быў далёка ў Вене і наязджаў бы ў краіну рэдка, а яны тады бесперашкодна кіравалі б дзяржавай. Кандыдатуру Баторыя падтрымаў уплывовы магнат Замойекі, сярэдняя і дробная шляхта. Дэпутаты ВКЛ, якім патрэбен быў спрактыкаваны палкаводзец і дыпламат, таксама падтрымалі Баторыя.

12 снежня 1575 г. элекцыйны сойм абраў **Стэфана Баторыя** каралём Польшчы і князем ВКЛ **(1576—1586)**. Нежанатаму Баторыю, якому тады было 44 гады, сойм паставіў абавязкам ажаніцца з каралеўнай Ганнай, дачкой караля і вялікага князя Жыгімонта Старога і сястрой апошняга з роду Ягелонаў Жыгімонта Аўгуста. Такім чынам як бы законна працягвалася панаванне дынастыі Ягелонаў. 54-гадовая Ганна ніколі не была замужам. Але карона так вабіла Баторыя, што ён згадзіўся на гэтую ўмову. Вядома, чакаць нашчадкаў ад гэтага шлюбу было дарэмна.

**У 1576 г.** Баторый быў каранаваны ў Кракаве ў каралеўскім

замку Вавель і ажаніўся з Ганнай. Ён стаў каралём насуперак волі магнатаў, паводле патрабаванняў шляхты, якую ён потым шчодра аддзякаваў прывілеямі. Яшчэ шмат месяцаў Баторый вёў у Польшчы узброеную барацьбу з апазіцыяй, прыхільнікамі імператара Максіміліяна II. Супраціўленне аказаў і Гданьск. Толькі ў 1577 г. пасля паражэння атрадаў, нанятых багатымі гараджанамі Гданьска, улада караля была прызнана апазіцыяй.

Пасля гэтага Стэфан Баторый мусіў звярнуць увагу на адносіны з Рускай дзяржавай. Яшчэ ў час каранацыі ён дэкляраваў, што адбярэ ўсе заваяваныя ёю землі. З вялікай карысцю для Рэчы Паспалітай ён ваяваў з Масковіяй на апошнім этапе Лівонскай вайны (1579—1582 гг.). Усходні накірунак знешняй палітыкі становіцца галоўным. У сувязі з гэтым каралеўская рэзідэнцыя пераносіцца з Кракава ў Гародню, каб быць бліжэй да тэатра ваенных дзеянняў і ў той жа час не аддаляцца ад Польшчы. Горад на нейкі час становіцца неафіцыйнай сталіцай не толькі ВКЛ, але і ўсёй Рэчы Паспалітай. Тут распрацоўваецца план паходу на ўсход.

Выкарыстаўшы складанае палітычнае становішча Рэчы Паспалітай у час міжкаралеўя і выбараў караля, Іван IV пачаў новы наступ у Лівонію і да 1577 г. авалодаў усім узбярэжжам — усходняй часткай цяперашняй Латвіі і паўднёвай часткай Эстоніі. Цяпер Маскоўская дзяржава мусіла мець справу з Рэччу Паспалітай. Аб'яднанне Польшчы і ВКЛ на аснове Люблінскай уніі дазволіла Баторыю сабраць новае літвінска-польскае войска, падмацаваць яго атрадамі венграў і наёмнікаў — немцаў. Гэту 40-тысячную армію ён рушыў на Полацк і 4 жніўня 1579 г. аблажыў горад. Больш трох тыдняў трымаўся асаджаны там маскоўскі гарнізон. 30 жніўня ён капітуляваў. Былі ўзяты і іншыя другарадныя крэпасці і замкі, пабудаваныя па загаду Івана Грознага на паўночным усходзе Беларусі. Даведаўшыся пра страту Полацка, цар адступіў з галоўнымі сіламі ў глыб сваёй краіны і зрабіў спробу да прымірэння, запрасіўшы ў пасрэднікі Папу Рымскага. У сувязі з гэтым у Рэч Паспалітую, а потым у Масковію накіравалася ватыканскае пасольства на чале *з езуітам А. Пасевіна* (1581—1582). На сваім шляху яно спынялася і ў Гродне.

Наступную кампанію 1580 г. Баторый праводзіў ужо на маскоўскай тэрыторыі — заняў крэпасці і гарады Усвяты, Вялікія Лукі,

Невель, Старую Русу і інш. У канцы 1581 г. ён пачаў аблогу моцнай рускай крэпасці — Пскова. На працягу пяці месяцаў абараняўся яе гарнізон на чале з Шуйскім. Штурмы Пскова не далі вынікаў. Але і гарнізон не мог трымацца далей. Сілы абедзвюх дзяржаў (Рэчы Паспалітай і Масковіі) былі вельмі аслабленыя вайной.

15 студзеня 1582 г. Маскоўская дзяржава і Рэч Паспалітая падпісалі 10-гадовае перамір'е. Іван IV адмаўляўся ад Прыбалтыкі (Лівоніі) і ад Полацкай зямлі, а Рэч Паспалітая вяртала ёй крэпасці на яе тэрыторыі. Дзяржаўная мяжа практычна не мянялася. Масква страціла толькі прыгранічны Веліж. 24-гадовая Лівонская вайна скончылася. Паколькі Баторый не быў задаволены яе вынікамі, ён пачаў рыхтавацца да новай вайны супраць усходняга суседа, але нечаканая смерць караля паламала планы.

У выніку вайны ўся паўночна-ўсходняя частка Беларусі была спустошана і зруйнавана. Па звестках сучаснікаў, тэрыторыя больш як на 50 вёрст вакол Полацка амаль абязлюдзела, тут зніклі ўсе вёскі.

Праўленне С.Баторыя азнаменавалася не толькі пераможным завяршэннем шматгадовай Лівонскай вайны, але і ўзвышэннем ВКЛ, яго эканамічным умацаваннем. Праз некалькі дзён пасля прыняцця прысягі, ён выдаў радным панам, шляхце і рыцарству княства прывілей, у якім пацвердзіў захаванне ўсіх іх правоў і свабод. З першых дзён свайго гаспадарання ён пайшоў насустрач патрабаванням шляхты Вялікага княства і прызнаў, што яго манархія — Рэч Паспалітая — гэта не ўнітарная краіна, а канфедэрацыя дзвюх раўнапраўных дзяржаў. Першымі сваімі прывілеямі Баторый адмяніў рашэнні Люблінскага сойма, што прыніжалі годнасць княства, і падкрэсліў яго незалежнасць ад Польшчы. Кароль дазволіў княству праводзіць свае вальныя соймы і сеймікі, а таксама чыніць судовыя справы ў адпаведнасці са сваім Статутам. Ён даў загад стварыць камісію па ўдакладненню дзяржаўных межаў паміж Каронаю і Княствам.

Баторый намагаўся ўзмацніць дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай. Яго рэформы былі скіраваны на ўзмацненне пазіцый сярэдняй і дробнай шляхты і на аслабленне пазіцый магнатаў у дзяржаве. Ён таксама быў прыхільнікам узмацнення цэнтральнай улады і перш за ўсё — каралеўскай. З найбольш важных яго рэформаў трэба

адзначыць утварэнне галоўных судоў — Трыбунала Кароннага ў Польшчы і Галоўнага трыбунала ВКЛ (1581), склад якіх выбіраўся са шляхецкіх дэпутатаў, а не прызначаўся якімсьці органам улады.

Каб мець пастаяннае войска не з наёмнікаў, а з мясцовых ураджэнцаў, у дадатак да апалчэнскай конніцы, якая збіралася падчас вайны, С. Баторый правёў вайсковую рэформу. Ён стварыў атрады выбранцаў — салдат-пехацінцаў з сялян каралеўскіх (дзяржаўных) маёнткаў, якія за сваю вайсковую службу вызваляліся ад усялякіх павіннасцей і падаткаў і надзяляліся ўчасткамі зямлі ў 1—1,5 валокі.

С. Баторый увайшоў у гісторыю як рэфарматар, мецэнат навукі і культуры, заступнік езуітаў.

У сваёй унутранай і знешняй палітыцы ён апіраўся на падтрымку каталіцкай царквы. Праз пашырэнне каталіцызму і патуранне Ордэну езуітаў ён і яго наступнікі імкнуліся ўмацаваць свае палітычныя пазіцыі ў ВКЛ. Кароль шчодра надзяляў землямі і прыгоннымі сялянамі езуіцкія калегіі, рэзідэнцыі і місіі, якія з'явіліся на Беларусі і ў Летуве на хвалі контррэфармацыі з мэтай адваявання пазіцый, страчаных каталіцкай царквой у выніку рэфармацыйнага руху. Менавіта ў часы Баторыя пачалася ідэалагічная падрыхтоўка царкоўнай уніі, якая павінна была дапоўніць унію палітычную, 1569 года. У 1577 г. быў выдадзены каралеўскі загад, які забараняў будаваць новыя праваслаўныя цэрквы ў Вільні.

Вялікім крокам у пашырэнні адукацыі ў нашым краі было ўтварэнне пры Баторыі ў 1579 г. Віленскай акадэміі - першай вышэйшай навучальнай установы ВКЛ. Яна была роўнай у правах Ягелонскаму універсітэту ў Кракаве. У гэтай акадэміі вучыліся сотні студэнтаў з Беларусі, Літвы і іншых зямель на працягу больш за 250 гадоў.

Улюбёным горадам Баторыя быў Гродна. Упершыню прыехаўшы сюды ў 1579 г., ён ператварыў яго ў сваю рэзідэнцыю і фактычна зрабіў другой сталіцай Рэчы Паспалітай. Ніводзін з каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх не ўдзяліў столькі ўвагі развіццю і дабрабыту горада. Нездарма сучаснікі і нашчадкі называлі яго "горадам Баторыя". Ён даў гараджанам выключнае права продажу прывозімай з Гданьска і Каралеўца (Кенігсберга) солі, вызваліў іх ад уплаты многіх пошлін. У Гродне ён прымаў рускае (1581) і англійскае (1584) пасольствы, правёў савет сенатараў па

разгляду дамаганняў Швецыі (1582), вырашыў справу жыхароў Рыгі, не прыняўшых грыгарыянскае летазлічэнне. Па яго распараджэнні ў Гродне быў умацаваны і перабудаваны Верхні (Стары) замак. Баторыю належала ідэя стварэння ў Гародні калегіі езуітаў — буйной для таго часу навучальнай установы. Ён сябраваў з мысліцелем, кіраўніком антытрынітарыяў на Гродзеншчыне Каспарам Бекешам.

Баторый памёр у Гародні 12 снежня 1586 г. У сувязі са спрэчкай аб прычыне смерці караля паміж прыдворнымі лекарамі-італьянцамі Сімоніем і Бучэлай, якія ставілі розныя дыягназы, гродзенскім цырульнікам Янам Зігуліцам было зроблена першае вядомае на Беларусі анатаміраванне цела нябожчыка. Захаваўся пратакол анатаміравання; яно ўсё ж такі не высветліла гэтай загадкі. Сімоній і Бучэла настойвалі кожны на сваім дыягназе: першы ставіў астму, другі знаходзіў у нябожчыка эпілепсію. Потым гэтыя медыкі прадоўжылі паміж сабой друкаваную палеміку і выдалі некалькі брашур, у якіх абвінавачвалі адзін аднаго ў няправільным лячэнні свайго каранаванага пацыента. Загадка смерці караля, згодна з легендай атручанага кімсьці з яго ворагаў, не вырашана да нашага часу. Паўтара года астанкі Баторыя знаходзіліся ў Гродне ў Фарным касцёле, а потым, насуперак яго завету, былі перазахаваны ў Вавельскім замку ў Кракаве.

Пасля нечаканай смерці Баторыя ў гісторыі Рэчы Паспалітай зноў пачаўся складаны перыяд бескаралеўя. З-за адсутнасці манарха ўзнік востры палітычны крызіс, адзначаны барацьбой паміж рознымі магнацка-шляхецкімі групоўкамі. Абранне манарха ў Рэчы Паспалітай не было толькі ўнутранай справай дзяржавы. Амаль заўсёды гэта падзея аказвалася ў цэнтры ўсёй еўрапейскай палітыкі. Тое, што гаспадарскі трон у Рэчы Паспалітай быў не дынастычны, а выбарны, яшчэ больш ускладняла і без таго няпростую сітуацыю. Пасля смерці Баторыя барацьбу за каралеўскі трон павялі тры буйнейшыя дзяржавы Еўропы: Швецыя, Свяшчэнная Рымская імперыя і Масковія. Галоўнымі прэтэндэнтамі на гэты пасад былі аўстрыйскі эрцгерцаг Максіміліян, родны брат Рудольфа — главы Свяшчэннай Рымскай імперыі; маскоўскі цар Фёдар, што незадоўга да гэтага ўзышоў на трон пасля смерці свайго бацькі

Івана IV Грознага; а таксама прадстаўнік роду Ягелонаў па жаночай лініі — Жыгімонт Ваза, сын шведскага караля Іаана III. Яны пачалі шукаць прыхільнікаў сярод вялікакняжацкай шляхты.

Рада ВКЛ і канцлер Сапега прапаноўвалі абраць каралём і вялікім князем Фёдара і рабілі ўсё, каб іх кандыдатура атрымала большасць галасоў. Пры ўсёй небяспецы аб'яднання з Маскоўскай дзяржавай яны хацелі выкарыстаць гэты саюз для ўзмацнення княства і разлічвалі, што ў гэтым велізарным еўраазіяцкім аб'яднанні (Масковія, ВКЛ, Польшча) княства зойме месца лідэра. З другога боку, аб'яднанне з Масквой пазбавіла б княства небяспекі з усходу і дазволіла б у перспектыве разарваць унію з Польшчай. Прыхільнікі Фёдара разлічвалі, што ён ні пры якіх абставінах не пакіне надзейны трон у Маскве, не рызыкне пераехаць у Рэч Паспалітую і не зможа сур'ёзна ўплываць на палітыку ВКЛ.

На канвакацыйным (перадвыбарчым) і элекцыйным (выбарчым) соймах разыграўся палітычны спектакль абрання караля, у якім адыгралі свае ролі і прадстаўнікі ВКЛ. Асабліва таленавіта гэта зрабіў Леў Сапега. Ва ўмовах усеагульнага ўпадку і неўладкаванасці, што, як правіла, наступалі ў Рэчы Паспалітай у перыяд бескаралеўя, ён імкнуўся адстаяць інтарэсы княства. Спачатку ён падтрымліваў рускага цара Фёдара, але калі гістарычныя шалі схіліліся ў бок Жыгімонта, ён адмовіўся ад далейшай падтрымкі кандыдатуры Фёдара і прапанаваў Жыгімонту ўмовы, на якіх ВКЛ згаджалася прызнаць яго каралём і вялікім князем. Жыгімонт, які яшчэ павінен быў з дапамогай сілы даказваць сапернікам сваё права на каралеўскі трон, вымушаны быў пайсці на кампраміс, прапанаваны яму княствам. Дзякуючы гэтаму Вялікае княства выйшла са складанай сітуацыі, што ўзнікла ў цэнтры еўрапейскай палітыкі, без якіх-небудзь істотных страт. Было дасягнута галоўнае: княства, працягваючы ўваходзіць у такі неабходны саюз з Польшчай, заставалася ў той самы час амаль незалежнай дзяржавай. У ім па-ранейшаму захоўваліся ўсе атрыбуты сярэднявечнай дзяржавы: непарушныя, дакладна акрэсленыя і дастаткова моцна ахоўваемыя дзяржаўныя межы, разгалінаваная сістэма мясцовых улад розных узроўняў, падпарадкаваных вышэйшым дзяржаўным органам. У княстве працягваў існаваць вышэйшы заканадаўчы орган — Вальны сойм,

дзейнічаў незалежны ўрад, захоўвалася ўстанова для знешнепалітычных зносін — Канцылярыя, функцыянавалі свае праваахоўныя і карныя органы, былі асобныя фінансы і валюта, а таксама вайсковыя фарміраванні, падпарадкаваныя непасрэдна вялікаму гетману княства.

Акрамя таго, Жыгімонт III вымушаны быў падпісаць Статут 1588 г. У сувязі з барацьбой палітычнай эліты ВКЛ супраць зліцця з Польшчай захаванню самастойнага права ў дзяржаве надавалася вялікае значэнне.

## Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. - выдатны помнік прававой думкі

Статуты 1529 і 1566 г. дзейнічалі параўнальна нядоўга. Яны сталі своеасаблівай апрабацыяй найбольш выдатнага зводу законаў — Статута 1588 г. Ён — зусім не перавыданне I і II Статутаў, як гэта можа здавацца. Новая кадыфікацыя каштавала вялізных высілкаў лепшых людзей краіны. Яна нарадзілася ў вострай дыпламатычнай барацьбе з больш моцным заходнім суседам.

Ужо на Люблінскім сойме 1569 г. было пастаноўлена стварыць спецыяльную камісію, якая б занялася перапрацоўкай Статута 1566 г, змяняючы апошні адпаведна да пактаў Люблінскай уніі і новага становішча ВКЛ. У склад камісіі ўвайшлі выбраныя на тым сойме асобы: ад Рады — Валерыян Пратасевіч, віленскі біскуп, жамойцкі кашталян Мэльхіор Шэмет, "доктар абодвух правоў", віленскі войт Аўгусцін Ратундус. Ад шляхты ў камісію ўвайшлі па аднаму прадстаўніку ад кожнага ваяводства ВКЛ і два земскія пісары. Камісія працавала ў Вільні. На ўтрыманне дэпутатаў быў вызначаны асобы падатак, які плацілі падданыя ВКЛ. Склад камісіі не быў увесь час пастаянны: некаторыя яе члены паміралі, іншыя звальняліся. Паводле рашэння Люблінскага сойма, яна павінна была не толькі змяніць або зусім выкрэсліць супярэчныя з пактамі Люблінскай уніі артыкулы, але і ўзгадніць правы ВКЛ і Польшчы. Апрацаваны такім чынам Статут павінен быў зацвярджацца супольным соймам.

Праца камісіі прасоўвалася вельмі павольна. Падрыхтаваны ёю праект абмяркоўвалі на пасяджэннях Рады, на павятовых сойміках,

на агульных з'ездах у 1582 і 1584 гг., скліканых Баторыем. Канчатковае рэдагаванне тэксту праводзілася ў вялікакняжацкай Канцылярыі А.Валовічам і Л.Сапегам. Менавіта яны — высокаадукаваныя людзі еўрапейскага светапогляду, выдатныя знаўцы права і старабеларускай мовы — ці не найбольш паўплывалі на гуманістычную накіраванасць Статута, па-майстэрску дакладна перадалі ўсе прававыя паняцці.

У 1584 г. Статут быў гатовы, але паколькі ён ігнараваў акт Люблінскай уніі, Польшча не згаджалася зацвердзіць яго на агульным сойме Рэчы Паспалітай.

Зацвярджэнне Статута адбылося пры незвычайных абставінах. Скарыстаўшы барацьбу за прастол у Рэчы Паспалітай паміж Жыгімонтам Вазай і Максіміліянам і першымі даведаўшыся пра перамогу прыхільнікаў Жыгімонта, прадстаўнікі ВКЛ прапанавалі яму падтрымку, калі ён зацвердзіць Статут. Той згадзіўся. 28 **студзеня 1588 г.** сваёй граматай ён зацвердзіў Статут без згоды супольнага сойма, як таго вымагала унія, і абавязаўся *"права, вольности и свободы их не только цело и непорушно держати, але што бы наболей примножати, справедливость* и *оборону чынити. Статут Велжого князьства Литовского новоправленый сим привельем нашим ствержаем и всим станом Великого князьства Литовского ко уживанью на вси потомные часы выдаем. Водле которого вже якосмы сами, господар, так и вси станы, обыватели Великого князьства Литовского, заховатися маем".* Летам гэтага ж года падканцлер Сапега выдаў у Вільні гэты заканадаўчы звод уласным коштам і разаслаў у мясцовыя суды ўсіх ваяводстваў дзяржавы.

Па ступені дасканаласці гэты звод не меў роўнага ва ўсёй еўрапейскай юрыдычнай думцы таго часу. З'яўляючыся адным з першых прававых кодэксаў у Еўропе, ён быў настолькі дасканалым, што больш за двух з паловай стагоддзя вызначаў усе бакі жыцця ВКЛ і захоўваў сілу закону нават у XIX ст. — дзейнічаў пасля далучэння Беларусі да Расіі ў Віцебскай і Магілёўскай губернях да 1831 г., а ў Мінскай, Віленскай і Гродзенскай - да 1840 г.

Ён аказаў значнът ўплыў на развіццё права Расіі, Полынчы, Украіны, Латвіі і Эстоніі. Вядомы палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай

Г. Калантай на сойме 1791 г. так ахарактарызаваў III Статут: " Я кажу аб той кнізе, аб якой нельга ўспомніць без вялікага захаплення… Статут робіць павагу чалавечаму розуму…, складзены так разумна, асабліва ў адносінах відаў пакарання, што яго можна лічыць самай дасканалай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе".

Гэта рэдакцыя Статута атрымала прызнанне і вялікую папулярнасць ва ўсім свеце, бо на тыя часы нічога падобнага ні ў адной краіне яшчэ не было. Неўзабаве яго бяруцца перакладаць на многія мовы і карыстацца ў розных краінах як сваім. Польскія шляхецкія суды карысталіся III Статутам як дапаможным правам, а рэдакцыйная камісія расійскага кодэкса, вядомага пад назваю Укладання 1649 г., брала беларуска-літоўскі законнік як крыніцу для выпрацоўкі сваіх пастаноў. На палях арыгінала Укладання Аляксея Міхайлавіча насупраць 56 артыкулаў былі знойдзены надпісы "з Літоўскага". Іншыя даследчыкі налічвалі 172 такія артыкулы, знаходзілі цэлыя раздзелы расійскага кодэкса, што ўяўлялі літаральны пераклад або пераказ III Статута.

Статут складаўся з 14 раздзелаў і 487 артыкулаў, якія ўключалі нормы дзяржаўнага, адміністрацыйнага, ваеннага, судова-працэсуальнага, грамадзянскага, сямейнага і апякунскага, спадчыннага і зямельнага, крымінальнага права. У аснову сістэматызацыі норм Статута пакладзены новыя, характэрныя для пераходнага перыяду ад сярэднявечча да новага часу прынцыпы: абмежаванне ўлады гасудара, падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, абвяшчэнне насуперак сярэднявечнаму царкоўнаму касмапалітызму захавання дзяржаўнага суверэнітэту; усе нормы Статута прасякнуты ідэяй усталявання прававой дзяржавы.

Гэта своеасаблівая Канстытуцыя, што з'явілася ў феадальную эпоху, не страціла сваёй каштоўнасці і сёння. Статут не толькі выдатны помнік прававой культуры і юрыдычнай думкі феадальнага грамадства, але і выдатны помнік беларускага пісьмовага слова. У ім было заканадаўча зафіксавана, што дзяржаўнай мовай на ўсёй тэрыторыі ВКЛ з'яўляецца беларуская, якая ў Рэчы Паспалітай называлася рускай мовай. *"А писар земский, — гаварылася ў Статуце, — мает по-руску литерами и словыми рускими вси листы, выписы... писати, а не иным языком и словы".*

Гэта феадальная Канстытуцыя і сёння даволі дасканалая, напрыклад, у адносінах да аховы прыроды і нават абароны правоў чалавека. Скажам, ужо тады забаранялася ўзорваць землі па берагах рэк і азёр, паляваць у міжсезонне на звяроў і птушак, разбураць пчаліныя борці. Адным з першых у Еўропе III Статут браў пад дзяржаўную ахову прыроду, рэгламентаваў карыстанне зямлёй і лесам, рэкамі і азёрамі.

Законы таго часу простыя і зразумелыя, напоўнены разважным сэнсам і ўжо ніяк не дапускаюць множнасці тлумачэнняў: *"Не можа быць асуджаны невінаваты", "Бацька не адказвае за віну сына, а сын не адказвае за віну бацькі". Характэрны і такі зварот аўтараў Статута: "... народу сорамна права свайго не ведаць, асабліва нам, якія не чужой якой мовай, але сваёй уласнай правы пісаныя маем і ў кожны час, што нам неабходна для адбіцця ўсякай крыўды, можам ведаць ".*

Ужо ва ўступе да Статута Л.Сапега сфармуляваў галоўную ідэю прававой дзяржавы, да якой і сёння імкнецца наша рэспубліка: **вяршэнства закону над любой уладай.** Нават каралю тут прыгадваецца, што ўлада яго выбарная, добраахвотна прынятая і зацверджаная воляй ВКЛ і ён абавязаны строга прытрымлівацца законаў, не выходзячы за рамкі дапушчальнага.

Статут заканадаўча замацаваў суверэнітэт ВКЛ насуперак акту Люблінскай уніі, гарантаваў эканамічную, палітычную і культурную незалежнасць дзяржавы. Паказальна тое, што ніводным словам новы закон нават не прыгадваў Люблінскай уніі, як маўчаў і пра тое, што вярхоўным уладаром княства павінен быць польскі кароль, што вышэйшым органам заканадаўчай улады ў федэрацыі лічыўся агульны сойм у Кароне. Наадварот, III Статут адназначна сцвярджаў, што важнейшыя знешнепалітычныя пытанні (абвяшчэнне вайны, скліканне паспалітага рушэння і інш.) меў права вырашаць толькі Вальны сойм княства. Нават дзеля таго, каб правесці польскія ўзброеныя сілы праз тэрыторыю ВКЛ, патрабаваўся дазвол Рады і вялікага князя. Палякі, дарма што сябры і суседзі, у тэксце фігуравалі як чужаземцы. Каб забяспечыць незалежнасць свайго войска і канцылярыі ад Польшчы, Статут пакідаў права на гетманскія, ваяводскія і іншыя камандзірскія чыны найбольш значным феадалам мясцовага

паходжання. Дэклараванае актам Люблінскай уніі раўнапраўе палякаў і грамадзян ВКЛ на тэрыторыі ўсёй федэрацыі такім чынам касавалася. Статут адмяняў прынцыповы для польскага боку пункт пастановы Люблінскага сойма аб набыцці зямельнай уласнасці ў межах княства. Пасля ўвядзення ў дзеянне Статута польская шляхта не мела юрыдычнага права набываць землі і займаць дзяржаўныя пасады ў ВКЛ: усё гэта можна было даваць *"толькі Літве, Русі, Жмудзі, родзічам старажытным і ўраджэнцам Вялікага княства Літоўскага і тых зямель, таму Вялікаму княству прыналежачых".* Гэты артыкул Статута, а таксама другі, што заканадаўча пацвярджаў дзяржаўнасць беларускай мовы, стрымлівалі працэс апалячвання беларусаў, што распачаўся ўжо ў другой палове XVI ст.

Новы кодэкс права не прызнаваў і ранейшых тэрытарыяльных страт на карысць польскай ці якой іншай дзяржавы, а, наадварот, абавязваў гасудара захоўваць недатыкальнасць тэрыторыі ВКЛ, а раней страчаныя землі - вяртаць. Ніводным артыкулам ён не абмяжоўваў суверэнітэт дзяржавы.

Хоць Статут не касаваў пастаноў Люблінскага сойма адкрыта, ён быў складзены так, быццам актаў 1569 г. не існавала. Нездарма ў Польшчы шмат якія павятовыя соймікі запатрабавалі скасаваць гэты кодэкс, як накіраваны супраць уніі.

Што да ўнутранага жыцця краіны, то і тут Статут у параўнанні з ранейшымі кадыфікацыямі быў вялікім крокам наперад. Сабраныя ў ім нормы права адпавядалі ідэям еўрапейскага Адраджэння, вызначаліся гуманізмам. Так, новы кодэкс упершыню прызначаў смяротнае пакаранне за забойства простага чалавека — незалежна ад сацыяльнай прыналежнасці ахвяры і забойцы абвяшчаў прынцып індывідуальнай адказнасці за злачынства і ўводзіў прэзумпцыю невінаватасці, вызваляў ад крымінальнай адказнасці непаўналетніх да 16 гадоў, рашуча абмяжоўваў нявольніцтва і патрабаваў адмены самога слова "нявольнік" як ганебнага для чалавека. Статут узмацняў прынцып абавязковасці выпрацаванай сістэмы права для ўсяго насельніцтва краіны і нават для чужаземцаў, калі тыя траплялі на тэрыторыю княства.

Выключна важным было абвяшчэнне рэлігійнай талерантнасці, што мела на мэце паслабіць усё нарастаючыя канфесійныя супя-

рэчнасці. Ва ўводзінах да збору законаў гаварылася, што правы і прывілеі ў дзяржаве даюцца ўсім феадалам, незалежна ад іх веравызнання, а ў адным з артыкулаў вялікі князь абяцаў *"покой посполитый межы розорваными и розными людьми в вере и набоженстве заховывать".* Статут браў пад ахову некаталіцкія храмы і касаваў абвінавачванне ў ерасі як падставу дзеля пазбаўлення спадчыны.

Прапаведваліся паважлівыя адносіны да жанчын. Напрыклад, устанаўлівалася двайное пакаранне за злачынства, якое здзейснена ў адносінах да жанчыны.

Статутавыя нормы замацоўвалі феадальны грамадскі лад жыцця. У ім выразна выявіліся сацыяльныя адносіны паміж феадаламі і залежнымі сялянамі, адносіны залежнасці дробнай шляхты ад буйных землеўласнікаў.

Так, у Статуце абвяшчаецца фармальная роўнасць усіх перад законам, усе павінны судзіцца *"тым одным правом писаным",* хоць сам закон не быў роўным для ўсіх. У ім гаворыцца аб праве простых людзей нароўні з феадаламі ўдзельнічаць у выбранні вялікага князя, хоць на справе ўдзел сялян у палітычным жыцці абмяжоўваўся валаснымі справамі. Сялянам адмаўлялі ў праве ўласнасці на зямлю, ім забаранялася набываць ва ўласнасць маёнткі і землі. Уласнікам усіх сялянскіх зямель прызнаваўся толькі феадал або феадальная дзяржава. Феадальна залежны чалавек не мог без дазволу свайго гаспадара змяніць месцажыхарства або пайсці да другога феадала. Самай бяспраўнай часткай насельніцтва была чэлядзь дворная і палонныя, якія знаходзіліся на становішчы рабоў. Статут завяршыў юрыдычнае афармленне прыгоннага права на Беларусі.

У феадальнай дзяржаве ўсе гэтыя прагрэсіўныя для свайго часу ідэі і прынцыпы фактычна толькі дэклараваліся і рэальна нічым не замацоўваліся. Але ўжо тое, што яны былі ўведзены ў асноўны закон дзяржавы, мела выключна прагрэсіўнае значэнне. Нават ацэньваючы Статут з сучасных пазіцый, мы адзначаем яго сапраўдную гістарычную каштоўнасць. Яго галоўныя прынцыпы, як прэзумпцыя невінаватасці, дзяржаўны і нацыянальна-культурны суверэнітэт, рэлігійная талерантнасць і іншыя, былі прагрэсіўнымі не толькі для свайго часу. Яны і сёння выступаюць як прынцыпова важныя пытанні грамадзянскіх кодэксаў многіх дэмакратычных краін свету.

## ЛЕКЦЫЯ 22

# АФАРМЛЕННЕ ПРЫГОННАГА ПРАВА Ў БЕЛАРУСІ (XV—XVI стст.)

- *Формы феадальнага землеўладання і феадальных адносін у ВКЛ.*
- *Аграрная рэформа Сігізмунда-Аўгуста «Устава на валокі» 1557 г.*
- *Асноўныя этапы юрыдычнага афармлення прыгоннага права.*

## Формы феадальнага землеўладання і феадальных адносін у ВКЛ

Асноўнай вытворчай ячэйкай феадальнага грамадства з'яўляецца гаспадарка непасрэднага вытворцы матэрыяльных каштоўнасцей - селяніна. Таму пры вывучэнні гісторыі феадалізму мы асноўную ўвагу павінны надаваць высвятленню пытанняў, што характарызуюць яго становішча. Яно ў любым грамадстве залежыць ад формы ўласнасці на сродкі вытворчасці.

Пры феадалізме асноўным сродкам вытворчасці з'яўлялася зямля. Яна знаходзілася ў руках феадалаў. Але феадальная ўласнасць на зямлю — гэта не адносіны феадалаў да зямлі, а іх адносіны да тых, хто быў пазбаўлены свабоднага доступу да яе, г.зн. адносіны феадалаў, манапалізаваўшых зямлю, да сялян-земляробаў, якія яе апрацоўвалі. Тут выступаюць, з аднаго боку, феадал — уласнік зямлі, асноўнага сродку вытворчасці і, з другога боку, селянін — уласнік рабочых рук. Злучэнне рабочых рук з зямлёй (працэс вытворчасці) і вызначала адносіны паміж феадалам і селянінам. Селянін, пазбаўлены зямлі, вымушаны быў атрымліваць яе з рук феадала. Але атрымліваў ён яе не ва ўласнасць, а ў карыстанне. За карыстанне зямлёй ён заўсёды, пры любых умовах павінен быў несці на карысць уласніка розныя павіннасці.

У гістарычнай літаратуры вядомы чатыры формы феадальных павіннасцей: даніна, прадуктовы аброк, грашовы аброк і паншчына. Самай першай формай феадальнай эксплуатацыі была даніна. Яна спаганялася, як правіла, прадуктамі неземляробчага характару. Гэта было выклікана тым, што ў перыяд станаўлення феадальных адносін узровень вытворчасці працы ў сялянскай гаспадарцы быў яшчэ невысокім. Яна яшчэ не вырабляла лішкаў прадуктаў, якія

феадал мог забіраць у селяніна, не наносячы шкоды яго гаспадарцы. У перыяд феадалізму, акрамя прынцыпу "няма зямлі без пана", дзейнічау і другі прынцып — "карыстацца селянінам так, каб яго хапіла на заўтра", г. зн. даваць магчымасць сялянскай гаспадарцы ўзнаўляцца. Калі феадалы парушалі гэты прынцып, бралі ў селяніна больш, чым ён мог даць, то гэтым падсякалі сук, на якім самі ж сядзелі. Селянін тады непазбежна разараўся і не ў стане быў выконваць павіннасці на карысць феадала. А дабрабыт феадала цалкам залежаў ад таго, у якім стане знаходзілася сялянская гаспадарка, ці здольная яна была выконваць ускладзеныя на яе павіннасці.

Вось чаму ў IX—XI стст., калі ўзровень прадукцыйнасці працы ў сялянскай гаспадарцы быў яшчэ вельмі нізкім, асноўнай формай феадальнай эксплуатацыі была даніна. Але, як вядома з "Рускай праўды", у перыяд існавання Кіеўскай Русі мелі месца і прадуктовы, і грашовы аброкі, і нават паншчына. Усе чатыры формы феадальнай эксплуатацыі суіснавалі адначасова, а адна з іх, у моц тых ці іншых умоў, была асноўнай, дамінуючай. У IX—XI стст. ёю была даніна, у XII—XIV стст. — прадуктовы аброк, у XV — першай палове XVI ст. — грашовы аброк, з сярэдзіны XVI ст. — паншчына.

Пры феадалізме існавалі дзве формы феадальнай уласнасці на зямлю — умоўная і безумоўная, або абмежаваная і неабмежаваная.

У Вялікім княстве Літоўскім, як і ў іншых раннефеадальных дзяржавах, вярхоўным уласнікам зямлі, яе распарадчыкам быў вялікі князь. Зямельная маёмасць феадалаў, у першую чаргу сярэдніх і дробных, знаходзілася ў залежнасці ад вялікага князя. Ён рэгуляваў іх уладанні ў сваіх ваенна-палітычных і фінансавых мэтах.

Сярэднія і дробныя феадалы складалі шляхецкае саслоўе, пачатак якому паклаў прывілей Ягайлы 1387 г. Пазней ён быў пацверджаны Гарадзельскім прывілеем 1413 г. Гэтыя прывілеі надавалі літоўскім "баронам" і знатным баярам каталіцкага веравызнання правы, якімі карысталася польская шляхта. Такія ж маёмасныя правы атрымалі ў 1432 і 1434 г. (прывілеі Ягайлы і Сігізмунда Кейстутавіча) і беларускія праваслаўныя феадалы. У асноўным гэта былі былыя дружыннікі князёў.

Мелі месца выпадкі ўзвядзення ў шляхецтва і цяглых сялян, якія

спраўна выконвалі земскую службу. Але часцей за ўсё ўзводзіліся ў шляхецтва не прама з цяглай, а з панцырнай ці якой-небудзь іншай службы. Ступенню дасягнення шляхецтва была таксама канцылярская ці прыдворная служба. Вялікі князь узводзіў у шляхецкае званне не толькі сваіх падданых, якія вызначыліся на ратным полі, але і сваіх заслужаных дваровых прыслужнікаў — адверных (швейцараў), машталёраў (конюхаў), каморнікаў (лакеяў), а таксама вызначыўшыхся канцылярскіх служачых (пісараў) і г.д.

На амаль аднолькавым становішчы з баярамі-шляхтаю і зямянамі, якія атрымлівалі шляхецтва не за ваенную, а за цывільную службу і выйшлі з сялян і слуг, не карыстаючыся іх палітычнымі правамі, знаходзіліся ў Вялікім княстве Літоўскім татары. Пасля паходаў на Дон у 1397—1398 гг. Вітаўт пасяліў мноства палонных татар у заходніх землях Вялікага княства Літоўскага. У Беларусі яны жылі на тэрыторыі сучаснага Лідскага, Навагрудскага і Іўеўскага раёнаў. Татары ў асноўным неслі ваенную службу, за што атрымлівалі зямельныя надзелы.

Баяры-шляхта, зямяне і татары трымалі пад гаспадаром, вялікім князем, зямельныя надзелы на розных умовах. Самым старажытным тыпам феадальнага землеўладання было фактычнае ўладанне зямлёй з падарункам вялікага князя. Гэтыя ўладанні, як правіла, былі наследнымі і перадаваліся ў спадчыну жонцы, дзецям і нават пабочным родзічам. Толькі пры адсутнасці спадкаемцаў іх надзелы вярталіся назад вярхоўнаму ўласніку зямлі — вялікаму князю.

Побач з выслугамі "на вечнасць" вялікі князь са складу свайго дамену раздаваў зямельныя надзелы і да "волі і ласкі сваёй гаспадарскай", не вызначаючы дакладна тэрмінаў валодання і карыстання. Але гэты парадак не вельмі задавальняў іх уладальнікаў, паколькі трымаў іх у няпэўнасці і невядомасці. Таму вялікі князь хутка стаў акрэсліваць тэрмін валодання зямлёй. З'явіўся новы тып "часовага" землеўладання: "да жывата" — г.зн. пажыццёва, "да двух жыватоў" — г.зн. з правам перадаць дзецям, "да трох жыватоў" — г.зн. з правам перадаць дзецям і ўнукам.

У інтарэсах дзяржаўнай службы ўзнік асобны тып землеўладання на ленным праве, г.зн. з правам пераходу зямлі да спадкаемцаў толькі мужчынскага полу.

Але пры ўсім тым сваімі памесцямі баяры-шляхта, зямяне і татары валодалі толькі пры ўмове службы вярхоўнаму ўласніку зямлі - вялікаму князю. Памесце ўсё роўна, да якога б тыпу з вышэй пералічаных не належала, адбіралася ад уладальніка, калі ён не з'яўляўся на службу або выконваў службу недобрасумленна.

Побач з вялікакняжацкім даменам (у канцы XIV ст. ён займаў прыкладна 70% тэрыторыі ВКЛ) існавала і вялікая колькасць незалежных маёнткаў, уладальнікі якіх распараджаліся імі "з поўным правам і панствам". На гэтых маёнтках не ляжалі тыя абмежаванні, якія былі на памесцях "пад гаспадаром". Вялікі князь захоўваў у адносінах да іх толькі права вярхоўнага правіцеля дзяржавы. Іх уладальнікі распараджаліся сваімі землямі самастойна, раздавалі іх сваім слугам. Гэта былі ў асноўным уладанні былых заходнерускіх і літоўскіх князёў — Рурыкавічаў і Гедымінавічаў. Яны не былі пазбаўлены сваіх правоў пры ўсталяванні ў Літве адзінадзяржаўя. За імі было прызнана права вотчыннага землеўладання. Многія з іх потым папоўнілі свае валоданні за кошт "падарункаў" вялікіх князёў.

Аднолькавымі правамі з уладаннямі былых удзельных князёў карысталіся землі, якія належалі епіскапскім кафедрам, саборным цэрквам і манастырам.

Такім чынам, феадальная ўласнасць на зямлю ў Вялікім княстве Літоўскім была саслоўнай і насіла іерархічны характар. Феадальнае эемлеўладанне, асабліва дробных і сярэдніх феадалаў, было першапачаткова ўмоўным і абмежаваным.

Але такое становішча не задавальняла феадалаў. Яны вялі барацьбу за перадачу ім зямлі ў безумоўнае валоданне. Першымі дамагліся гэтага права літоўскія феадалы ў 1387 г. У 1413 г. гэтае права атрымалі і беларускія феадалы, прыняўшыя каталіцтва. Праваслаўныя беларускія феадалы атрымалі гэта права толькі ў 1432 г. Пазней яно было пацверджана прывілеямі Сігізмунда Кейстутавіча ў 1434 г. і Казіміра Ягелончыка ў 1447 г.

Але феадал, валодаючы зямлёй (або вотчынай, або памесцем на любой з умоў), не мог абысціся без сялян. Зямлю трэба было апрацоўваць, каб атрымаць ад яе карысны прадукт. Апрацоўвалі яе сяляне. Паколькі яны былі пазбаўлены права ўласнасці на зямлю,

то атрымлівалі яе з рук феадала. Гэта і вызначыла розныя формы залежнасці сялянства. Яны складваліся ў працэсе эвалюцыіі памешчыцкай гаспадаркі.

Сяляне ў Беларусі да сярэдзіны XVI ст. у падаўляючай большасці сядзелі на ўчастках самых розных памераў і гаспадарчага складу. Ніякага землеўпарадкавання сялянскіх гаспадарак не праводзілася. Таму і памеры подацей і павіннасцей, якімі абкладвалі феадалы сялян, устанавіць немагчыма. Іх памеры вызначаліся велічынёй зямельнага надзела і якасцю зямлі непасрэдна кожнай сялянскай гаспадаркі. Ды і сама сялянская гаспадарка ў той час насіла складаны характар.

Сялянскія надзелы і ўгоддзі ў большасці выпадкаў знаходзіліся ў карыстанні не асобных сялянскіх сем'яў, а складаных таварыстваў, якія ўтвараліся з разросшыхся сем'яў. У гэтых таварыствах разам з бацькамі жылі дарослыя сыны са сваімі сем'ямі, зяці і нават стрыечныя браты і сёстры. Такія эканамічныя ўзаемаадносіны выклікаліся неабходнасцю карчавання лесу, адначасовай эксплуатацыяй іншых сельскагаспадарчых угоддзяў. Малымі сіламі ў той час немагчыма было весці гаспадарку і спраўляцца з ускладзенымі на яе павіннасцямі. Таму малалікія гаспадаркі вымушаны былі прымаць для падмогі і пабочных людзей (не родзічаў) — "патужнікаў" на розных умовах (на долі, палавіне і г.д.). Калі малалікія гаспадаркі не спраўляліся з ускладзенымі на іх павіннасцямі, то ім і самі феадалы падсажвалі пабочных людзей - "сяброў". (Адсюль, напэўна, паходзіць слова "прысябраваўся").

Такая арганізацыя сялянскай гаспадаркі праіснавала да другой паловы XVI ст., да вядомай рэформы Сігізмунда-Аўгуста "Уставы на валокі".

## Аграрная рэформа Сігізмунда-Аўгуста «Устава на валокі» 1557 г.

У 1557 г. Сігізмунд-Аўгуст, ці як яго яшчэ называюць Жыгімонт-Аўгуст, правёў у сваіх вялікакняжацкіх уладаннях аграрную рэформу, якая мела на мэце ўпарадкаваць сялянскае землекарыстанне, каб павялічыць свае даходы. Складальнікамі гэтай рэформы

былі ўпраўляючыя каралевы Боны, маці Сігізмунда-Аўгуста, якая ажыццявіла гэтую рэформу ў сваіх памесцях (Кобрынская і Пінская эканоміі) яшчэ ў 30—40-я гады XVI ст.

Згодна з гэтай рэформай сялянскі надзел складала валока памерам у 33 моргі (морг раўняўся 0,71 га), або 23,43 га незалежна ад глебы, на якой ён знаходзіўся (добрай, сярэдняй ці нават дрэннай). Нягодная для ворыва зямля, калі яна сустракалася ў надзеле, кампенсавалася адпаведнай дабаўкай. Таму на практыцы валокі былі розных памераў — ад 33 да 46 моргаў, але лічыліся адной падатковай адзінкай.

Акрамя падворнага надзела, сялянам адводзіліся землі агульнага карыстання: сенажаці, выганы, дубровы і г.д. За абшчынамі было захавана права "ўваходу" і "ўступу" ў пушчы, балоты і азёры маёнтка. Тут сяляне маглі займацца бортніцтвам, нарыхтоўваць дровы, будаўнічы матэрыял, пасвіць жывёлу, лавіць рыбу.

Зямля ў першую чаргу адводзілася пад гаспадарскія двары (фальваркі), якія ствараліся на самых лепшых землях. У той час у Заходняй Еўропе ў сувязі з ростам гарадоў рэзка ўзрос попыт на збожжа, і вялікі князь, каб папоўніць казну, імкнуўся пашырыць дваровую гаспадарку і пасевы збожжавых культур. Памеры фальваркаў былі рознымі — ад 8 да 15 валок зямлі — гэта ад 200 да 400 гектараў і больш. Сялянскія надзелы размяркоўваліся па жэрабю па адной валоцы на двор, незалежна ад памеру і колькасці сем'яў, якія ўваходзілі ў яго. Калі надзелаў было больш, чым мелася сялянскіх двароў, то на іх запрашаліся сяляне з іншых весак. Калі ж на астатнія валокі не было каго садзіць, яны заставаліся пустымі. Моцныя сялянскія гаспадаркі бралі і па дзве валокі.

Сяляне, якіх перасялялі на новыя надзелы, дзяліліся на два разрады — людзей "цяглых" і "асадных".

Цяглыя сяляне належалі да той катэгорыі насельніцтва, становішча якой было дакладна вызначана "Уставай" 1557 г. Іх колькасць залежала ад памеру фальварка. На адну валоку фальварковай зямлі наразалася сем валок цяглых. Сяляне, якіх садзілі на цяглыя валокі, павінны былі сваім інвентаром і сваім цяглом (рабочай жывёлай) апрацоўваць фальварковую зямлю. Цяглыя валокі наразаліся паблізу фальварка.

Асноўнай павіннасцю цяглых сялян была паншчына — два дні ў тыдзень з валокі. Гэтае патрабаванне "Уставы" выконвалася без усякіх выключэнняў. Акрамя паншчыны, цяглыя сяляне выконвалі і іншыя павіннасці, якія таксама былі дакладна вызначаны "Уставай" 1557 г. Іх памеры залежалі ад якасці зямлі.

Павіннасці цяглых сялян з валокі па "Уставе на валокі" 1557 г.

| Павіннасці | Адзінкі вымярэння | Якасць зямлі | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | добрая | сярэдняя | дрэнная | вельмі дрэнная |
| Паншчына | дзён у тыдзень | 2 | 2 | 2 | 2 |
| Чынш | грошаў | 21 | 12 | 8 | 6 |
| Авёс | бочак<br>грошаў | 2<br>20 | 2<br>20 | 1<br>10 | — |
| Сена | вазоў<br>грошаў | 1<br>5 | 1<br>5 | 1<br>5 | - |
| Гусі | штук<br>грошаў | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 |
| Куры | штук<br>пенязеў | 2<br>16 | 2<br>16 | 2<br>16 | 2<br>16 |
| Яйкі | штук<br>пенязеў | 20<br>4 | 20<br>4 | 20<br>4 | 20<br>4 |
| Невад | грошаў | 2 | 2 | 2 | 2 |
| Стацыі * | грошаў | 2,5 | 2,5 | 2,5 | 2,5 |
| Талокі | дзён у год | 4 | 4 | 4 | 4 |
| Сенакос | Усім войтаўствам урочна | | | | |
| Вартаўнікі | Па чарзе ў воласці | | | | |
| Падводы | Па чарзе ў вёсцы | | | | |
| Будаўніцтва, рамонт дарог і мастоў | Усім войтаўствам па патрэбе | | | | |

* падатак на ўтрыманне феадала і вялікакняжацкай адміністрацыі. Памер не фіксаваўся. Паводле «Уставы» 1557 г. сяляне павінны былі **плаціць з 30 валок 1 ялавіцу, 2 бараны, або па 1 курыцы, ці 2,5 гроша з валокі.**

Як бачна з табліцы, цяглыя сяляне выконвалі вялікі аб'ём павіннасцей. Акрамя вышэй пералічаных, яны яшчэ плацілі ваенныя падаткі —сярэбшчыну і пагалоўшчыну, а таксама жарнавое.

Сярэбшчына плацілася грашыма. Яна збіралася па спецыяльнай пастанове сойма. Памеры яе кожны раз устанаўліваліся асобна і бралася яна з валокі, незалежна ад якасці зямлі.

Пагалоўшчына — гэта надзвычайны падатак, які збіраўся таксама па пастанове сойма, і толькі грашыма. Памер яго залежаў ад катэгорыі насельніцтва. Ад пагалоўшчыны вызваляліся: духавенства, шляхта, ваенныя татары, баяры путныя, грудныя дзеці і нявольнікі. Усе астатнія плацілі падатак. У 1566 г. памеры пагалоўшчыны складалі наступныя сумы:

- *Самастойныя гаспадары, каморнікі, "суседзі", найміты, наймічкі — 2 грошы.*
- *Людзі, седзячыя "на волі", — 5 грошаў.*
- *Агароднікі — 1 грош.*
- *Чэлядзь нявольная, якая дамы і прысекі свае мае, — 5 пенязёў.*

Жарнавое — гэта подаць, звязаная з мельніцкім баналітэтам вялікага князя, феадала. Па закону ўсе жыхары павінны былі малоць зерне толькі ў млынах феадалаў, падданымі якіх яны былі. Калі хто малоў зерне на сваіх жорнах, то павінен быў плаціць па 1 пенязю ў тыдзень, ці 10 грошаў і 4 пенязі ў год.

Выкананне павіннасцей строга рэгламентавалася. Яны павінны былі выконвацца ў поўным аб'ёме і ў вызначаныя тэрміны. За невыкананне іх прадугледжваліся суровыя меры пакарання. Паншчына, напрыклад, заказвалася за тыдзень наперад і вызначалася, каму і ў які дзень выходзіць і якую работу выконваць. За невыхад на паншчыну першы раз прадугледжваўся штраф у памеры 1 грош, другі раз — бічаванне ля слупа з абавязковай адпрацоўкай прапушчаных дзён.

Работа пачыналася з усходам сонца, а заканчвалася з яго заходам. Адпачынак летам коннаму работніку прадугледжваўся тры гадзіны, пешаму — 1,5 гадзіны ў.тры прыёмы. Талокі, як правіла, прадугледжваліся летам — 4 дні ў год. На іх выходзілі 2—3 чалавекі з надзела на гаспадарскім "хлебе і піве". Вось такімі былі павіннасці цяглых сялян па "Уставе на валокі" 1557 г. Астатніх сялян вялікі князь сяліў на "асадзе".

Асадныя сяляне замест 2 дзён паншчыны ў тыдзень і 4 дзён талок у год павінны былі плаціць у год, у залежнасці ад якасці зямлі, ад 66 да 106 грошаў. Усе астатнія павіннасці яны павінны былі выконваць у такіх самых памерах, як і цяглыя, г.зн. плаціць чынш, даваць авёс, сена, гусей, яйкі і г.д.

У выніку ажыццяўлення рэформы 1557 г. у Вялікім княстве Літоўскім з'явілася яшчэ адна катэгорыя сялян — "агароднікі". У гэтую катэгорыю былі пераведзены сем'і былых "нявольнікаў", з якімі вялікі князь вырашыў развязацца. Агароднікі пасяляліся невялікімі спецыяльнымі сёламі па 10—20 двароў паблізу фальваркаў. Яны надзяляліся невялікімі ўчасткамі зямлі па 3, 6, 9 і больш моргаў у залежнасці ад складу сям'і і наяўнасці свабоднай зямлі. З надзела памерам у 3 моргі яго ўладальнік павінен быў адпрацаваць у фальварку 1 дзень паншчыны ў тыдзень пешшу. З большага надзела павіннасці прапарцыянальна павялічваліся.

Вось такое землеўпарадкаванне было праведзена ў вялікакняжацкіх уладаннях у выніку ажыццяўлення аграрнай рэформы 1557 г.

Спачатку гэтая рэформа была праведзена толькі ў вялікакняжацкіх памесцях і толькі ў заходніх ваяводствах. Ва ўсходніх беларускіх ваяводствах яна не праводзілася. Адной з асноўных прычын з'яўлялася тое, што там былі горшыя ўмовы для развіцця збожжавай гаспадаркі: балоцістыя і пясчаныя глебы, аддаленасць ад балтыйскіх портаў і інш. Не спрыялі і знешнепалітычныя абставіны. Усходнія ваяводствы былі плацдармам і бліжэйшым тылам доўгай і цяжкай Лівонскай вайны, у ходзе якой беларускае насельніцтва не хавала сваіх сімпатый да Расіі. Яшчэ больш хваляваць яго абеззямеленнем і ўзмацненнем паншчыны было небяспечна. Таму вялікакняжацкая адміністрацыя абмежавалася тут толькі "параўнаннем грунтаў" і "ўстанаўленнем платаў", г.зн. дакладнай рэгістрацыяй сялянскіх дзяржанняў (надзелаў), колькасці дымоў у іх, якасці зямлі, імёнаў гаспадароў, колькасці жывёлы і памераў павіннасцей. Устрымацца ад ажыццяўлення рэформы ва ўсходніх ваяводствах вялікакняжацкую адміністрацыю вымушала і тое, што ў Расіі да гэтага часу яшчэ не ўсталявалася прыгоннае права. Там яно юрыдычна аформілася толькі ў 1649 г.

Адным з галоўных вынікаў аграрнай рэформы Сігізмунда-Аўгу-

ста "Уставы на валокі" было прымацаванне сялян да зямлі. Таму рэформу пачалі праводзіць і феадалы ў сваіх памесцях. Якую ж ролю ў запрыгоньванні сялян яна адыграла?

Усе сяляне, якія жылі да рэформы ў вял ікакняжацкіх уладаннях і памесцях феадалаў, дзяліліся на дзве катэгорыі — людзей "пахожых" і людзей "непахожых". Непахожымі людзьмі былі сяляне, якія ўжо папалі ў асабістую залежнасць ад феадала. Гэта былі закупы, радовічы, закладнікі, удачы, прашчэннікі, ізгоі і інш. Гэтыя катэгорыі асабіста залежных сялян узніклі яшчэ ў перыяд Старажытнарускай дзяржавы. Але яны яшчэ маглі вызваліцца ад "няволі" і стаць свабоднымі, "пахожымі" людзьмі. Гэта агаворвалася неаднаразова ў заканадаўчых актах, якія дзейнічалі ў Вялікім княстве Літоўскім.

Асноўная маса сялян у Вялікім княстве Літоўскім першапачаткова была вольнымі "пахожымі" людзьмі, г.зн. асабіста свабоднымі. У адносінах да феадала яны знаходзіліся толькі ў эканамічнай залежнасці, якая зыходзіла з права феадальнай уласнасці на зямлю. Але адной эканамічнай залежнасці для ўзмацнення эксплуатацыі сялян феадалам было недастаткова. Яны імкнуліся распаўсюдзіць сваю ўладу і на самога селяніна, ператварыць яго, як і зямлю, у сваю ўласнасць. Гэтае імкненне стала асабліва расці, калі феадалы дамагліся неабмежаванай уласнасці на зямлю. Менавіта з гэтага часу і пачалося інтэнсіўнае наступленне феадалаў на асабістую свабоду сялян.

## Асноўныя этапы юрыдычнага афармлення прыгоннага права

Першым заканадаўчым актам, які абмяжоўваў свабоду сялян у ВКЛ, быў прывілей Казіміра Ягелончыка 1447 г. У ім вялікі князь браў на сябе абавязацельствы не прымаць у свае валоданні сялян памешчыцкіх гаспадарак і абавязваў князёў, паноў і шляхту прытрымлівацца гэтага правіла і ў адносінах да вялікакняжацкіх сялян.

Наступным этапам у афармленні прыгоннага права ў ВКЛ быў Судзебнік Казіміра Ягелончыка 1468 г. У гэтым дакуменце феадалы ўжо выставілі ў якасці юрыдычнага абгрунтавання прымацавання сялян да зямлі прынцып земскай даўнасці. Вялікі князь, як і

іншыя феадалы, сталі прытрымлівацца правіла, што сяляне, якія пражылі на іх землях на працягу аднаго ці больш пакаленняў, становяцца старажыламі і не могуць пакідаць свайго надзела, г.зн. становяцца "непахожымі".

У першую чаргу гэта датычыла тых, хто атрымаў зямельны надзел па спадчыне, ад бацькі да сына, і валодаў ім не менш 50 гадоў. Праз некаторы час тэрмін земскай даўнасці, ці старажыльства, быў скарочаны. Па І Літоўскаму Статуту 1529 г. старажыльства вызначалася ўжо дзесяцігадовай земскай даўнасцю валодання сялянскім надзелам без асобых гарантый свабоднага выхаду. Калі селянін атрымліваў надзел і заседжваўся на ім больш дзесяці гадоў, а напярэдадні гэтага не заключыў з феадалам дагавор, то пасля дзесяцігадовага тэрміну ён ужо не мог пайсці ад яго і таксама станавіўся "непахожым", г.зн. асабіста залежным.

Акрамя таго, І Літоўскі Статут устанаўліваў, што сяляне, маючы права адыходу ад феадала, маглі гэта рабіць толькі ў вызначаныя тэрміны — за тыдзень да ўсіх святых (Юр'еў дзень на Русі) і на працягу тыдня пасля ўсіх святых, калі скончацца ўсе сельскагаспадарчыя работы. У Статуце агаворвалася, што селянін мог адысці ад феадала толькі ў тым выпадку, калі ён цалкам разлічваўся з гаспадаром. Да таго ж пры выхадзе ён павінен быў заплаціць феадалу "пажылое", памер якога вызначаўся ў 5 коп літоўскіх грошаў, вельмі вялікай на той час сумай. За адну капу літоўскіх грошаў можна было купіць чатыры каровы.

Нягледзячы на тое, што прымацаванне сялян-старажыльцаў, ці як іх яшчэ называлі "отчычаў", насіла абавязковы характар, у жыцці яно ўсё ж не было безумоўным. Селянін-"отчыч" мог яшчэ вызваліцца ад сваёй "няволі", здаўшы ці прадаўшы сваю "айчызну" другому селяніну, вядома, з дазволу феадала. Не трымалі феадалы і разарыўшыхся сялян-"отчычаў". Іх трэба было ставіць на ногі, а феадалу гэта часта было не пад сілу, і ён вымушаны быў цярпець іх адыход, спадзеючыся, што тыя недзе на заробках паправяць свае справы і вернуцца назад. Продаж сялян без зямлі ў ВКЛ не практыкаваўся, а падараванні без зямлі былі вельмі рэдкімі.

Побач з сялянамі-"отчычамі" ў феадальных памесцях і пасля І

Літоўскага Статута працягвала жыць мноства свабодных людзей. Гэта былі сяляне, за якімі не значыліся надзелы.

У сялянскай абшчыне надзел, як правіла, пераходзіў ад бацькі да старэйшага сына. Ён і лічыўся "отчычам". Астатнія члены абшчыны знаходзіліся ў яго на "долі", з'яўляліся асабіста свабоднымі. Гэта датычыла таксама "патужнікаў" і "сяброў", якіх прымала сама абшчына, або падсаджваў феадал.

Свабоднымі з'яўляліся сяляне, якія сяліліся на землях, пакінутых "отчычамі", калі яны не выседжвалі тэрмін земскай даўнасці, або заключалі дагавор з феадалам на права адыходу ад яго.

Акрамя таго, у феадальных памесцях, асабліва ў вялікакняжацкіх уладаннях, пражывала вялікая колькасць так званых сялян-слуг. Галоўнай іх павіннасцю была ваенная служба і раз'езды па даручэнні вялікакняжацкай адміністрацыі ў мірны час. Усе іншыя павіннасці яны выконвалі як цяглыя і асадныя сяляне, за выключэннем паншчыны і аброка. Жылі ў невялікіх вёсках і мелі па 2—4 валокі зямлі,

Ядро гэтай катэгорыі сялянства першапачаткова складалі малодшыя дружыннікі, тыя самыя "отроки" і "гриди", якія былі ў князёў Кіеўскай Русі і якія пад імем слуг пастаянна фігуравалі побач з баярамі ў дагаворных граматах удзельных князёў паўночна-заходняй Русі. Як і старэйшыя дружыннікі, баяры з цягам часу селі на зямлю з-за немагчымасці князёў утрымліваць іх на ўсім гатовым. У далейшым ваенныя і адміністрацыйныя патрэбы вымусілі вялікіх літоўскіх князёў папоўніць кантынгент слуг за кошт цяглых сялян.

Слугі былі некалькіх разрадаў: путныя, атрымаўшыя назву ад таго, што спецыяльнай павіннасцю іх быў "путь" ці "ліставая" служба, і панцырныя, якія выконвалі толькі ваенную службу. Паколькі панцырная служба была вельмі цяжкай, то "панцырных баяр" часта вызвалялі ад усіх павіннасцей, не толькі ад паншчыны і аброку.

Асноўным зместам і асноўнай задачай аграрнай рэформы 1557 г. было прымацаванне "пахожых" сялян да зямлі, г.зн. прывядзенне іх да прыгоннага стану. Калі І Літоўскі Статут 1529 г. заканадаўча прымацаваў да зямлі ўсіх "непахожых" людзей, то рэформа 1557 г. — усе катэгорыі сялян, бо кожная сялянская сям'я

атрымоўвала асобны надзел і падпадала пад прынцып земскай даўнасці. Праз дзесяць гадоў пасля атрымання надзела яны ўжо пераходзілі ў разрад "непахожых". II Літоўскі Статут 1566 г. ужо ўстанавіў 10-гадовы тэрмін пошуку беглых сялян, а III Літоўскі Статут 1588 г. павялічыў гэты тэрмін да 20 гадоў і пацвердзіў ужо існаваўшы 10-гадовы тэрмін земскай даўнасці для ўсіх катэгорый сялян. Памер "пажылога" быў устаноўлены ўжо ў 10 коп літоўскіх грошаў. Гэта было юрыдычным афармленнем прыгоннага права.

У канцы XVI — пачатку XVII ст. "пахожыя" і "непахожыя" сяляне зліліся ўжо ў адну катэгорыю прыгоннага сялянства, і гэтыя тэрміны не сустракаюцца ў гістарычных крыніцах таго часу. Усе сяляне называліся "падданыя каралеўскія, панскія і духоўныя".

З афармленнем прыгоннага права становішча сялян пагоршылася. Яно суправаджалася рэзкім павелічэннем феадальных павіннасцей, узмацненнем свавольства феадалаў. Ні ў адной краіне Заходняй Еўропы феадалы не мелі права падвяргаць селяніна смерці. Сойм Рэчы Паспалітай 1573 г. даў права феадалам караць сялян "вэдлуг паразумення свайго", у тым ліку і смерцю,

ЛЕКЦЫЯ 23

# ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ БЕЛАРУСІ Ў XIV— ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

- *Эканамічнае развіццё гарадоў і мястэчак.*
- *Сацыяльная структура і сістэма кіравання гарадоў.*
- *Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі.*

## Эканамічнае развіццё гарадоў і мястэчак

У XIV — першай палове XVII ст. ва ўмовах далейшага развіцця феадальнага спосабу вытворчасці ішоў інтэнсіўны працэс аддзялення рамяства і гандлю ад сельскай гаспадаркі. Гэта суправаджалася ростам гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу, якія атрымалі ў Беларусі традыцыйную назву — мястэчкі. Гарады і мястэчкі ўсё ў большай ступені канцэнтравалі рамесніцтва, гандаль, станавіліся цэнтрамі ажыўленага палітычнага і культурнага жыцця насельніцтва Беларусі.

У крыніцах XIV — першай паловы XVII ст. упамінаецца прыкладна 350 гарадскіх паселішчаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пераважную большасць з іх складалі мястэчкі. Яны дзяліліся на тры групы: каралеўскія (Скідаль, Азёры, Лунна, Дрысвяты, Ушачы, Сураж); прыватнаўласніцкія (Любча, Койданава, Лагойск, Докшыцы, Чашнікі, Бешанковічы, Зэльва, Паставы, Смаргонь, Семежава); царкоўныя (Ігумен, Жыровічы, Відзы).

Памеры мястэчак і колькасць насельніцтва ў іх былі рознымі: ад 39 дамоў у Барані да 290 у Лагішыне. Пераважную большасць з іх складалі мястэчкі з колькасцю 200—300 дамоў, некалькімі вуліцамі, 2—3 тыс. жыхароў. Найбольш характэрнай рысай мястэчка была наяўнасць у іх таргоў, якія наладжваліся 1—2 разы на тыдзень.

Што датычыць гарадоў, то яны таксама былі невялікімі. У крыніцах і на геаграфічных картах XVI ст. у Беларусі згадваецца ўжо і пра буйныя гарады з насельніцтвам да 10 тыс. жыхароў і больш. Да іх адносіліся **Полацк, Віцебск, Слуцк, Магілёў, Пінск.** Насельніцтва гэтых гарадоў ужо развіталася з сельскагаспадарчай працай і было занята ў асноўным рамесніцтвам і гандлем. Жыхары

мястэчак і невялікіх гарадоў побач з рамесніцтвам і продажам тавараў на рынку былі яшчэ цесна звязаны з апрацоўкай зямлі і сельскагаспадарчымі промысламі.

Сярод найбольш буйных цэнтраў гандлю пералічваліся **Полацк, Віцебск, Слуцк, Менск, Навагародак, Бярэсце, Гародня** і некаторыя іншыя гарады Беларусі. Роля гарадоў на Беларусі далёка не вычэрпвалася функцыямі цэнтраў рамесніцтва і гандлю. Многія гарады, мястэчкі мелі спецыяльныя віды эканамічнай дзейнасці. Так, Віцебск і асабліва Полацк былі буйнымі **партовымі гарадамі**, звязанымі Заходняй Дзвіной і яе прытокамі з Прыбалтыкай. Брэст спалучаў у сабе як функцыі рачнога порта, так і цэнтра гандлёвых трактаў з Украіны, Беларусі і Літвы ў Польшчу. Аналагічную ролю выконвала Гародня. Рачнымі портамі з'яўляліся таксама **Слуцк, Пінск, Нясвіж.** На галоўных рачных магістралях функцыю портаў выконвалі і некаторыя мястэчкі. Вядома было "сваім добрым портам і складамі" на Нёмане мястэчка **Любча.** У такіх мястэчках, як **Свержань, Бешанковічы** здаўна будаваліся вялікагрузныя судны-баркі і віціны. Шэраг буйных, а таксама некаторыя сярэднія гарады і мястэчкі былі цэнтрамі кірмашовага гандлю **(Нясвіж, Навагародак, Капыль, Любча, Орша, Давід-Гарадок, Шклоў і інш.)**. На кірмашы з'язджаліся купцы з Беларусі, Літвы і Польшчы.

Некаторыя малыя гарады і мястэчкі, якія размяшчаліся на ажыўленых гандлёвых шляхах — "гасцінцах", мелі шмат пастаялых двароў, корчмаў і тракціраў. У Браславе ў 1554 г. налічвалася 117 дамоў і 40 корчмаў, у Чавусах у 1621 г. было 203 дамы і 60 корчмаў. Нават у малой Зэльве ў пачатку XVII ст. мелася 16 тракціраў.

Важнейшымі паказчыкамі ступені развіцця рамяства ў гарадах была колькасць рамеснікаў, рамесніцкіх прафесій і спецыяльнасцей. Па падліках гісторыкаў, якія абапіраліся на гарадскія інвентары, у такіх гарадах, як Полацк, Віцебск, Магілёў, Слуцк, Пінск, Гародня і інш. налічвалася **ад 50 да 80 рамесніцкіх** прафесій, а колькасць рамеснікаў вагалася ад 20 да 50% ад усіх мяшчан. У сярэдніх і малых гарадах (Клецк, Навагародак, Давід-Гарадок, Капыль і інш.) налічвалася ад 30 да 50 відаў рамесніцкай вытворчасці, а колькасць рамеснікаў дасягала да 40% ад усіх жыхароў. У мястэчках рамеснікі складалі да 20% жыхароў.

Прыведзеныя даныя аднак поўнасцю не адлюстроўваюць стан развіцця рамяства ў гарадах Беларусі. У крыніцах XVI — першай паловы XVII ст. упамінаецца каля **200 рамесніцкіх** прафесій і спецыяльнасцей.

Да ліку найбольш развітых відаў рамёстваў адносіліся **здабыча і апрацоўка металаў** (каля 40 прафесій). У гэтую катэгорыю аб'ядноўвалі як "угляроў", так і збройнікаў, залатых і срэбных спраў майстроў і нават гадзіншчыкаў.

Разгалінаванай была **дрэваапрацоўка** (27 спецыяльнасцей). У гарадах, як і на сяле, выраблялі розны драўляны посуд, мэблю, вазы, карэты. Вялікая колькасць рамеснікаў была занята ў гарбарнай і футравай вытворчасці (звыш 25 прафесій). У беларускіх гарадах дубілі і мялі ласіныя, казловыя, цялячыя скуры, шылі абутак і аўчынныя паўкажушкі, выраблялі збрую для коней, партупеі і патранташы для "людзей вайсковых". Шырокую вядомасць як на Беларусі, так і за яе межамі атрымалі прадубленыя ялавічныя скуры, з якіх выраблялі юхт. У Слуцку, напрыклад, мелася каля 20 спецыяльнасцей па вырабу скур, юхту, сафьяну, якія ішлі ў асноўным на экспарт.

Не менш разнастайнай была вытворчасць **валакністай сыравіны і адзення** (26 прафесій), прадуктаў харчавання і напіткаў (21), **апрацоўка мінеральнай сыравіны** (12) і г.д.

Структура рамёстваў у асобных гарадах адрознівалася паміж сабою. Для Гародні, напрыклад, былі характэрныя будаўнічыя прафесіі: каменячосы, брукоўшчыкі, вапнікі, мялоўнікі і кафельнікі. У Полацку і Віцебску былі пашыраны прафесіі па абслугоўванню рачных портаў (кормчыя, судноўшчыкі, бічаўнікі, палатняншчыкі). У ваенных крэпасцях пераважную большасць рамеснікаў складалі кавалі-пішчальнікі, шабельнікі-броннікі, булатнікі, стрэльнікі і інш. Шмат рамесніцкіх спецыяльнасцей належала тым, хто вырабляў адзенне. Высокага майстэрства дасягнулі фолюшнікі (суknавалы), шапавалы (пальчатнікі), залаташвачкі, кафтаннікі, панчошнікі, фарбоўшчыкі тканіны і футры і інш. Значнай была група рамеснікаў, якая займалася варэннем піва, мёду і вінакурэннем, выпечкай абаранак і калачоў, продажам піражкоў, пернікаў, паштэтаў, соладу і іншых прадуктаў харчавання. У буйных гарадах

мелася многа спецыялістаў, занятых ловаМ, апрацоўкай і засолкай ці вэнджаннем рыбы. Звыклай фігурай на вуліцах гарадоў Беларусі з'яўляліся ганчары, тачыльшчыкі, свечнікі, ліхтаршчыкі і многія іншыя прадстаўнікі камунальных работ.

Акрамя пералічаных спецыяльнасцей, значную ролю ў гарадскім укладзе жыцця адыгрывалі аптэкары, баншчыкі, трунары, смецяры, музыканты, пісары, настаўнікі, канавалы, адвакаты, цырульнікі, кухары і многія іншыя.

У XIV—XVI стст. большасць рамесніцкіх прафесій была арыентавана на задавальненне паўсядзённых патрэб гараджан, на шырокага спажыўца. Гэтыя адрозненні не былі сведчаннем утварэння тэрытарыяльнага падзелу працы, бо пераважная частка рамеснікаў працавала на заказ ці была звязана з патрэбамі толькі свайго горада.

На працягу XVI — першай паловы XVII ст. ішоў працэс драблення многіх рамесніцкіх прафесій. Калі раней каваль рабіў прылады працы, зброю і рэчы хатняга ўжытку, то ў далейшым выраб зброі стаў самастойнай прафесіяй. На некалькі прафесій раздрабілася шавецкае рамяство. Адны шаўцы рабілі толькі "чорны" абутак, другія — абутак для войска, трэція — жаночы абутак, чацвёртыя — толькі абутак з саф'яну. Самастойнымі сталі такія віды рамяства, як пашыў адзення з сукна, шоўку, танных тканін. Дыферэнцыяцыя рамяства сведчыла аб росце таварнай вытворчасці. Не менш 80% рамеснікаў працавалі або на рынак, або спалучалі работу на заказ і на рынак.

У гарадах і мястэчках развіваліся **промыслы**. Гэта был і млыны, цагельні, рудні, вінніцы, піваварні. Млыны і цагельні часта належалі магістратам. Іншыя прамысловыя прадпрыемствы, як правіла, былі ўласнасцю феадалаў. Але тыя і другія здаваліся ў арэнду. Арандатар-прадпрымальнік ужо ў XVI ст. карыстаўся наёмнай працай. На некаторых прадпрыемствах існаваў даволі выразны падзел працы.

Зразумела, што асноўным пакупніком рамесніцкіх вырабаў быў гараджанін. Набывалі іх таксама феадалы і сяляне, асабліва металічныя і скураныя вырабы, мыла, асобныя віды адзення і абутку. Некаторыя рамесніцкія вырабы скуплялі мясцовыя і прыезджыя купцы і перапрадавалі ў Польшчы, Прыбалтыцы, Расіі. Пасрэд-

ніцкую ролю паміж рамесніцкай вытворчасцю і абменам унутры краіны выконвалі скупшчыкі-пасрэднікі (прасолы), а таксама гандляры, занятыя мясцовым гандлем (перакупнікі). Часам гэтым займаліся і некаторыя рамеснікі. Яны закуплялі ў буйных гарадах шэраг вырабаў і прадавалі іх у мястэчках і сёлах, а адтуль прывозілі ў гарады розную сыравіну і сельскагаспадарчыя прадукты.

Ператварэнне рамяства ў дробнатаварную вытворчасць, з'яўленне скупшчыка-пасрэдніка спрыялі развіццю эканамічных сувязей паміж горадам і вёскай, паміж самімі гарадамі, што сведчыла аб якасных зрухах у вытворчасці і абмене. Але феадальна-прыгонніцкія адносіны, якія з'яўляліся асновай эканамічнага жыцця, стрымлівалі развіццё рамяства і гандлю. Попыт гараджан і магчымасці продажу тавара па-за горадам былі абмежаваныя. Гарадского рамесніка непакоіла таксама канкурэнцыя прышлых сельскіх рамеснікаў. Ён імкнуўся пазбавіцца ад канкурэнтаў і забяспечыць сабе манапольнае становішча на рынку. Не былі абаронены рамеснікі таксама ад свавольства і вымаганняў шляхты. Таму яны імкнуліся да аб'яднання, стварэння сваіх уласных карпарацый. Такімі аб'яднаннямі сталі цэхі.

Папярэднікамі цэхаў у Беларусі былі **соценныя арганізацыі** рамеснікаў, вядомыя яшчэ старажытнарускім гарадам. Аб гэтым сведчаць **цэхавыя статуты** Магілёва (1580), Слуцка (1619) і інш. У іх гаворыцца, што майстры дамовіліся аб'яднацца "вэдлуг старадавняга звычаю". Цэхі ў беларускіх гарадах былі трох тыпаў: спецыялізаваныя (уваходзілі рамеснікі адной прафесіі); аб'яднаныя (уваходзілі рамеснікі дзвюх і больш блізкіх прафесій); зборныя (уваходзілі прадстаўнікі розных прафесій). Апошнія карпарацыі ўзнікалі тады, калі ў тым ці іншым горадзе было мала рамеснікаў адной спецыяльнасці.

Рамеснікі, аб'яднаныя ў цэхі, дзяліліся на майстроў, чаляднікаў і вучняў.

Права быць прынятым у цэх меў усякі рамеснік, які валодаў пэўнымі навыкамі і абяцаў падпарадкоўвацца цэхаваму статуту— "вілкеру". Аддзяліцца ж ад цэха было даволі складана. Звычаі і рытуалы рамесніцкіх і купецкіх карпарацый былі блізкія да нормаў заходнееўрапейскіх, пераважна нямецкіх рэгламентацый.

На чале цэха стаяў **цэхмістр** (альбо стараста), які выбіраўся на сходцы вузкай групы старэйшых цэхавых майстроў — "братоў". Пры выбранні цэхмістра ўлічваліся яго ўзрост, прафесійныя якасці, маёмаснае і асабістае юрыдычнае становішча. Вынікі галасавання маглі быць толькі аднадушныя.

Пры больш шырокай аўдыторыі адбывалася выбранне ў цэхавыя майстры. Асноўнай умовай выбрання, акрамя галасавання, была добра і якасна зробленая "штука" альбо "шэдэўр". Калі старэйшыя майстры адхілялі "штуку", тады выбары адкладваліся на наступны год.

Пры гэтым майстрам мог стаць толькі ўладальнік майстэрні, сыравіны і прыладаў працы.

Майстры наймалі чаляднікаў і вучняў. Чаляднікі складалі асноўную частку калектыву цэха. У залежнасці ад прафесіі, маштабаў горада колькасць таго ці іншага цэха вагалася ў межах 60—150 чалавек, з якіх чаляднікі складалі ад 40 да 60%. Чаляднікі былі абавязаны праходзіць курс навучання майстэрству на працягу 2—3, а часам і больш гадоў. Каб удасканаліць свае прафесійныя здольнасці і веды, чаляднік ішоў у "вандроўку", якая мела мэтай пераймание вопыту ў майстроў іншых гарадоў або нават краін. Расходы за навучанне ў час вандроўкі браў на сябе цэх. Чаляднік таксама павінен быў быць сталым жыхаром горада і прынесці прысягу цэху і гораду. Здаўшы паспяхова экзамен, чаляднік пасля абрання ў майстры таксама павінен быў зрабіць "пачастунак", або "каляцыю" для ўсіх членаў цэха і ўнесці прадугледжаны статутам уступны ўзнос.

Астатнюю катэгорыю членаў цэха складалі вучні ("хлопцы"). Тэрмін вучнёўства складаў 3—5 гадоў, на працягу якіх вучні вельмі прыгняталіся.

Дзейнасць цэха і кожнага яго члена рэгламентавалася пісьмовым **статутам.** У ім распісваўся парадак навучання, найму вучняў і чаляднікаў, пераход з разраду вучняў у чаляднікі і далей у майстры, адносіны ўнутры цэха, адносіны цэха да раменнікаў, якія не ўступілі ў цэх (т. зв. "**партачоў**"), сувязі цэха з гарадскім самакіраваннем. Статуты рэгламентавалі таксама вытворчую дзейнасць майстроў цэха, патрабавалі ад іх вырабляць прадметы высокай якасці і толькі свайго рамяства, забаранялі скупаць вырабы для

перапродажу на рынку, пераманьваць чаляднікаў і вучняў з іншых цэхаў. Яны ахоўвалі таксама гарадскі рынак ад канкурэнтаў. Статуты былі накіраваны як супраць "партачоў" ці "**пакутнікаў**", так і супраць прыезджых рамеснікаў і купцоў, якім дазвалялася гандляваць на рынках горада толькі такімі таварамі, якія не выраблялiся мясцовымі цэхамі.

Але не заўсёды статутныя патрабаванні выконваліся. У магістрацкіх кнігах Магілёва, Брэста, Полацка, Гародні і іншых гарадоў маецца шмат запісаў аб ігнараванні то адным, то другім майстрам цэхавых забарон. Асноўнымі прычынамі канфліктаў былі парушэнні забароны выконваць работы ў сёлах, маёнтках феадалаў, пераманьванне чаляднікаў, абыход рэгламентацыі адносна колькасці вучняў і чаляднікаў, адмова ад уплаты ўзносаў у касу.

Цэхі не спрыялі інтарэсам заможнай часткі майстроў. Яны былі зацікаўленыя ў пашырэнні збыту прадукцыі і ліквідацыі цэхавых забарон. Але асноўная частка майстроў моцна трымалася за цэхавую арганізацыю і ў яе нормах шукала гарантыю для вытворчасці і продажу сваіх вырабаў.

Важную ролю ў жыцці рамеснікаў цэхаў адыгрывалі розныя **сімвалы** (скрынкі, харугвы і інш.). На пасяджэннях і сходах членаў цэха абавязкова выстаўлялі цэхавую скрыню — "**куфар**" як сімвал калектыўнай адказнасці ўсіх членаў цэха, іх супольнасці. На сходах вырашаліся розныя пытанні вытворчасці, выбіраліся майстры, пісар, казначэй — **"ключнік" ці "скарбнік"**. Трэба адзначыць, што кожны цэх з'яўляўся таксама асобным узброеным атрадам і ў выпадку пагрозы гораду выступаў на яго абарону.

Рост рамяства садзейнічаў развіццю гандлёвай дзейнасці. У буйных гарадах таргі наладжваліся двойчы, у невялікіх гарадах і мястэчках — раз у тыдзень. У перадсвяточныя дні, асабліва напярэдадні Каляд, Вялікадня або Масленіцы ў буйных гарадах арганізоўваліся кірмашы, якія маглі цягнуцца некалькі дзён. Парадак гандлю рэгламентаваўся Радай ці ўладальнікам горада - феадалам. Забаранялася ажыццяўляць гандлёвыя здзелкі за межамі рынка. За продаж тавараў браўся пабор: з воза — "вазавое", з адзінкі тавару — "памернае" (з меры зерня), за продаж галавы жывёлы — "парагавое" і інш.

Гандлёвыя сувязі, існаваўшыя ў той час. звязвалі не толькі горад з вёскамі і мястэчкамі, але і буйныя гарады паміж сабой. У Віцебску набывалі тавары купцы з Полацка, Менска, Магілёва; на рынках Полацка прадаваліся тавары слуцкіх рамеснікаў; на таргах Менска — гарадзенскае і магілёўскае мыла, слуцкія скуры і гарбарныя вырабы; у Бярэсці гандлявалі купцы Слуцка, Пінска, Менска. Пачынаючы з XVI ст., пастаянныя гандлёвыя сувязі існавалі паміж Магілёвам, Менскам і Віцебскам, у Магілёў прыязджалі купцы з усіх буйнейшых гарадоў Беларусі.

Вялікую ролю ў гандлёвых сувязях паміж беларускімі гарадамі адыгрывала закупка і продаж тавараў, якія прывозіліся з Расіі, Польшчы, Турцыі і Малдавіі. З Расіі дастаўляліся і прадаваліся футра, скуры, палотны, вырабы з тканін, абутак, кажухі, мыла і іншыя тавары, з Польшчы — сукно, палатно, жалеза, сталь, свінец, медзь, волава, а таксама вырабы з гэтых металаў. Прадметы раскошы — усходнія тканіны, вырабы з золата і серабра завозіліся з Канстанцінопаля і Малдавіі.

У Расію беларускія купцы вывозілі буйнымі партыямі збожжа, сырыя і вырабленыя скуры — юхт, замшу, рамесніцкія вырабы з тканін, палатно, воск і іншыя тавары. Гэтыя ж тавары карысталіся попытам і на польскім рынку. Туды таксама вывозіліся буйнымі партыямі тавары, закупленыя беларускімі купцамі ў гарадах Расіі. Замежныя гандлёвыя сувязі сфарміравалі даволі шматлікае купецтва. Паводле даных мытных кніг Бярэсця, Гародні, Віцебска за 1605 г. знешнім гандлем займаліся каля 800 купцоў з 30 гарадоў Беларусі.

Характэрным сведчаннем прыкметнага развіцця гандлю была спецыялізацыя сярод купецтва, якая паступова склалася ў сярэдзіне XVII ст. У гэты час ужо адны купцы прадавалі скураныя, другія — кушнерскія, трэція — футравыя, чацвертыя — шавецкія вырабы. Былі таксама купцы, якія гандлявалі жывёлай і зернем. Цэхі купцоў у некаторых гарадах называліся брацтвамі (братчынамі). У той час купцамі лічыліся толькі тыя гандляры, якія ездзілі прадаваць і купляць тавар больш за 10 вёрст ад свайго горада. "Перакупнікі", "прасолы", рамеснікі, якія прадавалі тавары на кірмашах, купцамі не прызнаваліся і ў купецкія таварыствы не ўваходзілі. ІДэхі і брацтвы ахоўвалі манапольнае становішча мясцовага купецтва на ган-

даль у горадзе, перавагу ў набыцці і продажы прывазных тавараў, права пасрэдніцтва ў гандлі з іншаземнымі купцамі, рэгулявалі парадак куплі і продажу, прыём у члены цэха і брацтва, адносіны паміж купцамі. Як і цэхі рамеснікаў, купецкія брацтвы вялі таксама барацьбу з няцэхавымі гандлярамі, з усякага роду парушэннямі сваёй манаполіі.

Пастаянная пагроза быць абрабаванымі на дарозе прымусіла купцоў да стварэння кас узаемадапамогі. Такія касы былі пры купецкіх брацтвах у Магілёве, Слуцку і іншых беларускіх гарадах.

Адначасова з развіццём рамяства і гандлю ў гарадах Беларусі развіваліся крэдытная справа і ліхвярства. Для некаторых гараджан, асабліва купцоў, ліхвярства стала прафесіяй. Атрымліваючы высокія працэнты з даўжнікоў, яны хутка багацелі.

Гандлёвыя сувязі буйных гарадоў Беларусі з гарадамі суседніх краін, а таксама ўнутры краіны садзейнічалі стварэнню ў Беларусі разгалінаванай сеткі гандлёвых дарог. У першай палове XVII ст. крыніцы называюць больш як 20 буйных "шляхоў і гасцінцаў" Праз Гародню праходзіла дарога, якая звязвала кірмашы Менска. Навагародка, Бельска і Варшавы. Дарога паміж Бярэсцем і Люблінам звязвала гарады Літвы і Беларусі з раёнамі цэнтральнай Польшчы і далей з Венгрыяй. Праз Вільню, Полацк і Невель ішоў "вялікі маскоўскі гасцінец". Аналагічную ролю выконваў тракт, які праходзіў праз Віцебск і Смаленск. Не менш развітай была сетка дарог, якая забяспечвала гандлёвыя сувязі Беларусі з Украінай. Існавала таксама мноства дарог мясцовага значэння.

Пры ўсёй разнастайнасці ўнутраных і знешніх гандлёвых шляхоў у Беларусі ў XIV — першай палове XVII ст. яшчэ не склаўся адзіны ўнутраны рынак. Для гэтага не было ні эканамічных, ні сацыяльных, таксама як і палітычных умоў. Перш за ўсё не было эканамічнай спецыялізацыі раёнаў, што паслабляла эканамічныя сувязі паміж асобнымі тэрыторыямі.

Былі і іншыя прычыны, якія адмоўна ўплывалі на развіццё гандлю. Пастаяннай пагрозай для купецтва было самавольства магнатаў і шляхты. Нярэдка шляхцічы групамі гойсалі па дарогах і грабілі купцоў, грамілі і разганялі кірмашы і таргі. Разбой і грабёж часта набывалі такі маштаб, што купцы асобных гарадоў вымуша-

ны былі звяртацца да караля з просьбай абараніць іх ад нападаў феадалаў. Сапраўднай трагедыяй для купцоў абарочваліся шматлікія войны, якія праходзілі па тэрыторыі Беларусі. І без таго панаваўшая на дарогах шляхецка-магнацкае свавольства дасягала памераў сапраўднай анархіі. Напрыклад, у 1557 г. кароль Жыгімонт Аўгуст II выдаў указ, па якім купецкія караваны маглі прасіць у рэгулярных войскаў аховы ад "своволенства, мужобойства рыцараў".

Вялікім цяжарам на купецтва клаліся пошлінныя грашовыя і натуральныя зборы. У тым выпадку, калі тавар правозіўся праз краіну, купец абавязаны быў заплаціць пошліну ў 2—3 пунктах унутры краіны і ў пункце выезду з яе. Пры прыбыцці ў горад ён таксама павінен быў плаціць за дазвол на продаж тавару. Акрамя таго, купцу даводзілася плаціць пошліны, устаноўленыя феадаламі за праезд па збудаваных імі мастах, насыпах, а то і проста за праезд па дарозе, якая праходзіла праз іх уладанні. Асабліва пашыраны гэты від пабораў быў у першай палове XVII ст., калі феадалы пачалі будаваць масты праз рэкі, насыпы праз балоты на гандлёвых шляхах, якія звязвалі Оршу, Віцебск, Полацк, Ліду, Навагародак, Нясвіж з Вільняй і паміж сабой. Гэтая своеасаблівая "будаўнічая ліхаманка" паказала, што важнай крыніцай даходу была гандлёвая дзейнасць гарадоў Беларусі і якім безабаронным было купецтва перад феадаламі.

### Сацыяльная структура і сістэма кіравання гарадоў

Канцэнтрацыя ў гарадах ажыўленай рамесніцкай і гандлёвай дзейнасці садзейнічала росту гарадскога насельніцтва. У сярэдзіне XVII ст. з **2,8—3 млн. жыхароў** Беларусі ў гарадах і мястэчках пражывала **350—400 тыс. чалавек,** або **12—13%.**

Вытокі фарміравання гарадскога насельніцтва былі рознымі: за кошт уцёкаў прыгонных сялян (асабліва з канца XVI ст.), свабодных сялян, перасялення ў гарады феадаламі сваіх сялян-рамеснікаў. Не апошнюю ролю іграў натуральны рост насельніцтва, аднак частыя войны і масавыя эпідэміі (асабліва ў 1600—1603 гг.) да мінімуму зводзілі натуральны прырост.

Гарады імкнуліся кампенсаваць гэтыя страты за кошт новых пасяленцаў, але гэтаму перашкаджала вярхоўная ўлада Вялікага

княства Літоўскага. Вышэйшая адміністрацыя дала феадалам права пошуку ў гарадах беглых сялян. У 30—40 гг. XVII ст. за нявыдачу ўцекачоў былі чатыры разы прыцягнуты да суда і падвергнуты значнаму штрафу магістраты Магілёва і Полацка. Неаднаразова папярэджваліся Галоўным літоўскім трыбуналам жыхары Бярэсця, Оршы, Мсціслава і іншых гарадоў. Вось чаму бытаваўшая ў Заходняй Еўропе прымаўка "Гарадское паветра робіць чалавека свабодным" была мала ўжытная сярод насельніцтва Беларусі.

Большасць гараджан складалі беларусы. Па падліках гісторыкаў, у пачатку XVII ст. беларусы складалі да 80% колькасці ўсіх гараджан. На ўсходзе і захадзе Беларусі этнічны склад гарадскога насельніцтва істотна дапаўняўся рускімі, літоўцамі, яўрэямі, палякамі, украінцамі, латышамі, немцамі і татарамі, якія складалі ў гэты перыяд ад 20, а ў некаторых гарадах — да 40% насельніцтва.

Разнастайным быў канфесійны склад гараджан. Тут жылі праваслаўныя, каталікі, уніяты, іўдзеі, мусульмане, кальвіністы і іншыя, але пераважную колькасць складалі хрысціяне.

Акрамя гаспадарча-эканамічнай, гарады Беларусі выконвалі таксама адміністрацыйную функцыю, з'яўляючыся палітыка-адміністрацыйнымі цэнтрамі.

Буйнейшыя па колькасці насельніцтва гарады былі адміністрацыйнымі цэнтрамі ваяводстваў (Полацк, Віцебск, Магілёў). Сярэднім гарадам адводзілася роля цэнтраў паветаў і старостваў. Малыя гарады і мястэчкі былі цэнтрамі валасцей, войтаўстваў і рэзідэнцыямі феадалаў.

У гарадах дзейнічалі як стала, так і перыядычна розныя органы дзяржаўнай улады. У Гародні, Бярэсці, Навагародку і іншых гарадах на працягу ўсяго існавання Вялікага княства Літоўскага праходзілі вальныя соймы, у Менску і Навагародку адбываліся пасяджэнні Галоўнага літоўскага трыбунала. У іншых гарадах і мястэчках склікаліся павятовыя соймікі шляхты, збіраліся члены земскіх судоў. Касцёл і царква таксама размяшчалі ў гарадах свой апарат кіравання. Прысутнасць феадалаў, грамадзянскіх і царкоўных чыноўнікаў уносілі ў быт мяшчан многа трывог і бяды. Свавольствы, якія тварыла шляхта ў час сваіх збораў, выклікалі скаргі гараджан, але вярхоўныя ўлады пакідалі іх, як правіла, без увагі.

Гарады і мястэчкі ўзнікалі як на **дзяржаўных вялікакняжацкіх**, так і **прыватнаўласніцкіх землях.** У першай палове XVI ст. гарады, якія падпарадкоўваліся юрысдыкцыі буйных магнатаў, складалі больш 40% усіх гарадскіх пасяленняў Беларусі. Да ліку найбольш буйных прыватнаўласніцкіх гарадоў XVI — першай паловы XVII ст. адносіліся Слуцк, Стары Быхаў, Клецк, Копысь, Тураў, Шклоў і некаторыя іншыя. Значная колькасць малых гарадоў і мястэчак таксама былі падуладныя асобным феадалам. Да іх можна аднесці Любчу, Новы Быхаў, Петрыкаў, Зэльву, Маладзечна, Смаргонь, Лагойск і іншыя.

Шляхі ўзнікнення прыватнаўласніцкіх гарадоў і мястэчак былі розныя. У адных выпадках рэзідэнцыя магната абрастала кварталамі рамеснікаў і гандляроў, якія абслугоўвалі патрэбы ўладароў замка і іх світы. У другіх выпадках вялікакняжацкая ўлада, якой патрэбна была апора арыстакратыі, раздавала населеныя пункты ў якасці прыватнай уласнасці. Некаторыя гарады і мястэчкі пераходзілі ў прыватную ўласнасць феадалаў за даўгі, якія браў вялікі князь для вядзення войнаў і не мог тэрмінова аддаць. Шэраг мястэчкаў спачатку былі прыватнаўласніцкімі, паколькі ўзніклі на месцы буйных фальваркаў.

З пачатку XVI ст. у многіх вялікакняжацкіх гарадах Беларусі пачалі выдзяляцца абасобленыя адміністрацыйныя кварталы, якія знаходзіліся пад уладай прыватных асоб (свецкага ці царкоўнага феадала, прадстаўніка вышэйшай адміністрацыі і інш.), або царквы, манастыра. На жыхароў такіх кварталаў не распаўсюджвалася судовая ці адміністрацыйная ўлада самога горада. Такія кварталы ці "слабоды" насілі назву "**юрыдык**".

Жыхары "юрыдык" вызваляліся ад платы падаткаў у каралеўскую казну. Гэтымі абставінамі карысталіся іх уладальнікі, перацягваючы пад сваю апеку мяшчан, якія засялялі кварталы астатняй часткі горада. Падобны працэс назіраўся ў многіх гарадах Беларусі на працягу XIV—XVI стст. У першай палове XVII ст. ужо большая частка жыхароў Бярэсця, значная доля насельніцтва Магілёва, Пінска, Гародні і іншых гарадоў былі "**юрыдычанамі**".

Сярэдневяковы беларускі горад прадстаўляў сабой складаны комплекс сацыяльных адносін, якія адлюстроўвалі супрацьлегласці

паміж рознымі пластамі гарадскога насельніцтва. Найбольш абяздоленай часткай гарадскога складу былі так званыя "люзныя людзі" і "гульцяі". Абодва тэрміны значыўшы даведзеную да галечы і абеззямеленую частку сялянства. Вымушаныя пакінуць сваю гаспадарку, яны шукалі прытулак у горадзе. Там яны выконвалі розныя камунальныя работы, служылі пры дамах багатай гарадской вярхушкі. Урад на працягу XV—XVI стст. прыняў больш дзесятка пастаноў, забараняўшых пасяленне "гульцяеў" і "люзных людзей" у гарадах. Але гэтыя пастановы спыніць іх прыток у гарады не маглі. У пачатку XVII ст. колькасць "люзных людзей" у гарадах Беларусі даходзіла ўжо да адной трэці іх насельніцтва.

Вярхушку гарадскога насельніцтва складала багатая частка купецтва і рамесніцкія майстры. Ім належала ўся ўлада ў горадзе. У адносінах да іх у запісах гарадскіх кніг заўсёды ўжываліся тэрміны "учцівы", "славетны". У сярэдзіне XVII ст. іх ужо называлі "панамі". Крыніцы XVI — першай паловы XVII ст. утрымліваюць многа звестак аб маёмасці багатых гараджан. Так, мешчанін Гародні МЯновіч пакінуў у 1540 г. сваім нашчадкам "зямлю айчызнаю", палі "адкупныя", шмат жыта, ячменю, грэчкі. Акрамя таго, гарадзенскі купец меў вялікі "уезды дом", дзве каровы, шэсць агародаў, яшчэ два дамы. каштоўнасці, наяўныя грошы, "крамы вялікія" ў Вільні і Кракаве.

Прыведзены прыклад быў тыповым для характарыстыкі ўплывовай вярхушкі беларускага горада. Багацці купцоў і заможных рамеснікаў-майстроў забяспечваліся як зямельнай уласнасцю, так і сродкамі таварнай вытворчасці і нерухомасцю.

Уплывовы пласт гарадскога насельніцтва складалі таксама прадстаўнікі ваенна-служылага саслоўя — баяры (асабліва ў Полацку і Віцебску). Сярод гарадской вярхушкі была і шляхта, якая ў масавым парадку перасялялася ў гарады на працягу XVI — першай паловы XVII ст. У цэлым гарадскі патрыцыят у колькасных адносінах займаў каля 25% усяго насельніцтва горада.

Найбольш шматлікую групу гараджан складалі дробныя гандляры, радавыя рамеснікі, чаляднікі, сем'і рамеснікаў і гандляроў. Агульную колькасць сярэдняга слоя гараджан можна вызначыць у межах 40—50% усіх жыхароў, улічваючы, што частку іх складала таксама духавенства, чыны ўрадавай адміністрацыі і іншыя.

Стаць паўнапраўным жыхаром горада мог далёка не кожны. Пасля падачы заявы кандыдат у гараджане падвяргаўся выпрабавальнаму тэрміну ад аднаго года і больш. У Полацку і Віцебску гэты тэрмін быў самым працяглым і складаў 3—4 гады. Акрамя выпрабавальнага тэрміну пры прыёме ў гараджане ўлічваліся такія фактары, як маральныя звычкі, здароўе, веравызнанне, адсутнасць у мінулым ганенняў за крымінальныя і грамадскія злачынствы, наяўнасць прафесіі. Галоўнай перашкодай пры прыёме ў гараджане быў уступны ўзнос у гарадскую "скарбніцу" — значнай на той час грашовай сумы. Для купца ці рамесніка абавязковым было таксама мець у горадзе "**аседласць**", гзн. майстэрню ці лаўку. Усё гэта рэзка абмяжоўвала папаўненне насельніцтва гарадоў, асуджала "люзных людзей" на бяспраўнае існаванне.

З умацаваннем эканамічнай ролі гарадоў, іх грамадскага значэння расло імкненне гарадскога саслоўя пашырыць свае правы і прывілеі, якія ахоўвалі б яго ад самавольства феадалаў. З эканамічных і палітычных меркаванняў вярхоўная ўлада падтрымлівала гарады, паколькі яны праз падаткі давалі значныя даходы казне. На гэтай аснове складаўся своеасаблівы саюз гарадоў з вярхоўнай уладай, які выявіўся ў значным пашырэнні права гарадоў на самакіраванне.

Самакіраванне гарадоў Беларусі вяло свой пачатак яшчэ з часоў Старажытнарускай дзяржавы. У Полацку і Віцебску, як у Кіеве і Ноўгарадзе, усім паўнамоцтвам валодала гарадское **веча**. Яно зацвярджала **кіраўнікоў горада — "мужоў"**, старшын, тысяцкіх, сотнікаў і іншых прадстаўнікоў гарадской адміністрацыі. Гэтыя традыцыі захоўваліся і ў XIV—XV стст., асабліва ва ўсходнебеларускіх гарадах. У канцы XV ст. у Вялікім княстве Літоўскім пачало распаўсюджвацца самакіраванне гарадоў на аснове так званага "магдэбургскага права". Пад гэтым тэрмінам падразумеваўся ўзор прававых нормаў, уласцівых феадальным гарадам Усходняй Германіі, перанесены потым у Чэхію, Венгрыю, Польшчу і іншыя краіны. Трэба падкрэсліць, што на тэрыторыі Літвы і Беларусі магдэбургскае права атрымала пэўныя змены. Яны тлумачыліся спецыфікай мясцовых умоў, традыцый і звычак.

У **1390 г.** права самакіравання было дадзена **Брэсту.** У **1391 г.**

гэтае права атрымалі **Віцебск і Магілёў,** у **1496** г. — **Гродна.** Да сярэдзіны XVII ст. яго атрымала большасць буйных гарадоў, амаль палова сярэдніх гарадоў Беларусі, у тым ліку і тыя, што знаходзіліся ў прыватным уладанні. Як у прыватнаўласніцкіх, так і ў вялікакняжацкіх гарадах сістэма самакіравання ў прынцыпе была падобнай, хаця магнаты час ад часу імкнуліся ўшчыміць правы гараджан. Да першай паловы XVII ст. з 17 беларускіх прыватнаўласніцкіх гарадоў 9 мелі самакіраванне.

Падараванне права самакіравання значна садзейнічала афармленню сярэдняга гарадскога саслоўя — **мяшчанства.** Яно атрымала амаль усе віды муніцыпальных свабод, якія ажыццяўлялі органы гарадскога кіравання.

Кіраўніцтва горадам на аснове магдэбургскага права здзяйсняў гарадскі магістрат, які складаўся з Рады і лавы. Члены Рады (радцы, райцы) і гарадскога суда (лаўнікі) выбіраліся выключна з заможных гарадскіх вярхоў, радцы — штогод, лаўнікі — на больш працяглы перыяд. Рада ажыццяўляла функцыі гарадской улады і суда па маёмасных і грамадзянскіх справах, лава судзіла гараджан па крымінальных справах.

**Магістрат** узначальваў **войт.** Яму належала вышэйшая судовая і выканаўчая ўлада ў горадзе. Войт, як правіла, прызначаўся вялікім князем з ліку буйных феадалаў. Аднак былі і выключэнні. У 1559 г. мяшчане Оршы самі выбралі войта. Гэты прэтэндэнт быў зацверджаны вялікім князем. У другой палове XVI — першай палове XVII ст. усё часцей войты выбіраліся самімі гараджанамі, а пасля зацвярджаліся каралём.

Войты не турбавалі сябе выкананнем ускладзеных на іх абавязкаў. Таму яны прызначалі сабе намесніка **— лентвойта,** на якога ўскладаўся паўсядзённы нагляд за дзейнасцю магістрата.

Наступную прыступку ў гарадской іерархіі займалі **бурмістры.** якія выбіраліся з ліку **радцаў.** Радцы абавязаны былі са свайго асяроддзя выбіраць не менш 3—4 кандыдатаў на пасаду бурмістра, з якіх войт горада аднаго зацвярджаў. Асноўным абавязкам бурмістраў было вядзенне пасяджэння магістрата ў якасці старшыні. У іх кампетэнцыі былі таксама пытанні кантролю за дзейнасцю камунальных службаў, выдаткаў гарадской казны, на-

гляду за грамадскім парадкам і г.д. На пасяджэнні лавы старшынстваваў войт.

Пасяджэнні магістрата праходзілі ў памяшканні **ратушы**, якая размяшчалася, як правіла, у цэнтры горада. Як войт, так і бурмістры абавязаны былі прымаць рашэнні толькі пасля згоды ўсіх радцаў. Але войт і бурмістры часта парушалі нормы гарадскога самакіравання, аб чым сведчаць шматлікія скаргі гараджан вялікаму князю, а затым і каралю "на свавольства мужоў, якія крыўды і ўціскі мяшчанам чыняць".

У адпаведнасці з нормамі магдэбургскага права члены магістрата, войт і бурмістры ахоўваліся ад пасягальніцтва на іх жыццё, гонар і годнасць. Статуты гарадоў прадугледжвалі самыя суровыя пакаранні за іх абразу.

Членамі Рады маглі быць выбраны толькі законнанароджаныя, заможныя мяшчане, якія пражывалі ў горадзе на працягу не менш 3—5 гадоў. Радавыя мяшчане рэдка пападалі ў лік "**электаў**" ці "**ратманаў**", г.зн. кандыдатаў на выбарныя пасады ў магістраце.

Жыхары горада ў адпаведнасці з правам маглі выносіць вотум недаверу і перавыбіраць лаўнікаў, радцаў або войта. Але вынясенне вотуму было абстаўлена шэрагам умоў, якія перашкаджалі ўплыву радавых мяшчан на вышэйшую інстанцыю гарадской улады.

Жыхары гарадоў, атрымаўшы права на самакіраванне, вызваляліся ад нясення феадальных павіннасцей, улады і суда дзяржаўнай адміністрацыі. Гэта давала ім магчымасць больш часу займацца непасрэдна сваёй прафесійнай дзейнасцю. Павіннасці па рамонту замка, абарончых умацаванняў і інш. былі заменены грашовымі падаткамі — прыкладна 30 грошаў літоўскіх з пляца, як гэта мела месца ў Нясвіжы ў 1529 г. За гэтыя грошы гарадскія ўлады наймалі спецыяльных землякопаў, валмейсцераў, каменшчыкаў і іншых рабочых, якія пастаянна сачылі за станам гарадскіх умацаванняў. Толькі ў выпадку неабходнасці аднесці "паркан" (замкавую сцяну) на новае месца, ці пры прарыве дамбы - "грэблі" ўсе жыхары горада павінны былі з'яўляцца як на "гвалт". Пры зборах падаткаў бедным і жабракам рабілася скідка: яны выплачвалі свой узнос у растэрміноўку.

Такім чынам, сістэма гарадскога самакіравання, якая склалася

на Беларусі ў XIV — першай палове XVII ст., паходзіла з саслоўна-карпаратыўнай сістэмы, якая была народжана развіццём феадальнага грамадства.

### Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі

Згодна са статутам горада кожны ўладальнік дома павінен быў мець уласную зброю: ручніцу, порах, кулі і з'яўляцца на пункт збору апалчэння па сігналу "гарадскога бубна". Той, хто не набываў зброі, спачатку штрафаваўся на адну капу літоўскіх грошаў. Затым вырашалася пытанне аб знаходжанні мешчаніна ў горадзе. Хто пазніўся на збор апалчэння, плаціў магістрату штраф у 12 грошаў.

Усе жыхары горада і пасля атрымання магдэбургскага права неслі **ахоўную і абаронную павіннасці**. Яны прымалі ўдзел у ваенных аглядах — **"попісах"** і вучэннях — **"муштрах"**. Штогод усё дарослае мужчынскае насельніцтва ўдзельнічала ў стралковых спаборніцтвах на прыз "караля курка". Яны праводзіліся ва ўрачыстых абставінах у "цыхаўзе" (вызначаным месцы для стральбы). У ліку першай страляўшай чацвёркі былі кіраўнікі горада (войт, бурмістры і камендант крэпасці ці замка). Той, чыя куля пападала ў сярэдзіну мішэні, абвяшчаўся на ўвесь год "каралём курка". Ва ўрачыстых абставінах пераможцу ўручаўся аксамітавы пояс з сярэбранымі пласцінкамі, затым яго імя ў ратушы запісвалася ў магістрацкую кнігу, што вызваляла апошняга ад падаткаў. З гэтага дня "кароль" назначаўся на год наглядчыкам "цыхаўза".

Усе гарады Беларусі мелі сваё апалчэнне. Яно складалася з палкоў (у буйных гарадах — з некалькіх палкоў), якія дзяліліся на сотні, а сотні — на дзесяткі. Меўся свой камандны састаў у асобах палкоўнікаў, сотнікаў, паўсотнікаў, дзесятнікаў. Усіх іх прызначаў магістрат. Рамесніцкія і гандлярскія цэхі таксама мелі свае ваенныя арганізацыі і ўключаліся ў склад соцень. Усе апалчэнцы павінны былі мець халодную ці агнястрэльную зброю.

Спачатку гараджане насілі зброю з сабою, нават у мірны час. Пасля яе сталі захоўваць у спецыяльных "цыхаўзах". Зброя мяшчан не выкарыстоўвалася гарнізонамі замкаў. Уладальнік няспраўнай зброі штрафаваўся на чатыры капы літоўскіх грошаў. У час

абароны горада ў ваенных дзеяннях павінны былі ўдзельнічаць не толькі самі жыхары, але і прыезджыя людзі са сваімі слугамі.

Акрамя звычайных попісаў, праводзіліся яшчэ генеральныя, на якіх прысутнічалі старасты, каменданты замкаў і войты. Генеральныя попісы завяршаліся, як правіла, стралковымі спаборніцтвамі. У некаторых гарадах з пачатку лета кожную нядзелю і па святах арганізоўваліся трэніроўкі па стральбе. Трое лепшых стралкоў у якасці ўзнагароды на адзін год вызваляліся ад чынша і ўсіх гарадскіх павіннасцей, не ўлічваючы каштоўных прызоў ад магістрата.

У складзе гарадскога апалчэння ў некаторых гарадах меліся атрады кавалерыі. Яна складалася з заможных гараджан-купцоў, цэхмістраў і сотнікаў.

Акрамя апалчэння, у некаторых гарадах меліся атрады так званых "гарадскіх выбранцаў". Яны набіраліся добраахвотна з мяшчан, якія неслі пастаянную ваенную службу, але не кідалі сваіх асноўных заняткаў рамяством ці гандлем. Гэтае вайсковае фарміраванне не ўваходзіла ў склад рэгулярнага гарнізона і было падначалена магістрату. Выбранецкія атрады фарміраваліся з розных людзей, у тым ліку і з гарадской беднаты. У адрозненне ад астатніх гараджан яны рэгулярна муштраваліся пад кіраўніцтвам прафесійнага ваеннага — паручніка. Узброены яны былі ў асноўным мушкетамі.

Гарадское апалчэнне выступала пад агульным сцягам — харугваю магістрата. Палкі і сотні мелі свае сцягі і прапарцы. Меліся таксама свае трубачы і барабаншчыкі.

У буйных гарадах выраблялiся практычна ўсе віды халоднай і агнястрэльнай зброі: былі свае "людвісарні", дзе адліваліся гарматы, меліся парахавыя майстэрні.

За будаўнічымі і рамонтнымі работамі на абарончых збудаваннях сачыла магістрацкая камісія з трох чалавек, якая стварала неабходны запас матэрыялаў для бягучага ці грунтоўнага рамонту. Усімі работамі кіраваў "валмайстар". За агульным станам умацаванняў валмайстару дапамагалі сачыць "дазорцы". Яны былі абавязаны не менш аднаго разу на тыдзень абыходзіць і аглядаць валы, больверні і брамы і дакладаць валмайстру, а апошні — каменданту горада.

Сіла і магутнасць горада таго часу грунтавалася не толькі на яго

ўмацаваннях і ўзброеным мяшчанстве. Не меншую ролю адыгрывала забяспечанасць гараджан на выпадак асады правіянтам і вадою. Аснову правіянту складала збожжа. Хлеб збіралі ў асобным складзе — "правіянтхаўзе". Кожная сям'я прапарцыянальна колькасці членаў здавала сюды штогод пэўную колькасць збожжа, не ўлічваючы ўласных запасаў, якія знаходзіліся дома. Ведалі гарадскім хлебасховішчам, сачылі за станам зерня спецыяльна прызначаныя магістратам "правіянтмейсцеры". Вясной запасы хлеба абнаўляліся: стары хлеб прадавалі і на выручаныя грошы куплялі новы.

Ва ўмовах ваеннай пагрозы хлебны недатыкальны запас горада залічваўся, як і ўся жыўнасць, у разрад "амуніцый". Ва ўсіх брамах горада пільна сачылі, каб з яго не вывозіліся не толькі порах, волава, сера і салетра, але таксама зерне, саланіна і іншыя прадукты харчавання.

Нормай запасу правіянту на аднаго чалавека лічыўся запас, дастатковы вытрымаць асаду працягласцю ў год. Толькі на такіх умовах прымалі ў гарады шляхту з чэляддзю, мяшчан іншых гарадоў ці сялян, якія беглі ад вайны. Тых, хто не меў неабходнай колькасці правіянту, з горада выганялі. Выключэнне складалі "людзі ўбогія" — калекі, адзінокія старыя і інш., якія знаходзіліся на ўтрыманні гарадской казны.

У поўнай адпаведнасці з нормамі магдэбургскага права ў гарадах захоўваліся правілы супрацьпажарнай бяспекі. У сярэдневяковым горадзе добра ведалі, што такое спусташальны пажар. Таму магістраты гарадоў прымалі і здзяйснялі пастановы, накіраваныя на ўмацаванне супрацьпажарнай бяспекі, асабліва ва ўмовах ваеннага часу. У магістратах былі выбарныя пасады двух ці трох "стражнікаў ад агню", якія мелі пад сваім наглядам пэўныя ўчасткі горада. Ім былі падпарадкаваны спецыяльныя памочнікі-"комінікі" — камінары, якія сачылі за станам комінаў у дамах гараджан, брамах, кузнях і саладоўнях. Калі ўладальнік печаў не выконваў інструкцый "стражніка ад агню", яго штрафавалі. У час, спрыяльны для пажараў, па горадзе хадзілі "клікушы", якія напаміналі гараджанам пра неабходнасць засцерагацца ад пажару. Кожны гаспадар павінен быў трымаць у двары вялікую бочку з вадою. Акра-

мя таго, у горадзе меліся пры вуглавых дамах драбіны, якія можна было хутка зняць на выпадак пажару. У час пажару было забаронена з'яўляцца на месца здарэння з пустымі рукамі. Прыбягалі з бумаком, сякерай альбо вядром. Агонь абавязаны былі тушыць усе. Тых, хто ўхіляўся ад барацьбы з пажарам, гналі сілай ці бізуном. Выключэннем былі пажары ў час аблогі, калі мужчыны, што знаходзіліся на абарончым вале, не мелі права пакідаць свае месцы. У час аблогі пажар абавязаны былі тушыць жанчыны.

Калі пажар пачынаўся з-за недагляду ўладальнікаў дамоў, яны караліся штрафам у 10 коп грошаў, або шасцімесячным зняволеннем у астрозе. Наўмысных падпальшчыкаў, згодна з артыкуламі магдэбургскага права, каралі жудаснай смерцю — палілі жывымі.

Кожную нядзелю магістрат праводзіў агляд супрацьпажарнага інвентару. За адсутнасць і няспраўнасць яго — віноўныя бязлітасна штрафаваліся. У горадзе пастаянна дзяжурыла дазорная варта. Яе па чарзе выдзялялі палкі гарадскога апалчэння.

У гарадах Беларусі дзейнічалі строгія правілы супрацьпажарнай бяспекі. Уладальнікам крам забаранялася насіць агонь па вуліцы. У 10 гадзін вечара ўсе жыхары павінны былі гасіць агонь. Тым, хто займаўся рамяством, дазвалялася пасля 10 гадзін вечара карыстацца святлом толькі ад каганцоў і свечак. У карчмах гаспадары абавязаны былі таксама тушыць святло і выпраўляць наведвальнікаў пасля 10 гадзін. У іншым выпадку ўладальнік плаціў штраф па аднаму злотаму за чалавека, а п'яніц адпраўлялі ў астрог і назаўтра цэлы дзень прымушалі працаваць на вале або на грэблі.

У сувязі з вайною ў гарадах прымаліся меры і па барацьбе з эпідэмічнымі захворваннямі. Для гэтага ў брамах гарадоў выстаўляліся спецыяльныя вартаўнікі. Яны павінны былі не пускаць у горад чужых людзей, а ад мясцовых жыхароў, што вярталіся ў горад, дазнацца ў прысутнасці каменданта, куды яны ездзілі і праз якія мясцовасці ехалі. Калі выяўлялася, што шлях пралягаў праз заражаныя эпідэміямі мясцовасці, такіх людзей у горад не пускалі.

Добра адладжаная сістэма абароны гарадоў Беларусі дазваляла ім вытрымліваць працяглыя асады, што станоўча ўздзейнічала на ход ваенных дзеянняў у час шматлікіх войнаў.

## ЛЕКЦЫЯ 24

## РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ Ў XIII—XVI стст.

- *Праваслаўе ў палітыцы вялікіх князёў.*
- *Распаўсюджванне і прывілеі каталіцызму ў ВКЛ.*
- *Рэфармацыя.*
- *Контррэфармацыя. Дзейнасць езуітаў на Беларусі.*

### Праваслаўе ў палітыцы вялікіх князёў

Да канца XII ст. у Еўропе склаліся дзве вялікія, выразна размежаваныя рэлігійныя зоны: усходняя, праваслаўна-візантыйская, і заходняя, рымска-каталіцкая, кожная са сваёй ідэалогіяй і культурай. Мяжа паміж імі праходзіла па Заходняму Бугу. Беларусь з прычыны свайго геапалітычнага становішча апынулася на памежжы двух хрысціянскіх веравызнанняў, двух светаў — усходне- і заходнеславянскага — і стала месцам сустрэчы, сутыкнення і ўзаемадзеяння гэтых цывілізацый. Гэта вызначыла яе шмат у чым унікальнае гістарычнае становішча ў Еўропе, абумовіла індывідуальнасць яе духоўнай культуры і канфесійную своеасаблівасць, наклала асаблівы адбітак на менталітэт нашага народа. Вагаючыся паміж Захадам і Усходам і не з'яўляючыся прыхільнай ні да таго, ні да другога, яна займала "цэнтрысцкую" пазіцыю, незвычайную і для Захаду і для Усходу, і стварыла свае арыгінальныя нацыянальныя каштоўнасці.

Суадносіны розных хрысціянскіх плыняў на Беларусі ў розныя гістарычныя перыяды мяняліся. У XI—XII стст. яна стала амаль цалкам праваслаўнай, і яе нацыянальна-культурнае развіццё праходзіла пад дабратворным уплывам культуры Візантыі, якая знаходзілася тады на больш высокім узроўні ў параўнанні з заходнееўрапейскай. З другой паловы ХПІ ст. за духоўны ўплыў на беларускіх землях пачаў змагацца каталіцкі касцёл. У другой палове XVI ст. ВКЛ апынулася перад выбарам — працяг старажытнай візантыйска-ўсходнеславянскай традыцыі ці зварот да Захаду.

**Крэўская унія парушыла манаполію праваслаўнай царквы ў духоўным жыцці Беларусі.** Збліжэнне з каталіцкай Польшчай, гібель Візантыйскай імперыі ў 1453 г. і аслабленне ўплыву канстан-

цінопальскага патрыярхату, канфрантацыя княства з Масквой прывялі да ўзмацнення сувязяў беларускіх зямель з заходнім каталіцкім светам, да больш актыўнага ўключэння іх у агульнаеўрапейскі палітычны і культурны працэс. У канцы XIV — сярэдзіне XVI ст., нягледзячы на пашырэнне сферы ўплыву каталіцызму, тон у грамадскім жыцці, ідэалогіі, культуры задавала праваслаўная царква, а ўсходне- і заходнехрысціянскія ўплывы ўраўнаважвалі адзін аднаго. Пасля Люблінскай уніі іх супрацьстаянне дасягае апагею і раўнавага сіл схіляецца на карысць каталіцкага Захаду.

Балансаванне Беларусі паміж Усходам і Захадам вызначыла неабходнасць пошуку кампрамісаў і зрабіла жывучай ідэю царкоўна-рэлігійнай уніі. Менавіта тут была рэалізавана ідэя скасавання падзелу і ўзмацнення хрысціянства праз яднанне, якая выношвалася не адно стагоддзе кіраўнікамі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. З'явілася уніяцтва — неадназначны па сваіх выніках феномен беларускай гісторыі.

**Вялікаму княству Літоўскаму з моманту яго ўтварэння быў уласцівы нацыянальна-рэлігійны дуалізм.** Жамойты і Літва спавядалі язычніцтва. Асноўным веравызнаннем усходнеславянскага насельніцтва бьшо праваслаўе. Язычніцкая Літва і праваслаўная Русь мірна суіснавалі пад уладай вялікіх князёў. Стваральнікі новай дзяржавы, застаючыся "паганцамі" ў душы, па палітычных меркаваннях з лёгкасцю мянялі старых багоў на новага, балансуючы паміж усходнім і заходнім хрысціянствам і язычніцтвам. У 1246 г. прыняў *"веру хрысціянскую з Усходу з многімі сваімі баярамі"* Міндоўг. Перамена веры, відаць, была ўмовай абрання яго князем у праваслаўнай Наваградскай зямлі. Вывучаў "навукі рускія" на Валыні, у 1254 г. хрысціўся ў праваслаўе і нават стаў манахам Войшалк. Ён заснаваў каля Наваградка Лаўрышаўскі манастыр, які павінен быў стаць аплотам праваслаўнай хрысціянізацыі Літвы. Аднак бурлівае жыццё, што прымушала мяняць расу на зброю, і раптоўная гібель не далі здзейсніць гэтую задуму і пераадолець нацыяльна-рэлігійны дуалізм дзяржавы. Праваслаўнымі былі большасць баяр пры Гедымінавым двары, а сам князь сімпатызаваў хрысціянству. Альгерд яшчэ ў маладосці прадпрыняў першы крок да праваслаўя, а незадоўга да смерці прыняў гэту веру. Нейкі час яе

спавядаў і Вітаўт. Праект саюза княства з Масквой прадугледжваў пераход у праваслаўе Ягайлы. Цесна зрошчаная з усходнеславянскімі "рускімі" этнічнымі асаблівасцямі вера, называючыся "рускай", садзейнічала славянізацыі правячай дынастыі. Надзённыя інтарэсы ўсё больш падштурхоўвалі да хрысціянскага свету і літоўскіх баяр. У 80-я гады XIV ст., да Крэўскай уніі, бьшо даволі рэальным хрышчэнне Літвы ў праваслаўе і завяршэнне распачатага стагоддзем раней працэсу яе славянізацыі. Гэта магло зусім інакш павярнуць лёс усходняга славянства. Аднак перспектыва пераўтварэння княства ў выключна славянскую дзяржаву з дзяржаўнай праваслаўнай царквой не была рэалізавана. Наступствы выбару, зробленага Ягайлам на карысць каталіцтва ў 1385 г., у поўнай меры адчулі яго пераемнікі ў XV ст., калі канфлікт паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім стаў набываць не толькі палітычную, але і рэлігійную афарбоўку.

Праваслаўе ўмацоўвала пазіцыі вялікіх літоўскіх князёў на беларуска-ўкраінскіх землях, з'яўлялася крыніцай сілы іх дзяржавы, уздымала іх аўтарытэт у Паўночна-Усходняй Русі. Таму першыя князі падтрымлівалі і апекавалі праваслаўную царкву. За кошт іх падараванняў яна павялічвала свае багацці — землі, залежных сялян, умацоўвала свае пазіцыі, узводзіла новыя цэрквы і манастыры і да канца XIV ст. не толькі манапольна панавала ў духоўным жыцці Беларусі, але і пашырала ўплыў у Летуве.

Тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад епархій, што склаліся яшчэ ў старажытныя часы: Полацкай, Тураўскай і часткова Смаленскай і Уладзіміра-Брэсцкай. Яны кіраваліся епіскапамі і аб'ядноўваліся ў Кіеўскую мітраполію, падпарадкаваную Канстанцінопальскаму патрыярхату. У канцы XIII — сярэдзіне XV ст. яна фармальна заставалася адзінай для княства і Паўночна-Усходняй Русі. Пасля пераезду мітрапаліта спачатку ва Уладзімір, а потым у Маскву і падтрымкі ім аб'яднальных пачынанняў маскоўскіх князёў, вялікія літоўскія князі дамагаюцца ад Канстанцінопаля прызначэння асобнага мітрапаліта для сваёй дзяржавы. Пачынаючы з Віценя, яны імкнуцца зрабіць праваслаўную царкву княства самастойнай. У 1317 г. з дазволу патрыярха была заснавана Літоўская мітраполія з рэзідэнцыяй у Навагрудку. Ёй падпарадкоўваліся По-

лацкая і Тураўская епархіі. Гэта спрыяла нейтралізацыі царкоўна-палітычнага ўплыву Маскоўскай дзяржавы на ўсходнеславянскіх землях княства і ўзмацняла пазіцыі Гедыміна і яго наступнікаў ва Усходняй Еўропе. У 1415 г. Вітаўт дамогся ад епіскапаў выбару мітрапаліта без згоды патрыярха.

Мітрапаліты і епіскапы прызначаліся вялікім князем. Вярхі праваслаўнага духавенства ў асноўным паходзілі з мяшчан, зрэдку з дробнай і сярэдняй шляхты. Акрамя царкоўных, у іх не было іншых уладанняў, таму яны не мелі такой вялікай ролі, як каталіцкія біскупы, большасць якіх паходзіла з магнацкіх сем'яў. Толькі з другой чвэрці XVI ст. праваслаўныя епіскапы і мітрапаліты пачалі абірацца з літвінскай знаці. У XIV—XV стст. сярод царкоўных іерархаў значную частку складалі грэкі і балгары, прысланыя з Канстанцінопаля. У XV ст. ім былі ўласцівыя моцныя уніяцкія тэндэнцыі, накіраваныя на пераадоленне расколу ў хрысціянстве.

На пачатку XVI ст. большая частка насельніцтва Беларусі спавядала праваслаўе. Шэсць праваслаўных храмаў было тады ў Гародні, 7 — у Полацку, 10 — у Наваградку, 12 — у Пінску. У Вільні і яе ваколіцах было каля 20 цэркваў, палову насельніцтва сталіцы складалі праваслаўныя літвіны. Праваслаўная царква Беларусі ўяўляла вялікую сілу.

### Распаўсюджванне і прывілеі каталіцызму ў ВКЛ

Спробы крыжакоў усталяваць каталіцызм на літоўскіх землях у XIII — сярэдзіне XIV ст. поспеху не мелі. Каб выбіць у іх рэлігійную зброю, якой прыкрывалася агрэсія, згадзіўся прыняць каталіцтва Міндоўг і ва ўзнагароду за гэта ў 1253 г. атрымаў ад Папы Рымскага карону. Але саюз з Рымам не спраўдзіў надзей літоўскага караля і ён адрокся ад хрысціянства наогул. Гедымін у надзеі спыніць крыжацкі націск абяцаў Папе хрысціць Літву па заходняму абраду. Такія захады былі рызыкоўнымі — маглі выклікаць апазіцыю прыхільнікаў язычніцтва і праваслаўных "русінаў", што і здарылася пры Гедыміне.

У канцы XIV ст. пад націскам Ватыкана, які баяўся ператварэння княства ў магутны праваслаўны бастыён Усходняй Еўропы і страты сваёй патэнцыяльнай паствы, Польшча аддала Ягайлу кара-

леўскую карону ў абмен на акаталічванне Літвы, а ў перспектыве — і ўсходнеславянскіх зямель. Калі непрыманне хрышчэння з рук крыжакоў было справай прынцыпу, то каталіцызм з Польшчы, здавалася, не хаваў у сабе небяспекі. Крэўская унія рэзка змяніла рэлігійную сітуацыю ў ВКЛ. Яна пакінула насельніцтву Беларусі свабоду належаць да сваёй веры, але ў праваслаўнай царквы княства з'явіўся сур'ёзны канкурэнт.

Гэта форма хрысціянскай рэлігіі падыходзіла кіруючым колам княства ва ўмовах узмацнення сувязей з Польшчай. Яна прадухіляла асіміляцыю літоўскай знаці ў масіве праваслаўнай Русі, садзейнічала яе кансалідацыі. Дзяржава, усе гаспадары якой, пачынаючы з Ягайлы, былі католікамі, перадае заходняй царкве вялікія надзелы зямлі, спрыяе заснаванню манаскіх ордэнаў, касцёлаў і кляштараў, стымулюе пераход у гэту веру літоўскіх і славянскіх феадалаў.

У 1387 г. былі ўтвораны Віленская епархія, улада якой ахапіла амаль усю Беларусь, і сем каталіцкіх парафій, у тым ліку тры — на тэрыторыі Беларусі: у Крэве (цяпер Смаргонскі раён), Абольцах (Талачынскі раён), Гайне (Лагойскі раён). Спачатку епархія падпарадкоўвалася Папе, з 1415 г. — прымасу польскай каталіцкай царквы архіепіскапу гнёзненскаму. У канцы XIV ст. у Вялікім княстве Літоўскім існавала 12 касцёлаў, з іх шэсць — на Беларусі (у Быстрыцы, Гародні, Лідзе, Наваградку і інш.), у 1430 г. — 27 касцёлаў, у тым ліку 12 — на Беларусі.

У XIV—XV стст. заснаваны ўсяго чатыры каталіцкія біскупствы: Кіеўскае, Луцкае (уваходзіла і Берасцейская зямля), Жмудскае і Віленскае. Епархіі падзяляліся на дэканаты, апошнія — на парафіі. Біскупаў выбіралі капітулы (саветы вышэйшага духавенства) епархіі. Першымі біскупамі былі палякі, з пачатку XVI ст. усе біскупы — прадстаўнікі вышэйшай знаці Вялікага княства Літоўскага. Магнацкае паходжанне давала ім магчымасць дадаткова ўплываць на дзяржаўныя справы. У каталіцкай царкве княства ў XVI ст. служылі выключна мясцовыя ўраджэнцы. Па сацыяльных матывах пазіцыі магнатаў і вярхоў каталіцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім супадалі.

Вялікія літоўскія князі (з 1386 г. católікі) апякалі каталіцкую царкву. Дзяржаўныя ўлады стваралі для яе прывілеяванае стано-

вішча. Паводле прывілея Ягайлы ад 22 лютага 1387 г. каталіцкая царква атрымала поўны імунітэт у сваіх маёнтках у фінансавых і судовых пытаннях, вызвалялася ад дзяржаўных падаткаў і павіннасцяў, а насельніцтва маёнткаў трапляла ў поўную залежнасць ад царквы. Дыскрымінацыйныя артыкулы Гарадзельскага прывілея 1413 г. стваралі ў феадалаў зацікаўленасць у пераходзе ў каталіцтва. Пры актыўным садзейнічанні вярхоўнай улады на беларускіх землях замацаваліся манастыры каталіцкага Ордэна францысканцаў (Ліда, Наваградак, Ашмяны — канец XIV ст.), бернардзінцаў (Гародня — 1494 г., Полацк — 1498 г., Браслаў — 1504 г), аўгусцінцаў (Быстрыца — 1390 г., Бярэсце — пачатак XV ст.).

Да сярэдзіны XV ст. Віленскай епархіі належала 285 вёсак і 16 мястэчак, у якіх пражывала каля 40 тыс. жыхароў, што складала 1,5% усяго насельніцтва дзяржавы. 2/3 гэтай латыфундыі было на Беларусі. За 1387—1550 гг. на тэрыторыі епархіі было заснавана 259 касцёлаў, у тым ліку 176 — на беларускіх землях. Касцёлы размяшчаліся пераважна на захадзе Беларусі па лініі Браслаў—Вілейка—Менск—Нясвіж—Пінск, на ўсход ад яе былі толькі ў Полацку, Віцебску, Абольцах і Слуцку. Такім чынам, да сярэдзіны XVI ст. каталіцкая царісва пры падтрымцы вялікіх князёў і феадалаў-католікаў замацавалася на сучасных паўночна-заходніх беларускіх землях і ў Літве. 19 каталіцкіх парафій у той час існавалі ў Гарадзенскім павеце, 20 — у Наваградскім, 16 — у Менскім, 15 — у Ваўкавыскім, 7 — у Слонімскім. Гэта сіла разгарнула актыўную дзейнасць па акаталічванню паганцаў, а таксама праваслаўнага насельніцтва Беларусі. Яна прыўносіла ў Вялікае княства Літоўскае элементы польскай і пераважна заходнееўрапейскай культуры. Такі ўплыў адыграў пэўную ролю ў развіцці грамадска-палітычнай думкі, культавага і абароннага дойлідства, музыкі, пашырэнні асветы.

Каталіцкае хрышчэнне літоўцаў, пазбавіўшае праваслаўе надзеі на ролю пануючай рэлігіі ў княстве, не ўшчамляла правоў праваслаўнага насельніцтва і царквы. Аднак, паколькі феадалы-католікі атрымалі дадатковыя прывілеі, то ў параўнанні з імі становішча іх праваслаўных братоў адносна пагоршылася. Асаблівы сацыяльна-палітычны статус касцёла, ператварэнне яго ў буйнога землеўласніка, закраналі інтарэсы беларускага сялянства, мяшчанства,

праваслаўнай духоўнай іерархіі. Прыняцце правячымі коламі каталіцызму як дзяржаўнай рэлігіі абвастрыла этнарэлігійныя адносіны, паколькі большасць усходнеславянскага насельніцтва спавядала праваслаўе. Дыскрымінацыя праваслаўных з канца XIV ст. пачала раздзіраць унутранае адзінства княства і стала крыніцай шэрагу канфліктаў: грамадзянская вайна 30-х гадоў XV ст., выступленне М.Глінскага, прамаскоўскія настроі часткі феадалаў. Ягайла, Вітаўт, Свідрыгайла, Аляксандр хацелі залагодзіць антаганізм паміж праваслаўным і каталіцкім насельніцтвам пры дапамозе уніі. Аднак праваслаўныя княствы не падтрымалі Фларэнційскай уніі 1439 г.

Пракаталіцкая рэлігійная палітыка аказалася недальнабачнай і пацярпела крах. Урад уносіць у яе істотныя карэктывы. У 1432 і 1434 гг. ён здымае эканамічныя абмежаванні для праваслаўнай знаці, з канца XV ст. пачынае ўцягваць яе ў палітычную эліту дзяржавы, а ў 1563 г. поўнасцю ўраўноўвае ў правах праваслаўную шляхту з каталіцкай.

Праваслаўная царква ў першай палове XVI ст. па-ранейшаму займала трывалыя пазіцыі ў Вялікім княстве Літоўскім, на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а ўсходнія раёны заставаліся сферай яе манапольнага ўплыву. У канцы XV — першай палове XVI ст. быў прыняты шэраг дзяржаўных актаў, якія замацоўвалі яе правы і ранейшыя прывілеі. У XVI ст. князь абвясціў аб скліканні царкоўных сабораў. Вялікакняжацкая ўлада ўмешвалася ва ўзаемаадносіны царквы і праваслаўных феадалаў, рэгулюючы гэтыя адносіны на карысць першай. У супрацьстаянні праваслаўя і каталіцтва на землях Вялікага княства Літоўскага ў першай палове XVI ст. склалася раўнавага сіл.

Значнае месца ў рэлігійнай палітыцы вялікакняжацкай улады адводзілася планам уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў пад эгідай рымскай курыі. Пытанне гэта ўзнімалася Ягайлам, Вітаўтам, Свідрыгайлам. Нарэшце, у **1439 г.** на Фларэнційскім саборы царкоўна-рэлігійная унія была аб'яўлена. Аднак падтрымкі з боку праваслаўнага насельніцтва княства яна не атрымала і была фактычна правалена. У канцы XV — пачатку XVI ст. вялікім князем Аляксандрам з дапамогай смаленскага епіскапа Іосіфа Балгарыновіча,

які ў 1500 г. заняў кафедру мітрапаліта, былі зроблены спробы ўзнавіць унію. Але яны аказаліся няўдалымі. Аж да стварэння Рэчы Паспалітай вялікакняжацкі ўрад не ўзнімаў больш пытання аб царкоўна-рэлігійнай уніі.

Неаднастайнасць рэлігійнага складу насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і неабходнасць лічыцца з мясцовымі феадаламі і рознымі царкоўнымі арганізацыямі вызначылі верацярпімую палітыку вярхоўнай улады. Пераемнікі Аляксандра Жыгімонт І Стары і Жыгімонт II Аўгуст, калі апынуліся ў цяжкім унутры- і знешнепалітычным становішчы, пайшлі на стварэнне рэлігійнай талерантнасці ў Вялікім княстве Літоўскім. Пры Жыгімонце І у дзяржаве з'явілася каля 90 новых праваслаўных храмаў. У Вільні было 15 цэркваў і 14 касцёлаў, у Наваградку на адзін касцёл прыходзілася 10 цэркваў, у Полацкім і Віцебскім паветах было толькі па адным касцёле. У 1563 г. Жыгімонт II выдаў у Вільні прывілей (пацверджаны на Гарадзенскім сойме 1568 г.), які адмяняў усе абмежаванні на рэлігійнай глебе Гарадзельскага прывілея і тым самым замацаваў "шляхецкую" талерантнасць у пэўных сацыяльных межах.

Такім чынам, **20—60-я гады XVI ст. адрозніваліся ад папярэдняга стагоддзя і сваёй рэлігійнай верацярпімасцю (як напрамкам дзяржаўнай палітыкі).** Сюды сцякаліся ад рэлігійных ганенняў каталіцкай і праваслаўнай цэркваў многія вальнадумцы з іншых краін: рускія ерацікі Феадосій Касы, Арцемій, Васіян і іх паплечнікі, вядомыя прагрэсіўнымі поглядамі медыкі-італьянцы Д.Бляндрата і С.Сімоні, швейцарац І.Гаслер і інш. Верацярпімасць стварыла спрыяльную глебу для распаўсюджвання гуманістычных ідэй і Рэфармацыі, якая часткова аслабіла і каталіцтва, і праваслаўе.

## Рэфармацыя

У пачатку XVI ст. Заходнюю Еўропу ускалыхнуў нябачны дагэтуль па актыўнасці рэлігійны рух, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай "Рэфармацыя". **Рэфармацыя** (ад лацінскага reformatio — пераўтварэнне, выпраўленне) — шырокі грамадска-палітычны і ідэалагічны рух у XVI ст., накіраваны супраць засілля каталіцкай царквы ва ўсіх сферах жыцця. Аб'ектыўна ён меў антыфеадальны

характар. Ініцыятарам і авангардам руху была буржуазія, якая выступіла супраць феадалізму і яго апоры — каталіцкай царквы. Галоўнай мэтай руху была рэформа светапогляду грамадства, стварэнне спрыяльных маральных і прававых умоў для дзейнасці і быту класа буржуазіі. Вось чаму Рэфармацыя з самага пачатку ўвасаблялася ў форму рэлігійнай барацьбы, якая па-рознаму праяўлялася ў розных краінах.

У вузка канфесіянальным сэнсе Рэфармацыя азначала перагляд дагматаў каталіцызму і рэлігійныя пераўтварэнні, што прывялі да ўзнікнення новага кірунку ў хрысціянстве — пратэстантызму. Ён аб'ядноўвае шэраг самастойных цэркваў і сектаў (лютэранства, кальвінізм, англіканская царква, метадысты, баптысты, адвентысты і інш.), якія некалькі адрозніваюцца культам і арганізацыяй, але звязаны агульнасцю паходжання і дагматыкі. Асноўныя дагматычныя палажэнні пратэстантызму сфармуляваны яго заснавальнікамі М.Лютэрам, Ж.Кальвінам, У.Цвінглі.

Адным з асноўных патрабаванняў дзеячаў Рэфармацыі было стварэнне новай, дэцэнтралізаванай, больш дэмакратычнай і таннай царквы. Праціўнікі каталіцызму заяўлялі пра неабходнасць ліквідаваць духавенства як асобную касту, манастыры і манаства, пышны каталіцкі культ, складаную абраднасць, секулярызаваць царкоўную маёмасць.

Ідэолагі Рэфармацыі выступалі супраць багаццяў царквы і яе магутнага ўплыву, аднак не адмаўляліся ад самой рэлігіі. Яны жадалі прыстасаваць яе да інтарэсаў той часткі грамадства, ад імя якой яны выступалі. Біблія аб'яўлялася невычарпальнай крыніцай веры ў Бога для кожнага і таму імкнуліся яе перакласці на нацыянальныя мовы.

Рэфармацыя абудзіла ад шматвяковага сну Еўропу, нанесла моцны ўдар па феадальнаму ладу, пануючай царкве і хрысціянскаму светапогляду, паслужыла пралогам новай буржуазнай эры. У першай палове XVI ст. яна ахапіла большасць краін Еўропы, у 20-я гады пранікла ў Польшчу. Неўзабаве дух пратэстанцтва павеяў і на Беларусі. Разнастайныя сувязі з еўрапейскімі краінамі, асабліва гандаль, вандроўкі цэхавых рамеснікаў, падарожжы магнатаў, навучанне літвінскай моладзі ў шэрагу універсітэтаў Еўропы садзейнічалі

пастаяннаму прытоку інфармацыі і ўспрыманню новых рэлігійных павеваў тагачасным грамадствам Беларусі. Рэфармацыя на Беларусі развівалася ў рэчышчы еўрапейскага руху. Значныя зрухі ў грамадска-палітычным і духоўным жыцці, пашырэнне міжнародных культурных і палітычных кантактаў, гаспадарчы ўздым, рост гарадоў, абвастрэнне ўнутрыпалітычных і сацыяльных супярэчнасцяў падрыхтавалі глебу для ўзнікнення Рэфармацыі на беларускіх землях. У адрозненне ад заходнееўрапейскай яна развівалася тут на феадальнай аснове і мела іншую сацыяльную базу. У вір рэфармацыйнага руху былі ўцягнуты галоўным чынам прывілеяваныя слаі: магнаты, частка дробнай і сярэдняй шляхты.

У сярэдзіне XVI ст. у ВКЛ пачалося імклівае распаўсюджванне ідэй заходнееўрапейскага пратэстантызму, італьянскага антытрынітарызму і маскоўска-наўгародскай ерасі. Рэфармацыя на Беларусі не была простым водгукам заходняй, а выступала як нацыянальная гістарычная з'ява; яе ідэолагі не былі эпігонамі еўрапейскіх рэфармацыйных дзеячаў і гуманістаў, а самастойнымі мысліцелямі. Узнікненне і развіццё такога руху ў Вялікім княстве Літоўскім было магчыма на трывалай нацыянальнай аснове.

Асноўнымі рэфармацыйнымі плынямі ў Вялікім княстве Літоўскім былі кальвінізм, лютэранства, антытрынітарызм. Лютэранства было распаўсюджана ў асноўным сярод гараджан іншаземнага паходжання, пераважна ў Жамойці. Найбольшае пашырэнне на Беларусі атрымаў кальвінізм, дактрына якога імпанавала шляхце.

У другой палове XVI ст. узніклі своеасаблівыя формы рэфармацыйнага руху ўнутры праваслаўнай царквы (брацтвы, некаторыя ерасі). Яны адлюстроўвалі антыцаркоўныя настроі часткі гарадскіх і плебейска-сялянскіх мас насельніцтва.

**Рэфармацыя на Беларусі прайшла тры этапы свайго развіцця.** Першы: 1553—1570 гг. (з часу ўзнікнення першых пратэстанцкіх абшчын да з'яўлення езуітаў у Вялікім княстве Літоўскім) — фарміраванне і хуткае развіццё руху, які неўзабаве дасягае найвышэйшага ўзроўню. У гэты час вызначаюцца яго асноўныя "класічныя" кірункі — кальвінізм, лютэранства, антытрынітарызм. На другім этапе — 1570—1596 гг. (да заключэння Берасцейскай царкоўнай уніі) — ускладняецца грамадска-палітычнае

жыццё, нарастаюць контррэфармацыйныя тэндэнцыі, умацоўваюцца пазіцыі каталіцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Звужаецца сацыяльная база Рэфармацыі — адбываецца масавы пераход шляхты, якая раней падтрымлівала яе, у каталіцтва. Крызіс руху, выкліканы наступленнем контррэфармацыі, унутранымі супярэчнасцямі ў асяроддзі пануючага саслоўя, звужэннем сацыяльнай базы, расколам сярод пратэстантаў, а таксама ўзросшай роллю Польшчы ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай, яшчэ больш выразна праяўляецца на трэцім этапе, які ахоплівае 1596 г. — сярэдзіну XVII ст. У другой палове XVII ст. рэфармацыйны рух на Беларусі згас. Засталася народжаная ім пратэстанцкая царква, роля якой у духоўным і грамадска-палітычным жыцці Беларусі сталася мізэрнай.

У сярэдзіне XVI ст. рэлігійнымі навінкамі захапіліся магнаты (Радзівілы, Сапегі, Валовічы, Кішкі і інш.) — праціўнікі уніі з Польшчай. З дапамогай пратэстанцкай веры яны жадалі захаваць адасобленасць сваёй дзяржавы ад каталіцкай Польшчы. Шляхту і заможных гараджан Рэфармацыя прываблівала магчымасцю падарваць усемагутнасць царквы, якая падтрымлівала ідэю стварэння Рэчы Паспалітай і ўшчамляла іх інтарэсы. Пэўныя колы звязвалі з Рэфармацыяй надзеі на змяншэнне моцных уплываў маскоўскага праваслаўя. Гэтыя мэты паўплывалі на магнатаў, якія сталі не толькі прыхільнікамі ідэй Рэфармацыі, але і кіраўнікамі яе практычнага пераўтварэння ў жыццё. Шырокія народныя масы засталіся да яе глухімі, таму рух не меў тут такога размаху, як у Еўропе.

Асабліва шчыраваў на ніве Рэфармацыі на Беларусі буйны магнат, віленскі ваявода, канцлер, тагачасны некаранаваны ўладар Вялікага княства Літоўскага Мікалай Радзівіл Чорны. Першай асобе дзяржавы пратэстанцтва ўяўлялася адным з дзейсных чыннікаў збаўлення ад згубнага для суверэнітэту ВКЛ уплыву суседзяў. Канцлер, які паслядоўна адстойваў незалежнасць сваёй дзяржавы не толькі палітычнымі, але і культурнымі сродкамі, **хацеў з дапамогай новай веры ідэалагічна і духоўна абараніць ВКЛ і ад Польшчы, і ад Масковіі.** З уласцівай яму дынамічнасцю ён стаў выкараняць каталіцтва ў дзяржаве. Толькі ў сваіх уладаннях канцлер закрыў 187 касцёлаў, разбурыў усе прыдарожныя ка-

таліцкія каплічкі і крыжы і адкрыў 134 кальвінісцкія зборы. У 1553 г. ён заснаваў у Вільні першую пратэстанцкую абшчыну, а ў канцы 50-х гадоў заклаў у Бярэсці першы на Беларусі збор (рэфармацкую царкву).

Пад асабістым заступніцтвам М.Радзівіла ў сярэдзіне XVI ст. былі арганізаваны пратэстанцкія абшчыны ў Нясвіжы, Клецку, Іўі, Оршы і інш. У 1557 г. у Вільні пад яго старшынствам адбыўся першы ўстаноўчы з'езд літоўскіх пратэстантаў. У другой палове XVI — пачатку XVII ст. у многіх гарадах і мястэчках ВКЛ ўзнікаюць кальвінісцкія асяродкі: у Менску, Полацку, Віцебску, Беліцы, Заслаўі, Глыбокім, Жупранах, Івянцы, Койданаве, Капылі, Любчы, Іўі, Гальшанах, Ляхавічах, Наваградку, Смаргоні, Слуцку, Шклове і інш. Вакол іх групуюцца выдатныя вучоныя, прапаведнікі, пісьменнікі, кнігавыдаўцы. Некаторыя з іх (С.Будны, В.Цяпінскі) становяцца ўпоравень са знакамітымі еўрапейскімі мысліцелямі. Рэфармацыя спрыяла актывізацыі духоўнага жыцця грамадства, развіццю асветы і арганізацыі кнігадрукавання, распаўсюджванню рэнесансна-гуманістычных і рацыяналістычных тэндэнцый у беларускай культуры і пашырэнню яе міжнародных кантактаў. У другой палове XVI — першай палове XVII ст. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала каля 90 кальвінісцкіх і 8 арыянскіх збораў. Большасць з іх размяшчалася ў заходніх і цэнтральных паветах, дзе існавалі буйныя прыватнаўласніцкія землеўладанні. Гэтаму спрыяў і разнародны этнарэлігійны склад насельніцтва рэгіёна ў параўнанні з усходняй часткай Беларусі, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва. Адчыняюцца сотні кальвінісцкіх школ, дзе-нідзе "шпіталі" (прытулкі для нямоглых), у буйнейшых абшчынах — друкарні. Большасць рэфармацыйных абшчын знаходзілася ў залежнасці ад феадалаў-патронаў, якія забяспечвалі пратэстанцкіх міністраў (свяшчэннікаў) і казнадзеяў (прапаведнікаў) сродкамі на пражыццё — зямельнымі ўладаннямі, грашовым утрыманнем.

Да 60-х гадоў у кальвінізм перайшла большасць беларускіх магнатаў і значная частка шляхты. З 600 праваслаўных шляхецкіх фамілій Наваградскага ваяводства вернасць сваёй рэлігіі захавалі толькі 16. Папскі нунцый Камендоні ў сакавіку 1564 г. паведамляў у Рым: *"Ерэтычнае нахабства і свавольства бязмежныя", "коль-*

*касць ерэтыкоў страшэнна ўзрастае", "амаль штодзень апаганьваецца які-небудзь касцёл",* яшчэ нейкі час — і ўжо нешматлікая каталіцкая царква застанецца без паствы.

У другой палове XVI ст. у асноўным склалася арганізацыйная і тэрытарыяльная структура кальвінісцкай царквы ў дзяржаве. Тут была ўтворана Літоўская правінцыя, якая ўключала шэсць дыстрыктаў (Віленскі, Завіленскі, Наваградскі, Рускі. Берасцейскі, Жмудскі) з суперінтэндантамі на чале. Арганізацыйным і кіруючым цэнтрам была Віленская абшчына. Важныя ідэйныя і царкоўна-рэлігійныя праблемы выносіліся на абмеркаванне партыкулярных (па дыстрыктах), правінцыяльных (усіх абшчын Вялікага княства Літоўскага) і генеральных (з удзелам польскіх пратэстантаў) сінодаў. У дзейнасці абшчын прымалі ўдзел таксама свецкія асобы — шляхта, гараджане.

Рэфармацыйны рух адыграў важную ролю ў развіцці рэлігійнай верацярпімасці ў Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы. На канвакацыйным сойме ў Варшаве ў **1573 г.** быў прыняты акт так званай Варшаўскай канфедэрацыі, які абвясціў рэлігійны мір у Рэчы Паспалітай і гарантаваў рэлігійную "вольнасць" шляхецкаму саслоўю. У 1588 г. гэты акт, перакладзены на беларускую мову, быў уключаны ў III Статут Вялікага княства Літоўскага, што фармальна забяспечыла прававую абароненасць пратэстантаў.

Пад сцягам кальвінізму спачатку аб'ядналіся ўсе слаі грамадства, якія прымалі ўдзел у Рэфармацыі. Да 1562 г. яшчэ не было рэзкіх разыходжанняў паміж рознымі сацыяльнымі групоўкамі. Між тым магнаты і шляхта, калі дамагліся сваіх мэт, рабіліся ўсё больш абыякавымі да Рэфармацыі. Яны не толькі ігнаравалі інтарэсы іншых саслоўяў, але імкнуліся падавіць радыкальную апазіцыю гараджан і сялян, якая вылучалася з кальвінісцкага лагера ў самастойную плынь на працягу 1562—1565 гг. Яе прыхільнікі называлі сябе антытрынітарыямі, ці арыянамі (ад імя святара Арыя, які жыў у IV ст. н. э. у Александрыі і адмаўляў траічнасць бажаства), а таксама літоўскімі братамі, і не абмяжоўвалі Рэфармацыю рэлігійна-палітычнымі лозунгамі, а патрабавалі сацыяльных пераўтварэнняў у грамадстве.

У рашэнні сацыяльных пытанняў антытрынітарыі не былі

адзінымі. Даследчыкі адзначаюць дзве плыні ў іх руху: левую — плебейска-сялянскую і правую — шляхецка-бюргерскую. Ідэолагі левага крыла (Пётр Ганезій, Марцін Чаховіц, Якуб з Калінаўкі, Гжэгаж Павел, Лаўрэнцій Крышкоўскі, Павел з Візны, Ян Немаеўскі і інш.) рэзка крытыкавалі аснову феадальнага грамадства: жорсткую эксплуатацыю сялянства, "нявольніцтва", падтрымлівалі жаданне гарадскіх нізоў і сялянскіх мас скасаваць прыгонніцтва. Яны выступалі супраць вярхоўнай улады, дзяржаўных устаноў, выкрывалі войны і дэспатызм феадалаў. Антытрынітарыі выступалі за стварэнне бескласавага грамадства, заснаванага на прымітыўна-камуністычных асновах, дзе няма прыватнай уласнасці, дзе праца з'яўляецца абавязкам кожнага чалавека, дзе няма войн і ўсякага насілля.

З такой праграмай не маглі згадзіцца шляхта і блізкія да яе багатыя і сярэднія слаі гараджан, якія абаранялі феадальную ўласнасць на зямлю і эксплуатацыю сялян, саслоўна-класавую няроўнасць. Разам з тым яны прызнавалі неабходнасць правядзення сацыяльных рэформаў і паляпшэння становішча сялянства, крытыкавалі свавольства магнатаў, асуджалі беззаконнасць. Выразнікамі іх поглядаў з'явіліся Сымон Будны і Васіль Цяпінскі — вядомыя дзеячы Рэфармацыі, пісьменнікі, асветнікі, гуманісты.

**Сымон Будны** — найбольш выдатны прадстаўнік памяркоўнага напрамку ў літоўскім антытрынітарызме. Яго дзейнасць звязана са зборамі ў Вільні, Клецку, Холме, Заслаўі, Лоску. У 1562 г. разам з Мацвеем Кавячынскім і Лаўрэнціем Крышкоўскім Будны заснаваў у Нясвіжы пратэстанцкую друкарню. Яны рабілі спробы выдаваць кнігі кірыліцай на старажытнабеларускай мове для распаўсюджвання рэфармацыйных ідэй сярод насельніцтва. Захаваўся толькі Катэхізіс 1562 г. — першая кніга на беларускай мове, выдадзеная на тэрыторыі Беларусі. У сваёй кнізе "Пра свецкую ўладу", выдадзенай у 1583 г. у Лоску, Будны знаёміў чытачоў з поглядамі прадстаўнікоў радыкальнай Рэфармацыі. С.Будны і В.Цяпінскі выступалі за развіццё беларускай культуры на роднай мове. На думку В.Цяпінскага, былая слава беларускага народа згасла па віне духоўных і свецкіх феадалаў, якія грэбавалі роднай мовай. Ён адстойваў права на яе самастойнае развіццё. В. Цяпінскі з'яўляўся ў той час

адзіным прадстаўніком пануючага класа, які абараняў нацыянальную мову і культуру, заклікаў феадалаў даць асвету народу.

На арыянскіх сінодах 60—70-х гадоў XVI ст. ішлі гарачыя спрэчкі паміж ідэолагамі розных кірункаў антытрынітарызму па наступных асноўных пытаннях: ці мае маральнае права "сапраўдны хрысціянін" эксплуатаваць працу прыгонных сялян, валодаць зямлёй, маёнткамі, займаць дзяржаўныя пасады, насіць зброю, прымаць удзел у войнах, падпарадкоўвацца свецкай уладзе і г. д.

Змякчыць сацыяльны радыкалізм левых арыян, прымірыць погляды левага і правага крыла, выпрацаваць кампраміснае вучэнне паспрабаваў у 80-я гады XVI ст. **Фаўст Соцын** — асоба, якой наканавана было адыграць выдатную ролю ў польскім і літоўскім антытрынітарызме. У канцы XVI ст. Соцын стаў яго фактычным лідэрам. У адрозненне ад ранняга антытрынітарызму антытрынітарызм XVII ст. у гістарычнай літаратуры прынята называць сацыніянствам. Новае вучэнне страціла сацыяльную завостранасць, адкінула праблемы бедных і багатых, прыватнай уласнасці. Цэнтрам сацыніянства ў ВКЛ у пачатку XVII ст. быў Наваградак.

Польскія і літвінскія феадалы, якія спачатку падтрымлівалі рэфармацыйны рух, напалоханыя прывідам сялянскай вайны, пакінулі яго шэрагі і перайшлі ў лагер контррэфармацыі. Феадальна-каталіцкая рэакцыя распачала наступленне, накіравала галоўны ўдар супраць антытрынітарызму.

Тэалагічны радыкалізм некаторых арыянскіх ідэолагаў, а таксама імкненне прапаведнікаў на практыцы рэалізаваць свае сацыяльныя лозунгі прывялі да канфлікту з шырокімі слаямі шляхты (у тым ліку кальвінісцкай), выклікалі моцную трывогу правячых колаў. Узмацняюцца ганенні і пачынаецца жорсткая траўля арыян езуітамі і дзяржавай. Неабходна адзначыць таксама, што ў той час ролю ідэалагічнай апазіцыі каталіцызму на Беларусі ўсё больш пачынае адыгрываць праваслаўе. Гэта таксама падрывала сацыяльную базу антытрынітарызму.

Рэфармацыйная "мода" аказалася недаўгавечнай. Унутраныя супярэчнасці, утапізм наіўна-камуністычных мараў найбольш радыкальных прадстаўнікоў антытрынітарызму, процідзеянне вярхоў,

дзяржаўныя санкцыі абумовілі заняпад гэтага напрамку ўжо ў апошняй трэці XVI ст.

У другой палове XVII ст. рэфармацыйны рух на Беларусі згас. Яшчэ ў 70-я гады XVI ст., калі ў ім узмацніўся сацыяльны пратэст, ад яго адышлі феадалы. Як толькі рух выйшаў з-пад іх кантролю, і яны ўбачылі ў ім небяспеку для сваіх інтарэсаў, іх арыентацыя на пратэстантызм як на ідэалагічную зброю супраць усемагутнасці царквы на гэтым вычарпала сябе. Феадалы без ваганняў пачалі мяняць свае рэлігійныя погляды. Наступленне контррэфармацыі, унутраныя супярэчнасці ў асяроддзі пануючага класа, адсутнасць апоры, а таксама ўзросшая роля Польшчы ў палітычнай структуры Рэчы Паспалітай абумовілі параўнальна хуткі адыход значнай часткі мясцовых феадалаў ад Рэфармацыі і пераход іх да каталіцызму. У гэту веру вярнуліся не толькі былыя каталікі. Яе прымалі таксама прадстаўнікі праваслаўных фамілій (Валовічы, Збаражскія, Сапегі), якія ненадоўга далучыліся да каталіцтва.

Нягледзячы на паражэнне, Рэфармацыя пакінула след у гісторыі Беларусі. Гэта значная і яркая з'ява ў грамадска-палітычным і культурным жыцці беларускага народа. Аднак яе значэнне для гісторыі Беларусі неадназначнае. Рэфармацыя садзейнічала фарміраванню грамадскай і ў некаторай ступені нацыянальнай самасвядомасці нашых продкаў, актывізацыі духоўнага жыцця і пранікненню ў яго рэнесансна-гуманістычных ідэй, развіццю асветы кнігадрукавання, станаўленню новых, секулярызаваных форм культуры, пашырэнню міжнародных культурных сувязей і кантактаў, уключэнню ВКЛ у еўрапейскі культурна-гістарычны працэс. З другога боку, Рэфармацыя садзейнічала культурнай і палітычнай паланізацыі шляхты і часткі мяшчанства, звужала сацыяльную аснову ўласна беларускай культуры.

## Контррэфармацыя. Дзейнасць езуітаў на Беларусі

Рэфармацыя моцна пахіснула пазіцыі каталіцкай царквы і яе кіруючага цэнтра — папства — у Заходняй Еўропе. Яны згубілі мільёны вернікаў, але змаглі аправіцца ад нанесенага ўдару, рэарганізавацца і пайсці ў наступ, каб рэстаўрыраваць страчаныя пазіцыі. Новую дактрыну і царкоўную палітыку Ватыкана вызначыў

Трыдэнцкі сабор (1545—1563). Наступіла эпоха контррэфармацыі — узначаленага папствам рэлігійна-палітычнага руху ў Еўропе ў сярэдзіне XVI—XVII стст. супраць Рэфармацыі, які быў формай умацавання феадальнага ладу ў эпоху яго распаду.

Папства зрабіла стаўку ў выратаванні каталіцкай царквы ад рэфармацыйнага крызісу на Ордэн езуітаў, створаны ў 1534 г. у Італіі іспанскім дваранінам Ігнацыем Лаёлай. Езуіты ўваходзілі ва ўсе сферы эканамічнага, палітычнага, культурнага, ідэалагічнага жыцця еўрапейскіх народаў, якія паддаліся пратэстанцкім павевам, і ўплывалі на свет ва ўгодным для рымскай курыі напрамку. Яны паставілі сабе на службу адукацыю, навуку, літаратуру, мастацтва.

Арганізацыйная і ідэйная пабудова касцёла прадугледжвала стварэнне інквізіцыі, з'яўленне індэкса (спіса) забароненых кніг, падлеглых знішчэнню, паяўленне сеткі навучальных устаноў (калегій) для падрыхтоўкі кадраў місіянераў для ахопленых рэфармацыйным полымем краін. Сваёй трывалай сістэмай асветы, высокім узроўнем выхавання і адукацыі моладзі езуіты ў хуткім часе здабылі добрую славу ў Еўропе.

Пачаткам контррэфармацыі ў ВКЛ лічыцца **1570 г.,** калі першыя езуіты з'явіліся ў Вільні. Іх паклікаў сюды віленскі біскуп Валер'ян Пратасевіч дзеля барацьбы з пратэстантамі і арганізацыі універсітэта ў сталіцы княства. У ахопленую Рэфармацыяй дзяржаву Ордэн накіраваў вопытных місіянераў, таленавітых багасловаў, прапаведнікаў, пісьменнікаў Пятра Скаргу, Францыска Сун'ера, Станіслава Лянчыцкага, Станіслава Влошака, Станіслава Варшавіцкага і іншых. Галоўным ідэолагам контррэфармацыі ў ВКЛ стаў Пётр Скарга. Па ўказанню Папы княства было выдзелена ў асобную Літоўскую езуіцкую правінцыю — адну з 35-ці ў Еўропе. Талерантнасць дзяржавы стварала добры грунт для дзейнасці Ордэна.

Акрамя езуітаў на працягу XIV—XVIII стст. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі 17 мужчынскіх каталіцкіх манаскіх ордэнаў (бернардзінцы, францысканцы, кармеліты, бенедыкцінцы, канонікі латэранскія, цыстэрыянцы, місіянары, піяры, рахіты, марыяне, камедулы, рэфарматы, трынітарыі, баніфраты, картузы, аўгусцінцы) і сем жаночых (дамініканкі, бернардзінкі, кармеліткі, цыстэрыянкі, марыявіткі, брыгіткі, бенедыкцінкі).

У апошняй трэці XVI ст. правячыя колы Рэчы Паспалітай, улічваючы цэнтралізаваны характар каталіцкай царквы, яе палітычныя сувязі і сацыяльны вопыт, сталі ўсё больш яе падтрымліваць. Прыхільнікам Ордэна езуітаў быў Стэфан Баторый, які абапіраўся на падтрымку касцёла ў сваёй унутранай і знешняй палітыцы. Пра сябе ён гаварыў: *"Калі б я не быў каралём, быў бы езуітам".* Ужо пры Баторыі езуіты карысталіся вялікім уплывам у Рэчы Паспалітай. Спрыяў "гвардзейцам Лаёлы" Жыгімонт III (1588—1632), "езуіцкі кароль", як ён сам сябе называў. Каралеўская ўлада і арыстакратычныя колы Рэчы Паспалітай шчодра надзялялі езуітаў вялікімі зямельнымі ўладаннямі з прыгоннымі сялянамі, ахвяравалі значныя грашовыя сумы на патрэбы Ордэна. Эканамічная моц забяспечыла яму магутны ідэалагічны і палітычны ўплыў.

Езуіты пакінулі след у гістарычных лёсах некалькіх пакаленняў беларусаў. Іх першачарговай задачай было вяртанне ў лона рымскай царквы спакушаных пратэстанцтвам вышэйшых слаёў і распаўсюджванне каталіцтва сярод праваслаўнага насельніцтва Беларусі. Галоўнымі сродкамі ажыццяўлення гэтых мэтаў былі палітыка, школа, літаратура, пропаведзь, набажэнства.

Каб кантраляваць палітыку, езуіты ўвайшлі ў палацы заможнага панства як духоўнікі, дарадчыкі, хатнія настаўнікі. На моладзь яны ўплывалі праз школу. У 1570 г. у Вільні Ордэн адкрыў свой калегіум, пераўтвораны ў 1579 г. у акадэмію. Гэта першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Вялікім княстве Літоўскім, яе заснаванне было важнай падзеяй у гісторыі культуры Беларусі. Першым рэктарам стаў Пётр Скарга. Вучні і прафесары віленскай альма-матэр заваявалі ёй славу па ўсёй тагачаснай Еўропе. "Логіка" Марціна Сміглецкага была перадрукавана і карысталася вялікім попытам у Англіі. Творы паэта і тэарэтыка літаратуры Мацея Казіміра Сарбеўскага вывучаліся ў Заходняй Еўропе, а сам ён здабыў лаўровы вянок з рук Папы. Грунтоўная гісторыя ВКЛ Войцэха Каяловіча мела поспех і пасля ягонай смерці. Вядомым у Еўропе быў астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі.

У 1579 г. езуіты заснавалі калегію ў Полацку, у 1584 г. — у

Нясвіжы, пазней — у Оршы, Бярэсці, Пінску, Наваградку, Гародні, Віцебску, Менску, Слуцку. З іх сцен выходзілі не толькі фанатычныя прыхільнікі каталіцкай ідэі, але і буйныя вучоныя, пісьменнікі, педагогі праваслаўна-уніяцкай арыентацыі (Мялецій Сматрыцкі, Сімяон Полацкі) і нават матэрыялісты (Казімір Лышчынскі — гадаванец Брэсцкай калегіі). Пры шэрагу ўстаноў Ордэна існавалі друкарні і багацейшыя бібліятэкі. У хуткім часе пісьменнікі, прапаведнікі Ордэна запаланілі кніжны рынак Беларусі сваёй друкаванай прадукцыяй, у якой дыскрэдытавалі пратэстанцкую і праваслаўную цэрквы і прапагандавалі каталіцкае веравучэнне.

Езуіты дамагліся ад улад пастановы аб закрыцці ўсіх арыянскіх школ і друкарняў у Рэчы Паспалітай, прыступілі да знішчэння кніг, унесеных у індэкс забароненых. У 1579 г. у Вільні па загаду біскупа Георгія Радзівіла упершыню ў ВКЛ запалала вогнішча з пратэстанцкіх і праваслаўных кніг.

Езуіты не забыліся і пра шырокія масы грамадства. У хуткім часе тэрыторыя Беларусі пакрылася сеткай кляштараў і пышных касцелаў, упрыгожаных абразамі, скульптурай, з велічнай арганнай музыкай. Народ пайшоў у іх. Езуіцкія прапаведнікі — сярод іх былі сапраўдныя свяцілы царкоўнага красамоўства (П. Скарга, С.Варшавіцкі і інш.) — ўзрушвалі люд сваімі пропаведзямі, вымушалі слухачоў плакаць і каяцца.

Пасля прыбыцця на Беларусь езуіты пастараліся дасканала вывучыць мову яе жыхароў і пачалі карыстацца ёю ў храмах у час казанняў. Каб наблізіць да сябе мясцовае насельніцтва, яны пайшлі на выкладанне беларускай мовы ў Полацкім калегіуме, на пераклад і выданне на мове нашага народа свяшчэнных кніг і рэлігійнай літаратуры. І гэта ў той час, калі праваслаўная царква абвяшчала ератычнымі ўсялякія спробы (напрыклад, першадрукароў Ф.Скарыны, І.Фёдарава) ўнясення ўсяго толькі элементаў мясцовых моў у свяшчэнныя кнігі з мэтай іх лепшага разумення.

Езуіты займелі добрую рэпутацыю сярод насельніцтва дабрачыннай дзейнасцю, аказаннем медыцынскай дапамогі: арганізацыяй аптэк, шпіталяў, прытулкаў для беднякоў. Старэйшай аптэкай Беларусі з'яўляецца менавіта езуіцкая аптэка, заснаваная ў 1687 г. у Гародні. Усё гэта дало свой плён. Паступова абноўленае і ўзмоцне-

нае езуітамі каталіцтва пачало выцiскаць кальвінізм, арыянства і іншыя пратэстанцкія секты.

Контррэфармацыя на Беларусі — частка еўрапейскага працэсу. Але яна мела тут свае асаблівасці. Рэфармацыя і контррэфармацыя на Беларусі часткова супалі ў сваім развіцці, што прывяло да асаблівай канфесійнай напружанасці ў апошнія дзесяцігоддзі XVI ст. У той жа час гістарычнае суіснаванне дзвюх, а потым трох хрысціянскіх цэркваў у Вялікім княстве Літоўскім выпрацавала нормы талерантнасці, таму контррэфармацыя не набыла тут такіх жудасных і агідных формаў, як месцамі ў Заходняй Еўропе, і рэлігійныя ганенні не былі такімі суровымі, як у Маскоўскай дзяржаве, дзе панавала ідэалогія адной царквы. У адрозненне ад заходнееўрапейскіх краін, дзе ў выніку Рэфармацыі ад каталіцкай царквы адкалолася яе частка і ўтварыла нацыянальныя пратэстанцкія цэрквы (гусіцкая ў Чэхіі, кальвінізм у Швейцарыі, лютэранства ў Германіі, англіканства ў Англіі і інш.), на Беларусі сілам контррэфармацыі ўдалося вярнуць у каталіцтва захопленую пратэстанцтвам знаць і далучыць да яго знаць праваслаўную, а народныя масы наблізіць праз унію. Контррэфармацыя на Беларусі была накіравана не толькі супраць пратэстантызму, але і супраць праваслаўя, якое адыгрывала ролю ідэалагічнай апазіцыі каталіцызму. Ватыкан намерваўся кампенсаваць страту мільёнаў вернікаў у Заходняй Еўропе праз духоўнае падпарадкаванне сабе ўсходнеславянскіх народаў. Беларусі ў планах Ватыкана адводзілася роля плацдарма для пранікнення ў Маскоўскую дзяржаву (гэты план выкладзены ў працы А.Пасевіна "Масковія"), а праз яе — у Азію для распаўсюджвання свайго ўплыву на народы Кітая, Індыі і іншых краін. Гэты намер выказаў Папа Рымскі Клімент VIII: "О, мае русіны. Спадзяюся праз вас перавярнуць у каталіцызм увесь усход!" **Адной з мэт польскіх духоўных і свецкіх улад у контррэфармацыі была ліквідацыя паліканфесійнага характару Вялікага княства Літоўскага шляхам акаталічвання прадстаўнікоў іншых рэлігій і ўмацаванне дзяржаўна-палітычнага адзінства Рэчы Паспалітай адзінствам веры.** На хвалі контррэфармацыі нарадзілася Берасцейская царкоўная унія 1596 г., якая падпарадкавала праваслаўную царкву Рэчы Паспалітай Папе

Рымскаму і гэтым умацавала пазіцыі Ватыкана на беларуска-ўкраінскіх землях. Ідэолагі контррэфармацыі разглядалі унію як пераходны этап да каталіцтва. Будучы кампрамісам у супрацьстаянні двух хрысціянскіх веравызнанняў, уніяцтва, аднак, недалёка адышло ад праваслаўя і не апраўдала надзей на акаталічванне беларусаў.

Каталіцкая экспансія абвастрыла супярэчнасці ў княстве і сустрэла рашучы адпор з боку праваслаўных брацтваў і палемістаў, якія ўзняліся на абарону нацыянальна-рэлігійнай традыцыі. Наступ контррэфармацыі намеціў шляхі да збліжэння пратэстантаў і праваслаўных. У 1599 г. у Вільні іх прадстаўнікі — 168 літоўскіх магнатаў і шляхцічаў — падпісалі акт аб узаемнай дапамозе супраць ваяўнічага каталіцызму. Але спыніць яго націск апазіцыя не змагла. Супраціў гвалтоўнаму акаталічванню і насаджэнню уніяцтва не раз выліваўся ў народныя паўстанні (супраць увядзення грыгарыянскага календара ў Полацку ў канцы XVI ст., расправа з уніяцкім архіепіскапам І.Кунцэвічам у Віцебску ў 1623 г, антыкаталіцкая і антыгуніяцкая накіраванасць паўстанняў 1648—1649 гг). У абстаноўцы абвастрэння рэлігійнай барацьбы ў Трэці Статут быў унесены артыкул аб верацярпімасці, аднак супярэчнасцяў ён не зняў і сітуацыі не змяніў. Талерантнасць Вялікага княства Літоўскага ў перыяд контррэфармацыі была паступова скасавана.

Асаблівым праследаванням з боку каталіцкай царквы і дзяржавы падвергліся прыхільнікі радыкальнай Рэфармацыі — антытрынітарыі (арыяне). З 40-х гадоў XVII ст. іх становішча ў Рэчы Паспалітай пачынае рэзка пагаршацца. У барацьбе з імі выкарыстоўваюцца самыя подлыя прыёмы: паклёп, пагромы. Усё мацней сказвалася сацыяльная ізаляцыя арыян ад сялянскіх мас. Польшча, ВКЛ, якія ў 20—60-я гады XVI ст. лічыліся найбольш талерантнымі краінамі, на пачатку XVII ст. становяцца арэнай жорсткіх праследаванняў і пагромаў іншадумцаў. У 1647 г. прыгаворам соймавага суда ў Рэчы Паспалітай зачыняліся ўсе арыянскія друкарні і школы. У 1648 г. арыяне былі пазбаўлены апекі Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г. Заключным актам арыянскай трагедыі з'явіліся падзеі 1658 г. У гэтым годзе сойм прыгаварыў іх да выгнання з дзяржавы. Ім было дадзена тры гады на ўладкаванне маёмасных спраў. Пасля гэтага тэрміну кожны, хто асмельваўся спавядаць ці

распаўсюджваць антытрынітарызм, падлягаў пакаранню смерцю. Застацца ў краіне мелі права толькі тыя, хто выказаў гатоўнасць перайсці ў каталіцтва. Наступны сойм скараціў тэрмін да двух гадоў. Найбольш паслядоўныя ідэолагі антытрынітарызму аддаліліся ў выгнанне. Але большасць прыхільнікаў руху не адважылася пакінуць радзіму і папоўніла шэрагі каталіцкай паствы.

Умовы для перамогі контррэфармацыі стварыла Люблінская унія 1569 г. Новая палітычная рэальнасць — аб'яднанне з дзяржавай, з пануючай каталіцкай рэлігіяй, дамінуючая роля Польшчы ў Рэчы Паспалітай — падштурхнула найбольш адчувальную да палітычнай кан'юнктуры кальвінісцкую шляхту да пераходу ў каталіцтва. Яе гнаў туды таксама страх перад нарастаючай хваляй народных рухаў, радыкалізм Рэфармацыі. Большасць беларускіх феадалаў як уцягнутых у вір рэфармацыйнага руху, так і праваслаўных у канцы XVI — пачатку XVII ст. кансалідуюцца з польскімі на аснове каталіцтва.

М. Сматрыцкі ў творы "Фрынас" (1610 г.) пералічвае 47 магнацкіх праваслаўных фамілій, прыняўшых тады каталіцтва (Сапегі, Валовічы, Храптовічы, Сангушкі, Скуміны, Чартарыйскія і інш.). Па іроніі лёсу прынялі гэту веру чатыры сыны пратэктара Рэфармацыі Мікалая Радзівіла Чорнага (адзін з іх, Мікалай Крыштаф Сіротка, прымусіў кальвіністаў пакінуць Нясвіж, Клецк, Ішкальдзь, Койданава), дзеці і ўнукі "стаўпа праваслаўя" Канстанціна Астрожскага. Зразумела, мянялі веру не ўсе пагалоўна. Маласхільнай да каталіцтва была дробная праваслаўная шляхта, большая яе частка ў XVII ст. прыняла унію.

Плён езуіцкай працы можна выразіць мовай статыстыкі. Праз пяць год пасля прыбыцця ў Вільню яны перавярнулі ў каталіцтва каля 6 тысяч чалавек. Адзін толькі Андрэй Баболя падчас місійнай працы ў Нясвіжы (1622—1624) схіліў да пераходу ў каталіцтва 10 пратэстантаў, 34 праваслаўных, 20 "недаверкаў-бязбожнікаў". Працуючы ў 1652—1653 гг. у Пінску, ён дамогся пераходу ў сваю веру дзвюх праваслаўных вёсак Баландзічы і Уздрожын (каля 80 двароў), пад яго уплывам пераважна каталіцкім стала праваслаўнае раней мястэчка Янаў. Ён паў ахвярай сваёй місійнай дзейнасці і быў кананізаваны Ватыканам. У 1660 г. у Рэчы Паспалітай каталікі

складалі 43%, уніяты — 33% (гэта былі, галоўным чынам, беларусы і ўкраінцы), праваслаўныя — 10%, іўдзеі — 9%, пратэстанты і прадстаўнікі іншых рэлігій — 5% ад колькасці ўсіх жыхароў дзяржавы.

Духоўнае жыццё Беларусі вызначалася ідэямі контррэфармацыі і пасля падаўлення Рэфармацыі — амаль да сярэдзіны XVIII ст. На змену ёй прыйшла эпоха Асветніцтва. Рубяжом паміж імі лічыцца мяжа 30—40-х гадоў гэтага стагоддзя.

У савецкай гістарыяграфіі паняцце "контррэфармацыя" несла на сабе адмоўную ацэначную нагрузку. Акцэнт рабіўся на яе рэакцыйнасць, дэнацыяналізатарскія тэндэнцыі, засілле рэлігійнай ідэалогіі. Панаваў погляд, што актывізацыя сіл контррэфармацыі ў другой палове XVII ст. ператварыла Беларусь амаль што ў інтэлектуальную пустэльню. Даследаванні А.Бірылы, У.Конана, А.Мальдзіса і інш. абверглі яго. Улік складанасці і супярэчлівасці эпохі, наднацыянальнай неаднароднасці культуры Беларусі XVII—XVIII стст., яе полілінгвістычнасці, інтэграванасці ў сістэме культуры Рэчы Паспалітай, бесперапыннасці працэсу фарміравання нацыянальных асаблівасцяў літаратуры, навукі, філасофіі і мастацтва ва ўмовах перавагі касмапалітычных тэндэнцый даюць падставу гаварыць аб шматзначнасці духоўна-культурнай функцыі контррэфармацыі на Беларусі.

Езуіцкая прапаганда, ідэалагічная і псіхалагічная апрацоўка далі вынікі. Літоўская знаць, зацягнутая раней у рэфармацыйны рух, цяпер пераходзіла ў каталіцтва. Вядома, што ў Вільні праз пяць гадоў пасля прыезду езуітаў перайшло ў каталіцтва каля 6 тыс. жыхароў горада. У канцы XVII ст. контррэфармацыя ў ВКЛ перамагла.

## ЛЕКЦЫЯ*25

## БЕРАСЦЕЙСКАЯ ЦАРКОЎНАЯ УНІЯ

- *Уніяцкая ідэя ў ВКЛ.*
- *Падрыхтоўка і зацвярджэнне уніі, яе ўмовы.*
- *Барацьба уніяцкай царквы за існаванне і самабытнасць.*

### Уніяцкая ідэя ў ВКЛ

Царкоўны раскол 1054 г. з'яўляецца адной з найвялікшых недарэчнасцяў чалавечай гісторыі, негатыўныя вынікі якога вось ужо амаль тысячагоддзе зведвае на сабе ўвесь хрысціянскі свет. Кіраўнікі праваслаўнай і каталіцкай канфесій выношвалі ідэю скасаваць збудаваную вякамі загародку паміж цэрквамі і ўзмацніць хрысціянства праз яднанне.

Ідэя уніі то замірала, то зноў уваскрасала. Была і спроба яе рэалізацыі ў **1439 г.** у Фларэнцыі. Тады ўпершыню ўдалося прымірыць грэкаў з рымскай царквою. Пад Фларэнційскай уніяй стаяў подпіс маскоўскага мітрапаліта. Фармальна яна пашыралася і на Вялікае княства Літоўскае, але фактычна не была тут ажыццёўлена.

У XV ст. уніяцкія тэндэнцыі былі вельмі моцнымі ў ВКЛ, якое больш за іншыя дзяржавы адчувала негатыўныя наступствы падзелу хрысціянства. Ідэя царкоўнага саюза мела ў грамадскім жыцці княства духоўна-культурныя і рэлігійна-царкоўныя карані. Карані гэтыя ў геапалітычным становішчы ВКЛ паміж Усходам і Захадам: паміж дзвюма магутнымі палітычнымі сіламі — Польшчай і Маскоўскай дзяржавай і двума сусветнымі рэлігійнымі цэнтрамі — Ватыканам і Канстанцінопальскім патрыярхатам. Гэты геапалітычны фактар, без уліку якога нельга правільна ацаніць многія падзеі нашай мінуўшчыны, абумовіў шматвяковую барацьбу беларускага і ўкраінскага народаў на чале са сваімі лідэрамі за дзяржаўны і культурна-рэлігійны суверэнітэт. Імкненне ВКЛ да дзяржаўна-царкоўнай незалежнасці выклікала ўзрастаючае супрацьдзеянне як з боку Польшчы, так і з боку Маскоўскай дзяржавы. Калі ў адносінах з заходнім суседам час ад часу ўдавалася дасягнуць пэўных кампрамісаў, адносіны з усходнім станавіліся ўсё больш складанымі. Пэўным колам у ВКЛ здавалася, што шляхам рэгіянальнай

уніі (калі правалілася унія ўсяленская - Фларэнцийская) магчыма вырашыць праблему супрацьстаяння на нашых землях Захаду і Усходу і стварыць самастойную царкву. Для шэрагу грамадскіх і рэлігійных дзеячаў царкоўны кампраміс з'яўляўся таксама сродкам інтэграцыі ў Заходнюю Еўропу. Падлічана, што з дзевяці абраных у княстве ў XV ст. мітрапалітаў пяцёра былі уніятамі або прыхільнікамі уніяцкай ідэі.

Канфесійны антаганізм у ВКЛ прымусіў ужо Вітаўта шукаць самастойныя шляхі царкоўна-рэлігійнага развіцця сваёй дзяржавы. Князь дамогся стварэння Літоўска-Наваградскай мітраполіі, незалежнай ад Маскоўскай, і вёў яе да яднання з Ватыканам, маючы на мэце стварэнне ў сваёй краіне адзінай самастойнай царквы, без яе падзелу на польска-каталіцкую і руска-праваслаўную. Вітаўту і яго пераемнікам не ўдалося ўвасобіць гэты намер у жыццё. Такім чынам, уніяцкая ідэя мела як экуменічныя, так і палітычныя мэты.

**Літвіны, будучыя беларусы, а таксама ўкраінцы, былі адносна падрыхтаваны да рэалізацыі ідэі уніі.** Гэта і папулярнасць ідэі хрысціянскага адзінства, і спецыфічны, сфарміраваны 200-гадовым суіснаваннем побач з каталіцтвам, менталітэт заходняга праваслаўя, і масавыя міжканфесійныя шлюбы, і сувязь ідэі уніі з ідэяй царкоўнай і дзяржаўнай незалежнасці ВКЛ як ад Польшчы, так і ад Масковіі, а таксама з ідэяй інтэграцыі ў еўрапейскую культуру, і ўзрастаючая пагроза дзяржаўнаму існаванню ВКЛ з Усходу і г. д.

Люблінская унія, Рэфармацыя і контррэфармацыя, завяршэнне працэсу фарміравання ўсходнеславянскіх народнасцяў, ускладнёнае дэнацыяналізацыяй сацыяльных вярхоў, стварылі новую геапалітычную сітуацыю ва Усходняй Еўропе і новую культурна-рэлігійную сітуацыю на тэрыторыі Беларусі і Украіны. Праваслаўная царква, што з'яўлялася адной з асноўных крыніц і носьбітаў духоўнасці, асветы, літаратуры, мастацтва, этнічнай адметнасці, знаходзілася тады, паводле слоў сучасніка, у стане "упадку, знишченью и опущенью". Стала відавочным культурнае "спазненне" беларускага і ўкраінскага грамадства, арыентаванага на Візантыю і яе культуру, якая страціла лідзіруючае становішча ў хрысціянскім свеце,' ад цэнтральна- і заходнееўрапейскіх краін.

Як ідэолагі контррэфармацыі, так і творцы уніі, гэтак і апалагеты праваслаўя галоўную прычыну адставання бачылі ў няздольнасці праваслаўнай царквы стварыць належную сістэму адукацыі, падрыхтаваць кадры высокакваліфікаванага духавенства, развіць багаслоўскую навуку і прапаведніцкае майстэрства. **Царква апынулася не ў стане задаволіць духоўныя патрэбы грамадства, губляла свой аўтарытэт, падаў прэстыж святарства.** Па словах П. Скаргі, на Русі *"попы схолопели, а наука упала".* На вялікую патрэбу "закладанья школ и наук вольных" указваў у 1593 г. свецкі лідэр беларускага і ўкраінскага праваслаўя магнат К.Астрожскі, асабліва *"для цвиченья духовным пильно потребо, ... бо за тым, иж наук нет, великое грубиянство в наших духовных умножилося".* Захады праваслаўнай вярхушкі па рэфарміраванню культурных асноў дзейнасці сваёй царквы аказаліся малаэфектыўнымі. Як прызнаваў у 1595 г. берасцейскі епіскап І.Пацей, саборныя пастановы *"з стороны школ и друкарни и иншых речей церкви Божой потребных, же я тому досыть не деет ".*

Дэградацыя праваслаўя літвінаў і русінаў была складаемай крызісу ўсяго усходняга хрысціянства і яго вытокі - ў падзенні палітычнага, рэлігійнага і культурнага ўплыву і прэстыжу захопленай туркамі Візантыі. У тыгх умовах шукаць паратунку і культурнай дапамогі ў барацьбе з адноўленым і ўзмоцненым каталіцтвам і рэфармацыйнымі плынямі ад Канстанцінопальскага патрыярхату не прыходзілася. З'явілася думка, што залежнасць ад яго бескарысная і нават шкодная. Рыхтуемае адступленне матывавалася адсутнасцю *"жадной утехи и допомоги в церковных справах"* з яго боку. Выключалася і арыентацыя на створаны ў 1596 г. Маскоўскі патрыярхат, які прысвойваў сабе місію "трэцяга Рыма", бо *"великое грубиянство, упор и забобоны суть в народе Московском".* Акрамя таго, пасля спусташальнай Лівонскай вайны распаўсюджвання ўплыву Масковіі баяліся.

Затое прыцягальны прыклад духоўнага ўздыму даў пераадолеўшы рэфармацыйны крызіс каталіцкі Захад. Езуіты паўсюль, і ў Рэчы Паспалітай, заснавалі добрыя школы, вылучылі красамоўных прапаведнікаў, таленавітых пісьменнікаў, выдалі каштоўныя кнігі, пазакладалі друкарні і аздаравілі касцёл. Каталіцкі клір аказаўся вышэй праваслаўнага з пункту гледжання асветы. Гэтыя поспехі

паказалі адставанне ўсходнеславянскага свету. А тут яшчэ ідэолагі контррэфармацыі малявалі радужную карціну яго жыцця пад апекай рымскай курыі. Захад прапаноўваў гатовыя мадэлі рэформаў для Кіеўскай мітраполіі.

Але значная частка праваслаўнага духавенства займала ахоўна-кансерватыўную пазіцыю і ў сваім непрыняцці "лацінства", адмаўленні набыткаў еўрапейскай рэлігійнай і свецкай культуры праводзіла палітыку духоўна-культурнай ізаляцыі Беларусі ад заходняга свету. Тыя лідэры беларуска-ўкраінскага праваслаўя, якімі рухала імкненне павесці свае народы па дарозе еўрапейскага прагрэсу, пайшлі на наладжванне дыялогу з Захадам. Унія абяцала ім, без страты пасад, далучэнне да яго багатых інтэлектуальных дасягненняў. Шлях пераадолення крызісу і аднаўлення бачыўся ў выхадзе з царкоўнай і культурнай арбіты Візантыі і пераходзе пад кіраўніцтва другога сусветнага хрысціянскага цэнтра.

Завяршалася фарміраванне беларускай і ўкраінскай народнасцяў. Да сярэдзіны XVI ст. праваслаўе з'яўлялася адным з этнакансалідуючых фактараў. Але ў новай духоўнай і этнакультурнай сітуацыі яно праявіла нягнуткасць і няздольнасць "перабудавацца" з улікам інтарэсаў гэтых народнасцяў, у той час як расійская праваслаўная царква з усталяваннем Маскоўскага патрыярхату набывае нацыянальны характар. На хвалі Адраджэння і Рэфармацыі ў Еўропе ўзнікаюць іншыя нацыянальныя цэрквы: у Чэхіі (гусізм), у Германіі (лютэранства), Швейцарыі (кальвінізм), Англіі (англіканства). Зараджэнне ў выглядзе уніяцтва беларускай і ўкраінскай нацыянальнай царквы цалкам упісваецца ў культурна-гістарычны кантэкст таго часу. Няўдалыя спробы уніяцкага кіраўніцтва стварыць у другой чвэрці XVII ст. уласны патрыярхат пацвярджаюць гэты намер.

Заключэнню Берасцейскай уніі папярэднічала спецыфічная моўная сітуацыя: паланізацыя (тады яшчэ добраахвотная) пануючага класа, патрэба ў лаціне як сродку адаптацыі да заходнееўрапейскай навукі і культуры, штучнае падтрыманне праваслаўнай царквой зжываўшай сябе царкоўна-славяншчыны і, галоўнае, абуджаная Рэфармацыяй цікавасць да нацыянальных моў. Яшчэ В.Цяпінскі асуджаў тых паноў, якія *"і пісьмом сваім, а звлашча ў слове божым*

*устыдаюць".* Прыхільнікі уніі адчувалі патрэбу шырокага дапушчэння роднай мовы ў царкву і школу, недахоп на ёй канфесійнай літаратуры. Як пісаў у 1595 г. І.Пацей, *"люди народу нашого Руского тое згоды светое бегають"* таму, што *"коли письма и книг светых отец, до таковых речей потребных в нашом языку не маем, а чужым верити не хочем, але все людское ганим, а своего лепшого не покажем".*

Не паспелі аформіцца беларускі і ўкраінскі этнасы, як на іх абрынуўся удар паланізацыі, якая ішла праз касцёл. Многія з магнатаў і шляхты ішлі ў Рэфармацыю, а праз яе — у каталіцызм. *"Люди нашое религии згоршили, ... — пісаў у 1593 г. кіеўскі ваявода, — многие, насмеиваючисе з нее и опускаючи, до розмаитых сект утекают". "... Што ся в моей епископии Берестейской деет, — скардзіцца Пацей (1595 г.). —Але то горшое злое, же отпадают не по одному, але громадами, видячи нашу непотужность; а потом Бог то ведает, з ким ся зостанем".* Праваслаўная царква страціла сваю эліту — інтэлігенцыю. Трэба было ратаваць паству ад пераходу на лацінскі абрад. Пошукі рэлігійнай альтэрнатывы праваслаўю і каталіцызму, прывялі мясцовых хрысціянскіх лідэраў да ідэі царкоўнай уніі. Падбіраючы канфесію "пад сябе", яны аддалі перавагу сувязям з заходнееўрапейскім светам.

Такім чынам, пэўныя духоўныя і свецкія колы разарванага Люблінскай уніяй на часткі Вялікага княства Літоўскага ўбачылі ў царкоўным яднанні шлях да духоўнага адраджэння беларуска-украінскага грамадства і ўмацавання яго культурна-рэлігійнай і этнічнай асобнасці ў праваслаўна-каталіцкім атачэнні.

У апошняй трэці XVI ст. Ватыкан у сваіх планах распаўсюджвання ўплыву на праваслаўны Усход звярнуў асаблівую ўвагу на беларускія і ўкраінскія землі. Заснаванне Маскоўскага патрыярхату ў 1589 г. узмацніла праваслаўе на расійскіх землях. Таму Ватыкан паспяшаўся з набліжэннем да сябе другой часткі ўсходнеславянскага свету. Праз унію ён намерваўся кампенсаваць страту сваіх пазіцый і мільёнаў вернікаў на пратэстанцкім Захадзе. Намеры папства супалі з імкненнем палітыкаў Рэчы Паспалітай умацаваць дзяржаву, якую раздзіралі рэлігійныя супярэчнасці праз адзінавер'е ўсіх падданых.

Такім чынам, рэлігійная згода 1596 г. з'явілася ў выніку збегу як комплексу еўрапейскіх рэлігійна-палітычных адносін 60—90-х гадоў XVI ст., так і ўнутраных абставін. Яна была дасягнута трыма раўнапраўнымі партнёрамі: Ватыканам, Польшчай і Літвой у асобе беларускай духоўнай іерархіі і часткі свецкай эліты, кожны з якіх меў свае інтарэсы і праводзіў уласную лінію ў царкоўнай сферы. Два першых разглядалі унію (грэка-каталіцтва) як пераходную ступень у рыма-каталіцтва. Апошні дастаткова паслядоўна адстойваў мясцовыя рэлігійна-палітычныя і этнакультурныя інтарэсы.

### Падрыхтоўка і зацвярджэнне уніі, яе ўмовы

1596-ы год абумоўлены 1589-ым. З павышэннем статуса маскоўскай праваслаўнай царквы павінна была вызначыць сваё месца ва ўскладнёнай канфесійнай сітуацыі і Кіеўская мітраполія. Асцярога духоўнай залежнасці ад Масквы, боязь яе ваенна-палітычнай сілы, зведанай у Лівонскай вайне, разам з незадаволенасцю духоўным кіраўніцтвам Канстанцінопаля штурхнулі беларуска-ўкраінскую іерархію ў абдымкі Рыма. Нямецкі гісторык Э.Вінтэр слушна лічыць Брэсцкую унію плодам канфлікту славянскіх народаў, пажатым рымскай курыяй.

Унія была прынята не паспешна і бяздумна, а пасля працяглых роздумаў і шматлікіх сустрэч. Яе падрыхтоўка доўжылася пяць гадоў. На саборах, нарадах, перамовах з прадстаўнікамі Ватыкана выкрышталёўваліся яе ўмовы. Тады ж паўстала пытанне аб гарантыях забеспячэння самабытнага аблічча, асобнасці, правоў і прывілеяў сваёй царквы. Заходняя пазіцыя навязвання нераўнапраўнага саюза, які мысліўся польскімі і ватыканскімі коламі як пераходная ступень да поўнага акаталічвання, была разбіта на тых перамовах. Падтрыманы ўладамі ВКЛ, беларуска-ўкраінскі епіскапат агаварыў, што ўступіць у саюз з касцёлам, толькі *"заховавши вцале церемонии и обрадки хвалы божое и сакрамента светые водлуг звычаю стародавнего церкви восточное,, только попраивши некоторых певных артыкулов, которые соедтению перешкажали, абы по старому было".*

Ініцыятарамі і выканаўцамі задумы сталі ўладзімірскі і брэсцкі

епіскап Іпацій Пацей і луцкі епіскап Кірыла Тарлецкі. Спачуванне і падмогу яны знайшлі ў асобе- караля і князя Жыгімонта Вазы і канцлера ВКЛ Льва Сапегі.

Адам (у манастве Іпацій) Пацей (1541—1613) — шляхціч, выхадзец з праваслаўнага роду з Берасцейшчыны. Атрымаў пачатковую адукацыю ў пратэстанцкай школе пры двары віленскага ваяводы, канцлера Вялікага княства Літоўскага Мікалая Радзівіла Чорнага, які быў найбольш заўзятым рэфарматарам на Беларусі і паклаў усё сваё багацце ды аўтарытэт на справу ўзмацнення новай веры. Рэфармацыя ў 50—60-я гады XVI ст. стала ўсеагульным захапленнем, не дзіва, што малады Пацей, які жыў у кальвінісцкім асяродку, перайшоў з праваслаўя ў пратэстанцтва. Але пазней зноў вяртаецца ў веру бацькоў. Пасля заканчэння школы Адам атрымаў вышэйшую адукацыю ў адным з універсітэтаў Польшчы, потым некалькі гадоў выконваў абавязкі сакратара пры князю Мікалаю, спасцігаючы азы дыпламатыі і палітыкі. Забяспечаны падтрымкай Радзівіла, Пацей меў бліскучую кар'еру.

Пакрысе ён пачынае адыгрываць важную ролю ў жыцці Берасцейскага ваяводства. Ён займаў даволі высокія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім і карыстаўся аўтарытэтам як палітык. Спачатку быў прызначаны пісарам у земскім судзе і, здабыўшы на гэтай пасадзе аўтарытэт разумнага і дзейснага чалавека, пасланы ў 1569 г. на Люблінскі сойм прадстаўляць берасцейскую шляхту, там удзельнічаў у падпісанні дзяржаўнай уніі паміж ВКЛ і Польшчай. Потым Пацей займаў пасаду берасцейскага суддзі земскага, кіраваў зборам падаткаў у ваяводстве, удзельнічаў у Лівонскай вайне. У 1588 г. новы кароль Жыгімонт III прызначыў яго берасцейскім кашталянам і сенатарам. Гэтым заканчваецца свецкая дзейнасць пана Адама. Уплывовы праваслаўны магнат Канстанцін Астрожскі схіляў яго да заняцця вакантнай пасады ўладзімірскага і берасцейскага епіскапа. У 1593 г. Адам пастрыгся ў манаства і быў рукапаложаны мітрапалітам літоўскім Міхаілам Рагозаю ў сан епіскапа.

На саборы праваслаўных епіскапаў у Бярэсці **вясной 1595 г.** была абвешчана дэкларацыя аб рашэнні заключыць саюз з каталіцкай царквой. Яе падпісалі кіеўскі мітрапаліт Рагоза і ўсе епіс-

капы Вялікага княства Літоўскага, акрамя львоўскага і перамышльскага. Сабор упаўнаважыў І. Пацея і К. Тарлецкага на далейшыя перамовы з каралём і Папам Рымскім, і пры дасягненні згоды — на правядзенне акта уніі.

Усяго было выпрацавана 33 артыкулы-умовы царкоўнай згоды, гарантыі якіх трэба было дамагчыся перш чым прызнаць над сабой уладу Рыма. Гэты праграмны дакумент уніятаў утрымліваў некалькі блокаў пытанняў: дагматычныя, абрадавыя, кадравыя, маёмасныя, моўныя, узаемаадносіны з дзяржавай, касцёлам, адзначэнне святаў і іншыя. Іх складальнікі паслядоўна праводзілі ў жыццё ўласную царкоўную і нацыянальную лінію. Забяспечвалася багаслоўская, літургічная і арганізацыйная самабытнасць новастварaемай царквы. Артыкулы былі заклікaны нейтралізаваць небяспеку лацінізацыі і паланізацыі. Іх форма і змест абвяргаюць стэрэатып аб поўным падпарадкаванні беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы рымскай і расчыстцы шляху для польска-каталіцкай культурна-рэлігійнай экспансіі. У ім спалучыўшыся элементы старога і новага, айчыннага і чужаземнага.

Перамовы з прадстаўнікамі касцёла і дзяржавы вяліся асобна. Папа Рымскі і кароль-князь з павагай паставіліся да правоў праваслаўнай царквы ВКЛ. Зацверджаныя імі ў 1595—1596 гг. артыкулы не былі іх ласкай, але ўтрымлівалі яе даўнія і абгрунтаваныя правы і ніколі ў далейшым не аспрэчваліся. Згодна з імі жыла і дзейнічала царква.

Этнакультурную своеасаблівасць і адасоблены статус царквы гарантавалі наступныя артыкулы: 6. "Календарь новый, если не может быть по старому, примем, однако без нарушения Пасхалии и других праздников, ... поскольку имеет некоторые свое особенные праздники, которых панове римляне не имеют..." (Удакладнім, што, улічваючы "хлопскае разуменне каляндарных навін" — непрыняцце грыгарыянскага часалічэння народам, уніяцкая царква жыла па старым, юліянскім календары). 10. "Митрополии и епископства и другие достоинства давать только людям народу русского..., чтобы были нашей религии". 15. "Если бы кто временем из нашей религии, пренебрегая своей религией и церемонией, захотел присоединиться к римским церемониям, чтобы таковой не был принят..." 25.

"Монастыри и церкви наши русские пусть не обращаются в костелы..." 29. "Чтобы тех, кои были наказаны епископом, в римской церкви не принимали и наоборот".

Новае веравызнанне ўтваралася шляхам трансфармацыі праваслаўя з захаваннем дастаткова жорсткай пераемнасці. Яно аддалілася ад праваслаўя і не злілося з каталіцтвам — у гэтым яго спецыфіка. Гэта была спроба ўзгадаць новую форму рэлігіі на візантыйска-усходнеславянскай аснове з выкарыстаннем заходніх традыцый. Яна складвалася, не адмаўляючы і не разбураючы папарэднюю. Нават праваслаўны палеміст прызнаў, што прыхільнікі уніі "все наше церемонии и веры вызнанья и сакраменты все юж хвалят, только же быхмо папежа за голову признали".

На першых парах пасля Берасцейскага сабора наогул здавалася, што аніякіх змен у рэлігійным жыцці не адбылося, акрамя як прызнання Папы Рымскага ганаровым галавой. Наўрад ці можна аспрэчваць распаўсюджванне, асабліва ў далейшым, на уніяцтва каталіцкай дагматыкі, але знешніх форм усходняга традыцыяналізму яно трымалася вельмі ўпарта. Заходнія элементы, як правіла, былі вынікам свядомага выбару уніяцкай царквы. Тое, што прыўносілася штучна, прымусова, звычайна не прыжывалася на мясцовай глебе. Пры ўвядзенні уніяцтва не было радыкальнай ломкі рэлігійных народных традыцый і звычаяў. У адваротным выпадку яго творцы засталіся б у ізаляцыі. Ды й палажэнне аб упамінанні Папы Рымскага ў набажэнстве як абавязковае для ўсіх было замацавана толькі на Замойскім саборы 1720 г. Восенню 1595 г. Жыгімонт III звярнуўся да падданых сваёй дзяржавы з універсалам, у якім абвясціў рашэнне вышэйшага праваслаўнага духавенства аб уніі, якая патрэбна Рэчы Паспалітай для ўзмацнення яе цэласці, і заклікаў у *"добрай волі і любві" прыняць унію.*

Тады ж Пацей з Тарлецкім паехалі ў Ватыкан, дзе 23 снежня на пасяджэнні калегіі кардыналаў з удзелам папы Клімента VIII была ўрачыста абвешчана унія. Яны выступілі з прамовай: першы — на лаціне, другі — на рускай мове, і перадалі Папе Рымскаму акты з умовамі прызнання праваслаўнай царквой Рэчы Паспалітай яго ўлады над сабой і злучэння з каталіцкай царквой. Рымскі першасвятар выдаў булу аб уніі, якая рэгламентавала ўмовы злучэння,

сярод іх дазвол на захаванне ўсходняй абраднасці. У гонар падзеі ў Ватыкане быў адбіты медаль з- надпісам *"Ruthenis receptis" ("На пераварочванне (схіленне) рускіх ").*

Новы накірунак хрысціянства — уніяцтва — быў аформлены на Берасцейскім саборы **6—9 кастрычніка 1596 г.** Дзяржаўную ўладу на ім прадстаўляў канцлер Леў Сапега і іншыя ўрадаўцы. Праваслаўная апазіцыя правяла тады ў Бярэсці свой Сабор. Ён аб'явіў імпічмент уніяцкім уладыкам, адлучыў іх ад царквы і выракся царкоўнай еднасці.

Каралеўскі універсал 15 кастрычніка 1596 г. зацвердзіў царкоўнае злучэнне. Урады Вялікага княства Літоўскага і Полыпчы, Ватыкан пачалі афіцыйна лічыць унію адбыўшымся фактам.

### Барацьба уніяцкай царквы за існаванне і самабытнасць

Канфліктнасць Берасцейскага сабора была перанесена на грамадства. Яно забурліла. Прамоўцы з царкоўных кафедр, палемісты са старонак сваіх кніг вяшчалі народу pro і contra уніі. Нават летапісец занатаваў: *"У Берестью нашолся было человек якийсь простый, который великие речы мовил, же страх слов его людей преникал, ... и напоминал, абы люде своей веры моцность держали".* Новае зерне рэлігійнага супрацьстаяння трапіла ў толькі што сфарміраваную беларускую народнасць, якая ўжо паспела зведаць удар паланізацыі. Настроі і сімпатыі разышліся: моцнае жаданне царкоўна-рэлігійнай рэформы ў адных і агіда да яе ў другіх. Ідэолагі кожнага з гэтых лагераў былі ўпэўнены, што менавіта яны адстойваюць праўду, выказваюць інтарэсы ўсяго этнасу, ад імя якога і выступалі.

1596-ы год абудзіў у народзе вялікія дрымотныя сілы і падштурхнуў да ўздыму яго этнічнай самасвядомасці. Калі ў эпоху Адраджэння і Рэфармацыі яна праяўлялася найперш на ўзроўні перадавых дзеячаў культуры (Ф.Скарына, С.Будны, В.Цяпінскі), то цяпер — масава. Духавенства з розных прыступак іерархічнай лесвіцы, магнаты і шляхта, брацтвы, гараджане спяшаліся засведчыць свае адносіны да берасцейскай згоды. Як яе прыхільнікі, так і праціўнікі ўкладвалі кожны сваё разуменне ў паняцце нацыянальна-рэлігійнага патрыятызму. У першьгх ён праяўляўся ў жаданні духоўнага

адраджэння свайго народа праз "паправу" царквы з выкарыстаннем вопыту каталіцкага Захаду. Унія ўсведамлялася імі справай годнай, законнай і нават выратавальнай ва ўмовах канфесійнай напружанасці і ціску з боку касцёла, з якім яны намервал іся інтэгравацца *"без абразы сумлення і веры". "Не лічы грахом, ані стыдом таго, што іншыя народы без стыду і без граху зрабілі",* — пераконваў у 1628 г. Віленскае брацтва выдатны царкоўны і грамадскі дзеяч, вучоны і пісьменнік М.Сматрыцкі.

Творцы уніі былі ўпэўнены ў яе міратворчай ролі, бяскрыўдным характары, шчыра да яе імкнуліся і клапаціліся аб добрасумленных і прыстойных метадах яе распаўсюджвання. Яны лічылі сябе пераемнікамі задумы і справы, атрыманай у спадчыну ад продкаў: *"Гэта еднасць не ад нас пачалася, а тут у дзяржаве даўно была, але толькі злымі людзьмі затоена",* — паведамляў мітрапаліт І.Пацей канцлеру Л.Сапегу аб знаходцы ў Вільні і Лаўрышаве старажытных рукапісаў, што гэту даўнасць пацвярджалі.

Далёка не ўсё беларуска-украінскае грамадства пагадзілася тады з такім гістарычным выбарам епіскапату. Тагачаснаму чалавеку, выхаванаму на рэлігійным светапоглядзе, парушэнне шасцісотгадовай праваслаўнай традыцыі ўяўлялася катастрофай, цяжкім злачынствам, якое пагражае вечнай карай. Праваслаўная апазіцыя выяўляла свой патрыятызм недапушчэннем змен у царкве ў празаходнім духу, бо той нёс з сабой пагрбзу дэнацыяналізацыі, аддаленасцю Канстанцінопальскаму патрыярхату, ад якога ў свой час Беларусь прыняла хрысціянства. Што да праваслаўнай шляхты, то тады яна не жадала прынесці свае рэлігійныя перакананні ў ахвяру дзяржаўнай палітыцы.

Апазіцыя была не супраць уніі ў прынцыпе, але супраць яе рэгіянальнага характару — яна хацела універсальнага злучэння ўсходняга і заходняга хрысціянства. Па-другое, адмове ад падпарадкавання патрыярхам і прызнанню прымату Папы Рымскага проціпастаўлялася згода, заснаваная на парытэце двух сусветных хрысціянскіх цэнтраў. Унія, у яе берасцейскім варыянце, праваслаўным артадоксам ўбачылася як здрада веры продкаў, свайму народу, Айчыне, знявага нацыянальных традыцый. За царкоўна-рэлігійным саюзам 1596 г. на стагоддзі замацавалася рэпутацыя на-

цыянальнай здрады, а яго дзеячы зняслаўлены і асуджаны на праклён. Грамадству навязвалася думка, што унія нясе звяржэнне праваслаўя, дэнацыяналізацыю і ўсюды будзе ўведзены каталіцызм. Любы рэверанс Пацея, Руцкага і іх пераемнікаў у бок Захаду падаваўся як абраза нацыянальнага і рэлігійнага самалюбства праваслаўных беларусаў.

Наладзіўшыя уніяцкі эксперымент епіскапы не змаглі прадбачыць такога моцнага масавага супраціўлення. Тады ўсё здавалася прасцей: падпарадкаванае духавенства і паства пойдуць за сваімі пастырамі. Але намеры ініцыятараў царкоўнага прымірэння праз яднанне наткнуліся на неразуменне і байкот праваслаўнай большасці, якая не прызнала іх рэформы. Паводле слоў Пацея, *"вместо подякования и вдячности за старане нашо, у великую ненависть и в неласку до своих же прышли. Также не толко слов ушчипливых писма вшетечного насмотрелися есмо и наслухалися, але наконец и погрозок и небезпечность здоровья нашего увезде полно".*

Нацыянальна-рэлігійныя пачуцці дасягнулі высокай ступені напалу ў канцы XVI — першай палове XVII ст. Барацьба вакол царкоўнага аб'яднання сведчыла аб росце этнічнай, культурнай, гістарычнай самасвядомасці беларускага народа. Беларусь перажывала тады перыяд паскоранага нацыянальнага развіцця. Аднак замест чаканай кансалідацыі раз'яднанага рэлігіяй народа унія на першым этапе сваёй гісторыі яшчэ больш напаліла канфесійную атмасферу, стала крыніцай канфрантацыі і далейшага паглыблення этнічнай дэзынтэграцыі па веравызнаўчай адзнацы. Рэлігійныя рэфарматары намагаліся павесці па берасцейскім шляху ўсю беларуска-ўкраінскую царкву, але тайнае пасвячэнне ў 1620 г. новай праваслаўнай іерархіі ўнесла ў яе раскол, пасля чаго ўжо не магло быць размовы аб адзінай лініі развіцця.

Уніяцтва заваёўвала сабе месца ва ўсходнеславянскім свеце, ужо падзеленым на сферы ўплыву паміж праваслаўем і каталіцызмам. Як і тыя ў свой час, яно набывала прыхільнасць мас найперш культурна-стваральнымі метадамі, як і яны, мела дзяржаўную падтрымку і гэтак жа не пазбегла прымусу. Колькасць паслядоўнікаў новай веры спачатку была нязначнай. Але паступова яна ўсё больш заваёўвае сімпатыі народа. Даследчыкі адзначаюць паварот у на-

строях шляхты ў яе бок у 30-я гады XVII ст. Уніяты ў другім—трэцім пакаленні ўжо лічылі яе роднай верай, якая дасталася ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў. Рэформы мітрапаліта І.Руцкага і А.Сялявы ўмацоўваюць царкву. Стабілізацыя уніяцтва адбылася ў 30—40-я гады XVII ст. Яно стала верай, галоўным чынам, сельскага насельніцтва, гарадскіх нізоў, часткі дробнай і сярэдняй шляхты. Магнаты і ў большасці сваёй шляхта пасля падаўлення Рэфармацыі аддавалі перавагу каталіцтву. У апошняй трэці XVII ст. вера істотна пашырае свае пазіцыі, на мяжы XVII—XVIII стст. становіцца самай масавай і пачынае адыгрываць ролю традыцыйнага царкоўнага інстытута. А сучаснікі ліквідацыі уніяцтва ў канцы XVIII—XIX стст. адзначалі закаранеласць народа ў сваёй веры.

Побач са шчырымі уніятамі, якія свядома прынялі гэта спавяданне, былі і "нявольныя", або фармальныя — загнаныя туды прымусам і схільныя пры зручным выпадку кінуць навязаную ім рэлігію. Асабліва шмат такіх было на ўсходзе Беларусі — раёне манапольнага да сярэдзіны XVI ст. панавання праваслаўя.

Гісторыя царкоўнай уніі — гэта барацьба за паварочванне ўсяго беларуска-ўкраінскага праваслаўя на берасцейскі шлях, на пераарыентацыю культурна-рэлігійнага жыцця з Усходу на Захад і ў той жа час імкненне да ўмацавання сваіх пазіцый у духу самастойнасці і асобнасці ад заходняга хрысціянства.

Першым папрацаваў на гэтай глебе І. Пацей. Нават гісторык М. Каяловіч прызнае, што Пацей *"стаіць са сваёй уніяй паміж Руссю і Польшчай, праваслаўем і лацінствам".* Асабліва шмат зрабіў для надання арганізацыйнай зграбнасці, павышэння культурнага ўзроўню і захавання ў самабытных формах уніяцкай царквы, якая апынулася на раздарожжы паміж Усходам і Захадам, **мітрапаліт І. Руцкі (1613—1637)**. Нарадзіўся ён у радавым маёнтку Рута непадалёк ад Наваградка ў сям'і пратэстантаў. Вучыўся ў Віленскай кальвінісцкай школе, Пражскім, а потым Вюрцбургскім (у Баварыі) універсітэтах, атрымаў званне доктара філасофіі. Перахрысціўся ў каталіцтва. Потым вучыўся ў грэчаскай калегіі ў Рыме, якая рыхтавала высокаадукаваных уніяцкіх місіянераў, праз якіх Папа Рымскі імкнуўся пашырыць сваю духоўную ўладу на праваслаўным Усходзе. Там па настаянню папы Клімента VIII перайшоў ва уніяцкае праваслаўе.

Пасля вяртання на радзіму Іосіф Руцкі прызначаецца І.Пацеем рэктарам уніяцкай манаскай школы ў Вільні. Ён выношваў планы перабудовы духоўнай адукацыі, арганізацыі уніяцкага манаства ў Базыльянскі ордэн (ордэн св. Васіля Вялікага), прыняў манаства, цалкам аддаў сябе справе уніі. Ва уніяцтве Руцкі бачыў тую сілу, якая павінна калі-небудзь аб'яднаць праваслаўе і каталіцтва. У 1613 г, пасля смерці І. Пацея, ён быў прызначаны трэцім уніяцкім мітрапалітам. Рэарганізаваны ім Базыльянскі ордэн шмат зрабіў для ўмацавання і распаўсюджвання уніі на землях Беларусі і Украіны. Ордэн сканцэнтраваў у сваіх руках усю сістэму адукацыі, падрыхтоўкі багасло̆ўскіх кадраў, кнігавыдавецкую дзейнасць уніяцкай царквы і зрабіў пэўны ўклад у развіццё культуры Беларусі. У 20-я гады Руцкі актыўна ўдзельнічаў у літаратурнай палеміцы паміж прыхільнікамі уніяцтва і праваслаўя. Асноўныя спрэчкі тады вяліся паміж Мялеціем Сматрыцкім, з праваслаўнага боку, і І.В. Руцкім - з уніяцкага. Руцкі Цакінуў пасля сябе багатую літаратурна-публіцыстычную спадчыну на старабеларускай, лацінскай і італьянскай мовах.

Балансаванне паміж дзвюма цывілізацыямі ў пошуках сваіх шляхоў развіцця для беларускіх і ўкраінскіх зямель парадзіла супрацьлеглыя, узаемавыключаючыя ацэнкі яго рэлігійнай палітыкі. Адны абвінавачвалі: ён дапусціў ва уніяцтва столькі "лацінства", што яшчэ больш адштурхнуў ад яго праваслаўных і нават збянтэжыў уніятаў. Падзяляем думку, што рэформы Руцкага былі накіраваны на духоўна-культурны ўздым сваёй веры і супрацьдзеянне ўплывам каталіцкай царквы, асабліва моцным сярод адукаваных колаў грамадства. У паслялюблінскі перыяд нацыянальна-культурны патэнцыял беларускай і ўкраінскай народнасцяў быў значна аслаблёны, бо на працягу аднаго-двух пакаленняў яны страцілі сваю арыстакратыю і інтэлектуальную эліту, якая перайшла ў каталіцтва, але ў значнай меры не праз унію, а праз Рэфармацыю. Мітрапаліт вёў барацьбу за правы сваёй царквы, супраць дэнацыяналізацыі народаў. Ён дамагаўся ад рымскай курыі забараніць пераход і без таго нешматлікай беларуска-ўкраінскай шляхты на лацінскі абрад, бо з прычыны гэтага царква нясе вялікія людскія і маральныя страты. Ён патрабаваў, каб езуіты спынілі перацягваць беларускую і ўкраінскую моладзь у

свой абрад, пагражаючы ў адваротным выпадку забараніць бацькам пасылаць дзяцей у іх школы, і імкнуўся да стварэння сваёй сістэмы асветы для падрыхтоўкі духоўных кадраў. Выдадзены ў 1624 г. у адказ на гэтыя хадайніцтвы дэкрэт Урбана VIII спыніў масавае спакушэнне уніятаў у "вышэйшую" веру і выратаваў значную частку беларуска-ўкраінскай шляхты для уніяцкай царквы. Дэкрэтам ватыканскай кангрэгацыі распаўсюджвання веры 1627 г. базыльянскіх манахаў дазвалялася прымаць у каталіцтва толькі з асобага дазволу ў кожным канкрэтным выпадку Рыма, а "рускаму уніяцкаму народу" наогул быў забаронены пераход у лацінства. Дзеля аб'ектыўнасці адзначым, што пайсці на такі крок Ватыкан падштурхнула таксама жаданне зацвердзіць унію на беларуска-ўкраінскіх землях ва ўмовах барацьбы за легалізацыю новай праваслаўнай іерархіі, тайна пасвячонай у 1620 г.

Маючы значны ўплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку Вялікага княства Літоўскага, Руцкі імкнуўся да "універсальнай" уніі — аб'яднання праваслаўных і уніятаў у рамках адной царкоўнай арганізацыі — і дамагаўся адміністрацыйнай незалежнасці ад Масквы, Канстанцінопаля і Рыма шляхам стварэння ўласнага патрыярхату. Гэтай ідэяй ён мог зацікавіць нават некаторых сваіх праваслаўных апанентаў, у прыватнасці, М.Сматрыцкага. Заснаванне новага цэнтра хрысціянства ўзняло б прэстыж княства сярод краін Еўропы. Але гэты план наткнуўся на варожыя адносіны Папы Рымскага, які баяўся, каб аб'яднаная царква не выйшла з-пад яго манапольнага кантролю; не выклікаў сімпатый у польскага караля, які не жадаў умацавання княства; супярэчыў інтарэсам Масквы і Канстанцінопаля і, урэшце, не быў падтрыманы праваслаўнымі сваёй дзяржавы. Аддаленыя гістарычныя перспектывы і значэнне праекта Руцкага для кансалідацыі беларускага і ўкраінскага народаў усвядомілі толькі лічаныя асобы таго часу.

Буйным дзеячам уніі быў полацкі **архіепіскап Іасафат (свецкае імя Ян ці Іван) Кунцэвіч (1617—1623)**, выхадзец з Уладзіміра Валынскага, з праваслаўнай рамесніцкай сям'і. Скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію, у 1604 г. быў пастрыжаны ў манахі, прыняў імя Іасафат, стаў адным з самых руплівых прапаведнікаў уніі. Яго красамоўства не раз дасягала мэты, за што атрымаў ад праваслаўных

мянушку "душахват". Выступаў ён і на багаслоўскай ніве. У 1608 г. выдаў на польскай мове кнігу "Абарона веры", у якой даказваў "богаабранасць" уніяцтва. Любімец Пацея і Руцкага, ён хутка прасоўваўся па царкоўнай лесвіцы: узначальваў Быценскую, потым Жыровіцкую архімандрыю, працаваў у канцылярыі мітрапаліта, у 1614 г. быў узведзены ў сан архімандрыта самага буйнога уніяцкага манастыра — Віленскага Свята-Троіцкага. У 1617 г. прызначаны епіскапам полацкім І. Кунцэвіч энергічна ўзяўся за "галоўную", як ён казаў, справу свайго жыцця — *"схіленне схізматыкаў (праваслаўных) у сапраўдную веру".* Падтрыманы каралеўскім дваром і Ватыканам, Кунцэвіч пачаў распаўсюджваць уніяцтва, не грэбаваў пры гэтым захопам, жорсткімі метадамі, зачыняў праваслаўныя храмы, забараняў праваслаўнае набажэнства. Але ў сваёй дзейнасці сустрэў супраціўленне мясцовага насельніцтва, якое набывала масавы характар, і асуджэнне грубых метадаў распаўсюджвання уніі з боку канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі. Епіскап паў ахвярай, быў кананізаваны Ватыканам і сёння з'яўляецца адзіным святым уніяцкай царквы.

Абвастрэнне веравызнаўчых рознагалоссяў пасля 1596 г., крытычны стан царквы ў 1620-я гады, а таксама спробы яе незалежнага стаўлення да касцёла выклікалі ў пэўных ватыканскіх колах расчараванне самой ідэяй уніі. *"Некаторыя лічаць, —гаварылася ў інструкцыі папскаму нунцыю Ланчэлоці ў 1622 г., — што лепш, калі б не было уніі, што без яе лягчэй было б пераварочваць у каталіцкую веру праваслаўных вельмож паасобку".* Бо нават уніяцкія ўладыкі дакаралі, што лаціняне не маюць іншай мэты, акрамя як знішчыць грэчаскае спавяданне. У самім Рыме дзейнічалі дзве тэндэнцыі: на уніфікацыю і на захаванне асаблівасцяў уніяцкага абраду. Сапраўды, у 1623 г. у Рэчы Паспалітай і Ватыкане стаяла пытанне, ці не больш карысна было б знішчыць рускі абрад, а уніятаў перавесці на лацінскі. Польскія біскупы прадстаўлялі ў Рым, што розныя абрады ў адным касцёле выклікаюць калатню і сваркі, і каталіцызм устойліва б пашыраўся на ўсход і без уніі. Свецкі бок дадаваў, што унія царкоўная стварае ў дзяржаве ўнутраных ворагаў, падрывае унію палітычную, распальвае на крэсах грамадскую нязгоду.

У сваю чаргу, уніяцкая іерархія шукала ў Ватыкане паратунак ад намаганняў польскага касцёла *"загнаць чужых авечак у сваю агароджу і ў хуткім часе вынішчыць усіх русінаў".* Так, у сярэдзіне XVII ст. ураджэнец Беларусі, холмскі епіскап Я.Суша інфармаваў яго аб непачцівым стаўленні, прыгнечанні і дыскрымінацыі уніяцкай царквы з боку рымска-каталіцкага кліру і касцёльнага кіраўніцтва і аб патуранні гэтаму польскага каралеўска-шляхецкага рэжыму. Вядомы шматлікія звароты рэлігійных дзеячаў XVII—XVIII стст. у Рым аб недатыкальнасці уніяцкіх абрадаў, спыненні лацінізацыі, ураўноўванні ў правах з каталіцкім духавенствам.

Папства намагалася згладзіць супярэчнасці, якія ўзніклі на глебе канкурэнцыі за паству паміж носьбітамі грэчаскага і лацінскага абрадаў. *"Сеяць і падтрымліваць паміж імі сваркі і нязгоды,—рэч непрыстойная і шкодная",* — гаварылася ў дэкрэце кангрэгацыі распаўсюджвання веры 1626 г. Але пастановы апостальскай сталіцы, якія абаранялі правы царквы, парушаліся каталіцкім духавенствам Рэчы Паспалітай, якое грэбавала ўсходняй абраднасцю.

Наогул жа сімпатыі папства і асабліва ўладаў Рэчы Паспалітай да уніі з яе прэтэнзіямі на самабытнасць і нежаданнем цалкам пераходзіць на пазіцыі каталіцызму не варта перабольшваць. У такім выглядзе яна ім была непатрэбна. У 1929 г. ініцыятары адраджэння уніі ў Заходняй Беларусі далі наступную рэтраспектыўную ацэнку сваёй папярэдніцы: *"Некаторыя дзеячы уніі, выходзіўшыя з беларускага асяроддзя, мелі тэндэнцыю спыніцца на "беларускай уніі", акапаўшыся, так сказаць, на гэтых нацыянальных пазіцыях трывала і ўстойліва. Але гэта не адпавядала інтарэсам Рыма — езуіты далей гналі уніятаў, не даючы ім застойвацца на гэтым мосце, акапвацца на беларускіх пазіцыях* 'Т

**Нежаданне пракаталіцкага польскага ўрада бачыць ва уніяцтве моцнае самастойнае і ўплывовае веравызнанне праявілася ў недапушчэнні мітрапаліта і епіскапаў у сенат, месцы, якія ім былі абяцаны яшчэ ў 1595 г. і чакаць якіх ім давялося два стагоддзі, дамагчыся іх удалося толькі напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай.**

З другой паловы XVII ст. польскі касцёл пачынае праследаваць уніятаў як не выканаўшых сваё прызначэнне.

## ЛЕКЦЫЯ 26

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў XVI—ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII СТ.

- *Асаблівасці Адраджэння на Беларусі.*
- *Лінгвістычная сітуацыя.*

### Асаблівасці Адраджэння на Беларусі

Беларусь з прычыны свайго геапалітычнага становішча з'яўлялася своеасаблівай міжкультурнай мяжою, скрыжаваннем дзвюх цывілізацый, дзе ў XV—XVI стст. сышліся асноўныя еўрапейскія культурныя традыцыі — заходняя і ўсходняя. У X—XIII стст. вызначальны ўплыў на культуру Беларусі рабіла візантыйская, ці ўсходняя традыцыя, у XIV — першай палове XVI ст. — як усходне-, так і заходнееўрапейская. Пэўны час яны ўраўнаважвалі адна адну, а з другой паловы XVI ст. вызначальнай стала заходняя культурна-ідэалагічная, філасофская і рэлігійна-царкоўная традыцыя.

У XVI ст: у духоўным жыцці Беларусі склаўся тып свецкага і царкоўнага дзеяча "на мяжы культур" (Ф. Скарына, М. Гусоўскі, С. Будны, В. Цяпінскі, Л. Сапега, І. Пацей, М. Сматрыцкі, І. Руцкі, С. Полацкі і інш.), прыхільніка сінтэзу інтэлектуальных набыткаў Захаду і Усходу. Статус "на мяжы культур" даваў магчымасць беларускай культуры весці інтэнсіўны і плённы дыялог паміж Захадам і Усходам, што станоўча сказвалася на яе развіцці. Становішча беларускай культуры ў XVI ст. як вядучай у межах Вялікага княства Літоўскага і адной з асноўных у складзе Рэчы Паспалітай было ў цэлым вельмі стабільнае. Толькі пад канец стагоддзя ва ўмовах контррэфармацыі назіраецца пэўнае згасанне некаторых формаў і праяў класічнай, старажытнарускай яе традыцыі, што вяла сваю гісторыю з IX—XI стст. Аднак гэта не мяняла сітуацыі — беларуская культура і надалей захоўвала лідэрства. Больш таго, з прычыны сваёй універсальнасці, дастатковай адкрытасці, моўнага шматгалосся, талерантнасці ў дачыненні да іншых культур, яна няспынна ўзбагачалася. Амаль парадаксальна, але гэта адбывалася, відавочна, за кошт паступовай страты нацыянальнага аблічча, што выявілася спачатку ў з'яўленні пэўнага саслоўна-культурнага плюралізму ў

беларускім асяроддзі, пасля — у знікненні моўнага адзінства і адзінства пісьма і, урэшце, — у канфесійным расколе культуры, які асабліва выразна вызначыўся пасля 1596 г. Ад гэтага водападзелу ўсё большую сілу ў беларускай культуры набывае чыста заходняя, хутчэй, каталіцкая традыцыя, якая непасрэдна і вельмі апасродкавана выцясняе старажытнаўсходнеславянскую.

Пад канец XV ст. у большасці еўрапейскіх дзяржаў наступіў новы перыяд у развіцці іх гісторыі і культуры, які прыйшоў на змену сярэднявеччу. Эпоху тую сталі называць Адраджэннем, або Рэнесансам. Гэта быў вялікі прагрэсіўны пераварот у гісторыі чалавецтва. У эканамічным, палітычным, ідэалагічным і культурным жыцці ўсяго еўрапейскага свету адбыліся надзвычай буйныя, часам нават рэвалюцыйныя змены, выкліканыя ломкай старых феадальных адносін і зараджэннем новых, капіталістычных, узмацненнем буржуазнай праслойкі грамадства, узрастаннем ролі гарадоў, хуткім развіццём новай, буржуазнай па сваёй сутнасці, ідэалогіі.

Зараджэнне парасткаў буржуазнага ладу ў нетрах феадальнага грамадства прывялі да духоўнага пералому ў пачатку XVI ст. у краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. У процівагу панаваўшай да гэтага феадальна-царкоўнай культуры ствараецца свецкая, гуманістычная культура. Сацыяльна актыўнымі станавіліся купцы і рамеснікі, складваюцца ўмовы для стварэння нацый, абуджаецца патрыятызм, адбываецца інтэнсіўнае станаўленне нацыянальных культур, узвышаюцца нацыянальныя мовы. Непасрэдным вынікам гэтага стала крытыка царквы і перагляд былых рэлігійных вучэнняў.

Храналагічныя межы еўрапейскага адраджэння — XIV ст. (для Італіі) — канец XVI — або нават самы пачатак XVII ст. (для Усходняй Еўропы). Гэта быў час вялікіх падарожжаў і "геаграфічных адкрыццяў, навуковых вынаходніцтваў, шырокага распаўсюджвання кнігадрукавання, бурнага развіцця мастацтва, рэзкіх сутыкненняў у галіне ідэалогіі і вялікіх антыфеадальных выступленняў.

Гэта была эпоха найвышэйшага дасягнення чалавечага розуму, *"эпоха, якая мела патрэбу ў тытанах і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, пачуцця і характару, па шматбаковасці і вучонасці, — пісаў Ф. Энгельс. — Тады не было амаль ніводнага выдатнага чалавека, які не ажыццявіў бы далёкіх падарожжаў, не размаўляў*

*бы на чатырох ці пяці мовах, не вызначыўся б у некалькіх галінах творчасці".* У кожнай краіне з'явіліся свае выдатныя вучоныя, мысліцелі, мастакі. Яны стварылі сапраўдныя шэдэўры ў розных галінах навукі, мастацтва, літаратуры. У той час грымела слава вялікіх першаадкрывальнікаў новых зямель Хрыстафора Калумба, Амерыга Веспучы, Фернанда Магелана, Васка да Гамы. У гэту эпоху тварылі найвялікшыя мастакі Рафаэль, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы, Тыцыян і Джардоне. Тады Еўропа пазнала імёны выдатных мысліцеляў Эразма Ратэрдамскага, Томаса Мора, Франсуа Рабле, Нікала Макіявелі, Мікалая Каперніка, Міколы Гусоўскага. Еўрапейскі свет хвалявалі сялянскія войны і пропаведзі ідэолагаў Рэфармацыі Томаса Мюнцэра, Марціна Лютэра і Жана Кальвіна.

**З Адраджэннем, або Рэнесансам, цесна звязаны гуманізм — сістэма поглядаў, кірунак грамадскай думкі, вядучая ідэйная плынь часу, якая афармілася ў эпоху Адраджэння і склала ідэалагічную аснову яе прагрэсіўнай культуры, яе літаратуры і мастацтва.** Гуманізм — з'ява вельмі складаная і далёка не аднародная, спецыфічная ў розных краінах. Слова "гуманізм" лацінскага паходжання і ў перакладзе азначае чалавечы, чалавечны. У шырокім сэнсе — гэта светапоглядная пазіцыя, якая сцвярджае высокую годнасць чалавека, ставіць дабро крытэрыем грамадскага прагрэсу, абараняе ідэалы справядлівасці, чалавекалюбства, свабоды і дасканаласці асобы. У вузкім канкрэтна-гістарычным сэнсе гуманізм — культурны рух эпохі Адраджэння, выкліканы глыбокімі зменамі ў эканамічным і палітычным жыцці Еўропы перыяду распаду феадалізму і зараджэння капіталістычнага спосабу вытворчасці. Менавіта гуманістычныя ідэі, гуманістычны рух стаў адной з крыніц Рэфармацыі. Гуманісты праклалі дарогу для першых змагароў Рэфармацыі падрывам аўтарытэту каталіцкай царквы, а тыя шырока выкарыстоўвалі іх дасягненні ў абгрунтаванні сваіх поглядаў. Вялікае значэнне для Рэфармацыі і яе ідэолагаў мелі крытычныя штудыі тэкстаў Старога і Новага Запаветаў, выкананыя выдатнымі гуманістамі.

У XV—XVI стст. склаліся эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і ідэалагічныя перадумовы для станаўлення культуры Адраджэння

ў Вялікім княстве Літоўскім: рост гарадоў, развіццё таварна-грашовай гаспадаркі, павелічэнне гандлёва-рамесніцкага насельніцтва, ажыўленне грамадска-палітычнага жыцця ў горадзе, узмацненне сацыяльна-класавай барацьбы ў вёсцы, змены ў светапоглядзе перадавой часткі феадалаў, палітычная цэнтралізацыя і дзяржаўна-прававая стабілізацыя грамадства, фарміраванне беларускай народнасці і нацыянальнай самасвядомасці, актывізацыя і пашырэнне кантактаў з краінамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, гуманістычны і рэфармацыйны рух, секулярызацыя духоўнага жыцця.

Хоць Беларусь, як сцвярджае У.М. Конан, была ў сацыяльна-эканамічных адносінах перыферыяй тагачаснай Еўропы — тут не паспелі сфарміравацца элементы раннебуржуазнага грамадства, якія доўгі час лічыліся бадай што адзінай сацыяльнай перадумовай Адраджэння. Аднак беларуска-летувіска-польскі рэгіён XVI ст. добра ўпісваўся ў тагачасную еўрапейскую культуру, хоць і не знаходзіўся ў эпіцэнтры яе развіцця.

Дынамічнае грамадскае жыццё Беларусі XVI — першай паловы XVII ст. паўплывала на фарміраванне духоўнай культуры. У гэты перыяд культурнае развіццё і грамадская свядомасць Беларусі дасягнулі такога ўзроўню, пры якім сталі магчымы не толькі асіміляцыя дасягненняў еўрапейскага Рэнесанса, але і вытворчасць самабытных арыгінальных айчынных духоўных каштоўнасцей, гуманістычных ідэй і канцэпцый. Беларусь, якая ніколі не жыла ізалявана ад свету, была удзельнікам гэтага агульнаеўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу.

У XVI — першай палове XVII ст. адбываецца працэс секулярызацыі культуры Беларусі, набірае сілу свецкі кірунак у жывапісе, літаратуры, развіваюцца кнігадрукаванне, адукацыя, ідзе ажыўлены імпарт разнастайнай кніжнай прадукцыі з-за мяжы і камплектаванне бібліятэк, узрастае цікавасць да антычнай культуры і філасофіі. Спецыфічнай рысай Адраджэння на Беларусі была наяўнасць на працягу 20—60-х гадоў XVI ст. верацярпімасці. Новы крок у сваім развіцці зрабіла прававая культура — створаны агульнаеўрапейскага значэння Статуты. Сярод феадалаў і заможных гараджан узмацняюцца мецэнацкія тэндэнцыі. Ідзе станаўленне беларускай мовы, нацыянальнай пісьменнасці, літаратуры, мастацт-

ва, айчыннай пісьменнасці на лацінскай і польскай мовах. Гэты перыяд характарызуецца дэмакратызацыяй культуры, пашырэннем сацыяльнай базы духоўнай вытворчасці, што было абумоўлена ўзрастаючай роляй гараджан у грамадскім жыцці. У XVI ст. беларуская культура набывала ўсё больш арыгінальныя і непаўторныя рысы. Яе арыгінальнасць праяўлялася ва ўсім — народнай творчасці, літаратуры, адукацыі, кнігадрукаванні, архітэктуры, мастацтве, грамадска-палітычнай думцы. У культуры XVI ст. суіснавалі і ўзаемадзейнічалі самыя розныя, новыя і застарэлыя, перадавыя і кансерватыўныя ідэі, плыні, стылі, сінтэзаваліся дзве эпохі — Сярэднявечча і Адраджэнне.

У першай палове XVI ст. адбыліся значныя змены ў норавах, звычаях, маралі пануючага класа Беларусі. З'явілася імкненне да раскошы, вытанчанасці, арыстакратызму. Беларускія феадалы пачалі пераймаць замежныя, заходнееўрапейскія манеры і моду. Разам з тым узмацнілася імкненне да ведаў, навукі, мастацтва, узрасла цікавасць да кнігі. Узніклі і першыя свецкія бібліятэкі.

Эпоха Адраджэння нарадзіла новага чалавека, пазбаўленага сярэднявечнай абмежаванасці, дзейнага, дапытлівага, свабоднага, поўнага ўласнай годнасці і радасці зямнога жыцця, які верыў у сваю ўсемагутнасць і з аптымізмам глядзеў у будучыню. Крытэрыем ацэнкі вартасці чалавека станавіліся не толькі высокае сацыяльнае паходжанне і заслугі перад царквой, але і асабістыя якасці, рознабаковыя веды і грамадзянскія заслугі. Рост пачуцця асобы, асабістай годнасці чалавека, яго імкненне да зямной славы — адна з характэрных гуманістычных асаблівасцей эпохі Адраджэння на Беларусі.

Новай асаблівасцю культурнага жыцця Вялікага княства Літоўскага XVI ст. было зараджэнне мецэнацтва. Тэндэнцыі да мецэнацтва праяўляў вялікі князь Аляксандр, які апякаў энергічных, высокаадукаваных маладых людзей і набліжаў іх да сябе, незалежна ад іх паходжання. У часы праўлення Жыгімонта I, яго жонкі каралевы Боны і іх сына Жыгімонта II Аўгуста мецэнацтва атрымлівае далейшае развіццё. Не толькі каралеўскі двор у Кракаве і вялікакняжацкі ў Вільні, але і двары некаторых буйных арыстакратаў паступова становяцца ачагамі новай, свецкай куль-

туры. Адным з такіх ачагоў на беларускіх землях быў двор магнатаў Радзівілаў у Нясвіжы. У другой палове XVI ст. тут канцэнтравалася вялікая група публіцыстаў рэфармацыйнага напрамку і паэтаў, пісаўшых на беларускай, польскай і лацінскай мовах. Радзівілы заклалі ў сярэдзіне XVI ст. першыя на тэрыторыі Беларусі друкарні (у Бярэсці і Нясвіжы), а пазней адкрылі прафесійныя тэатры (у Нясвіжы і Слуцку). Дарэчы, узнікненне кнігадрукавання, якое паклала пачатак своеасаблівай культурнай рэвалюцыі ў Еўропе, стала і найвышэйшым дасягненнем беларускай культуры XVI ст.

З развіццём гарадоў, актывізацыяй іх грамадска-палітычнага і культурнага жыцця мецэнаты сталі з'яўляцца і ў асяроддзі заможных мяшчан. Так, беларускі першадрукар Ф.Скарына змог рэалізаваць сваю гістарычную задуму толькі дзякуючы маральнай падтрымцы і матэрыяльнай дапамозе багатых віленскіх гараджан — радцы Багдана Онкава і бурмістра Якуба Бабіча. Такая з'ява, як мецэнацтва, мела культурна-асветніцкую, патрыятычную накіраванасць, адыгрывала пазітыўную ролю, садзейнічала ўкараненню новых, часам маючых агульнанацыянальнае значэнне, дасягненняў культуры.

Рэнесансная культура зацвярджалася ў Вялікім княстве Літоўскім з некаторым спазненнем у параўнанні з краінамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Яе развіццё ажыццяўлялася на феадальна-прыгонніцкай аснове, ва ўмовах узрастання феадальна-каталіцкай рэакцыі і контррэфармацыі, антыфеадальнай і саслоўна-класавай барацьбы. Працэс яе развіцця ўскладняўся духоўнай дыктатурай царквы, палітыкай пануючага класа, войнамі, прыгнётам, непісьменнасцю народных мас.

**Гуманізм і ідэі Адраджэння на беларускай зямлі былі сходныя з агульнаеўрапейскімі, але мелі і сваю спецыфіку.** У ліку матэрыяльных фактараў гэта — адсутнасць у эканоміцы пэўна выяўленых капіталістычных праяў, моцная залежнасць гарадоў ад феадалаў, недастатковая сацыяльна-палітычная і ідэйная сталасць мяшчанскага саслоўя і г.д. Што да асаблівасцей развіцця духоўнага жыцця Беларусі, якія аказалі істотны ўплыў на характар айчыннай рэнесансна-гуманістычнай культуры, то гэта — пераемная сувязь

са старажытнарускай культурна-філасофскай традыцыяй, значнае ўздзеянне праваслаўя, грэка-візантыйскай культуры на нацыянальна-культурнае жыццё беларускага народа і ў той самы час даволі інтэнсіўны ўплыў заходніх культурна-рэлігійных формаў, незавершанасць працэсу фарміравання беларускай народнасці. Адраджэнскія ідэі пусцілі на Беларусі даволі глыбокія, але не такія магутныя, як у Заходняй Еўропе, карані. Развіццё рэнесанснай культуры тут засталося незавершаным, канчаткова не выяўленым, не да канца аддзеленым ад рэлігійнай ідэалогіі. Тым не менш, менавіта ў эпоху Адраджэння беларускі народ дасягнуў такога высокага ўзроўню развіцця, стварыў такія выдатныя мастацкія каштоўнасці, якія вывелі Беларусь на перадавыя пазіцыі ва ўсходняй Еўропе.

### Лінгвістычная сітуацыя

Станаўленне рэнесансна-гуманістычнай культуры ў Беларусі ажыццяўлялася ў спецыфічнай моўнай сітуацыі. Полілінгвізм — развіццё культуры на старабеларускай, царкоўнаславянскай, на лацінскай і польскай мовах — з'яўляецца асаблівасцю духоўнага жыцця Беларусі ў XVI—XVII стст.

Гуманістычнае адраджэнне XVI ст., якое разам з тым было і раннім нацыянальным адраджэннем, пачыналася з абвяшчэння роднай мовы фундаментальнай духоўнай каштоўнасцю, якая жывіць культуру і стымулюе яе паскоранае развіццё.

На працягу XIV—XVI стст. беларуская літаратурная, ці "руская" (паводле крыніц), мова становіцца дзяржаўнай. Яе дзяржаўны статус зафіксаваны ў Статуце ВКЛ 1588 г.: *"Писарь земский мает по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати а не иншым езыком и словы".* Гэта была спроба заканадаўчым шляхам спыніць яе выцясненне з элітарных сфер грамадскага жыцця і культуры. Аб ролі старажытнабеларускай мовы ("русчизны") у грамадскім і культурным жыцці ВКЛ беларускі паэт Ян Казімір Пашкевіч у 1621 г. пісаў:

"Полска квитнет лациною, Литва квитнет русчизною:
Без той в Полсце не пребудешь,
Без сей в Литве блазнем будешь.

Той лацина езык дает,
Та без Руси не вытрвает.
Ведзь же юж Русь, иж тва хвала
По всем свете юж дойзрала;
Весели ж се ты, Русине,
Тва слава никгды не згине!"

Дасягнуўшы значнага развіцця, беларуская мова з другой паловы XVI ст. паступова пачала здаваць свае пазіцыі, выцясняцца польскай і лацінскай мовамі ў дзяржаўных установах, грамадскім жыцці, пісьменнасці.

Люблінская унія паклала пачатак новаму, складанаму і адказнаму перыяду ў культурным жыцці беларускага народа — перыяду шматлікіх культурных страт. У літаратуры яны праявіліся ў амаль паўсюднай замене пісьма і мовы са старажытнабеларускай на польскую і лацінскую. У 1696 г. гэта старажытная мова афіцыйна перастала быць дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім, яе выцесніла польская. Зрэшты тое, што адбылося ў канцы XVII ст. — заняпад беларускай мовы і культуры — рыхтавалася паступова, спакваля, і напачатку здавалася, што знаёмства перадавых, па-еўрапейску адукаваных беларусаў з лацінай і польскай мовамі, на якіх яны пісалі свае творы, для развіцця роднай культуры ніякай небяспекі не нясе. Але справа не толькі ў Люблінскай уніі. Вайна Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг., стала нашай першай нацыянальнай катастрофай (загінула да 53% насельніцтва). Менавіта тады не панёсшая такіх страт польская культура пачынае падаўляць беларускую і над ёй дамінаваць.

Даволі хуткі і інтэнсіўны працэс засвойвання польскай мовы і культуры, які пачынаецца ў 1570-я гады, спачатку меў пазітыўнае значэнне. Польская мова засвойвалася як сродак міжнародных зносін, здольны дапамагчы адаптацыі культурных і навуковых дасягненняў Заходняй Еўропы. Разам з лацінскай мовай польская робіцца другой, а дакладней трэцяй, асноўнай мовай беларускага пісьменства і ўсёй культуры (пасля беларускай і лацінскай). Асабліва вялікія поспехі ў паланізацыі, "спальшчэнні" робіць шляхта, якая толькі што стала роўнай у правах з палякамі. У гэты пачатко-

вы перыяд "паланізацыі" польская мова пранікала на тэрыторыю Беларусі і Літвы нібы сама па оабе, без асаблівай дапамогі з боку палякаў, якія лічыліся "іншаземцамі" і не маглі дастаткова свабодна сяліцца на землях Вялікага княства Літоўскага, дзе іх правы былі рэзка абмежаваныя. Польская мова і культура, засвоеныя літвінскай шляхтай і магнатамі, з такой хуткасцю "ўводзіліся" ў княстве самімі яго ўраджэнцамі, а не іх новымі суграмадзянамі па Рэчы Паспалітай — палякамі. У гэтым галоўная асаблівасць і карэннае адрозненне "паланізацыі" пачатковага перыяду, які працягваўся да пачатку XVII ст., ад паланізацыі XVII—XVIII стст., якая навязвалася каралеўствам.

Ужо на тым, першым этапе Сымон Будны раіў: *"...абы ся ваши милости не только в чужоземных языцех кохали, але бы ся тежь* ... *и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным ся бавити рачили. Слушная бо речь ест, абы ваши милости того народу язык мшовати рачили, в котором давные предки и их княжацкие милости панове отци ваших милости славне преднейшие преложеньства несуть".*

А вось словы Васілія Цяпінскага адносна тых, хто выракся роднай мовы: "... *хто бы не мусил плакати, видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном русском, а звлаща перед тым довстипном, учоном народе езыка своего славного занедбане, а просто взгарду, ... же вжо некоторие и писмом се свои, а звлаща в слове божем, встыдают?!"*

З цягам часу сітуацыя, аднак, склалася такім чынам, што ў неабвешчанай вайне спачатку за прыярытэт, а пасля за выжыванне перамаглі лацінская і польская мовы. За нейкія паўтара—два стагоддзі, калі весці адлік з памежжа XV—XVI стст., беларуская культура, у прыватнасці, літаратура, зведала моцную еўрапеізацыю, а дакладней паланізацыю і лацінізацыю. Ордэн езуітаў, які шырока пранікае ў асвету, навуку, ідэалогію, мастацкую культуру Беларусі ў канцы XVI — першай палове XVII ст., быў носьбітам каталіцкалацінскага касмапалітызму і не садзейнічаў развіццю беларускай культуры ў яе нацыянальных формах.

Нацыянальна-культурны рух, які пачаўся ад Скарыны, спачат-

ку сустрэў спрыяльныя адносіны і падтрымку мясцовых феадалаў. Асабліва гэта праявілася ў лерыяд інтэнсіўнага распаўсюджвання Рэфармацыі, з якой многія з іх звязалі свае славалюбівыя сацыяльна-палітычныя і інтэлектуальныя імкненні. Аднак уласцівы многім буйным беларускім феадалам нацыянальна-патрыятычны энтузіязм у 70—80-я гады XVI ст. пачынае рэзка згасаць. Таму садзейнічаў шэраг гістарычных абставін: пагоршаныя ўзаемаадносіны з Маскоўскай дзяржавай, узмоцненыя антыфеадальныя народныя выступленні, боязь страціць свае эканамічныя і сацыяльна-палітычныя перавагі і г.д. Усё гэта падштурхоўвала пануючы клас Беларусі не толькі да сацыяльна-палітычнага, але і рэлігійнага, культурнага збліжэння з польскімі феадаламі. У імя зберажэння класавага панавання прыносіліся ў ахвяру традыцыйная рэлігія, нацыянальная культура. Беларускія феадалы прымалі каталіцызм, усё больш уцягваліся ў сферу польскай культуры, адмаўляліся ад роднай мовы, перасталі спрыяць нацыянальна-культурнаму руху.

З канца XVI ст. нацыянальна-культурны рух Беларусі ўзначальваюць брацтвы. Аднак яны не здолелі процістаяць дэнацыяналізацыі. Іх барацьба супраць феадальна-каталіцкай рэакцыі ў многім насіла абмежаваны, рэлігійна замкнёны характар. Яны клапаціліся ў першую чаргу аб умацаванні пазіцый праваслаўнай царквы, што прывяло да звужэння нацыянальна-асветніцкай праграмы брацкага руху. Брацтвы адраджалі ўжо мёртвую стараславянскую мову і з пагардай ставіліся да жывой народнай мовы. Больш таго, у палеміцы з католікамі і уніятамі яны карысталіся не роднай, а польскай мовай. Ідэолагі брацкага руху не змаглі прапанаваць такой нацыянальна-палітычнай ідэі, вакол якой сканцэнтраваліся б усе патрыятычныя сілы краіны.

Тармажэнне нацыянальнай беларускай культуры тлумачылася перш за ўсё здрадай мясцовых феадалаў нацыянальна-культурнаму руху. Здрадзіўшы яму, феадалы Беларусі развязалі рукі ваяўнічаму каталіцызму, контррэфармацыі, сталі актыўнымі праваднікамі і ўдзельнікамі антыпатрыятычнай, дэнацыяналізатарскай палітыкі.

Некаторыя праваслаўныя царкоўныя дзеячы, феадалы занялі

катэгарычна-непрымірымую пазіцыю ў адносінах да заходняй навукі, ідэалогіі, культуры, абгрунтоўваючы гэта неабходнасцю барацьбы з каталіцызмам, пратэстантызмам, ерасямі. Яны абуджалі і зацвярджалі ў грамадстве непрыязнасць, а часам і адкрытую варожасць да ўсяго "лацінскага". Іх пазіцыя даволі супярэчлівая. Яна змяшчала як сацыяльна-рэлігійны, так і духоўна-культурны аспект. Апалагеты праваслаўя імкнуліся не толькі да кансервацыі традыцыйных грамадска-ідэалагічных устояў, але і да захавання і абароны старажытнарускіх культурна-рэлігійных традыцый ад езуіцка-каталіцкай экспансіі. Аднак імкнучыся захаваць старажытную культуру і веру, кансерватыўныя праваслаўныя дзеячы адмяжоўваліся ад культурнага ўплыву Захаду. Спроба праваслаўных багасловаў і грамадскіх дзеячаў абараніцца ад наступаючага каталіцызму абярнулася адхіленнем еўрапейскай свецкай культуры, рэнесансна-гуманістычнай адукаванасці.

Між тым у праваслаўным асяроддзі, асабліва ў другой палове XVI ст., расце апазіцыя палітыцы ізаляцыянізму, узрастае імкненне наладзіць дыялог з заходняй гуманістычнай культурай. Экспансія каталіцкай царквы, мабілізуе культурна-асветніцкі патэнцыял праваслаўя.

Рэфармацыя адыграла відавочную ролю ў развіцці беларускай культуры, асабліва ў пачатковы перыяд. Аднак далейшая арыентацыя рэфармацыйнага руху пераважна на польскую мову і культуру паслужыла адной з прычын заняпаду нацыянальнай пісьменнасці.

Узаемадзеянне беларускай культуры з польскай садзейнічала іх агульнаму прагрэсіўнаму развіццю. Аднак нацыянальная культура Беларусі, калі яна згубіла падтрымку пануючага класа, не змагла ўтрымаць сваіх пазіцый на многіх узроўнях.

Ліквідацыя са сферы культуры шляхты беларускай мовы вельмі адмоўна паўплывала на далейшае духоўнае жыццё Беларусі, істотна замарудзіла развіццё нацыянальнай самасвядомасці. Сапраўдным захавальнікам беларускай культуры застаўся просты народ, які ва ўмовах шматвяковай сацыяльнай эксплуатацыі і нацыянальнага прыгнёту змог зберагчы родную мову.

## ЛЕКЦЫЯ 27

## ПАЧАТАК УСХОДНЕСЛАВЯНСКАГА І БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

- *Францыск Скарына.*
- *Рэфармацыйнае кнігадрукаванне.*

### Францыск Скарына

Найбольш значная і яркая фігура культуры Беларусі эпохі Адраджэння — **Францыск Скарына (каля 1490 — каля 1551).** Ён займае ганаровае месца ў нашай нацыянальнай гісторыі і культуры. Заснавальнік усходнеславянскага кнігадрукавання, вучоны з сусветным імем, ён быццам узвышаецца над цэлай плеядай сваіх вялікіх папярэднікаў, сучаснікаў і паслядоўнікаў, якіх дала айчыне і чалавечай цывілізацыі Беларусь. Геній Скарыны мог зрабіць гонар любой дзяржаве. Арыгінальны мысліцель, таленавіты пісьменнік, плённы публіцыст і руплівы перакладчык-паліглот, мастак і першадрукар, гуманіст і асветнік — такой шматграннай асобай быў Скарына.

Біяграфія заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання поўная загадак і таямніц. Далёка не ўсе яе факты нам вядомыя, частка іх страчана для гісторыі назаўседы. Асноўную частку жыцця Скарына правёў за мяжой, і некаторыя дакументы захоўваюцца ў замежных архівах.

Скарына нарадзіўся каля 1490 г. у Полацку, у купецкай сям'і і атрымаў першапачатковую адукацыю, мабыць, у гэтым горадзе ці ў Вільні. У 1504 г. ён паступіў на факультэт свабодных навук Кракаўскага універсітэта і ў 1506 г. скончыў яго са ступенню бакалаўра свабодных мастацтваў. Гэта была адна са старэйшых і лепшых навучальных установаў Еўропы, дзе атрымлівалі адукацыю многія выхадцы з Вялікага княства Літоўскага. Тут выкладалі вучоныя і дзеячы польскай культуры, а таксама вядомыя гуманісты з іншых краін Еўропы. Непасрэднымі папярэднікамі Скарыны па універсітэту былі Ян Длугаш і Мікалай Капернік. Відаць, менавіта ў час вучобы ў Кракаве і выспела ў яго высакародная задума — даць свайму народу друкаваную кнігу на роднай мове. **Вынаходніцтва**

**кнігадрукавання каля 1440 г. з'яўляецца адным з найвялікшых дасягненняў чалавечай цывілізацыі.** Вынаходнік друкарскага варштата і наборнага шрыфту, "бацька" кнігадрукарства немец Ёхан Гутэнберг назваў яго *"мастацтвам з усіх мастацтваў, навукай з навук".* Рэвалюцыянізуючая роля гэтага вынаходніцтва праявілася ў тым, што за якіх-небудзь паўвека існавання еўрапейскага кнігадрукарства з-пад станкоў больш за адной тысячы друкарняў выйшла каля 40 тыс. выданняў агульным тыражом 12 млн. экземпляраў. У канцы XV ст. у Еўропе дзейнічала звыш 200 друкарняў у 69 гарадах.

Польшча была другой пасля Чэхіі славянскай краінай, якая ўкараніла вынаходніцтва Гутэнберга. У Кракаве Скарына ўпершыню пазнаёміўся з багатай друкаванай прадукцыяй — мясцовай, нямецкай, італьянскай і, магчыма, з азамі тэхнікі друкавання. У той час там працавала кірылаўская друкарня Швайпольта Фіёля. Але пакуль інтэлектуальнага вопыту, набытага ў Польшчы, яму было недастаткова для таго, каб распачаць задуманую справу. Ён прагнуў новых ведаў, імкнуўся спасцігнуць новыя навукі. З 1507 па 1511 гг. пра Скарыну няма ніякіх пэўных звестак. Але можна меркаваць, што ў 1507—1512 гг. малады вучоны падарожнічаў па краінах Еўропы, паглыбляў свае веды па філасофіі, гісторыі, праву, прыродазнаўству, медыцыне. Восенню 1512 г. ён прыбыў у Італію ў Падуанскі універсітэт, ужо маючы ступень доктара свабодных навук і будучы сакратаром дацкага караля. Пытанне, дзе і як Скарына атрымаў гэты тытул, пры якіх абставінах стаў каралеўскім сакратаром, застаецца нявысветленым. Магчыма, у сярэдзіне 1510-х гадоў ён жыў у Капенгагене.

Атрымаўшы бліскучыя медыцынскія веды ў Капенгагенскім ці ў нейкім іншым еўрапейскім універсітэце, Скарына з'явіўся ў Падую з намерам атрымаць вучоную ступень доктара медыцыны. 9-га лістапада 1512 г. у прысутнасці 24-х буйнейшых вучоных Падуанскага універсітэта і высокіх асоб каталіцкай царквы ён быў экзаменаваны, як гаворыцца ў дакуменце, *"у асобым і строгім парадку" і пры гэтым "праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў аднадушнае ўхваленне ўсіх пры-*

*сутных вучоных без выключэння, і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны ".* Затым Скарына быў абвешчаны *"ва ўстаноўленым парадку доктарам медыцынскіх навук",* і яму былі ўручаны знакі "медыцынскай годнасці",

Дасягнуўшы вышынь еўрапейскай адукацыі, Скарына не зрабіўся кабінетным вучоным, а стаў на шлях служэння вялікай справе адукацыі свайго народа. Заручыўшыся фінансавай падтрымкай багатых гараджан Вільні Багдана Онкава, Якуба Бабіча, магчыма, Юрыя Адверніка і свайго брата Івана, Скарына паехаў у Прагу, дзе ў 1517 г. заснаваў сваю першую друкарню. Тут **6 жніўня 1517 г.** у свет выходзіць яго "Псалтыр". Кніга надрукавана на царкоўнаславянскай мове, блізкай да беларускай. Асобныя словы, "неразумныи простым людем", мелі тлумачэнне на палях старонак.

На працягу 1517—1519 гг. адукаваны і дзелавіты палачанін пераклаў, пракаменціраваў і падрыхтаваў да друку 23 кнігі Бібліі — *"богу ко чти и людем посполитым к доброму научению ".*

Чаму Скарына выдаў Біблію (Псалтыр і 22 кнігі асобнымі выпускамі), а не якую-небудзь свецкую кнігу? На гэта пытанне можна даць толькі адзін адказ. Скарына зрабіў правільны выбар, бо ў тыя часы Біблія была самай прыдатнай кнігай для яго асветніцкай мэты. Першадрукар не мог не ўлічваць, што грамадства на яго радзіме яшчэ ў цэлым не ўзнялося да разумення значэння свецкай кнігі. Ды і даступных, зразумелых і цікавых для шырокіх колаў "паспалітага люду" кніг тады не было. Выбар Бібліі да выдання быў абумоўлены і варожымі адносінамі царквы да кнігадрукавання. Апрача таго, гуманісты Еўропы, у тым ліку і Скарына, лічылі Біблію свайго роду універсальным падручнікам, энцыклапедыяй, дзе чытач можа знайсці адказы на многія складаныя і супярэчлівыя пытанні жыцця.

Сказаць, што Скарынай была выдадзена Біблія і тым самым быў пакладзены пачатак беларускаму і ўсходнеславянскаму кнігадрукаванню, — значыць сказаць не ўсё. Да выдадзеных кніг Старога Запавету Скарынай было напісана 25 прадмоў і 24 пасляслоўі. Кнігі былі багата ілюстраваны высокамастацкімі гравюрамі, арнаментаваны вялікай колькасцю заставак, канцовак, загалоўных літар, тытульных лістоў, што зрабіла іх унікальнымі помнікамі кніжнай

культуры і айчыннага мастацтва. І, нарэшце, у Бібліі быў змешчаны партрэт самога Скарыны, які з'яўляецца адзінай яго прыжыццёвай выявай. Усё гэта сведчыць аб нетрадыцыйных, вольных, рэнесансна-гуманістычных адносінах першадрукара да Свяшчэннага пісання.

Неўзабаве Скарына перанёс кнігадрукаванне на ўсход Еўропы. У канцы 1519 ці пачатку 1520-х гадоў першадрукар вяртаецца на радзіму. Нягледзячы на шматлікія цяжкасці, ён заснаваў у Вільні ў доме свайго апекуна, мецэната, віленскага бурмістра Якуба Бабіча першую на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага друкарню і на працягу **1522—1525 гг.** выпусціў у свет "Малую падарожную кніжку" (каля 1522) і "Апостал" (1525).

"Малая падарожная кніжка" — гэта невялікія па фармату, зручныя для паўсядзённага выкарыстання кнігі, адрасаваліся яны людзям як духоўнага звання, так і свецкім — купцам, службовым асобам, рамеснікам, воінам, якія па характару сваіх заняткаў павінны былі часта вандраваць і ў дарозе атрымліваць канфесійную і астранамічную інфармацыю, а пры неабходнасці прыгадваць і словы малітваў ці псалмоў. "Апостал" — першая дакладна датаваная кніга (1525), надрукаваная на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, і апошняе па часе Скарынінскае выданне. Гэта адна з найбольш папулярных царкоўна-рэлігійных кніг, надрукаваная на царкоўнаславянскай мове ў беларускай рэдакцыі.

Ф. Скарына не проста пераняў, а творча развіў дасягненні еўрапейскіх друкароў. Ён — сапраўдны рэфарматар кнігавыдавецкай справы. У тэхнічных адносінах яго кнігі былі выдадзены на значна больш высокім узроўні ў параўнанні з найлепшымі сучаснымі яму заходнееўрапейскімі ўзорамі друкарскага мастацтва. Выданні Скарыны з'явіліся творчым сінтэзам дасягненняў заходнееўрапейскага кнігавыдання і мастацкага вопыту ўсходнеславянскай рукапіснай кнігі. Кнігі Скарыны як найвялікшая каштоўнасць захоўваюцца зараз у бібліятэках і музеях свету (усяго захавалася каля 400 экземпляраў).

Пра далейшае жыццё і дзейнасць Францыска разам з шэрагам дакладных фактаў існуюць гіпотэзы. Да ліку іх адносіцца меркаванне аб знаходжанні Скарыны ў 1525 г, у разгар Сялянскай вай-

ны, у Германіі, у Вітэнбергу і аб яго сустрэчы з М. Лютэрам, а таксама версія аб паездцы прыкладна ў 1525—1533 гг. у Маскву з мэтай распаўсюджвання выдадзеных кніг і арганізацыі там кнігадрукавання.

"Апостал" быў апошняй выдадзенай ім кнігай. У 1525 г. выдавецка-асветніцкая дзейнасць Скарыны ў Вільні спынілася і, безумоўна, не выпадкова. На гэта паўплывалі цэлы шэраг акалічнасцей жыцця і тая неспрыяльная атмасфера, якая стварылася вакол яго. У канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў Скарыне прыйшлося сутыкнуцца з жыццёвымі нягодамі. У 1529 г. памерлі яго брат Іван і жонка Маргарыта, пакінуўшы яму на руках малалетняга сына Сімяона. Родныя нябожчыцы падалі на Скарыну ў суд, патрабуючы вяртання яе маёмасці. Судовая цяганіна, відаць, не прайшла для яго бясследна. Падзеі трагічнага года вымусілі яго выехаць у пачатку 1530 г. у Прусію, пад апеку герцага Альбрэхта Гогенцолерна, які, захапіўшыся ідэямі Рэфармацыі, хацеў наладзіць там кнігадрукаванне. У Кёнігсбергу Скарына прабыў нядоўга. Калі ж вярнуўся ў Вільню, на яго новай хваляй навaліліся крэдыторы нябожчыка брата, якія патрабавалі ўплаты братавых даўгоў. Яны дамагліся арышту і заключэння Скарыны ў турму — 10 тыдняў ён знаходзіўся ў зняволенні ў Познані.

Жыццёвых нягод, якія абрынуліся на першадрукара, хапіла, каб рашыцца на змену месцапражывання. Каля 1535 г. ён цяпер ужо назаўсёды пакідае радзіму і зноў пасяляецца ў Празе. Аднак наўрад ці асабістыя няўдачы былі асноўнай прычынай гэтага. Хутчэй за ўсё ад'езд быў звязаны з тым, што яго культурна-асветніцкая дзейнасць і яго ідэі не атрымалі шырокай грамадскай падтрымкі. Адным словам, абставіны на радзіме не спрыялі вучонай дзейнасці Скарыны. У чэшскай сталіцы ён працаваў вучоным-батанікам, садоўнікам у каралеўскім батанічным садзе Фердынанда І Габсбурга. Відаць, у Чэхіі Скарына правёў апошнія гады свайго жыцця і памёр у далечыні ад радзімы ў канцы 1551 ці ў студзені 1552 г. Месцазнаходжанне яго магілы засталося невядомым.

Шматгранная прагрэсіўная дзейнасць Францыска Скарыны ўвабрала ў сябе лепшыя агульнаеўрапейскія і славянскія культур-

ныя дасягненні, склала цэлую эпоху ў станаўленні беларускай, рускай і ўкраінскай культуры і шмат у чым прадвызначыла характар іх будучага развіцця. Яна адыграла выдатную ролю ва ўмацаванні сувязяў паміж Усходам і Захадам, славянскімі і іншымі народамі Еўропы, зрабіла значны ўплыў на абуджэнне і фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці славянскіх народаў. Праз друкарскі подзвіг Скарыны ўсходняе славянства дасягнула вышынь еўрапейскай культуры.

Геніяльнае пачынанне Скарыны, багатыя Скарынінскія традыцыі былі падхоплены, прадоўжаны і развіты яго выдатнымі сучаснікамі і паслядоўнікамі — друкарамі, пісьменнікамі, вучонымі і культурнымі дзеячамі Усходняй і Заходняй Еўропы: М. Гусоўскім, М. Ліцвінам, І. Фёдаравым, П. Мсціслаўцам, С. Будным, В. Цяпінскім, П. Труберам, братамі Мамонічамі, Л. Зізаніем, М. Сматрыцкім, С. Полацкім і інш. Кнігі Скарыны распаўсюджваліся на Беларусі, Украіне, Літве, у Расіі і іншых еўрапейскіх землях. На працягу стагоддзяў яны карысталіся тут вялікай папулярнасцю і аўтарытэтам, служылі зброяй у барацьбе за нацыянальную культуру і мову. Яны беражліва захоўваліся, перадаваліся з пакалення ў пакаленне, перапісваліся. служылі ўзорам для пераймання паслядоўнікам і здзейснілі вялікую культурную місію ва Усходняй Еўропе.

Францыск Скарына — вялікі патрыёт і адданы сын свайго народа. Нягледзячы на тое, што ён вучыўся і працаваў у Заходняй Еўропе, не парваў сувязяў з радзімай, а ўсе сілы і энергію аддаў служэнню "людем посполитым руского языка" для пашырэння асветы ў родным краі. Веды, атрыманыя ва універсітэтах Польшчы і Італіі, ён імкнуўся перадаць свайму народу. Скарына разумеў важнасць роднай мовы як фактару, які спрыяе захаванню цэласнасці народа, яго адзінства і нацыянальнай самабытнасці. Таму ён замацаваў родную мову ў высокай літаратуры сусветнага значэння - Бібліі як раўнапраўную, "боскую" побач з класічнымі агульнапрызнанымі кананічнымі (лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай) мовамі. Ён даказаў яе права на "свяшчэннасць". І ў гэтым яго велізарная заслуга перад сваім народам і перад усім славянскім светам. Скарына стаяў ля вытокаў беларускай нацыянальнай культуры і стаў яе сімвалам.

## Рэфармацыйнае кнігадрукаванне

Калыскай усходнеславянскага і беларускага кнігадрукавання стала Прага, а потым Вільня. Станаўленне кнігадрукавання на беларускіх землях у іх сучасных межах адбываецца з сярэдзіны XVI ст. і звязана з уздымам рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім.

У другой палове XVI — першай палове XVII ст. на тэрыторыі заходняй Беларусі, дзе дзейнічалі найбольш буйныя пратэстанцкія абшчыны, узнікла шэсць рэфармацыйных друкарняў. Іх тэхнічная аснашчанасць адпавядала еўрапейскім стандартам. Большасць іх выдаўцоў і друкароў з'яўляліся дзеячамі польскага рэфармацыйнага руху, якія часова ці назаўсёды аселі на Беларусі і ў Літве (М.Кавячынскі, Л.Крышкоўскі, Ланчыцкі, Карцан, Пётр Бластус, Кміта і інш.).

Першая на тэрыторыі сучаснай Беларусі друкарня была створана ў Бярэсці. Яна дзейнічала ў **1550—1570-я** гады пад апекай канцлера Вялікага княства Літоўскага, віленскага ваяводы і берасцейскага старасты Мікалая Радзівіла Чорнага і выпусціла больш за 40 выданняў на польскай і лацінскай мовах markednага зместу. Яе ўзнікненню садзейнічаў значны ўздым у культурным развіцці Беларусі, пашырэнне міжнародных культурных сувязяў і ўплыў Рэфармацыі. У ёй, паслядоўна змяняючы адзін аднаго, працавалі друкары і кнігавыдаўцы Б. Ваявудка, С. Мурмэліус, Ц. Базылік. Першыя выданні Бернарда Ваявудкі адпавядалі патрэбам рэфармацыйнага руху. У 1563 г. на сродкі М. Радзівіла на польскай мове была выдадзена "Брэсцкая", або "Радзівілаўская Біблія", якая з'яўляецца шэдэўрам кнігадрукарскага мастацтва XVI—XVIII стст. Гэта вялікі фаліянт, апраўлены ў скураную вокладку, з малюнкамі, выкананымі на высокім мастацкім і паліграфічным узроўні. Найбольшага росквіту Берасцейская друкарня дасягнула пад кіраўніцтвам прадстаўніка рэнесансавай культуры, паэта, перакладчыка, кампазітара, выдаўца Цыпрыяна Базыліка. У гэты час выйшлі розныя белетрыстычныя, гістарычныя, палітычныя выданні.

У пачатку 1560-х гадоў нясвіжскім старастам Мацеем Кавячынскім і мясцовым кальвінісцкім прапаведнікам Лаўрэнціем Крышкоўскім у Нясвіжы была заснавана першая на Беларусі друкарня,

якая карысталася кірылаўскім шрыфтам. Ідэйным кіраўніком яе спачатку быў Сымон Будны. Нясвіжская друкарня ў 1562 г. надрукавала твор Буднага "Катэхізіс" — першы беларускамоўны твор, выдадзены ў межах сучаснай Беларусі, яго працу "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам", а, магчыма, і іншыя кнігі Буднага, але яны да нас не дайшлі. У 1572 г. абсталяванне Нясвіжскай друкарні купіў магнат Ян Кішка і тады ж у невялікім прыватнаўласніцкім мястэчку Лоску Ашмянскага павета Віленскага ваяводства (цяпер вёска Валожынскага раёна Мінскай вобласці) заснаваў новую друкарню, якая стала адным з цэнтраў рэфармацыйнага кнігадрукавання. Мяркуюць, што яна працавала да 1592 г. Для працы сюды былі запрошаны з Нясвіжа С.Будны, Даніэль Лянчыцкі, Ян Карцан.

У сваім радавым маёнтку Цяпіне (цяпер Чашніцкі раён) заснаваў друкарню беларускі пісьменнік-гуманіст, адзін з паслядоўнікаў Ф.Скарыны **Васіль Цяпінскі (1530—1603 ?)** і ў 1580 г. выдаў у ёй перакладзенае на беларускую мову "Евангелле" з уласнай прадмовай, якая стала адным з лепшых узораў беларускай патрыятычнай публіцыстыкі.

Буйная рэфармацыйная друкарня на Беларусі працавала і ў мястэчку Любча (Навагрудскі раён) у 1612—1656 гг. Яна была вельмі прадукцыйнай — выпусцілі каля 100 выданняў на польскай і лацінскай мовах, галоўным чынам, свецкага зместу: творы антычных і рэфармацыйных пісьменнікаў, гістарычныя і навуковыя дапаможнікі, школьныя падручнікі, а таксама літургічныя творы для пратэстанцкіх абшчын.

Залежнасць большасці рэфармацыйных друкарняў ад уплывовых феадалаў-патронаў пратэстанцкіх абшчын (Радзівілаў, Валовічаў, Глябовічаў, Кішак і інш.) у значнай меры вызначыла знешнія формы, мову, ідэалагічную накіраванасць выданняў. Большасць з іх выйшла на польскай і лацінскай мовах. Спарадычныя спробы выдання літаратуры на беларускай мове (вядомыя тры выданні: "Катэхізіс", "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" С.Буднага і "Евангелле" В.Цяпінскага) рабіліся дэмакратычнымі дзеячамі рэфармацыйнага руху на Беларусі, якія востра адчувалі ўзросшую патрэбу беларускага насельніцтва ў друкаванай кнізе на роднай мове, у асвеце, пісьменнасці.

Крызіс рэфармадыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы XVI — першай палове XVII ст. прывёў да аслаблення рэфармацыйнага кнігадрукавання на Беларусі. У сярэдзіне XVII ст. тут працягвае дзейнічаць толькі адна рэфармацыйная друкарня ў Любчы.

У канцы XVI ст. на Беларусі ўзнікае шэраг **прыватных друкарняў**. Значную ролю ў станаўленні і развіцці кнігадрукавання на Беларусі адыграла друкарня (існавала ў 1568—1570 гг.), заснаваная рускім першадрукаром Іванам Фёдаравым і яго паплечнікам, выхадцам з Беларусі Пятром Мсціслаўцам на сродкі гетмана Вялікага княства Літоўскага Р.Хадкевіча ў Заблудаве Гарадзенскага павета (цяпер тэрыторыя Польшчы). Шрыфты, гравюры, нескладаны інструмент яны прывезлі з Масквы, друкарскі стан зрабілі на месцы. Тут былі надрукаваны кірыліцай "Евангелле вучыцельнае", якое стала вельмі папулярнай кнігай, частка тыражу трапіла ў Маскоўскую дзяржаву, і "Псалтыр" (з "Часаслоўцам"), які шырока выкарыстоўваўся ў тыя часы таксама і для навучання грамаце. У сувязі з грамадска-палітычнымі ўмовамі, якія ўскладніліся пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай, а таксама хваробай пратэктара друкарні Р.Хадкевіча ў пачатку 1570-х гадоў Заблудаўская друкарня спыніла сваю дзейнасць. І.Фёдараў пераехаў на Украіну, у Львоў, дзе паклаў пачатак украінскаму кнігадрукаванню.

П. Мсціславец з 1569 г. пасяліўся ў Вільні, куды быў запрошаны заможнымі беларускімі купцамі, грамадскімі дзеячамі Мамонічамі. На іх сродкі Мсціславец заснаваў друкарню, якая адрадзіла кірылаўскае кнігадрукаванне ў Вільні праз паўстагоддзя пасля спынення выдавецкай дзейнасці Скарыны. Яна мела важнае грамадскае і культурнае значэнне ў жыцці Беларусі, адыграла прыкметную ролю ў справе асветы, у далейшым развіцці беларускага кнігадрукавання. Мамонічы ўслед за Скарынай выпускалі кнігі, прызначаныя для навучання і свецкага чытання, і тым самым садзейнічалі пашырэнню пісьменнасці, беларускай мовы сярод суайчыннікаў, росту міжнародных культурных узаемасувязяў.

У 1576 г. Мсціславец быў вымушаны пакінуць друкарню Мамонічаў, якія абмяжоўвалі самастойную дзейнасць кнігадрукара і імкнуліся перш за ўсё да камерцыйнай выгады. Сляды яго выдавецкай дзейнасці выяўлены пазней у Астрозе. Дзейнасцю Мсціс-

лаўца і віленскага друкара Гарабурды (1580-я гады) закончыўся перыяд існавання прыватных беларускіх кірылаўскіх друкарняў. заснаваных намаганнямі аднаго ці некалькіх друкароў. Выключэнне складае друкарня Мамонічаў, якая ў пачатку 1580-х гадоў атрымала магчымасць працягваць сваю дзейнасць дзякуючы палітычнаму кампрамісу выдаўцоў з урадам. Грамадска-палітычная пазіцыя Мамонічаў, а таксама сувязі з заможнымі слаямі Вільні і вялікакняжацкай канцылярыяй (у тым ліку Львом Сапегай) забяспечылі афіцыйнае прызнанне яе дзейнасці. Гэта была адзіная друкарня XVI—XVIII стст., якая тры разы атрымлівала каралеўскія прывілеі на права выпуску царкоўна-рэлігійных і свецкіх выданняў. Яна выпусціла першыя ў беларускім кнігадрукаванні кірылаўскія выданні прававога характару: "Трыбунал" (1586), "Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.".

Вядучую ролю ў беларускім кнігадрукаванні канца XVI — першай паловы XVII ст. адыгралі **брацкія друкарні**, якія выкарыстоўвалі пераважна кірылаўскія шрыфты, уласцівыя старажытнарускай, а пазней беларускай, рускай і ўкраінскай пісьменнасці, друкавалі кнігі на зразумелай народным масам мове. Нягледзячы на ўзрастаючую паланізацыю мясцовых феадалаў і часткі мяшчанства, у беларускім грамадстве адчуваўся першарадны ўплыў брацкіх кніг.

Станаўленне брацкага кнігадрукавання звязана з фарміраваннем і развіццём брацтваў — спецыфічных нацыянальна-рэлігійных арганізацый беларускага і ўкраінскага праваслаўнага гарадскога насельніцтва.

Троіцкае (пазней Святадухаўскае) брацтва ў Вільні, якое арганізацыйна аформілася ў 1584 г., стварыла ўласную друкарню. У сярэдзіне 1590-х гадоў віленскае брацтва ўзначаліў актыўны працаўнік уніі, дзеяч беларускай і ўкраінскай асветы, пісьменнік-палеміст Стэфан Зізаній. Пад яго кіраўніцтвам брацкая друкарня ў 1595—1596 гг. выпусціла не менш як 11 выданняў (больш за 2200 аркушаў). Да гэтага часу толькі Пражская друкарня Скарыны наблізілася да такой інтэнсіўнасці выдавецкай дзейнасці. На працягу некалькіх гадоў пасля Берасцейскай уніі 1596 г. брацкая друкарня ў Вільні амаль не працавала. А за выданне ў 1608—1610 гг. некалькіх

антьгуніяцкіх палемічных трактатаў на польскай мове (гэта былі ананімныя выданні М. Сматрыцкага) друкарня была закрыта, а яе вядучыя дзеячы, у тым ліку пісьменнік і прапаведнік Лявонцій Карповіч, арыштаваны.

У гэтых умовах брацтвам была заснавана друкарня ў мястэчку Еўе, каля Вільні (г. Вевіс Літоўскай Рэспублікі). За час свайго існавання (1611-1652) яна выпусціла больш за 25 кірылаўскіх выданняў, у тым ліку знакамітую "Граматыку" М.Сматрыцкага. Друкарня Святадухаўскага брацтва ў Вільні-Еўі была буйнейшай у гісторыі брацкага кнігадрукавання. З канца XVI ст. Вільня стала буйнейшым цэнтрам усходнеславянскага кнігадрукавання.

У выніку ўзмацнення сацыяльна-палітычнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту, палітыкі абмежавання брацкага кнігадрукавання, якая праводзілася ўрадам Рэчы Паспалітай у саюзе з каталіцкай царквой, у другой чвэрці XVII ст. назіраецца перамяшчэнне галоўных цэнтраў кірылаўскага кнігадрукавання з заходніх абласцей Вялікага княства Літоўскага ва ўсходнія — у Магілёў і Куцейна.

Адным з асноўных цэнтраў кірылаўскага друкавання ў XVII ст. была друкарня пры Куцеінскім манастыры пад Оршай, заснаваная Спірыдонам Собалем у 1630-х гадах. Яна дзейнічала да сярэдзіны 1650-х гадоў, калі друкары пераехалі ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам, а яе абсталяванне было перавезена ў Маскву.

У сярэдзіне XVII ст. у сувязі з працяглымі войнамі, разарэннем брацтваў, значным пагаршэннем грамадска-палітычньгх умоў спынілася дзейнасць амаль усіх брацкіх друкарняў. У канцы XVII—XVIII стст. працягвала выпускаць кнігі толькі Магілёўская багаяўленская друкарня. Большую частку яе прадукцыі складалі літургічныя выданні на царкоўнаславянскай мове.

Асноўным цэнтрам лаціна-польскага друку ў Вялікім княстве Літоўскім стала друкарня Віленскай езуіцкай акадэміі (да 1586 г. яна належала Радзівілам). Аснову яе прадукцыі складалі тэалагічныя, рэлігійна-палемічныя выданні, у якіх выразна праяўляліся контррэфармацыйныя, паланізатарскія тэндэнцыі. Але паколькі друкарня належала навучальнай установе, яна выпускала таксама слоўнікі, падручнікі, навуковую літаратуру.

Такім чынам, з канца XVI ст. царкоўнае, брацкае, прыватна-прадпрымальніцкае кнігадрукаванне стала пастаянным фактарам культурнага, грамадска-палітычнага, царкоўна-рэлігійнага жыцця Вялікага княства Літоўскага, Беларусі. У другой палове XVI — першай палове XVII ст. тут фарміруецца даволі шырокі кніжны рынак, расце попыт на друкаваную прадукцыю. Па падліках А.Анушкіна, друкарні Вялікага княства Літоўскага толькі ў XVI ст. выпусцілі больш за 320 выданняў на польскай, лацінскай, царкоўнаславянскай, беларускай, літоўскай і іншых мовах. Падлічана таксама, што з 1601 па 1654 гг. у Беларусі надрукавана каля 100 назваў кірылаўскіх кніг.

## ЛЕКЦЫЯ 28

# ЛІТАРАТУРА XVI — ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XVII СТ.

- *Лацінамоўная паэзія.*
- *Сымон Будны.*
- *Царкоўна-рэлігійная публіцыстыка.*
- *Летапісы, гісторыка-мемуарная і палітычная літаратура.*

### Лацінамоўная паэзія

Да нядаўняга часу прыналежным да беларускай літаратуры лічылася толькі тое, што было створана на старабеларускай мове і ў свой час друкавалася кірыліцай. Але беларусы з'яўляюцца пераемнікамі ўсёй разнамоўнай літаратуры сярэдневяковай Беларусі, бо яе літаратура — полілінгвістычная, асабліва ў XVI ст.

Так склалася, што культура сярэдневяковай Еўропы стваралася на лацінскай мове. А паколькі Вялікае княства Літоўскае, якое было злучана уніямі 1385 і 1569 гг. з Польскім каралеўствам, уваходзіла ў абсяг еўрапейскага арэала, то вучоныя, паэты не маглі не карыстацца той мовай, на якой развівалася навука і літаратура Еўропы. XVI ст. у развіцці культуры Беларусі было апагейным, і яна амаль роўна абапіралася на дзве асноўныя для яе літаратурныя традыцыі — русінскую і лаціна-польскую. У першай палове гэтага стагоддзя з'яўляецца новы пласт усходнеславянскай духоўнай культуры — рэнесансная лацінамоўная паэзія. У канцы стагоддзя з'явіліся на Беларусі і творы польскамоўныя, напісаныя беларусамі. Увогуле, многія пісьменнікі, культурныя дзеячы Беларусі XVI ст. былі паліглотамі, бо, як напрыклад, Сымон Будны, ведалі і ўжывалі больш як паўдзесятка моваў, ці, як паэт Андрэй Рымша, пісалі творы і на старабеларускай, і на старапольскай, і на лацінскай мовах.

Агульным набыткам культуры беларускага, польскага і літоўскага народаў з'яўляецца спадчына паэтаў-лацііністаў Яна Вісліцкага і Міколы Гусоўскага.

У **1516 г.** у Кракаўскай друкарні Яна Галера выйшаў у свет зборнік паэтычных твораў Яна Вісліцкага на лацінскай мове "Пруская вайна", які прынёс яго аўтару еўрапейскую славу.

Біяграфічныя звесткі пра паэта надзвычай сціплыя. **Ян Вісліцкі нарадзіўся каля 1485—1490 гг.** Хутчэй за ўсё ён быў выхадцам з сялян ці мяшчан. Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце і, відавочна, закончыў яго ў адзін год з Ф. Скарынай (1506), з якім мог быць знаёмы. Універсітэцкія дакументы называюць Я.Вісліцкага рутэнусам, г.зн. русінам. Гэта ясна ўказвае на яго ўсходнеславянскае (беларускае ці ўкраінскае) паходжанне. У паэме "Пруская вайна" яўна выступае яго сувязь з Беларуссю. Зусім магчыма, што радзімай Вісліцкага была Беларусь, а адукацыю ён атрымаў у Польшчы, якая стала яго другой радзімай.

Гістарычную эпічную паэму Яна Вісліцкага "Пруская вайна" (1516) называюць мастацкім помнікам Грунвальду. У цэнтры твора — апісанне знакамітай бітвы 15 ліпеня 1410 г. Паэт усхваляе гераізм польскага народа, гаворыць пра літвінаў, вядомых сваёй мужнасцю на вайне (гэта адна з найбольш ранніх згадак пра беларусаў у еўрапейскай літаратуры), пяе славу Ягайлу і Вітаўту, дыскрэдытуе ў вачах еўрапейскай грамадскасці варожую палітыку Тэўтонскага ордэна, асуджае захопніцкія войны. У час працы над творам Ян меў пад рукой выпіскі з некаторых важнейшых крыніц аб Грунвальдскай бітве, таму ў паэме сустракаюцца такія дэталі, якіх няма ў дайшоўшых да нас крыніцах. Ён адным з першых еўрапейскіх паэтаў-гуманістаў усвядоміў эпахальнае значэнне перамогі над магутным нямецкім ордэнам для далейшага лёсу славянскіх і балтыйскіх народаў. Паэтычнае апавяданне пра Грунвальд напісана, па словах самога аўтара, з мэтай захаваць у памяці нашчадкаў гераічную славу народаў-пераможцаў.

Асобнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры XVI ст. займае буйнейшы славянскі паэт эпохі Адраджэння **Мікола Гусоўскі (каля 1480 — пасля 1533).**

Біяграфічныя звесткі пра яго таксама вельмі скупыя: няма нават дакладных звестак пра тое, дзе і калі ён нарадзіўся і памёр. Даследчык навалацінскай паэзіі Літвы першай паловы XVI ст. В.І.Дарашкевіч выказвае меркаванне, што паэт быў родам з Гродзеншчыны. З твораў Гусоўскага і ўскосных сведчанняў мы даведваемся, што ён нарадзіўся ў сям'і чалавека, для якога паляванне было і

сродкам жыцця, і прызваннем. Адукацыю паэт атрымаў у Беларусі, паглыбляў веды ў Вільні, Польшчы, Італіі.

У другім дзесяцігоддзі XVI ст. Гусоўскі служыў пры двары сакратара вялікакняжацкай канцылярыі, епіскапа Плоцка Вітэлія (Эразма Целка) — дыпламата, гуманіста, мецэната рэнесанснай культуры. Разам са сваім патронам, які ўзначаліў польска-літоўскую дыпламатычную місію да папы Льва X, М.Гусоўскі ездзіў у Рым і прабыў там больш трох гадоў. Час, праведзены ў Італіі, меў вялікае значэнне для складвання яго гуманістычнага светапогляду. Пасля нечаканай смерці ў 1522 г. Вітэлія, ён вярнуўся ў Польшчу, дзе і пражыў да канца сваіх дзён.

Самым значным творам Міколы Гусоўскага з'яўляецца паэма "Песня пра зубра", створаная ў Рыме ў **1521—1522 гг**. і надрукаваная ў Кракаве ў 1523 г. Як сведчыць сам аўтар, аднойчы яму давялося бачыць у Рыме спецыяльна наладжаны для публікі бой быкоў. Гэта відовішча нечым нагадвала паляванне на зубра і, натуральна, выклікала ў Міколы, як былога паляўнічага, адпаведныя ўспаміны, якімі ён і падзяліўся з прысутнымі. Гэта апавяданне настолькі зацікавіла слухачоў, сярод якіх быў і сам папа Леў X — заўзяты аматар палявання і сапраўдны знаток паэзіі, што Гусоўскаму тут жа было даручана скласці паэму пра насельніка далёкіх паўночных лясоў.

Такім чынам, "Песня пра зубра" напісана па заказу і адрасавана італьянскаму чытачу, выхаванаму на класічных узорах літаратуры. І вось з-пад пяра Гусоўскага выходзіць твор вялікай мастацкай сілы, выключна арыгінальны і самабытны, які з'яўляецца палітычным трактатам. Яго змест заснаваны на багатыгх асабістых уражаннях і перажываннях аўтара, які вырас у лясным краі, на ўлонні некранутай прыроды Беларусі канца XV ст.

Амаль палову гэтай паэмы займаюць апісанні знешняга выгляду, павадак, ладу жыцця зубра, цара беларускіх пушчаў, і сцэны палявання. Вельмі падрабязна, з вялікай мастацкай сілай і пераканансцю апісаны паводзіны цяжка параненага зубра. Зубр для Гусоўскага быў сімвалам радзімы. Таму "Песня пра зубра" стала і песняй аб Беларусі—Літве. Побач з вобразам зубра аўтар паэмы стварае велічны вобраз сваёй радзімы. Паэт апявае прыгажосць

беларускай прыроды, з захапленнем апавядае чытачам'пра яго заняткі, звычаі, норавы, пакуты. Паэт услаўляе свайго куміра, вялікага князя Вітаўта, суровага, але справядлівага, па словах паэта, правіцеля, які шанаваў доблесць і з пагардай ставіўся да баязлівасці, які ўсе сілы аддаваў узмацненню магутнасці, незалежнасці і міжнароднага аўтарытэту Вялікага княства Літоўскага. Апяваючы Вітаўта як ідэальнага гасудара, паэт называе час яго княжання залатым векам у гісторыі княства.

Напісаная больш чатырох з паловай стагоддзя назад, паэма Гусоўскага і сёння дастаўляе чытачам XX ст. эстэтычную асалоду і служыць каштоўнейшай крыніцай пазнання жыцця нашых продкаў. Яе вялікае значэнне таксама і ў тым, што яна была першым значным літаратурным творам аб Літве—Беларусі, створаным для Заходняй Еўропы не пабочным назіральнікам-чужаземцам, а ўраджэнцам гэтых зямель, нашым суайчыннікам-патрыётам.

## Сымон Будны

Дастойна прадоўжыў і памножыў скарынінскія рэнесансна-гуманістычныя традыцыі, унёс свой арыгінальны ўклад у скарбніцу беларускай культуры і думкі **Сымон Будны** — беларускі гуманіст і асветнік, адзін з буйнейшых дзеячаў рэфармацыйнага руху на Беларусі.

Нарадзіўся Будны **каля 1530 г.** Пытанне аб месцы яго нараджэння і нацыянальнасці па сённяшні дзень застаецца дыскусійным. Хто ён, беларус ці паляк, нарадзіўся ён у Будах беларускіх (якіх няма на тэрыторыі нашай рэспублікі), ці ў Будах, што знаходзяцца на тэрыторыі Мазовіі (Польшча), — дакладна не высветлена. Аднак нават тыя, хто лічаць Буднага палякам, пагаджаюцца, што вельмі многія факты сведчаць на карысць яго беларускага паходжання: добрае веданне беларускай мовы, жыцця, звычаяў беларускага народа.

Каля 1544 г., прыблізна ва ўзросце 14 гадоў, Будны паступіў на факультэт свабодных мастацтваў Кракаўскага універсітэта, які на працягу некалькіх стагоддзяў з'яўляўся "альма матэр" для многіх беларусаў. Потым, магчыма, скончыў тэалагічны факультэт Базельскага універсітэта. За гады вучобы за мяжой ён далучыўся да пра-

тэстанцкага вучэння. У 1558 г. Будны прыехаў у сталіцу Вялікага княства Літоўскага — Вільню; дзе заняў пасаду катэхізіста, г.зн. настаўніка пратэстанцкага таварыства з абавязкам па нядзелях, аўторках, пятніцах і ў святочныя дні выкладаць асновы рэфармацыйнага вучэння дзецям і дарослым. Два гады ён працаваў на пасадзе катэхізіста, і на гэтай аснове, відаць, вырас яго першы твор "Катехизис", які пазней быў выдадзены ў Нясвіжы на беларускай мове. Гэта сур'ёзны аргумент на карысць беларускага паходжання Сымона Буднага.

У 1560 г. Будны атрымлівае павышэнне: назначаецца прапаведнікам у беларускі горад Клецк. Чалавек вялікага прыроднага даравання і энцыклапедычнага розуму, С.Будны ў пачатку 60-х гадоў XVI ст. стаў значным грамадска-палітычным дзеячам пратэстанцкага толку і ў хуткім часе набыў еўрапейскую вядомасць як мысліцель-рацыяналіст і таленавіты публіцыст.

Для асветы простых людзей у **1562 г.** у Нясвіжскай друкарні пад апекай Мікалая Радзівіла Чорнага ён выдаў свой "Катэхізіс", а потым і другую кнігу на беларускай мове "Аб апраўданні грэшнага чалавека перад Богам", якая, на жаль, не захавалася.

З прычыны неспрыяльных абставін Будны вымушаны быў пакінуць свайго апекуна і ў 70-я гады ў Лоску разгарнуў кіпучую літаратурна-публіцыстычную дзейнасць. Гэта быў вельмі плённы перыяд, калі Будны выдаваў кнігу за кнігай на лацінскай і польскай мовах. Найбольш вядомымі з яго выданняў гэтага часу з'яўляюцца нясвіжская Біблія (1572), "Новы Запавет" з шырокімі каментарыямі да яго, "Аб асновах хрысціянскай веры" (1576). У іх Будны выклаў свае сацыяльна-палітычныя, рэлігійна-філасофскія і педагагічныя ідэі. Ён праявіў сябе арыгінальным і самабытным публіцыстам, вялікім майстрам пяра. Яго творы характарызуюцца яснасцю думкі, дасціпнасцю, палемічнай завостранасцю і пераканаўчасцю аргументацыі.

Усё сваё жыццё Сымон Будны прысвяціў справе асветы народа і падрыву аўтарытэту афіцыйнай хрысціянскай царквы. Ён першым пасля Скарыны не толькі выкарыстоўваў беларускую мову ў рэлігійным пісьменстве, але і прапагандаваў яе як раўнапраўную мову, як лепшы сродак для распаўсюджвання ведаў сярод простага

народа. У сваіх шматлікіх трактатах і кнігах Будны паслядоўна вёў барацьбу за вызваленне грамадскай думкі ад грузу сярэдневяковай схаластыкі. У цяжкія часы, калі ў краінах Заходняй Еўропы гарэлі кастры інквізіцыі, а ўсялякая праява крытычнай думкі і цвярозага погляду на рэчаіснасць разглядалася як небяспечная ерась, С.Будны сеяў насенне разумнага, здравага, практычнага падыходу да з'яў жыцця і рэлігіі. Ён заклікаў правяраць веру розумам. З гэтых пазіцый пісьменнік крытыкаваў афіцыйную хрысціянскую царкву і асабліва езуітаў, якія сваёй прапагандай каталіцызму і паказным чалавекалюбствам распальвалі рэлігійны фанатызм, наносячы тым самым шкоду грамадству і дзяржаве. С.Будны вёў барацьбу за асвету і пашырэнне ведаў у грамадстве, выступаў змагаром за брацкую дружбу і творчае супрацоўніцтва паміж славянскімі народамі. Выкладаючы свае погляды на жыццё і рэлігію, ён пракладваў шлях да секулярызацыі грамадскай думкі і вызвалення літаратуры ад уплыву хрысціянскай ідэалогіі.

Распаўсюджванне публіцыстычнай літаратуры — адметная рыса культурнага жыцця Беларусі XVI — першай паловы XVII ст. Выдатнымі публіцыстамі XVI ст. былі Васіль Цяпінскі (перакладчык на беларускую мову, выдавец "Евангелля" і аўтар прадмовы да яго), Андрэй Валан (аўтар трактата "Пра дзяржаўнага мужа і яго дабрачыннасці"), Міхалон Ліцвін (яго пяру належыць трактат "Аб норавах масквіцян, літоўцаў і татар", Леў Сапега (рэдактар і аўтар прадмовы да Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г., які з'яўляецца не толькі помнікам прававой думкі, але таксама літаратуры і дзелавой пісьменнасці. Сапега пакінуў багатую эпісталярную спадчыну).

## Царкоўна-рэлігійная публіцыстыка

Адным з асноўных відаў, вызначыўшых характар літаратурнага працэсу ў Беларусі канца XVI — першай паловы XVII ст., была палемічная публіцыстыка, царкоўна-рэлігійная па форме і афарбоўцы, але сацыяльна-палітычная па ідэйнаму зместу. Яна з'яўляецца адказам на абвастрэнне рэлігійнай барацьбы ў канцы XVI ст. Творы ідэолагаў уніяцка-каталіцкага лагера П. Скаргі, І. Пацея, І.В. Руцкага і інш. і творы апалагетаў праваслаўя Г. і М. Смат-

рыцкіх, І. Вішэнскага, З. Капысценскага і інш., ананімныя палітычныя сачыненні складаюць цэлы пласт беларускай літаратуры.

Апазіцыя рашэнням Берасцейскага уніяцкага сабора вымусіла яго натхніцеляў даваць тлумачэнні прычын прыняцця уніі, даказваць яе законны характар, апраўдваць свае дзеянні. Яны не замарудзілі выдаць у Вільні кнігі І.Пацея "Справедливое описанье поступку и справы сынодовое, и оборона згоды и едности свершенное, которая ся стала на сыноде Берестейском в року 1596", П.Скаргі "Брэсцкі сінод" (1597, на польскай мове) і "Описанье и оборона събору руского Берестейского" (1597, у перакладзе на беларускую мову І.Пацея). Яны абвінавачвалі праціўнікаў уніі ў непадпарадкаванні дзяржаўнай уладзе, чым надалі рэлігійнай палеміцы палітычны характар і яшчэ болей распалілі спрэчку. Кніга Пацея была куплена і знішчана праваслаўнымі.

З аблічэннем уніі, яе ідэолагаў і дзеячаў у Вільні, Львове, Астрогу, Афонскім манастыры выступілі абаронцы праваслаўя і нават усходнія патрыярхі. Найбольш аргументаванай (па сведчанню сучаснікаў) была выдадзеная ў 1597 г. у Вільні кніга **Хрыстафора Філалета** (пад гэтым псеўданімам, мабыць, выступіў валынскі пратэстант Марцін Бранеўскі) "Апокрисис, албо отповедь на книжкы о сьборе Берестейском", якая стала адным з лепшых твораў сатырычнай літаратуры таго часу. "Апакрысіс" прынёс шмат непрыемнасцей апалагетам уніі і каталіцызму. Яе аўтар не пакінуў без увагі ніводнага сцвярджэння Скаргі. Усё тое, што езуіт выдаваў за станоўчае, Філалет паказаў у рэзка адмоўным плане, і ў сваёй эрудыцыі, логіцы, уменні пераканаць чытача значна пераўзышоў Скаргу. Таму, каб нейтралізаваць уздзеянне "Апакрысіса" на грамадства, прыхільнікі уніі ўзяліся за скупку і знішчэнне гэтай кнігі. У выніку такога ўзаемнага знішчэння кніг значная частка палемічнай публіцыстыкі канца XVI — першай паловы XVII ст. нам вядома толькі па назвах.

Аблічэнне царкоўнай уніі вымушала яе абаронцаў адбіваць удары сваіх праціўнікаў. Каб адказаць Філалету, за пяро ўзяўся кіраўнік уніяцкага епіскапату **І. Пацей.** У 1599 г. ён выдаў сатырычны твор "Антырызіс", у якім дыскрэдытаваў Хрыстафора, не пас-

купіўшыся на абразлівыя словы і мянушкі на яго кнігу і ўвесь антыўніяцкі рух.

Першая чвэрць XVII ст. адзначылася далейшым развіццём палемікі. На літаратурна-публіцыстычнай ніве ад імя праваслаўнага лагера выступалі Мялецій Сматрыцкі, Лявонцій Карповіч, Іоў Барэцкі, Андрэй Мужылоўскі, Захарый Капысценскі, а ад уніятаў дзейнічалі Іпацій Пацей, Іосіф Вельямін Руцкі, Іасафат Кунцэвіч, Леў Крэўза, Анастасій Сялява, Ілля Марахоўскі і інш. Вядучая роля ў гэты перыяд у палеміцы належала з праваслаўнага боку Мялецію Сматрыцкаму, Іпацію Пацею, а потым Іосіфу Руцкаму, з уніяцкага. У гэты час было напісана і часткова выдадзена шмат цікавых і разнастайных па зместу і ідэйна-палітычнай накіраванасці твораў. Жорсткія ўмовы барацьбы прывялі да таго, што многія з іх выходзілі ананімна.

Асаблівую руплівасць у палеміцы з праваслаўнымі публіцыстамі праявіў уніяцкі мітрапаліт І. Пацей. Ён упарта імкнуўся адстаяць і ўмацаваць царкоўную унію і на працягу апошніх дзесяці гадоў жыцця напісаў шмат твораў у яе абарону: "Отпис на лист неякога Кирика Острожского безъименного" (1599), "Защита св. синода Флорентийского" (1603), "Розмова берестянина с братчиком" (1603), "Воскресший Наливайко" (1607), "Гармония, албо согласие веры..." (1608) і інш.

Творы палемічнай публіцыстыкі з'яўляюцца набыткам беларускай і ўкраінскай літаратур таго часу. Яны ўпісалі яскравую старонку ў грамадска-палітычную думку гэтых народаў.

Адно з вядучых месц у літаратурным працэсе Беларусі канца XVI — першай паловы XVII ст. належыць **Мялецію Сматрыцкаму (1577—1633)** буйнейшаму царкоўнаму дзеячу і пісьменніку, чыя грамадская і літаратурная дзейнасць звязана з Беларуссю, Украінай і Летувай. Нарадзіўся ён на Украіне. Яго бацька, Герасім Сматрыцкі, быў адным з першых пісьменнікаў-палемістаў. Першапачатковую адукацыю Мялецій атрымаў у Астрожскай гімназіі. У пачатку 90-х гадоў вучыўся на філасофскім факультэце Віленскай езуіцкай акадэміі, а пасля заканчэння займаўся педагагічнай дзейнасцю, працаваў хатнім настаўнікам. З 1600 г. па запрашэнні князя Б.Саламярэцкага вучыў яго сына, разам з выхаванцам паехаў у

Германію і там слухаў лекцыі ў Нюрнбергскім, Лейпцыгскім, Вітэнбергскім універсітэтах. Пасля вяртання жыў пад Менскам, потым пераехаў у Вільню, дзе ўступіў у праваслаўнае брацтва і прыняў удзел у барацьбе супраць уніі і каталіцызму. Тут напісаў каля 20 твораў.

"Фрынас" ("Плач") Тэафіла Артолага (псеўданім Мялеція Сматрыцкага) — адзін з самых выдатных помнікаў палемічнай літаратуры. Ён з'явіўся ў 1610 г. як водгук на драматычныя падзеі ў Вільні ў 1609 г. — захоп па загаду мітрапаліта Пацея праваслаўных цэркваў уніятамі. "Фрынас" меў вялікую папулярнасць сярод праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай і лічыцца самым лепшым творам пісьменніка. У ім Сматрыцкі даў яркі малюнак сучаснага яму стану праваслаўнай царквы. Ён раскрывае маразм і ўнутраны разлад у самой царкве, абураецца бяздзейнасцю духавенства, практыкай куплі-продажу вышэйшых царкоўных пасад. Ён кідае палітычнае абвінавачванне ў адрас папскай імперыі Ватыкана, паказвае небяспечнасць для народа і радзімы працэсу акаталічвання і дэнацыяналізацыі мясцовай феадальнай знаці, служылай шляхты і нават мяшчанства. Напалоханыя "Фрынасам" , прасякнутым "смяротным ядам" для каталіцызму, езуіты і уніяты адразу ж выступілі супраць кнігі Сматрыцкага. Першымі, хто напісаў адказ, былі П.Скарга і Ілля Мараховўскі. Яны абвінавачвалі аўтара ў прапагандзе аднолькава небяспечных як для праваслаўнай, так і для каталіцкай цэркваў пратэстанцкіх ідэй Лютэра і Кальвіна. А кароль Жыгімонт III сваім універсалам забараніў продаж і куплю кніжкі Сматрыцкага пад пагрозай вялікага штрафу, яна падлягала спальванню, а аўтар і выдавец — арышту.

Напалоханы суровасцю каралеўскіх санкцый, Сматрыцкі на нейкі час адышоў ад літаратурнай палемікі і заняўся педагагічнай дзейнасцю ў брацкіх школах Вільні і Кіева, якая прынесла яму не меншую славу, чым яго "Фрынас". Ён абессмяроціў сваё імя як таленавіты аўтар першай грунтоўнай у навуковых адносінах працай "Граматика словенския правилное синтагма". Выдадзеная ў 1619 г. для практычных патрэб школьнай адукацыі, яна мела выключнае культурнае і палітычнае значэнне для свайго часу, склала цэлы этап у станаўленні славянскага мовазнаўства. На працягу

амаль паўтараста гадоў "Граматыка" Сматрыцкага была агульнапрызнаным школьным падручнікам па старажытнаславянскай мове не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і ў Расіі, была вядома і ў краінах Захаду. Яшчэ ў 1617 г. Мялецій пастрыгся ў манахі віленскага Святадухаўскага манастыра. Актыўная грамадска-палітычная дзейнасць у радах праваслаўнай апазіцыі, аўтарытэт выдатнага паleміста забяспечылі яму пры жыцці вялікую славу сярод суайчыннікаў, а з 1620 г. і высокі духоўны сан архіепіскапа полацкага, епіскапа віцебскага і мсціслаўскага.

Страх паўстаць перад дзяржаўным судом пасля забойства ў Віцебску Кунцэвіча вымусіў Мялеція пакінуць радзіму. Ён адбыў у падарожжа па "святых месцах" Блізкага Усходу (1624—1626). За час яго падарожжа ў асяроддзі праваслаўнага духавенства распаўсюдзілася чутка, быццам Мялецій адправіўся да ўсходніх патрыярхаў за атрыманнем благаславення на аб'яднанне праваслаўнай царквы з уніяцкай. Таму пасля вяртання ён адчуў недавер, варожыя адносіны да сябе. Яму прыйшлося апраўдвацца і публічна абараняцца ад наветаў на спецыяльна скліканым у Кіеве царкоўным саборы для высвятлення мэты яго паездкі на Усход. Гэта, а таксама разлад, які ён убачыў у патрыярхаце — вышэйшым кіруючым органе праваслаўнай царквы, — абумовілі крах яго ранейшых рэлігійна-палітычных ілюзій. Сматрыцкі прыйшоў да высновы, што далейшая барацьба за рэлігійную дактрыну праваслаўя ўжо не мае сэнсу. Спачатку тайна, а потым яўна ён парывае з праваслаўнай царквой і пасля 1628 г. адкрыта перайшоў у лагер уніятаў. Усе астатнія свае сілы Сматрыцкі аддаў на абарону ідэі уніі, крытыцы якой прысвяціў амаль усё сваё свядомае жыццё, заклікаў праваслаўнае насельніцтва паследаваць яго прыкладу. Ва уніяцкі перыяд Мялецій напісаў шэраг высокамастацкіх твораў: "Пратэстацыя" (1628), "Паранезіс" (1629), "Экзатезіс" (1629). Апошнія гады свайго жыцця ён правёў у сценах Дзярманскага манастыра на Валыні, дзе і памёр, пакінуўшы аб сабе памяць таленавітага палеміста і пісьменніка, але чалавека, супярэчлівага ў сваіх поглядах. Мялецій Сматрыцкі быў чалавекам вялікага інтэлекту, таленавітым пісьменнікам, вучоным. Ён заняў пачэснае месца ў гісторыі літаратуры, навукі і грамадскай думкі беларускага і ўкраінскага народаў.

Зацятым барацьбітом супраць Берасцейскай уніі быў **Афанасій Філіповіч (каля 1595/1600—1648)**. Выхадзец з Берасцейшчыны, з сям'і збяднелага шляхціча, ён атрымаў адукацыю ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Потым працаваў хатнім настаўнікам у дамах шляхты і магнатаў і меў аўтарытэт выдатнага педагога. Пастрыгся ў манахі і жыў у манастырах Берасцейшчыны. У 1637 г. ён дабраўся да Масквы, дамогся аўдыенцыі ў маскоўскага цара, на якой заклікаў яго заступіцца за праваслаўных аднаверцаў у Рэчы Паспалітай.

Вярнуўся Афанасій на радзіму з багатымі ахвяраваннямі для сваёй царквы, але з рэпутацыяй здрадніка. У апошняе дзесяцігоддзе жыцця А. Філіповіч пісаў "Дыярыуш", у якім паказаў паўвекавую гісторыю царкоўнай уніі як гісторыю ганенняў і здзекаў над духоўным жыццём праваслаўнага насельніцтва.

Абвінавачаны ў сувязях з казакамі і ў тым, што *"унию святую оскорблял и проклинал",* 5 верасня 1648 г. пасля жорсткіх катаванняў быў расстраляны ў лесе непадалёк ад Бярэсця. А.Філіповіч кананізаваны праваслаўнай царквой.

За час свайго існавання царкоўна-палемічная публіцыстыка, увабраўшы ў сябе літаратуру адкрытых лістоў, адозваў, памфлетаў, трактатаў і іншых відаў творчасці, прайшла складаны і супярэчлівы шлях развіцця. У ёй назіраліся ўздымы і спады, ідэйна-мастацкі рост і таптанне на адным месцы вакол набіўшых аскому адных і тых жа багаслоўска-дагматычных пытанняў. Але яна адыграла станоўчую ролю ў гісторыі, упісаўшы яркую старонку ў грамадска-палітычную думку і літаратуру беларускага і ўкраінскага народаў. На працягу больш за паўстагоддзя яна карысталася вялікай папулярнасцю ў шырокіх колах грамадскасці таго часу, для якой яна выконвала функцыю зброі вострай ідэалагічнай барацьбы.

### Летапісы, гісторыка-мемуарная і палітычная літаратура

У XVI — першай палове XVII ст. на беларускіх землях працягвалася стварэнне летапісаў. Ва ўмовах узмоцненай цікавасці да мінулага, выкліканай фарміраваннем нацыянальнай самасвядомасці, уплывам ідэй Адраджэння, была зроблена спроба стварыць новую гісторыю Літвы і Русі.

Арыгінальным помнікам гістарыяграфіі і грамадска-палітычнай думкі Вялікага княства Літоўскага першай паловы XVI ст. з'яўляецца **"Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага"**, створаная ў асяроддзі патрыятычна настроенай літоўскай знаці. У яе аснову пакладзена легенда аб паходжанні старажытных літоўцаў ад рымлян. Летапісец падае велічную, ідэалізаваную і не пазбаўленую фактычных памылак і недакладнасцей гісторыю Літвы. Выдатным помнікам агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ з'яўляецца "Хроніка Быхаўца", заснаваная на матэрыялах папярэдніх беларускіх летапісаў і хронік. Сваю назву яна атрымала ад імя беларускага пана А.Быхаўца, уладальніка адзінага рукапіснага экземпляра гэтага летапісу. У XIX ст. рукапіс быў згублены, але тэкст твора захаваўся дзякуючы гісторыку Тэадору Нарбуту, які надрукаваў яго ў 1846 г. У навуцы няма адзінай думкі наконт часу і месца стварэння "Хронікі Быхаўца". Імкнучыся стварыць максімальна поўную гераізаваную гісторыю Вялікага княства Літоўскага, невядомы аўтар (аўтары) стварыў этапны твор у гісторыі агульнадзяржаўнага летапісання, якое згасла разам са стратай у другой палове XVI ст. Вялікім княствам Літоўскім палітычнай незалежнасці.

У гісторыі беларускай літаратуры другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. важнае месца займаюць гісторыка-мемуарная літаратура і творы палітычнай сатыры. На змену цяжкавагавай мове пісьменнікаў-палемістаў прыйшла лёгкая і ясная, вобразная мова пісьменнікаў-мемуарыстаў і сатырыкаў. Славесная творчасць прыкметна пачала набліжацца да жыцця, рабілася неад'емным духоўным спажыткам пісьменнага грамадства.

Узорам эпісталярнай творчасці другой паловы XVI ст. з'яўляюцца лісты аршанскага старасты **Філона Сямёнавіча Кміты-Чарнабыльскага** да членаў каралеўскай Рады Вялікага княства Літоўскага за 1573—1574 гг. Гэта былі сакрэтныя службовыя данясенні аб стане спраў у Маскоўскай дзяржаве і пагранічных раёнах Вялікага княства Літоўскага. "Лісты" Ф.Кміты да сённяшняга дня захавалі не толькі гістарычна-пазнавальную цэннасць, але і чыста літаратурную цікавасць. Гэта своеасаблівы літаратурна-мастацкі помнік канца XVI ст.

Насычанае падзеямі грамадска-палітычнае жыццё Беларусі другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. заахвочвала яго ўдзельнікаў і сведкаў брацца за пяро і расказаць пра перажытае, убачанае, пачутае сваім сучаснікам. Самым раннім з вядомых у сучасны момант мемуарных помнікаў з'яўляецца "Дзённік", ці "Гістарычныя запіскі" Фёдара Еўлашоўскага, напісаныя на беларускай мове ў 1603—1604 гг. У іх аснову, відаць, пакладзены дзённікавыя запісы аўтара за папярэднія 40 гадоў. У дзённіку знайшлі адлюстраванне падзеі таго часу, дарожныя прыгоды аўтара, урачыстыя прыёмы паслоў і замежных гасцей, моравыя пошасці і пажары, пададзены малюнкі жыцця беларускай і польскай шляхты, яе паводзін, звычаяў, настрояў і падзеі сямейнага жыцця Еўлашоўскага. Мемуары аб сваім жыцці пакінуў таксама беларускі шляхціч Ян Цадроўскі.

Адным з цікавых літаратурных помнікаў канца XVI — пачатку XVII ст. з'яўляецца **"Баркулабаўская хроніка"**, напісаная невядомым жыхаром в Баркулабава (Быхаўскі раён), які добра ведаў быт і норавы простых людзей, іх думкі і настроі. Чалавек адукаваны і шчыры, ён імкнуўся быць аб'ектыўным і праўдзівым летапісцам. Гэтыя якасці робяць хроніку цікавым дакументам і добрым узорам мемуарнай літаратурнай творчасці той эпохі. Яе аўтар па праву называецца выдатным пісьменнікам свайго часу, а "Баркулабаўская хроніка" — важнейшым помнікам беларускай нацыянальнай культуры. Цікавымі літаратурнымі здабыткамі XVII ст. з'яўляюцца "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча".

"Прамова Мялешкі", як мяркуюць даследчыкі, была напісана паміж 1622 і 1632 гг. і ўяўляе сабой бліскучую сатырычную пародыю на парламенцкае выступленне, пародыю, у якой яскрава паказаны сумныя вынікі згубнай паланізатарскай палітыкі Польшчы на Беларусі і Украіне, мараль і сапсаваныя норавы разбэшчаных раскошай і чужаземнымі ўплывамі прывілеяваных слаёў беларускай і ўкраінскай шляхты. Невядомы пісьменнік вуснамі дэпутата Варшаўскага сойма 1589 г., смаленскага кашталяна Івана Мялешкі абвінавачвае самога караля ў марнатраўстве і патуранні марнатраўцам. Само імя І.Мялешкі — творчая выдумка пісьменніка.

Палітычны памфлет "Ліст да Абуховіча" (1655) высмейвае грамадска-палітычную дзейнасць смаленскага ваяводы Піліпа Казіміра Абуховіча (рэальная гістарычная асоба), які здаў Смаленск маскоўскаму цару. Аўтар пісьма (яго імя невядома) дакарае свайго адрасата за здраду, крытыкуе тагачаснае дзяржаўнае ўпарадкаванне.

Названыя творы палітычнай сатыры былі шырока папулярнымі, бытавалі ў шматлікіх спісках-копіях і вуснай перадачы.

На другую палову XVI ст. прыпадае літаратурная дзейнасць паэта-гімнатворца Андрэя Рымшы. Жыў у Вільні, напісаў у 1585—1591 гг. дыфірамбічныя вершы, прысвечаныя "зацным асобам": Астапу Валовічу, Льву Сапегу, Фёдару Скуміну. У канцы XVI — пачатку XVII ст. тварылі Ян Радван, Гальяш Пельгрымоўскі. Іх паэтычныя творы ("Дэкатэрас" А.Рымшы, "Радзівіліяда" Я.Радвана і "Пасольства да вялікага князя Маскоўскага" Г.Пельгрымоўскага) былі вядомыя ў тагачаснай Еўропе.

### Сімяон Полацкі

Вядомым паэтам, мысліцелем, асветнікам застаўся ў гісторыі **Сімяон Полацкі (Самуіл Емяльянавіч Пятроўскі-Сітніяновіч) (1629—1680)**, паходзіў з сям'і заможных палачан. Атрымаў адукацыю ў Кіева-Магілянскай калегіі і Віленскай езуіцкай акадэміі. Відаць, не выпадкова Сімяон, які атрымаў праваслаўную і каталіцкую адукацыю, схіліўся да кампраміснага паміж імі уніяцтва. Яно, верагодна, здавалася яму адзіна прыемлемай формай збліжэння заходне- і ўсходнееўрапейскіх традыцый і культур.

Вайна 1654—1667 гг. крута памяняла не толькі намеры, але і ўсё жыццё і далейшы лёс 25-гадовага Сімяона. Захоп маскоўскай арміяй на працягу 1654—1655 гг. амаль усёй Беларусі, сталіцы ВКЛ Вільні зрабіла на яго вялікае ўражанне, прывяло ў шокавы стан. Малады чалавек паказаў сябе ў гэтай сітуацыі прагматыкам. У 1656 г. ён прымае манаскі сан, становіцца дыдаскалам (настаўнікам) невялікай брацкай школы пры манастыры і ўжо праз месяц разам са сваімі выхаванцамі вітае цара Аляксея Міхайлавіча як вызваліцеля беларускага народа.

У 1660 г. ездзіў у Маскву прасіць дапамогі для полацкага манас-

тыра, некаторы час жыў там, прадставіў цару хвалебную "Дэкламацыю", у якой назваў яго "царом-Сонцам". Вясной 1664 г., баючыся ганенняў з боку ўлад Рэчы Паспалітай, ён, як прыхільнік маскоўскай арыентацыі, пакінуў родны горад і паехаў у Расію на пастаяннае жыхарства. Там ён стаў прыдворным літаратарам.

Сімяон становіцца прыхільнікам, а потым ідэолагам праваслаўя і расійскага самадзяржаўя. Яго выбар быў як вымушаным, так і добраахвотным. У драматычнай дылеме, якую яму прапанавала жыццё, — патрыятызм або кар'ера — ён выбраў апошняе. У Маскве С. Полацкі вымушаны быў адмовіцца ад роднай мовы. Ён паклаў пачатак згубнаму для нашай культуры працэсу культурнай эміграцыі, які ў XVIII—XIX стст. набыў масавы характар. Інтэлектуальна-творчыя сілы беларускага народа з прычыны адсутнасці ўласнай дзяржаўнасці і нацыянальнай самасвядомасці "эмігрыравалі" або ў польскую, або ў рускую культуру.

ЛЕКЦЫЯ 29

# МАСТАЦТВА XVI — ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XVII ст.

- *Жывапіс, скульптура.*
- *Дойлідства.*
- *Музыка і тэатр.*

## Жывапіс, скульптура

Жывапіс Беларусі XVI — першай паловы XVII ст. — складаная, супярэчлівая і ў той жа час самабытная і арыгінальная з'ява ў гісторыі сусветнага мастацтва. Развіваючыся на скрыжаванні шляхоў, ён узбагачаўся, з аднаго боку, рысамі заходнееўрапейскай культуры, з другога — захоўваў рысы ўсходнеславянскай культуры. Адначасова ў ім прыкметна праяўлялася і тая плынь, якая зыходзіла ад народнага мастацтва. Вялікі ўплыў на развіццё жывапісу зрабілі тагачасныя гістарычныя падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі.

Адметная рыса твораў жывапісу пачатку XVI ст. — **цесная сувязь з візантыйскім і старажытнарускім мастацтвам, захаванне ладу мыслення і пачуццяў, уласцівых сярэднявеччу.** У параўнанні з творамі гэтага часу жывапіс сталага XVI і пачатку XVII ст. вызначаецца імкненнем да канкрэтызацыі выявы. Хаця і іншасказальна, але досыць поўна адбіліся ў ім уяўленні народа аб справядлівасці і прыгажосці, яго клопаты і спадзяванні ў складаных умовах сацыяльна-гістарычнага жыцця.

Зараз вядома, што ў XVI ст. у Беларусі працавала 26 жывапісцаў, 44 скульптары, 105 майстроў залатых спраў; вядомы таксама 19 мастакоў, працаваўшых у першай палове XVII ст. Яны стварылі шмат арыгінальных манументальных фрэскавых і іканапісных твораў.

Фрэскавыя роспісы XVI — першай паловы XVII ст. дайшлі да нас у вельмі абмежаванай колькасці, што не дазваляе даць разгорнутую характарыстыку манументальнага мастацтва гэтага перыяду. Вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць мае фрэскавы роспіс з выявамі Благавешчанскай царквы Супрасльскага манастыра, створаны ў 1557 г. Да нашых дзён роспіс захаваўся толькі ў

фрагментах. Ён набліжаецца да мастацтва Візантыі канца XIV — пачатку XV ст. Аднак у жывапісе Супрасля яўна праявіліся і элементы заходнеславянскага мастацтва. Цікавымі помнікамі манументальнага жывапісу першай паловы XVII ст. з'яўляюцца роспісы Куцеінскага манастыра каля Оршы, Багаяўленскага сабора ў Магілёве, царквы Св. Духа Тапічэўскага манастыра ў г. Мсціславе.

Найбольш папулярным і распаўсюджаным відам жывапісу ў XVI — першай палове XVII ст. быў абраз. На пачатку XVI ст. пад уплывам ідэй Адраджэння складваецца беларуская іканапісная школа. Характэрная для мастацтва эпохі Адраджэння ўвага да зямной прыгажосці звычайнага чалавека, да яго пачуццяў і клопатаў была ўласціва і беларускаму мастацтву. Гэта ярка праявілася ў кніжнай гравюры, алтарным жывапісе, некалькі менш — у іканапісе, дзе сказалася трываласць традыцый. Новыя павевы ўспрымаліся іканапісам, развіццё якога вызначалася царкоўнымі канонамі, асцярожна і з адборам. Але тым не менш і ў абразах усё часцей персанажы надзяляюцца індывідуальнымі рысамі, у сюжэтнай канве з'яўляюцца элементы бытавога, этнаграфічнага характару. Абуджаецца павышаная цікавасць да навакольнай рэчаіснасці і жаданне перадаць узнёслыя пачуцці і ўяўленні праз звыклыя, блізкія да рэальных формы. Абраз убірае ў сябе прыкметы рэальнага жыцця і адлюстроўвае густы і традыцыі народнага мастацтва, што і надае яму мясцовы каларыт.

Да лепшых узораў беларускага іканапісу XVI ст. належаць абразы "Матка Боская Іерусалімская" са Здзітава і "Нараджэнне Багародзіцы" з Ляхаўцаў на Берасцейшчыне, "Матка Боская Адзігітрыя" з Дубінца, "Пакланенне вешчуноў" з Дрысвят на Віцебшчыне, "Параскева Пятніца" са Случчыны.

У першай палове XVII ст. працягвала развівацца нацыянальная школа іканапісу. У канцы XVI — першай палове XVII ст. на змену рэнесансу прыйшоў новы стылістычны напрамак — барока. Адступленне ад традыцый старажытнарускага іканапісу і з'яўленне элементаў барока праяўляецца ў больш жывапіснай прапрацоўцы складак адзення, смелым спалучэнні колеру, новым падыходзе да прапіскі лікаў, у імкненні да ўзорыстасці, арнаментыкі. Цікавымі помнікамі першай паловы XVII ст. са сталымі стылявымі прык-

метамі беларускай школы іканапісу з'яўляюцца абраз "Тройца новазапаветная" з Дастоева, "Успенне" з Паніквы на Берасцейшчыне, "Матка Боская Адзігітрыя Неўвядальны цвет" з сяла Басценавічы на Магілёўшчыне, пяць работ маларыцкага майстра, выкананых у 1648—1650 гг. ("Праабражэнне", "Пакроў", "Успенне", "Нараджэнне Маткі Боскай", "Цалаванне Іаакіма і Ганны. Благавесце Ганне").

Сярод твораў XVII ст. адзіным уласнаручна падпісаным помнікам з'яўляецца работа Пятра Яўсеевіча з Галынца (Магілёўшчына) "Нараджэнне Маткі Боскай" (1649). Гэты твор — яркі прыклад беларускай іканапіснай школы, у якой ужо добра прасочваецца станаўленне нацыянальнага варыянта барока. Работа Пятра Яўсеевіча азначае важны этап у гісторыі станковага жывапісу першай паловы XVII ст., які дэманстраваў яе дасягненні і паказваў, што ў развіцці рэалістычных тэндэнцый беларускі іканапіс таго часу некалькі апярэджваў старажытнарускае мастацтва, уздым у якім адбыўся крыху пазней, у другой палове XVII ст.

**Беларускі станковы партрэт**, які пачаў фарміравацца ў XV ст., ужо ў канцы XVI ст. дае высокія ўзоры. Асаблівага росквіту гэты жанр дасягнуў у XVII — пачатку XVIII ст.

Партрэт XVI—XVIII стст. з'яўляецца не толькі творам мастацтва, а яшчэ (можа, і найперш) генеалагічным дакументам, які ўвекавечвае прадстаўніка таго ці іншага роду і з'яўляецца яго своеасаблівым "пашпартам". Такая функцыянальная накіраванасць партрэта нараджала своеасаблівыя стылістычныя прыкметы, якія не змяняліся на працягу многіх дзесяцігоддзяў, аж да пачатку XIX ст. Складваецца тып партрэта, які ў польскім мастацтвазнаўстве называецца "сармацкім", у Расіі вядомы з другой паловы XVII ст. як "парсуна". Для партрэтаў такога роду характэрны строгія каноны: фігуры падаюцца ў рост, радзей пагрудна, або пакалеНна, у парадным адзенні, з атрыбутамі ўлады (булава, жэзл, ключ і г.д.). На фоне звычайна маляваліся падвязаныя драпіроўкі і элементы архітэктуры, што рабіла ўражанне і надавала партрэту ўрачыстасць і параднасць. Выява дапаўнялася доўгім надпісам, у якім паведамлялася пра ўзнагароды, тытул, пасады партрэтаванага, а таксама некаторыя біяграфічныя звесткі. Нярэдка ў кутку партрэта можна было ўбачыць і герб заказчыка. Мастак імкнуўся праўдзіва пера-

дацьнатуру. Ён аб'ёмна пісаў толькі твар мадэлі, фігура ж трактавалася плоскасна, поза была застылай, скаванай. Мужчыны, як правіла, падаваліся як асобы ваяўнічыя, касцюму не надавалася вялікай увагі. На жаночых партрэтах бачна іншы раз празмернае жаданне паказаць прыгажосць жанчыны. Лепшыя творы біскупа Гейдройца - партрэты княгіні Кацярыны Слуцкай, слуцкіх князёў Алелькавічаў, партрэт жонкі заможнага магната Кацярыны Астрожскай, канцлера Льва Сапегі, польскай каралевы Барбары Радзівіл, Юрыя Радзівіла, Мікалая Юр'евіча Радзівіла, князя Ежы Радзівіла, Міхаіла Барысавіча, Януша Радзівіла, Альбрэхта Станіслава Радзівіла, партрэт Катажыны і Марыі Радзівіл вызначаліся рэалістычнасцю, глыбінёй псіхалагічнай характарыстыкі і падкрэсленым пачуццём чалавечай годнасці. Унікальнымі з'яўляюцца знойдзеныя ў 1966 г. у склепе касцёла Брыгіцкага манастыра ў Гародні партрэты сям'і Весялоўскіх, напісаныя невядомым гарадзенскім мастаком у 30—40-я гады XVII ст. Яны захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Вялікім дасягненнем беларускага выяўленчага мастацтва XVI ст. з'яўлялася паступовае авалоданне законамі перспектывы, імкненне паказаць фігуры і рэчы ў прасторы. Характэрным у гэтым сэнсе з'яўляецца гравюрны партрэт Ф.Скарыны, змешчаны ў пражскай Біблії. Гэта было першае ў Еўропе падпісанае адлюстраванне друкара Бібліі. На ім упершыню паказаны чалавек у час працы сярод розных рэчаў, многія з якіх маюць сімвалічнае значэнне. Партрэт Ф.Скарыны належыць да выдатнейшых твораў беларускага мастацтва.

**Вядучым відам графікі была кніжная гравюра.** Яе развіццё звязана з дзейнасцю беларускіх друкарняў. Паводле крыніц, з 1601 па 1654 гг. у Беларусі надрукавана каля 100 кірылаўскіх кніг, даволі разнастайных па тэматыцы. Асобныя беларускія выданні першай паловы XVII ст. з'яўляюцца непераўзыдзенымі шэдэўрамі мастацтва кнігі, узорамі творчасці друкароў, рысавальшчыкаў, гравёраў. Характэрнай рысай аздобы кніг было імкненне да сінтэзу, да ўзаемадзеяння ўсіх кампанентаў: тытула, заставак, канцовак, ініцыялаў, фігурных выяў, наборнай арнаментыкі. На Беларусі паступова складваецца свой уласны стыль афармлення кнігі. Нацыянальныя асаблівасці беларускай графікі ярчэй за ўсё* выявіліся ў кнігах

брацкіх друкарняў: віленскай Троіцкай (потым Святадухаўскай), куцеінскай, пазней магілёўскай.

У XVI — першай палове XVII ст. значнага развіцця дасягае скульптура, што праяўляецца і ў разнастайнасці яе віДаў і жанраў, і ў майстэрстве выканання пластычных твораў. У гэты перыяд атрымліваюць развіццё ўсе разнавіднасці скульптуры — манументальная і мемарыяльная (надмагіллі), дробная пластыка. Скульптура выраблялася з металу, косці, каменю, дрэва, мела паліхромную расфарбоўку, змяшчалася ў інтэр'ерах храмаў і была цесна ўзаемазвязана з архітэктурай, яе мастацкімі стылямі.

Фарміруецца мясцовая школы разьбы. Пластычнае мастацтва XV—XVI стст. мела непарыўную сувязь са старажытнарускімі мастацкімі традыцыямі, працягвала і развівала іх. У той жа час беларуская скульптура канца XV — пачатку XVI ст. адчувае ўплыў гатычнага мастацтва. У другой палове XVI ст. гатычныя традыцыі арганічна спалучаюцца з рэнесанснымі, утвараючы своеасаблівы сплаў. На мяжы позняй готыкі і рэнесансных традыцый полацкімі майстрамі створана скульптура "Св. Гжэгаж" (захоўваецца ў музеі г. Кінешмы), скульптурныя выявы святых Ганны і Іаакіма з в. Здзітава на Брэстчыне. Рысы гатычнага стылю адчуваюцца ў крыху выцягнутых фігурах, ломкіх, жорсткіх складках адзення, дробнай прапрацоўцы завіткоў валасоў. Галоўную ўвагу майстар надае характэрным нацыянальным рысам твару, вялікім натруджаным рукам і ў адпаведнасці з рэнесанснымі канцэпцыямі імкнецца выявіць унутраную велічнасць, духоўную сілу вобразаў. Гатычныя формы доўга трымаліся ў скульптуры Беларусі і зніклі толькі ў пачатку XVII ст. пад магутным націскам барока.

Значны ўплыў на развіццё беларускай пластыкі аказвалі традыцыі Адраджэння. У скульптуры перададзена цікавасць да навакольнай рэчаіснасці, рэальнага чалавека, што выяўляецца ў выбары тыпажу, перадачы форм чалавечай фігуры, у пільнай увазе да бытавых абставін. Вобразам надаюцца рысы індывідуальнасці, спакойнай упэўненасці, уласнай годнасці, у выявах дапускаецца больш свабоды. Пластыка становіцца аб'ёмнай, рэльеф шматпланавым. Традыцыі Адраджэння назіраюцца ў такіх скульптурах, як "Каця-

рына Александрыйская", "Лізавета Венгерская", "Святы ў рыцарскіх даспехах", "Казімір" з пасёлка Шарашова на Берасцейшчыне, у кампазіцыі "Марыя з дзіцём" (Нясвіж), царскай браме з царквы вёскі Варанілавічы Пружанскага раёна.

Традыцыі Адраджэння робяць значны ўплыў і на развіццё надмагільнай скульптуры, якая даволі шырока бытавала ў Беларусі ўжо ў XVI ст. Яе прынеслі сюды італьянскія майстры, што працавалі ў Вялікім княстве Літоўскім. Імкненне захаваць свой вобраз для будучых пакаленняў, зацвердзіць прэстыж свайго роду, ушанаваць памяць нябожчыкаў адпавядала духу новага гуманістычнага светаўспрымання, духу новага часу (надмагіллі канцлера Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Гаштольда і віленскага біскупа Паўла Гальшанскага ў віленскім Кафедральным саборы, Мікалая Крыштафа Радзівіла з Нясвіжа).

У нешматлікіх помніках першай паловы XVII ст. яскрава бачны прыкметы стыляў рэнесансу і ранняга барока. У параўнанні з папярэднім перыядам скульптура ў значнай ступені вызвалілася ад франтальнасці, стала больш дынамічнай і экспрэсіўнай. Развіццё скульптуры гэтага перыяду звязана з дзейнасцю як мясцовых, так і прыезджых майстроў з краін Сярэдняй і Паўночнай Еўропы. Яны стваралі надмагіллі, упрыгожвалі інтэр'еры і экстэр'еры храмаў. Значнага росквіту ў гэты перыяд дасягае каменная мемарыяльная скульптура. Сярод захаваных помнікаў трэба адзначыць надмагілле Мікалая VIII Крыштафа Радзівіла (Сіроткі) і яго сына (Нясвіж), надмагілле віцебскага кашталяна Міколы Вольскага і яго жонкі Барбары (касцёл у вёсцы Крамяніца Гродзенскай вобласці), надмагіллі Паўла Сапегі і яго трох жонак (францысканскі касцёл у в. Галынаны на Гродзеншчыне, надмагілле гетмана Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі і яго жонак (касцёл св. Міхаіла ў г. Вільні).

Да нашага часу захаваліся і асобныя помнікі драўлянай скульптуры, якія калісьці ўваходзілі ў склад алтарных кампазіцый. Але і пазбаўленыя свайго асяроддзя, яны не згубілі выразнасці і прывабнасці. Скульптурныя вобразы адзначаны рысамі рэнесансных уплываў і ўражваюць характэрным аблічам, выдатным адчуваннем прапорцый, спакойнай устойлівасцю. Прыклады такіх скульп-

тур — вобраз Кацярыны з в. Сурвілішкі на Гарадзеншчыне, прадстаячых ля крыжа з магілёўскай Спаскай царквы, выявы Марыі і Іаана Багаслова з касцёла Архангела Міхаіла ў Навагародку, скульптуры прарока Захарыя і біскупа рымскага з касцёла Брыгіцкага манастыра ў Гародні.

У першай палове XVII ст. у Беларусі быў створаны цэлы шэраг алтарных комплексаў. Менавіта на іх змяшчалася асноўная частка жывапісных, скульптурных твораў. Багата аздабляліся яны і дэкаратыўнай разьбой. Таму алтарныя комплексы з'яўляюцца прыкладам сінтэзу мастацтваў, гарманічна спалучаных агульнасцю ідэйнай задумы, што стварала ўражанне багацця, пышнасці і хараства. Яскравы прыклад таму — галоўны алтар касцёла Іаана Хрысціцеля (в. Волпа на Гродзеншчыне), алтар Успенскага касцёла вёскі Будслаў на Меншчыне, дзе змешчана 20 скульптур, алтар былой уніяцкай царквы ў в. Порплішча на Віцебшчыне.

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва XVI — першай паловы XVII ст. развівалася ў непасрэднай сувязі з народным мастацтвам, старажытнарускімі і заходнееўрапейскімі традыцыямі. Развівалася размалёўка па дрэву, чаканка па металу, таракотавая і паліваная кераміка і кафля. Рамеснікі выраблялі паліхромную рэльефную кафлю з рознымі кампазіцыямі, ужывалі глазур і эмаль. Шмат мастацкіх рэчаў выраблялася з металу, развіваліся коўка, ліццё, разьба. Збройнікі ўжывалі каштоўныя металы ў аздобе зброі. Дзейнічалі цэхі ювеліраў. Разьбяры па косці, выкарыстоўваючы рогі ласёў, аленяў, клыкі дзікоў, косці розных жывёл, птушак выраблялі гронкі нажоў, накладкі калчанаў, дэталі арбалетаў, грабяні, гузікі, фігуркі шахмат, шашак, абклады кніг і абразоў, невялікія абразкі. Спецыялісты па апрацоўцы каменю выраблялі гарматныя ядры розных памераў, тачыльныя брускі, праслíцы, надмагільныя крыжы, надмагіллі ў выглядзе бюстаў, статуй, рэльефаў, стэл, калон, абеліскаў, архітэктурна-дэкаратыўныя дэталі (калоны, парталы і г.д.). Гутнікі XVI—XVII стст. унеслі значны ўклад у развіццё шкларобства, вырабляючы посуд: кілішкі, кубкі, бакалы, чаркі, бутэлькі, якія ўпрыгожваліся шклянымі каляровымі ніцямі, жгутамі, стужкамі, пячаткамі з выявамі гербаў, роспісам фарбамі і золатам.

## Дойлідства

У беларускім дойлідстве першай паловы XVI ст. панавалі яшчэ сярэднявечныя архітэктурныя стылі. Праваслаўныя цэрквы ў асноўным паўтаралі традыцыйны старажытнаруска-візантыйскі тып храма, каталіцкія ж касцёлы ўзводзіліся ў гатычным стылі. Нават найбольш арыгінальныя і выдатныя помнікі своеасаблівага стылю, узнікшага на Беларусі на мяжы XV—XVI стст. (цэрквы абарончага тыпу ў Сынкавічах, Супраслі, Малым Мажэйкаве), не ўтрымліваюць ясных рэнесансных рыс і з'яўляюцца лебядзінай песняй сярэднявечча ў беларускім дойлідстве. Толькі ў другой палове XVI ст. былі пабудаваны першыя збудаванні рэнесанснага стылю. Для гэтага стылю характэрны зварот да культурнай спадчыны антычнасці, што праявілася ў звароце да антычнай ордэрнай сістэмы, інтэрпрэтацыі антычных формаў у дачыненні да новых гістарычных умоў; ужыванні ордэрнага члянення сцен, арачных галерэй, каланад, зводаў, купалоў. Яны спалучаліся з рысамі готыкі: Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі, кальвінісцкі збор у Асташыне на Наваградчыне, фарны касцёл у Клецку. Найбольш вядомай пабудовай беларускага рэнесансу з'яўляецца кальвінісцкі збор у Смаргоні, узведзены ў 1606—1612 гг. і хутка прыстасаваны пад касцёл.

У канцы XVI ст. пад уплывам рэнесансу адбыліся істотныя змены ў традыцыйных для таго часу збудаваннях. Страчваюцца абарончыя вежы і з'яўляюцца якасна новыя дэкаратыўныя формы. Праўда, у іх архітэктуры па-ранейшаму захоўваюцца асобныя элементы готыкі (напрыклад, Троіцкі касцёл у Чарнаўчыцах на Берасцейшчыне, комплекс кляштара бенедыкцінак у Нясвіжы). У пачатку XVII ст. працягваецца будаўніцтва храмаў готыка-рэнесанснага тыпу (касцёл кармелітаў у Ружанах).

Канец XVI — першая палова XVII ст. у архітэктуры адзначаны з'яўленнем і станаўленнем новага мастацкага стылю — барока, які сфарміраваўся ў Рыме і распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе, набыўшы ў розных краінах свае выразныя нацыянальныя рысы. Барока — адзін з асноўных стыляў архітэктуры XVI—XVII стст., які атрымаў шырокае распаўсюджванне ў краінах, дзе актыўную ролю адыгрывала феадальна-каталіцкая рэакцыя.

Цесна звязанае з задавальненнем эстэтычных патрэб правячай арыстакратыі і царквы, мастацтва барока выпрацавала мастацкія прынцыпы, што адрозніваліся ад рэнесансная стылю. Месца гармоніі і ўраўнаважанасці, уласцівых рэнесансу, у творах барока занялі пышнасць і дынаміка кампазіцыі, ускладнёнасць архітэктурных формаў, светлаценевыя кантрасты, багатая пластыка і нечаканыя эфекты. Замест ранейшых устойлівых формаў (квадрат, круг) у планах будынкаў сталі шырока вар'іравацца формы авала, эліпса ў спалучэнні з прамавугольнікам, трапецыяй і г.д. Усе сродкі архітэктуры, жывапісу і скульптуры барока былі накіраваны на дасягненне тэатралізаванага і эмацыянальнага ўспрыняцця, стварэнне патэтычна прыўзнятага пачуцця ўсяго мастацкага вобраза будынка ці ансамбля ў цэлым.

Беларуская манументальная архітэктура, успрыняўшы стыль барока, перапрацавала яго ў адпаведнасці з мясцовымі будаўнічымі традыцыямі, што прывяло да стварэння новай архітэктурна-мастацкай сістэмы — беларускага барока, якое захоўвала і развівала традыцыі народнай культуры, удасканальвала нацыянальнае будаўнічае майстэрства. Для ранняга беларускага барока (канец XVI — першая палова XVII ст.) характэрны арганічны сплаў заходнееўрапейскага барока з элементамі традыцыйных для беларускага дойлідства формаў готыкі і рэнесансу, прасочваюцца ў ім і сувязі з архітэктурай полацкага перыяду. У цесным узаемадзеянні ўсходніх і заходніх мастацкіх плыняў (што тлумачыцца суіснаваннем на тэрыторыі Беларусі розных рэлігійных культаў і іх саперніцтвам у сферы будаўніцтва) адбыўся своеасаблівы сінтэз разнастайных формаў манументальнай мураванай архітэктуры.

Першы помнік архітэктуры барока на Беларусі — езуіцкі касцёл у Нясвіжы, узведзены італьянскім архітэктарам Дж.М. Бернардоні ў 1584—1593 гг. У якасці прататыпа ён меў галоўны храм езуітаў у Рыме. Аднак асноўныя кампаненты архітэктурнага аблічча нясвіжскага храма не былі дакладна пераняты і паўтораны, а творча перапрацаваны.

Першы твор барока паслужыў узорам для шэрагу культавых збудаванняў дадзенага рэгіёна такіх, як Мікалаеўскі касцёл у Міры

(1595—1605), бенедыкцінскі комплекс у Нясвіжы (1590—1595), бернардзінскі касцёл у Нясвіжы (1598), якія ўспрынялі пэўныя рысы новага стылю. Больш на тэрыторыі Беларусі нам невядома ніводнага збудавання ў стылі барока да канца XVI ст.

У першай палове XVII ст. гэты стыль стаў пануючым у беларускай архітэктуры. Спачатку ўзводзіліся культавыя пабудовы з бязвежавым фасадам (касцёл езуітаў у Нясвіжы, касцёл бернардзінцаў і францысканцаў у Гародні, касцёл дамініканцаў у Менску, франЦысканцаў у Гальшанах, бернардзінцаў у Друі). З другой чвэрці XVII ст. пашыраецца будаўніцтва храмаў з дзвюхвежавым галоўным фасадам (касцёл брыгітак (1642—1651) і езуітаў (1647—1663) у Гародні, Успенскі сабор уніяцкага манастыра ў Жыровічах (1613—1650), касцёл дамініканцаў у Стоўбцах, Петрапаўлаўская царква і касцёл бернардзінак у Менску, Багаяўленскі сабор у Магілёве). І хаця будаўніцтва бязвежавых храмаў працягвалася да другой паловы XVII ст., храм з дзвюхвежавым галоўным фасадам становіцца найбольш характэрным для архітэктуры беларускага барока, а своеасаблівае вырашэнне галоўнага фасада з дзвюма вежамі па баках — адной з яго галоўных адметнасцей. Вытокі барочнай дзвюхвежавасці беларускіх храмаў узыходзяць да абарончых збудаванняў беларускай готыкі.

Спалучэнне старых архітэктурных стыляў з новымі пры панаванні першых было тыповае і для беларускага свецкага дойлідства XVI ст. Замест ранейшых замкаў-крэпасцяў, агульнагарадскіх і агульназемскіх цытадэляў, пачалі ўзводзіцца прыватнаўласніцкія палацы беларускіх феадалаў. Характэрная асаблівасць гэтых збудаванняў — спалучэнне ў адным комплексе чыста сярэдневяковых абарончых умацаванняў (земляных валаў, ірвоў і каменных сцен з вежамі) з жылым палацам, які звычайна будаваўся ў рэнесансным стылі. Тыповым прыкладам такой архітэктуры з'яўляецца палац Радзівілаў у Міры — выдатны помнік беларускага сярэдневяковага дойлідства XVI — першай паловы XVII ст.

У плане Мірскі замак нагадвае некалькі перакошаны чатырохвугольнік, утвораны замкавымі мурамі. Па вуглах, выступаючы за

перыметр сцен, узвышаюцца чатыры магутныя вежы. Пятая — праезная — вежа размешчана пасярэдзіне заходняй сцяны. Усе вежы маюць шмат байніц. Усе яны пры блізкасці стылю і канструкцый маюць сваё індывідуальнае архітэктурнае аблічча. Іх прыгажосць і велічнасць як бы адводзілі магутнасць сцен на другі план. ствараючы разам з імі адзіны вобраз непаўторнага збудавання. Магутныя абарончыя прыстасаванні знаходзіліся і на замкавых сценах. Унутры замкавага двара быў узведзены трохпавярховы палац. прыбудаваны да паўночнай і ўсходняй сцен Мірскага замка. Сцены і вежы ўзведзены на масіўных падмурках, складзеных з вялікіх камянёў.

Аб трансфармацыі пад уплывам рэнесансу замкавага будаўніцтва ў палацава-замкавае сведчыць і перабудова Старога замка ў Гародні для караля Стэфана Баторыя каля 1580 г. архітэктарам Скота з Пармы ў формах мясцовага рэнесансу.

Да ліку помнікаў абарончага дойлідства канца XV — пачатку XVI — першай паловы XVII ст. належаць замак Гаштольдаў у вёсцы Геранёны (цяперашні Іўеўскі раён) на Гарадзеншчыне, мураваныя замкі ў вёсцы Іказнь (цяперашні Браслаўскі раён) на Віцебшчыне і ў г.п. Мядзель на Міншчыне, Заслаўскі замак Івана Глябовіча.

У апошняй чвэрці XVI ст. на Беларусі шырока распаўсюджваецца новаітальянскі тып басціённых фартыфікацыйных збудаванняў. Да такога тыпу замкаў належыць Нясвіжскі, які ў 1583 г. пачаў будаваць італьянскі архітэктар Дж.М.Бернардоні.

У шэрагу помнікаў замкавага дойлідства на Беларусі першай паловы XVII ст. прасочваюцца элементы нідэрландскага рэнесансу. Гэта тлумачыцца шырокім удзелам у іх будаўніцтве галандскіх архітэктараў і інжынераў-фартыфікатараў Ван Лаэра, Ван Дадэна, Голанда, Валона і інш. Замкі ў Гальшанах і Смалянах (апошні не захаваўся) — прыклад такіх умацаванняў.

Працэс развіцця абарончага замкавага дойлідства на Беларусі XVII ст. завяршыўся будаўніцтвам замка ў Любчы на Гарадзеншчыне. Ён быў разбураны яшчэ ў 1655 г., сёння ад яго засталіся толькі дзве вежы.

Такім чынам, архітэктура Беларусі першай паловы XVI ст. развi-

ваецца пад непасрэдным уплывам готыкі і старажытнаруска-візантыйскага стылю. У другой палове гэтага стагоддзя разам з готыкай у беларускай архітэктуры распаўсюджваецца рэнесанс, што звязана з пранікненнем ідэй Рэфармацыі і гуманізму. Сумяшчэнне элементаў готыкі і рэнесансу стала адметнай з'явай беларускага дойлідства. Выкарыстаўшы заходнееўрапейскія традыцыі, майстры, што працавалі на Беларусі, стваралі яркія ўзоры нацыянальнага мастацтва. На мяжы XVI і XVII стст. культавыя збудаванні яшчэ вызначаліся стылявой рознахарактарнасцю, перавагай форм таго ці іншага архітэктурнага стылю. Надзвычай важным перыядам у гісторыі беларускай архітэктуры з'яўляецца першая палова XVII ст. Усяго за паўстагоддзе ў ёй адбыліся якасныя змены, якія зрабілі пэўны паварот ад сярэдневяковай архітэктуры да архітэктуры новага часу. У гэты час пануючым становіцца стыль барока.

### Музыка і тэатр

Першыя носьбіты музычнага прафесіяналізму на тэрыторыі Беларусі — вандроўныя акцёры: музыкі, скамарохі. Сярод іх у старажытнасці былі гусляры (гусельнікі), гудочнікі (гудкі), дудары, дудачнікі, выканаўцы на бубнах. З XVI—XVII стст. з'яўляюцца скрыпачы (скрыпкі, смыкі) і цымбалісты. Яны ўдзельнічалі ў княжацкіх застоллях і ваенных паходах, у вяселлях, калядах, русаллях, суправаджалі батлеечнікаў, ігралі танцы на святах. Пастаянныя ганенні з боку царквы і ўлад (напрыклад, пастанова Віленскага сойма 1656—1666 гг. аб абкладанні скамарохаў падаткамі) і развіццё прафесійных формаў тэатральнага мастацтва паступова вялі да знікнення скамарошаства як прафесіі. Да народна-прафесійных музыкантаў належалі таксама вандроўныя старцы, якія спявалі пад акампанемент ліры духоўныя вершы, псалмы, гістарычныя песні.

Старажытная праваслаўная царкоўная музыка беларусаў, рускіх, украінцаў узяла фармальныя, вонкавыя прыкметы ад візантыйскіх царкоўных спеваў, стварыла свой арыгінальны па форме і зместу знаменны распеў. Яго ладавую аснову складала "осьмагласне" (сістэма з васьмі ладоў), якая канчаткова сфарміравалася ў канцы XVI — пачатку XVII ст. У другой палове XVI ст. на Беларусі па-

шырыліся партэсныя шматгалосныя спевы (спяванне па партэсах — партыях, запісаных пяцілінейнай нотнай сістэмай).

**Буйнымі асяродкамі царкоўнай і свецкай музычнай культуры ў XVI—XVII стст. становяцца брацтвы. У брацкіх школах моладзь атрымлівала музычную адукацыю, пры іх ствараліся хоры, якія ўдзельнічалі ў паказах школьнага тэатра.**

Побач са школьным тэатрам з XVI ст. пашыраецца беларускі народны лялечны тэатр батлейка, які арганізоўваўся вандроўнымі шкалярамі, мяшчанамі, сялянамі. У яго рэпертуар уваходзілі рэлігійныя п'есы ("Цар Ірад"), а таксама жанравыя сцэнкі, пабудаваныя на фальклорным матэрыяле і насычаныя сацыяльнай сатырай. Яны высмейвалі паноў, карчмароў і г.д., проціпастаўляючы ім станоўчых герояў з народа. Сцэнай служыла двухпавярховая скрынка. што нагадвала царкву або хатку. Паказы рабіліся на абодвух паверхах. Батлеечнікі вадзілі драўляныя лялькі на шпянях па проразях у падлозе паверхаў. У паказах удзельнічалі да 40 персанажаў. Батлеечныя спектаклі суправаджаліся музыкай — папулярнымі кантатамі, народнымі песнямі і танцамі, якія выконваліся інструментальнымі ансамблямі, што звычайна складаліся са скрыпача. цымбаліста і бубнача.

У канцы XVI — пачатку XVII ст. узнікаюць школьныя тэатры пры езуіцкіх навучальных установах. На плошчах і вуліцах гарадоў імі ладзяцца тэатралізаваныя містэрыі, закліканыя пашырыць кола прыхільнікаў каталіцкага веравучэння. Развіццё інструментальнай музыкі звязана таксама з каталіцкімі набажэнствамі.

У другой палове XVI ст. зроблены першыя спробы нотадрукавання на Беларусі: Берасцейскі канцыял-зборнік "Песні хвал боскіх", выдадзены ў 1558 г. у Бярэсці Я. Зарэмбам, і Нясвіжскі спеўнік 1563 г. М. Кавячынскага, які ўтрымлівае 40 псалмоў і 110 песень з нотамі.

З другой паловы XVI ст. у побыт уваходзяць канты — бытавыя харавыя песні-гімны на свецкую (уласна канты) і рэлігійную (псалмы) тэматыку. Псалмы і канты набылі папулярнасць у гарадскім і сялянскім асяроддзі, увайшлі ў вясельны абрад.

Такім чынам, беларуская культура XVI — першай паловы XVII ст. складаная і своеасаблівая. У ёй змагаліся самыя разнас-

тайныя, нярэдка супрацьлеглыя тэндэнцыі, аднучасова ўжываліся і ўзаемадзейнічалі найноўшыя і застарэлыя, перадавыя і кансерватыўныя ідэі, плыні, стылі. Адсюль і яе стракатасць, адсутнасць гарманічнага адзінства. Гэта было абумоўлена складанасцю і супярэчлівасцю грамадскага жыцця Беларусі ў той перыяд гістарычнага развіцця, а таксама тым, што на беларускіх землях сутыкаліся, перакрыжоўваліся і сінтэзаваліся два магутныя культурна-ідэйныя струмяні — каталіцкага Захаду і праваслаўнага Усходу. Першыя парасткі новага ва ўмовах панавання феадальнай ідэалогіі, сярэднявечнага тыпу культуры прабіваліся марудна, з цяжкасцю, хаця для іх ужо былі створаны пэўныя сацыяльна-гістарычныя ўмовы.

16 Зак. 82

ЛЕКЦЫЯ 30

## ГАРАДСКІЯ ПАЎСТАННІ КАНЦА XVI - ПЕРШАЙ ТРЭЦІ XVII ст.

- *"Каляндарны бунт" у Полацку.*
- *Выступленні супраць гарадской адміністрацыі ў Магілёве і Мазыры.*
- *Антыуніяцкія хваляванні..*

### "Каляндарны бунт"у Полацку

Ператварыўшыся ў сур'ёзную эканамічную сілу, гараджане заставаліся прыніжаным падатным саслоўем. Іх інтарэсы апынуліся ў рэзкай супярэчнасці, па-першае, з прывілеямі свецкіх і духоўных феадалаў, а, па-другое, унутры горада назіраліся пэўныя непаразуменні паміж асобнымі сацыяльнымі групамі. Вось чаму насельніцтва гарадоў і мястэчак Беларусі вяло ўпартую барацьбу за свае правы, асабліва ў канцы XVI - першай палове XVII ст.

З.Ю. Капыскі, адзін з буйнейшых спецыялістаў па гісторыі сярэдневечнага беларускага горада, вылучае ў ёй чатыры напрамкі:

1.Супраціўленне росту ўлады феадалаў у горадзе і імкненне распаўсюдзіць уладу гарадскога самакіравання (магдэбургскае права) на ўсё гарадское насельніцтва;

2.Барацьба гарадскіх нізоў супраць свавольства гарадской вярхушкі за захаванне правоў сходу гараджан;

3.Выступленне супраць каталіцкай экспансіі;

4.Супрацьдзеянне абміршчэнню праваслаўнага кліру.

У канцы XVI - першай трэці XVII ст. па Беларусі пракацілася цэлая серыя гарадскіх паўстанняў. Адкрыла ім лік выступленне палачан, якія адмовіліся прыняць каляндарную рэформу 1582 г.

Каляндарная праблема адносіцца да ліку тых, што хвалюе чалавецтва і не дае яму спакою на працягу ўсёй гісторыі. Календаром еўрапейскага сярэднявечча быў юліянскі, распрацаваны александрыйскім астраномам Сазігенам, уведзены рэформай Юлія Цэзара ў 46 г. да нараджэння Хрыстова і названы імем імператара. У 325 г. нашай эры Усяленскі Нікейскі сабор прызнаў гэту сістэму вылічэння часу абавязковай для ўсяго хрысціянскага свету. Паступова яна

ўвайшла ў практыку ўсіх еўрапейскіх краін, у тым ліку і Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Праз яе да 1582 г. хрысціянскі Усход і Захад былі злучаны адзіным каляндарна-літургічным мастом.

Просты і зручны ў сваёй аснове сазігенаўска-юліянскі механізм адліку часу меў недакладнасць - працягласць каляндарнага года была на 11 мінут 14 секунд большая за астранамічны, таму за кожныя 128 гадоў назапашвалася памылка на адны суткі, якая к сярэдзіне XVI ст. вырасла да дзесяці сутак і павярнулася несупадзеннем сапраўднага вяснавога раўнадзенства (поўні) з каляндарным. Гэта стварала блытаніну ў велікодных разліках і святкаванні хрысціянскай царквой Пасхі (Вялікдня), якая паводле рашэння Нікейскага сабора павінна адзначацца пасля першага вяснавога раўнадзенства.

На такую недакладнасць ужо ў XIII—XIV стст. звярталі ўвагу заходнееўрапейскія і візантыйскія вучоныя, якія прапаноўвалі больш дасканалыя сістэмы часалічэння. Вырашэнне каляндарнай праблемы ўзяў на сябе Папа Рымскі Грыгорый XIII. У 1578 г. ён заклікаў да працы лепшых вучоных і некаторыя універсітэты, даручыўшы ім "паправу" існуючай сістэмы адліку часу. Спецыяльна створаная камісія, разгледзеўшы распрацаваныя імі праекты, ухваліла прапановы італьянца Луіджы Ліліа, якія былі пакладзены ў аснову рэформы календара.

Уведзены дэкрэтам Грыгорыя XIII у **1582 г. новы каляндар быў прагрэсіўнай з'явай у гісторыі навуковай думкі, паколькі выпраўляў заганы ў адліку часу.** З гэтай пастановы бярэ пачатак новы стыль летазлічэння, па якім час перасоўваўся на 10 дзён уперад і, такім чынам, аднаўляліся "згубленыя" ў юліянскім календары 10 сутак. Услед за Італіяй на новы стыль паступова пачалі пераходзіць іншыя еўрапейскія дзяржавы. Адной з першых на каляндарную рэформу адгукнулася Рэч Паспалітая.

Прыстасаваны да патрэб каталіцкай царквы, грыгарыянскі каляндар набыў заходнехрысціянскую рэлігійную афарбоўку, што зрабіла яго непрыдатным для прыняцця на пратэстанскіх і праваслаўных землях. "Лепей разысціся з Сонцам, чым сысціся з папам", — заяўлялі пратэстанты.

Адмоўна паставіўся да новаўвядзення і ўсходнехрысціянскі свет, бо яно зыходзіла ад Папы Рымскага і падрывала аўтарытэт праваслаўя. Кастанцкі сабор, скліканы ў 1583 г. патрыярхам Іярэміяй. уважліва абмеркаваў каляндарнае пытанне і абвясціў новы стыль і каляндар чарговым эксперыментам Рыма, праведзеным на свой лад, прызнаў іх некананічнымі і пагражаў пракляццем тым, хто б асмеліўся святкаваць па-новаму. 20 лістапада 1583 г. канстанцінопальскі патрыярх Іярэмія звярнуўся да праваслаўнага кліру Рэчы Паспалітай з заявай аб «няправільнай змене хрысціянскага летазлічэння Папай Рымскім Грыгорыем XIII», з заклікам прытрымлівацца юліянскага календара і адзначаць Пасху і іншыя святы паводле ўстанаўлення Нікейскага сабора.

**Граматай** Стэфана Баторыя **1583 г.** грыгарыянскі каляндар уводзіўся на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Прыняты ў каталіцкім асяроддзі, ён сустрэў рэзкі адпор праваслаўнага духавенства і насельніцтва. Беларускі і ўкраінскі народы балюча паставіліся да спробы ламання традыцый.

Ідэолагі беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы Г. Сматрыцкі, С. Зізаній, В. Суражскі, Х. Філалет і іншыя ў імкненні абараніцца ад наступаючага каталіцызму рэзка выступілі супраць новага календара. У абароне нацыянальна-культурных і рэлігійных традыцый сваіх народаў праціўнікі рэформы імкнуліся ізаляваць усходнеславянскі свет ад заходняй цывілізацыі. А гэта вылілася ў непрыняцце дасягнення передавой еўрапейскай астранамічнай навукі, таксама залічанай да разраду "лацінства". Так, Герасім Сматрыцкі, хоць і разумеў неабходнасць удакладнення календара, але ў яго рэформе ўбачыў вялікае грамадскае і маральна-этычнае зло для свайго народа і таму выступіў супраць яе. Разгляд пытання аб перавазе таго ці іншага календара ў цеснай сувязі з дагматычнымі і абрадавымі асаблівасцямі праваслаўя і каталіцызму надаваў літаратурнай палеміцы характар нецярпімасці. Напэўна, нідзе больш барацьба вакол календара не набыла такіх вострых форм, як у Рэчы Паспалітай.

Новаўвядзенне выклікала ў 80-90 гады XVI ст. сур'ёзныя "каляндарныя" канфлікты ў Полацку, Вільні, Львове, паколькі закранала рэлігійныя пачуцці і эканамічныя інтарэсы людзей.

Вось як характарызуе абстаноўку на ўсходзе Беларусі Баркулабаўскі летапіс: *"...Року 1583 календар новый выдан за кроля Стефана... На тот же час было великое замешание промежи панами и промеж людми духовными, также и людми простыми было плачу великого, нарекания силного, похвалки, посварки, забуйство, грабежи, заклинания, видячи яко новые свята установляли, праздники отменяли, купцом торги албо ярмарки поотменяли, право было начало пристья антихристова, у таком великом замешанью ".*

Адмена святаў паводле старога календара, забарона гандлю і рамесніцкай дзейнасці ў каталіцкія святы, перанос або адмена кірмашоў выклікалі народнае хваляванне ў Полацку. Палачане адказалі на гэтыя меры своеасаблівым пратэстам.

Нягледзячы на націск з боку ўлад і царквы, у дні каталіцкіх святаў полацкія гандляры адкрывалі крамы, дзе ішоў гандаль яшчэ болын ажыўлены, чым у будзённыя дні. Рамеснікі дэманстратыўна працавалі ў сваіх майстэрнях з ранку да вечара. Калі лентвойт паспрабаваў забараніць работу і гандаль у святочныя дні, пагражаючы расправай, гараджане хацелі закідаць яго каменнем. Лентвойт звярнуўся са скаргай да караля. Праз некаторы час ад яго прыбыла грамата. Кароль забараняў палачанам працаваць і гандляваць у дні каталіцкіх святаў, ва ўсякім разе - не рабіць гэта яўна.

Спасылаючыся на каралеўскае распараджэнне, гарадскія ўлады запатрабавалі ад жыхароў Полацка "пачцівасці" да каталіцкіх святаў, і, магчыма, прыбеглі да карных мер. У адказ на гэта натоўпы гараджан выйшлі на вуліцы. Раздаліся крыкі, што трэба разграміць касцёл і езуіцкую калегію, спаліць горад і замак, а самім пайсці да Масквы. Ваяводскіх слуг, якія спрабавалі навесці парадак, гараджане адкрыта пагражалі забіць. Натоўпы народу на вуліцах павялічваліся. Пачаўся пагром шляхецкіх дамоў. Уладам з вялікай цяжкасцю ўдалося падавіць хваляванні. Службовыя асобы паведамлялі, што жыхары Полацка хваляць рускага цара, лічаць яго больш прымальным для сябе, чым кароль Рэчы Паспалітай.

Адзінай крыніцай, якая паведамляе пра падзеі ў Полацку, з'яўляецца пісьмо Льва Сапегі да Крыштафа Радзівіла, датаванае 1599 годам. Безумоўна, у канфідэнцыяльнай перапісцы з Радзівілам Сапега быў цалкам шчыры. Аднак у сучасных даследчыкаў выклікае

сумненне датаванне пісьма. Паўстанне верагодна адбылося ў 1584 г, у хуткім часе пасля выдання Стэфанам Баторыем граматы аб увядзенні каляндарнай рэформы.

"Каляндарныя" хваляванні прымусілі ўрад узаконіць права праваслаўных карыстацца старым часалічэннем і па традыцыі адзначаць свае святы. Стэфан Баторый тлумачыў, што ўвёў новы каляндар не з мэтай уціску праваслаўных, а "для порядку и справ Реч Поспалитой". *"...Люде Греческого закону ло тое реформацыи календара нового без призволеня старшого патриархи своего, кгвалтом примушаны быти не мають,* - гаварылася ў каралеўскай грамаце, выдадзенай ў 1584 г. у Гародні, - *Для чого хочем мети и приказуем..., абысте их свят их обходити и святити не забороняли, переказы и пренагабаня, ани грабежов за то, ани деспектов жадных не чинили, послтерегаючи того, якобы покой и згода межи розными вере и набожестве захованы были... "*

Гэтыя захады Баторыя не змаглі поўнасцю стабілізаваць сітуацыю: пасыпаліся скаргі, пайшлі разборы, "каляндарныя" беспарадкі не спыніліся. У 1586 г. каралю давялося разбірацца з полацкімі мяшчанамі, якія прымушалі католікаў, прыняўшых новы стыль, *"до захованья свят свош водлуг старого календаря "* і ім на наругу працавалі і гандлявалі ў дні каталіцкіх святаў. Пад пагрозай кары палачан абавязалі шанаваць тыя святы, што адзначае касцёл. Тады ж *"пасольства" Вільні скардзілася на мясцовых католікаў, што "их свят Греческих святити не допускаете, пртуждаючи их (гараджан) к свяченью свят римских водле нового календара, и не малые трудности в том им задаете".*

Адказам на гэтыя канфлікты з'явіўся дадатковы каралеўскі ўказ, каб ніхто не прадаваў у дні святаў і па новаму, і па старому календару. Ад такога падваення святаў, зразумела, цярпелі эканамічныя інтарэсы рамеснікаў і гандляроў. Акрамя таго, гэта теарэтычнае размежаванне вельмі няпроста было ўвасобіць у практыку.

Так воляй гістарычных абставін наш народ аказаўся падзеленым на дзве часткі: адны жывуць па юліянскім, другія - па грыгарыянскім часаўспрыманні. З канца XVI ст. да нашых дзён пэўныя каляндарныя ўмоўнасці з'яўляюцца значнай перашкодай для кансалідацыі беларускага этнасу.

Каляндарная праблема ў канцы XVI ст. яшчэ больш паглыбіла раскол у хрысціянстве. Ужо вучоныя таго часу, абмяркоўваючы рэформу, прадказалі, што выгады ад новага механізма рэгуляцыі сакральнага часу не пакрыюць той блытаніны, якую ён выкліча.

Надзею на пераадоленне каляндарнай бездані, што пралягла паміж праваслаўным Усходам і каталіцкім Захадам, пэўныя колы ўскладалі на царкоўную унію, падрыхтоўка якой вялася на беларуска-ўкраінскіх землях.

Аднак тварцы уніі, каб не застацца ў ізаляцыі, вымушаны былі лічыцца з вострай рэакцыяй беларуска-ўкраінскага насельніцтва на прадпрынятую яшчэ ў 80-ыя гады спробу ламання векавой усходнеславянскай традыцыі лічэння часу і адзначэння святаў па юліянскаму календару і таму вагаліся ў сваёй каляндарнай палітыцы ад адстойвання старога стылю да згоды прыняць новы. Сярод артыкулаў - дзелавых умоў уніі, падпісаных вышэйшай праваслаўнай іерархіяй у 1594 п, агаворваецца права адпраўлення ўсіх царкоўных спраў і набажэнства па старому календару.

## Выступленні супраць гарадской адміністрацыі ў Магілёве і Мазыры

З пачатку XVII ст. народныя хваляванні на Беларусі пачасціліся.

У канцы XVI - першай палове XVII ст. ішла напружаная барацьба сярэдніх і ніжэйшых слаёў Магілева супраць гарадской вярхушкі. Прычынай незадавальнення быў падатковы і павіннасны цяжар, беззаконне і свавольства магістрата пры раскладцы і зборы падаткаў, злоўжыванне ўладай. "Нізы" дамагаліся пашырэння сваіх правоў, справядлівага падаткаабкладання, кантролю над дзейнасцю Рады, справаздачнасці магістрата аб грашовых выдатках. Гараджане даносілі каралю аб злоўжываннях, стварылі свой кантрольна-дарадчы орган з 12-ці чалавек "паспалітых", які наглядаў за дзейнасцю магістрата, і летам 1606 г. узняліся супраць купцоў і ліхвяроў, якія захапілі ў свае рукі гарадское самакіраванне, чынілі "великое обтяжение и кривду" насельніцтву. Гараджане скардзіліся ўладам, што члены Рады *"сами с повинными приятели своими," на врады се обирают, пожитками мескими (гарадскімі даходамі) водлуг воли своее без ведомости нас справуют, себе и повинных своих*

*вспомогают, лнчбы не чiiнят, меты албо податки частые, без ведомости нашое, на нас вкладывают, и выбирати часом кгвалтовне кажуть... нас, постолитого человека, внешто оборочаючи".*

Кiраўнiцтва паўстаннем здзяйсняла група рамеснiкаў ("Микита -шабелник", Герасим-колачник", "Пётр Кузмнич - коваль", "Харапон-кравец" i iншыя) на чале са Стахорам Мiтковiчам, цэхмiстрам цэха саладоўнiкаў. 19 чэрвеня 1601 г. Мiтковiч выступiў на гарадскiм рынку "при собраню людей" з аблiчэннем магiлёўскага бурмiстра Васiля Якiмовiча, яго словамi *"неучтивыми лаял, соромотил и пофалки (пагрозы) на здоровье его чинил".*

20 чэрвеня С. Мiтковiч узбунтаваў *"нямала людей так знаемых, яко i незнаемых до колко сот человека".* Паўстанцы ўварвалiся ў памяшканне ратушы i запатрабавалi, каб яна спынiла фiнансавыя злоўжываннi. Спроба членаў магiстрата арыштаваць Мiтковiча i тым самым пазбавiць паўстанне кiраўнiка не ўдалалася - *"бунтаўшчыкi не дапусцiлi гэтага".*

Не дабiўшыся патрабаванняў паўстанцаў, 25 чэрвеня велiзарны натоўп заняў ратушу i разагнаў старую Раду, якая складалася з лiхвяроў, купцоў, кiраўнiкоў цэхаў. У яе адабралi "печать мескую i справы вси". У лiпенi гараджане выбралi новую Раду. У склад яе ўвайшлi Стахор Мiтковiч, збройнiк Мiкiта, ганчар Мiхалка, шавец Фёдар, каваль Пётра i iншыя "люди легкие, права и писма не умеетныя". Больш за два гады новая Рада кiравала горадам.

Летам 1606 г. у Магiлёве вырашаўся канфлiкт памiж вярхамi i асноўнай масай гарадскога насельнiцтва, якая настойвала на захоўваннi яе саслоўных правоў i iнтарэсаў, узурпiраваных багатай вярхушкай, што захапiла ўладу ў горадзе. Гарадскiя нiзы, г.зн. плебейская частка жыхароў, заставалася ў баку ад барацьбы. Вынiкам такога характару руху стала прымiрэнне старой i новай Рады. Пасля доўгiх перагавораў памiж iмi ў 1608 г. быў заключаны "угодный лист", паводле якога новая Рада пасля заканчэння тэрмiну сваiх паўнамоцтваў павiнна была здаць уладу старой Радзе. У новую Раду ўводзiўся стаўленiк гарадской вярхушкi - пiсар старой Рады НiкЬдым Тапiчэўскi.

Аднак пагадненне не зняло супярэчнасцей, не ўтаймавала беззаконня дзеянняў Рады, у якой па-ранейшаму галоўную ролю адыг-

рывала багатае купецтва, цэхмістры. Глеба для барацьбы заставалася, "бунты и распри в Могилеве разрослись", - пісаў гарадскі войт Яраш Валовіч.

І барацьба ўспыхнула з новай сілай у 1610 г., прыняўшы характар адкрытага паўстання. Гараджане Іван Харкевіч, Мікіта Мільковіч, Гаўрыла Івановіч, Міхаіл Чабатар, Лазар Міхайлавіч, Максім Тальбыш і Ісай Шчэнсны *"адгаворвалі просты народ ад падпарадкавання ўладам, забаранялі даваць магістрату ўстаноўленыя падаткі і зборы, пагражалі магістрату, простых людзей заклікалі не падпарадкавацца ўладам, нападалі на ратушу і ўзламалі браму, ударылі ў набат і заклікалі да выступлення супраць рады ".*

Аднак спроба ўзняць паўстанне ў 1610 г. пацярпела няўдачу. Для падаўлення паўстання былі выкарыстаны войскі. Карнікі жорстка расправіліся з паўстаўшымі. Пяць найбольш актыўных кіраўнікоў паўстання былі абезгалоўлены. Многія яго ўдзельнікі кінуты ў турму з наступным выгнаннем з горада, іх маёмасць канфіскавана. Лёс С. Мітковіча нам невядомы.

Повад для абурэння жыхароў Мазыра даў мясцовы староста, які падпарадкаваў сваёй уладзе частку мяшчан, аб'явіў іх сваімі падданымі і пазбавіў магдэбургскага права. У адказ на гэта ў кастрычніку 1615 г. гарадскі плебс, ці, як гаворыцца ў дакуменце, "людзі свавольныя, люзныя" ўзняліся на паўстанне. Гэта з самага пачатку надало руху востры наступальны характар. Паўстанцы ўтварылі атрад з некалькіх сот чалавек. Узброіўшыся мушкетамі і іншай зброяй, яны напалі на замак, дзе знаходзіліся стараста, замкавая адміністрацыя, шляхта. У час сутычкі былі забіты некалькі чыноў адміністрацыі. Паўстанцы заявілі аб сваёй адмове ад уплаты падаткаў і пабораў у казну, арыштавалі гарадскую вярхушку.

Гнеў паўстанцаў абрушыўся таксама на арандатараў, шляхту, якая жыла ў горадзе. Навакольнай шляхце было забаронена заязджаць у горад пад страхам смяротнай кары. Блакіраваўшы замак, паўстанцы захапілі ў горадзе ўладу, выбралі войта і ўсе належныя казне паборы былі перададзены ў даход горада.

Паўстанне гараджан Мазыра, распачатае як барацьба за захаванне саслоўных гарантый, у хуткім часе разгарнулася ў сацыяльна-

палітычны рух гарадскіх нізоў супраць пануючага класа і гарадской вярхушкі. Вартая ўвагі такая мера, ужытая паўстанцамі, як забарона шляхце з'яўляцца ў горадзе. Гэта адзіны выпадак сярод захаваўшыхся звестак пра барацьбу гараджан, але ён ярка адлюстроўвае ўсю вастрыню сацыяльнага супрацьстаяння ў горадзе.

Як закончылася паўстанне, крыніцы не паведамляюць. З судовага разбору ў вялікакняжацкім судзе можна меркаваць, што яно цягнулася некалькі месяцаў. Суд вымушаны быў пайсці на ўступкі паўстанцам. У 1622 г. ён прыняў рашэнне, паводле якога мяшчане, што знаходзіліся пад уладай замка, атрымалі магдэбургскае права і перадаваліся пад юрысдыкцыю гарадскога самакіравання, у даход горада быў аддадзены шэраг пабораў з гандлю і рамяства.

## Антыуніяцкія хваляванні

Пралікі, дапушчаныя пры распаўсюджванні уніяцтва полацкім архіепіскапам Ясафатам Кунцэвічам, і актывізацыя праваслаўнай апазіцыі прывялі да шэрагу выступленняў на ўсходзе Беларусі, дзе былі больш моцныя пазіцыі праваслаўя, на мяжы 10—20-х гадоў XVII ст. У сваёй зацятасці ўладыка полацкі пераступіў небяспечную мяжу, за якой пачыналася жорсткасць: зачыняў праваслаўныя цэрквы, праследаваў праціўнікаў уніі. Яго дзейнасць да таго распаліла атмасферу на паўночным усходзе Беларусі, што выклікала сур'ёзную трывогу ўлад. З асуджэннем метадаў Кунцэвіча выступіў у 1621 г. канцлер Леў Сапега. *"Каго вы набылі суровасцю, такой строгасцю, запячатваннем цэркваў?* - пытае канцлер у лісце да архіепіскапа. - *Вы згубілі тых, якія ў Полацку былі ў вас у паслушэнстве. З авечак вы іх зрабілі казлішчамі, наклікалі небяспеку на дзяржаву, а можа, і пагібель на ўсіх нас, каталікоў".* Замест карысці, робіць вывад Сапега, унія прынесла *"смутак, клопаты і неўладкаванасць, ... што лепш і карысней адмовіцца ад яе".* На думку канцлера, грубыя метады распаўсюджвання уніі сталі прычынай таго, што палачане ўзбунтаваліся супраць свайго архіепіскапа, што маскавіты не жадаюць мець у сябе на троне польскага каралевіча Уладзіслава, што ў краіне такія вялікія неўладкаванасці. Сапега папярэджваў Кунцэвіча, што яго дзейнасць можа прывесці да *"вялікага абурэння і кровапраліцця ".*

Распальванню антыуніяцкіх настрояў у епархн спрыяла дзейнасць вядомага пісьменніка - палеміста і ўплывовага царкоўнага дзеяча Мялеція Сматрыцкага, які ў 1620 г. быў прызначаны патрыярхам на полацкую епіскапскую кафедру, ужо занятую ў 1618 г. Кунцэвічам. Атрымалася двоеўладдзе. Сматрыцкі абаснаваўся ў Вільні, абвясціў аб адлучэнні Ясафата ад царквы і разаслаў па епархіі граматы, у якіх дыскрэдытаваў свайго канкурэнта.

У 1619 г. архіепіскап - уніят, заручыўшыся граматай Жыгімонта III на падпарадкаванне сабе ўсіх праваслаўных цэркваў Полацкай епархіі, накіраваўся ў Магілёў з цвёрдым намерам увесці там унію. Даведаўшыся аб набліжэнні Кунцэвіча, магілёўцы зачынілі гарадскую браму і, засеўшы на вале, навялі на "душахвата" гарматы, пагражаючы яму смерцю, калі ён задумае пранікнуць у іх горад. Наблізіўшыся да брамы, архіепіскап пачуў пракляцці ў свой адрас, крыкі з патрабаваннем забіць адступніка. *"Калі гэты ўладыка - адшчапенец яшчэ наблізіцца да горада, ...то мы заб'ём яго, паколькі не прызнаём яго сваім пастырам і епіскапам і пра яго ведаць не хочам ",* — заявілі паўстанцы.

Кунцэвіч паскардзіўся на жыхароў Магілёва ў Варшаву. Жыгімонт III расцаніў іх *учынак "як абразу не толькі полацкага ўладыкі, але і нашай каралеўскай улады"* і загадаў *"ініцыятараў і зачыншчыкаў гэтага абурэння і бунту пакараць смерцю".* Каралеўскі суд прыгаварыў 20 гараджан да смяротнай кары, а ўсе праваслаўныя цэрквы і манастыры з іх маёмасцю перадаваліся пад юрысдыкцыю Кунцэвіча. Усіх праваслаўных манахаў і папоў абавязалі падпарадкавацца уніяцкаму архіепіскапу, а мяшчанам забаранілі ўмешвацца ў царкоўныя справы. За кожны выпадак парушэння судовага прыгавору ўстанаўліваўся штраф у памеры 20 тыс. злотых.

У 1621—1623 гг. адбыліся антыуніяцкія выступленні ў развярэджаным Сматрыцкім Віцебску.

Повадам для паўстання з'явіўся арышт па загаду Кунцэвіча праваслаўнага папа Іллі, які ранкам **12 лістапада 1623 г**. праводзіў за горадам тайнае багаслужэнне ў часовым культавым збудаванні - "шопе". (Усе праваслаўныя цэрквы былі закрыты па загаду Кунцэвіча). У 7 гадзін раніцы ў Віцебску ўдарылі званы. З усіх канцоў

горада і з навакольных вёсак натоўпы людзей запоўнілі вуліцы горада. Каля тысячы чалавек з крыкамі *"Смерць драпежніку - душахвату"* рынуліся да рэзідэнцыі Кунцэвіча.

Разламаўшы плот і вароты, уварваліся ў двор. У той час, як адны распраўляліся з уладыкам, іншыя збівалі епіскапскіх слуг, трэція абклалі саломай дом і падпалілі яго. Труп Кунцэвіча кінулі ў Дзвіну. Разграмілі рэзідэнцыю архіепіскапа, *"все повредили вничь обратили",* захапілі каштоўнасці, грошы, зерне, шматлікія дакументы.

Хваляванні ў Віцебску працягваліся да канца лістапада. Захады гарадскіх улад па іх падаўленню былі малаэфектыўныя. *"Тыя свавольники, - даносіў віцебскі магістрат, знову нам самим отповедают, обецуючысе повторе збунтовавшисе, вязнев з турмы поотбитити и нам самим на дамы нашы нашодшы и нас самих позабият. И где ж дей тых бунтовников ест великая громада и мы дей сами собе и врядом своим от так великое сваволи жадною мерою отнятися не можем".*

Народны гнеў зведалі на сабе і прадстаўнікі гарадскіх улад. Паўстанцы да паўсмерці збілі віцебскага лентвойта, *"еще и на уряд грозились".*

Папа Рымскі Урбан VIII адгукнуўся на тыя падзеі суровым лістом да Жыгімонта III: *"Няхай будзе праклятымі той, хто ўтрымае свой меч ад крыві!... Няхай ерась адчуе, што ёй няма літасці".*

Па загаду караля ў Віцебску адбыўся надзвычайны камісарскі суд на чале з Л. Сапегам. Камісары правялі расследаванне і вынеслі жорсткі прыгавор. 120 чалавек былі прыгавораны да пакарання смерцю (100 з іх прыгавораны завочна, бо збеглі, іх лёс нам невядомы), астатнія да іншых мераў пакарання. Маёмасць пакараных была канфіскавана. Горад быў пазбаўлены магдэбургскага права і ўсіх прывілеяў, але праз некалькі гадоў яны былі вернуты Віцебску за перамогу над маскавітамі. Акрамя таго, за прычыненую шкоду жыхары горада павінны былі заплаціць штраф у памеры 3079 талераў. Званы цэркваў і ратушы звон, выкарыстаныя для закліку да паўстання, суд прадпісаў зняць і пераліць у адзін вялікі звон, зрабіўшы на ім памятны надпіс аб падзеях 1623 г.

Ужо праз год пасля забойства Рым абвясціў Ясафата блажэн-

ным, а ў 1867 г. папа Пій IX кананізаваў мучаніка. Мошчы полацкага святога захоўваюцца ў Рыме, у галоўным Храме каталікаў свету - саборы св. Пятра.

Хаця прамых доказаў дачынення М. Сматрыцкага да забойства Кунцэвіча не было, ён палічыў за лепшае схавацца - адбыў у падарожжа на Блізкі Усход, адкуль вярнуўся ўжо прыхільнікам уніяцтва.

У 1632 г. Маскоўская дзяржава пачала вайну з Рэччу Паспалітай за Смаленск і Чарнігаў. Яе асобныя атрады ўступілі ў межы Беларусі і паспрабавалі захапіць Полацк. У чэрвені 1633 г. да горада з поўначы, ад Вялікіх Лук, падышоў адзін з атрадаў. Наступлення на гэтым напрамку кіраўніцтва Вялікага княства Літоўскага не чакала, і горад не быў гатовы да абароны. Ваявода і войт, калі стала вядома аб набліжэнні чужога войска, абавязалі гараджан пабудаваць у Ніжнім Замку вежу, даць лес для яе будаўніцтва, умацаваць гарадскія сцены. Адначасова было загадана, каб усе жыхары Запалоцця перасяліліся ў Верхні Замак.

Аднак велізарны натоўп палачан сабраўся ля ратушы і заявіў аб адмове выканаць гэта распараджэнне. Натоўп узначальвалі Іван і Васіль Харкевічы, Іван Куцок. Спірыдон Бацечка, Васіль Крывуша і іншыя гараджане. Расправіцца з "бунтаўшчыкамі" гарадскія ўлады не паспелі: ноччу з **12 на 13 ліпеня 1633 г.** маскоўскі атрад нечакана захапіў Запалоцце, Ніжні Замак і асадзіў Верхні, але ўзяць яго не змог.

Падыход умацаванняў, высланых каралём, прымусіў маскоўскае камандаванне зняць асаду і адысці на сваю тэрыторыю: разам з імі ў Расію пайшлі і многія жыхары Полацка. 30 жніўня Уладзіслаў IУ паслаў грозную грамату, у якой патрабаваў, каб яны *"ізноў вярнуліся ў горад, у ім адбудоўвалі і болей не разыходзіліся".* За невыкананне гэтых патрабаванняў ён пагражаў канфіскацыяй маёмасці. Аднак перасяленні на непрыяцельскую тэрыторыю працягваліся.

Тады кароль накіраваў палачанам новую грамату, вытрыманую ў зусім іншым духу. Мяшчан ён называў "слаўнымі", "вернымі", "мілымі". *"Дошли до нас вести, - пісаў ён, - что вы по сожжении неприятелем города нашего Полоцка не только не хотите отстраиваться на прежних своих местах, но и самый горад и пограничные крепости покинувши, переходите со всем своим имуще-*

*ством в места, временно находящиеся в руках неприятеля, и там водворяетесь, что нам причиняет немалую заботу. Поэтому напоминаем вам и строго приказываем, чтобы вы не покидали этого города, для нас и Речи Поспалитой столь важного ".*

Тыя жыхары Полацка, што засталіся ў горадзе, працягвалі барацьбу. 12 лістапада 1633 г. на полацкага уніяцкага архіепіскапа Антонія Сяляву двойчы быў зроблены замах. Слугі Сялявы затрымалі трох чалавек - Івана Філіповіча, Хадко Мікуліча і Сцешку Залозіча, якія *"учинили большой шум",* лаялі і абражалі архіепіскапа, спрабавалі фізічна расправіцца і ім і яго чэляддзю, абстралялі іх з агнястрэльнай зброі. Аднак вялікі натоўп жыхароў горада, *"учыніўшы вялікі бунт і окрык",* адбілі затрыманых у аховы і не дазволілі расправіцца з імі.

**У студзені 1633 г.** адбыліся хваляванні ў Магілёве ў сувязі з намерам мясцовага уніяцкага духавенства схаваць царкоўныя каштоўнасці, каб яны не дасталіся маскоўскаму войску, якое набліжалася да горада. Ігумен Гервасій паслаў манахаў-базыльян зняць званы з царквы св. Васіля. Але рамеснікі і гарадская бедната, *"збунтовавшись, з галасом, криком, з бердышами, киими и иншими, до бою належачими бронями",* напалі на манахаў і не далі зняць званы, многіх збілі і ранілі.

За выступленне супраць мясцовага духавенства 85 магіляўчан былі прыцягнуты да суда. У час судовага разбору высветлілася, што гараджане *"неоднократно чинили духовным особам различные обиды ",* што яны *"издавна привыкли устраивать среди посспольства мятежи, восставая против властей".* Удзельнікі выступлення былі прыгавораны да ўплаты штрафа ў памеры 10 тыс. злотых, у тым ліку 5 тыс. ігумену базыльскага манастыра. Аднак абвінавачваемыя адмовіліся выканаць гэтую пастанову.

Хваляванні ў Магілёве ў сувязі з гэтай падзеяй мелі працяг і ў наступныя гады. У час аднаго з судовых пасяджэнняў краўцы Іван Алексяевіч, Міхаіл Харытановіч і Андрэй Хацковіч пры пыдтрымцы 5 тыс. рамеснікаў "с галасом, тумултом немалым" прыйшлі ў ратушу "*и, судить помешав, ... королевскому декрету противились, приговор чинить за декретами... моцно не допустили", паграсалі самім членам магістрата, збілі іх слуг. Іван Аляксяевіч*

*заявіў суддзям, што ігумен " и манеты адной ад нас не атрымае". Адзін з членаў Магілёўскага брацтва выступіў з абуральнай прамовай супраць духавенства: "До коих же пор будем терпеть их,... что их бояться, великий Могилёв очиститься от чернцов".*

Трох названых кіраўнікоў выступлення прыгаварылі да пакарання смерцю за тое, што яны *"узнялі руку на ўладу".* Справа была перададзена ў каралеўскі суд, які павялічыў памер штрафа ў тры разы.

Але гараджане па-ранейшаму катэгарычна адмаўляліся плаціць колькі б там ні было базыльянам. Было прынята рашэнне аб заключэнні непакорных у турму, але ўлады Магілёва ўзялі іх пад сваю абарону.

У наступнае дзесяцігоддзе на Беларусі не было буйных народных выступленняў. Магнаты і шляхта назвалі гэты перыяд дзесяцігоддзем "залатога спакою".

## ЛЕКЦЫЯ 31

## ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НА БЕЛАРУСІ Ў 1648 - 1667 гг.

- *Сацыяльна-палітычная барацьба на Беларусі ў 1648 — 1653 гг.*
- *Беларусь у час вайны паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй.*

### Сацыяльна-палітычная барацьба на Беларусі ў 1648 — 1653 гг.

У першай палове XVII ст. на Беларусі паступова нарастала сацыяльная напружанасць. Незадаволенасць значнай часткі гараджан і сялянства свавольствам "дзяржаўца", цяжкім павіннасным рэжымам, шырокім распаўсюджваннем адкупной сістэмы, шматлікімі інш'ымі паборамі выяўлялася ў гэты перыяд галоўным чынам у розных формах пасіўнага супраціўлення. Да іх адносіліся разнастайныя скарп, якія шырокім патокам падаваліся ў адрас дзяржаўнай адміністрацыі альбо царкоўных улад. Аднак прадпісанні вярхоўнай улады ці, што таксама мела месца, заступніцтва царкоўнай іерархіі, якая асуджала самавольныя паборы феадалаў, мала што мянялі ў становішчы сялян. Эксплуатацыя, якая бесперапынна ўзмацнялася, прымушала многіх сялян шукаць лепшай долі ва ўцёках і перасяленнях.

Яшчэ адным напрамкам сацыяльнай барацьбы з'яўлялася супрацьстаянне бяднейшай часткі мяшчан з гарадскімі вярхамі. Найбольш яскравым прыкладам можна лічыць паўстанне ў Магілёве 1606—1610 гг.

Пераважнай формай пасіўнага супраціўлення феадалам і рэлігійнаму прыціску з'яўляліся ўцёкі. Памеры масавых адыходаў мяшчан і сялян у Рускую дзяржаву, дзе за Волгай адкрываліся бясконцыя неасвоеныя яшчэ землі, прынялі да 1643 г. такі характар, што кароль Уладзіслаў IV быў вымушаны патрабаваць ад адміністрацыі гарадоў і чыноўнікаў прыгранічных з Расіяй абласцей Беларусі тэрміновых мер па прадухіленню ўцёкаў.

1648 год з'явіўся пераломным у развіцці сацыяльна-палітычнай барацьбы. Штуршком паслужыла паўстанне на Украіне, якое выбухнула ў пачатку вясны 1648 г. Вострая нездаволенасць радавога казацтва, сялянства і гараджан Украіны палітыкай польскай Каро-

ны, якая адкрыта падтрымлівала свавольства і гвалт магнатаў і шляхты, каталіцкага кліра, паслужыла асноўнай прычынай успыхнуўшага ў 1648 г. паўстання, што узначаліў Багдан Хмяльніцкі. Нагадаем, што Украіна была вызвалена з-пад панавання Залатой Арды Альгердам і Вітаўтам, далучана да Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Паўночная Украіна разам з усходнебеларускімі землямі ўяўляла сабой рускі складнік ВКЛ. Украінскія стэпы ў час вызвалення былі амаль бязлюднымі, толькі татарскія орды калі-некалі праходзілі па іх. Пасля вызвалення пачалося хуткае асваенне высокаўраджайных зямель, імклівы рост насельніцтва. Перасяленцамі былі перш за ўсё сяляне і шляхта з Галіцыі, частка якой была падпарадкавана Польшчы. Люблінская унія 1569 г. і ўтварэнне Рэчы Паспалітай карэнным шляхам змянілі лёс Украіны: мясцовыя магнаты і шляхта аддзяліліся ад ВКЛ і перайшлі ў польскую частку новай дзяржавы - т. зв. Карону. Кіруючыя колы ВКЛ вонкава дэманстравалі абурэнне, але на самай справе не вельмі пакрыўдзіліся, бо занадта цяжка было бараніць новадалучаныя землі перад экспансіяй Масквы, Крымскага ханства, Турцыі. Ды і цэнтрабежных памкненняў украінскай шляхты і казацкай старшыны было не пазбегнуць, літвінамі яна звацца не намервалася.

Украіну ж гэты гістарычны паварот прывёў да вялікай драмы. Палякі разглядалі яе як калонію, адносіны паміж палякамі-каталікамі і ўкраінцамі-праваслаўнымі пагаршаліся. У рэшце рэшт разгарнулася крывавая ўкраінска-польская вайна. Абраны гетманам казацкага войска, Б. Хмяльніцкі здолеў у кароткі час аб'яднаць пад сваім началам значныя сілы паўстанцаў, якія ў бітвах пад Жоўтымі Водамі і Корсунем (май 1648 г.) нанеслі паражэнні польскім войскам.

Атрыманыя запарожскімі казакамі і ўкраінскімі сялянамі перамогі, а таксама распаўсюджаныя паўстанцамі заклікі да бунту супраць улады вызвалі рост хваляванняў ў паўднёвых раёнах Беларусі. Мясцовыя ўлады былі ўстрывожаны. *У данясеннях каралю паведамлялася, што "не было ніводнай вёскі, ніводнага горада, у якіх бы не раздаваліся заклікі да свавольства і дзе б не замышлялі на жыцце і маёмасць сваіх паноў".*

Летам 1648 г. справа дайшла да стварэння на поўдні Беларусі

ачагоў паўстанцкага руху ў басейнах Прыпяці, Бярэзіны і ў Падняпроўі.

Развіццё падзей на Украіне і поўдні Беларусі выклікала панічны настрой сярод феадалаў, якія меркавалі, што створаныя абставіны зможа выкарыстаць Руская дзяржава і пачне чарговую вайну з Рэччу Паспалітай. Пры гэтым кіруючыя колы Польшчы і Вялікага княства Літоўскага не сумняваліся, што частка сялянства і гараджан акажа рускім войскам падтрымку. У прыгранічных з Расіяй паветах шляхціцы сталі пакідаць свае "маёмасці" і спяшаліся схавацца ў замках буйных магнатаў, у гарадах Барысаве, Віцебску, Мсціслаўі і іншых, дзе тэрмінова рамантаваліся ўмацаванні ў чаканні хуткай аблогі рускіх войск.

Сацыяльны склад удзельнікаў украінскага руху быў разнастайны, што паслужыла прычынай узнікнення ў ім вострых супярэчнасцей. Сяляне і радавыя казакі змагаліся за поўнае знішчэнне нацыянальна-рэлігійнага і феадальнага прыгнёту. Казацкае кіраўніцтва, мясцовая шляхта, частка праваслаўнага духавенства імкнуліся перш за ўсё да нацыянальнага вызвалення, стварэння незалежнай дзяржавы. Вайна прыняла вельмі жорсткія формы. Польскія войскі не бралі казакоў у палон, знішчалі ўкраінскія сёлы і хутары разам з усімі іх насельнікамі. Казакі ж помсцілі тым, што забівалі ўсіх жыхароў гарадоў, якія ім удавалася ўзяць. У гарадах на Украіне знаходзіліся польскія гарнізоны, каланіяльная адміністрацыя, шляхта і каталіцкі клір. Заложнікамі гэтай бязлітаснай бойні стала і яўрэйскае насельніцтва гарадоў - купцы і рамеснікі. Яны гінулі разам з палякамі незалежна ад таго, прымалі ўдзел у абароне горада ці не. Рэкі крыві, пралітай падчас украінска-польскай вайны, надоўга сапсавалі адносіны паміж народамі - ўдзельнікамі гэтай вайны.

Зазначым, што пераможцаў у гэтай вайне не было. Пасля некалькіх перамог украінцаў перавагу атрымалі палякі. Б. Хмяльніцкі шукаў дапамогі ў суседзяў - татараў, малдаван. Калі ж і гэта не дапамагло, ён перадаў уладу над Украінай рускаму цару. Украіна так і не атрымала незалежнасці, больш таго, па выніках вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, яна была падзелена і ў такім стане заставалася аж да 1939 г.

Украіна была аддзелена ад ВКЛ адміністрацыйнай мяжой, якая, аднак, не магла ўстрымаць пажар вайны. Казацкія атрады — "загоны" з сярэдзіны 1648 г. рабілі рэгулярныя рэйды на поўдзень Беларусі. Можна вылучыць прынамсі дзве мэты гэтых рэйдаў. Па-першае, пашырыць як можна больш паўстанні і бунты супраць улад Рэчы Паспалітай, як можна больш аслабіць дзяржаву, каб дапамагчы войскам Б. Хмяльніцкага ў барацьбе з ёй. Па-другое, пашырыць уплывы казацкай старшыны на тэрыторыі ВКЛ, далучыць частку гэтых тэрыторый да Украіны. Падставай для такіх планаў і мэтаў быў шэраг фактараў і аргументаў.

Акружэнне Б. Хмяльніцкага ўлічвала таксама і наяўнасць супярэчнасцей у грамадстве ВКЛ, можа, нават, некалькі перабольшвала ў ацэнках гэтых супярэчнасцей. У кожным разе антыпрыгонніцкія настроі беларускіх сялян былі добра вядомы на Украіне ад тых жа ўцекачоў у Запарожскую Сеч, казакоў - «русінаў і літвінаў» па паходжанню.

Сацыяльная барацьба нарастала ў гарадскім асяроддзі ВКЛ. Заможныя гараджане, купцы, рамеснікі былі зацікаўлены ў абмежаванні самаўпраўства магнатаў. Яны ўсё менш спадзяваліся на абарону сваіх інтарэсаў каралеўскай і вялікакняжацкай уладай. Частка гараджан гатова была шукаць іншых заступнікаў для сябе.

Моцным імпульсам да народнага руху ў Беларусі ў сярэдзіне XVII ст. з'явілася вострая нездаволенасць насельніцтва ўзмацненнем каталіцкай экспансіі, якую праводзілі польскі епіскапат і каралеўская ўлада Рэчы Паспалітай.

Праўда, перыядычна на працягу XV—XVI стст. дзяржаўная ўлада некалькі разоў спрабавала ўраўноўваць у правах католікаў і праваслаўных. Гэта рабілася з мэтай паслабіць антыкаталіцкі і антыпольскі рух на ўсходнеславянскіх землях і не выклікаць вострага этнаканфесійнага антаганізму ў дзяржаве. У 1443, 1457, 1563 гг. каралі падпісвалі граматы аб параўнанні ў правах праваслаўнай шляхты з шляхцічамі-католікамі. Аднак на самай справе пасля Люблінскай дзяржаўнай уніі 1569 і уніі цэркваў на Берасцейскім саборы 1596 г. канфесійная сітуацыя ў дзяржаве адназначна змянілася на карысць каталіцтва і ўзмацнення паланізуючага фактару. Адначасова назіралася канфрантацыя паміж прыхільнікамі розных

канфесій, і гэта спяшаліся выкарыстаць кіраўнікі паўстання на Украіне.

Многія гісторыкі, якія займаліся даследаваннямі сацыяльных выступленняў у сярэдзіне XVII ст, адзначалі наяўнасць у складзе казацкіх сіл вялікай колькасці выхадцаў з Беларусі. Шэраг казацкіх палкоўнікаў былі па паходжанню літвінамі, вялікі быў працэнт іх і ў асяроддзі накіраваных на Беларусь "загонаў". У 1648—1649 гг. у складзе Запарожскай Сечы адзначаліся Менскі, Мазырскі курэні, існавалі Брагінскі, Рэчыцкі, Тураўскі казацкія палкі.

Першым атрадам, які прыбыў з Украіны на Беларусь, быў "загон" пад кіраўніцтвам Галавацкага. Казакі разам з далучыўшыміся да іх сялянамі ў сярэдзіне ліпеня 1648 г. рабавалі шляхецкія маёнткі, у раёне Брагіна, Лоева, Гомеля. Жыхары гэтых гарадоў адчынілі казакам брамы. Пры ўзяцці Гомеля, як сведчаць крыніцы, было перабіта каля 600 шляхцічаў. У чэрвені 1648 г. на Беларусь прыбылі таксама атрады Нябабы, Крывашапкі, Гаркушы, Мікуліцкага, Няпаліча і Хвеські. Гэта выклікала далейшы рост узброеных выступленняў і бунтаў супраць улад з боку праваслаўнага насельніцтва ВКЛ.

Паўстанцы грамілі маёнткі шляхты і магнатаў, захоплівалі маёмасць касцёлаў і уніяцкай царквы, знішчалі дакументы, праганялі вялікакняжацкіх чыноўнікаў. У канцы лета - пачатку восені паўстаўшыя авалодалі Рэчыцай, уступілі ў Кобрын і Бярэсце. Тэрыторыя ўсяго Пінскага павета была пад кантролем казакоў і паўстаўшых сялян. Трэба зазначыць, што ў ВКЛ не было, як на Украіне, польскіх гарнізонаў і польскай адміністрацыі. Узброеная барацьба тут разгарнулася ўнутры аднаго грамадства і таму мела рысы грамадзянскай вайны. Самы звычайны сацыяльны бунт нізоў супраць уладароў і ўвогуле багатых суайчыннікаў цесна пераплятаўся з ваяўнічым супрацьстаяннем прыхільнікаў і праціўнікаў прапольскай арыентацыі і памнажаўся на міжканфесійную варожасць.

Адміністрацыя і буйныя феадалы Вялікага княства Літоўскага ўзяліся за арганізацыю адпору. Канцлер Вялікага княства Літоўскага Я. Радзівіл усклаў на сябе абавязкі польнага гетмана і абвясціў паспалітае рушэнне. Аднак ахопленая панікай шляхта палічыла за лепшае схавацца за моцнымі ўмацаваннямі Пінска і Слуцка. У

выніку паспалітае рушэнне так і не змагло сабрацца. Ускладняла барацьбу з народнымі выступленнямі тая хуткасць, з якой узнікалі новыя раёны паўстання, якое ахапіла значныя тэрыторыі паўднёвай і цэнтральнай Беларусі. Пад кантролем вялікакняжацкіх сіл заставалася Слуцкая крэпасць, якая прыкрывала шлях на Менск, Навагародак і Вільню. Пры гэтым слуцкі камендант даносіў, што без падмацавання горад утрымаць не зможа, таму што ў ім рыхтуецца змова.

Паўстаўшых сялян Слуцкага і Мазырскага паветаў узначаліў паплечнік Хмяльніцкага Я. Сакалоўскі, мясцовы ўраджэнец. Аднак гетман паспеў кінуць да Слуцка падмацаванні і ў выніку ўтрымаць у сваіх руках горад. Пэўныя поспехі паўстаўшых былі адзначаны ўзяццем Бабруйска пры актыўнай дапамозе гараджан. Мясцовы стараста быў утоплены ў Бярэзіне. Касцёлы ў горадзе былі разгромлены.

Дробная праваслаўная шляхта, праваслаўны клір, багатыя купцы, вярхушка рамесных цэхаў прытрымліваліся чакальнай тактыкі, абмяжоўваючы пратэст супраць змяншэння сваіх правоў хадайніцтвамі паслоў на прадмет аднаўлення былых свабод і прывілей. Аднак нярэдкімі былі выпадкі далучэння гэтых слаёў да паўстаўшых, якія асабліва сталі частымі пасля паспяховых дзеянняў казакоў пад Рэчыцай і Бабруйскам летам 1648 г.

Да восені значная частка Беларусі была ахоплена баявымі дзеяннямі. Адной мэты Б. Хмяльніцкі дамогся. Шырокі размах барацьбы на Беларусі прыкрываў флангі ўкраінскага казачага войска, якое ў верасні 1648 г. у бітвах пад Піляўцамі атрымала новую перамогу над арміяй Кароны.

Казацкаму паўстанню спрыяла ўнутрыпалітычная абстаноўка ў Рэчы Паспалітай. У краіне разгарнулася барацьба магнацкіх груповак у сувязі з выбарамі новага караля замест памёршага Уладзіслава IV. Выяўлялася нерашучасць, якая ахапіла шляхту, магнатаў і каталіцкі клір у сувязі з палаючымі ў агні паўстанняў Беларуссю і Украінай. Вялікімі былі страты, якія яны панеслі ў бітвах з казацтвам.

У верасні 1648 г. адбылася надзвычайная нарада членаў Галоўнага літоўскага трыбунала і іншых прадстаўнікоў вышэйшай феа-

дальнай знаці, на якой было прынята рашэнне аб хуткім фарміраванні буйнога воінскага кантынгенту і аб надзяленні ўсімі магчымымі паўнамоцтвамі ў падаўленні паўстання польнага гетмана Я. Радзівіла.

Аднак хутка прыступіць да рэалізацыі намечаных дзеянняў гетман не мог. Гэтаму перашкаджаў шэраг абставін. Шляхта, ахопленая страхам, неахвотна пакідала ўмацаваныя гарады і замкі магнатаў. Другая яе частка ўцякла за межы Літвы і Польшчы. Баяздольнасць шляхты была невысокай. Традыцыі дваранскіх апалчэнняў XVI ст. паступова страчвалі сваё значэнне. Рэч Паспалітая даўно ваявала ўжо сіламі чужаземных наёмнікаў. Але для збору наёмнага войска былі патрэбны і грошы, і час.

Фінансавыя цяжкасці, магнатам удалося пераадолець у кароткі тэрмін. Я. Радзівіл змог субсідзіраваць вярбоўку нямецкіх, венгерскіх, шведскіх коннікаў і пяхоты. Моцную матэрыяльную падтрымку аказвала каталіцкая царква. З амвону касцёлаў ксяндзы разгарнулі актыўную прапагандысцкую кампанію, накіраваную супраць бунтаўшчыкоў.

Падаўленне паўстанняў пачалося з тэрыторыі Берасцейскага і Пінскага паветаў. Аднак актыўнасць казацка-сялянскіх атрадаў аказалася вышэй намаганняў берасцейскай і пінскай шляхты. У верасні 1648 г. атрады пад кіраўніцтвам Гаркушы і Падбайла, падтрыманыя мясцовым насельніцтвам, нанеслі паражэнне шляхцічам пад Кобрынам і Давыд - Гарадком. У пачатку кастрычніка казакі на чале з Крывашапкай пераправіліся праз Сож і раптоўным ударам захапілі Чэрыкаў. У выніку апалчэнні шляхты пад кіраўніцтвам магнатаў Мірскага, Паца, Валевіча і Лукомскага былі разбіты.

Паўстанне стала паступова набліжацца да Навагародка. Яно пагражала зліцца ў адзін моцны ачаг, у які ўвайшла бы ўся паўднёвая. цэнтральная і паўднёва-заходняя Беларусь.

У сярэдзіне кастрычніка паўстанне пачалося ў Пінску. Гарадскія дакументы паведамляюць, што бунт падняў *"простпы люд Пінска, зрабіў умову з казакамі".* Узначаліў яго рамеснік І. Шашэня. Шляхта і ксяндзы паспелі напярэдадні пакінуць горад. Запалалі шляхецкія дамы, пачаўся пагром манастырскіх памяшканняў. Гараджане знішчалі граматы і прывілеі, даўгавыя распіскі і іншыя дакументы,

якія захоўваліся ў касцёлах і будынках магістрата. Тыгх шляхцічаў і ксяндзоў, асабліва езуітаў, якія не паспелі схавацца, паўстанцы перабілі. У хуткім часе ў горад увайшлі казакі на чале з М. Нябабай.

У кастрычніку хваляванні сярод сялян сталі праяўляцца і на тэрыторыі паўднёва-ўсходніх ваяводстваў Польшчы, вакол Кракава і Любліна. Расла пагроза ахопу паўстаннем Бельскага павета. У Вільню паступіла паведамленне, што паўстаўшыя "к Бельску набліжаюцца лясамі і ўсе сяляне з імі, і брэсцкія сяляне панасаджвалі сабе косы".

Усё гэта прымусіла Я. Радзівіла паспяшацца з пасылкай у раёны Пінска і Бярэсця атрада наёмнага войска сотніка Мірскага. Даведаўшыся аб набліжэнні да горада карнага атрада, жыхары Пінска разам з казакамі, як сведчаць крыніцы, пакляліся да апошняга абараняцца. Насельніцтва рабіла завалы на вуліцах, паглыбляла равы і ўзмацняла гарадскія сцены. Рамеснікі са свінцовых рам езуіцкага манастыра і будынкаў калегіі адлівалі кулі.

Пад сценамі горада кавалерыя Мірскага аб'ядналася з шляхцічамі, якія ўцяклі з Пінска. Пінскі войт А. Ельскі паспяшаўся расправіцца з паўстанцамі, не дачакаўшыся падыходу ўсіх высланых войск. Раніцай 26 кастрычніка конныя атрады шляхцічаў уварваліся ў горад. Не сустрэўшы супраціўлення на ўскраінах Пінска, кавалерысты спыніліся толькі ў раёне рынку і будынкаў езуіцкай калегіі, бо мост, які вёў на ратушную плошчу, аказаўся разабраным. Вузкія вуліцы аказаліся запоўненымі коннай шляхтай і наёмнікамі. Засеўшы ў будынку езуіцкага касцёла і паблізу бліжэйшых дамах, гараджане адкрылі моцны ружэйны агонь. Наёмнікі ў паніцы пабеглі. Аднак вуліцы, якія вялі з горада, ўжо былі загароджаны перавернутымі вязамі і грудамі каменняў. У жорсткай бойцы ля гарадскіх сцен пінчане завяршылі разгром рэгулярных войск і шляхты. Адзін са сведкаў гэтых падзей, манах-дамініканец, паведамляў, што *"жыхары Пінска з жонкамі і дзяцьмі...хутка беглі...-забраўшы каменні з бань і дровы з дамоў, сваіх (г.з. шляхцічаў) білі як маглі, хто з ружжа, хто косамі, хто палкамі, іншыя кідалі каменні, дровы і чым хто мог".*

Рэшткі шляхты на чале з войтам Ельскім, якія здолелі ўцалець, у навакольных сёлах чакалі падмацавання. Яны прыгразілі жыха-

рам Пінска самай суровай расправай, але гараджане наадрэз адмовіліся здацца шляхце і падаспеўшым рэгулярным войскам. Пачаўся артылерыйскі абстрэл горада. У хуткім часе ў сценах утварыліся праломы, вуліцы Пінска ператварыліся ў ачагі абароны. Нападаўшым прыходзілася штурмам браць амаль кожны дом. Мірскі загадаў запаліць горад. Аднак гараджане працягвалі страляць з ахопленых агнём дамоў. Пакінуць Пінск змагла толькі невялікая група паўстанцаў. Баі завяршыліся толькі на наступны дзень. Шляхта жорстка адпомсціла жыхарам горада, у якім загінула больш трох тысяч чалавек.

Увосень 1648 г. паўстанні на Беларусі працягваліся. Асобныя атрады паўстанцаў вялі баявыя дзеянні каля Навагародка і Менска, ў руках казакоў апынуліся Тураў, Мазыр, Лоеў, Рэчыца, Гомель, Чачэрск, Кобрын, Бярэсце. Неаднаразова абвяшчалі аб сабе паўстаўшыя ў ваколіцах Слуцка, Барысава. Характарызуючы абставіны ў цэнтральнай частцы Беларусі ў пачатку 1649 г., адзін з падданых цара, які праязджаў па гэтых раёнах, паведамляў маскоўскім уладам, што *"повстанцы польских и литовских людей на боех и в загонах побили многия тысячы "*.

У студзені 1649 г. пад Бярэсцем аб'ядналіся войскі Я. Радзівіла і прысланыя з цэнтральнай Польшчы наёмныя атрады агульнай колькасцю больш за дзесяць тысяч чалавек. Гетман разлічваў ударыць па цэнтрах паўстання ў напрамку Тураў-Петрыкаў-Мазыр, каб спыніць тым самым умяшальніцтва ўкраінскіх казакоў ва ўнутраныя справы ВКЛ. Войска Радзівіла падышло да Турава. Горад быў узяты і спалены. Наступным горадам быў Мазыр. Да яго таксама спяшаліся казакі на чале з Міхненкам. 9-га студзеня наёмнікі і шляхцічы кінуліся на штурм Мазыра, аднак са стратамі, адступілі. Абарону горада ўзначаліў мясцовы майстар-сядляр, яму дапамагаў Міхненка. Войска гетмана 16 разоў штурмавала горад, але кожны раз адступала. Толькі працяглы артылерыйскі абстрэл і падрыў гарадской сцяны дазволілі войскам уварвацца ў Мазыр. Езуіт Каяловіч пісаў, успамінаючы гэтыя падзеі, што *"паўстанцы зачыніліся ў дамах і паміралі ў жорсткім баю".* Апошняя група абаронцаў была адцеснена да берага Прыпяці і загінула ў ледзяных палонках, змагаючыся да апошняга. Паранены Міхненка быў узяты ў палон і

па загаду Радзівіла забіты. Казакі і іншыя ўдзельнікі абароны былі пакараны.

Атрад шляхцічаў пад камандаваннем Валовіча быў пасланы гетманам да Бабруйска. Гараджане сумесна з казакамі атрада Паддубскага некалькі разоў адбівалі атакі шляхты. Узяць горад з налёту не ўдалося. Да Бабруйска падышлі асноўныя сілы арміі Радзівіла. Каля тыдня яна стаяла пад сценамі горада, баючыся рашучага супраціўлення яго жыхароў і казакоў. У самім Бабруйску частка гарадской вярхушкі схілілася да думкі здацца на літасць гетмана. Лазутчыкі гетмана, пранікнуўшы ў горад, дамовіліся з купцамі аб капітуляцыі.

У ноч на 12 лютага 1649 г. наёмнікі і шляхцічы падышлі да гарадской брамы, якая загадзя была адчынена змоўшчыкамі. Войска ўварвалася на вуліцы Бабруйска, паўстанцы на чале з Паддубскім пасля кароткага супраціўлення былі перабіты.

Да канца лютага 1649 г. войскі Радзівіла размяшчаліся ў паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі. Разгарнулася шырокая кампанія расправў над мясцовым насельніцтвам. Бранскі ваявода даносіў у Маскву, што *"около Орши и Менска, и Новогрудка, и Слонима, и Брести Литовской на полях многия люди, а иные на колье четвертованные и что...мещане и пашенные люди в конечном разорени".*

Да вясны 1649 г. асноўныя ачагі паўстання на Беларусі былі падаўлены. Аднак Б. Хмяльніцкі зноў накіраваў ў межы ВКЛ новыя атрады пад камандаваннем І. Галоты, якія рушылі ў напрамку Гомеля і Рэчыцы. З новай сілай на Беларусі разгарэліся баявыя дзеянні. Паўсюду казакі і далучаўшыяся да іх сяляне грамілі шляхецкія маёнткі і фальваркі. Невядомы шляхціч з горыччу прызнаваў, што *"чэрнь да таго разлютавалася, што вырашала альбо забіць усіх шляхцічаў, альбо загінуць".*

Новы ўздым барацьбы на Беларусі не дазволіў перавесці ўсе войскі Рэчы Паспалітай на Украіну. Кароль Ян Казімір патрабаваў ад польнага гетмана пачаць ваенныя дзеянні ў Паўночнай Украіне. Я. Радзівіл, якому была лепш вядома сур'ёзнасць становішча на Беларусі, пераконваў караля ў неабходнасці стрымаць націск казакоў і сялян у ВКЛ.

У чэрвені 1649 г. ішлі ўпартыя баі казакоў І. Галоты з атрадамі

шляхты ў раёнах Рэчыцы і Хойнікаў. У адной з сутычак быў забіты І. Галота. Застаўшыся без свайго важака, частка казакоў перапраўілася праз Прыпяць і схавалася на Украіне. Яшчэ праз некалькі месяцаў ішлі баі ў раёнах Мазыр — Рэчыца — Чачэрск.

Б. Хмяльніцкі паспешна выслаў на Беларусь 6 тыс. казакоў пад камандаваннем Гаркушы і Падабайлы. Асноўнай задачай казакоў была кантраляваць броды праз Днепр ля Лоева, якія з'яўляліся своеасаблівымі брамамі на Украіну і лічыліся важнымі ў стратэгічных адносінах.

Атрады казакоў сталі лагерам супраць Лоева, паміж Дняпром і Сожам, умацоўвалі валы на берагах рэк, уладкоўвалі засекі, каб перашкаджаць шляхце перапраўляцца праз водныя шляхі. Войска Я. Радзівіла стаяла пад Рэчыцай лагерам, яно адчувала вострую патрэбу ў харчах і фуражы.

Па загаду караля, гетман рыхтаваўся да пераправы праз Днепр і Сож. Пасля данясенняў разведкі аб невялікай колькасці казакоў ля пераправы Я. Радзівіл аддаў загад аб руху ў бок Лоева. Аднак разбіць з налёту казакоў шляхце не ўдалося.

Б. Хмяльніцкі з трывогай сачыў за развіццём падзей пад Лоевам. На дапамогу "загонам" Гаркушы і Падабайлы ён накіраваў вялікі атрад казакоў пад кіраўніцтвам брата загінуўшага Іллі Галоты Рыгора. Адначасова ўздоўж Прыпяці да Лоева спяшаліся казакі на чале з блізкім паплечнікам Хмяльніцкага палкоўнікам М. Крычэўскім, па паходжанню шляхціч з-пад Бярэсця. Агульная колькасць казакоў узрасла да 17 тыс. чалавек. Да таго ж па шляху следавання да казакоў далучылася больш за 10 тыс. сялян і гараджан. Такім чынам, агульная колькасць войска пад кіраўніцтвам М. Крычэўскага склала каля 30 тыс. чалавек.

Я. Радзівіл рассылаў лазутчыкаў з мэтай збору звестак аб набліжэнні казакоў. Але вось што яму даводзілася паведамляць каралю: *"Из-за коварной и ядовитой крестьянской злобы никаких ...сведений получить нельзя: хоть жги их, но ни шпионов, ни осведомителей добыть не можем".*

Раніцай 21 ліпеня атрады Крычэўскага нанеслі ўдар па войсках Радзівіла. Бой спыніўся з наступленнем цемры. Казакі тайна пакінулі лагер, суправаджаючы параненага напярэдадні Крычэўскага.

Раніцай кавалерыі гетмана ўдалося дагнаць казакоў і частку іх захапіць у палон разам з іх палкоўнікам. Паважаючы талент апошняга, Радзівіл паабяцаў Крычэўскаму высокі ваенны чын на каралеўскай службе і "маемасці" за весткі аб планах Б. Хмяльніцкага. Як паказваў сведка, паранены казак адмовіўся ад гэтай прапановы і ўдарам аб кола падводы разбіў сабе галаву.

Бітва пад Лоевам была буйнейшай у ходзе баявых дзеянняў на Беларусі ў 1648—1649 гг. Пасля гэтай бітвы казакі перайшлі да барацьбы метадамі партызанскай вайны, тым самым затрымлівалі войскі ВКЛ ля Чачэрска і Гомеля.

У жніўні 1649 г. у г. Збораве паміж казацкай арміяй пад камандаваннем Б. Хмяльніцкага і войскам Рэчы Паспалітай было падпісана перамір'е, умовы якога ў большай ступені задавальнялі толькі ўкраінскую шляхту, праваслаўную іерархію і багатых казакоў. Умовы перамір'я прадугледжвалі вяртанне ва Украіну ўсіх казацкіх атрадаў з тэрыторыі Беларусі, таксама як і забарону дзейнасці эмісараў Б. Хмяльніцкага. Гэта не магло не сказацца на развіцці падзей на Беларусі. Пэўнае згортванне паўстанцкага руху наступіла пасля абвяшчэння дэкларацыі караля Яна Казіміра. У ёй каралеўская ўлада абяцала амністыю паўстанцам, аднаўленне прывілеяў беларускай шляхце, праваслаўнаму духавенству, гарантавала аднаўленне дзейнасці брацтваў, справядлівы суд у спрэчках гараджан і сялян з шляхтай і магнатамі. Усё гэта паспрыяла прымірэнню на Беларусі.

Аднак Збораўскі дагавор не мог задаволіць ні правячыя колы Рэчы Паспалітай, ні ўкраінскае казацтва.

Адносна спакойная другая палова 1649 г. і ўвесь 1650 год былі па сутнасці перыядам падрыхтоўкі абодвух бакоў на працягу вайны. Выконваючы ўмовы дагавора, Б. Хмяльніцкі спыніў дзейнасць казацкіх "загонаў" на тэрыторыі Беларусі. Зацішша іграла на руку Я. Радзівілу, які змог на працягу 1650 і зімы 1651 г. закончыць фарміраванне буйнога наёмнага войска і шляхецкага апалчэння ў лагеры пад Бабруйскам. Па задумках урада, армія гетмана павінна была выступіць у напрамку Кіева для нанясення ўдару ў тыл казацкаму войску.

На працягу 1650—1651 гг. становішча на Беларусі было вельмі

складаным. Знішчэнне многіх шляхецкіх і сялянскіх гаспадарак, заняпад гандлёва-рамесніцкай дзейнасці ў беларускіх гарадах дапоўніўся неўраджаем 1649 г. Зімой 1650 г. на поўдні Беларусі панаваў голад.

На думку шэрагу гісторыкаў, ў настроях народных мас Украіны і Беларусі ў 1649—1650 гг. пашыраліся настроі на карысць Расіі. Ва ўмовах няпэўнага становішча пасля Збораўскага кампрамісу Расія выглядала адносна спакойнай дзяржавай, да таго ж блізкай па праваслаўнай веры і мове. Ваяводы памежных тэрыторый, царскія дыпламаты і шпіёны сваімі данясеннямі аказвалі ўплыў на дзеянні маскоўскага ўрада. У шэрагу данясенняў у 1650 г. паведамлялася, што *"казаки белорусцы, черные люди во всех городах...хотят тово, чтобы им всем быть под твоею царскую высокую руку"* і што *"розбегшися розно за рубеж в землю его царского величества утекают и там в земли хоронятца ".*

Урад цара Аляксея Міхайлавіча імкнуўся дамагчыся рэваншу за інтэрвенцыю Рэчы Паспалітай на пачатку XVII ст., што ў рускай гісторыі атрымала назву "Смутнага часу"; адваяваць Смаленск і іншыя спрэчныя памежныя землі. Аднак сваю палітыку ён будаваў дастаткова асцярожна. Адкрытае ўмяшанне магло стаць пачаткам вайны з Рэччу Паспалітай, да якой Расія не была гатова. У 1650 г. цар загадаў ваяводам размяшчаць перабежчыкаў-сялян на свабодных землях і аказваць ім магчымую дапамогу. Што датычыцца шляхцічаў, якія былі не супраць пажыць у Расіі, каб перачакаць ваеннае ліхалецце, то было загадана такіх адсылаць назад. Выключэнне рабілася толькі для праваслаўнай шляхты, якая прымала рускае падданства. Аднак іх не залічвалі на рускую службу і не забяспечвалі "падзенным кормам".

У красавіку 1651 г. армія Я. Радзівіла была гатова да новых ваенных дзеянняў. У мэтах папярэджання наступлення гэтага войска на Чарнігаўскае і Кіеўскае ваяводствы, Б. Хмяльніцкі накіраваў у межы ВКЛ казацкія атрады пад началам М. Нябабы і свайго сына Юрыя. Зноў казацкія атрады рассыпаліся па аколіцах, зноў яны правакавалі бунты праваслаўнага насельніцтва, распальвалі тут грамадзянскую вайну. Казакі разбілі ар'ергардныя часці войска Я. Рад-

зівіла і штурмам авалодалі Крычавам, пагражалі Гомелю. Я. Радзівіл спешна выступіў да Лоеўскіх пераправаў, каб адсекчы магчымае адступленне казакоў ва Украіну. 27 чэрвеня адбылася другая бітва за "украінскія брамы". Лепш падрыхтаваная армія польнага гетмана атрымала перамогу пад Лоевам. У баі М. Нябаба быў забіты. Рэшткі казацкага войска адышлі да Чарнігава. Цяпер ужо войскі ВКЛ перайшлі мяжу з Украінай. Першы раз у гісторыі Рэчы Паспалітай літоўская шляхта ўмяшалася ў ваенна-палітычны канфлікт на тэрыторыі Кароны. Гэтае ўмяшанне было вымушаным, справакаваным агрэсіяй супраць ВКЛ.

Я. Радзівіл рашучымі дзеяннямі разбіў казацкія атрады на поўначы Украіны і летам 1651 г. захапіў яе сталіцу - Кіеў. А Б. Хмяльніцкі тым часам у трохдзённай крывавай бітве (28—30 чэрвеня) пацярпеў паражэнне ад польскіх войск пад Берастэчкам. 18 верасня 1651 г. казацкае кіраўніцтва было вымушана падпісаць Белацаркоўскі мірны дагавор, значна горшы для яго, чым папярэдні. Тэрыторыя аўтаномнай Украіны была зменшана толькі да памераў Кіеўскага ваяводства.

Вынікі гэтай вайны для Беларусі былі вельмі смутныя. Загінула шмат людзей, вынішчана тэрыторыя цэлых паветаў і старостваў. Міжканфесійныя супярэчнасці абвастрыліся да смяротнай варожасці. Грамадства панесла велізарныя страты.

## Беларусь у час вайны паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй

Казацкае кіраўніцтва Украіны не пагадзілася з умовамі міру. Б.Хмяльніцкі бесперапынна вёў перамовы з сумежнмі дзяржавамі, каб атрымаць дапамогу супраць Рэчы Паспалітай. Яго саюзнікам быў крымскі хан Дэвлет Гірэй. Гетман спрабаваў уцягнуць у вайну з Рэччу Паспалітай Турцыю, Швецыю, Малдавію, але ў іх былі свае планы. Паступова знешнепалітычная арыентацыя казацкага кіраўніцтва ўсё больш скіроўвалася ў бок Масквы.

Перамовы, якія ставілі мэтай удзел Расіі ў барацьбе на баку Хмяльніцкага з Рэччу Паспалітай, вяліся з 1649 г. У перапісцы казацкага гетмана з царскім урадам падкрэслівалася, што не толькі казакі, але і насельніцтва Беларусі будзе аказваць рускай арміі падтрымку ў ходзе ваенных дзеянняў. Аднак на працягу 1649—1651 гг.

урад цара Аляксея Міхайлавіча хоць і заяўляў аб гатоўнасці аказаць дапамогу ўкраінскім Казакам, але не мог рашыцца на адкрытае ваеннае ўмяшанне ва Украіне і ВКЛ.

Аднаўленне ваенных дзеянняў у 1653 г. і настойлівыя просьбы ўкраінскага гетмана аб дапамозе падштурхнулі маскоўскія ўлады да падрыхтоўкі вайны з Рэччу Паспалітай. Пытанне аб вайне было фактычна вырашана царскім урадам ужо ў лютым-сакавіку 1653 г. Улетку гэтага года з боку Расіі паступіла прапанова спыніць ва Украіне і Беларусі ваенныя дзеянні і аднавіць Збораўскае перамір'е. Аднак сойм Рэчы Паспалітай пакінуў яго без увагі.

Урад Расіі вырашыў выкарыстаць зручны момант для атрымання перавагі ва Усходняй Еўропе. 1 кастрычніка 1653 г. у Маскве рашэннем Земскага сабора былі абвешчаны вайна Рэчы Паспалітай і прыняцце *"гетмана Богдана Хмельницкого и все войско Запорожского с городами их и с землями под государскую высокую руку".*

Не менш важным урад цара лічыў рашэнне даўнейшага "балтыйскага пытання", г. зн. захоп партовых гарадоў на ўсходнім пабярэжжы Балтыйскага мора. Акрамя таго, уключэнне ў свой склад Украіны дазваляла б Расіі з дапамогай казакоў вырашыць праблему агрэсіўнага Крымскага ханства, якое сваімі штогоднімі набегамі непакоіла Расію на працягу некалькіх стагоддзяў. Іншымі словамі, тэрытарыяльныя набыткі, у тым ліку на Беларусі, адыгрывалі галоўную ролю ў рашэнні Расіі аб'явіць вайну Рэчы Паспалітай.

У рашэнні Земскага сабора прычынай вайны называліся ганенні на праваслаўных веруючых і здзекі над святынямі праваслаўя. Аднак найбольш важкім аргументам Рэчы Паспалітай было разуменне Масквой растучай унутранай слабасці. Амаль што шасцігадовая вайна казакоў і бунты сялян былі доказам нетрываласці асноў шляхецкай рэспублікі, тэндэнцыяй яе эканамічнага, палітычнага і ваеннага аслаблення. Гатоўнасць казацкіх сіл аказаць Расіі дзейсную дапамогу ў выпадку вайны з Польшчай у значнай ступені паніжала магчымую рызыку.

Урад цара разлічваў і на падтрымку на Беларусі. Вясной 1653 г. паслы ад Сечы ў Маскве запэўнівалі, што *"гетман пошлет свои листы в Оршу, Могилев и иные города, к белорусским людям, кото-*

*рые живут за Литвой. И де белорусские люди тотчас учнут с ляхи битца, а будет их до 200 тысяч".*

Аб тым, што Расія рыхтуецца да вайны, добра разумелі і ў Рэчы Паспалітай. Каралеўскія універсалы прадпісвалі мясцовай адміністрацыі ўмацоўваць прыгранічныя гарады і замкі, павялічваць тутэйшыя гарнізоны. Быў абвешчаны спешны збор шляхецкага апалчэння на тэрыторыі Аршанскага павета.

Стратэгічныя планы рускага камандавання прадугледжвалі канцэнтраванне на лініі граніцы сіл агульнай колькасцю каля 75—80 тыс. чалавек, зведзеных у тры арміі. Асноўныя сілы (больш за 40 тыс. чалавек) пад началам ваявод князя Я. Чаркаскага, князя Н. Адоеўскага і князя М. Цемкін-Растоўскага павінны былі захапіць Смаленск і далей наступаць на Барысаў Паўночнае крыло рускіх войск пад камандаваннем ваяводы Б. Шарамецева мела мэтай заняць Невель, Полацк і Віцебск. Нарэшце, паўднёва-заходняя група ваяводы князя А. Трубяцкога павінна была дзейнічаць па лініі Мсціслаў-Барысаў. Казацкі гетман выдзеліў 20-тысячны атрад пад началам І.Залатарэнкі, які быў павінен дзейнічаць у паўднёва-заходніх паветах Беларусі. Агульная задума рускага камандавання заключалася ў заняцці важных стратэгічных пунктаў на шляху да Вільні і магчымай абароне ад непрадбачаных дзеянняў з боку Швецыі, якая магла выступіць з Лівоніі.

У планах рускага камандавання, задумах Б. Хмяльніцкага, а таксама з боку польска-літоўскага камандавання Беларусь лічылася важным тэатрам ваенных дзеянняў. У раёне Оршы спешна фарміраваўся больш як 20 тыс. корпус наёмнікаў і каля 10 тыс. апалчэння мясцовай шляхты. Я. Радзівіл прыняў булаву віленскага ваяводы, а польным гетманам быў прызначаны В. Гансеўскі.

У ліпені 1654 г. руская армія ўступіла на тэрыторыю Беларусі, у хуткім часе заняла ўсё Полацкае ваяводства і Віцебскі павет. Падрыхтоўвалася аблога Смаленска. На паўночным напрамку армія Б. Шарамецева заняла 1 ліпеня Невель, 17 - Полацк, затым Дзісну. У сярэдзіне ліпеня рускія войскі авалодалі Друяй і Усвятамі. Адначасова быў абложаны Віцебск. Каля трох месяцаў цягнулася аблога горада. Яго гарнізон складалі некалькі тысяч салдат і значная колькасць шляхты, якая загадзя схавалася за гарадскімі

сценамі. Напярэдадні царская армія авалодала Мсціславам, у якім быў размешчаны моцны гарнізон, падмацаваны шляхтай, пасля жорсткіх баёў горад быў амаль цалкам знішчаны.

Маскоўскі урад разглядаў Беларусь як будучую царскую вотчыну. Сацыяльнай апорай расійскіх феадалаў тут магла быць толькі шляхта, якую маскоўскія ўлады імкнуліся прыцягнуць на свой бок.

Гэтыя абставіны вызначылі мяккія адносіны да тых дваран, якія не змагаліся супраць рускіх войск. Выпадкі арышту і зняволення іх на пачатку кампаніі былі даволі рэдкімі.

Пасля ўзяцця Мсціслава руская армія авалодала таксама Копыссю, Дуброўнай і Оршай. 26 жніўня пасля доўгіх перагавораў, якія вялі рускія ваяводы з жыхарамі і гарнізонам акружанага Магілёва, горад капітуляваў. Армія Шарамецева авалодала Глыбокім і Віцебскам.

Амаль тры з паловай месяца цягнулася аблога Смаленска. На дапамогу гораду прарываліся войскі Радзівіла, якія знаходзіліся ў раёне Оршы. Аднак у выніку шэрагу бітваў літоўскае войска вымушана было адступіць да Копысі і Шклова. Шматлікі гарнізон Смаленска (па розных даных каля 4,5—7 тыс. чалавек), аснову якога складалі рэгулярнае войска і шляхта, страціў надзеі на дапамогу звонку. Пачаўся абмен парламенцёрамі, якія абмяркоўвалі ўмовы капітуляцыі. У выніку перамоў Смаленскі ваявода Ф. Абуховіч згадзіўся на здачу горада. Пазней ён і шэраг іншых кіраўнікоў абароны адшукваліся па загаду сойма па абвінавачванню ў здрадніцтве. 23 верасня адбылося ўрачыстае ўступленне царскай світы і рускіх войск у Смаленск.

Інакшым было становішча ў паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі, дзе дзейнічалі казацкія атрады І. Залатарэнкі. Па плану яны былі павінны ўзаемадзейнічаць з рускімі войскамі. Аднак вельмі павольным было прасоўванне казацкіх сіл на тэрыторыю паўднёва-ўсходняй Беларусі. Прычынай слабай узаемасувязі казакоў з рускімі войскамі было імкненне казацкіх старшынь замацаваць сваю ўладу ў памежных з Украінай беларускіх землях. Згодна з Пераяслаўскім дагаворам 1654 г. казакі атрымалі права валодаць гарадамі, якія яны здабудуць у баях з польска-літоўскай шляхтай. Менавіта гэтым тлумачыцца жаданне І. Залатарэнкі авалодаць гарадамі і перадаць

іх пад кіраванне казацкай вярхушкі. Прадстаўнікі казакоў угаворвалі гараджан здацца не на імя рускага цара, а на імя казацкага гетмана і ў выпадку нязгоды разаралі дашчэнту навакольныя вёскі. Б. Хмяльніцкі паслаў на Беларусь вялікую колькасць казацкіх сіл. У хуткім часе ў лагеры Залатарэнкі паўсталі супярэчнасці, казакі пачалі пакідаць свае атрады. У канцы кастрычніка 1654 г. на Беларусі з 20 тыс. казакоў засталося ўсяго каля 8 тыс. Сам І. Залатарэнка вымушаны быў прасіць цара аб дапамозе, скардзячыся на недавер да яго баявых сяброў.

Тым не менш к канцу 1654 г. казакі авалодалі Гомелем, Рэчыцай, Чачэрскам. Такім чынам, пад кантролем царскіх войскаў знаходзілася тэрыторыя паўночна-ўсходняй, усходняй і паўднёва-ўсходняй Беларусі. Поспехі рускай арміі і казакоў, а таксама мэтанакіраваная прапаганда з боку Масквы прывялі да таго, што праваслаўныя гараджане, сяляне цэлымі воласцямі пачалі падаваць заявы з просьбай прыняць іх у рускае падданства. Пры гэтым шляхта праяўляла асцярожнасць, прасіла пацвердзіць яе правы і прывілеі. Маскоўскі ўрад ахвотна даваў такія пацвярджэнні.

Шырокі рэзананс у гэты перыяд атрымала дзейнасць магілёўскага шляхціча В. Паклонскага. У чэрвені 1654 г. ён з групай аднадумцаў звярнуўся да цара з прапановай сфарміраваць палкі з прадстаўнікоў беларускай ляхты і *"усякіх служылых людзей, якія на вернае падданства прысягнулі".* Цар вельмі прыхільна аднёсся да ідэі арганізацыі з ліку мясцовага дваранства воінскага кантынгенту і запэўніў Паклонскага, што захавае яму і яго прыхільнікам былыя правы і "маёмасці". Паклонскі быў прызначаны ў палкоўнікі і стаў на чале палкоў, якія фарміраваліся. У хуткім часе з ліку шляхты, гараджан і сялян узніклі палкі ў Чавускім, Навабыхаўскім, Магілёўскім і іншых паветах.

Місіі Паклонскага маскоўскія ўлады надавалі вялікае значэнне, разглядалі яе як дэманстрацыю жадання ўсёй беларускай шляхты зрабіцца паплечнікамі Расіі. Аднак надзеі цара і яго акружэння не здзейсніліся. Палкі, якія сфарміраваў Паклонскі, выявілі сваю нездольнасць весці актыўныя баявыя дзеянні. Ужо ў кастрычніку 1654 г. афіцэры і салдаты пачалі пакідаць "беларускія палкі", атыя, хто яшчэ заставаўся, не жадалі падначальвацца прарасійскаму ка-

мандаванню. Гэта было выклікана паводзінамі рускіх войск і акупацыйнай адміністрацыі, якія рабавалі і разбуралі маёнткі шляхты, гарады і мястэчкі, сёлы незалежна ад таго, прысягалі ўладальнікі іх цару ці не. Так, царскі ваявода Трубяцкой у сваім данясенні цару паведамляў: *" ...ис-под Слуцка со всеми твоими государевыми ратными с конными и пешыми людьми пошли к Слониму в 26 день. А идучи, государь, дорогою, села и деревни,, и хлеб и сало, и всякие конские корма мы, холопы твои, по обе стороны жгли и людей побивали, и в плен имали, и разоряли совсем без остатку и по сторонам потому ж жечь и разорять посылали...Пришли к городку Мише августа 31 день и милостию, государь, божиею литовских людей, которых зостали, побили и языков взяли многих людей и городок Миш выжгли и разорили без остатку".*

Рускія ваяводы перайшлі да тактыкі "выпаленай зямлі". Знішчалі усё, што можна было знішчыць, а сялян, і асабліва рамеснікаў, сотнямі тысяч вывозілі ў вечны палон. У Маскве і іншых рускіх гарадах узніклі цэлыя слабодкі з гвалтоўна перасяленых туда "беларусцаў", як называлі у Расіі ўсходніх літвінаў.

На пачатку зімы баявыя дзеянні рускіх армій былі прыпынены. Частка войск была адведзена ў гарнізоны, другая адпушчана на адпачынак. Выкарыстаўшы перадышку, Я. Радзівіл змог сфарміраваць больш як 24 тыс. армію і накіраваць яе ў раён Старога Быхава. дзе казакі пад камандаваннем І. Залатарэнкі беспаспяхова вялі аблогу горада. Казацкія атрады баяліся адкрытай бітвы, схаваліся за сценамі Новага Быхава, які з налёту ўзяць войску Радзівіла не ўдалося.

Тым часам Паклонскі і яго паплечнікі вырашылі перайсці на бок сваіх суайчыннікаў. Паклонскі пасля тайнай перапіскі з Радзівілам дамовіўся аб здачы Магілёва, але гэты план не ўдаўся. Пачалася планамерная аблога горада, якая цягнулася некалькі месяцаў. 1 мая войска Радзівіла адышло за Бярэзіну. Дзеянні Паклонскага былі высока ацэнены соймам Рэчы Паспалітай. Яму было вернута адабранае годам раней шляхецкае званне, а таксама падораны чын каменданта некалькіх паветаў.

У перыяд аблогі Магілёва далі знаць аб сабе разнагалоссі, якія існавалі паміж маскоўскім урадам і І. Залатарэнкам. Нягледзячы на

прамыя загады цара ісці на дапамогу рускаму гарнізону, казацкі гетман так і не выступіў з Новага Быхава, адгаворваўся то маразамі, то вясенням бездарожжам.

У канцы вясны 1655 г. пачалося новае наступленне рускіх войск. Бітвы ў раёне Барысава, Слуцка, Свіслачы, Ашмян прынеслі перамогу рускай арміі. Армія пад камандаваннем ваяводы Я. Чаркаскага і казацкія "загоны" 3 ліпеня авалодалі Менскам, а войска А. Трубяцкога ўзяло Клецк, Слонім. У канцы ліпеня на тэрыторыі Ашмянскага павета сустрэліся асноўныя сілы рускай і польска-літоўскай армій. 26 ліпеня адбылася рашаючая бітва, у выніку якой войска Я. Радзівіла было рассеяна. Дарога на Вільню - сталіцу ВКЛ - была адкрыта. 31 ліпеня была ўзята Вільня, а ў жніўні - Гродна і Коўна.

Да восені ўся тэрыторыя Беларусі была занята рускім войскам і казацкімі атрадамі, якія авалодалі Давыд-Гарадком і Столінам. Толькі Слуцк, Пінск, Стары Быхаў і Бярэсце, дзякуючы моцным гарнізонам, знаходзіліся пад кантролем польска-літоўскіх сіл.

Царскі урад вырашыў, што прыспеў час анексіраваць усходнюю частку ВКЛ, дзе значная колькасць насельніцтва прытрымлівалася праваслаўя. Дзеля ідэалагічнага абгрунтавання анексіі рускія ўлады ўкаранялі назвы "Белая Русь" у адносінах да сучаснай усходняй Беларусі і "беларусцы" у адносінах да літвінаў-праваслаўных, хаця ў ВКЛ гэтая назва не ўжывалася. Нейкі час у Маскве і ў царскім войску абмяркоўвалася ідэя стварэння "Вялікага княства Белая Русь" з Аляксеем Раманавым на чале. Аднак у рэшце рэшт было вырашана проста захапіць большую частку беларускіх зямель. 4 верасня Аляксей Міхайлавіч прыняў тытул самадзержца "всея Великия и Малыя і Белыя России".

На Беларусі пашырыўся антырускі настрой. Вострае незадавальненне праяўляла насельніцтва гарадоў, якія ва ўмовах вайны, шматлікіх пабораў і кантрыбуцый, рабаўніцтва ваюючымі бакамі, прыходзілі ў заняпад.

Восенню 1655 г. зноў абвастрыліся адносіны паміж рускім бокам і казацкім гетманам І. Залатарэнкам. Апошні кляўся ў вернасці цару, а адначасова рабіў перашкоды ў перадачы занятых ў ходзе вайны Чачэрска, Мсціслава, Чавус і іншых гарадоў і мястэчак у

паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі пад кіраванне царскіх ваяводаў. Узаемаадносіны яшчэ больш пагоршыліся, калі стаў вядомы змест тайнай перапіскі, якую падтрымліваў Залатарэнка з саноўнікамі Рэчы Паспалітай.

Пасля ранення і смерці гетмана ў кастрычніку 1655 г. пачаліся хваляванні радавых казакоў. Супраць іх былі пасланы рускія карныя атрады. У выніку большая частка казакоў вярнулася ва Украіну, а рэшткі ўліліся ў рады царскай арміі.

Цяжкае паражэнне польска-літоўскіх войск на Беларусі і Украіне спакусіла шведскага караля Карла X здзейсніць свае планы, узяць пад поўны кантроль усё ўзбярэжжа Балтыкі, уключаючы Польскае Памор'е. Калі руская армія увайшла ў Вільню, шведскія войскі пад началам М. Дзелагардзі ўварваліся з Лівоніі ў паўночныя раёны Літвы. Адначасова шведскі дэсант захапіў Познань, Кракаў і ў жніўні 1656 г. Варшаву. У канцы верасня шведы занялі значную частку Польшчы і Літвы.

Гэтыя падзеі кардынальным чынам змянілі ход вайны. Рэч Паспалітая апынулася на грані ваенна-палітычнай катастрофы. Кароль Ян Казімір выехаў на поўдзень краіны. Магнаты і шляхта былі пастаўлены перад дылемай выбару на карысць шведскай або расійскай арыентацыі. Карл X абвясціў сябе польскім каралём, а некаторыя вышэйшыя саноўнікі Рэчы Паспалітай сталі васаламі шведскага караля. Ад імя кіруючых колаў Літвы канцлер Я. Радзівіл і гетман В. Гансеўскі ў жніўні 1655 г. падпісалі дагавор аб прызнанні пратэктарату Швецыі над Вялікім княствам Літоўскім з захаваннем правоў і прывілеяў магнатаў, шляхты і каталіцкага кліру.

Пагроза манапольнага панавання Швецыі на ўсім узбярэжжы Балтыйскага мора, захоп ёю значнай тэрыторыі Літвы і Польшчы прымусілі рускага цара рыхтавацца да вайны з новым праціўнікам. Цар і яго акружэнне лічылі, што асноўныя мэты, якія былі пастаўлены напярэдадні вайны з Рэччу Паспалітай, былі дасягнуты. Польшча і Літва прадстаўляліся цяпер менш небяспечнымі, чым Швецыя. Ваенныя дзеянні супраць іх былі прыпынены.

12 жніўня 1655 г. пачаліся перамовы ў Вільні паміж рускай і літоўскай дэлегацыямі. У іх ходзе рускі бок прапанаваў мір і саюз з Рэччу Паспалітай супраць Швецыі ўзамен за анексію ўсёй Бела-

русі. Гэтыя прапановы былі адхілены літоўскай дэлегацыяй. Таму 29 жніўня перамовы закончыліся падпісаннем толькі часовага перамір'я, што давала магчымасць Расіі ўступіць у вайну са Швецыяй.У маі 1657 г. пачалася амаль трохгадовая руска-шведская вайна, у якой Расія дабівалася заваявання ўзбярэжжа Балтыйскага мора.

Пасля смерці Б. Хмяльніцкага ў 1657 г. ускладніліся адносіны Расіі з Украінай. 1657 г. Гетманам быў абраны Іван Выгоўскі. Новы гетман і казацкая вярхушка лічылі магчымым шляхам кампрамісу з кіраўніцтвам Рэчы Паспалітай дабіцца абмежаванай аўтаноміі для Украіны пад сваім кіраваннем. Яны ўпэўніліся, што рускі цар-самадзержац аўтаномію Украіны не падтрымлівае.

Перамена арыентацыі кіраўніцтва казацкага войска знайшла сваё пацвярджэнне ў дзеяннях камандзіра казацкіх атрадаў на Беларусі - палкоўніка І. Нячая, прызначанага замест І. Залатарэнкі. Палкоўнік замацаваўся ў раёне Чавус, Старога Быхава і Мсціслава, усталяваў тут кіраванне па прыкладу Сечы. У канцы 1657 г. Нячай адкрыта пачаў супрацьдзейнічаць пасланым сюды рускім ваяводам. Асаблівую незадаволенасць казацкіх старшынь выклікалі спробы царскіх ваяводаў прывесці *"беларусаў на падданства цару".*

У другой палове 1657 г. казакі пачалі адкрытую агітацыю беларускіх сялян аказваць супраціўленне рускай адміністрацыі. Па паўднёвых і паўднёва-ўсходніх паветах Беларусі пракацілася хваля пагромаў маёнткаў прарасійскай шляхты. Рускае камандаванне вылучыла частку сіл для падаўлення выступленняў казакоў і "аказачаных халопаў". А пасля таго, як у 1659 г. гетман Іван Выгоўскі быў звергнуты, рускія войскі змаглі нанесці паражэнне атрадам І. Нячая. "Беларускі палкоўнік" быў пакараны смерцю.

Між тым Рэч Паспалітая коштам вялікіх ахвяр адбіла шведскую агрэсію. Шведскія гарнізоны ў Польшчы і Літве былі ліквідаваны. Актыўны ўдзел у гэтай барацьбе прынялі войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам Сапегі, які не прызнаў змовы Радзівіла са шведамі. Кароль Ян Казімір быў вымушаны шукаць дапамогі за межамі сваёй краіны. Так, у 1657 г. ён пагадзіўся з аншлюсам Брандэнбургскім курфюстам Прусіі, якая да гэтага была васалам Рэчы Паспалітай. У выніку на паўночна-заходніх межах дзяржава - Прусія, якая адыграла ў

наступны перыяд вельмі драматычную ролю у лёсе Рэчы Паспалітай. Аднак у той момант галоўным ворагам была Швецыя.

Вясной 1660 г. паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай было заключана мірнае пагадненне. Гэта дазволіла польска-літоўскаму боку сканцэнтраваць буйныя сілы для наступлення ў Беларусі. У студзені да Вільні былі перакінуты з Прусіі і Ліфляндыі войскі пад началам кароннага гетмана Л. Сапегі і С. Чарнецкага. Рускія войскі пад камандаваннем В. Хаванскага і Б. Шарамецева не змаглі стрымаць націску польскай арміі і адступілі ў напрамку Полацка.

Апорным пунктам польска-літоўскіх войск на паўднёвым захадзе Беларусі заставаўся Пінск. Тут яшчэ з пачатку вайны склаўся буйны гарнізон рэгулярных войск, падтрыманы шляхтай навакольных паветаў. Царскае камандаванне вырашыла ліквідаваць гэты ачаг абароны літвінаў, які пагражаў тылам рускіх войск. 25 чэрвеня 1660 г. з дапамогай казакоў руская армія штурмам авалодала Пінскам. Аднак гэта была амаль што апошняя перамога рускіх у вайне.

Другая палова 1660 г. была адзначана канчатковым пераходам ваеннай ініцыятывы ў рукі польска-літоўскага камандавання. З прычыны рознагалоссяў у асяроддзі казацкай вярхушкі і антырускай пазыцыі, якую заняў Ю. Хмяльніцкі (сын Б. Хмяльніцкага), выбраны гетманам пасля Выгоўскага, ва Украіне капітулявала армія Б. Шарамецева. У хуткім часе ўся Правабярэжная Украіна (акрамя Кіева) знаходзілася пад кантролем Польшчы.

На Беларусі войскамі Рэчы Паспалітай былі ўзяты гарады Крычаў і Мсціслаў. У 1661 г. войскі Сапегі і Чарнецкага вызвалілі Себяж, Дзісну, іншыя крэпасці, а ў лістападзе - Вільню.

Наступленне польска-літоўскага войска аказала ўплыў на настрой часткі шляхты і гарадскога насельніцтва, якія раней прысягнулі рускаму цару. Пашыраліся партызанскія дзеянні, у лютым 1661 г. паўсталі жыхары Магілёва пад кіраўніцтвам бурмістра Левановіча. Яны перабілі амаль увесь сямітысячны рускі гарнізон, а брамы горада адчынілі прыспеўшай шляхецкай кавалерыі. Кароль і вялікі князь ўзнагародзіў паўстанцаў, а гораду надаў прывілеі, роўныя прывілеям Вільні.

Ваенныя дзеянні з 1663 г. пачалі набываць зацяжны характар.

Абодва бакі былі знясілены. У 1664 г. пачаліся мірныя перамовы, якія цягнуліся амаль чатыры месяцы. **У 1665 г. у в. Андросава паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай было заключана пагадненне тэрмінам на 13,5 года.** Да 1680 г. абодва бакі павінны былі ўзгадніць умовы "вечнага міру".

Беларусь разам з Правабярэжнай Украінай засталася ў межах Рэчы Паспалітай. Аднак Смаленск і смаленская зямля адышлі да Расіі.

Казацкія паўстанні, руская і шведская інтэрвенцыі ў межы Рэчы Паспалітай вельмі дорага каштавалі ВКЛ, абярнуліся трагічнымі вынікамі для беларускага народа. Па падліках гісторыкаў насельніцтва Беларусі зменшылася амаль што ў два разы, у зруйнаваннях ляжалі гарады і мястэчкі, былі спалены тысячы сёл. Аб'ёмы гандлю і рамесніцкай вытворчасці ў 1670 г. дасягнулі 40% ад узроўню 1646 г. Асабліва цяжкім было становішча ў сельскай гаспадарцы, найбольш панесшай ахвяры за 1648—1667 гг. На ўсходзе, поўдні і паўднёвым усходзе Беларусі было запушчана каля палавіны ворных зямель, у вёсках адчуваўся востры недахоп рабочых рук.

## ЛЕКЦЫЯ 32

## БЕЛАРУСЬ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

- *Дэмаграфічны рэгрэс і эканамічны заняпад.*
- *Змена канфесійнай сітуацыі.*
- *Палітычны крызіс.*

### Дэмаграфічны рэгрэс і эканамічны заняпад

Трактат, падпісаны ў беларускай вёсцы Андрусава, стаўся найважнейшай падзеяй гісторыі Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Баланс сіл ва Усходняй Еўропе быў канчаткова парушаны на карысць Маскоўскай дзяржавы, якая выйшла на першае месца па магутнасці, завалодала ініцыятывай. Рэч Паспалітая наадварот, ужо ў Андрусаве падпісала сабе прысуд. Прыйшоў час хуткага заняпаду Рэчы Паспалітай. Да замірэння 1667 г. тут аднесліся па-рознаму. Частка магнатаў і шляхты ўхваляла яго. Групоўка сенатараў на чале з Янам Сабескім катэгарычна выступіла супраць Андрусавага трактата і заклікала працягваць вайну. Гэта, зразумела, была ўтопія.

Шматгадовыя ваенныя дзеянні, палітыка татальнага спусташэння зямлі і вываду палонных прывялі Беларусь да дэмаграфічнай і гаспадарча-эканамічнай катастрофы, на стагоддзе адкінулі яе назад. **Па стратах і адмоўных выніках вайна 1654—1667 гг. была самай трагічнай у нашай гісторыі, гэта наша першая нацыянальная катастрофа.** Да канца стагоддзя Беларусь так і не ўзнавіла свайго даваеннага гаспадарчага і дэмаграфічнага патэнцыялу.

Даніна беларускага народа гэтай вайне была жудаснай. З 1650 па 1667 гг. колькасць насельніцтва скарацілася больш як удвая — з 2,9 да 1,4 млн. чалавек. Большасць людзей гінула не ў бітвах, а з голаду і эпідэмій. Беларускія ваяводствы абязлюдзелі таксама з-за перасяленняў, вывазу сялян і рамеснікаў у Расію. Частку палонных прадавалі на рынках, у сувязі з чым развіўся гандаль нявольнікамі. Іх куплялі мусульманскія купцы і высылалі ў паўднёва-ўсходнія краіны. Асабліва пацярпела жыхарства паветаў, сумежных з Маскоўскай дзяржавай: у Аршанскім, Мсціслаўскім, Полацкім паветах пуставала ад 69 да 75% хат, тут засталася менш за трэць ад даваеннай колькасці насельніцтва. Трэцяя частка гаспадарак Берасцейска-

га і Наваградскага ваяводстваў засталася без гаспадароў. Спатрэбілася 125 гадоў, каб насельніцтва Беларусі дасягнула ўзроўню сярэдзіны XVII ст.

Зямля Беларусі ўяўляла сабой суцэльнае папялішча. Цяжкія вынікі вайны асабліва адчуваліся там, дзе адбываліся ваенныя дзеянні ці прасоўванне войск. Дакументы сойма, які адбыўся ў 1661 г. у Варшаве, сведчылі: Гарадзенскі павет *«ператвораны ў руіны і ў большай частцы спалены»,* Браслаўскі *«ўшчэнт зруйнаваны»,* Слонімскі *«амаль датла спалены і разрабаваны», Ваўкавыскі «ў шматлікіх месцах выпалены»,* Аршанскі «ўшчэнт разбураны і спалены», ваяводства Берасцейскае ў *«большай сваёй частцы ператворана ў попел і поўнасцю разбурана»,* Менскае — таксама *«ўсе вынішчана»* і г. д. Былі спустошаны Бярэсце, Пінск, Тураў, Мазыр, Рэчыца, Бабруйск, Чэрыкаў, Лоеў, Брагін, Гомель, Смалявічы, амаль цалкам былі знішчаны Масты, Жыровічы, Відзы, Докшыцы, Быцень. Ад Гародні, як сведчыць чэшскі падарожнік, «толькі і засталося гарадское смецце». У 1656 г. у Менску налічвалася толькі 156 чалавек, сам ён ляжаў у руінах. Быў "цалкам зруйнаваны» Нясвіж, «спалена Орша». Соймавымі пастановамі 60-х гадоў XVII ст. 20 беларускіх гарадоў, у тым ліку найбольш буйныя, былі вызвалены на чатыры гады ад усіх дзяржаўных павіннасцей.

Непазбежныя спадарожнікі вайны — неўраджаі. Вайна, галеча і голад былі прычынай валацужніцтва і жабрацтва. *«У месцах і мястэчках нашых Вялікага княства Літоўскага бядоты такая вялікая моц намножылася, - чытаем мы ў каралеўскай грамаце 1653 г.,- што ўсе вуліцы і месцы імі запоўнены, адкуль немалая нагода да розных хваробаў і заразы».* З-за голаду і бадзяння абяздоленага насельніцтва пачалася эпідэмія сыпнога тыфу, якая лютавала з 1653 па 1658 гг. і ўспыхнула зноў у 1664 г.

Застаўшыся без хатняй жывёлы, хлеба, насення, сяляне ратаваліся ад галоднай смерці масавымі ўцёкамі ва Украіну і Расійскую дзяржаву. Рэзка скарацілася насельніцтва гарадоў, абязлюдзелі шматлікія вёскі.

Гарады і мястэчкі цярпелі не толькі ад разбурэнняў. Да крайняга збяднення даводзілі жыхароў пастоі войска і ваенныя паборы. У

цэлым гарадское насельніцтва Беларусі ў сярэдзіне XVII ст. зменшылася прыкладна на 55%. Прыйшло ў заняпад рамяство.

Сотні кавалёў, кафляроў, разьбяроў, тысячы іншых рамеснікаў, гвалтам адарваных ад сваёй зямлі, працавалі цяпер у Расіі. У адной толькі Збройнай палаце Крамля ў 1660 г. было 68 высокакваліфікаваных майстроў з Полацка і Віцебска. Затое ў самім Віцебску пад канец вайны заставалася не больш за 70 усіх рамеснікаў. Наогул, развіццё рамеснай вытворчасці на спустошанай Беларусі і за стагоддзе не дасягнула даваеннага ўзроўню. Напрыклад, у пачатку XVII ст. у Магілёве было больш за 2 тысячы рамеснікаў, у 1745 г. — толькі 95. У 1650 г. у Гародні працавала 130 рамеснікаў, а ў 1680 г. засталося толькі 12.

Ступень разбурэння ва Усходняй Беларусі была больш высокай, чым на Захадзе. У гістарычнай літаратуры зацвердзілася думка, што ад войнаў сярэдзіны XVII ст. больш стратаў панеслі каралеўскія і царкоўныя ўладанні, чым шляхецкія. Гаспадарка ўсёй Беларусі апынулася ў катастрафічным стане, а для яе аднаўлення не было людзей, амаль не засталося рабочай жывёлы. Пасля вайны не апрацоўвалася і паловы ад ранейшых плошчаў ворыўнай зямлі. У Віцебскай эканоміі, Мсціслаўскім ваяводстве, Шклоўскім графстве, Прапойскім і Крычаўскім староствах ад 60 да 75% ворыўных зямель ператварылася ў пусткі. Бязлюдныя вёскі і сялянскія палі зарасталі лесам і хмызняком. Яшчэ і ў пачатку XVIII ст. пуставаў 41% валок у Берасцейскай і 71% у Гарадзенскай эканоміях.

Вайна быццам перайначыла ўсю Беларусь. Край добра развітай гаспадаркі, рамеснай вытворчасці, далёка вядомы вырабамі сваіх майстроў, зусім запусцеў і стаў непрыкметнай ускраінай.

Заключэнне Андрусоўскага перамір'я паклала канец вайне. Наступныя 30 гадоў былі перыядам адносна мірнага развіцця Беларусі. Пасля ваенных гадоў трэба было аднаўляць гаспадарку. Але як?

У гэтых умовах зямельныя ўладальнікі вырашылі пайсці на часовую ліквідацыю фальваркаў і перавод сялян з адпрацовачнай на грашовую рэнту. Масавы перавод сялян на чынш меў месца ў каралеўскіх уладаннях. У магнацкіх маёнтках працэс аднаўлення ішоў па-рознаму: у адных шляхам спагнання грашовай рэнты, у

другіх — праз фальварак. Ва ўладаннях дробнай шляхты адраджэнне гаспадаркі часцей ішло праз фальварак.

Адраджэнне сельскай гаспадаркі мела свае асаблівасці на захадзе і ўсходзе Беларусі. На ўсходзе фальваркова-паншчынная сістэма ў XVII—XVIII стст. не атрымала такога шырокага развіцця, як на захадзе. Таму тут адраджаўся, галоўным чынам, не фальварак, а разбураная сялянская гаспадарка. Цяжкасці ў гэтым аказаліся многа большымі, чым на захадзе, бо больш значнымі былі спустошэнні. Да таго ж зямельны ўласнік тут не мог дапамагчы даведзеным да галечы сялянам насеннем, цяглавай сілай, паколькі ён сам трымаўся амаль выключна на сялянскай гаспадарцы. Феадалы на ўсходзе Беларусі, улічваючы ўзнікшую сітуацыю, часова ішлі на ўступкі сялянам. Прадастаўленне льгот стварала пэўны стымул для вяртання сялян у ранейшыя валоданні і ў нейкай меры прыцягвала новых пасяленцаў. Гэты працэс стаў бачным ужо ў канцы 60-х гадоў. А з ростам колькасці вясковага насельніцтва адбывалася асваенне пустэчаў. Значная частка сялян брала пустуючую зямлю дадаткова да свайго асноўнага надзела. У аднаўленчы перыяд дзяржаўная ўлада ўводзіла розныя льготы для сялян, якія бралі для апрацоўкі дадатковы надзел. Такая палітыка станоўча ўплывала на стан сялянскай гаспадаркі і садзейнічала эканамічнаму ўздыму краіны ў цэлым.

Адраджэнне фальварковай гаспадаркі патрабавала ад феадалаў значных грашовых укладанняў. Ва ўмовах пасляваеннага спусташэння нават магнаты не заўсёды мелі дастаткова сродкаў. Таму з 60—70-х гадоў XVII ст. шырокае распаўсюджванне атрымлівае арэнда і аддача ў залог феадальных маёнткаў. Арандатарамі былі шляхцічы, радзей купцы. Пераважала кароткатэрміновая арэнда на 1—3 гады. У гэтым выпадку арандатары імкнуліся як мага хутчэй выціснуць з маёнтка пабольш грошай. Гаспадарку яны вялі па-грабежніцку, даводзілі сялян да галечы. Ва ўмовах узмацнення феадальнага прыгнёту адраджэнне сельскай гаспадаркі зацягнулася на дзесяцігоддзі.

Свавольства феадалаў і падатковы цяжар адмоўна ўплывалі на адраджэнне гарадоў і мястэчак. У адміністрацыйныя і судовыя ўстановы паступалі шматлікія скаргі на абрабаванне феадаламі

купецкіх абозаў, рабаўніцтва і бясчынствы на рынках і ў час розных з'ездаў шляхты. Феадалы рабілі ў сваіх валоданнях мытні. Незаконныя і завышаныя пошліны браліся на дзяржаўных мытнях. Гараджане пакутвалі ад празмерных падаткаў.

Адраджэнне гарадоў тармазілася таксама наяўнасцю ў іх зямельнай уласнасці феадалаў, асабліва ўладанняў — юрыдык. Яны выкарыстоўвалі цяжкае становішча гарадоў для захопу новых гарадскіх зямель і распаўсюджвання сваёй улады на іх насельніцтва. Гэта суправаджалася павелічэннем феадальных павіннасцей.

Але нават і ў такіх неспрыяльных умовах паступова адраджаліся гарады і мястэчкі. Гэтаму працэсу садзейнічала далейшае развіццё таварна-грашовых адносін, павелічэнне ролі плацяжоў у феадальных павіннасцях сялянства, пашырэнне работ з грашовай аплатай у памесных гаспадарках. Улады Рэчы Паспалітай вымушаны былі спецыяльнымі пастановамі ў другой палове XVII ст. вызваліць ад уплаты дзяржаўных падаткаў на некалькі гадоў Магілёў, Ашмяны, Оршу, Бярэсце, Гародню, Віцебск, Полацк і некаторыя іншыя. Паступовае ўмацаванне вярхоўнай улады і яе мясцовых органаў вяло да некаторага змяншэння феадальнага свавольства ў краіне, да паляпшэння ўмоў унутранага і знешняга гандлю. Хутчэй за іншыя аднаўляліся Магілёў, Віцебск, Менск, Нясвіж, Наваградак. Ажыўленне гарадоў праявілася найперш у павелічэнні колькасці насельніцтва. Але большасць гарадоў і мястэчак амаль да сярэдзіны XVIII ст. усё яшчэ заставалася ў глыбокім заняпадзе.

Цаной неймаверных высілкаў беларускі народ адбудоўваў гаспадарку. У канцы XVII ст. колькасць насельніцтва вырасла да 2,2 млн. чалавек. Але навала Паўночнай вайны знішчыла вынікі намаганняў людзей.

Татальная дэструкцыя, выкліканая вайной, як сцвярджае Г. Сагановіч, змяніла ўсё — матэрыяльныя умовы жыцця, сацыяльную структуру насельніцтва, моўна-культурную і канфесійную сітуацыю. Без уліку наступстваў той ваеннай катастрофы нельга растлумачыць шмат якія з'явы нашай далейшай гісторыі. Менавіта да тых падзей сягаюць сваімі вытокамі прычыны крызісу, у які на доўгі час трапіла беларуская культура. Гарады, што паступова

аднаўляліся, былі ўжо іншыя, іншае аблічча меў пласт прадпрымальнікаў, мяшчан, гандляроў, арыстакратыі.

Пазбаўленыя сваёй эліты, вышэйшых станаў, мяшчанства (менавіта гэты пласт пацярпеў у вайне найбольш), беларусы сталі народам з няпоўнай сацыяльнай структурай грамадства, ператварыліся ў народ сялянскі. А разбурэнне механізму перадачы інфармацыі наступным пакаленням азначала падрыў асновы нацыянальнай кансалідацыі беларусаў.

### Змена канфесійнай сітуацыі

**Вайна адкінула ў мінулае былую рэлігійную талерантнасць, змяніла ўмовы існавання праваслаўнай царквы.** Другая палова XVII ст. на Беларусі праходзіла пад знакам канфесійнай напружанасці, нестабільнасці ў грамадстве і звязаных з імі сацыяльных катаклізмаў, зігзагаў у рэлігійнай палітыцы ўрада Рэчы Паспалітай і ўлад ВКЛ, змены суадносін розных хрысціянскіх плыняў і выхадам дысідэнцкага пытання ў разрад міжнародных.

Моцна пацiснутае Рэфармацыяй і контррэфармацыяй праваслаўе, тым не менш, у сярэдзіне XVII ст. заставалася самай масавай канфесіяй на Беларусі. Яно дзейнічала ў межах легальнасці і цярпімасці і было забяспечана канстытуцыйнай падтрымкай на дзяржаўным узроўні (грамата 1632 г. і дыплом 1633 г. караля і вялікага князя Уладзіслава IV, дыплом Яна Казіміра 1650 г.). Пасля вайны стаўленне да яго пачало мяняцца. Урад бярэ курс на абмежаванне і нейтралізацыю праваслаўнай царквы, якую адзіную прызнавалі акупацыйныя ўлады. Прамаскоўская арыентацыя праваслаўных пабудзіла ўрад зрабіць круты паварот у бок спрыяння уніі, якая яшчэ зусім нядаўна, здавалася, была асуджана на поўнае вынішчэнне. Рост уніяцкіх настрояў у грамадстве, унутраны раскол у праваслаўнай царкве, адыход ад яе шляхты, спад палітычнага значэння казацтва як абаронцы праваслаўя спрыялі павелічэнню ўплыву уніяцтва на тэрыторыі з перавагай праваслаўнага насельніцтва. Уніяцтва расце колькасна і ўмацоўваецца ўнутрана.

У 1685—1686 гг. Кіеўская мітраполія падпарадкоўваецца Маскоўскаму патрыярхату. Была паламана 600-гадовая традыцыя арыентацыі яе на Канстанцінопаль. Умяшанне Расійскай дзяржавы ў

справы беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы схілілі на мяжы XVII—XVIII стст. трох праваслаўных епіскапаў — перамышльскага, львоўскага і луцкага — да уніі. У Рэчы Паспалітай засталася толькі адна праваслаўная — Беларуская (Магілёўская) епархія.

Вайна 1654—1667 гг. істотна развеяла ілюзіі аб выратавальнай місіі расійскага самадзяржаўя, разбурыла імідж цара-вызваліцеля, хаця русафільскія настроі сярод праваслаўнага насельніцтва былі даволі моцнымі.

З другой паловы XVII ст. трывалым фактарам рэлігійнага жыцця становіцца маскоўская прысутнасць на Беларусі ў якасці абаронцы праваслаўя, што знайшло замацаванне ў Андрусоўскім перамір'і і «вечным міры» 1686 г. Царызм ініцыіраваў беларуска-ўкраінскае праваслаўнае насельніцтва на пошукі пратэкцыі ў Расіі. Ф. Энгельс заўважыў на гэты конт, што факты прымусовага далучэння насельніцтва Беларусі і Украіны да каталіцтва давалі *«вялікарускім царам жаданую зачэпку для прэтэнзіі на тэрыторыю Літоўскага княства, як на нацыянальную рускую вобласць, прыгнечаную, аднак, Польшчай. Другая зачэпка для ўмяшання была ў тым, каб у якасці абаронцаў праваслаўя выступіць у абарону праваслаўных уніятаў, хаця апошнія даўно ўжо змірыліся са сваім становішчам у дачыненні да рымска-каталіцкай царквы».*

Аднак адносіны беларуска-ўкраінскага праваслаўя з Масквой былі больш складанымі, чым гэта можа здацца на першы погляд. У падзеях 1654—1667 гг. яно апынулася ў двухсэнсоўным стане. З аднаго боку, Масква падтрымлівала сваіх аднаверцаў у барацьбе за выжыванне, давала ім грошы, прытулак і г.д. Але праваслаўныя іерархі ў другой палове XVII ст. былі амаль адзіныя ў жаданні заставацца пад вяршэнствам Канстанцінопальскага патрыярхату. Маскоўскі цэнтралізм і залежнасць расійскай праваслаўнай царквы ад самадзяржаўнай улады былі ім не да спадобы. Пазбаўляцца ад пэўных кантытуцыйных і рэлігійна-багаслоўскіх свабод, адноснай інтэлектуальна-культурнай талерантнасці, існаваўшых у Рэчы Паспалітай, яны не жадалі. Адмоўна ставіўся да прамаскоўскай арыентацыі Б. Хмяльніцкага ўраджэнец Беларусі мітрапаліт Сільвестр Косаў. Толькі пад прымусам ён прызнаў Пераяслаўскі дагавор 1654 г., але і пасля яго падпісання працягваў супрацьстаяць памкненням

падпарадкаваць Кіеўскую мітраполію Маскоўскаму патрыярхату. Косаў накіроўвае пасольства ў Маскву, каб пераканаць расійскі бок не рабіць гэтага. Але епархіі на акупіраванай у 1654—1655 гг. тэрыторыі былі падпарадкаваны ўладзе Нікана, які стаў называць сябе патрыярхам *«усяе Вялікія і Малыя і Белыя Русі».* Тады ж, у 1655 г., уладзе Маскоўскага патрыярха была падпарадкавана і Магілёўская праваслаўная епархія.

Так канфесійная палітыка Маскоўскай дзяржавы абумовіла прынцыпова іншае стаўленне да праваслаўя на Беларусі. З'яўляюцца пастановы, якія абмяжоўваюць правы «дызунітаў». Законамі 1668, 1674 гг. адступніцтва ад каталіцтва і уніяцтва абвешчана крымінальным злачынствам і падлягала пакаранню выгнаннем з дзяржавы. У 1676 г. праваслаўныя брацтвы былі пазбаўлены прывілеяў, ускладнёны іх сувязі з Канстанцінопалем. У 1699 г. праваслаўныя страцілі права займаць выбарныя магістрацкія пасады.

У другой палове XVII ст. пры актыўнай падтрымцы дзяржаўных улад і пануючага класа ўмацоўвае свае пазіцыі на Беларусі каталіцтва. Пасля войнаў сярэдзіны XVII ст. праходзіць рэлігійная кансалідацыя шляхецкага саслоўя і рэшткі праваслаўнай шляхты пераходзяць у каталіцтва. Атрымаўшы ў другой палове стагоддзя канчатковую перамогу над пратэстанцтвам, касцёл імкнецца пакончыць з праваслаўем і разам з уніяцкай царквой дасягае ў гэтым значных поспехаў.

### Палітычны крызіс

Разам з эканамічным банкруцтвам шляхта страчвала і палітычнае вяршэнства ў краіне, пападаючы ў залежнасць ад моцнай магнацкай алігархіі. Шляхта ў сярэдзіне XVI ст. складала 8% насельніцтва, у другой палове XVIII ст. агульная колькасць яе была каля 10% насельніцтва.

У дзяржаўным ладзе Рэчы Паспалітай вылучаюцца тры перыяды: шляхецкай дэмакратыі, магнацкай алігархіі і фарміравання канстытуцыйнай манархіі, якія не закончыліся з-за падзелаў дзяржавы. На другую палову XVII — першую палову XVIII ст. прыходзіцца другі перыяд.

У XVI ст. найбольшую актыўнасць праяўляла сярэдняя шляхта.

Кожны шляхціч, які меў зямлю, быў паўнапраўным грамадзянінам Рэчы Паспалітай, мог удзельнічаць у абранні караля. Выбарнасць караля, які мусіў гарантаваць шляхце ўсё большыя ўступкі, хутка прывяла да канцэнтрацыі ў яе руках фактычна поўнай заканадаўчай і выканаўчай улады. Баючыся гэтую ўладу згубіць, шляхта прызнавала існуючы ў краіне лад аптымальным і рашуча супрацiўлялася любым рэформам. Прынцып "непарушнасці" палітычнага ладу знайшоў адлюстраванне ў Канстытуцыі 1669 г.: «... *ніякая навіна ў Рэчы Паспалітай не можа быць дапушчаная як пагроза разлажэння і вялікіх рэвалюцый».* Палітычная праграма літвінскай шляхты зводзілася да адзінага найгалоўнейшага патрабавання — «nihil novi» — нічога новага.

Падмуркам "залатых шляхецкіх вольнасцяў", а фактычна шляхецкага самаўладдзя і анархіі, гарантам нязменнасці ладу Рэчы Паспалітай лічылася права «liberum veto». Згодна з ім, кожны дэпутат сойма (з 1673 г. соймы праводзіліся па чарзе ў Варшаве і Гародні) мог аднаасобна заблакіраваць прыняцце любой пастановы ці нават увогуле сарваць сойм. Прэцэдэнт зрыву працы сойма адным дэпутатам быў створаны ў 1652 u, калі пасол ад ВКЛ Сіцінскі, выконваючы волю Радзівілаў, выказаў свой пратэст супраць перавышэння двухтыднёвага тэрміну пасяджэння. Сойм прызнаў яго «вета» правамоцным і спыніў сваю працу. З гэтага моманту і да 1764 г. аналагічным чынам былі сарваны 42 соймы з 55. Выкарыстанне магнатамі праз падуладнае шляхецтва права «ліберум вета» вяло да фактычнага паралічу дзяржаўнага кіравання, магчымасці зрыву любога памкнення да змен і рэформаў.

Для дасягнення сваіх мэт і абароны сваіх правоў шляхта на чале з магнатамі аб'ядноўвалася ў канфедэрацыі (узброеныя палітычныя саюзы), а тыя пераходзілі ў рокашы (мяцяжы). У той час існавала прыказка: «Шляхціч на агародзе роўны ваяводзе». «Залатая вольнасць» абарочвалася самавольствам, беспарадкамі, анархіяй, асабліва ў перыяды бескаралеўя. Калі ў Еўропе мацнелі абсалютысцкія манархіі, то ў Рэчы Паспалітай, наадварот, адбывалася аслабленне каралеўскай улады.

З канца XVI ст. пачынаецца ўзмацненне магнацтва. Гэта было звязана з развіццём буйных латыфундый, якія сталі пераважаць у

аграрнай структуры Беларусі з XVII ст. Яны ахопонвалі шэраг вёсак і фальваркаў, а таксама прыватныя гарады і мястэчкі, былі вялікімі комплексамі і зваліся «дзяржавамі».

Разам з аслабленнем цэнтральнай улады ў другой палове XVII ст. узмацнялася магутнасць буйнейшых зямельных магнатаў. Для пашырэння сваіх уладанняў яны не грэбавалі нічым: заманьвалі да сябе сялян суседніх уладальнікаў, а то і сілай забіралі іх у свае вотчыны, дамагаліся праз суд далучэння да сваіх маёнткаў зямель менш уплывовага ўладальніка. Дзе не мог дапамагчы суд, справа вырашалася сілай. Немалую ролю ў пашырэнні магнацкіх уладанняў адыгрывалі выгадныя шлюбы. Для вядзення войнаў урад Рэчы Паспалітай займаў буйныя сумы ў магнатаў. Не маючы сродкаў для іх пакрыцця, ён раздаваў рэшткі дзяржаўных зямель.

У выніку гэтых працэсаў на Беларусі ўтварыліся вялізныя латыфундыі магнатаў Радзівілаў, Сапег, Вішнявецкіх, Пацаў, Глябовічаў, Агінскіх, Чартарыйскіх, Тышкевічаў, Масальскіх, Віленскага епіскапства. Значна ўзмацніліся кантрасты ў размеркаванні зямельных уладанняў сярод пануючага класа. У той час, калі ў дробнапамесных шляхцічаў было толькі па некалькі прыгонных, у сярэднепамесных — па 1—2 вёскі, магнаты мелі вялікія вотчыны, дзе жылі тысячы сялян. Так, ва ўладаннях дачкі Багуслава Радзівіла толькі на тэрыторыі Беларусі было 70 тыс. сялян і мяшчан. Казімір Ян Сапега, вялікі гетман ВКЛ, у 1690 г. валодаў 18563 «дымамі». Чартарыйскія ў сярэдзіне XVIII ст. валодалі насельніцтвам амаль у 25 тыс. чалавек мужчынскага полу.

Магнаты занялі незалежнае становішча ў адносінах да цэнтральнай дзяржаўнай улады і ператварыліся па сутнасці ва ўдзельных князёў. Радзівілы, Сапегі, Вішнявецкія акружылі сябе шматлюднымі, поўнымі залежнай шляхты дварамі, якія здзіўлялі сучаснікаў сваім багаццем. Асабліва праславіліся двары Радзівілаў у Нясвіжы і ў Белай (Берасцейскае ваяводства). Феадалы вялі паразітычны лад жыцця, прамотвалі вялікія сумы ў замежных паездках, балях і гулянках. *«Марнатраўства спусташае маёнткі,* — пісаў адзін з сучаснікаў, — *з'ядаюцца і прапіваюцца фальваркі, вёскі, паветы».*

Заможныя і ўплывовыя магнаты мелі прыватнае войска (так

званыя «надворныя харугвы»), з дапамогай якога вялі паміж сабой барацьбу за ўплыў у дзяржаве. Іх землі вартавалі шматлікія замкі-крэпасці, нярэдка больш сучасныя і ўмацаваныя, чым дзяржаўныя. Эканамічна адасобленыя ўладанні ўяўлялі своеасаблівыя «дзяржавы ў дзяржаве». У іх заможныя «крулявяты» карысталіся неабмежаванай уладай, ўводзілі ўласныя законы, вялі прыватныя войны, праводзілі ўласную замежную палітыку, арганізоўвалі выправы за межы дзяржавы, падпарадкоўвалі сабе шляхту. Вага магната ў палітычным жыцці вызначалася колькасцю прыхільных да яго шляхцічаў. Вакол магната згуртоўвалася шляхта, якая шукала пратэкцыі, абароны свайго жыцця і маёмасці і служыла яму ў латыфундыях і ў прыватным войску. У XVII і XVIII ст. магнатэрыя стала рашаючай сілай у краіне, яна фактычна кіравала дзяржавай ці, дакладней, сваімі непамернымі амбіцыямі вяла яе да скону. У сваіх бойках за першынство яны ўсё часцей звяртаюцца за падтрымкай да іншаземных дзяржаў.

У канцы XVII — пачатку XVIII ст. амбіцыі магнацкіх родаў у ВКЛ даходзяць да ўзброенага саперніцтва, перарастаюць у грамадзянскія войны. У маі 1655 г. Багуслаў Радзівіл прапанаваў курфюрсту Брандэнбурга пратэктарат над ВКЛ, а ў жніўні 1655 г., у час польска-шведскай вайны, перайшоў на бок шведаў і падпісаў дагавор аб уніі ВКЛ са Швецыяй, за што атрымаў ад шведскага караля шмат грошаў. У наступным годзе Радзівіл здрадзіў шведам і стаў генерал-губернатарам герцагства Прусіі. У 1662 г. ён ужо прапаноўваў свае паслугі Францыі супраць курфюрста пры ўмове, што яму больш заплацяць.

Каралеўская ўлада імкнулася не дапусціць умацавання Радзівілаў. У процілегласць ім Ян Казімір падтрымліваў Вінцэнта Корвіна Гансеўскага, Паўла Сапегу, Пацаў. У 60-х і першай палове 70-х гадоў XVII ст. у Беларусі найбольшага палітычнага ўплыву ў ВКЛ дамагліся Пацы — кіраўнікі шляхецкай прааўстрыйскай групоўкі.

Пасля выбрання каралём Яна Сабескага **(1674 Г)**, аднаго з кіраўнікоў прафранцузскай партыі, Пацы ўзначалілі апазіцыю каралю ў ВКЛ. Яны атрымлівалі грашовыя субсідыі ад Аўстрыі і Брандэнбурга, наладзілі сувязі з Расіяй. Кароль падтрымаў сем'і Сапегаў і Агінскіх, якія выступалі супраць Паца. Гэта саперніцтва

закончылася перамогай Сапегаў у першай палове 80-х гадоў. Яны атрымалі ад караля высокія пасады ў дзяржаве. Латыфундыі гэтай сям'і размяшчаліся на Беларусі, Жамойціі, Украіне, прыносілі ёй вялізныя прыбыткі і забяспечвалі значны палітычны ўплыў у вышэйшых органах дзяржаўнай улады. Яны ўплывалі на рашэнні з'ездаў шляхты, пастановы мясцовых соймікаў. Законы ВКЛ і судовыя органы ыярэдка былі бяссільнымі перад іх свавольствам. Умацаваўшы сваё становішча, Сапегі выступілі супраць караля, маючы намер стаць на чале самастойнай Літоўскай дзяржавы.

Між тым у асяроддзі літвінскай шляхты і буйнейшых магнатаў — Радзівілаў, Пацаў, Агінскіх — расла незадаволенасць усеўладствам і злоўжываннямі Сапегаў. У 1696 г. супраць іх пачалася адкрытая барацьба большай часткі літвінскай шляхты. Ёй удалося дамагчыся на канфедэрацыйным сойме 1696 г. канчатковага ўраўнавання сваіх правоў з польскай шляхтай адносна узмацнення кантролю над дзейнасцю службовых асоб.

У тым жа годзе памёр кароль Рэчы Паспалітай Ян III Сабескі. Выбары новага караля заўжды суправаджаліся вострай палітычнай барацьбой. Суседнія дзяржавы імкнуліся падтрымаць выгадную для сябе кандыдатуру і часта дзейнічалі пры гэтым сілавымі метадамі. Пётр I, каб падтрымаць свайго саюзніка — саксонскага курфюрста Фрыдрыха-Аўгуста II і яго прыхільнікаў, накіраваў да межаў Рэчы Паспалітай армію пад камандаваннем князя Рамаданоўскага.

У 1697 г. каралеўскую і княжацкую пасаду заняў Фрыдрых-Аўгуст II (1697—1733). Ён імкнуўся прымірыць варожыя бакі. Каранацыйны сойм 1697 г. пацвердзіў ураўнаванне правоў літвінскай і польскай шляхты. Тым не менш, канфлікт паміж Сапегамі і большай часткай шляхты ВКЛ, на чале якой стаялі Грыгорый Агінскі і Вішнявецкія, набыў характар грамадзянскай вайны.

Канфлікт паміж Сапегамі і іх праціўнікамі ў канцы 1690-х гадоў нельга разглядаць толькі як барацьбу магнацкіх груповак за ўладу ў ВКЛ. Сутнасць гэтага канфлікту заключалася ў спробе сапегаўскага дома на чале з вялікім гетманам Янам Казімірам (1637—1720) і падскарбіем Бенядзіктам Сапегамі разарваць унію з Польшчай і дамагчыся незалежнасці княства. Сапегі нават рас-

пачалі перамовы з аўстрыйскім імператарам і іншымі манархамі Еўропы, шукалі падтрымкі ў справе аддзялення ВКЛ. Абодва бакі выкарыстоўвалі шляхту (а Сапегі яшчэ і сялянства) у сваіх інтарэсах, абапіраліся на сілу і маніпулявалі лозунгам абароны «шляхецкіх вольнасцяў».

Супрацьстаянне дзвюх партый дасягнула апагею ў 1700 г. У **лістападзе 1700 г.** пад Алькенікамі (паблізу Вільні) адбылася вырашальная бітва. Атрады шляхты разграмілі войска імкнуўшыхся да неабмежаванай улады ў ВКЛ Сапегаў. Пасля чаго многія іх уладанні былі разрабаваны, канфіскаваны і раздадзены іншым феадалам. Палітычны ўплыў Сапегаў, пазбаўленых усіх дзяржаўных пасад, аслабеў. Яны вымушаны былі пакінуць краіну і шукаць заступніцтва ў шведскага караля Карла XII. Гэта скарыстаў Аўгуст, каб умацаваць сваю ўладу ў ВКЛ. Яго прыхільнікі на чале з Агінскім выставілі праект аддзялення ВКЛ ад Польшчы і стварэння з княства спадчыннай манархіі для Аўгуста ІІ і яго нашчадкаў. Для гэтага ў Беларусь і Жамойцію былі ўведзены саксонскія войскі Аўгуста ІІ быццам бы дзеля аховы гэтых зямель ад шведскага нашэсця. Курфюрст саксонскі Аўгуст ІІ заключыў саюз з Расіяй і Даніяй і сумесна з імі пачаў вайну супраць Швецыі. Гэты саюз атрымаў назву Паўночнага.

Грамадзянскую вайну, якая запалала ў ВКЛ, не маглі не скарыстаць суседзі. Шведскі кароль, абвясціўшы сябе абаронцам правоў Сапегаў, рушыў свае войскі ў межы ВКЛ. Ворагі апальнага вялікага гетмана літоўскага схіліліся да Расіі. Разумеючы, што гэтым яны падтрымліваюць Аўгуста II, і баючыся ягоных абсалютысцкіх памкненняў, пачалі рабіць захады адарваць ВКЛ ад Кароны. З гэтай мэтай праціўнікі Сапегаў пачалі выступаць як «Рэч Паспалітая Літоўская». Вясной 1702 г. яны заключылі дамову з Масквой, паводле якой фактычна аддавалі сваю дзяржаву пад пратэктарат цара, атрымлівалі ад яго вайсковую і грашовую дапамогу і згаджаліся ўпусціць рэгулярнае расійскае войска на сваю тэрыторыю.

**Такім чынам, да пачатку XVIII ст. ВКЛ, як і Рэч Паспалітая ў цэлым, прыйшло слабым эканамічна, з унутранымі супярэчнасцямі, крайне дэцэнтралізаваным.**

## БЕЛАРУСЬ У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVIII ст.

- *Беларусь у Паўночнай вайне.*
- *Эканамічнае становішча і сацыяльныя супярэчнасці.*
- *Паглыбленне палітычнага крызісу.*

### Беларусь у Паўночнай вайне

У канцы XVII ст. на поўначы Еўропы склаліся эканамічныя і палітычныя перадумовы для перадзелу сфер уплыву паміж вядучымі дзяржавамі рэгіёну. Скарыстаўшы ўнутранае аслабленне Швецыі, Расія, Саксонія і Данія ўтварылі кааліцыю пад назвай "Паўночны саюз" (адсюль і назва вайны **1700—1721 гг.**), даспрабавалі захапіць частку яе ўладанняў у балтыйскім рэгіёне.

У жаданні вярнуць Лівонію, страчаную Рэччу Паспалітай паводле Аліўскага міру 1660 г. на карысць Швецыі, Аўгуст II у **1700 г.** у саюзе з Даніяй і Расіяй выступіў супраць Швецыі. Расія ў Паўночнай вайне імкнулася заваяваць землі, якія былі захоплены Швецыяй у пачатку XVII ст. і зачынялі ёй выхад у Балтыйскае мора.

Паўночная вайна 1700—1721 гг. пачалася няўдала для саюзнікаў. Шведская армія, на чале якой стаяў Карл XII, у 1700—1701 гг. прымусіла капітуляваць Данію, пад Нарвай атрымала перамогу над расійскай арміяй, пад Рыгай разбіла саксонскае войска Аўгуста II і ў пачатку 1702 г. уступіла на тэрыторыю ВКЛ. Беларусь зноў стала арэнай ваенных дзеянняў. Падчас Паўночнай вайны ВКЛ, бадай, у апошні раз выступіла ў якасці самастойнага фактару еўрапейскай палітыкі. У 1702—1703 гг. паміж ім і Расіяй было падпісана тры міждзяржаўныя пагадненні аб сумесных дзеяннях супраць Швецыі. Расія імкнулася выкарыстаць антышведскія настроі шляхты, каб уцягнуць Рэч Паспалітую ў вайну, надоўга затрымаць шведскія войскі на яе тэрыторыі, што дало б магчымасць лепш падрыхтавацца да вайны. Расійскі ўрад абяцаў ваенную і фінансавую дапамогу і нават распрацоўваў праект пераходу ВКЛ пад вярхоўную ўладу цара.

Грамадства ВКЛ раскалолася на праціўнікаў і прыхільнікаў шведаў. У гэты ж час у дзяржаве разгарэлася "магнацкая" вайна за

ўладу паміж Сапегамі, Агінскімі, Вішнявецкімі і Радзівіламі. Сапегі шукалі падтрымку ў Карла XII, а прадстаўнікі антысапегаўскай шляхецкай партыі (Агінскія і Вішнявецкія) дамаўляліся з Пятром I. Прыклад палітычнай беспрынцыповасці паказаў кароль Аўгуст II. Ён кідаўся то да Пятра I, то, здрадзіўшы яму, да Карла XII. У імкненні заключыць сепаратны мір са Швецыяй, ён не спыняўся нават перад магчымасцю частковага падзелу Рэчы Паспалітай. Шведскі кароль лічыў Аўгуста II несумленным палітыкам і задумаў лішыць яго каралеўскай пасады. Кандыдата ў каралі шукалі нядоўга. У 1704 г. шляхта на чале з апальнымі Сапегамі, якая непрыязна ставілася да Аўгуста II, пры падтрымцы шведскіх штыкоў абрала новым манархам ваяводу Станіслава Ляшчынскага.

У тым жа **1704 г.** стварылася Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II. Яна вырашыла зноў заключыць саюз з Расіяй і аб'явіць вайну Швецыі. У **Рэчы Паспалітай утварылася двоеўладдзе**: адны падтрымлівалі Фрыдрыха-Аўгуста II, другія — Станіслава Ляшчынскага. Чарговая канфрантацыя вяла да трагедыі — прыцягнення знешніх сіл для вырашэння ўнутраных супярэчнасцей.

Восенню 1704 г. у Беларусь уступіла амаль 60-тысячнае расійскае войска пад камандаваннем Рапніна, усе выдаткі па ўтрыманні яго неслі мясцовыя жыхары. Расійская армія ачысціла тэрыторыю ВКЛ ад шведскЬс войскаў і атрадаў Сапегі. Шведы перайшлі Нёман, разбурылі ваколіцы Гародні. Па беларускай зямлі пачаў гуляць смерч спусташэння. Кэч Паспалітая ператварылася «ў заезжы двор і карчму» для чужаземных войскаў, якія зводзілі рахункі паміж сабою і нішчылі край. Так, вядомы загад Пятра I, паводле якога патрабавалася «... *везде провиант и фураж, тако ж хлеб стоячий в поле и в гумнах или в житницах по деревням ... жечь, не жалея и строения... уничтожать мосты, мельницы, а жителей со скотом переселять в леса».*

Не лепшае было стаўленне і з боку шведаў. Загад Карла XII прадугледжваў: *«Кантрыбуцыю спаганяць агнём і мячом. Хутчэй хай пацерпіць невінаваты, чым выслізьне вінаваты... Было б найлепей, каб усе гэтыя мясціны былі панішчаны рабункамі і пажарамі і каб усе, хто там жыве, вінаватыя ці невінаватыя, былі знішчаны».*

Грамадзянская вайна падзяліла краіну на два варожыя лагеры і паставіла яе на мяжу выжывання. Пасол Расіі ў Рэчы Паспалітай пісаў: *«Бог ведае, як можа стаяць Польская Рэспубліка: уся ад непрыяцеля і ад міжусобнай вайны разрабаваная ўшчэнт, і апроч учынкаў сабе на зло, іншага рабіць нічога на карысць не хочуць».*

Да лета 1705 г. расійскае войска было сканцэнтравана каля Полацка. У пачатку чэрвеня 60-тысячная армія пад камандаваннем Агільві размясцілася ў Гародні, дзе трапіла ў акружэнне і ледзь не была знішчана шведамі.

Амаль увесь 1706 г. на Беларусі гаспадарылі шведы і саюзныя ім магнаты Рэчы Паспалітай. Цяпер ужо яны мэтанакіравана спусташалі гарады і маёнткі прыхільнікаў караля Аўгуста II і Пятра I. Былі спалены Мір, Карэлічы, Нясвіж, Ляхавічы, разрабаваны Гародня, Наваградак, Клецк, Пінск.

Восенню 1706 г. Карл XII уварваўся ў Саксонію і пасля шэрагу перамог прымусіў Аўгуста II падпісаць Альтранштадскі (па назве мястэчка каля Лейпцыга) мір, якім той адмаўляўся ад кароны Рэчы Паспалітай і разрываў саюз Саксоніі з Расіяй. Гэта ўмацоўвала пазіцыі Станіслава Ляшчынскага ў Рэчы Паспалітай. Пецярбург добра ўсведамляў небяспеку, якая крылася для яго ў гэтым міры — пры выхадзе з вайны Рэчы Паспалітай ваенныя дзеянні перамясціліся б у Расію з усімі выдаткамі вайны. Пецярбург стаў шукаць кандыдата на трон Рэчы Паспалітай і ВКЛ. Але дыпламатычная мітусня вакол каралеўскай кароны поспеху не мела. Мір са Швецыяй Аўгуст П заключыў тайна ад Расіі і ў той час тайна ад Карла XII імкнуўся захаваць саюз з Пятром I. З улікам жадання Аўгуста II зноў сесці на трон удзельнікі Сандамірскай канфедэрацыі па ўказцы Расіі выступілі супраць умоў Альтранштадскага міру.

Беларусь зноў ацынулася ў цэнтры ваенных падзей. 35-тысячнае войска Карла XII наступала праз Гародню, Смаргонь, Мінск. Расійскае войска (каля 57 тыс.) адыходзіла на ўсход. Разам з ім адступалі аддзелы Р. Агінскага. Корпус Я. Сапегі наступаў разам з Карлам. Адступленне суправаджалася спусташэннем. Па загаду Пятра I былі спалены Мсціслаў, Орша, Віцебск, Магілёў; спецыяльныя атрады знішчалі харчовыя і фуражныя запасы. Рабілася гэта свядома, каб пазбавіць шведскае войска запасаў.

На працягу амаль усяго папярэдняга Палтаўскай бітве перыяду вайны тэрыторыя Беларусі была асноўным тэатрам ваенных падзей і базай забеспячэння як рускага, так і шведскага войска, а таксама войска Рэчы Паспалітай. За кошт мясцовага насельніцтва яны забяспечвалі свае патрэбы ў правіянце, фуражы, транспарце. Збор кантрыбуцый суправаджаўся свавольствам і рэпрэсіямі. У выпадку нявыплаты яе ў тэрмін накіроўваліся ўзброеныя атрады для "экзекуцыі" — прымусовага спагнання.

Па меры прасоўвання шведскай арміі на ўсход, Пётр адводзіў войска да сваёй мяжы, вымотваў праціўніка, падрываў яго баяздольнасць. Ён хацеў даць рашучы бой на беларускай зямлі. У ліпені каля мястэчка Галаўчын шведы сутыкнуліся з часткай арміі Пятра I і перамаглі. Але ў Карла XII не хапала сіл для галоўнай бітвы. Ён павёў сваю армію на Украіну, дзе спадзяваўся забяспечыць яе прадуктамі, зазімаваць і з дапамогай украінскага гетмана Мазепы пачаць новае наступленне на ўсход.

Для падмацавання шведскай арміі па загаду караля з Рыгі з вялікім абозам (7 тыс. павозак з боепрыпасамі, фуражом, харчаваннем) рухаўся корпус генерала Левенгаупта. Калі корпус уступіў у межы Беларусі, Левенгаупт стварыў спецыяльныя атрады, якія рассылаліся *«наперед и по сторонам, чтобы готовили провиант».* Аднак здабыць яго было не так проста. Варожа настроенае да захопнікаў насельніцтва хавала ўсе харчовыя прыпасы. Каб даведацца, дзе знаходзіцца хлеб, шведы ўжывалі самыя жорсткія катаванні. У пісьме цару ад 3 красавіка 1708 г. Меншыкаў паведамляў: *«Мучают, вешают, жгут мужиков... дабы ямы хлебные показывали".* Левенгаупт *"грабил всех без исключения, не давая никому спуску».*

Расійскае камандаванне вырашыла прапусціць войска Карла XII далей, у глыб Украіны, а тым часам разграміць корпус Левенгаупта і пазбавіць шведскую армію падмацавання. Пётр I таксама накіраваў галоўныя сілы на Украіну, пакінуўшы ў беларускім Падняпроўі 12 тыс. салдат і драгунаў для знішчэння корпуса, які ў выпадку злучэння з асноўнымі сіламі шведскай арміі значна ўзмацніў бы яе людзьмі і боепрыпасамі. Тры месяцы руская разведка сачыла за рухам корпуса ад Рыгі да ўсходніх межаў ВКЛ. **28 верасня 1708 г.** пад вёскай Лясная каля Прапойску (Слаўгарад) руская

армія атакавала шведаў і ў жорсткай бітве разграміла корпус. Ён страціў 9 тыс. чалавек забітымі, каля тысячы палоннымі, у тым ліку 45 афіцэраў. Былі ўзяты ўвесь абоз праціўніка з вялікімі запасамі прадуктаў і боепрыпасаў, уся артылерыя. Перамога была дасягнута меншымі сіламі: рускія страцілі 1111 чалавек забітымі і 2856 параненымі.

Бітва ля Лясной была першай буйной перамогай рэгулярнай рускай арміі, створанай у выніку ваенных рэформаў Пятра пачатку XVIII ст. Разгром корпуса Левенгаупта пагоршыў становішча асноўнай арміі Карла XII. Левенгаупт прыйшоў да Карла XII без зброі і харчу — прывёў да караля толькі 5 тыс. змучаных і галодных салдат. Страціўшы пад Лясной увесь абоз з боепрыпасамі, шведы ў Палтаўскай бітве змаглі выставіць толькі чатыры гарматы. Астатняя артылерыя не магла быць выкарыстана з-за адсутнасці пораху і снарадаў.

Разгром шведаў пад Палтавай **(27 чэрвеня 1709 г.)** рэзка памяняў палітычную сітуацыю ў краіне. Расійскае войска і сандамірскія канфедэраты ачысцілі ад шведаў і іх прыхільнікаў Беларусь, Жамойцію і Польшчу, ваенныя дзеянні перакінуліся на тэрыторыю Швецыі і ішлі далей пры поўнай перавазе Расіі. Трон Рэчы Паспалітай пры падтрымцы саксонскага войска зноў заняў Аўгуст II, прыхільнік цара Пятра, які разам з прускім каралём устанавіў над Рэччу Паспалітай палітычны кантроль. Шляхта, зняверанная ў былым манарху, усё ж пагадзілася аднавіць яго на пасадзе. Пачаўся масавы пераход прыхільнікаў СЛяшчынскага ў лагер сандаміранаў. Атрымаўшы звесткі пра Палтаўскую бітву, найвышэйшы літоўскі гетман Ян Сапега спыніў ваенныя дзеянні. Ён паведаміў фельдмаршалу Б. Шарамецеву пра сваё рашэнне перайсці на бок Расіі і прасіў аб амністыі ў цара Пятра. Амністыю ён атрымаў, а 11 лістапада 1709 г. рускі генерал Я. Палонскі і новы найвышэйшы гетман — стаўленік Расіі Людвіг Пацей, уплыў якога моцна ўзрос падчас Паўночнай вайны, каля Бярэсця прынялі капітуляцыю 15-тысячнага войска Сапегі. Хоць межы Рэчы Паспалітай пасля Паўночнай вайны засталіся некранутымі, але яна згубіла свой суверэнітэт і ўсё больш пападала ў залежнасць ад палітыкі расійскага манарха.

Варшаўскі сойм 1710 г. зноў зацвердзіў Фрыдрыха-Аўгуста II каралём Рэчы Паспалітай. Тады ж быў канчаткова ратыфікаваны мірны дагавор 1686 г. з Расіяй. Гэта сведчыла аб рэзкім узмацненні яе ўплыву на ўнуграныя справы дзяржавы. У шэрагу гарадоў, у тым ліку ў Полацку і Быхаве, былі размешчаны расійскія гарнізоны. У Расію вывозіліся рамеснікі і моладзь. Царскі вяльможа А. Меншыкаў ад свайго імя раздаваў пасады і маёнткі прыхільнікам Пятра I.

Аўгуст II, які даўно марыў аб абсалютнай манархіі, пачаў умацоўваць каралеўскую ўладу. Яго апорай у гэтай справе была саксонская армія, што знаходзілася ў краіне, рабавала і спусташала яе. Прыхільнікі *«залатой шляхецкай вольнасці»* на чале з вялікім гетманам літоўскім Людвігам Пацеем, які фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках уладу ў Вялікім княстве, выступілі супраць палітыкі цэнтралізацыі. Пацея падтрымлівалі Агінскія і іншыя магнаты, Аўгуста II — Расія і Прусія. 23 сакавіка 1716 г. у Вільні была створана канфедэрацыя літвінскай шляхты на чале з ашмянскім харужым К. Сулістроўскім, якая выступіла супраць моцнай каралеўскай улады. Пётр I зноў выкарыстаў унутраны канфлікт у Рэчы Паспалітай і павялічыў там свае гарнізоны. У 1717 г. на "нямым" сойме (пастановы на ім прымаліся без абмеркавання), ён прадыктаваў умовы прымірэння караля з канфедэратамі. Паводле гэтага пагаднення. абмяжоўвалася ўлада гетманаў, скарачалася войска (польскае — да 18 тыс, Вялікага княства Літоўскага — да 6 тыс. салдат), заставалася славутае «liberum veto». Абараніць незалежнасць дзяржавы такая армія не магла, асабліва калі ўлічыць, што Расія мела 350 тыс. салдат, Аўстрыя — 280 тыс, Прусія — 200 тыс. Гэтыя краіны ўплывалі не толькі на знешнюю, але і на ўнутраную палітыку Рэчы Паспалітай

З часоў Паўночнай вайны Расія паступова ўзяла пад свой кантроль знешнюю і ўнутраную палітыку Рэчы Паспалітай. Аўгуст II усё больш адчуваў цяжар жалезнай рукі суседняга манарха і пачаў рабіць захады па вываду расійскага войска і адраджэнню незалежнасці краіны. Ён знайшоў падтрымку ў Англіі і Аўстрыі. Але Расія і яе крэатура, прадстаўнікамі якой у ВКЛ былі перш за ўсё Людвіг Пацей і Станіслаў Дэнгоф, сарвалі гэтыя намеры.

Зацікаўленыя ў захаванні безуладдзя і анархіі пад прыкрыццём аховы і гарантавання "шляхецкіх вольнасцяў" Расія і Прусія ў 1720 г. абавязаліся ўтрымліваць існуючы ў Рэчы Паспалітай лад. У 1726 г. да іх далучылася Аўстрыя. Гэта сведчыла пра глыбіню ўпадку Рэчы Паспалітай, калі іншыя дзяржавы бралі на сябе ролю суддзяў гэтай краіны.

У 1733 г. Аўгуст II памёр. На элекцыйным сойме пераважная большасць шляхты абрала каралём Станіслава Ляшчынскага. Але яго кандыдатура на троне Рэчы Паспалітай ніяк не задавальняла суседнія дзяржавы. Сюды былі ўведзены 30-тысячны расійскі корпус і саксонская армія, якія разам з нешматлікай апазіцыяй пасадзілі на трон Аўгуста III, сына памёршага караля. Гвалтоўнае, з дапамогай чужаземных войскаў, каранаванне, ужо не было новым. для краіны.

Такім чынам, **Расія пасля перамогі ў Паўночнай вайне набыла рашаючы ўплыў на ўнутраныя справы ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Дзейнасць іх дзяржаўных інстытутаў была амаль поўнасцю паралізавана.**

### Эканамічнае становішча і сацыяльныя супярэчнасці

Гаспадарчы заняпад беларускіх зямель у другой палове XVII - першай палове XVIII ст. быў выкліканы шматлікімі войнамі. Падлічана, што з 70 гадоў гісторыі Рэчы Паспалітай (1648—1718) 65 прыходзіцца на ваенныя гады. Першая паласа войнаў, што з вялікай разбуральнай сілай пракаціліся па Беларусі, цягнулася з 1648 па 1667 гг. і прынесла вялікія спусташэнні і людскія страты. Дзеянні казацкіх «загонаў», выступленні гараджан, а потым тэрор 1648—1653 гг. прывялі насельніцтва і эканоміку да разарэння. Цяжкасці, выкліканыя падзеямі 40-х гадоў XVII ст., былі толькі пачаткам тых незлічоных бед і нястач, якія давялося перажыць беларускаму народу ў сувязі з распачатай у 1654 г. вайной паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, а потым і Швецыяй (1655—1660 гг.). На працягу 10 гадоў на тэрыторыі Беларусі праходзілі асноўныя баявыя дзеянні вайны. З самага пачатку XVIII ст. Беларусь зноў стала ахвярай інтэрвенцыі.

Паўночная вайна зруйнавала Рэч Паспалітую, асабліва яе ўсход-

нія рэгіёны. Яна была адной з найбольш драматычных старонак беларускай гісторыі. Вялікае княства Літоўскае было адкінута на дзесяткі гадоў назад у сваім гаспадарчым развіцці. Ваенныя дзеянні, грабяжы, пастоі войскаў, непасільныя кантрыбуцыі давялі Беларусь да страшнага спусташэння, нанеслі вялікі ўрон яе эканоміцы. Сотні населеных пунктаў ляжалі ў руінах. Былі спалены Нясвіж, Ляхавічы, Магілёў, Віцебск, Мсціслаў і шмат іншых гарадоў. *«Гарады Бярэсце, Кобрын, Гарадзец цалкам разбураны, дамы спалены, людзі вымерлі, другія разышліся»,* — адзначалася ў інвентары 1712 г. Берасцейскай і Кобрынскай эканомій. Тыповай карцінай зноў сталі неапрацаваныя палі, абязлюдныя сядзібы і вёскі. Было закінута 60—70% пасяўных плошчаў, знішчана каля паловы рабочай жывёлы, зніклі цэлыя вёскі. Шклоўскае графства, напрыклад, страціла 86,4% свайго насельніцтва. На 43% зменшылася колькасць сялянскіх гаспадарак у Копыскім графстве. У Крычаўскім старостве ў 1712 г. пуставала 73% ворных валок, у Гарадзенскай эканоміі — амаль тры чвэрці сялянскіх ворных зямель. Удары, што абрушыліся на Беларусь, былі асабліва адчувальнымі яшчэ і таму, што яе гаспадарка не паспела адысці ад упадку другой паловы XVII ст.

Ваенныя спусташэнні ўзмацніліся засухай, што спасцігла сельскую гаспадарку. Вялікім цяжарам для разрабаванага і збяднелага народа была эпідэмія, якая лютавала з 1708 па 1711 гг. і выклікала вялікую смяротнасць. У Наваградку пасля яе засталася толькі палова жыхароў. Эпідэмія ў Гародні ў 1710 г. прыняла такія памеры, што "ўвесь горад застаўся пустым".

Паўночная вайна падарвала гаспадарчы і дэмаграфічны патэнцыял Беларусі. Сельская гаспадарка, гарады, рамяство, гандаль прыйшлі ў глыбокі заняпад. Вялікай цаной заплаціў беларускі народ у гэтай вайне. Агульныя страты насельніцтва склалі каля 30%, а гэта больш за 700 тыс. чалавек (за гады вайны яго колькасць знізілася з 2,2 млн. да 1,5 млн. чалавек).

Ваеннае ліхалецце адышло і самаахвярнай працай беларускі народ стаў адраджаць разбураную гаспадарку. За 30 — 40 пасляваенных гадоў насельніцтва амаль падвоілася, а да 1791 г. павялічылася да 3,6 млн. чалавек. Запусцелыя нівы ў значнай меры былі закультываваны, у два разы вырасла пагалоўе хатняй жывёлы.

Пануючы клас, імкнучыся хутчэй адрадзіць сваю гаспадарку, а з ёю і даходы, вымушаны быў некалькі паслабіць эксплуатацыю сялян, а ў шэрагу выпадкаў даваць ім ільготы, вызваляць ад усіх ці некаторых павіннасцей і нярэдка нават дапамагаць жывёлай, збожжам, лесам, грашыма і г.д.

Працэс аднаўлення сельскай гаспадаркі Беларусі ішоў павольна. Пасля заканчэння ваенных дзеянняў феадалам прыходзілася рабіць выбар: ці аднаўляць разбураныя фальваркі і захоўваць паншчыну, ці раздаць зямлю сялянам і абмежавацца грашовым і натуральным чыншам. У каралеўскіх эканоміях быў абраны другі шлях, паколькі казна не мела сродкаў для аднаўлення гаспадаркі. Вызваленыя ад паншчыны сяляне змаглі адрадзіць сельскую гаспадарку. Да 40-х гадоў XVIII ст. пустэчы ў гэтых валоданнях скараціліся напалову. Абапіраючыся на ўзмацнеўшую вёску, каралеўская казна ў сярэдзіне стагоддзя зноў пачала пашыраць фальваркова-паншчынную гаспадарку.

Але большасць феадалаў-вотчыннікаў пайшлі іншым шляхам. Яны імкнуліся па магчымасці захаваць фальваркі. Больш за ўсё ў гэтым была зацікаўлена сярэдне- і дробнапамесная шляхта, для якой панская зямля была сродкам існавання, а гаспадаранне ў маёнтку (фальварку) — свайго роду прафесіяй. Яна сама кіравала маёнткамі і не несла выдаткаў на адміністрацыю. Ураджай, сабраны пад яе доглядам, перавышаў тыя даходы, якія мог бы даць чынш з нешматлікіх сялянскіх двароў. Аднак не ўсе дробныя землеўладальнікі здолелі захаваць фальваркі і аднавіць гаспадарку. Некаторыя з іх страцілі прыгонных, не мелі сродкаў для найму рабочай сілы, былі вымушаны пазбавіцца фальварка і перайшлі на службу да магнатаў.

Магнацкія вотчыны заходніх і цэнтральных раёнаў Беларусі менш пацярпелі ад войнаў, чым каралеўскія ўладанні і маёнткі дробнай шляхты. Праўда, у шмат якіх маёнтках Радзівіла (Давыд-Гарадок, Смаргонь, Астроўчыцы) колькасць фальваркаў скарацілася, паменшылася і барская запашка. Захаваць фальварковую сістэму і аднавіць гаспадарку ў заходніх і цэнтральных вотчынах магнатам было лягчэй. Іх валоданні былі раскіданы ў розных раёнах і неаднолькава пацярпелі ад войнаў. Магнаты мелі магчымасць падтрымліваць адзін маёнтак за кошт другога.

Працэс аднаўлення царкоўньгх уладанняў ішоў па адным з вышэйназваных напрамкаў у залежнасці ад канкрэтных умоў.

У асобым становішчы знаходзіліся раёны Падняпроўя і Падзвіння, дзе фальваркова-паншчынная сістэма да сярэдзіны XVII ст. прыжылася слаба. Спусташэнне, зразумела, не садзейнічала яе развіццю. Фальваркі, якія ўзніклі раней у некаторых валоданнях, былі ліквідаваны ці захаваліся ў мінімальных памерах. Фальваркова-паншчынная сістэма гаспадарання, традыцыйна распаўсюджаная на захадзе Беларусі, у XVIII ст. усё больш інтэнсіўна ўводзіцца на ўсходзе.

У 30—40-я гады XVIII ст. працэс аднаўлення фальваркаў стаў больш прыкметным. Разам з традыцыйнымі культурамі (жыта, пшаніца, авёс, ячмень, гарох, боб, грэчка, проса, лён і каноплі) некаторыя феадалы сталі больш сеяць ільну і канапель, на якія быў павялічаны попыт на рынку.

Недахоп рабочых рук абумовіў зніжэнне якасці апрацоўкі глебы, а малая колькасць хатняй жывёлы абмежавала магчымасць угнойвання палёў. У сувязі з гэтым ураджайнасць была невысокай. У сярэдзіне XVIII ст. ураджай не перавышаў сам-2,5 — сам-3. Агратэхніка ўдасканальвалася марудна.

У другой палове XVIII ст. землеўладальнікі шукалі шляхі павелічэння даходнасці маёнткаў. Для гэтага некаторыя магнаты пачалі выдаваць падрабязныя інструкцыі сваім эканомам. Пачаўся працэс рацыяналізацыі памешчыцкай гаспадаркі. Спачатку ён закрануў толькі асобныя латыфундыі, але ў далейшым пачаў уплываць і на сярэднюю шляхту.

Пераважная частка прадукцыі, выраблекай у фальварках, выкарыстоўвалася на месцы. У дробных валоданнях гэта было абумоўлена малымі маштабамі вытворчасці пры нізкай ураджайнасці, у магнацкіх латыфундыях — вялікімі выдаткамі на ўтрыманне двара. прыватнага войска і фальварковай адміністрацыі. Частка прадукцыі прызначалася для збыту. Войны, якія вяла Рэч Паспалітая ў сярэдзіне XVII — пачатку XVIII ст., на працяглы час паралізавалі вываз сельскагаспадарчай прадукцыі за мяжу і падарвалі ўнутраны гандаль. Не заўсёды спрыяльна складалася экспартная кан'юнктура і ў мірныя гады. Попыт на прывазное збожжа на рынках Заходняй Еў-

ропы паменшыўся ў сувязі з хуткім развіццём там сельскай гаспадаркі. Тым не менш экспарт збожжа з Беларусі не перапыняўся.

Буйныя феадалы арыентаваліся ў першую чаргу на замежны рынак. Сярэднія і дробныя землеўладальнікі прадавалі збожжа пераважна на месцы, у гарадах і мястэчках, таму што наймаць рачныя судны для невялікіх партый збожжа было нявыгадна.

Значную ролю ў паменшай гаспадарцы адыгрывалі лясныя промыслы. Лес і лесаматэрыялы сплаўлялі ў Рыгу, Кенігсберг, Гданьск. Сплаў лесу быў звязаны з першапачатковай апрацоўкай дрэва. Таму ў некаторых маёнтках, асабліва ў раёнах сплаву, былі піларэзкі. Шырока была развіта вытворчасць попелу, паташу. У тых маёнтках, дзе былі вялікія лясныя масівы, меліся смалакурні.

У многіх маёнтках Беларусі яшчэ да сярэдзіны XVII ст. былі заснаваны дробныя прамысловыя прадпрыемствы феадалаў. У перыяд войнаў і разрухі частка з іх зачынілася. Пачынаючы з 30-х гадоў XVIII ст. іх колькасць зноў пачала хутка павялічвацца. Гзта былі прадпрыемствы па здабычы руды і выплаўцы жалеза (так званыя рудні), маслабойні, паперні (майстэрні, дзе выраблялі паперу).

Важнае эканамічнае значэнне мела вінакурэнне. Феадалы шырока выкарыстоўвалі манапольнае права на выраб і продаж гарэлкі падуладнаму ад іх насельніцтву ("права прапінацыі"). Яны перараблялі на гарэлку і піва значную частку збожжа, пазбаўляючыся тым самым ад рызыкі, звязанай з ваганнямі попыту і рынкавых цэнаў на зерне. Спіртныя напіткі рэалізоўваліся галоўным чынам у мясцовых карчмах. У некаторых маёнтках у першай палове XVIII ст. у выніку рэалізацыі збожжа ці гарэлкі была дасягнута значная ступень таварнасці.

І ў другой палове XVIII ст. многія работы ў маёнтках выконвалі па-ранейшаму прыгонныя рамеснікі, якія жылі ў вёсках і, акрамя рамяства, займаліся земляробствам. Для прыгоннага рамесніка, які карыстаўся зямельным надзелам, заказы панскага двара замянялі паншчыну. Яго прымусовая праца была малапрадукцыйнай, а кваліфікацыя нізкай. Але ўжо ў 30—40-я гады стагоддзя ў сувязі з развіццём вотчыннага прадпрымальніцтва і будаўніцтва, з ростам асабістых патрэб магнатаў і шляхты вырабы прыгонных рамеснікаў перасталі задавальняць феадалаў. Яны ўсё часцей наймалі больш

кваліфікаваных вольных майстроў. У XVIII ст. рамеснікаў на вёсцы стала менш, што было абумоўлена паглыбленнем падзелу працы паміж горадам і вёскай.

Разарэнне вёскі ў першай палове XVIII ст. вымушала некаторую частку феадалаў часцей, чым у папярэдні перыяд, звяртацца да найму. У гады спусташэнняў ворныя плошчы скарацiліся. У далейшым, шляхам упартай працы і абмежавання сваіх патрэб, выкарыстоўваючы часовыя льготы, якія вымушаны былі даваць феадалы, сяляне пастутова назапашвалі сродкі для вядзення гаспадаркі і зноў пашыралі пасяўныя плошчы, асвойвалі пустэчы.

У перыяды найбольшага спусташэння ў сялянскіх гаспадарках значна скарачалася колькасць рабочай жывёлы. У другой чвэрці XVIII ст. сялянства аднавіла страты. Сяляне разводзілі коней, кароў, авечак, коз, свіней, кур, гусей, качак, якімі плацілі натуральны чынш, займаліся пчалярствам. На Палессі, у Падзвінні, у раёне Белавежскай пушчы істотнае значэнне мелі паляўніцтва і бортніцтва.

Упартай працай беларускіх сялян да 70-х гадоў XVIII ст. сельская гаспадарка была адноўлена. Яе аднаўленне суправаджалася ўзмацненнем феадальнай эксплуатацыі. Другая палова XVIII ст. з'явілася часам найвышэйшага развіцця фальваркова-паншчыннай сістэмы, што, у сваю чаргу, значна павялічыла адпрацовачную рэнту. У сярэдзіне XVIII ст. штотыднёвая паншчына павялічылася з 6—8 дзён да 8—12 дзён (мужчынскіх і жаночых) з цяглай валокі. За ўхіленне ад паншчыны, за непакорнасць сялян білі бізунамі, закоўвалі ў кайданы і кідалі ў турмы. Нярэдкімі былі выпадкі, калі сяляне гінулі ад пабояў і здзекаў. Як сцвярджае гісторык П. Лойка, з другой паловы XVI па другую палову XVIII ст. феадальная эксплуатацыя цяглых сялян (што неслі паншчыну) у прыватнаўладальніцкіх маёнтках Беларусі павялічылася прыкладна ў тры разы. Акрамя палявых работ, звязаных з апрацоўкай памешчыцкай зямлі, сяляне выконвалі іншыя павіннасці і плацілі паборы. Усяго існавала прыкладна 120—140 сялянскіх павіннасцей. За кошт сялян жылі і карміліся дзяржава, шляхта, войска, царква.

Частка сялян была амаль цалкам пазбаўлена сродкаў вытворчасці. Некаторыя з іх нават не мелі сваёй хаты і жылі ў іншых

сялян (кутнікі, каморнікі), іншыя будавалі сабе жыллё на чужой сядзібе (халупнікі). Ва ўсходніх раёнах такія збяднелыя сяляне называліся бабылямі. Яны наймаліся на работу на гасподскі двор, да заможных сялян ці займаліся рамяством. Частка іх асядала на зямлі і заводзіла сваю гаспадарку. Узмацненне эксплуатацыі сялянства было галоўнай прычынай нарастання класавай барацьбы ў вёсцы.

Буйнейшым у гісторыі Беларусі феадальнай эпохі было сялянскае паўстанне 1740—1744 гг. у Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяводства, якое знаходзілася ў пажыццёвым валоданні князя Гераніма Радзівіла і здавалася ім у арэнду. Сквапныя арандатары, зацікаўленыя ў тым, каб паспець за вызначаны тэрмін выбіць як мага больш прыбытку, вялі гаспадарку па-драпежніцку, жорстка эксплуатавалі сялян і гарадскую беднату. Паны Валкавіцкія толькі за два гады сабралі з крычаўцаў і паклалі сабе ў кішэню 100 тысяч злотых звыш законньгх падаткаў. Вялікім няшчасцем для крычаўскай зямлі былі таксама пастоі каралеўскага войска, карміць і паіць якіх жыхарам даводзілася за свой кошт. Сяляне скардзіліся князю Гераніму на сваіх крыўдзіцеляў, але той адмахваўся ад іх. Зусім невыносным становішча крычаўцаў стала ў 30-я гады XVIII ст., калі староства было ў арэндзе ў братоў Гдаля і Шмуйлы Іцкавічаў. Жорсткасцю і вынаходлівасцю ў незаконным спагнанні грошай яны перасягнулі ўсіх сваіх папярэднікаў: увялі звышінвентарныя падаткі і паншчыну, рабавалі — раз'язджалі з узброенай вартаю па вёсках і збіралі "падарункі" і "пачастункі", за найменшае непаслушэнства збівалі людзей і не дазвалялі ім скардзіцца. Войта вёскі Селішча Васіля Вашчылу за тое, што ездзіў са скаргамі да Радзівіла ў Нясвіж, аднойчы збілі і кінулі за краты, а другі раз пакаралі 150 бізунамі. Гэтак жа дзейнічаў і наступны часовы гаспадар староства Марціян Літавор Храптовіч. Самавольства арандатараў і іх слуг і няспынныя экзекуцыі разарылі сялянскую гаспадарку, пазбавілі сотні сем'яў сродкаў існавання.

Калі цярпенне крычаўцаў скончылася, яны ўзяліся за зброю. У маі 1740 г. у старостве з'явіўся першы ўзброены сялянскі атрад. На чале паўстання сталі Васіль Вашчыла і бурмістр Іван Карпач, а таксама Васіль Вецер, Стась Бочка, Навум Буян, у чые рукі перай-

шла ўлада ў старостве. Паўстанцы выгналі арандатараў, палілі судовыя і даўгавыя паперы і марылі самі стаць гаспадарамі на сваёй зямлі. Новых арандатараў шукалі сярод гараджан, дробнапаместнай шляхты, заможнага сялянства. Захавалася звыш 20 арэндных дагавораў, падпісаных Вашчылам і іншымі войтамі. Прычым кіраўнікі паўстання стараліся абмежаваць эксплуатацыю сялян арандатарамі. Шэраг дагавораў прадпісваў арандатарам пад пагрозай пакарання (канфіскацыя тавараў, штрафы) не займацца вымаганнем. Былі прадугледжаны меры і супраць ліхвярства. Каб прыгонныя не траплялі ў поўную залежнасць, сялянам забаранялася браць у крэдыт вялікія сумы грошай і пазычаць многа збожжа. Пры малых крэдытах, якія таксама не заўсёды дазваляліся, быў устаноўлены невялікі працэнт, які пад пагрозай штрафаў забаранялі перавышаць.

Калі сялянскі рух пачаў пашырацца і ў паўстанцкім войску назбіралася да 2 тыс. чалавек, Радзівіл адчуў, што страчвае кантроль над сітуацыяй і ўладу ў старостве. Ён накіраваў супраць бунтаўшчыкоў добра ўзброенае і абучанае войска — некалькі сотняў пяхоты і конніцы з гарматамі, якое 15 студзеня 1744 г. увайшло ў Крычаў. Савет сялянскіх важакоў вырашыў даць карнікам бой. Узброеныя ў лепшым разе стрэльбамі і ручніцамі, а то і проста дзідамі і косамі, паўстанцы 18 студзеня атакавалі гарадскія ўмацаванні. Галоўная сялянская зброя — нянавісць да прыгнятальнікаў — была вельмі слаба падмацавана зброяй баявой. Штурм захлынуўся. Сялянскае войска страціла больш за сотню чалавек забітымі і пяцьсот параненымі.

Але змагары не склалі зброю. Яны атабарыліся ў вёсцы Царковішча, сабралі да 4 тысяч чалавек. Вашчыла з паплечнікамі планавалі другі раз атакаваць Крычаў, захапіць яго, блакіраваць замак і прымусіць княжацкае войска да капітуляцыі. Новае наступленне планавалася на 26 студзеня 1744 г. Але пра гэтыя намеры дазнаўся праціўнік, які апярэдзіў паўстанцаў. У ноч на 26 студзеня радзівілаўскае войска непрыкметна наблізілася да Царковішча і на світанку напала на сялян, якія не здолелі арганізаваць хоць якую абарону. Каля 200 паўстанцаў загінула на полі бою, 176 трапіла ў палон. Камандуючы радзівілаўскім войскам загадаў 30 палонных

павесіць, яшчэ 30 — пасадзіць жывымі на калы і падвесіць за рэбры на круках. У рукі карнікаў трапілі І. Карпач і В. Вецер.

Паражэнне ля Царковішча па сутнасці вырашыла зыход паўстання, сяляне ўжо не маглі аказаць сур'ёзнага супраціўлення. Да пачатку лютага хваляванні былі задушаны. Вёскі Крычаўскага староства былі аддадзены салдатам на разрабаванне. Уся маёмасць удзельнікаў паўстання канфіскоўвалася.

У першай палове лютага з конным атрадам на 300 шабляў у Крычаў прыбыў сам князь Геранім. Ён учыніў суд і расправу над сялянскімі важакамі. 16 засудзілі на смерць. Іван Карпач, Стась Бочка, Васіль Вецер і яшчэ пяць чалавек бьші пасаджаны жывымі на калы, чацвёра паўстанцаў сустрэлі смерць на шыбеніцы, астатнім кат адсек галаву. Сакратару бунтаўшчыкоў, сыну Стася Бочкі, князь загадаў адрэзаць вушы і выпаліць на лбе шыбеніцу.

Васілю Вашчылу ўдалося ўцячы на Украіну, але і туды дацягнуліся рукі Радзівілавых слуг — у хуткім часе сялянскі правадыр памёр. Вашчыла, Карпач і іх мужныя сябры сталі героямі кніг беларускіх пісьменнікаў, мастацкага фільма «Маці ўрагану», створанага на аснове драмы У. Караткевіча.

Нягледзячы на паражэнне барацьба крычаўцаў дала простаму люду палёгку. Радзівіл адмовіўся ад здачы староства ў арэнду, паменшыў падаткі.

Квітнеючыя ў XVI — пачатку XVII ст. беларускія гарады ўвайшлі ў XVIII ст. у стане страшнага разбурэння. Працэс іх аднаўлення ішоў вельмі марудна. **Да сярэдзіны XVIII ст. большасць гарадоў і мястэчак заставалася ў глыбокім заняпадзе.** Значныя зрухі ў іх эканамічным становішчы адбываюцца толькі ў другой палове стагоддзя. Ажыўленне гарадоў праявілася найперш у павелічэнні колькасці насельніцтва. Акрамя натуральнага прыросту яна папаўнялася за кошт «лёзных» людзей, сялян, яўрэяў.

Разам з ростам колькасці насельніцтва развівалася і рамесная вытворчасць, промыслы, гандаль, павышалася значэнне гандлёвапрамысловай дзейнасці ў занятках гараджан. У той жа час важным заняткам насельніцтва нават буйных гарадоў заставалася сельская гаспадарка. Важнейшай рысай развіцця гарадскога рамяства было тое, што захоўвалася дасягнутая раней таварнасць рамесніцкай

вытворчасці. Другая важная рыса — заметнае павелічэнне рамеснікаў, якія не ўваходзілі ў цэхавыя арганізацыі. Яны аб'ядноўваліся ў брацтвы, пабудаваныя па прафесійнай прыкмеце.

З ростам таварнасці рамяства паглыблялася маёмасная дыферэнцыяцыя рамеснікаў. У цэхах узмацняецца становішча багатай групы рамеснікаў. Асобныя майстры займаюць пасады цэхмістраў на працягу доўгага часу, а іншы раз — нават пажыццёва. Расце эксплуатацыя майстрамі вучняў і падмасцер'яў.

Новай рысай эканамічнага жыцця было ўзнікненне ў некаторых мястэчках, што належалі магнатам, прамысловых прадпрыемстваў мануфактурнага тыпу, на якіх выкарыстоўвалася ў асноўным праца прыгонных. **Першыя мануфактуры з'яўляюцца ў 10—30-я гады XVIII ст.:** у Налібоках і Урэччы працавалі прадпрыемствы па вытворчасці шкла і вырабаў з яго, у Свержані — фарфоравая мануфактура. У 50-я гады заснавана Слуцкая мануфактура па вырабу шаўковых паясоў. У другой палове XVIII ст. мануфактурная вытворчасць стала масавай. У першай палове стагоддзя ўзнікалі таксама буйныя майстэрні, дзе выкарыстоўвалася наёмная праца. Усё гэта сведчыла аб развіцці першапачатковых формаў капіталістычнай вытворчасці.

У канцы XVIII ст. у Беларусі налічвалася 39 гарадоў і каля 350 мястэчак. У іх жыло прыкладна 250 тыс. чалавек — каля 11% насельніцтва. У пераважнай большасці гарадоў было ад 300 да 500 дамоў і ў іх жыло па 2—3 тыс. чалавек. Да гарадоў адносіліся таксама паселішчы, якія мелі менш за 2 тыс. жыхароў але з'яўляліся адміністрацыйнымі цэнтрамі паветаў, або здаўна лічыліся гарадамі і мелі самакіраванне паводле магдэбургскага права (напрыклад, Капыль, Чэрыкаў).

Асобныя гарады рэзка адрозніваліся па памерах. Магілёў і Віцебск, напрыклад, мелі звыш 10 тыс. жыхароў кожны. Больш за 5—6 тыс. чалавек жыло ў Гародні, Менску, звыш 4 тыс. — у Полацку, Слоніме, Мсціславе. У павятовых гарадах Лідзе і Мазыры налічвалася 1,5 тыс. чалавек. Яшчэ менш насельніцтва было ў Рэчыцы і Ашмянах, а ў Браславе жыло ўсяго 500 чалавек. Да канца XVIII ст. большасць гарадоў выйшла са стану крайняга спусташэння, у якім яны апынуліся ў пачатку стагоддзя.

Важную ролю ў развіцці эканомікі Беларусі адыгрывалі гандлёвыя сувязі з Прыбалтыкай, Польшчай і Расіяй. Аднак знешнія гандлёвыя сувязі ўзмацняліся па меры развіцця ўнутранага гандлю.

Унутраны рынак служыў для феадала месцам збыту і продажу як сельскагаспадарчай, так і прамысловай прадукцыі. На штогадовых таргах і ярмарках, у гарадах і мястэчках, ва ўласных "крамах", а таксама непасрэдна ў сваіх сядзібах феадалы рэалізоўвалі збожжавыя культуры, гародніну, насенне, хатнюю жывёлу, мяса-малочныя прадукты, мёд, водку, рыбу, соль, цэглу, жалеза і іншыя тавары. Буйнейшы кірмаш быў у Зэльве, значныя кірмашы збіраліся ў Шклове, Бешанковічах, Нясвіжы. У знешнім гандлі важную ролю адыгрываў традыцыйны заходні кірунак, куды ішлі сельскагаспадарчыя прадукты. Так, Радзівілы, Агінскія, Сапегі на ўласных суднах вывозілі ў Гданьск буйныя партыі пянькі, расліннага масла, збожжа. Адтуль прывозілі розныя тканіны, вырабы з фарфору, зброю, вострыя прыправы і іншыя каланіяльныя тавары, прадметы раскошы. Шырокія гандлёвыя сувязі існавалі таксама з прыбалтыйскімі гарадамі Каралёўцам і Рыгай.

Важнае значэнне для эканомікі Беларусі другой паловы XVII—XVIII ст. меў беларуска-рускі гандаль. Тавары, набытыя на рынках рускіх гарадоў, забяспечвалі значную частку асабістых патрэб насельніцтва і асобных промыслаў, развітых на Беларусі. Разам з тым закупленыя ў Расіі партыі пянькі, ільну, канапель ішлі на экспарт у Прыбалтыку. Тым самым беларуска-рускі гандаль садзейнічаў развіццю знешняга гандлю Усходняй Беларусі з прыбалтыйскімі партовымі гарадамі.

Купцы з Беларусі найбольш часта вялі гандаль на рынках Смаленска, Вялікіх Лук, Тарапца, Вязьмы, Калугі, Бранска, Дарагабужа і іншых гарадоў. Асартымент тавараў у беларуска-рускім гандлі быў даволі разнастайны. З Беларусі вывазілі сукно і тканіну, галантарэю, металічныя вырабы, гарбарны тавар. З Расійскай дзяржавы везлі мяхі, неапрацаваныя скуры, палатно, сярмягі, шапкі, рукавіцы, жалеза, рыбу, сала, пяньку, лён, каноплі і г. д.

Напрамкам трывалых гандлёвых сувязей быў беларуска-ўкраінскі. Ён быў сканцэнтраваны галоўным чынам ва ўкраінскіх гара-

дах Нежыне, Ромне, Старадубе, Сумах. На ўкраінскі рынак паступалі прадукты сельскай гаспадаркі. Беларускія купцы вывозілі туды таксама розныя віды тканін, металічныя вырабы, галантарэю, закупленыя ў польскіх гарадах. Прадметамі імпарту часцей за ўсё былі соль, табак, рыба.

З пачатку XVIII ст. адбываецца пераарыентацыя гандлёвых сувязей Беларусі на Пецярбург і Леваўзбярэжную Украіну. Тавары з паўночнага захаду Расіі, якія раней рухаліся ў Заходнюю Еўропу праз Беларусь, цяпер пайшлі праз Пецярбург. Гэта рэзка скараціла пасрэдніцкую дзейнасць беларускага купецтва.

У Другой палове XVIII ст. будуюцца каналы, якія злучылі Балтыйскае і Чорнае мора (Дняпроўска-Нёманскі і Дняпроўска-Бугскі), паляпшаюцца для сплаву руслы рэк, пракладваюцца добрыя дарогі (напрыклад, праз пінскія балоты на Валынь).

Урад і соймы ў 70—80-я гады XVIII ст. праявілі значны клопат пра гандаль і гарады. Было ўстаноўлена адзінства мер, вагі, манеты. Была ўведзена генеральная мытная пошліна і знішчаны ўсе экспартна-імпартныя прывілеі шляхты, ліквідаваны ўнутраныя пошліны, а таксама шляхецкія юрыдыкі ў гарадах. Праведзеныя мерапрыемствы садзейнічалі развіццю нацыянальнага рынку, фарміраванню буржуазіі і ўмацаванню ўнутранага адзінства дзяржавы.

Але развал эканомікі быў настолькі значным, што ў цэлым гаспадарка беларускіх зямель нават да сярэдзіны XVIII ст. не была адноўлена, не дасягнула яшчэ ўзроўню сярэдзіны XVII ст. На змену заняпаду, які перажывалі беларускія вёска і горад у першай палове XVIII ст., у другой палове стагоддзя прыходзіць гаспадарчае аднаўленне, прабіваюцца парасткі новых грамадска-вытворчых адносін. У гісторыі Рэчы Паспалітай у цэлым другая палова XVIII ст. характарызуецца як час эканамічнага, палітычнага і культурнага ажыўлення і ўздыму. Гэта датычыць, галоўным чынам, 70—80-х гадоў. Аднак на фоне бурнага эканамічнага развіцця еўрапейскіх краін у XVII—XVIII стст. Рэч Паспалітая выглядала нібы застылай у летаргічным сне. Вышэйшай адзнакай гаспадарчай магутнасці краіны можна лічыць узровень яе эканамічнага развіцця ў канцы XVI ст.

## Паглыбленне палітычнага крызісу

У той час, як суседнія дзяржавы перажывалі ўздым і пашыралі свае тэрыторыі, Рэч Паспалітая *«трымалася беспарадкам».* Яна апынулася ў стане поўнай анархіі і бязладдзя, якія сталі вынікам злоўжывання «залатымі шляхецкімі вольнасцямі». Права «свабоды забароны», абавязак дэпутатаў прытрымлівацца інструкцый, атрыманых на павятовых сойміках, паралізавалі работу сойма. З канца XVII ст. ён стаў недзеяздольным і ператварыўся ў месца вядзення спрэчак паміж магнацкімі кланамі. На працягу дзесяцігоддзяў не прымаліся новыя законы, не праводзіліся рэформы, неабходныя для таго, каб выйсці з крызісу. Перыяд 20—60-х гадоў XVIII ст. характарызуецца рэзкай канфрантацыяй уплывовых магнацкіх груповак, якія аспрэчвалі ўладу ў дзяржаве. Спачатку Чартарыйскія, Радзівілы і Ржэвускія супрацьстаялі Патоцкім і Браніцкім, потым Радзівілы ўжо змагаліся з Чартарыйскімі.

Сваімі ўнутранымі канфліктамі яны раздзіралі краіну і інспіравалі знешняе ўмяшанне ў яе справы. Яна стала для іншаземных войск *«заезным дваром і карчмой.., пры гэтым, аднак, яны, як правіла, забываліся пра плату».* З пачатку XVIII ст. Рэч Паспалітая пазбавілася самастойнага палітычнага курсу. Расія, Аўстрыя, Францыя і Прусія ўсё часцей умешваліся ў яе ўнутраныя справы. Ім было выгадна трымаць пад сваім кантролем аслабеўшую краіну.

Як адзначаў Ф. Энгельс, дэмаралізацыя правячай арыстакратыі, недахоп сіл для развіцця буржуазіі і пастаянныя войны, якія спусташалі краіну, зламілі, урэшце, моц Рэчы Паспалітай. XVIII стагоддзе стала пераломным для яе — панаваўшая ў дзяржаве анархія магнатэрыі і шляхты, крывавыя міжусобіцы паміж групоўкамі давялі краіну да страты дзяржаўнай самастойнасці.

У другой палове XVIII ст. вярхоўная ўлада паспрабавала ўтаймаваць бязладдзе і анархію. Соймы Рэчы Паспалітай прынялі шэраг рашэнняў, накіраваных на стабілізацыю эканамічнага і палітычнага жыцця. Яны павінны былі садзейнічаць умацаванню аўтарытэту вярхоўнай улады, абмежаванню свавольства магнатаў і шляхты. Але спыніць працэс палітычнага заняпаду ні кароль, ні соймавыя пастановы не змаглі. Для такога павароту падзей Рэч Паспалітая не мела тады ні эканамічных, ні сацыяльных перадумоў.

Крызісныя з'явы ў грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай абвастралі нявырашанасць рэлігійнага пытання. Хаця ніводнае з існаваўшых тут веравызнанняў фармальна не было забаронена, фактычна дзяржава падтрымлівала толькі касцёл. Пастановай сойма 1712 г. было забаронена замацоўваць дзяржаўнай пячаткай дакументы, якія прадугледжвалі якія-небудзь выгоды для некатолікаў. Пастановамі 1732 і 1733 гг. некатолікі былі пазбаўлены права выбірацца ў дэпутаты соймаў, засядаць у трыбунале, займаць грамадзянскія пасады. Шляхта, у большасці сваёй каталіцкая, імкнулася замацаваць пазіцыі каталіцкай і уніяцкай цэркваў і абмежаваць правы іншых хрысціянскіх канфесій, але не да такой ступені, каб даць падставу дысідэнтам абвастрыць сітуацыю ў краіне. Праваслаўныя шукалі падтрымкі ў Маскве.

Трыумфальны поступ уніяцтва на мяжы і ў пачатку XVIII ст. усхваляваў свецкія і духоўныя колы Расійскай дзяржавы, якая свае захады ў абарону аднаверцаў грунтуе ўжо на законнай аснове — IX артыкуле "вечнага" міру. Улады Рэчы Паспалітай і ВКЛ адмаўлялі гвалт у дачыненні праваслаўных: *«На унію прыступае Русь сама сваёй воляй, а не прымусам якім».* Расправа з полацкімі базыльянамі ў 1705 г., разбурэнне Сафійскага сабора ў 1710 г, спусташэнні базыльянскіх кляштараў, арышты і вываз у Расію уніяцкай іерархіі, разгон свецкага духавенства і прызначэнне на яго месца праваслаўных святароў былі адлюстраваннем пятроўскай палітыкі ліквідацыі уніяцкай царквы.

Дзейнасць цара-рэфарматара, які ў першай чвэрці XVIII ст. «высякаў» для сваёй дзяржавы «вакно ў Еўропу», некаторыя даследчыкі параўноўваюць з дзейнасцю беларуска-ўкраінскіх уніяцкіх лідэраў, якія выводзілі свае народы з духоўна-культурнай ізаляцыі ад Захаду да дыялогу і кантактаў з ім. Але цар Пётр, які далучаў сваю дзяржаву і народ да еўрапейскай цывілізацыі, «не пускаў» туды беларускіх і ўкраінскіх уніятаў, жадаючы трымаць іх у арбіце расійскага ўплыву.

Такім чынам, пачатак XVIII ст. быў супярэчлівым для уніяцкай царквы. З аднаго боку, значнае яе ўзмацненне ў выніку далучэння трох буйных праваслаўных епархій (на тэрыторыі Украіны). З другога — вайна, спусташэнні, рабаванні і рэпрэсіі

пятроўскага войска сур'ёзна аслаблялі царкву. Але ў гэты складаны перыяд яна праявіла жыццёвую сілу і даказала сваё права на існаванне. Сітуацыя для яе стала мяняцца да лепшага з вывадам рускіх войск у 1711 г.

Уніяцкая вера з-за таго, што большасць літвінскай шляхты перайшла ў каталіцтва, ператвараецца ў "хлопскую" (сялянскую). Вышэйшыя іерархі уніяцкай царквы не карысталіся належнай павагай. Толькі пятнаццаты па ліку уніяцкі мітрапаліт (С.Растоцкі) у 1791 г. быў дапушчаны ў сенат Рэчы Паспалітай.

Пётр I зрабіў дысідэнцкае пытанне зброяй барацьбы з Рэччу Паспалітай. У 1717 г. ён навязаў сойму канстытуцыю, якая гарантавала правы праваслаўнай канфесійнай меншасці. Яго ўмяшанне ў рэлігійнае жыццё Беларусі стварала яшчэ большую канфесійную напружанасць у краі.

Галоўным аплотам праваслаўя і цэнтрам антыуніяцкай барацьбы на Беларусі і ў Рэчы Паспалітай на працягу XVIII ст. заставалася Магілёўская (Беларуская) епархія. У 1704—1728 гг. яе ўзначальваў прыхільнік Расіі С.Чацвярцінскі. Хадайніцтва перад польскім і асабліва перад расійскім урадам за сваю паству было адной з важных сфер яго дзейнасці. Нягледзячы на моцныя ўзрушэнні і ўсю неспрыяльную ў Рэчы Паспалітай абстаноўку для праваслаўя, яно зберaглося, пакуль змена палітычных абставін не забяспечыла яго далейшае існаванне.

## ЛЕКЦЫЯ 34

# ПАДЗЕЛЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

- *Сацыяльна-эканамічнае становішча ў другой палове XVIII ст.*
- *Першы і другі падзелы Рэчы Паспалітай.*
- *Паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. Трэці падзел Рэчы Паспалітай.*

### Сацыяльна-эканамічнае становішча ў друтой палове XVIII ст.

Другая палова XVIII ст. характарызуецца значнымі зменамі як у эканамічным, так і ў палітычным жыцці Беларусі. Рэч Паспалітая, у склад якой у гэты перыяд уваходзілі беларускія землі, пачала паступова выходзіць з эканамічнага заняпаду, выкліканага паласой войнаў, паўстанняў, эпідэмій, якое цягнулася больш за стагоддзе. Але неспрыяльнае палітычнае становішча як у самой краіне, так і вакол яе ўрэшце-рэшт прывяло да знікнення гэтай краіны з палітычнай карты Еўропы.

У другой палове XVIII ст. у эканоміцы і сацыяльным жыцці Беларусі пачалі акрэслівацца рысы новых эканамічных адносін. Узнікненне мануфактур, выкарыстанне наёмнай працы, развіццё гандлю і іншыя прыкметы новага накірунку ў эканоміцы і сацыяльным развіцці былі выкліканы не толькі логікай папярэдняга развіцця Рэчы Паспалітай, але таксама прыкладам еўрапейскіх краін, дзе капіталістычныя адносіны ўжо набіралі моц, а тэхнічная рэвалюцыя паступова станавілася рэчаіснасцю. Падкрэслім, што праявы новага эканамічнага і сацыяльнага ладу яшчэ не ўплывалі рашучым чынам на стан эканомікі. Панаванне феадальных адносін, сярэдневяковая тэхніка і тэхналогія па-ранейшаму былі характэрнай прыкметай эпохі.

Галоўную ролю ў эканоміцы Беларусі ў другой палове XVIII ст. адыгрывала сельская гаспадарка, заснаваная на сістэме прыгоннай эксплуатацыі сялян. Беларусь у гэты час была раёнам буйных магнацкіх латыфундый. У канцы XVIII ст. 16 магнацкім сем'ям належала 30% сялян. Акрамя сваіх маёнткаў Радзівілы, Пацы, Сапегі, Храптовічы мелі ў кіраванні каралеўскія ўладанні — старо-

ствы і карысташся прыбыткамі з іх. Пасля катаклізмаў пачатку стагоддзя аднаўленне гаспадаркі феадалаў магло ісці па некалькіх шляхах. Найбольш перспектыўным быў шлях удасканалення тэхналогіі вядзення сельскай гаспадаркі, перавод прыгонных сялян з паншчыны на чынш. За гэты шлях развіцця выступала найбольш прагрэсіўная частка эканамістаў і грамадскіх дзеячаў. Ачыншаванне сялян і ўжыванне больш прагрэсіўных метадаў гаспадарання практыкавалася, пераважна, у маёнтках буйных феадалаў і ў некаторых староствах. У асобных каралеўскіх маёнтках ствараліся ўзорныя гаспадаркі са шматпольным севазваротам і выкарыстаннем гатунковага насення.

Аднак у дробных шляхецкіх гаспадарках прырост прыбыткаў дасягаўся, часцей за ўсё, іншым шляхам — за кошт павелічэння эксплуатацыі прыгонных. Паншчына ў гэтыя часы дасягала 10—16 дзён на тыдзень з сялянскага надзела. У сувязі з павелічэннем попыту на збожжа як у самой Рэчы Паспалітай, так і на знешнім рынку феадалы імкнуліся павялічыць колькасць ворнай зямлі. Рост панскай запашкі ў фальварках дасягаўся за кошт уключэння ў севазварот раней закінутых зямель і тых, якія апрацоўваліся "наездам". Часам феадал павялічваў сваю раллю за кошт сялянскіх надзелаў. Нягледзячы на некаторае ўдасканаленне тэхнікі апрацоўкі глебы, ураджайнасць была невысокай — сам-3—3,5.

Неабходнасць павелічэння даходаў Рэчы Паспалітай абумовіла спробу рэфарміравання гаспадаркі эканомій і старостваў, прадпрынятую па ініцыятыве гродзенскага старасты А. Тызенгаўза. У 1770-х гг. была праведзена люстрацыя зямельных угоддзяў Гродзенскай эканоміі, сяляне масава пераводзіліся на паншчыну. Дзеля забеспячэння рэпрадукцыйнасці сялянскай гаспадаркі былі павялічаны сялянскія надзелы.

Аднаўленне сялянскай гаспадаркі ішло маруднымі тэмпамі, але ўжо ў 60-я гады ў цэнтральнай частцы, а ў 70-я — на ўсходзе Беларусі колькасць ворнай зямлі і цяглага быдла ў сялян дасягнула ўзроўню пачатку стагоддзя. У сярэднім сялянскі надзел налічваў у гэтыя часы 0,5 валокі ворнай зямлі. Развіццю сялянскай гаспадаркі перашкаджаў рост феадальнай эксплуатацыі. У другой палове стагоддзя ў параўнанні з пачаткам XVIII ст. у 1,5 разы павялічыўся

памер сялянскіх павіннасцей. На захадзе Беларусі 70—75% сялян працавалі на паншчыне. На ўсходзе, дзе фальварковая гаспадарка была менш развіта, прыгонныя плацілі грашовы чынш. Акрамя гэтага сяляне павінны былі выконваць іншыя павіннасці — павоз, гвалты, талокі і г.д. Становішча селяніна пагаршалася арэнднай сістэмай, якая даволі часта практыкавалася ў маёнтках буйных феадалаў. Арандатар максімальна эксплуатаваў як зямельную маёмасць маёнтка, так і падначаленых яму прыгонных. На Беларусі даволі частымі былі неўраджаі. Асабліва цяжкімі на ўсходзе Беларусі былі 1793 і 1794 гг. Пасланы ў гэты час сюды з сенатарскай праверкай Г.Р.Дзяржавін быў уражаны голадам і галечай, да якіх мясцовыя сяляне ставіліся як да звычайнага становішча. "... И *в самые лучшие хлебородные годы, — пісаў ён, — обыкновенно в здешнем краю крестьяне едят пушной хлеб, а особливо весной, до новой жатвы, раздав оный в платеж старых займов, всегда нуждаются в оном".*

Сялянства, як і раней, не мела ніякіх правоў. Спецыяльнай пастановай сойма ў 1768 г. за забойства селяніна прадугледжвалася смяротная казнь, але феадалы і пасля гэтага маглі беспакарана закатаваць насмерць сваіх прыгонных. Цяжкае становішча сялянства неаднаразова прыводзіла да антыпрыгонніцкіх хваляванняў, якія часам перарасталі ў сялянскія паўстанні. Буйныя выступленні сялян адбываліся ў 50—70-я гады ў Слонімскім і Ялаўскім староствах, Берасцейскай эканоміі. Яны былі выкліканы ўвядзеннем новых павіннасцей і павелічэннем памеру паншчыны. Толькі з дапамогай войска ўлады здолелі падавіць гэтыя хваляванні. Узброенае выступленне сялян супраць узмацнення эксплуатацыі выбухнула ў канцы 70-х гадоў у Любоніцкім і Стаўлішчанскім староствах Рэчыцкага павета. Узначаліў паўстанне селянін вёскі Стаўлішча Павел Лагойка. Гэтае выступленне было падаўлена таксама з дапамогай войск. Лагойка і яго паплечнікі былі схоплены і пакараны смерцю.

У другой палове XVIII ст. адбываліся далейшыя змены ў становішчы асобных груп залежнага насельніцтва: амаль зніклі, зліліся з сялянамі або шляхтай панцырныя баяры. Узрасла маёмасная дыферэнцыяцыя сялянства. Побач з заможнымі гаспадаркамі,

якія мелі 1—2 валокі зямлі (16% ад агульнай колькасці сялянства), у беларускай вёсцы жылі кутнікі, бабылі, каморнікі (10%), якія не мелі зямлі і вымушаны былі наймацца на працу да пана або да сваіх аднавяскоўцаў. Наёмная праца выкарыстоўвалася, часцей за ўсё, у буйных маёнтках, на памешчыцкіх мануфактурах.

Новыя з'явы ў развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі - паглыбленне маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства, выкарыстанне наёмнай працы, рост таварызацыі маёнткаў — сведчылі аб пачатку разлажэння феадальнага спосабу вытворчасці і крызісе прыгоннай сістэмы гаспадарання.

У апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай развіццё рамяства і мануфактурнай вытворчасці ішло на беларускіх землях даволі хуткімі тэмпамі. У гэты час значную частку прамысловых вырабаў, як і раней, давала рамяство. Галоўнымі яго галінамі былі гарбарства, выраб футра, апрацоўка дрэва, шавецтва і інш. У гарадах арганізацыя рамеснай дзейнасці паступова пачынае змяняцца: губляюць сваю ролю цэхі, усё часцей у буйных майстэрнях пачынае ўжывацца наёмная праца, знікаюць некаторыя рамесныя спецыяльнасці. Рамяство ўсё больш набывае таварны характар.

**Асобую ролю ў прамысловым развіцці Беларусі ў гэты час пачынаюць адыгрываць мануфактуры.** Менавіта мануфактурная вытворчасць з'явілася адметнай рысай прамысловасці. Першыя мануфактуры ўзніклі ў Рэчы Паспалітай яшчэ ў пачатку XVII ст., але толькі ў апошнія дзесяцігоддзі XVIII ст. адкрыццё мануфактур, перш за ўсё магнацкіх і каралеўскіх, набывае масавы характар.

Усяго па Беларусі ў канцы XVIII ст. налічвалася 53 буйныя мануфактуры з 2,4 тыс. рабочых на іх. Найстарэйшай была шкляная "фабрыка" Радзівілаў ва Урэччы, заснаваная ў 1635 г. Тут выбляўся сталовы посуд, люстры, люстраныя бра. Прадукцыя мануфактуры была вядома далёка за межамі Беларусі. Радзівілам належалі таксама Налібоцкая шкляная мануфактура, фабрыка шаўковых паясоў у Слуцку, Нясвіжская суконная мануфактура. Да буйных мануфактурных прадпрыемстваў належаў таксама жалезаробчы завод Храптовіча ў мястэчку Вішнева Ашмянскага павета (сёння — ў Валожынскім раёне), засйаваны ў 1780 г. Гэтыя мануфактуры выпускалі шматлікую і разнастайную прадукцыю, мелі пастаян-

ную сувязь з рынкам. Даволі значнымі былі іншыя вотчынныя мануфактуры: фаянсавыя заводы Радзівілаў у Свержані і Агінскіх у Целяханах, шкляныя мануфактуры Салагуба ў мястэчку Ілля на Міншчыне, суконныя мануфактуры Сапегі ў Ружанах і інш. Часцей за ўсё на пачатку дзейнасці мануфактур тут працавалі замежныя, наёмныя майстры, потым — мясцовыя з прыгонньгх. Колькасць рабочых на мануфактурах складала ад 40 да 70 чалавек. Практыкавалася здача мануфактур у арэнду мяшчанам, купцам або найбольш заможным майстрам.

Своеасаблівай рысай развіцця прамысловасці Беларусі былі каралеўскія мануфактуры, заснаваныя графам А.Тызенгаўзам у Гродзенскім старостве. У Гродне і яго прыгарадзе Ласосна ў другой палове 60-х гадоў былі адкрыты 17 мануфактур — люстраная, габеленавая, карункавая, карэтна-экіпажная і інш., на якіх вырабляліся, галоўным чынам, прадметы раскошы. На гэтых мануфактурах працавалі запрошаныя замежныя майстры, а таксама прыгонныя. Сыравіна прывозілася з-за мяжы, што абумовіла высокія цэны на прадукцыю гэтых прадпрыемстваў. Прадукцыя гродзенскіх мануфактур не мела збыту на ўнутраным рынку, і таму большасць з іх была закрыта ў пачатку 80-х гадоў пасля фінансавага падзення Тызенгаўза.

Найбольшае развіццё на Беларусі ў гэтыя часы атрымала перапрацоўка сельскагаспадарчай сыравіны. Гэта было абумоўлена не толькі характарам сыравінных рэсурсаў, але і імкненнем феадалаў павысіць таварнасць сваіх маёнткаў. Дадатковы прыбытак давала выкарыстанне таннай рабочай сілы — прыгонных сялян. Галоўнымі галінамі вытворчасці ў гэтыя часы з'яўляліся суконная, мукамольная, баваўняная, гарбарная. Амаль у кожным маёнтку быў бровар. Прадукцыя вінакурэння ішла не толькі на рынак, але, дзякуючы праву прапінацыі, прадавалася пры пасрэдніцтве шынкароў-арандатараў прыгонным сялянам, часам прымусова.

Вотчынныя мануфактуры па сваім характары належалі да феадальных прадпрыемстваў, але і тут у наяўнасці былі рысы капіталістычнай вытворчасці: ужыванне больш прагрэсіўнай тэхнікі і тэхналогіі, сувязь з рынкам, выкарыстанне працы па найму.

Адной з прыкмет эканамічнага жыцця Беларусі ў другой палове

XVIII ст. было ажыўленне гандлю. Развіццю гандлю спрыяла палітыка правячых колаў краіны, накіраваная, між іншым, на некаторае ўзмацненне пазіцыі трэцяга саслоўя. Адным з першых мерапрыемстваў, якія паспрыялі развіццю гандлю, было скасаванне прыватных мытняў на тэрыторыі краіны і ўсталяванне ў 1764 г. генеральнага мытнага тарыфу. У 1775 г. былі адменены мытні на граніцах Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Ажыўленню гандлю спрыяла таксама дзейнасць урада па ўладкаванню гандлёвых шляхоў. Найбольш таннымі і зручнымі ў тыя часы былі водныя шляхі, таму, менавіта, на іх паляпшэнне былі накіраваны першыя дзеянні ўлад. У 1784 г. былі завершаны работы на канале, які злучаў Днепр з Нёманам. Ініцыятыва пабудовы канала і яе фінансаванне належалі Міхалу Агінскаму, буйному магнату і палітычнаму дзеячу Рэчы Паспалітай. У гэтым жа годзе закончана будаўніцтва на Каралеўскім канале паміж Прыпяццю і Бугам. Будаўніцтва гэтых каналаў аблегчыла пастаўку сельскагаспадарчых прадуктаў у цэнтральныя раёны Рэчы Паспалітай, а таксама порты Балтыйскага мора, адкуль яны вывозіліся за мяжу. Пачаліся работы па ўпарадкаванню сухапутных шляхоў. Вялікае значэнне для развіцця гандлёвых сувязей Беларусі мела пабудова двух гасцінцаў праз Палессе. У 1764 г. была праведзена рэформа пошты, якая аблегчыла зносіны паміж рэгіёнамі Рэчы Паспалітай, а ў 1766 г. — метралагічная рэформа.

У знешнім гандлі ў другой палове XVIII ст. не назіралася значных змен у адносінах да прадметаў экспарту і імпарту, хаця павялічваюцца іх аб'ёмы. Галоўнымі прадметамі вывазу былі прадукты сельскай гаспадаркі, перш за ўсё збожжа, лён, каноплі, скуры, а таксама лес і лесаматэрыялы. Увозіліся прадметы раскошы, металы, рыба, соль. Пасля першых падзелаў Рэчы Паспалітай пачынаецца паступовая пераарыентацыя гандлёвых сувязей. Купцы ўсходняй і цэнтральнай частак Беларусі наладжваюць кантакты з расійскімі купцамі.

Для эканомікі Беларусі, як і ўсёй Рэчы Паспалітай, у гэты час яшчэ большае значэнне, чым рост знешнегандлёвых сувязей, мела ажыўленне на ўнутраным рынку. Павелічэнне колькасці насельніцтва, рост яго запатрабаванняў, працэс ачыншавання сялянства, развіццё гарадоў і інш. спрыялі росту таварна-грашовых адносін.

Па-ранейшаму галоўную ролю ва ўнутраным гандлі адыгрывалі кірмашы. Большасць з іх былі адна-двухдзенныя, некаторыя дзейнічалі на працягу некалькіх тыдняў. Буйнейшымі былі кірмашы ў Бешанковічах, Зэльве, Любавічах, Астрыне, Свіслачы;, Шклове, Нясвіжы. Акрамя прадметаў мясцовай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, на буйныя кірмашы дастаўлялася шмат тавараў з суседніх абласцей і з-за мяжы. Беларускія кірмашы адрозніваліся паміж сабою спецыялізацыяй гандлю: на адных гандлявалі пераважна сельскагаспадарчымі таварамі і прадукцыяй мясцовых промыслаў, на другіх — у асноўным жывёлай, на трэціх — прамысловымі таварамі і прадметамі раскошы. На кірмашах аднаўляліся дагаворы аб арэндзе, заключаліся дагаворы на продаж прадукцыі мануфактур або фальваркаў. Кірмашы служылі сродкам аб'яднання мясцовых рынкаў і спрыялі разбурэнню натуральнай гаспадаркі.

Акрамя кірмашоў, значную ролю ў гандлі адыгрывалі ў гэты час штодзённыя таргі, дзе прадаваліся тавары паўсядзённага попыту. Вышэйназваныя формы гандлю былі прыналежнасцю феадальнага спосабу вытворчасці, паколькі сведчылі аб няпэўнасці таварна-грашовых адносін, адсутнасці вялікай таварнай масы, наяўнасці натуральнай гаспадаркі. Больш прагрэсіўны стацыянарны гандаль у гэтыя часы толькі пачынаў разгортвацца і не адыгрываў яшчэ важкай ролі ў эканоміцы.

Такім чынам, эканамічнае развіццё Беларусі, як і ўсёй Рэчы Паспалітай, у другой палове XVIII ст. неадольна выводзіла краіну з эпохі феадальных адносін у больш прагрэсіўную эпоху капіталізму. Па колькасці мануфактур, аб'ёмах вытворчасці і гандлю Рэч Паспалітая пераўзыходзіла суседнюю Расію, была на адным узроўні з Аўстрыяй і Прусіяй, хаця значна саступала Англіі і Францыі. Гаспадарка Беларусі пасля перыяду глыбокага заняпаду адраджалася і хутка набліжалася да перадавых еўрапейскіх узораў.

Разам з аднаўленнем сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю ў другой палове XVIII ст. адбудоўваліся і раслі беларускія гарады. У іх статусе і сацыяльным становішчы жыхароў у гэтыя часы назіраюцца некаторыя змены. У апошняй чвэрці стагоддзя на Беларусі налічвалася 41 горад і 397 мястэчак. Гараджане складалі 370 тыс. чалавек, або 11% усяго насельніцтва Беларусі. 15 гарадоў былі

прыватнаўласніцкія: Нясвіж, Слуцк, Слонім, Ашмяны, Друя, Докшыцы і інш. Прыватнаўласніцкімі з'яўлялася пераважная большасць беларускіх мястэчак. Такое становішча перашкаджала хуткаму развіццю гарадоў і мястэчак, росту насельніцтва ў іх. У другой палове XVIII ст. значэнне шэрагу гарадоў і мястэчак значна змянілася, што было абумоўлена ступенню іх разбурэння ў час папярэдніх войнаў, а таксама зменамі ў накірунку гандлёвых шляхоў, значэннем гэтых населеных пунктаў у эканамічным і палітычным жыцці Беларусі. Ва ўсходняй частцы Беларусі значна ўзрасла роля Віцебска, у заходняй частцы — Гародні, Слоніма, у цэнтры — Менска. Страцілі сваё значэнне ў эканамічным і палітычным жыцці Полацк, Пінск, Наваградак. Найбольш буйным з беларускіх гарадоў быў Віцебск, дзе жыло ў 1796 г. 12,5 тыс. чалавек. У другім па велічыні горадзе Беларусі — Менску — налічвалася 7 тыс, у Гародні — 6 тыс, у Магілёве і Полацку — па 5,5 тыс. чалавек. Хутка развіваліся асобныя мястэчкі, перш за ўсё тыя, дзе адбываліся вялікія кірмашы — Зэльва, Смаргонь, Койданава, Відзы.

Сацыяльны склад гарадскога насельніцтва быў даволі стракатым. У гэтыя часы каля 80% насельніцтва беларускіх гарадоў складалі мяшчане, але сярод гэтага саслоўя мелася значная колькасць саслоўных груп, якія вылучаліся як па маёмаснаму становішчу, так і па ролі ў вытворчай дзейнасці. Змены ў структуры гарадскога насельніцтва Беларусі ўскладнялі гаспадарчую дзейнасць, развіццё таварна-грашовых адносін. Усё большую ролю ў эканамічным і палітычным жыцці гарадоў побач з даўнейшым патрыцыятам (цэхавая старшына, бурмістры і г.д.) пачынаюць адыгрываць яшчэ нешматлікія ўладальнікі ці арандатары мануфактур, заможныя купцы, банкіры, з асяроддзя якіх у далейшым павінна была сфарміравацца буржуазія. На другім полюсе была вялікая маса незаможных або наогул немаёмасных мяшчан, якія працавалі ў майстэрнях і на мануфактурах па найму — будучы пралетарыят.

У апошнія дзесяцігоддзі XVIII ст. у гарадах Беларусі пачала складацца асобная сацыяльная група — інтэлігенцыя. Нешматлікая па колькасці, яна адыгрывала больш значную ролю не толькі ў культурным, але і ў палітычным жыцці краіны. Асаблівасцю Бела-

русі было рэкрутаванне працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій з асяроддзя сярэдняй і дробнай шляхты.

Як асобную групу гарадскіх жыхароў у гэты час трэба вылучыць яўрэйскае насельніцтва. У канцы XVIII ст. яўрэі складалі каля 50% усіх мяшчан у гарадах Беларусі, яшчэ большай (ад 60 да 90%) была іх колькасць у мястэчках. Яўрэйскія купцы і рамеснікі мелі важную ролю ў эканамічным жыцці гарадоў і мястэчак. У гэты час яўрэі займалі асобае сацыяльнае становішча, мелі канфесійныя сувязі з існаваннем кагальнай арганізацыі і акрэсленымі прывілеямі і забаронамі, якія былі замацаваны заканадаўствам. Як і астатняе гарадское насельніцтва, яўрэі не складалі аднародную масу ў маёмасных адносінах. Бяднейшыя рамеснікі і гандляры эксплуатаваліся кагальнай вярхушкай, што прыводзіла да канфліктаў у межах кагальнай арганізацыі.

Прававое становішча гарадоў і мястэчак Беларусі ў другой палове XVIII ст. спазнала значныя змены. Урад Рэчы Паспалітай зрабіў некалькі спроб рэфарміравання гарадскога самакіравання, якія павінны былі ўзмацніць у гарадах каралеўскую ўладу, а таксама надаць больш правоў заможным гараджанам. Аднак палітыка дзяржавы ў гэтым накірунку не была паслядоўнай і насіла супярэчлівы характар. Большасць з рэформаў закранала каралеўскія гарады і пакідала па-за ўвагай прыватнаўласніцкія. На канвакацыйным сойме ў 1764 г. былі створаны шляхецкія па складу камісіі "добрага парадку", якія павінны былі ўпарадкаваць гарадскую гаспадарку. Камісіі прыступілі да ліквідавання юрыдык, рабілі спробы змяніць сацыяльны статус яўрэйскага насельніцтва. Гэтыя прагрэсіўныя намаганні былі перакрэслены пастановамі соймаў 1768 і 1776 гг. Згодна з імі суд у каралеўскіх гарадах перадаваўся ў рукі стараст, а магдэбургскае права было захавана толькі ў Бярэсці, Вільні, Ваўкавыску, Гародні, Коўне, Лідзе, Менску, Мазыры, Наваградку, Пінску і Троках. Толькі ў перыяд чатырохгадовага сойма быў зроблены крок у іншым накірунку. Пад націскам прагрэсіўных грамадскіх дзеячаў і дзякуючы намаганням заможнага, перш за ўсё сталічнага, мяшчанства ў 1791 г. было адноўлена гарадское самакіраванне, а мяшчанам дазволена набываць зямлю, быць абранымі ў якасці паслоў на соймы і служыць у дзяржаўных установах.

Адначасова адбываецца ўзмацненне агульнасці інтарэсаў маладой буржуазіі і шляхты. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў наданні мяшчанам правоў на набыццё шляхецтва, умовай для чаго з'яўлялася заможнасць мешчаніна. Шляхце было дазволена займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю і гандлем без страты сваіх шляхецкіх правоў (закон 1775 г). Адначасова абмяжоўваліся правы беззямельнай шляхты і дробнага мяшчанства.

Прагрэсіўныя змены ў развіцці Рэчы Паспалітай — аднаўленне сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю — стрымліваліся існуючай феадальна-прыгонніцкай сістэмай. Адмоўны ўплыў на эканамічнае, сацыяльнае і культурнае жыццё краіны аказалі таксама складаныя палітычныя падзеі, якімі была адзначана другая палова XVIII ст.

## Першы і другі падзелы Рэчы Паспалітай

У сярэдзіне XVIII ст. Рэч Паспалітая знаходзілася ў стане глыбокага палітычнага крызісу. Слабая цэнтральная ўлада, няздольнасць соймаў вырашаць надзённыя эканамічныя і палітычныя пытанні з прычыны існавання права "ліберум вета", барацьба магнацкіх груповак за ўладу і ўплыў у дзяржаве паглыбляліся неспрыяльнымі для Рэчы Паспалітай знешнепалітычнымі абставінамі. Пасля Сямігадовай вайны склаўся даволі трывалы саюз паміж Расіяй і Прусіяй. Аслабелыя Аўстрыя і Францыя, якія раней маглі служыць процівагай для знешнепалітычных памкненняў двух вышэйназваных суседзяў Рэчы Паспалітай, зараз часова адыходзяць на другі план у еўрапейскай палітыцы. Расія і Прусія, зацікаўленыя ў захаванні без змен стану знясіленай войнамі і магнацкімі сваркамі Рэчы Паспалітай, з дапамогай дыпламатычных сродкаў, а часцей непрыкрытага ўзброенага націску праводзілі ў краіне зручную для іх палітыку. У гэтай сітуацыі лёс Рэчы Паспалітай залежаў ад здольнасці пануючага класа пайсці на рэформы дзеля ўзмацнення дзяржавы.

У пачатку 60-х гадоў у Рэчы Паспалітай найбольшую вагу мела сям'я Чартарыйскіх і яе бліжэйшыя крэўныя. Пасля смерці Аўгуста II гэтая магнацкая групоўка вырашыла абаперціся на дапамогу Расіі, каб на выбарчым сойме правесці на трон Рэчы Паспалітай

свайго кандыдата. Найбольш верагодным прэтэндэнтам быў стольнік Вялікага княства Літоўскага, пляменнік канцлера Міхала Фрэдэрыка Чартарыйскага, ўраджэнец маёнтка Волчын Берасцейскага павета Станіслаў Панятоўскі. Гэтая кандыдатура задавальняла Кацярыну II — Панятоўскі доўгі час быў паслом у Пецярбургу і карыстаўся асабістай прыхільнасцю імператрыцы. На выбарчым сойме **1764 г.,** дзякуючы намаганням Чартарыйскіх і прысутнасці пад Варшавай рускіх войскаў, Панятоўскі быў абраны на трон Рэчы Паспалітай і прыняў каралеўскае імя Аўгуст. Дабіўшыся першага поспеху, Чартарыйскія і іх прыхільнікі прапанавалі план рэформаў, які з некаторымі абмежаваннямі быў прыняты. Было ліквідавана права "ліберум вета", створана так званая "канферэнцыя караля з міністрамі" — прататып кабінета міністраў, які ажыццяўляў выканаўчую ўладу, зроблены захады па ўпарадкаванню фінансавай сістэмы дзяржавы, скасаваны ўнутраныя мытні, уведзены генеральны мытны тарыф і інш. Далейшыя рэформы павінны былі быць прыняты на сойме ў Т766 г. Але Расія і Прусія, заклапочаныя зменамі ў Рэчы Паспалітай, не жадалі яе ўзмацнення, выступілі з пратэстам супраць асобных пунктаў праграмы рэформаў. Яшчэ ў сакавіку 1764 г. гэтыя дзве дзяржавы заключылі паміж сабой пагадненне, згодна з якім яны абавязваліся перашкаджаць сілай зброі рэфарміраванню дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Пытаннем, якое зрабіла магчымым для Расіі і Прусіі ўмешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, была праблема дысідэнтаў — праваслаўных і пратэстантаў, абаронцамі якіх дзве вышэйназваныя дзяржавы выступалі згодна з ранейшымі пагадненнямі. У Рэчы Паспалітай правы дысідэнтаў былі значна абмежаваныя.

ГНаступленне на правы праваслаўных і пратэстантаў пачалося ў Рэчы Паспалітай яшчэ ў XVI ст. у часы контррэфармацыы|у другой палове XVII—XVIII стст. на Беларусі больш за палову ўсіх праваслаўных цэркваў і пяць манастыроў былі аддадзены уніятам. У практыку ўвайшоў прымусовы перавод прыгонных сялян у унію. Правы дысідэнтаў скарачаліся пастановамі соймаў і канфедэрацый. У 1668 г. была прынята пастанова, адпаведна якой асобы, якія перайшлі з каталіцызму ў праваслаўе або уніяцтва, павінны былі карацца выгнаннем. У канцы XVII ст. шэраг паста-

ноў забараніў праваслаўным выязджаць за мяжу, займаць пасады ў магістраце. У 1732 г. праваслаўныя і пратэстанты былі пазбаўлены права абірацца на соймы, у трыбуналы, іх правы былі суаднесены з правамі найбольш бяспраўнай меншасці — яўрэяў. Дысідэнтам дазвалялася хаваць сваіх нябожчыкаў толькі ноччу, шлюб, хрышчэнне, пахаванне яны маглі праводзіць па свайму абраду толькі з дазволу каталіцкіх святароў. Былі і іншыя забароны і спагнанні. Пасля абрання на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага палітыка ўлад у дачыненні да іншаверцаў не змянілася. На сойме 1764 г. была прынята пастанова аб пакаранні смерцю кожнага, хто пяройдзе з каталіцтва ў іншае веравызнанне. У 1766 г. кракаўскі епіскап Солтык прапанаваў сойму аб'явіць ворагам кожнага, хто асмеліцца сказаць на сойме слова на карысць іншаверцаў. Прапанова была прынята і атрымала сілу закона. Спагнанні на дысідэнтаў з боку ўлад у гэты час можна растлумачыць не толькі націскам з боку фанатычных католікаў, якіх шмат было сярод магнатаў і шляхты, але таксама агульным накірункам унутранай палітыкі на ўніфікаванне, кансалідацыю розных частак Рэчы Паспалітай, што павінна было ўзмацніць дзяржаву. З другога боку, ліквідаванне розніцы ў веравызнанні паміж рознымі часткамі Рэчы Паспалітай пагражала асіміляцыяй беларускаму, украінскаму і іншым народам. Але далейшыя падзеі паказалі, што вырашэнне пытання іншаверцаў у Рэчы Паспалітай хвалявала яе суседзяў менш, чым магчымасць павялічыць свае тэрыторыі за кошт аслабелай польска-літоўскай дзяржавы.

Станіслаў Аўгуст і Чартарыйскія не далі згоды на хуткае ўраўнаванне дысідэнтаў у правах з католікамі, што было ўспрынята Кацярынай II і Фрыдрыхам II як спроба выйсці з-пад дыктату Расіі і Прусіі. Да Рэчы Паспалітай былі накіраваны новыя царскія войскі і пад іх аховай у **1767 г.** створаны праваслаўная канфедэрацыя ў Слуцку і пратэстанцкая ў Торуні. Гэтыя канфедэрацыі, нягледзячы на падтрымку Прусіі і Расіі, былі слабыя і не маглі прымусіць урад Рэчы Паспалітай зрабіць паварот у яе ўнутранай палітыцы. Гэта павінна была зрабіць канфедэрацыя католікаў, створаная пры падтрымцы. царскага пасла Рэпніна ў Радаме ў **чэрвені 1767 г**, якую ўзначаліў Караль Радзівіл. Канфедэрацыя звярнулася да Кацярыны

II з просьбай паспрыяць адмене курса рэформаў і вяртанню да старых парадкаў.

**У кастрычніку 1767 г.** пачаў працу сойм, у парадку дня якога стаяла пытанне аб ураўнаванні ў правах дысідэнтаў і вяртанні дарэформенных парадкаў. Сойм стварыў спецыяльную Камісію, якая павінна была выпрацаваць праект рашэнняў у справах дысідэнтаў. Праз год на пасяджэннях сойма былі прыняты так званыя "Кардынальныя правы", якія мелі сілу закона і вярталі былыя парадкі і прывілеі: выбарнасць караля, права "ліберум вета", выключнае права шляхты на займанне дзяржаўных пасад, валоданне зямлёй, права суда над прыгоннымі і г.д. У "Кардынальных правах" меліся і некаторыя новыя нормы. У прыватнасці, памешчыкі былі пазбаўлены права прыгаворваць прыгонных сялян да пакарання смерцю, на тэрыторыі Польшчы была пашырана норма права, якая існавала ў Статуце Вялікага княства Літоўскага, аб крымінальнай адказнасці шляхціча за забойства простага чалавека. "Кардынальныя правы" дэкларавалі нязменнасць дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай і абвяшчалі гарантам гэтага Расійскую імперыю. Так упершыню дэ-юрэ ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай былі пастаўлены ў залежнасць ад пазіцыі Расійскай імперыі. На гэтым жа сойме дысідэнты былі ўраўнаваныя ў правах з католікамі. Ім дазвалялася займаць дзяржаўныя пасады, браць шлюб з католікамі і г.д.

Ураўнаванне ў правах дысідэнтаў, узмацненне залежнасці Рэчы Паспалітай ад Расіі і Прусіі выклікалі незадавальненне часткі шляхты і магнатаў. **У лютым 1768 г.** у крэпасці Бар на Украіне імі была створана канфедэрацыя, якую ўзначаліў Юзаф Пуласкі. Канфедэраты выступілі супраць караля, змагаліся за панаванне каталіцтва ў Рэчы Паспалітай, за незалежнасць і цэласнасць краіны. Да гэтага руху далучыліся магнаты і шляхта ў іншых рэгіёнах Рэчы Паспалітай. У кастрычніку 1768 г. ваенныя дзеянні разгарнуліся на тэрыторыі Беларусі. Галоўны савет канфедэрацыі прызначыў маршалкам Вялікага княства Літоўскага М.Паца, а камандуючым арміяй Ю.Сапегу. Пад Дзярэчынам войскі канфедэратаў былі разбіты, руская армія заняла Слуцкую і Нясвіжскую крэпасці. Праз год канфедэраты дамагліся перамогі над аб'яднанымі сіламі каралеўскай і царскай армій пад Бераставіцай,

Слонімам і Мышшу (Наваградскі павет). У 1770—1771 гг. на Беларусі дзейнічалі асобныя атрады канфедэратаў, якія вялі партызанскую вайну. У Барскай канфедэрацыі ўдзельнічалі буйнейшыя магнаты, у тым ліку К. Радзівіл і М.К. Агінскі. Рашучая бітва паміж войскамі канфедэратаў і царскай арміяй адбылася на Беларусі 23 верасня 1772 г. Войскі канфедэратаў (3 тыс. чалавек), якімі камандаваў М.К. Агінскі, былі разбіты А. Суворавым пад Сталовічамі.

У гэты час на Падоллі, дзе дзейнічалі асноўныя сілы канфедэратаў, пачаліся народныя хваляванні, выкліканыя абурэннем сялян рабункамі і забойствамі мірнага насельніцтва, якія суправаджалі дзеянні канфедэратаў. Хваляванні ўзмацніліся ў сувязі з чуткамі аб намерах шляхты прымусова перавесці мясцовых праваслаўных у унію. На Украіне выбухнула сялянскае паўстанне, якое атрымала назву «Каліiўшчына». Узначалілі паўстанне Максім Жалязняк і Іван Гонта. Паўстанцы забівалі найбольш ненавісных шляхцічаў і яўрэяў-арандатараў, палілі маёнткі. Паўстанне пагражала перакінуцца ў іншыя рэгіёны Рэчы Паспалітай. Пачалі хвалявацца сяляне ў Беларусі і Польшчы. Урад Рэчы Паспалітай зноў звярнуўся за дапамогай да Кацярыны II. Сумеснымі дзеяннямі каралеўскіх і царскіх войскаў паўстанне было разгромлена.

У гэты час прускі кароль Фрыдрых II пачаў рабіць захады, накіраваныя на падзел тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У пачатку 1772 г. было дасягнута пагадненне паміж Расіяй і Прусіяй па гэтым пытанні, затым да іх далучылася Аўстрыя. Падпісанне афіцыйнага дакумента аб падзеле Рэчы Паспалітай з вясны 1772 г. рабілася настолькі фармальнай справай, што 25 мая 1772 г. Кацярына II выдае «Наказ» губернатарам Пскоўскай і Магілёўскай губерняў, якія павінны былі быць утвораны на далучаных тэрыторыях. У «Наказе» імператрыца прызначыла кіраўнікоў мясцовай адміністрацыі, дала распараджэнні аб першапачатковых мерапрыемствах, якія павінны быць выкананы на "землях, ад Польшчы вернутых". **5 жніўня 1772 г. у Пецярбургу была падпісана канвенцыя, згодна з якой акрэсліваліся ўмовы і межы падзелу.** Прусія анексіравала паўночна-заходнюю частку Польшчы, Аўстрыя — поўдзень Польшчы і Галіцыю. Расія атрымала землі на

ўсход ад Дзвіны і Дняпра — Інфлянцкае ваяводства, вялікую частку Полацкага і Віцебскага ваяводстваў, Мсціслаўскае ваяводства і Рагачоўскі павет Мінскага ваяводства — усяго 92 тыс. кв. км і 1 млн. 300 тыс. жыхароў. Згодна з тагачаснымі звычаямі "асветленыя" манархі тлумачылі свае дзеянні неабходнасцю ўзяць пад апеку землі Рэчы Паспалітай, якія з-за анархіі і магнацкіх спрэчак прыходзяць да заняпаду. Гэтыя сентэнцыі былі падмацаваны пералікам "гістарычных правоў" Расіі, Аўстрыі і Прусіі на анексіраваныя землі. На самай справе, галоўнай прычынай падзелу было жаданне магутных суседзяў Рэчы Паспалітай перапыніць палітыку рэформаў і, карыстаючыся прыдатнай хвілінай, далучыць да сваёй тэрыторыі добры кавалак чужой зямлі. У дадзеным выпадку падзел менш цікавіў Расію, якая амаль цалкам кантралявала сітуацыю ў Рэчы Паспалітай. Але націск аўстрыйскага і, асабліва, прускага манархаў прымусіў Кацярыну II падпісаць Пецярбургскую канвенцыю.

Пасля першага падзелу Рэч Паспалітая яшчэ не перастала існаваць як самастойная дзяржава. У гады паміж першым і другім падзеламі ажыццяўляюцца найбольш важныя рэформы. Першыя гады пасля падзелу ішла зацятая барацьба паміж стаўленікамі Расіі, якіх падтрымліваў рускі пасол, і патрыётамі. У 1775 г. была зроблена спроба стварыць у Рэчы Паспалітай своеасаблівы камітэт міністраў, які б выконваў функцыі ўрада.

З гэтай мэтай была сфарміравана Пастаянная рада, куды ўваходзілі 36 чалавек — 18 дэпутатаў сойма і 18 сенатараў. Гэтая Рада цалкам знаходзілася пад кантролем невялікай групы магнатаў, а таксама рускага пасла і не магла вырашыць надзённыя праблемы развіцця краіны. У 1789 г. "рада здрады", як яе называлі сучаснікі, была ліквідавана.

Вялікую ролю ў палітычным жыцці краіны адыграў Чатырохгадовы сойм, які пачаў дзейнічаць у **1788 г.** Спачатку дэпутатамі сойма былі абраны 177 чалавек, 69 з іх былі прыхільнікамі рэфарміравання дзяржавы і належалі да буржуазна-шляхецкага блока. Гэты сойм абвясціў сябе канфедэрацыяй, што дазваляла прымаць рашэнні простай большасцю галасоў і пазбаўляла моцы права "ліберум вета" (у 1790 г.). Напярэдадні заканчэння паўнамоцтва

дэпутатаў, сойм прыняў пастанову аб падоўжанні сваёй работы яшчэ на два гады і правядзенні дадатковых выбараў. У выніку колькасць дэпутатаў сойма падвоілася. З 359 дэпутатаў Чатырохгадовага сойма 181 быў прадстаўніком прагрэсіўнай партыі.

У студзені 1791 г. сойм прыняў новыя "Кардынальныя правы". Згодна з імі абвяшчалася пануючае становішча каталіцкай царквы, непарушнасць саюза Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, суверэннасць Рэчы Паспалітай, свабода слова і друку. Рашэннямі сойма таксама была павялічана армія, прыняты новыя прынцыпы яе камплектавання. У сакавіку 1791 г. сойм прыняў закон аб сойміках, згодна з якім беззямельная шляхта пазбаўлялася выбарчых правоў. Гэтым у аснову выбарчай сістэмы клаўся не саслоўны, а маёмасны прынцып. Згодна з законам аб гарадах, прынятым 21 красавіка 1791 г. за мяшчанамі было прызнана права асабістай недатыкальнасці, набыцця зямельных маёнткаў, ім дазвалялася займаць дзяржаўныя пасады, быць абранымі на сойм з правам дарадчага голасу, абіраць органы самакіравання і інш. Гэтыя правы надаваліся толькі жыхарам каралеўскіх гарадоў. Акрамя таго, на кожным сойме 30 мяшчан, якія мелі нерухомую маёмасць у гарадах, маглі аб'яўляцца шляхтай, шляхецтва атрымлівалі таксама мяшчане, якія дaслужыліся ў арміі да звання штабс-капітана.

Своеасаблівым вынікам эпохі рэформаў і найвышэйшым дасягненнем патрыятычнай партыі на чале са Станіславам Аўгустам стаў Закон аб урадзе, які ў гістарычнай літаратуры атрымаў назву "Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая". **Канстытуцыя 3 мая была другім у свеце (пасля Канстытуцыі ЗША) дзяржаўным дакументам, які рэгуляваў арганізацыю дзяржаўнай улады, а таксама правы і абавязкі грамадзян, пад якімі разумеліся ўсе жыхары краіны.** Канстытуцыя была прынята з парушэннем рэгламенту пасяджэнняў сойма. Прыхільнікі рэформаў правялі пасяджэнне ў час, калі частка сенатараў не вярнулася з велікодных канікулаў і на сесіі прысутнічалі толькі 182 дэпутаты — крыху больш, чым адна трэць. У дзень, калі ішло прыняцце Канстытуцыі, да каралеўскага палаца ў Варшаве, дзе адбывалася пасяджэнне сойма, былі сцягнуты вайсковыя часткі, верныя прагрэсіўнай партыі. На вуліцы Варшавы выйшлі мяшчане, дэлегацыя гараджан

з'явілася ў зале пасяджэння. Гэтыя меры прадвызначылі поспех прагрэсіўнай партыі і прыняцце Канстытуцыі.

Канстытуцыя складалася з прэамбулы і 11 раздзелаў. Згодна з ёю Рэч Паспалітая пераўтваралася ў канстытуцыйную манархію. Улада караля абвяшчалася спадчыннай. Яна абмяжоўвалася соймам, які па сацыяльнаму статусу большасці дэпутатаў з'яўляўся шляхецкім. Пануючай рэлігіяй абвяшчаўся каталіцызм. Пераход з каталіцкай веры ў іншую забараняўся. Для ўсіх іншых канфесій гарантавалася свабода выканання рэлігійных абрадаў. Шляхта разглядалася ў якасці прывілеяванага саслоўя, але яе правы былі адносна абмежаваныя: яна пазбаўлялася стану найвышэйшай і апошняй улады над прыгоннымі сялянамі. Не адмяняючы залежнасць сялян ад пана, Канстытуцыя дэкларавала, што сяляне пераходзяць "пад апеку права і ўлады дзяржаўнай". У новым законе абвяшчаўся падзел улады ў дзяржаве на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Канстытуцыя зрабіла рашучы крок па шляху зліцця Рэчы Паспалітай у адзіную краіну: былі ліквідаваны асобныя для Літвы і Польшчы цэнтральныя органы ўлады і сфарміраваны адзіны кабінет міністраў і іншыя дзяржаўныя ўстановы, у якіх прадстаўнікам Вялікага княства Літоўскага аддавалася палова пасад.

У сваёй аснове Канстытуцыя 3 мая мела бясспрэчна прагрэсіўны характар і адкрывала шлях да стварэння дэмакратычных асноў улады. Аднак нельга не адзначыць і некаторую абмежаванасць: папранейшаму заставаліся саслоўны характар грамадства і прывілеі шляхты. Для літвінаў, сучасных беларусаў, і літоўцаў далейшае зліццё дзвюх частак Рэчы Паспалітай значыла працяг паланізацыі і пагрозу канчатковай страты сваёй дзяржаўнасці ў выглядзе Вялікага княства Літоўскага.

Канстытуцыя 3 мая, якая з'яўлялася кампрамісам паміж феадаламі і маладой буржуазіяй, была пачаткам падрыхтоўкі новых рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Нездарма яна выклікала незадавальненне старашляхецкай партыі, якую падтрымлівалі Прусія і Расія. 27 красавіка 1792 г. прадстаўнікі кансерватыўнай апазіцыі Браніцкі, Патоцкі і Ржэвускі падпісалі ў Пецярбургу акт канфедэрацыі, які перакрэсліваў пастановы Канстытуцыі 3 мая і

вяртаўся да Кардынальных правоў 1768 г. Гэты акт быў абвешчаны 14 мая ў пагранічным мястэчку Таргавіца ва Украіне, пасля чаго канфедэраты звярнуліся да Расіі за ваеннай дапамогай. Пасля падпісання Яскага мірнага пагаднення з Турцыяй 9 студзеня 1793 г. Расія мела магла прыступіць да вырашэння "польскага пытання". Кацярына II накіравала ў Рэч Паспалітую 100-тысячную армію, што з'яўлялася адкрытай агрэсіяй супраць законнага ўрада краіны. Частка войскаў пад камандаваннем генерала Кахоўскага, які займаў пасаду Магілёўскага губернатара, рушыла ў Польшчу, пскоўскі губернатар генерал Крачэтнікаў атрымаў загад накіраваць войскі ў Літву. Армія Рэчы Паспалітай у гэты час налічвала каля 57 тыс. чалавек, была дрэнна ўзброена, не быў укамплектаваны афіцэрскі корпус. Кіраўніцтва каронная арміяй знаходзілася ў руках Юзэфа Панятоўскага, літоўскае войска ўзначальваў Людвіг Вюртэнбергскі. Менавіта апошні ў час ваенных дзеянняў здрадзіў і перайшоў на бок Расіі, што значна паўплывала на вынік ваеннай кампаніі. Адна з рашаючых бітваў адбылася ля вёскі Дубенкі на Заходнім Бугу. Каралеўскімі войскамі тут камандаваў Тадэвуш Касцюшка, які здолеў, маючы каля 5 тыс. салдат і афіцэраў, стрымліваць націск 20-тысячнай арміі і гэтым забяспечыць адыход галоўных сіл пад кіраўніцтвам Ю. Панятоўскага на падрыхтаваныя пазіцыі.

У гэты час знешнепалітычныя абставіны спрыялі Рэчы Паспалітай: Аўстрыя і Прусія былі ўцягнуты ў вайну з буржуазнай Францыяй і не маглі дапамагчы Расійскай імперыі. Рэч Паспалітая, такім чынам, мела шанцы працягваць барацьбу за незалежнасць. Аднак Станіслаў Аўгуст вырашыў пайсці на кампраміс і адгукнуўся на ўльтыматум Кацярыны II. Ён перапыніў ваенныя дзеянні і пачаў перагаворы з канфедэратамі ў Таргавіцах. Дарэмна Ю. Панятоўскі, Т. Касцюшка і іншыя патрыятычна настроеныя афіцэры дэманстратыўна пайшлі ў адстаўку — рашэнне караля было нязменным. **Станіслаў Аўгуст практычна аддае ўладу ў Рэчы Паспалітай у рукі таргавіцкіх канфедэратаў і Кацярыны II, перакрэсліў тым самым пачатыя рэформы і прынятую Канстытуцыю.**

Урад Расійскай імперыі ў канцы 1792 — пачатку 1793 гг. пачаў

перамовы з Прусіяй і Аўстрыяй аб новым падзеле Рэчы Паспалітай. Прусія, якая не прымала ўдзелу ў баях, імкнулася ўсё ж узнагародзіць сябе матэрыяльна за кошт Польшчы ўзамен за страты, якія яна панесла, змагаючыся ў складзе антыфранцузскай кааліцыі. Аўстрыя, атрымаўшы абяцанні аб перадачы ёй у будучым Баварыі, адмовілася ад тэрытарыяльных прэтэнзій. У гэтых умовах быў праведзены другі падзел Рэчы Паспалітай. **23 студзеня 1793 г.** у Пецярбургу была падпісана канвенцыя паміж Прусіяй і Расіяй, згодна з якой да Прусіі адышлі Вялікапольшча, Мазовія, Гданьск і Торунь. Расія атрымала цэнтральную частку Беларусі да лініі Друя — Пінск, а таксама Заходнюю Украіну і Падолію — усяго 280 тыс. кв. км з 3 млн. жыхароў.

**17 чэрвеня 1793 г.** у Новым замку ў Гародні сабраўся сойм Рэчы Паспалітай, які павінен быў зацвердзіць другі падзел. Пасол Расіі ў Рэчы Паспалітай Сіверс прымаў усебаковыя намаганні, каб забяспечыць прыняцце акта падзелу на пасяджэнні сойма: у двор замка былі ўведзены войскі з гарматамі, патрыятычна настроеныя дэпутаты былі арыштаваны, праводзілася канфіскацыя іх маёнткаў. Сойм ратыфікаваў дагавор з Расіяй, якім пацвердзіў пераход пад яе ўладу беларускіх і ўкраінскіх зямель. Але, нягледзячы на намаганні Сіверса, дагавор з Прусіяй доўга не прымаўся. Пасля яго абвяшчэння дэпутаты маўчалі на працягу некалькіх гадзін, не выносячы ніякага рашэння. Пасля ночы маўчання маршалак сойма Бяліньскі, які з'яўляўся стаўленікам пецярбургскага двара, абвясціў, што маўчанне — знак згоды і закрыў пасяджэнне сойма. Гэты сойм, які праводзіўся ў акружаным войскамі замку, увайшоў у гісторыю пад назвай "маўклівага", ці "нямога".

У час правядзення сойма была скасавана Канстытуцыя 1791 г. і прынята новая. Згодна з ёю аднаўлялася Пастаянная рада, вярталася выбарнасць каралёў, вышэйшым заканадаўчым органам краіны заставаўся сойм, які склікаўся кожныя чатыры гады на восем тыдняў. Як і папярэдняя, новая Канстытуцыя абвяшчала адмену права "ліберум вета", рашэнні на соймах павінны былі прымацца простай большасцю галасоў. Але гэтая Канстытуцыя засталася на паперы, так і не паспела ўступіць у дзеянне — вельмі хутка Рэч Паспалітая знікла з палітычнай карты Еўропы.

## Паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. Трэці падзел Рэчы Паспалітай

Другі падзел Рэчы Паспалітай значна ўскладніў як палітычнае, так і эканамічнае становішча краіны. Парушаны былі эканамічныя сувязі, пустой была дзяржаўная скарбніца. Цяжкім грузам клаліся на плечы насельніцтва кантрыбуцыі, якія павінны былі выплачвацца царскім войскам. Падзел выклікаў абурэнне і рост патрыятычных настрояў шырокіх слаёў насельніцтва. Няздольнасць улад вырашыць жыццёва неабходныя для краіны пытанні станавілася ўсё больш відавочнай. Нездавальненне знешняй і ўнутранай палітыкай, якую праводзілі правячыя колы Рэчы Паспалітай, выказвала не толькі шляхта, але і непрывілеяваныя слаі насельніцтва. Да гэтых настрояў далучаўся пратэст супраць феадальных парадкаў, якія перашкаджалі паступальнаму развіццю краіны. Уздыму нацыянальна-вызваленчага і антыфеадальнага руху ў Рэчы Паспалітай садзейнічала абвастрэнне рэвалюцыйнай барацьбы, якая пад уплывам Французскай буржуазнай рэвалюцыі ахапіла ў той час Заходнюю Еўропу. Бліжэйшыя да Рэчы Паспалітай рэгіёны былі ахоплены рэвалюцыйнымі выступленнямі: у 1793 г. выбухнула паўстанне ткачоў у Сілезіі, на Рэйне разгортвалася барацьба сялян супраць уціску феадалаў, суседняя Венгрыя ўздымалася ў змаганні за незалежнасць ад Аўстрыйскай імперыі. Усе вышэйназваныя акалічнасці адыгралі сваю ролю ў выбуху паўстання, якое па свайму характару і рухаючых сілах было агульнанацыянальным і сумяшчала розныя плыні ў нацыянальна-вызваленчым руху.

Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы паўстання прынялі вядомыя палітычныя і культурныя дзеячы, ваенныя, навукоўцы, святары і прадстаўнікі іншых прафесій і сацыяльных груп. Сярод арганізатараў паўстання акрэсліліся дзве плыні: памяркоўныя, якія не жадалі сацыяльных пераўтварэнняў і баяліся прыцягнуць да паўстання шырокія народныя масы (Дзялыньскі, Капастас і інш.), і радыкалы, якія імкнуліся вярнуць былыя граніцы Рэчы Паспалітай, пераўтварыць манархію ў рэспубліку і правесці радыкальныя буржуазныя рэформы (Касцюшка, Ясінскі і інш.). Гэтыя плыні існавалі як у самой краіне, так і ў эміграцыі, куды пасля другога падзелу выехалі Т. Касцюшка, Г. Калантай, Ф. Дмахоўскі і іншыя дзеячы

вызваленчага руху. Няўзгодненасць мэтаў сярод кіраўнікоў паўстання, якая выявілася ўжо на этапе яго падрыхтоўкі, у далейшым стала адной з прычын няўдачы ўзброенага выступлення.

Яшчэ ў час правядзення другога падзелу Рэчы Паспалітай на яе тэрыторыі пачалі ствараццa тайныя патрыятычныя арганізацыі, таварыствы, саюзы. За мяжой кіраўнікі эміграцыі рабілі захады для атрымання падтрымкі з боку рэвалюцыйнай Францыі. Т. Касцюшка пачаў перагаворы з міністрам замежных спраў і перадаў яму мемарандум, у якім абвяшчаў задачы будучага паўстання. Але ён дарэмна шукаў дапамогі. Разлічваючы, што польскае паўстанне прыцягне да сябе войскі Расіі і Прусіі і гэтым палегчыць становішча Францыі, ні якабінцы, ні жырандысты, між тым, не імкнуліся рызыкаваць сваімі сіламі і дзейсна падтрымаць Рэч Паспалітую. Падрыхтоўка паўстання ўскладнялася яшчэ той акалічнасцю, што ў выпадку няўдачы выступлення Расія, Аўстрыя і Прусія маглі выкарыстаць яго як падставу для апошняга падзелу Рэчы Паспалітай. Дарэчы, рускі пасол Ігельстром нават планаваў справакаваць невялікія хваляванні ў Варшаве, каб у адказ на іх пачаць ваенныя дзеянні і падзяліць тое, што яшчэ засталося ад Рэчы Паспалітай. Трэцяга падзелу асабліва дамагалася Аўстрыя, якая ў 1793 г. не атрымала ніякіх тэрыторый, а разлік на ўзбагачэнне за кошт Баварыі ці іншых зямель аказаўся для яе марным. Цяпер яна імкнулася да рэваншу.

Паўстанне было першапачаткова прызначана на восень 1793 г. Але да гэтага часу не ўсё яшчэ было падрыхтавана. Паўстанцы меркавалі захапіць Кракаў і адцягнуць туды расійскія войскі, якія былі раскватараваны на тэрыторыі краіны. Пасля гэтага аднaчасова ў Варшаве, Любліне і Вільні павінны былі ўзняцца паўстанні.

Дзеянні тайных таварыстваў па падрыхтоўцы выступленняў не засталіся незаўважанымі рускім паслом у Рэчы Паспалітай Ігельстромам, які паводзіў сябе тут як паўнамоцны ўладар. Памеры гэтай дзейнасці насцярожылі яго, бо гаворка была ўжо не аб невялікім хваляванні, а аб усенародным паўстанні. Пад яго націскам былі праведзены арышты, паскорана было расфарміраванне арміі Рэчы Паспалітай, якое праводзілася згодна з рашэннямі Гродзенскага сойма. Частка войскаў на чале з А.

Мадалінскім не падпарадкавалася загадам расійскага пасла і рушыла з Мазовіі, дзе яна стаяла на кватэрах, у бок Кракава. У адказ на гэтую акцыю Ігельстром пачаў сцягваць рускія войскі вакол Варшавы, а частку іх накіраваў наўздагон Мадалінскаму. Такім чынам, Кракаў аказаўся свабодным ад царскай арміі і быў у кароткі тэрмін заняты атрадам Касцюшкі, які ў той час перайшоў ужо мяжу Рэчы Паспалітай. Уваход Т. Касцюшкі ў былую сталіцу Польшчы выклікаў выбух патрыятычнага энтузіязму жыхароў горада. 24 сакавіка 1794 г. на кракаўскім рынку быў абвешчаны Акт паўстання грамадзян, жыхароў Кракаўскага ваяводства. У гэтым акце выкрываліся сапраўдныя матывы і памкненні дзяржаў-суседзяў: *«Няма такой хлусні, прытворства і падману, якімі не зганьбілі б сябе гэтыя два ўрады, — гаварылася ў дакуменце аб урадах Расіі і Прусіі. — Пад выдуманымі прычынамі, хлуслівымі і бессэнсоўнымі, карыстацца якімі пасуе адным толькі тыранам, дагаджаючы на самай справе толькі сваёй ненажэрнай сквапнасці і жаданню распаўсюдзіць панаванне тыраніі на суседнія народы...»*

Згодна з Актам паўстання ўтваралася Вышэйшая нацыянальная рада, якая брала на сябе кіраўніцтва паўстаннем. На месцах органамі паўстання станавіліся ваяводскія камісіі кіравання, якія ў сваю чаргу стваралі дазорныя ўпраўленні. Гэтым апошнім даручалася веданне 1000—1200 сялянскімі гаспадаркамі. Створаны былі новыя органы юстыцыі — рэвалюцыйныя суды, у функцыі якіх уваходзіў разгляд дзеянняў, накіраваных супраць паўстання.

Разам з абвяшчэннем Акта паўстання Тадэвуш Касцюшка прынёс на Кракаўскім рынку прысягу на вернасць народу. Фактычна з гэтага часу Касцюшка стаў паўнамоцным кіраўніком паўстання з правамі дыктатара.

Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка (1746 або 1745 — 1817 гг.) нарадзіўся ў фальварку Марачоўшчына на Брэстчыне ў сям'і небагатага беларускага шляхціча, ён заўсёды лічыў сябе па паходжанню літвінам. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у піярскай школе ў Мястэчку Любешава Пінскага павета, потым у 1765—1769 гг. вучыўся ў Варшаўскім кадэцкім корпусе. Для ўдасканалення ў навуках у 1769 г. Касцюшка выехаў у Францыю, дзе правёў пяць гадоў. У Францыі малады афіцэр апынуўся ў той час,

калі ішла рэвалюцыянізацыя грамадства і наспявала Вялікая рэвалюцыя. Знаёмства з перадавой філасофскай і палітычнай думкай, творамі Вальтэра, Русо, Мантэск'е, назіранне за імклівымі палітычнымі падзеямі вельмі моцна паўплывалі на светаўспрыманне Касцюшкі. Вярнуўшыся на радзіму, ён, аднак, не змог знайсці прымянення сваім ведам і вопыту. Цяжкае матэрыяльнае становішча не дазволіла Касцюшку набыць сабе месца афіцэра, якое тады надавалася за акрэсленую плату. Некаторы час ён працаваў хатнім настаўнікам, а потым выехаў за мяжу, спачатку ў Францыю, а ў 1776 г. — у Паўночную Амерыку. У гэты перыяд тут пачыналася вайна за незалежнасць, і Касцюшка ўступіў у амерыканскую армію ў званні палкоўніка. У арміі паўстанцаў Касцюшка паспяхова выкарыстаў свае веды ваеннага інжынера і талент палкаводца. Перамогі ў бітвах на рацэ Дэлавер і пад Саратогай адбыліся не без яго ўдзелу. За заслугі перад народам Паўночнай Амерыкі ён быў узнагароджаны вышэйшым ордэнам Цынцынаці, а амерыканскі Кангрэс 13 кастрычніка 1778 г. абвясціў Касцюшку генералам брыгады.

У 1784 г. Касцюшка вярнуўся на радзіму, а ў 1789 г. стаў камандзірам брыгады ў польскай арміі. У знак пратэсту супраць пагаднення караля з таргавічанамі ён у 1792 г. пакінуў пасаду і ад'ехаў за мяжу. Вопыт баявога афіцэра, канкрэтныя ўяўленні аб шляхах, па якіх павінна рухацца вызваленчая барацьба народаў Рэчы Паспалітай, дэмакратызм і вера ў перамогу справядлівай справы, арганізацыйны талент — усё гэта вылучыла Касцюшку на ролю кіраўніка паўстанцаў.

Атрымаўшы дыктатарскую ўладу як вышэйшы і адзіны начальнік узброеных сіл, Касцюшка даў абавязацельства, што будзе ўжываць гэтую ўладу толькі на карысць вяртання незалежнасці дзяржавы, абароны, цэласнасці граніц і ўсталявання грамадзянскіх свабод. У першы дзень паўстання Касцюшка выпусціў шэраг адозваў: «Да арміі», «Да грамадзян», «Да жанчын», «Да духавенства», у якіх заклікаў узяцца за зброю ўсіх жыхароў Рэчы Паспалітай ва ўзросце ад 18 да 28 гадоў, абвяшчаў ваенны стан усіх гарадоў і вёсак. У адозвах дэкларавалася свабода веравызнанняў.

На працягу тыдня да атрада Касцюшкі далучылася каля 6 тыс.

чалавек, з іх больш за 2 тыс. сялян, узброеных косамі і пікамі (касінераў). На чале гэтага войска Касцюшка выступіў на Варшаву. На яго шляху стаялі сілы генерала Дзянісава, таму Касцюшка вымушаны быў збочыць на кружны шлях. Але і тут ён натрапіў на часткі генерала Тормасава (3 тыс. чалавек). Выкарыстаўшы перавагу ў жывой сіле, **4 красавіка 1794 г.** Касцюшка разбіў гэты атрад пад Рацлавіцамі. Тут упершыню ў якасці ўдарнай сілы былі выкарыстаны сяляне-касінеры, якія нанеслі неспадзяваны моцны ўдар, захапілі рускія гарматы і такім чынам пазбавілі Тормасава перавагі ў артылерыі. У знак удзячнасці сялянам за мужныя паводзіны ў баі Касцюшка надаў афіцэрскі чын кіраўніку касінераў В. Главацкаму, а сам апрануў белую сялянскую кашулю.

Паўстанне пашыралася. 17—18 красавіка паўсталі гараджане Варшавы. Паўстанцы знішчылі расійскі гарнізон, захапілі арсенал. Рускі пасол вымушаны быў збегчы пад ахову прускіх войскаў, якія стаялі непадалёку ад Варшавы. Узяцце Варшавы — гэта найвялікшы поспех паўстання. Менавіта на вуліцах польскай сталіцы праявілася неабходнасць аб'яднання розных сацыяльных слаёў для поспеху вызваленчай барацьбы. Толькі дзякуючы гераічным дзеянням простых гараджан на чале з майстрам-шаўцом Янам Кіліньскім, якія змагаліся поруч з рэгулярнай польскай арміяй на вуліцах Варшавы, паўстанцы перамаглі моцны расійскі гарнізон (7,5 тыс. чалавек), размешчаны ў сталіцы.

Пасля перамогі паўстання ў Варшаве разгарнулася вострая барацьба за ўладу паміж памяркоўнымі і радыкаламі. Была створана Часовая замяшчальная Рада, якая складалася галоўным чынам з прадстаўнікоў памяркоўнага крыла ў нацыянальна-вызваленчым руху. На чале Часовай рады стаў Закшэўскі. Аднак рэальную ўладу ў сталіцы меў якабінскі клуб, вакол якога групаваліся радыкальныя дзеячы: Т. Марушэўскі, К. Канопка і інш. Пад націскам жыхароў сталіцы, якія знаходзіліся пад уплывам якабінцаў, Крымінальны суд вынес прыгавор магнатам-здраднікам — кіраўнікам Таргавіцкай канфедэрацыі. У пачатку мая былі пакараны смерцю чатыры канфедэраты-таргавічане: Ажароўскі, Забела, Анквіч і біскуп Касакоўскі.

Амаль адначасова з паўстаннем Варшавы быў абвешчаны Акт

паўстання Мазавецкага ваяводства, у якім дэкляравалася далучэнне да барацьбы за незалежнасць. Паўстанне падтрымалі таксама Сандамірскае і Люблінскае ваяводствы, Хелмская зямля.

У канцы сакавіка да паўстання далучыліся землі Вялікага княства. Першыя сутычкі з царскімі войскамі адбыліся ў Шаўлях (сёння — Шаўляй) 16 красавіка. У ноч з 22 на 23 красавіка паўстанцы захапілі Вільню. З дапамогай гараджан невялікі гарнізон літоўскага войска (каля 500 чалавек) разбіў значна пераўзыходзячы атрад царскіх войскаў (3 тыс). Паўстанцам удалося захапіць арсенал, узяць у палон начальніка гарнізона генерала Арсенева і каля 100 расійскіх салдат. Частка гарнізона на чале з маёрам М. Тучковым здолела прабіцца з Вільні. У сталіцы Вялікага княства была створана Вышэйшая рада на чале з якабінцам палкоўнікам Ясінскім. Якуб Ясінскі, таксама як і Касцюшка, закончыў Варшаўскі кадэцкі корпус. У час Чатырохгадовага сойма быў накіраваны для арганізацыі корпуса інжынераў Вялікага княства Літоўскага, хутка стаў камендантам і палкоўнікам гэтага корпуса. У час ваенных дзеянняў 1792 г. ён у якасці палкоўніка прымаў удзел у баях. Ясінскі вядомы і як паэт, ім напісана больш за 40 твораў на польскай і беларускай мовах. Ён быў прыхільнікам рашучых ваенных дзеянняў, імкнуўся прыцягнуць да паўстання беларускіх сялян. Па сваіх палітычных поглядах Ясінскі знаходзіўся ў шэрагах радыкалаў.

Акрамя Я. Ясінскага, у Вышэйшую раду ўваходзілі наваградскі ваявода Восіп Весялоўскі, мінскі кашталян Міхал Абуховіч, аршанскі маршалак Мікалай Храпавіцкі, стараста мінскі Міхал Бжастоўскі, рэчыцкі падкаморы Станіслаў Валовіч, стражнік ВКЛ Ігнат Гелгуд і інш. Неабходна адзначыць, што стварэнне асобнай Вышэйшай рады ў Вільні мела дваістае значэнне. З аднаго боку, такім чынам абвяшчалася аўтаномія Вялікага княства Літоўскага і, нягледзячы на прынятыя ў Канстытуцыі 3 мая ўсталяванні аб адзіных органах кіравання, яго права на ўтварэнне свайго паўстанцкага ўрада. З другога боку, цесныя стасункі паміж Касцюшкам і кіраўнікамі паўстання ў Літве, каардынацыя ваенных дзеянняў абедзвюх частак унітарнай дзяржавы сведчылі аб па-ранейшаму трывалым саюзе. Больш таго, яшчэ да стварэння ў Вільні Вышэйшай рады, Берасцейскае ваяводства разам з Кобрынскім паветам

абвясцілі аб далучэнні да Акту паўстання Кракаўскага ваяводства, а потым, калі становішча стала ўскладняцца, звярнуліся да Касцюшкі з просьбай, каб ён узяў кіраванне ваеннымі дзеяннямі на Брэстчыне ў свае рукі. Падобным чынам зрабілі і гарадзенцы.

24 красавіка ў Вільні быў створаны рэвалюцыйны Крымінальны суд, які разгледзеў справу «таргавічаніна» гетмана Шымона Касакоўскага. Згодна з рашэннем суда Касакоўскі быў пакараны смерцю. Радыкальныя дзеянні Вышэйшай рады на чале з Ясінскім напалохалі правае крыло кіраўніцтва паўстаннем. Пад націскам кансерватараў Касцюшка вымушаны быў звольніць Ясінскага з пасады кіраўніка Вышэйшай рады. Але паўстанне на Беларусі пашыралася. Сярод яго актыўных удзельнікаў быў Міхал Клеафас Агінскі, які на свае грошы сфарміраваў батальён з 480 егераў і сам яго ўзначаліў. Гэтае фарміраванне ваявала пад Смаргонню, Івянцом, каля Ашмян і пад Валожынам.

На пачатку мая Касцюшка, які так і не здолеў прабіцца ў бок Варшавы, адышоў у лагер пад Паланцом, каб забяспечыць сабе свабоду манеўру. 7 мая 1794 г. ён выдаў Паланецкі універсал, які ўсталёўваў новыя заканадаўчыя нормы. Згодна з ім абвяшчалася апека ўрада над сялянамі, якія аб'яўляліся асабіста вольнымі. Зямля, як і раней, пакідалася ў валоданні памешчыкаў. Пайсці ад пана селянін мог толькі пры ўмове выплаты даўгоў і дзяржаўных падаткаў, а таксама паведаміўшы камісію кіравання аб месцы перасялення. Памешчык не меў права перасяляць сялян з зямлі, якой яны карысталіся. Скарочана была паншчына: на два дні там, дзе яна была больш за чатыры дні на тыдзень, на адзін дзень там, дзе паншчына складала ад двух да чатырох дзён, і на палову дня пры аднадзённай паншчыне. Сяляне заклікаліся старанна выконваць свае абавязкі адносна памешчыкаў, клапаціцца аб гаспадарцы, не адмаўляць памешчыку ў выпадку яго жадання наняць іх на працу. Спецыяльныя камісіі павінны былі сачыць за выкананнем усталяванняў універсала. Адзін з артыкулаў гэтага дакумента папярэджваў, што ў выпадку невыканання памешчыкамі пунктаў новага заканадаўства, яны будуць прыцягвацца да суда і разглядацца як ворагі паўстання. Паланецкі універсал меў ярка выражаны кампрамісны характар. Касцюшка, імкнучыся прыцягнуць на свой

бок сялян, адначасова не хацеў страціць саюзнікаў сярод шляхты. Паланецкі універсал пайшоў значна далей, чым усе папярэднія рэформы ўрада Рэчы Паспалітай. На жаль, нават гэтыя палавінныя меры не выконваліся шляхтай. Супраць палажэнняў універсала выступілі вярхі каталіцкага духавенства. Нягледзячы на гэта, палітыка Касцюшкі ў дачыненні да сялянства дала свой плён. Па няпоўных падліках, у час паўстання на тэрыторыі Рэчы Паспалітай дзейнічала каля 800 сялянскіх атрадаў, у некаторых бітвах прымала ўдзел да 6 тыс. сялян-касінераў.

Паўстанне ў ВКЛ дасягнула ў маі 1794 г. найвышэйшага ўздыму. Былі вызвалены ад царскіх войскаў Ашмяны, Браслаў, Навагрудак, Ліда, Гародня, Ваўкавыск, Слонім, Бярэсце, Кобрын і іншыя гарады. Паўстанцкія атрады прабіліся нават на тэрыторыю, якая была далучана да Расійскай імперыі паводле другога падзелу. У канцы мая інсургенты ўзялі Пінск, а атрад пад кіраўніцтвам генерала Грабоўскага дайшоў да Бабруйска. Аднак у пачатку чэрвеня палітычная і ваенная сітуацыя пачала складвацца не на карысць паўстанцаў. Рускія і прускія войскі аб'ядналі свае сілы. Намаганні Касцюшкі перашкодзіць гэтаму аб'яднанню былі беспаспяховымі. Нягледзячы на колькасную перавагу аб'яднаных руска-прускіх сіл, 6 чэрвеня прыняў ён бой ля мястэчка Шчакаціны. Бітва скончылася цяжкім паражэннем паўстанцаў. Касцюшка вымушаны быў адвесці свае войскі, якія панеслі значныя страты. У выніку паражэння пад Шчакацінамі паўстанцы вымушаны былі пакінуць Кракаў.

Новае паражэнне пацярпела паўстанцкая армія 8 чэрвеня пад Хелмам. У выніку быў адкрыты шлях да Варшавы расійскаму корпусу, які наступаў з тэрыторыі Валыні. Нягледзячы на паражэнні, паўстанне пашыралася. У канцы чэрвеня пачаліся выступленні ў Курляндыі, паўстанцы захапілі Лібаву. Але ў пачатку ліпеня аб'яднаныя руска-прускія войскі аблажылі Варшаву, якую разам з часцямі рэгулярнай арміі Рэчы Паспалітай абараняла апалчэнне з гараджан. 20 ліпеня ўспыхнула паўстанне на землях, якія адышлі да Прусіі паводле другога падзелу. Гэта прымусіла Фрыдрыха II адцягнуць частку сваіх войскаў. За імі адышла і руская армія.

У сярэдзіне лета рускія войскі пачалі паступова выціскаць інсургенцкія атрады з тэрыторыі Беларусі. У жніўні пачаліся ваен-

ныя дзеянні на подступах да Вільні. 12 жніўня сталіца ВКЛ была ўзята. Паўстанцы адышлі ў бок Нёмана. У гэты час на Беларусь прыехаў Касцюшка, каб дапамагчы ў арганізацыі новых атрадаў і паправіць становішча. Але сітуацыя яшчэ больш ускладнілася. 8 верасня царскі пасол у Стамбуле атрымаў абяцанне Турцыі захаваць мір з Расіяй, што дазволіла Кацярыне II перакінуць з турэцкай граніцы ў раён ваенных дзеянняў вайсковыя часці на чале з А.Суворавым. Корпус Суворава хуткім маршам рушыў з Украіны на тэрыторыю Беларусі і яго нечаканае з'яўленне ў раёне Палесся паставіла ў цяжкае становішча дывізію інсургентаў пад кіраўніцтвам генерала Серакоўскага, пры якой у той час знаходзіўся Касцюшка. Адначасова на злучэнне з Суворавым з паўднёвага захаду рухаўся корпус генерала Ферзена. На дапамогу Серакоўскаму, які павінен быў затрымаць Ферзена, Касцюшка вырашыў прыцягнуць часткі пад камандаваннем генерала Панінскага. Але гэта дывізія стаяла даволі далёка ад корпуса Серакоўскага, і загад Касцюшкі, дасланы ім з месца бітвы, не паспеў своечасова.

**10 кастрычніка** пад Мацяевічамі Ферзен атакаваў войскі паўстанцаў, якія мелі ўдвая менш жывой сілы і артылерыі, і нанёс ім знішчальнае паражэнне. Паранены Касцюшка трапіў у палон. Разгром значных сіл паўстанцаў і выключэнне з кіраўніцтва паўстаннем найбольш таленавітага дзеяча, якім быў Касцюшка, прадвызначылі ход далейшых падзей. Нягледзячы на тое, што 12 кастрычніка на месца начальніка ўзброеных сіл быў прызначаны здольны і разумны чалавек, зямляк Касцюшкі Тамаш Ваўжэцкі, замяніць прызнанага кіраўніка паўстання ён не змог. Не маючы спецыяльнай вайсковай падрыхтоўкі, а таксама часу для арганізацыі абароны сталіцы, Т. Ваўжэцкі не меў ніякіх шанцаў на перамогу над такім вопытным праціўнікам, якім з'яўляўся А. Сувораў. Корпус яго ў гэты час рухаўся на Варшаву. 4 лістапада штурмам генерал-фельдмаршал узяў прадмесце польскай сталіцы Прагу, вынішчыў пры гэтым да адзінага чалавека ўсіх яе абаронцаў. Варшава капітулявала. 16 лістапада здалося паўстанцкае войска на чале з Ваўжэцкім. Пачалася расправа з удзельнікамі паўстання. У Смаленску Кацярына II склікала следчую камісію, якая разглядала справы кіраўнікоў інсургентаў. Ужо на пачатку яе дзеяння былі

асуджаны 85 афіцэраў. Па некаторых падліках, усяго было адпраўлена ў ссылку або пакарана іншым чынам больш за 12 тыс. чалавек. 20 тыс. паўстанцаў было інтэрніравана ў Аўстрыі, 3 тыс. — у Прусіі.

Беспаспяховасць паўстання 1794 г. была прадвызначана ўжо з першых яго крокаў. Няўзгодненасць дзеянняў кіраўніцтва, хістанні ў найбольш важных пытаннях — вызваленні сялян, ліквідацыі феадальных перажыткаў і г.д. — звузілі яго сацыяльную базу. Слабай была буржуазія, асабліва ў Вялікім княстве, інертнымі заставаліся сотні тысяч сялян. Сілы паўстання падрывалі адкрытая здрада, перашкоды, якія чынілі дзеянням Касцюшкі многія памешчыкі і вышэйшае духавенства. Недакладна была разлічана і знешнепалітычная сітуацыя. Спадзяючыся, што барацьба з буржуазнай Францыяй і Турцыяй адцягне на сябе сілы Аўстрыі, Расіі і Прусіі, кіраўнікі паўстання не змаглі знайсці саюзнікаў за мяжой. У час, калі Рэч Паспалітая супрацьстаяла тром магутнейшым дзяржавам Еўропы, Францыя здолела ўмацавацца і ў далейшым атрымала перамогу над членамі антыфранцузскай кааліцыі. Сваёй гібеллю Рэч Паспалітая выратавала рэвалюцыйную Францыю. Няўдача паўстання прадвызначыла ліквідаванне Рэчы Паспалітай як самастойнай дзяржавы. Па сутнасці, трэці падзел рыхтаваўся яшчэ напярэдадні паўстання і толькі яно магло, у выпадку перамогі, прадухіліць яго правядзенне. Перамовы аб падзеле Рэчы Паспалітай пачаліся ўжо летам 1794 г. Прэтэнзіі на памер тэрыторыі, якую намерваліся атрымаць дзяржавы-захопніцы ў выніку падзелу, не былі прапарцыянальнымі іх ролі ў ваенных дзеяннях супраць паўстанцкіх войскаў. Аўстрыя, якая адвяла сваю армію пасля беспаспяховай першай аблогі Варшавы, імкнулася атрымаць такі вялікі кавалак польскай тэрыторыі, што гэта амаль не прывяло да сутычкі яе з Прусіяй. Арбітрам у гэтай справе выступіла Расія, якая стала на бок Аўстрыі. Пасля доўгіх спрэчак 24 кастрычніка 1795 г. былі ўсталяваны межы падзелаў. Прусія атрымала Мазовію і частку тэрыторыі Літвы да Нёмана (48 тыс. кв. км, 11 млн. жыхароў), Аўстрыя атрымала тэрыторыю паўднёвай і цэнтральнай Польшчы з гарадамі Кракавам, Сандамірам, Люблінам і Холмам (47 тыс. кв. км, 11,5 млн. жыхароў). Расіі адышла Заход-

няя Беларусь, Літва, Курляндыя, частка Валыні (120 тыс. кв. км, 11, 2 млн. чалавек).

**25 лістапада 1795 г.** апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі пад прымусам (Кацярына II паабяцала за гэта аплаціць яго даўгі) падпісаў у Гродне акт адрачэння ад прастолу. Такім чынам Рэч Паспалітая, якая існавала болын за 200 гадоў, знікла з карты Еўропы. У XVIII ст. некалькі краін напаткаў лёс Рэчы Паспалітай. Але толькі яна была падзелена такім чынам, што этнічна аднастайныя часткі (Польшча, Літва) былі разарваны паміж рознымі дзяржавамі. Заняпад і знікненне гэтай некалі магутнай дзяржавы былі абумоўлены шэрагам прычын, частка з якіх была закладзена ўжо на самым пачатку стварэння Рэчы Паспалітай. Шляхецкая анархія, слабыя сувязі паміж рознымі часткамі дзяржавы, рэзкія сацыяльныя канфлікты, канфесійная і этнічная стракатасць — усё гэта знясіліла Рэч Паспалітую і зрабіла яе лёгкай здабычай для суседзяў.

## ЛЕКЦЫЯ 35

# СТАН КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVII—XVIII ст.

- *Гістарычныя ўмовы культурнага развіцця беларускага народа.*
- *Грамадска-палітычная думка. Навука.*
- *Стан асветы. Кнігадрукаванне.*

## Гістарычныя ўмовы культурнага развіцця беларускага народа

Развіццё беларускай культуры ў другой палове XVII—XIII стст. адбывалася ў надзвычай неспрыяльных гістарычных умовах. Гэта быў адзін з самых цяжкіх перыядаў у нашай гісторыі. Беларусь перажывала разам з Рэччу Паспалітай зацяжны крызіс. Ён адчуваўся літаральна ва ўсіх сферах палітыкі, гаспадаркі, грамадскай думкі. **Уздым часоў Рэнесанса і Рэфармацыі змяніўся заняпадам.**

Бясконцыя войны, у якія была ўцягнута Рэч Паспалітая ў другой палове XVI — пачатку XVIII ст., крывавыя сутычкі замежных армій з рознымі канфедэратамі разарылі беларускія землі, прывялі да дэмаграфічнага спаду, заняпаду гандлю, рамёстваў, сельскай гаспадаркі, знішчылі многія здабыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Крызіснае становішча Беларусі было таксама абумоўлена свавольствам і міжусобіцамі магнатаў, феадальнай анархіяй, дынастычнымі інтрыгамі, тым станам хаосу, што панаваў у Рэчы Паспалітай. Агульны крызіс феадальнага ладу, узмацненне сацыяльнага прыгнёту, які набываў самыя пачварныя формы, заняпад гарадоў адмоўна адбіліся на культурным жыцці Беларусі.

На беларускіх землях актывізаваліся сілы контррэфармацыі на чале з Ордэнам езуітаў. Выконваючы рашэнні Трыдэнцкага сабора, яны жорстка праследавалі праваслаўе і пратэстанцтва. У 1658 г. сойм Рэчы Паспалітай прыняў пастанову аб выгнанні арыян, у 1668 г. пад пагрозай выгнання забараніў пераходзіць з каталіцтва ў іншыя веравызнанні. Ішлі ганенні на брацтвы, брацкія школы і друкарні. З даволі шматлікіх брацкіх друкарняў да пачатку XVIII ст. засталася толькі адна ў Магілёве. "Пастырскае пасланне" 1717 г,

рашэнні сойма 1733 г. закрывалі праваслаўнай шляхце і духавенству доступ у сенат, сойм, на ваяводскія і павятовыя соймікі, у суды. Праваслаўныя мяшчане не мелі права займаць пасады ў магістраце.

У езуіцкіх колах выношваўся план поўнага знішчэння іншаверцаў. У другой палове XVII ст. быў складзены тайны "Праект аб знішчэнні аб'яднанай Русі", абнародаваны ў 1717 г. Невядомы аўтар (не выключана, што ім быў езуіт Алойз Кулеша) прапанаваў вытанчаную праграму барацьбы з праваслаўем і уніяцтвам.

З другой паловы XVII ст. каталіцызм пачынае праследаваць таксама уніяцтва, асабліва пашыранае на Беларусі. Уніяты не здзейснілі ўсіх намераў ідэолагаў Брэсцкай уніі, далёка не ўсе сталі вернымі праваднікамі папскай палітыкі на ўсходніх прасторах Еўропы, недалёка адышлі ад праваслаўя. Таму **ў другой палове XVII ст. каталіцызм, які з'яўляўся пануючай рэлігіяй у Рэчы Паспалітай, змяніў тактыку ў дачыненні да уніяцтва. Ранейшая паблажлівасць саступіла месца нецярпімасці.** Уніятаў пачалі прымусова пераводзіць у каталіцкую веру. Шляхта ў пагоні за прывілеямі масава пераходзіла ў каталіцызм, а уніяцтва станавілася "мужыцкай верай". У пачатку XVIII ст. матэрыяльнае становішча уніяцкага духавенства мала чым адрознівалася ад становішча сялян. У побыце і нават у час набажэнства яно шырока карысталася беларускай мовай.

Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай 70% жыхароў Беларусі складалі уніяты, 15% — католікі, 6% — праваслаўныя, 7% — іудзеі, *2%* — пратэстанты. Самай масавай верай было уніяцтва. Яго сацыяльную базу складала сялянства, 80% якога былі уніятамі. Моцны ўплыў меў касцёл. Ён спрабаваў заняць пануючае становішча ў духоўным жыцці грамадства. У другой палове XVII — першай палове XVIII ст. адбываецца амаль суцэльная клерыкалізацыя культуры, падпарадкаванне ўсіх яе бакоў рэлігіі. Манаполію на адукацыю і навуку захапіла царква. Навучальныя ўстановы каталіцкіх манаскіх ордэнаў, галоўным чынам езуіцкія калегіі, становяцца асноўным тыпам школ, праграмы іх звузіліся і закасцянелі. У аснове навучання былі тэалогія, схаластычная філасофія і лацінская мова. Езуіцкая школа выхоўвала вучняў у духу пагарды да ўсяго зямнога,

ім унушаліся ўяўленні аб дзеянні звышнатуральных сіл у свеце, аб дасканаласці існуючага ладу і непатрэбнасці любых пераўтварэнняў.

Пануючы клас Рэчы Паспалітай загразнуў у саслоўным эгаізме і рэтраградстве. Нізкім быў узровень адукаванасці ў краіне. Паводле даных А.А. Біралы, у пачатку XVIII ст. сярод магнатаў і багатай шляхты было 28% непісьменных, сярэдняй шляхты — каля 40%, дробнай шляхты — 92% і мяшчан — 44%. Сярод сялян была, відаць, суцэльная непісьменнасць.

Калі ў Заходняй Еўропе ў XVII і першай палове XVIII ст. працягвалася хуткае памнажэнне заваёў эпохі Адраджэння і назіраўся значны прагрэс ва ўсіх галінах ведаў, а ў суседняй Расіі ў часы Пятра I рабіліся рашучыя захады па пераадоленню тэхнічнай і культурнай адсталасці краіны, то ў Рэчы Паспалітай, якая ўступіла ў паласу эканамічнага заняпаду і палітычнага крызісу, бліскучыя дасягненні навукі і культуры былых стагоддзяў былі шмат у чым страчаны. Навуковыя веды аб'яўляліся грахоўнымі і несумяшчальнымі з прыхільнасцю да хрысціянства. Рэлігійны фанатызм набыў страшэнныя памеры. На мяжы XVII і XVIII стст. у многіх месцах адбыліся працэсы над так званымі ведзьмамі і калдунамі. Панізіўся ў параўнанні з Рэнесансам узровень адукацыі. Кніжны рынак быў наводнены клерыкальнай літаратурай на лацінскай і польскай мовах.

Агульны крызіс, які ахапіў тагачасную Рэч Паспалітую, закрануў усе сферы ідэалогіі. Інтэлектуальнае жыццё Беларусі нібы пайшло назад. Забываліся і свядома знішчаліся здабыткі часоў Рэнесанса і Рэфармацыі. Другая палова XVII — першая палова XVIII ст. былі часам глыбокага заняпаду грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі. Яе развіццё рэзка замарудзілася. У філасофіі непадзельна панаваў ідэалістычны напрамак.

Ідэі контррэфармацыі зрабілі выразны ўплыў на беларускае мастацтва другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. Праўда, у гэтай галіне духоўнага жыцця іх увядзенне не было такім адмоўным, як у сферы грамадскай думкі. Справа ў тым, што ў адрозненне ад Рэфармацыі, контррэфармацыя імкнулася да пышнасці і пампезнасці, да ўздзеяння на пачуцці веруючых сінтэзам розных відаў

мастацтва — архітэктуры, жывапісу, скульптуры, музыкі, публічных тэатралізаваных відовішчаў. У час урачыстых набажэнстваў, тэатралізаваных шэсцяў і прадстаўленняў усё бьшо падпарадкавана адзінай мэце — запаланіць зрок і слых чалавека, схіліць яго думкі да марнасці зямнога жыцця і радасці нябеснага.

Пануючым мастацкім напрамкам (стылем) эпохі контррэфармацыі было пышнае і вытанчанае барока. Як мастацкі напрамак, што нарадзіўся на скрыжаванні рэнесансных і сярэдневяковай традыцый, барока значна шырэй контррэфармацыі. Яно развівалася не толькі ў каталіцкім, але і ў пратэстанцкім, праваслаўным, уніяцкім асяроддзях. Эстэтыка барока — значны крок наперад у развіцці тагачаснага мастацтва. Барока, упершыню з'явіўшыся ў раманскай Еўропе на хвалі контррэфармацыі, было адмаўленнем рэнесансу і зваротам да сярэднявечча з яго набожнасцю і забабоннасцю, адмаўленнем "бацькоўскай" стадыі ў развіцці культуры і зваротам да "дзедаўскай". У адрозненне ад рэнесансу, які абвяшчаў антрапацэнтрызм, лічыў чалавека і яго розум мерай усіх рэчаў, тэацэнтрычнае барока падпарадкоўвала чалавека догмам рэлігіі. Рэнесансу быў уласцівы рацыяналістычны погляд на свет, барока — гэта ідэалізм, містыка, схаластыка. Калі рэнесансная літаратура асноўнай сваёй мэтай абвяшчала павучанне, зварочвалася да розуму, то літаратура барока імкнулася ўздзейнічаць на пачуцці, усхваляваць чытача, выклікаць у яго патрэбны эфект. У цэлым эстэтыка барока з'яўляецца ідэалістычнай.

У розных краінах, у тым ліку ў ВКЛ, агульнаеўрапейскія тэндэнцыі барока лёгка ўваходзілі ў кантакт з мясцовымі, чыста народнымі традыцыямі. Гэта надавала творам барока непаўторнасць, нацыянальную адметнасць. Найбольш поўна барока праявілася ў манументальнай архітэктуры Беларусі.

У 40—50-я гады XVIII ст. Беларусь разам з Рэччу Паспалітай у цэлым уступіла ў эпоху Асветніцтва — адну з найбольш важных у гісторыі сусветнай культуры. Беларуская культура другой паловы XVIII ст. развівалася пад уздзеяннем славянскага і заходнееўрапейскага Асветніцтва, ва ўмовах эканамічнага ажыўлення і настойлівых пошукаў выхаду з зацяжнога палітычнага крызісу, звязаных з актывізацыяй элементаў капіталістычнага ўкладу. З

сярэдзіны XVIII ст. адбываецца ажыўленне гарадоў, сельскай гаспадаркі, росквіт гандлю.

Цэнтрам культурнага жыцця заўсёды быў горад. З сярэдзіны XVIII ст. на карце Беларусі з'яўляюцца новыя культурныя цэнтры Шклоў, Слуцк і інш., павышаецца роля традыцыйных Нясвіжа, Міра, Навагрудка і г.д. Дзякуючы рэфарматарскай дзейнасці Антонія Тызенгаўза асяродкам еўрапейскай цывілізацыі становіцца Гродна. Затое страціў былое значэнне Полацк. У адрозненне ад горада беларуская вёска стагоддзямі не зведала вялікага прагрэсу ў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Для яе, замкнутай і адсунутай ад кантактаў з шырэйшым светам, пазбаўленай магчымасці карыстацца дабротамі асветы, прыток культурнага зместу звонку быў надзвычай ускладнёны і абмежаваны. Духоўную культуру вёскі фарміравалі тры асяродкі: карчма, якая была для прыгонньгх нечым накшталт сённяшняга клуба, панскі двор і царква (ці касцёл).

Вядома, контррэфармацыя адступіла не адразу. У 40—60-я гады, на этапе ранняга, пачатковага Асветніцтва, ішла ўпартая барацьба супрацьлеглых сіл. Менавіта тады вызначыліся многія новыя тэндэнцыі, новыя шляхі ў грамадска-культурным жыцці, развіцці літаратуры і мастацтва. Менавіта тады пахіснуліся эстэтычныя каноны барока, адбывалася пераарыентацыя ў традыцыях (на эпоху Рэнесанса) і тагачасных тэндэнцыях (на класіцызм і сентыменталізм). Кансерватыўным сілам у тагачаснай Беларусі супрацьстаялі такія асветнікі-рэфарматары, як Антоній Тызенгаўз, Іаахім Храптовіч, Мацей Бутрымовіч. Іх падтрымліваў новы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

Эпоха Асветніцтва нарадзіла новага чалавека, новыя ідэалы, якія знайшлі сваё ўвасабленне ў грамадска-філасофскай думцы і мастацтве, у шматмоўнай літаратуры Беларусі і ўласна беларускай. Асветніцтва ахоплівала не толькі мастацтва, але і іншыя сферы: грамадска-палітычную, філасофскую, навуковую думку. Асветніцтва — гэта своеасаблівая "культурная фармацыя", этап у развіцці культуры. Асноўнымі мастацкімі напрамкамі (стылямі) эпохі Асветніцтва з'яўляліся класіцызм і сентыменталізм. Першы з іх апеляваў да чалавечага розуму, другі — да сэрца, пачуццяў.

На хвалі Асветніцтва ідзе секулярызацыя грамадскай свядо-

масці, заняпад аўтарытэту царквы, развіццё свецкага светапогляду, пашырэнне рэлігійнага скептыцызму. На змену фанатызму, забабоннасці, пасіўнасці, жорсткасці, крывадушшу паступова прыходзяць культ розуму, рацыяналізм, грамадзянскасць, актыўнасць, патрыятызм. Агульнапалітычны ўздым апошняй трэці XVIII ст. на Беларусі, які ахапіў мясцовую шляхту і гараджан, меў сваім вынікам распаўсюджванне перадавых для свайго часу дэмакратычных ідэалаў. Сярод шляхты і гараджан растуць, з аднаго боку, сепаратысцкія настроі да Польшчы, а з другога — патрыятызм, абуджаны падзеламі Рэчы Паспалітай. "Краёвы" літвінскі патрыятызм перастае быць набыткам абмежаванага кола асоб.

У славянскіх краінах, у тым ліку і на землях Беларусі, Асветніцтва мела ў адрозненне ад заходнееўрапейскага шэраг адметных рысаў. Філасофія Асветніцтва не набыла тут такога рашучага рэвалюцыйнага і матэрыялістычнага характару, як у Заходняй Еўропе. Слабай развітасцю буржуазных грамадскіх адносін тлумачыцца тое, што носьбітам ідэй асветніцтва ў Беларусі выступалі прадстаўнікі не буржуазіі, а перадавога дваранства (шляхты) і, часам, духавенства.

Аднак, нягледзячы на гэтыя адрозненні, славянскае, у тым ліку і беларускае, Асветніцтва ўсё ж было цесна звязана з заходнееўрапейскім. Славянскіх і заходнееўрапейскіх асветнікаў аб'ядноўвала вера ва ўсемагутную сілу розуму, у тое, што пры дапамозе ведаў можна змяніць грамадства да лепшага. Аб'ядноўвала агульная накіраванасць супраць феадальнага ладу, супраць пануючых у папярэднюю эпоху ідэй контррэфармацыі, за чалавека і яго вызваленне ад рэлігійнага фанатызму. Аб'ядноўвала арыентацыя на антычнасць і Рэнесанс, бо гэта была арыентацыя на часы Скарыны і Буднага.

У другой палове XVII—XVIII ст. узраслі касмапалітычныя тэндэнцыі ў культуры, носьбітамі якіх былі тыя ж каталіцкія ордэны. Буйная і сярэдняя шляхта масава дэнацыяналізавалася, прымала разам з каталіцызмам польскую мову і польскую культуру. Соймавымі пастановамі 1696—1697 гг. завяршылася паступовае выцясненне беларускай мовы з дзяржаўнага справаводства і афіцыйнага ўжытку. Паланізацыя адцягвала ад беларускай культуры значныя разумовыя сілы. "Руская" мова ўжывалася пераважна ў сферах хат-

няга жыцця, а ў літаратуры — у сатырычных і парадыйных творах, дзе трэба было выклікаць камічны эфект. Становішча ўскладнялася яшчэ і тым, што польская мова блізкая да беларускай. У тагачаснай Беларусі яе разумелі без перакладчыка, яна не ўспрымалася як чужая (у якасці чужой мовы выступала, хутчэй, лаціна). Беларуска-польская моўная блізкасць істотна замаруджвала развіццё новай беларускай літаратуры ў той час, як старажытная беларуская літаратура апынулася ў стане крызісу. Кніжная мова старажытнага пісьменства ўсё больш адрывалася ад жывой гутарковай мовы, набліжалася да стараславяншчыны і таму станавілася незразумелай шырокаму чытачу. Пачаўся "распад" "рускай" мовы, шмат у чым адзінай для беларускай і ўкраінскай літаратур.

Тагачаснае літаратурнае жыццё Беларусі мела полілінгвістычны характар. Мала хто тады пісаў на пагарджанай і апалячанай беларусчыне. Пісалі на польскай, лацінскай, старaславянскай мовах. Таму гэта спадчына, заснаваная часта на мясцовым матэрыяле, належыць адначасова дзвюм або і тром суседнім літаратурам. У параўнанні з часамі барока літаратура Беларусі эпохі Асветніцтва мела яшчэ больш ярка выражаны полілінгвістычны характар. Беларускія творы займалі ў ёй далёка не вядучае месца. Асноўнай літаратурнай мовай Беларусі з'яўлялася тады польская. Пасля 1772 г. і асабліва ў 90-я гады актыўна распаўсюджвалася руская мова. У Беларусі пісаліся творы і выдаваліся кніжкі таксама на старaславянскай, лацінскай, яўрэйскай, нямецкай, французскай, у рукапісныя зборнікі ўключаліся тэксты на ўкраінскай, літоўскай, татарскай мовах.

Паралельна з кулыурай правячых вярхоў развівалася культура нізоў — сялянства, збяднелай шляхты, гараджан. Толькі народныя масы, казаў некалі М. Багдановіч, захоўвалі элементарныя асновы сваёй калісьці багатай нацыянальнай культуры. Мастацкая свядомасць народа праяўлялася найперш у фальклоры, а таксама часткова ў творах пісьмовай літаратуры, выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога і тэатральнага мастацтва. З нізоў трэцяга саслоўя паходзіць большасць беларускай інтэлігенцыі таго часу — вандроўныя бурсакі і семінарысты, выйшаўшыя з іх дзякі, настаўнікі (бакалаўры), дробныя чыноўнікі.

Ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнасці Беларусі, дэнацыяналізацыі

значнай часткі мясцовай інтэлігенцыі вялікую культурна-гістарычную місію ўзяло на сябе запрыгоненае і бяспраўнае сялянства, якое зберагло нацыянальныя традыцыі і мову. Менавіта вёска менш за усё паддалася культурна-моўнай асіміляцыі. Сацыяльная база беларускамоўнай кулыуры звузілася тады да сялянства, гарадскіх нізоў, уніяцкага святарства, часткі дробнай і сярэдняй шляхты, якія не паддаліся прымусовай паланізацыі., яе носьбітам у сакральнай сферы засталося уніяцкае духавенства. У патрыятычных базыльянска-уніяцкіх колах ішло супраціўленне польскамоўнаму засіллю.

## Грамадска-палітычная думка. Навука

Часы контррэфармацыі (другая палова XVII — першыя дзесяцігоддзі XVIII ст.) былі часамі глыбокага заняпаду грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Беларусі. Адбыўся разрыў з традыцыямі Адраджэння. У поглядах на мінулае і сучаснае чалавецтва адраджаецца правідэнцыяналізм. Праз гістарычныя, педагагічныя і рэлігійна-палемічныя творы навязваецца ідэя аб боскім кіраўніцтве ходам гісторыі і чалавечымі лёсамі. У філасофіі непадзельна панаваў ідэалізм, містыка, сярэдневяковая схаластыка, што выкладалася ў езуіцкіх калегіях. Філасофія ператварылася ў служанку багаслоўя і аказалася замкнёнай у манастырскіх келлях і навучальных установах, якія кантраляваліся царквой. У пачатку XVIII ст. з'явіліся і мясцовыя прыхільнікі суб'ектыўнага ідэалізму. Найбольш значным сярод іх быў гісторык і царкоўны публіцыст Ян Пашакоўскі, які выкладаў у Слуцку і Нясвіжы, рэктар Жодзішскай калегіі К. Вярбіцкі, тэолаг А. Кярсніцкі, жыццё якога звязана з Гародняй і Слуцкам. Іх творы з'яўляліся тыповым узорам контррэфармацыйнай літаратуры. У каталіцкай публіцыстыцы тэарэтычна абгрунтоўваліся нацыянальныя і рэлігійныя праследаванні ў Рэчы Паспалітай.

Контррэфармацыя стварыла неспрыяльныя ўмовы для навуковай і філасофскай дзейнасці. Прагрэсіўных грамадскіх дзеячаў і вучоных праследавалі. Пакінуў Беларусь і пасяліўся ў Маскве вядомы беларуска-рускі паэт, педагог і мысліцель **Сімяон Полацкі**. Ён стаў першым у Расіі прафесійным пісьменнікам і пакінуў пасля сябе цэлую школу паэтаў; адчыніў сваю, незалежную ад патрыяр-

хавай цэнзуры, друкарню, першай кнігаю якой быў "Букварь языка славенска"; напісаў праект першай у Расіі вышэйшай навучальнай установы, паводле якога потым ствbooралася маскоўская Славяна-грэка-лацінская акадэмія; стаяў ля вытокаў першага ў Расіі тэатра; асабіста вучыў спадкаёмцаў трона — царэвічаў Аляксея, Фёдара, царэўну Соф'ю, а таксама наглядаў за выхаваннем Пятра I.

Пераехаў з Беларусі ў Маскву паэт і філосаф Ян (Андрэй) Белабоцкі. Трагічна абарвалося жыццё выдатнага матэрыяліста і атэіста Казіміра Лышчынскага. Не знайшоў на радзіме ўмоў для сваёй дзейнасці Ілля Капіевіч, які па даручэнню Пятра I пісаў і выдаваў у Галандыі навучальныя дапаможнікі на рускай мове. Навука ў Рэчы Паспалітай апынулася на задворках грамадскага жыцця.

I ўсё ж ноч контррэфармацыі не была беспрасветнай. Яе асвятлялі іскры вальнадумства, стыхійнага матэрыялізму. У 80-я гады XVII ст. падсудак брэсцкага земскага суда, выхаванец езуіцкіх калегій Брэста, Кракава, Каліша і Львова **Казімір Лышчынскі (1634—1689)** напісаў на лацінскай мове трактат "Аб неіснаванні Бога". На думку Лышчынскага, чые погляды складаліся пад уплывам філасофіі антычнасці і рэнесансу, Бог з'яўляецца плодам чалавечай фантазіі і памылак. Філосаф адмаўляў бессмяротнасць душы і абвяшчаў розум вышэйшым аўтарытэтам у пытаннях пазнання. Аўтар трактата марыў убачыць *"свет без улады, гарады без начапьнікаў, народы без гаспадароў".* Каталіцкія інквізітары жорстка расправіліся з беларускім вальнадумцам. У 1689 г. ён быў абезгалоўлены і спалены на вогнішчы ў Варшаве.

У другой палове XVII ст. у Беларусі пачынаюць пашырацца ідэі ранняга Асветніцтва. Яго прыхільнікі заклікаюць абапірацца на свецкія веды, правесці дзяржаўныя рэформы (асабліва ў галіне фінансаў і права). Раннія асветніцкія ідэі праявіліся ў творчасці паэтаў і мысліцеляў Сімяона Полацкага і Андрэя Белабоцкага, якія абаранялі права навукі на існаванне, незалежнае ад рэлігіі, выступалі супраць цемрашальства і забабонаў. Яны разглядалі асвету як універсальнае лякарства ад грамадскага зла, класавай няроўнасці. У 1709 г. беларускі шляхціч **Станіслаў Шчука** выдаў на лацінскай мове свой трактат "Зацменне Польшчы". Выказваючы інтарэсы сярэдняй шляхты, ён прапаноўваў правесці шэраг рэфор-

маў (адабраць у магнатаў каралеўскія маёнткі, перадаць у рукі дзяржавы ўтрыманне школ, зрэфарміраваць фінансы і ўзброеныя сілы), заклікаў да распаўсюджвання ведаў, выношваў планы стварэння мясцовай газеты. Шчука быў прыхільнікам ідэй славянскага адзінства, дружбы народаў Рэчы Паспалітай і Расіі.

Передавымі для свайго часу былі погляды ўраджэнца Мсціслаўшчыны, выпускніка Слуцкай **гімназіі Іллі Капіевіча (1651—1714)** — паплечніка Пятра І і прапагандыста свецкіх ведаў. Абвінавачаны ў здрадзе каралю і вялікаму князю, Капіевіч быў вымушаны эмігрыраваць на Захад і з сярэдзіны 1660-х гадоў жыў у Галандыі, дзе ў 1697—1698 гг. пазнаёміўся з Пятром І. Дзеля славы *"царского величества"* і *"на сусветную карысць Вялікарасійскай дзяржавы",* як ён сам любіў адзначаць, наш зямляк пераклаў на рускую мову і выдаў у Амстэрдаме, Капенгагене, Гданьску і Маскве каля 20 кніг, у тым ліку падручнікі па граматыцы (з беларускім моўным матэрыялам), арыфметыцы, астраноміі, навігацыі, слоўнікі і пераклад баек Эзопа; стаў пачынальнікам грамадзянскага шрыфту.

Праца па артылерыі вучонага з Беларусі **Казіміра Семяновіча** выдавалася на лацінскай мове ў Амстэрдаме, а потым перакладалася на французскую, нямецкую і англійскую мовы. Наш зямляк адным з першых у сусветнай навуцы прапанаваў праект шматступеньчатай ракеты.

С. Полацкі, КЛышчынскі і іншыя прадстаўнікі ранняга беларускага Асветніцтва з гонарам працягвалі гуманістычныя і рацыяналістычныя традыцыі Францыска Скарыны і Сымона Буднага.

У сярэдзіне XVIII ст. сацыяльна-эканамічнае ажыўленне і ўзнікненне першых элементаў капіталістычнага ўкладу выклікалі пэўны ўздым навуковага, культурнага і ідэалагічнага жыцця. Пачынаецца складаны працэс фарміравання буржуазнага светапогляду. Пераходны характар перыяду абумовіў супярэчлівасць і непаслядоўнасць філасофскіх і грамадска-палітычных вучэнняў.

У 50—60-я гады XVIII ст. грамадска-палітычная і філасофская думка пачала выходзіць з доўгага заняпаду. Паступова адбываецца секулярызацыя грамадскага мыслення. Сярэдневяковая схаластыка і абскурантызм часоў контррэфармацыі саступаюць месца рацыяналізму, культу розуму.

У другой палове XVIII ст. у Беларусі з'яўляецца цэлая плеяда філосафаў, вучоных, даследчыкаў прыроды, якія падзялялі ідэі Асветніцтва, з рацыяналістычных пазіцый выступалі супраць рэлігійнага абскурантызму, шляхецкай анархіі, але за асабістую свабоду сялян, за грамадскія рэформы. Яны даказваюць штучнасць прыгоннага права, яго эканамічную няздольнасць.

Асновай з'яўлення і шырокага распаўсюджвання асветніцкай думкі з'яўляецца нараджэнне новых, буржуазных грамадскіх адносін. Але паколькі гэтыя адносіны былі слаба развітыя, паколькі ў ролі трэцяга саслоўя ў Беларусі выступала пераважна дробная шляхта, светапогляд ранніх асветнікаў Беларусі не адрозніваўся паслядоўнасцю. Лічылася, што выправіць сусветнае становішча можна шляхам паступовых рэформаў, а для гэтага дастаткова змяніць думкі людзей, выхаваць у чалавеку высокія грамадзянскія пачуцці.

Радыкальная думка Беларусі складвалася пад уплывам польскай, заходнееўрапейскай і рускай асветніцкай думкі.

Да найбольш відных прадстаўнікоў асветніцкай думкі Беларусі трэба аднесці К. Нарбута, Б. Дабшэвіча, М. Пачобута-Адляніцкага, М. Карповіча, І. Храптовіча, А. Доўгірда, С. Юндзіла, В. Яблонскага, І. Яленскага. Дзякуючы ім на змену контррэфармацыйнай схаластыцы прыйшоў рэлігійны скептыцызм. У сваіх працах яны шырока абапіраліся на здабыткі прыродазнаўчых навук, дасягненні славянскай і заходнееўрапейскай рацыяналістычнай філасофіі.

Адным з першых выступіў супраць схаластыкі ўраджэнец Лідчыны **Казімір Нарбут**. У сваіх працах ён сцвярджаў, што філасофія павінна служыць грамадству, прагрэсу краіны. У Беларусі ў Нарбута было шмат аднадумцаў, вучняў і паслядоўнікаў.

Вялікі ўклад у развіццё філасофіі ўнеслі **Бенядзікт Дабшэвіч** і **Анёл Доўгірд**. Яны выкладалі ў розных школах Беларусі, а потым сталі прафесарамі Віленскага універсітэта. Абодва займаліся пытаннямі логікі, этыкі і псіхалогіі, крытыкавалі суб'ектыўны ідэалізм і ў той самы час перабольшвалі значэнне ведаў у развіцці грамадства.

Еўрапейскую папулярнасць здабыў сваімі працамі **Саламон Маймон**. Ён нарадзіўся каля Нясвіжа, доўгі час жыў у Беларусі, ведаў беларускую мову. Потым пераехаў у Берлін, дзе напісаў шэраг прац на лацінскай і нямецкай мовах. У іх Маймон выступіў як

адзін з першых каментатараў і крытыкаў І. Канта. Наш зямляк быў добра знаёмы з І. Гётэ і Ф. Шылерам, якія высока ацанілі яго і станоўча характарызавалі ў сваіх лістах.

Шырока вядома ў Еўропе было таксама імя ўраджэнца Гарадзеншчыны **Марціна Пачобута-Адляніцкага**. За заслугі ў галіне прыродазнаўства ён выбіраўся членам-карэспандэнтам Парыжскай акадэміі навук і Лонданскага астранамічнага таварыства. Жыццё Пачобута-Адляніцкага цесна звязана з Беларуссю. Ён выкладаў матэматыку і астраномію ў Полацку, рабіў астранамічныя вымярэнні ў Навагрудку. У 1780—1799 гг. быў рэктарам Віленскай галоўнай школы, дзе правёў шэраг карэнных рэформаў. У асобе Пачобута-Адляніцкага спалучаўся вучоны і паэт. Назіраючы за нябеснымі целамі, ён апісваў іх не толькі ў навуковых трактатах, але і ў класічных одах на польскай і лацінскай мовах.

Погляды Пачобута-Адляніцкага падзялялі яго сучаснікі і паплечнікі — ураджэнец Лідчыны **Станіслаў Юндзіл** і гарадзенскі медык **Валянцін Яблонскі**. Першы з іх нейкі час кіраваў піярскай школай у Шчучыне, заснаваў там батанічны сад, а потым, стаўшы прафесарам Віленскага універсітэта, апісаў раслінны свет Беларусі і Літвы. Асоба Яблонскага цікавая для нас тым, што ён прапагандаваў свае радыкальныя погляды сярод сялян, заклікаў іх не выконваць феадальныя абавязкі, не плаціць падаткаў. Гродзенскага вальнадумца абвінавачвалі ў тым, што ён раз'язджаў па вёсках, каб узняць народ на паўстанне.

Ідэю аб "натуральнай" роўнасці ўсіх людзей, буржуазную па сваёй сутнасці, пашыралі ў Беларусі ўраджэнец Камянца Міхаіл Карповіч, жыхар Шчорсаў на Навагрудчыне Іаахім Храптовіч, пасол ад Лідскага павета Юзаф Нарбут, мінчанін Сцяпан Быкоўскі, мсціслаўскі ваявода Францішак Хамінскі і інш. У іх навуковых трактатах, соймавых прамовах і касцёльных казаннях, якія выдаваліся асобнымі брашурамі на польскай мове, ёсць завуаліраваныя або і прамыя выпады супраць прыгонніцтва, заклікі даць сялянам асабістую свабоду, правесці рэформы.

Адным з найбольш актыўных і паслядоўных прыхільнікаў рэформаў у Беларусі быў падканцлер (з 1793 г. канцлер) Вялікага княства Літоўскага **Іаахім Храптовіч (1729—1812)**. Ён лічыў дзейнасць земляроба асновай грамадскага быцця. Селянін, на яго думку,

павінен быць пісьменным, асабіста незалежным, зацікаўленым у выніках працы. Свае тэарэтычныя разважанні, выкладзеныя ў "Інструкцыі" 1790 г. і ў шэрагу артыкулаў, Храптовіч імкнуўся рэалізаваць на практыцы. У яго маёнтках Шчорсы і Вішнева сяляне былі пераведзены на чынш, вучыліся ў школах. Шырокую вядомасць набыла бібліятэка Храптовічаў, у якой было каля 10 тыс. кніг, у тым ліку шмат беларускіх старадрукаў, а таксама мастацкія калекцыі. Пяру шчорсаўскага асветніка належаць не толькі філасофскія і эканамічныя трактаты, але і артыкулы па эстэтыцы, вершы на польскай, лацінскай і беларускай мовах. У канцы 80-х гадоў Храптовіч быў кіраўніком літоўскай Адукацыйнай камісіі, склікаў з'езды настаўнікаў, інспектаваў работу школ. Шматбаковая дзейнасць Храптовіча была высока ацэнена дзеячамі французскай буржуазнай рэвалюцыі. А.Мірабо пісаў пра ято: *"Я не ведаў лепшага эканаміста ў галіне практыкіяк па сумленнасці свайгорозуму, так і па дабраце сэрца".*

Яркім прадстаўніком асветніцкай думкі Беларусі з'яўляецца шляхціч Мазырскага павета **Іосіф Яленскі**. За ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Касцюшкі ён быў у 1794 г. арыштаваны і сасланы ў Салавецкі манастыр, дзе і скончыў у 1813 г. свой жыццёвы шлях. У польскіх і рускіх рукапісных творах Яленскага абвяшчалася адмена прыгоннага права і саслоўных прывілеяў дваранства, роўнасць усіх грамадзян незалежна ад веравызнання. Спадчына Яленскага з'яўляецца выдатным помнікам перадавой думкі Беларусі XVIII ст. У ёй адлюстравалася шляхецкая рэвалюцыйнасць невядомага доўгі час аўтара, чые погляды блізкія да поглядаў А.Радзішчава. Яленскі адным з першых загаварыў пра неабходнасць знішчэння дваранства. аб'яднання рэвалюцыйных сіл рускага, польскага і беларускага народаў. Найбольш ярка і вобразна напісаны публіцыстычны твор Яленскага "Добрая вестка да Ізраіля Расійскага".

Вялікія заслугі ў распаўсюджванні натуральных ведаў у Беларусі належаць французскаму асветніку **Жану Эмануэлю Жылiберу**. Ён заснаваў Гродзенскую медыцынскую школу (акадэмію), якая стала першай вышэйшай медыцынскай навучальнай установай на Беларусі, а пры ёй анатамічны "тэатр", музей гісторыі прыроды, батанічны сад і бібліятэку з працамі французскіх энцыклапедыстаў. З дапамогай сваіх вучняў Жылібер

арганізаваў шэраг навуковых экспедыцый па Беларусі, апісаў мясцовую флору ў даследаваннях, выдадзеных у Гародні і Вільні.

Буйным прадстаўніком філасофскай і грамадска-палітычнай думкі быў **Георгій Канінскі**. На працягу 40 год (1755—1795) яго дзейнасць і літаратурная творчасць былі звязаны з Беларуссю. Канінскі з'яўляўся прыхільнікам Арыстоцеля і логікаў эпохі Адраджэння. Ён даказвае існаванне Бога як канечнай прычыны ўсяго існуючага, лічыць, што матэрыяльны свет складаецца з формы і матэрыі і г.д. Разам з тым у яго заўважаецца адыход ад схаластычнай артадоксіі: ён спадзяецца на розум больш, чым на веру. Канінскі выказвае ўпэўненасць у здольнасці людзей пазнаваць навакольны свет, з павагай гаворыць пра тэорыю Каперніка, выказвае думкі аб незнішчальнасці розных формаў матэрыі, іх узаемаператварэннях. І хоць ён станоўча ставіцца да прыродазнаўчых навук, аднак, як духоўная асоба (епіскап магілёўскі), рашуча выступае супраць атэістычных вывадаў.

Дзейнасць епіскапа надзвычай супярэчлівая. Ён займаўся праваабарончай дзейнасцю - змагаўся за захаванне і адраджэнне праваслаўя на Беларусі. У 1765 г. выступіў перад каралём Рэчы Паспалітай у абарону правоў дысідэнтаў. Прамова набыла шырокую вядомасць у Еўропе, была перакладзена на многія мовы як узор абароны верацярпімасці. Не атрымаўшы разумення з боку ўлад Рэчы Паспалітай, звяртаўся з просьбамі аб дапамозе праваслаўным, да расійскіх імператрыц Лізаветы і Кацярыны II. Г.Канінскі супрацьпастаўляў бязладдзю Рэчы Паспалітай палітыку рэформ у Расіі, распачатых Пятром І. Епіскап ідэалізаваў працэсы, якія адбываліся ў Расіі. Ён выяўляў і абараняў інтарэсы Расійскай імперыі, у межах якой нарадзіўся і выхоўваўся. Актыўна ўдзельнічаў у Слуцкай канфедэрацыі ў 1767 г., якая праходзіла пры падтрымцы Расіі. Канінскі адкрыў у Магілёве друкарню, духоўную семінарыю, сабраў шмат дакументаў і пакінуў шэраг тюраў па гісторыі праваслаўнай царквы, з'явіўся стваральнікам Мінскай епархіі, у 1793 г. быў абраны ў Сінод, а праз 200 гадоў кананізаваны.

## Стан асветы. Кнігадрукаванне

Развіццё асветы ў другой палове XVII—XVIII стст. адбывалася ў вельмі неспрыяльных умовах. У канцы XVII ст. асвета становіцца

манаполіяй каталіцкай і уніяцкай цэркваў, беларуская мова была выцеснена з пісьмовага ўжывання польскай.

Агульнаадукацыйнае значэнне брацкіх школ у гэты перыяд было нязначнае як з-за іх нешматлікасці, саслоўнай абмежаванасці, так і з-за панавання рэлігійнага светапогляду ў праграме гэтых школ. Найбольш вядомымі былі Магілёўская і Полацкая брацкія школы. Восем гадоў (1656—1664) прысвяціў дзейнасці ў Полацкай брацкай школе выдатны прадстаўнік беларускай і рускай грамадска-палітычнай і філасофскай думкі Сімяон Полацкі. У канцы XVII або ў пачатку XVIII ст. большасць брацкіх школ спыніла сваё існаванне.

У канцы XVII ст. школьная адукацыя сканцэнтравалася ў асноўным у руках розных манаскіх ордэнаў. Найбольш густую сетку сваіх школ у Беларусі мелі езуіты. Цэнтрам адукацыі і навукі на Беларусі была Віленская езуіцкая акадэмія, якая мела статус універсітэта. Яна славілася ва Усходняй Еўропе талентам і вучонасцю шэрага сваіх выкладчыкаў і выпускнікоў, сярод якіх М. Сматрыцкі, С. Полацкі, А. Каяловіч, А. Алізаровіч, М. Сарбеўскі, М. Пачобут-Адляніцкі, С. Юндзіл, Ж. Жылібер, А. Снядэцкі. З роспускам Ордэна езуітаў акадэмія перайшла пад апеку Адукацыйнай камісіі, была пераўтворана ў школу новага тыпу і з 1781 г. называлася Галоўнай школай ВКЛ.

Карыстаючыся шырокай палітычнай і матэрыяльнай падтрымкай з боку каралеўскай адміністрацыі, польскіх магнатаў і вышэйшага каталіцкага духавенства, езуіты адкрылі да сярэдзіны XVII ст. на тэрыторыі Беларусі вялікую колькасць іншых навучальных устаноў. Так, напрыклад, за кошт шчодрых дароў Стэфана Баторыя і Уладзіслава IV, магнатаў Радзівілаў, канцлераў Льва Сапегі і Агінскага, епіскапа Сангушкі і іншых узніклі школы пры езуіцкіх калегіях у Полацку, Нясвіжы, Оршы, Бабруйску, Менску, Пінску, Віцебску, Гародні, Навагрудку, Магілёве. Невялікія школы існавалі пры езуіцкіх рэзідэнцыях і місіях у Клімавічах, Жодзішках, Юравічах, Барысаве, Мсціславе, Чачэрску, Лазовічах, Расне і іншых мястэчках і невялікіх гарадах.

Большасць навучальных устаноў былі 3—5-класнымі. Навучанне ў кожным класе працягвалася год. На працягу двух стагоддзяў у іх выкладаўся традыцыйны курс "сямі вольных мастацтваў"

("трывіум" — граматыка, рыторыка, дыялектыка; "квадрыум" — арыфметыка, геаметрыя, музыка і астраномія). Выкладанне вялося на лацінскай мове. У XVII—XVIII стст. у асобных школах было ўведзена вывучэнне замежных моў і ў некаторых з іх для прыцягнення большай колькасці вучняў уводзілася беларуская мова.

На чале кожнай езуіцкай школы стаяў рэктар і яго памочнік — прэфект. Доступ у навучальныя ўстановы быў адкрыты для хлопчыкаў са шляхты і багатых, знатных сем'яў гараджан. Ствараючы школы ў Беларусі, езуіты менш за ўсё клапаціліся пра пашырэнне асветы сярод шырокіх колаў сельскага і гарадскога насельніцтва. Яны ігнаравалі і яго нацыянальныя інтарэсы, і настойлівую неабходнасць у агульнаадукацыйных ведах.

Увесь змест навучання і ўся методыка выхавання ў школах былі накіраваны на тое, каб выхаваць адданых ордэну людзей. У выхаваўчы арсенал уваходзілі дэмагогія схаластычных дыспутаў, суровыя пакаранні вучняў, знешні бляск масавых шэсцяў і тэатральных прадстаўленняў, ганенні на нязгодных. У параўнанні з Рэнесансам узровень адукацыі прыкметна знізіўся. Тая нешматлікая частка шляхты, якая хацела даць дзецям лепшыя веды, пасылала іх за мяжу або наймала замежных гувернёраў.

Нарастанне антыкаталіцкай апазіцыі сярод гарадскога і сельскага насельніцтва, няўдачы езуітаў на педагагічнай ніве вымусілі кіруючыя колы Рэчы Паспалітай прыцягнуць да больш актыўнай дзейнасці уніяцкую царкву. На ніву асветы уніяцкая царква ўступіла яшчэ ў першай чвэрці XVII ст., калі кароль Жыгімонт III прывілеем ад 31 сакавіка 1613 г. даў права базыльянам *"школы... в Новогрудку, в Менску и по иным местам нашим, где бы се тым иноком найспособней видело, фундовати и в тых школах учити всих наук, водлуг преможения их языком к грецким и руским".* Абавязкам базыльян, як досыць дакладна гаварылася пра гэта ў каралеўскай грамаце, было ліквідаваць у беларускім народзе *"неумеетность и неверных речей до веры и до збавеня належачих, так и неспособность до услугованя нам господарю Речи Посполитой".* У 1615 г. дазвол на адкрыццё школ базыльяне атрымалі і ад Папы рымскага Паўла У. У канцы XVII—XVIII стст. базыльяне мелі школы ў Навağрадку, Менску, Пінску, Віцебску, Бярэсці, Ружа-

нах, Магілёве, Полацку, Жыровічах, Вішневе, Цяцерыне, Талачыне, Чарэі, Ушачах, Барунах.

Базыльянскія школы цалкам успрынялі езуіцкую арганізацыю, сістэму і змест навучання і выхавання. Найважнейшым адрозненнем у іх было тое, што базыльянскія настаўнікі вялі выкладанне на беларускай мове. Ва ўмовах заняпаду праваслаўных брацкіх школ гэты факт меў станоўчае значэнне. Асноўны кантынгент вучняў у базыльянскіх школах складалі дзеці дробнапаместнай беларускай шляхты і гараджан, што прынялі унію.

На педагагічнай ніве ў Беларусі ў другой палове XVII і ў XVIII ст. побач з езуітамі і базыльянамі дзейнічалі і іншыя манаскія каталіцкія ордэны. Так, дамініканцы мелі свае школы ў Беліцы, Чашніках, Ушачах, Княжыцах; трынітарыі — у Оршы, Бабінавічах, Бярэсці, Крывічах, Маладзечне; кармеліты — у Глыбокім, Бялынічах, Радамлі. Некалькі невялікіх школ знаходзілася ў распараджэнні манаскіх ордэнаў францысканцаў, марыявітак, бернардзінцаў.

Між тым змены, якія адбываліся ў эканамічным жыцці Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст., і перш за ўсё ўцягненне памешчыцкай гаспадаркі ў таварна-грашовыя адносіны, рабілі неабходнай рэарганізацыю школьнай справы. Першая нясмелая рэформа школы адносіцца да 40-х гадоў XVIII ст., калі адзін з прагрэсіўных прадстаўнікоў польскай асветы С. Канарскі ўзяўся за пераўтварэнне школ манаскага Ордэна піяраў, членам якога быў сам. У Беларусі піяры з'явіліся ў 20-я гады XVIII ст. У ліку першых навучальных устаноў, адкрытых імі, былі школы ў Шчучыне, Геранёнах, Воранаве, Расонах, Зэльве, Лідзе, Віцебску. Арганізаваны яны былі ў асноўным на ўзор езуіцкіх. У школы прымаліся дзеці розных слаёў насельніцтва, уключаючы сялян. Навучанне было бясплатнае, але за гэта сіроты і дзеці з бяднейшых слаёў насельніцтва павінны былі выконваць пэўныя манастырскія работы, абслугоўваць школы, пансіёны для дзяцей шляхты. Курс навучання ў рэфарміраваных піярскіх вучылішчах быў разлічаны на шэсць гадоў. За гэты час вучні павінны былі засвоіць не толькі суму ведаў па гісторыі рэлігіі і багаслоўю, лацінскую мову, а таксама абавязковае для будучых дзеячаў каталіцкай царквы красамоўства. У праграму былі ўключаны і новыя прадметы: матэматыка, фізіка, гісторыя

Польшчы і ўсеагульная гісторыя, "палітыка, або азнаямленне вучняў з творамі па пытаннях палітычных" і з "мясцовымі законамі і правамі", а таксама польская мова. Рэформа піярскіх вучылішчаў са спачуваннем была сустрэта радыкальна настроенымі коламі шляхты. У другой палове XVIII ст. піярскія школы па свайму ўзроўню былі ўжо лепш за езуіцкія і абслугоўвалі ўжо толькі маёмныя слаі насельніцтва. Саперніцтва паміж ордэнамі прывяло да падзення папулярнасці езуітаў. У 60-я гады прыхільнікі гаспадарчых і палітычных рэформаў пачалі патрабаваць больш глыбокіх пераўтварэнняў у галіне асветы.

Агульная рэформа асветы ў Рэчы Паспалітай адбылася ў пачатку 70-х гадоў XVIII ст. Юрыдычнае афармленне яна атрымала ва ўтворанай у 1773 г. Адукацыйнай камісіі — першага ў Еўропе Міністэрства народнай адукацыі, а затым у выпрацаваным ёй і выдадзеным у 1783 г. "Статуце, прадпісаным камісіяй народнай асветы для акадэмій і школ Рэчы Паспалітай". У дзейнасці Адукацыйнай камісіі значны ўдзел прынялі вядомыя польскія асветнікі канца XVIII ст Г. Калантай, Я. Снядэцкі і інш. Тон рэформе ў ВКЛ задавалі Іаахім Храптовіч і Галоўная літоўская школа, у прыватнасці І. Страйноўскі, К. Нарбут і інш.

Статут Адукацыйнай камісіі і мерапрыемствы, якія ажыццяўляліся ёю ў галіне асветы, насілі ў цэлым прагрэсіўны характар. Школа набывала свецкі напрамак і ад кіраўніцтва ёю адхілялася духавенства. Са школы выганяліся схаластыка і тупое завучванне. Выкладанне тэалогіі ў сценах школ было забаронена. У навучальным плане значнае месца адводзілася прадметам фізіка-матэматычнага цыкла, прыродазнаўчым навукам. Гуманітарныя прадметы былі прадстаўлены ў праграме польскай і лацінскай граматыкай, геаграфіяй, гісторыяй, заканадаўствам, "маральнай навукай", логікай, палітэканоміяй, рыторыкай.

Адукацыйная камісія за 20 гадоў сваёй дзейнасці адкрыла 20 школ: у Гародні, Ваўкавыску, Барунах, Наваградку, Пінску, Бярэсці, Жыровічах, Нясвіжы, Слуцку і інш. Гэтыя школы з'яўляліся сярэдняй ступенню навучання. Паспяховае заканчэнне любой з іх давала права на паступленне ў вышэйшую навучальную ўстанову.

Рэформа асветы ў Рэчы Паспалітай супала з ліквідацыяй у 1773

г. Ордэна езуітаў. Гэта дазволіла перадаць справу кіраўніцтва асветай у рукі спецыяльнага ўрадавага органа разам са школамі, манастырамі, маёнткамі, грашовымі капіталамі, якія належалі езуітам. Разам з тым з-за недахопу падрыхтаваных настаўнікаў Адукацыйная камісія вымушана была выкарыстоўваць былых членаў Ордэна езуітаў. Для падрыхтоўкі настаўнікаў пры Галоўнай школе ў Вільні была створана настаўніцкая семінарыя.

Натуральна, што пры такіх умовах Адукацыйная камісія павінна была сустрэць сур'ёзныя цяжкасці і супрацьдзеянне езуітаў. Яе візітары (інспектары) у справаздачах аб наведванні школ адзначалі, што настаўнікі-манахі, рэктары і прэфекты вучылішчаў ігнаруюць Статут і працягваюць працаваць па-старому.

Рэформа асветы адпавядала інтарэсам прагрэсіўных колаў шляхты Рэчы Паспалітай. Аднак яе рэальнае ажыццяўленне, асабліва ў галіне пачатковага навучання, было вельмі цяжкай і амаль непасільнай задачай, паколькі сапраўднымі гаспадарамі жыцця грамадства заставаліся недальнабачныя прыгоннікі-феадалы. Імкненне рэфарматараў даць народу хоць бы мінімум карысных ведаў засталося толькі добрым намерам, паколькі ў школах, што знаходзіліся пад наглядам памешчыкаў, улада і дух царквы не былі пахіснуты.

У пачатку 80-х гадоў у той частцы Беларусі, якая знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай, налічвалася больш як 200 пачатковых школ, у якіх навучалася каля 2500 чалавек. З іх 30% былі дзецьмі сялян, астатнія належалі да памешчыцкага саслоўя, шляхты. Навучанне сялян было абмежавана рамкамі пачатковай школы, а яго змест па-ранейшаму вызначаўся, галоўным чынам, каталіцкім духавенствам. Намаганні Адукацыйнай камісіі даць пачатковай школе свецкі напрамак натыкаліся не толькі на адсутнасць падрыхтаваных настаўнікаў, падручнікаў, памяшканняў, але і на прамое процідзеянне прыгоннікаў.

Сярод навучальных устаноў Беларусі асаблівай увагі заслугоўваюць школы, заснаваныя ў Гародні кіраўніком Гарадзенскай эканоміі Антоніем Тызенгаўзам: медыцынская, ветэрынарная, акушэрская, чарчэння і малявання, фінансавых кантралёраў, каморнікаў, мастацка-тэатральная і інш. Гэта былі першыя навучальныя ўстановы такога тыпу ў Рэчы Паспалітай. Іх дзейнасць служыла далейшаму

развіццю адукацыі, навукі і мастацтва, пашырэнню асветніцкіх ідэй. Асаблівае значэнне гарадзенскім школам прыдавала тое, што вучыліся ў іх пераважна дзеці беларускіх прыгонных, якія паходзілі з асабістых маёнткаў мецэната ў Паставах, Быцені і на Палессі. Для выкладання Тызентаўз запрасіў высокакваліфікаваных спецыялістаў з Францыі і Італіі. Гэта былі гарачыя прыхільнікі Асветніцтва. Так, будаўнічую школу ўзначаліў італьянскі архітэктар Д.Сака, які ўзвёў у Беларусі некалькі палацаў. Заснавальнікам і кіраўніком гарадзенскай медыцынскай школы (акадэміі) быў французскі натураліст, вучоны з еўрапейскім імем Ж.Э. Жышібер.

Сярод беларускіх навучальных установаў XVIII ст. заслугоўвае ўвагі Полацкая калегія (у 1812 г. пераўтворана ў акадэмію з правамі універсітэта). Яна знаходзілася ў руках езуітаў, якія дзякуючы падтрымцы Кацярыны II захавалі свае пазіцыі ў Беларусі нават пасля скасавання Ордэна ў 1773 г. У калегіі на даволі высокім узроўні было пастаўлена выкладанне моў, паэтыкі і рыторыкі, мастацкіх дысцыплін. Пры калегіі былі узведзены будынкі музея (калекцыі манет, усходнія і антычныя рэдкасці, больш чатырох тысяч адлівак з бронзы), карціннай галерэі (калекцыя вучнёўскіх твораў) і тэатра. Хутка павялічвалася бібліятэка. У канцы XVIII ст. яна стала буйнейшай на Беларусі (40 тыс. кніг). З 1787 г. пры калегіі дзейнічала друкарня, якая выдавала падручнікі і рэлігійную літаратуру на польскай, лацінскай, рускай, французскай, нямецкай мовах і латгальскім дыялекце латышскай мовы.

У цэлым школа і педагагічная думка другой паловы XVII—XVIII ст. на Беларусі развівалася праз барацьбу рэлігійнага і свецкага асноў, асветніцтва і абскурантызму, рэакцыі і прагрэсіўных плыняў. Важным этапам у развіцці асветы з'явілася дзейнасць Адукацыйнай камісіі.

З другой паловы XVII ст. беларускае кірылаўскае кнігадрукаванне ўступіла ў паласу заняпаду. Рэзка змяншаецца колькасць брацкіх друкарняў і выпуск друкаванай кнігі. Часовае ажыўленне дзейнасці магілёўскай Багаяўленскай друкарні — апошняй брацкай друкарні ў Беларусі — адбылося ў канцы XVII ст., калі брацтва перадало яе таленавітаму гравёру Максіму Вашчанку.

М. Вашчанка першым пачаў ужываць у кірылаўскім беларускім

кнігадрукаванні гравюры на медзі. З іншых гравёраў і ксілографаў Багаяўленскай друкарні вядомы сын М. Вашчанкі Васіль, нейкі Афанасій і Фёдар Англіейка. У пачатку XVIII ст., калі па рашэнні брацтва М.Вашчанку было забаронена займацца Друкарскімі справамі, знешні выгляд выданняў значна пагоршыўся. Друк стаў неахайны, дошкі дзесяцігоддзямі ўжываліся старыя, зношаныя і пашкоджаныя. Тэматыка друкаванай кнігі замыкаецца ў вузкіх рамках літургічных выданняў.

У XVIII ст. Багаяўленская, Супрасльская і ГарадзеНская друкарні выпусцілі некалькі выданняў для рускіх раскольнікаў. Стараверская абшчына ў Беларусі паспрабавала наладзіць сталае друкаванне раскольніцкай літаратуры.

З канца XVII ст. беларускае нацыянальнае кнігадрукаванне цалкам канцэнтруецца ў сценах Супрасльскага базыльянскага манастыра, дзе было выпушчана 420 выданняў, з іх беларускіх кірылаўскага шрыфту - каля 60. У 1713 г. Супрасльская друкарня дамаглася каралеўскага прывілею і зацвярджэння Рымскай кангрэгацыі. На Замойскім царкоўным саборы 1720 г. яна атрымала манапольнае права на выданне літургічнай уніяцкай літаратуры. Гэта паставіла яе ў спрыяльныя ўмовы, дазволіла пашырыць яе і выпускаць выданні вялікімі тыражамі. Самым выдатным кірылаўскім выданнем Супрасльскай друкарні можна лічыць "Лексікон" (1722). З кароткай прадмовы ў кнізе відаць, што прычынай выдання слоўніка з'яўлялася пагалоўнае невуцтва уніяцкіх святароў у царкоўнаславянскай мове. Над афармленнем кніг працаваў умелы гравёр Лявонцій Тарасевіч. Супрасльская графіка ўяўляе прыклад творчага пераасэнсавання барока на нацыянальнай глебе, сведчыць аб высокай ступені самавызначэння беларускай школы графікі і ўяўляе сабой арыгінальную з'яву мастацтва беларускай кірылаўскай кнігі. Друкарня дзейнічала да 1795 г. **Яе выданні адыгралі значную ролю ў развіцці нацыянальнай культуры XVIII ст.**

Кніжны рынак Беларусі ў канцы XVII — сярэдзіне XVIII ст. быў напоўнены рэлігійнай літаратурай на лацінскай, польскай і царкоўнаславянскай мовах. Друкаваліся ў асноўным трактаты па схаластычнай філасофіі, жыцці святых, рэлігійна-маралізатарскія і рэлігійна-палемічныя творы, календары, панегірыкі ў гонар вяль-

мож і, урэшце, маніфесты, пастановы і іншыя дакументы варагуючых магнацка-шляхецкіх партый. Свецкія кнігі каштавалі дорага і на беларускай мове не выдаваліся. Бібліятэкі меліся толькі ў буйных манастырах і палацах магнатаў, іх зборы былі недаступны шырокаму колу чытачоў.

Пашырэнне асветніцкіх ідэй садзейнічала развіццю друкарска-выдавецкай справы. Калі ў першай палове XVIII ст. у Беларусі існавалі толькі дзве друкарні (Магілёў, Пінск), то ў другой палавіне — ужо адзінаццаць: па тры ў Гародні і Магілёве і па адной у Менску, Нясвіжы, Полацку, Слоніме, Шклове. **У адрозненне ад часоў контррэфармацыі ў эпоху Асветніцтва свецкая літаратура пераважала над рэлігійнай.**

У другой палове XVIII ст. у Беларусі з'явіліся першыя перыядычныя выданні. Гародня стала трэцім горадам Рэчы Паспалітай (пасля Варшавы і Вільні) і першым правінцыяльным цэнтрам, у якім выходзіў свой друкаваны орган. Гэта была "Gazeta grodzienska". Яна сведчыць пра імкненні прадстаўнікоў мясцовага Асветніцтва (А.Тызенгаўз) узняць разумовы ўзровень шляхты, уздзейнічаць на яе ў радыкальным напрамку. Першыя нумары газеты ўбачылі свет у 1776 г. У перадавых артыкулах крытычна абмяркоўваліся надзённыя грамадска-палітычныя праблемы (напрыклад, аб прыгнёце на захопленых Прусіяй землях), што для таго часу было з'явай унікальнай. Па патрабаванню караля ў Гародні ўвялі пасаду газетнага цэнзара.

З Гародняй звязаны яшчэ два перыядычныя выданні XVIII ст. У 1792 г. тут нейкі час выдаваліся "Wiadomosci Grodzienskie" — орган Таргавіцкай канфедэрацыі. На працягу 1796—1797 гг. у Гародні выйшлі першыя 52 нумары газеты "Kurier Litewski" (потым перанесена ў Вільню). У дадатках да яе часта публікаваліся паведамленні з розных куткоў Беларусі.

Такім чынам, у другой палове XVIII ст., пасля контррэфармацыйнага застою, у сістэме адукацыі і кнігадрукавання Беларусі наступіў перыяд ажыўлення, выкліканы ўплывам асветніцкіх ідэй.

ЛЕКЦЫЯ 36

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XVII—XVIII ст.

- *Літаратура.*
- *Тэатр. Музыка.*
- *Архітэктура.*
- *Выяўленчае мастацтва.*

## Літаратура

Беларуская літаратура ў другой палове XVII—XVIII стст. развівалася ў вельмі неспрыяльных умовах узмацнення нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту, паланізацыі вярхоў грамадства, звужэння сферы ўжывання беларускай мовы. Яны стрымлівалі развіццё нацыянальнай літаратуры, якая стала, за рэдкімі выключэннямі, рукапіснай і ананімнай. Шмат з яе помнікаў да нашага часу не дайшлі або яшчэ не знойдзены, а вядомыя творы з цяжкасцю паддаюцца дакладнаму датаванню і лакалізацыі. Большасць мясцовых аўтараў пісалі на польскай, лацінскай, старaславянскай мовах, а з 70-х гадоў XVIII ст, калі беларускія землі сталі ўваходзіць у склад Расіі, таксама на рускай мове. З'явіліся творы двухмоўныя (беларуска-ўкраінскія, беларуска-польскія), якія адначасова належаць дзвюм суседнім літаратурам. У шматмоўнай літаратуры Беларусі ўласна беларуская літаратура складала толькі частку — больш значную — ў другой палове XVII — першай палове XVIII ст. і менш значную ў часы Асветніцтва.

Беларуская літаратура другой паловы XVII—XVIII стст. мела пераходны характар. У ёй адбываўся складаны працэс пераходу ад сярэдневяковых ідэй і мастацкіх формаў да ідэй і формаў новага часу. Літаратура станавілася ўсё больш свецкай і дэмакратычнай. Адміралі адны жанры (летапісы, палемічная і жыційная проза, панегірычныя вершы) і нараджаліся іншыя (песенна-інтымная лірыка, гумарыстычная і парадыйна-сатырычная паэзія, інтэрмедыя, камедыя). Кніжная старажытнабеларуская мова паступова змянялася новай літаратурнай мовай, якая ўжо абапіралася на жывую, гутарковую мову. Аднак паколькі адсутнічала друкаваная

трыбуна, паколькі літаратура заставалася пераважна рукапіснай і ананімнай, выпрацоўка новых агульных формаў адбывалася доўга і пакутліва. Кожны аўтар абапіраўся яшчэ на гаворку сваёй роднай мясцовасці, злоўжываў запазычаннямі. У выніку пераходны перыяд, які ў суседніх рускай і польскай літаратурах заняў паўстагоддзя, у беларусаў зацягнуўся прыкладна на паўтара стагоддзя.

У развіцці беларускай літаратуры пераходнага перыяду выразна выдзяляюцца два этапы. На першым этапе — другая палова XVII ст. — першая трэць XVIII ст. — вядучым мастацкім напрамкам (стылем) шматмоўнай літаратуры Беларусі і беларускай літаратуры, у прыватнасці, з'явілася барока, якое спалучала ў сабе рэнесансныя і сярэдневяковыя традыцыі. У адрозненне ад рэнесансу прадстаўнікі гэтага напрамку апелявалі не да розуму, а да пачуццяў чалавека, яго веры ў звышнатуральныя сілы. Для твораў барока характэрныя шматзначнасць, метафарычнасць, кантраснасць, парадаксальнасць, сумяшчэнне несумяшчальнага (узнёслага і нізкага, трагічнага і камічнага). Перавага аддавалася вонкавай форме, якая рабілася ўсё больш ускладнёнай і вычварнай. У адрозненне ад рэнесанснай літаратуры, якая паказвала чалавека цэльным і паслядоўным, герой літаратуры барока ўнутрана раздвоены і супярэчлівы. Містыка ў ім бярэ верх над розумам, анархізм — над пачуццём абавязкаў і грамадзянскасцю, песімізм — над верай у будучыню.

Аднак як мастацкае светаўспрыманне барока значна шырэй, чым ідэалогія контррэфармацыі. Для барока не былі чужыя таксама гуманістычныя, асветніцкія тэндэнцыі. Пры ўсёй сваёй ідэалістычнасці эстэтыка барока з'явілася крокам наперад у мастацкім развіцці Беларусі.

Беларускаму барока ўласцівыя розныя ідэйныя і фармальна-стылявыя тэндэнцыі, розныя "шцілі". Для "высокага", часцей за ўсё элітарнага, феадальна-арыстакратычнага барока, характэрны рытарычная прыўзнятасць, ускладнёнасць формы, сімвалічнасць. Творы "сярэдняга" стылю задавальнялі эстэтычныя запатрабаванні збяднелай шляхты і гараджан. На гэтым "узроўні" актыўна засвойваліся заходнееўрапейскія традыцыі, аднак не гублялася сувязь і з роднай глебай. Урэшце, існавала "нізкае" барока, народнае і напаўнароднае па сваім змесце. Яно было прадстаўлена інтымна-

песеннай лірыкай, парадыйна-сатырычнай паэзіяй, інтэрмедыямі, батлеечнымі п'есамі і сатырычнай прозай. З "высокім" барока звязана старая традыцыя беларускай літаратуры,- з "сярэднім" і "нізкім" — новая, найбольш для яе перспектыўная.

Ля вытокаў "несур'ёзнай" прозы ў беларускай літаратуры стаіць прамова "Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча". У гэтых творах першай паловы XVII ст. ужо прыкметныя асобныя рысы новага мастацкага напрамку барока, таму іх разглядаюць як этапныя з'явы ў гісторыі беларускай літаратуры.

Найбольш цікавымі помнікамі парадыйна-сатырычнай прозы другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст. з'яўляюцца "Грамата, пісаная да святога Пятра", "Казанне рускае", "Прамова русіна", "Прамова русіна аб нараджэнні Хрыста", "Казанне рускае схізматычнае". Гэтыя творы парадзіравалі кананічную літаратуру, у першую чаргу Біблію, пазбаўляючы яе арэолу святасці і, такім чынам, былі накіраваны супраць ідэалогіі контррэфармацыі.

Пэўнае развіццё атрымала таксама гісторыка-мемуарная проза, мясцовае летапісанне (віцебскі і магілёўскі гарадскія летапісы). Да пачатку XVIII ст. яны пераважна перайшлі на польскую мову. Да нашых дзён дайшло нямала дыярыўшаў мясцовай шляхты — мінскага ваяводы К.Завішы, навагрудскага шляхціча С. Незабытоўскага і інш. Гэтыя помнікі ўяўляюць значную гісторыка-пазнавальную цікавасць.

Вялікую гісторыка-літаратурную каштоўнасць мае арыгінальная хроніка, складзеная ў канцы XVII — першай палове XVIII ст. жыхарамі Магілёва Трафімам Суртай і Юрыем Трубніцкім. Храналагічна яна ахоплівае перыяд з 1526 г. да 1746 г. Магілёўская хроніка — гэта адзіны ў сваім родзе летапісны твор у славянскіх літаратурах пераходнага перыяду.

З пераходным перыядам звязаны першыя прыкметныя крокі беларускай драматургіі. Яна была прадстаўлена камічнымі інтэрмедыямі (інтэрлюдыямі) да школьных драм, якія ставіліся на сцэнах мясцовых езуіцкіх калегій (Гародня, Полацк, Орша і інш.). Ствараліся гэтыя драмы выкладчыкамі ў адпаведнасці з канонамі паэтыкі і выконваліся вучнямі з нагоды рэлігійных святаў (нараджэнне, Пасха), публічных экзаменаў і прыезду знакамітых асоб. У ролі гледачоў выступалі тыя ж вучні, іх бацькі, мясцовая шляхта,

зрэдку простыя гараджане. Прадстаўленні служылі ўцілітарным, дыдактычным мэтам — лепшаму засваенню вучэбнага матэрыялу.

Школьныя драмы пісалі на лацінскай мове (радзей — на польскай і старaславянскай). Сюжэты для іх браліся з Бібліі (стварэнне свету, нараджэнне, мукі і ўваскрэсенне Хрыста), жыцій святых, антычнай і славянскай гісторыі.

Больш дэмакратычнымі былі інтэрмедыі, якія ўключаліся ў школьныя драмы "для разрадкі". Яны напісаны на больш зразумелай гледачу беларускай (ці польскай) мове. Сюжэты інтэрмедый браліся пераважна з навакольнай рэчаіснасці. Першыя беларускія "ўстаўкі" ў лацінскія і польскія школьныя драмы з'явіліся яшчэ ў канцы XVI — першай палове XVII ст. У наступны час гэты жанр атрымлівае значнае развіццё. Спачатку гэта яшчэ не былі самастойныя творы, а беларускія сцэнкі, "абрамляючыя" школьную драму і цесна звязаныя з яе дзеяннем. Такімі з'яўляюцца "Размова Івана са слугой", "Схізматык і уніят-католік" і інш. Усяго ад езуіцкага школьнага тэатра захавалася больш як 20 беларускіх і польска-беларускіх празаічных і вершаваных інтэрмедый. Іх дзеючыя асобы — селянін, польскі пан, яўрэй, казак, цыган, поп, слуга. Асаблівасцю інтэрмедый з'яўляецца тое, што яны былі разлічаны на менш адукаванага гледача.

Значнага развіцця ў часы барока дасягнула беларуская лірычная паэзія — духоўная і свецкая. Духоўная лірыка была прадстаўлена рэлігійнымі, пераважна уніяцкімі гімнамі, псалмамі, дыдактычнымі вершамі. Крыніцамі для іх з'ўлялася Біблія, жыцці святых, апакрыфічная і царкоўна-рэлігійная літаратура.

Найбольш значнымі прадстаўнікамі высокага "шцілю" з'яўляліся Сімяон Полацкі і Андрэй Белабоцкі, якія працавалі ў другой палове XVII ст. Іх спадчына належыць беларускай і рускай літаратурам. Гэтыя ўраджэнцы Беларусі пашырылі сярод усходняга славянства, у першую чаргу ў Расіі, духоўную паэзію, панегірычна-геральдычныя вершы, характэрныя для польскага і заходнееўрапейскага барока. Асноўныя творы С.Полацкага і А.Белабоцкага сведчаць, што іх аўтары былі ідэалістамі, метафізікамі. Адсюль — культ духоўнага, пагарда да чалавечага цела, ідэя хуткаплыннасці і марнасці зямнога жыцця.

У першай палове XVIII ст. адбываецца паступовае адміранне духоўнай паэзіі.

У свецкай лірыцы другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст. знайшлі адлюстраванне злабадзённыя пытанні часу: сацыяльная няроўнасць, бесчалавечнасць феадальнага грамадства, злоўжыванне мясцовых улад. Аб'ектам крытыкі, асмяяння з'яўляліся таксама розныя чалавечыя пароκі.

"Сярэдняе" і "нізкае" барока прадстаўлена ў паэзіі пераважна песенна-інтымнай лірыкай. Больш масавая па ўзнікненню і распаўсюджванню, гэтая лірыка ў адрозненне ад "высокай" паэзіі была трывала звязана з народнай творчасцю, з жывой, гутарковай мовай.

Беларуская любоўная лірыка — спецыфічная, характэрная з'ява другой паловы XVII — першай паловы XVIII ст. Яна нараджалася і развівалася ў асяроддзі мяшчанства, збяднелай шляхты. Яе аўтарамі былі шкаляры і бакаляры, напаўпрафесійныя акцёры і музыканты — ўсе тыя, хто, вандруючы ў пошуках ведаў і ўражанняў, зарабляў сабе на хлеб вершам і песняй.

Працоўны люд, для якога дзверы да пісьма і навукі былі зачынены, жыў вуснай народнай творчасцю. У асноўных фальклорных жанрах (песнях, легендах, казках) і ў творах малога бытавога жанру (прымаўках, прыказках, прытчах, замовах, павер'ях, загаворах. шэптах, чарах, анекдотах і інш.) адлюстроўваліся ўсе бакі народнага жыцця, высмейваліся фанабэрыстыя шляхцічы, суддзі-хабарнікі, шарлатаны-лекары, ліцамеры-манахі.

Такім чынам, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, беларуская літаратура зрабіла прыкметны крок уперад. Гэта быў перыяд пераасэнсавання каштоўнасцей і традыцый, вылучэння з пісьменства ўласна мастацкай творчасці, павышэння цікавасці да народнага жыцця. Ва ўмовах асімілятарскага ўздзеяння польскай культуры асабліва плённым з'явіўся зварот да фальклору, жывой гутарковай мовы. У часы барока наступіў крызіс усёй сістэмы старой беларускай літаратуры. Адначасова выспявалі новыя эстэтычныя з'явы, якім належала будучыня.

У 40—50-я гады XVIII ст. літаратура Беларусі ўступіла ў новы перыяд свайго развіцця. Дабратворны ўплыў на яе зрабілі ідэі Асветніцтва. На жаль, асветніцкія павевы не далі вынікаў адразу і

не былі такімі адчувальнымі, як у іншых галінах культуры. Асноўнымі літаратурнымі напрамкамі эпохі Асветніцтва з'яўляліся класіцызм і сентыменталізм. Першы з іх апеляваў да чалавечага розуму, другі — да сэрца, пачуццяў. Але і класіцысты, і сентыменталісты былі перакананыя ў дзейснасці мастацкага слова, у тым, што пісьменнік — гэта настаўнік грамадства.

Як класіцызм, так і сентыменталізм выразна праявіліся ў шматмоўнай літаратуры Беларусі эпохі Асветніцтва. Беларускія творы, на жаль, займалі ў ёй яшчэ меншае месца, чым у часы барока. Асноўнай літаратурнай мовай тагачаснай Беларусі з'яўлялася польская. Тут нарадзіліся або жылі класікі польскай літаратуры Ю. Нямцэвіч, А. Нарушэвіч, Ф. Карпінскі, Ф. Князьнін, Ф. Багамолец і інш. У канцы XVIII ст. узнікла руская літаратура Беларусі (І. Сакольскі, Г. Дабрынін, Л. Энгельгарт і інш.). У Мінску працаваў выдатны паэт-лацініст, аўтар паэмы "Птушыны збор" Міхаіл Карыцкі. У дварах магнатаў і шляхты пашырыліся французская і нямецкая мовы, на якіх пісаліся панегірычныя оды і чуллівыя ідыліі. На такім шматмоўным фоне даволі сціпла выглядаюць колькасныя і мастацкія здабыткі тагачаснай беларускай літаратуры, якая была пераважна "плебейскай", сатырычна-парадыйнай, рукапіснай, пазбаўленай права друкавацца, і ананімнай. Тады лічылася, што беларускай прозе і паэзіі наканавана толькі ніжэйшая роля: смяшыць, парадзіраваць "высокі" змест Бібліі, афіцыйных прамоў і казанняў. Як гэта на першы погляд ні парадаксальна, якраз на эпоху Асветніцтва, калі развеялася ноч контррэфармацыі і ўстанавіўся культ розуму, прыпадае найбольшы крызіс беларускай паэзіі, драматургіі і асабліва прозы (яна была па сутнасці прадстаўлена толькі беларуска-польскім зборнікам анекдотаў "Торба смеху", складзеным К. Жэрам). Прычыны гэтага крызісу трэба шукаць як ва ўзмоцненай паланізацыі мясцовага насельніцтва, так і ў пашырэнні нарматыўнай эстэтыкі класіцызму, якая дапускала беларускае "прастамоўе" толькі ў "нізкіх", парадыйных жанрах. Для "высокіх" жанраў (трагедыя, ода) патрабавалася "высокая" польская, лацінская або старaславянская мова. Моўнае "раздваенне" назіраецца нават у творчасці аднаго і таго ж аўтара: у камедыйных творах К. Марашэўскага і М. Цяцерскага ўжываецца беларус-

кая мова, а іх трагедыі на антычныя сюжэты ў адпаведнасці з эстэтыкай класіцызму напісаны па-польску.

**Развіццё літаратуры ў другой палове XVIII ст. адбываецца пераважна на свецкай аснове.** Літаратура ўсё больш вызваляецца ад сярэдневяковых канонаў. Лепшыя паэтычныя і драматычныя творы гэтага часу сведчаць, што зацяжны крызіс беларускай літаратуры паспяхова пераадольваўся. У эпоху Асветніцтва створаны помнікі, якія па сваім змесце і мове ўжо цалкам належаць да новага часу.

Цікавым помнікам беларускай літаратуры другой паловы XVIII ст. з'яўляецца "Торба смеху". Гэта зборнік беларускіх і польскіх анекдотаў і быляў, пераважна антыклерыкальных па змесце. Некаторыя з іх перарастаюць у расказы.

Цікавыя з'явы адбываюцца ў паэзіі другой паловы XVIII ст. Знікаюць адны паэтычныя жанры і ўзнікаюць іншыя. Прыпыняецца развіццё духоўнага і панегірычнага вершаскладання, маральна-назідальнай паэзіі. За рэдкім выключэннем, у рукапісных зборніках ужо не сустракаецца і песенна-інтымная лірыка. Затое нараджаецца палітычная паэзія.

Адным з найбольш значных твораў беларускай паэзіі эпохі Асветніцтва з'яўляецца "Песня беларускіх жаўнераў 1794 г.", напісаная ў сувязі з паўстаннем Т. Касцюшкі. Невядомы нам аўтар заклікае ўзняцца на барацьбу з царскім самаўладдзем. "Песня беларускіх жаўнераў 1794 г." напісана ў цэлым з пазіцый шляхецкай рэвалюцыйнасці. Гэта першы ў беларускай літаратуры непасрэдны заклік да народных мас узяць у рукі зброю, *"косы ды янчаркі",* каб самім *"вырашаць лёс радзімы ", "гордыя гнуць каркі"* знешніх ворагаў і ўнутраных здраднікаў. Народ абвяшчаецца вяршыцелем лёсу сваёй краіны.

Значныя змены адбыліся ў другой палове XVIII ст. у беларускай драматургіі. Разам са школьнай драмай знікла звязаная з ёю інтэрмедыя. На яе аснове нараджаецца камедыя.

Да сярэдзіны XVIII ст. беларуска-польскія інтэрмедыі сышлі са сцэн езуіцкіх тэатраў. Рэдкія выключэнні ("Пастух, цыган і ліцвін", "Селянін і яўрэй") сведчаць хутчэй аб дэградацыі жанру. Беларускія сяляне паказваюцца ў іх у карыкатурным святле — як

людзі прымітыўныя, здольныя здзеквацца з прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей і саслоўяў. Затое беларуская інтэрмедыя з'яўляецца ў праваслаўных і уніяцкіх школах. Для праваслаўных і уніяцкіх інтэрмедый характэрны новыя, у многім асветніцкія адносіны да беларускага сялянства. У езуіцкіх сцэнках цёмны, нязграбны і грубы мужык нярэдка з'яўляецца аб'ектам асмяяння і ментарскіх павучанняў. Цяпер жа герой-селянін выклікае спачуванне і сімпатыю. Ён выходзіць пераможцам у сутыкненні з ворагамі, ён больш моцны і высакародны. Адпаведна мяняецца і адрас сатыры — яна накіроўваецца не на праваслаўе, а на каталіцызм, польскую шляхту. Такім чынам, у новых умовах інтэрмедыя адлюстроўвае сацыяльныя бакі жыцця грамадства.

Вальнадумства беларускага народа, яго адмоўныя адносіны да артадаксальных рэлігійных догмаў праявіліся ў інтэрмедыях "Селянін у касцёле", "Селянін на споведзі", напісаных на беларускай мове. Асветніцкая ідэя аб натуральнай роўнасці людзей знайшла адлюстраванне ў двухмоўнай уніяцкай інтэрмедыі "Сляпы, храмы, потым пан і цівун", паказанай на сцэне Жыровіцкай базыльянскай школы ў 1751 г.

Лепшыя інтэрмедыі 50—60-х гадоў падрыхтавалі з'яўленне шматактнай беларускай камедыі і трагедыі. Першыя творы гэтага жанру з'явіліся ў 80—90-я гады XVIII ст. у Забельскай даміканскай калегіі, якая была тады значным цэнтрам літаратурна-тэатральнага жыцця на Полаччыне. Выкладчыкамі рыторыкі, паэтыкі і філасофіі працавалі тут асветнікі Каэтан Марашэўскі, Міхаіл Цяцерскі і Ігнацій Юрэвіч. Для школьнага тэатра імі напісана некалькі трагедый і камедый на польскай мове. Найбольш значнымі творамі забельскага рэпертуару з'яўляюцца польска-беларуская перапрацоўка М. Цяцерскім камедыі Ж. Мальера "Доктар па прымусу", у якой вельмі арыгінальнымі з'яўляюцца беларускія сцэнкі, і "Камедыя" К. Марашэўскага, дзе двое з трох вядучых персанажаў размаўляюць на беларускай мове, якая апавядае пра цяжкі лёс селяніна Дзёмкі.

Такім чынам, неспрыяльныя ўмовы істотна паўплывалі на працэс развіцця беларускай літаратуры другой паловы XVII—XVIII стст.: замарудзілі яго, дэфарміравалі, пазбавілі многіх звенняў. Літаратура стала пераважна рукапіснай і ананімнай, што адмоўна адбілася на

колькасці і мастацкім узроўні твораў. Але ж тыя ўмовы вымушалі літаратуру арыентавацца на народнага чытача, народную паэтыку. У другой палове XVIII ст. пад уплывам ідэй Асветніцтва працягвалася фарміраванне новай беларускай літаратуры. Яно адбывалася на новым ідэалагічным і моўным грунце.

## Тэатр. Музыка

У XVII ст. асаблівае развіццё ў Беларусі атрымлівае школьны тэатр. Усе намаганні скіроўваліся на тое, каб уздзейнічаць на пачуцці гледачоў, уразіць іх уяўленне. У прадстаўленнях умела выкарыстоўваліся гук і колер, кантрастныя іх спалучэнні. Пастаноўкі драм суправаджаліся выступленнямі хору, "жывымі" карцінамі-алегорыямі. Сёння нам вядомы больш як сто лацінскіх і польскіх павучальных драм, пастаўленых у езуіцкіх школьных тэатрах у Полацку, Гародні, Наваградку, Пінску і інш. Апрача п'ес чыста рэлігійнага зместу, у гэтых тэатрах паказвалі гістарычныя сюжэты, дэкламацыі, прысвечаныя пачатку заняткаў, найбольш важным падзеям і г. д.

У прамежках паміж актамі драм выконваліся інтэрмедыі на беларускай мове.

Тэатры ўзнікалі і пры праваслаўных брацкіх школах. Цяпер вядомыя 24 дэкламацыі Сімяона Полацкага, якія былі пастаўлены ў той час, калі ён жыў на Беларусі.

З XVI ст. у Беларусі распаўсюджваўся лялечны тэатр "батлейка". У "батлейцы" паказваліся сцэны пра нараджэнне Хрыста і драма "Цар Ірад". З цягам часу галоўным героем "батлейкі" становіцца беларускі мужык, які распраўляецца з усімі прыгнятальнікамі і выходзіць пераможцам з самых складаных сітуацый, у якія яму даводзілася трапляць. У беларускай "батлейцы" вядома 20 народных сцэнак. Самымі папулярнымі былі: "Антон, Антоніха і каза", "Мужык Мацей, яго жонка Ульяна і доктар", "Стараста з жонкай", "Казак, поп, чорт і смерць", "Скамарох з мядзведзем", "Шляхціч-элегант" і інш. Тварэннем школьнага і лялечнага народных тэатраў з'яўляецца беларускі весялун і жартаўнік Несцерка, які быў народным заступнікам.

У другой палове XVII ст. значных поспехаў дасягаюць шматга-

лосыя харавыя спевы. Пераважна царкоўныя, яны ўплывалі на свецкае музычнае жыццё, спрыялі нараджэнню формаў харавога мастацтва.

Новы стыль шматгалосага харавога выканання, стыль партэсных спеваў (спевы па партыях), знайшоў пашырэнне ў царкоўнапеўчай практыцы. Важную ролю ў яго прапагандзе на Беларусі адыграў выдатны ўкраінскі музычны дзеяч Мікола Далецкі (другая палова XVII ст). Родам з Кіева, ён жыў некалькі гадоў у Вільні, дзе меў сувязь з перадавымі кампазітарамі і выканаўцамі польскай каталіцкай і беларускай праваслаўнай музыкі.

Харавыя шматгалосыя спевы, якія атрымалі значнае пашырэнне ў гэты час, з'яўляліся найбольш важным кампанентам школьнага спектакля. Яны ўпрыгожвалі сцэнічнае дзеянне, рабілі яго больш відовішчным і эмацыянальным. Нарэшце, яны адыгрывалі вялікую ролю ў стварэнні пэўнага настрою ў гледачоў.

У другой палове XVIII ст. у Магілёве, Полацку, Мінску, Віцебску, Гародні даваліся музычна-тэатральныя прадстаўленні. Вучні царкоўнапрыходскіх школ выступалі з чытаннем вершаў, разыгрывалі п'есы, выступалі батлеечнікі.

Унікальнай з'явай беларускага мастацтва другой паловы XVIII ст. былі прыватнаўласніцкія (прыдворныя) тэатры. Яны задавальнялі ў асноўным запыты магнатаў. Але іграла, танцавала і пела на сцэнах гэтых тэатраў моладзь з прыгонных сялян. Для іх былі створаны спецыяльныя школы, у якіх (напрыклад, у Гародні) выкладалі вопытныя замежныя педагогі. Многія таленавітыя беларускія акцёры, атрымаўшы прафесійную падрыхтоўку, праславілі свой народ на сцэнах Варшавы, Масквы, Санкт-Пецярбурга. Прыдворныя тэатры ў Нясвіжы, Слоніме, Гародні, Ружанах, Шклове набылі еўрапейскую вядомасць.

Магнацкія тэатры Беларусі ўзніклі на пераломе часоў барока і Асветніцтва, калі з Захаду прыйшла мода на так званыя камедыхаўзы. Першы на Беларусі прыватнаўласніцкі тэатр быў заснаваны ў Нясвіжы. У яго склад уваходзілі драматычная, оперная і балетная трупы. У адрозненне ад іншых прыдворных тэатраў Рэчы Паспалітай нясвіжскі меў свой уласны рэпертуар, які складаўся з 16-ці польскіх п'ес Ф.Радзівіла. Асяродкам тэатральна-музычнага

жыцця стаў у 70-я гады слонімскі тэатр гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага (дзядзькі славутага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага). У 60—80-я гады існаваў тэатр Тызенгаўза у Гародні. Тэатры былі створаны таксама пры дварах Сапег у Ружанах і Дзярэчыне, Радзівілаў у Слуцку, Зорыча ў Шклове, Чарнышова ў Чачэрску, Тышкевічаў у Свіслачы.

З 70-х гадоў у Гародні і Менску рэгулярна паказвалі прадстаўленні польскія прафесійныя (публічныя) антрэпрызы В. Багуслаўскага, Д. Мараўскага і інш.

Адначасова з прыгоннымі і прафесійнымі ў другой палове XVIII ст. працягвалі дзейнічаць тэатры пры манастырскіх калегіях. Іх рэпертуар складаўся пераважна з лацінскіх трагедый і польскіх камедый. У канцы XVIII ст. школьныя тэатры адміраюць.

Дзейнасць прыгонных і школьных тэатраў актывізавала музычнае жыццё. У многіх гарадах былі добрыя аркестры. У іх рэпертуары былі творы заходнееўрапейскай класікі і мясцовых кампазітараў — М. Агінскага, Я. Голанда, Э. Міхалевіча, Р. Вардоцкага, А. Баброўскага, М. Кавалеўскага і інш.

Прадстаўнік старадаўняга беларускага магнацкага роду, буйны дзяржаўны, грамадска-палітычны і культурны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расіі, удзельнік паўстання Т.Касцюшкі Міхал Клеафас Агінскі (1765—1833 гг.) з'яўляецца добра вядомым кампазітарам, аўтарам папулярных паланезаў для фартэпіяна (найбольш папулярны яго паланез "Развітанне з Радзімай"), маршаў (у тым ліку "Марш паўстанцаў 1794 г."), вальсаў, мазурак, менуэтаў, рамансаў.

У касцёле і уніяцкай царкве далучаліся да прафесійнай музычнай культуры народныя масы. У час набажэнства там гучалі спевы, іграў арган (ва уніяцкай царкве ўведзены Замойскім саборам 1720 г.) і інструментальныя капэлы. Неад'емнай часткай жыцця людзей бьші царкоўныя і касцёльныя званы.

## Архітэктура

Асноўным кірункам мастацкай культуры другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. было барока з арыентацыяй на заходнееўрапейскія традыцыі. Адначасова працягвалі існаваць і развівацца некаторыя элементы рэнесансу. Разам з тым, ва ўмовах дэнацыя-

налізацыі феадальнай вярхушкі беларускага грамадства і панавання рымска-каталіцкай ідэалогіі ішло станаўленне нацыянальнай школы мастацтва на аснове традыцыйнай народнай культуры.

Найбольш поўна барока праявілася ў архітэктуры. Тут яно выразілася ў стварэнні складаных збудаванняў, пышных і адмысловых архітэктурных формаў, дэкору і інтэр'ера. Гэты стыль быў пануючым у архітэктуры да 70—80-х гадоў XVIII ст. Найбольш выразна сталае барока праявілася ў культавым дойлідстве.

Пачынаючы з езуіцкага касцёла ў Нясвіжы, узведзенага ў канцы XVI ст. вядомым італьянскім архітэктарам Бернардоні, у беларускіх гарадах і вёсках будаваліся пампезныя касцёлы, кляштары, магнацкія рэзідэнцыі. Дынамічныя формы іх фасадаў, хвалістыя, неспакойныя лініі дэкору, кантрастныя спалучэнні павінны былі сімвалізаваць зменлівасць і хуткаплыннасць чалавечага жыцця. Да такіх пабудоў належаць бернардзінскі, брыгіцкі і езуіцкі (фарны) касцёлы ў Гародні, францысканскі касцёл і кляштар у Пінску, пінскі езуіцкі калегіум, бернардзінскі касцёл у Мінску і інш.

Творчая перапрацоўка на глебе нацыянальнай архітэктуры заходнееўрапейскага стылю барока прывяло да стварэння ў 30-я гады XVIII ст. своеасаблівай архітэктурна-мастацкай сістэмы — позняга беларускага барока, якое ў мастацтвазнаўстве атрымала назву "віленскае барока". Яго рысы найбольш яскрава выявіліся ў культавых пабудовах уніятаў: Сафійскім саборы ў Полацку, царкве і манастыры базыльян у Беразвеччы, Барунах, Вольна, Талачыне, Жыровічах, Віцебску. Яны вызначаюцца лёгкасцю, стромкасцю і ажурнасцю, ускладнёным сілуэтам, вытанчанасцю прапорцый, пышнасцю і багаццем архітэктурнага дэкору, надзвычайнай маляўнічасцю. Цэнтральныя фасады храмаў, створаных у стылі "віленскага барока", часам мелі хвалепадобны выгляд, упрыгожваліся, як правіла, стройнымі выцягнутымі шмат'яруснымі вежамі з фігурнымі шлемамі. У гэтым стылі ўзводзіліся не толькі уніяцкія і каталіцкія, але і праваслаўныя пабудовы. Праўда, для каталіцкіх храмаў гэтага перыяду характэрны больш груваздкія формы.

Росквіт "віленскага барока" звязаны з творчасцю выдатнага архітэктара Я.К. Глаўбіца, які шмат працаваў на Беларусі, пераважна ў культавым дойлідстве (касцёл у Сталовічах, праваслаўная Спаская царква ў Магілёве і інш.). Найбольш значная яго пабудова — уніяцкая царква св. Сафіі ў Полацку (разам з Б. Касінскім, 1738—1760). Да ліку яскравых помнікаў "віленскага барока" належаць таксама уніяцкая царква ў Беразвеччы пад Глыбокім, уніяцкая царква ў Барунах Ашмянскага раёна, касцёл у в. Германовічы на Віцебшчыне і інш.

З цягам часу барока "дэмакратызавалася", пранікла ў свецкае дойлідства, жыллёвае будаўніцтва («дом на рынку» ў Нясвіжы). У новым стылі былі ўзведзены ратушы ў Менску, Віцебску, Магілёве. Ствараюцца выдатныя палацавыя ансамблі, абкружаныя паркамі. Палацавыя пабудовы канчаткова пазбаўляюцца абарончых прыстасаванняў і набываюць імпазантныя фасады. Адкрыты двор перад палацам падкрэсліваў яго велічнасць. У інтэр'ерах шырока ўжываліся дэкаратыўная лепка, паліхромны мармур, паліваная кераміка і фрэскавы жывапіс. Значныя па сваіх мастацкіх вартасцях палацава-паркавыя ансамблі ўзніклі ў Шчорсах, Свяцку, Дзярэчыне, Ружанах, Гомелі, Шклове. Новыя прынцыпы палацавай архітэктуры знайшлі адлюстраванне ў Старым каралеўскім замку ў Гародні пасля яго перабудовы ў канцы XV — 70-я гады XVII ст. (у 1655 г. замак быў разбураны шведамі). У XVIII ст. у Гародні пабудаваны Новы палац, будынкі медыцынскай і тэатральнай школ, сам тэатр. Упершыню ў Беларусі вялася тыповая жыллёвая забудова: гарадская ў Гародні і вясковая ў Варанянах Ашмянскага павета. Хаця ў цэлым тагачасныя беларускія гарады мелі малапрываблівы выгляд. Жылыя дамы былі драўляныя. Двух-трохпавярховыя будынкі з'яўляліся вялікай рэдкасцю. Магнацкія палацы і купецкія асабнякі перамяжоўваліся з убогімі хацінамі рамеснікаў і чэлядзі, якія, крытыя саломай, мала чым адрозніваліся ад сялянскіх хат.

Такім чынам, 30—70-я гады XVIII ст. з'явіліся якасна новым этапам у развіцці дойлідства Беларусі. **У 60—70-я гады ў мураванай, галоўным чынам грамадзянскай, архітэктуры зараджаецца новы архітэктурны стыль — класіцызм** з яго манументаль-

насцю формаў, сіметрычнасцю планіроўкі і сінтэзам архітэктурных, жывапісных і скулыпурных элементаў. Пэўны час ён суіснуе з формамі позняга барока, а ў першай палове XIX ст. становіцца пануючым архітэктурным стылем у Беларусі.

## Выяўленчае мастацтва

Глыбокія якасныя змены адбыліся ў другой палове XVII—XVIII стст. у беларускім выяўленчым мастацтве. Манументальны жывапіс і скульптура ў гэты час былі яшчэ пераважна падпарадкаваны царкве. Для афармлення каталіцкіх, уніяцкіх і праваслаўных храмаў прыцягваліся лепшыя айчынныя і зарубежныя сілы. У XVII ст. у Беларусі працавалі мастакі: Войтак Ганскі, Ян Латэцкі, Фердынанд, Іаган Шрэтар, Сцяпан Гарнастайскі, Андрэй з Вільні, манахі Рыгор, Арцемій і Федзька з Віцебска і яго акругі, Гілярый Хаецкі, Вікенцій, Самуіл Врановіч, Казімір з Гарадзеншчыны і інш.

У сярэдзіне XVII ст. вялікая колькасць беларускіх рамеснікаў, друкароў, мастакоў, разьбяроў былі пераселены ў Маскву. Іх дзейнасць і творчасць пакінула прыкметны след у культурным жыцці і мастацтве Рускай дзяржавы. У канцы XVII ст. тут працавалі мастакі — выхадцы з Беларусі: Станіслаў Лапуцкі, Іван Міроўскі, Кіпрыян Умбраноўскі, Васіль Пазнанскі і інш.

У сярэдзіне XVII ст. на тэрыторыі Беларусі ўзмацняецца тэрытарыяльная дыферэнцыяцыя мастацтва, выразна вылучаюцца мясцовыя жывапісныя школы: магілёўская, віцебская, гарадзенская, палеская.

Найбольш цікавымі помнікамі манументальнага жывапісу другой паловы XVII—XVIII стст. з'яўляюцца роспісы драўлянай Троіцкай царквы Маркава манастыра ў Віцебску (іх бачыў і высока ацаніў вялікі рускі мастак Рэпін), Мікалаеўскай царквы ў Магілёве, касцёла св. Пятра і Паўла ў в. Ражанка (Шчучынскі раён на Гарадзеншчыне), фрэскі кармеліцкага манастыра ў Мсціславе, езуіцкіх касцёлаў у Гародні, Менску, Нясвіжы, кармеліцкага касцёла ў Магілёве, касцёла св. Андрэя ў Слоніме. У XVIII ст. адбылося канчатковае афармленне стылю беларускага іканапісу. Ён характарызаваўся ўзмацненнем народных уплываў і рэалістычнымі

тэндэнцыямі. Назіраецца імкненне некаторых мастакоў да разрыву з царкоўным канонам, які рэгламентаваў іканапіс.

Значную, але супярэчлівую ролю ў распрацоўцы беларускага стылю іканапісу адыгрывала ўніяцкая царква. Уніяцкае мастацтва аказвала відавочны ўплыў як на свецкае, так і на сакральнае мастацтва іншых канфесій. Разам з тым, цесны кантакт з каталіцкім мастацтвам узбагаціў беларускі іканапіс у тэматычных адносінах.

Для уніяцкіх іканапісцаў характэрны інтарэс да паказу рэальнага чалавека, твары на абразах — жывыя, індывідуалізаваныя, чалавечыя постаці — больш дынамічныя і натуральныя, чым на праваслаўных і каталіцкіх іконах. Персанажы часцей за ўсё браліся з рэчаіснасці - яны нярэдка нагадваюць беларускіх сялян і гараджан. У трактоўку рэлігійных сюжэтаў часам уносіліся жанравыя матывы, некаторыя малюнкі, прысвечаныя біблейскім падзеям, нагадваюць сцэнкі з народнага жыцця.

Да першых твораў беларускага іканапісу адносяцца творы (група абразоў) з Бяздзежскай царквы, "Распяцце" са Століна, "Сашэсце ў пекла" з Дзісны, "Матка Боская абарона" з Астравецкага раёна, "Сашэсце святога духа" з Зелава, "Цуд Юрыя аб змеі" з Чарнаўчыц, "Замілаванне" са Здзітава і інш.

Далейшае развіццё атрымаў жанр партрэта. Ён па-ранейшаму займаў вядучае месца ў свецкім жывапісе. Хутка раслі радавыя галерэі, якія з'яўляліся своеасаблівымі зборамі партрэтнага мастацтва. У XV ст. на тэрыторыі Беларусі было зафіксавана шмат такіх збораў.

На працягу XVII - XVIII стст. у беларускім партрэтным мастацтве склалася некалькі тыпаў партрэта, якія існавалі амаль да першых дзесяцігоддзяў XIX ст. Гэта парадны, рэпрэзентатыўны партрэт, дзе мадэль адлюстроўвалася ва ўвесь рост, радзей пакаленна ці пагрудна, з багатым антуражам. Парадны партрэт захаваў для нашчадкаў існаваўшую ў тыя часы іерархічную лесвіцу, на вышэйшай ступені якой знахадзіліся каранаваныя асобы, на ніжэйшай - прадстаўнікі шляхты. Прамежкавае становішча займалі магнаты.

У партрэтнай спадчыне гэтага часу можна выдзеліць тып так званага рыцарскага партрэта, які атрымаў шырокае распаўсюдж-

ванне ў другой палове XVII ст., калі асабліва расквітнела тэорыя "сарматызму", якая сцвярджала паходжанне польскай шляхты ад старажытных ваяўнічых плямёнаў сарматаў, у адрозненне ад іншых саслоўяў, нібыта паходзіўшы з пакораных мясцовых плямёнаў. Ваяўнічая напышлівасць, пачуццё выключнасці - галоўная рыса герояў гэтых партрэтаў. Шырокае распаўсюджванне атрымаў так званы трунны, ці пахавальны, партрэт - абавязковы атрыбут пахавальнага рытуалу. Ён пісаўся на метале алеем. Узорам для мастака служыў прыжыццёвы партрэт нябожчыка. Такога роду твораў мала захавалася на тэрыторыі Беларусі, таму асаблівую каштоўнасць мае партрэт Аляксандра Пацея.

Карціна развіцця партрэтнага мастацтва была неаднастайнай і супярэчлівай. Пры двары каралёў Рэчы Паспалітай працавалі еўрапейскія майстры, якія мелі добрую мастацкую адукацыю. Некаторыя магнаты мелі магчымасць запрасіць да сябе тую ці іншую знакамітасць. Але ў сядзібах, фальварках, магнацкіх рэзідэнцыях знайшлі сабе прытулак мясцовыя мастакі. Яны былі менш падрыхтаваныя прафесійна, але лепш ведалі сваё асяроддзе, яго норавы, звычаі. Палотны еўрапейскіх мастакоў з'яўляліся своеасаблівай школай для гэтых людзей.

Лепшыя майстры пэндзаля не толькі дасягалі знешняга падабенства ў выяве канкрэтнай асобы, але і ўмелі даць ёй даволі глыбокую псіхалагічную характарыстыку (партрэты Аляксандра Астрожскага, Януша Вішнявецкага, Януша Радзівіла, Кіпрыяна Жахоўскага, Януша Карыбута Вішнявецкага, Лізаветы Радзівіл, Ігнація Завішы, Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Міхала Казіміра Агінскага і інш.). Аднак у цэнтры ўвагі большасці мастакоў быў не чалавек з яго непаўторным душэўным складам, а нейкі ідэал, які склаўся ў дваранска-шляхецкім асяроддзі. Акцэнт робіцца не на твары партрэтаванага, а на яго адзенні, антуражы, дэталі, якія гавораць аб саслоўнай прыналежнасці, месцы на сацыяльнай лесвіцы.

Беларускі жывапіс XVIII ст, цалкам вызваліўшыся ад рэлігійнага ўплыву, увабраў у сябе лепшыя дасягненні рэалістычнага мастацтва Захаду, захаваўшы пры гэтым мясцовую самабытнасць. Разам з гэтым у ім адчуваецца і вялікі ўплыў народнага мастацтва,

што наклала адбітак і на эвалюцыю стыляў барока і класіцызму ва ўмовах Беларусі.

У беларускай графіцы вядучае месца належала кніжнай гравюры на дрэве. Графічнае мастацтва падзялялася на некалькі школ і напрамкаў. Найбольш значны след у гісторыі беларускага мастацтва пакінулі Магілёўская і Нясвіжская гравёрныя школы. Апрача таго, вялікая група гравёраў працавала ў друкарнях Оршы, Полацка, Супрасля. Шырокую вядомасць атрымалі майстры гравёрнага мастацтва Вашчанкі - Максім і яго сын Васіль. В.Вашчанка - найбольш яркі прадстаўнік Магілёўскай гравёрнай школы. Высокі мастацкі ўзровень афармлення кніг дэманструе ў XVIII ст. Супрасльская друкарня. Яна праіснавала больш ста гадоў, выпусціўшы каля 420 выданняў. Многія з іх добра аздобленыя. На фоне тагачаснай кніжнай прадукцыі супрасльскія выданні вылучаюцца імпазантнасцю і своеасаблівай манументальнасцю.

У развіцці скулыпуры ў другой палове XVIII ст. назіраецца пэўныхпад, выкліканы складанымі сацыяльна-палітычнымі і эканамічнымі абставінамі таго часу. І ўсё ж ні адно з папярэдніх стагоддзяў не было для пластыкі такім плённым, як XVIII ст.

Другая палова XVII - XVIII стст. адзначана ўзмацненнем рэалістычных тэндэнцый у скульптуры, што праяўляецца ва ўзбагачэнні сродкаў мастацкай выразнасці, у трактоўцы вобразаў, якія надзяляюцца індывідуальнымі, амаль партрэтнымі рысамі.

У распаўсюджванні скулыпуры барока галоўная роля належыць асноўнаму яе заказчыку - каталіцкай царкве, яе шматлікім ордэнам. Пабудаваныя імі касцёлы былі багата ўпрыгожаны творамі жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і скулыггурай. Менавіта скулыггуры належала галоўная роля ў арганізацыі інтэр'ера. На жаль, да нашага часу інтэр'еры многіх храмаў не захаваліся.

Унікальнымі помнікамі барока з'яўляюцца скульптурны ансамбль касцёла аўгусцінцаў у в. Міхалішкі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці, алтары францысканскага касцёла ў Пінску, шэраг скульптур з касцёла архангела Міхаіла ў Навагародку, Троіцкага касцёла ў г.п. Шарашова на Берасцейшчыне, касцёла сяла Гнёзда на Гарадзеншчыне.

У беларускай скульптуры канца XVII - пачатку XVIII ст. прык-

метна ўзмацняецца ўплыў народных густаў. Яна нясе адбітак мясцовых асаблівасцей і звязана з праяўленнем "нізавога" барока. Прыклад таму - скульптурны ансамбль галоўнага алтара касцёла ў в. Камаі на Віцебшчыне, выкананы ў 1726 г.

У XVIII ст. у Беларусі ствараецца шэраг цікавых скульптурных алтароў, якія становяцца больш багатымі і жывапіснымі, павялічваюцца ў памерах, уражваюць уяўленне гледача. Для стварэння вялікіх алтароў і алтарных комплексаў, якія з'яўляюцца сінтэтычным відам манументальнай, дэкаратыўнай і архітэктурнай пластыкі, жывапісу, дэкаратыўнай разьбы, прыцягваюцца мастакі і майстры розных прафесій: архітэктары, скульптары, сталяры, разьбяры або лепшчыкі, мастакі-жывапісцы. Выдатнымі помнікамі такога роду з'яўляецца алтар Пінскага францысканскага касцёла.

З сярэдзіны XVIII ст. прыкметным быў уплыў ракако, які ішоў з Чэхіі і Паўднёвай Германіі - краін, выхадцы з якіх складалі значную частку скульптараў, што працавалі на Беларусі. Гэты ўплыў адбіўся ў драўляных скульптурах анёлаў з Камянца на Берасцейшчыне, алтары касцёла бернардзінак у Слоніме.

У 70-я гады ў скульптуру Беларусі прасочваўся класіцызм. Першыя найбольш значныя творы гэтага стылю звязаны са свецкім мастацтвам, менавіта з палацавай архітэктурай і творчасцю італьянскага архітэктара Дж. Сака. Па яго праектах у 80-я гады былі выкананы стукавыя дэкарацыі ў Свяцкім палацы (Гарадзенскі раён, не захаваліся), а таксама ў Гарадзенскім Новым замку.

Мастацкія густы часоў барока садзейнічалі развіццю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Для упрыгажэння магнацкіх палацаў і храмаў патрэбны былі вытанчаныя і дарагія рэчы, каб здзіўляць публіку вонкавым бляскам. Такія рэчы спачатку прывозіліся з-за мяжы, а потым сталі вырабляцца на ўласных мануфактурах. Рукамі беларускіх прыгонных майстроў там рабіліся сапраўдныя шэдэўры мастацтва, якія высока цаніліся ў Рэчы Паспалітай і на еўрапейскім рынку. Асаблівую цікавасць маюць для нас унікальныя шкляныя вырабы з Урэчча. Сусветную славу здабылі "літыя" слуцкія паясы, якія ткаліся з шаўковых, сярэбраных і залатых нітак на слуцкай і нясвіжскай мануфактурах Радзівілаў пад кіраўніцтвам вопытнага майстра Яна Маджарскага і яго памочнікаў. Паясы

ўпрыгожваліся беларускім геаметрычным і раслінным арнаментам. Шырокім попытам карысталіся фаянс са Свержані, дываны і габелены з ткальняў у Карэлічах і Гародні, абрусы і сурвэты з мануфактуры Сапегаў у Ружанах. Мастацкай выразнасцю вызначалася тагачасная разьба па дрэву (упрыгажэнне алтароў, іканастасы). Майстэрства беларускіх разьбяроў высока цанілася сярод суседніх народаў. Рукамі выхадцаў з Беларусі былі ўпрыгожаны мнотія саборы, манастыры і палацы Масквы і Падмаскоўя. У Расіі шырока распаўсюдзіліся аб'ёмная "беларуская рэзь" і беларускі спосаб вырабу рэльефнай керамікі.

Такім чынам, у апошнія Паўтара стагоддзя існавання Рэчы Паспалітай у мастацтве Беларусі адбыліся значныя змены. Яно **ўзбагацілася шэрагам новых з'яў, стала больш свецкім і дэмакратычным. На змену элітарнаму барока паступова прыходзіў больш масавы класіцызм.** Гэты вядучы напрамак эпохі Асветніцтва найбольш адпавядаў тагачасным грамадскім тэндэнцыям.

# ХРАНАЛОГІЯ

500 - 350 тыс. гадоў да н.э. - Першае (бярэзінскае) аледзяненне на тэрыторыі Беларусі.

300 - 110 тыс. гадоў да н.э. - Другое (дняпроўскае) аледзяненне на тэрыторыі Беларусі.

90 - 83 тыс. гадоў да н.э. - Трэцяе (валдайскае) аледзяненне на тэрыторыі Беларусі.

100 - 40 тыс. гадоў да н.э. - Паяўленне чалавека на тэрыторыі Беларусі.

40 - 24 тыс. гадоў да н.э. - Верхнепалеалітычныя стаянкі старажытнага чалавека на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі.

9 - 5 тыс. гадоў да н.э. - Эпоха мезаліту на тэрыторыі Беларусі.

4 - 3 тыс. гадоў да н.э. - Эпоха неаліту на тэрыторыі Беларусі.

2 - 1 тыс. гадоў да н.э. - Эпоха бронзы на тэрыторыі Беларусі.

VII ст. да н.э. - Пачатак жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі.

VI - VIII стст. н.э. - Рассяленне славян сярод балтаў на тэрыторыі Усходняй Беларусі.

862 г. - Першыя летапісныя звесткі пра Полацк.

867 г. - Паход Кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра на палачан.

882 г. - Аб'яднанне Ноўгарада і Кіева князем Алегам.

885 г. - Паход Кіеўскага князя Алега на радзімічаў.

907 г. - Удзел крывічоў і радзімічаў у паходзе Кіеўскага князя Алега на Царград (Візантыя).

974 г. - Першыя звесткі пра г.Віцебск (Відбеск).

970 г. (па іншых даных 980 г.) - Першае летапіснае паведамленне пра самастойныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі - Полацкую зямлю і Тураўскае княства.

980 г. - Захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам.

980 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Тураў.

983 г. - Паход Кіеўскага князя Уладзіміра на яцвягаў.

984 г. - Паход Кіеўскага князя Уладзіміра на радзімічаў. Бітва на р. Пішчане.

988 г. - Прыняцце хрысціянства ў Кіеўскай Русі.

992 г. - Утварэнне хрысціянскай епархіі ў Полацку.

Канец X ст.(да 1001 г.) - Княжанне ў Полацку Ізяслава Уладзіміравіча.
988 - 1015 гг. - Княжанне ў Тураве Святаполка Уладзіміравіча.
Канец X ст. - Першыя летапісныя звесткі пра г.Ізяслаў.
1000 г. - Смерць Кіеўскай княгіні Рагнеды Рагвалодаўны.
1003 - 1044 гг. - Княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяслававіча.
1009 г. - Першае ўпамінанне Літвы ў заходніх крыніцах.
1019 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г.Брэст (Бярэсце).
1021 г. - Паход Полацкага князя Брачыслава Ізяслававіча на Ноўгарад.
1044 г. - Заснаванне Навагрудка (Навагародка).
50-я гады XI ст. - Будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку.
1044 - 1101 гг. - Княжанне ў Полацку Усяслава Брачыслававіча.
1059 г. - Першыя звесткі пра Копысь.
1065 г. - Паход Полацкага князя Усяслава на Пскоў.
1065 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Браслаў.
1066 г. - Захоп Полацкім князем Усяславам Брачыславічам Ноўгарада.
1067 г. - Бітва на р. Нямізе полацкага князя Усяслава Брачыслававіча з войскам князёў Яраславічаў.
1067 г. - Першыя летапісныя звесткі пра гарады Мінск (Меньск) і Оршу (Рьша).
1068 - 1069 гг. - Княжанне ў Кіеве полацкага князя Усяслава.
1071 г. - Народны рух у Полацку супраць Ізяслававічаў.
1078 г. - Першыя летапісныя звесткі пра гарады Друцк, Лагойск, Лукомль, Одрск.
1078 - 1086 гг. - Княжанне ў Тураве Яраполка Ізяслававіча.
1097 г. - Першыя звесткі пра Пінск (Пінеск).
1097 г. - З'езд рускіх князёў у Любечы.
1101 - 1119 гг. - Княжанне ў Мінску Глеба Усяслававіча.
1102 г. - Заснаванне г. Барысава.
1104 г. - Паход кааліцыі паўднёварускіх князёў на Мінск.
1113 - 1125 гг. - Княжанне ў Кіеве Уладзіміра Усеваладавіча Манамаха.
1116 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Слуцк (Случеск).
1117 г. - Паходы мінскага князя Глеба Усяслававіча на Смаленскую і Навагародскую землі.

(1120 - 1173 гг., 23 мая) - Жыццё і дзейнасць Полацкай князёўны Прадславы (Ефрасінні Полацкай), асветніцы.
1127 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г.Клецк.
1128 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г.Гродна (Гародня).
1128 г. - Паход Кіеўскага князя Мсціслава на Полацк.
1130 - 1182 гг. - Жыццё і дзейнасць Кірылы Тураўскага.
1132 г. - Абвяшчэнне на полацкім вечы князем Васільку Святаславіча.
1135 г. - Пабудова Мсціслаўскага замка і горада.
1136 г. - Першыя летапісныя звесткі пра гарады Прапойск, Крычаў і Лучын.
1142 г. - Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гомель (Гомій) і Рагачоў.
1147 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г.Брагін (Брягін).
1149 г. - Апошняе ўпамінанне ў летапісах дрыгавічоў.
1155 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Мазыр.
1159 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Чачэрск.
1159 - 1160 гг. - Аблогі Мінска друцкім і полацкім князем Рагвалодам Барысавічам.
1162 г. - Апошняе ўпамінанне ў летапісах крывічоў.
1169 г. - Апошняе ўпамінанне ў летапісах радзімічаў.
80-я гады XII ст. - Будаўніцтва Барысаглебскай (Каложскай) царквы ў Гродне.
1183 г. - Паход гродзенскіх князёў з іншымі рускімі князямі на полаўцаў.
1202 г. - Утварэнне ў Прыбалтыцы Ордэна мечаносцаў.
1203 - 1216 гг. - Барацьба полацкага князя Уладзіміра супраць нямецкіх рыцараў.
1206 - 1208 гг. - Барацьба кукянойскага князя Вячкі (Вячаслава) з крыжакамі.
1209 г. - Захоп і разбурэнне крыжакамі г. Герцыке.
1210 г. - Мірны дагавор паміж полацкім князем Уладзімірам і Рыжскім архіепіскапам Альбертам аб выплаце Полацку даніны лівамі.
1212 г. - Мірны дагавор Полацка з Рыгаю аб свабодным плаванні купцоў па Заходняй Дзвіне.

1214 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Рэчыцу.

1219 г. - Дагавор аб саюзе літоўскіх князёў з Валынскім княствам.

30-я гады ХПІ ст. - Аб'яднанне балцкіх і славянскіх зямель Заходняй Беларусі ў адзіную дзяржаву - Вялікае княства Літоўскае.

Каля 1230 - 1263 гг - Княжанне Міндоўга ў Літоўска-Рускай дзяржаве з цэнтрам у Навагародку.

1236 г. - Разгром літоўцамі нямецкіх рыцараў пад г.Шаўляем.

1237 г. - Разгром валынскім князем Даніілам Раманавічам нямецкіх рыцараў пад Драгічынам.

1237 г. - Аб'яднанне Ордэна мечаносцаў з Тэўтонскім ордэнам - заснаванне Лівонскага ордэна.

1240 г. - Удзел Якава Палачаніна ў бітве са шведамі ў складзе дружыны наўгародскага князя Аляксандра Яраславіча на р. Няве.

1240,1258,1259,1275, 1277, 1287, 1315, 1325, 1388 гг. - Паходы мангола-татараў на беларускія землі.

1242 г., 5 красавіка - Перамога Аляксандра Неўскага над крыжакамі на Чудскім возеры.

1252 г. - Першыя звесткі пра гарады Слонім (Услонім), Ваўкавыск (Волковыеск), Здзітаў (цяпер - вёска ў Бярозаўскім раёне).

1252 г. (па некаторых крыніцах 1253 г.) - Каранацыя Міндоўга ў Навагародку і прыняцце тыгула караля Літвы.

1253 г. - Першае летапіснае ўпамінанне пра г. Турыйск.

1260 г., 13 ліпеня - Разгром войскамі Вялікага княства Літоўскага з удзелам полацкіх дружын крыжакоў каля возера Дурба.

1262 г. - Дагавор паміж Міндоўгам і наўгародскім князем Аляксандрам Неўскім аб сумеснай барацьбе супраць Лівонскага ордэна.

1262 - 1263 гг. - Княжанне ў Полацку пляменніка Міндоўга Таўцівіла.

1263 - 1267 гг. - Княжанне ў ВКЛ Войшалка.

1267 - 1270 г. - Княжанне ў ВКЛ Шварна Данілавіча.

Каля 1270 г. - Знак "Пагоня" ўпершыню зафіксаваны як герб г.Навагародка.

1270 - 1282 гг. - Княжанне ў ВКЛ Трайдзена.

1274 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Капыль.

1276 - 1288 гг. - Першыя летапісныя звесткі пра г. Камянец і будаўніцтва Камянецкай вежы (Белай вежы).

1287 г. - Першыя летапісныя звесткі пра г.Кобрын.

1293 г. - Навагародскі герб "Пагоня" стаў знакам вялікага князя і гербам ВКЛ.

1293 - 1316 гг. - Княжанне ў ВКЛ Віценя.

1307 г. - Канчатковае ўключэнне ў склад ВКЛ Полацкага княства.

1314,1319,1323 гг. - Паходы Давыда Гарадзенскага супраць крыжакоў.

1316 - 1341 гг. - Княжанне ў ВКЛ Гедыміна.

1320 г. - Заснаванне г.Беластока вялікім князем Гедымінам.

1320 г. - Уваходжанне Віцебскага княства ў склад ВКЛ.

1322,1323 гг. (двойчы) - Разгром гродзенскімі дружынамі кашталяна Давыда нямецкіх і дацкіх рыцараў пад Псковам.

1323 г. - Горад Вільня (былы Крывы Горад) становіцца сталіцай Вялікага княства Літоўскага.

Каля 1326 г. - Уваходжанне Мінскага княства ў склад ВКЛ.

1326 г. - Забойства Давыда Гарадзенскага.

1341 - 1345 гг. - Княжанне ў ВКЛ Яўнуція.

1345 - 1377гг. - Княжанне ў ВКЛ Альгерда (сумесна з братам Кейстутам).

1348 г. - Перамога войска ВКЛ над крыжакамі на р. Стрэва (правы прыток Нёмана).

1363 г. - Перамога Альгерда над мангола-татарамі ля Сініх Вод (на Падоліі).

1368,1370,1372 гг. - Паходы Альгерда на Маскву.

1377 - 1392 гг. - Княжанне ў ВКЛ Ягайлы.

1385 г., 14 жніўня - Крэўская унія, дагавор аб саюзе Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.

1386 г., 4 сакавіка - Выбранне вялікага князя Ягайлы польскім каралём.

1386 г. - Выступленне незадаволенага ўмовамі Крэўскай уніі полацкага князя Андрэя Альгердавіча супраць Ягайлы.

1387 г., 20,22 лютага - Граматы польскага караля і вялікага князя літоўскага Ягайлы аб прывілеях феадалам-католікам Вялікага княства Літоўскага.

1389 - 1392 гг. - Барацьба князя Вітаўта супраць Крэўскай уніі караля Ягайлы.

1390 г. - Наданне магдэбургскага права г. Брэсту.

1391 г. - Наданне магдэбургскага права гарадам Віцебску і Магілёву.

1392 г. - Пагадненне паміж Ягайлам і Вітаўтам у Астраве.

1392 - 1430 гг. - Княжанне ў ВКЛ Вітаўта.

1397 - 1398 гг. - Пасяленне Вітаўтам палонных крымскіх татар у ВКЛ.

1399 г. - Паражэнне войск ВКЛ на чале з Вітаўтам у бітве супраць татараў на р. Ворскле.

1401 г, 18 студзеня - Віленска-Радамская унія - дзяржаўны і палітычны саюз ВКЛ з Польскім Каралеўствам.

1402 г. - Апошняя аблога крыжакамі Гродзенскага замка.

1404 г. - Уключэнне Смаленска у склад ВКЛ.

1408 г. - Вызначэнне мяжы паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай па рэках Угра і Ака.

1409 - 1411 гг. - "Вялікая вайна" Польшчы і ВКЛ супраць Тэўтонскага ордэна.

1410 г., 15 ліпеня - Грунвальдская бітва.

1413 г. - Гарадзельская унія і прывілей караля Ягайлы літоўскай шляхце.

1430 - 1432 гг. - Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Свідрыгайлы.

1432 - 1436 гг. - Феадальная (грамадзянская) вайна ў ВКЛ.

1432 - 1440 гг. - Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Сігізмунда Кейстутавіча.

1432 - 1434 гг. - Прывілеі Ягайлы і Сігізмунда Кейстутавіча аб ураўнанні ў маёмасных правах праваслаўных феадалаў з феадаламі-католікамі.

1440 - 1492 гг. - Княжанне ў ВКЛ Казіміра IV Ягелончыка.

1445 г. - Выбранне вялікага князя Казіміра каралём Польшчы.

1447 г, 2 мая - Прывілей Казіміра і аб ураўнанні ў эканамічных і палітычных правах праваслаўных феадалаў і феадалаў-католікаў і наданне Полацкім і Віцебскім землям аўтаноміі.

Каля 1460 - 1530 гг. - Жыццё і дзейнасць К.І. Астрожскага.

1468 г - Судзебнік Казіміра IV.

Каля 1480 - 1533 гг. - Гады жыцця Міколы Гусоўскага.

Каля 1490 - 1552 гг. - Гады жыцця Францыска Скарыны.

1496 г. - Наданне магдэбургскага права г. Гродна.

1498 г. - Атрыманне г. Полацкам магдэбургскага права.

1500 - 1503 гг. - Вайна ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай.

1504 г. - Утварэнне Полацкага ваяводства.

1506 г. - Утварэнне Віцебскага ваяводства.

1506 - 1548 г. - Княжанне ў ВКЛ Жыгімонта Старога.

1506 г., 6 жніўня - Перамога войск ВКЛ пад камандаваннем М. Глінскага над крымскімі татарамі пад Клецкам.

1507 г. - Утварэнне Навагародскага ваяводства.

1512 г. - Пачатак дзейнасці ў ВКЛ павятовых соймаў.

1507 - 1508гг., 1512 - 1514 гг. - Войны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай.

1514 г., 3 верасня - Перамога войск ВКЛ пад камандаваннем К.Астрожскага над маскоўскім войскам пад Оршай.

1517 г., 6 жніўня - Выданне Ф.Скарынам у Празе першай беларускай і ўсходнеславянскай кнігі.

1522 г. - Арганізацыя Ф. Скарынам першай ва Усходняй Еўропе друкарні ў Вільні.

1529 г., 29 верасня - Першы Статут ВКЛ.

1530 - 1593 гг. - Гады жыцця і дзёйнасць Сымона Буднага.

1531 г. - Атрыманне г. Слонімам магдэбургскага права.

Каля 1540 - 1604 гг. - Гады жыцця і дзейнасці Васіля Цяпінскага.

1548 - 1572 гг. - Княжанне ў ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста.

1557 г. - Зямельная рэформа ("Устава на валокі").

1558 - 1583 - Лівонская вайна.

1563 г. - Прывілей Сігізмунда II аб прадастаўленні праваслаўнай шляхце права займаць вышэйшыя пасады.

1564 г., студзень - Перамога М. Радзівіла над маскоўскімі войскамі каля в. Іванск (цяперашні Чашніцкі раён).

1566 г. - Утварэнне Берасцейскага (Брэсцкага) ваяводства.

1568 г., студзень - Іўеўскі сабор літоўскіх арыян.

1569 г., 1 ліпеня - Люблінская унія і ўтварэнне Рэчы Паспалітай.

1569 г. - Атабарванне Ордэна езуітаў на Беларусі.

1572 - 1630 гг. - Гады жыцця і дзейнасць Мялеція Сматрыцкага.

1576 - 1586 гг. - Кіраванне ў Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя.

1579 г. - Заснаванне Віленскага універсітэта.
1581 г., 1 сакавіка - Утварэнне Галоўнага літоўскага трыбунала - вышэйшага судовага апеляцыйнага органа ВКЛ.
1588 г., 28 студзеня - Трэці Статут ВКЛ.
1595 - 1596 гг. - Паўстанне пад кіраўніцтвам Севярана Налівайкі.
1597 - 1648 гг. - Гады жыцця і дзейнасці Афанасія Філіповіча.
1596 г., 9 кастрычніка - Брэсцкая царкоўная унія.
1597 г. - Атрыманне г. Віцебскам магдэбургскага права.
1623 г., 12 лістапада - Выступленне жыхароў Віцебска супраць дзейнасці Іасафата Кунцэвіча.
1632 - 1634 гг. - Руска-польская вайна, паўстанне ў Полацку і Магілёве.
Каля 1634 - 1689 гг. - Жыццё і дзейнасць Казіміра Лышчынскага.
1648 - 1653 гг. - Казацкія войны на Беларусі.
1654 - 1667 гг. - Вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.
1700 - 1721 гг. - Паўночная вайна Расіі са Швецыяй, тэатрам баявых дзеянняў якой была і тэрыторыя Беларусі.
1703 г., вясна - Утварэнне ў ВКЛ Генеральнай канфедэрацыі, якая абвясціла саюз з Расіяй.
Канец 1705 г. - пачатак 1706 г. - Гродзенская аперацыя ў ходзе Паўночнай вайны.
1708 г., 7 ліпеня - Узяцце Карлам XII г. Магілёва.
1708 г., 28 верасня - Разгром рускімі войскамі шведскага корпуса пад камандаваннем Левенгаўпта каля в. Лясная.
1736 - 1844 гг. - Дзейнасць у Слуцку мануфактуры шаўковых паясоў.
1740 - 1744 гг. - Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам В.Вашчылы ў Крычаўскім старостве.
1754 - 1756 гг. - Паўстанне сялян Камянецкай і Стрэшынскай воласцяў на Мазыршчыне.
1764 - 1766 гг. - Рашэнні соймаў у Варшаве аб юрыдычным праследаванні асоб, перайшоўшых з каталіцтва ў іншую веру ці выступаючых у абарону праваслаўя.
1767 г. - Стварэнне дысідэнтамі Слуцкай праваслаўнай і Тарунскай пратэстанцкай канфедэрацыі.
1768 г. - Стварэнне антыдысідэнцкай Барскай канфедэрацыі.

70 - 90-я гг. XVIII ст. - Шэраг буйных сялянскіх хваляванняў на Гродзеншчыне і Брэстчыне.

1772 г. - Першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй і далучэнне да апошняй часткі Беларусі.

1773 - 1794 гг. - Дзейнасць у Рэчы Паспалітай Эдукацыйнай камісіі.

1774 г. - Дарчая грамата Кацярыны II аб заснаванні Беларускай каталіцкай епархіі.

1775 - 1781 гг. - Дзейнасць у Гродна Вышэйшай медыцынскай акадэміі.

1776 г., 4 верасня - Утварэнне Полацкай губерні.

1788 - 1792 гг. - Дзейнасць у Рэчы Паспалітай Чатырохгадовага сойма.

1791 г., 3 мая - Прыняцце соймам Рэчы Паспалітай Канстытуцыі.

1776 - 1783 гг. - Выданне "Газеты Гродзенскай" - першага перыядычнага выдання на Беларусі.

1792 г, 27 красавіка - Утварэнне Таргавіцкай канфедэрацыі.

1792 г, жнівень - верасень -- Узброенае ўмяшанне ў справы Рэчы Паспалітай Расійскай імперыі. Адмена Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

1793 г. - Другі падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй і Расіяй і далучэнне да алошняй цэнтральнай часткі Беларусі.

1793 г. - Гродзенскі (нямы) сойм - апошні сойм Рэчы Паспалітай.

1793 г., 23 красавіка - Стварэнне Мінскага намесніцтва.

1794 г., 24 сакавіка - 16 лістапада - Паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам генерала Тадэвуша Касцюшкі.

1794 г., 23 чэрвеня - Вызначэнне ў Расійскай імперыі мяжы яўрэйскай аседласці.

1794 - 1912 гг. - Існаванне Віленскага генерал-губернатарства, у склад яго ўваходзіла большая частка тэрыторыі Беларусі.

1795 г. - Трэці падзел Рэчы Паспалітай паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй і далучэнне да апошняй заходняй часткі Беларусі і Жамойціі.

1795 г., 25 снежня - Утварэнне Слонімскай губерні.

1796 г. - Падзел тэрыторыі Беларусі на губерні і паветы згодна з тэрытарыяльна-адміністрацыйнай рэформай. Утварэнне Беларускай губерні.

## ЗМЕСТ

*Вучэбнае выданне*

# Гісторыя Беларусі: У 2 ч.

## Ч.1. Са старажытных часоў да канца XVIII ст.

Крэнь Іван Платонавіч,
Коўкель Іван Іванавіч,
Марозава Святлана Валянцінаўна,
Сяльверстава Святлана Яўгеньеўна,
Фёдараў Ігар Алегавіч

Рэдактар - Л.В. Лойка
Мастацкі рэдактар - Н.І. Скавародкіна
Карэктар - С.М. Старчанка
PDF-версія - Снежны Чалавек

Падпісана да друку 29.12.99. Фармат 60x84 1/16.
Гарнітура Times. Друк афсетны.
Папера газетная. Ум. друк. арк. 38,13. Друк. арк. 41.
Ул.-выд. арк. 38.97. Тыраж 3200 экз. Зак. 82.
Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы БДУ.
**Магілёў, 2009г.**